НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ІМЯ К. КРАПІВЫ

# Беларусы

## ВЫТОКІ І ЭТНІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

**4**



МІНСК
"БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА"
2001



# УВОДЗІНЫ

Праблемы паходжання і этнічнага развіцця беларускага народа надзвычай важныя. Каб зразумець беларускі народ, трэба ведаць яго вытокі, карані, змены, якія адбываліся ў яго культуры на працягу стагоддзяў. Навуковы аналіз гэтых праблем дапаможа высветліць этнічныя асаблівасці беларускага народа, яго культурныя сувязі з другімі народамі, сучасны стан і шляхі далейшага развіцця, асноўныя напрамкі гэтага працэсу.

Праблемы паходжання і этнічнага развіцця беларускага народа таксама і вельмі складаныя. Для іх аналізу неабходна ўжыць шэраг спецыяльных тэрмінаў. Перш за ўсё варта адзначыць, што беларусы з'яўляюцца культурнай супольнасцю — групай людзей, якая мае своеасаблівасць культуры як сукупнасці ўстойлівых спосабаў і формаў чалавечай дзейнасці і яе вынікаў, прытым такой культурнай супольнасцю, якая ўсведамляе сваё культурнае адзінства, культурную своеасаблівасць. Такую культурную супольнасць прынята называць этнічнай (ад старажытнагрэчаскага слова ethnos — народ, племя).

У сістэме этнічных супольнасцей, якую складаюць этнас, метаэтнас, субэтнас, этнічная група, беларусы адносяцца да галоўнага іх віду — этнасу. Менавіта этнас найбольш багата і ярка выражае, устойліва захоўвае і ўзнаўляе асноўныя рысы этнічнай супольнасці — своеасаблівы комплекс культуры і ўсведамленне свайго культурнага адзінства.

Як этнас беларусы ўваходзяць у больш шырокія этнічныя супольнасці — метаэтнічныя (ад тэрміна methoethnos — пасля этнасу): усходнеславянскую (разам з украінцамі і рускімі), затым славянскую, якую складаюць усе славянскія народы, у тым ліку палякі, славакі, чэхі, славенцы, балгары, сербы і інш[1].

Па тыпу этнасу беларусы ніколі не былі племем, а з самага пачатку фарміруюцца як народ — тып этнасу, які знаходзіцца на высокай стадыі развіцця культуры. На самай высокай ступені цывілізацыі, якая супадае з новым і навей-

[1] Субэтнасы — гэта часткі этнасу, якія маюць некаторыя своеасаблівасці культуры, усведамляюць гэту своеасаблівасць і жывуць у адной дзяржаве, напрыклад, палешукі ў Рэспубліцы Беларусь — субэтнас беларусаў. Этнічнымі групамі мэтазгодна называць часткі этнасу, што адарваны ад яго і знаходзяцца ў другіх дзяржавах, у прыватнасці беларусы ў Польскай Рэспубліцы. Этнічную групу іншы раз абазначаюць тэрмінам «нацыянальная меншасць».

шым часам, этнас іншы раз называюць нацыяй. У гэтым сэнсе тэрмін «нацыя» выкарыстоўваецца для характарыстыкі ўзроўню развіцця беларусаў у апошнія два стагоддзі. Але гэта значэнне тэрміна «нацыя» неагульнапрынятае. У заходнееўрапейскіх краінах ён ужываецца не ў этнічным, а ў палітычным сэнсе. Ім абазначаюць усё насельніцтва той ці іншай дзяржавы, якое звычайна складаецца не з адной, а з некалькіх этнічных супольнасцей.

Такім чынам, тэрмін «этнас» з'яўляецца асноўным для характарыстыкі беларусаў як этнічнай (культурнай) супольнасці. Развіццё сфарміраванага этнасу, яго культуры, змены ў ёй называюць тэрмінам «этнічная гісторыя». У паняцце «этнічная гісторыя» даследчыкі іншы раз уключаюць працэсы фарміравання этнасу, якія часта абазначаюць тэрмінам «этнагенез» (ад слоў ethnos — народ і genesis — паходжанне).

Аб паходжанні і развіцці беларускага этнасу выказана шмат думак, існуе некалькі поглядаў[2]. Асабліва многа разыходжанняў у адказах на пытанне аб вытоках, каранях, продках беларусаў. Сярод поглядаў аб продках беларускага этнасу можна вылучыць «фінскую», «балцкую», «крывіцка-дрыгавіцка-радзіміцкую», «старажытнарускую» канцэпцыі.

Згодна з «фінскай» канцэпцыяй (яе аўтар І. Ласкоў)[3] продкамі беларускага народа былі славяне і фіны. У якасці доказу ён спасылаецца на тое, што некаторыя назвы беларускіх рэчак (напрыклад Дзвіна) фінскага паходжання. Але гэты факт не з'яўляецца аргументам фінскага субстрату ў беларускім этнагенезе. Ён сведчыць толькі аб тым, што ў Падзвінні, Панямонні калісьці жыло фінамоўнае насельніцтва. Гэта было ў глыбокай старажытнасці, у каменным веку. Яно было асімілявана яшчэ да рассялення славянаў на тэрыторыі Беларусі.

Паводле «балцкай» канцэпцыі продкамі беларусаў былі славяне і старажытныя балты. Прыхільнікі «балцкай» канцэпцыі (у прыватнасці В. Сядоў) сцвярджаюць, што на старажытных балтаў як продкаў беларусаў указваюць некаторыя элементы традыцыйнай беларускай культуры і мовы (культ вужа, жаночы галаўны ўбор намітка, цвёрды «р» і інш.)[4]. Аргументам гэтай канцэпцыі лічацца таксама назвы беларускіх рэчак (Рэста, Клёва, Арэса і інш.). Мяркуюць, што яны балцкага паходжання[5]. У доказах «балцкай» канцэпцыі шмат спрэчнага. Многія факты, на якія спасылаюцца яе прыхільнікі, характэрны не толькі для балтаў і беларусаў. Цвёрды «р», напрыклад, апрача балтаў і беларусаў, уласцівы таксама мове ўкраінцаў, балгараў, сербаў, чэхаў, славакаў, на якіх балты не зрабілі культурнага ўплыву. Жаночы галаўны ўбор намітка быў пашыраны не толькі ў балтаў і беларусаў, але і ў другіх славянскіх народаў, у прыватнасці ўкраінцаў, балгараў, палякаў. А такая з'ява, як культ вужа, была распаўсюджана яшчэ шырэй. Яна ўласціва рэлігіі не толькі балтаў і славянаў, але і грэкаў і албанцаў[6]. Назвы беларускіх рэчак (Рэста, Клёва, Арэса і інш.) таксама не з'яўляюцца падставай для аргументацыі балцкага субстрату (падасновы) беларусаў. Падобна назвам беларускіх рэчак фінскага паходжання,

---

[2] Падрабязна гістарыяграфія этнічнай гісторыі беларусаў разгледжана ў кнізе «Этнаграфія беларусаў». Рэдкал.: В. К. Бандарчык, В. І. Мялешка, М. Ф. Піліпенка. Мн., 1985. С. 18—42.

[3] Ласкоў І. Племя пяці родаў // Літаратура і мастацтва, 18 жніўня 1989. С. 13—15; Ён жа. Да пытання аб этнагенезе беларусаў // Беларусіка. Кн. 2. Мн., 1992. С. 78—84.

[4] Седов В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970. С. 162—192.

[5] Топоров В. Н., Трубачев О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962. С. 232—235.

[6] Пилипенко М. Ф. Возникновение Белоруссии. Мн., 1991. С. 115—122.

яны паказваюць толькі тое, што ў мінулым на тэрыторыі Беларусі жылі балты. Але большасць іх была асімілявана раней, калі беларусы яшчэ не фарміраваліся.

Аўтары «крывіцка-дрыгавіцка-радзіміцкай» канцэпцыі (Я. Карскі[7], У. Пічэта[8] і інш.) лічылі, што асноўнымі продкамі беларускага этнасу з'яўляюцца крывічы, дрыгавічы і радзімічы. Тыя з прыхільнікаў гэтай канцэпцыі, якія яе аргументуюць (напрыклад М. Я. Грынблат), звяртаюць увагу на традыцыйныя земляробчыя прылады і асаблівасці гаворак у розных рэгіёнах Беларусі. Яны думаюць, што саха з перакладной паліцай і «аканне» спачатку былі характэрны для крывічоў, а палеская саха і дыфтонгі «ўо», «іе» на поўдні першапачаткова з'яўляліся элементамі культуры і мовы дрыгавічоў[9]. У аргументацыі погляду, што продкамі беларускага народа былі крывічы, дрыгавічы і радзімічы, таксама ёсць спрэчныя моманты. Тыя элементы культуры і мовы беларусаў, якія лічацца састаўнымі элементамі культуры і мовы дрыгавічоў ці крывічоў, узніклі пазней, чым існавалі крывічы, дрыгавічы і радзімічы, не раней XII ст., і займалі больш шырокія арэалы, чым тэрыторыі дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў[10].

Асноўным палажэннем «старажытнарускай» канцэпцыі беларускага этнагенезу з'яўляецца думка, што продкам беларусаў была адна з частак старажытнарускага (агульна-ўсходнеславянскага) народа. Яго тэрыторыя па рэгіянальным асаблівасцям культуры і мовы нібыта падзялялася на тры лінгвістычна-этнаграфічныя зоны, у якіх адпаведна сфарміраваліся беларусы, украінцы і велікарусы. Але рэгіянальныя асаблівасці культуры і мовы ўсходніх славян як ранняй, так і позняй старажытнарускай пары не адпавядаюць усходнеславянскім этнасам — беларусам, украінцам, велікарусам. Заходняя частка тэрыторыі ўсходніх славян, якая стала арэалам фарміравання беларускага этнасу, у час існавання старажытнарускага народа не вылучалася ў асобную лінгвістычна-этнаграфічную зону.

Неабходна адзначыць таксама, што існуюць розныя меркаванні не толькі аб каранях беларусаў, але і аб іх этнічнай гісторыі, асабліва па такіх пытаннях, як фарміраванне і эвалюцыя этнічнай самасвядомасці, роля разнастайных фактараў, якія ўплывалі на этнічную гісторыю беларусаў. Выказаны, у прыватнасці, процілеглыя погляды аб часе фарміравання агульнай этнічнай самасвядомасці беларусаў. Некаторыя аўтары лічаць, што яна сфарміравалася не раней XIX ст.[11] Другія мяркуюць, што этнічная самасвядомасць беларусаў узнікла ў познім сярэдневякоўі, адначасова з беларускай мовай[12]. Разыходжанні ў поглядах па гэтаму пытанню абумоўлены тым, што па-рознаму ацэньваюцца формы этнічнай самасвядомасці беларусаў. Першы погляд заснаваны на тым, што агульная этнічная самасвядомасць беларусаў звязваецца толькі з больш частым ужываннем назвы «беларусы», другі ўлічвае існаванне ў мінулым розных назваў для выяўлення беларусамі агульнай этнічнай самасвядомасці.

Вялікія адрозненні характэрны для поглядаў навукоўцаў аб фактарах этніч-

---

[7] Карский Е. Ф. Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности. Вильно, 1904. С. 65.

[8] Пичета В. И. Образование белорусского народа // Вопросы истории. 1946. № 5—6. С. 16.

[9] Гринблат М. Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 58—143.

[10] Пилипенко М. Ф. Возникновение Белоруссии. С. 124—125.

[11] Микулич Т. М. Этноязыковые процессы и система национального самосознания. Мн., 1991. С. 17.

[12] Піліпенка М. Ф. Змест і формы першапачатковай этнічнай самасвядомасці беларускага народа // Беларусіка. Кн. 2: Фарміраванне і развіццё этнічнай самасвядомасці беларусаў. Мн., 1992. С. 70—73.

най гісторыі беларусаў. Так, Я. Ф. Карскі асноўнай прычынай (умовай) фарміравання беларускага этнасу лічыў палітычны фактар, утварэнне новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, у рамках якога і адбывалася кансалідацыя ўсходнеславянскага насельніцтва ў беларускі народ-этнас, узнікненне беларускай мовы і беларускай культуры[13]. У. І. Пічэта меркаваў, што, апрача палітычнага, у фарміраванні і развіцці беларусаў важную ролю адыграў эканамічны фактар, усталяванне і развіццё эканамічных сувязей паміж асобнымі раёнамі[14]. В. В. Сядоў сцвярджае, што асноўным фактарам утварэння беларусаў была каланізацыя славянамі тэрыторыі, размешчанай на поўначы ад Прыпяці, уключаючы Верхняе Панямонне, Верхняе Падняпроўе і Надзвінне, асіміляцыя імі насельніцтва, якое тут жыло перад рассяленнем славянаў[15]. На думку А. Ф. Рогалева, асноўную ролю ва ўтварэнні беларускага этнасу адыграў нейкі касмічны штуршок, які значна паўплываў на стэрэатыпы паводзін людзей[16]. В. В. Сядоў і А. Ф. Рогалеў лічаць меркаванні Я. Ф. Карскага і У. І. Пічэты аб ролі палітычнага і эканамічнага фактараў памылковымі. Хоць погляды В. В. Сядова і А. Ф. Рогалева аб фактарах этнічнай гісторыі беларусаў выказаны пазней, чым думкі Я. Ф. Карскага і У. І. Пічэты, але яны больш спрэчныя. Так, меркаванне А. Ф. Рогалева аб касмічным штуршку нельга адпацвердзіць фактамі, таму што такая з'ява не выяўлена фізічнай навукай не толькі ў адносінах да часу фарміравання беларусаў, але і да перыяду існавання чалавецтва наогул. Каланізацыя ж славянамі тэрыторыі Беларусі і асіміляцыя імі тут большасці балтаў храналагічна не супадае з перыядам фарміравання беларусаў. А асіміляцыя асобных груп балтаў у час утварэння беларускага этнасу была не галоўным, а дапаможным фактарам гэтага шматбаковага гістарычнага працэсу.

Для грунтоўнага адказу на пытанні паходжання і развіцця беларускага этнасу неабходна прытрымлівацца пэўных навуковых патрабаванняў, улічваць перш за ўсё як мага больш бакоў гэтага складанага гістарычнага працэсу. Так, непажадана вырашаць пытанні аб паходжанні і этнічным развіцці беларусаў без разгляду такой рысы беларускага народа, як этнічная самасвядомасць, гістарычная назва. Вельмі важнае значэнне мае абгрунтаванае датаванне гістарычных працэсаў, напрыклад, асіміляцыі славянамі большасці балтаў на тэрыторыі Беларусі, утварэння беларускай мовы і інш. Вырашэнне пытанняў паходжання і развіцця беларусаў патрабуе разгляду шматлікіх і разнастайных фактаў, якія асвятляюць усе бакі беларускага этнасу: яго фізічны тып, гаспадарчую дзейнасць, сацыяльную і духоўную культуру, этнічную самасвядомасць. Для гэтага неабходна выкарыстаць шырокае кола крыніц: даныя антрапалогіі, археалогіі, гістарычнага моваазнаўства, этнаграфіі і фалькларыстыкі, пісьмовых крыніц.

Даныя антрапалогіі маюць важнае значэнне для вырашэння пытання, ці адбываліся міграцыі ў той ці іншы перыяд на даследуемай тэрыторыі, або іх не было. Падабенства антрапалагічнага тыпу сведчыць, перш за ўсё, аб біялагічнай роднасці, і даныя антрапалогіі могуць быць аргументам для вызначэння этнічных сувязей паміж людзьмі, калі біялагічная роднасць спалучаецца з культурнай, моўнай, прытым рысы антрапалагічнага тыпу змяняюцца ў многіх выпадках больш павольна, чым элементы

[13] Карский Е. Ф. Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности. С. 113—114.

[14] Пичета В. И. Образование белорусского народа. С. 19—20.

[15] Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970. С. 182, 192.

[16] Рогалев А. Ф. Белая Русь и беларусы. В поисках истоков. Гомель, 1994. С. 15—18, 231.

матэрыяльнай, сацыяльнай і духоўнай культуры. Даныя антрапалогіі з'яўляюцца надзейнай гістарычнай крыніцай для вывучэння старажытнай этнічнай гісторыі, асабліва ў каменным, бронзавым і раннім жалезным вяках. У тыя эпохі і матэрыяльная культура змянялася больш павольна, чым у наступныя.

Даныя археалогіі таксама дазваляюць прасачыць міграцыі ў мінулым, таму што вынікам міграцыі звычайна з'яўляецца рэзкая змена характару культуры, калі новае насельніцтва значна адрознівалася ад мясцовага сваёй культурай. Даныя археалогіі даюць магчымасць даследаваць эвалюцыю мясцовай матэрыяльнай культуры. Акрамя таго, яны ўтрымліваюць інфармацыю аб культурных сувязях этнічных супольнасцей, паколькі дазваляюць вылучыць у культуры мясцовага насельніцтва запазычаныя элементы, вызначыць арэалы распаўсюджання тых ці іншых элементаў матэрыяльнай культуры, час іх узнікнення і існавання. Асабліва важнае значэнне даныя археалогіі маюць для вывучэння этнічнай гісторыі тых перыядаў, калі не было пісьмовых крыніц, гэта значыць каменнага, бронзавага і ранняга жалезнага вякоў. Значэнне даных археалогіі памяншаецца пры вывучэнні этнічнай гісторыі наступных эпох, у прыватнасці позняга сярэдневякоўя.

Даныя археалогіі неабходна супастаўляць з данымі гістарычнага моваэнаўства. Найбольш старажытныя сляды захоўваюцца ў тапаніміцы, асабліва гідраніміі (назвах рэчак, азёраў). Апрача тапанімікі, гістарычную інфармацыю аб старажытных эпохах утрымліваюць тэрміны, якія абазначаюць тэхналагічныя працэсы, што адносяцца да гэтых эпох, а таксама назвы культурных раслін і жывёл, якіх выкарыстоўвалі ў гаспадарчай дзейнасці. Значэнне даных моваэнаўства павялічваецца для вывучэння этнічнай гісторыі позняга сярэдневякоўя, калі ствараецца шмат пісьмовых помнікаў, у якіх запасаюцца значныя лінгвістычныя матэрыялы, што адлюстроўваюць розныя бакі дзейнасці этнічных супольнасцей, іх самасвядомасць[17]. Найбольшае значэнне даныя моваэнаўства маюць для вывучэння этнічнай гісторыі эпохі позняга сярэдневякоўя. У гэты час мова змянялася галоўным чынам пад уплывам эканамічнага і палітычнага развіцця, буйных гістарычных падзей, новых гістарычных абставін жыцця вялікіх груп людзей, запазычання асобных элементаў мовы, у прыватнасці слоў, у суседніх народаў, дыфузіі моўных з'яў.

Даныя этнаграфіі і фалькларыстыкі аб этнічнай гісторыі маюць яшчэ меншую гістарычную глыбіню, чым даныя моваэнаўства. Ніжні храналагічны парог даных усходнеславянскай этнаграфіі і фалькларыстыкі звычайна не апускаецца ніжэй сярэдневякоўя. Дакладная гістарычная інфармацыя аб этнічнай гісторыі на даследуемай тэрыторыі ў этнаграфічных і фальклорных матэрыялах ахоплівае толькі апошняе тысячагоддзе, прытым для пачатковай фазы гэтага адрэзку часу яе няшмат. Яна павялічваецца паступова. На даныя ўсходнеславянскай этнаграфіі і фалькларыстыкі можна ўпэўнена абапірацца пры вывучэнні этнічнай гісторыі позняга сярэдневякоўя і наступных эпох. Даныя ўсходнеславянскай этнаграфіі і фалькларыстыкі неабходна выкарыстоўваць у арганічнай сувязі са звесткамі пісьмовых крыніц, якія дазваляюць вызначыць гістарычны час існавання тых ці іншых з'яў культуры, асабліва ніжнюю мяжу храналагічных рамак гэтых з'яў.

Для вывучэння этнічнай гісторыі сярэдневякоўя і наступных эпох выключнае значэнне маюць даныя пісьмовых крыніц. Іх звесткі з'яўляюцца апорнымі як

[17] Алексеев В. П. Этногенетические предания, лингвистические данные, антропологический материал // Этническая история и фольклор. М., 1977. С. 30—32.

для даных усходнеславянскай этнаграфіі і фалькларыстыкі, так і для даных археалогіі, што адносяцца да эпохі сярэдневякоўя. Лінгвістычны матэрыял пісьмовых крыніц дазваляе эфектыўна выкарыстоўваць даныя аб усходнеславянскіх дыялектах, дапамагае датаваць іх, вызначыць іх гістарычную глыбіню, ніжнюю мяжу хinduced храналагічных рамак існавання тых ці іншых усходнеславянскіх дыялектаў, іх састаўных элементаў. У пісьмовых крыніцах ёсць шмат даных па эканамічнай, сацыяльнай, палітычнай гісторыі, гісторыі культуры як сярэдневякоўя, так і наступных эпох, якія дазваляюць вывучаць эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя працэсы, буйныя гістарычныя падзеі, якія былі важнымі фактарамі этнічнай гісторыі беларусаў.

Такім чынам, кожная з крыніц мае своеасаблівую, толькі ёй уласцівую інфармацыю, якая ў сукупнасці з інфармацыяй іншых крыніц дазваляе даследаваць вытокі, карані беларусаў, іх фарміраванне і этнічнае развіццё. Комплексны падыход да праблем паходжання і этнічнага развіцця беларускага народа — неабходная ўмова грунтоўнага навуковага вырашэння гэтых праблем.



# СТАРАЖЫТНАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА

Тэрыторыя Беларусі не ўваходзіла ў прарадзіму чалавецтва. У першы перыяд старажытнейшай гісторыі, прыкладна 2 млн г. таму назад, чалавек тут не пражываў. На тэрыторыі Беларусі ён упершыню з'явіўся ў канцы сярэдняга старажытнакаменнага веку, звыш 40 тыс. г. да н. э. Спачатку былі заселены толькі некаторыя мясцовасці на поўдні, якія знаходзяцца ў басейнах рэк Прыпяць, Ясельда, Сож. Самыя старажытныя сляды чалавека выяўлены, у прыватнасці, каля вёскі Бярдыж на р. Сож (Гомельшчына). Тут знойдзены прылады, якія тыпалагічна адносяцца да сярэдняга старажытнакаменнага веку. Сярод іх былі апрацаваныя з двух бакоў рубілы з крэмню[1]. У басейнах рэк Прыпяць, Сож людзі жылі і ў познім старажытнакаменным веку (40—10 тыс. г. да н. э.). Асабліва багатыя і каштоўныя матэрыялы пра людзей таго часу знойдзены на стаянках каля паселішчаў Юравічы і Бярдыж. У канцы позняга старажытнакаменнага веку былі заселены вярхоўі Нёмана[2]. На поўначы сучаснай Беларусі людзі ў той час яшчэ не жылі.

Асваенне чалавекам тэрыторый паўночнай Беларусі адносіцца да сярэдняга каменнага веку (мезаліту). Яго датуюць 9—5 тыс. г. да н. э. Стаянкі сярэдняга каменнага веку выяўлены не толькі на Палессі, у Панямонні, але і ў Падзвінні, верхнім Падняпроўі[3]. Засяленне тэрыторыі Беларусі адбывалася некалькімі шляхамі. З паўднёвага ўсходу было заселена ўсходняе Палессе (басейн сярэдняй і ніжняй Прыпяці), а таксама верхняе Падняпроўе. Заходняе Палессе (басейн верхняй Прыпяці) і Панямонне засялялі пераважна з паўднёвага захаду. Падзвінне было заселена з поўдня і захаду[4].

У новым каменным веку (яго датуюць у асноўным 4—3 тыс. г. да н. э.) насельніцтва на тэрыторыі Беларусі значна павялічылася. Было заснавана шмат новых паселішчаў. Калі да мезаліту адносіцца звыш 100 адкрытых археолагамі паселішчаў, то да неаліту — звыш 600[5]. Асноўная частка насельніцтва ў гэты

---

[1] Калечиц Е. Первоначальное заселение территории Белоруссии. Мн., 1984. С. 59.

[2] Палеолит СССР. М., 1984. С. 171, 225.

[3] Исаенко В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 1: Памятники каменного века. Мн., 1968; Ксендзов В. Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Мн., 1988.

[4] Загорульский Э. Древняя история Белоруссии. Мн., 1977. С. 27—28.

[5] Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1993. С. 300.



1. Белавежскія зубры. Фотаздымак П. М. Захарэнкі

перыяд жыла на тэрыторыі Палесся, Панямоння і Пасожжа. У Падзвінні яно было малалікім. Неалітычнае насельніцтва ўдасканаліла першапачатковыя заняткі: паляўніцтва, збіральніцтва, рыбалоўства, — стала займацца і новымі, напрыклад: ткацтвам, ганчарствам, якое мела лакальныя адрозненні. У басейне сярэдняй і ніжняй Прыпяці пасудзіны ляпілі з цеста гліны з раслиннымі дамешкамі. Яны былі шырокагорлымі і вастрадоннымі. Арнаментавалі верхнюю частку, выгіб і донца. Вырабы ўпрыгожвалі пераважна адбіткамі грэбеня і наколамі. Такую кераміку называюць грабеньчата-накольчатай. У басейне верхняй Прыпяці і Нёмана грабеньчата-накольчатая кераміка мела некаторыя своеасаблівасці. У арнаменце радзей сустракаліся адбіткі грэбеня і значна часцей наколы і пракрэсленыя лініі. Пасудзіны тут часта выраблялі з цеста гліны з мінеральнымі дамешкамі пяску або жарствы (тоўчаны камень). Арнаментавалі ў асноўным верхнюю і сярэднюю часткі пасудзін. Комплекс прадметаў з такой керамікай атрымаў назву «нёманская культура». У верхнім Падняпроўі для вырабу пасудзін выкарыстоўвалі мінеральныя або раслінныя дамешкі. Апошнія ўжывалі радзей. Пасудзіны ў гэтым рэгіёне мелі вельмі тоўстыя сценкі, больш шырокае горла. Гліняныя вырабы ўпрыгожвалі адбіткамі грэбеня і глыбокімі прадаўгаватымі ямкамі. Неалітычную кераміку верхняга Падняпроўя называюць грабеньчата-ямкавай. Яна была састаўной

часткай верхнедняпроўскай культуры. У паўночнай Беларусі (Беларускім Паазер'і) пасудзіны выраблялі з цеста гліны з дамешкамі з тоўчаных ракавін і валакністых раслін. Сценкі пасудзін загладжвалі зубчатым штампам, таму яны былі гладкімі. Арнаментавалі верхнюю частку гаршкоў. Гэта кераміка была састаўной часткай комплекса прадметаў, які атрымаў назву «нарвенская культура».

Этнічная прыналежнасць насельніцтва, у матэрыяльнай культуры якога была грабеньчата-накольчатая і грабеньчата-ямкавая кераміка, пакуль не вызначана. Мова яго невядома. Яно ўлілася ў новыя этнічныя супольнасці, якія сталі пранікаць на тэрыторыю Беларусі ў познім неаліце і цалкам асімілявалі мясцовае насельніцтва ў эпоху ранняга металу.

На тэрыторыі паўночна-ўсходняй Беларусі (у Падзвінні і Пасожжы) у 3 тысячагоддзі да н. э. з'явілася насельніцтва, састаўной часткай матэрыяльнай культуры якога была ямкава-грабеньчатая кераміка[6]. Пасудзіны выраблялі з цеста гліны з дамешкамі з раслінных рэштак, пяску, жарствы. Яны былі кругладоннымі або мелі яйкападобную форму. Іх упрыгожвалі глыбокімі ямкамі (канічнымі, авальнымі, ромбападобнымі), якія былі размешчаны на паверхні гарызантальна. Адбіткі грэбеня рабілі перпендыкулярна паверхні пасудзіны. Мова насельніцтва з ямкава-грабеньчатай керамікай, якое з'явілася ў паўночна-ўсходняй Беларусі ў 3 тысячагоддзі да н. э., мабыць, адносілася да ўральскай сям'і, яе фіна-угорскай галіны, гэта значыць, да фінскіх моў. Аб гэтым сведчаць назвы некаторых рэчак і азёраў, напрыклад: Дзвіна, Свір, Мардва, — што знаходзяцца ў гэтых мясцовасцях[7]. У фізічным абліччы людзей таго часу ў Паазер'і, у пераважна еўрапеоідным тыпе, былі таксама некаторыя рысы мангалоіднага тыпу (напрыклад больш шырокі нос), характэрныя для супольнасцей уральскай сям'і, у тым ліку фінскіх[8]. У позняга неалітычнага насельніцтва Паазер'я, як і ў суседніх фінскіх супольнасцей, былі тыя ж самыя гаспадарчыя заняткі (паляўніцтва, рыбалоўства, збіральніцтва), такая ж кераміка.

На тэрыторыі паўднёва-заходняй Беларусі, у прыватнасці ў басейне верхняй Прыпяці, Ясельды (наваколле цяперашніх вёсак Моталь Іванаўскага раёна, Носкі Пружанскага, Цытылле Маларыцкага раёна), у 3 тысячагоддзі да н. э. з'явілася насельніцтва, састаўной часткай матэрыяльнай культуры якога былі лейкападобныя кубкі. Яно адрознівалася ад астатняга насельніцтва на тэрыторыі Беларусі не толькі формай керамікі, але і іншымі вельмі істотнымі рысамі гаспадарчага комплексу. Гэта група ўжо займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Яна мела яскрава акрэсленае еўрапеоіднае фізічнае аблічча. Новыя гаспадарчыя заняткі гэтай групы насельніцтва — земляробства і жывёлагадоўля — дазваляюць меркаваць, што па этнічнай прыналежнасці яна была індаеўрапейскай, паколькі характэрнымі відамі гаспадарчай дзейнасці індаеўрапейцаў былі менавіта земляробства і жывёлагадоўля. Найбольш старажытныя падобныя словы ў індаеўрапейскіх мовах абазначаюць з'явы, што адносяцца да земляробства і жывёлагадоўлі. Так, падобнымі словамі абазначаюцца ў многіх еўрапейскіх мовах, у прыватнасці ў германскіх, балцкіх, славянскіх, такія з'явы, як «сеяць», «семя», «сыр», «парася»[9]. Аб індаеўрапейскім характары

[6] Этнокультурные общности лесной и лесостепной зоны Европейской части СССР в эпоху неолита. Л., 1973. С. 16—17.

[7] Жучкевич В. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 93, 337.

[8] Проблемы этнической истории балтов. Рига, 1985. С. 19—25.

[9] Stang Chr. Lexikalische Sonderübereinstimmungen zwischen dem Slavischen, Baltischen und Germanischen. Oslo, 1971. S. 68—70, 81.

гэтага комплекса гаспадаркі і культуры, мабыць, сведчыць і тое, што ў рэгіёне яго пашырэння, у прыватнасці на поўдзень ад Прыпяці, у параўнанні з раёнамі, размешчанымі на поўнач ад Прыпяці, старажытнымі гідронімамі з'яўляюцца індаеўрапейскія[10]. Не пярэчыць індаеўрапейскаму характару гаспадарчага комплексу з керамікай лейкападобных кубкаў і яскрава акрэсленае еўрапеоіднае аблічча яго носьбітаў.

Значныя змены ў гаспадарцы і культуры насельніцтва на тэрыторыі Беларусі, яго этнічным абліччы адбыліся ў бронзавым веку (канец 3 тысячагоддзя да н. э. — VIII—VI стст. да н. э.). У гэты перыяд з'явіліся прылады працы, выраблення з бронзы (бронзавыя сякеры). Першапачаткова яны пападалі сюды з поўдня, у прыватнасці з Валыні, Прыкарпацця. Пазней, з сярэдзіны 2 тыс. г. да н. э., была наладжана мясцовая вытворчасць гэтых прылад, але на прывазной сыравіне, таму што на тэрыторыі Беларусі не было залежаў медзі і волава, неабходных для выплаўлення бронзы. Пагэтаму іх тут было мала. Да цяперашняга часу на тэрыторыі Беларусі іх знойдзена толькі некалькі дзесяткаў[11]. Большасць прылад працы працягвалі вырабляць з каменю, шырока выкарыстоўваючы самыя прагрэсіўныя спосабы яго апрацоўкі: свідраванне, шліфаванне, паліраванне. Прагрэс у развіцці тэхнікі з'явіўся важнай умовай распаўсюджвання на тэрыторыі Беларусі земляробства і жывёлагадоўлі. Аб існаванні тут земляробства ў бронзавым веку сведчаць адбіткі зярнятаў злакаў на сценках гліняных пасудзін. Пераканаўчым аргументам распаўсюджвання жывёлагадоўлі ў гэтым рэгіёне ў той час з'яўляюцца косці хатніх жывёл: свіней, авечак, быкоў, коней. У гэты перыяд на тэрыторыі Беларусі сфарміраваўся больш складаны комплекс гаспадарчых заняткаў і матэрыяльнай культуры. Найбольш значным гаспадарчым заняткам у ім была жывёлагадоўля. Яна давала большую частку прадуктаў. Удзельная вага земляробства ў гэты час была меншай. Яно вялося ручным спосабам на невялікіх участках і выраблялa меншую колькасць прадуктаў. Земляробства і асабліва жывёлагадоўля распаўсюдзіліся ў бронзавым веку не толькі ў паўднёвых, але і ў цэнтральных, і нават у паўночных рэгіёнах Беларусі.

Хуткае распаўсюджванне на тэрыторыі Беларусі земляробства і жывёлагадоўлі (у асноўным ужо ў раннім бронзавым веку, гэта значыць, у канцы 3 тыс. г. да н. э. — сярэдзіне 2 тыс. г. да н. э.) дазваляе меркаваць, што ў гэты перыяд тут рассялілася насельніцтва, якое займалася земляробствам і жывёлагадоўляй і жыло раней (у неалітычную эпоху) у раёнах, размешчаных на поўдні ад тэрыторыі Беларусі, у паўднёвых раёнах Усходняй Еўропы, а таксама на абшарах Сярэдняй і Паўднёвай Еўропы[12]. Параўнаўча хуткае рассяленне плямёнаў земляробаў і жывёлаводаў на тэрыторыі Беларусі і ў суседніх рэгіёнах было вынікам міграцыі, абумоўленай значным павелічэннем колькасці насельніцтва, характарам жывёлагадоўлі і земляробства, якія ў гэты перыяд патрабавалі новых земляў, не занятых раней земляробствам і жывёлагадоўляй. Аб працэсе міграцыі сведчыць вялікае падабенства гаспадаркі і культуры на тэрыторыі Беларусі ў бронзавым веку з гаспадаркай і культурай плямёнаў, якія жылі ў гэты час у вялікім еўрапейскім рэгіёне на поўдні, паўднёвым усходзе і

---

[10] Трубачев О. Н. Названия рек Правобережной Украины. М., 1968. С. 286; Топоров В. Н., Трубачев О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962. С. 243—244.

[11] Исаенко В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3: Памятники бронзового века. Мн., 1976. С. 22.

[12] Gimbutas M. The Prehistory of Eastern Europe. Part 1. Cambridge. 1956. P. 9—13.

паўднёвым захадзе ад тэрыторыі Беларусі (наяўнасць у гаспадарчым комплексе жывёлагадоўлі і земляробства, разводзілі тыя ж віды жывёл: быкоў, авечак, свіней, — вырошчвалі тыя ж віды раслін, напрыклад лён, выраблялі лодкападобныя сякеры, упрыгожвалі гліняны посуд адбіткамі шнура). Міграцыяй абумоўлена і вялікае падабенства гаспадаркі і матэрыяльнай культуры насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў першапачатковы перыяд бронзавага веку з гаспадаркай і матэрыяльнай культурай плямёнаў гэтага часу, што жылі ў суседніх усходніх, паўночна-ўсходніх, паўночна-заходніх і заходніх раёнах. На гэтых землях у раннім бронзавым веку таксама распаўсюдзіліся земляробства і жывёлагадоўля, лодкападобныя сякеры, шнуравая кераміка.

Новыя плямёны, якія рассяліліся на тэрыторыі Беларусі, былі індаеўрапейскімі па мове. Гэта сцвярджэнне абгрунтоўваецца шэрагам аргументаў. Перш за ўсё тым, што асноўнымі гаспадарчымі заняткамі новых плямёнаў былі земляробства і жывёлагадоўля — тыя віды гаспадаркі, якія былі характэрны для індаеўрапейцаў. Як ужо адзначалася, з'явы, што адносяцца да ранняй земляробчай і жывёлаводчай гаспадаркі, абазначаюцца ў многіх індаеўрапейскіх мовах падобнымі тэрмінамі: «сеяць», «семя», «капуста», «морква», «агуркі», «карова», «свіння», «парася», «авечка», «воўна», «сыр», «сена»[13]. Важным аргументам індаеўрапейскай прыналежнасці рассяліўшыхся ў бронзавым веку на тэрыторыі Беларусі земляробаў і жывёлаводаў служыць з'яўленне ў мясцовасцях іх новага жыхарства індаеўрапейскіх гідронімаў (назваў рэк, азёраў). Менавіта да гэтага часу, напэўна, адносіцца паяўленне індаеўрапейскіх гідронімаў на тэрыторыі, размешчанай на поўначы ад Прыпяці, у тым ліку ў раёнах цэнтральнай і часткова паўночнай Беларусі[14]. Індаеўрапейскімі, у прыватнасці, з'яўляюцца назвы рэк: Цна, Лань, Гаўя, Ула, Чачора, Нача і інш. Рассяленне індаеўрапейскіх плямёнаў і наладжванне пастаянных кантактаў з мясцовым насельніцтвам суправаджаліся інтэнсіўнымі этнічнымі працэсамі. На тэрыторыі Беларусі гэта былі працэсы асіміляцыі мясцовага неіндаеўрапейскага насельніцтва, як невядомага па мове ў паўднёвых і цэнтральных раёнах, так і вядомага (уральскага) на самой поўначы. Перамога індаеўрапейскай мовы абумоўлена тым, што індаеўрапейскае насельніцтва знаходзілася на больш высокім узроўні гаспадарчага і культурнага развіцця. Аб гэтым сведчаць іх гаспадарчыя заняткі, пабудовы. Прышлыя індаеўрапейцы значна пераважалі мясцовае насельніцтва і сваёй колькасцю. Гэтаму садзейнічаў род іх заняткаў. Мясцовае насельніцтва засвойвала мову і культуру новых плямёнаў, трансфармавалася ў індаеўрапейцаў, рабіла некаторы ўплыў на новую культуру, мову. Так, ад груп уральскага насельніцтва ў мову індаеўрапейцаў на тэрыторыі паўночнай Беларусі перайшлі некаторыя мясцовыя геаграфічныя назвы, што захаваліся да цяперашняга часу (Дзвіна, Свір, Мардва і інш.). Групы ўральскага насельніцтва пакінулі таксама некаторыя сляды і ў антрапалагічным абліччы ўсталяваўшыхся тут індаеўрапейцаў[15].

Індаеўрапейцы ў гэты час ужо падзяляліся на галіны: іранскую, фракійскую, ілірыйскую, італійскую, германскую, славянскую, балцкую і інш. Якія галіны індаеўрапейскай супольнасці рассяляліся і жылі на тэрыторыі Беларусі ў тую далё-

[13] Stang Chr. Lexikalische Sonderübereinstimmungen zwischen dem Slavischen, Baltischen und Germanischen. Oslo, 1971. S. 41, 68, 70, 81, 91.

[14] Gimbutas M. Bronze Age Cultures in Central and Eastern Europe. Paris—London, 1965. P. 389, 40—441.

[15] Проблемы этнической истории балтов. Рига, 1985. С. 19—25.

кую эпоху? Адказаць на гэта пытанне дапамагаюць даныя гідраніміі. На большай частцы тэрыторыі Беларусі, асабліва на поўначы і ў цэнтры, старажытнейшымі індаеўрапейскімі гідронімамі былі балцкія. Балцкімі з'яўляюцца назвы рэк: Лань, Цна, Арэса, Клёва, Брожа, Лосвіда, Ула, Гаўя, Рэста, Эса і інш.[16] Гэта дазваляе зрабіць выснову, што на большай частцы тэрыторыі Беларусі ў тую далёкую эпоху рассяляліся і жылі балты. На тэрыторыі, размешчанай на поўдзень ад р. Прыпяць балцкіх гідронімаў мала. У гэтым рэгіёне былі больш распаўсюджаныя старажытныя славянскія гідронімы. Да іх адносяцца назвы рэк: Стыр, Стубла, Свaратоўка, Родча, Рубча і інш.[17] Можна меркаваць, што частка індаеўрапейскага насельніцтва ў гэтай вобласці была славянскай.

Такім чынам, бронзавы век стаў пачаткам новай эпохі ў этнічнай гісторыі насельніцтва на тэрыторыі Беларусі, перыядам шырокага рассялення індаеўрапейцаў, інтэнсіўнай асіміляцыі імі неіндаеўрапейскіх груп. Арганічным працягам гэтай эпохі быў ранні жалезны век (VII—VI стст. да н. э. — IV—V стст. н. э.). У гэты перыяд далей развіваліся працэсы, якія пачаліся ў бронзавым веку, адбывалася кансалідацыя новых культурналінгвістычных і метаэтнічных супольнасцей (балтаў і славянаў) з мясцовым насельніцтвам. Эканамічнай асновай гэтых працэсаў былі важныя змены ў вытворчасці, у прыватнасці пашырэнне кавальства — вырабу жалезных прылад, больш прадукцыйных у параўнанні з бронзавымі і каменнымі. Яно паўплывала на развіццё ўсёй гаспадаркі і матэрыяльнай культуры. У адрозненне ад вытворчасці бронзавых вырабаў, якая ажыццяўлялася на прывазной сыравіне і была абмежаванай, кавальства распаўсюдзілася значна шырэй, таму што жалеза выплаўлялі з балотнай і азёрнай руды, якая мелася на тэрыторыі Беларусі ў дастатковай колькасці ва ўсіх яе раёнах. Пагэтаму жалезныя прылады паступова выцеснілі не толькі каменныя, але і бронзавыя. Новыя прылады сталі больш спрыяльнай умовай для асваення новых земляў для земляробства, асабліва ў лясной зоне. Жалезнай сякерай лягчэй, хутчэй і на большай плошчы высякчы дрэвы і кусты, выкарчаваць пні, а жалезнай матыкай — пасляхова ўскапаць зямлю, пранізаную карэннем.

Гаспадарка і матэрыяльная культура ў раннім жалезным веку больш хутка змянялася ў паўднёвай Беларусі. Тут раней з'явіліся жалезныя прылады. У гэтым рэгіёне іх выраблялі і выкарыстоўвалі ўжо ў VII—VI стст. да н. э. На тэрыторыі паўночнай Беларусі жалезныя прылады распаўсюдзіліся на тры стагоддзі пазней[18]. Адпаведна каменныя і бронзавыя прылады былі выцеснены раней на поўдні і пазней на поўначы (у асноўным у другой палове ранняга жалезнага веку). На тэрыторыі паўднёвай Беларусі хутчэй развівалася і земляробства. У асобных мясцовасцях гэтай зоны ў той час з'явілася плужнае земляробства. Аб гэтым сведчыць знойдзенае каля вёскі Капланавічы, размешчанай у 10 км на поўдні ад Клецка, старажытнае рала, якое датуецца раннім жалезным векам. На гаспадарку і матэрыяльную культуру паўднёвай Беларусі ў раннім жалезным веку пастаянна рабілі станоўчы ўплыў больш развітыя эканамічна і культурна суседнія паўднёвыя рэгіёны старажытных еўрапейскіх цывілізацый. Тут знойдзены скіфскія і кельцкія вырабы, антычныя амфары[19].

[16] Топоров В. Н., Трубачев О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. С. 160—168, 232—235.

[17] Трубачев О. Н. Названия рек Правобережной Украины. М., 1968. С. 270—284.

[18] Шадыро В. Ранний железный век северной Белоруссии. Мн., 1985. С. 117.

[19] Мельниковская О. Племена южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967. С. 153—155.

2 Зак. 1789

У цэнтральнай і паўночнай Беларусі ў раннім жалезным веку гаспадарка і матэрыяльная культура змяняліся больш павольна. Але напрамак развіцця гаспадаркі і культуры ў гэтым арэале быў такім жа, як і ў паўднёвым. Тут таксама паступова ўсталёўваліся новыя з'явы, далей развіваліся тыя працэсы, пачатак якіх адносіцца да бронзавага веку.

У раннім жалезным веку на тэрыторыі Беларусі завяршаецца працэс асіміляцыі неіндаеўрапейскага насельніцтва, як невядомага па мове (у сярэдняй і паўднёва-ўсходняй частцы), так і вядомага — уральскага (у паўночных раёнах). У гэты перыяд былі асіміляваны групы неіндаеўрапейскага насельніцтва ў балоцістых мясцовасцях правабярэжжа Верхняга Дняпра, у верхнім цячэнні Нёмана па левых прытоках Прыпяці[20]. Некаторыя рысы культуры гэтага неіндаеўрапейскага насельніцтва, у прыватнасці асобныя элементы мовы, напрыклад уральскія гідронімы (Дзвіна, Свір, Мардва і інш.), на тэрыторыі паўночнай Беларусі былі ўспрыняты тут балцкай групай індаеўрапейцаў. Утварыліся і гібрыдныя балцка-фінскія гідронімы, напрыклад: Лынтупка, Дрыса[21]. У раннім жалезным веку на тэрыторыі Беларусі колькасць балцкіх гідронімаў павялічылася. У гэты час іх стала больш сотні[22]. Асабліва шмат балцкіх гідронімаў з'явілася ў басейне Сожа, Бярэзіны, Нёмана. На поўдні і паўднёвым захадзе ад Прыпяці ў гэты час пераважалі славянскія гідронімы[23]. У раннім жалезным веку больш выразна сфарміравалася і антрапалагічнае аблічча насельніцтва на тэрыторыі Беларусі. Характэрнай антрапалагічнай рысай старажытнага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў гэты перыяд быў шырокі твар. У цэнтральнай і паўночнай частцы гэта рыса знешняга аблічча спалучалася з выразнай доліхакраніяй (доўгая галава)[24]. У паўднёвай частцы, асабліва на поўдзень і паўднёвы захад ад Прыпяці, знешняе аблічча старажытнага насельніцтва мела некаторую своеасаблівасць. Даўжыня галавы была некалькі меншай, сярэдняй. Адносная шыракатварасць спалучалася тут з меза-краніяй. У некаторых раёнах паўночнай Беларусі ў еўрапеоідным абліччы старажытнага насельніцтва меліся слабыя мангалоідныя дамешкі, успрынятыя, мабыць, прышлым балцкім насельніцтвам ад асіміляваных мясцовых груп, фіна-угорскіх па мове.

У раннім жалезным веку лакальныя адрозненні праяўляліся больш у кераміцы і менш — у тыпе паселішчаў, жытлаў. Па тыпу паселішчаў і жытлаў устойлівы аднародны культурны рэгіён уяўлялі сабою паўночныя і цэнтральныя раёны тэрыторыі Беларусі. Асноўным тыпам паселішчаў тут былі гарадзішчы. Насельніцтва жыло пераважна ў доўгіх наземных дамах слупавой канструкцыі. Па асаблівасцям керамікі гэты рэгіён падзяляўся на дзве часткі, паўночную і цэнтральную. У першай (днепра-дзвінскай) пераважалі гладкасценныя пасудзіны слоікападобных формаў, слабапрафіляваныя гаршчкі, у другой (сярэдняй) была пашырана штрыхаваная кераміка. Знешні, а іншы раз і ўнутраны бок пасудзіны пакрывалі штрыхамі. Культура насельніцтва, якое жыло ў раннім жалезным веку ў паўднёвай Беларусі, была больш разнастайнай. Тут былі пашыраны два тыпы паселішчаў: гарадзішча і селішча. Тыповыя паселішчы на ўсходзе паўднёвай Беларусі, у басейне Дняпра — гара-

---

[20] Третьяков П. М. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.-Л., 1986. С. 108.

[21] Жучкевич В. Краткий топонимический словарь Белоруссии. С. 109, 214—215.

[22] Топоров В. Н., Трубачев О. Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. С. 236.

[23] Gimbutas M. The Slavs. London, 1971. P. 22.

[24] Денисова Р. Характерные особенности и генезис антропологического типа балтов // Этногенез белорусов. Мн., 1976. С. 94—95.

дзішчы, а на захад ад гэтага раёна, у басейне Прыпяці, — селішчы. Гарадзішчы тут выкарыстоўвалі як сховішчы ў час нападу ворага. На тэрыторыі паўднёвай Беларусі мелася два тыпы жытлаў: наземныя і паўзямлянкі. Наземныя жытлы паўднёвай Беларусі адрозніваліся ад жытлаў паўночнай Беларусі меншымі памерамі. Паўзямлянкі часцей сустракаліся ў басейне Прыпяці, асабліва ў сярэдзіне і ў другой палове ранняга жалезнага веку. Тэрыторыя паўднёвай Беларусі адрознівалася ад цэнтральнай і паўночнай і асаблівасцю керамікі. На ўсходзе гэтай вобласці доўгі час (у першую палову ранняга жалезнага веку) бытавала мілаградская кераміка. Тут пераважалі шарападобныя і яйкападобныя гаршчкі і глыбокія міскі. У заходняй частцы паўднёвай Беларусі, у адрозненне ад усходняй, у першай палове ранняга жалезнага веку захавалася яшчэ лужыцкая кераміка, сярод якой быў амфарападобны посуд з жалабатым арнаментам, затым (IV—I стст. да н. э.) пашырылася падклёшавая[25]. Састаўнымі элементамі апошняй былі вялікія ляпныя пасудзіны з шурпатай паверхняй, якія ў літаратуры называюць клёшамі, а таксама невялікія акруглабокія гаршчкі і міскі, кубкі. Шэраг гліняных вырабаў выкарыстоўвалі ў пахавальным абрадзе. Гаршчкі служылі ўрнай, якую прыкрывалі міскай, а затым клёшам. Такі пахавальны абрад у археалагічнай літаратуры называюць падклёшавым, а ўвесь комплекс прадметаў — культурай падклёшавых пахаванняў. У апошнія стагоддзі 1 тыс. г. да н. э. (у прыватнасці ў канцы III ст. да н. э.) падклёшавую і мілаградскую кераміку на тэрыторыі паўднёвай Беларусі змяніла зарубінецкая[26]. Зарубінецкія пасудзіны былі пласкадоннымі. Значная частка посуду, асабліва міскі, глянцавалася.

У познім жалезным веку (VI—VIII стст. н. э.) на большай частцы тэрыторыі Беларусі (асабліва паўночнай і цэнтральнай) пераважала балцкае насельніцтва. У балцкім арэале на тэрыторыі Беларусі меліся некаторыя адрозненні ў культуры, у прыватнасці ў жытлах і кераміцы. Па асаблівасцях культуры ў ім вылучаюцца дзве зоны. Да першай адносіцца Верхняе Падняпроўе, уключаючы вярхоўі Сожа і Падзвінне, дзе размешчаны археалагічныя помнікі тыпу Тушамля—Банцараўшчына. Тут пераважалі наземныя дамы, рэдка сустракаліся рабрыстыя пасудзіны. У другую зону ўваходзіла Гомельска—Магілёўскае парэчча Дняпра (археалагічныя помнікі тыпу Калочын). У ёй панавалі паўзямлянкі, а ў асартыменце керамічных вырабаў часцей сустракаліся рабрыстыя пасудзіны[27].

Для позняга жалезнага веку характэрны перамяшчэнні розных груп насельніцтва з адной вобласці ў другую. У гэты перыяд узмацніўся ўплыў славянаў на балтаў на тэрыторыі Беларусі. У VI—VII стст. славяне жылі кампактна, суцэльным масівам толькі ў самых паўднёвых раёнах сучаснай тэрыторыі Беларусі, у басейне р. Прыпяць, пераважна на поўдзень ад яе. Славянскімі з'яўляюцца археалагічныя помнікі: Хатомель, Хільчыцы, Сямурадцы, Гарадзішча, Пінск, Петрыкаў, — што адносяцца да гэтага перыяда. Асноўным тыпам славянскіх паселішчаў былі селішчы (неўмацаваныя паселішчы). Звычайна яны размяшчаліся групамі, па 3—4 селішчы ў кожнай. Пашыраны тып жытла — паўзямлянка. Печ у жытлах славянаў знаходзілася пераважна ў адным з вуглоў, часцей за ўсё ў процілеглым ад уваходу. Бытавалі як прамавугольныя гліняныя печы, так і печы-

[25] Кухаренко Ю. Полесье и его место в этногенезе славян // Полесье. М., 1968. С. 26.

[26] Седов В. В. Происхождение и ранняя история славян. М., 1979. С. 74.

[27] Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982. С. 29—38

каменкі. У кераміцы пераважалі гаршчкі са слаба выяўленымі плечукамі. Пасудзіны звычайна былі карычневага колеру без арнамента. У славянаў панаваў абрад трупаспалення. Памершых спальвалі ў баку ад месца пахавання. Попел клалі ў гліняныя ўрны або накрывалі гаршчком, перавернутым уверх дном, і хавалі ў бескурганных магілах або ў курганных насыпах, акруглых у плане, невысокіх і акружаных раўкамі.

У VI—VII стст. н. э. пачалося пранікненне славянаў у балцкі арэал. На тэрыторыі Беларусі аб гэтым сведчаць славянскія культурныя элементы, якія выразна фіксуюцца ў старажытнасцях тыпу Калочын—Банцараўшчына—Тушамля. У балцкім арэале ў гэты час з'яўляюцца паўзямлянкі з тыповым славянскім інтэр'ерам. Так, паўзямлянкі з печамі-каменкамі выяўлены ў археалагічных помніках: Шчаткава ў ніжнім цячэнні Бярэзіны, Тайманава ў Магілёўскім Падняпроўі, Гарадзішча, Дзядзілавічы, Равячка на Міншчыне. У балтаў ачаг размяшчаўся ў цэнтры жытла. Да славянскіх культурных элементаў адносіліся і жорны, знойдзеныя ў археалагічных помніках Гарадзішча, Дзядзілавічы. Балцкае насельніцтва карысталася каменнымі зерняцёркамі[28].

У VIII—IX стст. н. э. адбываецца масавае рассяленне славянаў на тэрыторыі Беларусі. Вялікімі групамі пасяляюцца яны спачатку ў раёнах, размешчаных на поўначы ад р. Прыпяць, у вярхоўях рэк Случ і Арэса, на правым беразе Дняпра, затым па Бярэзіне. Тут знаходзяцца акруглыя курганы, у якіх выяўлена славянская кераміка. Засяленне славянамі раёнаў на поўнач ад Прыпяці адбывалася з паўднёвай часткі Прыпяцкага басейна. Аб гэтым сведчаць аднолькавыя водныя назвы правабярэжнай і левабярэжнай частак Прыпяцкага Палесся і ў басейне Бярэзіны: Случ, Грыўка, Дубраўка, Жалезніца, Трасцянец, Стаў. У VIII—IX стст. н. э. славяне пасяляюцца ў Пасожжы. Гэтым часам (IX ст. н. э.) датуюцца славянскія археалагічныя помнікі — круглыя курганы з пахаваннямі трупаспаленнем. У IX ст. н. э. славяне пасяляюцца і ў Падзвінні. Менавіта ім належаць археалагічныя помнікі гэтага веку — круглыя (паўсферычныя) курганы. Яны размяшчаліся скучана, знаходзіліся непадалёку адзін ад другога. Вакол курганаў выкопвалі раўкі. Да IX—X стст. н. э. славяне рассяліліся таксама ў Верхнім Панямонні. Славяне хавалі тут нябожчыкаў у акруглых курганах.

Такім чынам, у VIII—IX стст. н. э. адбыліся істотныя змены ў этнічным складзе і культуры насельніцтва на тэрыторыі Беларусі. Вялікія групы славянаў рассяляліся ва ўсіх яе рэгіёнах і ўступалі ў цесныя кантакты з тутэйшым балцкім насельніцтвам. Узаемадзеянне славянаў і балтаў істотна змяніла іх культуру. Балцкае насельніцтва было асімілявана. Ранейшая культура тыпу Тушамля—Банцараўшчына—Калочын у VIII ст. н. э. знікла. У выніку славянска-балцкага сінтэзу да IX—X стст. н. э. сфарміраваліся новыя славянскія этнічныя супольнасці, якія неаднаразова ўпамінаюцца ў сярэдневяковых пісьмовых крыніцах. Тэрыторыю Беларусі займалі ў гэты час дрыгавічы, радзімічы і вялікая група крывічоў.

Дрыгавічы першапачаткова жылі ў Папрыпяцці. Паўднёвая мяжа дрыгавічоў праходзіла за Прыпяццю на поўдзень ад яе. Ад суседніх драўлян дрыгавічоў аддзялялі балоцістыя мясцовасці. Потым дрыгавічы прасунуліся на поўнач, апынуліся ў вярхоўях Нёмана[29]. Асобныя групы дрыгавічоў, магчыма, рассяляліся і на больш паўночную тэрыторыю.

[28] Седов В. В. Начальный этап славянского расселения в области днепровских балтов // Балто-славянские исследования. М., 1981. С. 45—52.

[29] Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. С. 114, 116.



2. Упрыгажэнні дрыгавічоў. Фотаздымак П. М. Захарэнкі

У «Аповесці мінулых гадоў» указваецца, што яны жылі паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіною («седоша межю Припятью и Двиною и нарекошася дреговичи»)[30]. У іх культуры пераважалі славянскія элементы. Мова дрыгавічоў была славянскай. Славянскімі па паходжанню былі такія элементы іх культуры, як буйныя металічныя бусы, пакрытыя зерню, персценепадобныя скроневыя кольцы. Славянскай была і дрыгавіцкая кераміка. Да элементаў балцкага паходжання ў культуры дрыгавічоў адносіліся спіральныя пярсцёнкі, змеегаловыя бранзалеты, зоркавыя спражкі. Аб змешаным славяна-балцкім паходжанні дрыгавічоў, верагодна, сведчыць і сама назва гэтай супольнасці. Корань гэтай назвы, магчыма, балцкі. У літоўскай мове шмат слоў з такім коранем[31]. Словы з гэтым коранем адлюстроўваюць адну з асаблівасцей мясцовасці, у якой жыла вялікая група дрыгавічоў, — менавіта вільготнасць, забалочанасць зямель у парэччы Прыпяці. Пасля змешвання славянаў з балтамі і асіміляцыі апошніх у назве сфарміраванай новай супольнасці захавалася ранейшая балцкая аснова, да якой было дададзена славянскае «-ічы». Так узнікла новая назва — «дрыгавічы». Яна з'яўляецца славянізаванай формай ранейшай балцкай назвы, што абазначала групу балцкага насельніцтва па асаблівасцях тэрыторыі, на якой яно жыло да шырокага рассялення славянаў[32].

На ўсход ад дрыгавічоў на тэрыторыі Беларусі і ў суседніх з ёй усходніх раёнах жылі радзімічы. Па даных летапісу «Аповесць мінулых гадоў», яны займалі землі паміж Дняпром і Дзясной. Асноўны арэал іх рассялення — басейн рэк Сожа і Іпуці. Больш за ўсё помнікаў іх культуры знаходзяць у Пасожжы. Радзімічы, як і дрыгавічы, сфарміраваліся ў выніку змешвання славянскага і балцкага насельніцтваў, асіміляцыі апошняга. У культуры радзімічаў, як і дрыгавічоў, пераважалі славянскія элементы. Мова радзімічаў была славянскай. У летапісу «Аповесць мінулых гадоў» неаднаразова ўказваецца на іх роднасць з заходнімі славянскімі этнічнымі супольнасцямі, у прыватнасці, размешчанымі на тэрыторыі Польшчы («быша же радимичи от рода ляхов»)[33]. Славянскімі па паходжанню ў культуры радзімічаў былі таксама сяміпрамянёвыя кольцы, бубенчыкі. Славянскай з'яўлялася і кераміка. Разам з тым, у культуры радзімічаў былі і элементы балцкага паходжання. Да іх адносіліся бранзалеты са змяінымі галовамі на канцах, бронзавыя спіралькі, касцяныя прывескі ў выглядзе качак, зоркападобныя спражкі. Радзіміцкая этнічная супольнасць, верагодна, фарміравалася ў тым

[30] Повесть временных лет. Т. I. М.-Л., 1950. С. 11.

[31] Литовско-русский словарь. Под ред. Х. Лемьенаса. Вильнюс, 1971. С. 152.

[32] Хабургаев Г. А. Этнонимика «Повести временных лет». М., 1979. С. 196—197.

[33] Повесть временных лет. Т. I. С. 14, 59.

арэале, які ўказаны ў «Аповесці мінулых гадоў» як месца іх пражывання. Так лічыць Б. А. Рыбакоў[34]. Аб фарміраванні радзімічаў у выніку славяна-балцкага сінтэзу на месцы іх жыхарства, мабыць, сведчыць іх назва. Летапіснае паданне аб паходжанні радзімічаў ад міфічнай асобы Радзіма, які нібыта быў іх продкам, не адлюстроўвае рэальны гістарычны працэс. Ні чалавецтва, ні этнас не паходзіць ад аднаго чалавека. Продкамі можа з'яўляцца толькі група людзей, часта вельмі значная, а не адзін чалавек. Хутчэй існаванне пэўнага этнасу параджае паданні аб яго продку, і назва гэтага этнасу таксама параджае паданні з мэтай растлумачыць яе паходжанне. Тут мы сустракаемся з тыповым прыкладам міфатворчасці, этнагенетычным міфам. Назва «радзімічы» (як і «дрыгавічы») славяна-балцкага паходжання. Яе аснова — балцкая, а канчатак — славянскі. Самымі блізкімі да гэтай назвы з'яўляюцца балцкія (літоўскія) словы radimas — знаходжанне, radimviete — месцазнаходжанне. У іх агульная аснова («радзім»), адрозніваюцца толькі канчаткі. Назва этнічнай супольнасці радзімічаў мае славянскі канчатак «-ічы». Думка аб балцкіх вытоках тэрміна «радзімічы», але без аналізу канкрэтнага лексічнага матэрыяла, была раней выказана Г. А. Хабургаевым. Генетычная сувязь летапісных радзімічаў з даўнім балцкім насельніцтвам у Пасожжы не выклікала ў яго сумнення. Ён меркаваў, што тэрмін «радзімічы» ўтвораны ад больш ранняй назвы балцкай этнічнай супольнасці, якая была славянізавана[35].

Такім чынам, у фарміраванні радзімічаў, характары іх культуры ёсць агульныя рысы з дрыгавічамі. У фарміраванні і першых, і другіх прыняло ўдзел як славянскае, так і балцкае насельніцтва. Але паміж імі меліся і некаторыя адрозненні. Балцкіх элементаў у культуры радзімічаў было больш, чым у культуры дрыгавічоў. Відавочна, у фарміраванні радзімічаў прыняла ўдзел большая група балтаў.

На поўнач ад радзімічаў і дрыгавічоў жылі крывічы. Заходняя мяжа іх на тэрыторыі Беларусі праходзіла ўздоўж Асвейскага возера, затым спускалася на поўдзень, перасякала Заходнюю Дзвіну паблізу вусця Дрысы. Адсюль яна ішла к басейну Дзясны (левага прытоку Заходняй Дзвіны). Самым заходнім крывіцкім паселішчам у гэтым раёне быў Браслаў. На поўначы і ўсходзе граніца крывічоў праходзіла за межамі тэрыторыі Беларусі. Яны займалі не толькі поўнач Беларусі, але і суседнія раёны Падзвіння і Падняпроўя (Пскоўшчыну і Смаленшчыну). У «Аповесці мінулых гадоў» указваецца, што «кривичи иже седять на верх Волги, и на верх Двины, и на верх Днепра»[36]. Археалагічнымі помнікамі крывічоў (як і дрыгавічоў, і радзімічаў) з'яўляюцца круглыя (паўсферычныя) курганы. Культура крывічоў мела рэгіянальныя адрозненні. Іх падзяляюць на дзве вялікія групы: полацка-смаленскую і пскоўскую. На тэрыторыі Беларусі (а таксама на Смаленшчыне) жыла полацка-смаленская група. Яна адрознівалася ад пскоўскай своеасаблівымі ўпрыгажэннямі. Для яе характэрны бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі. У пскоўскай групы крывічоў такіх упрыгажэнняў не было. У этнічным абліччы крывічоў, у тым ліку і полацка-смаленскіх, пераважалі славянскія рысы. Мова іх была славянскай. Славянскім з'яўляецца і асноўны тып упрыгажэнняў полацка-смаленскіх крывічоў — бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі. Да славянскіх элементаў культуры адносяцца таксама крывіцкія бранзалеты,

---

[34] Рыбакоў Б. А. Радзімічы // Працы секцыі археалогіі. Т. 3. Мн., 1932. С. 137—138.

[35] Хабургаев Г. А. Этнонимика «Повести временных лет». С. 197—198.

[36] Повесть временных лет. Т. 1. С. 13.

большасць відаў пярсцёнкаў (драцяныя, гладкія, вітыя, пласцінчатыя, рубчатыя, шчытковыя). Выразна славянскія рысы мае кераміка круглых крывіцкіх курганоў. Асноўную яе частку складаюць гаршчкі з канічным тулавам, акруглымі, слаба выражанымі плечукамі. Колер іх жоўта-шэры і чырванавата-жоўты. Большасць іх не арнаментавана. Разам з тым, у культуры полацка-смаленскіх крывічоў ёсць і элементы балцкага паходжання. Іх шмат сярод крывіцкіх упрыгажэнняў. Да балцкіх элементаў ва ўпрыгажэннях крывічоў адносяцца, у прыватнасці, бранзалеты са змяінымі галовамі, спіральныя пярсцёнкі, шыйныя грыўны балцкага тыпу, галаўны вянок. Змешанае славяна-балцкае паходжанне крывічоў, магчыма, адлюстравана і ў назве гэтай этнічнай супольнасці. Шэраг даследчыкаў указвае на блізкасць гэтай назвы да балцкай лексікі і лічыць, што яна паходзіць ад балцкіх тэрмінаў. Так, на думку археолага П. М. Траццякова, назва «крывічы» мае балцкае паходжанне (бярэ пачатак ад слова «крыве», якое нібыта абазначала імя аднаго з персанажаў літоўскай язычніцкай міфалогіі)[37]. Гісторык Б. А. Рыбакоў мяркуе, што ў назве крывічоў захавалася імя літоўскага вярхоўнага бога Крыве-Крывейта. Як і П. М. Траццякоў, ён сцвярджае, што крывічы ўтварыліся ў выніку змешвання славянаў з балтамі, асіміляцыі апошніх, і называе крывічоў «паўлітоўцамі»[38]. Такія вучоныя, як Г. Мілер, М. Карамзін, Т. Нарбут, А. Кіркор, вядуць паходжанне назвы «крывічы» ад імя вярхоўнага жраца балтаў Крыве-Крывейта. Беларускі археолаг Г. В. Штыхаў лічыць, што назва «крывічы», магчыма, паходзіць ад імя старэйшыны рода Крыве. Ён не выключае таксама этымалогію тэрміна «крывічы» ад слоў, абазначаючых блізкіх па крыві (крэўныя)[39]. Вядомы рускі гісторык С. М. Салаўёў думаў, што назва «крывічы» бярэ пачатак ад балцкага (літоўскага) слова «кirБа» — «багна»[40]. Імкнучыся выявіць сувязь крывічоў з балтамі ў назве крывіцкай этнічнай супольнасці, аўтары гэтых гіпотэз дапускаюць шэраг недакладнасцей, на якія неабходна звярнуць увагу, каб знайсці аргументаваны адказ на гэта пытанне. Нельга абгрунтаваць фактычным матэрыялам гіпотэзу аб тым, што назва крывічоў паходзіць ад імя аднаго з персанажаў літоўскай язычніцкай міфалогіі (Крыве), літоўскага вярхоўнага бога Крыве-Крывейта. Больш грунтоўнае вывучэнне балцкай міфалогіі паказвае, што такія вобразы не характэрныя для пантэона балцкіх багоў. Не пацвярджаецца фактычнымі данымі таксама гіпотэза аб тым, што назва крывічоў паходзіць ад імя вярхоўнага жраца балтаў Крыве-Крывейта. Рэальная гістарычная асоба, святар па імені Крыве, уплыў якога распаўсюджваўся на землі Прусіі, Літвы, Куршыі і Зямгаліі, жыў у XIV ст., калі крывічоў як этнічнай супольнасці ўжо не было[41]. Ён стаў вядомы ў час барацьбы балтаў з Тэўтонскім Ордэнам. Нельга прызнаць правільнай таксама гіпотэзу аб паходжанні назвы крывічоў ад імя старэйшыны рода Крыве. Па-першае, аб гэтым няма сведчанняў у пісьмовых крыніцах. Па-другое, памылкова весці паходжанне этнічнай супольнасці ад аднаго чалавека, а яе назву ад імя аднаго чалавека. Вельмі спрэчна таксама выводзіць назву «крывічы» ад слоў, якія абазначаюць кроўную роднасць. Кроўнародныя адносіны ха-

[37] Третьяков П. М. У истоков древнерусской народности. Л., 1970. С. 66.

[38] Рыбаков Б. А. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982. С. 106, 239.

[39] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. II. Мн., 1972. С. 12; Штыхаў Г. В. Крывічы. Мн., 1992. С. 97.

[40] Соловьев С. М. История России с древнейших времен. Кн. I. М., 1959. С. 280.

[41] Gimbutas M. The Balts. London, 1963. P. 179—204.

рактэрны для параўнаўча невялікіх груп людзей, часцей за ўсё такія групы (роды) мелі назвы жывёл, птушак. Немагчыма, каб уяўленні аб кроўнай роднасці пашыраліся на такую вялікую супольнасць, як крывічы, тэрыторыя якіх у шыротным напрамку распасціралася амаль на тысячу кіламетраў. Выклікае пярэчанне і думка С. М. Салаўёва аб тым, што тэрмін «крывічы» паходзіць ад балцкага слова «кігБа» — «багна». Па-першае, багнавая мясцовасць складае толькі частку тэрыторыі крывічоў. Значна большая частка іх этнічнай тэрыторыі ўяўляе сабою ўзгоркаватую мясцовасць. Узгорыстай была этнічная тэрыторыя крывічоў на Міншчыне, Смаленшчыне. Па-другое, з лінгвістычнага пункту гледжання тлумачэнне этымалогіі тэрміна «крывічы» ад балцкага слова «кігБа» з'яўляецца штучным, неабгрунтаваным. Напэўна, назва «крывічы» адлюстроўвае своеасаблівасць той значнай часткі іх тэрыторыі на Міншчыне і Смаленшчыне, дзе шмат узгоркаў, а мясцовасць як бы крывая: узвышаныя месцы чаргуюцца з больш нізкімі. Такі характар мясцовасці асабліва ўласцівы поўдню і ўсходу іх этнічнай тэрыторыі. У адрозненне ад балотнай мясцовасці дрыгавічоў, яе маглі назваць крывой. Пагэтаму назва «крывічы» паходзіць не ад літоўскага слова «кігБа» («багна»), а ад слоў, якія абазначаюць узгорыстую мясцовасць. Словы, якімі фіксуецца ўзгорыстасць, крывізна, у балцкіх і славянскіх мовах блізкія па гучанню і па складу асновы. Шмат слоў са значэннем крывізны ёсць у літоўскай мове (kreivas — крывы, kreivinti — крывіць, kreivis — крывізна, kreivuzas — крывая рэч)[42]. Да гэтых літоўскіх слоў блізкія па значэнню і гучанню каранёвай асновы беларускія словы «крывы» — «выгнуты», «крывіць» — «рабіць крывым», «крывуля» — «крывая рэч». Паколькі першапачаткова на тэрыторыі славянскай этнічнай супольнасці крывічоў жылі не славяне, а балты, можна меркаваць, што тэрмінам з першапачатковай асновай «крыў» (kreiv) тут называлі балцкае насельніцтва. Г. А. Хабургаеў рэканструе першапачатковую назву балцкага насельніцтва гэтай мясцовасці ў форме «kreiuva», «krieva». Пасля змешвання гэтага насельніцтва са славянскім і фарміравання славянскай этнічнай супольнасці яна некалькі змянілася, захаваўшы ранейшую аснову, да якой быў дададзены славянскі канчатак «-ічы». Так з'явілася назва новай этнічнай супольнасці «крывічы». Варта адзначыць, што ў балцкіх мовах пасля гэтага паранейшаму захавалася балцкая форма назвы славянскіх суседзяў на ўсходзе «krievs», «krivai». Яна да цяперашняга часу захавалася ў латышскай мове для абазначэння рускіх (krievs — русский, Krievija — Расія). Такім чынам, аналіз назвы «крывічы» дае падставу меркаваць, што яна абазначала вялікую групу людзей, што займалі першапачаткова ўзгорыстую мясцовасць. Назвы многіх этнічных супольнасцей па асаблівасцях мясцовасці, на якой яны жылі, характэрны для этнонімаў таго часу. Апрача назваў «крывічы», «дрыгавічы», да гэтай групы адносяцца найменні «драўляне», «паляне», якія абазначалі этнічныя супольнасці, што былі размешчаны на поўдні і на ўсходзе ад дрыгавічоў. Асаблівасці мясцовасці адлюстроўваюць назвы асноўных балцкіх этнічных супольнасцей («аукштайты» — «верхнія» і «жэмайты» — «ніжнія»).

Характар крыніц не дазваляе вызначыць своеасаблівасць мовы кожнай з этнічных супольнасцей (дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў), таму што яна не адлюстравана ў пісьмовых помніках. Яе немагчыма рэканструяваць таксама па матэрыялах дыялектаў беларускай мовы. Апошнія ўзніклі даволі позна, адначасова з фарміраваннем самой беларускай мовы.

---

[42] Литовско-русский словарь. С. 345.

Асновай дыялектаў беларускай мовы былі дыялекты агульнаўсходнеславянскай мовы, якія з'явіліся ў выніку трансфармацыі моў дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў. Дыялекты агульнаўсходнеславянскай мовы адлюстроўвалі не своеасаблівасць мовы дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў, а новыя тэрытарыяльныя адрозненні, лінгвістычныя зоны, што ўзніклі ў эпоху фарміравання агульнаўсходнеславянскай мовы і дэманстравалі новую лінгвістычную і этнічную рэальнасць. Метадам лінгвістычнай рэканструкцыі можна толькі вызначыць наяўнасць некаторых рыс, элементаў, што з'явіліся ў мовах усіх трох супольнасцей пад уплывам гаворкі асіміляванага славянамі балцкага насельніцтва. Гэтыя новыя элементы, верагодна, бытавалі ў лексіцы дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў. Да іх можна аднесці многія геаграфічныя назвы, асабліва гідронімы, якія перайшлі ў мовы трох супольнасцей з лексікі балцкага насельніцтва. Гэта назвы рэк: Ясельда, Арэса, Лосвіда, Брожа, Рэста, Палата і інш. Пад уплывам балтаў, мабыць, сфарміравалася такая рыса іх гаворкі, як паўнагалоссе. Г. А. Хабургаеў лічыць, што гэта новаўтварэнне з'явілася ў выніку ўзаемадзеяння славянскай і балцкай гаворак, сінтэзу непаўнагалосных спалучэнняў балцкіх і славянскіх слоў з адным і тым жа значэннем. Так, узаемадзеянне славянскага (польскага) glowa і балцкага (літоўскага) galva, магчыма, абумовіла з'яўленне новай формы з паўнагалоссем (галава), сінтэз славянскага (польскага) wrona і балцкага (літоўскага) varna меў сваім вынікам новую форму гэтага слова (варона). У далейшым, у эпоху фарміравання агульнаславянскага этнасу, гэта новаўтварэнне пашырылася па ўсёй тэрыторыі ўсходнеславянскага насельніцтва і стала характэрнай рысай агульнаўсходнеславянскай мовы[43]. Паўнагалоссе — не субстрат, а відазмяненне славянскай гаворкі пад уплывам балцкай. Уплыў балтаў адбіўся і на фізічным абліччы многіх груп дрыгавічоў, радзімічаў і полацкіх крывічоў. Іх антрапалагічны тып сфарміраваўся ў выніку змешвання славянаў з балтамі. Для яго характэрна доўгагаловасць, якая была ўласціва раней балцкаму насельніцтву, што жыло на тэрыторыі Беларусі да рассялення славянаў[44]. Такім чынам, даныя археалогіі, мовазнаўства і антрапалогіі сведчаць аб тым, што этнічныя супольнасці: дрыгавічы, радзімічы і крывічы — сфарміраваліся ў выніку сінтэза славянскіх і балцкіх груп насельніцтва. У культуры і мове гэтых этнічных супольнасцей спалучыліся славянскія і балцкія элементы. Іх культуры былі якаснымі новаўтварэннямі, у якіх пераважалі славянскія рысы. Пагэтаму новыя этнічныя супольнасці былі славянскімі. Яны адрозніваліся ад іншых славянскіх этнасаў спецыфічнымі рысамі культуры, узнікшымі пад уплывам балтаў.

Для характарыстыкі дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў важна вызначыць узровень развіцця і тып гэтых супольнасцей. Раней нашай навукай заніжаўся ўзровень развіцця крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў. Іх лічылі плямёнамі ці «саюзамі плямёнаў» і адносілі да родаплемяннай стадыі чалавечага грамадства. Мабыць, гэта не так. Да IX—X стст., калі сфарміраваліся гэтыя супольнасці, яны, асабліва крывічы і дрыгавічы, ужо дасягнулі больш высокай стадыі развіцця, падняліся на ступень раннекласавага грамадства і стварылі першапачатковыя дзяржавы, якія можна назваць прадзяржавамі. Для такой высновы ёсць шмат доказаў. У іх параўнаўча высока была развіта эканоміка. Асноўны гаспадарчы занятак даных этнічных супольнасцей — земляробства. Яны ўжо ведалі палявое ворнае

---

[43] Хабургаев Г. А. Становление русского языка. М., 1980. С. 113.

[44] Проблемы этнической истории балтов. С. 17—20.

земляробства. У земляробчай гаспадарцы пачалі выкарыстоўваць больш дасканалыя ворныя прылады, у прыватнасці з жалезным наканечнікам. На тэрыторыі дрыгавічоў жалезныя часткі ворнай прылады датуюцца часам не пазней IX ст., а ў арэале крывічоў — не пазней X ст. Значна ўдасканалены былі прылады для ўборкі збожжавых. У VIII—IX стст. у лясной зоне з'явіліся сярпы новага тыпу, якія вялі сваё паходжанне ад аналагічных рымскіх прылад. Важная прагрэсіўная з'ява ў земляробчай гаспадарцы таго часу — вырошчванне новай збожжавай культуры — азімага жыта. Яно лепш другіх збожжавых культур было прыстасавана да мясцовых умоў і давала ўстойлівыя ўраджаі. Пачатак вырошчвання азімага жыта на тэрыторыі Беларусі адносіцца да IX ст. Гэта збожжавая культура была вядома крывічам. Шматлікія зярняты яе знойдзены на гарадзішчы каля вёскі Свіла на Віцебшчыне. Гэта важная знаходка датавана IX ст.[45] У гэты час у крывічоў і дрыгавічоў была значна ўдасканалена вытворчасць жалеза, кавальскае рамяство. У ганчарстве пачаў выкарыстоўвацца ганчарны круг і спецыяльныя печы для абпальвання ганчарных вырабаў. Апрацоўка жалеза і гліны паступова сталі прафесійнымі відамі дзейнасці, асобнымі заняткамі. Рамёствы пачалі аддзяляцца ад земляробства. Гэта стварыла спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення пастаяннага гандлю. У IX—X стст. у крывічоў і дрыгавічоў з'явілася ўстойлівае грашовае абарачэнне. На тэрыторыі крывічоў, у прыватнасці на Полаччыне каля вёскі Казьянкі, знойдзены скарб таго часу, у якім было звыш 7500 манет[46]. У выніку такіх важных змен у гаспадарчых занятках у крывічоў і дрыгавічоў узніклі першапачатковыя гарады (прагарады). На тэрыторыі крывічоў у IX ст. узнік Полацк, а ў X ст. — Віцебск, а на тэрыторыі дрыгавічоў у X ст. з'явіўся першапачатковы горад Тураў. У гэты час змяняўся і сацыяльны склад насельніцтва. Яно падзялілася на знаць (князёў) і астатніх жыхароў. Першыя адрозніваліся ад другіх сваімі функцыямі і становішчам, якое адлюстравана ў пахаваннях. На Полаччыне ў адным з курганаў каля вёскі Баркі знойдзена каля 200 упрыгажэнняў[47]. У крывічоў і дрыгавічоў, у адрозненне ад папярэдніх балцкіх супольнасцей, усталявалася другая сістэма кіравання. Родаплемяннное кіраванне змянілася палітычным. Узніклі першапачатковыя дзяржавы, якія называліся «княжэннямі». У полацкіх крывічоў і дрыгавічоў кіраванне ўзначальвалі князі, якія атрымлівалі гэтыя пасады па спадчыне. Старажытныя пісьмовыя крыніцы называюць нават імёны такіх князёў (Рогвалад у полацкіх крывічоў, Тур у дрыгавічоў). У княжэннях меўся першапачатковы дзяржаўны апарат для збірання даніны. Гэтыя факты сведчаць аб тым, што памылкова называць крывічоў і дрыгавічоў, а верагодна, і радзімічаў плямёнамі, паколькі сярод іх ужо не было сацыяльнай роўнасці, аднолькавага сацыяльнага становішча ўсіх членаў супольнасці. У крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў знікла родаплемяннное дзяленне і родаплемяннное кіраванне. Памылкова называць гэтыя супольнасці і саюзамі плямёнаў, таму што калі не было плямёнаў, то не існавала асновы, падставы для іх саюза. Саюзамі плямёнаў звычайна называюць, асабліва ў этналагічнай літаратуры, часовыя аб'яднанні, якія заснаваны на дагаворы, што мае пэўны тэрмін дзеяння. У саюзы могуць аб'ядноўвацца і няроднасныя плямёны, якія адрозніваюцца сваёй культурай, мовай. Такім чынам, саюзы плямё-

---

[45] Коробушкина Т. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Мн., 1979. С. 70—73.

[46] Рябцевич В. О чем рассказывают монеты. Мн., 1977. С. 55.

[47] Штыхов Г. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978. С. 11.

наў — гэта часовыя іх аб'яднанні, якія вызначаюць пэўныя адносіны паміж плямёнамі. Што датычыцца крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, то ў адрозненне ад такіх саюзаў яны былі перш за ўсё культурнымі супольнасцямі, якія ўзніклі не на аснове дагавору, а сфарміраваліся стыхійна. Яны не плямёны і не саюзы плямёнаў, а першапачатковыя народы (пранароды) пачатковага этапу раннекласавага грамадства. Археолаг П. М. Траццякоў называў іх «народцамі»[48].

Такім чынам, яшчэ ў старажытнасці насельніцтва на тэрыторыі Беларусі прайшло вялікі шлях ад дзікасці да пачатку цывілізацыі, ад першабытнай сістэмы кіравання да першапачатковай дзяржавы, ад першабытных плямёнаў да першапачатковых народаў.

[48] Третьяков П. М. У истоков древнерусской народности. С. 70.

## УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ ПРОДКІ БЕЛАРУСАЎ

Крывічы, дрыгавічы і радзімічы як этнічныя (культурныя) супольнасці існавалі да сярэдзіны XII ст. і адыгралі важную ролю ў айчыннай гісторыі. Менавіта яны стварылі на тэрыторыі Беларусі першапачатковую цывілізацыю. Крывічы, дрыгавічы і радзімічы таксама ўдзельнічалі ў фарміраванні вялікага агульнаўсходнеславянскага этнасу (народа), яго тэрыторыі, якая атрымала назву «Русь». Народ адпаведна стаў называцца «рускім», а яго людзі — «русамі», «русічамі», «русінамі», «рускімі». Гэты новы агульнаўсходнеславянскі этнас і яго тэрыторыя пачалі фарміравацца за межамі тэрыторыі Беларусі, у мясцовасцях, размешчаных на поўдні і на поўначы ад яе, — у Сярэднім Падняпроўі і Паволхаўі. Зараджэнне новага народа ў гэтых дзвюх аддаленых адна ад другой мясцовасцях адбывалася адначасова — у IX—X стст. Тут у гэты час былі спрыяльныя ўмовы для больш хуткага развіцця эканомікі, сацыяльных адносін, культуры. Знешнія ўмовы жыцця насельніцтва гэтых мясцовасцей, менавіта неабходнасць аб'яднання ў барацьбе супраць знешніх ворагаў (на поўдні — хазараў, печанегаў, полаўцаў, на поўначы — варагаў), таксама садзейнічалі згуртаванню першасных усходнеславянскіх супольнасцей у новы этнас (народ). Першымі ў новы этнас кансаліднаваліся паляне і заходнія северане ў Сярэднім Падняпроўі і славены і паўночныя (пскоўскія) крывічы ў Паволхаўі.

Паляне і заходнія северане жылі ў лесастэпавай зоне, якая ў той час была спрыяльнай для земляробства. Тут амаль не трэба было расчышчаць зямлю ад лесу. Тут раней з'явіліся больш прадукцыйныя земляробчыя прылады працы, выкарыстоўвалі больш моцную цяглавую сілу — валоў. Тут раней пачалі практыкаваць паравую сістэму. Больш хуткае развіццё земляробства стала ўмовай і больш хуткага развіцця рамёстваў: кавальскага, ганчарнага і інш. Ганчарны круг, напрыклад у Сярэднім Падняпроўі, выкарыстоўвалі ўжо ў IX ст. Сярэдняе Падняпроўе мела вельмі спрыяльныя ўмовы і для хуткага развіцця гандлю, як унутранага, так і знешняга. Паўночныя і паўднёвыя раёны Сярэдняга Падняпроўя звязвала самая вялікая рака ў гэтым рэгіёне — Дняпро, у які з усходу ўпадалі рэкі Дзясна, Трубеж, Супой, Сула, а з захаду — Рось, Стугна, Ірпень, Цецераў, Прыпяць. Гэтыя рэкі разам з Дняпром злучалі ўсходнія і заходнія раёны з паўночнымі і паўднёвымі ў адзінае цэлае. Праз Сярэдняе Падняпроўе праходзілі гандлёвыя шляхі, што звязвалі лясную і стэпавую зоны, а таксама поўнач Еўропы (Скандынавію) з Візантыяй, Арабскім

Халіфатам. Сярэдняе Падняпроўе з'явілася таксама фарпостам у барацьбе са стэпавымі знешнімі ворагамі: хазарамі, печанегамі, полаўцамі, — якія імкнуліся падпарадкаваць сабе жыхароў лесастэпавай і ляснай зонаў. Паляне і северане разам з радзімічамі і вяцічамі плацілі даніну хазарам. Насельніцтва Сярэдняга Падняпроўя зразумела неабходнасць аб'яднання, згуртавання, каб абараніць свае землі. Усё гэта абумовіла карэнныя змены ва ўкладзе жыцця, сацыяльнай структуры, характары паселішчаў жыхароў Сярэдняга Падняпроўя, стала прычынай таго, што тут у IX—X стст. узнікла самая вялікая колькасць гарадоў. Ужо ў гэты час у Сярэднім Падняпроўі існавала каля 10 гарадоў. На землях палянаў з'явіліся гарады Кіеў, Вышгарад, Белгарад, Васільеў, а на суседніх з палянамі землях заходніх севяранаў — Чарнігаў, Пераяслаўль[49]. Гарады прыцягвалі і ўключалі ў свой асяродак людзей рознай этнічнай прыналежнасці і перш за ўсё людзей суседніх супольнасцей. У гарадах палянаў пасяляліся і заходнія северане, а ў гарадах заходніх севяранаў — частка палянаў. Апрача таго, у гарадах палянаў і заходніх севяранаў, асабліва ў парубежных, якія знаходзіліся на паўднёвай граніцы, для абароны была паселена частка крывічоў, славенаў, вяцічаў, а таксама невялікія групы фінамоўнай чудзі і скандынаўскіх варагаў. У жыхароў гарадоў і сельскіх паселішчаў фарміраваліся агульныя інтарэсы, агульныя рысы культуры, мовы. Паляне, заходнія северане і невялікія групы крывічоў, славенаў, вяцічаў, чудзі і варагаў кансалідаваліся ў новую супольнасць, якая атрымала назву «русы», «русічы», «русіны», «рускія», а зямля гэтай новай супольнасці — назву «Русь», «Руская зямля». Спачатку тэрмін «русь» быў назвай невялікай і прытым хутка аславяненай групы знаці паўночнага паходжання — менавіта скандынаўскіх варагаў. Потым гэту назву сталі ўжываць для наймення ўсёй сярэднедняпроўскай знаці, не толькі паўночнага паходжання, якая ўключала невялікія групы (скандынаўскую, фінамоўную), але і мясцовыя, паўднёвыя, пераважна палянскай і севяранскай этнічнай прыналежнасці. Тэрмін «русь», такім чынам, стаў абазначаць кансалідаваную не толькі палітычна, але і этнічна (культурна) усю сярэднедняпроўскую знаць[50]. Затым гэты тэрмін стаў ужывацца для наймення палітычнай арганізацыі (дзяржавы), і гэта зразумела, таму што знаць і была першапачатковым дзяржаўным апаратам (дзяржавай). А найменне апарата кіравання (дзяржавы) стала адначасова і найменнем яе тэрыторыі, атрымала значэнне тэрыторыі дзяржавы, а назва дзяржаўнай тэрыторыі затым перайшла на найменне яе жыхароў. Тэрмін «русь» стаў абазначаць не толькі дзяржаўную тэрыторыю, але пераўтварыўся таксама ў этнічную (культурную) назву, таму што ў жыхароў Сярэдняга Падняпроўя сфарміравалася адзіная («руская») мова[51], агульныя рысы культуры, агульная этнічная самасвядомасць. Яны ўсведамлялі і называлі сябе «русамі», «русічамі», «русінамі», «рускімі», а сваю зямлю — «Руссю», «Рускай зямлёй»[52]. Новы этнас быў славянскім. «А словеньскый язык и рускый адно есть», — гаворыцца ў старажытным летапісе[53].

Адначасова з палянамі і заходнімі северанамі Сярэдняга Падняпроўя ў новы ўсходнеславянскі этнас кансалідаваліся таксама славены і паўночныя крывічы Паволхаўя, якое знаходзілася ў ляснай зоне. У Паволхаўі, як і ў Сярэднім Падняпроўі, было шмат рэк, як вялікіх, так

[49] Древняя Русь. Город, замок, село. М., 1985. С. 32—33.

[50] Попов А. Названия народов СССР. Л., 1973. С. 59.

[51] Повесть временных лет. Т. 1. С. 23.

[52] Ловмяньский Х. Русь и норманны. М., 1985. С. 262—263.

[53] Полное собрание русских летописей. Т. 1. М., 1962. С. 28.

і малых, размешчаных непадалёку адна ад другой. Край гэты меў спрыяльныя ўмовы для развіцця рамёстваў і, што асабліва важна, для развіцця гандлю, як унутранага, так і знешняга. Гэта абумовіла ранняе ўзнікненне тут гарадоў. У зямлі славенаў у VIII—IX стст. спачатку была пабудавана Ладага, а потым Ноўгарад, а ў зямлі суседніх ім паўночных крывічоў з'явіліся гарады Пскоў і Ізборск, пабудаваныя не пазней X ст. Насельніцтва гарадоў было змешаным па этнічнаму складу. У гарадах пасяліліся як усходнеславянскія групы (славены і крывічы), так і неславянскія групы людзей: фінамоўныя (чудскія) і германамоўныя (варагі). Як і ў Сярэднім Падняпроўі, спачатку насельніцтва гарадоў, а потым і сельскіх паселішчаў кансалідавалася ў новы этнас, які таксама атрымаў назву «русаў», «русічаў», «русінаў», «рускіх», а яго тэрыторыя — «Русь». Адбылося гэта так таму, што і ў Паволхаўі частка знаці была скандынаўскай па паходжанню. Яна таксама хутка аславянілася, злілася з астатняй знаццю (славенскай, крывіцкай, фінамоўнай), перадаўшы ёй сваё імя. Кансалідаваўшыся палітычна і культурна (этнічна), знаць Паволхаўя стала звацца адным імем — «русы», «русічы», «русіны», «рускія». Тут, як і ў Сярэднім Падняпроўі, паступова ўсё насельніцтва згуртавалася ў новы этнас, тэрыторыя якога таксама стала звацца «Руссю».

Такім чынам, у IX—X стст. на поўдні і на поўначы ўсходнеславянскіх зямель адначасова ўзніклі дзве часткі новай этнічнай супольнасці. У гэтых дзвюх частках новай этнічнай тэрыторыі з'явіліся дзве новыя дзяржавы. Паміж Паволхаўем і Сярэднім Падняпроўем даволі рана ўсталяваліся эканамічныя і палітычныя сувязі, абумоўленыя тым, што гарады гэтых зямель былі звязаны агульным Волга-Дняпроўскім гандлёвым шляхам і пагэтаму былі зацікаўлены ў сумесных намаганнях абараніць гэты гандлёвы шлях, свае землі ад знешніх ворагаў. Усё гэта было прычынай аб'яднання дзвюх дзяржаў. Ужо ў апошняй чвэрці IX ст. некаторыя князі (у прыватнасці Алег) з паўночных усходнеславянскіх гарадоў перайшлі ў Сярэднедняпроўскую Русь, менавіта ў Кіеў, узначаліўшы тут мясцовую знаць, захаваўшы пры гэтым сваю вярхоўную ўладу ў Паволхаўі[54]. Злучэнне Паволхаўя і Сярэдняга Падняпроўя адным агульным кіраваннем сведчыла аб узнікненні адзінай палітычнай арганізацыі (новай дзяржавы), названай таксама «Руссю». У рамках гэтай новай дзяржавы працягвалася фарміраванне ўсходнеславянскага этнасу, яго этнічнай тэрыторыі.

Новая дзяржава — Русь — адыграла важную ролю ў збіранні, згуртаванні ўсходнеславянскіх зямель. Ужо ў IX ст. у склад гэтай дзяржавы былі ўключаны землі дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў. У X ст. іх землі былі замацаваны як састаўныя часткі гэтай палітычнай арганізацыі. Іх насельніцтва пазбавілася ад спустошальных набегаў знешніх ворагаў. Радзімічы перасталі плаціць даніну хазарам, а некалькі пазней крывічы — варагам[55]. Даніна, якую яны сталі плаціць рускім князям, выкарыстоўвалася не толькі для ўтрымання гэтых князёў і іх дружын, але, што асабліва важна, і на стварэнне абарончых збудаванняў. Новая вялікая дзяржава забяспечыла спрыяльныя знешнія ўмовы для развіцця ўсходнеславянскіх зямель, у тым ліку і цэнтральных. Яна палепшыла і ўнутрыпалітычныя ўмовы іх развіцця, садзейнічала ўзнікненню тут новых гарадскіх паселішчаў. У перыяд з канца X ст. да пачатку XII ст. на тэрыторыі Беларусі з'явілася шмат новых гарадоў. Менавіта ў гэты час заснаваны Заслаў'е, Ваўкавыск, Бярэсце, Лукомль, Орша, Копысь, Рагачоў, Друцк,

[54] Полное собрание русских летописей. Т. 1. С. 19—24.

[55] Там жа. Т. 1. С. 24, 83—84.



3. Шахматная пешка. XII ст. Ваўкавыск. Фотаздымак П. М. Захарэнкі



4. Шахматная ладдзя. XII ст. Гродна. Фотаздымак П. М. Захарэнкі

Менск, Лагойск, Браслаў, Слуцк, Клецк, Пінск, Гродна. Узнікненне і развіццё вялікай колькасці гарадоў у басейнах Прыпяці, Нёмана, Заходняй Дзвіны, Верхняга Дняпра было асноўнай прычынай глыбокіх змен у этнічным (культурным) абліччы насельніцтва гэтага краю. Спачатку ў гарадах, а потым і ў сельскіх паселішчах адбылося змешванне крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў і асобных груп балтаў, што не былі асіміляваны ў папярэдні час, калі фарміраваліся крывічы, дрыгавічы, радзімічы. Гэтыя асобныя групы балтамоўнага насельніцтва ў канцы X—XI стст. невялікімі астраўкамі размяшчаліся ў арэалах крывічоў і радзімічаў[56]. У адрозненне ад Сярэдняга Падняпроўя і Паволхаўя, у басейнах Прыпяці, Нёмана, Заходняй Дзвіны і Верхняга Дняпра змешванне розных этнічных (культурных) груп адбывалася некалькі пазней, у асноўным у перыяд з канца X ст. да пачатку XII ст., калі на поўдні і на поўначы ад гэтага краю ўжо завяршылася фарміраванне новага этнічнага (культурнага) аблічча насельніцтва. У гэты час яно ўжо было «рускім». Гэта зрабіла моцны ўплыў на напрамак і характар этнічных працэсаў (змяненне культурных супольнасцей) на тэрыторыі Беларусі ў канцы 1 — пачатку 2 тыс. г. н. э. Шматлікія гарады Папрыпяцця, Панямоння, Падзвіння і Верхняга Падняпроўя ў гэты перыяд былі цесна звязаны з гарадамі Сярэдняга Падняпроўя і Паволхаўя, у якіх насельніцтва па культуры і мове было ўжо «рускім». Другім важным фактарам, які вызначыў напрамак змен у этнічным (культурным) абліччы мясцовага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі, было ўключэнне яго ў склад старажытнай дзяржавы Русь, а таксама рэформа кіравання яе землямі, якую ажыццявіў у канцы X ст. кіеўскі князь Уладзімір. Сутнасць гэтай рэформы заключалася ў адмене ранейшага парадку, калі князямі, правіцелямі асобных рэгіёнаў (княстваў) былі прадстаўнікі мясцовай дарускай знаці. З гэтага часу вялікімі і мясцовымі

[56] Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. С. 11, 140—141.



5. Шахматны кароль. XII ст. Лукомль. Фотаздымак П. М. Захарэнкі

князямі маглі стаць толькі прадстаўнікі вялікакняжацкага роду — сыны вялікага кіеўскага князя або іншыя яго родзічы[57]. Новыя князі мелі рускія дружыны. Дружыны мясцовых рускіх князей аказвалі значны культурны ўплыў на астатнюю знаць гарадскіх і вясковых паселішчаў, садзейнічалі пераўтварэнню яе ў знаць рускую. Князі і іх дружыны імкнуліся згуртаваць мясцовае насельніцтва не толькі палітычна, але і этнічна (культурна), фарміраваць агульныя рысы ў мове, духоўнай культуры. Яны першымі прынялі новую, хрысціянскую рэлігію і актыўна распаўсюджвалі яе сярод крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Пашырэнне хрысціянства было важнай умовай умацнення агульных рыс у рэлігійных вераваннях, а таксама іншых сферах жыцця (асабліва грамадскай, сямейнай, ва ўзнікшым прафесійным мастацтве). Хрысціянінам быў полацкі князь Ізяслаў Уладзіміравіч. У сярэдзіне XI ст. у Полацку пабудаваны Сафійскі сабор, вельмі падобны на аднайменныя саборы ў Ноўгарадзе і Кіеве. Многія рысы прафесійнай архітэктуры Кіеўшчыны характэрны і для Вялікага сабора Бельчыцкага манастыра пад Полацкам (ён пабудаваны ў першай палове XII ст.). У гэты ж час узведзены хрысціянскія храмы ў Віцебску і Гродне. Апошні таксама мае вялікае падабенства з царкоўнымі будынкамі Кіеўшчыны[58]. Хрысціянства прыняла і мінская знаць. Гэту рэлігію выспавядаў мінскі князь Глеб. Ужо ў XI ст. у Мінску было пачата будаўніцтва каменнай царквы[59]. У сярэдзіне



6. Абразок з выявай Спаса Эмануіла. XII ст. Пінск. Фотаздымак П. М. Захарэнкі

---

[57] Полное собрание русских летописей. Т. 1. С. 121.

[58] Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1. С. 57—73.

[59] Загорульский Э. Возникновение Минска. Мн., 1982. С. 189—202.



7. Падвеска. XI ст. Заслаў'е. Фотаздымак П. М. Захарэнкі



8. Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку. XII ст. Фотаздымак У. Б. Жарко

XII ст. была пабудавана хрысціянская царква ў Тураве. Пад уплывам хрысціянскай рэлігіі відазмяняецца пахавальны абрад мясцовага насельніцтва. Спачатку на Палессі, а затым і на Полаччыне абрад крэмацыі замяняецца абрадам трупапалажэння. Паступова выходзяць з ужытку назвы ранейшых этнічных супольнасцей: кры-



9. Каложская царква ў Гродне. XII ст. Фотаздымак У. Б. Жарко

вічоў, дрыгавічоў, радзімічаў. Апошняе ўпамінанне назвы дрыгавічоў датуецца 1149 г., крывічоў (як асобнай этнічнай супольнасці) — 1162 г., радзімічаў — 1169 г.[60] Гэтыя назвы замяняюцца адной агульнай — «русы», «русічы», «русіны», «рускія», а землі — крывіцкая, радзіміцкая і дрыгавіцкая, як і землі Сярэдняга Падняпроўя, Паволхаўя, — «Русь», «Руская зямля». У «Аповесці мінулых гадоў» (першая палова XII ст.) Полацк названы ўжо рускім горадам, як і Пераяслаўль, Кіеў, Чарнігаў. У скандынаўскай сазе першай паловы XIII ст. адзначаецца, што горад Полацк знаходзіцца на Русі, як і Смаленск, і Ноўгарад, і Кіеў, а жыхары Полацка, якія мужна змагаюцца супраць скандынаўскіх князей (канунгаў), названы рускімі[61]. У дагаворы палачан з рыжанамі ў першай палове XIV ст. (1338—1341) Полаччына названа «Рускай зям-

[60] Хабургаев Г. А. Этнонимика «Повести временных лет». С. 165.

[61] Веселовский А. Русские и вильтины в саге о Тидреке Бернском (Веронском) // Известия Отделения русского языка и словесности Имп. Академии Наук. 1906. Т. XI. Кн. 3. СПб., 1906. С. 134, 136, 183—185.

лёй»[62]. У пазнейшых летапісах полацкія князі і баяры таксама названы «рускімі», а Полацкае княства — «Рускім». Руссю называлася не толькі Полаччына, але і Віцебшчына, і Аршаншчына, і Тураўшчына[63]. Першапачатковым вызначэннем гарадоў Полаччыны, Віцебшчыны, Аршаншчыны і Тураўшчыны як рускіх тлумачыцца, мабыць, і ўключэнне ў складзены пазней спіс рускіх гарадоў («А се имена градом всем Рускымъ, дальним и ближним») Турава, Пінска, Бярэсця, Слуцка, Клецка, Рагачова, Менска, Друцка, Лукомля, Полацка, Віцебска, Оршы[64]. Найменне насельніцтва Тураўшчыны і Полаччыны «рускім», а гэтай тэрыторыі — «Руссю», «Рускай зямлёй» зрабіла ўплыў і на назву дзяржавы, у якую гэта насельніцтва было ўключана ў XIII—XIV стст. Гэта дзяржава стала называцца Вялікім княжаннем (княствам) Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. Правіцелі яе адпаведна мелі тытул вялікіх князёў літоўскіх, рускіх і жамойцкіх. Такі тытул, у прыватнасці, быў у Гедыміна (1316—1341) і Альгерда (1341—1377)[65]. Назва гэтага палітычнага аб'яднання — Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — адлюстроўвала своеасаблівасць этнічнага складу яго насельніцтва. Па этнічных прыкметах яно дзялілася на літоўцаў (ці аўкштайтаў), рускіх і жэмайтаў. Самай вялікай этнічнай супольнасцю ў гэтай дзяржаве была ўсходнеславянская («руская»).

Культура і мова, і нават назвы людзей усходнеславянскай этнічнай супольнасці былі разнастайнымі. Такая разнастайнасць існавала і на тэрыторыі Беларусі. Яе тэрыторыя адносілася да дзвюх дыялектна-этнаграфічных зон Русі. У першую ўваходзіла Папрыпяцце, у другую — Полаччына, Віцебшчына, Магілёўшчына. Мяжой паміж гэтымі зонамі, магчыма, была рака Нёман. У Папрыпяцці галоўная земляробчая прылада — саха — была больш масіўная. Галоўная своеасаблівасць такой сахі заключалася ў тым, што ў ёй левы сашнік ставілі пад тупым вуглом да правага. Іх злучалі такім чынам, каб скіба зямлі адвальвалася ўправа, так, як гэта адбывалася, калі аралі плугам. Тут былі пашыраны многавугольныя гумны, некаторыя своеасаблівыя рысы мела світа (з бакавымі ўстаўкамі). У Папрыпяцці часцей ужываўся і меў больш развітую форму каравайны абрад. Тут раней, чым у Падзвінні і Падняпроўі, усталявалася новая традыцыя — адзначаць новы год не вясною, а зімою. Таму тут раней узнікла зімовае навагодняе свята — Каляды. Яно было больш пашырана і з'яўлялася больш яркім, маляўнічым, чым у Падзвінні і Верхнім Падняпроўі. Насельніцтва Папрыпяцця адрознівалася ад жыхароў Падзвіння і Верхняга Падняпроўя і асаблівасцямі гаворкі. У Папрыпяцці гукі «р» і «ч» сталі вымаўляць цвёрда. У гаворцы насельніцтва Папрыпяцця з'явіліся дыфтонгі (спалучэнне ў адным складзе дзвюх галосных) «ўо», «іе»[66]. У насельніцтва Папрыпяцця ў адрозненне ад жыхароў Падзвіння і Верхняга Падняпроўя быў больш нізкі рост, больш цёмныя валасы[67]. Папрыпяцце, да якога адносіліся паўднёвыя землі сучаснай Беларусі і паўночныя землі сучаснай Украіны, адрознівалася ад Падзвіння і Верхняга Падняпроўя і сваёй назвай. Летапісныя крыніцы сведчаць, што гэта

---

[62] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. М., 1977. С. 41.

[63] Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. С. 57—58, 130.

[64] Нерознак В. Названия древнерусских городов. М., 1983. С. 193—195.

[65] Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. С. 131, 149, 197, 199, 218, 222—223.

[66] Филин Ф. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Л., 1972. С. 46, 65—66.

[67] Саливон И., Тегако Л., Микулич А. Очерки по антропологии Белоруссии. Мн., 1976. С. 10—11, 263—264; Бунак В. Антропологические исследования в Южной Белоруссии // Труды Института этнографии. М., 1956. Т. 33. С. 21.

3 Зак. 1789

частка этнічнай тэрыторыі Русі называлася «Палессем», а яе жыхары — «палешукамі»[68]. Назва «палешукі» была мясцовай (рэгіянальнай) назвай «русаў», «русічаў», «русінаў», «рускіх» і змяніла тут такія назвы, як «дрыгавічы», «драўляне». Палешукі ў той час жылі ў некалькіх асобных самастойных усходнеславянскіх дзяржавах, у прыватнасці ў Пінскім, Слуцкім, Кобрынскім і іншых княствах, і адпаведна падзяляліся на больш дробныя тэрытарыяльна-палітычныя або проста тэрытарыяльныя групы са сваімі назвамі (піняне, случане, берасцяне і інш.).

На поўнач ад Палесся, за Нёманам пачыналася другая дыялектна-этнаграфічная зона Русі, да якой адносіліся, у прыватнасці, Падзвінне і Верхняе Падняпроўе. Асноўнай земляробчай прыладай у гэтай зоне была саха з перакладной паліцай. У адрозненне ад палескай яна не была такой груваcткай. Для арання такою сахою выкарыстоўвалі не валоў, а коней. Сашнікі ў такой сасе ставілі паралельна адзін другому, а для адвалу зямлі прымацоўвалі каля іх лапатку, якая называлася «паліцай». У Падзвінні гэту паліцу ў час арання перакладвалі ад аднаго сашніка да другога і таму называлі «перакладной паліцай», «перакладкай». Гумны ў гэтай зоне мелі прамавугольную форму. Тут пераважала світа прамога крою[69], каравай быў менш пашыраны. Састаўным элементам вясельнага абраду ў гэтай зоне была рытуальная баня нявесты (а іншы раз і жаніха). У некаторыя моманты вяселля, менавіта ў час дзявочага вечара (зборнай суботы), выконваліся галашэнні — сумныя, драматычнага зместу песні. У некаторых мясцовасцях Падзвіння і Верхняга Падняпроўя перад пачаткам вясельнай бяседы, адорваннем жаніха і нявесты выконвалі спецыяльную абрадавую песню, якая звалася «першай вясельнай песняй», «зачынальнай», «стаўбавой». Яе выконвалі каля «стаўба» (слупа), размешчанага побач з печчу. У гэтай зоне трывала захоўваліся звычаі і абрады ранейшага (вясновага) новага года — «валачобныя», праўда, некалькі змененыя пад уплывам хрысціянскай рэлігіі. У гэтай зоне таксама адбыліся некаторыя змены ў гаворцы мясцовага насельніцтва. Зычны гук «д» тут сталі вымаўляць мякчэй («дзеканне»)[70], а галосны гук «о» не пад націскам пачалі вымаўляць як «а», гэта значыць, акрамя «дзекання» тут з'явілася таксама «аканне»[71]. Насельніцтва Падзвіння і Верхняга Падняпроўя адрознівалася ад насельніцтва Папрыпяцця і некаторай своеасаблівасцю фізічнага аблічча. Яно мела больш высокі рост, больш шырокі твар, больш светлы колер скуры[72]. Падзвінне і Верхняе Падняпроўе і яго жыхары ў параўнанні з Папрыпяццем мелі і асобную назву. Гэтыя землі сталі звацца «Белай Руссю», а іх жыхары — адпаведна «беларусцамі». Назва «Белая Русь» для абазначэння зямель Падзвіння і Верхняга Падняпроўя стала ўжывацца ў час палітычнай раздробленасці, не пазней XIII ст.[73] У XIV ст. гэта назва, мяркуючы па пісьмовых крыніцах і даных усходнеславянскага фальклору, ужо замацавалася. Першай чвэрцю XIV ст. (1318) датуецца найменне Белай Руссю Віцебшчыны[74]. Прыкладна ў той жа час (1325) Белай Руссю названа заходняя частка падзвінска-дняпроўскага рэгіёна, размешчаная

[68] Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2. С. 873.

[69] Этнография восточных славян. М., 1987. С. 156.

[70] Wexler P. A historical phonology of the Byelorussian language. Heidelberg, 1977. P. 169—182.

[71] Полное собрание русских летописей. Т. 2. С. 859, 867—868, 933.

[72] Саливон И., Тегако Л., Микулич А. Очерки по антропологии Белоруссии. С. 10—11, 260—264.

[73] Татищев В. М. История Российская. М.-Л., 1962. Т. 1. С. 438.

[74] Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 203.




10. Схема паводле карты І. Буно. Лондан. 1711 г.

каля этнічнай Літвы. Гэта сведчанне ёсць у Іпацьеўскім летапісе[75]. У ім жа папрыпяцкі рэгіён названы Палессем. Самай вядомай звесткай пра Белую Русь у Падзвінні з'яўляецца тая, у якой Белай Руссю называецца Полаччына. Яна змешчана ў «Хроніцы Польшчы». У гэтай пісьмовай крыніцы Полацк названы крэпасцю Белай Русі. Гэта звестка датуецца 1382 г.[76] Найменне «Белая Русь» сустракаецца ў валачобных песнях, пашыраных пераважна ў падзвінска-дняпроўскім рэгіёне. У адной з такіх песень, запісанай на Віцебшчыне, гаворыцца:

Святы Аляксей сохі чэшыць,
Святы Юр'я — божы пасол,
А ўзяў ён ключы залатыя,
Адамкнуў зямлю сырусенькую,
Пусціў расу цяплюсенькую
На Белую Русь і на ўвесь свет[77].

Культурныя і моўныя рысы, уласцівыя насельніцтву Падзвіння і Верхняга Падняпроўя, былі характэрны і для суседніх з імі земляў, як на поўдні, так і на поўначы. На поўдні гэты культурны рэгіён уключаў раёны, у якіх размяшчаліся гарады Заслаўе, Менск, Барысаў, Друцк, Мсціслаўль. Паўночнымі яго часткамі былі Пскоўшчына, Цвярскі край. Яго паўночныя межы праходзілі на правым беразе Волгі. Такім чынам, тэрыторыя, якую называлі «Белай Руссю», была вельмі

[75] Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ч. 3: Ипатьевская летопись. СПб., 1843. С. 227.

[76] Manczak W. Biala, Czarna i Czerwona Rus. International Journal of Slavic linguistics and poetics. 1975. № 19. P. 13.

[77] Валачобныя песні. Склад. Барташэвіч Г., Салавей Л. Мн., 1980. С. 8—9, 115.

вялікай. Па даных В. М. Тацішчава, яна ахоплівала землі ад вярхоўяў Заходняй Дзвіны і вярхоўяў Волгі да вярхоўяў Нёмана, уключаючы ў свой арэал, у прыватнасці, Цвярскі, Смаленскі, Мсціслаўскі, Друцкі край[78]. Паколькі некаторыя землі гэтага вялікага рэгіёну, у прыватнасці Маскоўскі край, названы «Белай Руссю» ўжо ў другой палове XII ст.[79], можна меркаваць, што з гэтага часу і бярэ свой пачатак старажытная Белая Русь. Для навукі яшчэ застаецца загадкай, чаму гэта частка Русі (ад Нёмана да Волгі) была названа Белай. Магчыма, слова «Белая» сімвалізавала яе сярэдняе, цэнтральнае месцазнаходжанне ў адрозненне ад «Вялікай» і «Малой» (або «Чырвонай») Русі, якія знаходзіліся адпаведна на поўначы і на поўдні ад «Белай Русі»[80]. Цікава адзначыць, што назва гэтай вялікай часткі Русі («Белая Русь»), як сведчаць старажытныя летапісы, змест якіх запісаў В. М. Тацішчаў, замяніла існаваўшыя тут раней папярэднія назвы «Крэў» (або Вярхоўе, дзе раней жылі крывічы), «Мурама», «Мера»[81]. Ад назвы «Белая Русь» паходзіць назва яе жыхароў — «беларусцы». Пагэтаму можна сцвярджаць, што найменне жыхароў гэтай часткі Русі — «беларусцы» — замяніла назвы ранейшых мясцовых супольнасцей — крывічоў, вяцічаў і часткова суседніх радзімічаў. У час палітычнай раздробленасці (XII—XIII стст.) «беларусцы» жылі ў некалькіх асобных самастойных дзяржавах: Полацкім, Менскім, Друцкім, Смаленскім, Пскоўскім і іншых княствах — і адпаведна дзяліліся на больш дробныя тэрытарыяльна-палітычныя або проста тэрытарыяльныя групы са сваімі назвамі (палачане, віцябляне, мяняне, смальняне, пскавічы і інш.). Адным з самых буйных эканамічных, палітычных і культурных цэнтраў «Белай Русі» быў Полацк і яго акруга — Полаччына.

Старажытныя «беларусцы» і старажытныя «палешукі» і былі непасрэднымі продкамі беларускага этнасу, а старажытная Белая Русь, старажытнае Палессе — тымі тэрыторыямі, з якіх утварылася этнічная тэрыторыя Беларусі.

[78] Татищев В. М. История Российская. Т. 1. С. 356.

[79] Там жа. С. 438.

[80] Рогалеў А. Ф. Ля вытокаў Белай Русі // Літаратура і мастацтва. 18 сакавіка 1988, С. 16.

[81] Татищев В. М. История Российская. Т. 1. С. 355.

## ПАЧАТАК БЕЛАРУСКАГА ЭТНАСУ

Фарміраванне беларускага этнасу адбывалася ў новых гістарычных, эканамічных і палітычных умовах, якія склаліся ў XIII—XVI стст.

У першую чаргу змяніліся гістарычныя ўмовы развіцця насельніцтва краю. У XIII—XIV стст. на захадзе і на ўсходзе ад яго з'явіліся новыя знешнія ворагі, прытым вельмі моцныя. На захадзе над краем навісла крыжацкая навала, на ўсходзе — татарская. Нападам крыжакоў асабліва часта падвяргалася яго паўночна-заходняя частка, у прыватнасці Полаччына, а нападам татараў — паўднёва-ўсходняя, менавіта Палессе. Спусташальныя набегі новых знешніх ворагаў на Полаччыну і Палессе перашкаджалі развіццю іх гарадоў. Найбольш спрыяльныя ўмовы для эканамічнага, палітычнага і культурнага прагрэсу ў гэты час склаліся ў яго сярэдняй частцы (Панямонні, Міншчыне, Падняпроўі), больш аддаленай як ад крыжакоў, так і ад татараў. Таму менавіта тут больш хутка раслі як тыя гарады, што ўзніклі раней, так і новыя, што з'явіліся ў сярэдняй частцы краю ў гэты час.

У паўночным Панямонні ў XIII—XIV стст. узвысіўся Навагрудак. Гараджане Навагрудка займаліся кавальскім, ювелірным, кастарэзным, ганчарным рамёствамі. У горадзе былі пабудаваны вялікія дамы, частка — са шклянымі вокнамі. Восем асноўных вуліц выходзілі на галоўную плошчу. У сярэдзіне XVI ст. у Навагрудку існавала 10 праваслаўных цэркваў і адзін касцёл, у XIII—XVI стст. быў пабудаваны моцны каменны замак — крэпасць з 7 вежамі. У першай чвэрці XVI ст. (1511) Навагрудак атрымаў магдэбургскае права (самакіраванне). Навагрудак стаў таксама буйным палітычным цэнтрам. У XIII—XIV стст. ён з'яўляўся сталіцай Навагрудскага княства, якое тады называлі ў летапісах Вялікім княствам Навагрудскім, а яго князей — вялікімі князямі навагрудскімі[82]. У Навагрудку складаліся летапісы. Ад Навагрудка ішлі дарогі на Слонім, Ліду, Ашмяны, Гродна, Мінск.

З XII—XIII стст. адбываецца таксама эканамічны рост Гродна. Тут пашырыўся пасад, створаны Барысаглебскі манастыр, некалькі праваслаўных цэркваў, касцёл, ратуша, новая гандлёвая плошча. У першай палове XVI ст. у Гродне з'явіўся вадаправод. У XIII—XVI стст. крэпасць гэтага горада была перабудавана ў магутны каменны замак з 5 вежамі. У XVI ст. у Гродне было звыш 700 дамоў, налічвалася каля 4 тысяч жыхароў[83]. У канцы XVI ст. у Гродне была пабудавана тыпаграфія, у якой друкавалі кніжкі на беларускай мове. Ад Гродна ў паўднёвым напрамку ішлі дарогі на Ваўкавыск, Бярэсце, у паўночным — на Ліду, Ашмяны, ва ўсходнім — на Навагрудак, Мінск.

З XII—XIII стст. хутка развіваецца і горад Мінск. Яго жыхары займаліся



11. Грэбень. XIII ст. Мінск. Фотаздымак П. М. Захарэнкі

кавальскім, ганчарным, дрэваапрацоўчым, грабарным, кастарэзным, ювелірным рамёствамі[84]. У познім сярэдневякоўі ў Мінску налічвалася некалькі дзесяткаў рамесных спецыяльнасцей. У сярэдзіне XVI ст. рамеснікі гэтага горада пачалі аб'ядноўвацца ў цэхі. У канцы XV ст. (1499) Мінск атрымаў магдэбургскае права. У горадзе было пабудавана многа вуліц, некалькі храмаў. Ад Мінска ў паўднёвым напрамку ішлі дарогі на «палескія» гарады Клецк, Пінск, Слуцк, Мазыр, у паўночна-ўсходнім і паўночным — на «беларускія» гарады Оршу, Віцебск, Полацк, у заходнім — на Навагрудак, Гродна[85].

Фарміраванне ў познім сярэдневякоўі такіх буйных рамесных, палітычных і культурных цэнтраў, як Навагрудак, Гродна і Мінск, сведчыла аб хуткім развіцці сярэдняй (цэнтральнай) часткі краю. Яшчэ больш важным доказам імклівага эканамічнага росту гэтага рэгіёну з'яўляецца ўзнікненне ў ім значнай колькасці новых гарадоў.

---

[82] Улащик Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 151—159.

[83] Францыск Скарына і яго час. Мн., 1988. С. 311—312.

[84] Загорульский Э. Древний Минск. Мн., 1963. С. 44—93.

[85] Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. Мн., 1979. Т. 1. С. 168—169.

Самым буйным сярод узнікшых у XIII—XIV стст. гарадоў стаў Магілёў. Ён быў заснаваны ў XIII ст. у сярэдняй частцы сучаснага Беларускага Падняпроўя на беразе Дняпра, на ўзвышаным месцы, якое называлі Магіла. Ужо ў XIII ст. быў пабудаваны замак, вакол якога ў XIV—XVI стст. сфарміраваўся вялікі горад. Ён хутка рос у XV—XVI стст., а таксама ў першай палове XVII ст. У XV—XVI стст. Магілёў стаў буйным рамесным, гандлёвым і культурным цэнтрам. У канцы XVI ст. у Магілёве ўжо існавала 12 цэхаў. Купцы гэтага горада ў XV—XVI стст. стварылі купецкае брацтва. У 1561 г. Магілёў атрымаў няпоўнае, а ў 1577 — поўнае магдэбургскае права. У апошняй чвэрці XVI ст. у ім налічвалася звыш 1260 дамоў[86]. У горадзе было шмат вуліц, што размяшчаліся радыяльна адносна цэнтра горада. Магілёў стварыў больш дасканалую абарону ў параўнанні з гарадамі Папрыпяцця і Падзвіння. У ім існавалі тры лініі абароны, па якіх размяшчаліся равы і валы. На валах пабудавалі сцены з вежамі і брамамі (усяго ў горадзе іх было 14)[87]. У горадзе хутка развівалася культура. Цэрквы і магістрат гэтага горада мелі архівы. Магілёў стаў адным з цэнтраў беларускага летапісання. У канцы XVI ст. — пачатку XVII ст. Магілёў ператварыўся ў самы буйны горад не толькі Падняпроўя, але і ўсяго цэнтральнага рэгіёну, усёй тэрыторыі сучаснай сярэдняй Беларусі. Па ступені эканамічнага развіцця ён перавышаў таксама гарады Папрыпяцця і Падзвіння. Хуткі эканамічны ўздым Магілёва ў XV—XVI стст. абумоўлены яго становішчам у сістэме тэрытарыяльных эканамічных (гандлёвых) сувязей таго часу. Ён стаў горадам, які эканамічна звязваў падзвінскія і папрыпяцкія землі. Праз Магілёў праходзілі гандлёвыя шляхі з поўначы на поўдзень і з усходу на захад. У паўночным напрамку ад яго ішлі дарогі на Оршу, Віцебск, у паўднёвым — на Мазыр, ва ўсходнім — на Мсціслаўль, Крычаў, у заходнім — на Барысаў, Мінск.

Апрача Магілёва ў цэнтральным рэгіёне ў XIII ст. узніклі гарады Рэчыца, Нясвіж. Рэчыца заснавана ў паўднёвай частцы сучаснага Беларускага Падняпроўя. Як і Магілёў, яна размешчана на беразе Дняпра. Планіроўка горада падобна на планіроўку Магілёва. Ён, як і Магілёў, дзяліўся на тры часткі. Першая частка — самая старажытная. Усю яе тэрыторыю займала крэпасць, акружаная валамі, равом. Каля крэпасці ўзнік пасад, які стаў другой часткай горада. У гэтай (цэнтральнай) частцы знаходзілася гандлёвая плошча. Тут было пабудавана некалькі храмаў. Цэнтральная частка горада таксама мела свой пояс умацаванняў. За ім размяшчалася трэцяя частка горада. Структура яе вуліц, кварталаў вельмі выразная. Гэту частку Рэчыцы таксама акружалі равы і валы, умацаваныя сценамі з башнямі. Перад імі былі ўзведзены басціёны. Рэчыца адыгрывала важную ролю ў абароне падняпроўскіх зямель. У той жа час горад станавіўся і рамесна-гандлёвым цэнтрам. Менавіта пашырэннем рамяства і гандлю абумоўлена тое, што ў XVI ст. (1561) Рэчыца атрымала няпоўнае магдэбургскае права. Яна мела сувязь з Магілёвам, Барысавам, Менскам.

На поўдні ад Менска ў паўночнай частцы Панямоння ў XIII ст. з'явіўся горад Нясвіж, а ўзвышэнне яго адносіцца да XV—XVI стст. У гэты час ён выконваў функцыі абароны і стаў таксама рамесным, гандлёвым цэнтрам. У сярэдняй частцы Нясвіжа размяшчалася плошча з гандлёвымі радамі ў цэнтры. Плошча перасякала вуліцу, якая выходзіла на дарогі, што звязвалі горад з Слуцкам, Вільна. З Ня-

---

[86] Беларускі архіў. Менск, 1927. С. 33; Мелешко В. И. Могилев в XVI в. — середине XVII вв. Мн., 1988. С. 31, 257.

[87] Чантурия В. История архитектуры Белоруссии: Дооктябрьский период. Мн., 1985. С. 45—46.

свіжа ў паўднёвым напрамку ішлі дарогі на Клецк, Пінск, Бярэсце, а ў паўночным — на Менск, Барысаў, Оршу. У XV—XVI стст. у Нясвіжы было ўзведзена некалькі храмаў. Некаторыя з іх (у прыватнасці пабудаваны ў 1584—1593 гг. касцёл) сталі выдатнымі помнікамі архітэктуры таго часу. У XVI ст. у Нясвіжы пачалося будаўніцтва каменнага замка, які потым пераўтварыўся ў цудоўны дварцовы ансамбль. У пачатку 1560-х гг. у Нясвіжы была заснавана тыпаграфія. У 1562 г. тут была надрукавана кніга на беларускай мове «Катэхізіс» С. Буднага.

На захадзе ад Нясвіжа і поўдні ад Навагрудка ў познім сярэдневякоўі ў канцы XII ст. — першай палове XIII ст. узнік і хутка развіваўся як рамесны і гандлёвы цэнтр горад Слонім (Услонім). У 1531 г. ён атрымаў магдэбургскае права. Асноўныя вуліцы Слоніма былі зарыентаваны на дарогі, якія звязвалі яго з другімі гарадамі. Адна з вуліц праходзіла з поўначы на поўдзень, як і дарога, што звязвала Слонім на поўдні з Пінскам, а на поўначы — з Навагрудкам. Другая была накіравана з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад, як і дарога, што на паўднёвым захадзе звязвала Слонім з Бярэсцем, а на паўночным усходзе — з Менскам, Барысавам, Оршай.

На поўначы ад Навагрудка ў XIV ст. заснаваны горад Ліда. Ён меў важнае абарончае значэнне і першапачаткова развіваўся як крэпасць. Ужо ў першай палове XIV ст. тут быў узведзены замак, акружаны равамі, вадаёмамі. Замак меў магутныя сцены, вышыня якіх дасягала 12 м, а таўшчыня — 2 м. У другой палове XIV ст. у Лідзе пабудаваны касцёл. У горадзе развіваліся рамёствы і гандаль. У 1578 г. Ліда атрымала магдэбургскае права.

Апрача гарадоў цэнтральнага рэгіёну, у XIII—XIV стст. развіваліся і некаторыя гарады дзвінска-дняпроўскага і папрыпяцкага рэгіёнаў. У дзвінска-дняпроўскім рэгіёне хутка раслі Полацк, Віцебск[88], у папрыпяцкім — Бярэсце, Пінск, Слуцк. Аднак у кожным з гэтых рэгіёнаў буйных гарадоў было менш, чым у цэнтральным. У XIII—XVI стст. у іх не ўзніклі значныя новыя гарады. Амаль усе яны былі невялікія і звязвалі буйныя гарады з аддаленымі ад іх сельскімі паселішчамі. У папрыпяцкім рэгіёне такую ролю выконвалі Каменец, Кобрын, Давыд-гарадок, у падзвінска-дняпроўскім — Дзісна, Ула, Сураж і інш. Гарадскія паселішчы такога тыпу ўзніклі і ў цэнтральным рэгіёне: Ашмяны, Смаргонь, Маладзечна, Смалявічы, Быхаў, Бабруйск і інш.

Такім чынам, на тэрыторыі ад Прыпяці да Заходняй Дзвіны і ад Нёмана да Дняпра з Сожам сфарміравалася новая сістэма тэрытарыяльных эканамічных (гандлёвых) сувязей. Галоўную ролю ў фарміраванні новай сістэмы тэрытарыяльных эканамічных сувязей у гэтым арэале адыграў цэнтральны рэгіён, які эканамічна развіваўся больш хутка, больш інтэнсіўна, чым папрыпяцкі і дзвінска-дняпроўскі. Менавіта цэнтральны рэгіён злучыў папрыпяцкія і дзвінска-дняпроўскія землі тэрытарыяльнымі эканамічнымі сувязямі.

У XIII—XVI стст. змяніліся таксама палітычныя ўмовы развіцця насельніцтва краю. У XIII ст. на яго тэрыторыі і суседніх балцкіх землях узнікае і ў наступныя стагоддзі пашыраецца новая дзяржава, якая атрымала назву «Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае». Яна ўтвараецца спачатку як дынастычная канфедэрацыя ўсходнеславянскіх і балцкіх княстваў. Галоўнай прычынай утварэння гэтай новай вялікай дзяржавы было не толькі ўзмацненне тэрытарыяльных эканамічных сувязей паміж яе землямі і гарадамі, але яшчэ ў большай ступені новыя знешнепалітычныя ўмовы жыцця іх

[88] Полоцк: Исторический очерк. Изд. 2. Мн., 1987; Левко О. Витебск в XIV—XVIII вв. Мн., 1984.

насельніцтва, неабходнасць аб'яднання сумесных сіл супраць крыжацкай навалы, а часткова таксама і супраць татараў, якія рабілі набегі на гэтыя землі з поўдня і паўднёвага ўсходу. Цэнтрам, ядром гэтай новай дзяржавы стала сярэдняя частка краю, у прыватнасці Панямонне, а таксама суседняя Літва. У новую дзяржаву аб'ядналіся перш за ўсё ўсходнеславянскае Вялікае княства Навагрудскае, Літоўскае і Жамойцкае княствы, затым усходнеславянскае Полацкае княства і іншыя ўсходнеславянскія княствы на тэрыторыі Беларусі, напрыклад: Віцебскае, Мсціслаўскае, Менскае, Слуцкае, Пінскае. У XIII—XIV стст. правіцелі гэтых княстваў прызналі вяршэнства вялікага князя літоўскага, рускага і жамойцкага, а ў XV—XVI стст. у выніку ўмацавання яго ўлады сістэма мясцовых княстваў была скасавана. Большасць княстваў была ліквідавана. Замест іх створаны ваяводствы (Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае, Менскае, Навагрудскае, Берасцейскае і інш.). Ваяводствы падраздзяляліся на паветы[89]. Адміністрацыя паветаў падпарадкоўвалася адміністрацыі ваяводстваў, а апошняя ў сваю чаргу — цэнтральнай адміністрацыі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Новая дзяржава звязала папрыпяцкія, панёманскія, падзвінскія і падняпроўскія землі моцнымі палітычнымі сувязямі, цэнтрам якіх стаў цэнтральны рэгіён. У XIII—XIV стст. у фарміраванні гэтых палітычных сувязей важную ролю адыграў Навагрудак, які знаходзіўся ў паўночным Панямонні, а ў другой палове XIV ст., XV—XVI стст. — горад Вільна, які таксама размяшчаўся ў цэнтральным рэгіёне. Ён стаў асноўнай сталіцай Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (з 1323 г.).

Эканамічная і палітычная інтэграцыя папрыпяцкіх, падзвінскіх, падняпроўскіх і панёманскіх земляў садзейнічала фарміраванню новых этнічных (лінгвістычных, культурных) сувязей паміж імі. У гутарковай мове насельніцтва папрыпяцкіх, панёманскіх, падзвінскіх і падняпроўскіх земляў узніклі агульныя рысы, якія ў сукупнасці і камбінацыі з іншымі элементамі гаворкі сталі адрозніваць насельніцтва гэтых земляў ад насельніцтва ўсходнеславянскіх арэалаў, размешчаных на поўдні і на паўднёвым усходзе, на поўначы і ўсходзе. Галоўную ролю ў фарміраванні гэтых агульных рыс мовы адыграла насельніцтва сярэдняй (цэнтральнай) часткі краю: панёманскіх і падняпроўскіх земляў. Гэтыя землі сталі цэнтрам змешвання, злучэння некаторых рыс гутарковай мовы, з аднаго боку, папрыпяцкага насельніцтва, а з другога — падзвінскага. Праз цэнтральны рэгіён гэтыя рысы пашырыліся далей у паўднёвыя і паўночныя часткі краю, паколькі цэнтральныя землі былі больш цесна звязаны як з папрыпяцкімі, так і падзвінскімі. У XV—XVI стст. з поўдня на поўнач шырока распаўсюджваецца цвёрды гук «р»[90]. Ён поўнасцю змяніў мяккі «р» у цэнтральным рэгіёне, а потым цвёрды «р» стаў пераважаць над мяккім «р» і ў паўднёвай (полацка-віцебскай) частцы Падзвіння. Паўночная мяжа перавагі цвердага «р» дасягнула Себежа і Віцебска[91]. Адначасова з пашырэннем цвёрдага «р» адбывалася замена мяккага «ч» цвёрдым, які поўнасцю замяніў мяккі «ч» у цэнтральным рэгіёне і стаў пераважаць у паўднёвай частцы Падзвіння. Пад уплывам пашырэння цвёрдага «ч» у гэтай мясцовасці стала змяншацца і знікаць такая рыса гутарковай мовы, як ужыванне «ц» замест «ч» — так званае «цоканне»[92].

---

[89] Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588. Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мн., 1989. С. 467.

[90] Аванесов Р. Вопросы образования русского языка в его говорах // Вестн. Московского ун-та. 1947. № 9. С. 134.

[91] Trautmann R. Die slavischen Völker und Sprachen. Eine Einfürung in die Slavistik. Leipzig, 1948. S. 139.

[92] Аванесов Р. Вопросы образования русского языка в его говорах. С. 134.

З другога боку, з поўначы на поўдзень у гэты час пашыраецца мяккі «д» («дзеканне»). Мяккі гук «д» поўнасцю замяніў цвёрды «д» у цэнтральным рэгіёне і паступова стаў пераважаць у гутарковай мове ўсходнеславянскага насельніцтва паўночнай часткі папрыпяцкага рэгіёну. Наяўнасць мяккага «д» у гаворцы цэнтральнага і паўночнай часткі папрыпяцкага рэгіёнаў у XV—XVI стст. засведчана пісьмовымі крыніцамі, у прыватнасці Літоўскай метрыкай («дзедзіч»), Слуцкім летапісам («людзи»), пісьмамі («паводзе»)[93]. З поўначы на поўдзень пашыраецца і такая рыса гутарковай мовы, як «аканне» — вымаўленне гука «о» не пад націскам як «а». Існаванне «акання» ў XV—XVI стст. у гутарковай мове насельніцтва цэнтральнага і паўночнай часткі папрыпяцкага рэгіёнаў адлюстравана ў пісьмовых крыніцах — граматах Казіміра (Гродна), у Слуцкім летапісе, а таксама ў Слуцкім спісе Статута Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (1529)[94].

Беларуская мова пачала фарміравацца ў сярэдняй частцы краю — у панёманскіх і падняпроўскіх землях. Тут перш за ўсё змяшаліся, злучыліся некаторыя рысы гаворак «палешукоў» і «беларусцаў», утварыўся комплекс фанетычных рыс, для якога характэрна спалучэнне такіх элементаў, як цвёрдыя «р» і «ч», мяккі «д», «аканне». На аснове гэтага спалучэння гукаў утварылася фанетыка сярэднебеларускіх гаворак. Утварэнне фанетыкі сярэднебеларускіх гаворак адлюстравана ў пісьмовым помніку XVI ст. — Статуце Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (1529), розных яго спісах, асабліва Слуцкім (1580-я гг.)[95]. Яно адлюстравана таксама ў граматах вялікага князя літоўскага, рускага і жамойцкага і караля польскага Сігізмунда I, у кітабах — беларускіх тэкстах, напісаных арабскай графікай[96]. Услед за фарміраваннем комплексу фанетычных рыс сярэднебеларускіх гаворак не пазней XVI ст. утварыліся і комплексы фанетычных рыс беларускіх паўночна-ўсходніх і паўднёва-заходніх гаворак.

Комплексы фанетычных рыс беларускіх паўночна-ўсходніх і сярэднебеларускіх гаворак сталі адрозніваца тым, што ў першым выпадку з цвёрдым «р» захаваўся і мяккі «р», разам з цвёрдым «ч» працягваў існаваць і мяккі «ч». Гэты комплекс трывала замацаваўся ў паднёвай зоне падзвінскага рэгіёну, уключаючы басейн Заходняй Дзвіны і паўночную частку беларускага Падняпроўя[97]. Што датычыцца паўночнай зоны ранейшага падзвінска-дняпроўскага рэгіёну (Пскоўшчына, Цвярскі край), то яна не папала пад уплыў фанетычных навацый Папрыпяцця, а апынулася ў сферы ўздзеяння суседніх паўночных і ўсходніх гаворак, пашыраных у межах узнікшай Маскоўскай дзяржавы. Тут у XV—XVI стст. пачалі фарміравацца гаворкі велікарускай мовы, слабець і знікаць такая рыса ранейшай гутарковай мовы, як мяккі «д» («дзеканне»)[98].

У адрозненне ад комплексу фанетычных рыс сярэднебеларускіх гаворак, у беларускіх паўднёва-заходніх гаворках

---

[93] Филин Ф. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. С. 313; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной России. Т. 1. Вильно, 1867. С. VII.

[94] Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 73—74, 78—79, 82—84; Альт Т. Мова Літоўскага статута // Беларуская лінгвістыка. Вып. 14. Мн., 1978. С. 48.

[95] Там жа. С. 48—50, 52—53.

[96] Stang Chr. Die westrussishe Kanzleisprache des Grossfürstentums des Litauen. Oslo, 1935. S. 122, 125—126; Антанович А. Краткий обзор текстов, писаных арабским письмом // Полесье. М., 1968. С. 263.

[97] Stang Chr. Die altrussische Urkundenspache der Stadt Polozk. Oslo, 1939. S. 92—93,107—109.

[98] Хабургаев Г. А. Становление русского языка. М., 1980. С. 151—175; Филин Ф. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. С. 317—318.

разам з мяккім «д» захаваўся ў некаторых мясцовасцях і цвёрды «д», разам з «аканнем» сустракалася ў асобных мясцінах і «оканне». У комплексе фанетычных рыс беларускіх паўднёва-заходніх гаворак з ранейшай мясцовай гутарковай мовы захаваліся дыфтонгі «ўо», «іе»[99]. Гэты комплекс ахапіў толькі паўночную зону папрыпяцкага рэгіёну. У паўднёвую яго зону паўночна-ўсходнія навацыі («дзеканне», «аканне») не трапілі. Гэта зона падпала пад уплыў размешчаных на поўдні ад яе паўднёва-заходніх і паўднёва-ўсходніх гаворак, якія разам з паўночнай гаворкай паўднёвай зоны папрыпяцкага рэгіёну сфарміравалі ў гэты час новую ўсходнеславянскую мову — украінскую. Ва ўкраінскай мове няма ні «дзекання», ні «акання», якія сталі вельмі характэрнымі для беларускай мовы[100].

У новай, беларускай мове сталі значна часцей ужывацца суфіксы «-к», «-ак», «-як» і інш. (напрыклад: «авечка» замест «овца», «спявак» замест «певец», «беразняк» замест «березник»), пачалі таксама выкарыстоўвацца новыя суфіксы, напрыклад: «-чын», «-б» («дзяўчына» замест «девица», «сяўба» замест «сев»)[101]. У лексіцы беларускай мовы з'явілася шмат новых слоў: «грамада», «мужыкі», «сведка» і інш.[102] Частка слоў беларускай мовы запазычана з іншых, не ўсходнеславянскіх моў (польскай, літоўскай, татарскай). Да запазычаных адносяцца, у прыватнасці, словы «мовіць», «моц», «згода», «дойлід», «свіран», «казак» і інш.[103]

Утварэнне беларускай мовы суправаджалася значнымі зменамі ў традыцыйнай культуры, як матэрыяльнай, так і духоўнай. Узніклі новыя тыпы паселішчаў: мястэчкі, фальваркі, засценкі, ваколіцы. У значнай ступені змянілася планіроўка некаторых сельскіх паселішчаў, у прыватнасці вёсак. Калі раней у іх панавала бессістэмнае (скучанае) размяшчэнне пабудоў або ў адзін рад, адну лінію (звычайна ўздоўж рэчкі, возера), то ў XV—XVI стст. у заходніх раёнах паўночнай зоны падзвінскага, а таксама заходніх раёнах цэнтральнага рэгіёнаў шырока распаўсюджваецца новы тып планіроўкі вёскі. Пабудовы сталі размяшчацца часцей за ўсё ў два рады, дзве лініі. Пашырэнню такой планіроўкі вёсак садзейнічалі развіццё сеткі сухапутных дарог і аграрная рэформа, якая пачала ажыццяўляцца ў другой палове XVI ст. (1557)[104]. XV—XVI стст. былі таксама часам інтэнсіўных змен у планіроўцы сялянскага двара. У гэты перыяд шырока распаўсюджваецца пагонны тып сядзібы. Пагонны двор з'явіўся спачатку ў папрыпяцкім рэгіёне ў працэсе фарміравання двухкамернай і трохкамернай жылой пабудовы, да якой прымыкалі гаспадарчыя памяшканні. Яны размяшчаліся ў адзін рад («пагон»). З Папрыпяцця традыцыя пагоннай сувязі пабудоў пашырылася ў цэнтральны рэгіён і пачала там ўзаемадзейнічаць з традыцыяй размяшчэння пабудоў у сядзібе ў форме прамавугольніка, якую называюць вяночным дваром. У выніку ўзаемадзеяння, мадыфікацыі як аднараднага пагона (пры павелічэнні колькасці пабудоў), так і вяночнай сядзібы сфарміраваўся новы тып пагоннага двара — двухрадны. Ён сустракаўся ў заходняй частцы цэнтральнага рэгіёну, асабліва ў заходніх і паўночна-заходніх раёнах Панямоння. На ўсходзе цэнтральнага рэгіёну,

---

[99] Wexler P. A historical phonology of the Byelorussian language. Heidelberg, 1977. P. 183.

[100] Филин Ф. Происхождение русского, украинского и белорусского языков. С. 312—319; Shevelov G. A historical phonology of the Ukrainian language. Heidelberg, 1979. P. 752—757.

[101] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970. С. 56—61

[102] Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1984. С. 101.

[103] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. С. 89—150.

[104] Молчанова Л. Материальная культура белорусов. Мн., 1968. С. 69—71.

у прыватнасці ў сярэдняй і паўднёвай частцы сучаснага беларускага Падняпроўя сфарміраваліся Г-падобныя і П-падобныя формы сядзібы[105]. Значна змяніўся ў гэты час і традыцыйны жаночы касцюм. У паўночнай зоне папрыпяцкага рэгіёну, у цэнтральным і паўднёвай зоне падзвінскага рэгіёнаў шырока распаўсюджваецца андарак. Ён стаў састаўной часткай святочнага жаночага касцюма. У гэты час у комплексе жаночага адзення з'явіўся таксама фартух. Гэтыя прадметы жаночага касцюма пашыраюцца спачатку ў заходніх, а потым і ва ўсходніх раёнах папрыпяцкага, цэнтральнага і падзвінскага рэгіёнаў[106].

У XV—XVI стст. адбываюцца таксама змены і ў духоўнай культуры ўсходнеславянскага насельніцтва папрыпяцкага, цэнтральнага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў. Узнікае новы жанр вуснай народнай творчасці — гістарычная песня[107]. У найбольш ранніх гістарычных песнях апавядаецца пра набегі татараў. Гэтыя песні ўслаўляюць заступнікаў роднай зямлі, іх мужнасць і адвагу. У канцы XVI ст. ствараюцца гістарычныя песні, у якіх апавядаецца пра ўзброеныя паўстанні народа супраць прыгнятальнікаў. Яны прасякнуты баявым настроем, адлюстроўваюць героіку народнай барацьбы. У гэтых песнях услаўляецца казак, адзначаецца яго смеласць і адвага. У XVI ст. у папрыпяцкім, цэнтральным і падзвінска-дняпроўскім рэгіёнах з'яўляюцца і распаўсюджваюцца новыя музычныя інструменты: скрыпка, цымбалы, ліра, дуда[108]. Асабліва часта сталі выкарыстоўваць дуду і скрыпку. Яны звычайна гучалі ў час народных свят: Каляд, Вялікадня і іншых, — а таксама на вяселлях. Больш разнастайнымі сталі хрысціянскія вераванні. Побач з праваслаў'ем з'явіўся каталіцызм. Спачатку ў гарадах, а потым і ў вёсках пачалі будаваць касцёлы, пераважна ў заходніх раёнах папрыпяцкага, цэнтральнага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў, землях, размешчаных каля Польшчы і этнічнай Літвы[109]. Каталіцызм пашырыўся перш за ўсё сярод неўсходнеславянскага насельніцтва: заходнеславянскага (польскага) і балцкага, — а затым і сярод часткі ўсходнеславянскага.

Неўсходнеславянскае насельніцтва зрабіла ўплыў не толькі на рэлігію ўсходнеславянскага насельніцтва цэнтральнага, папрыпяцкага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў, але і на яго мову, культуру. Яно прыняло ўдзел у фарміраванні беларускага этнасу.

На ўсходнеславянскае насельніцтва, яго мову і культуру зрабіла ўплыў перш за ўсё блізкае яму па мове і культуры заходнеславянскае (польскае). Асобныя групы палякаў перасяліліся ў папрыпяцкі, цэнтральны і падзвінска-дняпроўскі рэгіёны, пераважна ў заходнія раёны гэтых рэгіёнаў, ужо ў XV—XVI стст.[110] Першапачатковыя паселішчы палякаў былі невялікімі. У іх звычайна жыло служылае насельніцтва (дробная шляхта). Невялікія паселішчы дробнай польскай шляхты называліся засценкамі, ваколіцамі. Затым частка гэтых паселішчаў павялічвалася ў памерах, пераўтваралася ў вёскі. У папрыпяцкім рэгіёне з'явіліся назвы паселішчаў: Ляхаўцы, Ляхчыцы, Ляхі, у цэн-

---

[105] Локотко А. И. Общие и региональные особенности народного жилища Белоруссии. Мн., 1985. С. 32—38.

[106] Улащик Н. Одежда белорусов XVI—XVIII вв. // Древняя одежда народов Восточной Европы. М., 1986. С. 135.

[107] Этнография восточных славян. М., 1987. С. 432—433.

[108] Назіна І. Музычная інфармацыя ў Бібліі Францыска Скарыны // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 133—136.

[109] Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988. С. 358, 458.

[110] Веренич В. Л. К историко-социологической характеристике польских переселенческих говоров в Полесье. Ч. 2: Польские говоры в СССР. Мн., 1973. С. 130.

тральным — Ляхавічы, Ляхаўшчына, у заходняй частцы падзвінска-дняпроўскага рэгіёну — Ляхава і інш.[111] Адначасова з польскімі групамі насельніцтва ў папрыпяцкім, цэнтральным і падзвінска-дняпроўскім рэгіёнах з'яўляюцца і новыя прозвішчы: Хадакоўскія, Недашкоўскія, Радзялоўскія і інш.[112]

У выніку паступовай асіміляцыі гэтыя назвы паселішчаў і прозвішчы сталі састаўной часткай беларускай тапанімікі і антрапаніміі. Пад уплывам польскага насельніцтва ў комплексе прадметаў беларускага адзення з'явіўся андарак, які першапачаткова ў беларусаў называўся так, як і ў палякаў — «індэрак»[113]. Пад польскім уплывам стаў трасфармавацца каўнер сарочкі: замест стаячага ён стаў адкладным. Разам з усходнеславянскай назвай — «сарочка» — стала ўжывацца і яе польскае найменне — «кашуля»[114]. Ад палякаў быў успрыняты і новы каляндар. Замест ранейшага летазлічэння ад стварэння свету сталі карыстацца летазлічэннем па новай эры, пачаткам якой, згодна хрысціянскай міфалогіі, лічыцца год нараджэння Хрыста. Новае летазлічэнне на ўсходнеславянскіх землях Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ўсталявалася ў перыяд XIV—XVI стст.[115] У асноўным з Польшчы ў Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, у тым ліку і ў заходнія раёны ўсходнеславянскіх зямель гэтай дзяржавы, уключаючы заходнюю частку папрыпяцкага, цэнтральнага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў, пранікаў каталіцызм. Польскае насельніцтва зрабіла ўплыў і на мову беларусаў. У беларускай мове пашырыліся некаторыя польскія словы («абавязаю», «моц», «будаваць», «менавіта» і інш.)[116].

Акрамя заходнеславянскага (польскага) насельніцтва, у фарміраванні беларускага этнасу прынялі ўдзел і неславянскія групы, асабліва балцкія. Апошніх на захадзе іх этнічнай тэрыторыі цяснілі крыжакі. Частка балтаў пагэтаму ў XIII—XV стст., асабліва ў XIII—XIV стст., перамясцілася ў цэнтральны, папрыпяцкі і часткова ў падзвінска-дняпроўскі рэгіёны. Пераважна ў цэнтральны і часткова ў падзвінска-дняпроўскі і папрыпяцкі перасялілася частка прусаў. Аб гэтым сведчаць не толькі пісьмовыя крыніцы[117], але і назвы паселішчаў у цэнтральным рэгіёне: Прусінава (Уздзенскі край), Прусавічы (Лагойскі край), Прусаўшчына (Крупскі край), у падзвінска-дняпроўскім — Прусінічы (Талачынскі край), Прусіна (Касцюковіцкі край), у папрыпяцкім — Прусы (Капыльскі край), Пруска (Камянецкі край). Тэўтонскім Ордэнам былі разгромлены яцвягі — другая частка заходніх балтаў. Іх невялікія групы заставаліся толькі ў цэнтральным рэгіёне. Аб гэтым сведчаць назвы паселішчаў: Яцвязь, Яцвяск (Гродненскі край), Дайнова (Лідскі, Ашмянскі, Мінскі край). Набегі крыжакоў на жэмайтаў — трэцюю частку заходніх балтаў — былі прычынай перасялення невялікіх груп гэтай супольнасці ў заходнюю частку ўсходнеславянскай тэрыторыі: заходнія раёны папрыпяцкага, цэнтральнага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў. Па гэтай прычыне ўзніклі назвы паселішчаў: Жэ-

---

[111] Археографический сборник документов... Т. 1. С. 63—64, 99; Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 218.

[112] Веренич В. Л. К историко-социологической характеристике польских переселенческих говоров в Полесье. С. 130.

[113] Молчанова Л. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. Мн., 1981. С. 69—70.

[114] Беларускае народнае адзенне. Мн., 1975. С. 13—14.

[115] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. Вып. 1. М., 1977; Вып. 2. М., 1978; Вып. 3. М., 1980; Беларускі архіў. Т. 1. Менск, 1927.

[116] Stang Chr. Die westrussishe Kanzleisprache des Grossfürstentums des Litauen. Oslo, 1935. S. 121, 143—144.

[117] Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2. С. 874, 877.

мойцішкі (Воранаўскі край), Жэмойдзі (Лідскі край), Жэмойск (Докшыцкі край), Жэмойдзь (Мінскі, Клецкі край).

У падзвінска-дняпроўскі рэгіён, верагодна, перасялілася і частка ўсходнебалцкага насельніцтва, менавіта латыголаў, на якіх наступаў Лівонскі Ордэн. Латыгольскімі па паходжанню з'яўляюцца назвы наступных паселішчаў: Латыголь, Латыголічы, Латыголава, — размешчаных у Глыбоцкім, Бешанковіцкім, Чашніцкім і іншых краях. У заходнім арэале ўсходнеславянскай тэрыторыі ў XIII—XVI стст. знаходзілася таксама яшчэ адна частка ўсходнебалцкага насельніцтва — літва. Яна размяшчалася ў асноўным у заходніх раёнах цэнтральнага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў. Аб гэтым сведчаць назвы паселішчаў: Літва, Літоўцы, Літоўшчына. Назва «Літва» больш характэрна для цэнтральнага рэгіёну (Маладзечанскі, Стаўбцоўскі, Слонімскі край), а «Літоўцы», «Літоўшчына» — для падзвінска-дняпроўскага (Браслаўскі, Глыбоцкі, Докшыцкі край). Балцкіх назваў паселішчаў у заходнім арэале ўсходнеславянскай этнічнай тэрыторыі шмат — звыш 200. Большая частка іх знаходзіцца ў заходніх раёнах папрыпяцкага, цэнтральнага і падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў[118]. Балцкія групы цесна ўзаемадзейнічалі з усходнеславянскім насельніцтвам, сярод якога яны жылі, успрымаючы яго мову і культуру, з аднаго боку, а з другога — захоўваючы і перадаючы яму элементы сваёй мовы і культуры. У выніку асіміляцыі балцкіх груп назвы іх паселішчаў сталі састаўной часткай беларускай тапанімікі, а балцкія прозвішы (Зыль, Лавейка, Макута і інш.) узбагацілі беларускую антрапанімію. Ужо ў XV — пачатку XVI ст. ва ўсходнеславянскай антрапаніміі было звыш 100 балцкіх прозвішчаў[119]. Беларуская мова папоўнілася балцкімі словамі «дойлід» (будаўнік), «клуня» (гумно), «свіран» (клець) і інш.[120]

Апрача балтаў, на беларускі этнас зрабілі ўплыў і групы іншага неславянскага насельніцтва, у прыватнасці цюркскага, менавіта татараў. Асобныя групы татараў былі паселены ў канцы XIV ст. — пачатку XV ст. у цэнтральным, а затым у папрыпяцкім і падзвінска-дняпроўскім рэгіёнах. Па гэтай прычыне ў заходняй частцы ўсходнеславянскага арэала ўзніклі назвы паселішчаў: Татарская (Валожыншчына), Татаршчына (Маладзечанскі край), Татарка (Лідскі край), Татары (Браслаўшчына), Татар'я (Піншчына). Пад татарскім уплывам у беларускай антрапаніміі з'явіліся прозвішчы: Татарчук, Татарчык, Татаронак, Татарэнка і інш.[121] З татарскай мовы ў беларускую трапілі словы: «атаман», «казак», «армяк», «ямшчык» і інш.[122] Асіміляваныя татары першапачаткова карысталіся арабскай графікай (пісьмом). Ёй напісаны беларускія тэксты — так званыя кітабы, якія датуюцца XVI—XVIII стст.

Такім чынам, у кансалідацыі ўсходнеславянскага насельніцтва паўночнай зоны папрыпяцкага, цэнтральнага і паўднёвай зоны падзвінска-дняпроўскага рэгіёнаў у беларускі этнас прынялі ўдзел і асобныя групы заходнеславянскага (польскага), балцкага і цюркскага (татарскага). Усходнеславянскае насельніцтва склала аснову новага ўсходнеславянскага этнасу, а неўсходнеславянскія групы з'явіліся дадатковым кампанентам гэтай этнічнай супольнасці.

---

[118] Гаучас П. К вопросу о восточных и южных границах литовской этнической территории в средневековье // Балто-славянские исследования. М., 1988. С. 195—212.

[119] Рымша В. Некаторыя беларускія прозвішчы балтыйскага паходжання // Беларуская лінгвістыка. Вып. 16. Мн., 1979. С. 36—41; Вып. 25. Мн., 1984. С. 60—65.

[120] Лаучюте Ю. Словарь балтизмов в славянских языках. Л., 1982.

[121] Грынблат М. Беларусы. Мн., 1968. С. 169—173.

[122] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мн., 1970. С. 138—139.

Першапачаткова беларускі этнас меў некалькі назваў. Адной з іх быў тэрмін «ліцвіны». Ім сталі называць людзей, якія першымі пачалі размаўляць на беларускай мове. Яны жылі ў цэнтральнай частцы сучаснай Беларусі. Менавіта тут перш за ўсё ўтварылася беларуская мова. Некаторыя мясцовасці гэтага арэала, у прыватнасці Панямонскі край, мелі назву «Літва». Так коратка назвалі і дзяржаву, якая тут з'явілася. Гэтыя абставіны: назва краю і кароткая назва дзяржавы — абумовілі і першапачатковую назву мясцовага ўсходнеславянскага насельніцтва, якое першым пачало размаўляць на новай усходнеславянскай (беларускай) мове. Назва «ліцвіны» пашырылася таксама і на ўсходнеславянскае насельніцтва суседніх з цэнтральным паўночных і паўднёвых раёнаў: Падзвіння і Папрыпяцця, — што сталі часткай той тэрыторыі, на якой утваралася беларуская мова. Яны таксама знаходзіліся ў складзе новай дзяржавы з кароткай назвай «Літва». Палітычнае значэнне тэрміна «ліцвіны» дапоўнілася ў гэтых рэгіёнах і этнічным значэннем. Ён абазначаў таксама іх мясцовае ўсходнеславянскае насельніцтва, што стала размаўляць на беларускай мове. Спрыяльныя ўмовы і для такога значэння тэрміна «ліцвіны» меліся ў XVII—XVIII стст. У гэты перыяд у складзе Вялікага княства Літоўскага, якое коратка называлі Літвой, знаходзілася пераважна тое ўсходнеславянскае насельніцтва, якое размаўляла на беларускай мове. Таму ў гэтых палітычных умовах тэрмінам «ліцвіны» беларусы адрозніваліся ад другіх усходнеславянскіх народаў: вялікарусаў і ўкраінцаў. Ад суседніх літоўцаў, якія таксама знаходзіліся ў Вялікім княстве Літоўскім, беларусы адрозніваліся другім тэрмінам — «русіны», які ў XVII—XVIII стст. на ўсёй усходнеславянскай тэрыторыі пераважна меў значэнне назвы ўсходнеславянскага метаэтнасу: ён быў агульнай назвай трох самастойных усходнеславянскіх народаў: украінцаў, беларусаў і вялікарусаў. З усяго ўсходнеславянскага насельніцтва, якое называлі «русінамі», у XVII—XVIII стст. у Вялікім княстве Літоўскім, за выключэннем асобных груп старавераў, жылі толькі беларусы. Акрамя назваў «ліцвіны», «русіны», у XVII—XVIII стст. у Вялікім княстве Літоўскім сустракалася і трэцяя, уласна беларуская назва беларускага этнасу — «беларусцы» («беларусы»). У новых умовах, калі сфарміравалася беларуская мова, гэта назва стала абазначаць перш-наперш беларусаў Падзвіння, затым пашырылася на беларусаў цэнтральнага рэгіёну, а потым і Папрыпяцкага. У велікарускіх пісьмовых крыніцах першай трэці XVII ст. ёсць шмат сведчанняў, што беларусцамі ў той час называлі не толькі жыхароў Полаччыны, Віцебшчыны, Аршанчыны, Мсціслаўшчыны, але і ўсходнеславянскіх жыхароў цэнтральнага рэгіёну: Ашмяншчыны (1627), Лідскага краю (1636), — а затым і Случчыны (1639), размешчанай у паўночнай зоне папрыпяцкай вобласці, якая стала неад'емнай часткай этнічнай тэрыторыі беларускага народа[123]. Побач з формай «беларусцы» ў велікарускіх пісьмовых крыніцах XVII ст. (канец 1649 — пачатак 1650) ужо сустракаецца і сучасная форма назвы беларускага народа — «беларусы». Тое, што тэрмін «беларусы», «беларусцы» ўжываўся ўжо для наймення людзей, якія адносіліся да беларускага этнасу, пацвярджаецца таксама тым, што гэтым найменнем іх адрознівалі ад палякаў, чаркасаў (чаркасамі ў той час ў велікарускіх пісьмовых крыніцах называлі ўкраінцаў), літоўцаў, якіх іншы раз называлі «літоўскімі людзьмі»[124]. У адрозненне ад назвы «ліцвіны» тэрмін «беларусцы» («беларусы») не меў палітычнага

[123] Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667). Мн., 1963. С. 95, 110—131, 161.
[124] Там жа. С. 128, 222.

значэння. Ад назвы «русіны» ён адрозніваўся тым, што не ўжываўся ў больш шырокім значэнні як найменне трох усходнеславянскіх народаў. У параўнанні з назвамі «ліцвіны» і «русіны» тэрмін «беларусцы» («беларусы») у XVII—XVIII стст. выкарыстоўваўся рэдка. Трэба адзначыць таксама, што назвы «ліцвіны», «русіны» і «беларусцы», апрача агульнабеларускага, мелі і другія значэнні (рэгіянальнае, канфесійнае і інш.). У іншых (неагульнабеларускіх) значэннях гэтыя назвы ўжываліся значна часцей.

# ЭТНАСАЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАЦЭСЫ

Працэс фарміравання феадальнага беларускага этнасу ў адзначаны перыяд грунтаваўся на пэўных спрыяльных для гэтага ўмовах, якія часта вызначаюцца ў сучаснай этналогіі як этнаўтваральныя фактары. Да іх адносяцца сацыяльна-эканамічны, палітычны, дэмаграфічны, этнагенетычны (спадчынны), геаграфічны і іншыя фактары, аднак роля кожнага з іх на розных этапах этнаўтварэння звычайна розная, што і абумоўлівае іх значэнне ў этнагістарычным працэсе. На першапачатковых стадыях згуртавання асобных тэрытарыяльных груп насельніцтва ў адзіны этнічны масіў галоўная роля належыць фактару палітычнага аб'яднання, які спрыяе складанню этнічнай тэрыторыі народа, яго кампактнаму рассяленню і актыўнай дзейнасці ў яго межах працэсаў этнасацыяльнай кансалідацыі.

Працэс этнаўтварэння беларускага народа пачаў выразна ажыццяўляцца ў XIV—XV стст., калі землі і насельніцтва Беларусі ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Пачатак палітычнаму аб'яднанню заходняй часткі ўсходнеславянскіх і суседніх балцкіх зямель у складзе адзінай дзяржавы паклалі гістарычныя падзеі XIII ст.: татарская экспансія з усходу і агрэсія нямецкіх Тэўтонскага і Лівонскага Ордэнаў з захаду. Як у той час, так і некалькі раней некаторыя ўсходнеславянскія землі і княствы мелі дастаткова мірныя і саюзніцкія адносіны з балцкім насельніцтвам сумежных тэрыторый. Некаторыя землі заходняй Беларусі ўвогуле не былі ў тыя часы выразна этнічна дыферэнцыраванымі і аб'ядналі як славянскае, так і балцкае насельніцтва. Узначальвалі гэтыя землі князі рознага этнічнага паходжання.

На ролю гегемона ў працэсе аб'яднання заходняй часткі ўсходнеславянскіх і шэрагу балцкіх зямель прэтэндавала ў гэты час перш за ўсё Вялікае княства Літоўскае. Ужо ў XIII ст. у яго склад уваходзілі заходнія беларускія землі з цэнтрамі ў Новагарадку, Слоніме, Ваўкавыску, Гародне, Камянцы і іншыя, таксама менавіта Літва (тэрыторыі паміж Віліяй і Нёманам), Нальша (у басейне Віліі з цэнтрам у Крэве), Дзялтува-Дзяволтва (з цэнтрам у Вілкамір'і) і шэраг балцкіх зямель (Упітэ, Сауле, Кнітува, Каршува і інш.)[1]. Князі і баяры буйных феадальных цэнтраў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі хацелі бачыць Літву ў якасці саюзніка. Да гэтага ж імкнуліся і літоў-

[1] Полное собрание русских летописей. Летописи белорусско-литовские. М., 1980. Т. 35; Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. М., 1960; Łowmiański H. Studia nad początkami spoleczenstwa i państwa Litewskiego. Wilno. 1932. T. I. S. 17—19; T. II. S. 105—109.

скія князі (напрыклад Міндоўг і яго сын Вайшэлк), якія нават прымалі праваслаўную веру дзеля палітычных мэт умацавання сваёй улады ў дзяржаве, у склад якой уваходзіла пераважна славянскае насельніцтва.

Заходнебеларускія княствы і гарады з'яўляліся своеасаблівымі этнапалітычнымі фарпостамі ўсходніх славян у старажытнай кампактнай і этнічна змешанай балта-ўсходнеславянскай вобласці. Іх эканамічныя сувязі паміж сабой і з іншымі гарадамі і землямі прыкметна ўмацавалі ў XIII — пачатку XIV ст. гэту вобласць у ваенна-палітычным сэнсе. У гэтыя ж часы ў склад Вялікага княства ўвайшло і буйнейшае ва Ўсходняй Еўропе Полацкае княства, жыхары якога выбралі ў 1307 г. на вечы ў Полацку[2] сваім князем Воіна — брата вялікага князя літоўскага Віценя. У выніку ўсіх гэтых аб'яднанняў землі заходняй і цэнтральнай Беларусі, а таксама сумежных частак Аўкштайціі набылі дамінуючую ролю ў палітычным жыцці Ўсходняй Еўропы.

Нягледзячы на тое, што Літва іншы раз працягвала больш традыцыйную для папярэдніх часоў палітыку ваенных нападаў, увогуле ход падзей канца XIII — XIV стст. быў накіраваны на стварэнне саюзных адносін паміж ёй і іншымі суседнімі княствамі. Літоўскія і саюзныя ім феадалы ўсходнеславянскіх зямель бачылі ў гэтым саюзе адзіную магчымасць павялічыць свой патэнцыял у супрацьборстве з Ордэнам, з мангола-татарамі, набегі якіх дасягалі нават Літвы («взяша татарове всю землю литовьскую, а самех избиша»)[3], а таксама з іншымі буйнымі ўсходнеславянскімі ваенна-палітычнымі аб'яднаннямі, напрыклад з Галіцка-Валынскім княствам. Ваенная барацьба Вялікага княства Літоўскага з апошнім завяршылася ў 1340-х гг. перамогай першага, а землі апошняга (Уладзімірская, Луцкая, Холмская, Берасцейская і інш.) папалі пад уладу вялікіх князёў літоўскіх. Палітыка далучэння ўсходнеславянскіх і шэрагу балцкіх зямель у склад адной дзяржавы была працягнута пры браце Віценя — Гедэміне, потым пры Альгердзе і Кейстуце, Ягайле і Вітаўце, што прывяло ў выніку да складання ва Ўсходняй Еўропе моцнага і буйнага ваенна-палітычнага аб'яднання — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, якое ахоплівала ўсю Беларусь, Аўкштайцію, часткова Жэмайцію (Жмудзь), Латгалію, значную частку Ўкраіны (Чарнігаўскую, Кіеўскую, Валынскую, Северскую і Падольскую землі), а таксама Браншчыну, Смаленшчыну на ўсходзе і Падляшша на захадзе. Сталіцай аб'яднанай дзяржавы ў 1323 г. пры Гедэміне (1316—1341) стаў горад Вільна, які змяніў у гэтай ролі Новагародак.

Падзеі тых часоў паказаны ў летапісах, з якіх вынікае, што характар уваходжання ўсходнеславянскіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага быў разнастайным і працяглым. Далучэнне зямель праходзіла ў выніку дынастычных саюзаў, прызнання васальнай залежнасці мясцовых феадалаў ад вялікіх князёў літоўскіх, а таксама адкрытым захопам шэрагу рэгіёнаў і нават княстваў літоўскімі і саюзнымі з імі сіламі[4].

Адначасова з замацаваннем сваёй улады на Беларусі, Аўкштайціі і на Ўкраіне вялікія князі літоўскія спрабавалі падпарадкаваць сабе і шэраг іншых зя-

---

[2] Літоўскія князі запрашаліся на княжэнне ў Полацк і раней, так, у 1262—63 гг. тут княжыў Таўцівіл.

[3] Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 23—24. Маецца на ўвазе ўсходняя частка Беларусі: «Скімонт тежъ, князь новгородский и литовский войска руские, которые мѣл готовые, зшиковавши, поткал Балаклая на граници своей в Койданове, а гды обѣ войска мужне и рицерски ся поткали, зараз почила шванкова татарове и, помешавшися, утекали».

[4] Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. С. 91—93, 106—109, 146—148, 170—171, 194—196, 215—219 і інш.

мель на ўсходзе і захадзе: Ноўгарад, Пскоў, Маскву, Цвер, таксама Жмудзь, Польшчу, Латвію. Некаторыя землі адстаялі свой суверэнітэт, іншыя трапілі ў васальную залежнасць, у трэціх была адабрана частка памежных тэрыторый. Ужо к XV ст. Вялікае княства Літоўскае па сваёй плошчы было адным з буйнейшых у Еўропе, яно працягвалася ад Балтыйскага (раён Палангі) да Чорнага (раён сучаснай Адэсы і Ачакава) мора і ад Драгічына над Бугам, Бярэсця, Ковеля, Уладзіміра-Валынскага, Луцка да Курска, Мцэнска, Вязьмы і Вялікіх Лук[5]. Кантраляваць такія вялікія тэрыторыі і іх насельніцтва вялікія князі літоўскія маглі толькі з дапамогай мясцовых феадалаў, якія дзеля гэтага дапускаліся да кіравання дзяржавай.

Да часоў прыняцця вялікім князем літоўскім Ягайлай у 1386 г. каталіцкай веры адносіны мясцовых пераважна праваслаўных феадалаў з цэнтральнай уладай былі ўвогуле добрымі, аднак больш актыўная падтрымка дваром феадалаў-католікаў (раздача зямель, эканамічныя, прававыя і палітычныя прывілеі) прывяла да складання апазіцыі з боку праваслаўных магнатаў. Абвастрэнне палітычнай барацьбы ў дзяржаве і знешнепалітычная небяспека садзейнічалі падрыхтоўцы саюзу паміж каталіцкімі правячымі коламі Вялікага княства Літоўскага і Польскім каралеўствам, што і было аформлена Крэўскай уніяй (1385).

Вялікі князь Ягайла быў абвешчаны польскім каралем пад імем Уладзіслава II. Гэта дало магчымасці польскім феадалам і касцёлу атрымаць пэўны ўплыў на справы Вялікага княства. Апазіцыю гэтай палітыцы ўзначалілі спачатку (у 1380-х гг.) князі полацкі Андрэй Альгердавіч і смаленскі Святаслаў Іванавіч, а потым і гарадзенскі князь Вітаўт. Барацьба за ўплыў на справы ў Вялікім княстве Літоўскім скончылася Востраўскім пагадненнем (1392), згодна якому аўтаномія апошняга гарантавалася польскім дваром. Вялікім князем (гаспадаром) быў прызначаны Вітаўт, які павёў актыўную палітыку з мэтай цэнтралізацыі і ўмацавання незалежнасці дзяржавы, абмежаваў уплыў палякаў, далучыў шэраг тэрыторый (заходнія літоўскія землі ў 1411 г., Жмудзь у 1422 г., Падолле, Смаленск у 1402 г., Вязьму і інш.). Разам з Ягайлам на чале аб'яднаных войскаў у Грунвальдскай бітве (1410) ён спыніў агрэсію нямецкіх рыцараў Тэўтонскага Ордэну. З мэтай умацавання незалежнасці Вялікага княства і ўласнага становішча Вітаўт двойчы (у 1429 і 1430 гг.) рабіў захады прыняць тытул караля, аднак гэтаму ўсякі раз перашкаджалі польскія магнаты.

Пасля смерці Вітаўта ў Вялікім княстве Літоўскім пачалася актыўная барацьба за вялікакняскі трон паміж праваслаўнымі і каталіцкімі феадаламі. Падставай для гэтага з'яўлялася таксама палітыка (пачатая з Гарадзельскай уніі 1413 г.)[6] пашырэння правоў мясцовых феадалаў-католікаў. Нягледзячы на тое, што спецыяльнымі прывілеямі 1432 і 1434 гг. правы і прывілеі праваслаўных і каталіцкіх магнатаў былі ўраўнаваны, вялікія князі літоўскія не маглі прыпыніць апазіцыйны настрой тых ці другіх да ўлады. Таму вялікія князі Жыгмунт Кейстутавіч (1432—1440) і Казімір IV (1440—1492, з 1447 — кароль Польшчы) вымушаны былі пайсці на ўмацаванне сваёй улады шляхам стварэння новага кіраўнічага дзяржаўнага інстытута — рады (паны-рада). Фактычна ўсю ўладу і сістэму дзяржаўнага кіравання ў Вялікім княстве

[5] The Historical Atlas of Poland. Warzawa — Wroclaw. 1986. S. 16—17.

[6] Так, згодна § 11 і § 12 Гарадзельскага прывілею, правам выбрання вялікага князя карысталіся толькі «паны і шляхціці зямлі літоўскай, прыхільнікі хрысціянскай рэлігіі, рымскай царкве падуладныя, не схізматыкі ці іншыя паганыя...» Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 115—118.

Літоўскім узначальваў вялікі князь (гаспадар), аднак важную ролю пры гаспадары выконвала паны-рада, якая ўключала найбуйнейшых феадалаў дзяржавы (канцлеры, маршалкі, гетманы, падскарбіі, ваяводы, намеснікі і інш.), што кіравалі ваяводствамі, намесніцтвамі, вайскамі, фінансамі, вялікакняскім дваром, касцёлам і царквою. Паны-рада першапачаткова складалася толькі з католікаў, а з 1520-х гг. яшчэ і праваслаўных. Паны-рада вырашала ўсе найбольш важныя справы дзяржавы і фактычна абмяжоўвала ўладу вялікага князя[7]. З другой паловы XV ст. пачынае дзейнічаць новы саслоўны орган дзяржаўнай улады — вальны сойм, у які выбіраліся прадстаўнікі ад феадалаў усіх земляў Вялікага княства Літоўскага і які вырашаў і афіцыйна зацвярджаў усе найважнейшыя пытанні агульнадзяржаўнага характару. У канцы XV — першай палове XVI ст. да ўдзелу ў працы вальнага сойма дапускаліся ўсе прадстаўнікі, выбраныя мясцовымі шляхецкімі соймікамі[8], што адлюстроўвала павелічэнне ўплыву на дзяржаўнае кіраванне.

Падначаленне раздробленых усходнеславянскіх і балцкіх земель адзінай уладзе ў межах адной дзяржавы спыніла ў канцы XV ст. працэс феадальнага драблення і садзейнічала стварэнню ўмоў для ўмацавання сацыяльна-эканамічных і этнакультурных сувязей паміж рознымі тэрытарыяльнымі часткамі насельніцтва Беларусі, яго кансалідацыі і інтэграцыі з суседнімі народамі. Актывізаваўся працэс складання адзінай і цэласнай этнічнай тэрыторыі беларусаў[9] — неабходнай умовы для дзейнасці этнаўтваральных працэсаў.

Палітычнае аб'яднанне беларускіх земель і складанне асноўнай этнічнай тэрыторыі беларусаў садзейнічалі больш актыўнаму функцыянаванню вельмі важнага для працэсаў этнаўтварэння сацыяльна-эканамічнага фактара, дзейнасць якога адлюстроўвалася, перш за ўсё, у агульным працэсе развіцця феадальных адносін. Станаўленне іх адбылося на Беларусі ў папярэднія часы, а перыяд складання народнасці характарызаваўся іх далейшым развіццём. Аднак у XIV—XV стст. яшчэ захоўвалася пэўная сацыяльна-эканамічная і палітычная раз'яднанасць шэрагу беларускіх (і не толькі беларускіх) зямель Вялікага княства, калі яны мелі розныя юрыдычныя правы і палітычную аўтаномію з перавагай знешнеэканамічных сувязей над унутрыдзяржаўнымі, а кожная з буйных адміністрацыйна-палітычных тэрыторый з'яўлялася асобным эканамічным рынкам.

Ва ўмовах феадальнага спосабу вытворчасці з яго натуральнай сістэмай гаспадарання і перавагай занальных эканамічных арыентацый аб'яднальныя працэсы часам абмяжоўваліся рэгіянальнымі зямляцкімі сувязямі, што садзейнічала станаўленню перш за ўсё вузкалакальных форм этнасацыяльнага згуртавання насельніцтва. Далейшая інтэграцыя і кансалідацыя гэтых суполак у адзіны этнасацыяльны арганізм (этнас) залежыла ад узмацнення эканамічных, сацыяльных, палітычных, культурных, моўных і іншых адносін паміж рознымі тэрытарыяльнымі групамі насельніцтва[10].

---

[7] У складзе паноў-рады, якая налічвала ў сярэдзіне XVI ст. 40—60 чалавек, выдзялялася яшчэ больш цеснае кола райцоў вялікага князя — «пярэдняя рада», «тайная рада», куды запрашаліся толькі наймагутнейшыя феадалы дзяржавы пераважна каталіцкай веры, але markoрознага этнічнага паходжання. Гл.: Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского в связи с боярской думой древней России. Томск, 1912. Ч. II. С. 26—28, 59—60, 100, 102.

[8] Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 202—204.

[9] Анучин Д. Н. К вопросу о белорусской территории. Курс белорусоведения. М., 1920. С. 90—95; Гринблат М. Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. С. 58—135.

[10] Этнаграфія беларусаў. Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985. С. 62—64.

На першых этапах кансалідацыі (XIV—XV стст.) палітычнае аб'яднанне тэрыторый і насельніцтва само па сабе яшчэ не знішчала прававой і іншай лакальнай аўтаноміі асобных зямель, што добра відаць з тагачаснага федэратыўнатэрытарыяльнага і адміністрацыйнага падзелу дзяржаўных тэрыторый увогуле. У залежнасці ад умоў уключэння розных зямель у склад Вялікага княства Літоўскага змяняўся і іх статус. Многія землі і княствы здолелі дабіцца захавання «старыны» — амаль што тых жа правоў, што вызначалі іх палітыка-эканамічнае і сацыяльнае жыццё ў папярэднія часы. Захаванне ўсходнеславянскіх традыцый («старыны не рухати») было ў XIV—XV стст. прынцыпам сацыяльна-палітычнай дзейнасці вялікіх князёў літоўскіх у адносінах да беларускіх зямель, што было замацавана ва ўстаўных граматах і прывілеях для асобных зямель і княстваў[11].

Яшчэ ў перыяд 1500—1560 гг. Вялікае княства Літоўскае складалася з шэрага асобных тэрытарыяльных адзінак — «зямель» (Полацкай, Віцебскай, Смаленскай, Кіеўскай, Валынскай, Чарнігава-Северскай, Жмудскай і інш.), якія ў значнай ступені захоўвалі мясцовую юрыдычную і сацыяльна-палітычную самастойнасць. Непасрэдна аўтаномнымі землямі ў межах сучаснай Беларусі былі Полацкая і Віцебская, якія паступова пераўтварыліся ў намесніцтвы, а потым ваяводствы (адпаведна ў 1504 і 1506 гг.). Панёманская і Падняпроўская воласці ўваходзілі ў склад дзяржавы ў якасці велікакняскіх уладанняў і ў XVI ст. былі ўключаны ў склад Навагародскага (з 1507 г.) і Мсціслаўскага (з 1564 г.) ваяводстваў. У Навагародскае, Берасцейскае (з 1566 г.) ваяводствы ўвайшлі ў XVI ст. таксама некаторыя ўсходнія тэрыторыі Віленскага, Трокскага і Падляшскага ваяводстваў і асобныя княствы: Кобрынскае, Тураўскае, Пінскае, Слуцкае і Клецкае.

Тэрытарыяльна-адміністрацыйнае дзяленне 1555—1556 гг. і наступных часоў больш перакроіла ранейшую ўнутраную зямляцкую структуру Беларусі. Так, Навагародскае ваяводства распаўсюджвалася ад Ваўкавыска і Навагародка да Любані і Слуцка; Мінскае (з 1564 г.) — ад Барысава і Заслаўя да Мазыра і Гомеля; Берасцейскае — ад Пружан да Давыд-Гарадка і Турава; Віцебскае — ад Веліжа і Суража да Крычава і Рагачова; Мсціслаўскае — ад Краснага да Суража. Да Віленскага ваяводства (створана ў 1413 г.) прымыкалі землі Мядзеля, Ліды, Смаргоні і Браслава, а да Трокскага (з 1413 г.) — Гродзеншчына. Такі адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел значна парушаў папярэднюю зямляцкую структуру беларускіх зямель, што ўвогуле спрыяла цэнтралізацыі дзяржавы.

Паралельна гэтым працэсам ішла таксама палітыка юрыдычна-прававой цэнтралізацыі дзяржавы, што намецілася ўжо з XV ст. Перш за ўсё, тут трэба нагадаць узрастаўшую з таго часу тэндэнцыю прававой кадыфікацыі з мэтай пісьмова фіксаваць розныя лакальныя нормы права, сістэматызаваць іх і ўводзіць некаторыя новыя элементы ў агульнадзяржаўных інтарэсах. Кадыфікацыя суправаджалася таксама прававой уніфікацыяй, накіраванай на абагульненне саслоўных і зямляцкіх адрозненняў у адносінах да права. Першая спроба ўніфікацыі права была зроблена ў другой палове XV ст. у земскіх прывілеях, а потым — у Судзебніку Казіміра IV, якія датычылі прававога жыцця амаль што ўсіх саслоўяў на большасці зямель Вялікага княства Літоўскага[12]. У 1529 г. быў складзены першы

[11] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892. С. 1—62.

[12] Лаппо И. И. Судебник Казимира Ягайловича // Записки Русского научного института в Белграде. Белград, 1939. Вып. 17. С. 29—36.

Статут Вялікага княства Літоўскага, які афіцыйна быў прызнаны агульнадзяржаўным заканадаўчым актам. Гэта быў ужо галоўны прававы дакумент дзяржавы, які меў перавагу над лакальнымі юрыдычнымі нормамі. У адносінах да норм, якія не былі пісьмова зафіксаваны ў Статуце, захоўвалася «старына» (нормы «звычаю старадаўняга» — звычаёвага права)[13].

Удасканаленыя пісаныя нормы другога (1566) і трэцяга (1588) Статутаў распаўсюджваліся на ўсе саслоўі[14] і бытавалі ва ўсіх раёнах Вялікага княства Літоўскага. Як адзначалася ў трэцім Статуце, нават і «чужоземцы заграничники... тым же правом маюць быть сужоны». Рэдакцыйныя камісіі другога і трэцяга Статутаў складаліся з католікаў і праваслаўных, што павінна было забяспечыць захаванне інтарэсаў асноўных канфесіянальных груп насельніцтва дзяржавы.

У перыяд складання Статутаў у Вялікім княстве Літоўскім відавочна намецілася ўмацаванне ўнутрыдзяржаўных эканамічных сувязей. Падставай для гэтага з'яўлялася складанне адзінага агульнадзяржаўнага эканамічнага рынку, які фарміраваўся ў выніку аб'яднання больш дробных тэрытарыяльных рынкаў. Значную ролю тут адыгрывалі гарады і мястэчкі, доля гандлёва-рамесніцкага насельніцтва якіх у гэты час значна павялічылася, а гандлёвыя сувязі паміж імі ўзмацніліся. У XV—XVII стст. актыўна раслі гарады і мястэчкі ў Беларусі, Літве, Польшчы, на Украіне.

Гарады і мястэчкі выконвалі функцыю інтэгруючых сацыяльных, рэлігійных, гандлёва-рамесных, ваенных, культурных цэнтраў пэўных адміністрацыйных тэрыторый (валасцей, паветаў, зямель, удзельных княстваў, ваяводстваў). Найбольш буйныя гарады Беларусі таго часу Новагародак (Навагрудак), Гародня (Гродна), Бярэсце (Брэст), Мінск, Слуцк, Віцебск налічвалі ад 8—15 да 20—25 тыс. аседлага насельніцтва. У Полацку ў сярэдзіне XVI ст. жыло не менш 30 тыс. чалавек. Урбанізаванымі формамі вытворчай дзейнасці і арганізацыі насельніцтва характарызаваліся мястэчкі, колькасць якіх на Беларусі паступова павялічвалася (асабліва ў заходніх раёнах) і дасягала ў другой палове XVI ст. больш чым за 280[15]. Большасць гарадоў і каля паловы мястэчак належалі вялікаму князю літоўскаму. Многія з іх, а таксама некаторыя прыватнаўласніцкія гарады і мястэчкі мелі свае ўласныя органы самакіравання (магістраты, рады) і пэўную сацыяльна-палітычную аўтаномію, прадугледжаную магдэбургскім правам. Гарады, дзе была складаная канфесійная і этнічная структура насельніцтва, выбіралі членаў гарадскіх рад з праваслаўных і католікаў пароўну (Полацк, Навагрудак, Бярэсце і інш.). Нехрысціянскае насельніцтва не ўваходзіла ў склад магдэбургскіх гарадскіх абшчын, а карысталася асобымі правамі і прывілеямі[16]. Сваімі правамі кары-

[13] Асновай юрыдычных, сацыяльных і іншых норм Статута 1529 г. была «Руская праўда», а таксама шэраг нормаў звычаёвага права, розных вялікакняскіх прывілеяў, лістоў, ухвал і інш. Гл.: Пичета В. И. Литовский статут 1529 г. У кн.: Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960. С. 15—18; Юхо Я. А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 137—161.

[14] Правы і прывілеі розных саслоўяў былі між тым неаднолькавыя, пэўная розніца ў адносінах да права і адказнасці наглядалася нават і ў межах аднаго і таго ж саслоўя. Гл.: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. Разд. I, арт. I. С. 80.

[15] Alexandrowicz St. Wykaz miast i miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII wieku // Acta Baltico-Slavica. Białystok. 1970. T. VII. S. 65—105.

[16] Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII вв. Мн., 1975; Яго ж. Экономическое развитие городов Белоруссии в XV — первой половине XVII вв. Мн., 1966; Литовская метрика: Книга судных дел. Русская историческая библиотека. СПб., 1903. Т. XX. С. 9—11; Литовская метрика: Книга публичных дел. Русская историческая библиотека. Юрьев, 1914. Т. XXX. С. 183—184.

сталася і насельніцтва так званых юрыдык — прыватнаўласніцкіх частак гарадоў, якія падпарадкоўваліся не магістратам, а асобным свецкім ці духоўным феадалам, што пражывалі ў гарадах ці мелі там свае ўладанні.

Асноўнымі заняткамі насельніцтва гарадоў і мястэчак былі рамёствы, гандаль, розныя службовыя абавязкі і павіннасці. У той жа час вялікую долю ў гаспадарчых справах гараджан мелі і неўрбанізаваныя формы дзейнасці (сельскагаспадарчая праца, промыслы), удзельная вага якіх пачала скарачацца толькі ў другой палове XVI—XVII стст. Некаторая частка гарадскіх раменнікаў і гандляроў была аб'яднана ў так званыя цэхі (брацтвы), астатнія складалі катэгорыі пакутнікаў і партачоў, якім забараняўся продаж сваёй вытворчасці на гарадскім рынку. Значную частку жыхароў гарадоў (часта ад адной трэці) складалі беднякі: жабракі, валацугі (гультаі, «люзныя»), а таксама сельскае насельніцтва, якое прыходзіла на часовую працу па найму. Беднякі не карысталіся правамі гарадской магдэбургскай абшчыны. Рост гарадской і мястэчкавай вытворчасці і развіццё гандлёва-грашовых адносін паступова павялічвалі ролю гарадоў і мястэчак як гандлёвых цэнтраў, вакол якіх складваўся свой рынак, што ахопліваў бліжэйшую сельскую мясцовасць і меў сувязі з іншымі рынкамі такога ж роду.

Працэс функцыянавання лакальных рынкаў у некаторых рысах выяўляецца пры вывучэнні грашовай гаспадаркі таго часу. Так, па даных В. Н. Рабцэвіча, грашовыя адзінкі, якія былі сканцэнтраваны ў розных беларускіх рэгіёнах, доўгі час былі арыентаваны на знешнія эканамічныя рынкі. Нават пачатая ў XVI ст. эмісія дзяржаўнай манеты (так званых літоўскіх дэнарыяў) не магла забяспечыць грошамі землі ўсёй Беларусі. Таму літоўскія дэнарыі ў асноўным ужываліся ў заходніх ваяводствах беларускіх зямель. Прыбалтыйскай лівонскай манетай (шылінгамі) у той час карысталіся ў землях Полацка і Віцебска, якія мелі цесныя гандлёва-эканамічныя сувязі з Рыгай. На тэрыторыях Верхняга Падняпроўя, як і ўвогуле на Беларусі, выкарыстоўваўся галоўным чынам пражскі грош, які складаў у той час фундамент грашовай гаспадаркі Вялікага княства Літоўскага. Залатаардынскія грашовыя знакі (дзірхемы) доўгі час былі распаўсюджаны пераважна ў цэнтральнай частцы дзяржавы і заходнім Палессі. Паралельна з гэтымі манетамі на землях Беларусі бытавалі таксама буйныя наміналы ранейшага часу — срэбраныя грыўны.

Пачынаючы з XVI ст. асноўнай манетай усёй дзяржавы паступова становіцца грашовы знак унутранай вытворчасці — літоўскі паўгрош, які чаканіўся на манетным двары ў Вільні[17]. З гэтага часу грашовы абарот на тэрыторыі Беларусі характарызаваўся новымі, больш прагрэсіўнымі рысамі, але архаічныя формы таварна-грашовых адносін яшчэ працягвалі захоўвацца і асабліва ў асяроддзі асноўнай масы насельніцтва — сялянства.

Саслоўна-сацыяльная арганізацыя сялянства ажыццяўлялася ў XIV — першай палове XVII ст. у залежнасці ад прававога і маёмаснага становішча розных груп сельскіх жыхароў. Выдзяляліся, напрыклад, прыватнаўласніцкія і дзяржаўныя сяляне. Унутры гэтых груп існавала яшчэ некалькі катэгорый, кожная з якіх адрознівалася ад іншай прававым і маёмасным становішчам («чэлядзь нявольная», «халопы», «людзі непахожыя», «людзі пахожыя», «людзі айчынныя», «служылыя людзі» і інш.). У межах некаторых з гэтых катэгорый выдзяляліся яшчэ больш дробныя праслойкі: «халупнікі», «кутнікі», «людзі чорныя», «бабылі», «людзі люз-

[17] Рябцевич В. Н. О чем рассказывают монеты. Мн., 1977. С. 89—97, 100—114.

ныя», «цяглыя», «асадныя», «закупы» і інш.[18]

Кожная з названых катэгорый сялянства выконвала розныя павіннасці і карысталася рознымі правамі. Напрыклад, «даннікі» (адносна свабодныя земляробы) да пачатку актыўнага запрыгоньвання сялян з'яўляліся самай шматлікай праслойкай і былі арганізаваны ў сельскія абшчыны. Жылі яны галоўным чынам на дзяржаўных землях, якія апрацоўвалі за «даніну», а лугі, ляды, выганы, вадаёмы мелі ў абшчынным карыстанні. Паведамленні аб захаванні абшчыннага карыстання рознымі ўгоддзямі сустракаюцца нават і ў дакументах часоў запрыгоньвання (другая палова XVI—XVII стст.): «за реку Яселду сеножатьми и бортным древом, озерами з ловы и поколотками, з ловы рыбными и уюнными, и древа на будаванне, и на дрова, дранцы в лыки, и в лубье — вольно»[19].

Другая шматлікая катэгорыя сялянскага насельніцтва — «слабодзічы» («пахожыя», «захожыя», «прыхожыя», «вольнікі»). Яны карысталіся зямлёй па кантракту, які заключаўся на пэўны тэрмін паміж імі і феадаламі. Катэгорыя «отчычаў» была ў XV—XVI стст. ужо прымацавана да зямлі, аднак доўгі час яна магла з дазволу свайго феадала пакідаць яго землі (за пэўную плату). Асноўнай іх павіннасцю была паншчына, якую яны выконвалі «сахой, сярпом і тапаром». У катэгорыю «закупаў» сельскае насельніцтва трапляла за нявыплату даўгоў. «Закупы» былі, па сутнасці, прыгоннымі сялянамі (аднак па закону лічыліся свабоднымі). Поўнасцю ў прыгонным стане знаходзіліся бяспраўныя сялянскія праслойкі «халопы» і «чэлядзь нявольная»[20]. У гэту катэгорыю траплялі таксама ваеннапалонныя і злачынцы.

У XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім пачалі ажыццяўляцца аграрныя пераўтварэнні, якія былі праведзены спачатку каралевай Бонай Сфорца (жонкай Жыгімонта I Старога), а потым яе сынам каралём Жыгімонтам II Аўгустам. Асноўная мэта аграрных пераўтварэнняў і, перш за ўсё, валочнай памеры («Уставы на валокі») датычыла ўдасканалення сістэмы землекарыстання і падаткаабкладання для больш эфектыўнай эксплуатацыі зямлі і сялянства. У першай палове XVI ст. рэарганізацыя сельскай гаспадаркі закранула пераважна дзяржаўныя ўладанні: Гарадзенскага і Кобрынскага старостваў, былых Пінскага і Клецкага княстваў, што належылі Боне Сфорца. Дзяржаўныя гаспадаркі (фальваркі) ствараліся на лепшых землях, ліквідавалася цераспалосіца, абавязкова ўводзілася трохполле, асвойваліся новыя землі; за кожнай сялянскай гаспадаркай замацоўваўся вялікі зямельны надзел. Астатнія (нічэйныя) землі, а таксама лясы, лугі, выганы, сенажаці, азёры і іншае, заставаліся ў агульным карыстанні сялянства. У спецыялізаваных па жывёлагадоўлі і промыслах гаспадарках практыкавалася праца па найму, на якую ішлі «гаспадарскія сяляне» з катэгорыі «службовых людзей». Аграрныя рэформы часткова змянілі вясковую саслоўнасацыяльную і гаспадарча-эканамічную арганізацыю насельніцтва. Усё сялянства падзялялася на катэгорыі «людзей асадных», «цяглых» і «службовых». Першыя дзве катэгорыі знаходзіліся ўжо фактычна ў прыгоннай залежнасці. Асабліва цяжкае становішча было ў «цяглых» сялян, якія складалі большасць сялянства ўвогуле і былі пераважна прыватнаўласніцкімі.

[18] Пичета В. И. Белоруссия и Литва в XV—XVI вв. М., 1961. С. 21—43, 61—93, 101, 121; Довнар-Запольский М. В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1891. С. 5—26, 30—58, 72—94; Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. 1. С. 176—180.

[19] Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. Вильно, 1867. С. 77.

[20] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. С. 130.

Найбольш прывілеяванымі катэгорыямі былі «службовыя людзі», якія ў сваёй большасці з'яўляліся свабоднымі. У гэту катэгорыю ўваходзіла і свайго роду сялянская арыстакратыя таго часу («баяры путныя», «баяры служкі», «баяры панцырныя», «бортнікі», «палазнікі», «асочнікі», «стральцы» і інш.). У перыяд актывізацыі працэсу складання шляхецкага саслоўя (XV—XVII стст.) асноўнае папаўненне радоў шляхты і зямян ішло галоўным чынам з гэтых прывілеяваных слаёў службілага насельніцтва.

У колах феадальных вярхоў беларускага грамадства таго часу таксама назіраліся некаторыя змены, якія адлюстроўвалі складванне асобнай саслоўнай супольнасці «шляхецкага народа» ў межах не толькі Вялікага княства, але і Польшчы (асабліва пасля ўтварэння адзінай дзяржавы — Рэчы Паспалітай). Саслоўнае аб'яднанне феадальных вярхоў Беларусі, Украіны і Літвы з польскай шляхтай ішло паступова на працягу XIV—XVII стст. спачатку на ідэалагічным і юрыдычна-прававым, а потым і на канфесіянальным, моўным, бытавым і іншых узроўнях з адзінай мэтай стварэння асноўнай сацыяльнай апоры феадальнага ладу і дзяржавы.

Унутраная саслоўная структура «шляхецкага народа» была вельмі дыферэнцыраванай — ад беззямельнай і малазямельнай шляхты, быт якой мала чым адрозніваўся ад быту гараджан і вольных сялян, да магнатаў, у руках якіх былі правы і ўлада ўдзельных князёў[21].

Сацыяльна-маёмасная і прававая няроўнасць шляхецкага саслоўя адбілася на тэрміналагічна-паняційным узроўні. Вышэйшыя слаі феадальнага грамадства, напрыклад, былі прадстаўлены пераважна «князямі і княжатамі» (назвы «граф», «барон» і іншыя былі адносна новымі на Беларусі таго часу). Некаторы час да вышэйшых колаў феадалаў адносіліся і «баяры» ці «паны-баяры» (пазней «баярышляхта»). У XVI—XVII стст. маёмасная дыферэнцыяцыя катэгорыі баяр і працэсы складання адзінага шляхецкага народа абумовілі захаванне гэтай назвы пераважна для абяднеўшых слаёў («баяры панцырныя», «баяры служкі»)[22], якія займалі прамежкавае становішча паміж сялянамі і шляхтай. У гэтыя часы частка баяраў была пераведзена ў разрад феадальна-залежнага насельніцтва, а частка, атрымаўшы адпаведныя прывілеі і дарчыя граматы, увайшла ў шляхецкае саслоўе («повинность его шляхецкая — конем служить»)[23].

Сама назва «шляхта» да XVI ст. была больш тыповай для заходніх рэгіёнаў Беларусі, Літвы і Польшчы і звязвалася доўгі час з каталіцкім веравызнаннем. Пазней паняцце «шляхта» распаўсюдзілася на саслоўныя вярхі грамадства ўсёй Беларусі. Па маёмаснаму і прававому стану шляхта таксама была вельмі дыферэнцыраванай, што адлюстроўвалі назвы яе асобных праслоек («заможняя», «засценкавая», «частковая», «шарачковая», «галота» і інш.). Ваеннаслужачая пры крэпасцях і замках шляхта часта вызначалася паняццем «рыцары», а адміністрацыйна-чыноўная — «ураднікі», «возныя», «віжы». Яшчэ адна катэгорыя феадалаў — «зямяне» — таксама доўгі час не ўваходзіла ў склад менавіта шляхты («зямяне», напрыклад, не мелі права голасу на шляхецкіх сходах, соймах і сойміках).

[21] Ulewicz T. Sarmacja. Studium z problematyki slowianskiej XV—XVI w. Kraków. 1950. S. 5—9.

[22] Любавский М. К. Литовско-Русский сейм. М., 1900. С. 68—91, 154; Юргинис М. Ю. Бояре и шляхта в Литовском государстве // Восточная Европа в древности и средневековье. М., 1978. С. 125—135.

[23] Sieńkiewicz W. Bojarzy-slachta i ziemianie w dobrach przywatnych w Wielkim księstwe Litewskim w pierwszej połowie XVI wieku // Zapiski Historyczne. 1984. T. XVIII. S. 51—66.

Ужо з часоў Жыгімонта I Старога (1506—1548) шляхта Вялікага княства Літоўскага пачала барацьбу за свае правы і дабівалася юрыдычнай роўнасці з магнатамі, што паступова і адбывалася. У. I. Пічэта адзначаў, што ўжо прывілей 1413 г. часткова ўраўніваў у правах магнатаў і шляхту ў сферы грамадскіх адносін і палітычных правоў[24]. Аднак трэба падкрэсліць, што ў адрозненне ад феадалаў-католікаў праваслаўная феадальная вярхушка Вялікага княства Літоўскага (а з 1569 г. Рэчы Паспалітай) амаль заўсёды павінна была дабівацца роўнасці правоў з католікамі шляхам барацьбы. Гэта паслабляла дзяржаву, паколькі выражалася ў сепарацкіх настроях праваслаўных, эміграцыі ў суседнюю Маскоўскую дзяржаву, а часам і ў ваенных дзеяннях. Але супраць уплыву польскіх феадалаў на справы Вялікага княства амаль што ўся феадальная вярхушка апошняга ўз'ядналася незалежна ад веравызнання. Беларускія, літоўскія і ўкраінскія феадалы імкнуліся мець свае ўласныя, незалежныя, але роўныя правы з польскай шляхтай і магнатамі.

Ужо на Гарадзельскай уніі (1413) прадстаўнікі 47 шляхецкіх і баярскіх радоў Беларусі і Літвы атрымалі ўласныя гербы, што ў некаторай меры ўраўноўвала іх з польскімі феадаламі. Пэўная роўнасць правоў беларускіх, літоўскіх і польскіх феадальных вярхоў дасягалася пры Альгердзе, Вітаўце, Свідрыгайле, Жыгімонце Кейстутавічы, Казіміры IV, Аляксандры, Жыгімонце II[25]. На працягу XVI ст. шляхта канчаткова ператварылася ў прывілеяванае саслоўе і юрыдычна была ўроўнена ў правах з магнатамі.



12. Пячаткі часоў Вялікага княства Літоўскага. XVI ст.

Напрыклад, да гэтага часу ў Вялікім княстве функцыянавалі так званыя соймы (сеймы), якія складаліся з ваявод і буйных свецкіх і духоўных феадалаў і вырашалі ўсе галоўныя мясцовыя пытанні. З пачатку XVI ст. мясцовыя соймы былі заменены шляхецкімі соймікамі (сеймікамі) з тымі ж функцыямі. Ужо другі Статут (1566) пацвердзіў права шляхты судзіцца ў Вальным Сойме ў адным судзе з магнатамі і засядаць не толькі ў павятовых, але і ў новым саслоўна-прадстаўнічым органе з вышэйшымі заканадаўчымі і кантрольнымі функцыямі[26]. Вальны Сойм складаўся з Гаспадарчай Рады (Сэната) і павятовых паслоў, выбраных на мясцовых шляхецкіх сойміках і аб'яднаных у так званую Пасольскую Ізбу. Пазней соймы ўвогуле пачалі выконваць функцыі Гаспадарчай Рады і абмяжоўвалі пры гэтым ролю саветнікаў-магнатаў пры гаспадары (вялікім князі альбо каралі). Аднак фактычнай унутрысаслоўнай роўнасці не было. Заможныя магнаты «купля-

[24] Пичета В. И. Белоруссия и Литва в XV—XVI вв. М., 1961. С. 520—530.

[25] Коялович М. О. Лекции по истории Западной России. Мн., 1864. С. 158—162, 169—185, 191—195; Mosvicki. Unia Polska z Litwa. Dokumenty i Wspomnienia. Warszawa, 1934. S. 14—20.

[26] Любавский М. К. Литовско-Русский сейм. С. 428—473, 659—661; Сокол С. Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI — первой половины XVII вв. Мн., 1984. С. 6—9.

лі» галасы шляхты на соймах і сойміках, у судовых органах і інш. Сярэдняя і дробная шляхта знаходзілася ў эканамічнай залежнасці ад буйных магнатаў, якія імкнуліся да ўсталявання і ўзмацнення магнацкай алігархіі. Аднак, калі мясцовыя магнаты, якія не жадалі дзяліць свае манапольныя правы ў дзяржаве з польскімі феадаламі, стрымлівалі ўплыў апошніх на справы ў Вялікім княстве Літоўскім, то шляхта, наадварот, імкнулася да абмежавання магнацкай улады шляхам аб'яднання з польскай шляхтай у барацьбе за сваю шляхецкую вольніцу.

Дробная і сярэдняя шляхта Вялікага княства Літоўскага выступала за аб'яднанне з Польшчай і хацела ўчыніць супольны сойм з палякамі («каб разам караля выбіралі, мелі агульную абарону, супольна соймікавалі і права аднолькавае ўжывалі»)[27]. Мэту аб'яднання дзяржаў падтрымлівала каталіцкае духавенства і польскія феадалы. Да таго саюзу імкнуліся і многія грамадскія слаі менавіта Беларусі, якія былі напалоханы пастаяннай ваеннай экспансіяй з боку Маскоўскай дзяржавы (войны ішлі на працягу амаль што ўсёй першай паловы XVI ст.) і стратай шэрага ўсходніх тэрыторый Вялікага княства, у тым ліку і беларускіх. Цяжкае знешнепалітычнае становішча Вялікага княства (няўдачы ў войнах з Маскоўскай дзяржавай, у Лівонскай вайне) абвастрылі ўнутрыпалітычную сітуацыю, што таксама спрыяла ўмацаванню тэндэнцыі больш цеснага аб'яднання з Польшчай. За заключэнне новай уніі з польскай Каронай выступаў і Жыгімонт II Аўгуст (1544—1572), які збіраўся стаць каралём Польшчы, але захаваць за сабой тытул вялікага князя літоўскага.

У выніку ў 1569 г. была заключана Люблінская ўнія, згодна якой Вялікае княства і Польшча аб'ядналіся ў адзіную федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую з агульнадзяржаўным соймам (з гэтага часу сеймам) і адзіным выбарным каралём. Супраць такой уніі выступала магнатэрыя і частка буйнай шляхты Вялікага княства Літоўскага, якія адстайвалі пэўны суверэнітэт княства (асобны ўрад, войска, заканадаўства, дзяржаўныя межы, вышэйшыя дзяржаўна-адміністрацыйныя пасады, фінансы[28], дзяржаўную мову — старажытнабеларускую і старажытнаўкраінскую[29] і інш.). Аднак увогуле вынікі барацьбы беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх феадальных вярхоў за палітычную самастойнасць у складзе Рэчы Паспалітай былі абмежаванымі[30]. Паменшылася і тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага з прычыны таго, што землі Украіны і Падляшша адышлі пад юрысдыкцыю польскай Кароны.

Уваходжанне Беларусі ў стракатую па этнічнаму складу Рэч Паспалітую садзейнічала павелічэнню арэала інтэграцыйных працэсаў, пашырэнню міжэтнічных сувязей і ўзмацненню працэсаў узаемаўплыву розных народаў. Гэта абумоўлівала пранікненне на Беларусь большай колькасці іншаэтнічных элементаў культуры, мовы, сацыяльных і палітычных адносін, чым гэта было раней. Аднак актыўныя міжэтнічныя кантакты ў рамках новай дзяржавы не заўсёды насілі пазітыўны ці хаця б нейтральны характар у этнічным развіцці і гістарычных лёсах народаў, якія яе складалі.

---

[27] Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwa. Kraków, 1932. № 39.

[28] Halecki O. Dzieji unii jagellonskiej. Kraków, 1919. T. I. S. 302.

[29] Калі палажэнне аб мове парушалася, шляхта часта пратэставала. Так, напрыклад, у 1576 г., калі кароль С. Баторый выклікаў да сябе прадстаўнікоў браслаўскай і брацлаўскай (адпаведна беларускай і ўкраінскай) шляхты позваю, напісанай па-польску, яны адмовіліся, на падставе парушэння «старыны». Гл.: Акты Западной России. СПб., 1848. Т. III. С. 187.

[30] Напрыклад, на соймах Рэчы Паспалітай з 180 выбраных на сойміках па ўсёй дзяржаве паслоў толькі 46 прыходзілася на Вялікае княства (з іх 34 з Беларусі).

З аднаго боку, раўнапраўныя саюзніцкія адносіны Вялікага княства і Кароны мелі шэраг выдатных вынікаў для беларускага, украінскага, літоўскага і польскага народаў. Напрыклад, значна пашырылася сфера ўзаемнай эканамічнай дзейнасці, умацоўвалася ваенна-палітычнае становішча дзяржавы, уладкоўвалася ўнутрыпалітычнае функцыянаванне агульнадзяржаўных механізмаў. На Беларусь і Літву пачалі актыўна пранікаць выдатныя з'явы агульнаеўрапейскай культуры, сацыяльна-палітычных і гаспадарча-вытворчых адносін.

З другога боку, адносіны паміж дзвюма часткамі дзяржавы (Вялікім княствам і Польшчай) насілі часам нераўнапраўны характар на карысць Кароны, асабліва ў этнічнай і рэлігійнай сферах, што часта выклікала вострыя канфесійныя і нацыянальныя канфлікты. Яшчэ ў XV ст. у часы Казіміра міждзяржаўная інтэграцыя Вялікага княства і Кароны павінна была ажыццяўляцца пад лозунгам «адна дзяржава — адзін народ», які, аднак, у той час не атрымаў падтрымкі. Пасля Люблінскай уніі, калі Польшча навязала Вялікаму княству шэраг несправядлівых, а нават і кабальных умоў для міждзяржаўнага саюза, польскія феадалы зноў прапанавалі лічыць, што «Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае... уяўляюць сабой... адно цэлае і адзін народ»[31].

Гэты ўвогуле натуральны для дзяржаўных адносін тэзіс не мог у той час ажыццяўляцца ў Рэчы Паспалітай, бо яшчэ не было і напэўна не магло быць роўнасці правоў розных саслоўяў, этнічных груп і народаў, канфесій, нават абедзвюх частак дзяржавы. Таму ў другой палове XVI ст. гэта ідэя зноў не стала папулярнай у Вялікім княстве, якое прагнула захоўваць пэўную аўтаномію ў складзе Рэчы Паспалітай, што выражалася ў самастойных органах улады і кіраўніцтва, заканадаўства і мовы, фінансаў і войска. Амаль усе саслоўныя групы феадальнага грамадства Беларусі і Літвы змагаліся за паслабленне польскага ўплыву, і ў першую чаргу найбольш сацыяльна і палітычна актыўнымі былі магнаты, шляхта і гараджане. Напрыклад, Леў Сапега (які быў ужо ў той час католікам), выказваючы асобную дзяржаўную самастойнасць, адзначаў, напрыклад, у лісце 1588 г. да К. Радзівіла: «Мы і палякі хоць і брацьця, але зусім адменных звычаяў», а пратэстуючы супраць далучэння да Кароны былых зямель Вялікага княства, пісаў: «Палякі не толькі забралі бясправна інфлянцкія замкі, але нават і тыя, што народ наш трымаў...». «Гэта страцілі мы дзеля таго, што самі з сабой не прававаліся...»[32].

Паказальна таксама і пазіцыя Статута Вялікага княства Літоўскага (1588), аўтары якога (рэдакцыйная камісія складалася з католікаў і праваслаўных), пратэстуючы супраць умяшання Польшчы ў справы Вялікага княства, афіцыйна вызначалі палякаў як «чужоземцов», «загранічнікаў», якія аб'яднаны ў адну дзяржаву з літоўцамі і беларусамі толькі на аўтаномных правах і не з'яўляюцца «родичом старожитным и уроженцом Великого князства Литовского и иных земель, тому Великому князству належачых»[33].

Працэсы дзяржаўна-палітычнай інтэграцыі па-рознаму адбіліся на розных этнічных характарыстыках беларусаў. Менш за ўсё ў XIV — першай палове XVII ст. яны закранулі сферу традыцыйнай культуры і быта, самасвядомасці

---

[31] Юхо Я. Уніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай // Полымя, № 3, С. 218.

[32] Шкялёнак М. У трохсотныя ўгодкі сьмерці Вялікага канцлера Льва Сапегі. Вільня, 1933. Кн. 1.

[33] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. Разд. 3, арт. 12. С. 118; Гэты артыкул Статута вельмі істотна папраўляў тыя згоды Люблінскай уніі, па якіх дазвалялася «набываць маёнткі і валодаць імі паляку ў Літве, а ліцвіну ў Польшчы».

і форм этнічнага самавызначэння. Больш значна яны адбіліся на канфесіянальнай і моўнай сферах, на прафесійнай культуры. Аднак неабходна заўважыць, што гэты працэс быў абумоўлены не столькі этнічным, колькі сацыяльным фактарам саслоўнай прыналежнасці. Таму ў розных саслоўях грамадства іншаэтнічны ўплыў спалучаўся з некаторымі асаблівасцямі іх канфесіянальнага, дэмаграфічнага і этнічнага становішча.

Дэмаграфічнае становішча зямель Беларусі на перыяд XIV—XV стст. амаль што не вывучана ў сувязі з адсутнасцю неабходных для гэтага гістарычных матэрыялаў. Некаторыя дэмаграфічныя рэканструкцыі ўдалося зрабіць даследчыкам XIX—XX стст. у адносінах да больш позніх часоў — другой паловы XVI — XVIII ст. (з канца XVIII ст. пачаліся перапісы насельніцтва). Падставай гэтых рэканструкцый з'явіліся фіскальныя вопісы, люстрацыі, якія распаўсюдзіліся ў Беларусі і Літве на працягу XVI ст. у сувязі з аграрнымі пераўтварэннямі, удакладненнем падаткаабкладання насельніцтва Вялікага княства Літоўскага (потым Рэчы Паспалітай), а таксама для вывучэння колькаснага складу сямей. У выніку даследаванняў было адзначана, што агульны дэмаграфічны масіў насельніцтва Беларусі налічваў на сярэдзіну — другую палову XVI ст. каля 2 млн чалавек, а на сярэдзіну XVII ст. каля 2 млн 800 тыс. чалавек[34].

Асноўную частку насельніцтва Беларусі ў тыя часы складала сялянства, колькасць якога ў працэнтных адносінах у перыяд з XVI да другой паловы XVII ст. некалькі скарачалася (з 95—90% да 85—80%) за кошт росту гарадоў і асабліва мястэчак, жыхары якіх пападалі ў разрад мяшчан («месцічаў»). Колькасць апошніх у адзначаны перыяд павялічылася ад 3—4% да 10—12% ад агульнай колькасці насельніцтва. Адбываўся таксама рост працэнтнай і фактычнай колькасці феадалаў у сувязі з фарміраваннем шляхецкага саслоўя, а таксама духавенства (асабліва манахаў). У часы войнаў, мораў, неўраджаеў павялічвалася таксама колькасць непрацоўнага насельніцтва («люзных людзей», «людзей убогіх», «гультаёў»), якое часам разрасталася да катастрафічных памераў за кошт абяздольвання сялян і мяшчан.

У перыяд ад XIV да першай паловы XVII ст. на Беларусі адбыліся змены і ў такіх дэмаграфічных паказчыках, як характар і шчыльнасць рассялення насельніцтва. Змены былі абумоўлены агульным дэмаграфічным ростам насельніцтва, а таксама сацыяльнымі і гаспадарчымі (у прыватнасці аграрнымі) рэформамі XVI ст. Размова ідзе аб дзяржаўнай праграме па асваенню новага жыццёвага і гаспадарчага прастору, павелічэнню колькасці раллёвай зямлі і сельскіх паселішчаў, а таксама росту колькасці мястэчак і ўзбуйнення гарадоў. У выніку на працягу XVI — першай паловы XVII ст. на Беларусі пачалося складванне таго знешняга аблічча паселішчаў і культурных ландшафтаў, якія сталі тыповымі для розных рэгіёнаў краіны ў будучым.

Так, па даных В. С. Цітова, у паўночным рэгіёне Беларусі — Падзвінні — асноўная маса сельскага насельніцтва са старадаўніх часоў жыла ў невялікіх вёсках, хутарах, засценках, якія размяшчаліся даволі густой сеткай, але вельмі дысперсна. Найменш заселенай была тэрыторыя днепра-дзвінскага водападзелу, а таксама заходнія часткі Падзвіння (Бра-

[34] Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905; Сям'я і сямейны быт беларусаў. Мн., 1900. С. 20—34; Карпачев А. М., Козловский П. Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Л., 1972. С. 86—92; Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwe i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965. S. 214—216. Табл. 23.

слаўшчына), дзе наглядаліся адзіночныя астравы культурных ландшафтаў і паселішчаў. Шчыльнасць насельніцтва ў Падзвінні была ніжэйшай, чым, напрыклад, у Цэнтральнай Беларусі. У сярэдняй частцы Беларусі, у тым ліку ў басейне Дняпра, характар рассялення характарызаваўся значнай кампактнасцю і шчыльнасцю насельніцтва. Асабліва найбольш заселенай была левабярэжная частка Падняпроўя — Аршанска—Магілёўская раўніна. Правабярэжжа Дняпра было заселена слабей (асабліва такія часткі, як тэрыторыя паміж Бярэзіной і Друццю, Друццю і Дняпром, у раёне Быхава)[35]. Значна большая шчыльнасць насельніцтва назіралася на захад ад Бярэзіны — у вярхоўях Случы і Лані на абшырнай Слуцка—Нясвіжскай раўніне, дзе былі вельмі добрыя для земляробства землі. Сельскія паселішчы тут былі параўнальна буйныя і налічвалі па 20—40 двароў.

У XVI — першай палове XVII ст. значна змяніўся характар рассялення насельніцтва ў Панямонні, дзе шырока бытавалі як малыя, так і вялікія вёскі, аколіцы, выселкі, засценкі, фальваркі, мястэчкі са сваімі характэрнымі рысамі, якія складалі асаблівасці культурнага і дэмаграфічнага становішча рэгіёну. Амаль да сярэдзіны XVI ст. характэрным тыпам паселішчаў тут былі невялікія вёскі, раскіданыя на вялікай тэрыторыі і без выразнай планіроўкі. У выніку ажыццяўлення пасля 1557 г. «Уставы на валокі» (якая ахоплівала большасць сельскіх паселішчаў Панямоння) былі створаны шмат новых сёл вулічнага тыпу, якія сталі найбольш тыповымі на гэтых землях. Шчыльнасць насельніцтва ў Панямонні была даволі высокай. Характар мясцовасці палескага рэгіёну вызначаў значную прасторавую дыферэнцаванасць культурных ландшафтаў і паселішчаў. Апошнія ўяўлялі сабой шматдворныя вёскі, якія то размяшчаліся кампактна на невялікай тэрыторыі, то значна аддаляліся адна ад другой, што ўвогуле складала няроўны тапаграфічны і дэмаграфічны малюнак. Найбольш заселенымі былі заходняя частка Палесся — Пабужжа (за выключэннем Белавежскай пушчы), а на ўсходзе раўніны — раён ніжняга цячэння Прыпяці. У цэнтральнай частцы Палесся высокай шчыльнасцю паселішчаў характарызавалася Тураўская раўніна. У той жа час землі ад Турава да Пінска былі заселены слаба. Аналагічная сітуацыя назіралася ў некаторых паўночных раёнах Палесся, напрыклад, на землях паміж вярхоўямі рэк Шчары, Цны і Лані. Дысперсны характар рассялення характарызаваў і некаторыя раёны правабярэжжа Прыпяці (напрыклад міжрэчча Гарыні і Ўборці)[36].

Увогуле трэба адзначыць, што на працягу XIV — першай паловы XVII ст. колькасць паселішчаў на Беларусі значна павялічылася, асабліва за кошт новых сельскіх паселішчаў (звычайна невялікіх) і мястэчак. Найбольш дынамічна гэты працэс ажыццяўляўся ў другой палове XVI — першай палове XVII ст. і быў звязаны з культурнай каланізацыяй асяроддзя бытавання насельніцтва, яго агульным колькасным ростам, аграрнымі і іншымі рэформамі, актывізацыяй таварна-гандлёвых адносін, а ў выніку — з узмацненнем камунікатыўных сувязей паміж рознымі тэрытарыяльнымі часткамі насельніцтва Беларусі.

У этнічным аспекце асноўную частку насельніцтва краіны складалі ўсходнія славяне і менавіта беларусы, праваслаўныя часткі якіх называліся ў той час «русінамі», «русічамі», «руссю». Арэал распаўсюджвання беларусаў быў увогуле

---

[35] Титов В. С. Историко-этнографическое районирование материальной культуры белорусов. Мн., 1983. С. 24—27.

[36] Титов В. С. Историко-этнографическое районирование материальной культуры белорусов. С. 28—30; Гісторыя Беларускай ССР. Т. І. Мн., 1978. С. 88—89.

цэльны, а ў межах Беларусі (і нават некалькі шырэй на ўсход, поўнач і захад) — кампактны. Усходнеславянскія землі (беларускія, украінскія, часткова рускія) складалі большасць тэрыторый Вялікага княства Літоўскага. У пачатку XVI ст. уласна этнічныя землі Аўкштайціі і Жмудзі займалі толькі 1/15 частку ад усёй плошчы дзяржаўных зямель. Нават і ў другой палове XVI ст., калі Вялікае княства згубіла ў выніку войн з Маскоўскай дзяржавай шэраг усходніх тэрыторый, а пасля Люблінскай уніі яшчэ Украіну і Падляшша, беларускія землі і тады займалі большасць дзяржаўных тэрыторый. Так, Жмудзь разам з Трокскім і Віленскім ваяводствамі мелі плошчу ў 98935 км$^2$, а Навагародскае, Берасцейскае, Менскае, Полацкае, Віцебскае і Мсціслаўскае ваяводствы — 198600 км$^2$. Усходнеславянскае насельніцтва складала большую частку з колькасці ўсіх жыхароў дзяржавы[37]. Так, па падліках Г. Лаўмяньскага, колькасць уласна літоўцаў сярод насельніцтва Вялікага княства складала не больш чым 20%[38].

Па падліках Я. Якубоўскага, тэрыторыя менавіта Літвы займала да сярэдзіны XVI ст. 1/6 плошчы ўсіх тэрыторый Вялікага княства, аднак большая, на яго думку, шчыльнасць размяшчэння насельніцтва дазваляе гаварыць, што «ліцвіны» складалі трохі менш за палову ўсіх жыхароў дзяржавы[39]. Па сучасных даследаваннях, лічбы іншыя — у сярэдзіне XIV ст. літоўскія землі складалі 28% дзяржаўных тэрыторый, у 1430-я гг. — 8%, а ў першай палове XVI ст. — 13%[40].

Рознасць і спрэчнасць гэтых думак абумоўлены складанасцю сапраўднай дыферэнцыяцыі насельніцтва таго часу на літвінаў-аўкштайтаў, жмудзінаў і іншых балтаў, з аднаго боку, і літвінаў-беларусаў, русінаў — з другога. Не дапамагае вызначыць этнічны склад насельніцтва і тапаніміка, што грунтуецца на вельмі ўмоўных межах распаўсюджвання паняццяў «Літва» і «Русь», у межах якіх пражывалі як літоўска-, так і беларуска- і ўкраінскамоўныя групы. Акрамя таго, трэба ўлічваць больш-менш (у розныя часы) актыўную тэндэнцыю асіміляцыі (славянізацыі) балцкага насельніцтва, якая працягвалася на заходніх землях Беларусі, Аўкштайціі і Падляшша з часоў рассялення там славян да XIX—XX стст. Аднак усё ж трэба адзначыць, што ўсходнеславянскае (а ўлічваючы працэсы паланізацыі — і ўвогуле славянскае) насельніцтва ў перыяд існавання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай складала большасць у дэмаграфічным становішчы, што адлюстроўвалася нават і ў палітыцы вялікакняскага і каралеўскага двароў.

Гэтыя абставіны, напрыклад, доўгі час абумоўлівалі параўнальна лаяльныя адносіны кіруючай вярхушкі балцкага паходжання да ўсходніх славян (і да беларусаў у прыватнасці), да іх мовы, культуры, звычаяў і традыцый. У сацыяльна-палітычным плане гэта выявілася ў захаванні і нават успрыманні ў агульнадзяржаўным маштабе ўсіх асноўных усходнеславянскіх форм грамадскага ладу. Лаяльныя адносіны адлюстроўваліся, напрыклад, на прызнанні шырокага імунітэту за ўсходнеславянскімі феадальнымі вярхамі. Беларускія магнаты і буйная шляхта (як праваслаўная, так і пазней акаталічаная) заставаліся не толькі ўладарамі сваіх «вотчынных» і «дзедзічных» зямель, але атрымлівалі пасады і кіраўніцтва ў менавіта літоўскіх этнічных тэрыторыях, уваходзілі ў склад вышэйшага кіраўніцтва дзяржавы пры «гаспадары» (у гаспадар-

---

[37] Kosman M. Historia Białorusi. Wrocław—Warszawa—Kraków—Gdańsk, 1979. S. 74, 106.

[38] Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 390.

[39] Jakubowski J. Studia nad stosunkami narodowościowemi na Litwe przed Unią Lubelska. Warzawa, 1912. S. 6.

[40] Батура Р. К., Пашуто В. Т. Культура Великого княжества Литовского // Вопросы истории. 1977. № 4. С. 95.

скай радзе, пярэдняй радзе, сенаце і інш.)[41]. Асабліва актыўна вялікакняская ўлада пачала прыцягваць да кіравання дзяржавай беларускіх і ўкраінскіх магнатаў у першай палове XVI ст.

Гэта было абумоўлена, перш за ўсё, знешнепалітычнай небяспекай, якая зыходзіла з боку Маскоўскай дзяржавы. Вярхоўная ўлада Вялікага княства пачала актыўна прыцягваць на свой бок розных феадалаў беларускіх, украінскіх і рускіх зямель з мэтай утрымаць у складзе дзяржавы багатыя і вялізныя тэрыторыі на ўсходзе. Таму ўжо ў канцы XV — першай палове XVI ст. у вышэйшыя колы ўлады былі дапушчаны прадстаўнікі знатных радоў беларускага і ўкраінскага паходжання: Глябовічаў, Іллінічаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Храптовічаў, Зяноўевічаў, Вяжэвічаў, Друцкіх, Солтанаў, Грамык, Копацяў, Адзінцэвічаў, Саламярэцкіх, Астрожскіх, Багавіцінавічаў і інш.[42]

У XVI ст., калі да актыўнага ўдзелу ў дзяржаўных справах пачала дапускацца шляхта, прадстаўнікі беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель сталі ўдзельнічаць у пасяджэннях соймаў і соймікаў. Колькасныя суадносіны, аднак, былі на карысць літоўскай шляхты — з прыблізна 13 тыс. шляхецкіх сямей Вялікага княства крыху больш за 6 тыс. было карэнных літоўскіх[43].

Адсутнасць вострага міжэтнічнага антаганізму паміж усходнеславянскім і балцкім насельніцтвам Вялікага княства, уладкаванне ў XVI ст. сацыяльных і саслоўных адносін у правячых колах дзяржавы абумоўлівалі актывізацыю інтэграцыйных працэсаў паміж беларусамі і ўкраінцамі, з аднаго боку, і літоўцамі — з другога, нівеліроўку некаторых этнічных асаблівасцей, перш за ўсё ў асяроддзі пануючых класаў і гараджан. Гэта выяўлялася ва ўспрыняцці некаторымі сацыяльнымі слаямі літоўскага грамадства асобных элементаў усходнеславянскай (беларускай і ўкраінскай) культуры, мовы, рэлігіі, права і інш. Даволі шырока былі распаўсюджаны і міжэтнічныя шлюбы, напрыклад, у колах пануючага саслоўя. Так, украінскага паходжання Хадкевічы былі сваякамі Карэцкіх (нашчадкаў Гедыміна), Кязгайлаў, Сангушкаў. Беларускага паходжання род Іллінічаў меў сваякоў сярод літоўскай арыстакратыі: Давойнаў, Гедыгольдавічаў, Забеpазінскіх, Радзівілаў. Літоўскія князі Гальшанскія, Сангушкі былі ў сваяцтве з Сапегамі; Глябовічы — з Восцікамі і гэтак далей[44].

Вялікую інтэграцыйную функцыю выконвала ў той час у дзяржаве ўсходнеславянская (і ў тым ліку беларуская) мова. Ступень развіцця ўсходнеславянскіх моўных форм (старажытнарускай, беларускай, украінскай) і наяўнасць пісьменнасці вызначылі поліэтнічны характар распаўсюджвання літаратурнай мовы. Як паказваюць сучасныя даследаванні, перыяд найбольш актыўнага пашырэння камунікацыйных міжэтнічных функцый беларускай мовы адносіцца да XV — першай паловы XVII ст.[45] У гістарычных дакументах XV—XVI стст. часам сустракаюцца звесткі аб характары і межах распаўсюджвання старажытнабеларускай (ці, як яе тады называлі часцей, — «рускай») мовы ў Вялікім княстве. Напрыклад, адзін з артыку-

[41] Адначасова і магнатэрыя літоўскага паходжання мела аналагічныя правы і ўзначальвала розныя кіруючыя пасады ва ўсходнеславянскіх землях (прадстаўнікі радоў Радзівілаў, Сангушкаў, Гаштольдаў, Гальшанскіх, Восцікаў, Забеpазінскіх, Мантыгірдавічаў і інш.). Гл.: Любавский М. К. Литовско-русский сейм. С. 347—352; Малиновский И. А. Рада Великого княжества Литовского. С. 428—440.

[42] Скарына і яго эпоха. Мн., 1990. С. 47—57.

[43] Ochmański H. Historya Litwy. Wrocław, 1978. S. 84—85.

[44] Скарына і яго эпоха. С. 55.

[45] Жураўскі А. І. Двухмоўе і шматмоўе ў гісторыі Беларусі // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982. С. 20—26.

лаў Статута (1588) гаворыць: «А писар земский маеть по-руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы»[46]. Даследчыкі падкрэсліваюць, што многія асноўныя юрыдычныя дакументы дзяржавы, якія былі пісаны «па-руску», маюць тыповыя прыкметы беларускай літаратурнай мовы, у якой ужо з XV ст. замацоўваюцца граматычныя і лексічныя формы народнай гаворкі[47]. На беларускай мове таго часу пісаліся і справаздачныя дакументы вялікакняскай канцэлярыі, розныя гарадскія, земскія і іншыя прывілеі, а таксама летапісы (напрыклад «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»)[48].

Усё гэта дазваляе лічыць, што старажытнабеларуская мова выконвала ў той час камунікатыўныя функцыі як у межах Беларусі, так і Літвы і Жмудзі. Мова «рускіх», як адзначалі сучаснікі, скарыстоўвалася ў Вялікім княстве значна шырэй, чым мовы іншых народаў, якія яго насялялі[49]. На гэтай мове размаўлялі амаль што ўсе вялікія князі, літоўская феадальная знаць пасля ўзнікнення Рэчы Паспалітай, нават і каралі гэтай дзяржавы[50].

Жыгімонт III Ваза пастанавіў у 1581 г. надрукаваць «па-руску» Статут Трыбунала Вялікага княства Літоўскага, што і адбылося ў 1586 г., якім абавязаны былі карыстацца суддзі-дэпутаты пры разгля-



13. Трыбунал Вялікага княства Літоўскага. Тытульны ліст. Вільно, 1586 г.

данні розных апеляцыйных як свецкіх, так і касцельных спраў. На вельмі блізкай да старажытнабеларускай мове была выдадзена ў першай палове XVI ст. выдатным беларускім асветнікам і гуманістам Ф. Скарынай «Біблія Руска» з мэтай «...абы братия моя русь, люди посполитые, чтути могли лепей разумети»[51].

Увогуле, разглядаючы пытанне аб характары распаўсюджання «рускай» мовы, трэба адрозніваць граматычныя, лексічныя і іншыя асаблівасці норм літаратурна-канцэлярскай мовы, якая была агульнадзяржаўнай і мела ў сваім складзе шмат запазычанняў з так званай «старажытнарускай» мовы папярэдніх часоў і народных, «простых» гаворак-дыялектаў.

[46] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Разд. 4, арт. 1. С. 140; Собрание древних грамот и актов городов Вильны, Ковна и Трок. Вильно, 1843. Ч. 1. № 13—14.

[47] Шакун Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1963. С. 79.

[48] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 49—56.

[49] Vetera monumenta Poloniae et Lithuanie. Ed. A. Theimer. Romal, 1961. T. II. S. 277—278.

[50] Гэты Трыбунал дзейнічаў пераважна па справах зямель Беларусі і Літвы і адбываўся па чарзе ў Вільні, Троках, Менску, Навагародку. Землі Польскай кароны, Украіны і некаторы час Жамойціі мелі свае ўласныя трыбуналы, што збіраліся ў іншых месцах Рэчы Паспалітай (напрыклад: Кракаве, Варшаве, Луцку, Росенях).

[51] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 47.

Тое, што пісалася ў вялікакняскай канцэлярыі ці летапісцамі і храністамі, часта не адпавядала жывым народным гаворкам. Рознасць паміж літаратурнай і народнай мовамі была вельмі характэрнай з'явай шмат у якіх еўрапейскіх народаў тых часоў і наглядалася амаль да XVII—XIX стст. — часоў так званай «дэмакратызацыі» моў.

На думку Я. Якубоўскага, амаль што да часоў Жыгімунта II Аўгуста дзяржаўнай мовай (у тым ліку і мовай двара, магнатаў, канцэлярыі) была «руская» мова, якой у кожнадзённым быце адпавядала «беларушчына» — нормы простай жывой мовы, якая іншы раз называлася «літоўскай». Ён падкрэслівае, што менавіта жывая разгаворная беларуская мова паступова распаўсюджвалася і сярод вышэйшага класа Літвы: «Ужо ў часы Ягайлы, а магчыма і раней, беларуская мова выкарыстоўвалася дваром і літоўскім баярствам». Далей ён сцвярджае, што «літоўска-руская мова», якая тады ўжывалася ў Літве, «выдзялілася ў асаблівы дыялект, які, улічваючы яго першапачатковы склад, можна назваць польска-беларускім»[52].

Геаграфічны арэал распаўсюджанасці на Беларусі ўсходнеславянскага насельніцтва ахоплівае у XIV — першай палове XVII ст. амаль што ўсю краіну за выключэннем некаторых заходніх раёнаў, дзе пражывала балцкае (лета-літоўскае і заходнебалцкае) насельніцтва. Паміж імі і ўсходнімі славянамі на заходніх тэрыторыях Беларусі жылі шматлікія групы абеларушанага балцкага насельніцтва. Мова, культура і самасвядомасць іх былі вельмі спецыфічнымі. Падставай для рэтраспектыўнага размежавання зон рассялення этнічна разнароднага насельніцтва як у XIV—XVI стст., так і раней могуць з'яўляцца арэалы традыцыйнага распаўсюджвання такіх назваў, як «Русь» і «Літва».

«Литва же посадиша великого князя Жигимонта... на великое княжение на Вилни и на Троцех... И приде Швитригайло на Полотескь и на Смоленскь, и князи руськыи и бояре посадиша князя Швитрыгайла на великое княжение на Руское»[53]. Як адзначае М. Улашчык, «Беларуска-літоўскія летапісы», апісваючы падзеі XII—XIV стст., то сцвярджаюць, што межамі Літвы і Русі былі Нёман і Вілія, то адносяць да «рускіх зямель» выключна Палессе, часткова Падняпроўе і паўночныя часткі Украіны[54]. Некалькі пазней шэраг дакументаў XVI ст. пад назвай «Русь», «рускія землі», «рускія воласці» вызначалі тэрыторыі з цэнтрамі ў Магілёве, Чачэрску, Прапойску, Крычаве, Мазыры, Барысаве, Бабруйску, Друцку, Слуцку, Рэчыцы, Свіслачы, Азярышчы. Да «літоўскіх валасцей» на землях сучаснай Беларусі адносіліся тэрыторыі, якія групаваліся вакол Мастоў, Ліды, Радуні, Ашмян, Крэва, Браслава, Маладзечна.

Увогуле, пры аналізе гістарычных дакументаў XIV—XVII стст., можна адзначыць тэндэнцыю пашырэння на Беларусі (таксама сумежных землях Аўкштайціі, Жмудзі, Расіі і Украіны) адносна ўстойлівых арэалаў назваў «Літва» і «Русь» (радзей — «Чорная Русь» і «Белая Русь»). Працягвалася таксама і тэндэнцыя не ўключэння ў гэтыя назвы шэрага памежных зямель і асабліва з цэнтрамі ў Навагародку, Слоніме, Ваўкавыску, Пружанах і інш.[55] Адзначалася з працягам часу і штучнае пашырэнне назвы «Літва» ў якасці вотчынна-гаспадарскіх

[52] Jakubowski J. Kroniki Litewskie // Rocznik Towarzystwa przyjaciół nauk w Wilnie za r. 1909. Wilno, 1910. S. 68—77; Яго ж. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed Unią Lubelska. Warszawa, 1912. S. 14, 63—64.

[53] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. С. 119—120.

[54] Улащик Н. Н. Введение к изучению белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 150—151.

[55] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 333—338.

уладанняў, а пазней — у якасці агульнадзяржаўнай скарочанай назвы. Ужо Магілёўская хроніка (1695) сведчыць, што памежжа Літвы і Русі праходзіла недалёка ад Мінска і Слуцка[56]. Крытэрый падзелу зямель Беларусі на «рускія» і «літоўскія» не заўсёды зразумелы, аднак некаторую заканамернасць можна выявіць. Напрыклад, назва «рускія землі» была найбольш характэрнай пераважна для монаэтнічных тэрыторый, дзе ўсходнія славяне (у даным выпадку — беларусы) складалі асноўную частку насельніцтва[57]. Характэрна таксама, што пераважна за гэтымі тэрыторыямі некалькі пазней (XVII ст.) стабільна замацавалася назва «Белая Русь».

У адрозненне ад «рускіх», «літоўскія воласці» былі поліэтнічнымі і мелі ў сваім складзе значную долю іншаэтнічнага насельніцтва (у прыватнасці літоўскага паходжання), якое было часткова альбо поўнасцю абеларушана і захоўвала за сабой назву «Літва»[58].

Працэс асіміляцыі звычайна быў доўгім і часта ахопліваў некалькі пакаленняў людзей. Аднак такія факты сведчаць ці аб частковай асіміляцыі балтаў, ці аб іх «рускім» (праваслаўным) вераспаведанні[59].

Вядома, што некаторыя літоўскія (балцкія) князі ў палітычных і іншых мэтах прымалі праваслаўе і пасля гэтага называліся «рускімі» князямі»[60]. Праваслаўную («рускую») праграму ажыццяўлялі некаторы час і вялікія князі літоўскія, прыняўшыя часова праваслаўе (Міндоўг, Альгерд, Свідрыгайла і інш.) і афіцыйны тытул «вялікі князь літоўскі, рускі...»[61]. Вядомы таксама летапісныя звесткі аб тым, што ў праваслаўную веру хрысцілі народ у Літве праваслаўныя біскупы ў XV ст.[62], што таксама пашырала арэал назваў «рускія», «русіны», «Русь», але сведчыла толькі аб частковай славянізацыі насельніцтва (ды і то з улікам яго білінгвізму ці пераходу на ўсходнеславянскія мовы — беларускую або ўкраінскую)[63].

Верагодна, таму вялікі рэгіён Навагародскага княства і шэрага сумежных тэрыторый называўся то «Літвой», то «Руссю» (у прыватнасці «Чорнай Руссю»), то супрацьпастаўляўся гэтым назвам, напрыклад «Великое княжество Литовское, Жомойтское, Новогородское и Руское»[64]. На думку І. Первольфа, у межах Навагародскай «Чорнай Русі» былі размешчаны і «літоўскія», і «рускія» воласці (адпаведна насельніцтву — «ліцвіны» ці «літоўцы» і «русіны»)[65]. Распаўсюджанне ў XIV—XVI стст. назвы «Чорная Русь» на землях Беларусі і Усходняй Еўропы ўвогуле дакладна не фіксавана. Пад гэтай назвай маецца на ўвазе то выключна Навагародскі, Ваўкавыскі і Слонімскі паветы, то больш шырокая вобласць ад Навагародка і Ваўкавыска да Мазыра і Рэчыцы. Напрыклад, у М. Стрыйкоўскага «Чорная Русь» —

---

[56] Полное собрание русских летописей. Летописи белорусско-литовские. М., 1980. Т. 35. С. 248.

[57] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. II. С. 5—50, 54.

[58] Łowmiański H. Studia nad początkami spoleczoństwa i państwa Litewskiego. T. I. S. 17—19; T. II. S. 105—109.

[59] Як адзначаў М. Улашчык, «русінамі» станавіліся Гедэмінавічы і ўвогуле знатныя літоўцы і жэмайты, якія атрымлівалі ўладанні на Русі, дзе яны адразу ж хрысціліся. «Адначасова, трапіўшы ў іншае этнічнае асяроддзе, яны змянялі і мову...» Гл.: Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовских летописей. С. 150.

[60] Так у летапісах называлі, напрыклад, літоўскага князя, які заснаваў манастыр у в. Лаўрышава. Гл.: Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 147, 195.

[61] Греков И. Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963. С. 39—40.

[62] Narbutt T. Dzieje starożytne narodu Litewskiego. Wilno, 1843. T. VI. S. 86—88.

[63] Напрыклад, у адным летапісу гаворыцца: «...навчылся языка руского...» Гл.: Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 150.

[64] Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 92.

[65] Первольф И. И. Славяне, их взаимное отношение и связи. Варшава, 1893. Т. III. Ч. II. С. 2—3, 167.



14. Антрапалагічныя тыпы жыхароў Беларусі: мужчына-селянін з-пад Ліды. XVI ст.

тое ж, што «Літва Павілейская». У той жа час ён атаясамліваў гэтыя тапонімы з адміністрацыйнай тэрыторыяй Навагародскага ваяводства і пашыраў паняцце «Чорная Русь» на ўсход да Дняпра і Прыпяці[66]. М. К. Любаўскі лічыў «Чорную Русь» XV—XVI стст. славянскай калоніяй у Літоўскай зямлі[67]. Аналагічную думку выказвалі і іншыя даследчыкі, якія разглядалі басейн верхняга Нёмана як кантактную зону ўсходніх славян (нашчадкаў дрыгавічоў і крывічоў) і балтаў. Аднак трэба адзначыць, што ў XIV—XVI стст. большасць балцкага насельніцтва гэтага рэгіёну была ўжо асімілявана. Па лінгвістычных матэрыялах тут, напрыклад, вызначаецца старажытнейшы пласт славянскай тапанімікі і анамастыкі ўвогуле[68]. Тое ж самае пацвярджаюць і антрапалагічныя характарыстыкі старажытнага (X—XVI стст.) насельніцтва гэтых тэрыторый[69]. Паказальна таксама вялікая колькасць тут старадаўніх праваслаўных прыходаў, якія пераўтвараліся пазней у ўніяцкія.

Лакалізацыя першапачатковай назвы «Літва» (XI—XIII стст.) увогуле прабле-



15. Антрапалагічныя тыпы жыхароў Беларусі: жанчына-гараджанка са Слоніму. Канец XVII — пачатак XVIII ст.

[66] Геаграфічная лакалізацыя М. Стрыйкоўскім розных тапанімічных назваў Усходняй Еўропы часта вельмі блытаная. Гл.: Улащик Н. Н. Белая и Черная Русь в «Хронике» Матея Стрыйковского // Исследования по истории и историографии феодализма. М., 1982. С. 238—239.

[67] Любавский М. К. Основные моменты истории Белоруссии. Курс белорусоведения. М., 1918. С. 13—15.

[68] Вангас А. П. Литовские гидронимы славянского происхождения // Балто-славянские исследования. Мн., 1981. С. 151—157; Топоров В. Н., Агеева Р. А. Проблема межрегионального исследования топонимии балтийского происхождения на восточнославянской территории // Там же. С. 140—150.

[69] Чеснис Г., Чаквин И. Использование неметрических краниологических признаков в этногенетических исследованиях по палеоантропологическим данным X—XVI вв. с территории БССР // Łasnik antropoloskogo Drustva Jugoslavie. Bełgrad, 1986. № 23. S. 53—59.

матычная і грунтуецца на невялікай колькасці гістарычных ускосных сведчанняў і некаторых тапанімічных даных. Польскі гісторык Г. Лаўмяньскі акрэсліваў першапачатковую Літву сярэднім цячэннем р. Нёман (ад Гародні і Ліды да Вільна і Коўна)[70], а сучасны літоўскі гісторык і картограф Э. Гудавічус — паўднёвымі часткамі сучаснай Аўкштайціі[71]. Аднак у час фарміравання Вялікага княства Літоўскага і наступны перыяд арэал распаўсюджвання назвы «Літва» пачаў змяняцца. Ужо на думку сучасніка падзей XV ст. Я. Длугаша «Літвой» называліся землі правабярэжжа р. Нёмана і левабярэжжа р. Віліі да памежжа з тэрыторыямі Тэўтонскага Ордэна (з цэнтрамі ў Рытэрсвэберге, Нейгартэне, Матэнберге на землях Жмудзі)[72]. Па Іпацьеўскаму летапісу (XIV ст.) р. Нёман была «межы Літвоі і Новым Городком»[73]. Польскі гісторык XVI ст. М. Стрыйкоўскі ўжо падзяляе Літву на дзве гістарычныя часткі: «Панямонскую» (ад Гродна да Коўна) і «Завілейскую» («Тая Литва, якая жыла пад Неманам у пушчах, здаўна прыслугоўвала Новагародскаму княству, а тая, што... над Віліяй і Заходняй Двіной, жыла спакойна...»). Новагародскае княства (на поўдзень ад Віліі да Гародні, Падляшша, Койданава і Магільна), на яго думку, было асобнай зямлёй, што падзяляла на ўсходзе ўсе тэрыторыі адной і другой Літвы[74]. У той жа час, аналізуючы старажытныя летапісы, М. Стрыйкоўскі прыводзіць факты, якія сведчаць аб тым, што Новагародак лічыўся таксама і сярод «гарадоў рускіх». На недакладнасць гэтых сведчанняў звярнуў увагу М. Улашчык, які адзначыў, што аднясенне Новагародскіх зямель да «рускіх» — гэта думка самога М. Стрыйкоўскага. У той жа час, Новагародак меў у сваім складзе і мела віта «рускія» землі (напрыклад палескія) і часта вызначаўся як «сталіца княства Рускога і Літоўскага»[75]. Магчыма таму ў М. Стрыйкоўскага Новагародскія землі названы яшчэ як «Чорная Русь» і таксама «Літва». Паступовае пашырэнне паняцця «Літва» на поўнач, захад, усход і поўдзень адпавядала гістарычным падзеям XIV—XVI стст. і адлюстроўвала працэс складвання вотчынных і дзяржаўных зямель вялікіх князёў літоўскіх за кошт далучэння да першапачатковай Літвы іншых усходнеславянскіх, балцкіх і змешаных балта-славянскіх тэрыторый.

Гістарычныя крыніцы XV—XVI стст. найбольш стабільна называюць Літвой землі ў міжрэччы Нёмана і Віліі, уключаючы ў гэта паняцце вобласць першапачатковай Літвы, частку Аўкштайціі (за Вільну і Трокі), былыя землі Нальшан, Дзяволтвы і інш. Увогуле назва «Літва» ў той час аб'ядноўвала тэрыторыі ад Жмудзі (на захадзе) і Латгаліі і Браслава (на поўначы) да Барысава, Мінска, Слуцка, Клецка (на ўсходзе) і Ляхавіч, Косава, Пружан (на поўдні)[76]. Этнічны склад насельніцтва гэтых тэрыторый быў вельмі разнастайным. Усходнія часткі гэтай тэрыторыі былі населены пераважна ўсходнеславянскім і абеларушаным балцкім насельніцтвам[77]. Шэраг раёнаў характары-

[70] Łowmiański H. Studia nad poczatkami społeczeństwa i państwa Litewskiego. T. 2. S. 67—68, 106, 11—112.

[71] Гудавичюс Э. Литва Миндовга // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. С. 219—226.

[72] Dlugosz J. Opera omnia. Historial Poloniae. Cracoviae, 1876. T. III. S. 271—274.

[73] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. С. 67; Полное собрание русских летописей. Т. XVII. СПб., 1907. С. 71—82.

[74] Гл.: Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовских летописей. С. 151—152.

[75] Там жа. С. 151—155.

[76] Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 291.

[77] Łowmiański H. Początkii Polski. Warszawa, 1967. T. III. S. 84—87; T. IV. S. 15—18. Напрыклад, Хлебнікаўскі летапіс увогуле адносіць Літву да славянскіх плямёнаў. Полное собрание русских летописей. Т. 2. Стб. 5.

заваўся этнічна змешаным балта-славянскім насельніцтам (раёны Докшыц, Браслава, Пастаў, Нарачы, Свіры, Крэва, Юрацішак, Ліды, Іў'я, Гародні). Разам з тым, на захад ад Браслава, Пастаў, Свіры, у раёнах Лынтуп, Варанян, Гервят, Солаў, Гальшан, Радуні, Пелясы, Начы асноўным этнічным насельніцтвам да XVII ст. былі балты[78].

У адзначаны час актывізаваліся працэсы пранікнення ўсходнеславянскага насельніцтва ў вобласці Аўкштайціі (раёны Вільні, Трок)[79] і асіміляцыі там мясцовых балтаў. Пачатак гэтым працэсам быў пакладзены яшчэ крывічамі, якія (на думку некаторых даследчыкаў) былі этнічна змешаным славяна-балцкім насельніцтвам[80]. Яны ж, верагодна, на думку некаторых даследчыкаў, былі і заснавальнікамі адной з старажытных частак Вільны — Крывога горада, ці Крэва-горада[81]. Пачынаючы з XIV ст., гістарычныя дакументы адзначаюць павелічэнне сярод насельніцтва Вільны «русінаў», «русі», «рускіх» (напрыклад, «всим местичом виленским... веры римское и руским, што суть руское веры...»)[82]. Зараз цяжка дакладна вызначыць, ці называліся «рускімі» ў XIV—XVI стст. менавіта ўсходнія славяне (напрыклад беларусы), ці ўсе праваслаўныя жыхары Вільны незалежна ад іх генетычнага і этнічнага паходжання. Аднак у адносінах да XV—XVII стст. вядома, што гэта былі пераважна праваслаўныя беларускамоўныя жыхары, якія складалі ўжо большую частку насельніцтва горада[83].

Цікава адзначыць, што старажытная назва часткі Вільны (Крывы горад), звязаная з аднайменным этнонімам «крывічы», доўгі час захоўвалася ў беларуска-літоўскім памежжы і ў змешаных балта-славянскіх тэрыторыях у якасці вельмі распаўсюджанага тапоніму[84]. Акрамя таго, землі ад Нёмана да Браслава таксама доўгі час называліся «Крывіціяй» (як, напрыклад, на пачатак XIV ст. у «Гісторыі прусаў» П. Дузбурга)[85]. У гэтыя ж часы, як і раней (таксама і пазней), «Крывіціяй», «Крэвіяй» называліся сумежныя ўсходнеславянскія землі: Полаччына, Пскоўшчына, Наўгародчына з боку латышоў[86]. Аднак у XV—XVII стст. больш тыповай для заходніх беларускіх раёнаў была ўжо назва «Літва» («Літва Павілейская», ці

---

[78] Таутавичус А. З. Восточнославянские курганы: Вопросы этнической истории Прибалтики // Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции. М., 1959. Вып. 1. С. 133—135, 142.

[79] Охманьский Е. Иноземные поселения в Литве XIII—XIV вв. в свете этнонимических местных названий // Балто-славянские исследования. М., 1981. С. 121—130.

[80] Мачинский Д. А. Миграции славян в I тысячелетии н. э. (по письменным источникам с привлечением данных археологии) // Формирование раннефеодальных славянских народностей. М., 1981. С. 31—52.

[81] Голубович В., Голубович Е. Кривой город Вильно // Краткое сообщение Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1945. Т. XI. С. 123.

[82] Собрание древних грамот и актов городов Вильны, Ковна, Трок. Ч. 1. С. 5.

[83] Василевский В. Г. Очерки истории города Вильны // Памятники русской старины в Западных губерниях империи. СПб., 1872. С. 10—11; Limanowski W. Najstarsze Wilno: Wilno i ziemia Wileńska. Wilno, 1930. T. II. S. 126—128.

[84] Гаучас П., Видугирис А. Этнолингвистическая ситуация литовско-белорусского пограничья с конца XIII — по начало XX вв. // Научные труды вузов Литовской ССР. География. XIX. Население и поселения. Вильнюс, 1985. С. 26—73; Ochmański J. Pogranicze Litewske — Krywickie w epoce plemiennej // Przegląd historyczny. Warszawa, 1970. T. LXI. S. 184—186.

[85] Землі, дзе старажытнае крывіцкае, а пазней беларускае насельніцтва не складала дэмаграфічнай большасці, часта не ўваходзілі ў паняцце «Крывія» ці «Крывіція», нягледзячы на тое, што ў палітычным плане падпарадкаваліся крывіцкім цэнтрам і князям. Напрыклад, тэрыторыі былых залежных ад Полацка княстваў Герціке і Кукейнос, дзе пражывала ўсходнеславянскае, балцкае (пераважна селы-селаі, латгалы) і нямецкае насельніцтва. Гл.: Латвийский Г. Хроника Ливонии. М., 1938. С. 73, 90, 104, 11, 115, 121, 186; Łowmiański H. Geneza ziemi Polockiej // Z polskich studiow stawistycznych. Historia. Warszawa, 1966. S. 10—11.

[86] Проблемы этногенеза и этнической истории славян и восточных романцев. М., 1976. С. 127.

«Панямонская» — у міжрэччы Нёмана і Віліі, «Літва Завілейская», ці «Завельская» — на правабярэжжы Віліі да Вількаміра[87] і часткова «Чорная Русь» — левабярэжжа Нёмана да Слоніму, Ваўкавыску, Пружан, р. Нарэў). Вобласць «Літвы Завілейскай», «завілейскіх валасцей» фіксавалася гістарычнымі матэрыяламі ў міжрэччы Віліі (на поўдні), Дзвіны і Свенты (на захадзе). Адным з найбольш буйных цэнтраў гэтых тэрыторый быў Браслаў (які часта і вызначаўся як «Браслаў завілейскі» ці «Браславль Завельскі»)[88], што складаў цэнтр пэўнага зямляцтва, аформленага ў выглядзе асобнага намесніцтва-дзяржаўства і судзебна-адміністрацыйнай акругі (Браслаўская, Укольская, Друйская, Дрысвяцкая, Відзаўская, Опсаўская воласці і інш.). Пасля адміністрацыйна-тэрытарыяльных рэформ 1564—1566 гг. ён стаў называцца Браслаўскім паветам Віленскага ваяводства.

Этнічны склад гэтых тэрыторый быў вельмі стракатым і ўключаў як беларускае, так і балцкае (у тым ліку часткова і латгальскае) насельніцтва. Усходнія часткі тэрыторый, як адзначаюць археолагі, папалі пад славянскую асіміляцыю ў папярэднія гістарычныя часы[89]. Магчыма таму Браслаў, па летапісных дадзеных, вызначаецца іншы раз як горад на памежжы Літвы і Русі (так, у «Хроніцы Быхаўца» адзначаецца, што адзін з літоўскіх князёў «...панавал на всей земли Завельской по границу Латыгольскую и по Завельскі Браславль аж по реку Двину». А потым «...хотячи отчизну свою размножити, и собравши силы свои литовские и жомоидские и пийдут на Русь — к Браславлю и ко Полоцку...»[90]).

Характэрнай прыкметай, што адлюстроўвала працэс пранікнення беларускага насельніцтва на балцкія землі, было пашырэнне арэалаў тапонімаў тыпу «Гуды», «Гудаі», «Гудалішкі» і іншых, якія вызначалі ўласна беларускае насельніцтва. Іх з'яўленне на літоўска-беларускім памежжы і ў балцкім асяроддзі ўжо грунтоўна зафіксавана ў XV ст.[91] У XVI—XVII стст. іх колькасць на землях Аўкштайціі значна павялічваецца і асабліва ў басейне Нёмана (да Алітуса), на Віленшчыне і ў міжрэччы Віліі і Заходняй Дзвіны (ад Немічна да вярхоўяў р. Свенты)[92]. Аналагічным чынам, верагодна, можна растлумачыць і з'яўленне ў той жа час на землях Аўкштайціі і тапоніму тыпу «Русакі»[93].

На ўсход і часткова на поўдзень ад зямель, абагульненых назвай «Літва», на Беларусі XIV — першай паловы XVII ст. размяшчаліся тэрыторыі, аб'яднаныя (характэрнай яшчэ з папярэдніх часоў) назвай «Русь», «рускія землі», «рускія вотчыны». У «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх» XV ст. пры апісанні міжусобнай вайны паміж двума вялікімі князямі

[87] У першапачатковы перыяд складвання Вялікага княства Літоўскага на тэрыторыях, вядомых пазней як «Літва», існавала таксама балцкае княства Нальша ці Нальшаны. У XIII ст. гэта назва амаль знікае са старонак летапісаў. Апошняе ўспамінанне аб «нальшанах» як групе насельніцтва адносіцца да XIV ст. у сувязі з іх удзелам (разам з «літвой», «руссю», «палачанамі», «віцеблянамі» і інш.) у бітве з татарамі ля Сіняй Вады. Гістарычная памяць аб «Нальшанах» захавалася ў тапонімах тыпу Гальшаны, Ашмяны, Малішкяй, Наленяй, Налітвіс і інш. Гл.: Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 57, 59, 91—92, 106, 107, 147, 164, 168.

[88] Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 35, 58, 77, 107, 129, 142, 146, 164 і інш.

[89] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. II. С. 7, 54; Браслаўскія чытанні. Матэрыялы ІІ-й навукова-краязнаўчай канферэнцыі. Браслаў, 1991. С. 18—19, 75; Ochmański J. Pogranicze Litewskie — Krywickie w epoce plemiennej. S. 180—190.

[90] Хроника Быховца // Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 155.

[91] Kodeks Dyplomatyczny Katedry i Diecezji Wileńskiej. Kraków, 1932. T. I. № 311 (1478 г.), № 347 (1486 г.).

[92] Гаучас П., Видугирис А. Этнолингвистическая ситуация литовско-белорусского пограничья... С. 26—73.

[93] Kodeks Dyplomatyczny Katedry i Diecezji Wileńskiej. T. I. № 265 (1470 г.).

Свідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстутавічам ужывана нават і панящце «Вялікае княжанне Рускае», цэнтрамі якога былі Полацк і Смаленск (а сярод іншых гарадоў Русі адзначаны таксама Віцебск, Барысаў, Лукомль, Мсціслаўль, Орша і інш., на поўдні — Бярэсце, Тураў, Пінск, Мазыр, Валынь і інш.)[94]. Насельніцтва «рускіх зямель» было пераважна ўсходнеславянскім, беларуска- і ўкраінамоўным і амаль да канца XVI ст. пераважна праваслаўным[95]. Доўгі час (у XIV—XV стст., часткова ў XVI і XVII стст.) у склад «рускіх зямель» Вялікага княства ўваходзілі тэрыторыі з цэнтрамі ў Себяжы, Завалоччы, Невелі, Веліжы, Смаленску, Раслаўлю і іншых раёнах на ўсходзе. Насельніцтва гэтых зямель са старадаўніх часоў было этнагенетычна роднасным беларусам. Таму доўгае гістарычнае жыццё ўсіх гэтых груп таксама абумовіла іх удзел у працэсах кансалідацыі ўсходніх частак беларускага насельніцтва. Аднолькавасць мовы, традыцыйнай культуры і быту, самасвядомасці і іншых этнавызначальных прыкмет у XIV — першай палове XVII ст. (як і ў папярэднія часы), дазваляе прама гаварыць аб іх удзеле ў складванні беларускай народнасці[96]. Магчыма таму гістарычная стабілізацыя на працягу XVII ст. на землях Беларусі (і шэрага сумежных раёнаў на ўсход) назвы «Белая Русь», а таксама этноніму «беларусы» адносіцца менавіта да тэрыторыі і насельніцтва Верхняга Падзвіння і Падняпроўя[97], якія складалі яшчэ адзін этнагенетычны цэнтр фарміравання беларускага этнасу.

Характар рассялення беларускага насельніцтва ўсіх гэтых раёнаў у этнічным аспекце быў пераважна цэльным. Невялікія групы балцкага насельніцтва на гэтых тэрыторыях былі да XVI—XVII стст. абеларушаны, а больш буйныя (як, напрыклад, пад Лагойскам у в. Гайна ці ў в. Абальцы паміж Оршай і Сенным) пражывалі кампактна, але не парушалі цэльнасць этнічнай тэрыторыі асноўнага этнічнага беларускамоўнага масіву. Падставай для захавання балтамі сваіх першапачатковых этнічных рыс была іх эндагамія, абумоўленая этналінгвістычным, культурным і рэлігійным фактарамі (з канца XIV ст. яны спаведвалі каталіцкую веру[98]).

Землі на поўдні Беларусі (у басейне Прыпяці) таксама называліся «рускімі» і «Руссю». Разам з тым, ужо з XIII ст. на іх усё больш і больш пачынае распаўсюджвацца назва «Палессе», а на заходнюю частку (у раёне Пабужжа) — яшчэ і «Падляшша» ці «Падляссе». Стабільная лакалізацыя назвы «Палессе» ў XIV — першай палове XVII ст. адносілася да цэнтральнай часткі Папрыпяцця. На думку Н. Барсава, у старажытнасці гэты тапонім быў больш за ўсё характэрным для Турава—Пінскіх зямель[99].

Сярэдневяковы польскі гісторык XV ст. М. Кромер пры апісанні геаграфіі зямель Усходняй Еўропы пералічвае ў адным

---

[94] «Да літоўскіх зямель» у летапісу аднесены тэрыторыі Вільны, Трок, Крэва, Браслава, Ашмян, а таксама Менска, Заслаўя і інш. // Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 57—60, 62—67.

[95] Galeski O. Litwa, Ruś i Zmujdž, jako częstki skladowe Wielkiego ksiestwa Litewskiego // Rozprawy Akademii Umajetności. Kraków, 1916. T. XXXIV.

[96] Соболевский А. И. Смоленско-полоцкий говор в XIII—XV вв. // Русский филологический вестник. 1886. Т. XV. № 1. С. 7—28; Гринблат М. Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 92—130, 174—190; Этнаграфія беларусаў. Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. С. 78, 81.

[97] Ламанский В. И. Белая Русь. О происхождении названия // Живая старина. 1891. Вып. 3. С. 245, 248, 250; Сагановіч Г. М. Гісторыя назвы «Белая Русь» // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 63—71; Zapiski historyczne. 1981. T. 66. Z. I. S. 7—17.

[98] Актыўная асіміляцыя (беларусізацыя) гэтых груп адбылася некалькі пазней. Гл., напрыклад: Ochmański J. Ludnosć Litewska wewlości Obolce na Białorusi Wschodniej w XIV—XVI wieku // Acta Baltico-Slavica. Bialystok, 1967. T. 5. S. 147—157.

[99] Барсов Н. П. Очерки русской исторической географии. Варшава, 1885. С. 285.




16. Схема паводле карты Т. Кітчына. 1750 г.

спісе як самастойныя наступныя геаграфічныя вобласці: Валынь, Падолле, Літва, Прусія, Жмудзь, Чырвоная, Усходняя, Белая Русі і Падляссе разам з Палессем. Літву ён лакалізуе на землях заходняй Беларусі і Аўкштайціі — паміж Жмуддзю і Белай Руссю. Апошняя, на яго думку, мяжуе з Маскоўскім Вялікім княствам. Гісторыка-геаграфічную вобласць Палесся ён падзяляе на дзве часткі: Літоўскую, названую ім «Падляссе», і Любельскую — уласна «Палессе»[100]. У другога польскага гісторыка XV ст. Я. Длугаша Палессе выступае іменна як вобласць, якая падпарадкавана Вялікаму княству Літоўскаму і наогул супрацьпастаўлена Любельскай зямлі (таксама Мазовіі і Куявіі) — уладанням Польшчы[101].

У XVI ст. пасля ўваходжання шэрага заходнепалескіх (Пабужскіх) зямель у склад Падляшскага ваяводства на іх яшчэ распаўсюджваецца і назва «Падляссе» як паняцце тэрытарыяльна-адміністрацыйнае[102]. Апошні тапонім доўгі час ужываўся ў гэтым сэнсе для вызначэння пабужскіх зямель, аднак часта таксама замяняўся назвай «Падляссе» (іншы раз — «Паляссе», радзей — «Палессе»).

Паказальна, што назвы «Падляссе» і «Падляшье» ўжываліся як аднолькавыя паняцці ў адных і тых жа старажытных гістарычных крыніцах (у Длугаша і Кадлубка), а часта і абагульняліся з усход-

[100] Пад Белай Руссю, акрамя беларускіх тэрыторый, ён меў на ўвазе таксама і ўкраінскае Падняпроўе да Кіева. Гл.: Kromer M. Polska czyli o položeniv, ludnośći, obyczajach, urzędach i sprawach publicznych królewstwa Polskiego. Olsztyn, 1977. S. 15—19, 21—25.

[101] Dlugosz J. Dzieje Polski. Kraków, 1868. T. 416—418.

[102] Полесье. Материальная культура. Киев, 1988. С. 30—31.

німі тэрыторыямі Папрыпяцця пад агульным тапонімам «Палессе». Напрыклад, на картах Усходняй Еўропы Г. Гарыстана (1613) і Т. Кітчына (1750) назва «Палессе» лакалізавана ў вялікай вобласці ад Бярэсця да Мазыра і ад Пінска да Дубровіцы і Валыні[103]. У этнічным аспекце асаблівасці розных тэрытарыяльных груп Палесся былі ў XIV — першай палове XVII ст. ужо не настолькі выразнымі, як раней. Большасць насельніцтва складалі ўсходнія славяне, аднак па шэрагу моўных і культурных прыкмет адны іх групы больш радніліся з беларусамі, а другія — з украінцамі (валынянамі). У працэс фарміравання беларускай народнасці былі ўцягнуты, перш за ўсё, палескія групоўкі насельніцтва з левабярэжжа Прыпяці і на ўсход ад Ясельды. У меншай ступені гэта датычыла насельніцтва зямель міжрэчча Ясельды, Буга і вярхоўяў Нарэва і Прыпяці, якія яшчэ з папярэдніх часоў былі перыферыйнай вобласцю рассялення ўкраінамоўных валынян[104], якія складалі ў XVI—XVII стст. адну з тэрытарыяльна-этнаграфічных груп украінскага народу.

Увогуле этнічны склад заходніх частак Палесся — Падляшша быў у адзначаны перыяд вельмі стракатым. Нашчадкі старажытных валынян, знаходзячыся ў пастаянным кантакце з беларускамоўным насельніцтвам, большай часткай страцілі былыя этнічныя асаблівасці і складалі своеасаблівыя так званыя «заходнепалескія» групоўкі ўсходнеславянскага насельніцтва рэгіёну. Пранікненне беларускага элемента пераважна з Чорнай Русі было абумоўлена геаграфічнымі, эканамічнымі, палітычнымі і іншымі сувязямі Заходняга Палесся з астатняй Беларуссю як у межах Вялікага княства, так і Рэчы Паспалітай[105].

Разам з усходнімі славянамі ў рэгіёне яшчэ з папярэдніх часоў жылі заходнія славяне (мазаўшчане), якія не складалі тут значнага працэнту. Значна больш у рэгіёне было заходнебалцкага насельніцтва — нашчадкаў былога яцвяжскага саюзу. Са старажытных часоў яцвяжскае насельніцтва рэгіёну было ўцягнута ў працэс славянізацыі[106], а пасля ваенных дзеянняў XIII—XIV стст. (у выніку якіх іх колькасць паменшылася, а рассяленне стала дысперсным) асіміляцыя была амаль што гвалтоўнай. Аднак, на думку некаторых даследчыкаў, агульны працэс славянізацыі яцвягаў працягваўся яшчэ і ў XVI і XVII стст.[107] Па даных Я. Длугаша і Я. Кадлубка, у XIII—XV стст. у раёнах Берасцейскага Пабужжа і сумежных частак Падляшша жылі нашчадкі адной з частак яцвяжскага племяннога саюзу — «палекшане» ці «палексяне» (pollexiani), якія адрозніваліся ад іншых мясцовых груп як славянскага, так і ўсходнебалцкага паходжання[108].

Праз некалькі стагоддзяў гэтыя групы склалі пэўныя лакальныя культурна-этнаграфічныя супольнасці беларускага народу, аднак у адзначаны перыяд яны мелі яшчэ дастаткова моцны пласт першапачатковых этнічных прыкмет.

[103] На карце Г. дэ Баплана таго ж стагоддзя «Палессе» адносіцца да зямель паміж Ясельдай і Мазыром. Гл.: Казлоў Л. Р. Першыя карты Белай Русі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1980. № 4. С. 31.

[104] Іоў А. В. Этнічны склад насельніцтва Заходняга Палесся ў X—XIII стст. (па матэрыялах сельскіх паселішчаў) // Старонкі гісторыі Беларусі. С. 33—34.

[105] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Киев, 1909. Т. 1.

[106] Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. Мн., 1982. С. 119—122.

[107] Rauhut L. Wczesnośredniowiecze cmentaryska w obudowie kamiennej na Mazowszu i Podlasiu // Materialy starozytne i wczesnosredniowieczne. Wrocław, 1971. T. I. S. 435—488, 650—653; Wisniewski J. Rozwoj osadnićtwa na pograniczy polsko-rusko-litewskiem od konca XIV do polowy XVII wieku // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1977. T. II. S. 115—135, 138.

[108] Nalepa J. Polekszane / Poliexiani / plemię jaćwieskie u połnoczro-wschodnich granic Polski // Rocznik Białostocki, 1968. T. VII. S. 7—34.

Сярод іншых балцкіх плямёнаў, так ці інакш уцягнутых у працэс этнагенеза беларусаў, трэба ўспамянуць таксама іншыя аўтахтонныя групы былога яцвяжскага саюзу, вядомыя як «судава» («судаўляны») і «дайнова» («дзейнова»)[109]. Іх рассяленне ў XIV—XVII стст. заставалася ў значнай ступені стабільным на леваі правабярэжжы р. Нёман, аднак у даследуемы час асноўныя часткі іх насельніцтва былі ўцягнуты ў этнагенетычныя працэсы, менавіта літоўцаў, часткова палякаў і беларусаў. На іх землі з XIV—XVI стст. распаўсюджваўся пераважна агульны тапонім «Літва»[110].

Іншае насельніцтва, якое пражывала ў XIV — першай палове XVII ст. на землях Беларусі, было пераважна мігрантамі. Увогуле яны не складалі ў той час значнага працэнту ў дэмаграфічным становішчы насельніцтва Беларусі, аднак іх далейшы ўплыў на ўзнікненне этнаграфічных рыс розных тэрытарыяльных груп беларусаў быў пэўны і этнагенетычна разумелы. Так, пачынаючы з XIII ст. да XV ст., з-пад прыгнёта Тэўтонскага Ордэна на Літву і Беларусь мігрыравалі розныя па колькасці групы заходніх балтаў: прусаў і борцяў (ці барцякоў)[111]. З тых жа прычын далей на ўсход ад беларуска-балцкага памежжа адсоўвалася і яцвяжскае насельніцтва. Іх характэрныя тапонімы этнічнага тыпу «Дайнова», «Яцвезь» з XIII—XV стст. пачынаюць сустракацца пад Валожынам, Радашковічамі, Баранавічамі, паміж Заслаўлем і Астрашыцамі — далёка на ўсход ад тэрыторыі іх асноўнага першапачатковага рассялення[112].

На захадзе Беларусі, у Літве і сумежных раёнах Падляшша пасяляліся вялікія групы палонных рускіх, якія былі захоплены ў перыяд войн Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай у XVI ст.[113]. Паколькі рускіх (вялікарусаў) у той час часта называлі ў Вялікім княстве Літоўскім палітанімам «масковічы», «маскалі», «маскавіты», па дакументах можна ўстанавіць, што ўласна рускія (часцей за ўсё палонныя і эмігранты) пражывалі таксама і на землях Усходняй Беларусі ў асяроддзі больш блізкага па мове і веры насельніцтва[114]. У XV — пачатку XVI ст. у Вялікае княства Літоўскае эмігрыравала па палітычных меркаваннях шмат цверычаў, наўгародцаў, пскавічоў, а таксама князёў з пагранічных з Маскоўскай дзяржавай раёнаў. Апошнія пераходзілі на службу да вялікага князя літоўскага разам са сваімі сваякамі, паплечнікамі і чэляддзю, далучаючы да ўсходніх зямель Вялікага княства Літоўскага свае землі. Гэта былі князі з радоў Мажайскіх, Адаеўскіх, Варатынскіх, Серпухоўскіх, Масальскіх і інш. Такога роду міграцыі па палітычных меркаваннях ажыццяўлялі, на думку А. Л. Харашкевіч, «справу збліжэння беларускага і ўкраінскага народаў з вялікарускім»[115].

Асобную этнічную групу ў Беларусі і Літве XIV—XVI стст. ўяўлялі татары. З'яўленне першых татарскіх пасяленцаў на землях Вялікага княства Літоўскага адносіцца яшчэ да XIV ст. — да часу Ге-

[109] Охманьский Е. Иноземные поселения в Литве XIII—XIV вв. в свете этнонимических местных названий // Балто-славянские исследования, М., 1981. С. 120—131; Непокупный А. П. Sudawskie, sudowlany и еще одно старобелорусское название ятвягов // Там жа. С. 191—195.

[110] Kamiński A. Jaćwiez. Lodz, 1953. S. 78—79.

[111] Ochmanski J. Skolwa i Borcie // Z polskich studiów slawistycznych. Ser. 4. Historia. Warczawa, 1972. S. 86—88.

[112] Охманьский Е. Иноземные поселения. С. 126—130.

[113] Акты западной России. СПб., 1841. Т. 1. С. 163—166, № 138 (1525 г.).

[114] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией для разбора древних актов. Вильно, 1865—1914. Т. XXXIX. Акты могилевского магистрата XVI в. Вильно, 1915. Т. VII—VIII. С. 405.

[115] Хорошкевич А. Л. Русское государство в системе международных отношений конца XV — начала XVI вв. М., 1980. С. 81—83.

дыміна і Вітаўта, калі палонных татар пачалі сяліць на землях Заходняй Беларусі і Ўсходняй Літвы: у Гродзенскім, Лідскім, Ашмянскім, Навагрудскім, Брэсцкім паветах, а таксама каля Трок[116]. Палітыка рассялення палонных татар у межах дзяржавы працягвалася і ў XVI ст. Так, захопленыя ў 1506 г. пасля няўдалага паходу на Вялікае княства Літоўскае татары (некалькі соцен сем'яў) былі паселены ў гарадах Клецку, Кайданаве, Слуцку, Мінску і ў навакольных воласцях. Па даных А. Мухлінскага, колькасць татарскага насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім у XVI ст. складала каля 200 тыс. чалавек. Спасылаючыся на Стрыйкоўскага, А. Мухлінскі называў і колькасць татар на XIV ст. — 40 тыс. чалавек[117]. Гэту ж лічбу называе і А. Кольберг[118].

Параўнальна вялікай іншаэтнічнай групай у Беларусі і Літве XIV—XVI стст. былі таксама яўрэі. Найбольш важны працэнт іх адносіўся да гарадоў Заходняй Беларусі і Літвы[119].

Іншаэтнічным насельніцтвам у Беларусі і Літве з'яўляліся ў XIV—XVI стст. і палякі. У XIV ст. палякі з'явіліся на землях Вялікага княства Літоўскага ў якасці палонных — пасля ваенных паходаў вялікіх князёў літоўскіх на Польшчу[120]. І. Філевіч вызначаў колькасць іх на той час у 23 тыс. чалавек[121]. Перыядычна вялікія князі літоўскія загадвалі, каб палонных палякаў адпускалі на волю, аднак значныя часткі іх, пасля атрымання свабоды, сяліліся на дзяржаўных землях Вялікага княства Літоўскага ў іншаэтнічным асяроддзі[122]. Пастунова большасць палякаў на працягу XIV—XV стст. была асімілявана, таму што некампактнае рассяленне на землях Беларусі і Літвы, абмежаваны прававы статус і патэнцыяльная магчымасць уступлення ў шлюб з беларусамі і літоўцамі каталіцкага веравызнання парушалі іх эндагамнасць.

Больш кампактныя і стабільныя пасяленні палякаў, галоўным чынам мазўшан, на землях беларускай часткі Вялікага княства Літоўскага былі вядомы ў Падляшшы і Пабужжы, дзе яны, сумесна з усходнеславянскім насельніцтвам, аўтахтонна пачалі з'яўляцца яшчэ да XIII ст.[123] Пэўную ролю ў абмежаванні рассялення палякаў у Беларусі, Літве і частцы Ўкраіны адыграла супрацьборства беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх феадальных вярхоў з уплывам польскай магнатэрыі ў XV — першай палове XVII ст.

Ужо ў 1392 г. па дагаворанасці паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім была зроблена забарона на пастой польскіх войскаў у гарадах Беларусі і Літвы. Трэці Літоўскі Статут (1588) на правах агульнадзяржаўнага юрыдычнага даку-

[116] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией для разбора древних актов. Вильно, 1865—1914. Т. X. С. XVIII—XIX; Borawski P. Tatarskie chorągwie plemienne w armii Wielkiego księstwa Litewskiego w XVI—XVII w. // Acta Baltico-Slavica, 1979. T. 12. S. 113—167; Szyszman A. Osadnictwo karaimskie i tatarskie na ziemiach W. ks. Litewskiego. Wilno, 1936.

[117] Мухлинский А. Исследование о литовских татарах. СПб., 1857. С. 41.

[118] Kolberg O. Dziela wszystkie. T. 52. Bialoruś-Poliesie. Wroćlaw-Poznań, 1968. S. 43.

[119] Бершадский С. А. Литовские евреи. СПб., 1883. С. 6—12; Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией для разбора древних актов. Вильно, 1865—1914. Т. XXVIII. Акты о евреях. Вильно, 1901. Т. XVIII. С. XXIV—XXIX.

[120] Так, напрыклад, у Іпацьеўскім летапісу пад 1325 г. напісана: «...и много Ляхов полоненых Литва... пусти, бо много зла Ляхом Литва, Жмоит прежде сотвори, Ляхов и Мазуров в полон бра, сице Лях един, се есть по десяти грошей литовский, в Литве и Руси Белой продаван был...» Гл.: Хроника Быховца. М., 1966. С. 65—67.

[121] Филевич И. П. Борьба Польши и Литвы—Руси за Галицко-Волынское наследие. СПб., 1890. С. 111.

[122] Akta unii Polski z Litwa. Kraków, 1932. № 1. S. 2; Koreczny F. Dzieje Litwy i Rusi przed unia z Polska. Kraków, 1924. S. 32.

[123] Kromer M. Polska czyli o položeniv. S. 21—22.

мента забараняў польскім феадалам мець уласнасць на землях Вялікага княства Літоўскага. Гэтыя абмежаванні не датычыліся іншых сацыяльных груп польскага этнасу, напрыклад: рамеснікаў, купцоў і інш. У XIV—XVI стст. вялікія князі літоўскія пры заключэнні дагаворных дыпламатычных і гандлёвых абавязацельств з іншаземнымі дзяржавамі абгаворвалі правы не толькі беларускіх, украінскіх і літоўскіх купцоў, але і польскіх[124]. Згодна палітыкі двара вялікага князя, у Беларусь і Літву запрашаліся таксама польскія (і іншыя па паходжанню) вайскоўцы: рыцары, гандляры, рамеснікі, — якія атрымлівалі тут пэўныя прывілеі і мелі свабоду веравызнання. Першым гэту палітыку пачаў Гедэмін. У адным з ягоных пісьмаў пералічваюцца рамесныя спецыялізацыі, якія былі патрэбны дзяржаве: кавалі, цесляры, млынары, пекары, каменячосы, гарбары, аптэкары, салявары, збройнікі і інш. Сяліліся яны як у гарадах, так і вёсках. Відавочна, на аснове гэтых жа дакументаў А. Кіркор адзначаў, што немцы былі «выпісаны» ў Вялікае княства Літоўскае ў XIV ст.[125] Некалькі пазней васальная залежнасць Ордэна ад Вялікага княства Літоўскага і Польшчы абумоўлівала больш шырокі прыток немцаў-каланістаў з Прусіі і Лівоніі ў землі Беларусі і Літвы (часцей за ўсё ў гарады)[126].

В. Пашутай былі апублікаваны дакументы XIV ст., у якіх нямецкі Тэўтонскі Ордэн абвінавапіў Ягайла ў тым, што Літва прадае палонных немцаў у халопства на Русь (мусіць, ва Ўсходнюю Беларусь). У той жа час Рыжскі архіепіскап скардзіўся на тое, што ў практыцы сустракаюцца выпадкі продажу мясцовай (і воінскай) чэлядзі ў Літву і рускім (у Беларусь)[127].

Сярод прадстаўнікоў іншых этнасаў на Беларусі ў XV—XVII стст. з'явіліся невялікія групы яўрэяў, татар, цыган (мультаноў), латышоў (лотвы), караімаў, французаў, армян, паўднёвых славян, венграў (мадзьяраў), шатландцаў, чэхаў і інш.[128] Найбольш стракаты этнічны склад насельніцтва наглядаўся ў тыя часы ў гарадах і мястэчках Беларусі, што тлумачыцца самім характарам гарадоў як буйных палітычных, ваенных, культурных і гандлёвых цэнтраў, якія прыцягвалі да сябе насельніцтва не толькі бліжэйшай акругі, але і больш аддаленых раёнаў. Аднак, нягледзячы на ўзнікненне ў гарадах і мястэчках Беларусі XIV — першай паловы XVII ст. складанага этнічнага кангламерату, асноўную частку іх насельніцтва складала тое нацыянальнае ядро, з якога ўзнік горад і ў зоне якога ён знаходзіўся ў якасці адміністрацыйнага і тэрытарыяльна-зямляцкага аб'яднання. Таму большасць жыхароў гарадоў Беларусі (на думку З. Ю. Капыскага, да 80%) складалі беларусы, а 20% адводзілася на долю прадстаўнікоў іншых этнічных груп[129].

У этнічнай структуры гарадоў і мястэчак Беларусі XV—XVII стст. былі некаторыя рэгіянальныя асаблівасці. Найбольш стракаты нацыянальны састаў насельніцтва назіраўся ў валасцях, гарадах і мястэчках заходніх раёнаў Беларусі (акрамя беларусаў і літоўцаў, там жылі

---

[124] «...а послу и гостю из нашее земли Литовское альбо Литвин, альбо Русин, альбо Лях...» Гл.: Акты Западной России. СПб., 1841. Т. 1. С. 51 (1440 г.).

[125] Живописная Россия. Под ред. П. П. Семенова. Т. III. Ч. I—II. Литовское и Белорусское Полесье. СПб., М., 1882. С. 21.

[126] Коялович М. О. Лекции по истории Западной России. М., 1864. С. 191.

[127] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. С. 265—267, 283.

[128] Jaroszewicz J. Obraz Litwy pod względem cywilizacji, od czasów najdawniejszych do końca XVII w. Wilno, 1845. T. 2. S. 263; Kromer M. Polska szyli o položeniv. S. 184; Kolberg O. Dziela wszystkie. T. 52. S. 42—43.

[129] Капысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII вв. С. 119—144.

часам значныя групы татар, яўрэяў, літоўцаў, рускіх, украінцаў, немцаў). Усе пералічаныя іншаэтнічныя групы ўвогуле складалі дастаткова істотны і значны працэнт насельніцтва (больш за 25%) у параўнанні з асноўным этнічным масівам. Але спецыфіка рассялення іх на землях Беларусі XIV—XVII стст. не парушала вобласці рассялення беларускага этнасу, якая ўвогуле была аднароднай і не размяжоўвалася іншаэтнічным насельніцтвам на розныя анклаўна-тэрытарыяльныя зоны. У той жа час, прысутнасць іншаэтнічнага насельніцтва некалькі ўскладняла этнічную сітуацыю, што, у сваю чаргу, адлюстравалася на ўзнікненні пэўнай спецыфікі ў этнічных працэсах фармаўтварэння беларускай народнасці, на яе этнасацыяльнай і канфесіянальнай структуры.

Разам з этнічным і саслоўна-сацыяльным падзелам усяго насельніцтва Беларусі ўжо з XIV—XV стст. існаваў традыцыйны канфесіянальны падзел насельніцтва на розныя этнарэлігійныя групы. Пастунова розніца ў канфесіянальным сэнсе паміж пэўнымі групамі насельніцтва пачала ўяўляцца ў самасвядомасці людзей як асноўная і нават ідэнтычная іх этнічнаму ці саслоўнаму становішчу. Аналагічнае асэнсаванне канфесіянальнай розніцы паміж пэўнымі групамі нават і генетычна адзінага насельніцтва было вельмі характэрнай з'явай для феадальных грамадстваў эпохі сярэдневякоўя. Не складала выключэння ў гэтым сэнсе і Беларусь.

Большасць усходнеславянскага і часткова асіміляванага літоўскага насельніцтва Беларусі XIV—XVI стст. спавядала праваслаўны візантыйскі варыянт хрысціянства, які паступова распаўсюдзіўся на гэтых землях яшчэ ў старажытнарускі перыяд. Арэал распаўсюджвання праваслаўя ў рамках Вялікага княства Літоўскага ў XIV—XVI стст. не абмяжоўваўся выключна ўсходнеславянскімі землямі. Некаторая частка насельніцтва этнаграфічнай Літвы, Жмудзі, часткі Латгаліі таксама спавядала гэты варыянт хрысціянства. Аднак, як лічыць В. Т. Пашута, агульная палітыка дзяржавы ў канцы XIII — сярэдзіне XIV ст. «наступлення на Русь не дазваляла афіцыяльна прыняць праваслаўе ў Вялікім княстве, як прымалі яго тыя літоўскія князі, якія кіравалі ў рускіх землях»[130]. Спробы афіцыйнага прыняцця каталіцтва доўгі час знаходзілі супраціўленне з боку праваслаўных «рускіх» зямель і язычніцкай Жмудзі. Момант для хрысціянізацыі Літвы наспеў у другой палове XIV ст. Гэта быў палітычны акт, накіраваны на абмежаванне агрэсіі нямецкага Ордэна, які ваяваў супраць «няверных», язычнікаў: літоўцаў-ліцвінаў, аўкштайтаў, жэмайтаў, прусаў, куршаў і інш. Язычніцтва было таксама перашкодай для заключэння палітычнага саюза Вялікага княства з Польшчай, які мог з'явіцца важнай умовай у барацьбе з немцамі і з сепаратыстамі з усходнеславянскіх зямель. Прыняцце каталіцтва і саюз з Польшчай з'яўляліся палітычнымі крокамі ў бок абмежавання ўплыву праваслаўных Беларусі і Украіны на Літву і палітыку вялікакняскага двара. Акрамя таго, прыняцце Літвой каталіцтва адчыняла вялікаму князю Літоўскаму Ягайле шлях да каралеўскай кароны Польшчы.

Атрымаўшы ў 1387 г. польскі трон (пад імем Уладзіслава II), Ягайла адразу ж пачаў пракаталіцкую палітыку абмежавання правоў праваслаўных у Вялікім княстве[131], чым абумовіў узнікненне ў

---

[130] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. С. 363—364.

[131] Напрыклад, згодна грамаце Уладзіслава—Ягайлы ад 20 лютага 1387 г., феадалы каталіцкага веравызнання атрымалі неабмежаваныя правы на валоданне і распараджэнне сваімі вотчынамі і вызваляліся ад выканання рада дзяржаўных павіннасцей. На праваслаўныя вярхі дзяржавы гэты прывілей не распаўсюджваўся. Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 101—103.

дзяржаве міжрэлігійнага антаганізму. Прапольская палітыка Ягайлы ў Вялікім княстве садзейнічала і ўзнікненню міжэтнічнага антаганізму, які адлюстраваўся ў палітычнай праграме Вітаўта, арыентаванай на стварэнне самастойнай Руска-Літоўскай дзяржавы, якая супрацьстаяла бы, з аднаго боку, Польшчы, а з другога — Масковіі. Аднак ужо ў пачатку XV ст. цяжкае знешнепалітычнае становішча Вялікага княства садзейнічала пацвярджэнню ўніі з Польшчай з карысцю для пракаталіцкай партыі. Асабліва дыскрымінацыйнае становішча для праваслаўных дапускалася пастановамі Гарадзельскага сейму (1413), згодна з якім праваслаўныя феадалы не дапускаліся да ўлады як на вышэйшых пасадах дзяржавы (у тым ліку і ў гаспадарскай радзе), так і на месцах (урадах земскіх), пазбаўляліся права выбрання вялікага князя; праваслаўным забараняліся шлюбы з каталікамі[132].

Гістарычныя і палітычныя вынікі падобнай дыскрымінацыйнай палітыкі ў галіне вераспаведання адлюстраваліся ўжо ў 1430-х гг. у міжусобнай барацьбе за вялікакняскі трон паміж Свідрыгайлам, з аднаго боку, і Вітаўтам (з 1432 г. — Жыгімонтам) — з другога. Сацыяльна-рэлігійнай апорай Свідрыгайлы былі праваслаўныя «рускіх» зямель Вялікага княства. Яны ж увайшлі ў склад гаспадарскай рады (Друцкія, Карсаковічы, Хадкевічы, Палазовічы і інш.). Характэрна таксама, што Свідрыгайла заключыў абарончa-наступальны саюз з Ордэнам супраць Польшчы[133]. І толькі ў 1432 г. з мэтай спынення антыпольскага і антыкаталіцкага руху на беларускіх і ўкраінскіх землях кароль польскі Ўладзіслаў са згоды вялікага князя Жыгімонта даруе прывілей, якім ураўноўвае праваслаўных з каталікамі. Праз некалькі гадоў новы аналагічны прывілей абвяшчае, што «гаспадар... жадае землі Літоўскія і Рускія прывесці ў парадак і справы іх давесці да найлепшага стану... каб паміж народамі гэтых зямель не было ніякага разладу ці непатрэбнага ўрону... каб яны карысталіся роўнымі міласцямі і тым больш горача і настойліва імкнуліся заўсёды да адзінства душ і дапамагалі захаванню найшчаслівейшага стану гэтых зямель»[134].

Аднак увогуле барацьба праваслаўных феадалаў за роўнасць у правах з феадаламі-каталікамі працягвалася з пераменным поспехам яшчэ і ў астатнія гады XV ст. і ў XVI — першай палове XVII ст. Па думцы П. А. Лойкі, гэта «больш чым стагадовая барацьба, што вялі праваслаўныя феадалы «рускіх» зямель Вялікага княства за палітычнае раўнапраўе з літоўска-каталіцкай арыстакратыяй» скончылася перамогай першых ужо ў 1520-х гг.[135] і да Берасцейскай уніі цэркваў перыядычна замацоўвалася. Праваслаўныя свецкія і духоўныя феадалы ў гэты час мелі аднолькавыя правы з каталікамі, вырашалі разам усе галоўныя і мясцовыя дзяржаўныя пытанні, уваходзілі ў склад розных рад, соймаў, соймікаў і гэтак далей. Іх зямельныя падараванні, вотчыны і дзяржаўства магнатаў былі аднолькавыя. Тое ж датычыла і цэркві, яе маёмасці і правоў. Фармальна была дасягнута і пэўная свабода вера-

---

[132] Уяўляюць цікавасць некаторыя матывіроўкі гэтых абмежаванняў, якія адлюстроўваюць сувязь пэўнай рэлігійнай ментальнасці з манаполіяй на дзяржаўную свядомасць: «...усе... урады земскія... надаюцца толькі спавядальнікам хрысціянскай каталіцкай веры і да савета нашага (рады гаспадарскай) дапускаюцца ў ім прысутнічаць, калі абмяркоўваюцца пытанні аб дзяржаўным дабрабыце, таму што часта розніца ў веравызнаннях прыводзіць да розніцы ў пазіцыях і аказваюцца цераз гэта вядомымі такія рашэнні, якія неабходна ў тайне захоўваць». Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. С. 115—118.

[133] Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 62—64; Яго ж. Литовско-русский сейм. М., 1990. С. 66—69.

[134] Скарына і яго эпоха. С. 45.

[135] Там жа. С. 54.

вызнання, што пацвярджалася ўсебаковай палітыкай талерантнасці («каторы б русін... хацеў бы па сваёй волі хрысціцца, няхай хрысціцца, а каторы б не схацеў, хай будзе сваёй веры»[136]).

Трэба аднак адзначыць, што за перыяд ад афіцыйнага прыняцця каталіцтва да першай паловы XVI ст. каталіцкая царква ўжо добра ўмацавалася на Беларусі. Ужо з канца XIV ст. распаўсюджанне каталіцкага веравызнання не абмяжоўвалася выключна землямі з язычніцкім насельніцтвам. Намаганнямі вялікага князя Ягайлы новая (на Беларусі) вера пачала распаўсюджвацца і ў асяроддзі праваслаўнага насельніцтва, асабліва ў «Чорнай Русі» і іншых заходніх тэрыторыях Беларусі. На думку М. Я. Грынблата, найбольш кампактныя зоны каталіцкага насельніцтва (якое складалася з абеларушаных балтаў) размяшчаліся ў XV — першай палове XVI ст. па ўсёй лініі літоўска-беларускага паўзмежжа[137]. К сярэдзіне XVI ст. у некаторых заходніх землях Беларусі колькасць каталіцкага насельніцтва пераважала над праваслаўным. У Гродзенскім павеце, напрыклад, існавала 19 каталіцкіх парафій, у Навагародскім — 20, у Менскім — 16, у Ваўкавыскім — 15, у Слонімскім — 7, па адной у Полацкім, Віцебскім і Аршанскім[138]. Католікамі былі таксама большасць жыхароў зямель на захад ад лініі Шчучын — Васілішкі — Ліда — Іўе — Ракаў — Радашковічы — Вязынь — Далгінава — Докшыцы — Глыбокае — Міёры[139]. Па ўсёй Беларусі ад Заходняй Дзвіны да Прыпяці ўзводзіліся і колькасна раслі манастыры каталіцкіх манаскіх ордэнаў (дамініканцаў, францысканцаў, аўгусцінцаў, кармелітаў, піяраў, бернардзінцаў, з другой паловы XVI ст. — езуітаў[140] і інш.), якія актыўна праводзілі місіянерскую хрысціянізацыю (катэхізацыю, евангелізацыю) дакладна не вызначанага па веры насельніцтва.

[136] Kosman M. Historia Bialorusi. S. 76.

[137] Гринблат М. Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. С. 158—160.

[138] Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Ustroj i uposażenie. Poznań, 1972. S. 80—90.

[139] Гаучас П., Видугирис А. Этнолингвистическая ситуация литовско-белорусского пограничья. С. 26—73.

У адносінах да праваслаўных каталіцкім духавенствам ажыццяўлялася ці палітыка адносна мірнага саіснавання (перыядычна дапускалася, напрыклад, біканфесіянальнасць сямей), ці акаталічванне (прыняцце каталіцтва праваслаўнымі давала, напрыклад, магчымасць атрымаць пэўныя прывілеі, пасады і інш.). Паступовае акаталічванне ішло таксама праз канфесіянальна змешаныя шлюбы (дзеці ад якіх станавіліся католікамі), сістэму школьнай адукацыі (лепшую, чым у праваслаўных) і гэтак далей.

Трэба адзначыць, што становішча праваслаўнай царквы ў Вялікім княстве амаль што да канца XVI ст. хаця і было абмежаваным, часта дыскрымінаваным (у параўнанні з каталіцкім касцёлам), але ўвогуле не было дрэнным ці катастрафічным. Праваслаўная царква была буйным землеўладальнікам, мела значныя фундацыі ад праваслаўных магнатаў-патронаў, ахвяраванне ад прыхаджан, мела юрыдычнае права на частку даходаў з гаспадаркі феадальна залежнага сельскага насельніцтва і інш. Тэрытарыяльна і дэмаграфічна праваслаўная царква ў Вялікім княстве амаль да канца XVI ст. прадстаўлялася даволі магутнай.

Напрыклад, яшчэ пры Жыгімонце I (1506—1549) каля 23 княжацкіх і 42 розных шляхецкіх радоў княства трымаліся праваслаўнай веры[141]. У гэтыя гады ў княстве было пабудавана 90 праваслаўных храмаў. У сталіцы дзяржавы на 15 цэркваў прыходзілася 14 касцёлаў, у Но-

[140] Гринблат М. Я. Белорусы. С. 156—157.

[141] Narbutt T. Dzieje starozytny narodu Litewzkiego. Wilno, 1834. T. I. S. 254—257.

вагародскім павеце было 10 цэркваў і 6 касцёлаў, па аднаму касцёлу было ў Полацкім і Віцебскім паветах. Амаль што не было яшчэ ў той час касцёлаў на Падняпроўі, затое праваслаўныя храмы будаваліся ў Аўкштайціі і Жмудзі[142]. Праваслаўнае насельніцтва было першым распаўсюджвальнікам хрысціянства ў Літве і Латгаліі яшчэ з папярэдніх часоў. Па даных Г. Лаўмяньскага, які даследаваў старажытную літоўскую антрапанімію, з XII па XVI ст. значныя часткі літоўцаў пры хрышчэнні атрымлівалі імёны, запазычаныя не з каталіцкага, а праваслаўнага царкоўнага календара[143].

Геаграфічна праваслаўная царква Вялікага княства ахоплівала большасць зямель Цэнтральнай і Ўсходняй Беларусі, часткі заходнебеларускіх тэрыторый і Падляшша, амаль што ўсю Ўкраіну (дакладней так званыя «епископи Рускых стран», да якіх адносіліся Полацкая, Смаленская, Віцебская, Турава—Пінская, Чарнігаўская, Кіеўская, Луцкая, Уладзімірская, Перамышльская і Хломская землі). Духоўным кіраўніком праваслаўных быў мітрапаліт «Кіеўскі і ўсея Русі». Яму былі падначалены таксама і праваслаўныя «літоўскія» воласці[144].

Стварэнне самастойнай Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі адбылося ў XV ст.



17. Царква ў Сынкавічах. XV—XVI ст.

у выніку канфесіянальнай інтэграцыі ў межах Вялікага княства Літоўскага. Да гэтага часу ўсе «рускія» праваслаўныя землі былі аб'яднаны ў шэраг больш дробных мітраполій (адна з іх — «Малая Русь» — мела цэнтр у Навагародку)[145]. У XV ст. пасля таго, як царква Маскоўскай дзяржавыператварылася ў аўтакефальную патрыярхію (1443) і спыніла ўсякія адносіны з «заходнярускімі» праваслаўнымі цэнтрамі (і перш за ўсё з Кіевам), на землях Вялікага княства была створана аб'яднаная і самастойная мітраполія — «Кіеўская і ўсея Русі», якая адыгрывала значную кансалідуючую ролю ва ўсёй Усходняй Еўропе[146]. Да Люблінскай уніі (1569) канфесіянальная сітуа-

[142] Скарына і яго эпоха. С. 69; Гванини А. Хроника Европейской Сарматии // Полоцко—Витебская старина. Витебск, 1916. С. 325—329; Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893. С. 3—4, 36—57; Грицкевич А. П. Белоруссия во времена Ивана Федорова // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. М., 1984. С. 55—57; Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie. S. 81,90.

[143] Łowmiański H. Uwagi o wpływach słowianskich na Litewska terminologie kościola // Studia z Pilologii polskiej i słowiańskiej. Warszawa, 1957. T. II. S. 366—372.

[144] Акты Западной России. Т. 1. С. 33—36, 189; Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 121—125; Sliwa T. Kosciół prawostawny w państwe polsko-litewskim // Historia kościota w Polsce. Poznań—Warszawa, 1974. T. I. S. 383—386.

[145] Павлов А. С. О начале Галицкой и Литовской митрополий и первых тамошних митрополиях по византийским документальным источникам XIV в. М., 1894. С. 25—30.

[146] Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 144—146.

цыя на землях Беларусі, Украіны, часткова Расіі і Літвы была адносна стабільнай і характарызавалася, як адзначалася вышэй, узрастаннем ролі праваслаўя ў дзяржаве[147].

Пасля аб'яднання Вялікага княства Літоўскага з Каралеўствам Польскім канфесіянальная сітуацыя пачала значна змяняцца на карысць каталіцтва. Узмацненне каталіцкага ўплыву было накіравана на нейтралізацыю антыпольскіх і антыкаталіцкіх настрояў сярод розных слаёў насельніцтва ў адказ на незаконную інкарпарацыю Каронай шэрагу зямель Вялікага княства (Украіны, Падляшша). Актывізацыя палітычнай дзейнасці каталіцкай царквы ў той час мела таксама на мэце абмежаванне рэфармацыйных рухаў, якія распаўсюджваліся на ўсёй Рэчы Паспалітай. Рэфармацыя, якая ўзнікла ў заходнееўрапейскіх краінах і ажыццяўлялася ў рамках каталіцтва, закранула ў XVI ст. амаль усе сацыяльныя слаі тагачаснага феадальнага грамадства Польшчы, Украіны, Беларусі і Літвы.

Пратэстантызм актыўна пачалі спаведваць прадстаўнікі розных магутных княскіх і шляхецкіх родаў: Радзівілаў, Нарушэвічаў, Хадкевічаў, Бялевічаў, Кішкаў, Валовічаў, Сапегаў і інш. Ідэі Рэфармацыі распаўсюджвалі і многія выдатныя дзеячы (Ф. Скарына, С. Будны, Л. Сапега, Л. Крышкоўскі, М. Кавячынскі і інш.) як шляхецкага, так і мяшчанскага саслоўяў, часткова таксама сяляне. З боку беларускіх, украінскіх, польскіх і літоўскіх магнатаў, часткова шляхты рэфармацыйны настрой выражаўся ў апазіцыі да цэнтральнай улады, у сепаратызме і адмове прызнаць унію з Польшчай. Падтрымлівалася таксама ідэя аб секулярызацыі зямель каталіцкіх манастыроў і цэркваў. Так, па загаду Радзівіла Чорнага ў яго ўладаннях было закрыта 187 каталіцкіх касцёлаў, а іх землі секулярызаваны[148].

Пратэстанцкі рух закранаў і праваслаўную царкву, калі, напрыклад, у Навагародскім ваяводстве пратэстанцкая шляхта і магнаты захапілі землі амаль што ўсіх праваслаўных цэркваў і манастыроў. У асяроддзі гараджан і часткова сялян Рэфармацыя звязвалася з антыфеадальнай барацьбой за свае правы і прывілеі супраць саслоўна-класавага, нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту. Пра актыўны ўдзел гараджан ў рэфармацыйным руху ў XVI ст. сведчыць колькасць пратэстанцкіх абшчын у радзе гарадоў Беларусі: у Нясвіжы, Бярэсці, Клецку, Слуцку, Віцебску, Глыбокім, Гарадзеі, Міры, Заслаўі, Іўі, Івянцы, Кайданаве, Копылі, Любчы, Ляхавічах, Смаргоні, Полацку, Шклове і інш.[149]

Пратэстанты (у даным выпадку кальвіністы) мелі даволі стройную арганізацыю, якая ў межах Беларусі і Літвы, як адзначаў С. А. Падокшын, складалася з некалькіх дыстрыктаў (раёнаў): «Навагародскага», «Рускага», «Берасцейскага», «Віленскага», «Жмудскага» і «Завілейскага». «Навагародскі» дыстрыкт, напрыклад, ахопліваў землі аднайменнага ваяводства; «Рускі» — Міншчыну, Полаччыну, Віцебшчыну і частку Падняпроўя; «Берасцейскі» — тэрыторыі Бярэсця, Гродна, Слоніма, Пінска; «Віленскі» — вобласці з гарадамі Вільна, Трокі, Ашмяны і інш. Кіраванне дыстрыктамі ажыццяўлялася праз суперінтэндантаў і сінод. Як бачна з геаграфічнага палажэння і назваў, кальвінісцкія дыстрыкты стварaліся

[147] Коялович М. О. Историческое исследование о Западной России, служащее предисловием к документам, объясняющим историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше. СПб., 1865. С. 3—10.

[148] Пичета В. И. Белоруссия и Литва в XV—XVI вв. С. 628, 721.

[149] Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970. С. 42—45.



18. Кальвінісцкі храм у Смаргоні. XVI ст.

на аснове не толькі адміністрацыйна-тэрытарыяльнай арганізацыі насельніцтва («Навагародскі», «Віленскі»), але часта і па этнічнаму прынцыпу («Рускі», «Жмудскі»). Пэўны ўплыў кальвіністаў на вярхоўную ўладу выразіўся ў параўнанні іх у правах з католікамі і праваслаўнымі. Усяго да канца XVI ст. на землях Вялікага княства было створана каля 190 кальвінісцкіх храмаў («збораў»)[150]. Нейкі час свабода веравызнання пацвярджалася галоўнымі дзяржаўнымі актамі. Так, у Статут 1588 г. быў унесены артыкул аб верацярпімасці (прыняты раней на Варшаўскай канферэнцыі 1573 г.) і названы «О захованью покою всих подданых наших обывателей того паньства... з стороны розного розуменья и уживанья набоженьства хрестианьского»[151].

У другой палове XVI ст. пачала набіраць моц контррэфармацыя, якая падтрымлівалася цэнтральнай уладай і магутнымі каталіцкімі ордэнамі (асабліва езуітаў)[152]. Гэта намеціла шляхі да збліжэння пратэстантаў і праваслаўных. Саюзнікі-«канфедэраты» (кальвіністы і праваслаўныя) бралі пад сваю апеку гараджан, шляхту, духавенства, што трымаліся якой-небудзь з гэтых дзвюх вер[153].

---

[150] Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. С. 45; Tworek S. Z zagadnień liczebnosci zborów kalwińskich na Litwe. Odrpdzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1972. T. XVIII. S. 221—222.

[151] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Ч. І. Разд. III, арт. 3.

[152] Езуіты карысталіся асобым даверам караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя, які, напрыклад, на правах вярхоўнага патрона ўсіх цэркваў аддаў пасля вызвалення ад маскоўцаў усе землі полацкага біскупства ў распараджэнне і пад кантроль езуітаў. Гл.: Кареев Н. Очерки истории реформационного движения и католической реакции в Польше. М., 1886. С. 175—192.

[153] Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше. СПб., 1865. С. 188—196.

Рэлігійныя размовы паміж праваслаўнымі і пратэстантамі змяняюцца ў пачатку XVII ст. моцнымі саюзніцкімі адносінамі супраць актыўных прадстаўнікоў каталіцкай ідэалогіі, перш за ўсё, супраць езуітаў. Узнікла значная па сваёй сіле апазіцыя каталіцызму, што грунтавалася на поліэтнічных і поліканфесіянальных прынцыпах і аб'ядноўвала шырокія масы насельніцтва Беларусі і Літвы. Характэрны ў гэтым сэнсе склад удзельнікаў антыўрадавага «рокаша» (1606—1608) пад кіраўніцтвам Зебжыдоўскага і аднаго з Радзівілаў, асноўную масу якога складала апазіцыйная пратэстанцкая і праваслаўная шляхта[154]. Аднак у апошняй трэці XVI ст. пратэстанцкі рух паступова пачаў слабець. Многія рэфармацыйныя ідэі не знайшлі істотнага водгуку ў праваслаўных, таму што частка дагматаў і агульнацаркоўных установак, за якія выступалі пратэстанты, у пэўнай форме былі ўжо даўно характэрныя для праваслаўнай царкоўнай арганізацыі. Магнаты і шляхта, хто нейкі час трымаліся пратэстантызму, былі напалоханы тым радыкалізмам, які ўзнік у народным асяроддзі ў рамках Рэфармацыі[155]. Паступова яны пачалі пераходзіць у лона каталіцкай царквы, і ўжо к пачатку XVII ст. пратэстантызм паступова страціў сваё значэнне на Беларусі і Літве.

[154] Rychcicki M. Piotr Skarga i jego wiek. Kraków, 1852. S. 390.

[155] Акрамя кальвінізму і часткова лютэранства, у Беларусі і Літве распаўсюдзіліся і іншыя рэфармацыйныя плыні, напрыклад: унітарызм, антытрынітарызм (арыянства). Некаторыя з іх былі вельмі радыкальнымі. Арыянства, напрыклад, было распаўсюджана сярод мяшчан, гарадской беднаты, дробнай шляхты, часткова сялян, якія пад сцягам сваёй веры выступалі за карэнныя сацыяльныя перамены ў грамадстве. Гл.: Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. С. 66—78, 177—180; Тазбир Я. Общественные и территориальные сферы распространения польской реформации // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976. С. 114—131.

У 1596 г. у Бярэсці намаганнямі каралеўскай улады, каталіцкай царквы і некаторых прадстаўнікоў праваслаўнай царкоўнай вярхушкі была заключана ўнія цэркваў. Згодна ёй, праваслаўныя канфесіі Украіны, Беларусі і Літвы траплялі пад духоўную і юрыдычную ўладу пантыфіка рымскага і ўспрымалі пэўныя дагматы каталіцызму. На думку некаторых дзеячаў таго часу, унія павінна была садзейнічаць «покою посполитого межи разрозненными в вере и праве»[156]. Яна дапускала пэўнае захаванне праваслаўных традыцый, літургічных канонаў, але пры гэтым патрабавала, каб самі праваслаўныя абавязкова прызналі некаторыя дагматы каталіцкай царквы, а сваім духоўным пастырам — папу рымскага. Багаслужэнне ўніятаў прадпісвалася праводзіць на царкоўна-славянскай або нацыянальнай (беларускай, украінскай) мовах[157].

Граматай 1596 г. кароль Рэчы Паспалітай замацаваў зямельныя і іншыя правы за ўніяцкімі цэрквамі і манастырамі, якімі станавіліся былыя праваслаўныя рэлігійныя арганізацыі і будынкі. Вышэйшыя пасады ўніяцкай царквы павінны былі займаць прадстаўнікі былой праваслаўнай веры (мітрапаліт, біскупы і інш.). Уніяты атрымлівалі і пэўную аўтаномію ад каталіцкай царквы і ад былых праваслаўных цэнтраў, напрыклад візантыйскіх[158]. На чале ўніятаў заставаўся мітрапаліт «Кіеўскі і ўсея Русі». Каталіцкая царква не магла прыбіраць да сваіх рук справы ўніятаў. Аднак, нягледзячы

[156] Смотрицкий М. Апокрисис, альбо исповедь на книжцы о соборе берестейском. Острог, 1598. С. 16.

[157] Паступова ва ўніятаў былыя праваслаўныя каноны і традыцыі ўсё ж змяняліся на каталіцкі ўзор: адкрытыя і нізкія алтары ў царквах, лавы для сядзення, музычныя арганы, знешні выгляд святароў, шэптам чытаемыя абедні, шматразовае прэкланенне святарамі аднаго калена ў час абедні і гэтак далей.

[158] История Русской церкви. СПб., 1902. Т. X. Кн. I. С. 238—244; Бантыш-Каменский Н. Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии. Вильно, 1866. С. 45—49.

на пэўныя ўступкі і прывілеі, праваслаўнае насельніцтва і большасць кліру доўгі час не прызнавалі ўнію.

Супраць уніі пратэставалі шматлікія дэлегацыі ад магнатэрыі і шляхты, гарадоў і мястэчак і нават ад вольных дзяржаўных сялян. Фармальна дзяржаўнымі ўладамі абвяшчалася свабода вераспаведання і верацярпімасць. Аднак сапраўды на месцах каталіцкае і новае ўніяцкае кіраўніцтва рабіла спробы амаль што прымусовага, гвалтоўнага пераводу насельніцтва да ўніяцтва. У гарадах, напрыклад, у магістраты, цэхавыя аб'яднанні, гандлёвыя гільдыі праваслаўныя прымаліся толькі пры ўмове прыняцця імі ўніяцтва. Супраць актыўных праціўнікаў уніяцтва прымаліся рэпрэсіўныя меры. Праваслаўныя, што не жадалі пераходзіць ва ўніяцтва, называліся «сепаратыстамі», «схізматыкамі»[159].

Супраць мясцовай палітыкі актыўнага і гвалтоўнага прыцягвання насельніцтва да ўніяцтва выступалі многія дзяржаўныя і палітычныя дзеячы (якія ўвогуле былі прыхільнікамі ўніі паміж праваслаўнымі і каталікамі). Так, напрыклад, вельмі паказальны ліст канцлера Вялікага княства Льва Сапегі да полацкага ўніяцкага біскупа Іасафата Кунцэвіча (1622), у якім крытыкуецца палітыка гвалтоўнага насаджэння ўніяцтва на Полаччыне, Віцебшчыне і Магілёўшчыне[160]. Як вядома, жорсткія праўніяцкія дзеянні І. Кунцэвіча скончыліся віцебскім паўстаннем 1623 г., забойствам уніяцкага біскупа, рэпрэсіямі супраць бунтароў, пакараннямі, пазбаўленнем горада магдэбургскага права і нават разбурэннем гарадской ратушы[161].

Увогуле, сам акт прыняцця ўніяцтва быў для большасці праваслаўнага насельніцтва Беларусі, Літвы і Украіны змяненнем шмат якіх традыцыйных поглядаў, а ва ўмовах папярэдняга поліканфесіяналізму і адноснай свабоды веравызнання з'яўляўся яшчэ своеасаблівым замахам на асновы папярэдняга жыцця, на веру бацькоў і дзядоў, што ўключала ўжо сфарміраваныя этнічныя стэрэатыпы моўных, культурна-бытавых і канфесіянальных норм. Таму ў першыя дзесяцігоддзі пасля прыняцця ўніі яна выклікала ў значнай часткі праваслаўнага насельніцтва незадаволенасць і пратэсты, што часам выяўляліся ў антыкаталіцкім, антыпольскім і антыўніяцкім руху. Міжрэлігійная барацьба часта даходзіла да адкрытай варожасці католікаў і праваслаўных, якія да гэтага параўнальна мірна жылі разам («праваслаўныя ў Полацку пагражаюць спаліць горад і ўтекчы ў Маскву» — з ліста І. Пацэя да Л. Сапегі[162]; «...у Белай Русі, у Оршы і Магілёве той жа ўладыка полацкі ўжо пяць лет трымаець цэрквы апечатанымі.., па яго ж забароне, не маючы дазволу ні на цэркву, ні на дом для богаслужэння ў горадзе, мяшчане адпраўляюцца ў поле за горад... для богаслужэння і то без святара, бо яму забаронена быць у горадзе ці блізка ад яго»[163]). Найбольш пацярпела ад гэтай рэлігійнай палітыкі праваслаўная царква; як пісаў М. Сматрыцкі, «...у нас застаўся

---

[159] Жукович П. Сеймовая борьба православного западно-русского дворянства с церковной унией (до 1609 г.). СПб., 1901. С. 99—104, 224—228.

[160] Вядомы рэлігійны дзеяч тых часоў М. Сматрыцкі, які спачатку адмоўна ставіўся да ўніі, а потым сам прыняў уніяцтва, падкрэсліваў неабходнасць свабоднага выбару веравызнання і выступаў супраць гвалтоўнага насаджэння рэлігіі: «...калі русін з праваслаўнай веры добраахвотна пераходзіць у каталіцкую ці ўніяцкую веру... гэта вольнае права кожнага чалавека...» Гл.: Короткий В. Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. С. 110; Бантыш-Каменский Н. Н. Известия об унии. СПб., 1865. С. 31—32.

[161] Zychiewicz T. Jozafat Kuncewicz. Karwaria zebrzydowska. Warszawa, 1986. S. 159—176; Encyklopedia Powszechna. Warszawa, 1866. T. 22. S. 933—935.

[162] Archiwum Doma Sapiechow. Lwów, 1892. T. 2. S. 222.

[163] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссией. СПб., 1874. Т. VII. Ч. I. С. 296—297.

толькі адзін біскуп замест сямі і васьмога мітрапаліта»[164]. Сотні праваслаўных сямей з Полацку, Віцебску, Оршы, Магілёва, Пінску, Гародні, Бярэсця і іншых гарадоў Беларусі пачалі ўцякаць на ўсходнія і паўднёвыя рубяжы дзяржавы і за мяжу.

Значныя часткі праваслаўнага насельніцтва дзяржавы не маглі змірыцца з такой палітыкай ўрада і мясцовых улад. У некаторых гарадах Беларусі, Украіны, а таксама ў Вільні доўгі час яшчэ заставаліся магутныя ахоўнікі і абаронцы праваслаўя, якія супрацьстаялі ўніятам і каталікам. З аднаго боку, гэта барацьба ўсё болей і болей набывала формы пагроз, тэрору і паўстанняў. Да нас дайшлі гістарычныя звесткі аб забойствах, пакараннях, гвалтоўным захопе культавых будынкаў прадстаўнікамі адной ці іншай вер, аб «бойках вялікіх, вельмі страшных» паміж паўстаўшымі і ўрадавымі войскамі і гэтак далей[165]. З другога боку, барацьба вялася і мірнымі сродкамі — напрыклад, шляхам аб'яднання ў рэлігійныя суполкі так званай «брацтвы», вакол якіх групаваліся актыўныя паслядоўнікі праваслаўя. Як адзначае Ў. Г. Кароткі, «у пачатку XVII ст. на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Ўкраіны, галоўным чынам у праваслаўных брацтвах, групаваліся людзі, здольныя супрацьстаяць як езуіцкім прапаведнікам (Пятру Скарге, Станіславу Варшэвіцкаму, Якубу Вуйку), так і іх паслядоўнікам: уніятам Іпацею Пацею, Іосіфу Руцкаму, Іасафату Кунцэвічу, Ілле Марахоўскаму[166]. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывалі двары беларускіх і ўкраінскіх магнатаў, якія былі патронамі праваслаўных брацтваў: Астрожскіх (на Ўкраіне, Беларусі, Літве), Саламярэцкіх (на Беларусі), Агінскіх (у Вільні і Магілёве)[167]. Праваслаўныя «брацтвы» былі арганізаваны ў многіх гарадах Беларусі: Полацку, Віцебску, Магілёве, Менску, Бярэсці, Слуцку, Гародне, Оршы, Шклове, Мсціслаўлі, Крычаве і інш. Узнікалі яны часцей за ўсё на аснове царкоўных абшчын і манастыроў, але калі-некалі — і на аснове рамесніцкіх цэхаў. «Брацтвы» мелі пэўную аўтаномію ў сістэме праваслаўнай царквы, што забяспечвалася атрыманнем так званых стаўрапігій (вызваленне ад біскупскай улады). «Брацтвы» падтрымлівалі цесныя сувязі паміж сабой і з іншымі «брацтвамі» дзяржавы (напрыклад: львоўскім, кіеўскім, віленскім). Яны мелі правы і грошы на ўтрыманне бальніц («шпіталей»), школ і вучылішчаў («калегій»), друкарняў, прыютаў, храмаў і інш.[168] Увогуле іх дзейнасць ішла ў межах законаў і была даволі эфектыўнай.

Улічваючы эфектыўнасць арганізацыі і працы праваслаўных «брацтваў», уніяцкая царква стала таксама ствараць аналагічныя аб'яднанні ў сваёй сістэме. Пры ўніяцкіх «брацтвах» таксама ўзнікалі шпіталі, друкарні, школы і дабрачынныя ўстановы.

У цэлым праваслаўныя «брацтвы» канца XVI — першай паловы XVII ст. адыгралі важную ролю ў развіцці адукацыі, культуры, друкавання. Групаванне вакол іх праваслаўнага насельніцтва садзейнічала ўмацаванню праваслаўнай веры, супрацьстаяння палітыцы акаталічвання, апалячвання і абуніячвання. У той жа час іх дзейнасць распаўсюджвалася пераважна сярод гарадскога насельніцтва і мела перш за ўсё рэлігійны кансалідуючы характар. Большасць сельскага

---

[164] Короткий В. Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. С. 102.

[165] Баркулабовская летопись. Киев, 1908. С. 17; Archiwum Doma Sapiechow. Lwów, 1892. Т. 2. S. 222, 475.

[166] Короткий В. Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. С. 7.

[167] Там жа. С. 7.

[168] Коялович М. О. Литовская церковная уния. СПб., 1859. Т. I. С. 65—68; Флеров И. О. О православных церковных братствах, противоборствовавших унии в Юго-Западной Руси в XVI, XVII и XVIII столетиях. СПб., 1857.

былога праваслаўнага насельніцтва Беларусі на працягу першай паловы XVII ст. была ўжо фармальна ўніяцкай. Паступова складалася новая этнаканфесіянальная супольнасць беларусаў (таксама ўкраінцаў) са сваёй своеасаблівай верай, яе традыцыямі, рытуаламі, абрадамі, культам святых і інш. У параўнанні з праваслаўным насельніцтвам, гвалтоўна пераведзеным ва ўнію, іх нашчадкі праз аднодва пакаленні ўжо мірна ўспрымалі новую веру, якая ў другой палове XVII ст. станавілася звыклай. Праваслаўная царква, значна пацярпеўшы ад уніяцтва, працягвала захоўвацца амаль што па ўсёй Беларусі (асабліва на ўсходзе), але ўсё больш і больш згубляла сваіх прыхільнікаў.

Такім чынам, у другой палове XVII ст. асноўныя хрысціянскія этнаканфесіянальныя групы беларускага насельніцтва былі прадстаўлены ўжо пераважна ўніятамі, потым каталікамі, яшчэ менш — праваслаўнымі і пратэстантамі. Акрамя хрысціянства, на Беларусі таго часу быў распаўсюджаны іудаізм (сярод яўрэяў і караімаў) і мусульманства (сярод татараў). Спаведванне розных па форме адгалінаванняў хрысціянства пэўным чынам адбівалася на светаўспрыманні і ментальнасці насельніцтва, на формах яго самавызначэння і самасвядомасці, што абумоўлівала існаванне пэўных этнаканфесіянальных груп у межах феадальнага грамадства Беларусі XIV — першай паловы XVII ст.

Асноўнай прыкметай, якая характарызуе ўзроўні і ступень кансалідацыі розных груп насельніцтва народа, выступае самасвядомасць. Найбольш яскрава яна адлюстроўваецца ў этнанімічных вызначэннях, у якія ўваходзяць саманазвы (эндаэтнонімы), назвы з боку суседзяў (экзаэтнонімы), урбанімы (назвы насельніцтва гарадоў), этніконы (вузкалакальныя назвы), канфесіёнімы (назвы на падставе веравызнання) і палітонімы (дзяржаўна-палітычныя вызначэнні). Этнанімічныя формы самасвядомасці ва ўсёй іх варыянтнасці з'яўляюцца вынікам асэнсавання людзьмі свайго адзінства ў межах розных супольнасцей (напрыклад: вясковай, гарадской, зямляцкай, саслоўна-класавай, рэлігійнай, этнічнай, дзяржаўнай і інш.) на падставе параўнання і супастаўлення «мы—яны». Таму ў любога народа, як правіла, наглядаюцца розныя самавызначэнні, галоўным сярод якіх выступае этнонім — назва ўсяго народа.

Мяркуючы па пісьмовых крыніцах, на Беларусі са старажытных часоў былі распаўсюджаны розныя формы самавызначэнняў. У залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі, яны маглі ўзаемазамяняцца і дапаўняць адна адну, аднак кожная з іх з'яўлялася элементам самасвядомасці народа. У эпоху феадалізму розныя сацыяльныя і тэрытарыяльныя групы насельніцтва часта асэнсоўваліся як асобныя адзінкі з пэўнымі рысамі культуры і быту, мовай, гістарычным лёсам, а таксама рэальнымі ці міфічнымі адзінствамі паходжання.

Гістарыяграфія праблемы доўгі час грунтавалася на спрэчным тэзісе аб адносна познім (з канца XVI — XVII ст.) з'яўленні ў беларусаў уласнай этнічнай самасвядомасці, асноўнай формай праяўлення якой да перыяду складвання нацыі, на думку некаторых аўтараў, было ў асноўным этнацэнтрычнае паняцце «тутэйшыя», «тубыльцы»[169]. Аднак вызначэнні тыпу «тутэйшыя», «тубыльцы», «свае», «мясцовыя» і іншыя былі вядомы не толькі ў беларускага, але і ў рускага, украінскага, польскага і іншага, галоўным чынам, сялянскага насельніцтва цэнтральных раёнаў рассялення наро-

[169] Напрыклад, «тубыльцомъ... вси их права и привилея Костельныя так Латинского закону яко Кгреческого теже и светские даны взычены», «мы тутэйшыя, страна наша ни руска, ни польска, але забраны край». Гл.: Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Гл.: Временник импер. Общества любителей древностей российских. М., 1854. С. 1; Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб., 1902. Т. III. С. 98.

даў[170] (як у эпоху феадалізму, так нават і ў XIX — пачатку XX ст.), што адлюстроўвала, як адзначаюць даследчыкі, працяглае існаванне перадэтнічных, мясцовых форм самасвядомасці[171].

Некаторыя дарэвалюцыйныя аўтары падкрэсліваюць, што паняцці «нацыя» (natio) і «народ» могуць звязвацца толькі з дзяржаўна-палітычнай супольнасцю людзей, і лічаць назвы народаў, якія не мелі ўласнай дзяржавы (у тым ліку і беларусаў[172]), тэрытарыяльна-геаграфічнымі, этнаграфічнымі, «племяннымі», радзей — этнічнымі.

Адносна позняе з'яўленне назвы «беларусы» (другая палова XVI — XVII ст.) і яе паступовае распаўсюджванне на этнічны масіў народа (у XIX—XX стст.) яшчэ не сведчыла аб адсутнасці да гэтых часоў этнічнай самасвядомасці ўвогуле. У этнічнай гісторыі розных народаў міра шырока вядомы выпадкі змянення форм іх этнічнай самасвядомасці на працягу пэўнага часу. Напрыклад, назва «французы» стала распаўсюджвацца на ўсе этнаграфічныя групы Францыі (беарнцаў, гасконцаў, пікардзійцаў, правансальцаў, бургундцаў і інш.) толькі пасля буржуазнай рэвалюцыі 1789 г. Агульная назва «дойч» атрымала распаўсюджанне сярод розных частак нямецкага этнасу (саксонцаў, баварцаў, гальштынцаў, гесенцаў, вестфальцаў і інш.) у XIX—XX стст. У гэты ж час «палякамі» сталі называцца тыя групы польскага народу, якія раней вызначаліся як «мазаўшане», «куявы», «шлензякі», «гуралі», нават і «шляхта». Адносна позна атрымала стабільнае існаванне вядомая яшчэ з XIII—XIV стст. назва «ўкраінцы», якія ў папярэднія часы называліся «маларосамі», «русінамі» ці тэрытарыяльна-зямляцкімі вызначэннямі: «валынцамі», «лемкамі», «бойкамі» і інш. Змяненне назвы сведчыла аб пэўнай пераарыентацыі і ўмацаванні аб'яднальных працэсаў кансалідацыі народаў, аднак не адзначала адсутнасці ў іх этнічнай самасвядомасці ў папярэднія часы.

Выказваліся таксама думкі, што найбольш распаўсюджаным сярод карэннага насельніцтва Беларусі было вызначэнне «ліцвіны», якое адлюстроўвала дзяржаўна-палітычную (у межах Вялікага княства Літоўскага), а для некаторых частак беларусаў і літоўцаў-аўкштайтаў нават і этнічную самасвядомасць. Шэраг даследчыкаў XIX — пачатку XX ст. (М. Вішнеўскі, А. Ельскі, Я. Чачот, Я. Станкевіч, А. Шлюбскі і інш.) лічылі, што асноўнай назвай народа павінна стаць перасэнсаванае і штучна распаўсюджанае вызначэнне «крывічы» (ці «беларусы-крывічы», «крывічы-беларусы»)[173].

Як адзначаецца ў сучасных тэарэтычных распрацоўках грамадствазнаўцаў, этнічная (нацыянальная, племянная і інш.) самасвядомасць з'яўляецца адным з галоўных вынікаў аб'яднальных этнічных працэсаў, асноўным паказчыкам узроўню кансалідаванасці розных тэрытарыяльных, этнаграфічных і саслоўна-класавых груп народа[174].

---

[170] Многія са старажытных этнонімаў (напрыклад: «франкі», «дойч», «швабы» і інш.) этымалагічна гучаць таксама, як «мясцовыя», «абшчыннікі», «туташнія», «суайчыннікі».

[171] Попов А. И. Названия народов СССР. Л., 1973; Чеснов Я. В. Ранние формы этнонимов и этническое самосознание. Гл.: Этнография имен. М., 1971.

[172] Гл., напрыклад: Bialoruś a Bialolechia // Przewodnik naukowy i literacki. Lwów, 1895. S. 281—287; Studnicki W. Sprawa Polska. Poznań, 1910. S. 495.

[173] Гл.: Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез і этнічная гісторыя. Мн., 1985. С. 24—27; Зеленский И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. СПб., 1864. Ч. I. С. 408; Столпянский И. Девять губерний Западнорусского края. СПб., 1866. С. 31.

[174] Поршнев Б. Ф. Социальная психология и история. М., 1968. С. 80—85; Андреева Г. М. Социальная психология. М., 1980. С. 225—226; Козлов В. И. Проблема этнического самосознания и ее место в теории этноса // Советская этнография. 1974. № 2. С. 88—91; Спиркин А. Г. Сознание и самосознание. М., 1972. С. 141—142; Никонов В. А. Этнонимия. // У кн. Этнонимы. М., 1970. С. 4—7, 25—26; Бромлей Ю. В. Очерки теории этноса. М., 1983. С. 173—199.

Найбольш дакладная і грунтоўная інфармацыя аб формах самавызначэння насельніцтва беларускіх зямель змешчана ў розных гістарычных пісьмовых крыніцах XV—XVIII стст. (летапісах, хроніках, дыярыўшах, актах, граматах, прывілеях, люстрацыях і інш.). Мяркуючы па змешчаных там дадзеных, на Беларусі (як і ў іншых краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы) у той час існавала складаная іерархічная сістэма саманазваў насельніцтва. Найбольш вузкім арэалам распаўсюджанасці характарызаваліся саманазвы жыхароў асобных вёсак (сельскіх тэрытарыяльных абшчын), напрыклад: «будаўлянцы», «выганашчы», «завалача», «мачане»[175]. Насельніцтва невялікіх сельскіх паселішчаў часцей за ўсё вызначала сябе па назве, утворанай ад назвы воласці. Валасная абшчына аб'ядноўвала пад адзінай назвай жыхароў цэнтральнай сядзібы і сялян усіх (і малых, і буйных) навакольных вёсак, напрыклад: «людзі ўсвятские», «мужы азеришчанские» ці «свіслачане», «баброўцы» ці проста «валашане». Жыхары іншых валасцей вызначаліся як «чужеволостьцы» ці адпаведнымі аналагічнымі валаснымі этніконамі[176].

Воласць як адна з першапачатковых ступеней тэрытарыяльнай арганізацыі насельніцтва была непасрэдным звяном дзейнасці этнаўтваральных фактараў, а валасная абшчына ўяўляла сабой феадальную тэрытарыяльную супольнасць, у якую ўваходзілі больш старажытныя па форме сельскія і суседскія абшчыны. Аналагічныя формы аб'яднання насельніцтва захаваліся на Беларусі (напрыклад на Палессі) амаль да XX ст., калі жыхары розных вёсак, якія ўваходзілі ў склад адзінай валаснога тыпу абшчыны, вызначалі сябе па назве цэнтральнага пасялення (буйнога сяла, пагосту ці мястэчка). Прычым І. Сербаў, які зафіксаваў названую з'яву, адзначаў, што гэтыя абшчыны часта не зліваюцца ў адну масу ў культурна-бытавым сэнсе, а маюць свой самабытны ўклад жыцця[177].

У больш шырокім маштабе аб'яднанне насельніцтва па формах самавызначэння зафіксавана на ўзроўні асобных зямель: паветаў, княстваў і ваяводстваў. Агульнай назвай у гэтых выпадках выступаў урбанім — назва жыхароў цэнтральнага пасялення (горада ці мястэчка), напрыклад: «мазыране», «рэчычане», «магілёўцы», «бабруяне», «аршанцы», «случане», «пінчукі» і інш. У некаторых дакументах, калі трэба было размежаваць на этнанімічным узроўні мяшчан (жыхароў горада) і валашан (сельскае насельніцтва), першых з іх называлі проста, напрыклад, «берасцяне», а другіх — «людзі берасцейскія»; «піяне» і «людзі пінскія»[178]. Але не менш часта сельскае насельніцтва ўсіх валасцей павета, княства ці ваяводства сумесна з гарадскім мяшчанствам вызначалася асноўным урбанізаваным этніконам.

---

[175] У гэтым сэнсе можна меркаваць аб існаванні ў той час самавызначэння «крывічы» — па назвах вёсак «Крывічы», зафіксаваных у некаторых дакументах XVI ст. і больш позняга часу. Гл.: Литовская метрика. Книга записей. Т. I. С. 97; Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. Вильно, 1867. С. 104—105.

[176] Литовская метрика. Книга записей. Т. I. Русская историческая библиотека. Т. XX. С. 669, 670, 728; Полоцкая ревизия. 1552. С. 7—8, 53; Акты Западной России. Т. II. С. 86.

[177] Сербов И. А. Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк // Сборник отделения русского языка и словесности. Петроград, 1915. Т. XCIV. № 1. С. 1—2, XVI.

[178] Литовская метрика. Книга записей. Т. I. Русская историческая библиотека. Т. XX. С. 128, 129, 348, 728, 1271; Акты Западной России. СПб., 1841. Т. I. С. 186, 310, 322, 528. На думку З. Глогера, такое размежаванне можна наглядаць і на ўзроўні словаўтварэння. Калі этніконы заканчваюцца на «-ук», «-як», «-ак» («пінчук», «куявяк»), то яны абазначаюць прадстаўнікоў простага народа, галоўным чынам, сялян, а калі на «-анін», «-янін» («кракавянін», «палачанін»), то размова ідзе аб прадстаўніках больш высокіх саслоўяў: мяшчан, шляхты. Гл.: Gloger Z. Encyklopedia staropolska ilustrowana. Warszawa, 1978. T. IV. S. 231.

Калі людзі пападалі ў іншаэтнічнае асяроддзе, то зямляцкія самавызначэнні часта трансфармаваліся ў мянушкі-прозвішчы. Напрыклад, у шэрагу ўкраінскіх сярэдневяковых дакументаў зафіксаваны некаторыя прозвішчы ці мянушкі, адпаведныя месцу паходжання перасяленцаў з беларускіх зямель: «Мазыранін», «Пінчук», «Пінчуковіч», «Случчанін», «Туравець», «Палачанін», «Бабруйка», а іншы раз больш шырока: «Ліцвін», «Ліцвіновіч», «Ліцвінчык»[179].

Гарады Беларусі і Вялікага княства Літоўскага ўвогуле з'яўляліся цэнтрамі тэрытарыяльна-зямляцкіх супольнасцей (у межах адпаведных паветаў, княстваў, ваяводстваў). Гарадскія этніконы (урбанімы) былі шырока вядомы і часам распаўсюджваліся на насельніцтва ўсяго зямляцтва. Гэты працэс адлюстроўваў узмацненне сацыяльна-эканамічных, палітычных, адміністрацыйна-юрыдычных, а нават і ўнутрыэтнічных (зямляцкіх) сувязей паміж гарадскім і сельскім насельніцтвам, якое складалася не толькі з сялян, але і феадалаў-землеўладальнікаў. Гэта было зафіксавана некаторымі сучаснікамі на прыкладзе Полаччыны[180]. Адлюстраванне гэтай узаемасувязі прасочваецца і на іншым дакументальным матэрыяле, дзе паняцці «валашане» і «мяшчане» аб'ядноўваюцца (напрыклад, «мещаном и волошаном полоцким...»)[181]. Цесныя зямляцкія сувязі насельніцтва Полаччыны этнагенетычна адносіліся яшчэ да старажытных перыядаў існавання летапісных «палачан», тэрытарыяльна-зямляцкі ўзровень арганізацыі якіх узмацняўся палітычным фактарам існавання ў IX—XIII стст. самастойнага княства — зямлі, пазней (да сярэдзіны XVI ст.) — захаваннем аўтаноміі ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Многія дакументы па справах края складаліся ад імя ўсёй зямлі (і «каралю... били челом... бояре Полоцкие и мѣшаны і вся земля Полоцкая»[182]), грамата на атрыманне магдэбургскага права Полацкам датычылася не толькі самога горада, але і яго прадмесцяў і сёл[183]. Прыналежнасць да гарадской абшчыны падкрэслівалася ў шматлікіх дакументах у форме лакальнай эканамічнай самасвядомасці: «Мы Палачаны...», «Нам Палочаном...»[184]. Мясцовы этнікон «палачане» ахопліваў як праваслаўнае, так і каталіцкае насельніцтва Полацка (з гэтых дзвюх канфесій выбіраліся ў Полацку на адказныя гарадскія пасады радцы, лаўнікі, войты, бурмістры[185]).

Зямляцкая самасвядомасць была ўласціва беларускаму асветніку Ф. Скарыне, які пастаянна падкрэсліваў сваё паходжанне з Полацка (дакладней, з «Полоцьку» — ад дыялектнага «Полоцік»). Яшчэ ў пачатку свайго творчага шляху ў 1504 г. у Кракаўскім універсітэце ён быў запісан як «Францыск Лукіч з Полацка»[186]. У сваіх выданнях 1517—1522 гг. ён таксама пастаянна называе сябе «сыном с Полоцька» (Псалтыр, 1917, Прага, 1517), «с Полоцька града славного» (Кніга Эсфір, Прага, 1519), «сыном из славного града Полоцька» (Акафіст св. Мі-

[179] Исторические корни дружбы и единения украинского и белорусского народов. Киев, 1978. С. 39—41.

[180] Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. I. S. 240.

[181] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. М., 1978. Вып. II. С. 145; Литовская метрика. Книга записей. Т. I. С. 509, 584.

[182] Акты, относящиеся к истории Западной России. СПб., 1864. Т. II. С. 86—87.

[183] Акты Литовско-Русского государства. М., 1899. Вып. I. С. 1.

[184] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. М., 1978. Вып. II. С. 7, 10, 12, 92, 144—146.

[185] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I. С. 78, 92.

[186] У арыгінале «з Плоцка», памылка пісара, і ў дакументах пад 1506 г., як адзначае С. Александровіч, зроблена ўжо верная версія. Александровіч С. Х. Кнігі і людзі. Мн., 1976. С. 11—15.

колы, Вільно, 1522)[187], што добра ўзгадняецца з іншымі выпадкамі праяўлення яго зямляцкай самасвядомасці, выказанымі, напрыклад, у фразе: «...люди игде зародилися и ускормлены суть к тому месту великую ласку имають»[188].

Умацаванню зямляцкіх форм самасвядомасці насельніцтва садзейнічала пэўная палітычная, эканамічная і юрыдычная аўтаномнасць шэрага асобных зямель (Полацкай, Віцебскай, Смаленскай, Кіеўскай, Валынскай, Жмудскай, Чарнігава—Севярскай) у складзе Вялікага княства Літоўскага[189]. Зямляцкія супольнасці феадальнага часу ўяўлялі складаны тып этнасацыяльнай арганізацыі насельніцтва не толькі ва ўсходнеславянскіх, а нават і ва ўсіх еўрапейскіх народаў. Не будзе памылковым сцвярджэнне, што беларуская народнасць склалася менавіта з сукупнасці зямляцкіх аб'яднанняў, кожнае з якіх яшчэ са старажытнарускіх часоў уяўляла сабой асобную патэстарна-субэтнічную супольнасць са сваёй пэўнай сацыяльнай структурай, са сваімі асаблівасцямі мовы, культуры і самасвядомасці. Таму невыпадкова, што ў XIV—XVII стст. зямляцкія этнiконы (як формы мясцовай самасвядомасці) былі даволі ўстойлівымі і рэпрэзентатыўнымі як у Вялікім княстве Літоўскім, так і за яго межамі.

У многіх дакументах XIV—XVII стст. назвы шэрага еўрапейскіх народаў: «ляхі» (палякі), «немцы», «чэхі», «славакі», «угры» (венгры), «влохі» (раманцы), «ліфлянты» (частка латышоў), «татары» і іншыя — часта пералічваюцца як роўныя паняцці ў адзіным раду з зямляцкімі этнiконамі «палачане», «віцебляне», «смаляне», «валыняне»[190]. Напрыклад, «...а послу изъ нашее земли изъ Литовскоъ, и гостю — или Ляхъ, или Литвинъ, или Русинъ, или Полочанинъ, или Витеблянинъ, или Смолнянинъ...»[191].

Працэсы кансалідацыі насельніцтва ў больш шырокім, чым зямляцтва, маштабе рэканструюцца на падставе самавызначэння розных груп насельніцтва Беларусі назвамі з коранем «рус-» («руськіе», «русіны») і «ліцвіны». Суадносіны гэтых назваў на працягу XIV—XVII стст. былі рознымі і складанымі. Назвы з коранем «рус-» пачалі распаўсюджвацца на Беларусі яшчэ з X ст. Першапачаткова гэты працэс быў звязаны з захопамі кіеўскіх князёў, якія называлі сябе «русамі» ці «росамі», а падуладную сабе зямлю — «рускай». Насельніцтва ўсіх гэтых зямель называлася «рускім» незалежна ад яго папярэдняй племяннай прыналежнасці. Іншы раз «рускімі» вызначалася насельніцтва нават і неўсходнеславянскага паходжання. Пазней паралельна з хрысціянізацыяй насельніцтва назвы з коранем «рус-» пачалі звязвацца з праваслаўем, якое традыцыйна называлася «рускай верай».

Ужо ў XII—XIII стст. «рускімі», «русічамі», «русінамі», «руссю» ў летапісах называлася насельніцтва амаль што ўсіх буйных гарадоў Беларусі, у тым ліку Полацка, Віцебска, Заслаўля, Бярэсця, Турава, Пінска, Менска, Гародні, Навагародка і інш. Разам з тым, летапісы,

[187] Кніга Беларусі. 1517—1917: Зводны каталог / Дзярж. б-ка імя У. І. Леніна. БелСЭ; Склад. Г. Я. Галенчанка і інш. Мн., 1986. С. 37, 41, 52; Вызначэнне, якое выкарыстоўваў Ф. Скарына, было адпаведным еўрапейскай традыцыі таго часу (Параўн.: Мацэй з Мехава, Павел з Кросна, Андрэй са Свіры, Ян Аміцын з Кракава і інш.), тады як этнікон «палачанін» адносіўся, перш за ўсё, да мяшчаніна (гараджаніна), члена гарадской магдэбургскай абшчыны Полацка, жыхара Полацкай зямлі.

[188] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 59.

[189] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892. С. 1—62.

[190] Акты Литовско-Русского государства. Вып. 1. С. 25—26; Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 44, 45, 49, 58, 62, 93, 122, 124, 150, 181 і інш.

[191] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. І. С. 51.

апісваючы падзеі тых гадоў і асабліва феадальныя войны паміж рознымі «рускімі» княствамі, часта ўжываюць лакальныя зямляцкія вызначэнні тыпу «палачане», «віцебляне», «ізяслаўцы», «меняне», «берасцяне», «тураўцы», «случане», «мсціслаўцы», а таксама «смаляне», «кіеўляне», «валыняне», «ноўгародцы», «пскавічы» і інш.

На заходніх землях Беларусі назвы з коранем «рус-» і лакальныя этніконы зямляцкага тыпу чаргаваліся з іншымі, што вызначалі неславянскае насельніцтва, напрыклад: «яцвягі», «судава», «лотва», «латыголь», «нарова», «нальша», «дзяволтва», «палекшане», «дайнова», «літва» і «літвіны»[192].

Арэал распаўсюджанасці назваў з коранем «рус-» у XIV—XVI стст. акрэсліваўся пераважна ўсходнімі і цэнтральнымі землямі Беларусі, быў цесна звязаны з паняццем «Русі», «рускай зямлі», а адпаведна і з праваслаўем. Носьбітамі этнонімаў з коранем «рус-» былі пераважна ўсходнія славяне. Аднак, як і ў папярэднія часы, асобныя прадстаўнікі неславянскага насельніцтва, што прынялі праваслаўнае вераспаведанне, таксама называліся «рускімі», «русінамі», «руськімі». У залежнасці ад гэтага, арэал самавызначэнняў з коранем «рус-» пашыраўся на землі, дзе пражывала праваслаўнае (рознага паходжання) насельніцтва, як было, напрыклад, у Латгаліі, на Падляшшы, у Аўкштайціі, а нават і ў Жмудзі[193]. Аднак амаль што на ўсіх гэтых землях праваслаўнае «руськае» насельніцтва пражывала асобнымі астравамі і не складала суцэльных масіваў.

У той жа час, гэтыя назвы распаўсюджваліся сярод іншых усходнеславянскіх народаў (вялікаросаў і ўкраінцаў), што ўвогуле значна пашырала арэал канфесіянальных макраэтнонімаў з коранем «рус-» адпаведна на ўсход, поўнач і поўдзень ад зямель Беларусі. Асабліва гэта датычыла ўсходніх славян, што пражывалі ў межах Вялікага княства Літоўскага. Адзінства гэтых груп і народаў знайшло, напрыклад, сваё адлюстраванне ў вызначэнні «всея Русь» («...Александр... князь всего русского царства...», «всея Русь... у Литвы», «Всея Русь, што под паньством литовским»[194]). У перыяд XIV—XVII стст. у паняцце «Всея Русь» укладваўся, акрамя канфесіянальнага, яшчэ і этнагенетычны (спадчынны) сэнс, што, магчыма, павінна было характарызаваць гістарычную пераемнасць «Русі» як Літоўскай, так і Маскоўскай ад «Рускай» імперыі Рурыкавічаў. Палітычны аспект тэрміна «Всея Русь» адлюстроўваўся ў працяглым супрацьборстве вялікіх князёў літоўскіх і маскоўскіх (з 1547 г. — цароў) у справе аб'яднання ўсіх «рускіх» зямель і іх насельніцтва. Гэта выклікала частыя спрэчкі і бойкі паміж дзвюма дзяржавамі з-за розных пагранічных зямель (Смаленшчыны, Пскоўшчыны, Браншчыны, Чарнігаўшчыны, Магілёўшчыны, нават і зямель вакол Тарапца, Вязьмы, Масальска, Варатынска, Адоева, Трубецка, Курска і інш.). Маскоўскія ўладары прэтэндавалі нават і на ўсе ўсходнебеларускія землі, якімі ні яны, ні іх продкі ніколі не валодалі. Палітычны аспект паняцця «Всея Русь» і этнагенетычны — «русский народ» — падкрэслівалі значнасць і магутнасць дзяржаў, у якія яны ўваходзілі.

Некаторыя замежныя і мясцовыя дзеячы XV—XVII стст., якія заўважалі

---

[192] Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. С. 46—48, 52—53, 70—81.

[193] Климчук Ф. Д. К истории распространения белорусских говоров в юго-восточной Литве // Балто-славянские исследования. М., 1981. С. 214—221; Собрание древних грамот и актов городов Вильны, Ковна и Трок. Вильно, 1843. Ч. I. № 13—14; Vetera monumenta Poloniae et Lithnanie. Ed. A. Theimer. Romae, 1961. T. II. S. 277—278.

[194] Акты Западной России. СПб., 1841. Т. I. С. 33, 189; Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 167—168.

пэўную этнагенетычную блізкасць вялікаросаў, украінцаў і беларусаў, пісалі, што «люд літоўскі, рускі і маскоўскі — адна і тая ж Русь, адно і тое ж племя»[195]. З. Герберштэйн у XVI ст. у сваіх дзённіках адзначаў: «...гэтыя дзве вобласці (Літва і Самагіція — Жмудзь) перамешваюцца з рускімі і маюць уласную мову і рымскую абраднасць, аднак жыхары іх большай часткай — рускія»[196]. Цікава таксама, што ў беларускім перакладзе «Хронікі» М. Стрыйкоўскага, зробленым у XVII ст., назвы «руськія» і «Русь» падаюцца як самастойныя разам з этнанімічнымі вызначэннямі ўкраінцаў («падаляне», «валынцы», «чэркасы»), літоўцаў і беларускамоўных ліцвінаў («літва»), велікаросаў («масква»)[197], што дазваляе лакалізаваць гэтыя назвы на ўсходнеі цэнтральнабеларускіх тэрыторыях.

Пэўную ролю ў стабільным захаванні назваў «Русь» і «руськія» на землях Беларусі адыграў той факт, што іншыя «рускія» землі Вялікага княства Літоўскага (Украіна) адышлі ў другой палове XVI ст. пад юрысдыкцыю Польскага каралеўства, у той час як беларускія вобласці засталіся ў складзе «літоўскай» часткі Рэчы Паспалітай[198]. Верагодна, што розныя каляровыя («Белая», «Чорная», «Чырвоная») і іншыя дыферэнцыруючыя назвы Русі (Вялікая, Малая), якія існавалі ў старажытныя часы, таксама адлюстроўвалі пэўную сэнсавую розніцу ў этнічнай і этнагеаграфічнай неаднароднасці агульнага паняцця «Русь». Аднак пэўная роднасць усё ж падкрэслівалася асобнымі адукаванымі дзеячамі культуры, асветы, царквы. Так, напрыклад, ужо ў канцы XVI — XVII ст. этнонім «рускія» часткова губляе свой канфесіянальны змест, звязаны выключна з праваслаўем. «Рускімі», «руськімі», «русінамі» пачынаюць вызначаць пратэстантаў, уніятаў, а нават і католікаў.

У пачатку XVII ст. М. Сматрыцкі (які вельмі добра асэнсоўваў старажытныя сувязі «рускага народа» з праваслаўем) з мэтай садзейнічання рэлігійнаму «пакою паспалітаму межы разрозненаму ў веры і праве»[199] і падтрымліваючы царкоўную ўнію 1596 г. пісаў: «Свабода была дана рускаму народу ў двух формах: таму рускаму народу, які спаведвае рымскую рэлігію па заходняму ўзору, і рускаму народу, спаведваючаму грэчаскую рэлігію па ўсходняму»[200]. Такога роду выпадкі супадзення паняццяў «русін», «рускі народ» і каталіцкай веры былі ў той час паасобныя і адзначалі рэдкую для часоў феадалізму з'яву незалежнасці этнічнай самасвядомасці ад канфесіянальнай.

Аналагічнай думкі, верагодна, у свой час прытрымліваўся і Ф. Скарына, які быў блізкі да каталіцтва (ці ўвогуле католікам) і які пазней, як адзначаў той жа М. Сматрыцкі, «впал в гусіцкую ересь» — пратэстантызм. Уяўленне Ф. Скарыны аб сваёй прыналежнасці да «рускага» наро-

[195] Czubek J. Pišma polityczne z czasów pierwszego bezkrolewia. Kraków, 1906. S. 395; Асэнсаванне блізкай роднасці і этнагенетычнага адзінства паходжання «рускіх» народаў у Рэчы Паспалітай і Расіі было ўласціва, напрыклад, Ф. Скарыне, С. Буднаму, І. Фёдараву, П. Мсціслаўцу, В. Геаргіевічу, Ф. Беняшоўскаму, М. Сматрыцкаму і інш.

[196] Герберштейн С. Записки о московитских делах // Россия XV—XVII вв. глазами путешественников. М., 1986. С. 35.

[197] Стрыйковский М. Кроиника славяновъ руския о панствах руских, полских и литовских / Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў С.-Пецярбургу. Ф. IV. С. 427.

[198] Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 135—138; Литовская метрика. Книга записей. Т. I: Русская историческая библиотека. СПб., 1910. Т. XXVII. С. 238, 455, 542, 546; Полное собрание русских летописей. Летописи белорусско-литовские. Т. 35. С. 110, 122, 126.

[199] Смотрицкий М. Апокрисис, альбо исповедь на книжцы о соборе берестейском. Острог, 1598. С. 16.

[200] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962. С. 180; Короткий В. Т. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. С. 104; Скарыніч Б. Аб беларусах лаціньніках // Крывіч. 1923. № 2.

да адлюстравалася на яго этнанімічным вызначэнні «русін», зафіксаваным у актавых запісах Падуанскага ўніверсітэта за 1512 г. і ў некаторых іншых дакументах[201]. Дадзены этнонім, напэўна, выкарыстоўваўся Ф. Скарынай і ў якасці саманазвы, аб чым сведчыць і ўпамянутае вышэй скарынінскае выказванне «Азъ... нароженый въ рускомъ языку»[202].

Імкненне да адукацыі «рускіх» людзей, «братии своей Руси» сродкамі перакладаў на родную мову сведчыла не толькі аб высокім узроўні этнічнай самасвядомасці Ф. Скарыны, але і аб яе актыўнай функцыянальнасці, накіраванай на развіццё нацыянальнай (у сэнсе natio — народ) літаратурнай мовы, актывізацыі этнічнай самасвядомасці і ўвогуле грамадскай свядомасці беларусаў. Функцыянальная накіраванасць дзейнасці асветнікаў, якая садзейнічала ўмацаванню этнічнай самасвядомасці, развіццю літаратурнай мовы і культуры народаў, з'яўлялася адным з найважнейшых фактараў інтэграцыі і кансалідацыі розных тэрытарыяльна-зямляцкіх частак і саслоўна-класавых груп этнасацыяльных супольнасцей феадальнага перыяду. Неабходна падкрэсліць, што розныя групы насельніцтва ў той час асэнсоўвалі сваю этнічнасць неадколькава. Этнічная самасвядомасць увогуле найбольш відавочна, канцэнтравана адлюстроўваецца ў працэсе кантактаў паміж прадстаўнікамі розных этнасаў: на этнічным памежжы, у іншаэтнічным асяроддзі, у гарадах з поліэтнічным насельніцтвам — там, дзе ўзнікае магчымасць міжэтнічнага параўнання. У гамагенных, аднародных зонах рассялення пэўных груп народаў этнічная самасвядомасць іх зніжана, неактуальна і часта змяняецца іншымі, напрыклад, мясцовымі формамі самасвядомасці. Тое ж датычыць і этнанімічных вызначэнняў з боку суседзяў, гэта значыць, экзаэтнонімаў, якія часта не супадаюць з самавызначэннямі. Так, з палітычных мэтаў і ў залежнасці ад працэсаў уласнага этнаўтварэння ў рускіх, украінцаў і беларусаў была абумоўлена даволі моцная дыферэнцыяцыя насельніцтва на ўзроўні самасвядомасці і самавызначэння. Прадстаўнікі кожнага з гэтых этнасаў лічылі «рускім» толькі свой народ, а суседзяў вызначалі іншымі этнанімічнымі формамі[203]. Напрыклад, рускія і ўкраінцы называлі беларусаў «ліцвіны», а беларусы іх у сваю чаргу — «наўгародцамі», «пскавічамі», «цверычамі», «маскалямі», «маскавітамі», «валынянамі», «падалянамі», «чаркасамі», «казакамі» і вельмі рэдка старажытным этнонімам «рускія» (ці іншым з коранем «рус-»).

Як ужо было падкрэслена, беларусы з боку рускіх, украінцаў, палякаў і некаторых іншых еўрапейскіх народаў часта называліся «ліцвінамі». Трэба адзначыць, што гэта этнанімічная форма выступала перш за ўсё ў сэнсе палітоніму (дзяржаўнага вызначэння падданства). У дадзеным сэнсе яна адлюстроўвала найбольш шырокі ўзровень кансалідацыі ўсяго беларускага народа, а таксама яго інтэграцыю з літоўцамі-аўкштайтамі, таксама знаёмымі з гэтым вызначэннем. Тэрытарыяльна назва «ліцвіны» ахоплівала ў XIV—XVII стст. амаль што ўсе землі Беларусі, распаўсюджвалася на прадстаў-

[201] Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 101.

[202] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 12 і інш.; Асэнсаванне Русі, «рускага» народа, як «братии своей» адлюстравала адну з асноўных форм праяўлення этнічнай самасвядомасці Ф. Скарыны — уяўленне аб агульнасці паходжання.

[203] Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 135—138; Русская историческая библиотека. Литовская метрика. Книга записей. Т. I: Русская историческая библиотека. Т. XXVII. С. 238, 455, 542, 546; Полное собрание русских летописей. Летописи белорусско-литовские. Т. 35. С. 110, 122, 126.

нікоў розных напрамкаў і адгалінаванняў хрысціянства. Аднак найбольш стабільна яна існавала сярод беларускага насельніцтва памежных зямель з Украінай і Расіяй, а таксама ў зонах змешанага балта-славянскага (беларускамоўнага) насельніцтва[204]. «Ліцвінамі» з другой паловы XVI ст. стабільна лічылі сябе і прадстаўнікі вышэйшых феадальных слаёў Вялікага княства Літоўскага (часам незалежна ад веравызначэння і этнічнага паходжання)[205]. «Мы і палякі, хоць і браццця, але зусім адменных звычаяў», — пісаў у сваім лісце да К. Радзівіла вялікі канцлер Л. Сапега ў канцы XVI ст.

Цікава адзначыць, што ўмацаванне гэтай формы самасвядомасці шляхты адбылося ў другой палове XVI ст., пасля аб'яднання Вялікага княства з Каронай у Рэч Паспалітую, якое разглядалася палякамі як «аб'яднанне дзвюх дзяржаў і дзвюх народаў у адну дзяржаву і адзін народ». Аднак мясцовая шляхта і магнаты, атаясамліваючы паняцці «народ — нацыя — шляхта — дзяржава», пачалі актыўна падкрэсліваць, што яны менавіта «ліцвіны», чым выказвалі даволі высокі ўзровень дзяржаўна-нацыянальнай самасвядомасці.

У якасці саманазвы (мікраэтноніма, этнікона) паняцце «ліцвіны» існавала і працягвае захоўвацца ў некаторых лакальных групах славянізаванага літоўскага і беларускага насельніцтва заходніх і паўднёвых раёнаў Беларусі і Усходняй Літвы (Аукштайціі)[206].

Насельніцтва Беларусі добра асэнсавала сваю дзяржаўную прыналежнасць, і ў іншаэтнічным асяроддзі прадстаўнікі беларускага этнасу іншы раз вызначалі сябе «ліцвінамі», «з Літвы», «літоўскімі поданымі». Напрыклад, у гістарычных дакументах Маскоўскай дзяржавы другой паловы XVI—XVII ст. даволі часта сустракаюцца запісы аб тым, што жыхары часткі цэнтральных і ўсходніх беларускіх зямель «на Москве... при роспытах... сказались... литвинами», «родом из Литвы»[207].

Па падліках С. Александровіча, у дакументах універсітэта канца XV — пачатку XVI ст. 46 студэнтаў з зямель Беларусі і Літвы (ад агульнай колькасці каля 150) вызначаны словам «літванус», некалькі — «рутэнус», а астатнія — па месцу паходжання: з Вільні, Коўна, Трок, Полацка, Пінска, Брэста, Клецка, Ліды, Мінска і інш.[208] Па месцу паходжання быў запісаны ў 1504 г. і студэнт Ф. Скарына, але ўжо ў 1506 г., пасля атрымання ступені бакалаўра, ён адзначаны ўжо як «з Полацку ліцвін». Славянізаваная этнанімічная форма «ліцвін» (ад лацінскага Litphanus) адрознівалася ад этноніма ў саманазваў уласна літоўцаў — «Lietuwis», «Lietuviai», «aukstaiciai», «zemaiciai». Аднак у часы актыўнага ўжывання ў этнаграфічнай Літве славянскіх (старажытнабеларускай, польскай, рускай) моў, яны (акрамя жэмайтаў) таксама часта вызначаліся як «ліцвіны»[209].

Беларускамоўныя «ліцвіны» часта супрацьпастаўлялі сябе менавіта літоўцам,

---

[204] Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез і этнічная гісторыя. С. 73—75, 80—81.

[205] Suchocki J. Formowanie się i sklad narodu politycznego w Wielkim księstwe Litewskim późnego średniowiecza // Zapiski Historyczne. 1983. T. XLVIII. S. 31—78.

[206] Гаучас П., Видугирис А. Этнолингвистическая ситуация литовско-белорусского пограничья с конца XVIII по начало XX вв. — У кн.: Научные труды высших учебных заведений Литовской ССР. География XIX. Население. Вильнюс, 1983. С. 26—73; Чаквін І. У. Гістарычная этнаніміка Палесся // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 4. С. 74—80; Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 130—146.

[207] Акты Московского государства, изданные имер. Академией наук. Разрядный приказ. 1571—1634. СПб., 1890. Т. I. С. 34, 179, 249, 347 і інш.; Русско-белорусские связи. Сборник документов. Мн., 1963. С. 94—97, 103, 109, 111, 112, 114 і інш.

[208] Александровіч С. Х. Кнігі і людзі. С. 15—17.

[209] Гл.: Būga K. Rinktiniai zastai. Vilnius, 1961. T. III. S. 9—23; Кочубинский А. А. Территория доисторической Литвы // Журнал Мин-ва народного просвещения. 1897. Ч. СССІХ. С. 62; Памятная книжка Ковенской губернии. Ковна, 1890. С. 8.

якіх вызначалі назвамі «жамайты», «жамойць», «жмудзь», «самагіты», «аўкштайты» (з XVII ст.) і інш. Літоўцы-аўкштайты, у сваю чаргу, называлі ўсё беларускамоўнае насельніцтва «гудамі», «гудасамі», «гудаямі». Заходнія групы балцкага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага — з зямель Жэмайціі — «ліцвінамі» не называліся, таму гэты палітонім выступаў як найбольш шырокая (для беларускага насельніцтва) саманазва, якая аб'ядноўвала жыхароў усіх зямель Беларусі, розных саслоўяў, веравызнання і нават этнічнага паходжання. Такі абагульняючы характар назвы «ліцвіны» абумоўліваў часам узнікненне складаных самавызначэнняў тыпу: «литвины руского роду», «литвин руский по походжаню», «родом он литвин латыш...», «литвины кгреческого закону люди», «по націянальнасці ліцвін, родам паляк» (nationale Lituanus, gente Polonus)[210], «рускія князі літоўскага роду»[211].

Дадатковыя формы самавызначэнняў з коранем «рус-», якія звязваліся спачатку з праваслаўем, з канца XVI ст. пачалі адносіцца і да ўніятаў (каталікі называлі ў той час уніяцтва «рускай верай», а вялікарусы — «беларускай верай»).

У канцы XVI — XVII ст. у такіх складаных этнанімічных вызначэннях усё часцей і часцей пачынае сустракацца форма «беларусцы» (тыпу «ліцвіны беларусцы»). Так, у афіцыйных дакументах Маскоўскай дзяржавы XVII ст. вельмі часта сустракаюцца запісы, што жыхары часткі цэнтральных і ўсходніх зямель Беларусі «на Москве... при роспытах... сказались литвинами белорусцами», «белорусами пашенными мужиками из Литвы». «Беларусцы» таго часу — гэта галоўным чынам жыхары летапіснай «Белай Русі», лакалізаванай у Полацкім, Смаленскім, Віцебскім, Мсціслаўскім і часткова Мінскім ваяводствах (вядомы толькі некалькі выпадкаў, калі «беларусцем» называўся жыхар заходніх беларускіх зямель»[212].

У адпаведнасці з зонай распаўсюджання на беларускіх землях канца XVI — XVII ст. тапоніма «Белая Русь», назва «беларусцы» яшчэ не ахоплівала ўсяго этнічнага масіву беларускага народа і з'яўлялася хутчэй не этнонімам, а лакальна-тэрытарыяльным этніконам. Паказальна, што дадзенай назвай вызначаліся часта ўсе жыхары вобласці «Белай Русі»: уласна беларусы, рускія, украінцы, літоўцы, латышы і іншыя (напрыклад, «...родом он литвин латыш белорусец Оршанского повету»)[213]. Першая назва гэтага складанага этнанімічнага вызначэння ўказвала на дзяржаўную прыналежнасць, другая — на этнічнае паходжанне, а трэцяя — на месца пражывання

---

[210] Сборник документов, объясняющих историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше. Предисловие М. Кояловича. СПб., 1865. С. III—XXX; Русско-белорусские связи. Сборник документов (1560—1667). Мн., 1963. С. 11; Ochmański J. Biskupstwo Wileńskie. S. 41—42, 46.

[211] Так называлі служылых князёў Адаеўскіх, Бялеўскіх, Бельскіх, Глінскіх, Варатынскіх, Мязеўскіх, Масальскіх, Мсціслаўскіх і іншых, якія ў XV—XVI стст. пераходзілі на службу ў Маскоўскую дзяржаву з Вялікага княства Літоўскага. Цікава адзначыць, што адны з іх былі з роду Гедымінавічаў, а другія — Рурыкавічаў. Гл.: Зимин А. А. Служилые князья в Русском государстве конца XV — первой трети XVI вв. — У кн.: Дворянство и крепостной строй России XVI—XVIII вв. М., 1975. С. 28—56; Бычкова М. Е. Состав класса феодалов России в XVI в. Историко-генеалогическое исследование. М., 1986. С. 29—74.

[212] Русско-белорусские связи. С. 94, 95, 103, 109, 112, 114, 222 і інш. У М. Стрыйкоўскага ўжываецца вызначэнне «літоўскія беларусы». Гл. таксама: Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России... Т. III. Дадатак. СПб., 1889. С. 176, 243; Катошихин Г. О России в царствование Алексея Михайловича. СПб., 1906. С. 126; Потебня А. А. Этимологические заметки // Живая старина. 1891. Вып. III. С. 118—119; Попов А. А. Названия народов СССР. Л., 1973. С. 92.

[213] Русско-белорусские связи. С. 111.

(з дадатковым указаннем на канкрэтны павет).

Па лінгвістычнай форме назва «беларусец» не выходзіла за межы аналагічных. Суфікс «-ец» ужываўся ў многіх этнанімічных вызначэннях усходніх славян («магілёвец», «быхавец», «нежынец», «валынец»), аднак быў найбольш характэрным для вялікарускіх дыялектаў і мовы (параўнайце, напрыклад, «грузінец», «літовец», «украінец»). Таму невыпадкова, што гэта форма ўжывалася ў якасці экзаэтнанімічнага вызначэння, дадзенага з боку суседзей (вялікарусаў), аднак у той жа час яна выступала і ў якасці саманазвы, што было пісьмова зафіксавана ў дакументах Маскоўскага разраднага прыказа XVII ст. «Родом літвин белорусец», «белорусец», «литвин белорусец», «беларусец Лидского повету», «литовка белоруска Мстиславского повету», «литовские пашенные мужики розных городов белорусцы», «витебчанин белорусец посадский человек»[214] і гэтак далей — так называлі сябе ў Маскве беларускія сяляне, рамеснікі, купцы, іншы раз шляхта; так іх называлі і маскоўскія дзякі, так называлі ўсходнія групы беларусаў беларускамоўныя суседзі з заходніх раёнаў беларускіх зямель (назва «беларусец» адлюстравалася і ў антрапаніміі, напрыклад Афанас Іванавіч Беларусавіч)[215].

У некаторых замежных (нямецкіх, польскіх, італьянскіх) аўтараў XV—XVII стст. некалькі разоў успамінаецца назва «чорнарусы» для вызначэння насельніцтва «Чорнай Русі»[216]. На Беларусі гэты тапонім ужываўся ў адносінах да тэрыторый Новагародка, Слоніма, Ваўкавыска, Драгічына. Аднак у мясцовых гістарычных дакументах тых часоў назва «чорнарусы» не сустракаецца, што дазваляе лічыць яе штучнай.

Аналагічна этнанімічнаму самавызначэнню «беларусцы» з XVII ст. у вялікай вобласці басейна Прыпяці распаўсюджваюцца назвы «палешукі», «палешчукі», «полышчукы», звязаныя з вядомым яшчэ з XIII ст. тапонімам «Палессе». На жаль, зусім мала вядомы гістарычныя дакументы да XVII ст., дзе сустракаліся б назвы «палешукі», «палешчукі» або «палехи», што ўжываліся для вызначэння жыхароў Палесся[217]. Адны з першых дакументаў, дзе сустракаецца назва «палешукі», належаць да XVII ст.[218], і толькі крыніцы XVIII—XIX стст. ужо шырока ведаюць гэты этнікон. Па гэтых дакументах вядома, што самавызначэнне «палешукі» было характэрным перш за ўсё для сельскага насельніцтва, якое размаўляла на палескіх гаворках, а ў асяроддзі іншых саслоўяў замянялася назвамі «ліцвіны», «палякі» ці «русіны», «руськіе». Беларускамоўныя жыхары палескага рэгіёну незалежна ад веравызнання называліся «ліцвінамі», што было зафіксавана нават і ў пачатку XX ст. З боку ўкраінскіх палешчукоў усё насельніцтва, што жыло на поўнач ад граніцы Вялікага княства Літоў-

---

[214] Там жа. С. 106, 109, 111, 118, 130, 131, 165, 322; Ягич И. В. История славянской филологии. СПб., 1910. С. 21; Первольф И. И. Славяне, их взаимные отношения и связи. Т. III. С. 466; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. С. 135—136.

[215] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1874. Т. VII. С. 36.

[216] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. С. 133—136.

[217] Выключэнне складаюць назвы «палексяне», «палекшане», «падляшане», якімі яшчэ з XIII ст. вызначаліся часткі жыхароў заходніх раёнаў Берасцейшчыны і суседніх зямель Падляшша і якія этнагенетычна ўзыходзілі да назвы аднаго з плямён заходнебалцкага саюза яцвягаў ці былі тапанімічным этнікам («падляшане» — жыхары Падляшша). Гл. таксама: Nalepa J. Polekszane (Polexiani) — plemię jacwieskie u połnocznowschodnich granić Polski // Rocznik Białostocki, 1968. T. VII. S. 3—74.

[218] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России... Т. IV. С. 51 (пад 1664 г.). Назва «палешукі» сустракаецца таксама і на некаторых геаграфічных картах XVII ст., напрыклад, на так званай «Радзівілаўскай» карце Вялікага княства Літоўскага.

скага і Польскага каралеўства, таксама вызначалася як «ліцвіны»[219].

Таксама як землі «Белай Русі», што з'яўляліся кантактнымі тэрыторыямі паміж беларусамі і вялікаросамі, палеская вобласць была зонай кантактаў беларусаў і ўкраінцаў. Таму невыпадкова, што назва «палешукі» адносілася як да часткі беларусаў, так і да сумежных частак украінцаў, што пражывалі ў Палессі. Тое ж можна сказаць і пра заходнія раёны Беларусі і ўсходняй Літвы (агульны тапонім «Літва», назва «ліцвіны» ў этнаграфічным сэнсе), дзе назіралася аналагічная сітуацыя ўзаемадзеяння беларускага і балцкага насельніцтва. Узнікненне самастойных этнанімічных і тапанімічных назваў у пагранічных землях рассялення беларусаў і рускіх, украінцаў, літоўцаў характарызавалася змешанымі формамі этнавызначальных прыкмет, што дазваляе лічыць гэтыя вобласці гісторыка-этнаграфічнымі ці субэтнічнымі. У навуковай літаратуры пад гісторыка-этнаграфічнай вобласцю звычайна разумеецца арэал, які ахоплівае два або некалькі этнасаў-народаў. Фарміруюцца гэтыя вобласці на працягу доўгіх часоў у ходзе культурнай, моўнай і іншай інтэрферэнцыі суседніх народаў (пагэтаму структура іх шматслойная, а граніцы лабільныя)[220].

Распаўсюджванне ў гісторыка-этнаграфічных рэгіёнах пэўных этнанімічных форм і асобнай самасвядомасці сведчыць аб дзейнасці там працэсаў, характэрных для субэтнічных супольнасцей, якія фарміруюцца аднолькава з этнасамі (аднак у больш вузкіх дэмаграфічных, этнаграфічных, моўных і іншых межах). На Беларусі ў канцы XVI — XVII ст., дарэчы, як і некалькі раней, усё гэта было характэрна, прынамсі, для трох буйных геаграфічных рэгіёнаў: Падняпроўскай і Падзвінскай «Белай Русі», Панямонскай і Павілейскай «Літвы» і «Палесся» ў Папрыпяцці[221]. Усе з вышэйпералічаных тапонімаў з адпаведнымі (адтапанімічнымі) формамі самавызначэння і самасвядомасці, асаблівасцямі культуры, мовы і гэтак далей не абмяжоўваліся граніцамі Беларусі (па іх сучаснаму стану), а адносіліся таксама да сумежных тэрыторый, насельніцтва якіх характарызавалася падобнымі рысамі асноўных этнавызначальных прыкмет.

Працэсы, што аб'ядноўвалі насельніцтва гэтых абласцей, былі звязаны або з агульнай этнагенетычнай спадчынай, або з тэндэнцыямі агульнадзяржаўнай (у межах Вялікага княства Літоўскага) інтэграцыі рознаэтнічнага насельніцтва, на падставе яго нацыянальнай (у тагачасным сэнсе гэтага слова) дзяржаўна-патэстарнай «ліцвінскай» самасвядомасці. Ліцвінамі, як ужо адзначалася, называліся амаль што ўсе грамадзяне Вялікага княства незалежна ад іх этнічнага паходжання. У той жа час, улічваючы адсутнасць гэтай формы самавызначэння ў насельніцтва Жмудзі (Жэмайціі), дэмаграфічную большасць беларускамоўных «ліцвінаў» і «літвінаў беларусцаў» (у параўнанні з літоўцамі-аўкштайтамі), а таксама працэс пастаяннай славянізацыі апошніх, можна грунтоўна высоўваць тэзіс, што назва «ліцвіны» была найбольш абагульняючай этнанімічнай формай самасвядомасці беларускага насельніцтва тых часоў і адлюстроўвала найбольш шырокі ўзровень працэсаў кансалідацыі народа.

Этнанімічная форма «ліцвіны», якая адлюстроўвала найбольш шырокую і агульную ступень самасвядомасці, была дэтэрмінавана як дзяржаўна-палітычным,

---

[219] Полесье. Материальная культура. Киев, 1988. С. 28—29; Чаквін І. У. Гістарычная этнаніміка Палесся // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 4. С. 74—81.

[220] Бромлей Ю. В. Очерки теории этноса. М., 1983. С. 84—86.

[221] Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. С. 74—82, 128, 132—133.

так і этнагенетычным фактарам. Яна з'яўлялася таксама і абагульняючай назвай-экзаэтнонімам з боку амаль што ўсіх іншаэтнічных суседзей і была распаўсюджана сярод прадстаўнікоў усіх саслоўяў тагачаснага грамадства Беларусі і Літвы (сялян, гараджан, шляхты). Аднак найбольш яскрава ліцвінская самасвядомасць выяўлялася ў шляхты, якая, згодна прынцыпам сарматызму, атаясамлівала сябе з паняццем народ-нацыя літоўскай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага). Некаторае выключэнне складала частка ўласна літоўскай (балцкай) шляхты і магнатаў, якая выводзіла сваё паходжанне не ад сарматаў і ад варагаў-нарманаў (як польская, украінская, беларуская, руская), а ад легендарных рымскіх перасяленцаў на чале з Палемонам, і якая складала асобную невялікую, але ўплывовую пан-літоўскую партыю ў межах кіруючых феадальных колаў дзяржавы. Нягледзячы на тое, што гэта частка шляхты была к XVI—XII стст. у значнай ступені славянізаванай, менавіта яна часта найбольш актыўна і паслядоўна абараняла суверэнітэт і незалежнасць зямель Вялікага княства ад уплыву магутных дзяржаў суседніх славянскіх народаў: Русі Маскоўскай і Польшчы.

У асяроддзі беларускай, а таксама ўкраінскай шляхты аналагічную палітыку праводзілі пераважна буйныя магнаты. Патрыятызм іншых колаў шляхты быў у большай ступені мясцовым і пашыраўся да агульнадзяржаўнага ўзроўню галоўным чынам у часы войнаў ці ў выпадках барацьбы за свае асобныя саслоўныя прывілеі (напрыклад, на Соймах). Патрыятычная самасвядомасць іншых саслоўяў таксама была пераважна вузкалакальнай і ўздымалася да больш высокага ўзроўню (русінскага ці ліцвінскага) галоўным чынам у іншаэтнічным асяроддзі ці ў зонах міжэтнічных кантактаў. Яскравым прыкладам існавання ўсіх гэтых узроўняў самасвядомасці ў беларускага насельніцтва тых часоў з'яўляюцца формы саманазвы прадстаўніка мяшчанскага саслоўя Беларусі славутага Ф. Скарыны («палачанін», «русін», «ліцвін»). Адначасовае ўжыванне розных форм саманазваў, што адлюстроўвалі розныя ўзроўні самасвядомасці насельніцтва, было ўласціва ў эпоху феадалізму (нават і пазней) амаль што для ўсіх еўрапейскіх народаў, і беларусы ў гэтым сэнсе не складалі выключэння.

## СЯМЕЙНЫ ПОБЫТ

Перыяд XIV — першая палова XVII ст. складае адзін з найбольш цікавых і важкіх у этнакультурным аспекце перыядаў гісторыі ўтварэння і развіцця феадальнай этнічнай супольнасці беларусаў. На гэты час прыпадае ўзнікненне ў этнасацыяльных характарыстыках народа прынцыпова новых з'яў, элементаў, прыкмет, якія паступова ўваходзілі ў побыт, культуру, мову, самасвядомасць не толькі больш мабільных вышэйшых феадальных колаў, але і ў асяроддзе простых саслоўяў: гараджан і сялян. Беларускі народ пачынае найбольш актыўна далучацца да агульнаеўрапейскага жыцця, карыстацца новымі для таго часу, больш прагрэсіўнымі формамі развіцця грамадства (пры захаванні шматлікіх традыцый і звычаяў старажытнасці).

Не ўсё новае, што пранікала на Беларусі ці самастойна ўзнікала на яе землях пад уплывам новых тэндэнцый у канцы XIV — першай палове XVII ст., сустракалася насельніцтвам з задавальненнем і ўсведамленнем неабходнасці новых з'яў. Прынцып «старыны не рухаці» задаваль-

няў большасць прадстаўнікоў амаль што ўсіх саслоўных груп насельніцтва, якія лічылі «звычай старадаўні» ўстойлівай і зразумелай традыцыяй, што ішла ад дзядоў. І толькі асобныя прадстаўнікі народа, якія пазнаёміліся з заходнееўрапейскай культурай і, усведаміўшы прагрэсіўнасць пэўных яе элементаў, імкнуліся распаўсюджваць гэтыя элементы, годныя да прыстасавання на мясцовай глебе і неабходныя для далейшага культурнага, этнічнага і грамадскага развіцця. Узнікшыя як навацыі, многія з гэтых з'яў праз два пакаленні людзей сталі таксама традыцыйнымі, але ж на пачатку яны разам з элементамі старыны складалі сінкрэтычную сумесь старога і новага ў жыцці і развіцці беларускага народа.

У этнічным аспекце апошнія стадыі этнагенезу беларускага этнасу таксама характарызаваліся цесным скрыжаваннем і ўзаемадзеяннем традыцыйнага і новага. Прычым традыцыі адлюстроўвалі лакальную разнастайнасць праяўлення асноўных прыкмет культуры, побыту, самасвядомасці, а навацыі, наадварот, паступова распаўсюджваліся на ўсю дэмаграфічную супольнасць народа і выконвалі інтэгруючую функцыю ў працэсе этнічнага формаўтварэння. Усе гэтыя тэндэнцыі добра прасочваюцца пры даследаванні першапачатковай ячэйкі грамадства — сям'і, сямейных адносін і побыту.

Пытанні сямейнага і грамадскага побыту беларусаў у перыяд XIV — першай паловы XVII ст. не былі асветлены ў спецыяльных даследаваннях, аднак маюць даволі шырокую гістарыяграфію, прадстаўленую шэрагам прац дарэвалюцыйных і савецкіх даследчыкаў, дзе гэтыя пытанні разглядаліся паасобна[222]. Цяжкасці, звязаныя з вывучэннем дадзенага перыяду этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў, абумоўлены адносна невялікай колькасцю аўтэнтычных гістарычных матэрыялаў (у параўнанні, напрыклад, з другой паловай XVII ст. ці з XVIII—XIX стст.), што, з аднаго боку, не дае магчымасці даць найбольш поўны і грунтоўны малюнак гістарычнага жыцця народа таго часу, а з другога боку, садзейнічае ўзнікненню і існаванню вельмі супярэчлівых інтэрпрэтацый і канцэпцый даследчыкаў.

Вывучэнне сямейнага побыту і арганізацыі сям'і беларусаў у перыяд канца XIV — першай паловы XVII ст. складае адзін з найбольш важных бакоў характарыстыкі этнасацыяльных працэсаў, якія вызначалі ступень развіцця беларускага народа і феадальнага грамадства Беларусі таго часу. Сям'я выступала ў якасці першаснай этнасацыяльнай формы аб'яднання насельніцтва. У межах сям'і ажыццяўляліся асноўныя працэсы этнічнага і сацыяльнага характару: узнаўленне, сацыялізацыя і этнізацыя падрастаючага пакалення, міжгенерацыйная перадача этнічных і сацыяльных звычаяў, нормаў, традыцый, стэрэатыпаў, светаўспрымання і гэтак далей.

Сям'я з'яўлялася таксама і вытворча-эканамічным аб'яднаннем — гаспадарчай адзінкай грамадства. Вытворча-гаспадарчая функцыя сям'і абумоўлівала яе значную залежнасць ад узроўню сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства. Сацыяльна-эканамічны фактар вызначаў, у сваю чаргу, вытворчае і грамадскае жыццё сям'і, дынамізм і зменлівасць яе формаў, унутрысямейных адносін і асаблівасці сямейнага побыту.

Па сваіх асноўных формах сем'і беларусаў адзначанага перыяду падзяляліся на малыя і вялікія (бацькоўскія і брацкія). Малая (ці нуклеарная) сям'я складалася з шлюбнай пары і іх дзяцей. Вялікая сям'я

[222] Амаль што ўсе асноўныя працы, прысвечаныя пытанням сямейнага побыту XIV — першай паловы XVII ст., а таксама шэраг вядомых зараз гістарычных дакументаў і матэрыялаў таго часу пададзены ў бібліяграфічных спасылках.

была больш складнай і ўключала непасрэдных родзічаў двух-трох пакаленняў: бацькоў, дзяцей, унукаў (вялікая бацькоўская сям'я), якія мелі непадзеленую ўласнасць, трымалі сумесную гаспадарку пад кіраўніцтвам старэйшага мужчыны і былі запісаны як адзін дым (напрыклад, «Яков Копыль, дым, маеть сынов два. Семен Якович, у того Семена сынов два Евлась и Антон Семеновичи. Другой сын Отрохим, у того Отрохима сынов два — Гаврило и Авдей Отрохимовичи»)[223].

Другім з асноўных варыянтаў вялікай сям'і была брацкая сям'я, што складалася з сем'яў двух ці больш братоў, што трымалі агульную гаспадарку, мелі непадзеленую маёмасць і лічыліся адным дымам (напрыклад, «Иванко Чижык с братею своею с Тимофеем, с Петром.., дым)[224]. Членамі вялікіх сем'яў былі таксама зяці, шурыны, прымакі, пасынкі, братанічы, пляменнікі, але пры падзеле сямейнай маёмасці пасля смерці бацькі іх доля спадчыны была абмежаванай[225].

Кожная сялянская сям'я трымала ўласную гаспадарку, частку даходаў з якой выплачвала феадалу ці ў вялікакняскую казну за карыстанне зямлёй. У эканамічных мэтах сем'і часта кааперваліся між сабою і трымалі агульную гаспадарку ці сумесна апрацоўвалі зямлю. Аднак асноўныя сродкі вытворчасці былі паасобныя. Кожны гаспадар быў распараджальнікам той зямлі, што карыстаўся.

Доўгатэрміновае карыстанне зямлёй было падставай для ўсталявання права на замацаванне надзела ў якасці ўласнасці, якая пераходзіла ў спадчыну. Гаспадар мог аддаць яе ў часовае карыстанне, даць у заклад за грошы, а нават і прадаць (з дазволу свайго пана ці прадстаўніка вялікакняскага дзяржаўнага ўладання: эканоміі, староства, дзяржаўства).

Актавыя запісы таго часу адзначаюць існаванне пры сем'ях, за якімі лічыўся надзел зямлі, усякага роду памочнікаў: сяброў, дольнікаў, сумеснікаў, таварышаў, патужнікаў, якія выконвалі сумесныя абавязкі па гаспадарцы, трыманні і апрацоўцы зямлі, аднак не ўваходзілі ў склад сям'і і лічыліся асобнымі дымамі (напрыклад, «Алексей Личкович з братом Иваном и з сябром... дымы три», «Григорий Тимашевич з потужником Юрием, соседе... дымы два», «слуга путный Матей з братами тремя... и прыймичами... двумя... дымов шесть»)[226].

Сродкі вытворчасці сялянскіх міжсямейных калектываў знаходзіліся ў прыватным уладанні асобных сем'яў, аднак некаторыя з іх (нічэйная, пустуючая зямля, іншы раз жывёла ці сельскагаспадарчы інвентар) маглі мець і агульнае карыстанне, што нагадвала адносіны ў так званых суседска-вялікасямейных абшчынах (прамежкавы тып паміж першабытнай сямейна-родавай абшчынай і суседскай абшчынай феадальнай пары). Калектыўныя адносіны сустракаліся, напрыклад, у сістэме так званых дворышчаў, якія з'яўляліся адзінкамі падаткаабкладання і ў XIV — першай палове XVII ст. існавалі пераважна на Палессі. Дворышча ўключала ў свой склад групы вялікіх і малых, роднасных і несваяцкіх сямей, якія лічыліся асобнымі дымамі. Колькасць апошніх хісталася ад 2 да 10 і больш. У залежнасці ад колькасці дымоў-сямей у дворышчы вызначаўся агульны памер падаткаў[227]. У агульным карыстан-

---

[223] Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1887, Т. I. С. 137.

[224] Там жа.

[225] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 397, 543, 608; Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. I. С. 240—241.

[226] Археографический сборник документов. Вильно, 1867. Т. I. С. 133, 137; Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. I. С. 105.

[227] Писцовая книга бывшего Пинского староства. Вильно, 1874. С. 220—222.

ні знаходзіліся лугі, выганы, вадаёмы, сенажаці і іншыя ўгоддзі, аднак кожная з сямей, якія ўваходзілі ў дворышча, мела і сваю ўласную маёмасць, што істотна адрознівала гэтыя гаспадарча-вытворчыя адзінкі беларускага сялянства ад класічных суседска-вялікасямейных абшчын старажытнасці.

Сумяшчэнне сямейна-родавых і суседска-абшчынных адносін сустракалася і ў арганізацыі так званых служб (гаспадарак, якія таксама выступалі як адзінкі падаткаабкладання). У адну службу ўваходзілі вялікія сваяцкія (бацькоўскія, брацкія) і несваяцкія сем'і. Згодна інвентара 1545 г. двара Заварноцкага (Вілейская воласць), там былі арганізаваны 11 служб з 12 дымоў. Службы складалі вялікія бацькоўскія сем'і («Тихон Баденович, сынов у него четыре — Исай, Ермола, Лукиян, Ходар, служба»), вялікія складаныя сем'і, у якія ўваходзілі бацькі, іх дарослыя сыны і браты бацькоў («Данила Лавринович, сынов у него три — Тарас, Роман, Иван, братов у него два — Кузьма, Ходор, служба»), а таксама сем'і з непрамымі родзічамі, напрыклад братанічамі («Илья Мичунич, братов у него два — Карп, Иван, а братаничи у них два Грин, Иван, служба»)[228].

У вёсцы Путрышкі маёнтка Русоты (Гродзенскі павет), згодна інвентара 1556 г., тры службы складаліся з вялікіх бацькоўскіх сем'яў, адзінаццаць — з несваяцкіх, вялікіх і малых сямей, а пяць служб трымалі асобныя малыя сем'і[229], што наогул сведчыла аб дынаміцы гаспадарча-вытворчай арганізацыі сямейных і міжсямейных калектываў у беларускіх сялян. Аб'яднанне сямей у вялікія вытворчыя калектывы ажыццяўлялася заўжды з карысцю для сялян (меншыя падаткі, больш лягчэйшая праца і гэтак далей). Але калі вялікі калектыў замаруджваў нармальнае развіццё гаспадаркі і сям'і, то ён распадаўся.

Гэта ж датычыць і вялікіх сем'яў. Распад гэтых «дамашніх абшчын» адбываўся тады, калі колькасць іх членаў узрастала і трыманне агульнай гаспадаркі было ўжо немагчымым. Падзел вялікіх бацькоўскіх і брацкіх сямей на малыя сем'і добра прасочваецца па гістарычных матэрыялах з пачатку XVI ст., калі адзначаецца, што бацька і сын ці браты маюць асобныя дымы. Падзел сямей ажыццяўляўся нават і ў тых выпадках, калі частка маёмасці ці сродкаў вытворчасці заставалася агульнай (напрыклад, «Опанас Юрко з братею, дом 1, дымов 2»).

У той жа час, як адзначаў Ф. Леантовіч, падзел сямей іншы раз не быў эканамічна карысным, вёў да драблення сямейнай маёмасці (інвентара, жывёлы і інш.) і не апраўдваў сябе з гаспадарчага боку[230]. Таму ў маштабах усёй Беларусі ў канцы XV — першай палове XVI ст. працэс распаду вялікіх сем'яў быў даволі рэдкі. Малыя сем'і, што аддзяляліся ад вялікіх, самі часам паступова ўзбуйняліся, прычым не толькі ў выніку натуральнага дэмаграфічнага прыросту, але і за кошт прыняцця ў свой склад несваякоў, якія не мелі правоў на сямейную маёмасць (ці хоць бы на яе асноўную частку). Аднак, як сведчаць дакументы таго часу, такія сем'і не складалі ў асяроддзі беларускага сялянства значнай колькасці. Найбольш распаўсюджанымі тады былі малыя і вялікія бацькоўскія сем'і.

Абедзве асноўныя формы сям'і мелі прававое прызнанне, юрыдычна замацаванае, напрыклад, у статутах Вялікага княства Літоўскага. У адносінах да дзяржавы, дзяржаўнага заканадаўства сям'я

[228] Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. I. С. 77—79.

[229] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 22—23.

[230] Леонтович Ф. И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Журнал Министерства народного просвещения. Ч. CCCIV. 1896. С. 221.

выступала як адзіная грамадская адзінка, усе члены якой былі ўзаемазвязанымі шэрагам агульных правоў і абавязкаў, што забяспечвала агульную адказнасць сям'і за кожнага яе члена[231]. Згодна «Судзебніка» караля Казіміра IV Ягелончыка, дзейнасць якога распаўсюджвалася і на Беларусь, дарослыя члены сям'і неслі адказнасць за ўтойванне злачынства аднаго з сем'янінаў. Адказнасць знімалася толькі ў выпадках, калі члены сям'і не ведалі аб злачынстве свайго родзіча[232].

У сялянскім побыце ўнутрысямейныя адносіны рэгламентаваліся ў перыяд развітага феадалізму не столькі дзяржаўнымі юрыдычнымі нормамі, колькі нормамі няпісанага звычаёвага права. Асновай сямейных узаемаадносін, разам з кроўнароднаснымі і шлюбнымі сувязямі, была ступень права на спадчыну, якая рэгламентавалася звычаёвым сямейным правам. У кампетэнцыю апошняга ўваходзілі справы, што датычылі сямейна-бытавых адносін, заключэння шлюбу, апекі недарослых і старых, усынаўлення і прымання ў сям'ю чужакоў, атрымання ў спадчыну і падзелу сямейнай маёмасці, выхавання дзяцей, становішча жанчыны, абавязкаў і правоў членаў сям'і і інш. Звычай вызначаў няпісаныя правілы і маралі, адносін да працы, зямлі, людзей, прыроды, маёмасці і інш.[233]

Згодна звычаю, сям'ю (як вялікую, так і малую) узначальваў самы стары, але яшчэ здольны да спраў і працы мужчына — бацька («Мужеве суть глава, а жоны им поданы...»)[234]. У выніку смерці бацькі ўсе справы сям'і перакладаліся на яго жонку — маці ці на іх дарослага старэйшага сына, які меў асноўныя правы на значную частку сямейнай маёмасці. Астатнія дзеці таксама атрымлівалі пэўныя часткі спадчыны (зямлю, грошы, жывёлу, рухомую ці нерухомую маёмасць)[235]. Напрыклад, калі дарослыя сыны былі аддзелены ад бацькоўскай сям'і і самі трымалі ўласныя гаспадаркі, хата пасля смерці бацькі пакідалася, згодна звычаю, малодшаму сыну, з якім заставалася маці. Маёмасць маці пасля яе смерці атрымлівалі ўсе дзеці (як сыны, так і дочкі) роўнымі часткамі.

Пераважнае права на атрыманне зямельнай спадчыны па мужчынскай лініі было паводле звычаю пануючай нормай. Зямельны надзел заўжды замацоўваўся за мужчынам. У выпадку адсутнасці нашчадкаў-мужчын маёмасць сям'і пасля смерці бацькоў пераходзіла ў якасці пасагу[236] да дачак, а пасля замужжа — у сям'ю іх мужоў (зямля першапачаткова на правах часовага карыстання). Маёмасць бяздзетнай сям'і пасля смерці мужа і жонкі атрымлівалася ў спадчыну бліжэйшымі родзічамі ці сваякамі. Зямля пераходзіла да братоў гаспадара (напрыклад, «пад тым Маісеем і Конашам зямля брата Арціма Малашкавіча»), а пасаг нябожчыцы вяртаўся нашчадкам сям'і яе бацькоў[237]. У выніку перадачы зямлі далёкім сваякам ці няродзічам, надзел лічыўся ў часовым карыстанні новых гаспадароў. Час карыстання зямлёй, перададзенай у спадчыну не па прамой (мужчынскай) лініі сям'і, залежаў ад адносін да яе з боку новага гаспадара, што,

---

[231] Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978. С. 105.

[232] Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов. Мн., 1959. Т. I. С. 128.

[233] Владимирский-Буданов М. Ф. Очерки по истории литовско-русского права. Черты семейного права Западной России в половине XVI в. Киев, 1890. С. 50—56.

[234] Акты Западной России. Т. I. С. 16.

[235] У свае правы старэйшы сын уступаў ужо ва ўзросце 14—18 гадоў. Гл.: Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. // Мн., 1960. Раздз. IV, арт. 9.

[236] Пасаг афіцыйна ўваходзіў у маёмасць усёй сям'і, аднак быў прыватнай маёмасцю жонкі, якім яна распараджалася адна па праву. Гл.: Владимирский-Буданов М. Ф. Очерки по истории литовско-русского права. С. 58—60.

[237] Акты Западной России. СПб., 1848. Т. II. С. 62—63 (1509 г.); С. 101 (1512 г.).

згодна звычаёвага права, вызначалася вясковай грамадскай думкай, якая мела вельмі важнае значэнне ў сельскім жыцці. Калі аднасяльчане бачылі добрыя адносіны гаспадара да зямлі, калі зямля не пуставала, яна пераходзіла ў пажыццёвае карыстанне ў новую сям'ю, што пацвярджалася, паводле звычаю, на сельскіх сходах — «копах»[238].

Стварэнне сям'і ажыццяўлялася праз шлюб, які ўключаў шэраг этапаў: сватанне і агледзіны, заручыны, вянчанне (неабавязкова і незаўжды)[239] і само вяселле. Важным этапам стварэння сям'і былі заручыны, якія часта адбываліся яшчэ ў дзіцячым узросце будучых мужа і жонкі і на якіх бацькі маладых заключалі шлюбны дагавор, дзе, у прыватнасці, вызначаўся памер пасагу маладой. Адмаўленне ад шлюбу пасля абрада заручын, згодна звычаёвага права, было з'явай непажаданай і суправаджалася пэўнай кампенсацыяй (часта грашамі).

У шлюб іншы раз уступалі ў малалетнім узросце: хлопцы ў 14—18 гадоў, дзяўчыны ў 12—14. Гэта знайшло адлюстраванне ў феадальным праве (напрыклад у Статуце 1529 г.), якое адзначала паўналецце хлопцаў з 15—18 гадоў, а дзяўчын з 13—15 гадоў[240]. У выпадку смерці бацькоў сыны ўступалі ў спадчыннае права ўжо з 12 гадоў (аднак да 18 гадоў да іх быў прыстаўлены адзін ці некалькі апекуноў)[241]. Шлюб адбываўся са згоды маладых і іх бацькоў (ці сваякоў, апекуноў). Працэс утварэння сям'і, шлюбныя традыцыі змяшчалі шмат абрадаў, рэгламентаваных звычаёвым сямейным правам з мэтай замацаваць і зацвердзіць шлюб шляхам надання яму грамадскай вядомасці і значнасці. Вяселле праходзіла ўрачыста, часта працягвалася некалькі дзён, спачатку ў хаце маладой, а потым — маладога, дзе новая сям'я і заставалася жыць. На вяселле запрашаліся родзічы, сваякі, суседзі, знаёмыя, маглі таксама прыходзіць і незапрошаныя госці[242]. Пераход маладога на жыццё ў сям'ю бацькоў жонкі (у прымакі) лічыўся ў сялян з'явай неспрыяльнай для першага і для новай сям'і ўвогуле. Прымакі мелі малую долю ў спадчыне (асабліва, калі ў маладой былі браты) і абмежаваныя сямейныя правы, напрыклад, не маглі свабодна распараджацца маёмасцю сям'і[243]. Зяць быў падпарадкаваны свайму цесцю поўнасцю і толькі пасля смерці апошняга станавіўся галавой сям'і з правам распараджэння сямейнай маёмасцю сумесна з жонкай. «Прымачча доля — сабачча», — падкрэслівае запісаная пазней беларуская народная прымаўка.

Пэўная эканамічная незалежнасць жанчыны ў беларускіх сем'ях у эпоху феадалізму афіцыйна забяспечвалася і так званым «правам вена» — правам на валоданне 1/3 маёмасці сям'і пасля смерці мужа[244] (у вена ўваходзіў таксама яе пасаг, які іншы раз таксама называўся венам). Памер вена вызначаўся дакладней у залежнасці ад колькасці дзяцей у сям'і і асабліва сыноў[245]. Вена магло складаць

[238] Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905. С. 14—20.

[239] У феадальную пару, асабліва ў XIV—XV стст., як сведчаць гістарычныя дакументы і даследчыкі, часта існаваў так званы нявенчаны шлюб, напрыклад, у прадстаўнікоў чэлядзі нявольнай. Гл.: Акты Западной России. Т. I. С. 62—63, 101.

[240] Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Раздз. III, арт. 17.

[241] Статут Казимира IV. Арт. 71.

[242] Сучаснік падзей XVI ст. Ян Ласіцкі, які быў сведкам вясковага вяселля на Беларусі, адзначаў, што ў ім прымала ўдзел амаль што ўсё малое і дарослае насельніцтва вёскі. Гл.: Беларуская народная творчасць. Вяселле. Абрады. Мн., 1967.

[243] Владимирский-Буданов М. Ф. Очерки по истории литовско-русского права. С. 64—68.

[244] Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Раздз. III, арт. 17.

[245] Литовская метрика. Книга записей. Т. I. Русская историческая библиотека. СПб., 1910. Т. XXVII. Стб. 421—422; Литовская метрика. Книга публичных дел. Т. I. Русская историческая библиотека. Юрьев, 1914. Т. XXX. С. 33—34.

і меншую за 1/3 частку сямейнай маёмасці, але заўжды забяспечвала жанчыне некаторую самастойнасць існавання без мужа і дзяцей. Аднак традыцыйна маці жадала жыць разам з сям'ёй аднаго са сваіх дзяцей. Увогуле становішча жанчыны на Беларусі ў эпоху феадалізму было не роўным у параўнанні з мужчынам, але жанчына не знаходзілася пад дэспатычным прыгнётам мужа і мела права голасу ў сям'і. Жорсткае абыходжанне мужа з жонкай было даволі рэдкай з'явай. Між тым, звычай даваў права жанчыне ў такіх выпадках пакінуць мужа, што было раўназначна разводу[246].

Пэўнае незалежнае ад мужчыны становішча жанчыны было характэрна не толькі для звычаёвага, але і агульнадзяржаўнага заканадаўства. Некаторыя публіцысты і грамадскія дзеячы таго часу нават публічна выказвалі сваё незадавальненне адносна высокім грамадзянскім і прававым становішчам жанчыны ў Вялікім княстве Літоўскім. Так, Міхалон Ліцвін адзначаў, што Статут (1529) афіцыйна прызнаў за жанчынамі зашмат свабоды, якою яны злоўжываюць, у той час калі ў іншых народаў (татараў, яўрэяў, рускіх Маскоўскай дзяржавы) становішча жанчыны больш залежыла ад мужа і мужчыны ўвогуле[247].

Жанчыны сялянскіх беларускіх сямей разам з мужамі прымалі актыўны ўдзел у гаспадарчых справах сям'і, у працы, а ў працэсе выхавання дзяцей мелі нават і больш дамінуючую ролю, чым мужчыны. Праз жанчыну-маці, у першую чаргу, дзеці ўспрымалі пануючыя ў грамадстве нормы паводзін і адносін, стэрэатыпы светаўспрыяцця і арганізацыі побыту, базавыя формы культуры, самасвядомасці, мовы і шмат іншага. Толькі пры дасягненні дзецьмі пэўнага ўзросту (12—14 гадоў) працэс сацыялізацыі падлеткаў перакладаўся з маці на бацьку і грамадства.

Колькасць дзяцей у сем'ях беларускіх сялян была вельмі рознай і хісталася ў сярэднім ад 1 да 7 дзяцей[248]. На думку М. Доўнар-Запольскага, найбольш тыповай была сялянская сям'я з 2—3 дзецьмі[249]. Ю. Капыскі павялічвае гэту лічбу да 3—5 дзяцей[250]. Увогуле колькасныя памеры сям'і залежалі, перш за ўсё, ад яе тыпу (вялікая — бацькоўская ці брацкая сям'я — налічвала больш людзей, чым малая нуклеарная).

Арганізацыя і функцыянаванне сямей беларускіх гараджан шмат у чым нагадвалі сялянскія, аднак розны характар вытворчасці і грамадскага жыцця абумоўліваў некаторую спецыфіку гарадской сям'і, асабліва ў сферы сямейнага побыту. Таксама, як і ў сялянскіх сем'ях, у гараджан (мяшчан) існавалі некаторыя рысы сістэмы так званага маярата, калі асноўная (ці галоўная) частка сямейнай маёмасці пераходзіла ў спадчыну да старэйшага сына, а астатняя ўласнасць падзялялася паміж іншымі членамі сям'і.

Пісьмовыя дакументы па гісторыі гарадоў Беларусі канца XV — першай паловы XVII ст. дазваляюць удакладніць некаторыя асаблівасці ўнутры- і міжсямейных адносін таго часу. Так, шмат інфармацыі змяшчаюць завяшчанні, якія

---

[246] Довнар-Запольский М. В. Очерки семейного обычного права крестьян Минской губернии. У кн.: Этнографическое обозрение. 1897. № 1. С. 106—107.

[247] Охманьский Е. Михалон Литвин и его трактат о нравах татар, литовцев и московитян середины XVI в. У кн.: Россия, Польша и Причерноморье в XV—XVIII вв. М., 1979. С. 11.

[248] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 495—496.

[249] Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. I. Предисловие М. В. Довнар-Запольского. С. XV—XVII.

[250] Ю. З. Капыскі даследаваў колькасць і склад сялянскіх сямей, якія ўцяклі ў Маскоўскую дзяржаву, дзе іх перапіс быў зроблены падушна, а не толькі па мужчынах, як гэта рабілася ў большасці інвентароў і іншых дзяржаўных дакументах Вялікага княства Літоўскага. Гл.: Белоруссика. Книговедение. Источники. Библиография. Мн., 1980. С. 100—101.

часта складаліся паводле пэўных правіл[251]. Юрыдычна-фармальнай падставай завяшчання з'яўляўся факт уключэння яго ў гарадскія кнігі рэгістрацыі спадчыннага права (якія знаходзіліся пры гарадскім судзе) ці складання завяшчання ў прысутнасці аднаго з членаў магістрату (часцей за ўсё радцы). За тым, як выконваюцца распараджэнні завяшчальніка, наглядалі прадстаўнікі гарадской улады ці спецыяльна вызначаныя асобы: апекуны і душапрыказчыкі. Пасля смерці бацькі і да паўналецця дзяцей уся сямейная маёмасць пераходзіла ў спадчыну да ўдавы, якая, аднак, не магла распараджацца ёю толькі паводле свайго меркавання. Для вядзення вытворчых і маёмасных спраў абавязкова назначаліся ці запрашаліся апекуны. Яны мелі пэўныя, адзначаныя ў завяшчанні долі сямейнай спадчыны ці атрымлівалі за сваю працу грошы[252].

Апрача жонкі і дзяцей, пэўныя долі сямейнай маёмасці часта завяшчаліся сваякам (братам, сёстрам і інш.). Удовы і дочкі нябожчыка, таксама як і ў сялян, мелі «права вена». Бяздзетныя ўдовы мелі права на «вено отписное» (спадчыннае), якое складалася з 1/3 сямейнай маёмасці, ці толькі на «вена пасажнае» (пасаг). Астатнія часткі ўласнасці сям'і перадаваліся прамым родзічам мужа: братам і іншым («...муж мой записал мне за внесенье мое у вене моем третю часть на вечность...»)[253]. Калі ў сям'і былі дзеці, удовы трымалі меншую за 1/3 частку маёмасці — «мацерызну» («...тогды сынове, по смерти отцеве, мають девки замуж выдать водлуг обычая.., сестрам наречь вено пенезьное, вынявши материзну»)[254].

У сем'ях гараджан пасаг часта даваўся грошамі. Памеры яго вызначаліся бацькам яшчэ да замужжа дочак і афіцыйна зацвярджаліся на заручынах у прысутнасці сватоў і іншых прадстаўнікоў сям'і будучага мужа. Пасаг (ці «вена пасажнае») з'яўляўся прыватнай уласнасцю жанчыны, аднак у той жа час лічыўся часткай агульнасямейнай маёмасці, галоўным распараджальнікам якой быў муж[255].

Сваякі будучага мужа і бацькі маладой дамаўляліся на заручынах аб «вене отписном» і яго колькасці[256], вызначалі дзень вяселля і інш. Непасрэдна вяселлю папярэднічаў царкоўны абрад вянчання[257], які ўзаконьваў маладую сям'ю на

[251] Традыцыйна ў завяшчанні (ці «тэстаменце») адзначалася, дзе жадае быць пахаваны завяшчальнік, колькі грошай з яго маёмасці трэба аддаць царкве ці касцёлу на паніхіду, пахавальнае шэсце, свечкі, малітву, на дабрачынныя і іншыя справы; потым вызначаліся долі спадчыны для членаў сям'і. Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 252—254, 354—365.

[252] Вельмі часта апекуны выбіраліся з родзічаў і сваякоў, але маглі быць таксама духоўнымі асобамі, старшынямі рэлігійных брацтваў, цэхавымі майстрамі і старшынямі. Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 254; Историко-юридические материалы. Витебск, 1871. Вып. 9. С. 251; Беларускі архіў. Мн., 1930. Т. 3. С. 50—52.

[253] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1897. Т. XXI. С. 50 (1555 г.); Таксама некалькі пазней: «...которая вдова по мужи своем бязплодною будеть ли венована от мужа своего, тоды маеть только на вене осести, а имення все мають на ближних спасти». Гл.: Статут Великого княжества Литовского 1588 г. Вильня, 1588. С. 276.

[254] Акты Западной России. Т. I. С. 39 (1420—1423); Таксама пазней: «вдова, которая седить на вдовием столцу а будеть ли венованая от мужа своего, а сынове мають зуполные лета, тогды маеть осести толко на вене своем». Статут Великого княжества Литовского. 1588 г. С. 275.

[255] «Панна аблюбенцеви зарученая, вси добра свои и все вено з великой милости приносит и дает в руки мужа своего...» Гл.: Духовныи беседы отца нашего Макария, пустелника египетского. Вільня, 1627. С. 300.

[256] «Первей мает смотрети, естли бы того зятя его стояла третяя часть именя совитое сумы пенязей, на чом бы мел веновати тую дочку его». Гл.: Статут Великого княжества Литовского 1529 г. С. 25.

[257] Гл., напрыклад: Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией...Т. XVII. С. 241 (1540 г.), С. 68 (1540 г.); Гістарычныя дакументы больш позняга часу адзначаюць, што абраду царкоўнага вянчання папярэднічала споведзь маладых у царкве: «...то стародавный звычай есть, жебы ся первей исповедали облюбенцы, а потым венчанью жебы ся причащали». Гл.: Наука о седми тайнах церковных. Вильня, 1620. С. 161—162.

рэлігійна-прававым узроўні, аднак найбольш шырокае грамадскае прызначэнне сям'я атрымоўвала ў працэсе вясельных абрадаў і рытуалаў.

Гарадскі абрад вяселля часта мала чым адрозніваўся ад аналагічнага свята ў сялян. Асаблівасці наглядаліся перш за ўсё на саслоўным і маёмасным узроўнях. Вяселле ў заможных гараджан было больш пышным і багатым у параўнанні не толькі з сялянскім, але і гарадскім вяселлем незаможных ці малазаможных мяшчан. На вяселле збіраліся сваякі маладых і запрошаныя госці, прычым рытуал запрашэння («везвання», «звання») складаў адзін з абавязковых перадвясельных абрадаў[258]. Дні гуляння імкнуліся прыстасаваць да пэўных рэлігійных свят, што давала магчымасць вызваліцца ад працы на некалькі дзён для больш грунтоўнай арганізацыі і бестурботнага правядзення вяселля.

Месцам гуляння вяселля звычайна былі хаты бацькоў маладых. Гаспадары старанна рыхтаваліся да свята, гатавалі і запасаліся значнай колькасцю ежы і піцця (мёда, піва і інш.), упрыгожвалі хату, адзяваліся ў найлепшыя ўбранні. Урачыстае застолле было абавязковым элементам вясельнага абраду[259]. Як і ў сялянскім асяроддзі, маладая пасля вяселля звычайна пераходзіла жыць у сям'ю мужа. Аднак у гараджан гэта правіла мела шмат выключэнняў. Часам мужы пераходзілі жыць у бацькоўскія сем'і сваіх жонак і не былі так абмежаваны ў правах, як у сялянскім асяроддзі. Вялікія сем'і гараджан (асабліва рамеснікаў і купцоў) былі зацікаўлены ў дадатковых працоўных руках. Таму нярэдкай з'явай было атрыманне ў спадчыну зяцем рамесніцкіх навыкаў і цэхавай пасады бацькі жонкі пасля смерці апошняга[260].

У сем'ях рамеснікаў і купцоў вельмі часта пражывалі вучні, падмайстры, памочнікі, слугі (чаляднікі, пахолікі) і інш. Дакументы па гісторыі гарадоў Беларусі да Люблінскай уніі (1569) адзначаюць таксама сумеснае пражыванне на адным «пляцу»-двары двух-трох брацкіх сямей (таксама бацькоўскай і сыноўніх сямей) аднолькавай рамесніцкай спецыялізацыі ў адной ці дзвюх хатах. Характэрнай з'явай былі шлюбы дзяцей рамеснікаў ці купцоў аднаго цэха.

Увогуле склад сем'яў беларускіх гараджан таго часу быў варыятыўным і залежаў ад характара гаспадарчых заняткаў, маёмаснага і саслоўнага становішча сям'і. Па колькасці дзяцей гарадскія сем'і ў сярэднім мала чым адрозніваліся ад сялянскіх. Тыповай была сям'я гараджан з 2—4 дзецьмі.

У шэрагу афіцыйных і іншых дакументаў XIV—XVI стст. адзначана існаванне ў гарадскім асяроддзі нявенчанага шлюбу («...тая жонка тому паробку была не вечалною жоною...», «...многіи люди... жоны поймуючы не вянчаються и детей крестити не ходят»)[261]. Канкубінат ганьбаваўся царквой і феадальным грамадствам. Асабліва цяжка вынікі нявенчанага шлюбу адбіваліся на лёсе дзяцей, якім забаранялася па паўналеццю ўваходзіць у склад гарадской мяшчанскай абшчыны, займаць розныя гарадскія і цэхавыя пасады, а іншы раз — нават і жыць у горадзе. Дзеці ад нявенчаных шлюбаў былі абме-

---

[258] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1906. Т. XXXI. С. 408.

[259] Там жа. Вильно, 1890. Т. XVII. С. 241; Историко-юридические материалы. Витебск, 1871. Т. II. С. 77.

[260] Сям'я і сямейны быт беларусаў. Мн., 1990. С. 26, 39.

[261] Книга Витебского земского суда (1533—1540) // Центральный исторический архив древних актов. М., Ф. 389. Кн. 228. С. 129—130 (1514).

жаваны ў спадчынным праве, часта пазбаўлены грамадзянскіх правоў увогуле[262]. Дзеля атрымання пазашлюбнымі дзецьмі («бастрямі», «бенкартамі», «букартамі»)[263] асноўных грамадзянскіх правоў была патрэбна спецыяльная працэдура іх усынаўлення ці ўдачарэння, якая ўключала рэлігійна-царкоўны і агульнаграмадскі рытуал[264].

Асаблівая ўвага грамадства таго часу да нявенчаных шлюбаў і пазашлюбных дзяцей была звязана з рэакцыяй феадальна-царкоўнай ідэалогіі на парушэнне феадальна-прававых нормаў і хрысціянскай рэлігійнай этыкі ў адносінах да шлюбу і сям'і, спадчыннага права і інш. Царква і клерыкальныя колы адмоўна адносіліся да пазашлюбных сувязей, ад'юльтэраў і разводаў. Маральныя асновы тагачаснага грамадства былі арыентаваны на трывалыя сямейна-шлюбныя сувязі, на прыстойныя адносіны да дзяўчыны, маці, жанчыны ўвогуле. Дашлюбныя сувязі моладзі не былі жорстка рэгламентаваныя, аднак лічылася, што яны абавязкова завяршаюцца вяселлем (Гл., напрыклад, у Ф. Скарыны: «Естли кто прельстить девицу еще незаручену и спит с нею, да дасть ей вено и поиметь ее собе за жену»)[265]. У той жа час на неафіцыйным узроўні дазвалялася пэўная свабода нораваў і адносін — пакуль гэта было прыватнай справай і не патрабавала ўмяшання ўлад, закона і царквы. Большай свабодай у адносінах паміж паламі, згодна звычаю, карысталіся мужчыны, якіх і менш каралі за парушэнне шлюбных сувязей.

Увогуле сямейная арганізацыя і побыт насельніцтва Беларусі мелі ў XIV — першай палове XVII ст. сінкрэтычны характар, абумоўлены асаблівасцямі эканамічнага і сацыяльна-палітычнага жыцця, дзе перапляталіся элементы старажытных патрыярхальных адносін і новых, як феадальных, так нават раннебуржуазных рыс. Развіццё тыповых для капіталізму таварна-грашовых адносін у шэрагу заходніх раёнаў Беларусі, у фальварках вялікага князя і буйных феадалаў, выкарыстоўваемая там аброчна-чыншавая сістэма падаткаў, наёмная праца і іншыя з'явы садзейнічалі індывідуалізацыі гаспадарча-вытворчай дзейнасці асобных сем'яў і драбленню вялікіх сем'яў на нуклеарныя малыя. Разам з тым, на Палессі, у шэрагу ўсходніх раёнаў Беларусі, у шляхецкіх маёнтках і ў асяроддзі цэхавых рамеснікаў вельмі распаўсюджанымі былі вялікія (пераважна бацькоўскія) сем'і, гаспадарча-вытворчая дзейнасць і арганізацыя якіх характарызавалася патрыярхальнымі вялікасямейна-родавымі адносінамі. Міжсямейныя адносіны ў рамках пэўных гаспадарчых ці тэрытарыяльна-адміністрацыйных адзінак (дым, служба, дворышча, цэх, мястэчка, горад, воласць і інш.) характарызаваліся ў той час даволі моцнымі калектыўна-абшчыннымі сувязямі, што вызначала асаблівасці грамадскага побыту.

---

[262] Пазашлюбныя дзеці складалі ў феадальным грамадстве своеасаблівую катэгорыю выключных, не звязаных з агульнымі нормамі грамадскага жыцця людзей, якія былі асуджаны на асацыяльны лёс, займаліся жабрацтвам, крадзяжом, грабежніцтвам ці выконвалі функцыі катаў, карнікаў пры войсках, наглядчыкаў, прыбіральшчыкаў смецця і інш. Гл.: Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 29.

[263] Гл.: Статут Великого княжества Литовского 1529 г. С. 22; Статут Великого княжества Литовского 1588 г. С. 91; «...бенкарты не инакшые, одно таковые быти мають розумены, хто бы дети не з венчальною и не шлюбною жоною мел».

[264] Литовская метрика. Книга судных дел. РИБ. СПб., 1903. Т. XX. С. 129—130 (1514); Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1894. Т. XXI. С. 6 (1555 г.); Там жа. Вильно, 1912. Т. XXXVI. С. 288 (1532 г.).

[265] Библия руска. Прага, 1519. С. 41б.

# ГРАМАДСКАЕ ЖЫЦЦЁ

Грамадскі быт сельскага насельніцтва Беларусі ў эпоху развітага феадалізму складае адзін з найбольш важных бакоў характарыстыкі этнасацыяльнага становішча асноўнага вытворчага і дэмаграфічна дамінуючага саслоўя беларускай народнасці таго часу — сялянства. Вывучэнне грамадскіх адносін і культуры беларускага сялянства пачалося ў XIX ст. і было звязана з развіццём гістарычнай навукі і з тымі палітычнымі зменамі, якія адбыліся на землях Беларусі з канца XVIII ст. і вызначылі новыя шляхі развіцця сацыяльна-эканамічных, этнічных і канфесіянальных адносін у межах усяго беларускага этнасу.

На працягу XIX—XX ст. навуковыя распрацоўкі пытання аб грамадскіх і культурных адносінах прывялі даследчыкаў да сцвярджэння, што ўся гісторыя сялянскага грамадства самым цесным чынам залежала ад вытворчых адносін у сялянскім асяроддзі. Формы і характар гаспадарча-вытворчых адносін мелі моцны ўплыў на грамадскія адносіны, на складанне шматлікіх тыпаў гаспадарча-вытворчых калектываў, фармальных і нефармальных аб'яднанняў сялянства, калі амаль што ўсякае істотнае змяненне ў сістэме сельскагаспадарчай вытворчасці і землекарыстання мела спецыфічны ўплыў на мноства з'яў сельскага побыту і звычаёва-прававых нормаў, што рэгулявалі сялянскія адносіны.

У той жа час, даследчыкамі было адзначана, што ў сістэме грамадскіх адносін беларускага сялянства амаль што да пачатку XX ст. існавалі рэліктавыя формы прававых нормаў, стэрэатыпы паводзін і ўяўленняў, якія не адпавядалі ўсім новым гістарычным і сацыяльна-эканамічным умовам, але захоўваліся ў сялянскім асяроддзі са старажытных часоў. Даволі моцна і стабільна захоўваліся старажытныя з'явы і ў духоўнай культуры сялянства: вераваннях, вуснапаэтычнай творчасці, абрадах, звычаях, сістэме выхавання дзяцей, светаўспрыманні і інш.

У гістарыяграфіі вывучэння грамадскіх адносін сялянства перыяду фарміравання і развіцця беларускай народнасці (канец XIII — першая палова XVII ст.) даследчыкі таксама выдзяляюць два своеасаблівых этапа, першы з якіх (да XVI ст.) характарызаваўся працягам старажытных рыс грамадскіх адносін, а другі (XVI—XVII стст.) уяўляў сабой станаўленне новых формаў сацыяльнай, тэрытарыяльнай і саслоўнай арганізаванасці насельніцтва пры значным заняпадзе ці трансфармацыі старых[266].

Яшчэ задоўга да XIV ст. на землях Беларусі (таксама як і на іншых тэрыторыях існавання славян) склаўся даволі дасканалы для эпохі ранняга феадалізму комплекс сацыяльна-эканамічных адносін, змяненне якіх не з'яўлялася неабходнасцю ў палітычнай сітуацыі ўваходжання беларускіх зямель у склад Вялікага княства Літоўскага. Доўгі час прынцып «старыны не рухаці» задавальняў як сялянства, так і вышэйшыя феадальныя колы, якія лічылі «звычай старадаўні» ўстойлівай і зразумелай традыцыяй, што ішла ад дзядоў.

Цяжкасці, звязаныя з вывучэннем дадзенага перыяду гісторыі беларусаў, абумоўлены адносна невялікай колькасцю аўтэнтычных гістарычных матэрыялаў (у параўнанні, напрыклад, з другой паловай XVII ст. ці з XVII—XIX стст.), што не дазваляе даць поўны і грунтоўны малюнак гістарычнага жыцця народа таго часу.

---

[266] У перыяд XIV — першай паловы XVII ст. амаль што ўсе асноўныя працы, прысвечаныя пытанням грамадскага побыту беларусаў, а таксама шэраг вядомых зараз гістарычных дакументаў і матэрыялаў таго часу пададзены ў бібліяграфічных спасылках.

Больш дакладна і істотна адлюстроўваецца ў гістарычных матэрыялах грамадскі быт другой паловы XVI — першай паловы XVII ст. Спасылкі ў дакументах таго часу на «звыкласць старадаўнюю» даюць магчымасць рэканструяваць таксама і тыя старажытныя элементы грамадскіх адносін, якія панавалі на Беларусі ў папярэднія часы (да сярэдзіны XVI ст.). З XVI ст. і асабліва з другой яго паловы пачалі ажыццяўляцца на Беларусі некаторыя змяненні ў сістэме грамадскага ладу жыцця, што было звязана з працэсам далейшай феадалізацыі грамадства, паступовага запрыгоньвання сялянства, ростам і ўмацаваннем правоў і прывілеяў шляхецкага саслоўя, ростам і развіццём гарадоў і мястэчак. Навацыі XVI—XVII стст. не пашырылі сферу сацыяльна-палітычнай актыўнасці сялянства, якое (як і раней) не прымала ўдзел у палітычным жыцці дзяржавы, а было абмежавана толькі вясковымі ці валаснымі справамі. Больш істотна новыя з'явы ахапілі сферу грамадскага жыцця сялянства, пранікалі ў сістэму яго адміністрацыйна-юрыдычнай і гаспадарча-эканамічнай арганізацыі[267].

Феадальныя вярхі былі зацікаўлены ў далейшым развіцці дзяржаўнасці і грамадства, у павышэнні рэнтабельнасці гаспадаркі. Для дасягнення гэтых мэтаў у перыяд з канца XV і па 1560-я гг. на землях Беларусі (таксама Літвы і Украіны, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага) былі здзейснены розната роду рэформы, якія закранулі амаль што ўсе сферы эканамічнага, палітычнага, юрыдычнага і этнасацыяльнага жыцця насельніцтва. Узнікшы як навацыі, многія з гэтых з'яў праз два пакаленні людзей (ужо к канцу XVI ст.) сталі таксама традыцыйнымі, але і напачатку яны разам з элементамі старыны складалі сінкрэтычную сумесь старога і новага ў жыцці і развіцці беларускага народа[268].

Прыналежнасць беларускіх сялян да таго ці іншага адгалінавання хрысціянства ў значнай ступені залежала ад урадавай палітыкі і веравызнання феадалаў-землеўладальнікаў. У залежнасці ад гэтага беларускае сялянства на працягу толькі XVI ст. па некалькі разоў пераводзілася з адной веры ў другую[269]. Увогуле, у часы феадалізму царква мела значны ўплыў на грамадскі побыт і духоўную культуру народа. Праваслаўныя і католікі, пратэстанты і ўніяты былі аб'яднаны ў свае абшчыны, са сваімі цэрквамі і клірам, асобнымі рэлігійнымі рытуаламі. Наглядалася нават і пэўная моўная дыферэнцыраванасць цэркваў, калі, у адрозненне ад праваслаўя і каталіцтва, пратэстанцкая і ўніяцкая цэрквы актыўна ўжывалі ў сваёй абраднасці жывую народную мову. Своеасаблівае становішча наглядалася і ў адносінах паміж хрысціянскімі нормамі маралі і светаўспрымання, з аднаго боку, і рэшткамі старажытных дахрысціянскіх вераванняў — з другога. Элементы ці нават і цэлыя пласты язычніцкіх уяўленняў, абрадаў і звычаяў захоўваліся ў тых сферах народнага быту і культуры, якія не маглі поўнасцю кантраляваца царквой. Некаторыя з іх былі нават успрыняты мясцовым хрысціянствам (як праваслаўем, так і каталіцтвам і ўніяцтвам).

Некаторы ўплыў на духоўную культуру, і ў прыватнасці на грамадскі побыт сялянства, мелі асаблівасці юрыдычна-прававога становішча розных катэгорый сялян. Сялянства падзялялася на катэгорыі «цяглых», «асадных» і «слуг», якія плацілі падаткі і выконвалі павіннасці ў

---

[267] Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. Мн.. 1993. С. 12—39.

[268] Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978. С. 15—30; Сокол С. Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI — первой половины XVII вв. Мн., 1984. С. 145—146.

[269] Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше. Сост. М. Коялович. СПб., 1865. С. 150—196.

залежнасці ад колькасці выкарыстоўваемых валок зямлі. Аграрныя пераўтварэнні падрывалі калектыўныя формы землекарыстання і спрыялі распаду абшчынных адносін у межах асобных вёсак і валасцей. Феадальная залежнасць пэўных калектываў сялянства (сямейна-гаспадарчых, суседскіх, лакальна-тэрытарыяльных супольнасцей: дворышч, сельскіх, суседскіх і валасных абшчын) пачала актыўна замяняцца ў гэты час на індывідуальную залежнасць асобных сялянскіх сямей. Аднак на ўсходзе Беларусі аграрна-сацыяльныя рэформы былі праведзены ў XVI — першай палове XVII ст. не ў поўным аб'ёме, у сувязі з чым старажытныя абшчынныя ўзаемаадносіны і лад захоўваліся ў асяроддзі мясцовага сялянства больш стабільна, чым у заходніх ці цэнтральных раёнах[270].

Грамадскі побыт і само жыццё селяніна ў вёсцы былі падпарадкаваны пэўным грамадскім адносінам, якія вызначаліся тагачаснымі юрыдычна-прававымі дзяржаўнымі нормамі, а таксама звычаем і традыцыяй, што складалі спадчыну папярэдніх эпох. Грамадскі побыт у межах сялянскіх вясковых грамадстваў быў цесна звязаны таксама з вытворча-гаспадарчымі адносінамі паміж асобнымі гаспадарамі, а таксама паміж імі і вялікакняскай (з другой паловы XVI ст. — каралеўскай) адміністрацыяй ці феадалам-землеўладальнікам.

Вёска часта выступала як калектыўная адзінка падаткаабкладання, у межах якой сяляне самі размяркоўвалі аб'ёмы прац і падаткаў для асобных гаспадарак: дымоў ці служб. Сялянскае вясковае грамадства, такім чынам, выступала як самакіравальная грамадская адзінка са сваёй адміністрацыяй, сваімі законамі і адносінамі. Органы грамадскага самакіравання сёл узначальвалі старцы, сельскія лаўнікі, старшыні, якія з'яўляліся асноўнымі распараджальнікамі і збіральнікамі «даніны» — падаткаў, што ішлі феадалам ад усёй вёскі[271].

Інстытуты старцаў і старастаў былі вядомы яшчэ са старажытнарускага часу (згадваюцца, напрыклад, у «Праўдзе Рускай»)[272]. Б. Рыбакоў выводзіць этымалогію паняццяў «старац» і «стараста» ад «ста» — «міра», «верві» — сямейна-родавай абшчыны, што складалася з 10 дымоў аднаго ці некалькіх родавых пасяленняў старажытных славян[273]. У Беларусі канца XV — першай паловы XVII ст. старцы і старасты кіравалі гаспадарча-вытворчай, юрыдычнай, грамадскай дзейнасцю сельскіх пасяленняў, арганізаваных ужо не па родаваму, а па тэрытарыяльнаму прынцыпу як у межах аднаго сяла, так і шырэй, напрыклад, воласці. На думку М. Доўнар-Запольскага, да XVI ст. на пасаду старцаў і старастаў выбіраліся найбольш паважаныя і заможныя асобы з сялянскага асяроддзя, якія былі пасярэднікамі паміж сялянамі і землеўладальнікамі[274].

Як сведчаць некаторыя дакументы таго часу, своеасаблівае сацыяльнае становішча сельскіх (вясковых) валасных старцаў і старшынь забяспечвалася не толькі іх добрым матэрыяльным становішчам, але і ў значнай ступені іх аўтарытэтам сярод аднавяскоўцаў і валашан. Старцы і старшыні павінны былі з павагай ставіцца да грамадскай думкі вёскі

---

[270] Пичета В. И. Белоруссия и Литва в XV—XVI вв. М., 1961. С. 21—43, 61, 93, 101, 121; Довнар-Запольский М. В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1981. С. 5—26, 30—58, 72—94; Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. I. С. 176—180.

[271] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 188—189.

[272] Правда Русская. Под ред. Б. Д. Грекова. М.; Л., 1947. Т. 2. С. 24.

[273] Рыбаков Б. А. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982. С. 255—256.

[274] Довнар-Запольский М. В. Западно-русская сельская община в XVI в. СПб., 1897. С. 23—25, 51—53.

і воласці, не мець ніякіх дыскрымінацыйных прывілеяў, выконваць разам з аднавяскоўцамі асноўныя віды феадальных павіннасцей і разам з імі плаціць падаткі[275].

Да сярэдзіны XVI ст. старцы і старшыні выбіраліся самімі сялянамі на копных сходах і не мелі амаль што ніякіх прывілеяў у параўнанні з аднавяскоўцамі. Аднак ужо на працягу другой паловы XVI — першай паловы XVII ст. сельскае кіраўніцтва вёскі паступова станавілася ніжэйшым звяном феадальнай адміністрацыі. Згодна з пастановай Гродзенскага вальнага сойму 1568 г. старцы пры ўступленні на пасаду павінны былі прыносіць прысягу «перад урадам»[276]. Пазней «Устава» Магілёўскай воласці вызначала, што адказны за гаспадарчыя і грамадскія справы на вёсцы сельскі лаўнік (у вялікіх сёлах іх назначалася нават па два) за дрэннае выкананне сваіх абавязкаў можа быць пакараны іншымі прадстаўнікамі ўраду. Сельскія лаўнікі былі падначалены валасным войтам, якія размяркоўвалі працы і падаткі ў межах асобных валасцей і адказвалі за парадак у воласці. Войты падпарадкаваліся галоўнаму валасному старасце[277]. Умяшанне ўлад у справы сельскіх абшчын суправаджалася супрацьборствам з боку апошніх, калі сяляне абаранялі свае правы і пэўную незалежнасць у раскладцы збора падаткаў і выканання павіннасцей і гэтак далей. Дакументы таго часу змяшчаюць шмат скарг ад сялян на паноў, каралеўскіх адміністратараў (дзяржаўцаў, стараст) за парушэнне «старыны» — былых памераў падаткаў і павіннасцей. Скаргі пісаліся ад імя ўсіх сялян воласці і валасных старцаў, старшынь, якія былі ўпаўнаважанымі сялянамі абараняць іх правы.

Паняцце «воласць» у Вялікім княстве Літоўскім звязвалася ў той час з пэўным уладаннем (прыватным, царкоўным, манастырскім ці вялікакняскім), а таксама з адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай, што ўключала шэраг сельскіх пасяленняў з іх землямі. У той жа час, на тэрыторыях Падняпроўя і Падзвіння на вялікакняскіх землях існавалі воласці, арганізаваныя па прынцыпу самакіруемых суседскіх абшчын, якія некалькі адрозніваліся ад валасцей іншых тэрыторый Беларусі і ўключалі незалежнае ад асобных феадалаў свабоднае сельскае насельніцтва. Так, напрыклад, вялікакняскі «Прывілей» (1511) забараняў прадстаўнікам дзяржаўнай адміністрацыі збіраць подаці з сялян задзвінскіх і падняпроўскіх валасцей. Гэтым павінны былі займацца валасныя старцы і здаваць агульны падатак з воласці ў казну ў пэўныя тэрміны[278].

Ворныя землі валасцей, а таксама розныя ўгоддзі размяркоўваліся паміж асобнымі сёламі, што ўваходзілі ў воласць, а ў межах сёл — паміж гаспадарамі ці дымамі. Часткі пустуючых зямель, угоддзяў знаходзіліся ў агульным карыстанні аднавяскоўцаў. Гаспадары маглі абменьвацца, пераразмяркоўваць, аддаваць у заклад ці нават і на продаж тыя землі, што знаходзіліся ў іх пажыццёвым, спадчынным карыстанні, аднак толькі ў межах «сваёй» воласці[279].

Сялянскія органы самакіравання, як выбарчыя (старцы, старшыні), так і калектыўныя (сялянскія сходы-копы) самі

[275] Акты Западной России. Т. I. С. 336.

[276] Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. I. С. 469.

[277] Археографический сборник документов. Вильно, 1867. Т. I. С. 172—173.

[278] Іншы раз адзін старац узначальваў дзвятры невялікія суседнія вёскі. Гл.: Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. I. С. 132 (1550); Акты Западной России. Т. I. С. 336, 368—369 (1540); Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1898. Т. XXV. С. 114—131.

[279] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 187—189; Довнар-Запольский М. В. Западно-русская сельская община в XVI в. С. 23—25.

наглядалі за ўсімі справамі, што датычылі зямельных адносін. Напрыклад, адной з функцый старцаў і старшынь быў нагляд за захаваннем межаў зямель асобных сёл і валасцей увогуле. Разам з межаўшчыкамі старцы адзін раз у год акрэслівалі межы сялянскіх валок, агульных угоддзяў, вёсак, а раз у тры гады аглядалі і ўдасканальвалі межы зямель усёй воласці (асабліва старанна ў месцах, дзе былі лясы, сенажаці, лугі, вадаёмы і інш.). Межы абавязкова павінны былі быць абазначаны межавымі знакамі (капцамі, прасекай, баразной і інш.). У часы ажыццяўлення валочнай памеры на Беларусі ў абавязкі старцаў і старшынь уваходзіла і бортная дзяльба, якая зводзілася да таго, што да кожнай валокі зямлі прыпісваліся бортныя дрэвы і адпаведны падатак[280].

Структура арганізацыі і функцыянавання вялікакняскіх валасцей на ўсходзе Беларусі нагадвала вялікую тэрытарыяльную абшчыну, што складалася з больш старажытных па форме сельскіх суседскіх абшчын[281]. Абшчынныя адносіны ў межах усходнебеларускіх валасцей і асобных сёл прасочваюцца на ўзроўні іх грамадскага жыцця, этнасацыяльнай і тэрытарыяльнай арганізацыі. Кожная воласць мела сваё ўласнае азначэнне — па назве цэнтральнага пасялення, а члены валаснай арганізацыі (людзі, мужы) — агульнае азначэнне этнанімічнага тыпу. Жыхары іншых валасцей называліся чужавалосцамі ці адпаведнымі валаснымі назвамі-этніконамі[282]. Трэба адзначыць, што аналагічныя з'явы этнатэрытарыяльнай кансалідацыі насельніцтва ў межах валасцей былі тыповымі ў той час для ўсёй Беларусі і складалі характэрны для эпохі феадалізму першапачатковы ўзровень дзейнасці аб'яднальных этнасацыяльных працэсаў.

Характэрнай рысай, што аб'ядноўвала падняпроўскія, падзвінскія і іншыя воласці Беларусі, быў дуалізм паміж грамадскай і прыватнай уласнасцю, калі часткі ворнай зямлі знаходзіліся ў пажыццёвым і спадчынным карыстанні (фактычна ўладанні) асобных сялянскіх сем'яў, а ў агульным карыстанні былі «нічэйныя» пустуючыя землі, лясы, выганы і іншыя ўгоддзі. Парцэлярная праца стварала падставу для памнажэння рухомай маёмасці асобных гаспадароў, якая не кантралявалася абшчыннымі сацыяльнымі адносінамі і фактычна парушала эканамічны базіс сялянскай абшчыны. У прыватную сямейную ўласнасць пераходзіла нават і нерухомая маёмасць: спачатку прысядзібная зямля, потым раллёвая, а з распаўсюджаннем трохпольнага севазвароту (калі трэцяя частка зямлі заўжды была пад парам) — і сенажаці[283].

Працэс заняпаду абшчынных сацыяльна-эканамічных адносін у беларускай вёсцы значна актывізаваўся ў канцы XV — першай палове XVII ст. і працягваўся (асабліва на ўсходзе Беларусі) да XVIII ст., аднак у сацыяльна-бытавой сферы абшчынныя адносіны трывала захоўваліся як у адзначаны перыяд, так і пазней. Сам характар існавання таго часу патрабаваў працы пэўнага вялікага калектыву, што адбівалася не толькі на вытворчых сферах дзейнасці, але і на грамадскіх ад-

[280] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XXV. С. 114—131; 330—331; XX—XXI.

[281] Пашуто В. Т., Флоря Б. И., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 98—112.

[282] Русская историческая библиотека. Т. XX. Литовская метрика. Книга записей. Т. I. Отд. I. Ч. I. С. 669—670 (1497); С. 728 (1497); Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 195 (1535); Полоцкая ревизия 1552 г. М., 1905. С. 7—8, 53.

[283] Панов В. А. Социальный строй Полоцкой земли по данным «Полоцкой ревизии 1552 г.» // Журнал Министерства народного просвещения. Нов. сер. Ч. VI. 1915; Турцевич А. Русские крестьяне под властью Литвы и Польши. Краткий исторический очерк. Вильно, 1911. С. 12—31.

8 Зак. 1789

носінах. Рэшткі ці нават і цэлыя пласты абшчынных адносін наглядаліся ў сялянскім асяроддзі ў часы асвойвання і расчысткі ад лесу новых зямель, будаўніцтва прыватных хат, выконванні пэўных феадальных павіннасцей, напрыклад: будаўніцтва і рамонт млыноў, гацей, панскіх сядзіб і замкаў, шляхоў і мастоў, культавых пабудоў і інш. У сваю карысць феадалы імкнуліся выкарыстоўваць нават і старажытны звычай калектыўнай дапамогі пры гаспадарчых працах — талаку (што і было замацавана ва «Уставе на валокі» 1557). У сферы грамадскага побыту рэшткі абшчынных адносін адлюстроўваліся, напрыклад, у кругавой паруцы паміж аднавяскоўцамі, у калектывізме грамадскай думкі, у абшчыннай салідарнасці і галоснасці побыту, кантролі за паводзінамі аднавяскоўцаў, дапамогі збяднелым, пагарэльцам, сіротам і інш. Доўгі час (амаль што да XVII ст.) сяляне неслі калектыўную адказнасць за ўсе тыя справы, што адбываліся на прымацаваных да вёскі землях[284].

Сяляне маглі быць пакаранымі за супрацьпраўныя дзеянні аднаго з членаў іх вёскі ці выконваць дадатковыя працы, кампенсуючыя працу ўцёкшых у другую воласць суседзяў[285]. Гэта вызначала існаванне ў калектыве аднавяскоўцаў пэўнай формы асабовай несвабоды, калі вясковае грамадства сачыла за дзейнасцю чалавека і даволі хваравіта адносілася да пераходу асобнай сялянскай сям'і на другія землі, да другога феадала ў пошуках больш спрыяльных умоў працы і жыцця. У часы ажыццяўлення аграрных пераўтварэнняў вясковыя вярхі былі незадаволеныя парушэннем кругавой парукі і ўздымам адказнасці і скардзіліся на гэта, як на парушэнне «старыны». Індывідуалізацыя адказнасці за правапарушэнне, пры якой сельскае грамадства часткова вызвалялася ад гвалтоўнай апекі за кожным вяскоўцам, адносна працяглы час афармлялася ў дзяржаўным заканадаўстве і была замацавана фактычна толькі ў XVI ст. — у Статутах Вялікага княства Літоўскага[286]. Аднак у практыцы ажыццяўлення звычаёвага права калектыўная адказнасць сельскіх грамадстваў яшчэ доўгі час існавала і ў некаторых выпадках захоўвалася амаль што на працягу ўсяго перыяду феадалізму. Так, селянін, які дазваляў жыць у сваёй хаце чужому чалавеку, павінен быў паведамляць аб гэтым суседзям ці вясковаму старшыні. Калі ж ён не зрабіў гэтага, а ў той час у вёсцы здаралася няшчасце, селянін разам са сваім госцем павінны былі даказваць аднавяскоўцам сваю невіноўнасць або часам і кампенсаваць страту (натурай, грошамі) для пацярпеўшых[287]. Пры вялікай шкодзе селянін і той, каго ён хаваў, маглі быць нават і больш жорстка пакараны. За шкоду, учыненую на землях абшчыны асобнаму феадалу, прадстаўніку вялікакняскай адміністрацыі ці гаспадаркі, духоўнай і іншай асобе, часта неслі калектыўную адказнасць усе сяляне (незалежна ад таго, быў знойдзены персанальны віноўнік ці не). Розніца была толькі ў ступені ці мерах пакарання (штраф — для сельскай абшчыны; цялесныя пакаранні, выгнанне, катаванне — для вінаватага)[288].

Вялікія і сур'ёзныя справы выносіліся на абмеркаванне і вырашэнне на сход (капу), што з'яўлялася характэрным элементам абшчыннага ладу таго часу. У практыцы сходаў выкарыстоўваліся

[284] Юхо И. А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в.

[285] Леонтович Ф. И. Источники русско-литовского права. Варшава, 1893. С. 5—6.

[286] Гл., напрыклад: Статут Великого княжества Литовского 1588 г. Разд. I, арт. 18.

[287] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1891. Т. XVIII. С. 36—38.

[288] Леонтович Ф. И. К истории административного строя Литовско-Русского государства. Варшава, 1899.

нормы звычаёвага права (ці, як тады пісалі, «звыкласці старадаўняй», «звычаю» і інш.). Пачынаючы з 1530-х гг., пры вырашэнні спраў на копах ужо часта спасыляліся і на адпаведныя палажэнні і артыкулы агульнадзяржаўнага права (напрыклад на «Статут» 1529 г.)[289]. На копах сяляне выбіралі, пазней зацвярджалі сельскае кіраўніцтва ніжэйшага звяна: дзясяцкіх, соцкіх, сотнікаў, сарочнікаў, вясковых старцаў, старшынь. Таксама размяркоўваліся падаткі, службовыя і іншыя абавязкі (расклад павіннасцей, рамонт шляхоў, мастоў, млыноў, гацей, тэрміны сельскагаспадарчых прац, карыстанне лугамі, лясамі і інш.), разбіраліся крымінальныя справы (штрафы за самавольныя парубкі, патравы, крадзеж), міжсямейныя канфлікты і розныя пытанні грамадскага жыцця (наём пастуха, вартаўніка — вёска абавязкова ахоўвалася ноччу), назначэнне апекуноў, спрэчныя сямейныя падзелы маёмасці, зборы грошай на агульнавясковыя патрэбы, уцёкі селяніна з вёскі, прыём новых пасяленцаў і інш.

На сельскі (вясковы, малы) сход збіралася толькі дарослае мужчынскае насельніцтва сяла. Жанчыны запрашаліся толькі як сведкі ў нешматлікіх выпадках, а таксама ў якасці пацярпеўшых ці абвінавачаных. Права на вырашальны ці дарадчы голас жанчыны не мелі. Кіраваў малым сходам сельскі старац, старшыня (пазней сельскі лаўнік)[290]. Больш шматлікія сходы збіралі дарослае мужчынскае насельніцтва шэрага суседніх сёлаў («суседзей аколішных», «спалечных», «сугранічных», «аплотных»). Там вырашаліся спрэчныя і судовыя міжвясковыя ці агульнавалясныя пытанні. На вялікіх копных сходах прысутнічалі як дзяржаўныя (вялікакняскія), так і прыватнаўладальніцкія, царкоўныя і манастырскія сяляне. Запрашаліся на сялянскія копы і «панове суседзі шляхта». Звярталіся да копных судоў са скаргамі на сялян розныя афіцыйныя чыны (пісары, скарбнікі, асочнікі, біскупы), а таксама зямяне і мяшчане. Апошнія выклікаліся нават на копы ў якасці адказчыкаў (калі справа датычыла сялян і мяшчан)[291].

На вялікія валасныя копы збіраліся «панове старцы і копляне» ўсіх зацікаўленых у спрэчных справах вёсак: «...водлуг обычаю и права копного пытаючи межи собой старец старца, ти вже со всих сел старцы и с поддаными панов своих всими на тую... копу... вышли»[292]. Вялікім сходам кіраваў валасны старац (старшыня, стараста) ці войт (ленвойт), які абвяшчаў аб месце і часе сходу. Арганізоўваліся і праходзілі копныя сходы ў пэўных адзначаных месцах — «капавішчах» — на скрыжаванні шляхоў, на мяжы сяла, маёнтка, каля азёраў, мастоў і інш. На сходзе прысутнічаў прадстаўнік вялікакняскай мясцовай (часцей за ўсё павятовай) улады — віж ці возны (з зямян), які потым складаў пісьмовую справаздачу аб дзейнасці сходу і пытаннях, што на ім разглядаліся[293].

Капа магла збірацца некалькі дзён запар, пакуль не вырашалася справа і не знаходзілі вінаватага, таму копныя сходы не праводзілі ці праводзілі рэдка ў часы важных сельскагаспадарчых прац (сяўбы, збору ўраджаю, сенакосу і інш.). За не-

289 Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVIII. Предисловие И. Спрогиса. М. VI—XX.

290 Археографический сборник документов... Вильна, 1867. Т. I. С. 190—192.

291 Пытанні датычылі забойстваў, крадзяжу, злачынстваў, псавання маёмасці, жывёлы, угоддзяў, рубкі лесу, пераходу сялян ад аднаго феадала да другога, удакладнення межаў асобных сёлаў, іх зямель і ўгоддзяў і інш. Гл.: Законодательные акты Великого княжества Литовского XV—XVI вв. Л., 1936. С. 38—41; Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVIII. С. 12, 47, 49, 54, 142 і інш.

292 Там жа. Т. XVIII. С. 40—42.

293 Там жа. Т. XVIII. 13—22, XXIV—XXXI.

прыход селяніна на сход без уважлівай прычыны з яго бралі штраф.

У час дзейнасці копнага сходу выконваліся пэўныя абрады і рытуалы. Існавалі таксама пэўныя нормы паводзін на копных сходах. Нельга было, напрыклад, прыходзіць п'яным, галосна крычаць без неабходнасці, сварыцца, біцца, свістаць, плявацца, маладым копнікам (часам і ўсім, акрамя старцаў, старэйшых і запрошаных гасцей) сядзець. Зварочвацца да копнікаў ці адказваць на пытанні сяляне павінны былі стоячы, зняўшы капялюш. Парушэнне гэтых нормаў лічылася ганебным (вінаватага маглі выгнаць, аштрафаваць, ці нават і пабіць пасля сходу).

Цэнтральнае месца сходу акрэслівалася рысай, за якую ісцец і адказчык не мелі права выходзіць. Пры вырашэнні некаторых спрэчных пытанняў ісцецы і адказчыкі часта звярталіся да звычаю «ставіць шапку» («прыставіць шапку», «кінуць шапку да рысы»), што сімвалізавала ручанне за свае словы ў прысутнасці людзей, сумленнасць слоў ці дзеянняў, згоду, давер сведцы і інш. Для сведчання супраць абвінавачанага дастаткова было ўзняць і выцягнуць ў яго бок руку. У якасці своеасаблівага доказу сваёй слушнасці супернікі ручаліся («ставілі») сваёй нагой, рукой, галавой, паказваючы гэтым самым, што для перамогі праўды і ісціны гатовы ахвяраваць сабой. Тое ж самае прапаноўвалася зрабіць супрацьлегламу боку («...в тем моя нога, а его нога поки то на него слушным доводом доведу»)[294].

Перад сходам ці ў царкве абавязкова прыносілася прысяга «іменем божым і сваім сумленнем» — за правільнасць сваіх слоў і дзеянняў, а таксама ў выпадку, калі хто прысягаў за іншага (родзіча, сваяка, знаёмага, аднавяскоўца). Калі адказчык адмаўляўся ад сваёй віны, сход ўчыняў катаванні («мукі») пры дапамозе агню, розгаў і іншых сродкаў, для чаго на сход запрашаўся кат. Прызнаныя вінаватымі падвяргаліся цялеснай кары, штрафу, выгнанню, радзей караліся смерцю («карай на горла», «на жывот»)[295].

Калі абвінавачванне аднаго селяніна другім прызнавалася сапраўдным, вінаваты павінен быў даць пацярпеўшаму сатысфакцыю (прасіць прабачэння, заплаціць штраф грошамі ці натурай). Тое ж самае магло быць і ў выпадках паклёпу ці слоўнай абразы. Пацярпеўшы патрабаваў у крыўдзіцеля доказаў і задавальнення. Калі крыўдзіцель прадстаўляў сходу доказы і сход з імі згаджаўся, справа лічылася вырашанай. У тым выпадку, калі доказы не задавальнялі і не пераконвалі сход, абвінавачванне разглядалася як паклёп, і пацярпеўшы патрабаваў прабачэння і задавальнення (пасля сходу ён меў права пабіць крыўдзіцеля). Аднак дзяржаўнае права ўжо прадугледжвала ў такіх выпадках не біццё, а іншыя формы вырашэння пытанняў (публічнае прызнанне паклёпу ці штраф)[296].

Характар копных сходаў, кола пытанняў, якія вырашаліся на іх, сацыяльны склад удзельнікаў і іншыя рысы сведчаць, як адзначаюць даследчыкі, аб генетычнай сувязі іх са старажытнымі славянскімі вечамі і аналагічнымі формамі збору абшчыннікаў «на думы»[297]. Рэшткі старажытных форм народнага суда, што ўзыходзілі да язычніцкіх часоў, таксама захоўваліся ў элементах звычаёвага народнага права, якое выкарыстоўвалася на копных сходах беларускага сялянства

---

[294] Акты издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVIII. С. 42.

[295] Там жа. Т. XVIII. С. XXIX—XXXIII; Археографический сборник документов... Т. I. С. 190—192; Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 1416. Оп. 6. Д. 533.

[296] Статут Великого княжества Литовского 1588 г. Разд. IV, арт. 104.

[297] Гл.: Спрогис И. Древние народные копные суды в Северо-Западной окраине России // Труды IX археологического съезда... Вильно, 1893 г. М., 1895. С. 242—260.

эпохі сярэдневякоўя. У той жа час, дзяржаўная ўлада ўсё мацней і мацней імкнулася падпарадкаваць сабе дзейнасць сельскіх коп, не парушаючы іх пэўных, выгадных феадалам традыцый[298].

Дакументы заходніх раёнаў Беларусі другой паловы XVI — XVII ст. ужо адзначаюць актыўны ўдзел прадстаўнікоў мясцовай улады (віжаў, возных, падкаморыяў, валасных войтаў і інш.) у арганізацыі і правядзенні копных судоў. У канцы 60-х гг. шмат якія нормы звычаёвага права копных сходаў былі заменены аналагічнымі нормамі дзяржаўнага права (па Статуту 1566), а канчатковыя вынікі копных разбораў павінны былі зацвярджацца ці не зацвярджацца ў земскім павятовым судзе[299].

Прадстаўніцтва шляхты і зямян у сялянскіх сходах павялічваецца ў другой палове XVI — XVII ст. і ва ўсходніх валасцях Беларусі, што адрозніваліся ад іншых большай самастойнасцю і незалежнасцю свайго самакіравання. Сяляне самі запрашалі на сходы прадстаўнікоў улады, зямян і шляхту, якія не ўмешваліся ў справы копу, аднак сваёй прысутнасцю прыдавалі яго пастановам больш галоснасці і юрыдычнай сілы. Маўчанне іх звычайна азначала згоду з рашэннямі сходу, рабіла іх свайго роду саўдзельнікамі народнага суда. Амаль што ўсе ўдзельнікі сходу няслі калектыўную адказнасць за свае дзеянні і рашэнні. Усё, што рабілася на сходзе, рабілася ад імя ўсіх яго ўдзельнікаў[300]. Так, у адным з дакументаў першай паловы XVII ст., дзе добра адлюстравана дзейнасць копнага суда вёскі Маргуны Браслаўскага павету, ідэя калектыўнай адказнасці праходзіць чырвонай ніццю праз ўсё апісанне судовага працэсу сялян над «вядзьмакамі», якія сваімі «чарамі» садзейнічалі падзяжу жывёлы. Ад імя ўсіх сялян запрашалі на суд «гасцей» (мясцовую шляхту і прадстаўнікоў валасной адміністрацыі). Усе яны патрабавалі пакарання вінаватых жанчыну-ўдаву разам з сынам і захожым чалавекам, якога яны хавалі ў хаце. Далей, усе сяляне дапамагалі кату пры «роспытах» (пакутах) і пакаранні «на горла». Невінаватых у шкодзе сваякоў пакараных увесь сход абавязаў паручыцца за тое, што яны не будуць помсціць удзельнікам суда[301]. Усё гэта было аснована на нормах звычаёвага права, якія дзейнічалі ў той час.

Важным элементам грамадскага побыту вёскі з'яўлялася грамадская думка, якая таксама была падставай і вынікам галоснасці сельскага ладу. Думка аб асобным чалавеку складвалася ў вяскоўцаў з маленства, з першых кантактаў дзіцяці з сябрамі ў час іх сумесных гульняў і пэўных прац. Асноўным перыядам складання рэпутацыі з'яўлялася юнацтва, у часы якога маладыя людзі праходзілі своеасаблівыя выпрабаванні, напрыклад, у форме маладзёжных гульняў, спаборніцтваў, сімвалічных боек, розных абрадаў, некаторых відаў працы, сацыяльнымі вынікамі якіх з'яўлялася грамадскае прызнанне юнакоў і дзяўчат у якасці дарослых членаў сялянскай абшчыны.

---

[298] Так, нават і ў другой палове XVI — пачатку XVII ст. дзяржаўныя дакументы прадпісвалі захоўваць некаторыя традыцыі і самі формы арганізацыі копных сходаў: «На Руси и инде, где здавна копы бывали, там мают быти и теперь копы одправованы на старых каповищах тым обычаям, яко первей бывало»; «...на тых теж месцах, где досель копы не бывали, таковым порядком и поступком копы збираны и отправлены быти мают, яко ся и на Руси заховывало и заховует». Гл.: Статут Великого княжества Литовского 1588 г. Т. I. Ч. 2. Разд. XIV, арт. 9.

[299] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1872. Т. VI. С. 34—38; Вильно, 1872. Т. XVIII. С. 3; Статут Великого княжества Литовского 1566 г. Раздз. XI, арт. 26.

[300] Спрогис И. Древние народные копные суды. С. 261—267; Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVIII. С. 12, 47, 49 і інш.

[301] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 1416. Д. 553.

Уступленне ў правы дарослага грамадзяніна ажыццяўлялася ў пэўным узросце (у так званыя «леты зупольныя»), які, згодна як звычаёваму, так і дзяржаўнаму праву, наступаў для хлопцаў у 18, а для дзяўчынак у 13 гадоў[302]. На гэты час у адносінах да маладога чалавека ці дзяўчынкі ўжо складвалася пэўная рэпутацыя, ад якой у яго далейшым жыцці шмат чаго залежала. Так, напрыклад, з маральнай рэпутацыяй былі звязаны адносіны да яго слоў на копных сходах, асабліва калі ён выступаў у якасці сведкі (характэрна, што непаўналетнія не маглі выступаць у якасці сведак, да іх не ўжываліся жорсткія пакаранні за злачынства, адказнасць неслі дарослыя члены сям'і, якія ведалі аб злачынстве; пакаранне прадугледжвала, пераважна, матэрыяльную каменсацыю: «навязку», «галоўшчыну» і інш.).

Рэпутацыя асобнага гаспадара была вельмі важным фактарам у справе атрымання ім дадатковых участкаў зямлі, напрыклад ворнай, якая не складала яго спадчыну, а перадавалася пасля смерці далёкіх сваякоў — «кроўных». Сельская грамада сачыла, каб добрая зямля знаходзілася ў працавітых людзей і не пуставала.

Ад рэпутацыі залежала таксама прызнанне ці непрызнанне селяніна ў якасці апекуна над зямлёй, маёмасцю і сям'ёй нябожчыка сваяка (у выпадку адсутнасці ў гэтай сям'і дарослых сыноў). Пытанні апякунства разглядаліся, вырашаліся і зацвярджаліся на копных сходах аднавяскоўцаў[303]. У аналагічных абставінах так званага «акапавання» і з улікам рэпутацыі выбіралася на сялянскіх сходах і сельская адміністрацыя (старцы, старшыні, дзесяцкія і інш.). Працэдура гэта ажыццяўлялася вельмі старанна, паколькі перавыбранне было справай цяжкай, патрабавалася згода прадстаўнікоў каралеўскай адміністрацыі ці землеўладальніка, аднак і ў выпадку перавыбрання грамадская думка мела пэўную перавагу[304].

Нормай вясковага жыцця была і апеляцыя да грамадскай думкі, дзеля чаго дастаткова было звярнуцца да любога больш-менш шырокага зборышча аднавяскоўцаў у часы працы ці свят, абрадаў, цырымоній ці нават проста да суседзей на вуліцы, галоўнае — каб «да людзей», «пры народзе», «на паспольстве». Сведчанне на людзях (калі сведкі мелі добрую рэпутацыю) лічылася свайго роду ўсенародным абвешчаннем здарыўшагася і прымала сілу факта, які пераўтвараўся ў доказ у выніку прысягі ці сведкаў так званым «довадам слушным», імем пана Бога, цалаваннем крыжу і інш. У некаторых выпадках (пры згвалтаванні ці заключэнні пагадненняў) роля сведак была вельмі важнай, паколькі іншыя факты садзеянага маглі і адсутнічаць. Так, факт згвалтавання жанчыны лічыўся даказаным, калі на яе «гвалт» (крык аб дапамозе) прыбягалі некалькі сведак, што чулі «гвалт». У выпадку заключэння паміж сялянамі здзелак (куплі-продажы, паручыцельства, абмену і інш.) прысутнасць сведак лічылася абавязковай, і апошнім адводзілася нават пэўная роля ў абрадах, якія суправаджалі здзелку[305].

Жыццё селяніна праходзіла на людзях, якія (асабліва суседзі) ведалі амаль што пра ўсе бакі яго побыту, характару паводзін і светапогляду. Сістэма поглядаў асобнага чалавека на свет і сваё месца ў ім фарміравалася з дзяцінства і адпавядала пануючым у той час тэалагіч-

[302] Статут Великого княжества Литовского 1588 г. Раздз. 6, арт. 1.

[303] Пытанням апякунства і апекі ўдзялялася даволі многа ўвагі ў нормах звычаёвага і пісанага права, напрыклад, у Статуте 1588 г. гэтаму быў прысвечаны цэлы раздзел. Гл.: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989.

[304] Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. С. 40—60.

[305] Русская историческая библиотека. Т. 27. С. 365—376, 436, 814—817.

ным (хрысціянскім, язычніцкім) і матэрыялістычным уяўленням. Пануючая ідэалогія (хрысціянства) не мела манапольнага ўплыву на асабісты побыт селяніна, аднак вясковае грамадства сачыла за выкананнем некаторых рэлігійных прадпісанняў, яго набожнасцю, наведваннем царквы ці касцёла. Адносіны чалавека да рэлігіі і царквы ігралі пэўную ролю ў фарміраванні яго асабістай рэпутацыі. У той жа час, за адмоўныя адносіны да царквы, за невыконванне рэлігійных прадпісанняў чалавек не падвяргаўся ганенням ці пакаранню, а пасля смерці меў права быць пахаваным на агульнавясковых могілках (асобнае пахаванне практыкавалася толькі да самазабойцаў, нехрышчоных дзяцей і нехрысціян).

Цікавае адлюстраванне грамадскай думкі аб асобным чалавеку ўзнікала ў рытуалах галашэння па нябожчыку. Галасілі пераважна жанчыны (сваячаніцы, суседкі), якія ў пэўнай рэчытатыўнай форме і з улікам неабходнай абраднасці давалі свайго роду характарыстыку нябожчыку, адзначалі як добрыя, так і дрэнныя бакі яго жыцця. Такога роду галашэнні выконвалі пэўную выхаваўчую функцыю перасцярогі жывых ад памылак нябожчыка (п'янства, хлуслівасць, гультайства, дрэнныя адносіны да жанчыны, дзяцей, суседзяў і інш.). Жанчыны, што прыходзілі галасіць па нябожчыку (ажыццяўлялася гэта, пераважна, пры значным зборышчы людзей), іншы раз дазвалялі сабе характарызаваць і жывых сваіх злоснікаў, уплываючы такім спосабам на грамадскую думку ў адносінах да апошніх. Такім чынам, амаль што любы бок прыватнага жыцця селяніна мог кантралявацца аднавяскоўцамі, якія часта ведалі аб сваіх членах нават больш таго, што яны бы жадалі.

Асаблівасці арганізацыі грамадскага жыцця гараджан Беларусі XIV — першай паловы XVII ст. былі абумоўлены больш складаным і шматслойным (у параўнанні з сялянамі) перапляценнем і ўзаемадзеяннем элементаў мясцовага і іншаэтнічнага паходжання, традыцый і навацый, сацыяльна-юрыдычным і палітычным становішчам гарадоў і мястэчак, колькасцю іх насельніцтва і інш. Больш складанымі былі ў гарадах і мястэчках канфесіянальныя і этнічныя сітуацыі, што таксама аказвала пэўны ўплыў на грамадскі побыт гарадскога насельніцтва.

Большасць буйных гарадоў Беларусі падпарадкоўваліся вялікакняскай адміністрацыі і ў той жа час мелі незалежную сістэму самакіравання, што ўзыходзіла да часоў вечавога самакіравання (Полацк, Віцебск і інш.) ці абумоўлівалася дзейнасцю прадстаўленых ім правоў самакіравання магдэбургскага тыпу (Бярэсце, Гародня і інш.). З вечавога перыяду гісторыі гарадоў Беларусі ў іх адміністрацыйнай структуры захоўваліся пасады сотнікаў, дзесятнікаў і інш. На думку З. Капыскага, наяўнасць у некаторых буйных гарадах Беларусі (Полацк, Віцебск, Магілёў, Орша, Слуцк і інш.) падзела на сотні «можна разглядаць як сведчанне існавання тут у «дамагдэбургскі» час вечавой сістэмы арганізацыі гарадскога самакіравання[306].

Да мясцовых умоў традыцыйнага жыцця гарадоў Беларусі былі прыстасаваны нават і нормы магдэбургскага права, што складала значную варыятыўнасць яго праяўлення. Да пачатку XVI ст. магдэбургскае права атрымалі, згодна вялікакняскіх прывілеяў, Бярэсце, Гародня, Полацк, Слуцк, Менск, у XVI ст. — шэраг іншых буйных гарадоў Беларусі (Ваўкавыск, Навагрудак і інш.). Права гарадоў на магдэбургскае самакіраванне перыядычна пацвярджалася вялікакняскімі прывілеямі, лістамі, граматамі і інш., дзе заўжды адзначалася, што гэта садзей-

[306] Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII вв. Мн., 1975. С. 77—78.

нічае паляпшэнню дабрабыту гарадоў і іх жыхароў. Падараванне вялікакняскай уладай магдэбургскага права гарадам Беларусі садзейнічала сацыяльнаму і юрыдычнаму афармленню «сярэдняга класа» — мяшчанства. Апошняе было арганізавана ў своеасаблівыя гарадскія абшчыны, якім, згодна магдэбургскаму праву, былі прадстаўлены амаль што ўсе віды муніцыпальных свабод, галоўнай з якіх было выбаўленне мяшчанства з-пад улады і падсуднасці вялікакняскай і прыватнай феадальнай адміністрацыі і перадача гэтых функцый гарадскому магістрату (радзе).

Прадстаўленне мяшчанам правоў на самавырашэнне вялікага кола пытанняў гарадскога жыцця абумовіла складванне ў мяшчанскім асяроддзі шмат у чым універсальных (як у межах Беларусі, так і шырэй — Літвы, Украіны, Польшчы) саслоўных стэрэатыпаў у паводзінах і адносінах, абрадах і звычаях. Гараджане, што ўваходзілі ў склад адной магдэбургскай абшчыны, карысталіся агульнымі правамі і прывілеямі[307], асэнсоўвалі сваю супольнасць і часта выступалі ад імя ўсяго горада і рады, вызначаючы сябе адзіным урбанімам: палачане, берасцяне, случане, мяняне і інш.[308] Дакументальна калектывізм мяшчанскага саслоўя пэўнага горада адлюстроўваўся найбольш яскрава ў розных скаргах і просьбах да вялікага князя, у дагаворных гандлёвых граматах паміж беларускімі і замежнымі гарадамі, у вялікакняскіх прывілеях гарадам («Если бы в кого было взято што у справах местских, то есть школа не одного его, але всего места»)[309]. Калектыўнымі і адназначнымі былі заўжды і рашэнні гарадской рады, якая складалася з бурмістраў, радцаў (райцаў, ратманаў) і членаў гарадскога суда — лаўнікаў. Усе рашэнні рады зацвярджаліся галавой рады — войтам[310], што выбіраўся як са шляхты і зямян, так і заможных мяшчан і падпарадкоўваўся толькі вялікаму князю літоўскаму («...мещане места Волковыского правом майдеборским ни перед ким иншим, только перед их войтом, который на тот час будет, судитися мают, а войт перед нами, Г/оспо/д/а/рем»)[311]. Калектывізм карыстання правамі і прывілеямі, агульнасць адказнасці за парушэнне законаў членамі гарадской абшчыны не выключалі, як адзначаў М. Любаўскі[312], пачатковае развіццё тыповай для эпохі позняга феадалізму і ранняга капіталізму тэндэнцыі да індывідуалізацыі пакарання. Аднак у беларускіх гарадах XIV — першай паловы XVII ст. гэта было яшчэ новай з'явай. Нават і пазней (у другой палове XVII ст. — першай палове XVIII ст.) парушэнне гараджанамі законаў абумоў-

[307] Магдэбургскім правам карысталіся менавіта мяшчане (месцічы), жыхары месца (горада) з пэўным маёмасным цэнзам, законнанароджаныя, хрысціяне з пастаянным месцам жыхарства і заняткамі. У некаторых выпадках гэта права распаўсюджвалася і на насельніцтва навакольных прадмесцяў і сёлаў, нехрысціянскае насельніцтва. Астатнія жыхары гарадоў (духоўныя і свецкія феадалы, насельніцтва іх юрыдык, ваенізаваная варта і слугі вялікакняскіх замкаў, крэпасцей) часта не падпарадкоўваліся магістрату, мелі свае асаблівыя правы і прывілеі, але павінны былі з павагай ставіцца да пастаноў і рашэнняў гарадской рады (што рэальна даволі часта не выконвалася). Жабракі, беднякі, прыхожыя і іншыя людзі не мелі ніякіх правоў і магдэбургскім і агульнагарадскімі прывілеямі не карысталіся.

[308] Напрыклад: «А се мы, полочане, вси добрыи люди и малыи...» Гл.: Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. М., 1978. Вып. II. С. 145; «...бурмистры, райцы, лавники и вси мещане... менские...» скардзяцца на старасту за незаконныя паборы і дадатковыя працы, якія ён устанавіў самавольна. Гл.: Беларускі архіў. Мн., 1930. Т. III. С. 91.

[309] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 307.

[310] У раду ўваходзілі яшчэ памочнікі войта па земскіх справах: ленвойты, пісары (без права голасу), «інстыгатары» (ажыццяўлялі кантроль за фінансавай дзейнасцю членаў рады і збіралі налогі), розныя «слугі месцкія» (паліцэйскія чыны, наглядальнікі астрога, распараджальнікі гасцінымі дамамі, гарадскімі вагамі і інш.). Выбіраліся яны на сумесным пасяджэнні («супольным ужондзе») усіх галоўных членаў рады.

[311] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 389. Кн. 79, л. 327.

[312] Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 60—62.





19. Пячатка і герб г. Брэста. 1742—1775 гг.

лівала як пакаранне ўсёй гарадской абшчыны (штрафамі, абмежаваннем ці пазбаўленнем правоў, прывілеяў, зменай складу магістрата), так і персанальнае пакаранне: штрафамі, цялеснымі пакараннямі, выгнаннем, радзей — катаваннем (у залежнасці ад ступені і цяжкасці віны асобы)[313]. Мяшчане неслі значную калектыўную адказнасць за ўсё, што рабілася ў межах той часткі горада, што падпарадкоўвалася радзе.

Рада, напрыклад, даволі старанна наглядала за працэсам папаўнення саслоўя мяшчан свайго горада. Узрастанне сацыяльна-эканамічнай актыўнасці гарадоў у канцы XV — першай палове XVII ст. абумоўлівала пастаяннае папаўненне колькасці гараджан з ліку асабіста свабоднага насельніцтва, як мясцовага, так і іншаэтнічнага паходжання. У прыватнаўласніцкіх гарадах і мястэчках феадалы дазвалялі сяліцца і сваім падуладным сялянам (пры ўмове, што яны ўнясуць за сябе выкуп ці знойдуць замену). На падобных умовах дазвалялася прыватнаўласніцкім мяшчанам (жыхарам прыватных гарадскіх юрыдык) пераходзіць пад уладу магістрата («мешчанин, который пожадаеть перейти под майдэбурское право, мает зведамить аб тым замок, выкупица на волю и прынести присягу гораду»)[314]. Іншаземцам-хрысціянам для таго, каб стаць паўнапраўнымі членамі мяшчанскай абшчыны, дастаткова было прызнаць мясцовае права і прысягнуць на адданасць гораду[315].

Цырымонія прыняцця ў склад паўнапраўных гараджан суправаджалася шэрагам абрадаў і рытуалаў. Новы гараджанін у прысутнасці радцаў у ратушы даваў прысягу, рабіў (ці абяцаў зрабіць) пэўны ўзнос (грошамі, таварамі, рэчамі) у агульнагарадскую скарбніцу, выконваў патрэбную гораду бясплатную працу. Магістрат у сваю чаргу абяцаў, што яму і яго нашчадкам дазваляецца карыстацца ўсімі гарадскімі правамі і прывілеямі, што іншы раз запісвалася ў гарадскія дакументы. У выпадку, калі новы гарад-

[313] Гл., напрыклад, дакументы па канфлікту паміж «новай» і «старай» радамі ў Магілёве ў 1606—1610 гг. // Беларускі архіў. Мн., 1927. Т. 1. С. 85—86, 79—85, 305—310.

[314] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 8. Оп. 2. Д. 4461, л. 1.

[315] Там жа. Ф. 389. Д. 4, л. 47—48.

жанін уступаў таксама ў цэхавую арганізацыю рамеснікаў ці купцоў, на цырымоніі ў ратушы павінны былі прысутнічаць старэйшына цэха (цэхмістр) і старэйшыя майстры, перад якімі таксама прыносілася прысяга, рабіўся першы ўзнос у цэхавую касу[316].

Калектыўная адказнасць мяшчан абумоўлівала таксама іх сталае імкненне да ўдзелу ва ўсіх важных гарадскіх справах, што добра прасочваецца, напрыклад, у характары выбрання членаў магістрата-рады. У працэдуру выбрання членаў рады (у тым ліку войтаў з мяшчан) уваходзіла абавязковая прысяга на адданасць гораду і яго «даўнім звычаям і правам». Для стварэння дэмакратычнага характару выбараў на кожную пасаду ў радзе прапанавалася ад 2 да 4 кандыдатаў (паасобны «на радзецтва», «на войтаўства», «на ўрад бурмістскі» і інш.), якія высоўваліся выбаршчыкамі («электамі радзецкімі») ад «усяго пасольства» горада[317]. Выбар кандыдатур ажыццяўляўся жараб'ёўкай ці галасаваннем. Абавязковымі рысамі кожнага кандыдата павінны былі быць набожнасць, цвярозасць і справядлівасць. Членамі рады маглі быць толькі законнароджаныя, стала пражываючыя ў горадзе, заможныя мяшчане. Не выбіраліся ў раду чужаземцы, нехрысціяне, ліхвяры, беднякі і людзі, якія не мелі сталай аселасці ў горадзе, калекі і цяжка хворыя[318].

Найбольш істотным інструментам уздзеяння мяшчан на раду было вынясенне ёй вотуму недаверу, што абумоўлівала ўзнікненне канфліктаў, а таксама сістэматычнае перавыбранне членаў рады, пераважна бурмістраў, радцаў і лаўнікаў (войтаў — толькі калі яны былі з мяшчан)[319]. Войты са шляхты ці з зямян не выбіраліся, а прызначаліся вялікакняскай ці каралеўскай уладай незалежна ад сацыяльна-палітычнага становішча горада. Войты з мяшчан (былі пераважна ў гарадах усходніх раёнаў Беларусі і ў прыватнаўласніцкіх гарадах) мелі абмежаваныя саслоўныя правы і ажыццяўлялі кіраванне горадам сумесна са старцамі, старэйшымі, сотнікамі і іншымі «лучшымі мужамі» («вед же войты некоторых справ местских без сполне намовы с сотниками и иншыми мещаны головнейшыми... того места становит и одправовати не мают»)[320]. Калектыўнае кіраванне мяшчанамі сваім горадам (незалежна ад таго, меў ён магдэбургскія прывілеі ці не) адпавядала старажытным традыцыям самакіравання, вядомым у гарадах Беларусі (у Полацку, Віцебску і інш.) яшчэ з XIII—XIV стст. Сумяшчэнне старажытных традыцый гарадскога самакіравання з нормамі магдэбургскага права, таксама арыентаванымі на самакіраванне, прыводзіла да іх сінкрэтычнага ўзаемадзеяння, «ствараючы, — як адзначае З. Капыскі, — як бы сінтэз дзвюх формаў гарадскога ладу»[321]. Нават і пазней, у канцы XV — першай палове XVII ст., гэтыя абставіны абумоўлівалі існаванне пэўнага падабенства ў арганізацыі грамадскага жыцця розных па сваім сацыяльна-палітычным і юрыдычным становішчам гарадоў Беларусі, што адлюстроўвалася, напрыклад, у аднолькавай арганізацыі ўнутрыгарадскога грамадска-

[316] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 366—367.

[317] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1872. Т. VI. С. 27; Т. V. С. 374—375; Акты Западной России. Т. IV. С. 256.

[318] Дружчыц В. Магістрат у беларускіх месцах з майдэборскім правам у XV—XVII стст. // Працы кляса гісторыі. Мн., 1931. Т. III. С. 380—390.

[319] Вышэйшым органам улады ў горадзе ў час справаздачы старой рады і выбрання новай фармальна з'яўляўся агульны сход мяшчан. Гл.: Антонович В. Б. Исследование о городах Юго-Западного края // Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Киев, 1885. Т. I. С. 148—150.

[320] Акты Западной России. Т. III. С. 113.

[321] Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии. С. 91—92.

вытворчага ладу, накіраванага на рамесную і гандлёвую дзейнасць і звязанага з рамесніцкімі і купецкімі супольнасцямі мяшчан — цэхамі.

Звычаі і рытуалы цэхавых арганізацый рамеснікаў (брацтваў) мелі вытворча-бытавы характар і сумяшчалі рысы мясцовых традыцый і нормы заходнееўрапейскіх (пераважна нямецкіх) цэхавых рэгламентацый. Цэхі аб'ядноўвалі рамеснікаў living розных канфесіянальнай прыналежнасці і асабістага становішча[322] — незалежна ад таго, знаходзіліся яны ў падпарадкаванні радзе ці жылі ў прыватнаўласніцкіх юрыдыках. Цэхі арганізоўваліся па прынцыпу спецыялізацыі працы, але часта ўключалі і спецыялістаў розных сумежных і дапаможных рамёстваў[323].

У цэх меў права быць прыняты ўсякі рамеснік, што валодаў пэўнымі навыкамі працы і абяцаў падпарадкоўвацца цэхаваму статуту (вілкеру). Аддзяліцца ад цэха было даволі складана. Цэхмайстры і старэйшыя рамеснікі былі не зацікаўлены ў скарачэнні колькасці працоўных рук. Акрамя таго, цэхі імкнуліся да манапольнага права на вытворчасць пэўнай прадукцыі і варагавалі як з індывідуальнымі майстрамі («партачамі»), так і з канкурэнтнымі суполкамі рамеснікаў, што ўвогуле адыгрывала адмоўную ролю ў развіцці і пашырэнні рамеснай гарадской вытворчасці[324].

На чале цэхаў стаяў цэхмістр (стараста, старэйшына), які выбіраўся вузкай групай старэйшых цэхавых майстроў («старэйшых братоў») на сходцы. У адпаведным месцы для цэхавых сходак (наёмным ці прыналежным цэху доме, асобнай святліцы, ізбе цэхмістра) для гэтага збіраліся старэйшыя майстры, урачыста ўносіўся ларэц (куфэрак, скрынка), дзе захоўваліся статут і іншыя рэчы цэха. Майстры садзіліся кожны на сваё месца, адпаведна старшынству. У поўнай цішы і ў прызначаны час ларэц адчыняўся, усе паперы выкладаліся на стол і сходка пачыналася. Пры выбранні цэхмістра ўлічваліся яго ўзрост, годнасць і прафесійныя якасці, маёмаснае і асабістае юрыдычнае становішча. Вынікі галасавання за новага (ці старога цэхмістра) павінны былі быць аднадушнымі[325].

Падобным чынам, але ўжо ў больш шырокай аудыторыі, праходзіла працэдура выбрання ў цэхавыя майстры. Асноўнай умовай, што папярэднічала рытуалу выбрання ў майстры, было добра і якасна на працягу пэўнага тэрміну і ў прысутнасці двух-трох старэйшых майстроў «зробіць штуку», «шэдэўр». Пры неабходнасці дазвалялася дапамога падмайстроў і вучняў, але толькі на першых стадыях працы. Падмайстрам і вучням забаранялася бачыць гатовыя рэчы раней, чым старэйшым майстрам цэха на сходцы. Калі «штука» не задавальняла цэхавых майстроў, прэтэндэнту дазваля-

[322] У цэхавыя арганізацыі хрысціян забаранялася ўваходзіць яўрэям, якія мелі правы стварэння сваіх уласных цэхавых супольнасцей. Гл.: Бершадский С. А. Литовские евреи. СПб., 1883; Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильно, 1901. Т. XXVIII. С. XXIV—XXIX.

[323] Напрыклад, у адзін цэх маглі ўваходзіць ганчары, муляры, каменшчыкі, сталяры, дойліды і інш. Гл.: Беларускі архіў. Мн., 1930. Т. III. М. 98; Цэхавым рамеснікам забараняліся толькі тыя віды дзейнасці, што супярэчылі «чысціні» рамяства, напрыклад, ганчарам нельга было забіваць жывёлу, апрацоўваць скуру і гэтак далей. Гл.: Харитонович Д. Э. Средневековый мастер и его представление о вещи // Художественный язык средневековья. М., 1982. С. 33—35.

[324] Цэхавыя аб'яднанні, суполкі імкнуліся атрымаць ад дзяржаўнай улады прывілей, што дазваляў бы ім манапольную вытворчасць і продаж пэўнай прадукцыі, а таксама забараняў бы іншым рамеснікам ствараць ім канкурэнцыю пад пагрозай штрафу, канфіскацыі рэчаў працы, гандлёвай лаўкі на рынку і інш. Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 360.

[325] Беларускі архіў. Т. III. С. 56.

лася паспрабаваць яшчэ адзін-два разы[326]. У выніку няўдачы кандыдат у майстры станавіўся падмайстрам ці «ішоў у вандроўку»[327]. Сыны (часам і дочкі) цэхмайстраў і старэйшых майстраў пазбаўляліся ад выконвання «штукі», але павінны былі арганізаваць вячэру «згодна звычаю». Падмайстар, што ўступаў у шлюб з удавой ці дачкой майстра, рабіў часта толькі палову «шэдэўра» і вячэру для членаў цэха[328]. Прыхожы чалавек, які ўладкоўваўся ў цэху ў якасці падмайстра, мог стаць малодшым майстрам пасля года навучання рамяству ў майстра. Яму трэба было таксама прад'явіць сведчанне аб законнасці нараджэння[329] і прызнаць сваё падпарадкаванне агульнагарадскому (нават калі ён пражываў у прыватнаўладальніцкай юрыдыцы) праву.

Важную ролю ў грамадска-вытворчых звычаях, абрадах і рытуалах рамеснікаў выконвалі розныя сімвалы (скрынкі, харугві, ціхі і інш.). Так, цэхавая эмблема (ціха), іншы раз сцяг і каса ўрачыста перадаваліся ад аднаго старэйшага майстра другому на пэўны тэрмін, што адлюстроўвала калектыўную адказнасць цэхавой вярхушкі, іх супольнасць і агульны давер. Прымаючы скрыню да сабе, кожны рамеснік павінен быў «даць вячэру сціплую, аднак без крыўды для брацііі»[330].

Скрыня (куфар) абавязкова выстаўлялася на пасяджэннях і сходах членаў цэха, што адбывалася, паводле звычаю, адзін-два разы на месяц. Пры адкрытай скрыні нельга было моцна гаварыць, сварыцца, біцца, сядаць за стол са зброяй. Забаранялася прыходзіць на сход п'яным, дрэнна апранутым, босым. Той, хто не выконваў гэтыя правілы, караўся штрафам на карысць цэха.

На сходках вырашаліся розныя пытанні вытворчасці і быту, выбіраліся майстры, ключнікі, скарбнікі і інш. Тое, што адбывалася на сходах, забаранялася разносіць пад пагрозай штрафу[331]. Паведамлялі аб дні і часе сходкі малодшыя члены цэха, якія хадзілі па хатах рамеснікаў з цэхавай эмблемай (ціхай)[332]. Кожны рамеснік павінен быў выказаць сваю павагу да ціхі (гэта значыць, і да цэха) і пацалаваць яе, што азначала таксама згоду быць на сходзе. У выпадках, калі ён затрымліваў ціху ў сябе на некаторы час, то ставіў яе ў чырвоны кут хаты, упрыгожваў, потым адносіў сам (ці праз вучня, падмайстра) наступнаму ра-

[326] Няўдачлівы рамеснік павінен быў унесці ў цэхавую касу пэўныя грошы, а ў выпадку, калі ён заставаўся ў цэху як падмайстар, — арганізаваць вячэру праз пэўны тэрмін.

[327] Выпрабаванне вандроўкай мела мэтай павышэнне майстэрства шляхам дадатковага навучання ў майстроў іншых гарадоў, а таксама доўгай практыкай па-за сваім горадам (калі цэх не нёс адказнасці за якасць прадукцыі). Вандроўка падмайстраў была ў некаторых цэхах абавязковай, калі без яе нельга было стаць майстрам, напрыклад: «не только цехмистрами, але а ни майстрами в цеху не мають быти, бо сами ведровки не отправавали...» Гл.: Историко-юридические материалы. Вильно, 1878. Т. IX. С. 413.

[328] Беларускі архіў. Т. III. С. 50.

[329] Дакументы аб нараджэнні даваліся ў магістратах у выглядзе ліста, дзе было засведчана, што даны жыхар горада нарадзіўся «ад сумленных бацькоў, злучоных царкоўным шлюбам». Факт нараджэння маглі таксама пацвердзіць некалькі сведкаў — «добрых мужоў», якія ў ратушы пад прысягай сведчылі аб законным шлюбе бацькоў дадзенага чалавека і яго нараджэнні. Да дакумента прыкладалася гарадская пячатка. Гл., напрыклад: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 368—369.

[330] Беларускі архіў. Т. III. С. 53; У некаторых цэхах па традыцыі скрыня перадавалася толькі цэхавым старэйшынам. Гл.: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 359; Перадача скрыні ажыццяўлялася звычайна на навагодняй сходцы — пасля выбрання новага магістрату. Гл.: Владимирский-Буданов М. Німецько право в Польщі і Литві // Розвідки про міста і міщанство на Україні—Русі в XV—XVIII вв. Львів, 1904. С. II. С. 487.

[331] Беларускі архіў. Т. III. С. 54—55.

[332] На ціхе была выява галоўнага сімвалу цэха (якая-небудзь прадукцыя ці рамесны інструмент), напрыклад: у шаўцоў — бот, у кушняроў — нож ці нажніцы і інш. Гл.: Сумцов Н. Ф. Культурные переживания. Киев, 1890. С. 487.

месніку. З'явіўшыся на сход, кожны рамеснік даваў невялікую колькасць грошай на патрэбы цэха і займаў сваё пэўнае месца за сталом. Адсутнасць на сходзе рамесніка без важнай прычыны каралася штрафам на карысць цэха[333].

Пэўныя звычаі існавалі ў цэхавых аб'яднаннях і ў адносінах да вучняў («хлапцоў», «учней»). Прымаючы да сябе на вучобу і працу вучня, майстар павінен быў «водлуг звычая» пазнаёміць яго з усёю братвою і запісаць у цэхавы рэестр. Вывучэнне за грошы ў многіх цэхах забаранялася, аднак вучань рабіў у цэхавую касу пэўны першапачатковы ўзнос («вкупнае»)[334]. Час навучання і ўзрост вучня вызначаўся ў залежнасці ад складанасці рамяства і яго спецыфікі. Цэхавыя статуты забаранялі пераход вучняў ад аднаго майстра да другога без згоды цэха (нават і пасля смерці майстра). Пераход рэгламентаваўся цэхам і суправаджаўся пэўнымі рэкамендацыямі, пры адсутнасці якіх (а таксама, калі папярэдні майстар не быў членам цэха) вучань праходзіў адукацыю нанова. Самастойнае пакіданне вучнямі і падмайстрамі сваіх цэхаў без адпаведнай справаздачы забаранялася і каралася (па скаргах ад цэхаў) магістратамі. Цэхавыя суполкі былі зацікаўлены ў наяўнасці значнай колькасці бясплатных і бяспраўных работнікаў.

З гэтай жа мэтай цэхавыя старэйшыны імкнуліся атрымаць ад улад такія прывілеі, што забаранялі бы рамеснікам апеліраваць да гарадской рады і скардзіцца на цэхавую вярхушку. Усе спрэчныя справы павінны былі вырашацца толькі на цэхавых сходках, дзе ролю галоўнага суддзі іграў цэхмістр. У той жа час, цэхавыя старэйшыны імкнуліся атрымаць пасады ў радах, што давала ім магчымасць выкарыстоўваць гэты орган гарадскога самакіравання для вырашэння канфліктаў унутры цэхавых адзінак[335].

Шмат у чым падобныя ўнутры- і міжцэхавыя адносіны існавалі і ў межах купецкіх брацтваў беларускіх гарадоў эпохі феадалізму. Гістарычных крыніц па арганізацыі і дзейнасці купецкіх брацтваў у Беларусі ў канцы XIV — першай палове XVI ст., на жаль, вядома мала (асноўная рэпрэзентатыўная група пісьмовых матэрыялаў адносіцца да другой паловы XVI — XVII ст.).

У перыяд з канца XV па першую палову XVII ст. купцамі лічыліся толькі людзі, што ездзілі прадаваць і купляць тавары больш чым за 10 міль ад свайго горада. Рамеснікі, што займаліся гандлем, «прасолы», перакупшчыкі і іншыя купцамі, як правіла, не прызнаваліся і ў купецкія таварыствы не ўваходзілі. Апошнія арганізоўваліся, як адзначаюць статуты, «з мэтай прадухілення шкоды для гандлю, захоўвання грамадскага дабрабыту і для квітнення гораду»[336]. Купецкія брацтвы, таксама як і рамесныя, імкнуліся да манаполіі ў межах свайго горада і падуладнай яму перыферыі. На фармальным узроўні гэта абгрунтоўвалася фармуліроўкай, што той купец, які карыстаецца ўсімі прывілеямі, атрыманымі горадам ад урада, але купецкіх падаткаў не

---

[333] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 297, 298, 300, 301.

[334] Вучні не атрымлівалі грошы за сваю працу ў майстра, але знаходзіліся ў яго на забеспячэнні і жылі ў яго хаце; падмайстрам плацілі невялікія грошы «з капы» ці «з мыта».

[335] Беларускі архіў. Т. III. С. 161; Акты Виленской археографической комиссии... Т. VI. С. 268—269, 294; Историко-юридические материалы. Витебск, 1878. Т. IX. С. 232; Там жа. Витебск, 1888. Т. XVIII. С. 483.

[336] Купецкія супольнасці цэхавога тыпу пачалі актыўна ўзнікаць у Беларусі ў XV—XVI ст. (у залежнасці ад атрымання гарадамі і мястэчкамі магдэбургскага права), аднак усякага роду гандлёвыя таварыствы былі вядомы і раней, і асабліва ў буйных гарадах: Полацку, Віцебску, Гародні, Бярэсці, Менску, Навагародку і інш. Гандлем займаліся розныя групы гарадскога насельніцтва, у тым ліку часам і баяры. Шляхце самой гандляваць забаранялася. Гл.: Пичета В. И. Белоруссия и Литва в XV—XVI вв. М., 1961.

дае і для горада нічога не робіць, павінен увайсці ў цэхавае аб'яднанне купцоў ці не займацца гандлем.

Члены купецкіх таварыстваў прыносілі прысягу на вернасць гораду і свайму цэху, складалі агульную касу ўзаемадапамогі, рэестр, атрымоўвалі сваю пячатку, харугву, наймалі ці куплялі брацкі дом для сходак, мелі на ўтрыманні адзін ці некалькі культавых будынкаў[337].

На сходках купцоў вырашаліся пытанні парадку і правіл гандлю, размежавання сфер дзейнасці, барацьбы з канкурэнтамі, разглядаліся спрэчныя справы, выбіраліся старэйшыя і малодшыя, розныя пасадныя чыны. Найбольш важныя вынікі сходаў перадаваліся ў раду для «ўпісання ў кнігі радскія». Іерархічная структура купецкіх брацтваў, выбранне старэйшыны і іншыя рытуалы шмат у чым нагадвалі рамесныя грамадска-вытворчыя супольнасці. Адносіны да іх з боку розных прадстаўнікоў магістрацкай улады таксама былі шмат у чым падобнымі.

За тым, як гарадскія купцы вядуць свае гандлёвыя справы, наглядалі радскія інстыгатары, дзейнасць якіх была прадугледжана магдэбургскім правам. Яны разглядалі скаргі на купцоў, кантралявалі характар гандлёвых аперацый, правяралі купецкія і агульнагарадскія вагі, бязмены, якасць тавараў і інш. Спрэчныя пытанні, якія інстыгатар не мог вырашаць на сходах купцоў, выносіліся на разгляд у раду (за парушэнне сваіх абавязкаў інстыгатары пазбаўляліся сваіх мяшчанскіх правоў ці нават выганяліся з горада).

У вучні да купцоў прымаліся хлопцы з 15 гадоў і старэй. Тэрмін іх навучання складаў ад 2—3 да 5 гадоў, пасля чаго яны павінны былі служыць «на жалаванні» ў купцоў яшчэ некалькі гадоў у якасці прыказчыкаў ці прадаўцоў. Вучнем мог стаць той, хто пацвярджаў законнасць свайго нараджэння, быў асабіста свабодным і меў некалькі паручыцеляў «на выпадак прынясення страты» купцу. Вучнёўства рэдка практыкавалася ў адносінах да купецкіх сыноў, якія трымалі ў спадчыну бацькоўскую справу.

Рэгламентаваліся ў купецкім асяроддзі і некаторыя бакі грамадскага побыту, напрыклад, некаторыя правілы ў адносінах да адзення. Вучням не дазвалялася насіць адзенне з «мараўскага сукна», слугам і прыказчыкам —з «люндышу». Забаранялася адзенне на шоўкавай падкладцы, а зімой — футры з ліс. Вучні, слугі і прыказчыкі павінны былі насіць адзенне на «кіравай падшыўцы» ці з «галадоўскага сукна», зімой — смушкі з воўчага футра[338], а замест шапак сабаліных і чорнабурых лісіц — шапкі з куніцы і ліс. У выпадках парушэння гэтых правіл адзенне канфіскавалася на карысць гарадской радскай ці купецкай касы[339].

Як у купцоў, так і ў рамеснікаў існавалі звычаі, што прадугледжвалі супольнае выкананне грамадзянскіх і рэлігійных абрадаў і рытуалаў. Незалежна ад рэлігійнай прыналежнасці, усе члены цэха павінны былі прымаць удзел у пахаванні нябожчыкаў, у рэлігійных святах, хросных ходах з брацкімі свечкамі ў вялікую пятніцу, велікодную суботу і нядзелю. Агульнымі для цэхавых суполак былі і абавязкі па ахове горада ноччу (вахта са зброяй пры брамах і каля магістрату), фурманная і іншыя падаці (на рамонт гарадскіх вуліц, ратушы, рынка, цэнтральнага гарадскога замка ці крэпасці). Брацтвы часта мелі на ўтрыманні культавыя пабудовы (царква ці касцёл),

[337] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. І. С. 337—338 (1636 г.); Параўн.: Акты Западной России. Т. I. С. 41 (1423 г.).

[338] «Люндыш» — імпартнае (галандскае ці англійскае) сукно; «кір» і «галадоўскае сукно» — грубае, тоўстае сукно; «смушка» — кароткая шуба, кажух ці плашч.

[339] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. І. С. 342—349 і інш.

наймалі святароў для служб, давалі грошы на свечкі і іншыя культавыя рэчы. На гарадскія святы павінны былі выходзіць усе члены цэха пад асабістай харугвай ці сцягам, з барабаншчыкам, у добрым адзенні, а найбольш заможныя старшыні і майстры — на конях[340].

Увогуле трэба адзначыць, што цэхавыя аб'яднанні, якія былі тыповым параджэннем феадальнага спосабу вытворчасці, садзейнічалі складанню адпаведных грамадска-бытавых адносін. Нягледзячы на наяўнасць у гаспадарчай дзейнасці цэхаў пэўных элементаў эфектыўнай вытворчасці (падзел працы, частковае выкарыстанне наёмнай працы, праца на рынак і інш.), цэхавыя арганізацыі замаруджвалі яе развіццё. Атрымаўшы манапольнае права на вытворчасць тавараў і іх рэалізацыю, забараняючы ўсякую канкурэнтную дзейнасць (нават індывідуальную працу на асобны заказ), цэхі мелі магчымасць жорстка рэгламентаваць колькасць прадукцыі і яе рыначную вартасць, што стрымлівала развіццё таварна-грашовых адносін. У той жа час цэхавыя брацтвы садзейнічалі ўмацаванню феадальнай эканомікі гарадоў, развіццю рамёстваў і парушэнню натуральнага тавараабмену раннефеадальнага часу, што ў цэлым абумоўлівала працэс складання ў феадальным грамадстве трэцяга саслоўя — мяшчанства — і адносна новых на той час грамадскіх і бытавых адносін. Першапачатковая стадыя актыўнага функцыянавання гэтых працэсаў на Беларусі прыпадае на канец XV — першую палову XVII ст. і добра звязваецца з агульнаеўрапейскімі тэндэнцыямі сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця тых часоў.

Калектыўныя формы вытворчага і грамадскага быту, агульныя прывілеі і прававая адказнасць мяшчанства за гарадскія справы знайшлі цікавае адлюстраванне на павышэнні ўзроўню гуманізацыі міжчалавечых адносін, на маральна-этычных уяўленнях аб дабрачыннасці, дабрадзействе, прыстойнасці і дапамозе людзям. Гэтаму садзейнічала самае шырокае панаванне нормаў хрысціянскага дабрадзейства, што было звязана, з аднаго боку, з паступовай клерыкалізацыяй грамадскага і прыватнага жыцця, а з другога — з фарміраваннем і распаўсюджаннем агульнаеўрапейскіх прынцыпаў адраджэння і гуманізму[341]. У той жа час, працягвалі існаваць народныя традыцыі калектывізму і ўзаемадапамогі, што былі адваротным адлюстраваннем феадальных адносін і права, якія не гарантавалі простаму люду бяспеку існавання, ахову жыцця, здароўя і маёмасці. Людзі гуртаваліся, каб супрацьстаяць ліху, дапамагалі адзін другому ў няшчасці. Філантропія з боку феадалаў і мяшчан з высокім маёмасным цэнзам станавілася модай і падтрымлівалася царквою.

На перыяд канца XV — першай паловы XVII ст. прыпадае першапачатковы этап распаўсюджання ў гарадах Беларусі шпіталяў, пансіянатаў, начлежак, прытулкаў для бедных, жабракоў, хворых і бяздомных усякага саслоўя, узросту і полу. Ствараліся шпіталі за кошт асобных багатых феадалаў, цэхавых і рэлігійных брацтваў, магістратаў, каталіцкіх манаскіх ордэнаў галоўным чынам у буйных гарадах Беларусі (Полацку, Віцебску, Гародні, Менску, Слуцку, Бярэсці, Навагародку, пазней у Пінску, Магілёве, Шклове, Мазыры і інш.) і пры многіх манастырах[342]. Для хворых і старых у шпіталі наймаўся лекар (цырульнік, фельчар, баль-

---

[340] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. I. С. 298—302, 350, 358, 359; Беларускі архіў. Т. III. № 47.

[341] Скарына і яго эпоха. Мн., 1990. С. 106—107.

[342] Па разліках В. П. Грыцкевіча, увогуле ў Беларусі XVI—XVIII стст. існавала каля 350 шпіталяў. Гл.: Грицкевич В. П. С факелом Гиппократа. Из истории белорусской медицины. Мн., 1987. С. 56—58.

вер). Сталыя і часовыя жыхары шпіталяў і прытулкаў атрымлівалі там догляд і прыстанішча, а той, хто мог — выконваў працу па абслугоўванні астатніх. Для гэтага шпіталям часта даваліся ў карыстанне ўчасткі раллёвай зямлі, гароды, сенажаці, пякарні, а часам нават і цэлыя вёскі. Шпіталямі іншы раз наймаліся і гараджане, якія забяспечвалі адзеннем, абуткам, рамантавалі будынак і інш.[343] Часта каля брамы шпіталя вывешвалася «скрынка ялмужная» (для міласціны), якая іншы раз была амаль што асноўным сродкам для існавання дабрачыннай установы. Здольныя перамяшчацца жыхары шпіталяў займаліся таксама жабрацтвам і прасілі міласціну «дзеля пана Бога». Колькасць людзей, што знаходзіліся на ўтрыманні ў шпіталях, таксама як і жабракоў, бяздомных (люзных, гультаёў, убогіх) і іншых, «которыи домов своих не мають и не нанялись на год», была ўвогуле да сярэдзіны XVI ст. у гарадах Беларусі адносна невялікай (у параўнанні з наступнымі перыядамі)[344].

Органы кіравання прыватнаўласніцкіх гарадоў, магістраты, дзяржаўцы для кантролю за дзейнасцю і колькасцю людзей, што займаліся жабрацтвам, назначалі спецыяльных наглядальнікаў («стараст калецкіх»). У абавязкі апошніх уваходзілі фіскальныя мэты, фіксаванне месца жыхарства і «працы» жабракоў, папярэджанне беспарадкаў і злачынстваў, паведамленне гарадскіх улад аб з'яўленні ў горадзе новых жабракоў, іх «роспыт», упісанне ў спецыяльны «рэестр калецкі» і ўладкаванне на жыхарства ў шпіталі ці ў прыватныя хаты, а таксама невялікае пакаранне за парушэнне гарадскога спакою. Жабракоў не прымалі ў горад толькі ў выпадку іх сур'ёзнай хваробы («...если бы который прихожий убогий, чого боже уховай, моровым поветрием заражен был, або яки тронд (праказу) и трутизну (інфекцыя) собе мел, а других бы людей таковым злым нездоровем своим заражал, тоды таковоro прымовати не мают и неповинни будут...»)[345].

Жабрацтва было ў эпоху феадалізму не толькі сродкам існавання найбольш гаротнай і абяздоленай часткі насельніцтва, але і спосабам здабычы дадатковых сродкаў існавання для здаровых і маладых людзей. Дакументы адзначаюць адмоўныя адносіны гарадскіх улад да жабрацтва сярод працаздольных частак гарадскога насельніцтва («... и молодики, жонки, дети меские и иншие, дорослые и недорослые, выростки и девки, не маючы в собе жадное хоробы а ни уломности... удались непотребне в убоство»)[346]. Адзначаюцца ў гістарычных крыніцах і выпадкі, калі сям'я адпраўляла за дадатковым заработкам жабраваць сваіх малых дзяцей («а иншые, будучи здоровы, для встыду не выходечы з дому на месцо, сами детей своих здоровых, сиротами называючы, посылают...»)[347].

У часы эпідэмій, неўраджаеў і іншых няшчасцяў колькасць жабракоў перыя-

[343] Литовская метрика. Книга судебных дел // Русская историческая библиотека. Т. XX. СПб., 1903. С. 542 (1507); Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVII. С. 291 (1540).

[344] Згодна даследаванняў гісторыкаў, колькасць жабракоў, люзных, убогіх і іншых у гарадах Беларусі перыядычна вагалася — у залежнасці ад войнаў, мораў, неўраджаеў і гэтак далей, але ўжо ў другой палове XVI — XVII ст. яны пачалі складаць да 1/3 насельніцтва гарадоў Беларусі. Гл.: Похилевич Д. Л. Люзные давней Речи Посполитой // Тезисы докладов и сообщений на 5 сессии симпозиума по аграрной истории Восточной Европы. Мн., 1962. С. 53—55; Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии. С. 59; Акрамя прадстаўнікоў гарадской улады, за жыхарамі шпіталяў і іншых пансіянатаў наглядалі выбраныя з іх асяроддзя старэйшыны, якія вялі ўсе важныя справы і перыядычна давалі справаздачу апекунам аб становішчы дабрачыннай установы, расходах, выдатках, колькасці пражываючых і інш.

[345] Историко-юридические материалы. Витебск, 1897. Т. VIII. С. 369.

[346] Там жа. С. 368.

[347] Там жа.

дычна павялічвалася, і гарадскія рады павінны былі прымаць рашэнні адносна беспарадкаў, што ўзнікалі сярод абяздоленага насельніцтва («...один другому з рук убогого ялмужную вырываючы, збытки чинят...»)[348]. Але ўвогуле гарадскія ўлады імкнуліся кантраляваць колькасць людзей, што займаліся жабрацтвам і рознымі шляхамі стрымліваць іх катастрафічную канцэнтрацыю. Калі гэта не атрымлівалася і гараджане самі знаходзіліся ў дрэнным становішчы, ажыццяўляліся адваротныя міграцыі. Людзі падаваліся ў сельскую мясцовасць, у суседнія раёны, за межы Беларусі, дзе на пэўны час можна было забяспечыць сабе мінімальныя ўмовы існавання («...много множества людей убогих з голоду на Низ ушло з жонами и детками и з семею, што их страшно было не толко видети, але и трудно было и выписати...»)[349].

Добрыя адносіны былі характэрны ў той час да вандроўнікаў наогул. Вандраванне часта было спалучана са значнай небяспекай, грабёжніцтвам, злодзействам, з рознымі выдаткамі. Таму, як сведчаць гістарычныя матэрыялы, «ялмужныя» для вандруючых манахаў («палгрымов»), салдатаў («жовнеров»), студэнтаў, рамеснікаў, шляхты і рыцараў вельмі часта практыкаваліся цэрквамі і манастырамі, рэлігійнымі брацтвамі, прыватнымі асобамі. Часцей за ўсё гэта былі ахвяраванні-міласціны грошамі і ежай, што, аднак, не выключала бясплатнага кармлення, дазволу пераначаваць і інш.[350] Некаторыя дакументы адзначаюць цікавую рысу, што «ялмужную» вандроўніку часта давалі «за расказанне»[351].

Як адзначае В. П. Грыцкевіч, «народная дабрачыннасць у сярэднія вякі ўвабрала векавы вопыт селяніна і гараджаніна і была перш за ўсё абумоўлена сацыяльнымі фактарамі і самімі жыццёвымі акалічнасцямі... Вось чаму нават самы незаможны гаспадар даваў прыстанішча і дзяліў свае ўбогія стравы з абяздоленым. Не было свята, на якім жабракам не было бы месца за сталом. Суправаджаліся раздачай міласціны таксама памінкі і хрэсьбіны»[352].

Абавязковае даванне міласціны жабракам, грошай на прытулкі для «хоромых и убогих» было характэрна і для завяшчанняў багатых гараджан, дзе адзначалася, што гэтым яны жадаюць «выратаваць сваю душу» і гэтак далей. Аднак добрыя адносіны да няшчасных людзей былі ў эпоху феадалізму неабавязковымі і часта чаргаваліся з жорсткім да іх абыходжаннем з боку заможных і правааздольных магнатаў, шляхты, мяшчан і інш. У дакументах таго часу сустракаюцца скаргі пакрыўджаных мяшчан і шляхты, дзе дрэнныя адносіны да іх параўноўваюцца з адносінамі да бяспраўных частак насельніцтва: убогіх, люзных, жабракоў і іншых («схапіў яго як якога-та чалавека люзнага... за горла, давіў, душыў...», «...як з люзнай жанчынай... гультяйкай... абыходзіўся... ледзь косці не паламаў і душу не выбіў»)[353]. Бяспраўнае становішча гарадскога плебса часта абумоўлівала яго згуртаванне ў свае спецыфічныя жабрацкія брацтвы, «цэхі уломных» і інш., якія мелі свае правілы ўзаемаадносін, касу ўзаемадапамогі, а пазней — нават і ўставы з прывілеямі[354]. Жабрацкія суполкі абаранялі як маглі сваіх членаў ад самавольства іншых груп

[348] Там жа. Т. VIII. С. 368.

[349] Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 188.

[350] Историко-юридические материалы. Витебск, 1871. Т. I. С. 29, 33, 100, 126.

[351] Там жа. Витебск, 1881. Т. XII. С. 13.

[352] Грицкевич В. П. С факелом Гиппократа. С. 55.

[353] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. VI. С. 431.

[354] Напрыклад, «цэх уломных» у Магілёве атрымаў у 1639 г. «Прывілей караля Рэчы Паспалітай», дзе ўзаконьвалася яго дзейнасць і існаванне.

гарадскога насельніцтва. Гэтыя ж функцыі ўскладаліся і на спецыяльныя гарадскія пасады «стараст калецкіх», на якія назначалі ці выбіралі «добрых мужов» і «в житю их добре заховалых».

Палітычная барацьба ў гарадах Беларусі *ў эпоху феадалізму, значная* саслоўна-маёмасная дыферэнцыяцыя насельніцтва, міжэтнічныя, рэлігійныя і іншыя супярэчнасці гарадскога побыту абумоўлівалі адносна частае парушэнне законаў і сацыяльных нормаў, што адпаведна адбівалася на розных мерах пакарання. Найбольш цяжкім пакараннем было «каранне на горла», «на жывот», якое накладалася пераважна на сур'ёзных злачынцаў, злодзеяў, грабежнікаў і забойцаў. Аднак насільнае забойства не ўсякага чалавека абумоўлівала смяротную кару вінаватага. Смерцю караліся «людзі стану простага» за забойства ці спробу забойства шляхціча, баярына, войта, духоўных асоб, членаў магістрату-рады[355]. За нанясенне цялеснага псавання ім з боку простых гараджан апошнія караліся яшчэ адсячэннем рукі («утятьем руки»). Смяротная кара чакала таксама чарадзеяў і ведзьмакоў, прычым для паўнаты складу злачынства дастаткова было сведкам абвінаваціць ведзьмака ў тым, што ён садзейнічаў з'яўленню цяжкіх хвароб, давядзенню да галечы гараджан, падзяжу жывёлы і іншых няшчасцяў. У гэтых выпадках над вінаватым праводзіліся пыткі (вадой, агнём і інш.), а калі знаходзіліся і іншыя факты чарадзейства, яго чакала смяротная кара[356]. Аднак у XIV — першай палове XVII ст. пакаранне смерцю было ў Вялікім княстве Літоўскім справай яшчэ не вельмі частай. Сярод іншых відаў пакарання людзей былі распаўсюджаны штрафы («віна», «навязка»), заключэнне ў астрог[357], лупцоўкі, публічнае адмаўленне ад сваіх слоў і просьба прабачэння. Апошняе адносілася да ілжэсведкаў, нагаворшчыкаў, паклёпнікаў, якіх у выпадках рэцыдыву каралі ўжо грашовымі штрафамі ці стаяннем у «куне» *(жалезным ашыйніку) каля сцяны ратушы*, на рынку, каля брамы. Даволі часта ўжывалася і было папулярным публічнае пакаранне бізунамі, розгамі, пастромкамі за п'янства, азартныя ігры ў карты ці косці, бойкі і скандалы ў грамадскіх месцах. Аднак трэба заўважыць, што каранні за гэтыя ўчынкі практыкаваліся ў выпадках рэцыдываў. На першы-другі раз чалавеку яго правіннасць даравалася, калі ён абяцаў публічна «не пити... в карты не играти... по корчмах не ходити и не латровати...»[358]

За правіннасці супраць царквы і рэлігіі адным з відаў пакарання было «вылежванне крыжам» у час абедні ў адной ці ў некалькіх цэрквах (касцёлах) горада. Своеасаблівай формай пакарання было таксама выгнанне («баніцыя», «вываланне»), якое практыкавалася ў адносінах да людзей розных саслоўяў і рознага сацыяльна-маёмаснага становішча. У выгнанне адпраўлялі ілжэсведкаў, бунтароў, даўжнікоў, магчымых (але недаказаных) забойцаў, палітычных праціўнікаў, рэлігійных дысідэнтаў і інш. Выгнанне вызначалася на пэўны тэрмін ці на вечнасць. Выгнаннікі пазбаўляліся ўсіх сваіх сацыяльных і саслоўных прывілеяў, маёмасці і права вяртання на радзіму. За забойства выгнанніка, як адзначана ў Статуце 1566 г., «нихто головшины не будет повинен платити»[359]. Выгнаныя з горада

---

[355] Центральный Государственный архив древних актов. Ф. 389. Д. 100, л. 499—500.

[356] Археографический сборник документов. Т. I. С. 338—340.

[357] Спецыяльна збудаваных стацыянарных астрогаў у XV—XVII стст. у Беларусі яшчэ не было, а ўсякага роду ізалятары для вінаватых рабіліся ў замках, крэпасцях, манастырах, ратушах і інш.

[358] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 517, вып. 1, л. 35. С. 3.

[359] Статут Великого княжества Литовского 1566 г. Арт. 83.

людзі не мелі нават права набліжацца да яго за 30 міль[360]. У выпадку тайнага вяртання выгнанніка на радзіму яго маглі пакараць смерцю ці публічна біць бізунамі і зноў выгнаць. Суграмадзянін, што схаваў выгнанніка, мог быць таксама пакараны выгнаннем.

Многія з пакаранняў, што існавалі ў адносінах да простых саслоўяў, не практыкаваліся для магнатаў, шляхты, баяраў, зямян і іншых прывілеяваных саслоўных груп феадальнага грамадства. Асабліва цяжкія злачынствы іх разглядаліся на спецыяльных сесіях Трыбуналу Вялікага княства, у павятовых гарадскіх судах, на сеймах шляхты і інш. Сярод галоўных пакаранняў для феадалаў найбольш характэрнымі былі просьбы-прабачэнні, пакаянні, штрафы-кампенсацыі, рэдка — заключэнне на некаторы тэрмін у астрог, лупцоўка бізунамі[361], выгнанне і вельмі рэдка — смерць. Дзяржаўнае феадальнае права абараняла пераважна «свой» пануючы клас, іх правы і маёмасць[362].

[360] Магістраты ў гэтых выпадках прасілі «іх міласцей землеўласнікаў, вясковых старцаў і інш. з бліжэйшага сельскага наваколля не хаваць у сябе выгнанцаў». Гл.: Историко-юридические материалы. Т. VIII. С. 307—309.

[361] Лупцаваць шляхціча маглі выключна з дазволу яго патрона-магната, што рабілася яшчэ і з пэўнымі правіламі, напрыклад, абавязкова на дыване, падсцілцы, але не на сырой зямлі, «яко кхмета» (у іншых выпадках пакрыўджаны шляхціч мог патрабаваць сатысфакцыі за парушэнне шляхецкага гонару).

[362] Гл.: Старостина И. П. Некоторые особенности развития права восточно-славянских земель в Великом княжестве Литовском // Россия, Польша и Причерноморье в XV—XVIII вв. М., 1979. С. 118—131; Юхо Я. А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. С. 175—198.

Увогуле грамадскае жыццё насельніцтва Беларусі XIV — першай паловы XVII ст. характарызавалася тыповымі для феадалізму рысамі, калі становішча чалавека вызначалася перш за ўсё яго прыналежнасцю да пэўнага класа, саслоўяў, стану, узроўнем яго маёмаснага цэнзу. Пануючае грамадскае становішча феадалаў было ўмацавана дзяржаўным правам, якое, у той жа час, не давала поўных сацыяльных гарантый людзям простых саслоўяў і асабліва самаму шматлікаму класу — сялянству. Гэта абумоўлівала існаванне ў асяроддзі апошніх уласных традыцыйных нормаў паводзін і адносін, якія феадальная дзяржава таксама імкнулася падпарадкаваць.

Пэўная гуманізацыя жыцця, распаўсюджанне хрысціянскай маралі, агульначалавечай любові і традыцыйная дабрачыннасць арганічна спалучаліся ў той час з жорсткімі адносінамі і заўсёдашняй пагрозай жыцця. Для існавання ў такіх тыповых для ўсяго еўрапейскага феадалізму ўмовах людзі аб'ядноўваліся ў «свае» суполкі, у межах якіх можна было існаваць толькі разам, падтрымліваючы адзін другога. Грамадства, падзеленае на асобныя абшчыны і абшчынкі, кожная з якіх імкнулася дамагчыся асаблівых правоў, прывілеяў і кантраляваць сваіх членаў, не было аднародным, а характарызавалася вялікай стракатасцю норм сацыяльнага быту, што знайшлі адлюстраванне ў характары і формах грамадскай свядомасці, а таксама ў матэрыяльнай і духоўнай культуры насельніцтва.

## МАТЭРЫЯЛЬНАЯ І ДУХОЎНАЯ КУЛЬТУРА

Культура насельніцтва Беларусі ў XIV — першай палове XVII ст. мела шмат асаблівасцей, якія, з аднаго боку, узыходзілі да папярэдніх часоў жыцця народу, а з другога — толькі пачалі з'яўляцца і на працягу XVI ст. паступова ўсталяваліся ў якасці традыцыйных. Найбольш відавочна гэтыя асаблі-

васці адлюстраваліся ў сферы прафесійнай культуры, якая з канца XV — першай паловы XVI ст. пачала сцвярджацца і развівацца ў якасці самастойнай галіны культурнай дзейнасці насельніцтва. Гэта знайшло адлюстраванне ў станаўленні і актывізацыі цэхавай вытворчасці, мастацкай дзейнасці, звязанай з архітэктурай, жывапісам, скульптурай, музыкай, прыкладным мастацтвам, літаратурнай творчасцю, летапісаннем, з першымі спробамі кнігадрукавання на блізкай і зразумелай народу мове.

Да гэтага часу адносіцца і першапачатковы этап актыўнага пранікнення ў культуру Беларусі агульнаеўрапейскіх тэндэнцый культурнага развіцця, якія распаўсюджваліся ў межах розных саслоўных груп грамадства не толькі праз дзеячаў іншаэтнічнага паходжання, але і ў значнай ступені праз мясцовых ураджэнцаў, што вучыліся і атрымалі высокую на той час адукацыю ў цэнтральна- і заходнееўрапейскіх універсітэтах і іншых навучальных установах. Успрыняцце выхадцамі з Беларусі (таксама з Літвы і Украіны) еўрапейскіх тэндэнцый грамадскага развіцця садзейнічала пашырэнню ў Вялікім княстве Літоўскім ідэй гуманізму, шырокай адукаванасці і прынцыпаў Адраджэння.

У той жа час, у культуры Беларусі працягваюць сваё далейшае развіццё традыцыйныя, узятыя ў спадчыну яшчэ са старажытнарускага перыяду агульнаўсходнеславянскія і рэлігійныя элементы і з'явы культурнага жыцця. Узаемадзеянне ўсіх гэтых частак культуры ажыццяўлялася праз саслоўна-класавыя адносіны да культурных каштоўнасцей, праз розную ступень іх спажывання і развіцця, што абумоўлівала значную дыферэнцыяванасць культуры пануючых саслоўяў і простага люду (пры наяўнасці разнастайных прамежкавых формаў).

Традыцыйныя формы культуры найбольш моцна захоўваліся ў побыце і гаспадарча-вытворчай дзейнасці сялян, аднак і ў іх асяроддзі паступова, пачынаючы з канца XV — першай паловы XVI ст., пачынаюць узнікаць і распаўсюджвацца новыя з'явы, завязаныя з палітыкай аграрных пераўтварэнняў таго часу, з экс- і інтэнсіфікацыяй выкарыстання зямлі і сялянскай працы.

У другой палове XV — першай палове XVI ст. у афіцыйных дакументах Вялікага княства Літоўскага пачынаюць з'яўляцца даволі падрабязныя характарыстыкі ворыўных і іншых зямель, што належалі розным дзяржаўным, а часам і прыватнаўласніцкім гаспадаркам. Параўнальны аналіз іх з летапіснымі і археалагічнымі дадзенымі папярэдніх часоў указвае на з'яўленне і распаўсюджанне ў гэты перыяд некаторых новых формаў і спосабаў апрацоўкі зямлі, арганізацыі земляробства ўвогуле. Так, вядомае яшчэ са старажытных часоў трохполле, пачынаючы з канца XV ст., паступова атрымлівала шырокае распаўсюджанне як найбольш эфектыўнае выкарыстанне ворыўнай зямлі і ўсё часцей змяняла двухпольны севазварот. Асабліва характэрным становіцца трохполле (азімыя, яравыя, пар) для буйных дзяржаўных і прыватных гаспадарак, удасканаленне сельскагаспадарчай вытворчасці якіх дало магчымасць больш інтэнсіўна выкарыстоўваць стараворыўныя землі. Адначасова пачаў актывізавацца працэс асваення пад ворыва новых зямель[363].

Італьянскі афіцэр А. Гваніні, які некаторы час жыў на поўначы Беларусі і назіраў працэс асваення новых зямель, адзначаў, што ў першы год сяляне высякалі на пэўным кавалку зямлі ўвесь лес і кустоўе, буйныя дрэвы забіралі на дровы, дробязь пакідалася сушыцца. Праз

[363] Усе ворыўныя землі дзяліліся на «добрыя», «сярэднія», «злосныя», «подлыя» і «вельмі подлыя». Ад іх якасці залежалі памеры сялянскіх надзелаў і характар размеркавання па асобных сялянскіх сем'ях.

год увесь буралом спальваўся, найбольш багатыя попелам участкі зямлі пасля апрацоўкі засяваліся жытам і пшаніцай, менш багатыя — аўсом і ячменем. У якасці ўгнаення попел выкарыстоўваўся пераважна пры падсечна-агнявой апрацоўцы зямлі. У астатніх выпадках ворыўная зямля падкармлівалася ўгнаеннямі.

Жывёлагадоўля, якая складала другі па сваёй значнасці і распаўсюджанасці комплекс гаспадарчых заняткаў сельскага насельніцтва, мела ў канцы XV — першай палове XVI ст. яшчэ шырокае існаванне і ў гараджан. Традыцыйна на Беларусі разводзіліся буйная і дробная рагатая жывёла, коні, свойскія птушкі. Развіццё жывёла- і птушкагадоўлі садзейнічала стабільнаму ўжыванню ў харчовым рацыёне насельніцтва мясных і малочных прадуктаў, яйкаў, у быце — скур, пер'яў і пуху. Валы і коні выкарыстоўваліся таксама як цяглая жывёла і пры апрацоўцы зямлі.

У заходніх, паўднёвых і частцы цэнтральных зямель Беларусі сяляне апрацоўвалі зямлю сахой для парнай валовай запрэжкі. Такі тып сахі існаваў у той час і пазней не толькі на Беларусі, але і ў шэрагу суседніх краін, аб чым сведчаць яе лакальныя назвы (палеская, літоўская, падляшская, мазавецкая, пруская)[364]. У Беларускім Падзвінні і Падняпроўі, дзе слой апрацоўваемай зямлі быў больш тонкі, была распаўсюджана, па сведчаннях таго ж А. Гваніні, лёгкая конская саха[365]. Абодва тыпы гэтай асноўнай земле-апрацоўчай прылады выраблялісяз дрэва, але тыя рабочыя часткі сахі, што ўзрыхнялі глебу, часта мелі жалезныя нарогі і лемяшы, якія выкоўваліся сельскімі кавалямі. Пры падсечна-агнявой апрацоўцы новых зямель сяляне карысталіся таксама матыкамі, а для рыхлення глебы — плеценымі баранамі, «сукаваткамі» (ствол дрэва з часткова адсечанымі сукамі)[366]. Сеялі ўручную з лубянкі, што вісела праз плячо і па якой гаспадар перыядычна стукаў запясцем рукі, каб абмяжоўваць дыяпазон роскіду зерня.

Асноўнай збожжавай культурай, што была распаўсюджана на Беларусі ў эпоху феадалізму, з'яўлялася жыта, прычым найбольш высявалася азімае жыта. На землях дзяржаўных і буйных прыватных гаспадарак шырока практыкавалася пшаніца (як яравая, так і азімая), якую з першай паловы XVI ст. пачалі разам з жытам экспартаваць з заходніх раёнаў Беларусі за мяжу. Сеялі таксама авёс, проса, грэчку, гарох, лён, каноплі, чачавіцу, хмель і інш. Сярод агародных і садовых культур былі распаўсюджаны капуста, морква, буракі, агуркі, цыбуля, часнок, рэпа, рэдзька, мак, вішні, слівы, яблыкі, грушы і інш.[367] Усе збожжавыя культуры жалі сярпом (прычым жніво было традыцыйна амаль што выключна жаночай справай)[368], сушылі і звозілі ў гумно, дзе малацілі цапамі, потым зерне веялі з дапамогай драўлянага саўка, малолі на муку або абдзіралі на крупы.

[364] Lowmianski H. Studia nad poczatkami spoleczenstwa i panstwa Litewskiego. Wilno, 1932. T. I. S. 148—155.

[365] Гванини А. Хроника Европейской Сарматии // Полоцко—Витебская старина. Витебск, 1916. Т. 3. С. 325—329; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. С. 134—136.

[366] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVII. С. 14 (1539 г.).

[367] Агародніцтва іграла вялікую ролю ў гаспадарцы як сельскага, так і гарадскога насельніцтва Беларусі, а ў некаторых этнічных груп, напрыклад татараў, яно складала адзін з асноўных відаў іх вытворчай дзейнасці (разам са скураапрацоўкай, фурманным промыслам, кур'ерскай і ваеннай службай). Гл.: Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVII. С. 249; Т. XXXI. С. XVIII—XIX, 32; Мухлинский А. Исследование о литовских татарах. СПб, 1857. С. 15—41.

[368] Мужчыны займаліся жнівом галоўным чынам у тых выпадках, калі трэба было хутка сабраць ураджай, пры гэтым часта выкарыстоўвалі касы-гарбушы. Касьба ўвогуле лічылася выключна мужчынскай справай. Гл.: Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. С. 104—105.

Мукамольны промысел пачаў актывізавацца ў Беларусі таксама ў перыяд з канца XV па першую палову XVI ст., калі пад уплывам кантактаў з заходнееўрапейскімі дзяржавамі на землях Усходняй Еўропы пачалі ўзнікаць ветраныя млыны галандскага і нямецкага тыпаў[369]. Пашырэнне плошчы ворыўных зямель, інтэнсіфікацыя выкарыстання старых зямель, павышэнне агульнай колькасці збожжавай прадукцыі садзейнічала пашырэнню і больш традыцыйнага млынарства з дапамогай вадзяных млыноў (з адным, двума і нават з трыма-чатырма коламі) і млыноў з коннай ці валовай цягай[370]. Існавалі яны галоўным чынам пры буйных гаспадарках, а колькасць іх у розных раёнах Беларусі знаходзілася ў прамой залежнасці ад сельскагаспадарчай арыентацыі і памераў той ці іншай гаспадарчай адзінкі. Дома сяляне шырока карысталіся жорнамі кустарнай вытворчасці, а таксама ручнымі і нажнымі ступамі.

Вытворчасць жорнаў як для асобных сялянскіх сямей, так і для млыноў складала адзін з відаў прамысловай дзейнасці беларускага сялянства тых вёсак, наваколле якіх было багата прыродным каменем, а жыхары ведалі каменячосную справу (некаторыя з гэтых вёсак атрымалі адпаведную назву «жарнасекі», якая вядома ў тапонімцы Беларусі і зараз). Як адзначае С. Цярохін, ратацыйныя жорны з двух камянёў і клінам для рэгулявання зазору паміж імі былі шырока распаўсюджаны на Беларусі з эпохі сярэдневякоўя і датрывалі амаль у нязменным выглядзе да нашых дзён[371]. Акрамя жорнаў сяляне-каменячосы рабілі таксама тачылы для кавальскай справы, будаўнічы камень на абарончае, царкоўнае, дарожнае і іншае будаўніцтва. Буйныя рэчы часта рабіліся на месцы будаўніцтва, куды зводзіліся майстры; дробная каменячосная прадукцыя ішла на абмен у суседскія вёскі ці на продаж у горад, мястэчка на кірмаш, адкуль яна распаўсюджвалася ў больш шырокім геаграфічным арэале. Займаліся апрацоўкай каменя і асобныя сяляне-майстры ў вольны ад асноўнай працы час.

Атрымаў развіццё на Беларусі ў той час промысел тэрмічнай пераапрацоўкі драўніны. У месцах, «дзе попел робят», узводзіліся спецыяльныя «буды попельныя»[372], для тэрмічнай пераапрацоўкі драўнянай сыравіны на вугаль, смалу, дзёгаць, попел, паташ і іншыя прадукты, што знаходзілі ўжыванне ў металургіі і металаапрацоўцы, шклaробстве, судабудаўніцтве, сукнаробстве, гарбарнай і аптэкарскай справе і інш. Займаліся гэтым промыслам буднікі, карытнікі, смалакуры[373] іншы раз цэлых вёсак (назвы якіх таксама адлюстроўвалі характар прамысловых заняткаў насельніцтва: Буда, Буднікі). Будны промысел часта ўваходзіў у абавязкі буйных вялікакняскіх гаспадарак тых мясцін Беларусі, дзе было шмат лясоў. Гаспадаркі займаліся продажам прадуктаў пераапрацоўкі драўніны купцам, якія мелі спецыяльныя прывілеі для вывазу іх на знешні рынак.

За межы Беларусі шырока экспартавалася ў той час і драўніна наогул, што

---

[369] Топорков Н. А. Возникновение и развитие ветряной мельницы. М., 1958. С. 45—48; Таксама гл.: Ревизия Кобринской экономии. С. 21, 24, 27, 209, 303; Полоцкая ревизия 1552 г. С. 64.

[370] Полоцкая ревизия 1552 г. С. 64; Ревизия Кобринской экономии. С. 209, 303.

[371] Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984. С. 185.

[372] Буда — смалакурная печ, дзе пры абмежаваным доступе паветра спальваліся карчы і іншая багатая смалой драўніна, у выніку чаго атрымліваліся смала і дзёгаць, часам і шкіпідар. Попел і вугаль рабілі пры аналагічным працэсе спальвання ліставых дрэў у ямах («майданах»). Паташ атрымліваўся ў выніку вышчалочвання раслiннага попелу. Гл.: Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 85—91.

[373] Леонтович Ф. И. Сельские промышленники в Литовско—Русском государстве // Варшавские университетские известия. 1897. Кн. IV, V, VI; Полоцкая ревизия 1552 г. С. 37, 42, 137; Даугяла З. І. Свіслацкая валасць у 1560 г. // Наш край. 1927. № 12.

было звязана з развіццём сплаўнога промыслу, асабліва на Заходняй Дзвіне, Дняпры, Нёмане, Бугу і іх буйных прытоках. Лес сплаўлялі плытамі, розныя драўняныя рэчы (бочкі, клёпкі, калоды, вуллі, будаўнічы лес) на суднах (стругах, шкутах, барках, дубасах), якія таксама ішлі на продаж. Сплаўным промыслам займаліся спецыяльна падрыхтаваныя людзі, але арганізацыю яго і галоўныя гандлёвыя аперацыі ажыццяўлялі купцы[374]. Некаторыя з іх мелі дазвол улады і прывілеі на безмытны (бяспошлінны) гандаль у межах усёй дзяржавы. Так, мінскі купец Лука Церашковіч атрымаў у 1480 г. прывілей, згодна якому ён меў права гандляваць «дубасам», з якога «мыта не брaлі бы» ў межах усяго Вялікага княства Літоўскага (у тым ліку ў Кіеве, Луцку, Бранску, Чарнігаве, Чаркасах, Смаленску, Вязьме, Ноўгарад-Северскім і інш.)[375].

Пры многіх буйных феадальных гаспадарках існавалі ў той час «буды скляні́чныя» («гуты»), дзе з мясцовай сыравіны (кварцавы пясок і інш.)[376] рабілі гутнае шкло, якое ішло на патрэбы феадалаў і на ўнутраны рынак (са шкла рабіўся дарагі і каштоўны каляровы посуд, у невялікай колькасці выраблялася шкло для вокан). Па падліках М. Яніцкай, у XVI ст. шкляныя рэчы выраблялiся ў 15 гарадах і мястэчках Беларусі. Даследчыца адзначае таксама, што на працягу XV—XVII стст. асартымент посуду, яго якасць і мастацкая каштоўнасць павялічваліся, што істотна адрознівала яго ад шкляных вырабаў папярэдняга часу[377].

Шкло мясцовай вытворчасці задавальняла бытавыя патрэбы заможных слаёў насельніцтва (феадалаў, духавенства, часткова мяшчан), аднак, у той жа час, у Беларусь шырока імпартаваліся каштоўныя шкляныя рэчы з шэрагу заходнееўрапейскіх і ўсходніх краін. Замежнае шкло выкарыстоўвалася, галоўным чынам, у быце найбольш багатых феадалаў і гараджан, а таксама для ўпрыгожвання культавых будынкаў і палацаў.

Аналагічная сітуацыя наглядалася і ў металургічным крычным промысле, мясцовыя рудні забяспечвалі патрэбу насельніцтва ў жалезе, а таксама ў гаспадарчых і бытавых вырабах з яго. Выплаўкай жалеза займаліся майстры як у вёсках, так і ў гарадах, што знаходзіліся блізка ад радовішч мясцовай сыравіны: бурага жалезняку і балотнай руды — ліманіту. Як і некаторыя іншыя промыслы, жалезаробства знайшло адлюстраванне ў тапаніміцы, якая літаральна стракаціць вясковымі назвамі з коранем «руд-» (Рудня, Старая Рудня, Руднікі і інш.), што ўскосна сведчыць аб шырокім існаванні гэтага промыслу на Беларусі ў мінулым. Вядомы яшчэ са старажытных часоў гісторыі краю[378], металургічны промысел атрымаў у XV—XVII стст. на Беларусі пэўны тэхнічны прагрэс, які закрануў тэхналогію выплаўкі і забяспечыў механізмамі найбольш працаёмкія работы (надзіманне паветра, драбленне руды, перакоўка крыцы з дапамогай мяхоў і механічнага молату, што прыводзіліся ў рух вадзянымі коламі)[379]. Аднак гэтыя навіны закранулі ў той час пераважна буйныя і добра арганізаваныя рудні, на астатніх і асабліва сялянскіх пераважалі працаёмкія ручныя віды работы.

Побач з жалезаробным промыслам развівалася кавальства, якое забяспечвала насельніцтва жалезнымі прыладамі працы, зброяй, рознымі рэчамі штодзён-

[374] Сапунов А. Река Западная Двина. Витебск, 1893; Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 98—109.

[375] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 389. Кн. 4, л. 163, 163а.

[376] Ревизия Кобринской экономии. С. 45.

[377] Яніцкая М. М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XIII стст.). Мн., 1977. С. 11—25.

[378] Гурин М. Ф. Древнее железо Белорусского Поднепровья. Мн., 1982.

[379] Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 67—74.

нага ўжытку. У гарадах Беларусі канца XV — XVII ст., дзе былі арганізаваны кавальскія цэхі, апрацоўкай жалеза займаліся майстры розных спецыяльнасцей: слесары, кавалі, мечнікі, нажэўшчыкі, кацельшчыкі, аружэйнікі і інш.[380] Вузкая спецыялізацыя дазваляла раменнікам павышаць сваю кваліфікаванасць, удасканальваць тэхналогію вытворчасці. Сельскія кавалі па кваліфікаванасці былі ніжэй за гарадскіх і выраблялі галоўным чынам жалезныя часткі рэчаў, неабходныя ў сельскагаспадарчай працы і быце (нарогі, лемяшы, сякеры, косы, сярпы, нажы, пілы, падковы і інш.)[381]. Існавалі кузні пры замкавых і дваровых гаспадарках, дзе выабляліся таксама розныя рамесныя інструменты і зброя. Некаторыя жалезныя рэчы, што знаходзілі ўжыванне ў быце феадалаў, і каштоўная зброя імпартаваліся пераважна з краін Заходняй Еўропы.

Сярод усіх відаў прамысловай дзейнасці ў Беларусі XIV—XVII стст. вельмі шырокае развіццё мела бортніцтва і пчалярства. Мёд каштаваў у той час дорага. Месцы, дзе былі борці, старанна ахоўвалі бортнікі і палазнікі (ці падлазнікі), таму кожнае борцевае дрэва каштавала тады дорага[382]. У XV—XVII стст. атрымлівае развіццё і акультурванне здабычы мёду праз развядзенне пчолаў па вуллеваму тыпу — у калодах (пяньках, караньках), што практыкавалася пры буйных вялікакняскіх і прыватных феадальных гаспадарках. Акультуранае развіццё пчалярства ў першай палове XVI ст. знайшло адлюстраванне нават і на старонках «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, дзе пададзены малюнкі шмат якіх бакоў народнага побыту[383].

У прыватнаўласніцкіх маёнтках мёд і воск ішлі на ўнутраныя патрэбы і на продаж, у дзяржаўных гаспадарках «мядовую даніну» здавалі прадстаўнікам вялікакняскай улады па прынцыпу — «палова ў скарб, палова подданым»[384]. Мёд пераапрацоўваўся на напоі і прадаваўся ў «карчмах мядовых», мёдам лячыліся, ужывалі ў ежу і ў вялікай колькасці экспартавалі па-за межы Вялікага княства Літоўскага. Бортніцтва і пчалярства акрамя мёду давала яшчэ і вельмі каштоўны і неабходны прадукт — воск, які было дазволена здабываць сялянам і гараджанам толькі пад наглядам у спецыяльных васкабойнях і за пэўную плату (частку воску яны павінны былі пры гэтым здаваць феадалу ці ў казну)[385]. Аб важнасці і каштоўнасці бортніцтва і пчалярства для эканомікі дзяржавы сведчаць факты існавання ў старажытнасці асобнага звычаёвага бортнага права, якое мела і сваю пісьмовую кадыфікацыю, напрыклад, у «Рускай праўдзе», потым — у Статутах Вялікага княства Літоўскага (1529, 1566, 1588 гг.), дзе шэраг артыкулаў прысвечаны менавіта бортнаму праву. Згодна прававых нормаў, строга каралася рубка бортнага дрэва і крадзёж мёду («А хто бы свепетъ в чыемъ лесе умыслне порубал и мед выбрал, тот маеть за то шесть рублей грошей заплатити» ці «Хто дрэва з пчоламі сячэ, таго таксама на шыбеницу»)[386]. Крадзёж мёду лічыўся

[380] Беларускі архіў. Т. III. С. 48—58; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Мн., 1975. С. 90—94, 105; Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. С. 34.

[381] Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. С. 163—164.

[382] Гурков В. С., Терехин С. Ф. Бортничество в Белоруссии. Мн., 1980. С. 7—20.

[383] Гусоўскі М. Песня пра зубра. Мн., 1973. С. 23—24.

[384] Писцовая книга бывших Пинского и Клецкого княжеств 1552—1555 гг. Сост. С. Хвальчевский. Вильно, 1884. С. 4.

[385] Хорошкевич А. Л. Очерки социально-экономической истории Северной Белоруссии в XV в. // Автореф. дис. ... канд. истор. наук. М., 1974. С. 136—137.

[386] Статут Великого княжества Литовского 1588 г. С. 279; Акты Западной России. Т. III. С. 72—75 (1507 г.).

амаль такім жа цяжкім злачынствам, як і забойства. Як адзначае С. Цярохін, «мянушка «пчаладзёр» на ўсё жыццё ганьбіла злодзея, ставіла яго па-за межы грамадства»[387]. У XVI ст. пачалі ўзнікаць нават і спецыялізаваныя бортныя цэхі — брацтвы, куды ўваходзілі сяляне, мяшчане, часткова дробная шляхта, аднак асноўнай саслоўнай групай, што займалася бортніцтвам, былі прывілеяваныя службовыя сяляне: бортнікі і палазнікі.

Са старажытных часоў насельніцтва Беларусі шырока займалася паляўнічым і рыбалоўным промысламі. У дакументах канца XV — першай паловы XVII ст. сустракаюцца звесткі аб ізбах і становішчах у лясах «на стада», на «жывацiну», «аколы лавецкія» і інш. У месцах «ловаў звярыных і птушыных» палявалі лоўчыя і баброўнікі. Апошнія палявалі на пушнога звера з сабакамі і сецямі[388]. Паляўнічы промысел каштоўнага пушнога і іншага звера на вялікакняскіх землях быў у XVI ст. узяты пад дзяржаўны кантроль, які ажыццяўлялі асочнікі (пераважна з вольных сялян)[389]. На прыватнаўласніцкіх землях паляванне вялося са згоды феадала, але таксама сур'ёзна кантралявалася. Шкура карыснага пушнога звера апрацоўвалася і ішла на продаж на ўнутраны ці знешні рынак. Футры шырока выкарыстоўваліся ў зімнім адзенні амаль усіх саслоўяў тагачаснага грамадства Беларусі (за выключэннем хіба што найбольш бедных), а шкуры каштоўнага пушнога звера з Беларусі мелі вялікі попыт на еўрапейскім рынку[390]. Паляўнічы промысел складаў таксама дадатковую крыніцу харчовага рацыёну насельніцтва і быў адной з папулярных у асяроддзі феадалаў забаў, якую рыхтавалі і на якой удзельнічалі спецыяльныя майстры палявання (птушнікі, сакольнікі, сетнікі, асочнікі) з асобай паляўнічай зброяй, сабакамі, сокаламі і інш.[391]

Рыбалоўны промысел насіў больш дэмакратычны характар і так жорстка не кантраляваўся, як паляўніцтва[392]. Рыбалоўствам займаліся часам цэлыя вёскі, якія павінны былі здаваць частку ўлову сваім феадалам ці прадстаўнікам вялікакняскай адміністрацыі. Рыбалоўны промысел уключаўся нават і ў лік павіннасцей сялянства. Разам са здабываючымі відамі рыбалоўства ў другой палове XV — першай палове XVI ст. у буйных прыватных феадальных і вялікакняскіх гаспадарках пачало развівацца і акультуранае рыбаводства ў спецыяльна пабудаваных запрудах, сажалках, дзе самавольная лоўля рыбы сялянамі была забаронена. На думку даследчыкаў, у перыяд феадалізму на Беларусі склаліся асноўныя традыцыйныя спосабы і прыёмы, прылады рыбалоўства, што з нязначнымі зменамі дайшлі да XX ст.[393]

Традыцыйным на працягу стагоддзяў быў збіральны промысел, які амаль што

---

[387] Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 48—49.

[388] У другой палове XV — першай палове XVI ст. у Беларусі і Літве былі селекцыяніраваны ўласныя (так званыя «літоўскія») пароды паляўнічых сабак: хортаў, агараў і выжлаў, лягавых. Гл.: Encyklopedia staropolska ilustrowana. Warzawa, 1978. T. III S. 167.

[389] Паляўніцтву былі прысвечаны спецыяльныя артыкулы Статутаў Вялікага княства Літоўскага, іншыя дзяржаўныя дакументы 1566, 1588 гг., дзе прадугледжваліся розныя пакаранні за браканьерства, разбурэнне гнёздаў, вызначалася грашовая каштоўнасць дзічыны і інш. Гл.: Акты Западной России. Т. III. С. 72—95; Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. Сост. Г. Волович в 1559 г. Вильна. 1867. С. 32—100; Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 199.

[390] Терехин С. Ф. Охота в Белоруссии. Мн., 1986.

[391] Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 32—34.

[392] Каралася толькі самавольная лоўля рыбы сеткамі і ў вялікіх памерах. Гл.: Ревизия Кобринской экономии. С. 83—87; Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. С. 160—170.

[393] Браім І. М. Рыбалоўства ў Беларусі. Мн., 1976. С. 10—30; Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 58—63.

не змяніўся з цягам часу і даваў дадатковую ежу (грыбы, ягады, арэхі, травы і інш.). Традыцыйна збіральніцтва было справай жанчын і дзяцей, радзей гэтым займаліся мужчыны. У канцы XV — першай палове XVII ст. насельніцтва магло займацца збіральніцтвам толькі з дазволу прадстаўнікоў вялікакняскай адміністрацыі ці феадалаў (у залежнасці ад таго, на чыёй зямлі знаходзіліся ўгоддзі). Існавала і спецыяльная даніна грыбамі, ягадамі, арэхамі, травамі, што павінны былі здаваць свайму феадалу сяляне (частку ўраджаю яны мелі права браць сабе). Збіральніцтва без дазволу забаранялася дзяржаўным правам, згодна якога (напрыклад, па «Статуту» 1529 г.) слугі феадалаў і вялікакняскія асочнікі маглі затрымліваць парушальнікаў і адбіраць у іх усё тое, што яны назбіралі[394]. Феадальнае права імкнулася выкарыстоўваць збіральны промысел у сваю карысць, але не стрымлівала яго ўвогуле.

Сярод іншых відаў прамысловай дзейнасці, што існавалі на Беларусі ў канцы XV — першай палове XVII ст. ці з'явіліся ў гэты час, можна адзначыць такія, як падводны (фурманны) промысел, які выступаў таксама і як павіннасць працоўнага сялянскага і гарадскога насельніцтва. Шырока распаўсюджанымі былі ў той час хатнія прамысловыя заняткі: пляценне лапцяў, розных вырабаў з лазы, бярозавай кары, саломкі, рэзьба па дрэву бытавых рэчаў (мэблі, кухоннага посуду), віццё вяровак. Прамысловымі заняткамі былі таксама нарыхтоўка дроў, распілоўка драўніны на дошкі для будаўніцтва і дробнай сталярнай вытворчасці. Вялікае распаўсюджанне як у гарадах, так і ў сельскай мясцовасці меў выраб розных напояў (піва, медавухі і інш.). На перыяд першай паловы XVI ст. прыпадае першы этап з'яўлення на Беларусі вінакурнага промыслу па вытворчасці гарэлкі, якая каштавала ў той час яшчэ вельмі дорага і выкарыстоўвалася пераважна ў якасці лячэбнага сродка і ў аптэкарскіх справах[395].

Шэраг вытворчых заняткаў, якія выступалі ў якасці дапаможных і падсобных промыслаў для асобных сямей сялян, з'яўляўся ў той час асноўным відам рамеснай дзейнасці для мяшчан. Сяляне не куплялі на рынку тыя рэчы, якія маглі зрабіць самі ці атрымаць у выніку таваараабмену з аднавяскоўцамі і жыхарамі суседніх паселішчаў. Для рамеснай вытворчасці, арыентаванай на рынак і заказ, была характэрна больш высокая якасць тавараў, доўгатэрміновасць іх выкарыстоўвання, адносна вялікая вартасць і каштоўнасць. Гарадскія рамеснікі абслугоўвалі пераважна быт сваіх суграмадзян, якія маглі купляць і заказваць неабходныя ім рэчы. Усё гэта абумоўлівала існаванне амаль што ў кожным горадзе Беларусі адных і тых жа рамёстваў, якія пэўным чынам дублíравалі асноўныя прамысловыя заняткі сялянства. Таму ў сельскіх, феадальных гаспадарках, асобных вёсках, гарадах і мястэчках існавалі ідэнтычныя рамесныя і прамысловыя спецыяльнасці. Асаблівасці арганізацыі рамёстваў у гарадах і мястэчках грунтаваліся галоўным чынам на больш дробнай і канкрэтнай спецыялізацыі рамеснікаў.

Акрамя таго, многія тавары рамеснай вытворчасці не з'яўляліся рэчамі першай неабходнасці ў сялянскім, а часта і мяшчанскім побыце і прызначаліся для найбольш заможных слаёў насельніцтва, для цэркваў і духавенства, ваеннаслужачых і войска і гэтак далей. Трэба адзначыць таксама, што ў перыяд з канца XV па першую палову XVII ст. працэс цэхавай арганізацыі рамеснай вытворчасці ў га-

[394] Статут Великого княжества Литовского 1529 г. С. 195; Акты Западной России. Т. III. С. 72; Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 25.

[395] Цярохін С. Ф. У фокусе канкрэтнага факта: Праўда і мана пра ап'янальныя напіткі. Мн., 1988. С. 28—30.

радах і мястэчках Беларусі яшчэ толькі набіраў сілу, і многія развітыя ў будучыні рамёствы знаходзіліся яшчэ на стадыі кустарнай вытворчасці і дамашняга промыслу. Нават і ў буйных гарадах, дзе ўжо існавала цэхавае рамяство, многія групы гараджан з працоўных саслоўяў імкнуліся абслугоўваць сябе самі, а не купляць гатовыя рэчы ў рамеснікаў. Характэрным прыкладам з'яўляецца прадзенне і ткацтва, якім займаліся жанчыны розных сацыяльных і саслоўных груп тагачаснага грамадства Беларусі.

Асноўнай сыравінай для вырабу тканін з'яўляліся лён, авечая воўна, каноплі. Апрацоўка ільну (радзей каноплі) для валакна ажыццяўлялася ў некалькі этапаў на спецыяльных прыладах (церніцы, трапле, грэбене), пасля чаго валакно з дапамогай прасніцы і верацяна скручвалася ў нітку — пралася. Воўну таксама часалі пры дапамозе грэбеня ці разбівалі спецыяльнай прыладай (лучком), потым пралі. Гатовая пража звівалася на матавіла[396]. Спосабы вырабу тканін залежалі ад тыпаў прылад ткацтва. У XV — першай палове XVII ст. на Беларусі быў распаўсюджаны вядомы яшчэ з папярэдняга часу гарызантальны ткацкі стан і таксама старажытны тып кроснаў — на сохах[397]. У рамесных цэхах па вырабу тканіны выкарыстоўваўся ўдасканалены ткацкі стан — варштат, які меў значныя аналогіі з еўрапейскімі рамеснымі прыладамі ткацтва. Трэба адзначыць, што ўвогуле патрэба насельніцтва ў тканіне задавальнялася ў той час за кошт хатняга саматужнага вырабу. Мясцовыя рамесныя і імпартныя тканіны ўжываліся пераважна ў побыце феадалаў і заможных мяшчан.

Аналагічная справа наглядалася і ў сукнаробстве, якое практыкавалася як у асобных сялянскіх сем'ях, калі валенне сукна ажыццяўлялася архаічнымі спосабамі (таптанне нагамі ў ёмістасці, таўчэнне ў ступах, валенне на шурпатай паверхні), так і ў якасці самастойнага рамяства — на спецыяльных сукнавальнях (фолюшах), дзе выкарыстоўваліся розныя механічныя прылады і прыстасаванні, што працавалі з дапамогай вадзяных колаў (па тыпу млыноў)[398]. Разам з тым, пэўная колькасць сукна прывозілася на Беларусь і з іншых краін.

Спецыфічным сумяшчэннем старажытных традыцый з новымі тэхналагічнымі прыёмамі характарызавалася ў перыяд XV—XVII стст. ганчарная рамесная вытворчасць. Буйныя традыцыйныя цэнтры ганчарства на Беларусі (гарады Полацкай, Тураўскай, Віцебскай, Смаленскай, Мсціслаўскай зямель, Панямоння), што складаліся яшчэ ў папярэдні гістарычны перыяд, уступілі ў новы этап развіцця, што звязана з пераходам на цэхавую сістэму арганізацыі рамяства, удасканалення тэхналогіі ганчарных вырабаў, асваеннем дасягненняў заходнееўрапейскіх майстроў і пашырэннем попыту на керамічную прадукцыю[399]. Разам з бытавымі рэчамі (пераважна посудам) значна пашырылася вытворчаць цэглы, чарапіцы, кафлі, што адлюстроўвала павелічэнне каменнага будаўніцтва, звязанага не толькі з культавымі, але таксама абарончымі (замкі, крэпасці), гарадскімі грамадскімі (ратушы, гасціныя двары) і іншымі пабудовамі.

Паралельна з развіццём прафесійнага ганчарства ў гэты перыяд існавалі і больш архаічныя формы керамічнай вытворчасці, што былі ўласцівы для сельскіх майстроў. Апошнія ўвогуле задавальнялі патрэбы ў керамічнай прадукцыі боль-

---

[396] Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 149—153.

[397] Воронин Н. Н. Древнее Гродно // Материалы и исследования по археологии СССР. М., 1964. № 41. С. 64; Курилович А. Н. Белорусское народное ткачество. Мн., 1981.

[398] Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 163—164.

[399] Там жа. С. 136—139.

шай часткі насельніцтва Беларусі. Таксама, як і гарадскія майстры, сельскія ганчары практыкавалі працу на заказ, аднак, у адрозненне ад першых, сяляне-рамеснікі часцей займаліся іншымі відамі працоўнай дзейнасці (земляробствам, жывёлагадоўляй). Часта сяляне цэлых вёсак, наваколле якіх было багата глінай (напрыклад, у Падняпроўі, Папрыпяцці) працавалі на рынак, сезонна выраблялі ганчарны посуд і самі развозілі яго на продаж у суседнія раёны. Ганчарныя вырабы карысталіся вялікім попытам, але цэны на іх былі адносна невялікімі (напрыклад, гаршчок каштаваў столькі ж, колькі і насыпанае ў яго зерне).

Прыёмы і спосабы апрацоўкі гліны, прылады працы, ганчарныя горны і хімікатэрмічная апрацоўка керамічных рэчаў і іншыя элементы тэхналогіі ганчарных вырабаў у сельскіх і гарадскіх рамеснікаў былі шмат у чым падобнымі, але мелі і пэўныя асаблівасці, абумоўленыя большым прафесійным узроўнем і магчымасцямі гарадскіх майстроў. Апошнія шырока выкарыстоўвалі ў сваёй прафесійнай практыцы больш удасканаленыя тэхналагічныя прыёмы, багатую каляровую палітру мінеральных фарбаў і палівы, эфектыўныя прылады працы, узоры ганчарнай прадукцыі заходнееўрапейскіх майстроў і інш. Аднак аптымізаваны характар ганчарнай вытворчасці буйных сельскіх цэнтраў, добрая якасць і ўтылітарная каштоўнасць іх прадукцыі стварылі значную канкурэнцыю паміж керамічнымі вырабамі сялян і гарадскіх рамеснікаў.

Керамічная прадукцыя беларускіх майстроў складала ў эпоху феадалізму адну з галін экспарту ў Прыбалтыку, Польшчу, Расію і іншыя краіны Ўсходняй і Заходняй Еўропы. У той жа час, ганчарныя вырабы замежных майстроў (пераважна з Польшчы і Германіі) прывозіліся на Беларусь і знаходзілі шырокае ўжыванне ў быце заможных саслоўяў[400]. Увогуле на працягу XV—XVII стст. ганчарства на Беларусі склалася ў своеасаблівую вобласць рамеснай дзейнасці, дзе сумяшчаліся як старажытныя архаічныя, так і больш прагрэсіўныя новыя тэхналагічныя з'явы, што дазволіла беларускім майстрам узняць якасць і вартасць сваёй прадукцыі на пачатак XVII ст. на дастаткова высокі і канкурэнтаздольны агульнаеўрапейскі ўзровень. Важную ролю ў гэтым адыгралі цэхавыя аб'яднанні беларускіх ганчароў, якія пачалі ўзнікаць у XVI ст., асабліва ў другой яго палове.

Цікавай рысай арганізацыі ганчароў у цэхі было амаль што сталае аб'яднанне іх з прадстаўнікамі іншых рамесных спецыяльнасцей: каменшчыкамі, сталярамі, дойлідамі, вапнікамі, фарбавальшчыкамі, цеслярамі і інш. Асобных ганчарных цэхаў на Беларусі ў эпоху феадалізму не было, што тлумачыцца адносна невялікай колькасцю майстроў у гарадах (калі 5—10 рамеснікаў-прафесіяналаў маглі задавальняць патрэбы жыхароў горада ў кераміцы), абмежаваным характарам распаўсюджання іх вырабаў, канкурэнцыяй на лакальным рэгіянальным рынку з сельскімі ганчарамі і гэтак далей.

У той жа час, аб'яднанне рамеснікаў розных спецыяльнасцей у адным цэху было тыповай з'явай увогуле і асабліва — майстроў блізкіх спецыялізацый. Напрыклад, гарбарны цэх уключаў усіх рамеснікаў, што займаліся апрацоўкай скуры: рымароў, кажамякаў, шаўцоў, кушнярoў. Будаўніцтвам займаўся цэх, у які ўваходзілі дойліды, цесляры, стрыхары, кровельшчыкі; прыкладной дрэваапрацоўкай — цэх скрыннікаў (сталяроў), бондараў, саннікаў, карэтнікаў, калеснікаў, каўшоўнікаў; металаапрацоўкай — цэх кавалёў, кацельнікаў, латуншчыкаў, слесароў, нажоўшчыкаў, таксама майстроў, што зай-

[400] Милюченков С. А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984.

маліся працай па золаце і серабры (ювеліраў), рабілі зброю, гадзіннікі і інш. Цэхавыя суполкі ўзнікалі ў тых выпадках, калі гарадскія ўлады і заможныя рамеснікі маглі і жадалі манапольна абслугоўваць свой уласны рынак і складаць канкурэнцыю сваімі таварамі на іншых рынках.

Шэраг рамесных спецыяльнасцей мог існаваць таксама па-за цэхавымі межамі. Гэта датычыць адносна рэдкіх спецыяльнасцей лекараў, аптэкараў, фельшараў, цырульнікаў, а таксама рамеснікаў службова-бытавой спецыялізацыі (піваранаў, млынароў, пекараў, рэзнікаў і інш.), якія маглі ўваходзіць у цэхавыя суполкі ці наадварот — існаваць самастойна. Многія з гарадскіх рамесных спецыяльнасцей эфектыўна дубляваліся ў сельскай мясцовасці на ўзроўні хатніх рамёстваў і саматужных промыслаў сялян, што ўвогуле было тыповай з'явай феадальнага спосабу вытворчасці з яго натуральнымі формамі гаспадарання, неінтэграванай экономікай і частай перавагай лакальных эканамічных арыентацый над агульнадзяржаўнымі. Аднак не менш тыповай і станоўчай (у параўнанні з раннім сярэдневякоўем) з'явай рамеснай і прамысловай вытворчасці ў канцы XV — першай палове XVII ст. была патэнцыяльная і рэальная магчымасць насельніцтва атрымаць на рынку, па заказу ці на абмен любую неабходную прадукцыю.

Пашырэнне і актывізацыя ў гэты час гандлю садзейнічала пранікненню на Беларусь некаторых новых элементаў і форм гаспадарча-гандлёвай дзейнасці. Напрыклад, у народную вымяральную сістэму паступова ўвайшлі некаторыя еўрапейскія, часткова ўніфікаваныя эталоны аб'ёму і вагі (барыл, фунт, кварта, беркавец і інш.). Некаторыя з новых вымяральных адзінак, напрыклад беркавец, у XVI ст. грывала ўвайшлі ў гандлёвы ўжытак і сталі традыцыйнымі («тогды от берковиска соли по тому, яко звыклы и постоно-




20. Грошы Вялікага княства Літоўскага. XVI ст.: 1 — паўгрош, 1595 г.; 2 — дваяк, 1596 г.; 3 — трояк, 1592 г.; 4 — чацвертак, 1569 г.; 5 — двайны дэнарый

веный звычай есть у Великом князстве Литовском давати»). Вага некаторых тавараў вызначалася на спецыяльных прыладах — бязменах, прычым яны павінны былі быць стандартызаванымі ў межах мясцовай эканамічнай адзінкі («купцы... маютъ мети безмены свои под печатью местскою»). Калі ж не вытрыманы стандарты — купцы плацілі дадатковы падатак («а кото-

рый бы иншым пакутным безменом товар свой продавати мел, таковы купець... на вряд тамошний тратити будет»)[401].

Шырока ўваходзілі ў грашовы ўжытак і гандлёвую дзейнасць насельніцтва Беларусі манетныя адзінкі розных еўрапейскіх краін. Разам з дзяржаўнай манетай (літоўскім дынарам), якая яшчэ не магла забяспечыць патрэбы ў грошах усіх зямель Беларусі і хадзіла пераважна ў яе заходніх раёнах, ужывалася прыбалтыйская лівонская манета (Полаччына, Віцебшчына), шырока распаўсюджаны быў пражскі грош, што доўгі час складаў фундамент грашовай гаспадаркі дзяржавы. Пачынаючы з XVI ст., як адзначае В. Рабцэвіч, асноўнай манетай Вялікага княства Літоўскага становіцца грашовы знак унутранай вытворчасці — літоўскі паўгрош, які чаканіўся на манетным двары ў Вільні. З гэтага часу грашовы абарот на тэрыторыі Беларусі і Вялікага княства ўвогуле характарызаваўся новымі больш прагрэсіўнымі рысамі, але архаічныя формы таварна-грашовых адносін працягвалі захоўвацца[402]. Паралельна з манетнымі адзінкамі на землях Беларусі доўгі час бытавалі буйныя наміналы ранейшага часу — грыўны, а таксама старажытныя грашовыя знакі — куны (скуры каштоўнага пушнога звера)[403].

[401] Акты Юго-Западной России. Т. I. С. 209.

[402] Там жа. Т. III. С. 298.

[403] Рябцевич В. Н. О чем рассказывают монеты. Мн., 1977. С. 89—97, 100—114.

## АРГАНІЗАЦЫЯ ЖЫЛОГА АСЯРОДДЗЯ, ПАСЕЛІШЧЫ, ХАРАКТАР ЗАБУДОВЫ І ПЛАНІРОЎКІ

Феадальны спосаб вытворчасці, неаднолькавыя фізіка-геаграфічныя і ландшафтныя ўмовы існавання насельніцтва Беларусі, яго адносна невялікая ў параўнанні з наступнымі часамі колькасць абумоўлівалі розны характар засялення асобных рэгіёнаў краю. Значныя плошчы беларускіх земляў займалі тады шматлікія балоты і лясныя масівы, дзе гушчыня насельніцтва была параўнальна невялікай. У той жа час, старажытныя, добра асвоеныя зоны з трывалымі ўмовамі існавання (пераважна на расчышчаных ад лясоў плошчах, у басейнах буйных рэк) былі даволі густа заселены, мелі значную колькасць паселішчаў як гарадскога, так і сельскага тыпаў. У перыяд XV—XVII стст. на Беларусі пачаў актыўна ажыццяўляцца працэс асваення новых зямель, узнікнення новых і ўзбуйнення старых паселішчаў.

Сельскія паселішчы, дзе пражывала большая частка беларусаў, былі вельмі дыферэнцыраванымі па колькасці жыхароў, іх сацыяльнаму становішчу, значнасці і характары іх гаспадарчых заняткаў. Побач з вядомымі са старажытных часоў назвамі «сяло», «сяльцо», «весь», «пагост», у дакументах канца XV — першай паловы XVI ст. пачынаюць сустракацца і такія, як «слабада», «воля», «вoлька», «засценак», «аколіца» і нават проста «селішча». Як новыя, так і старыя тэрміны тыпаў паселішчаў ускосна адлюстроўвалі асаблівасці характару іх узнікнення. Так, назвы «воля», «вулька», «волька» былі звязаны з пэўнымі правамі і льготамі — «волямі»[404]. На думку Ф. Леантовіча, такімі назвамі вызначаліся пасёлкі, узнікаўшыя на толькі што асвоеных землях, насельніцтва якіх было часова вызвалена ад пэўных павіннасцей[405].

[404] «Три чоловеки новых, во воли не седели трех год, а два выседели», «...а тые, выседев волю, подымщину будуть давати...» Гл.: Литовская метрика. Книга записей. Русская историческая библиотека. Т. XX. С. 161 (1490 г.); 164 (1497 г.).

[405] Леонтович Ф. И. Крестьянский двор в Литовско—Русском государстве. СПб., 1897. Вып. I. С. 77—78.

У некаторых валасцях Падняпроўя і Падзвіння дзяржаўныя сяляне, «што на волі сядзяць», сяліліся «на асады за куніцу» (від падаткаў у слабодах) і займаліся земляробствам і промысламі. М. Доўнар-Запольскі прыводзіць таксама звесткі, што людзі, якія сяліліся на дзяржаўных або прыватнаўласніцкіх землях і былі вызвалены ад шэрагу павіннасцей, называліся «слабодзічамі», а іх паселішчы — «слабодамі»[406].

Павелічэнне агульнай плошчы апрацоўваемай зямлі суправаджалася сталым узнікненнем новых селішчаў, якія ўтвараліся, як тады пісалі, «на сыром корані», «на сыром лясе», і былі адносна невялікімі. Цяжкасці, звязаныя з асваеннем новых земляў, абумоўлівалі пасяленне спачатку невялікіх груп людзей двумачатырма дымамі. Нават і паступовы рост насельніцтва ў некаторых раёнах Беларусі не вёў да ўзбуйнення сельскіх паселішчаў. Маладворны тып быў характэрны ў XV—XVII стст. для ўсяго Вялікага княства Літоўскага ў адпаведнасці з указаннем улад на асаду людзей сельцамі, селішчамі ў асобных урочышчах, абрубах, «вуглах». Дробныя хутары-пасёлкі перарасталі часам у больш буйныя паселішчы, калі гэта дазваляла агульная плошча ворыўных зямель, а ў гаспадарках, што былі арыентаваны на жывёлагадоўлю, — яшчэ і памеры сенажацей.

Найбольш буйныя сельскія паселішчы (сёлы, пагосты) існавалі ў той час у розных кутках Беларусі пераважна на староворыўных землях адносна вялікай плошчы[407]. Сёлы і пагосты[408] былі часта цэнтрамі дробных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак — валасцей (дзе жылі валасныя старцы, старэйшыны, прадстаўнікі вялікакняскай ці прыватнай феадальнай улады), амаль што абавязкова мелі культавы будынак, карчму і былі цэнтрамі царкоўных прыходаў і парафій. Некалькі меншымі па памерах і колькасці насельніцтва былі вёскі, весі, дзярэўні[409]. Яшчэ меншымі сельскімі паселішчамі былі засценкі, якія па колькасці двароў набліжаліся да хутароў. Аднак землі, што належалі ім, былі часта намнога большымі, чым у іншых сёлах. У Кобрынскай эканоміі, напрыклад, у сярэдзіне XVI ст. аднаму з засценкаў, у якім пражываў «хазяін з патужнікамі», была прададзена 31 валока зямлі, а ў суседняй вёсцы Дубовае на 10 гаспадарак-дымоў было 10 валок[410]. У той жа эканоміі 15 гаспадароў з сяла Гарадзічы сядзелі на 15 валоках, а побач з сялом быў заснаваны засценак з 15 валокамі зямлі, падараванымі чатыром асочнікам за службу[411].

Першапачаткова засценкі былі паселішчамі пераважна прывілеяванай і свабоднай часткі сялян (асочнікаў, баяраў путных, палазнікаў). Аднак на працягу XVI ст. засценкі ператварыліся ў паселішчы заможных служылых саслоўяў (шляхты, зямян, баяр панцырных), якія за ўладанне ці карыстанне зямлёй выконвалі ваеннаслужбовыя абавязкі. Пры арганізацыі сваёй гаспадаркі шляхта, зямяне, баяры часам захоплівалі дзяржаўныя землі, што выклікала пратэст вялікакняскіх сялян, якія карысталіся гэтымі землямі на правах абшчыннікаў. У дакументах таго часу сустракаюцца запісы вялікакняскіх рэвізораў: «...Иван Хребтович... шляхтич... перешедши межу старо-

---

[406] Археографический сборник документов... Вильно, 1867. Т. I. С. 239—240.

[407] Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI в. С. 44—58.

[408] Назва «пагост» часткова захавалася ў тапаніміцы пераважна на Палессі (напрыклад Пагост-Загародскі), а ў астатніх раёнах — у назвах з коранем «гошч-» і «гост-» (Быгдошч, Відгошч, Радагост).

[409] Бломквист Е. Э. Крестьянские постройки русских, украинцев и белорусов // Восточнославянский этнографический сборник. М., 1956. С. 33.

[410] Валока — плошча зямлі ў 21,37 га.

[411] Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. С. 18—19.

давнюю не мало... пущчи его королевское милости... забравши, на поля разбил. Чему третий год, як пачал... господарскую землю себе привлашчати и на поля разбивати»[412]. Пры ўтварэнні вёсак на новым месцы, адзначае Л. Малчанава, рэвізоры абавязаны былі наглядаць, каб зямля для паселішчаў адводзілася на сярэднім полі — гэта значыць у цэнтры агульнай тэрыторыі, прыдадзенай сялу. Аднак да паловы XVI ст. гэтыя правілы арганізацыі новых паселішчаў і землеўпарадкавання закранулі толькі невялікую частку вялікакняскіх і прыватнаўласніцкіх земляў пераважна ў заходніх раёнах Беларусі[413].

Асноўным тыпам планіроўкі новых (і некаторых старых) сельскіх паселішчаў быў вулічны, які адпавядаў стандартнаму плану землеўпарадкавання і атрымаў найбольшае распаўсюджанне пасля аграрных пераўтварэнняў XVI ст. Планіроўка сельскіх паселішчаў Беларусі канца XV — першай паловы XVII ст. не мела дакладных рэгіянальных асаблівасцей. Вулічны (лінейны) тып быў характэрны для новых паселішчаў (выключаючы засценкі), тады як у старых сёлах побач з вулічнай была больш шырока вядома планіроўка бессістэмнага або кучавога тыпу[414].

У тыпах забудовы сялянскіх сядзіб таксама выяўляліся некаторыя асаблівасці, звязаныя з першым этапам аграрных пераўтварэнняў XVI ст. У новых сёлах больш шырока быў распаўсюджаны пагонны двор («рум», як тады пісалі), дзе жылы дом размяшчаўся ў адзін рад з гаспадарчымі пабудовамі (часта пад адным дахам) ці ў два рады, уздоўж адмераных валок зямлі. Адным з варыянтаў такога тыпу забудовы быў двор, дзе жылы дом стаяў на адным баку вуліцы, а гаспадарчыя будынкі размяшчаліся насупраць. Яшчэ адзін тып забудовы сялянскіх двароў — больш старажытны — гэта так званы вяночны (у плане ён уяўляў сабой замкнуты прамавугольнік), ён быў больш традыцыйны і захоўваўся па ўсёй Беларусі[415].

Асноўным тыпам жылля сельскага насельніцтва быў зруб з двумя памяшканнямі (двухкамерны). Будаваліся дамы «на падрубе» (фундаменце) ці «пры зямлі» (без фундамента). Акрамя двухкамернага жылля было вядома і трохкамернае, якое складалася са святліцы (хаты), сенцаў і яшчэ аднаго жылога або гаспадарчага памяшкання: клеці, каморы, істопкі («...дом старый, светлица, камора, сени... Другой дом при земли»)[416]. Сярод розных тыпаў апорнай сістэмы страхі жыллёвых і гаспадарчых пабудоў была вядома канструкцыя «на сохах», якая захавалася ў сельскім будаўніцтве аж да новага часу[417]. Накрывалі страху саломай, дранкай (дранцам), гонтай. У жылых памяшканнях рабілі печы з комінам ці без яго, калі дым з печы ішоў праз хату («хаты чорныя», «курныя»)[418]. Падлога была драўлянай (з плах), земляной або глінянай, у залежнасці ад гаспадарчага прызначэння памяшкання. Вокны рабіліся невялікімі і закрываліся драўлянай засоўкай, бычыным пузыром, радзей прамасленай паперай і вельмі рэдка шклом, якое каштавала вельмі дорага.

---

[412] Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. С. 18—19.

[413] Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. Мн., 1981. С. 12.

[414] Похилевич Д. Л. Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве, Украине в XVI—XVII вв. // Материалы по истории земледелия в СССР. М., 1952. Т. I. С. 75—78.

[415] Беларускае народнае жыллё. Мн., 1973. С. 325.

[416] Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897. Т. I. С. 110 (1549 г.).

[417] Полоцкая ревизия 1552 г. С. 63—64; Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 607; Беларускае народнае жыллё. С. 31—60.

[418] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. С. 127; Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. VIII. С. 417.

Жылыя пабудовы прывілеяваных саслоўяў (баяр панцырных, зямян, шляхты) былі значна большымі і мелі шэраг канструкцыйных асаблівасцей, якія адрознівалі іх ад традыцыйных будынкаў сялян. Жылыя дамы феадалаў часта былі шматкамернымі, двухпавярховымі (на падклеці), мелі ганак, шкляныя вокны («аблонца шкляныя»), кафельныя печы галандскага тыпу, што прызначаліся толькі для абагрэву жытла, знадворныя галерэі на ўзроўні высока размешчаных вокнаў і гэтак далей[419]. Падклеці вялікіх дамоў выкарыстоўваліся ў якасці складаў для розных хатніх рэчаў і прадуктаў харчавання («под светлицею столовой подклет, в котором хлеб ховают, пиво ставлють и иншые речи стравные»)[420]. Традыцыя будаўніцтва дамоў на падклецях узыходзіла да папярэдняга гістарычнага перыяду і датычыла не толькі жылых, але і гаспадарчых (клеці, свіраны) пабудоў заможных сельскіх жыхароў. Будаўніцтва жылых і гаспадарчых пабудоў традыцыйна рабілася вядомай яшчэ са старажытнасці тэхнікай складання вуглоў бярвенняў у «просты» вугал «з астаткам», «у вобла» («у чашку»). У перыяд XV—XVI стст. атрымлівае распаўсюджанне будаўніцтва зрубаў «у чысты» (нямецкі) вугал, характэрны для дамоў заможных груп сельскага насельніцтва, пераважна шляхты і інш.

Комплекс пабудоў сельскіх сядзіб быў вельмі розным па памерах і залежаў ад маёмаснага становішча канкрэтнага сельскага жыхара. Традыцыйна такі комплекс уключаў хлявы або аборы (комплекс хлявоў), валоўнікі (пабудовы для хатняй жывёлы і птушак), свірны спіжарныя (для захавання збожжа), асеці і еўні, гумны, адрыны, піўніцы (склепы), у заможных феадалаў яшчэ былі стайні (канюшні), свірны скарбныя, сеннікі, бровары (піваварні), млыны, сырнікі (для сушкі сыроў), саладоўні (для вырабу соладу), алейні, лядоўні (склепы-халадзільнікі), корчмы, вяндлярні, часам — пераважна на ўсходзе Беларусі — лазні і гэтак далей[421].

Акрамя жылога дома самаго феадала і гаспадарчых будынкаў, у комплекс сядзібы ўваходзілі і спецыяльныя памяшканні для дваровых слуг — «чэлядзі дворнай» («грыдня з сенцамі для возников и прачок»)[422]. Уладанні буйных феадалаў дапаўняліся яшчэ шматлікімі ўгоддзямі: «землею дворной, оремою и неоремою, з навозы и польми, з гаи, лесы, з боры и з дубравами, з сенажатьми, с поплавами и з болоты, з лугами и озерищами, з ставы и з ставищами...»)[423]. У дадзеным выпадку дакумент 1552 г. апісвае «отчызны» (спадчыны) маёнтак багатага шляхціча ў Пінскім павеце. Дзяржаўныя гаспадаркі, што даваліся магнатам і шляхце ў арэнду, наладжваліся такім жа спосабам. Арандатар, які арандаваў у багатых феадалаў, па сутнасці, быў часовым уладальнікам гаспадаркі «з всими землями... людей пашенных и бортных, и их службами и з даньми грошовыми, и медовыми, и з дяклы ржаными и овсяными, и з сеножатьми, и з реками, и речицами, и з бобровыми гоны, з луги и болоты, з ставы и з ставища, и з млыны и их вымелки, з ловы звериными и пташьими, и з всими платы и пожитки и податьми»[424]. У маёмасць найбольш заможных феадалаўмагнатаў часта ўваходзілі таксама мястэчкі і гарады (ці іх часткі).

---

[419] Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. С. 18—32.

[420] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 356.

[421] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. С. 87—91; Акты Литовско—Русского государства. Вып. 2. С. 86—87, 122, 124—125; Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 354—356, 456, 494, 508—512.

[422] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. С. 122.

[423] Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском. С. 100.

[424] Там жа. С. 32.

0 Зак. 1789



21. Брэст. З гравюры XVI ст.

У архітэктуры, характары планіроўкі і забудовы гарадоў і мястэчак Беларусі ў XV—XVII стст. назіраліся пэўныя асаблівасці, якія паступова складвалі «ўрбанізаваны» знешні выгляд гэтых паселішчаў. У адрозненне ад большасці сельскіх паселішчаў, у гарадах былі распаўсюджаны каменныя пабудовы, прычым колькасць апошніх на працягу XV—XVII стст. паступова павялічвалася, асабліва ў заходніх раёнах Беларусі[425]. У каменных канструкцыях выкарыстоўвалі валуны, цэглу, гліну, вапну, дрэва. У дадзены перыяд атрымлівае распаўсюджанне брукова тып цэглы (так званы «літоўскі»). Выраблялася таксама вядомая яшчэ са старажытных часоў плінфа. Паводле функцыянальнага прызначэння большасць каменных забудоў у гарадах адносілася да абарончых (замкі, крэпасці), культавых (цэрквы, касцёлы), адміністрацыйных і бытавых (ратушы, рынкі, гасціныя двары, цэхавыя дамы), значна радзей — да жылых будынкаў[426]. Такія ж будынкі ўзводзіліся і з дрэва. Напрыклад, замак у мястэчку Радашковічы ў XVI ст. меў «вежи робленные из добрага простесья, ...древляную светлицу с сенью.., а с тое сени троха вышей вежа кругло будована з окнами к обороне, а коло нее кганок вязаны, перены дошками в паз»[427]. Драўляныя канструкцыі выкарыстоўваліся таксама для жылых і гаспадарчых будынкаў гараджан. Пры гэтым дамы часта будаваліся двух-, а то і трохпавярховымі (уключаючы і падклець). Дахі, як і ў сёлах, часта накрываліся саломай. У дакументах таго часу сустракаюцца загады рэвізораў гарадскім радам аб замене саламяных пакрыццяў даху на драўляныя (гонтавыя, дранкавыя) у супрацьпажарных і гігіенічных мэтах[428].

У адрозненне ад забудовы некаторых сельскіх паселішчаў, гарады Беларусі мелі шырока распаўсюджаную лінейную (вулічную) планіроўку. У перыяд з канца XV да першай паловы XVII ст. пашыраецца вядомая з даўніх часоў промневая сістэма планіроўкі вуліц і, адпаведна, жылых кварталаў, калі вуліцы пачыналіся ад аднаго з гарадскіх цэнтраў (замка,

[425] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978. С. 14—16.

[426] Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1977. С. 30, 34—44.

[427] Акты Литовско—Русского государства. Вып. I. С. 91—92.

[428] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVII. С. X.



22. Гродна. З гравюры XVI ст.

крэпасці, ратушы, рынку) і разыходзіліся ў розныя бакі. Паміж галоўнымі вуліцамі ўзнікалі дробныя, што звязвалі іх. Такі тып вулічнай сеткі абумоўліваў планіроўку гарадскіх плошчаў і кварталаў. Колькасць апошніх (ці, як іх тады называлі, «соцен») вызначалася памерамі саміх гарадоў. Магілёў, напрыклад, у XVI ст. складаўся з 15 кварталаў і меў 12 асноўных вуліц[429]. У Кобрыне ў тым жа стагоддзі было каля шасці кварталаў, якія размяшчаліся паміж асноўнымі вуліцамі: Берасцейскай, Пінскай, Раценскай, Балоцкай, Чэрвачыцкай, Астрамецкай. Сам горад складаўся з дзвюх частак, у якія ўваходзіла 337 гаспадарчых двароў (пляцаў)[430].

Падзел гарадоў Беларусі ў эпоху сярэдневякоўя на часткі (пасады, прадмесці, канцы) было тыповай з'явай таго часу і адлюстроўвала структуру горада і яго насельніцтва. Гарады і мястэчкі складаліся часта са «старога места» — найбольш старажытнай часткі, дзе знаходзіліся адміністрацыйныя пабудовы, замак ці крэпасць, рынак, якая была ўмацавана крэпаснымі валамі, — і «новага места», што размяшчалася вакол першага і падзялялася на шэраг пасадаў, заселеных рамесна-гандлёвым і іншым гарадскім насельніцтвам. Напрыклад, Мір у першай палове XVI ст. складаўся са «Старога места», умацаванага крэпаснымі валамі вакол вядомага пяцівежавага замка (пабудаванага ў пачатку стагоддзя), і «Новага места»: Слонімскага і Менскага прадмесцяў, Завальнай і іншых вуліц і завулкаў, збудаваных за гарадскімі ўмацаваннямі. Некаторыя вуліцы Старога горада працягваліся за крэпасным валам і звязвалі старую і новую часткі мястэчка[431].

Полацк у сярэдзіне XVI ст. складаўся з шасці пасадаў: Вялікага, Астроўскага, Якіманскага, Слабодскага, Запалоцкага і Крыўцоў. Памеры пасадаў былі рознымі. У Вялікі пасад уваходзіў 771 мяшчанскі двор, а ў пасад Крыўцоў — усяго 30 двароў[432]. У Полацку была буйная крэпасць, у яе цэнтры знаходзіліся замкі, умацаванні

[429] Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев, 1882. Кн. I. С. 27.

[430] Ревизия Кобринской экономии. С. IV, 4, 5—9.

[431] Гурин М. Ф. Мир: Историко-экономический очерк. Мн., 1985. С. 9.

[432] Полоцкая ревизия 1552 г. С. 15—27.




23. План Полацка ў XVI ст.

якіх складваліся з равоў, валоў і драўляных «гародней» з дзевяццю вежамі (Усцейскай, Машны, Якіманскай, Асвейскай, Сафійскай і інш.). Верхні замак быў злучаны двума мастамі з Вялікім і Запалоцкім пасадамі і налічваў пяць вуліц (Вялікую, Пятроўскую, Ільінскую, Падольскую і Пятніцкую) і два завулкі (Андронаў і Вазнясенскі). Усяго ў Полацку ў XVI ст. было каля 80 вуліц і завулкаў, якія падзялялі Верхні і Ніжні замкі, а таксама ўсе пасады, на сотні і дзесяткі[433].

Такую ж структуру мелі ў той час Віцебск, Бярэсце, Гародня, Навагрудак, Менск і іншыя гарады Беларусі. Традыцыя падзелу гарадоў на пасады, канцы, сотні, дзесяткі захоўвалася на Беларусі са старажытных часоў. Назвы розных частак горада вызначалі іх геаграфічную арыентацыю, тапаграфічнае палажэнне, сацыяльную і нават этнічную асаблівасці. Найбольш старажытныя часткі часта ўваходзілі ва ўмацаваную абарончую сістэму горада. Яны былі акружаны равамі, валамі і сценамі з абарончымі вежамі і брамамі. Гарадскія раёны больш позняй забудовы знаходзіліся за мяжой абарончай сістэмы і мелі некаторыя асаблівасці ў характары планіроўкі, часам бессістэмнай.

Эканамічнае становішча гарадоў і мястэчак як цэнтраў гандлёва-рамеснай дзейнасці таксама вызначала некаторыя асаблівасці іх архітэктуры, звязаныя з існаваннем стацыянарных рынкаў, пабудовай спецыяльных гандлёвых і складскіх будынкаў, гасціных двароў і інш. Адзін-два разы на тыдзень у гарадах на-

[433] Полоцк: Исторический очерк. Изд. 2-е. Мн., 1987. С. 43—44.

ладжваліся таргі, а на працягу года арганізоўваліся адзін ці два вялікія кірмашы, што прыўрочваліся к пэўным рэлігійным святам (напрыклад, у Магілёве «...на свято святога Ильи, а други на свято Стефана, а недельны торг у пятницу на кожны день...»)[434]. Буйныя кірмашы праводзіліся на працягу некалькіх тыдняў («мають тыи ярморки стояти каждый по две недели, со всим добраволеньством»)[435]. У шэрагу гарадоў Беларусі існавалі нават і спецыяльныя падвор'і для заможных (напрыклад, нямецкіх, польскіх) купцоў, дзе ўзводзіліся асобныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы, культавыя будынкі і інш.

Асаблівасці гарадской архітэктуры вызначаліся таксама канфесійным становішчам гарадоў як буйных рэлігійных цэнтраў, дзе будавалася шмат цэркваў, касцёлаў, радзей пратэстанцкіх (пераважна кальвінісцкіх) сабораў (збораў), сінагог, мячэцяў і інш. У адрозненне ад сельскіх паселішчаў, гарады Беларусі канца XV — першай паловы XVII ст. мелі брукаваныя каменем ці замошчаныя бярвеннем вуліцы, шмат двух- і трохпавярховых будынкаў, спецыялізаваных рамесных, гаспадарчых, гандлёвых і складскіх пабудоў і інш. Разам з тым, вялікія плошчы гарадской ці навакольнай зямлі былі адведзены пад угоддзі для сельскагаспадарчых заняткаў гарадскога насельніцтва (агароды, сады, сенажаці, нават і ворыўныя землі). Сумяшчэнне гарадскіх і сельскагаспадарчых заняткаў, урбанізаванай і сельскай архітэктуры было асабліва характэрна для мястэчак, якія з'яўляліся цэнтрамі адміністрацыйнага, гаспадарча-эканамічнага, сацыяльна-палітычнага, рэлігійнага і культурнага жыцця навакольных валасцей і паветаў. Мястэчкі мелі вулічную планіроўку, цэнтральную адміністрацыйна-гаспадарчую і гандлёвую (з рынкам) частку паселішча, часта феадальны замак, некалькі культавых будынкаў і інш. У адрозненне ад гарадоў, многія мястэчкі не былі ў канцы XV — першай палове XVII ст. умацаваны спецыяльнымі абарончымі збудаваннямі (равамі, валамі, крэпаснымі сценамі, вежамі), а знаходзіліся пад ваеннай аховай бліжэйшага замка, крэпасці ці рэлігійных будынкаў абарончага тыпу (манастыра і інш.). Большасць жылых і гаспадарчых пабудоў у мястэчках нагадвалі сялянскія з характэрнай планіроўкай двароў. Астатнія будынкі ўзводзіліся па ўзору гарадскіх. Асноўныя вуліцы мястэчак былі часта брукаванымі і іншы раз складалі частку буйных гандлёвых шляхоў, што звязвалі між сабой гарады як Беларусі, так і суседніх краін. Напрыклад, мястэчка Гальшаны размяшчалася ўздоўж буйнага шляху з Вільні на поўдзень і перасякалася другой вуліцай, што складала частку шляху з Крэва на Трабы. На скрыжаванні вуліц-шляхоў знаходзілася Гандлёвая плошча (Рынак) з карчмамі і гандлёвымі дварамі. Мястэчка мела касцёл і царкву, замак (стары будынак), дзе ў 1492 г. адбыўся з'езд магнатаў Вялікага княства Літоўскага для выбару кандыдата на дзяржаўны трон. Асноўнымі заняткамі жыхароў Гальшан былі рамёствы, гандаль, земляробства, жывёлагадоўля, мукамольны, бортны, півоварны і іншыя промыслы, прадукты якіх ішлі на мясцовыя патрэбы, а таксама на продаж[436].

Увогуле характар планіроўкі, забудовы і архітэктуры населеных пунктаў Беларусі меў традыцыйныя, узятыя ў спадчыну са старажытных часоў формы, якія дапаўняліся новымі з'явамі, звязанымі з паступовым развіццём культуры прафесійнага будаўніцтва і арганізацыі жылога асяроддзя. Значную ролю ў гэтым

[434] Белорусский архив древних грамот. Сост. И. И. Григорович. СПб., 1964. Ч. I. С. 37.

[435] Акты Западной России... Т. II. С. 267 (1516 г.).

[436] Корзун Э. С. Гольшаны. Мн., 1987. С. 10—14.



24. Замак у Міры. XVI—XVII стст.

працэсе адыгрывала сталая тэндэнцыя далучэння беларускіх майстроў да здабыткаў заходнеўрапейскай архітэктуры і культуры арганізацыі паселішчаў.

Новай рысай архітэктуры Беларусі канца XV — першай паловы XVII ст. з'явілася пашырэнне выкарыстання ў дойлідстве каменя і цэглы, з якіх будаваліся касцёлы, цэрквы, манастыры, крэпасці, феадальныя замкі[437]. На рубяжы XV і XVI ст. на Беларусі склаўся своеасаблівы тып інкастэляванага храма ў выглядзе прамавугольнага будынка з чатырма баявымі вежамі. Да ліку такіх храмаў-замкаў адносяцца пабудаваныя на Беларусі ў часы Ф. Скарыны Полацкі Мікольскі храм, Супрасльская, Сынкавіцкая і Маламажэйкаўская цэрквы.

У канцы XV — сярэдзіне XVI ст. былі пабудаваны таксама каменныя замкі ў Міры, Заслаў'і, Геранёнах, кальвінісцкі збор у Койданаве і інш. На думку М. Ткачова, пачынаючы з першай паловы XVI ст., у замкавым будаўніцтве Беларусі выявіліся дзве характэрныя тэндэнцыі. Першая мела цягу да ўзораў еўрапейскай бастыённай фартыфікацыі (замкі ў Заслаў'і, Нясвіжы, Гальшанах, Ляхавічах і інш.), а другая — да мясцовых традыцый (замкі ў Любчы, Міры, Геранёнах)[438].

Разам з існаваўшымі раней каменнымі і драўлянымі замкамі, крэпасцямі, ратушамі, цэрквамі і касцёламі (у Полацку, Гародні, Навагародку, Слуцку, Камянцы, Бярэсці, Лідзе, Крэве, Менску, Ваўкавыску, Віцебску, Пінску, Кобрыне, Мсціслаўлі, Оршы, Барысаве і інш.) і з пераважна драўлянымі гаспадарча-бытавымі і жылымі будынкамі простых гарадскіх слаёў, новыя, умацаваныя каменем пабудовы канца XV — сярэдзіны XVI ст. склалі своеасаблівае аблічча гарадской архітэктуры тых часоў.

[437] Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1928. Т. I. С. 139—198.

[438] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. С. 43—139.

## АДЗЕННЕ

Рост рамеснай вытворчасці і гандлю, актывізацыя міжэтнічных сувязей беларускага насельніцтва з іншымі народамі Еўропы абумовілі пашырэнне асартыменту розных відаў адзення жыхароў Беларусі канца XV — першай паловы XVII ст. Пэўныя саслоўныя асаблівасці адзення феадалаў і сялян, што існавалі і раней, яшчэ больш значна дыферэнцыраваліся, аднак набылі шмат пераходных формаў, якія адпавядалі ўнутрысаслоўнай маёмаснай няроўнасці як у межах класа феадалаў, так і сялян. Акрамя таго, у гэты перыяд намецілася тэндэнцыя складвання своеасаблівага гарадскога касцюма, які сумяшчаў у сабе традыцый-

ныя і новыя (часта іншаэтнічныя) элементы адзення, якія ў розных групах гарадскіх жыхароў нагадвалі то адзенне заможных феадальных саслоўяў, то звычайнае сялянскае адзенне (некаторымі асаблівасцямі, напрыклад, у абутку, упрыгожваннях і інш.).

Характэрным матэрыялам для адзення было сукно, патрэбы ў якім пастаянна раслі і задавальняліся за кошт расшырэння мясцовай рамеснай і саматужнай хатняй вытворчасці, а таксама імпарту з розных еўрапейскіх і азіяцкіх краін. Назвы тканіны часам дастаткова добра вызначаюць геаграфію гэтага імпарту. Напрыклад, сукно было нямецкае, ангельскае (англійскае), чэшскае, гішпанскае, фламанскае, мараўскае, валошскае (пераважна італьянскае) і інш. Ішло яно галоўным чынам на патрэбы заможных слаёў гараджан і феадалаў. У залежнасці ад якасці сукно вызначалася рознымі назвамі: «фалюндыш», ці «люндыш» (простае сукно лонданскага ці галандскага паходжання), «кір» (тоўстае сукно), «калтраш», «хаба», «сярмяга» (грубае сукно), «шараю» (тканіна з воўны і ільну), «штамет», ці «шамет» (лёгкая тканіна з воўны).

Палатно, тканае з ільну, падзялялася на «каленскае» (нямецкае ці чэшскае), «камбру» (тонкае палатно імпартнага паходжання), проста палатно (часта даматканае), кужэльнае (з добра апрацаванага ільну без пакулля), зрэбнае (ільняное з дадаткам пакулля ці каноплі) і інш. Імпартаваліся на Беларусь у той час розныя віды шаўковай (адмашак, тафта, блават, камка, байдарак, бракат, фларанс, флер) і баваўнянай (бавеліна, бархат, бухалер, бурля, кандыбура, аксаміт — з шоўку ці бавоўны) тканіны[439].

[439] Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. С. 60—64; Улащик Н. Н. Одежда белорусов XVI—XVIII вв. // Древняя одежда народов Восточной Европы: Материалы к историко-этнографическому атласу. М., 1986. С. 135—136.

У сялянскім і мяшчанскім асяроддзі была распаўсюджана, галоўным чынам, тканіна мясцовай вытворчасці («кір», «хаба», «сярмяга», «шараю», палатно, палатно кужэльнае, зрэбнае і інш.), сыравінай якога служылі лён, воўна і каноплі. Сяляне і многія гараджане выраблялі палатно і сукно самі, а таксама куплялі ці абменьвалі. Тканіна мясцовай вытворчасці часта ішла на падбіўку пры шыцці верхняга адзення феадалаў і заможных гараджан. Пры неабходнасці тканіна фарбавалася ці адбельвалася. Фарбавальнікі, у асноўным, выrabляліся з мясцовай расліны або мінеральнай сыравіны, аднак некаторыя рэдкія ці можныя для таго часу каляровыя таны (пурпуравы, лазурковы) імпартаваліся з краін Захаду і Ўсходу. Сярод іншых матэрыялаў, з якіх шылася адзенне, былі футра і скуры, што шырока выкарыстоўваліся для пашыву верхняга адзення і абутку.

Асновай як жаночага, так і мужчынскага касцюма была кашуля (сарочка). Мужчынскі касцюм дапаўняўся паясным (штаны, споднi, порты, шалавары), плечавым (кафтан, світа, жупан) і верхнім (кажухі, шубы, дылеі, даламаны, феразі, капенякі, цугі, зіпуны) адзеннем. У жаночы касцюм таксама ўваходзіла плечавое і паясное адзенне (фартухі, юпы, спадніцы, плахты). Жаночае адзенне ўключала таксама плацці (баскіні, левіткі, абончыкі, сукні), кофты (летнікі, полчамаркі)[440].

[440] Світа, сукман — распашное адзенне да калена з сукна; сукня — святочнае жаночае плацце з сукна і іншых відаў тканін; дылея, епанча — плашч з шырокімі рукавамі і шырокім каўнярoм; сярмяга — верхняе адзенне з грубага сярмяжнага сукна; кабеняк, капеняк — плашч без рукавоў, што прызначаўся на выпадкі непагадзі; жупан — суконнае, рэдка скуранoе адзенне, прамога пакрою, двухбортнае з вялікім адкладным каўняром; феразея, феразь — мужчынскае доўгае адзенне з вялікімі рукавамі, без каўняра і пояса, таксама жаночае плацце, якое зашпільвалася з верху да нізу, іншы раз — святочнае плацце; сарафан, чуга — доўгае верхняе адзенне з добра апрацаванай тонкай скуры (часта воўчай) футрам наверх; плахта — кавалак тканіны, абгорнуты вакол стану, нясшытае жаночае паяснoе адзенне; зіпун — верхняе мужчынскае адзенне.

Верхняе жаночае адзенне, аналагічнае па назвах мужчынскаму, вызначалася, галоўным чынам, фасонам і тыпам пакрояў.

Да перыяду першай паловы XVI ст. адносіцца з'яўленне на Беларусі некаторых відаў адзення, якія пазней сталі традыцыйнымі элементамі народнага жаночага касцюма: безрукаўкі (кабаты), кароткае верхняе адзенне (саяны), паласатыя спадніцы (андаракі). Адначасова ў народным асяроддзі захаваліся і працягвалі бытаваць больш старажытныя віды традыцыйнага адзення: панева, фартух, запаска, плахта. Некаторыя віды адзення былі запазычаны ў народаў іншых краін (Турцыі, Венгрыі, Германіі), напрыклад: армякі (ермякі, гермакі) — доўгае да шчыкалатак адзенне з воўны ці сукна, даламаны — гусарскія плашчы, кунтушы — доўгае плечавое адзенне, што насілі шляхта і гараджане паверх жупана, жаночыя кофты і інш. У некаторых выпадках розныя назвы аднаго і таго ж тыпу і віду адзення ўзнікалі на падставе розніцы ў якасці матэрыялу або ў сувязі з некаторымі асаблівасцямі фасону ці нават і лексікі (напрыклад: сукман — тое ж, што і світа, дылея — епанча, кабат — гарсэт і гэтак далей).

Традыцыйна ў мужчынскі і жаночы касцюм уваходзілі таксама розныя галаўныя ўборы: хусткі, рантухі, чапцы, кіферы, наміткі, кучмы, шлыкі, каўпакі, каптуры, магеркі, капелюшы і інш.[441]

Разнастайным па тыпах, відах і назвах быў у той час абутак. З даўніх часоў на Беларусі быў распаўсюджаны скураны абутак, які насілі як заможныя групы насельніцтва, так і гараджане і сяляне. У залежнасці ад спосабаў апрацоўкі сыравіны і якасці скуры (саф'ян, замша, ял і інш.), а таксама ад фасону пашыву залежала і разнастайнасць тыпаў абутку: боты, бочмагі, чаравікі. Як адзначае М. Улашчык, вельмі папулярным быў у той час абутак жоўтага колеру[442]. У сялянскім асяроддзі характэрным тыпам абутку былі таксама лапці-пасталы (хадакі), як пляцёныя з лыка, так і пашытыя са скуры. Пляліся ці шыліся таксама спецыяльныя лапці, што адзяваліся на асноўны абутак у выпадках дрэннага надвор'я (па тыпу галёшаў). Агульны выгляд касцюма дапаўняўся рознымі паясамі (скуранымі, плеценымі са шнуроў, тканымі), гузікамі, шнуркамі, упрыгожаннямі, рукавіцамі, кашалькамі, сумкамі і іншымі дробнымі рэчамі[443]. Адрозненні назіраліся пераважна на саслоўным узроўні і былі цесна звязаны з маёмасным становішчам пэўных слаёў і груп насельніцтва.

Больш выразныя і падрабязныя характарыстыкі адзення насельніцтва Беларусі канца XV — першай паловы XVII ст. атрымліваюцца пры параўнальным супастаўленні сярэдневяковага і больш грунтоўна даследаванага адзення розных прадстаўнікоў беларускага народа ў XIX — пачатку XX ст., а таксама пры выкарыстанні сінхроннага ізаграфічнага матэрыялу (пераважна партрэтаў). Так, уяўляе цікавасць апісанне адзення Ф. Скарыны па ўсім вядомай аўтэнтычнай гравюры 1517 г., дзе беларускі першадрукар апрануты ў феразею з доўгімі і шырокімі рукавамі паверх світы са стаячым каўняром, з-пад якой відаць высокі каўнер ка-

---

[441] Намітка (намет, павойнік) — звязаны з ручніка галаўны ўбор замужніх жанчын; кіфера — дзявічы чэпчык; кучма — высокая шапка, аблямаваная каштоўным футрам; шлык — зімні мужчынскі конусападобны галаўны ўбор, аблямаваны футрам; рантух — вялікая хустка з імпартнай тканіны, што часта насілі жанчыны на плячах; магерка — лямцавая, сукняная ці аксамітавая шапка венгерскага паходжання; капелюш — летні галаўны ўбор з саломы, таксама шляпападобны ўбор з іншых матэрыялаў, уключаючы і аблямаванне футрам.

[442] Улащик Н. Н. Одежда белорусов XVI—XVIII вв. С. 137.

[443] Паясы і ўпрыгожанні ігралі важную ролю ў бытавой абраднасці беларускага насельніцтва, напрыклад у шлюбных святах, калі іх давалі ў падарункі маладой, маладому, іх сваякам, сватам і інш.

шулі. На галаве барэцік — галаўны ўбор, што насілі ў той час на Беларусі пераважна вучоныя людзі, біскупы, радзей заможныя гараджане іншаэтнічнага паходжання[444].

Адзенне было ў той час свайго роду адзнакай саслоўна-сацыяльнага маёмаснага становішча чалавека, па адзенню сустракалі... і адпаведна прымалі. Таму ў тагачасным феадальным грамадстве існавалі пэўныя табу на нашэнне некаторых відаў адзення (ці на адзенне, зробленае з каштоўных матэрыялаў) для незаможных і нязнатных груп насельніцтва. У гарадах, напрыклад, падмайстрам, прыказчыкам, вучням цэхавыя статуты забаранялі насіць больш багатае адзенне, чым купцам, цэхавым майстрам і старэйшынам.

Па сацыяльных нормах таго часу адзенне павінна было адпавядаць пэўнаму ўзроўню саслоўнай ці ўнутрысаслоўнай іерархічнай лесвіцы. Для простых гарадскіх саслоўяў забараняліся, напрыклад, галаўныя ўборы з выкарыстаннем сабалінага футра, што імпартавалася на Беларусь пераважна з Маскоўскай дзяржавы: нельга было насіць адзенне пурпуравага колеру, аксамітавыя і шаўковыя рэчы, упрыгожанні з серабра, золата, жэмчуга, зброю тыпу ардынкі ці шаблі, мячы і іншае. Лічылася, што такія каштоўныя рэчы яны не могуць набыць сумленна, таму і не трэба імкнуцца да трымання такога адзення.

У адносінах да мяшчанскай гарадской вярхушкі (членаў рады, купцоў, цэхавых старэйшын, таксама іх жонак) такіх абмежаванняў у канцы XV — першай палове XVII ст. у Беларусі яшчэ не было (за выключэннем шаблі, якую маглі насіць толькі прадстаўнікі шляхецкага саслоўя, у тым ліку зямяне, баяры-панцырныя, баяры-шляхта). Адзенне заможных, нават саслоўна і неаднародных груп гараджан было амаль што аднолькавага тыпу і адрознівалася пераважна ад адзення беднай часткі насельніцтва гарадоў, сялян, а з другога боку — магнатаў, багацце адзення якіх іншы раз не паддаецца апісанню. Трэба таксама заўважыць, што даволі вялікая вартасць адзення нават і ў заможных груп насельніцтва абумоўлівала частае ўжыванне ў хатнім побыце больш сціплага адзення[445].

Да адзення ўвогуле ставіліся з павагай. У гарадах і асяроддзі феадалаў існаваў звычай дарыць каштоўнае адзенне адзін другому, адзенне давалася як міласць жабракам і калекам у дні розных свят, вандроўнікам, якія мелі ў ім патрэбу. Цэхавыя статуты загадвалі пазычаць ці браць у наём за грошы добрае адзенне тым, хто не мае свайго для святочных працэсій і цырымоній з удзелам усіх членаў цэхаў.

Адзенне выконвала і некаторыя сацыяльныя функцыі, звязаныя з пэўнымі ўяўленнямі, нормамі маралі, паводзін і адносін. Напрыклад, замужнія жанчыны амаль што ўсіх саслоўяў павінны былі насіць на вуліцы, на людзях увогуле, галаўныя ўборы, што поўнасцю закрывалі іх валасы. Непакрытая шапкай галава чалавека на вуліцы сведчыла аб яго не вельмі добрым становішчы, няшчасці, хваробе, беднасці і інш. І наадварот, мужчыне трэба было знімаць шапку ў жылым памяшканні, у храме, ратушы, перад старэйшымі і больш знатнымі людзьмі, духоўнымі асобамі і інш. Напрыклад, за тое, што мешчанін ці іншы гараджанін уваходзіў у залу суда ратушы ў час пасяджэння не зняўшы шапкі, яго маглі пакараць штрафам. Шапка як спецыфічны атрыбут доказу невінаватасці, згоды ці нязгоды фігуравала і на копных сходах і судах беларускіх сялян. Дурным тонам

[444] Горбачевский Н. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и царства Польского. Вильно, 1874. С. 41.

[445] Улащик Н. Н. Одежда белорусов XVI—XVIII вв. С. 136—138.

лічылася збіць шапку з галавы іншага чалавека. У шляхецкім асяроддзі такія выпадкі завяршаліся «сатысфакцыямі» ў карысць пакрыўджанага.

Увогуле, на прыкладзе такой важнай рысы матэрыяльнай культуры народа, як адзенне, дастаткова добра адлюстроўваюцца феадальны характар між- і ўнутрысаслоўных адносін, пэўныя маральныя нормы і ўяўленні, што існавалі ў беларускім грамадстве тых часоў. Некаторыя з тагачасных асаблівасцей адзення існавалі і раней, другія толькі пачалі ўзнікаць і набылі пануючае становішча ў наступны гістарычны перыяд, аднак да нашага часу дайшлі мала якія: гістарычны працэс, развіццё грамадства і яго нормаў, сталае змяненне моды зрабілі большасць з іх неактуальнымі ці сацыяльна нейтральнымі і малазразумелымі.

## ЕЖА, НАПОІ, РЭЧЫ ХАТНЯГА ЎЖЫТКУ

Аснову харчовага рацыёну насельніцтва Беларусі складалі прадукты земляробства, гародніны і жывёлагадоўлі. Шэраг прамысловых заняткаў (паляванне, бортніцтва і пчалярства, рыбалоўства, збіральніцтва, піваварства, алейніцтва і інш.) з'яўляўся дадатковай крыніцай папаўнення харчовага меню мясам прамысловай дзічыны, мёдам, рыбай, раслінным алеем, арэхамі, ягадамі, грыбамі і інш. Асноўныя спосабы гатавання ежы ўключалі тэрмаапрацоўку (выпечка, варка, вэнджанне), саленне, квашанне, вяленне і інш. На рынках беларускіх гарадоў замежныя і мясцовыя купцы гандлявалі таксама некаторымі стравамі, што не мелі распаўсюджання ці не раслі на Беларусі ўвогуле, што таксама садзейнічала частковаму папаўненню харчовага рацыёну насельніцтва, але галоўным чынам заможных саслоўяў. Прывазной была ў Беларусі таго часу і соль, якая дастаўлялася з раёнаў Прыкарпацця, Польшчы, Прусіі[445].

Найбольш важкае месца ў гатаванні разнастайных страў займаў працэс выпечкі хлеба. У асяроддзі значнай часткі гараджан і сялян хлеб выпякалі пераважна з жытняй мукі ў хатніх умовах («на поду», у печах «рускага» тыпу)[447]. У заможных і знатных саслоўяў больш распаўсюджаным быў белы хлеб і іншыя вырабы з пшанічнай мукі («сітніцы», «калачы», «булцата», «пірагі»)[448], вытворчасць якіх ажыццяўлялася ў спецыяльных пякарнях, што існавалі пры кожным феадальным маёнтку.

Разам з тым, пачынаючы з першай паловы XVI ст., у гарадах і часткова мястэчках Беларусі ўзнікаюць спецыялізаваныя рамесныя цэхі па вырабу хлебнай прадукцыі пераважна для гараджан. Цэхі пекараў аб'ядноўвалі рамеснікаў розных спецыяльнасцей: хлебнікаў, калачнікаў, сітнікаў, крупеннікаў, — якія працавалі пераважна на заказ і арыентаваліся на вытворчасць белага хлеба і іншых вырабаў з пшанічнай пытляванай мукі. Хлеб выпякаўся ў формах, радзей «на поду» па пэўных стандартызаваных нормах, што рэгламентавалі яго форму, вагу і адпавядалі паняццю «бохан» («боханак», «боханец»).

[445] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. С. 213—216.

[447] Напрыклад: «...а коли муку житную у хлебе спекут, то тесто печеное солодко, а за скорину хотя ложки клади, а в печи не печется». Гл.: Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 187—188.

[448] «Пірагамі» ў сярэдневяковай Беларусі называліся як мучныя вырабы з начынкаю (грыбамі, яйкамі, макам), так і проста белы хлеб без усякай начынкі. Параўн. са старажытнарус. «пірог». Гл.: Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка. СПб., 1902. Т. 2. С. 933—935.

Пры саматужным вырабу хлеба ў хатніх умовах (што мела найбольш шырокае ўжыванне ў той час) жорсткага рэгламентавання формы і вагі «бохана» не было, але існавалі ўстойлівыя традыцыі выпечкі хлеба круглай ці авальнай формы вагай у 2, 2,5 і 3 кг.[449] Напрыклад, чытаем у Ф. Скарыны: «Два боханце со дву десятин пшеничное муки...»[450] Традыцыйна хлеб выпякаўся адразу на адзін ці некалькі тыдняў, захоўвалі яго ў дзежках ці іншым кухонным посудзе ў загорнутым у вільготную анучу выглядзе.

Са старажытных часоў на Беларусі людзі ставіліся да хлеба з вялікай павагай. Хлеб з'яўляўся абавязковым элементам шэрагу народных абрадаў, звязаных з культам урадлівасці, што ўзыходзіў яшчэ да язычніцкіх светаўяўленняў. Напрыклад, у вясельных абрадах важная роля адводзілася караваю, які быў звычайна круглай формы і ўпрыгожваўся фігурамі сонца, месяца, жывёл, птушак, раслін і кветак, што таксама ляпіліся з цеста. Як адзначаецца ў спецыяльных даследаваннях, беларускі вясельны каравай семантычна адлюстроўваў народныя ўяўленні аб міфалагічным сусветным дрэве (касмаганічныя мадэлі) і выконваў ролю сімвала тых звышнатуральных боскіх сіл, якія былі здольны забяспечыць добрае жыццё маладой сям'і, дзяцей, багацце і інш. Разам з тым, каравай з'яўляўся яшчэ і своеасаблівай вобразнай ахвярай для касмаганічных сіл, таксама сімвалам урадлівасці (маладую, напрыклад, саджалі на каравай перад першай шлюбнай ноччу) і гэтак далей. Даследчыкі адзначаюць, што большасць элементаў каравайных абрадаў беларусаў, падрабязна запісаных этнографамі ў XIX — пачатку XX ст., узыходзіць яшчэ да эпохі першабытнага ладу[451].

Распаўсюджанай і таксама міфалагічна рытуалізаванай стравай з мукі былі бліны, якія выпякаліся абавязкова на святочныя дні з жытняй, пшанічнай, аўсянай, ячнёвай, грэчневай мукі. Як салярны сімвал бліны былі семантычна звязаны з культам Ярылы — сонца, жыцця, урадлівасці, сезоннага вясенняга адраджэння прыроды і таму падобнага, што прадвызначала сувязь бліна-сімвала з пэўнымі каляндарна-аграрнымі днямі і тэрмінамі (напрыклад, з Масленіцай, Калядамі)[452]. Аднак не менш тыповым было ўжыванне бліноў і на іншыя святы, а таксама ў кожную нядзелю.

Святочнай стравай з мукі былі іншы раз дробныя блінцы, што выпякаліся на патэльні, аднак шырокага ўжывання ў беларускай традыцыйнай кухні яны не мелі. Больш тыповымі дробнымі выпечанымі з мукі стравамі былі аладкі-праснакі, «плешчанікі», «скавароднікі» з прэснага цеста, што пякліся як на патэльнях, так і «на поду». Ужываўся таксама своеасаблівы тып салодкіх аладак з начынкай ці абмазкай тварагом, макам і іншымі прадуктамі, з якімі, напрыклад, хадзілі ў адведкі да рожаніцы. Аладкі з прэснага цеста, што еліся з тоўчаным макам, рабіліся таксама на памінкі[453]. Для памінак звычайна рыхтаваўся спецыяльны від снедання з ячменных або ячнёвых (радзей

---

[449] Маленькім выпякаўся толькі апошні хлябец — «паскробыш».

[450] Библия руска. Книга Левит. Выд. Ф. Скорины. Прага, 1519. С. 44.

[451] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Киев, 1909. Т. I. С. 147—158; Карский Е. Ф. Белорусы. М., 1916. Т. 3. С. 257—259; Иванов В., Топоров В. Н. К семиотической интерпретации каравая и каравайной обрядности у белорусов // Труды по знаковым системам. Тарту, 1967. Т. III. С. 64—70.

[452] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1893. С. 25—50.

[453] На думку чэшскага славіста Л. Нідэрле, аладкі з прэснага цеста з'яўляюцца прыкладам захавання ў народным асяроддзі найбольш старажытных традыцый хлебапячэння. Гл.: Нидерле Л. Славянские древности. М., 1956. С. 315—317.

пшанічных) круп — куцця, якая была рытуальнай стравай для памінання нябожчыкаў. Увогуле, кашы з аўсяных, ячнёвых, грэчневых і іншых круп былі характэрны для беларускай народнай кухні. Пэўнае распаўсюджанне мелі разнастайныя вадкія гарачыя стравы: заціркі, крупнікі, поліўкі, баршчы (бурачнік, бацвіннік і інш.). Многія стравы рыхтаваліся з прадуктаў гародніны: гароху, бобу, капусты, рэпы, морквы, буракоў, цыбулі. На XVI ст. прыпадае шырокае распаўсюджанне на Беларусі такой вядомай агародніцкай культуры, як агуркі[454]. Гарох і бабы ішлі на гатаванне кашы, капусту варылі, парылі, смажылі, вельмі часта квасілі і салілі («капусты кадь соленое, а кислое пять...»)[455]. У квашаным выглядзе ўжывалі ў ежу таксама буракі. Агуркі часцей за ўсё салілі («кадок для соления огурков три...»)[456]. У якасці прыпраў ужывалі хрэн, кроп, пятрушку, мяту, мак, семя каноплі і інш. Некаторыя прыправы, што часам ужываліся пры гатаванні страў у асяроддзі гараджан і феадалаў, даволі шырока імпартаваліся на Беларусь з розных паўднёвых краін: перац чорны і чырвоны, «цынамон» (карыца), гваздзіка, імбір, лаўровы ліст, шафран, ізюм, арэхі, аніс, кмен, «мікгдал» (міндаль) і інш.

Значная колькасць страў беларускай кухні эпохі феадалізму рыхтавалася з прымяненнем прадуктаў жывёлагадоўлі і птушкагадоўлі. У асяроддзі простых саслоўяў у ежу ўжывалася часцей за ўсё свініна і бараніна, радзей — мяса буйнай рагатай жывёлы, хатняй птушкі. Мяса смажылі, варылі, вялілі, вэндзілі, што значна пашырала асартымент мясных страў. Інвентарныя апісанні гаспадарскіх «свірнаў спіжарных» у феадальных маёнтках даюць пэўныя ўяўленні пра некаторыя мясныя прадукты, напрыклад: «бочок 12 мяса, полтей (палова туши) 34, сал 14, кумпей 23, колбас 16, поребрей 9, гусей вялых 30»[457], «...сала голандских свиней $6^1/_2$ пластов, сала простых свиней 2 пласта, внутреннего жира комьев 4, желудков 2, окороков 22, языков 25, грудинок 6, толстых колбас 38, кореек 30, гусей старых вяленых 20, колбас 60...»[458] Каўбасы ўвогуле былі вельмі распаўсюджаным і папулярным мясным прадуктам у асяроддзі розных саслоўных груп беларускага насельніцтва, з'яўляліся амаль што тыповай стравай святочнага стала кожнага больш-менш заможнага дома. З каўбасой сяляне хадзілі адзін да другога ў госці (напрыклад, калі ішлі ў адведкі). Практыкаваліся падарункі ці частаванне каўбасой для каляднікаў у дні калядных свят. Старажытныя акты XVI ст. абазначаюць існаванне ў прасталюдзінаў своеасаблівай пірушкі — «каўбасіны», на якой галоўную ролю іграла каўбаса[459]. Для продажу каўбасы шырока выраблялiся сялянамі-слугамі ў кожным феадальным маёнтку, а ў гарадах — «каўбаснікамі», якія гандлявалі ёю ў «ятках» (спецыялізаваных мясных лаўках).

Асноўнымі спосабамі гатавання каўбасных вырабаў былі іх варка з наступным смажаннем, а таксама вяленне і вэнджанне. Вяндліна была далікатэснай стравай і рабілася ў спецыяльных пабудовах-«вендлярнях»[460], якія існавалі амаль што пры кожнай сельскай феадальнай гаспадарцы, у гарадах і мястэчках. Сяляне вэндзілі і вялілі мяса і прадукты з яго ў сенях, пад страхой, на гарышчы, куды выходзіў дым з курных печаў.

[454] Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. С. 46—47.

[455] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XXI. С. 186.

[456] Там жа. Т. XIV. С. 201.

[457] Там жа. С. 21.

[458] У кн.: Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. С. 48.

[459] Актовые книги Гродненского земского суда за 1529—1540 гг. // Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XXV. С. 123.

[460] Историко-юридические материалы... Т. V. С. 4.

Ужыванне мясных страў у ежу розных саслоўяў залежала ад іх маёмаснага становішча, узроўню развіцця і арыентацыі гаспадаркі. Мяса-малочная спецыялізацыя ў XVI ст. у шэрагу заходніх раёнаў, традыцыйнае распаўсюджанне жывёлагадоўлі на большасці тэрыторыі Палесся і ў іншых рэгіёнах Беларусі абумоўлівалі даволі шырокае ўжыванне мяса і прадуктаў з яго. Аднак бедны і незаможны сельскі і гарадскі люд частаваўся мясам не кожны дзень і не ў вялікай колькасці.

Дадатковай крыніцай папаўнення мяснога рацыёну было паляўніцтва. Аднак для простых саслоўяў паляўніцтва для асабістых патрэб было абмежаваным, а на шэраг відаў мясной дзічыны і ўвогуле забароненым (выключэнне складала, галоўным чынам, паляўніцтва на прамысловых птушак).

Замест мясных прадуктаў, а таксама ў часы рэлігійных пастоў, ужывалася ежа расліннага паходжання, яйкі, малочныя прадукты, рыба. Сярод малочных прадуктаў традыцыйна папулярнымі былі кіслае малако, масла, тварог (спецыяльна прыгатаваныя тварагі былі таксама і рытуальнай стравай, напрыклад, на Вялікдзень). Шырока ўжываліся ў ежу насельніцтва Беларусі плады садовых культур (яблыкі, грушы, слівы, вішні, агрэст, парэчкі), ягады (маліны, брусніцы, суніцы, журавіны, ажыны), арэхі і грыбы. З садавіны і ягад варылі варэнне, рабілі螺 рознае пітво, часам сушылі (сушаныя фрукты і ягады выкарыстоўвалі ў якасці лекавых сродкаў і як ласункі для дзяцей).

Сярод розных напояў, што дапаўнялі меню беларускай традыцыйнай кухні ў эпоху феадалізму, найбольш вядомымі былі разнастайныя кісялі, адвары, квасы. Хмельныя напоі часта рабіліся з дадаткам хмелю (які з'яўляўся адной з распаўсюджаных у Беларусі агародных культур і быў нават адным з фальклорных вобразаў), а таксама соладу, што спецыяльна рыхтавалі для піваварэння. У XVI ст. сярод розных рамесных спецыяльнасцей дакументы адзначаюць існаванне ў гарадах саладоўнікаў, што рыхтавалі (расцілі і зброджвалі) солад з зерня жыта, ячменю, пшаніцы і гандлявалі ім. Спецыяльныя пабудовы для вытворчасці соладу — саладоўні — існавалі і пры буйных феадальных маёнтках.

Найбольш распаўсюджанымі на Беларусі канца XV — першай паловы XVII ст. былі слабаалкагольныя напоі, якія рыхтаваліся з мёду (медавуха, мёд хмельны, пітны, прэсны, сыры, шыпучы і інш.). Для надання напоям з мёду пэўнага паху і смаку ў іх клалі рознае карэнне, кветкі, травы. Вельмі распаўсюджаным было таксама піва, што варылі з самых разнастайных раслін з дадаткам хмелю. Піваварэннем займаліся як асобныя аматары, так і сяляне-слугі ў панскіх і прыватнафеадальных піваварнях — броварах[461], піваары ў спецыялізаваных гарадскіх цэхах. Сяляне выраблялі піва ў той час пераважна для сваіх асабістых патрэб і спажывалі па вялікіх святах. Гандлявалі півам і мёдам у прыватнаўласніцкіх і дзяржаўных карчмах піўных і мядовых. Піва адрознівалася па сваёй якасці, спосабу гатавання і смаку, у сувязі з чым падзялялася на розныя гатункі, напрыклад: карчажнае (самаробнае), аўсянае, кляштарнае, шляхецкае, марцыпанавае і інш.[462] Мутнае самаробнае піва пілі часта праз «рурκі» (трубкі), каб не ўзбоўтваць асадак. Шляхцічы пілі такое піва, карыстаючыся доўгімі трубкамі і адхіляючыся ад стала. Гарэлка на Беларусі да сярэдзіны XVI ст. яшчэ не мела распаўсюджання і выкарыстоўвалася пераважна для аптэкарскіх спраў як лекавы настой супраць розных

[461] Пры буйных броварах часта трымалі бычкоў для спецыяльнага кармлення брагай.

[462] Цярохін С. Ф. У фокусе канкрэтнага факта. Мн., 1988. С. 22—26.

інфекцыйных захворванняў. Мясцовая вытворчасць гарэлкі толькі-толькі пачыналася, таму яе пераважна імпартавалі з краін Заходняй Еўропы і гандлявалі па вельмі вялікіх цэнах. Яшчэ больш за гарэлку каштавала ў той час віно, якое было на Беларусі выключна прывазным (напрыклад: малмазыя, лагоньскае, венгерскае і інш.). Пілі яго выключна заможныя феадалы і зрэдку, толькі ў дні ўрачыстыя, сярэдняя і дробная шляхта. Сяляне і большасць гараджан пра заморскае віно не маглі нават і марыць[463], аднак, трэба разумець, ведалі яго смак, паколькі ўсё ж некалькі разоў у год прычышчаліся ім у царкве ці касцёле.

Саслоўна-класавыя асаблівасці ўжывання харчовага рацыёну ў насельніцтва Беларусі эпохі феадалізму адлюстроўвалі вельмі характэрную для дакапіталістычных класава-антаганістычных грамадстваў з'яву сацыяльнай несправядлівасці, калі ежа «кіруючых і пануючых» значна адрознівалася ад ежы «працуючых» толькі на падставе розніцы іх саслоўнага становішча, а адпаведна і памераў маёмасці і магчымасці карыстання дасягненнямі параўнальна высокай на той час гаспадаркі краіны.

Асабліва яскрава саслоўная розніца ў спажыванні харчовых прадуктаў назіралася ў дні розных урачыстасцей і свят, калі заможныя феадалы арганізоўвалі вялікія піры і балі, што працягваліся па некалькі дзён, а то і тыдняў і абыходзіліся гаспадару-магнату ў дзесяткі тысяч золатам (што адпавядае вартасці некалькіх сярэдніх па памерах сёлаў). Багацце ежы і напояў, раскоша посуду і іншых хатніх рэчаў, інтэр'ера ўвогуле характарызавалі гэты бок быту магнатаў.

Інвентарныя запісы XVI ст. данеслі да нашага часу даволі падрабязныя апісанні інтэр'ера і розных бытавых рэчаў у дамах заможных феадалаў: вялікія шкляныя (часам і з каляровага шкла) вокны з фортачкамі і «аканіцамі на завесах»; печы, абліцаваныя каляровай паліванай кафляй (часта рэльефнай ці размалёванай — як мясцовай, так і замежнай вытворчасці); на сценах віселі тканыя, вышываныя, скураныя з цісненнем і фарбоўкай шпалеры і габелены; разнастайная зброя — шаблі, суліцы (дзіды), бардышы (алябарды), сагайдакі (лукі), гакаўніцы, рушніцы (ружжы) і іншыя «броні»; упрыгожаная разьбой і інкрустацыяй мэбля (лавы, крэслы, сталы, шавы, паліцы, куфры); медныя, цынаваныя (алавяныя), бронзавыя, сярэбраныя ліхтары і кандэлябры. На паліцах, ліштвах (карнізах) і сталах знаходзіўся разнастайны сталовы посуд: шкляны, медны, цынаваны (алавяны), сярэбраны, пазалочаны, керамічны паліваны і фарбаваны (місы, паўмісы, талеры, медніцы, жбаны, куфлі, келішкі, чаркі, фляшкі, сулеі і інш.)[464].

Інвентары дзяржаўных уладанняў сведчаць таксама і пра хатняе начынне, бытавыя і гаспадарчыя рэчы, некаторыя элементы інтэр'еру людзей простых саслоўяў, што пражывалі ў феадальных маёнтках: чэлядзі дворнай, сялян-слуг і іншых («...дом, где ткачи мешкают, светлица с сеньми, в тое светлицы печь простая, у вокнах 2 облонцы шкляных старых, а две паперовых, оконцы до тых окон на завесах, двери у светлицы и у сенях, у дверях пробои, защепки в целости, лавы 2»)[465]. Агульны інтэр'ер жылога памяшкання абавязкова дапаўняўся сталом, куфрам, паліцамі, дзе быў небагаты сталовы по-

---

[463] Напрыклад, вельмі таннае віно малмазыя каштавала ў пачатку XVI ст. 50 талераў за бочку; за гэтыя грошы можна было купіць 50 добра адкормленых валоў. Гл.: Цярохін С. Ф. У фокусе канкрэтнага факта. С. 16.

[464] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 355—364; С. 635—637; Т. XVIII. С. 43—45; Акты Западной России. Т. III. С. 186—188; Т. III. С. 130—135.

[465] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIV. С. 356.

суд з дрэва і керамікі, радзей металу (місы, жбаны, карцы, налівачы, лыжкі і інш.). У чырвоным куце хаты (насупраць дзвярэй) вешалася ікона, а пад столлю — лучнік для асвятлення жылога памяшкання. Спалі сяляне на лавах і на печы. У гаспадарчых памяшканнях хаты стаяла неабходнае кухоннае і гаспадарчае начыненне: бочкі і бочачкі, кадкі, кадзі, чопы, кадаўбы, карыты, ночвы, бойкі, барылкі, біклагі, дзежкі хлебныя і піўныя, даёнкі, кублы і інш. Некаторыя гаспадарчыя рэчы вырабляліся з саломы, лыка, луба, прута (лукошкі, лубянкі, саламянкі, кашы, сеўні і інш.).

Рэчы хатняга побыту часткова рабілі самі сяляне, а часткова куплялі ці абменьвалі ў сельскіх рамеснікаў (бондараў, ганчароў і інш.)[466]. Вытворчасцю больш якасных і каштоўных рэчаў хатняга ўжытку займаліся таксама і гарадскія рамеснікі (бондары, вядзёрнікі, каўшоўнікі, карзіншчыкі, скрыннікі, сталяры, аконнікі, ганчары, муляры, печнікі, карытнікі і інш.), прадукцыя якіх ішла на патрэбы не толькі гараджан, але і сялян. Пэўная колькасць рэчаў хатняга прызначэння (са шкла, металу, каменю, фаянсу) імпартавалася на Беларусь з іншых краін, перш за ўсё заходнееўрапейскіх (з Польшчы, Чэхіі, Венгрыі, Германіі, Італіі, Англіі). Імпарт задавальняў пераважна патрэбы найбольш заможных слаёў феадальнага грамадства Беларусі.

Інтэр'ер хаты, посуд, гаспадарчыя кухонныя і сталовыя рэчы — усё гэта ў сваёй сукупнасці не было аднолькавым нават і ў прадстаўнікоў аднаго і таго ж саслоўя. Колькасць і якасць прадметаў хатняга ўжытку заўжды мелі пэўныя аптымізаваныя мінімумы, але маглі ўзрастаць у залежнасці ад маёмаснага становішча асобных гаспадароў, характару гаспадарчых заняткаў, велічыні сям'і і інш. Арганізацыя жыллёвага быту залежала таксама ад саслоўнага становішча чалавека і пэўным чынам адлюстроўвала апошняе.

Служылыя феадалы (зямяне, шляхта), таксама заможныя гараджане імкнуліся наладзіць свой хатні побыт адпаведна лепшым узорам з асяроддзя свайго саслоўя. Да гэтага імкнуліся таксама і сяляне, што часам удавалася ажыццявіць прадстаўнікам некаторых найбольш прывілеяваных катэгорый сялянства (бортнікам, асочнікам, палазнікам, баярам), хаты якіх сваім багаццем часта былі не горш за дамы дробнай, шарачковай шляхты. Аднак увогуле сялянства жыло не багата, асабліва яго ўжо запрыгоненыя катэгорыі. У той жа час, поўнае разарэнне, згаленне «свайго» сялянства было невыгадным для землеўласніка, калі ён імкнуўся ўмацоўваць і развіваць сваю гаспадарку. Больш дрэннае становішча было ў тых груп дзяржаўных сялян, якіх разам з іх землямі і гаспадаркамі вялікакняская ўлада аддала ў арэнду ці ў часовае карыстанне шляхце і іншым служылым феадалам.

Небагаты быт беларускага сялянства і ўседазволенасць для феадалаў адзначалі некаторыя іншаземныя падарожнікі (гандляры, дыпламаты), што праязджалі па землях Беларусі ў канцы XV — першай палове XVII ст. Напрыклад, аўстрыйскі дыпламат барон С. Герберштэйн адзначаў, што калі пан «у суправаджэнні гурту слуг уваходзіў у жыллё якога-небудзь селяніна, то яму было беспакаранна ра-

---

[466] Формы і канкрэтнае функцыянальнае прызначэнне розных хатніх рэчаў таго часу рэканструюцца па некаторых ізаграфічных і археалагічных матэрыялах канца XV — XVI ст. і па этнаграфічных дадзеных XIX—XX ст. Гл.: Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. С. 52—60; Титов В. С. Народные деревообрабатывающие промыслы Белоруссии. Мн., 1976. С. 47—79; Милюченков С. А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984. С. 102—135; Кацер М. С. Народно-прикладное искусство Белоруссии от первобытного общества до 1917 г. Мн., 1972. С. 49—88; Яніцкая М. М. Вытокі шкларобства Беларусі. Мн., 1980; Яна ж. Беларускае мастацкае шкло XVI—XVIII стст. Мн., 1977; Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984.

біць усё, што ён захоча, грабежнічаць і адбіраць неабходныя для жыцця рэчы і нават жорстка пабіць селяніна»[467].

На сваіх землях паны былі паўнапраўнымі і адзінаўладнымі гаспадарамі, якіх не маглі перакараць ні вялікакняская ўлада, ні хрысціянская царква. «Шляхта ў агародзе — падобна ваяводзе», сведчыць беларуская прымаўка. Каб выглядаць не горш за сваіх суседзяў, шляхціч часам кіраваўся не цвярозым розумам, а сваім шляхецкім гонарам, які рос па меры ўзрастання багацця. Дзяржаўнае права давала панам магчымасць ажыццяўляць гэта за кошт падуладнага сялянства, што фармулявалася ў вядомым феадальным прынцыпе: «бяры ў селяніна столькі, каб ён не памёр толькі».

[467] Герберштейн С. Записки о московитских делах // Россия XV—XVII вв. глазами иностранцев. М., 1986. С. 128.

## ДУХОЎНАЯ КУЛЬТУРА

Духоўная культура насельніцтва Беларусі XIV—XVII стст. па сваёй унутранай структуры, паходжанні, распаўсюджанасці і сацыяльнай значнасці адпавядала ўвогуле матэрыяльнай культуры. Таксама, як і матэрыяльная, духоўная культура мела ў той час даволі відавочную саслоўна-класавую дыферэнцыраванасць, калі адны яе сферы былі прызначаны для задавальнення духоўных патрэб пераважна пануючых саслоўяў, а другія былі ўласцівымі, галоўным чынам, для духоўнага жыцця простых людзей. Разам з тым, жорстка рэгламентаванай саслоўна-класавай абмежаванасці розных сфер духоўнай культуры не было. Характар першапачатковых этапаў выхавання і адукацыі дзяцей нават і ў асяроддзі пануючых саслоўяў, напрыклад: сярэдняй і дробнай шляхты, зямян, баяр — абумоўліваў іх сувязь і веданне традыцый духоўнага жыцця народа.

З другога боку, прадстаўнікі свабодных, непрыгонных груп беларускага насельніцтва (асабліва з асяроддзя прывілеяваных катэгорый сялянства, заможных мяшчан) мелі магчымасць далучацца да духоўных каштоўнасцей агульначалавечага значэння, што ўзніклі ці існавалі на той час ў Еўропе і ў іншых краінах свету. Вялікую ролю ў гэтым адыгрываў працэс удасканалення сістэмы адукацыі і школьнай справы, што пачаўся на Беларусі ў канцы XV — першай палове XVI ст.; а таксама тэндэнцыя пашырэння рознабаковых узаемасувязей беларусаў з іншымі народамі Еўропы. Даволі яскравым прыкладам гэтага былі жыццёвыя і творчыя шляхі ўраджэнцаў Беларусі таго часу: Андрэя Свірскага, Ваўжынца Слонімскага, Адама з Багіна, Яна з Вісліцы, Міколы Гусоўскага, Францыска Скарыны і іншых, якія прадстаўлялі розныя слаі тагачаснага беларускага грамадства: пераважна дробную і сярэднюю шляхту, баяр, зямян, духавенства і мяшчанства.

Першапачатковы этап выхавання і адукацыі дзяцей да ўзросту 8—15 гадоў праходзіў, часцей за ўсё, у межах сям'і, дзе з ранняга дзяцінства яны мелі пэўныя абавязкі па хатняй працы. Важнай справай у выхаванні падлеткаў быў працэс іх далучэння да неабходных народных ведаў аб прыродзе, каляндарна-працоўных цыклах, лекарскай справе, да традыцый, абрадаў, фальклору і гэтак далей. У той жа час, працэс выхавання і адукацыі меў і саслоўны, і прафесійны характар, што вызначалася той перспектывай жыцця і працы, якую планавалі сваім дзецям іх бацькі. Характар першапачатковых этапаў выхавання і адукацыі дзяцей нават пануючых саслоўяў (сярэдняй і дробнай шляхты, зямян, баяр) абумоўліваў іх су-

вязь і веданне традыцый духоўнага жыцця народа. Доўгі час існаваў звычай «дзядзькавання», калі дзеці беларускай шляхты аддаваліся на пэўны тэрмін на выхаванне ў сялянскую сям'ю, што было выклікана жаданнем выхоўваць у шляхцюкоў з маленства фізічныя і духоўныя якасці простага народу: працавітасць, любоў да зямлі, сілу і вынослівасць, непераборлівасць у ежы і адзенні[468]. Пэўная ступень выхавання лічылася абавязковай і заўжды падтрымлівалася грамадствам (напрыклад, С. Будны пісаў: «...отци которіе чада своя по веленію божіему в благовѣрію и в наказанію выховывают великою потомъ поѣху с ніх мѣвають...»[469]). Для дзяцей большасці катэгорый беларускага сялянства адукацыя пачыналася адпаведна з працай па хатніх справах. Дзеці некаторых катэгорый сялян па дасягненні пэўнага ўзросту пачыналі вучыцца рамяству ў свайго бацькі, сваяка, суседа. Часам атрымоўвалі і пачатковую школьную адукацыю, напрыклад, пры манастырах («...они... тых детей вышей менованых выховывать, ремесла або іакое науки учыць прыказали»)[470]. Трэба адзначыць, што з другой паловы XVI ст. на Беларусі пачаў ажыццяўляцца працэс пашырэння сеткі пачатковых школ, якія канцэнтраваліся пераважна пры манастырах, касцёлах і цэрквах, дзе атрымоўвалі адукацыю дзеці ўсіх саслоўяў, у тым ліку і сялянства.

Актыўны дзеяч рэфарматарскага руху на Беларусі Сымон Будны пісаў у той час, што «Церковъ для трех причинъ маетъ держати або приходы або именья. Первая причина, абы служители мъли выхованье... Третяя причина, абы нищимъ было выхованье...»[471]. Павелічэнне колькасці пачатковых школ, навучальных устаноў і агульнага ўзроўню адукацыі было звязана ў значнай ступені з пранікненнем на беларускія землі розных каталіцкіх ордэнаў (францысканцаў, дамініканцаў, бернардзінцаў, кармелітаў і езуітаў)[472], якія арганізоўвалі справу выхавання па еўрапейскаму ўзору[473].

Сувязь школьнага выхавання з рэлігіяй і царкоўна-клерыкальнай сістэмай, калі навучальныя ўстановы існавалі пры цэрквах і манастырах, рэлігійных брацтвах розных адгалінаванняў хрысціянства, увогуле была характэрнай з'явай. Гэта абумоўлівала абавязковае практыкаванне ў школах малітваў, засваенне «закону божага», тэалагічных асноў веры і гэтак далей. Сярод свецкіх прадметаў выкладалі грамату (беларускую ці, як яе тады называлі, «рускую» мову вывучалі з канца XVI ст. галоўным чынам у школах пры каталіцкіх, уніяцкіх і пратэстанцкіх рэлігійных установах, пры праваслаўных — яшчэ і царкоўнаславянскую), арыфметыку, геаметрыю, радзей астраномію, дыялектыку, рыторыку, філасофію. Вывучалі іншыя мовы, напрыклад: латынь, грэчаскую, польскую[474].

У розных пачатковых установах колькасць прадметаў і якасць іх выкладання былі рознымі. Большасць навучальных устаноў не мела абмежаванняў па канфесіянальнаму прынцыпу. Напрыклад, у школы каталіцкіх манаскіх ордэнаў мелі доступ і праваслаўныя. У тых школах, дзе не трэба было плаціць грошы (пры рэлі-

[468] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. С. 480.

[469] Будны С. Катихисісъ для деток хрістянскихъ языка руского коротко выложена. Клецк, 1562. С. 72.

[470] Историко-юридические материалы... Т. XXXII. С. 178 (1578 г.).

[471] Будны С. Катихисісъ для деток хрістянскихъ языка руского коротко выложена. С. 92б.

[472] Езуіцкія калегіўмы існавалі ў другой палове XVI — XVII ст. у Полацку, Смаленску, Пінску, Нясвіжы, Мсціслаўлі, Віцебску, Менску, Оршы, Магілёве, Вільні і інш.

[473] Дорошевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Мн., 1979. С. 3—33.

[474] Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 12.

гійных брацтвах, некаторых царквах, касцёлах, манастырах), адукацыю маглі атрымаць нават дзеці «ўбогага люду» і сялянства[475]. Аднак у большасці выпадкаў дзеці сялян і бедных гараджан з ранняга дзяцінства былі далучаны да працы «на хлеб надзённы» ў якасці памочнікаў бацькоў, служак, хлопцаў, парабкаў, казачкоў, вучняў і падмайстраў пры рамесніках, царквах, шпіталях, адміністрацыйна-службовых установах, гарадскіх камунальных службах. У цяжкія гады войнаў, рабавання, разбурэння, эпідэмій і неўраджаеў у гарадах распаўсюджвалася дзіцячае жабрацтва і адыходныя промыслы ў сельскую мясцовасць, іншыя гарады за «ялмужнай» у складзе цэлых бадзячых груп жабракоў.

У той жа час, прадстаўнікі сярэдніх і заможных груп гараджан мелі магчымасць накіроўваць сваіх дзяцей на выхаванне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Еўропы. Ураджэнцы Беларусі атрымлівалі вышэйшую адукацыю ва ўніверсітэтах Кракава, Прагі, Аламоўца, Вены, Крулеўца (Кёнігсберга), Гейдельберга, Вютэнберга, Інгальшадта, Падуі і інш. Напрыклад, у Кракаўскім універсітэце ў канцы XV — першай палове XVI ст. каля чвэрці ад агульнай колькасці студэнтаў з Беларусі і Літвы былі прадстаўнікамі мяшчанскага саслоўя, астатнія — пераважна з зямян і шляхты[476].

Еўрапейскія ўніверсітэты былі крыніцамі многіх прагрэсіўных ідэй таго часу: гусіцкіх, рэнесансавых, рэфармацыйных і інш. Універсітэцкая адукацыя і выхаванне пашыралі далягляд беларускай моладзі, садзейнічалі асваенню перадавых думак і культурных каштоўнасцей, заахвочвалі да актыўнай дзейнасці і творчасці на ніве як агульнаеўрапейскай, так і нацыянальнай культуры і літаратуры. Еўрапейская адукаванасць абумовіла значны ўплыў на станаўленне і развіццё духоўнай культуры беларусаў эпохі развітога феадалізму, яскравым прыкладам чаго было жыццё і творчая дзейнасць беларускага першадрукара і асветніка-гуманіста, доктара Ф. Скарыны. Сінтэз заходнееўрапейскіх тэндэнцый і мясцовых традыцый грамадскага развіцця быў характэрным амаль што для ўсіх сфер духоўнай культуры народа ў перыяд XVI ст., аднак найбольш відавочна адлюстраваўся на прафесійнай культуры і культуры гарадоў.

Характэрнай тэндэнцыяй, якая пачала актывізавацца менавіта ў XV—XVI стст. і стабільна развівалася ў наступныя перыяды феадалізму, было далучэнне беларускага грамадства да многіх дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі. Новыя з'явы культуры, быту, перадавой думкі, навукі і тэхнікі распаўсюджваліся сярод розных сацыяльных груп беларускага народа, уключаючы і «простыя саслоўі», напрыклад мяшчанства, прадстаўніком якога быў Францыск Скарына.

Амаль усё новае, што з'яўлялася ў той час на Беларусі, праходзіла своеасаблівую адаптацыю да мясцовых умоў, у выніку чаго захоўвалася, відазмянялася, пашыралася ці знікала. Захавалася, пашыралася і дасягнула значнага развіцця, напрыклад, справа кнігадрукавання, якую заснаваў беларускі першадрукар. Ужо к канцу XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім пабачылі свет 324 мясцовых кніжных выданні (з якіх 151 — на лацінскай мове, 114 — на польскай, 50 — на беларускай, 9 — на іншых мовах)[477]. Аднак у эпоху феадалізму з яе саслоўна-класавай няроўнасцю, надзвычай цяжкім маёмасным, грамадскім і культурным становішчам большай часткі працоўных людзей,

[475] Харлампович К. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII вв. Казань, 1898. С. 8—21.

[476] Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд. Мн., 1985. С. 92—95.

[477] Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 13.




25. Ф. Скарына. Фрэска ў Падуанскім універсітэце

адсутнасцю ў іх вольнага часу, грошай і магчымасці адукацыі кола распаўсюджанасці кнігі мела яшчэ значнае абмежаванне. Чытанне кніг насіла ў той час пераважна элітарны характар і практыкавалася галоўным чынам у асяроддзі вучоных людзей, царкоўных дзеячаў, адукаваных заможных слаёў, шляхты і багатых гараджан, часткова ў школах. Значная частка тагачаснага феадальнага грамадства яшчэ не мела магчымасці не толькі мець і чытаць кнігу, але і быць адукаванай увогуле, была вымушана ўспрымаць веды толькі традыцыйным вербальным і эмпірычным шляхам. Прагрэсіўныя, дэмакратычныя ідэі і мары Ф. Скарыны апярэджвалі час, а ў першай палове XVI ст. яшчэ значна тармазіліся, абмяжоўваліся пануючымі феадальнымі грамадскімі адносінамі, рэлігійнай манаполіяй на асвету, развіццё пісьменства і літаратуры.

У XVI ст. у літаратуру і публіцыстыку Беларусі пачынаюць паступова пранікаць параўнальна новыя элементы, звязаныя з уплывам ідэй еўрапейскага гуманізму, паступова ажыццяўляліся працэсы дэмакратызацыі беларускай літаратуры і пісьменства ўвогуле. Ідэі Рэфармацыі і еўрапейскага гуманізму былі ўласцівы для творчасці Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, М. Ліцвіна, А. Валана, Л. Крышкоўскага і інш. Эстэтыка Рэнесанса, што адлюстроўвалася ў творах М. Гусоўскага, Я. Вісліцкага, А. Рымшы, П. Бярынды, Л. Зізанія, К. Пянткоўскага, садзейнічала развіццю рэалістычных тэндэнцый. Усё гэта абумовіла ўзнікненне на Беларусі свецкай літаратуры на лацінскай мове, павелічэнне розных выданняў пісьменнасці іншых народаў, перакладной літаратуры. Так, у другой палове XVI — першай палове XVII ст. на беларускую мову былі перакладзены духоўныя аповесці «Пакуты Хрыста», «Жыццё святога Аляксея», шэраг біблейскіх кніг, таксама свецкая і гістарычная літаратура («Хроніка» М. Стрыйкоўскага, «Александрыя», «Аповесць пра




26. Тытульны ліст «Библии» Ф. Скарыны




27. Тытульны ліст «Псалтыри» Ф. Скарыны. 1517 г.

Трою»). Літаратурныя пераклады, на думку даследчыкаў, адлюстроўвалі працэс дэмакратызацыі мовы беларускай пісьменнасці[478]. У гэты ж перыяд беларуска-літоўскае летапісанне адыходзіць ад традыцый агульнарускіх летапісаў, пачынае напаўняцца мясцовым гістарычным, этнаграфічным і фальклорным матэрыялам[479]. Выразна выявілася таксама тэндэнцыя рамантызаваць нацыянальную (этнічную) гісторыю і больш эфектыўна выкарыстоўваць яе дзеля патрыятычнага выхавання чытачоў. Некаторыя летапісныя творы, напрыклад так званы «Баркулабаўскі летапіс», паказвалі побыт шырокіх колаў насельніцтва Беларусі, у тым ліку гараджан і часткова сялян. Новыя з'явы ў літаратуры Беларусі другой паловы XVI — першай паловы XVII ст. адлюстраваліся ў рэлігійна-палемічнай публіцыстыцы Л. Зізанія, М. Сматрыцкага, Л. Карповіча, А. Філіповіча, І. Кунцэвіча, І. Пацея, Л. Сапегі, І. Руцкога, Х. Філалета і ў палітычнай сатыры («Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча»). Пачатая Ф. Скарынам традыцыя кнігадрукавання была працягнута працамі С. Буднага, В. Цяпінскага, П. Мсціслаўца, І. Фёдарава, М. Кавечынскага, друкарамі Вільні, Бярэсця, Заблудава, Магілёва, Нясвіжа, Лоска, Еўя, Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра і інш.

Рукапісная кніга як рэлігійнага, так і свецкага зместу таксама характарызавалася ў той час шырокім распаўсюджаннем. У пачатку XVI ст. складальнікам і перапісчыкам кніг Мацвеем Дзесятым была створана беларуская рэдакцыя «Пралога» (зборнік жыцій, павучальных аповесцей, апавяданняў) і збору Стара- і Новазапаветных кніг Біблії, узніклі рукапісныя зборнікі энцыклапедычнага зместу, гімнаграфічныя кнігі, што змяшчалі музычныя (рэлігійныя і свецкія) творы[480]. У XVI — першай палове XVII ст. далейшае развіццё атрымлівае дзелавое, канцылярскае пісьменства (юрыдычныя акты, граматы, інвентары і інш.) на тагачаснай беларускай літаратурнай мове. Разам з тым, у справаводства Вялікага княства Літоўскага ўсё больш пачынае прасочвацца польская мова. Аднак афіцыйнай на гэты час яшчэ была старажытнабеларуская («руская») мова.

На фарміраванне грамадскай думкі і духоўнай культуры Беларусі XVI — першай паловы XVII ст. пэўны ўплыў

---

[478] Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд. С. 92—95.

[479] Гл.: Летописи белорусско-литовские // Полное собрание русских летописей. Т. 35. М., 1980; Т. 32. М., 1975.

[480] Николаев В. Н. Славянская рукописная книга на белорусских землях в XIV—XVIII вв. Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Л., 1988.

пачаў аказваць заходнееўрапейскі рэфармацыйны рух. Некаторыя дзеячы культуры і асветы выказвалі вельмі радыкальныя на той час погляды і ідэі перабудовы грамадства, выступалі з патрабаваннямі шырокай верацярпімасці, асуджалі запрыгоньванне сялянства, свавольствы свецкіх і духоўных феадалаў, раскошу іх жыцця і побыту, шчыра клапаціліся пра развіццё нацыянальнай культуры і мовы (Ф. Скарына, М. Ліцвін, В. Цяпінскі і інш.). Распаўсюджанне пратэстантызму (у Беларусі пераважна кальвінізму) у першай палове XVI ст. абумовіла складанне рэфармацыйнай ідэалогіі (С. Будны, В. Цяпінскі, А. Волан, М. Чаховіц, Л. Крышкоўскі і інш.). Сярод выдатных рэлігійных дзеячаў тых і больш позніх часоў трэба адзначыць С. Зізанія, Ф. Філіповіча, І. Барэцкага, М. Сматрыцкага, П. Магілу, Х. Філалета (М. Бранеўскага), І. Карпінскага, І. Руцкага, І. Пацея і інш.

У значна меншай ступені, чым іншыя сферы духоўнай культуры, новыя з'явы духоўнага развіцця XIV — першай паловы XVII ст. закранулі традыцыйны фальклор беларускага народа, які ў цэлым складаўся з тых жа асноўных жанраў і элементаў, што бытавалі на Беларусі і ў папярэдні гістарычны перыяд (песні, магічныя заклінанні, звязаныя з паганскай абраднасцю, галашэнні, гульні, быліны, казкі, легенды, загадкі). Шырока бытавалі лірычныя песні. Новае, што ўзнікла ў фальклоры беларусаў XIV — першай паловы XVII ст. і было зафіксавана, звязана пераважна са складаннем і развіццём новага жанру — гістарычнымі песнямі і паданнямі, галоўнай тэмай якіх была барацьба за этнічную і сацыяльную незалежнасць.

Адным з асноўных элементаў духоўнай культуры народа Беларусі XIV — першай паловы XVII ст. (таксама як папярэдніх і наступных часоў) з'яўлялася вуснапаэтычная творчасць і звязаныя з ёю абрады. Вялікае месца ў духоўнай культуры займала таксама хрысціянская ідэалогія і абраднасць, мясцовыя варыянты якіх сталі на Беларусі ў адзначаны перыяд ужо традыцыйнымі.

Гістарычныя дакументы канца XV — першай паловы XVII ст. змяшчаюць мала аўтэнтычнага фальклорнага матэрыялу таго часу, аднак бытаванне ў больш познім фальклоры беларусаў шэрагу старажытных, у тым ліку і язычніцкіх пластаў, зафіксаваных даследчыкамі ў канцы XVIII—XIX ст., дазваляе лічыць іх існаваўшымі ў народнай вуснапаэтычнай і абрадавай творчасці і ў перыяд XIV — першай паловы XVII ст.[481]

Падобная рэтраспекцыя дапускаецца і значнай ступенню захавання са старажытнейшых часоў да XIX — пачатку XX ст. істотнага зместу, шэрагу галоўных функцый і канкрэтных формаў правядзення фальклорна-абрадавых дзеянняў, а таксама ўскоснымі сведкамі матэрыялаў XV—XVI стст. Язычніцкія і ўвогуле дахрысціянскія пласты беларускага фальклору, абрадаў, звычаяў грунтаваліся як у XIX — пачатку XX ст., так і ў ранейшыя часы на старажытных формах светаўспрымання, на фантастычных уяўленнях і рацыянальных народных ведах аб жыцці жывой і нежывой прыроды і чалавека.

Разам з тым, з прыняццем і распаўсюджаннем хрысціянства язычніцкія ўяўленні часткова былі выцеснены хрысціянскай ідэалогіяй і абраднасцю, а часткова захаваліся ў відазмененай ці нязменнай форме, што ўвогуле складала

---

[481] Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1893; Карский Е. Ф. Белорусы. Очерки словесности белорусского племени. Народная поэзия. М., 1916; Романов Е. Р. Белорусский сборник. Киев, 1886. Вып. 1—2; Шейн П. В. Бытовая и семейная жизнь белорусов в обрядах и песнях. СПб., 1890; Никольский Н. М. Дохристианские верования и культы днепровских славян. М., 1929; Сержпутоўскі А. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930; Песні народных свят і абрадаў. Мн., 1974; Дзіцячы фальклор. Беларуская народная творчасць. Мн., 1972 і інш.

сінкрэтычны характар гэтай сферы духоўнай культуры народа. Фальклор і абрады беларусаў на працягу ўсёй эпохі феадалізму і аж да бліжэйшых да нас часоў працягвалі захоўваць і выконваць пэўныя функцыі, звязаныя з уміласціўленнем прыроды (зямлі, неба, вады, агню), багоў і бажкоў, духаў і іншых міфічных персанажаў, з працэсам пазнання свету і выхавання падрастаючых пакаленняў, з лячэбнай, ахоўнай, чарадзейнай магіяй і інш.

Дахрысціянскія па сваёй глыбіннай семантыцы абрады і фальклор уключалі, напрыклад, уяўленні аб жывой істоце агню, зямлі, вады і інш. Да гэтых стыхій, як сведчаць фальклорныя даныя, ставіліся па звычаю з вялікай павагай. Агонь, напрыклад, лічыўся жыватворнай, ачышчальнай субстанцыяй, якая патрабавала сімвалічных ахвярапрынашэнняў. Нельга было «апаганьваць» агонь дурнымі дзеяннямі. З культам агню былі звязаны розныя святы (Купала), абрады («жаніцьба коміна») і інш.

Як жывая істота, карміцелька і парадзіха-маці ўспрымалася ў народзе зямля. Са старажытных часоў на Беларусі быў распаўсюджаны вялікі шэраг абрадаў, звязаных з культам урадлівасці зямлі, ураджаю, існавалі нават і такія, што сімвалічна «дапамагалі» зямлі «радзіць» добры ўраджай. Абрады, звязаныя з урадлівасцю, бытавалі і ў адносінах да хатняй жывёлы. Асобная група (пераважна вясельных і перадвясельных) шлюбна-сямейных абрадаў мела на мэце забяспечыць урадлівасць і прыбытак у гаспадарцы[482].

Шмат розных абрадаў і паданняў беларускага фальклору звязаны з вадой, дажджом. Вада была таксама асяроддзем, дзе жылі розныя міфічныя істоты (русалкі, вадзяныя-воднікі і інш.), якія ў адносінах да чалавека маглі быць злымі ці нейтральнымі, у залежнасці ад абставін іх «сустрэчы». Культ русалак быў звязаны з трансфармаваным рытуалам ахвярапрынашэння, водгукі якога наглядаліся ў абрадах свята Купалы, так званых русалій і інш. Міфічныя персанажы звычайна антрапаморфнай формы існавалі, на думку старажытных продкаў, у лясах (лесавікі, лесуны), балотах (багнюкі, балотнікі), на скрыжаваннях дарог (сохі, роды) і гэтак далей. Існавалі на Беларусі таксама абрады і культы, звязаныя з громам, маланкай, каменнямі, сонцам і іх сакраментальнымі персаніфікацыямі: Перуном і Ярылам. Некаторыя з культаў старажытных славянскіх багоў часткова трансфармаваліся пад уплывам хрысціянскай рэлігіі (напрыклад, апекуном хатняй жывёлы замест старадаўняга Велеса—Воласа лічыўся на Беларусі Ілля).

З рэшткамі старажытных татэмных уяўленняў і абрадаў былі звязаны культы дзікіх жывёл, птушак, паўзуноў: ваўкоў, мядзведзяў, тураў, вужоў, буслоў і інш. Згодна фальклорных уяўленняў, у лютых ваўкоў маглі пераўтварыцца і некаторыя людзі-ваўкалакі, мядзведзя нельга было называць яго сапраўдным уласным імем, а толькі табуіраванай мянушкай (параўнальна: мядзведзь — ведаючы мёд, аднак бярлога — логава бера); падобнымі былі ў некаторых раёнах Беларусі, напрыклад на Палессі, адносіны да вужа, божай кароўкі і інш.

З культам нябожчыкаў былі звязаны абрады Радуніцы, Дзядоў і інш. Да смерці ўвогуле ставіліся з журбой і смуткам, аднак калі чалавек памёр, то яго сям'я, суседзі, аднавяскоўцы не жадалі, каб ён (ці яго дух) прыходзіў у хату ці вёску. Для гэтага практыкаваліся абрады вынасу цела нябожчыка ўперад нагамі, калектыўнае засыпанне магілы зямлёй, жалобныя галашэнні ў час пахавання, добрыя словы на памінках, трызнах і іншых хаўтурах.

[482] Этнография восточных славян. Очерки традиционной культуры. М., 1987; Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1990.

Рад элементаў розных абрадаў, рытуалаў і звычаяў быў звязаны з выхаваннем дзяцей і моладзі. Акрамя таго, існаваў і самастойны дзіцячы фальклор (песні, казкі, прымаўкі, загадкі, гульнёвыя лічылкі, страшылкі, скарагаворкі, маўчанкі і галасянкі, небыліцы і інш.). Асобныя багатыя пласты беларускага фальклору датычылі каляндарна-бытавых цыклаў (вясенніх, летніх, жніўных, зімовых), сямейна-бытавых абрадаў (вяселле, нараджэнне, пахаванне і інш.), розных свят (Каляды, Масленіца, Тройца (Сёмуха), Купалле, Вялікдзень і інш.). Акрамя пэўных рытуалаў абрадавы фальклор дапаўняўся музыкай, танцамі, тэатралізаванымі відовішчнымі паказамі. Шмат розных урачыстасцей было звязана з культам розных хрысціянскіх свят, з праваслаўнымі і каталіцкімі календарамі ўвогуле. Сярод шматлікіх цяжкасцей, бясконцай працы і бясправўя, у жорсткай барацьбе за існаванне сярэдневяковы чалавек знаходзіў перадых і задавальненне ў святах і забавах. Сельскія святы, вытокі якіх большай часткай узыходзілі да старажытнасці, усякае новае пакаленне ўспрымала як неадзеленую частку грамадскага быту і духоўнай культуры, што ішлі ад продкаў. Святочныя даты дапамагалі нават людзям арыентавацца ў цякучым часе, які ў сярэдневяковым грамадстве рэгуляваўся як прыроднымі аграрнымі цыкламі, так і літургічнай практыкай[483].

Вялікі ўплыў на развіццё духоўнай культуры беларусаў тых часоў аказвала хрысціянская ідэалогія і царква. Шмат святаў і розных урачыстасцей было звязана з культам розных хрысціянскіх святых[484], з праваслаўным і каталіцкім календарамі ўвогуле. Незалежна ад канфесіянальнай прыналежнасці, насельніцтва часта прымала ўдзел як у праваслаўных (у першай палове XVII ст. — ужо ўніяцкіх), так і каталіцкіх святах. Гэтаму доўгі час садзейнічала існаваўшая на Беларусі і Літве да 1560-х гг. адносная верацярпімасць, што падтрымлівалася як цэнтральнай, так і мясцовымі ўладамі. Сумеснае ўшанаванне праваслаўных і каталіцкіх культаў у межах асобных сямей, цэхавых адзінак, купецкіх брацтваў, гарадскіх кварталаў і гарадоў у цэлым было дастаткова характэрнай з'явай на Беларусі, асабліва ў XIV — першай палове XVI ст.

У канцы XVI ст. (пасля Берасцейскай уніі) канфесіянальная талерантнасць была ўжо парушана і пачала трохі адраджацца толькі ў канцы XVII ст. У той жа час, у свецкіх сферах грамадскага жыцця пэўная інтэграцыя працягвала існаваць, што было звязана з агульнагарадскімі ці вясковымі ўрачыстасцямі, напрыклад: у выпадках прыбыцця ў горад вялікага князя, караля, прыдворных вяльмож, іншаземных паслоў, арганізацыі сесій павятовых соймаў і іншых збораў шляхты і магнатаў, дынастычных падзей (выбрання вялікага князя ці караля, каранацыі, шлюбаў і інш.). На міжканфесіянальнай падставе праходзілі святы ў гонар святых-апекуноў тых ці іншых цэхавых суполак. Агульнагарадскія святы арганізоўваліся магістрамі, прадстаўнікамі вялікакняскай (каралеўскай) улады, таксама прыватнымі ўладальнікамі некаторых гарадоў. Цэхавым і іншым рамеснікам, купцам і другім жыхарам гарадоў прадпісвалася рыхтавацца да свят адпаведным чынам, напрыклад выступаць усім цэхам-брацтвам у святочным адзенні пад адзінай харугвай са сваім барабаншчыкам. Члены магістрата, што ўзначальвалі цырыманіял, выходзілі да сустрэчы гасцей за гарадскую браму. Пад гукі барабанаў, труб, пушачнай стральбы кавалькада гасцей

---

[483] Даркевич В. П. Народная культура средневековья. М., 1988. С. 3—4.

[484] У гэты час ужо склаліся і працягвалі складвацца культы мясцовых беларускіх святых: праваслаўных Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Іаана, Антонія і Яўстафія Віленскіх і іншых, уніяцкіх: Іасафата Кунцэвіча і гэтак далей.

уязджала ў горад у суправаджэнні свецкіх і духоўных уладык горада, гарнізона, ваенізаваных вартаўнікоў і накіроўвалася да цэнтральнай часткі (замка, крэпасці, ратушы). Афіцыйная агульнагарадская цырымонія суправаджалася ўзаемнымі падарункамі, карнавальнымі шэсцямі, тэатралізаванымі абрадамі. Звычайна па такіх святочных днях у гарадах арганізоўваліся вялікія кірмашы.

Усякага роду забаўныя мерапрыемствы і тэатралізаваныя відовішчы праводзіліся ў той час амаль што на большасць свят з удзелам прафесійных артыстаў і аматараў. Як адзначаюць даследчыкі, у дакументах таго часу артысты часта вызначаліся збіральным паняццем «скамарохі» і ўключалі танцораў, бахараў (казачнікаў), канатаходцаў, жанглёраў, сілачоў, лялечнікаў, дудароў, мядзвежых павадыроў, выканаўцаў розных драматычных сцэнак[485]. Ужо ў XVI ст. скамарохі ў Беларусі складалі асобную праслойку феадальнага грамадства, якая была параўнальна шматлікай і па характару дзейнасці прыроўнівалася да рамеснікаў[486]. Акрамя аседлых гарадскіх і мястэчковых скамарохаў, былі вядомы ў той час вандроўныя акцёры («а з людей волочащих, которые без службы мешкают, и теж з медведников, дудников, скрипков, и з каждого гука и иных... по осми грошей»)[487]. Прыходзілі на Беларусь таксама вандроўныя акцёры з Польшчы, Венгрыі, Прусіі і іншых краін. Забавы наладжваліся насельніцтвам не толькі ў часы свецкіх, але і рэлігійных святаў, што выклікала іншы раз адмоўную рэакцыю ў некаторых набожных людзей і царкоўных артадоксаў, якія бачылі ў гэтых «пацехах» перажыткі язычніцтва і «д'ябальскія падкопы». Такімі аб'яўляліся іншы раз нават і народныя валачобныя абрады, супраць якіх загадвалася прымяняць жорсткія меры («...волочельное по Воскресеньи з мест и з сел выволокши утопите»)[488].

У той жа час, вярхоўная ўлада не забараняла іх, а іншы раз наадварот — падтрымлівала. Так, у магдэбургскім прывілеі Навагародка 1511 г. гараджане «подле давнего обычая» вызваляліся ад падаткаў «с каляды и волочебного»[489], аднак часцей за ўсё існаваў пэўны фармальны падатак казне, царкве ці духоўнай асобе («На свято фалебное Великоденное волочобного по полугрошу каждая особа давати маеть»)[490]. Даследчыкі гісторыі беларускага тэатра адзначаюць, што валачобнікі ў той час складалі нават цэлыя прафесійныя суполкі, якія ў святочныя дні збіралі вакол сябе валачобныя групы і з'яўляліся асноўнымі выканаўцамі абрадавых рытуалаў, песен і інш.[491]

Увогуле, абрады, гульні, рытуалы, танцы і фальклор, што ўжываліся на Беларусі па вялікіх святах, з'яўляліся своеасаблівай мясцовай формай сярэдневяко-

---

[485] Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. I. С. 57—59.

[486] З'яўленне скамарохаў на землях Беларусі датуецца яшчэ старажытным часам XI—XIII стст. Гл.: Калайдович К. Памятники российской словесности XII в. М., 1821. С. 94—95; Даследчыкі выказваюць думку аб генетычнай сувязі скамарохаў з язычніцтвам, народнай вуснапаэтычнай творчасцю і абрадамі, аднак адзначаюць існаванне ў сярэдневяковым скамаростве і пэўных пластоў візантыйскага і заходнееўрапейскага ўплыву. Гл.: Газо А. Шуты и скоморохи всех времен и народов. СПб., 1898; Миско С. Скоморохи в Белоруссии // Неман, 1962. № 1. С. 152.

[487] Литовская метрика. Книга публичных дел. Т. I // Русская историческая библиотека. Т. XXX. С. 827.

[488] Акты Юго—Западной России. Т. II. С. 223.

[489] Акты Западной России. Т. II. С. 91.

[490] Историко-юридические материалы... Т. VII. С. 340; Таксама пазней: «ксензу Ждановичу, архидиякону белорусскому дали волочобного, водлуг давнего постановеня, през пана бурмистра Гимбута, шелегами золот. петнадцать». Гл.: Историко-юридические материалы... Т. VIII. С. 70 (1691 г.).

[491] Акрамя найбольш распаўсюджанай і збіральнай назвы «валачобнікі» на Беларусі іх называлі таксама «лялечнікі», «ралешнікі», «лалоўнікі», «хрыстоснікі», «жалоўнікі». Гл.: Гісторыя беларускага тэатра. Т. I. С. 69—70, 97—99.

ых народных карнавалаў, тыповым адлюстраваннем так званай смехавой народнай культуры, якая найбольш відовішчна прагулялася ў святочныя дні, калі пэўным чынам знімаліся многія сацыяльныя і рэлігійныя абмежаванні, забароны і табу (характэрнай з'явай такіх карнавалаў было травесційнае пераадзяванне, апрананне ў незвычайнае адзенне, ужыванне масак і інш.)[492].

Злучэннем агульнахрысціянских нормаў маралі і народных этычных уяўленняў характарызаваліся ў той час паказы батлеек — ранніх формаў народнага лялечнага тэатра. Па словах Я. Карскага, «вертепная драма зарадзілася на Захадзе, дасягнула значнага развіцця ў Польшчы, з якой трапіла ў паўднёва-заходнюю і заходнюю Русь»[493]. Найбольшае распаўсюджанне батлейка атрымала ў выніку пранікнення на землі Беларусі каталіцкіх манаскіх ордэнаў у XVI ст., якія прынеслі добра арганізаваную сістэму тэатралізацыі царкоўных абрадаў. Таму першапачаткова батлеечны лялечны тэатр развіваўся, галоўным чынам, як з'ява рэлігійна-містэрыяльнага характару, і толькі значна пазней сцэнкі на біблейскія сюжэты «ўступілі сваё месца п'есам з чыста беларускімі народнымі рысамі, інтэрмедыям і камедыйна-сатырычным партрэтам»[494].

У той час на Беларусі існавалі і некаторыя іншыя, больш дэмакратычныя, мала залежныя ад рэлігійных нормаў віды папулярных тэатралізаваных паказаў, напрыклад мядзвежыя забавы. У фальклоры, этнаграфіі, народным мастацтве беларусаў існуе мноства сведчанняў аб сакраментальна-татэмных адносінах да мядзведзя. Як адзначаюць сучасныя даследчыкі, ва ўсходнеславянскім арэале мядзведзь часта асацыіраваўся з лесуном, а таксама з прадстаўніком славянскага язычніцкага пантэону — «Велесам»[495]. Паводле назіранняў больш позняга часу (XIX — пачатак XX ст.), мядзведзь успрымаўся як больш моцны за «нячыстую сілу» ахоўнік, які мог, напрыклад, адвесці няшчасце пажару. Павадыры мядзведзяў прарочылі здароўе чалавеку, які кранаў мядзведзя ці дазваляў зверу пераступіць праз сябе[496].

Публічныя забавы з мядзведзем уключалі розныя «штукі», напрыклад: танцы звера пад прымаўкі павадыра, жартоўная барацьба мядзведзя з павадыром, «казой» ці жадаючымі з публікі і інш. Пры феадальных дварах наладжваліся таксама жартоўныя, а часам і сапраўдныя мядзвежыя цкаванні, баі, катанне на мядзвежых тройках[497]. У XVII ст. і ў наступны перыяд на Беларусі ўзнікаюць буйнейшыя ў Еўропе цэнтры падрыхтоўкі дрэсіраваных мядзведзяў (у Смаргоні, Смежава — пад Слуцкам, Міры), аднак промысел «ваджэння мядзведзяў» быў ужо традыцыйным і ў першай палове XVI ст.[498]

Значнае развіццё атрымалі на Беларусі ў канцы XV — першай палове XVII ст. такія традыцыйныя віды прафесійнага мастацтва, як жывапіс (фрэскі, іконапіс), графіка (пераважна мініяцюра), скульптура, архітэктура, прыкладное мастацтва (разьба па дрэву, косці, рогу, апрацоўка металу, каменю, ювелірная справа, ганчарства, выраб кафлі, ткацтва, вы-

---

[492] Гл.: Бахтин М. Творчество Франсуа Рабле и народная культура средневековья и Ренессанса. М., 1965; Гуревич А. Я. Проблемы средневековой народной культуры. М., 1981; Даркевич В. П. Народная культура средневековья. М., 1988.

[493] Карскі Е. Ф. Беларусы. Пг., 1922. Т. III. С. 117.

[494] Кабашнікаў К. П. Ад традыцыйнага фальклору да рэвалюцыйнай паэзіі. Мн., 1969. С. 84—85.

[495] Иванов В. В., Топоров В. Н. Исследования в области славянских древностей. М., 1974. С. 57—60.

[496] Клингер В. П. Животные в античном и современном суеверии. Киев, 1911. С. 277—278.

[497] Карский Е. Ф. Белорусы. М., 1916. Т. 3. С. 136; Tauroginski A. Z dziejow Nieswieza. Warzawa, 1937. S. 41—44.

[498] Міхайлаў І. Мядзвежая «акадэмія» // Беларусь, 1965. С. 12.

шыўка, пляценне), музыка і інш. Разам з тым, у гэты перыяд у мастацтве Беларусі ўзнікаюць ці значна пашыраюцца некаторыя новыя з'явы, напрыклад: свецкі (у тым ліку і так званы сармацкі) партрэт, пачынаючы з выданняў Ф. Скарыны — гравюра, унікальнае каменнае дойлідства (замкі і храмы ў Міры, Навагародку, Мала-Мажэйкаве, Сынкавічах, Заслаўлі і інш.), ляўкасавае пакрыццё і размалёўка культавай скульптуры, разьба па ляўкасу, іконапіс, ажурная «палымнеючая» разьба іканастасаў і іншай драўлянай аздобы цэркваў, вышыўка залатой і срэбнай ніткай культавага адзення і касцюмаў заможных феадалаў, вітражы для ўпрыгажэння храмаў (пераважна каталіцкіх), кантавы спеў, гімнаграфічная як рэлігійная, так і свецкая музыка; пашыраецца ўжыванне розных музычных інструментаў (ліры, скрыпкі, басэтлі, дуды) і гэтак далей.

Павышэнне ўзроўню прафесійнага мастацтва і яго распаўсюджванне аказвала пэўны ўплыў на народнае непрафесійнае і аматарскае мастацтва, якое таксама пачало характарызавацца развіццём новых з'яў, форм і тэндэнцый, што ўвогуле складала перманентную варыятыўнасць мастацкіх твораў — абавязковую ўмову для развіцця і ўзбагачэння гэтай сферы духоўнай культуры народа.

Акрамя твораў прафесійнага і непрафесійнага мастацтва беларускіх майстроў у 1530—1550-я гг. на Беларусі атрымліваюць распаўсюджанне еўрапейскія мастацкія вырабы з Польшчы, Прусіі, Германіі, Венгрыі, Італіі, Чэхіі і нават Турцыі. Карціны, малюнкі, скульптура, ювелірныя рэзы, шкло, шпалеры замежных мастакоў купляліся ці рабіліся па заказу заможных феадалаў, паслоў, каталіцкай царквы, вялікага князя. З прыездам у Вялікае княства Літоўскае жонкі караля Жыгімонта Старога — Боны Сфорцы — узнікае мясцовая мода на калекцыяніраванне мастацкіх твораў, збіранне рарытэтных рукапісаў і кніг, сярод магнатаў распаўсюджваецца мецэнацтва. У маёнтках беларускіх феадалаў Хадкевічаў, Сапег, Радзівілаў, Гальшанскіх, Алелькавічаў, Нарушэвічаў, Кішкаў, Валовічаў і іншых на працягу XVI ст. узнікаюць буйныя бібліятэкі і карцінныя галерэі. Асобныя магнаты пачынаюць актыўна падтрымліваць і апекаваць развіццё мастацтва, паэзіі, літаратуры, навукі, асветы, кнігадрукавання.

Адначасова паступова пашыраецца і расце палярная розніца паміж буйнай шляхтай і простымі людзьмі ў карыстанні мастацкімі творамі, дасягненнямі чалавечай думкі наогул, што з'яўлялася тыповай з'явай феадальнага спосабу размеркавання духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей у тагачасным грамадстве.

## САЦЫЯЛЬНА-ПАЛІТЫЧНЫЯ І ЭТНАДЭМАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ

Перыяд з другой паловы XVII па XVIII ст. у этнічнай гісторыі беларускага народа быў адзначаны своеасаблівасцю дзеянняў працэсаў кансалідацыі і інтэграцыі насельніцтва, што было выклікана змяніўшыміся ў гэтыя часы палітычнымі, сацыяльнымі і эканамічнымі ўмовамі. У другой палове XVII ст. на землях усёй Рэчы Паспалітай (у тым ліку і на Беларусі) відавочна абвастраецца крызіс сацыяльна-палітычных, эканамічных, міжэтнічных і канфесіянальных зносін.

Рэч Паспалітая не была дастаткова кансалідаванай і цэнтралізаванай дзяржавай, здольнай перамагчы ўнутраную крызісную сітуацыю і супрацьстаяць знешнепалітычнай небяспецы, якая ўзмацнілася ў тыя часы ва Ўсходняй і Цэнтральнай Еўропе. Абараняючы эканамічныя прывілеі і сацыяльна-палітычныя правы амаль выключна шляхецкага саслоўя, грамадскі лад Рэчы Паспалітай не быў здольным вырашыць ці ўладкаваць праблемы класавых, міжсаслоўных супярэчнасцей, нацыянальна-рэлігійных адносін.

У выніку на «ўсходніх крэсах» Рэчы Паспалітай актывізуецца антыфеадальны рух, які з 1640-х гг. паступова набывае антыдзяржаўны, антыпольскі і антыкаталіцкі змест і канчаткова афармляецца ў выглядзе працяглых сумесных масавых выступленняў сялян, гараджан, дробнай шляхты і казацка-сялянскіх атрадаў супраць феадалаў-прыгнятальнікаў, іншаземцаў і чужавераў («А которые... литовские городы по сю сторону Днепра, ис тех... городов из всех паны, и державцы, и урядники и ляхи, и жиды все выбежали з женами и з детьми за Днепр в королевские городы, а остались де в тех литовских городах одне мещане и пашенные мужики»)[1].

Грамадзянскай вайной у сярэдзіне XVII ст. была ахоплена амаль што ўся Беларусь («...ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім, акрамя княства Жмудскага, наўрад ці ёсць такі павет, якога нельга прылічыць да ліку мяцежных»)[2], аднак найбольш цяжкую страту панеслі ў тыя часы ўсходнія (Падняпроўе) і паўночныя (Папрыпяцце) часткі Беларусі, дзе назіраліся найбольш актыўныя ваенныя дзеянні. Разам з мясцовым, галоўным чынам праваслаўным, беларускім насельніцтвам (пераважна сялянамі, гараджанамі, часткова шляхтай і духавенствам) у выступленнях прымалі актыўны ўдзел добра

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 24—25.

[2] Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1854 гг. Киев, 1965. С. 173—174.

ўзброеныя і арганізаваныя казацкія атрады («згоны»), якія прыходзілі на Беларусь з Украіны і знаходзіліся пад агульным кіраўніцтвам Б. Хмяльніцкага. Толькі за лета 1648 г. на Беларусь былі накіраваны буйныя атрады на чале з атаманамі Галавацкім, Гладкім, Нябабай, Хвесько, Гапалічам[3] для арганізацыі паўстанняў сярод мясцовага насельніцтва, якое лічылася роднасным па мове, «русінскаму» паходжанню і праваслаўнай веры да ўкраінскага (так званым чаркасам)[4]. Нягледзячы на істотны нацыянальна-канфесіянальны змест і заклікі да абароны праваслаўнай веры і «рускасці» карэннага насельніцтва, паўстанні тых гадоў мелі пераважна этнадэструктыўны характар і не былі арыентаваны на сапраўдную этнічную кансалідацыю ці міжэтнічную інтэграцыю беларусаў і ўкраінцаў у межах асобнай дзяржавы.

Большая частка ўдзельнікаў паўстанняў мела іншыя мэты, якія не выходзілі за кола вузкіх мясцовых ці саслоўных інтарэсаў. Казакі як служылае ці вольнае дэкласаванае насельніцтва таксама не маглі стварыць і быць сацыяльнай апорай асобнай дзяржавы. На падставе традыцыйнай сваёй этнічна-рэлігійнай свядомасці казакі выконвалі функцыю абаронцаў працоўнага насельніцтва (тую функцыю, якую павінна была выконваць шляхта), хаця таксама імкнуліся да пераразмеркавання каштоўнасцей, біліся за сваю вольнасць, незалежнасць ад мясцовай адміністрацыі, за прызнанне сваіх асобных правоў (часта за прынясце на службу да караля ці цара і атрыманне шляхецтва ці дваранства). Не мелі выразных нацыянальных ці дзяржаўна-палітычных імкненняў і астатнія часткі ўдзельнікаў паўстанняў: сялянства, гараджане і інш. Акрамя таго, па сваіх агульных выніках грамадзянская вайна тых часоў мела негатыўны ўплыў на працэс этнічнай кансалідацыі беларускага насельніцтва ўжо тым, што яскрава адфарбавала класава-саслоўны антаганізм паміж працоўнымі людзьмі і феадаламі ў этна-канфесійныя колеры, калі ў менталітэце людзей пачалі складвацца даволі штучныя стэрэатыпы, што ўсе феадалы-паны — гэта «ляхі» (палякі), а «просты люд» — «беларусцы», «русь», якія церпяць ад першых[5].

У выніку войнаў 1648—1651 гг. загінулі дзесяткі тысяч жыхароў Беларусі, быў нанесены велізарны ўрон эканоміцы краіны, што выклікала голад, эпідэміі, міграцыі і ўвогуле скарачэнне колькасці насельніцтва краіны.

Крызісная сітуацыя на Беларусі і ў Вялікім княстве яшчэ больш абвастрылася пачаткам крывавай вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай (1654—1667 гг.). Найбольш за ўсіх ад гэтай вайны пацярпела мірнае насельніцтва беларускіх зямель, якія былі арэнай амаль што бесперапынных ваенных дзеянняў. Спачатку, па загаду рускага цара Аляксея, войскі не павінны былі «побивать и в полон имать... белорусцев хрестьянскае веры». Меркавалася падтрымка маскоўскіх войск з боку праваслаўнага беларускага насельніцтва («...и которые белорусцы придут к

---

[3] У 1650-х гг., у часы вайны казачымі атрадамі часта кіравалі і выхадцы з Беларусі: Бутрым, Гаркуша, Грамыка, Крычэўскі, Хведаровіч і інш. У гэты час былі створаны і асобныя «беларускія» казацкія палкі, якія знаходзіліся ў складзе рускіх войск, але ў хуткім часе былі расфарміраваны па загаду цара.

[4] Цікава адзначыць, што гэта роднасць на этнанімічным узроўні часта не выяўлялася (параўн.: паасобнае ўжыванне назваў «беларусцы» і «чэркасы» — украінцы з левабярэжнай Украіны — і рэдка агульнае «русіны», «руськія», «русь»).

[5] Характэрна, што ўрадавыя войскі, якія складаліся са шляхецкага апалчэння Вялікага княства і наёмных атрадаў у шэрагу дакументаў таго часу вызначаліся агульным паняццем «ляхі», нягледзячы на тое, што менавіта палякаў там было мала. Гл.: Воссоединение Украины с Россией. М., 1954. Т. 2. С. 217—218; Мемуары, относящиеся к истории Южной Руси. Киев, 1896. Вып. II. С. 32—35; Kotlubaj E. Zycie Janusza Radziwilla. Wilno i Witebsk, 1859. S. 116—118.

вам в полки, и вы б тех белорусцев нашим государским жалованьем обнадеживали и велели их приводить к вере, что им быть под нашею государскою высокую рукою навеки неотступно и нам служить, и над польскими и над литовскими людьми сопча заодин...»[6]). Шляхце, гараджанам і духавенству (галоўным чынам праваслаўным) абяцаліся былыя ці больш вялікія правы і прывілеі.

Але ў часы войнаў немагчыма дакладна планаваць жыццёвыя справы, і ўсе падобныя заклікі рускага ўрада толькі збянтэжылі і раскалолі беларускае грамадства. Больш-менш нармальнае існаванне пад кантролем рускага войска магло ажыццяўляцца толькі пасля выказвання лаяльнасці цару, таму па розных прычынах даволі шматлікія часткі насельніцтва (шляхта, гараджане, сяляне, духавенства рознага веравызнання) прымалі рускае падданства. У шэрагу выпадкаў (каб захаваць жыццё ці маёмасць і правы) некаторыя пераходзілі з уніяцтва ў праваслаўе.

Пэўная падтрымка маскоўскага войска мясцовым насельніцтвам, казацкасялянскімі атрадамі спачатку спрыяла поспехам ваеннай кампаніі Расіі. Многія гарады ўсходніх зямель Беларусі добраахвотна адчынялі свае вароты перад рускім войскам. Тыя ж, дзе былі буйныя гарнізоны ўрадавых войск (Гомель, Стары Быхаў, Друя, Мсціслаў, Дуброўна і інш.), вялі доўгатэрміновую абарону. Гарады, якія былі захоплены сілай, разбураліся, а насельніцтва вынішчалася (пасля захопу Мсціслаўля ў ліпені 1654 г.: «шляхты, поляков и литвы, и иных служилых людей и ксензов и езувитов, и иного их чину побито больше десяти тысеч человеко»)[7].

Разбураны і выпалены былі таксама іншыя ўсходнебеларускія гарады і мястэчкі (Жлобін, Рагачоў, Стрэшын, Рэчыца і інш.). Мала ў чым лепшы лёс чакаў і жыхароў тых гарадоў, што здаліся без баёў. Захапіўшае іх войска займалася грабежніцтвам, бяшчынствамі, гвалтоўніцтвам, беспадстаўнымі пакараннямі. Шэрагу катэгорый рамеснага люду, купцам, шляхце ставілася ў абавязак перасяліцца на землі Расійскай дзяржавы (пазней пачалося і ўвогуле прымусовае перасяленне і іншых катэгорый насельніцтва, у тым ліку і сялян).

Па звычаю, беларускае насельніцтва пісала скаргі ўжо новаму «гаспадару» — цару, канцэлярыя якога перыядычна рэагавала граматамі, што забаранялі вайсковым ваяводам «грабить животину и лошади имать, также и не жечь, и никакова бы насильства не чинить», але ўвогуле бясправае працягвалася. Рускія ваяводы не праяўлялі дзяржаўнага, гаспадарчага падыходу да жыхароў і зямель, якія яны імкнуліся далучыць пад уладу цара.

Цікава адзначыць, што ў шэрагу контрнаступленняў, якія пачаліся ў канцы 1654 г. і набылі некаторую моц, войска Вялікага княства таксама ў некаторых выпадках ажыццяўляла ў адносінах да насельніцтва не вызваленча-абарончую, а карную функцыю. Пакаранням часта падвяргаліся не толькі здраднікі, але і ўвогуле пэўныя групы насельніцтва, напрыклад: праваслаўныя ці ўсе жыхары горада, якія перад гэтым перайшлі на бок Расіі. Усё ліха вайны адбівалася, перш за ўсё, на простых людзях, на мірным насельніцтве.

Палітычная сітуацыя ў цэнтральнай і заходняй частках Беларусі ў гэты час пачала паўтараць тыя ж падзеі, што адбываліся раней на ўсходніх тэрыторыях. Шляхта, мяшчане, духавенства, а за імі і сяляне пераходзілі ў рускае падданства і прысягалі «на вернасць» цару. Вялікае княства Літоўскае як дзяржава ці складаная частка Рэчы Паспалітай пачала губляць сваю сацыяльную апору, сваю дзяржаўнасць і самастойнасць. Але ўсё ж не

[6] У кн.: Нарысы гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Ч. I. С. 208.

[7] Там жа. Ч. I. С. 210.

ўсе аддаваліся пад уладу новаму «гаспадару». Многая шляхта так і не прыняла рускага падданства, некаторая яе частка, якая раней схілялася на бок Расіі, пачала здраджваць сваёй прысязе, што ўвогуле сведчыла не толькі аб існаванні ў гэтым саслоўі маёмасна-праваых інтарэсаў, але і аб захаванні былой уласнай дзяржаўна-палітычнай свядомасці і патрыятычнага менталітэту.

Грамадства было амаль што цалкам уцягнута ў барацьбу і войны, спынілася нармальная вытворчасць, пачаў фарміравацца новы ваяўнічы менталітэт і непрадукцыйны, выключна самаахоўны светапогляд і ўклад жыцця. Асноўная маса насельніцтва — сялянства «паказачылася» — згуртавалася ў адносна невялікія ўзброеныя атрады пад кіраўніцтвам шляхцюкоў і займалася грабежніцтвам суседзяў, якія прытрымліваліся іншых палітычных арыентацый (але з галоўнай мэтай здабыць сродкі для існавання).

Рэч Паспалітая з 1600 г., заключыўшы мірнае пагадненне са Швецкім каралеўствам, перакідвае вялікія вайсковыя злучэнні на Беларусь. Паступова войска караля Рэчы Паспалітай і наёмнікі адваёўваюць беларускія землі ў Расіі, згодна заключанаму ў 1668 г. Андрусаўскаму міру, захоўваюць іх даваенны дзяржаўны статус. Войны сярэдзіны XVII ст. нанеслі велізарныя страты працэсу фарміравання беларускай этнасацыяльнай супольнасці як поўнаструктурнага самастойнага этнічнага арганізму, былі парушаны шмат якія ўнутрыэтнічныя сувязі, катастрафічна скарацілася колькасць насельніцтва. У палітычным аспекце на доўгі час быў падарваны аўтаномны і самастойны дзяржаўна-палітычны статус Вялікага княства.

Аднак выпрабаванне лёсам беларускага народу на здольнасць да самастойнага этнічнага існавання на гэтым не скончылася. Намаганні насельніцтва на аднаўленне гаспадаркі і стабілізацыю ўсіх бакоў этнасацыяльнага і культурна-палітычнага жыцця зноў былі знішчаны ў пачатку XVIII ст. новай крывавай вайной, у якую, зноў жа гвалтоўна, уцягнулі Беларусь ваяўнічыя палітыкі Расіі, Швецыі і Рэчы Паспалітай. Паўночная вайна, якая цягнулася паміж Расіяй і Швецыяй да 1721 г., перыядычна апальвала землі Беларусі і прыносіла велізарныя страты мірнаму насельніцтву, эканоміцы і культуры краю.

За гэтыя часы краіна страціла каля 700 тыс. чалавек насельніцтва. Найбольшай лютасцю ў гэтай вайне адрозніваліся не па-еўрапейску ваюючыя швецкія войскі. Зноў жа па Беларусі «пагулялі» і казацкія атрады, удзельнікі якіх ішлі на вайну па загаду караля за шляхецтвам. Тое, што набылі людзі за мірныя гады другой паловы стагоддзя, зноў было зруйнавана і знішчана. Працэсы ўнутрыэтнічнай кансалідацыі насельніцтва (якія звычайна ажыццяўляюцца ў мірныя часы) нават па пэўных гісторыка-этнаграфічных рэгіёнах і частках зноў былі замаруджаны, што мела выключна негатыўны ўплыў на этнакультурнае становішча беларусаў.

У этнасацыяльнай сферы жыцця народа адбыліся істотныя змены, якія пэўным чынам трансфармавалі амаль усе асноўныя прыкметы народа, часткова змянілі яго этнасацыяльныя параметры. Перш за ўсё, войны прывялі да рэзкага зніжэння колькасці насельніцтва. Так, калі ў 1650 г. на беларускіх землях пражывала каля 2876 тыс. чалавек (сярод 11 млн — па ўсёй Рэчы Паспалітай), то за перыяд паўстанняў і войнаў 1650—1667 гг. яно скарацілася да 1352 тыс. чалавек (больш чым у два разы!). К 1700 г. колькасць насельніцтва пры сярэдніх тэмпах прыросту на 1,8% у год узрасла да 2,2 млн чалавек, аднак за час Паўночнай вайны яна зноў скарацілася на 31% (напрыклад, на 1717 г. — 1457 тыс. чалавек). К канцу XVIII ст. колькасць жыхароў беларускіх зямель так і не перавысіла ўзровень 1650 г. і складала ў 1772 г.

каля 2,6 млн чалавек (сярод 14 млн — па ўсёй Рэчы Паспалітай)[8].

У выніку войн гушчыня рассялення насельніцтва на беларускіх землях стала значна ніжэйшай, чым у XVI — першай палове XVII ст., што істотна адбілася на характары гаспадарчых заняткаў. Людзі былі вымушаны зноў займацца актыўным асваеннем пад жыццё і раллё новых (і стараворыўных зямель)[9], адбудоўваць гарады і сельскія паселішчы, наладжваць камунікацыі. Беларусь заставалася адносна слаба заселеным краем, больш за 50% плошчы якога не было асвоена пад жыллё і гаспадарку. Краіна пакутавала ад недахопу сухапутных шляхоў зносін. Галоўным чынам рэкі былі асноўнымі шляхамі, якія звязвалі асобныя часткі Беларусі паміж сабой і са знешнім светам. У гэтых прыродных умовах скарачэнне колькасці насельніцтва і гушчыні яго рассялення вяло да захавання пэўных адносна ізаляваных груп, архаічны лад жыцця якіх не садзейнічаў стварэнню неабходных для развіцця этнасу агульных гаспадарча-эканамічных сувязей і не спрыяў актывізацыі працэсаў этнічнай кансалідацыі.

Натуральны прырост насельніцтва ішоў больш маруднымі тэмпамі, чым на іншых землях Рэчы Паспалітай, што, безумоўна, таксама адбівалася на дэмаграфічным становішчы народа, яго этнасацыяльным жыцці. Колькасць карэннага беларускага насельніцтва ў некаторых раёнах перыядычна зніжалася ў выніку войнаў, разбурэнняў, мораў, уцёкаў. На іх месца перасяляліся жыхары з іншых земляў Рэчы Паспалітай. Найбольш шырока міграцыі праходзілі ў пагранічных: паўночна-ўсходніх, усходніх і паўднёвых — раёнах беларускай тэрыторыі. У той жа час рэзкі прырост насельніцтва, напрыклад, у Крычаўскім, Прапойскім і Чачэрскім староствах (дзе колькасць дымоў з канца XVII да сярэдзіны XVIII ст. узрасла амаль у пяць разоў) ажыццяўляўся ў асноўным за кошт перасялення з суседніх зямель: з-пад Жыровіч, Быхава, Барысава, Чэрвеня, Койданава і інш.[10] Міграцыі закранулі таксама насельніцтва іншых зямель Цэнтральнай і Заходняй Беларусі. У другой палове XVII ст. перасяленне цэлых сямей беларускіх сялян і гараджан на тэрыторыю Рускай дзяржавы часта мела неспрыяльны характар (сярод мігрантаў аказваліся выхадцы як з усходніх, так і цэнтральных, і заходніх раёнаў Беларусі). Так, па даных за 1665 г., у рускім горадзе Суджы былі выхадцы з Мазыра, Пінска, Навагародка, Бярэсця, а ў новапабудаваных слабодах Цярноўскай вобласці Пуціўльскага павета ў 1678 г. пражывалі беларусы з Заслаўя, Менску, Пінску. Шмат беларускага насельніцтва (асабліва майстроў-рамеснікаў) з усходніх тэрыторый Беларусі было прымусова перасялена ў Маскву і іншыя гарады Расіі[11]. Ратуючыся ад нягод, беларусы перасяляліся на землі левабярэжнай Украіны, дзе папаўнялі рады запарожскага казацтва, асвойвалі новыя землі, займаліся рамяством і гандлем. Як адзначаюць гістарычныя крыніцы, міграцыі насельніцтва з Беларусі «на Ніз» (на Украіну) рэзка

[8] Згодна М. Доўнар-Запольскаму, у канцы XVIII — пачатку XIX ст. агульная колькасць насельніцтва Беларусі і Літвы складала каля 3800—3900 тыс. чалавек. Гл.: Доўнар-Запольскі М. Ф. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С. 168; Гл. таксама: Morzy J. Kryzis demograficzny na Litwe i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznan, 1965. S. 214—216; Карпачев А. М., Козловский П. Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Л., 1972. С. 86—92; Encyklopedia Historii gospodarczej Polski do 1945 roku. Warszawa, 1981. S. 432—433.

[9] У пачатку XVIII ст. толькі ў дзяржаўных уладаннях (Гародзенскай, Берасцейскай эканоміях, Крычаўскім старостве) пуставалі адпаведна больш за 71%, 41%, 73% валок ворыўнай зямлі. Гл.: Эканамічная гісторыя Беларусі. Мн., 1993. С. 65—66.

[10] Мелешко В. И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. Мн., 1975. С. 49—51; Яшкін І. Я. Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм. Мн., 1976. С. 17—19.

[11] Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. С. 121.

павялічваліся ў часы голаду, неўраджайнасці, мораў[12]. В. Ключэўскі пісаў, што сярод рэестравых казакаў ужо ў другой палове XVII ст. былі выхадцы з 74 гарадоў і паветаў Беларусі і Літвы і нават з такіх далёкіх ад Украіны, як Вільня і Полацк[13]. У XVII і часткова XVIII ст. значныя па колькасці групы беларускага насельніцтва перасяліліся і на суседнія з Беларуссю тэрыторыі Ўкраіны (Чарнігаўшчына, часткова Жытоміршчына), дзе пачалі складаць даволі кампактныя дэмаграфічныя масівы, мяжуючыя з арэаламі асноўнага рассялення этнасу. У шэрагу раёнаў Чарнігаўшчыны «беларусы ліцвіны» пачалі складаць асноўную па колькасці групу насельніцтва. Некаторае змяншэнне колькасці міграцый і стабілізацыя насельніцтва намецілася ў другой палове XVII ст. Аднак у пачатку XVIII ст. колькасць мігрантаў зноў узрастала. У выніку ваенных дзеянняў, міграцый, эпідэмій і мораў асабліва моцныя страты панеслі беларускія гарады і мястэчкі, што прывяло да катастрафічнага скарачэння колькасці мяшчанскага саслоўя, знішчэння многіх урбанізаваных форм культуры і побыту, падрыву эканомікі. Аднаўленчыя работы ў кароткія перыяды паміж войнамі не маглі спыніць заняпад гарадоў. Многія беларускія гарады ў 1660—1670-я гг. і часы Паўночнай вайны былі амаль цалкам зруйнаваны, абязлюдзелі: Магілёў, Віцебск, Гродна, Менск, Барысаў, Слуцк, Бярэсце, Навагародак, Пінск, Нясвіж. Панеслі вялікія страты Полацк, Орша, Шклоў і інш.[14] У найбольшай ступені ў XVII ст. пацярпелі ўсходнебеларускія землі, колькасць жыхароў якіх скарацілася на 60—70%[15].

У мірныя часы адбываліся, безумоўна, і адваротныя міграцыі, калі мяшчанскія сем'і, якія выжылі ў вайне, пры магчымасці, вярталіся ў свае гарады і мястэчкі. Разам з імі ў гарады перасялялася і частка сельскіх жыхароў, іншаэтнічнае насельніцтва. Аднак узнавіць даваенную колькасць мяшчанскага саслоўя адваротныя міграцыі не змаглі. У канцы XVIII ст. мяшчанскае саслоўе складала каля 11% ад усяго насельніцтва Беларусі[16].

Адваротныя міграцыі на Беларусь увогуле павялічвалі агульную колькасць насельніцтва, але найбольш масавыя з іх ажыццяўляліся прадстаўнікамі іншых народаў, у прыватнасці беглымі рускімі сялянамі (пераважна стараабрадцамі). Яны асядалі на ўсходніх і паўночна-заходніх землях Беларусі больш-менш кампактнымі і пераважна эндагамнымі групамі, часта стваралі свае вёскі. Да канца XVIII ст. колькасць стараабрадцаў на Беларусі, Літве і Ўкраіне (гэта значыць у межах Рэчы Паспалітай) дасягнула 140 тыс. чалавек[17].

У другой палове XVII ст. і пасля Паўднёвай вайны на Беларусь з Польшчы, Украіны і Прыбалтыкі перасялілася таксама вялікая колькасць яўрэйскага насельніцтва. Іх міграцыі былі ўвогуле мэтанакіраванымі — па запрашэнню ўлад і асобных феадалаў на засяленне спустошаных у выніку войнаў беларускіх гарадоў. Большая частка яўрэйскага насельніцтва асаджалася ў гарадах і мястэчках, дзе яны пачалі складаць вялікі працэнт (ад 40—50% да 60—80%) мяшчанскага насельніцтва[18]. Значна менш асядалі яўрэі

[12] Полное собрание русских летописей. Т. 32. С. 179—180.

[13] Ключевский В. О. Курс русской истории. М., 1957. Т. 3. С. 43.

[14] Мелешко В. И. Очерки аграрной истории Восточной Европы. М., 1975. С. 18—27.

[15] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. Мн., 1990. С. 37.

[16] Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1972. Т. I. С. 374.

[17] Рябинин И. С. К вопросу о побегах русских крестьян в пределы Речи Посполитой в конце XVIII в. М., 1911. С. 7—10; Короткая Т. П., Прокошина Е. С., Чудникова А. А. Старообрядничество в Беларуси. Мн., 1992. С. 16.

[18] У параўнанні з XIV — першай паловай XVII ст.: 15, 25—30%.

ў сельскай мясцовасці. У гэты час яўрэі склалі асноўную этнадэмаграфічную групу гараджан, істотна змяніўшы тым самым этнасацыяльны і культурна-моўны малюнак беларускіх гарадоў, этнічны склад мяшчанства. Колькасць уласна беларускамоўнага мяшчанства складала меншы працэнт амаль да пачатку XX ст. Агульныя працэсы трансфармацыі, павелічэнне іншаэтнічнага насельніцтва адбіліся на этнасацыяльным і культурным жыцці беларускіх гарадоў другой паловы XVII—XVIII ст.

## САСЛОЎНА-САЦЫЯЛЬНАЯ СТРУКТУРА І МІЖСАСЛОЎНЫЯ АДНОСІНЫ

У перыяд з другой паловы XVII па XVIII ст. адбыліся пэўныя змены ў этнасацыяльным і палітычным становішчы амаль што ўсіх саслоўяў беларускага феадальнага грамадства. У шляхецкім асяроддзі, напрыклад, ажыццяўляўся працэс саслоўнай кансалідацыі і актыўнага далучэння да дзяржаўных спраў. Шляхта лічылася асобным «народам-нацыяй», палітычна адказнымі людзьмі з пэўнымі правамі ў кіраванні дзяржавай. У адрозненне ад Польшчы і іншых зямель Кароны, дзе і ў папярэдні час існаваў шляхецкі лад кіравання, на тэрыторыі Вялікага княства доўга пераважаў магнацкі. Мясцовая шляхта дабівалася свайго ўдзелу ў дзяржаўных справах шляхам барацьбы з усеўладнай магнатэрыяй.

Шляхта Беларусі, Літвы і Жэмайціі, з аднаго боку, імкнулася мець уплыў на дзяржаўныя справы Рэчы Паспалітай аднолькава з палякамі, а з другога — змагалася за свой партыкулярызм і своеасаблівасць свайго палітычнага стану. Гэта адлюстравалася, напрыклад, у традыцыі склікання асобных «генеральных» соймікаў для Вялікага княства ў Ваўкавыску ці Слоніме, у зборах правінцыяльных сесій у часы, калі збіраўся Вальны Сойм (што забаранялася дзяржаўным правам), а таксама ў асобным скліканні соймаў выключна па справах Вялікага княства.

Па дамоўленасці Люблінскай уніі забаранялася склікаць каронны і вялікакняскі соймы паасобна, аднак беларуска-літоўская шляхта парушала гэты прынцып, і партыкулярныя соймы склікаліся ў Вільне (так званыя «Віленскія канвакацыі») амаль да пачатку XVIII ст. Асаблівасці грамадска-прававога ладу Вялікага княства наглядаліся і ў іншых дзяржаўных сферах: існаванні асобнага трыбуналу, войска, скарбу, гетманаў, законаў і правоў, дзяржаўнай мовы і інш. Увогуле, праблема дзяржаўнага дуалізму Кароны і Вялікага княства існавала амаль да канца XVIII ст., калі пачаўся распад Рэчы Паспалітай і трэба было як мага мацней аб'ядноўваць дзяржаву.

Так, напрыклад, пасля прыняцця Канстытуцыі 3 мая 1791 г., якая стварала ўмовы для фарміравання новых агульнадзяржаўных грамадзянскіх адносін[19], сацыяльная вярхушка Вялікага княства не здолела кансалідаваць насельніцтва на ўласнае дзяржаўнае будаўніцтва і ў той жа час актыўна супрацьстаяла інтэграцыі ў польскую дзяржаўнасць. Падставай для гэтага небяспечнага ў той час сепаратызму былі не столькі нацыянальны ці рэлігійна-культурны фактары, сколькі псеўдапатрыятычная, маргінальная боязь за ўласныя правы на манаполію кіравання і панавання ў краіне. Шляхта, большасць якой складалі сярэднія і дробныя землеўладальнікі, традыцыйна не была зацікаў-

[19] Bardach J. Konstytucja 3 maja a unia Polsko-Litewska // Przeglad Historyczny. 1991. Z. 3—4.

лена ў складанні моцнай цэнтральнай дзяржаўнай улады. Гэтыя ж імкненні падтрымлівала і ўсемагутная магнатэрыя, правы, маёмасць і ўлада якой былі амаль роўнымі з каралеўскімі. У XVII—XVIII стст. не было такой сферы грамадскага і палітычнага жыцця, на якую б шляхта не распаўсюджвала сваёй апекі. Разам з магнатамі, шляхта імкнулася да кантролю за дзейнасцю караля і паступова ўсё больш і больш абмяжоўвала яго правы. З 1669 г. кароль нават страціў права адмовіцца ад прастолу без згоды сойма. Увогуле, роля гэтага палітычнага інстытута ўсё больш умацоўвалася. Без згоды сойма ці соймавай рады кароль не мог прымаць замежных паслоў, распараджацца дзяржаўнымі падаткамі, ваеннымі сіламі, скарбам, страціў прэрагатывы на права чаканкі манеты ад свайго імя, права амністыі[20].

Як адзначаў М. Доўнар-Запольскі, шляхта лічыла нават, што мае права ўстанаўліваць і модусы прыватнага жыцця свайго гаспадара. У выніку ўжо з паловы XVII ст. уся ўлада ў Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на землях Вялікага княства Літоўскага, сканцэнтравалася ў руках сойма, які валодаў пэўным «маястатам» ад самога караля[21]. Соймавыя канстытуцыі і звычаі ўзаконьвалі права шляхты адмаўляць каралю ў падпарадкаванні, калі ён (на думку шляхты ці асобных яе груповак) парушаў ці не выконваў асноўных правоў дзяржавы. Шляхта мела магчымасць утвараць канфедэрацыі (таксама «рокашы») у падтрымку ці супраць караля, у часы межкаралеўя, войнаў — з мэтай падтрымання парадку ў дзяржаве, аховы правоў і свабод, ажыццяўлення пэўных палітычных спраў (напрыклад, згрупавання насельніцтва на абарону дзяржавы ў той час, калі цэнтральная ўлада сама не была здольна гэта зрабіць). З другога боку, як канфедэрацыі, так і «рокашы» садзейнічалі моцным сепаратным настроям. Прычым сепаратызм часта насіў вузкалакальны характар, хаця і быў фармальна арыентаваны на ўмацаванне правоў і інстытутаў усёй дзяржавы (Вялікага княства). Як правіла, сепаратысты шукалі падтрымку з боку магутных суседніх краін. Так, яшчэ ў другой палове XVII ст. адзін з Радзівілаў двойчы спрабаваў стварыць самастойную дзяржаву — спачатку пад пратэктарствам Брандэбурга, потым Швецыі. У канцы XVII ст. за стварэнне самастойнага Вялікага княства выступілі Сапегі, якія пачалі барацьбу з каралём Янам Сабескім, але не зрабілі нічога і толькі паслабілі як Вялікае княства, так і Рэч Паспалітую.

Ідэя ўмацавання Вялікага княства ці стварэння ў яго межах асобнай дзяржавы была папулярнай ў розных магнацкіх радоў Беларусі і Літвы XVII—XVIII стст., але выступіць адзінай сілай за ажыццяўленне гэтай ідэі яны былі няздольныя. Іншых сацыяльных сіл дзеля гэтага не было. «Трэцяе саслоўе» (мяшчанства) было нештмалікім і эканамічна слабым (з другой паловы XVII ст. яно ўвогуле не прытрымлівалася якіх-небудзь дзяржаўна-нацыянальных тэндэнцый). Шляхта Беларусі і Літвы імкнулася да інтэграцыі з польскай шляхтай супраць магнацкіх груповак і была сацыяльнай апорай менавіта таго дзяржаўнага ладу, які і панаваў у Рэчы Паспалітай. Акрамя таго, ідэя стварэння асобнай незалежнай дзяржаўнасці на Беларусі і Літве амаль што заўжды спатыкалася на праблеме кіраўніцтва — які з панскіх радоў павінен кіраваць дзяржавай. За гэта ваявалі Радзівілы, Сапегі, Пацы, Агінскія, Вішнявецкія, якія то ўваходзілі ў часовыя пагадненні адзін з другім, то зноў пачыналі канфліктаваць. Так, калі ў 1680-х гг. у Вялікім княстве ўмацавалася становішча Сапегаў, супраць іх агульным рухам выступілі Агінскія і Вішнявецкія, якіх пад-

[20] Historia Polski. Warszawa, 1957. T. I. S. 299—301.

[21] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 158—160.

трымлівалі шляхецкія не толькі васальныя, але і павятовыя, зямляцкія групоўкі[22].

Барацьба за ўладу паміж магнацкімі радамі працягвалася і ў XVIII ст., калі ўсю Рэч Паспалітую раздзіралі канфлікты паміж прыхільнікамі караля Аўгуста II і Станіслава Ляшчынскага (таксама абвешчанага каралём), паміж групоўкамі Пацы—Агінскія і прыхільнікамі гетмана Вялікага княства Дэнгафа, пазней паміж групоўкамі Чартарыйскія—Радзівілы—Рэвускія і Патоцкімі—Браніцкімі, потым Радзівілы ўжо змагаліся з Чартарыйскімі і гэтак далей.

У другой палове XVIII ст. барацьба за ўладу паміж рознымі магнацкімі групоўкамі-канфедэрацыямі працягваецца і стварае выключна катастрафічную сітуацыю для палітычнага жыцця дзяржавы[23]. Сітуацыя ўскладнялася арыентацыяй ваюючых бакоў на знешнепалітычныя сілы, якія не былі зацікаўлены ў складанні адзінай і магутнай дзяржавы як у межах Вялікага княства, так і ў межах Рэчы Паспалітай. Скончылася ўсё гэта ў канцы XVIII ст., калі ў выніку трох падзелаў (у 1772, 1793, 1795 гг.) Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй яна перастала існаваць у якасці самастойнай дзяржавы.

Уяўляе цікавасць этнасацыяльны аспект палітычнай гісторыі Рэчы Паспалітай, якая фармальна лічылася «дзяржавай двух народаў» — сацыяльна-палітычных супольнасцей Каралеўства і Вялікага княства. Аднак нават і беглы аналіз унутрыпалітычных падзей другой паловы XVII—XVIII ст., склад і арыентацыі іх удзельнікаў сведчаць аб іншым.

Грамадства з грамадзянскай згодай у межах Рэчы Паспалітай так і не склалася, а грамадзянскія нацыі заходнееўрапейскага тыпу на землях Кароны і Вялікага княства ў тыя часы яшчэ не сфарміраваліся. Тагачасны тэрмін «народ-нацыя» рэальна адпавядаў і вызначаў толькі прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя, якія сапраўды ўдзельнічалі ў дзяржаўных і грамадскіх справах, але не складалі і паловы дэмаграфічнай масы насельніцтва. Мяшчанства і тым больш сялянства ў паняцце «народа-нацыі» амаль да канца XVIII ст. не ўваходзілі. Гэта паспрабавалі паправіць у Канстытуцыі 3 мая 1793 г. найбольш прагрэсіўныя дзеячы Рэчы Паспалітай. Аднак умяшанне знешніх сіл і непрызнанне Канстытуцыі Таргавіцкімі канфедэратамі і традыцыяналістамі не прывялі да істотных змен[24]. Шляхецкі «народ-нацыя» як Польшчы, так і Вялікага княства, акрамя таго, разрываўся ўнутранымі канфліктамі, падставай якіх былі розныя дзяржаўна-палітычныя і рэлігійна-культурныя арыентацыі. Так і не аб'яднаная адзінай канфесіянальнай прыналежнасцю, шляхта Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. пры падтрымцы Прусіі і Расіі раскалолася на некалькі ідэалагічна-палітычных груповак, аформленых у асобныя саюзы-канфедэрацыі. Слуцкая канфедэрацыя аб'ядноўвала пераважна праваслаўную і арыентаваную на Расію шляхту, Таруньская — пратэстанцкую і прапрускую. Удзельнікі абедзвюх «дысідэнцкіх» канфедэрацый супрацьстаялі каталіцкай шляхце, якія пазней арганізавалі сваю асобную Барскую канфедэрацыю. Спробы так званага 4-гадовага сойма ўладкаваць канфлікт шляхам ураўнання правоў не мелі поспехаў таму, што ўслед за гэтым павінна было ажыццявіцца пераўтварэнне «Рэчы Паспалітай абодвух народаў» ва ўнітарную дзяржаву (дзе беларуска-літоўская магнатэрыя дзяліла б уладу на землях Вялікага княства з польскай).

---

[22] Бардах Ю., Леснодарский Б., Пиетрчик М. История государства и права Польши. М., 1980. С. 220—230.

[23] Юхо Я. А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 213, 215.

[24] Там жа. С. 218—224.

Пэўная этнічная неаднароднасць шляхты таксама не спрыяла яе рэальнай «нацыянальнай» кансалідацыі. Часткова апалячаная, але канчаткова не асімляваная, беларуска-літоўская шляхта так і не ўвайшла ў этнасацыяльную супольнасць польскага народа і ў залежнасці ад абставін то атаясамлівала сябе палякамі, то супрацьпастаўляла ім сваё «ліцвінскае» паходжанне ці прыналежнасць. Сацыяльна-палітычна, ідэалагічна, юрыдычна, а ў пэўнай ступені і этнаграфічна асобныя часткі шляхты супрацьпастаўляліся сваёй роднай этнасацыяльнай супольнасці. Арыентацыя на іншаэтнічныя культурныя каштоўнасці, забыццё ўласнай мовы, саслоўная пагарда да іншых катэгорый насельніцтва, страта рэальнай этнічнасці істотна адрывалі шляхту ад астатняга этнасу, а апошні пазбаўляла важнай сацыяльнай часткі — грамадскай нацыянальнай эліты. Няпоўная сацыяльная структура этнасу характарызавала яго ўжо амаль выключна як «сялянскі народ» або «сялянскую нацыю».

Аднак, адмежаваная ад народа ўласнымі саслоўнымі стэрэатыпамі і прывілеямі, сацыяльная арыстакратыя грамадства Вялікага княства ўсё ж была «сваёй» па крыві і паходжанню, што, безумоўна, не з'яўлялася для ганарыстай шляхты падставай для этнічнай ці якой-небудзь іншай інтэграцыі з астатнім народам у адзіную этнасацыяльную супольнасць (грамадзянскую ці этнічную нацыю). Простым саслоўям — «люду» — працягвала супрацьстаяць шляхецка-магнацкае саслоўе — «народ-нацыя». Асабліва яскрава гэта штучная этнічная чужасць (але рэальна сацыяльная варожасць) праявілася ў грамадстве Вялікага княства Літоўскага ў часы паўстанняў і грамадзянскіх войнаў XVII ст., калі шляхта і магнаты ўяўляліся астатняму народу як чужынцы, чужаземцы, «ляхі». Паказальна, аднак, што ў палоне на Маскве ўсе яны (як шляхта, так і мужыкі) «пры роспытах» сказваліся аднолькава — «ліцвінамі». Паміж сабой гэтага, аднак, не асэнсоўвалася. Просты люд не мог, а шляхта не жадала лічыць сябе роднасным, адзіным народам як у сацыяльна-палітычным, так і ў этнічным сэнсе гэтага слова (у лепшым выпадку, асэнсоўвалася аднолькавасць падданства)[25].

Прававая і ідэалагічная своеасаблівасць сацыяльнага становішча шляхты Вялікага княства Літоўскага адбівалася амаль што на ўсіх этнасацыяльных і грамадска-бытавых характарыстыках гэтага саслоўя. Звычаі «панібрацтва» і саслоўнага гонару адрознівалі нават самыя бяднейшыя групоўкі шляхты («шарачкоў», «галоту») ад іншых, у тым ліку і заможных катэгорый насельніцтва, напрыклад мяшчанскага набілітэту. Унутры самога саслоўя існавалі звычаёвыя правілы паводзін як для ўсіх, так і для асобных груповак-катэгорый — у залежнасці ад узроўня прававой незалежнасці і маёмасці.

Шляхта, што жыла на землях гаспадара (павятовая), мела свае асобныя правы, вырашала розныя пытанні на сойміках, на чале якіх стаяў маршалак, што ўжо з другой паловы XVII ст. выбіраўся самой шляхтай (а не прызначаўся каралём, як гэта было раней)[26]. Асобнымі былі пасады цівунаў, дзяржаўцаў, намеснікаў, якія кіравалі («дзяржавілі») каралеўскімі маёнткамі і падпарадкаваліся непасрэдна каралеўскай канцылярыі.

Асобнае становішча было ў гарадской і мястэчкавай шляхты, якая падпарадкавалася законам магдэбургскага пра-

---

[25] Новы погляд на «народ-нацыю» як на дзяржаўна-палітычную і агульнанацыянальную сукупнасць розных саслояў выказвала Канстытуцыя 3 мая 1791 г., аднак ужо ў 1793 г. Гародненская канферэнцыя і наступныя ваенныя падзеі 1793—1795 гг. скасавалі яе пастановы.

[26] Wasilewski T. Walka o zrównanie praw szlachty Litewskiej z Koronna od unii Lubelskiej do pazątku XVIII wieku // Zapiski Historyczne, 1986. Z. I. S. 52—54.

ва і асобным гарадскім ці земскім прывілеям. Значная частка ўрбанізаванай шляхты была службовай — на адказных гарадскіх пасадах — і ваеннаслужачай. Шляхта, што жыла ў гарадскіх юрыдыкцыях ці на магнацкіх землях, падпарадкавалася свайму сюзерэну і яго ўласнай адміністрацыі, суду, заканадаўству. Існавалі некаторыя асаблівасці і ў сацыяльна-прававым становішчы шляхты, што жыла на царкоўных землях і ўладаннях. Пры двары кожнага магната была яшчэ і асобная служылая шляхта, якая складала першае кола яго дваровых слуг і служыла толькі свайму гаспадару. Як пісаў М. Доўнар-Запольскі, «калі пану было трэба, то ўся гэта ўдзячная галота паднімалася як адзін чалавек і вымала з ножнаў зброю... Часам дзяржава цярпела ад барацьбы і спрэчак паміж вялікімі магнатамі, калі гэтыя спрэчкі ператвараліся ў сапраўдную вайну»[27].

Колькасць людзей шляхецкага стану на працягу другой паловы XVII—XVIII ст. пастаянна павялічвалася і складала даволі значны працэнт ад усіх жыхароў Вялікага княства (у тым ліку і ў Беларусі). Пэўным чынам гэта было звязана з пануючай у гэтыя часы тэндэнцыяй падаравання шляхецкіх правоў за ваенныя і іншыя паслугі перад дзяржавай ці асобнымі магнатамі. У канцы XVIII ст. шляхта складала ў розных рэгіёнах ад 8—12% да 15—18% насельніцтва. Большасць шляхецкага саслоўя з зямель Беларусі па свайму канфесіянальнаму становішчу ў другой палове XVII—XVIII ст. адносілася да католікаў, трохі менш — да ўніятаў. Колькасць праваслаўных (таксама, як і пратэстантаў) пастаянна скарачалася і дасягала 2—5% у канцы XVIII ст. Асобную групу складала шляхта-мусульмане, якая прадстаўляла шырокія колы беларускіх (ці, як іх тады называлі, «літоўскіх») татар.

Увогуле, шляхецкая супольнасць у сваёй канфесіянальнай арыентацыі была скіравана на каталіцызм. Нават і ўніяцкая («руская») шляхта часта сарамілася сваёй веры ці падвяргалася нападам у нелаяльнасці, сепаратызме і гэтак далей. На Вальным Сойме (1764) было пастаноўлена караць смерцю ўсіх тых, хто пяройдзе з каталіцтва ў якую іншую веру, а ўжо ў 1766 г. Вальны Сойм прыняў як закон думку кракаўскага біскупа лічыць ворагам дзяржавы кожнага, хто скажа прамову на карысць іншаверцаў (гэта значыць праваслаўных і пратэстантаў)[28].

Не жадаючы ні ў чым адставаць ад польскай шляхты, шляхта Вялікага княства Літоўскага была ў другой палове XVII—XVIII ст. у значнай ступені знешне паланізавана або прапольскі арыентавана ў стэрэатыпах жыцця. У этнічным сэнсе паланізацыя слаба закранула праслойкі мясцовай дробнай і сярэдняй шляхты. Аднак большасць беларускай шляхты сумесна з польскай, украінскай і часткова літоўскай складала своеасаблівую саслоўную поліэтнічную супольнасць, асновай якой былі ідэалогія сарматызму і ваяўнічасці, кампаненты рэнесанскай культуры, аднолькавая польская мова, канфесіянальная прыналежнасць, асобая самасвядомасць, лад жыцця і паводзін[29]. Этнасацыяльныя працэсы ў асяроддзі пануючага саслоўя насілі пераважна так званы этнатрансфармацыйны характар і былі пераарыентаваны на ўспрыняцце навацый і змяненне.

Змены ў саслоўна-прававым становішчы беларускага сялянства былі звязаны з перыядычным узмацненнем феадальна-прыгоннай залежнасці сялян («цяг-

[27] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 164—165.

[28] Ластоўскі В. Ю. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910. С. 86.

[29] Паказальна, напрыклад, што менавіта на гэтых падставах беларуская шляхта ўваходзіла ў склад (ці актыўна падтрымлівала) Барскіх канфедэратаў, якія змагаліся за захаванне асобных правоў за каталіцкай шляхтай.

лых», «чыншавых», «агароднікаў», «слуг»). Асноўным абавязкам «цяглых» сялян з'яўлялася паншчына, а «чыншавых» — грашовы аброк («чынш»). «Агароднікі» таксама выконвалі павіннасці па паншчыне, але давалі яшчэ і натуральны аброк з агароду. Сяляне-«слугі» займаліся промысламі і рамёствамі, прадукцыя ад якіх ішла на патрэбу панскага двара або на продаж. «Слугі», а часта і іншыя катэгорыі сялянства, выконвалі таксама і шэраг служб, напрыклад: дварцовую, рамонтнабудаўнічую (шарвачную), ізвозную (фурманную), займаліся загатоўкай дроваў, аховай лесу, бортных дрэваў.

У 1670—1680-я і 1720—1730-я гг. перыядычна павялічвалася колькасць вольных сялян («слабодзічаў», «вольнікаў»), якія сяліліся на новыя або зруйнаваныя войнамі, спустошаныя старыя ворыўныя землі на пэўных прывілеяваных умовах. Напрыклад, сялянам за пэўную долю ўраджаю (трэці ці чацвёрты сноп) даваліся дадатковыя валокі, якія не засяваліся, а заставаліся пад сенажаць ці пад выган, пад пар. Калі ў селяніна дакладна фіксаваны надзел складаў менш за паўвалокі, землеўладальнік дазваляў яму ўзяць кавалак пазанадзельнай, так званай «прыёмнай», зямлі, за які плацілі меншы падатак[30]. Ажыццяўлялася гэта ў адносінах да іншых катэгорый сялян з мэтай узбуйнення плошчы апрацоўваемай зямлі. Гэта практыка была карыснай, паколькі працаўнікі, хаця наўмысна і скарачалі памеры асноўных надзелаў, усё ж распраўцовалі пусткі (феадал жа знаходзіў іншыя спосабы зверхпоўна ўзяць свае падаткі)[31]. Што ж датычыць катэгорый «слабодзічаў» і «вольнікаў», то па меры аднаўлення гаспадарак і ўзмацнення феадальнай эксплуатацыі да сярэдзіны XVIII ст. гэта праслойка сялян амаль што злілася з астатнімі.

Сяляне спачатку буйных каралеўскіх уладанняў, а потым прыватнаўласніцкія і царкоўныя пераводзіліся ў гэты перыяд з апрацовачнай рэнты на грашовую, гэта значыць з «цяглых» — у «абаронча-чыншавыя». Гэта вяло да некаторай нівеліроўкі ўнутрысаслоўнага становішча розных катэгорый беларускага сялянства. На думку гісторыкаў, адбываўся працэс збліжэння ці нават поўнага зліцця сельскагаспадарчых рамесных сялян-«слуг» з «цяглым» і «чыншавым» сельскім насельніцтвам[32].

Акрамя асноўных павіннасцей сяляне выконвалі шэраг іншых. Так, працоўныя павіннасці («гвалты», «талокі», «згоны») былі звязаны са жнівом, сенакосам, узорваннем. На гэтыя працы выходзілі ўсёй сям'ёй. Падводную (фурманную) павіннасць, якая часта была звязана з далёкімі вандроўкамі, селянін выконваў на асабістай рабочай жывёле, але «на сваёй страве». У выпадку непатрэбнасці выканання «фурманшчыны» паны спагалі з сялян адпаведны грашовы эквівалент, кампенсацыю за падводы. Іншыя абавязкі ўключалі «старажоўшчыну» (гаспадарчыя работы ў двары феадала) і «старожу» (ахову панскага двара), «шарвакі» (рамонт і будаўніцтва дарог, мастоў, запруд, млыноў, маёнткавых збудаванняў).

У гаспадарках, што існавалі недалёка ад рэк, практыкаваўся абавязак па водnаму сплаву лесу і іншых грузаў. Абавязковым быў і ўдзел сялян у загонах на панскім паляванні, у рыбнай лоўлі, раскарчоўцы лясоў. Вылучалі сяляне ад сва-

[30] Характэрна, што сяляне не толькі ўтойвалі ад уладальнікаў частку зямлі, якой карысталіся, але і адмаўляліся прыняць яе на «чынш» пасля выкрыцця. Прычым рабілася гэта не таму, што прыгонныя не маглі апрацаваць дадатковыя кавалкі пашы, а каб і надалей пазбягаць выплаты падаткаў. Гл.: Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. І. С. 244—246.

[31] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 168—175.

[32] Похилевич Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII стст. С. 128—129; Гісторыя Беларускай ССР. Т. І. С. 340.

ёй вёскі і пастухоў для панскага статка. Сялянкі прыгонам аполвалі і палівалі панскія агароды, мылі бялізну для двара, ткалі, стрыглі і апрацоўвалі воўну. Іншыя, больш складаныя патрэбы панскага двара задавальнялі спецыяльна падрыхтаваныя сяляне-«слугі», прамыславікі і рамеснікі.

Акрамя розных абавязковых прац, беларускія сяляне павінны былі плаціць сваім гаспадарам і разнастайныя грашовыя падаткі: «чынш» (для «чыншавых» сялян) і «запісное», ці «грашовае» (пры здачы «чынша»), «падымнае», «жарнавое» (за права мець свае жорны), «угайнае», «ялавічнае», «вепраўшчызну» (за карыстанне панскімі ляснымі ўгоддзямі), «чапавае» (за дазвол на выраб алкагольных напіткаў), «рэйтаршчыну», «гіберну», ці «сярэбшчыну» (на ўтрыманне войска), «кунічныя», ці «куніца» (за дазвол выйсці замуж за жыхара чужой воласці) і інш. Былі і такія варварскія, як «прапінацыя» — абавязак штотыднёва купляць і піць гарэлку ў панскіх карчмах і шынках, — усяго больш за 50 найменняў.

Даніна натураю («стацыя») і прадуктовы аброк дапаўнялі абавязковыя сялянскія падаткі. Усяго падаткаў, павіннасцей, babораў, аблогаў, якія былі ўскладзены на плечы працоўнага сялянства, даследчыкі налічваюць больш за 100[33].

Феадал імкнуўся любымі шляхамі атрымаць патэнцыяльную магчымасць абіраць і эксплуатаваць сваіх падданых, але ўсё ж трэба было сачыць, каб яны цалкам не збяднелі (паколькі збяднеў бы і пан). Каб прымусіць селяніна выконваць шматлікія абавязкі і паборы, трэба было пазбавіць яго ўсіх правоў. У значнай ступені, як сведчаць шматлікія дакументы другой паловы XVII—XVIII ст. (а таксама колькасць антыфеадальных паўстанняў і склад іх удзельнікаў), феадальным вярхам грамадства Вялікага княства гэта ўдалося зрабіць. Прававая безабароннасць большай часткі сялянства стала характэрнай рысай гісторыі Беларусі другой паловы XVII—XVIII ст.

Ужо ў другой палове XVII ст. феадалы пачынаюць адкрыта адмяжоўвацца ад вырашэння юрыдычна-прававых пытанняў паміж імі і сялянамі на копных сходах (традыцыйных да гэтага), што перашкаджала нармальнай дзейнасці апошніх і ставіла сялян у бяспраўнае становішча. Пан і селянін і да гэтага не маглі ў поўнай меры выступаць раўнапраўнымі суб'ектамі працэсуальных праваадносін (сход улічваў саслоўную прыналежнасць ісцеца і адказніка), аднак усё ж рашэнне схода праз возных («віжаў») было вядома павятовай адміністрацыі ці магнатам-землеўладальнікам[34].

З другой паловы XVII ст. вынікі копных сходаў-судоў заставаліся ўсё часцей і часцей праігнараванымі ганарыстымі шляхцюкамі і іх патронамі. Характэрна ў гэтых адносінах рэакцыя сярэдняй і дробнай шляхты, у паводзінах якой адлюстроўваліся настроі ўсёмагутных магнатаў. Яны часта ўвогуле ігнаравалі дэкрэты копных судоў, калі апошнія ў чым-небудзь супярэчылі іх інтарэсам, не пускалі копнікаў у свае маёнткі, забаранялі сваім сялянам падпарадкоўвацца копным выклікам і дэкрэтам («...вы не мелі права судзіць майго падданага, каму што трэба, я сам яго задаволю»), дэманстратыўна пагарджалі старадаўнім правам сходаў выклікаць іх саміх на капаванне («...я таго суда вашага не абражаю... але і слухаць не хачу, звяртайцеся да ўладаў»,

[33] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. I. С. 247—250; Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 175.

[34] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVIII. С. 12, 47, 49, 261—267; Прадмова І. Спрогіса. С. VI—XX.

«...я, смердзе, вольнасць маю, ты не можаш мяне на капу выклікаць»)[35].

Пасля «хмельнішчыны», як пагардліва называлі магнаты і шляхта антыфеадальную барацьбу і грамадзянскую вайну 1648—1654 гг., копныя суды пачалі забараняць і нават разганяць. Адмоўная рэакцыя феадалаў была абумоўлена тым, што народная барацьба актыўна падтрымлівалася ўсімі самакіраўнічымі ўстановамі грамадства, у тым ліку і копнымі судамі-сходамі[36]. Парушыўшы традыцыйнае як пісанае, так і звычаёвае права, шляхта і магнаты не прапанавалі ўзор іншых прававых міжсаслоўных адносін.

Прававая безабароннасць і бяспраўе большай часткі сялянства Беларусі другой паловы XVII—XVIII ст. часта адпавядала больш рабаўласніцкаму, чым познефеадальнаму грамадству. Гэта неадэкватнасць абумоўлівала існаванне амаль заўсёднай небяспечнай канфліктагеннай сітуацыі ў дзяржаве, што ў выніку і завяршылася новай хваляй сялянскай антыфеадальнай барацьбы ў 1740—1750-х гг. (паўстанні на Крычаўшчыне, Мазыршчыне і інш.).

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што празмерны прыгнёт і звышнормавая эксплуатацыя працоўнага сялянства былі з'явамі не заўжды тыповымі для гэтага перыяду гісторыі Беларусі. Тыповай была прававая безабароннасць[37]. У гаспадарча-вытворчых адносінах усё ж захоўваліся асноўныя прынцыпы феадальнага ладу, згодна якім феадалу не было карысна даводзіць да галечы сваіх падданых[38]. Таму існаваўшыя шматлікія падаткі і павіннасці размяркоўваліся суадносна з патэнцыяльнымі і рэальнымі магчымасцямі іх выканання, а агульная колькасць сялянскіх беднякоў у мірныя часы ўвогуле не перавышала трэцяй часткі ад усяго сялянства. Сітуацыя змянялася толькі ў часы войнаў, мораў і эпідэмій, неўраджаяў.

Большая частка сялянства ў мірны час жыла хаця і ў пастаяннай цяжкай працы, але ж бязбедна. Сярод сельскіх працаўнікоў былі і заможныя катэгорыі, звычаёвы быт якіх мала чым адрозніваўся ад быту малазямельнай шляхты, зямян і збяднелых баяраў. Баяры ўвогуле былі прамежкавай катэгорыяй паміж сялянамі і шляхтай, а за карыстанне зямлёй часта абкладаліся тымі ж падаткамі, што і сяляне. Сярод адносна заможных, як і раней, былі «асочнікі», «бортнікі», «палазнікі», сяляне-«слугі», некаторыя катэгорыі спецыялізаваных сельскіх рамеснікаў і прамыславікоў, эфектыўнасць уласнай працы якіх залежала ад іх маёмаснага становішча.

Намаганнямі прагрэсіўных магнатаў-рэфарматаў невялікія часткі сялянства, праца якіх выкарыстоўвалася на мануфактурах, ужо ў 1760-х гг. былі ўцягнуты ў станаўленне на Беларусі раннебуржуазных гаспадарча-вытворчых адносін. Наём на працу практыкаваўся таксама на

[35] Шчарбакоў В. К. Нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1934. С. 105.

[36] Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. Мн., 1993. С. 74—75.

[37] Гэту відавочную несправядлівасць пачалі выпраўляць толькі ў самым канцы XVIII ст., калі Канстытуцыя 3 мая афіцыйна прызнавала, што «сяляне, з-пад рук якіх цячэ вялікая крыніца багацця краіны, якія складаюць у народзе самую шматлікую частку насельніцтва, з пачуцця чалавечнасці і хрысціянскага абавязку» павінны быць узяты пад ахову права і труда, з устанаўленнем іх свабод, агульных і ўзаемных абавязацельстваў з землеўладальнікамі. Гл.: Юхо Я. А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. С. 221.

[38] Некалькі іншых прынцыпаў прытрымліваліся ўсякага роду арэндатары — часовыя гаспадары прыватнаўласніцкіх і дзяржаўных фальваркаў, асобных прадпрыемстваў, староств, эканомій. Іх цікавіла, галоўным чынам, не развіццё гаспадаркі, а атрыманне максімальных прыбыткаў, з якіх дакладную частку трэба было аддаць юрыдычнаму ўладальніку, а астатняе сабе.

буйных жывёлагадоўчых гаспадарках, якія ўзнікалі ў тыя часы як у каралеўскіх, так і магнацкіх уладаннях (Храптовічаў, Сапег, Бжастоўскіх і інш.). Але, зразумела, гэтыя адзінкавыя на той час спосабы арганізацыі новага тыпу гаспадарання яшчэ не аказвалі істотнага ўплыву на агульны контур феадальных эканамічна-вытворчых адносін на Беларусі.

Больш істотныя змены адбыліся ў гэты перыяд у асяроддзі мяшчанскага (урбанізаванага) насельніцтва, у яго сацыяльна-палітычным становішчы, грамадскім побыце і адносінах. У выніку крывавых войнаў гарады і мястэчкі Беларусі ўвайшлі ў стан страшэннага разбурэння і спусташэння. Паступовае аднаўленне гаспадарчага жыцця ў мірныя часы праходзіла шляхам вяртання звыклых ім функцый адміністрацыйных, вытворча-гандлёвых, культурных цэнтраў, узнаўлення традыцый самакіравання. Аднак працэс гэты ажыццяўляўся ў другой палове XVII—XVIII ст. з пэўнымі асаблівасцямі.

Як і раней, гарады Беларусі па свайму сацыяльна-прававому становішчу падзяляліся на каралеўскія і прыватнаўласніцкія. У сярэдзіне XVII ст., на думку А. Грыцкевіча, было 17 прыватнаўласніцкіх гарадоў (з агульнай колькасці 42), у другой палове XVII—XVIII ст. гэтыя лічбы павялічыліся (адпаведна 25 з 51)[39]. Агульнае пераваладанне колькасці каралеўскіх гарадоў, якія кіраваліся магдэбургскім правам, не сведчыла, аднак, аб сапраўдным сацыльна-прававым становішчы мяшчанства. Размова ідзе аб тэндэнцыі пашырэння ў гарадах і мястэчках прыватнаўласніцкіх «юрыдык», насельніцтва якіх падпарадкавалася асобным феадалам з ліку заможнай шляхты, плаціла ім усе падаткі і было ўжо юрыдычна незалежным (у адрозненне ад папярэдняга перыяду) ад магістратаў. Пастаяннае павелічэнне ўласнасці феадалаў падрывала эканамічнае становішча магдэбургскіх гарадскіх абшчын і інстытутаў самакіравання. Феадалы ўмешваліся ў справы магістратаў, парушалі прывілеі гараджан, незаконна абкладвалі іх грашовымі паборамі. Паступова колькасць насельніцтва, якое падпарадкоўвалася гарадскому самакіраванню (радам-магістратам), скарачалася, а прыватнаўласніцкая — у «юрыдыках» — павялічвалася.

Зацікаўленыя ў хутчэйшым узнаўленні гаспадарча-вытворчай дзейнасці «юрыдык», феадалы-ўладальнікі засялялі іх рамесным і гандлёвым людам, пераманьвалі мяшчан з падначаленых радам частак гарадоў, канфліктавалі з цэхавымі арганізацыямі і інш. Магістрацкія мяшчане скардзіліся каралю, які прысылаў рэвізораў для вырашэння канфліктаў. Аднак сітуацыя ўвогуле заставалася канфліктнай, калі час ад часу мяшчане адстойвалі свае традыцыі, «звыклыя правы» са зброяй (напрыклад: у Полацку ў 1667 г., у Гародні ў 1670 г. і ў 1726 г., у Менску ў 1700 г., у Магілёве ў 1773 г.)[40]. У 1764 г. сойм прыняў рашэнне аб ліквідацыі ў каралеўскіх гарадах судовай юрысдыкцыі шляхты, а насельніцтва «юрыдык» падлягала передачы пад уладу магістрату[41]. Аднак істотна абмежаваць уплыў заможных феадалаў на агульнае жыццё гарадоў гэта рашэнне не магло.

Арганізаваныя па феадальных традыцыях набыцця ўласных прывілеяў і іншых імунных правоў, магдэбургскія абшчыны і цэхавыя супольнасці захоўвалі ў XVIII ст.

[39] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв. Социально-экономическое исследование истории городов. Мн., 1975. С. 38—39.

[40] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. I. С. 253.

[41] Карпачоў А. М. Самакіраванне гарадоў Беларусі па «Магдэбургскаму праву» ў другой палове XVII—XVIII ст. // Весці АН БССР. № 2. С. 60—62.

пераважна кансерватыўны тып гаспадарання, вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі. Яны адмоўна ставіліся таксама да павелічэння колькасці гарадскіх жыхароў за кошт сялян, дэкласаваных «люзных людзей» (патэнцыяльных наёмных пралетарыяў), яўрэяў-рамеснікаў і гандляроў, якія не ўваходзілі ў цэхавыя супольнасці ці арганізоўвалі свае ўласныя карпаратыўныя аб'яднанні[42]. Самакіруючыеся па «майборскаму праву» абшчыны, цэхі і іх манаполія на рынках — усё гэта не спрыяла хуткаму росту і развіццю гарадской эканомікі, таварна-грашовых адносін, павелічэнню колькасці вытворчых адзінак. Характэрна, што ўзнікшыя на Беларусі ў XVIII ст. мануфактуры канцэнтраваліся пераважна ў прыватнаўласніцкіх мястэчках, малых гарадах і «юрыдыках» (напрыклад: у Слуцку, Шклове, Нясвіжы, Крычаве, Горках, Налібоках, Добрушы, Паставах, Бярэсці, Дуброўне, Свержані, Ражане, Урэччы, Мышы, Гароніцы — пад Гародняй і інш.). Гісторыкі налічваюць на другую палову XVIII ст. на Беларусі 53 мануфактуры, у працы якіх было занята каля 2,5 тыс. рабочых[43].

Увогуле да канца XVIII ст. у традыцыйнай арганізацыі рамеснікаў пачаў ажыццяўляцца заняпад, што адлюстравалася ў змяншэнні колькасці цэхаў у гарадах, а рамеснікаў у цэхах.

К часу першага падзелу Рэчы Паспалітай цэхавыя аб'яднанні рамеснікаў амаль знікаюць у мястэчках і шэрагу сярэдніх гарадоў. К канцу стагоддзя колькасць цэхавых рамеснікаў у такіх гарадах, як Магілёў, Віцебск, Полацк, Орша, Менск, Слуцк, Гародня, Мазыр, Бярэсце, складала 25—50% ад усяго рамесніцкага насельніцтва.

Новыя гаспадарча-вытворчыя і сацыяльна-палітычныя з'явы другой паловы XVII—XVIII ст. істотна адбіваліся на агульным малюнку таварна-грашовых адносін, стане мяшчанскага купецкага насельніцтва, якое таксама адчувала цяжар старых карпаратыўных «устаўных» абмежаванняў і рэгламентацый. Апошнія былі ўзяты ў спадчыну купецкімі брацтвамі Беларусі яшчэ з часоў іх арганізацыі і таму не былі прыстасаваны да новых умоў. Між тым, вялікую канкурэнцыю мяшчанскаму «брацкаму» купецтву пачала аказваць новая праслойка гандляроў яўрэйскага, польскага, рускага, нямецкага паходжання, а таксама «людзей стану шляхецкага», якія не падпарадкаваліся «вілкерам» купецкіх цэхаў і гарадскім радам. Шляхта, гандлёвая дзейнасць якой ужо не лічылася ганебнай, мела перад купецтвам шэраг прывілеяў, напрыклад: не плаціла «мытнае» ці «цло» за вываз тавараў, не абкладвалася налогамі за продаж рэчаў сваёй вытворчасці і інш. Але паколькі дзяржава ўвесь час мела патрэбу ў грошах і падымала мытныя стаўкі, то ўвесь цяжар мытных збораў клаўся на гарадское купецтва[44]. У розных раёнах Беларусі гандаль, які ажыццяўлялі прадстаўнікі шляхецкага саслоўя, ахопліваў ад 1/8—1/5 на Віленшчыне, Міншчыне, Гродзеншчыне да 1/3 на Віцебшчыне часткі тавараў.

Вялікія праблемы для эфектыўнасці беларускага гандлю рабілі войны і змяніўшаяся пасля іх палітычная і сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў суседніх краі-

[42] Найбольш буйныя яўрэйскія абшчыны былі ў гарадах і мястэчках Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, дзе яны ў канцы XVIII ст. складалі да 40—80% урбанізаванага насельніцтва. Гл.: Бершадский С. А. Литовские евреи. СПб., 1883. С. 12—29.

[43] Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966. С. 62—65.

[44] Мытныя прывілеі шляхты былі адменены толькі канвакацыйным соймам 1764 г., які ўстанавіў адну «генеральную» пошліну і даручыў гэтыя ж справы спецыяльным скарбовым камісіям аб гандлі, мануфактурах, мерах і інш. Гл.: Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 231.

нах. На думку М. Доўнар-Запольскага, XVII ст. было ўвогуле эпохай «паступовага заняпаду беларускага гандлю»[45]. Гандлёвыя адносіны на Беларусі пачалі наладжвацца і ўзбуйняцца толькі ў другой палове XVIII ст.

Каб утрымацца ў канкурэнцыі, купецтва пачало выходзіць са старых «брацтваў», парушаць іх правілы, арганізоўваць новыя карпарацыі і аб'яднанні. Так, узмацнілася тэндэнцыя да перакупкі тавараў, якой сталі прамышляць не толькі людзі з купецкага асяроддзя, але і багатыя майстры, старэйшыны. Скупшчыкі-пасрэднікі і кампрадоры пачалі займацца як унутры-, так і знешнегандлёвымі аперацыямі, апіраючыся ўжо выключна на ўласныя капіталы і магчымасці, а не на каралеўскія прывілеі, як раней. Часам самі ўнутры- і знешнеэканамічныя абставіны садзейнічалі стварэнню асацыяцый беларускага купецтва для скупкі тых ці іншых прадуктаў. Напрыклад, збожжа, якое ў Расіі і Ўкраіне каштавала танней за мясцовае, перакупалася і вывозілася беларускімі гандлярамі ў Рыгу, Крулявец, Гданьск[46].

Увогуле старая сістэма гарадскога самакіравання, арганізацыі вытворчасці і грамадскага побыту, што грунтавалася на нормах «майборскага права», пачала ў другой палове XVIII ст. прыходзіць у заняпад. Ужо ў 1776 г. сейм Рэчы Паспалітай пастанавіў адмяніць магдэбургскае права ў мястэчках і гарадах, якія не з'яўляліся цэнтрамі паветаў і ваяводстваў[47]. Устанаўліваўся асобны парадак, які павінен быў гарантаваць мяшчанам іх уласнасць, свабоду займацца рамяством і гандлем, права куплі-продажу дамоў і другой маёмасці, свабоду змены месца пражывання[48].

У 1790-х гг. заможным мяшчанам дазвалялася за 2 тыс. злотых купляць сабе шляхецтва з правам голасу на соймах, часта даравалася таксама шляхецтва за ваенныя выслугі. Мяшчане маглі займаць ніжэйшыя пасады ў розных дзяржаўных установах і судах, прадстаўляць інтарэсы сваіх гарадоў у соймах. Яшчэ больш буйныя правы атрымлівалі мяшчане па Канстытуцыі 3 мая, для падтрымкі прыняцця якой варшаўскія гараджане, напрыклад, накіравалі сваіх прадстаўнікоў у залу пасяджэння сойму.

Новая Канстытуцыя, як ужо падкрэслівалася, не была падтрымана шэрагам асобных магнатаў і шляхецкіх груповак-канфедэрацый, а саслоўна-прававы стан мяшчанскага саслоўя ў апошнія гады Рэчы Паспалітай так і не змяніўся. Новыя трансфармацыйныя змяненні ў яго асяроддзі былі звязаны з умовамі жыцця ў Расійскай імперыі. Амаль адразу ж яны адлюстраваліся, напрыклад, на пэўным скарачэнні колькасці мяшчанскага саслоўя з ліку мястэчкавага насельніцтва. Так, многія мястэчкі Беларусі, жыхары якіх яшчэ са старажытных часоў адносіліся да мяшчанскага саслоўя, былі па загаду расійскай адміністрацыі пераведзены ў разрад сёл, а іх насельніцтва — у катэгорыю казённых ці нават прыватнаўласніцкіх сялян. Далучэнне беларускіх зямель да Расіі не палепшыла саслоўна-прававога становішча беларускага мяшчанства (прынамсі, у канцы XVIII ст.).

Увогуле, палітычныя, сацыяльныя фактары другой паловы XVII—XVIII ст. не садзейнічалі кансалідацыі насельніцтва Беларусі і перыядычна парушалі стабілізацыю той дзяржаўна-палітычнай і этналінгвістычнай супольнасці беларускамоўных «літвінаў» і «русінаў», якая фарміравалася да гэтага гістарычнага перыяду.

[45] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 207—208.

[46] Там жа. С. 222.

[47] Падпарадкаванымі магдэбургскаму праву заставаліся Вільна, Ліда, Навагародак, Ваўкавыск, Пінск, Менск, Мазыр, Бярэсце, Гародня.

[48] Карпачоў А. М. Самакіраванне гарадоў Беларусі. С. 63; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. I. С. 253.

# ЭТНАНІМІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ: ФОРМЫ САМАВЫЗНАЧЭННЯ І САМАСВЯДОМАСЦЬ

Нягледзячы на рэзкія змены ў колькасці насельніцтва, на масавыя міграцыі і іншыя негатыўныя для стабільнага этнасацыяльнага развіцця фактары, характар рассялення беларусаў заставаўся ў другой палове XVII—XVIII ст. кампактным, а цэльнасць іх этнічнай тэрыторыі (таксама, як і літоўцаў-аукштайтаў і жмудзінаў) забяспечвалася захаваннем пэўнай аўтаноміі Вялікага княства Літоўскага, межы якога ў XVII—XVIII стст. у цэлым адлюстроўвалі асноўны арэал рассялення беларускага і літоўскага этнасаў. Выключэнне складалі, галоўным чынам, землі Смаленшчыны, якія ў памежных сваіх частках былі заселены беларускамоўным, этнаграфічна роднасным асноўнаму этнічнаму масіву насельніцтвам і якія ўжо назаўжды былі далучаны ў склад Маскоўскай дзяржавы.

Цар Аляксей Міхайлавіч хацеў далучыць Беларусь да Масквы, а менавіта тую яе частку, якая працягвала называцца Вялікім княствам Літоўскім. Вандроўнікі, што перасякалі тэрыторыю Беларусі ў XVII—XVIII стст., часта звярталі ўвагу на тыя пагранічныя рубяжы, якія захоўвалі размежаванне зямель Вялікага княства і Польшчы[49]. Выразна ўяўлялася размяшчэнне «Літоўскага рубяжа» і на сумежных тэрыторыях Беларусі і Расіі[50].

У XVII—XVIII стст. за ўсходнімі тэрыторыямі Беларусі ўжо адносна стабільна замацавалася назва «Белая Русь» (ці «Белая Расія»). У Маскоўскай дзяржаве (цары якой ужо афіцыйна вызначаліся ў гэтыя часы як гаспадары «Белай Русі») пад ёй разумеліся Мсціслаўскае, Полацкае, Віцебскае і Смаленскае ваяводствы, а таксама некаторыя часткі Пскоўшчыны. У краінах Заходняй Еўропы «Белай Руссю» ў другой палове XVII—XVIII ст. называліся розныя землі, але амаль што заўжды — тэрыторыі Падзвіння і Падняпроўя (як, напрыклад, на карце «Вялікага княства Літоўскага і Русі Белай», што была надрукавана ў 1687 г. у Нюрнбергу)[51]. Г. Тэктанзэр у пачатку XVII ст. адзначаў, што граніца паміж Маскоўскай дзяржавай і «Белай Руссю», «якая належыць палякам, праходзіць каля г. Оршы»[52]. Пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі А. Майерберг, апісваючы ў 1663 г. землі Русі, адзначаў іх падзел на «Вялікую», «Малую» і «Белую». Да апошняй ён адносіў землі з гарадамі Навагародкам, Менскам, Полацкам, Віцебскам, Смаленскам і Мсціслаўлем[53].

Для насельніцтва Рэчы Паспалітай і асабліва той яе часткі, што працягвала называцца Вялікім княствам Літоўскім, Белая Русь таксама была канкрэтнай тэрыторыяй, граніцы якой добра ўяўляліся. Так, у адным са старажытных актаў па копных сходах XVII ст. паведамляецца, што «...пан Тэадор Малеўскі... выехаў са сваёй вёскі (у Пінскім павеце)... у Беларускі край...», а праз некаторы час «вярнуўся... з Белай Русі»[54]. У «Лексіконе»

---

[49] Корб И. Г. Дневник поездки в Московское государство в 1698 г. СПб., 1907. С. 5—10.

[50] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. V. С. 79; Русская историческая библиотека. Т. 38. Кн. 3. С. 474; Т. III. С. 18.

[51] Гл.: Ширяев Е. Е. Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах. Мн., 1991. С. 28—30, 32—34, 36; Аналагічная лакалізацыя назвы на картах Джуна (Лондан, 1711), Хомана (Нюрнберг, 1710), Цырыона (Амстэрдам, 1733) і інш.

[52] Тектанзер Г. Путешествие в Персию через Московию в 1602—1603 гг. // Чтения в обществе любителей истории и древностей Российских. М., 1896. Кн. 2. С. 10.

[53] Майерберг А. Путешествие в Московию // Чтения в обществе любителей истории и древностей Российских. М., 1963. Кн. 4. С. 120.

[54] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XVIII. С. 509.




28. Схема паводле карты Т. Майера. Нюрэмберг. 1750 г.

Г. Карпінскага (1766) адзначалася, што «Русь заключае ў сябе акрамя Русі Маскоўскай Літоўскую Русь, якая складаецца з Русі Белай і Чорнай. Белая Русь мае ваяводствы Мсціслаўскае, Полацкае, Віцебскае і Смаленскае. Чорная Русь — Новагародскае і Менскае»[55]. Падручнік па гісторыі і геаграфіі Польшчы XVIII ст. лакалізуе назву «Белая Русь» некалькі інакш, але і там да яе адносяцца землі Падняпроўя і Падзвіння, якія ўваходзяць у Віцебскае, Полацкае, Мсціслаўскае ваяводствы[56].

Сведчаннем устойлівасці тапоніму «Белая Русь» для ўсходнебеларускіх зямель з'яўляўся той факт, што праваслаўнаму біскупству (што падначальвала прыходы Мсціслаўшчыны, Магілёўшчыны і Аршаншчыны) была дадзена афіцыйная назва «беларускае». Беларускімі называліся і казацкія палякі на падняпроўскіх землях Белай Русі (напрыклад, адзін з казачых палкоўнікаў запытваў у свайго кіраўніцтва, «велел ли ему... пан гетман над Белой Русью пановать... и полковником писаться белорусским, могилевским, гомельским...»)[57]. У дагаворных артыкулах, якія былі заключаны паміж гетманам Б. Хмяльніцкім і рускім царом аб вывадзе казацкіх войск з беларускіх зямель,

[55] Karpinski H. Lexykon geograficzny. Wilno, 1766. S. 492.

[56] Krótke zebranie historyi i geografii Polskiej. Supraśl, 1767. S. 382.

[57] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. II. С. 165; Гл. таксама: Ткачоў М. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 2. С. 62.

адзначаецца, што «...в Белой Руси залогом черкасским не быти...»[58].

Вызначэнні, якія з'явіліся ў XVII ст.: «беларускі край», «беларускія гарады», «беларуская шляхта», «беларускія людзі», «беларуская мова», «беларуская вера» і іншыя — пастулова пачалі ўваходзіць у шырокі ўжытак[59].

Сапраўднага этнічнага сэнсу гэтыя паняцці ў большасці выпадкаў яшчэ не неслі і мелі значэнне гісторыка-геаграфічных вызначэнняў усходніх абласцей і насельніцтва Беларусі (былой традыцыйнай Русі). Аднак у той жа час пачаў назірацца і працэс пэўнай этнізацыі (набывання этнічнасці) назваў, утвораных ад тапоніма «Белая Русь», што было звязана з пашырэннем арэалаў іх ужывання у беларускага насельніцтва заходніх зямель, якое, калі і не асэнсоўвала ў поўнай ступені роднасці з жыхарамі ўсходнебеларускіх зямель, аднак і не супрацьпастаўлялася ім у этнічным (этнаграфічным) сэнсе. Гэтым, напрыклад, можна растлумачыць цеснае суіснаванне ў той час этнанімічных форм «беларусцы» і «ліцвіны».

Спроба вызначыць арэал распаўсюджання назвы «беларус» («беларусец») па розных дакументах XVIII ст. паказала, што гэты этнонім ужываўся ва Ўсходняй і часткова Цэнтральнай Беларусі (у сучасным разуменні гэтага слова) з гарадамі Полацкам, Віцебскам, Оршай, Магілёвам, Копыссю, Крычавам, Барысавам, Талачынам, Лукомлем, Прапойскам, радзей — Рэчыцай, Мазыром, Гомелем і інш. Далей на ўсход ад памежжа Беларусі (у сучасных яго арэалах) назвы «Белая Русь» і «беларусец» ужываліся ў адносінах зямель і насельніцтва Себяжа, Невеля, Суражы, Смаленска, Дарагобужа, Ярцэва, Раслаўля, Мгліна, Старадуба[60] і інш. Разам з тым, у некаторых выпадках гэтыя назвы сустракаюцца ў старажытных дакументах і ў адносінах да жыхароў заходнебеларускіх раёнаў («Войтешка Михайлов... белорусец Лицково повету», «белорусец Асташка Троіцкі... з Гродна»[61]), а таксама зямель і насельніцтва правабярэжжа Прыпяці і Украіны: Чарнігаўшчыны, Кіеўшчыны, Северскай зямлі, Жытоміршчыны, Валыні[62].

Тлумачэнняў пра з'яўленне на землях Украіны назваў «беларусцы», «беларусы» некалькі. Шэраг гісторыкаў (А. Пацебня, У. Ламанскі, А. Салаўёў і інш.), спасылаючыся на гістарычныя дакументы, сведчаць, што назва «Белая Русь» датычыла і некаторых украінскіх тэрыторый, насельніцтва якіх ужывала адтапанімічны этнікон «беларусцы» (аналагічна, як і на Ўсходняй Беларусі). Аднак ёсць гістарычныя падставы і для іншых думак. Так, вядома, што ў выніку крывавых войн, неўраджаеў, мораў, рэлігійнага прыгнёту праваслаўнага насельніцтва, гвалтоўных і добраахвотных міграцый з тэрыторый Беларусі ў другой палове XVII ст. і ў першай трэці XVIII ст. адбываліся часам даволі вялікія перасяленні насельніцтва ў суседнія краіны і на тэрыторыі сумежных дзяржаў. Шмат беларускага насельніцтва

---

[58] Курц Б. Состояние России в 1650—1655 гг. по донесениям Родеса. М., 1914. С. 195, 242.

[59] Русско-белорусские связи. Сборник документов. С. 103, 106, 112, 130, 165, 322 і інш.

[60] Ламанский В. И. Белая Русь. О происхождении названия // Живая старина. 1891. Вып. 3. С. 245—250; Катошихин Г. О. О России в царствование царя Алексея Михайловича. СПб., 1906. С. 96; Крыжанич Ю. Русское государство в половине XVII в. М., 1969. Ч. II. С. 83; Потебня А. А. Этимологические заметки // Живая старина. 1891. Вып. 3. С. 118—119; Соловьев А. Белая и Черная Русь // Сборник русского археологического общества в Югославии. Белград, 1940. С. 55—58.

[61] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. III. С. 541; Русско-белорусские связи во второй половине XVII в. (1667—1686 гг.). Сборник документов. Мн., 1972. С. 100; Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667 гг.). Мн., 1963. С. 131—132.

[62] Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. С. 128—130.

(асабліва майстроў-рамеснікаў) з усходніх тэрыторый Беларусі было прымусова перaселена ў Маскву і іншыя гарады Расіі (у тым ліку на Паволжжа і ў Сібір). Былі таксама і добраахвотныя перасяленні, асабліва калі царскі ўрад запрашаў у дзяржаву розных майстроў, сялян, шляхту — усіх, хто «шляхтичи добрые и белорусцы и пашенные и мастеровые люди добрые ж»[63].

Міграцыі, што пачаліся яшчэ пасля Берасцейскай царкоўнай уніі ў канцы XVI ст., ішлі на працягу амаль што ўсяго XVII ст. Характэрна, што акрамя ўрбанімаў, якія сведчылі аб месцах былога пражывання мігрантаў (Гришка Брясловец, Федор Толочинский, Кирилка Лукомленин), да іх прозвішчаў-этніконаў часта дадаваліся і такія, як «беларусец» ці «ліцвін» («родом литвин белорусец ис Копыси, мещанский сын»)[64]. Па падліках Р. Лешчанкі, толькі з сакавіка па верасень 1667 г. у маскоўскі Разрадны прыказ для рассылкі ў Паволжжа і Сібір было накіравана 492 чалавекі з зямель Беларусі[65].

Менавіта ў гэтыя часы беларускае насельніцтва пашырыла арэал свайго кампактнага і дысперснага рассялення ў раёны Браншчыны, Севершчыны, Жытоміршчыны, Чарнігаўшчыны. На Чарнігаўшчыне, напрыклад, арэал рассялення беларусаў быў цэльным, даволі вялікім і змыкаўся з тэрыторыяй іх асноўнага рассялення. Характэрнай тут была і назва «ліцвіны» для беларусаў з боку ўкраінскамоўнага і рускамоўнага насельніцтва. Яна захоўвалася там да XIX — пачатку XX ст.[66] Назва «ліцвіны» ўжывалася ў адносінах да беларускамоўнага насельніцтва таксама і ў іншых раёнах Украіны (напрыклад: у паўночных раёнах Ровеншчыны, Жытоміршчыны, Валыні).

Іншы раз з дапамогай палітоніму «ліцвіны» можна растлумачыць і сэнс ужывання на Украіне назвы «беларусцы». Напрыклад, на роспытах у Маскве сястра «ліцвіна» Рамана — Савіна Дар'я паведамляла, што «родина ее в Белой Русі, в Хвастове. Отец и мать были белорусцы.., а сама яна... родом белоруска»[67]. Не выключана, што прычынай для назвы Дар'і і яе родзічаў «беларусцамі» паслужылі іх уяўленні аб існаванні назвы «Белая Русь» на Валыні (дзе знаходзіўся іх родны Хвастоў). Аднак палітонім «ліцвіны», якім быў вызначаны яе брат, на Украіне ўжываўся пераважна ў адносінах да выхадцаў з Беларусі ці Літвы і не датычыў карэннага ўкраінскага насельніцтва, якое «ліцвінамі» не называлася.

Характэрна, што і пазней — у XVIII — пачатку XIX ст. — мясцовыя жыхары на Валыні, Жытоміршчыне, Чарнігаўшчыне «ліцвінамі» (ці «ліцвінамі беларусамі») называлі сваіх беларускамоўных суседзяў[68]. Аналагічная сітуацыя наглядалася

[63] Русско-белорусские связи. Сборник документов (1570—1667 гг.). С. 141—142.

[64] Там жа. С. 103.

[65] Сярод розных катэгорый служылага насельніцтва Табольска (1696 г.) было прыкладна 150 чалавек выхадцаў з Беларусі, Томска (1672 г.) — каля 40, Краснаярска (1673 г.) — больш як 30, Енісейска (1674 г.) — каля 20, Тары (1689 г.) — каля 25 чалавек. Пэўная колькасць беларусаў жыла і ў іншых гарадах і паселішчах Сібіры. Гл.: Лешчанка Р. Ф. Беларусы-перасяленцы ў Сібіры (канец XVI—XVII ст.) // Весці АН БССР. Сер. грамадск. навук. Мн., 1982. № 5. С. 81; Яго ж. Беларусы ў Паволжжы (канец XVI—XVII ст.) // Весці АН БССР. Сер. грамадск. навук. Мн., 1984. № 4. С. 64—66.

[66] Косич М. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни // Живая старина. СПб., 1901. Т. II. С. 113—128.

[67] Русская историческая библиотека. Т. II. С. 611.

[68] Левшин А. И. Письма из Малороссии. Харьков, 1816. С. 147—148; Витковский В. Топонимы и этнонимы в словаре украинского языка П. Белецкого-Новенко // Восточнославянская ономастика. М., 1979. С. 185—186; Домонтович М. Материалы по статистике и географии Черниговской губернии. Уезды Мглинский, Суражский, Новозыбковский, Старобудский и Городнянский. СПб., 1865. С. 532—534; Мельник К. Мемуары, относящиеся к истории единения украинского и белорусского народов. Киев, 1978. С. 40.

і на Беларускім Палессі, дзе пэўныя беларускамоўныя групы вызначаліся «ліцвінамі» з боку суседзяў, што гаварылі на заходнепалескіх дыялектах ці на ўкраінскай мове[69].

Умацаванне ў XVI—XVIII стст. паняцця «беларусцы» часам абумоўлівала яго асобнае і самастойнае ўжыванне без палітоніма «ліцвіны». Гэты працэс адпавядаў ужыванню вызначэнняў «Белая Русь» і «Літва», калі пад першым тапонімам разумеліся ўсходнебеларускія тэрыторыі, сумежныя часткі Пскоўшчыны і Смаленшчыны, а пад другім — заходнебеларускія землі і Аўкштайція. Аднак ва ўнутрыдзяржаўных дакументах Рэчы Паспалітай Белая Русь заўсёды разумелася як частка Вялікага княства Літоўскага (напрыклад ва «Універсале караля Аўгуста», дзе гаворыцца аб абывацелях «стану шляхецкага Белай Русі ў Вялікім княстве Літоўскім»[70]).

Палітычнае саперніцтва каралёў Рэчы Паспалітай і рускіх цароў за тытул уладальніка Белай Русі стварала некаторыя адрозненні паняцця «беларусец» у памежных абласцях, якія адносіліся да дзвюх суседніх дзяржаў. Таму беларусаў з Рэчы Паспалітай называлі ў Расіі «ліцвіны беларусцы», а беларусаў з зямель, падуладных цару (Смаленшчына, Пскоўшчына), вызначалі проста «беларусцамі» або «рускімі», калі яны былі праваслаўнага веравызначэння.

Такім чынам, на ўзроўні звычаёвай свядомасці назва «ліцвіны» яшчэ доўгі час працягвала выконваць функцыю своеасаблівага дыферэнцыятара для экстэрытарыяльных, але родных па мове і культуры груп беларускага народа. Такую ж функцыю з XVII ст. пачала выконваць і назва «беларусцы» (ці «беларусы»), якая была даволі ўстойлівай ў іншаэтнічным асяроддзі. Яе стабільнае існаванне ў шэрагу кампактна размешчаных арэалаў моўна і этнаграфічна роднаснага насельніцтва сведчыла аб яе субэтнічным змесце. На думку сучасных этнографаў, доўгае захоўванне ўласнай саманазвы ва ўмовах значнай аддаленасці асобных людзей ці этнічных груп ад месца першапачатковага пражывання з'яўляецца важным сведчаннем даволі моцнай этнічнай ці субэтнічнай самасвядомасці.

Пэўным сведчаннем аб узмацненні этнічнай самасвядомасці ў часткі беларускага насельніцтва на падставе лакальнага мікраэтноніму «беларусы» з'яўляецца і выкарыстанне гэтай назвы як самавызначэння, назвы мовы, веры і іншых з'яў рознымі дзеячамі таго часу: С. Рысінскім, І. Капіеўскім (Капіевічам), С. Полацкім, Ю. Крыжанічам, М. Сматрыцкім, Л. Зізаніем, Г. Каніскім і інш. Аднак трэба заўважыць, што амаль усе яны не бачылі істотнай этнічнай рознасці паміж беларусамі, вялікаросамі і маларосамі і лічылі ўсе гэтыя «плямёны» тэрытарыяльнымі адгалінаваннямі аднаго «рускага народа». Такая ж думка была выказана і ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. «бацькай славянскай філалогіі» чэхам Я. Даброўскім, іншымі мовазнаўцамі і гісторыкамі[71].

Назвы «рускіе», «руськіе», «русіны» працягвалі існаваць на Беларусі ў XVII—XVIII стст. і выступалі іншы раз як сінонімы саманазве «беларусы-беларусцы», а ў шэрагу заходніх і паўднёвых рэгіёнаў (таксама і ў Аўкштайціі), дзе мікраэтнонім «беларусы» быў слаба распаўсюджаны, выступалі як самастойныя і

[69] Ossowski L. Zagadnienie jezykowe Polesia // Komisja naukowych badan ziem wschodnich. Warzawa, 1936. S. 607; Чаквін I. У. Гістарычная этнаніміка Палесся // Весці АН БССР. Сер. грамадск. навук. 1985. № 4. С. 74—81.

[70] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. III. С. 365 (1700 г.).

[71] Гл.: Ягич И. В. История славянской филологии. СПб., 1910. С. 106, 118.



29. Сімеён Полацкі. З гравюры XVII ст.

сінанімічныя паняццям «праваслаўныя»[72] і «уніяты»[73]. Уніяты таксама лічылі і вызначалі сваю веру, мову і этнічную (дакладней — этналінгвістычную) прыналежнасць «рускімі», «русінскімі». Царква і вышэйшы клір уніятаў Беларусі, Літвы і Украіны на працягу ўсяго перыяду XVII—XVIII стст. не менш за праваслаўных абаранялі традыцыйную «рускасць» (этнічнасць) сваёй «ліцвінскай» і «русінскай» паствы. Невыпадкова таму, што значная колькасць кніг, надрукаваных у XVII—XVIII стст. праваслаўнымі і уніяцкімі друкарнямі Вільні, Іўя, Жыровіч, Куціенаўскага манастыра Лаўрышова, Магілёва, Менска, Супрасля, Гродна, Кіева і іншых гарадоў, прызначалася «рускім», «людзям народа руского» і была напісана на царкоўнаславянскай і «рускай» мовах[74].

У маскоўскіх ідэолагаў (перш за ўсё з вышэйшых колаў царскай адміністрацыі, праваслаўнага кліру) існавалі і супрацьлеглыя погляды на беларусаў. Так, у канцы XVIII ст. у Расійскім афіцыйным друку распаўсюдзіўся тэзіс аб тым, што насельніцтва Беларусі і Літвы размяжоўваецца перш за ўсё па канфесіянальнай прыкмеце: калі каталікі — тады палякі, калі праваслаўныя — тады рускія, усе астатнія — «ліцвіны» ці уніяты[75]. Гэтыя «ліцвіны» (рознага веравызнання), на думку рускіх аўтараў XVIII ст., усё ж адрозніваліся ад уласна літоўцаў, якіх яны часцей за ўсё называлі «жмудзь» (напрыклад, як адзначаў сучаснік падзей 1710 г., калі ў краіне распаўсюдзілася эпідэмія маравой язвы: «У адной Вільні вымерла можна сказаць цэлая Жмудзь і часткова Літва»[76]).

Падзел беларускага народа па канфесіянальнай прыкмеце ў афіцыйнай гістарыяграфіі і ідэалогіі ўжо амаль што з канца XVIII ст. пачаў суправаджацца

[72] Напрыклад, расійскі гісторык В. Таціщчаў лічыў усходнія часткі беларусаў роднаснымі вялікаросам і на гэтай падставе вызначаў іх «рускімі». Заходнія групы беларусаў разам з літоўцамі ён называў «ліцвінамі», але падкрэсліваў, што апошнія карыстаюцца «славянскай» мовай. Гл.: Татищев В. Н. Избранные труды по географии России. М., 1950. С. 171—181.

[73] Напрыклад: «ляхі уніятаў руссю... завуць», «русін, які перад тым быў уніятам, а зараз католік», «усяму народу рускаму уніяцкага абраду ў Польшчы і Літве...» Гл.: Палуцкая С. Этнічная ідэнтыфікацыя вернікаў-уніятаў у крыніцах XVII — першай паловы XIX ст. // Беларусіка. Кн. 2: Фарміраванне і развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў. Мн., 1992. С. 303—304.

[74] Кніга Беларусі. 1517—1917. Зводны каталог. Склад. Галенчанка Г. Я. Мн., 1986; Крачковский Ю. Очерки униатской церкви // Чтения в обществе любителей истории и древностей Российских. М., 1871. Кн. 1—2.

[75] Плещеев С. И. Описание Российской империи в нынешнем ее новоустроенном состоянии. СПб., 1790. С. 26; Максимович Л. М. Новый и полный географический словарь Российского государства. СПб., 1788. Ч. I. С. 123—125.

[76] Памятники русской старины в Северо-Западном крае. Вильно, 1869. Вып. VI. С. 98.

барацьбой паміж вялікарускімі дзяржаўнымі і вялікапольскімі патрыётамі за Беларусь, якую кожная з гэтых партый бачыла «этнаграфічнай правінцыяй» — адпаведна Расіі ці Польшчы. Гэта палітыка паланізацыі і русіфікацыі беларусаў мела значны ўплыў на самасвядомасць народа і значна змешвала складзеную раней сістэму этнанімічных самавызначэнняў.

Аднак у некаторыя часы ўзнаўляліся спробы абараніць ці адрадзіць разам з уласнай дзяржаўнасцю і адпаведную «ліцвінскую» самасвядомасць, як, напрыклад, у часы паўстання Т. Касцюшкі ў 1794 г. («Літоўская Рада», «Акт паўстання народа Літоўскага»). Працэс гэты пачаўся яшчэ ў другой палове XVI — XVIII ст., калі пэўныя часткі беларускай (таксама і літоўскай) шляхты асэнсавалі, што паступова паланізуюцца[77] і страчваюць сваю дзяржаўна-нацыянальную аўтэнтычнасць. Мемуарыстыка XVIII ст. ведае прыклады, калі мясцовыя патрыёты адмоўна ставіліся да страты некаторымі магнатамі і шляхтай сваёй дзяржаўнай самасвядомасці і падкрэслівалі іх прапольскую арыентацыю (напрыклад, пра ўраджэнца Беларусі віцэ-губернатара Грахольскага пісалі: «...быў гэта паляк, беларус», пра полацкага ваяводу Ю. Сасноўскага — «...паходзіць ён са старажытнага рускага роду, рана спольшчанага»)[78].

Аб магчымых выніках паланізацыі «русінскай» і «ліцвінскай» шляхты, якая ў канцы XVI — XVII ст. пачала здраджваць «веры бацькоў і дзядоў» пісалі і папярэджвалі яшчэ М. Сматрыцкі і іншыя дзеячы[79]. Аднак у XVIII ст. працэс апалячвання вышэйшага саслоўя прыняў ужо татальны характар, што ўвогуле адпавядала ідэалагічным прынцыпам «сарматызму». Палітыку паланізацыі на Беларусі ў пэўнай ступені праводзіў і касцёл, які такім чынам імкнуўся мацней далучыць «крэсы ўсходнія» да Польшчы, што знаходзіла часта незадавальненне і пратэст з боку пэўных патрыятычных колаў грамадства (у тым ліку і з боку каталіцкага і ўніяцкага духавенства). Так, ксёндз Калінка ў сваёй прадмове да «Жыцця св. Езафата» (XVII ст.) пісаў: «...сярод каталіцкага духавенства рэдка спаткаеш чалавека, што шанаваў бы абрад і нацыянальнасць таго народу, сярод каторага ён працуе. Ім здаецца, што зрабіць чалавека... у нас палякам... гэта найлепшы спосаб навярнуць яго. Гэта фальшывы погляд»[80].

Супраць паланізацыі, акрамя беларускіх патрыятычных ксяндзоў, выступалі таксама праваслаўная і ўніяцкая цэрквы (апошняя працягвала традыцыі і абраднасць праваслаўя і называлася «рускай»). Па-беларуску, напрыклад, пісаліся некаторыя каталіцкія богаслужэбныя кнігі. Па інструкцыі Магілёўскай дыяцэзіі ад 1794 г. усе плябаны павінны былі гаварыць казанні ў касцёлах «на той мове, якую народ разумее»[81]. Старажытнабеларускую («руськую») мову вывучалі ў шматлікіх каталіцкіх школах, вучылішчах і калегіўмах.

---

[77] Размова ідзе аб этнічных паляках, якія са старажытных часоў жылі больш-менш кампактнымі арэаламі на Гродзеншчыне, Віленшчыне, Бярэсцейшчыне ці запрашаліся пазней (у XIV—XVI стст.) на службу ў Вялікае княства Літоўскае, у тым ліку і на землі Беларусі.

[78] Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры. Мн., 1982. С. 86.

[79] Напрыклад: «Адступнікі хочуць, каб Русі не засталося на Русі, каб рускай... веры не было у рускай царкве, якая можа быць знішчана... з вынішчэннем рускага народу». Гл.: Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше. Сост. Коялович М. О. СПб., 1865. С. 214, 236, 244.

[80] Гл.: Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1991. С. 138.

[81] Зайкоўскі Э. Роля канфесійнага фактару ў нацыянальнай свядомасці беларусаў // Беларусіка. Кн. 2. С. 267, 270.

Яшчэ з першай паловы XVII ст. папскі прастол імкнуўся абараніць уніяцкую царкву і «русінаў-уніятаў» ад прыгнёту з боку ваяўнічых каталіцкіх колаў. Так, у адказ на скаргі ўніяцкага мітрапаліта Руцкага, які дамагаўся ад Ватыкана забароны для ўніятаў спавядаць каталіцтва («бо ад таго, што руская шляхта пераходзіць на лацінскі абрад, уніяцкая царква нясе вялікія людскія і матэрыяльныя страты»), былі выдадзены дэкрэты ватыканскай Кангрэгацыі аб забароне «рускаму ўніяцкаму народу», «русінам ліцвінскай нацыі»[82] пераходзіць у лацінства, давалася права «рускім уніяцкім біскупам» засноўваць школы для навучання моладзі і інш.[83]

Аднак у жыцці ўсё было складаней, і ў выніку на працягу XVII—XVIII стст. значныя часткі буйнай і сярэдняй беларускай шляхты перайшлі ў каталіцтва і былі паланізаваны (па прынцыпу: лепш «змяніць веравызнанне і адрачыся ад таго, што ён русін, чым цярпець на працягу жыцця столькі смутку і гора»)[84]. У меншай ступені працэс паланізацыі закрануў дробную шляхту, гараджан і сялян.

Трэба адзначыць, што паланізацыя вельмі своеасабліва адбілася на нацыянальнай самасвядомасці шляхты і яшчэ больш ускладніла яе этнанімічнае самавызначэнне. Так, калі раней шляхта Вялікага княства Літоўскага падкрэслівала, што яны «ліцвіны» ці «літоўскія русіны» і працуюць на сваіх землях, а палякі — у Польшчы, то ўжо ў XVIII ст. многія з іх лічылі сябе адначасова палякамі і «ліцвінамі». Адпаведным чынам пачалі праяўляцца і патрыятычныя ўяўленні шляхты — ад мясцовага «краявога» (лідскага, слуцкага, гарадзенскага, пінскага і інш.) да больш шырокага «ліцвінскага» (Вялікае княства Літоўскае), а потым і агульнадзяржаўнага (у межах Рэчы Паспалітай — польскага). Аднак ад уласна палякаў яны ўсё ж у большасці сваёй імкнуліся адмежавацца, вызначаючы апошніх «каронежамі» (падданымі Кароны — Каралеўства Польскага).

Цікавыя прыклады можна знайсці ў А. Мальдзіса, калі паляк па паходжанню Л. Галамбёўскі пачаў лічыць сябе «ліцвінам» («...я літвін, да касцей літвін, а да таго ж пінчук»), а польскі пісьменнік, родам з Валыні Г. Жавускі, які доўга пражыў на Міншчыне, пазней пісаў: «Маё разумовае жыццё збудзілася ў Літве, калі б хто не лічыў мяне літвінам, той мяне пакрыўдзіў бы»[85].

Адначасова і палякамі, і «ліцвінамі» (natio Polonus gens Lithuanus) вызначалі сябе прадстаўнікі амаль што ўсіх буйных магнацкіх і шляхецкіх сямей Беларусі і Літвы XVIII ст. Агульнадзяржаўны (польскі) і «ліцвінскі» патрыятызм іх шмат разоў праяўляўся ў складаныя перыяды гісторыі Рэчы Паспалітай у апошнія дзесяцігоддзі яе існавання. Тут можна нагадаць імёны Ф. Рэйтана, С. Карскага, Я. Сапегі, А. Солтана, М. Залескага, А. Булгарына, Ф. Міцкевіча, Ю. Копаця, І. Жылінскага, М. Агінскага, І. Патоцкага, Т. Касцюшкі, Я. Ясінскага, Ф. Тышкевіча і іншых, якія рознымі шляхамі змагаліся за «непадлегласць» як сваёй малай радзімы, так і ўсёй краіны і дзяржавы ўвогуле. Асабліва яскравым прыкладам быў лёс ураджэнца Беларусі Т. Касцюшкі, які адпаведна сваім поглядам, дзеянням і свядомасці быў і палякам, і «ліцвінам», які змагаўся і за свой родны кут, і за Літву, і за Польшчу.

[82] Паняцці «ліцвінская нацыя» ці «ліцвінскі народ» ужываліся ў мітрапаліта Я. Руцкага ў адносінах як да ўніятаў, так і да праваслаўных Вялікага княства. Гл.: Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. Мн., 1994. С. 59 і інш.

[83] Палуцкая С. Этнічная ідэнтыфікацыя вернікаў-уніятаў у крыніцах XVII — першай паловы XIX ст. // Беларусіка. Кн. 2. С. 302.

[84] Праўда про унію. Документи і матеріали. Львів, 1968. С. 79—86.

[85] Мальдзіс А. І. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры. С. 93—95.

Адна з апошніх спроба ўзнавіць уласную дзяржаўнасць была зроблена пад уплывам напалеонаўскай дыпламатыі і прапаганды ў 1812 г. Камісіяй часовага ўрада Вялікага княства Літоўскага. Аднак гісторыя распарадзілася інакш. У выніку на пачатак XIX ст. «ліцвіны» Беларусі і Літвы вымушаны былі змяніць сваю гістарычную форму самавызначэння на назвы «палякі» і «рускіе» (у пануючага саслоўя) і «палякі», «рускіе», «літоўцы», «беларусы» (у простых саслоўяў). У апошніх паранейшаму захоўвалася таксама этнацэнтрычнае (але этнічна не выразнае) паняцце «тутэйшыя», назвы-канфесіёнімы («каталікі», «уніяты», «праваслаўныя») і лакальна-тэрытарыяльныя вызначэнні («пінчукі», «случане», «быхаўцы», «палачане», «палешукі», «палесяне» і інш.).

Назва «ліцвіны», страціўшы свой дзяржаўна-палітычны (нацыянальны) змест, захавалася ў якасці гісторыка-этнаграфічнага самавызначэння ў некаторых груп беларускамоўнага насельніцтва Берасцейшчыны, Гродзеншчыны, Віленшчыны, Жытоміршчыны, Чарнігаўшчыны і іншых раёнаў, а таксама — у якасці экзаэтноніма літоўцаў (саманазва Lietuwis) з боку палякаў.

Такім чынам, на пачатак XIX ст. зніклі гістарычныя і былі знішчаны палітычна-сацыяльныя ўмовы і формы існавання беларуска-літоўскай дзяржаўнанацыянальнай супольнасці. Natio Lithuanus, пераважна шляхецкая «нацыя ліцвінаў», якая так ці інакш уцягнула ў XV—XVIII стст. у працэсы свайго фарміравання і існавання ўсе слаі тагачасных грамадстваў Беларусі і Літвы, растварылася ў стракатай поліэтнічнай масе насельніцтва паўночна-заходніх губерній Расійскай імперыі. Але народы, на падставе якіх яна існавала і прадстаўнікі якіх яе складалі, працягвалі сваё этнагістарычнае жыццё ў выглядзе шэрага раз’яднаных і дэцэнтралізаваных (у нацыянальна-дзяржаўным сэнсе) субэтнічных і этнічных супольнасцей. Кансалідацыя іх у новыя нацыі пачала адбывацца ў наступныя гістарычныя эпохі, але ўжо ў іншых палітычных, сацыяльных і этнічных умовах.

## ЗМЕНЫ Ў КАНФЕСІЯНАЛЬНЫМ СТАНОВІШЧЫ І МОЎНАЙ СІТУАЦЫІ

Амаль усе сацыяльна-палітычныя падзеі, што адбываліся ў Рэчы Паспалітай у другой палове XVII—XVIII ст., датычылі ці мелі ўплыў на канфесіянальныя адносіны ў дзяржаве і асабліва на землях Украіны і Беларусі. Міжрэлігійныя пытанні заставаліся не вырашанымі як на агульнасацыяльным, так і звычаёва-бытавым узроўнях, што часта стварала ўмовы для рознага роду канфліктаў і крызісаў. Увогуле канфесіянальная структура насельніцтва заставалася стракатай. У межах аднаго толькі беларускага этнасу былі распаўсюджаны ўніяцтва, каталіцтва, праваслаўе і пратэстантызм. Розныя напрамкі хрысціянскай веры ахоплівалі ўсе сацыяльныя групы беларусаў, але былі некалькі дыферэнцыраваны на саслоўным узроўні. Так, магнаты і большасць сярэдняй шляхты спавядалі пераважна каталіцтва. Таму ў параўнанні з папярэднім перыядам у гэтыя часы на Беларусі значна ўзрастае колькасць каталікаў і ўніятаў сярод мяшчан, сялян і шляхты, якія раней спавядалі праваслаўе.

Адкрытая падтрымка каралеўскім дваром і ўсемагутнымі магнатамі каталіцтва садзейнічала больш актыўнаму (чым у папярэдні час) уплыву на культуру народаў Беларусі розных манаскіх ордэнаў: дамініканцаў, аўгусцінцаў, францысканцаў,



30. Касцёл у м. Глыбокае. XVIII ст.

езуітаў, бенедзіктаўцаў, піяраў і інш.[86] Займаючыся філантропіяй і прымаючы актыўны ўдзел у выхаваўчай і асветніцкай дзейнасці, яны імкнуліся ўмацаваць свой аўтарытэт сярод насельніцтва і прывіць яму думку аб перавазе сваёй рэлігіі ў параўнанні з іншымі напрамкамі хрысціянства[87].

У сферы адукацыі, напрыклад, уніяцкія (базыліянскія) і каталіцкія манаскія ордэны пачалі ў XVIII ст. на Беларусі займацца выхаваннем дзяўчынак і жанчын. Спецыяльныя вучылішчы-пансіёны для дзяўчынак-шляхцянак пры манастырах базыліянак і марыавітак былі арганізаваны ў Полацку і іншых гарадах Беларусі. Уніяцкія школы і вучылішчы ў Полацку, Навагародку, Менску і іншых гарадах атрымалі нават тыя прывілеі, што былі даны езуіцкім калегіўмам. Базыліяне ўжо з першай паловы XVII ст. пачалі нават супрацьборнічаць з магутнымі езуітамі як у справах выхавання, так і ў іншых сферах фармавання грамадскай і нацыянальна-грамадскай свядомасці насельніцтва[88].

Працягваючы многія традыцыі праваслаўнай царквы, уніяты (і асабліва іх вышэйшы клір) здолелі рэарганізавацца ў самастойную канфесіянальную арганізацыю са своеасаблівымі формамі і напрамкамі як унутры-, так і міжцаркоўнай дзейнасці. Так, яшчэ з першай паловы XVII ст. другі ўніяцкі мітрапаліт І. Руцкі і шэраг біскупаў: полацкі, віцебскі і мсціслаўскі, уладзімірскі і берасцейскі, луцкі і астрожскі, тураўскі і пінскі, холмскі і безскі — пачалі дзейнасць у напрамку кансалідацыі сваіх вернікаў (а таксама праваслаўных) праз утварэнне асобнай патрыярхіі «накшталт маскоўскай»[89].

Аднак гэта спроба не знайшла падтрымкі з боку праваслаўных, значная частка якіх (асабліва на Ўкраіне) не жадала аб'яднання з уніятамі. Супрацьдзейнічалі стварэнню асобнай патрыярхіі таксама Канстанцінопаль, Масква і нават Рым. Такім чынам, у XVII ст. і пазней працэс стварэння асобнай нацыянальнай царквы для беларусаў і ўкраінцаў так і не ажыццявіўся, а гэтыя народы заставаліся поліканфесіянальнымі этнічнымі супольнасцямі. Аднак трэба адзначыць, што на

---

[86] Цікава адзначыць, напрыклад, што пасля афіцыйнага роспуску папам рымскім у 1772 г. Езуіцкага Ордэна, яго рэзідэнцыя была перанесена ў Полацк, а сярод генералаў Ордэна, згодна дакументам, дзе адзначалася іх этнічная прыналежнасць, былі запісаны «палякі», «ліцвіны» і нават адзін «русін». Гл.: Быков А. А. Лайола И., его жизнь и деятельность. СПб., 1896. С. 92—94.

[87] Мараш Я. Н. Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви. Мн., 1969. С. 9—11; Яго ж. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974. С. 161—165, 200—221.

[88] Саверчанка І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі. С. 21—23.

[89] Акты Западной России. Т. IV. С. 523—524.

Беларусі (таксама і Літве без Жамойціі) прыхільнікі ўніяцтва складалі больш высокі працэнт ад усяго насельніцтва, чым на Ўкраіне, дзе пераважала колькасць праваслаўных. Актыўнаму распаўсюджанню ўніяцтва на Беларусі і Літве садзейнічалі і каралеўскі двор, і мясцовая (пераважна каталіцкага веравызнання) магнатэрыя, і каталіцкі касцёл, і нават часткі былога праваслаўнага кліру. Вялікую ролю ў гэтым працэсе адыграў таксама Базыліянскі Ордэн[90].

Паступова на працягу XVII ст. унію на Беларусі прынялі значная частка дробнай і сярэдняй шляхты і гарадскія вярхі, якія пачалі навязваць новую веру сілай падуладнаму люду. За адмову прыняць унію гараджан маглі, напрыклад, высяліць з горада, купцоў і рамеснікаў не дапускаць да вышэйшых пасад у магістратах, рамесніцкіх цэхах і гандлёвых гільдыях і гэтак далей. Пры падтрымцы магнатаў, каралеўскай улады і вышэйшых каталіцкіх колаў, уніяты вялі актыўнае наступленне таксама і на праваслаўныя рэлігійныя брацтвы, многія з якіх былі пераўтвораны ва ўніяцкія. Такая ж палітыка праводзілася і ў адносінах да праваслаўных прыходаў і цэркваў. Толькі ў Беларускай епархіі, што ахоплівала землі Падняпроўя, за перыяд з 1636 па 1755 гг. былі закрыты ці пераведзены ў падпарадкаванне ўніяцкаму мітрапаліту 164 праваслаўных храма[91]. На землях Мінскага ваяводства, па даных Я. Курчэўскага, у тыя ж часы было створана больш за 120 уніяцкіх цэркваў, на Гродзеншчыне — 276[92].

Прымусовае распаўсюджанне ўніяцтва змяніла ў XVII ст. колькасныя суадносіны паміж прадстаўнікамі розных веравызнанняў на карысць уніятаў. На думку некаторых аўтараў, уніяцкае насельніцтва Рэчы Паспалітай, якое адносілася галоўным чынам да ўкраінцаў і беларусаў, складала ў 1660 г. ужо 33% ад колькасці ўсіх жыхароў дзяржавы. Сярод астатніх 43% трымаліся каталіцкай веры, 10% — праваслаўнай, 9% — іудаізму, 5% — пратэстантызму і іншых рэлігій[93]. На Беларусі к канцу XVIII ст. уніяцкае насельніцтва складала каля 70% усіх жыхароў, каталіцтва спавядала 15%, праваслаўе — 6%, іудаізм — 7%, пратэстантызм і іншыя веры — 2%[94].

За перыяд з другой паловы XVII—XVIII ст. уніяцтва стала найбольш характэрным вераспавяданнем для беларускай этнасацыяльнай супольнасці. Уніяцкая вера была ўведзена ў свой час прымусова сярод асноўнай часткі насельніцтва, але ўжо праз 2—3 пакаленні стала на Беларусі традыцыйнай і ахоплівала большасць яе жыхароў.

Мяркуючы па даных Я. Мараша, колькасць уніяцкіх прыходаў на Беларусі ў канцы XVIII ст. (без рэгіёнаў, якія былі далучаны да Расіі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай) перавысіла колькасць каталіцкіх і праваслаўных, разам узятых. Найбольшая колькасць праваслаўных прыходаў (адпаведна і насельніцтва) была ў тыя часы ў падняпроўскіх Навагародскім, Ваўкавыскім, Пінскім, Мазырскім паветах. Аднак уніяцкіх прыходаў у тых жа паветах, за выключэннем Ваўкавыскага, было ўсё ж больш, чым праваслаўных. Асноўная маса каталіцкіх парафій была ў Гародненскім, Ашмянскім, Лідскім, Навагародскім, Берасцейскім і Менскім паветах, дзе праваслаўных прыходаў

[90] Диковский Н. Базилианский Орден // Гродненские епархиальные ведомости. 1904. № 19.

[91] Сапунов А. Витебская старина. Т. V. Ч. I. С. 474; Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношение к России и Польше. С. 146.

[92] Kurszewski J. Biskupstwo Wilenskie. Wilno, 1912. S. 497—498.

[93] Davies N. God's playground a history of Poland. Oxford, 1982. V. 1. P. 162.

[94] Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 66; Жукович П. Сеймовая борьба православного русского дворянства с церковной унией. СПб., 1908. Вып. 4. С. 40—50.

было мала або наогул не было. Выключэнне складала толькі Навагародчына, дзе назіралася значная канфесіянальная стракатасць[95].

Нягледзячы на актывізацыю ў XVII—XVIII стст. палітыкі насаджэння ўніяцтва, магнаты, каралеўская ўлада і каталіцкая царква так і не змаглі ліквідаваць поліканфесіянальную стракатасць насельніцтва Рэчы Паспалітай, у тым ліку і Беларусі. Яшчэ ў першай палове XVII ст. дзяржаўная ўлада, каб крыху прыпыніць антыдзяржаўны рух на ўсходнеславянскіх землях Рэчы Паспалітай, пайшла на пэўныя ўступкі ў прызнанні правоў праваслаўнай царквы (таксама і пратэстантаў). У 1633 г. былі выдадзены «Артыкулы для заспакаення рускага народа», якія ўзаконьвалі існаванне праваслаўнай і пратэстанцкай цэркваў[96]. Пэўны ўклад у падтрымку праваслаўя ўнеслі таксама казацкі рух, гарадскія паўстанні, праваслаўныя брацтвы. У 1767 г. пратэстантамі (кальвіністамі і лютэранамі) разам з праваслаўнымі была створана так званая «Слуцкая канфедэрацыя», якая дабівалася роўных правоў з каталікамі.

Гэты рух быў падтрыманы Расіяй, што давала ёй магчымасць умешвацца ў справы Рэчы Паспалітай і пастаянна патрабаваць ад каралеўскай улады спынення праследавання і дыскрымінацыі праваслаўнай царквы і насельніцтва[97].

Яшчэ ў пачатку XVIII ст. царскі двор пачаў перыядычна падтрымліваць праваслаўныя цэрквы і манастыры на Беларусі і Літве і асабліва тыя, што пацярпелі ад шведскага нашэсця. Цар Пётр І, напрыклад, які цярпіма ставіўся да каталікаў і пратэстантаў, вельмі дрэнна адносіўся да ўніятаў, таму ўсе імператарскія падараванні рабіліся пераважна на карысць праваслаўных[98]. Праваслаўная царква Вялікага княства Літоўскага падпарадкавалася ўжо больш Свяцейшаму Сіноду ў Пецярбургу, чым Кіеўскай мітраполіі. Так, стаўрапігіі шэрага брацтваў і манастыроў Вільні пацвярджаліся ў XVII ст. ужо Сінодам, аднак намінальна падпарадкаваліся мітрапаліту Кіеўскаму[99].

З 1785 г. Расійскія ўлады пачалі прызначаць на Беларусь праваслаўных епіскапаў, рэзідэнцыяй якіх стаў Слуцк. Да гэтага праваслаўны епіскап знаходзіўся ў Магілёве, які быў рэлігійным цэнтрам Беларускай епархіі з 1712 г.[100] У 1791 г., каб спыніць арыентацыю праваслаўных Беларусі і Літвы на Расію, уладамі Рэчы Паспалітай была склікана Пінская кангрэгацыя, якая, згодна праекту Варшаўскага сойму, вырашыла падпарадкаваць праваслаўную царкву Канстанцінопальскаму патрыярху. Аднак рэальна гэтага не адбылося з-за падзей 1795 г., і праваслаўнае насельніцтва Беларусі арганізацыйна было ўключана ў склад Рускай праваслаўнай царквы. Амаль адразу ж пасля далучэння да Расіі праваслаўныя царкоўныя арганізацыі Беларусі сталі актыўна падтрымлівацца царскім урадам і Сінодам, якія імкнуліся пашырыць уплыў праваслаўнай веры на канфесіянальную сітуацыю ў краі. Аднак да пачатку XIX ст. гэта сітуацыя істотна амаль не змянілася. Увогуле ж, як і ў папярэдні перыяд, беларускі народ працягваў заставацца хры-

---

[95] Мараш Я. Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. С. 225—226.

[96] Сокол С. Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI — первой половины XVII в. С. 160.

[97] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. II. С. 368—370.

[98] Чистович И. Очерки истории Западно-Русской церкви. Ч. 2. С. 161.

[99] Смирнов Ф. Виленский Свято-Духов Монастырь. Историческое описание. Вильна, 1888. С. 158, 159, 192.

[100] Да XVII ст. на чале праваслаўных арганізацый Белай Русі стаяў «намінат — біскуп Беларускі», які, аднак, не быў зацверджаны каралём. Гл.: Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XI. № 85.

сціянскай поліканфесіянальнай супольнасцю, асноўная частка насельніцтва якой прытрымлівалася ўніяцтва (у меншай ступені — каталіцтва, яшчэ менш — праваслаўя і пратэстантызму).

Імкненне ўлады Рэчы Паспалітай да палітычнай інтэграцыі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай, прапольская арыентацыя феадальных вярхоў і часткі гараджан, а таксама паслабленне працэсаў кансалідацыі беларускага этнасу ў XVII—XVIII стст. ушчыльную закранулі становішча беларускай мовы як агульнадзяржаўнай. Патрабаванне Статута 1588 г., каб пісары земскія пісалі толькі «па-руску», выконвалася ўжо часта толькі фармальна. Арыстакратыя Беларусі і Літвы часта падпісвалася пад афіцыйнымі дакументамі па-польску і на польскі манер — з дабаўленнем выражэння «reka wlasna» («уласнай рукой»). Акрамя таго, як адзначаў А. Жураўскі, на афіцыйнай беларускай мове часта пісаліся толькі традыцыйныя фармулёўкі ў пачатку і ў канцы дакументаў, тады як асноўны тэкст быў на польскай мове[101].

Некаторы час старажытная беларуская мова працягвала яшчэ выконваць камунікатыўныя функцыі ў якасці мовы міжэтнічных зносін у межах Вялікага княства. Аднак ужо з другой паловы XVII ст. такую ж функцыю актыўна пачала выконваць польская мова. Паступова яна стала сродкам зносін не толькі феадальнай вярхушкі, але і іншых саслоўных груповак тагачаснага грамадства, напрыклад гараджан. Патрэба ва ўніфікацыі мовы дзяржаўных дакументаў і ўзрастаючая інтэграцыя пануючых колаў усіх тэрытарыяльных частак Рэчы Паспалітай садзейнічалі распаўсюджанню польскай мовы ў XVI—XVIII стст. у рамках усёй дзяржаўнай супольнасці, у тым ліку і на землях Вялікага княства. Таму, напрыклад, у 1696 г. Вальны Сойм прыняў рашэнне, што агульнадзяржаўнай мовай усёй Рэчы Паспалітай будзе толькі польская[102]. Адначасова з пашырэннем на Беларусі ўплыву польскай мовы актыўна распаўсюджвалася латынь. Амаль што ва ўсіх школах, вучылішчах і калегіўмах Беларусі ўводзіўся абавязковы курс латыні. Павялічылася колькасць арыгінальных і перакладных выданняў на лацінскай мове. Латынь часткова трапіла і ў справаводства судоў, на ёй пісаліся юрыдычныя дакументы Вялікага княства Літоўскага. Распаўсюджанню латыні садзейнічала пазіцыя некаторых дзяржаўных дзеячаў культуры, якія разглядалі латынь як аснову літоўска-жэмайцйскай мовы. На Беларусі латынь была распаўсюджана галоўным чынам у навуковай, літаратурна-публіцыстычнай, рэлігійнай і юрыдычнай сферах. Старажытнаславянская мова выступала, пераважна, як мова багаслужэння ў праваслаўнай (радзей уніяцкай) цэрквах.

Друкарні, арганізаваныя пры манастырах, іншых рэлігійных установах і брацтвах, усё больш і больш выдавалі кнігі на польскай мове і латыні, радзей — на «рускай» (старажытнабеларускай)[103].

У XVII—XVIII стст. на Беларусь больш актыўна, чым раней, пранікала руская мова, якую прынеслі вялікія групы стараабрадцаў, што эмігрыравалі з-за рэлігійных разладаў з Расіі. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ў канцы XVIII ст. руская мова пачала ўжывацца яшчэ больш шырока і замяняць польскую ў якасці афіцыйнай[104].

---

[101] Жураўскі А. І. Двухмоўе і шматмоўе ў гісторыі Беларусі // Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў. Мн., 1982. С. 29—30.

[102] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. II. С. 262.

[103] З манаскіх ордэнаў толькі базыліяне больш увагі надавалі навучэнню на беларускай мове. Гл.: Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968. С. 82—100.

[104] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. III. Очерки словесности белорусского племени. Вып. 2: Старая западнорусская письменность. Петербург, 1921. С. 225.

У выніку, у канцы XVII—XVIII ст. на Беларусі склалася вельмі своеасаблівая моўная сітуацыя, калі адначасова ўжываліся польская, лацінская, царкоўнаславянская, старажытнабеларуская і руская пісьмовыя мовы. Зараз цяжка дакладна адказаць, якая з іх была найбольш папулярнай і распаўсюджанай, паколькі істотнага моўнага рубяжа паміж беларускамоўным і руска- ці польскамоўным насельніцтвам не было.

Пэўная розніца наглядалася на саслоўным узроўні, калі, напрыклад, феадальныя вярхі выкарыстоўвалі ў сваім асяроддзі польскую мову. Гараджане былі білінгвамі, а сяляне размаўлялі на гутарковых варыянтах «руськай» (беларускай) мовы. Як адзначаюць даследчыкі, беларуская мова выкарыстоўвалася таксама ў традыцыйным сілабічным вершаскладанні ў любоўнай лірыцы другой паловы XVII—XVIII ст., якая ўзнікла і развівалася ў асяроддзі мяшчан і збяднеўшай шляхты[105]. У гэтыя часы яна часта гучала ў інтэрмедыях, прычым магла быць цалкам звязана з жывой народнай мовай[106]. Яе чулі ва ўніяцкіх цэрквах у час пропаведзей, яна вывучалася ў школах, якія трымалі ўніяты (базыліяне), іншы раз праваслаўныя і пратэстанты. Асаблівасцю этналінгвістычнай сітуацыі, якая склалася ў той час на Беларусі, з'яўлялася, на думку А. Жураўскага, тое, што «гэта шматмоўе было гамагенным у сваёй аснове з рознай ступенню блізкасці да жывой беларускай мовы»[107].

Асноўнай жа мовай для большай часткі насельніцтва Беларусі заставалася так званая «простая» — беларуская, якая працягвала сваё існаванне ў складаных умовах жыцця беларусаў таго часу, галоўным чынам, ужо ў якасці гутарковай, звычаёвай, народнай. Гэта мова складалася з шэрага дыялектаў, якія былі распаўсюджаны ў некалькіх вялікіх гісторыка-этнаграфічных рэгіёнах Беларусі, перш за ўсё ў Падзвінні і Падняпроўі («Белай Русі»), Панямонні і міжрэччы Нёмана і Віліі («Літве Павілейскай і Завілейскай», «Чорнай Русі») і ў Папрыпяцці (Палессі). Некаторымі моўнымі і культурна-бытавымі, этнаграфічнымі асаблівасцямі характарызаваліся Цэнтральны рэгіён Беларусі, а ў межах Палесся — яго заходняя і ўсходняя часткі. Агульная моўная кансалідацыя гэтых тэрыторый была замаруджана ў другой палове XVII—XVIII ст. шэрагам негатыўных для этнічнага развіцця народа знешніх і ўнутрыпалітычных фактараў.

[105] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 78—88.

[106] Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1967. Т. І. С. 367.

[107] Жураўскі А. І. Двухмоўе і шматмоўе ў гісторыі Беларусі. С. 39.

## ГРАМАДСКІ І СЯМЕЙНЫ ПОБЫТ. КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

Змяненні сацыяльна-палітычных і этнакультурных умоў жыцця, што адбыліся на Беларусі ў другой палове XVII—XVIII ст., так ці інакш закранулі амаль што ўсе сферы сямейнага і грамадскага побыту, гаспадарча-вытворчых адносін і культуры беларускага насельніцтва. У розных сацыяльных групах гэтыя змяненні адбываліся неаднолькава. Найбольш моцныя навацыі закранулі быт і культуру пануючага саслоўя і гараджан. Аднак трэба заўважыць, што ў якасці асноўных тэндэнцый развіцця гэтыя навацыі прасочваліся і ў папярэдні час. Напрыклад,

як адзначаюць этнографы і гісторыкі, нягледзячы на адносны дынамізм сямейнага быту жыхароў Беларусі другой паловы XVII—XVIII ст., увогуле жыццядзейнасць сем'яў грунтавалася на нормах і прынцыпах, што засталіся ў спадчыну ад папярэдніх эпох[108]. Асабліва высокай заставалася роля сямейнай традыцыі як сродку перадачы, захавання і замацавання міжпакаленнай этнакультурнай інфармацыі.

Як і раней, для сялянскіх сем'яў адзначанага перыяду была характэрна своеасаблівая вясковая гамагеннасць, вузкалакальная культурна-бытавая замкнёнасць. Гэта сітуацыя змянялася, галоўным чынам, у экстрэмальныя часы войнаў, перасяленняў, міграцый, калі знешнія абставіны стымулявалі рост індывідуальнасці ў паводзінах і дзейнасці асобных сем'яў і родзічаў. Узрастала ў гэтыя часы і прасторавая мабільнасць сялянскіх сем'яў, выкліканая не толькі экстрэмальнымі з'явамі, але таксама і распаўсюджаннем наёмнай працы, адыходніцтва, асваеннем новых ворыўных зямель і гэтак далей. Магчыма гэтым можна растлумачыць узрост тэндэнцыі да фіскальнай індывідуальнасці сям'і ці асобных яе членаў, што праявілася ў стварэнні ўстойлівых спадчынных найменняў — таго, што мы зараз называем прозвішчамі. Узнікненне такіх пастаянных назваў стабілізавала ўнутрысямейныя як сінхронныя, так і дыяхронныя сувязі, якім належыць значная роля ў трансмісіі этнічных асаблівасцей. У гэты перыяд у беларусаў працягваўся працэс складвання з двух- і трохкампанентнай сістэмы найменняў. Трох-, чатырох- і больш састаўныя назвы былі характэрны пераважна для прадстаўнікоў пануючых саслоўяў. Сяляне доўгі час звычайна называліся двухкампанентнай формай, першую частку якой складала ўласнае імя, а другая, часцей за ўсё, была імем па бацьку на «-віч», «-евіч», «-іч». Іншы раз ужывалася таксама мянушка, якая калі і захоўвалася, то толькі ў наступным пакаленні[109]. У другой палове XVIII ст. у сялянскім асяроддзі пачаў актывізавацца працэс складання трохкампанентнай сістэмы найменняў, калі на аснове імён па бацьку і імён-мянушак паступова замацаваліся міжпакаленныя сямейныя прозвішчы (у асяроддзі феадалаў і часткова гараджан гэты працэс адбываўся значна раней)[110]. У некаторых выпадках пэўныя празванні жыхароў сельскіх паселішчаў бытавалі вельмі працяглы час, што, відаць, і было галоўнай перадумовай іх спадчыннасці. Напрыклад, антрапанім «Лагутка(о)» прасочваецца ў чатырох інвентарах в. Клідэянты ўладання Смаргонь (Ашмянскі павет) з 1622 па 1689 гг., а найменне «Гурын» у в. Несцяняты таго ж уладання — у шасці інвентарах з 1622 па 1788 гг. Прычым вопісы іншы раз фіксуюць паслядоўную перадачу антрапаніма на працягу трох-чатырох пакаленняў адной сваяцкай лініі. Так, у інвентары за 1689 г. успамінаецца Фёдар Гурын з сынам Казімірам. У вопісе 1723 г. названы Казімір Гурын з сынам. Па даных 1755 г., трымальнікамі дзвюх асадных паўвалок былі ўжо Францыск Гурын з братам Якавам. Сын апошняга прадстаўляў генеалагічную лінію Гурыных па інвентары 1788 г. Аналагічным чынам прасочваецца чатырохпакаленная пераёмнасць прозвішча «Паляшук» (ад адпаведнай мянушкі этнанімічнага тыпу) у той жа вёсцы Несцяняты. Генеалогія гэтай сям'і добра прасочваецца па вопісам ад 1723 да 1788 гг. і далей уключае чатыры пакаленні. Шматпакаленная спадчын-

[108] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 33—34.

[109] Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. С. 133.

[110] Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. Мн., 1966. С. 4—5, 183, 385.

насць антрапаніму «Вусніч» з в. Лапічы Ігуменскага павета прасочваецца з 1726 па 1803 гг.[111] Аналагічныя з'явы шматпакаленнай спадчыннай пераёмнасці антрапанімаў-прозвішчаў у сялянскім і гарадскім асяроддзі Беларусі XVIII ст. распаўсюджваліся і станавіліся тыповымі.

Увогуле, гэты працэс адыгрываў вялікую ролю ў стабілізацыі міжпакаленных унутрыэтнічных сувязей, умацоўваў сямейна-родавую самасвядомасць, парушаную дэмаграфічным крызісам, бясконцымі войнамі, перасяленнямі і міграцыямі другой паловы XVII — пачатку XVIII ст.

Шляхецкая сям'я ўвогуле была своеасаблівым фенаменам у сямейным ладзе насельніцтва Беларусі эпохі феадалізму. Яе сацыяльна-дэмаграфічныя параметры вылучаліся разнастайнасцю (як і сама шляхта), аднак найбольш саслоўна тыповымі былі сем'і сярэдняй шляхты, якія не адрозніваліся асаблівай спецыфікай, як, напрыклад, магнацкія. Сямейны быт і адносіны ў шляхты адрозніваліся тым, што грунтаваліся на ўсебаковым падтрыманні «маястату» шляхецкага роду. Сямейны лад большасці шляхецкіх сем'яў ствараўся і трымаўся на прынцыпе жорсткай саслоўнай карпаратыўнасці, якая амаль да сярэдзіны XVIII ст. грунтавалася на прынцыпах сарматызму з элементамі куртуазнасці, а стэрэатыпы паводзін, адносін і жыцця заможнай шляхты з'яўляліся свайго роду мадэллю не толькі для прадстаўнікоў дадзенага саслоўя, але і мяшчан, і часткова сялян. Гэта дазваляе разглядаць шляхецкую сям'ю як тып, што кансалідуе і мадэліруе ўзор, да дасягнення якога вядуць ступені маёмаснага дастатку[112].

Элітарная каставасць шляхты праяўлялася пераважна ў высокім статусе паняцця «род». Права на ўладанне радавым тытулам было прадметам бурных дыскусій на працягу XVII—XVIII стст. Далучэнне да «невысакароднага» герба часта лічылася дастатковай падставай для страты былога маястату. У гэтыя часы рэзка ўзрасла цікавасць прадстаўнікоў усіх катэгорый шляхты да сваёй радаслоўнай, аб чым гаворыць з'яўленне шматлікіх гербоўнікаў, якія пачалі сустракацца на старонках дзённікаў, дзелавых папер, інвентароў. Перыядычна адбывалася абмежаванне доступу ў шляхецкае саслоўе для прадстаўнікоў іншых сацыяльных груп грамадства.

Задачы фарміравання сацыяльна-культурнай каставасці была падпарадкавана і сістэма выхавання дзяцей. Акрамя адукацыі малады чалавек павінен быў мець пэўны выгляд, ведаць рытуальны этыкет і інш. Шляхта мела шырокі доступ у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Адукаванасць увогуле падтрымлівалася. Таму на беларускіх землях гэтага часу пашыралася кола шляхцічаў, дзейнасць якіх была звязана з разумовай працай, развіццём культуры, распаўсюджаннем ведаў. Адукацыю ўжо ў XVIII ст. маглі атрымліваць і шляхцянкі.

Сямейныя адносіны і быт гараджан былі, як і ў іншых саслоўяў тагачаснага грамадства Беларусі, вельмі варыятыўнымі і знаходзіліся, з аднаго боку, пад уплывам узораў шляхецкіх сямейных паводзін (напрыклад у заможных мяшчан), а з другога — мала чым адрозніваліся ад сялянскіх (у бедных слаях гарадскога насельніцтва). Дыферэнцыраванасць сямейнага быту гараджан абумоўлівалася таксама паступовай зменай у XVII—XVIII стст. этнічнай структуры мяшчанскага насельніцтва, калі большасць жыхароў гарадоў і мястэчак пачалі складаць прадстаўнікі іншых народаў і этнічных груп. Акрамя таго, многія наваўвядзенні, што ўваходзілі ў сямейнае жыццё мяшчанскага (таксама і шляхецкага) саслоўяў

---

[111] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 36; Этнаграфія беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. С. 134.

[112] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 37—38.

таго часу і складалі якасную своеасаблівасць, былі звязаны з развіццём буржуазных адносін. У першую чаргу, гэта датычыць гаспадарчага боку сямейнага быту. Апошні фактар адбіваўся і на колькасных суадносінах паміж малымі і вялікім і сем'ямі на карысць першых. Аднак абедзве асноўныя формы сям'і (вялікая і малая) працягвалі заставацца тыповымі, хаця колькасць малых пераважала.

Грамадскі быт насельніцтва Беларусі ў XVII—XVIII стст. таксама меў пэўныя змены ў параўнанні з папярэднімі часамі. Асабліва яскрава гэтыя змены закранулі грамадскі побыт гарадскога насельніцтва (аб пэўных зменах у сялянскім асяроддзі размова вялася вышэй). Дынаміка грамадскага побыту мяшчанскага і ўвогуле гарадскога (урбанізаванага) насельніцтва вызначалася дыялектычным узаемадзеяннем яго асноўных форм, якія вылучаліся на таксанамічным узроўні. У гэтым плане грамадскі побыт можна падзяліць на полісацыяльны — які ахопліваў прадстаўнікоў розных класава-саслоўных, этнічных, канфесіянальных, прафесійных груп, і субсацыяльны — характэрны для паасобнага вузкавызначанага сацыяльнага асяроддзя. Змястоўны бок гэтых тыпаў грамадска-бытавой камунікацыі складалі падзейны, каляндарна-святочны і штодзённы (будзённы) пласты.

Галоўнае месца ў працэсах інфармацыйнага абмену паміж гараджанамі, выпрацоўцы інтэграцыйных рыс гарадскога ладу жыцця займалі полісацыяльныя формы быту. Іх дынаміка адлюстроўвала эпахальныя рысы: уласцівую тагачаснаму барока тэатралізацыю жыцця, святаў, абрадаў і іншых патарэатральных з'яў[113]. Камунікацыйная цэласнасць агульнагарадскога побыту ажыццяўлялася ў грамадскай прасторы горада: ад яго прадмесцяў ці брамы да цэнтра, ролю якога выконвала плошча (ці дзве), рынак. Для многіх беларускіх гарадоў XVII—XVIII стст. тыповым было існаванне двух цэнтраў: рэзідэнцыі феадала і гарадской плошчы, дзе размяшчаліся ратуша, гандлёвыя рады, культавыя будынкі, жылыя дамы найбольш заможнага насельніцтва[114].

Нягледзячы на агульнаеўрапейскі працэс адсоўвання на другі план функцыянальнай ролі рыначнай плошчы ў эпоху барока, у беларускіх гарадах яна захоўвала значэнне цэнтра грамадскага жыцця. Гандлёвая плошча і галоўныя вуліцы, што выходзілі на яе, былі асноўным месцам, дзе разгортвалася дзейства полісацыяльнай сферы грамадскага жыцця і, у прыватнасці, самага значнага яго віду — падзейнага.

Гэты аспект грамадскага побыту разам з календарна-святочным ахопліваў найбольш буйныя сацыяльна-інтэгруючыя з'явы ў жыцці гараджан. Асаблівай рытуальнай насычанасцю вылучаліся наведванні горада рознымі тытуляванымі, высокапастаўленымі асобамі, прыём якіх абкладваўся цэлым комплексам рытуалаў, арганізаваных у своеасаблівую сістэму[115]. Акрамя адзначаных вышэй, да падзей агульнагарадскога маштабу пры ўсёй іх карпаратыўнасці можна аднесці рознага роду зборы шляхты: соймы, сеймікі, трыбуналы і інш. Прыбыццё значнай колькасці шляхты з іх атрадамі і світамі, сама соймавая дзейнасць прыўносілі ў грамадскае жыццё гараджан стыхійны індыві-

---

[113] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. Мн., 1990. С. 29—30.

[114] Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1985. Т. I. С. 43, 113, 119; Егоров Ю. Градостроительство в Белоруссии. Мн., 1954. С. 103.

[115] Так, у 1699 г. у Магілёве біскупа Беларускага С. Палахоўскага сустракалі: працэсія духавенства, увесь магістрат, шматлікая купецкая і мяшчанская моладзь з харугвай купецкай палаты, розныя цэхі, якія ішлі ў святочным адзенні, са сваімі харугвамі, пры зброі; усё шэсце суправаджалася стралянінай з гармат. Гл.: Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи белорусско-литовские. С. 251, 280.



31. Магілёў. Від на галоўную плошчу. XVIII ст.

дуалізм, уласцівы паводзінам шляхцічаў таго часу, што ўвогуле змяняла на пэўны час звычайны ход грамадскага жыцця[116].

Характар агульнагарадскіх падзей маглі набываць і вехі жыццёвага шляху магнатаў і членаў іх сямей: радзіны, шлюбы і вяселлі, імяніны, пахаванні і інш.[117] Падзеямі агульнагарадскога побыту былі ў той час і вялікія кірмашы, якія адбываліся адзін-два разы ў год, а таксама штодзённы гандаль, удзельнічалі ў якіх не толькі жыхары рэгіёну. Межы лакальных рынкаў пры гэтым парушаліся, пашыраліся; узрастала інтэнсіўнасць гандлёвых кантактаў як ва ўнутрыбеларускім, так і ў міжэтнічным агульнадзяржаўным маштабах. Такім чынам, рыначная плошча з'яўлялася камунікацыйным цэнтрам, дзе ішоў абмен этнакультурнай інфармацыяй разнастайных інтэграцыйных узроўняў: кансалідацыйнага (горад — сяло), этнічнага, міжэтнічнага і інш.[118]

Аналагічную функцыю адыгрывалі гарады і ў часы войнаў, паўстанняў, рокашаў, канфедэрацый і іншых падзей, калі галоўная плошча была зборам войска, шляхты, рушэння. Плошча была і месцам, дзе адбываліся ці ажыццяўляліся розныя пакаранні[119], сюды збягаліся жыхары ў час небяспекі (аб якой абвяшчаў звон); яна ж была арэнай сутыкненняў паміж рознымі групамі гараджан, якія вырашалі паміж сабой спрэчныя пытанні. Плошча была цэнтрам палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця горада, месцам правядзення розных карнавалаў, шэсцяў, цырымоній, тэатральных і батлеечных відовішч.

Другім камунікацыйным цэнтрам гарадскога побыту з'яўляліся культавыя будынкі і тыя прыходы гараджан, што групаваліся вакол іх. Як у папярэднія эпохі, так і ў XVII—XVIII стст., канфесіянальныя аб'яднанні садзейнічалі рэалізацыі рэлігійных патрэбнасцей людзей, ажыццяўлялі функцыю ідэалагічнага і маральнага кантролю за жыхарамі; з імі

[116] Kitowicz J. Opis obyczajow za panowania Augusta III. Warszawa, 1985. S. 279.

[117] Напрыклад, імяніны маці князя Сангушкі ў Гродне ўключалі чатырохдзённае святкаванне і з'езд шматлікіх гасцей. Балі, канцэрты, раўты, тэатральныя прадстаўленні, гарматная пальба рабілі гэту падзею святам гарадскога маштабу. Агульнадзяржаўнае значэнне мела святкаванне каралеўскіх імянін. Так, напрыклад, 3 мая 1791 г. яны ўрачыста, з ілюмінацыяй і іншай пышнай атрыбутыкай адзначаліся ў многіх гарадах Рэчы Паспалітай. Гл.: Boworówski W. Pamiętnik o ksieciu Vrolu Radziwille. Lwów, 1864. S. 53—55.

[118] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. С. 31, 33.

[119] Напрыклад, у 1688 г. на плошчы ў Быхаве было «чараўнікоў каля дзесятка спалена». Гл.: Полное собрание русских летописей. Т. 35. С. 248.

былі звязаны асноўныя жыццёвыя вехі чалавека, правядзенне часу ў выхадныя і святочныя дні. Каляндарна-святочны пласт грамадскага жыцця гараджан сваёй семантыкай быў звязаны пераважна з рэлігійнай сімволікай, але ў сацыяльным плане для яго быў характэрны канфесіянальны сепаратызм, калі прадстаўнікі розных веравання́ў адзначалі свае святы ў розны час і неадкалькава.

Гэты пласт грамадскага жыцця гарадскога насельніцтва Беларусі ў XVII—XVIII стст. істотна адрозніваўся ад папярэдняй эпохі, якая характарызавалася рэлігійнай цярпімасцю і талерантнасцю. Ужо з канца XVI ст. рэлігійнае жыццё ў гарадах Беларусі пачало праходзіць паасобна і ў залежнасці толькі ад уласных канфесіянальных патрэб. Напрыклад, цэхавыя рамеснікі і купцы розных веравызнанняў ужо рэдка святкавалі сумесна, хадзілі друг да друга ў цэрквы ці праводзілі разам многія іншыя рэлігійныя цырымоніі. Так было асабліва ў часы рэпрэсіўных ганенняў на іншаверцаў (напрыклад: на праваслаўных, што не жадалі пераходзіць ва ўніяцтва, на пратэстантаў і інш.). Увогуле ж, дакументы XVII—XVIII стст. сведчаць, што ў мірныя часы існавання гарадоў нармальныя міжрэлігійныя адносіны паміж гараджанамі наладжваліся. Гэтаму ў пэўнай ступені спрыяла цесная сувязь афіцыйнай царкоўнай ідэалогіі з каляндарна-святочнай традыцыйна-бытавой культурай.

Гэта сувязь праяўлялася ў падабенстве асобных элементаў, у агульным духу святкавання, які ўзыходзіць да народнай святочнай культуры. Напрыклад, у 1671 г. магістрат Магілёва ў якасці падарунка даў самым знатным гараджанам «валочобное», якое складалася з грошаў, рэдкіх страў, цукру і інш.[120] Па ранейшаму шырока практыкаваліся і абрады калядавання. У тым жа 1671 г. магістрат Магілёва выдаў грошы на «коледы под час Рождества Христова, водлуг давнего звычаю»[121]. У 1680 г. войт і члены рады хадзілі «з колядою» да магілёўскага падстарасцега, а потым зрабілі грашовыя падарункі ксяндзам і іншым знакамітым асобам. Такі ж рытуал рабіўся ў Магілёве, згодна дакументам, таксама ў 1697, 1709 гг.[122] (і быў, магчыма, характэрным і для другіх гарадоў Беларусі). Так, па каралеўскаму прывілею (1695) жыхарам Пінска і Турава прадпісвалася на святы «Раждяства», Уваскрэсення, а таксама пры буйных шэсцях у кафедральны сабор даваць уніяцкаму біскупу «волочобное» ці «коляду»[123].

Традыцыйная каляндарна-святочная абраднасць, такім чынам, была звязуючым элементам у рознаканфесіянальных груп беларускіх гараджан. Аналагічную функцыю выконвалі і тэатралізаваныя рытуалы нетрадыцыйнага тыпу. Так, у Полацку на свята Дзевы Марыі, якое праводзілася каталікамі, былі падрыхтаваны феерверк, тэатралізаваныя пастаноўкі[124]. У Нясвіжы і Слуцку фэст Цела Гасподня (пасля ўрачыстых малебнаў і рэлігійных цырымоній) быў працягнуты музыкай магнацкай пяхоты, гарматнымі залпамі[125]. У Полацку ў 1671 г. у сувязі з кананізацыяй св. Францішка Боргія адбылося трыумфальнае шэсце, пасля якога паказвалася тэатральная драма[126].

Карнавальныя дзействы заходнееўрапейскага паходжання дапаўнялі рэлігійныя фэсты беларускіх гарадоў новымі з'явамі святочнай культуры, якія ўклю-

[120] Историко-юридические материалы... Вып. 1. С. 145.

[121] Там жа. С. 128.

[122] Там жа. С. 93; Вып. 2. С. 15, 21.

[123] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. 3. С. 114, 115.

[124] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2. С. 376.

[125] Boworowski W. Pamietnik o ksieciu Krolu Radziwille. S. 84, 89—91.

[126] Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 150.

чалі таксама выступленні блазнаў, батлейкі, мядзвежыя забавы, пастаноўкі школьных тэатраў і інш.

Полісацыяльнаму тыпу грамадскага побыту супрацьстаўляўся субсацыяльны. Ён абапіраўся на выразную сацыяльнасаслоўную і маёмасную дыферэнцыяцыю гараджан: набілітэту, мяшчанства, іншаэтнічных груп, цэхавых майстроў і інш. Усе гэтыя групы гараджан былі даволі стабільнымі, мелі свае вузкалакальныя цэнтры камунікацыі і адрозніваліся карпаратыўнасцю свайго побыту. Размыванне саслоўнай замкнёнасці пачало адбывацца пад уплывам новага буржуазнага ладу жыцця, які абапіраўся на прадпрымальнасць прадстаўнікоў «трэцяга саслоўя», прычым субсацыяльны характар грамадскага побыту пачаў характарызавацца полісацыяльнымі рысамі. У канцы XVIII ст. горад паступова стаў авалодваць інтэлектуальнай манаполіяй, прыцягваць да сябе лепшыя навуковыя, літаратурныя, мастацкія сілы. Карыстанне гэтымі каштоўнасцямі пачало страчваць элітарнасць. Даступнасці інфармацыі спрыяў і пачатак выдання ў другой палове XVIII ст. газет, часопісаў, мясцовых календароў і інш.[127] Аднак больш тыповымі для XVIII ст. заставаліся вышэйпералічаныя формы полі- і субсацыяльнага грамадскага побыту.

З шыроказразумелым субсацыяльным бытавым тыпам, на што таксама трэба звярнуць увагу, было звязана функцыянаванне трэцяга цэнтра ўнутрыгарадской камунікацыі — карчмы. Гэта было месца, дзе грамадскія падзеі рабіліся фактам асабістага жыцця і наадварот. Карчму наведвалі гараджане нізкага і сярэдняга дастатку. З ёй быў звязаны будзённы і святочны быт, тут вырашаліся і дзелавыя справы. Трэба адзначыць, што ў XVII—XVIII стст. колькасць піцейных дамоў на Беларусі істотна ўзрасла. Так, толькі ў Нясвіжы іх колькасць з 17 у 1654 г. вырасла да 47 у 1761 г. З'явіліся і новыя дыферэнцыраваныя віды: аўстэрыі, шынкі[128]. Замест тыповых напояў папярэдняй эпохі (мёдаў, піва), у гэты перыяд распаўсюдзілася гарэлка.

Увогуле трэба адзначыць, што грамадскі быт гарадскога насельніцтва ў другой палове XVII—XVIII ст., нягледзячы на адмоўны ўплыў шэрага палітычных, сацыяльна-эканамічных і гісторыкакультурных фактараў, у пэўнай ступені захаваў прагрэсіўную дынаміку папярэдніх эпох, асноўныя рысы якой у гэты час адпавядалі буйнейшым тэндэнцыям развіцця гарадской культуры Еўропы.

Тое ж можна адзначыць і ў адносінах да вытворча-гаспадарчай дзейнасці і культуры ўвогуле. Асаблівасці гэтага гістарычнага перыяду былі звязаны з тымі негатыўнымі ўмовамі для жыццядзейнасці насельніцтва, якія ўзнікалі ў часы крывавых войнаў і якія працоўны люд павінен быў зноў і зноў пераадольваць, адбудоўваць нанава свае гарады і вёскі, аднаўляць закінутыя і асвойваць новыя ворыўныя землі. Працягвалася экстэнсіўнае асваенне новага і ўзнаўленне былога культурнага ландшафту краіны. На ўсходзе Беларусі, напрыклад, актыўна працягвалася асваенне лясных прастораў пад раллё, сплаў лесу і лесахімічныя тэрмаапрацоўчыя промыслы. Па даных В. Мялешкі, толькі ў Крычаўскім старостве з 1714 па 1727 гг. узнікла 43 новых сельскіх паселішча («слабод»), льготы жыхарам якіх даваліся на 10—15 гадоў[129].

Знешні выгляд беларускіх сельскіх паселішчаў заставаўся традыцыйным. Яны мелі тыя ж рэгіянальныя асаблівасці па планіроўцы і характару забудовы, коль-

---

[127] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. С. 37—38.

[128] Цярохін С. Ф. У фокусе канкрэтнага факта. Мн., 1988. С. 104—106.

[129] Мелешко В. И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. С. 244.



32. Мястэчка Дуброўна (Віцебшчына). Канец XVIII ст.

касці сядзіб, што і ў папярэдні перыяд (XVI — першая палова XVII ст.). Больш падрабязныя інвентары вывучаемага перыяду даюць добры малюнак тагачаснай беларускай вёскі і маёмаснага становішча яе насельніцтва. Так, згодна інвентару Берасцейскага староства за 1783 г. (дае даныя па 5,5 тыс. гаспадарак), 36,0% сялянскіх двароў належала да бедных, 38,9% — да сярэдніх, 13,7% — да заможных, 11,4% — да багатых. Сярод бедных былі і такія, хто не мелі рабочай жывёлы (14,4% ад усіх сялян), жылі на пазыку і не заўсёды выраблялі столькі, каб праіснаваць год. Жабрацкая сціпласць некаторых беднякоў здзіўляла сучаснікаў: «...воз без жалеза; на кані аброць і шляя з лыка або сплецены з галінак дрэва; сякера з'яўляецца ўніверсальнай прыладай, бо іншых у яго няма; спалатняныя кашуля і штаны, кажух зімой і летам, на нагах лапці; у халупе часам ніякага посуду»[130].

Затое сярэдні сялянскі двор меў 2—4 галавы рабочай жывёлы (каней і валоў), 2 каровы, ад 1 да 5 штук маладняку, 3—4 авечкі, 2—4 свінні. Багаты ж селянін меў да 7 каней і валоў, 4 каровы, 20 авечак, 5 свіней і інш. Відавочна, што двары бедных, сярэдніх і багатых сялян істотна адрозніваліся таксама памерамі і колькасцю гаспадарчых пабудоў, знешнім выглядам жылля, яго інтэр'ерам і ўбранствам. На думку М. Доўнар-Запольскага, у другой палове XVII—XVIII ст. назіраліся працэсы значнага расслаення сялянства, з аднаго боку, і збяднення яго нізоў — з другога[131]. Аднак большая частка сялянства жыла ўсё ж такі някепска. Пры апісанні сярэдняй сялянскай гаспадаркі інвентар сведчыць: «Хата з прысценкам у 3 акны, у хаце 2 лавы, 1 стол. Пры хаце... сені, камора, маленькія пляцёныя хлеўчыкі, стадола, пляцёная шопа, драўляныя хлявы; у двары... невялікія шпіхлеры.., ва ўсіх ёсць 1 воз, 1 саха з сашнікамі, барана, каса, сякера»[132].

Забяспечанасць сялянскай гаспадаркі ў асноўным залежала ад колькасці працоўных рук у сям'і, памераў апрацоўваемай зямлі, сацыяльна-прававога становішча гаспадара і яго паншчынных абавязкаў і налогаў. Сярэдні селянін апрацоўваў, у сярэднім, каля 0,5 валокі зямлі і часам столькі ж прыёмнай (сдольнай, прыарандаванай), на якой працаваў на ільготных умовах. Да маёмаснага становішча сярэдняй і багатай сялянскай гаспадаркі былі падобны зямянскія і баярскія. У XVIII ст. былі сёлы, заселеныя амаль выключна зямянамі і баярамі. Ад-

[130] Гл.: Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 197.

[131] Там жа.

[132] Там жа. С. 195.



33. Гродна. Сярэдзіна XVIII ст.

нак больш тыповымі паселішчамі апошніх былі засценкі ў 2—4 дамы-двары, як, напрыклад, на захадзе Беларусі, дзе пераважалі вёскі з «устаўной» планіроўкай[133]. Большасць з адбудаваных мястэчак працягвала налічваць па 80—150 двароў. Некаторыя разрасталіся да 200—300 і больш двароў. Новае ў мястэчкавай архітэктуры пераважна Заходняй Беларусі адлюстроўвалася на колькасці каменных пабудоў адміністрацыйнага і культавага прызначэння, на павелічэнні колькасці вуліц і завулкаў, квартальным характары забудовы, на з'яўленні абавязковай карчмы, гандлёвых радоў і інш. У другой палове XVIII ст. на знешняе аблічча некаторых мястэчак, напрыклад, Гродзеншчыны, аказала ўплыў арганізацыя пры іх мануфактур. У гэты ж час у мястэчках часцей сталі будавацца магнацкія рэзідэнцыі дварцовага тыпу (барочнага, ампірнага і іншага ўзору)[134].

Змены ў архітэктуры гарадоў таксама былі звязаны з пашырэннем будаўніцтва з камня і цэглы, як абарончага, адміністрацыйнага, гандлёвага, культавага, так і жыллёвага прызначэння. Аднак, як і раней, найбольш характэрным жыллём гараджаніна заставаўся драўляны дзвюх-, трох- і больш камерны дом. Вытворча-гаспадарчыя часткі дамоў адводзіліся пад лаўку, майстэрню ці карчму і мелі выхад на вуліцу.

На думку У. Чантурыі, дамы такога тыпу з характэрнай пабудовай фасада былі шырока вядомымі ва многіх беларускіх гарадах XVII—XVIII стст. Ён дае апісанне некалькіх тыпаў гарадскіх дамоў тых часоў, напрыклад: «будынак без падклету з двухскатным дахам; двухсрубны дом злучоны сенямі, іншы раз на падклеце і пад агульным дахам». Пабудовы такога тыпу мала чым адрозніваліся ад сялянскіх курных хат, мелі маленькія вокны, былі невялікімі і складваліся з 8—13 вянцоў круглых бярвенняў.

---

[133] Гісторыя Беларускай ССР. Т. І. С. 217.

[134] Локотко А. И. Белорусское народное зодчество. Мн., 1991. С. 57—69.



34. Ратуша ў Віцебску. XVIII ст.

Дамы больш заможных мяшчан былі на падклецях, мелі вялікія вокны, печы з камінам, ганкі, прыбудовы гаспадарчага прызначэння каля задняй сценкі. Сустракаліся і дамы тыпу харомаў з балконамі-галерэямі, вежамі і дахам шатровага выгляду. Гарадскія панскія двары адрозніваліся яшчэ большымі памерамі жылых і гаспадарчых будынкаў. Сярод розных гаспадарчых будынкаў панскіх сядзіб пачалі распаўсюджвацца цікавыя па архітэктуры амбары-лямусы, часта двухярусныя з галерэямі[135].

У гэтыя часы на Беларусі пачала актыўна распаўсюджвацца культавая і дварцовая архітэктура стылю барока (Нясвіжскі замкавы комплекс і касцёл, Менскі касцёл і кляштар бернадзінак, гародзенскі Новы замак, ратушы ў Віцебску, Чавусах, Слоніме, Шклове і інш.). Пад уплывам мясцовых традыцый на Беларусі і Літве складаецца своеасаблівы напрамак барочнага стылю — «віленскае барока» (касцёл у Сталовічах, перабудаваная полацкая Сафія, так званы «дом на рынку» у Нясвіжы і інш.). Істотнай своеасаблівасцю пачалі ў другой палове XVII і асабліва ў XVIII ст. адрозніваца дварцовыя комплексы магнатаў, якія мелі цікавыя архітэктурныя кампазіцыі з пабудоў, парадных двароў і паркаў-садоў (у Ружанах, Шчорсах, Шчучыне, Свяцке, Дзярэчыне, каралеўскі дварэц Новы замак у Гародні, рэзідэнцыя беларускага праваслаўнага архібіскупа ў Магілёве і інш.). Большасць з гэтых дварцовых комплексаў будавалася па ўзорам перадавой на той час заходнееўрапейскай архітэктурнай думкі[136].

Далучэнне пэўных груп беларускага грамадства (магнатаў, шляхты, гараджан-рамеснікаў, купцоў, духавенства) да тагачасных еўрапейскіх тэндэнцый развіцця культуры і мастацкай вытворчасці істотна адлюстравалася на розных сферах быту насельніцтва. На Беларусі з'явілася вялікая колькасць майстроў (як іншаэтнічнага, так і мясцовага паходжання), якія пачалі ажыццяўляць тут новыя віды рамёстваў па вытворчасці сукна, каштоўных відаў тканіны, шкла, фаянса і мастацкай керамікі, зброі і цывільных рэчаў з металу (у тым ліку з золата і серабра), дрэва, скуры, каменя і гэтак далей. У заможных слаёў насельніцтва пад уплывам моды ў гэты перыяд пачалі распаўсюджвацца некаторыя новыя віды адзення (даламаны, кунтушы, «слуцкія паясы», газукі, чамары). Некаторыя змены закранулі і комплекс адзення сельскага насельніцтва (асабліва жаночы касцюм), які стаў больш варыятыўным і ўпрыгожа-

[135] Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1977. С. 48—49.

[136] Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. М., 1989; Слюнькова И. Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII — середины XIX вв. Мн., 1992. С. 15—52.



35. Дварцовы комплекс Радзівілаў у Дзятлаве (Гродзеншчына). 1751 г.

ным[137], а таксама адзенне заможных мяшчан, якія часта імкнуліся апранацца не горш за шляхту. Апошняя заўжды пераймала моду магнатаў. Так, калі ў XVIII ст. у моду феадальнай вярхушкі пачало ўваходзіць адзенне турэцкага, іранскага і іншага паходжання, попыт на тавары падобнага тыпу (і асабліва на шырокія каляровыя паясы) выклікаў нават іх мясцовую вытворчасць. У Нясвіжы і Слуцку былі арганізаваны мануфактуры па вытворчасці своеасаблівай золататканай, шоўкавай і іншай тканіны (часта з двухбаковым рознакаляровым арнаментам), якая ішла на пашыў паясоў, жупаноў, жаночых сукенак. Гэта каштоўнае адзенне задавальняла, у першую чаргу, патрэбы шляхецкага саслоўя. Аднак у вопісах другой паловы XVIII ст. сустракаюцца звесткі, што такія рэчы былі і ў некаторых купцоў[138] (верагодна, і ў іншых заможных мяшчан).

Увогуле, далучэнне да сфер пануючай прафесійнай і еўрапейскай культуры было магчымым не толькі для шляхты, але ў пэўнай ступені і для мяшчанскага, у асобных выпадках — для сялянскага саслоўяў. Гэта прасочваецца пры вывучэнні розных сфер матэрыяльнай і духоўнай культуры тых часоў: кнігадрукавання, літаратуры, архітэктуры, мастацтва (скульптуры, жывапісу, гравюры), прыгоннага і школьнага тэатраў, музыкі, спеваў, танцаў, фальклору, адукацыі і выхавання. У сферы адукацыі, напрыклад, у XVIII ст. пачалі адбывацца пэўныя змены. З канца XVII ст. яна была сканцэнтравана ў руках розных манаскіх ордэнаў, рэлігійных брацтваў амаль што ўсіх напрамкаў хрысціянства. Школы, вучылішчы, калегіумы існавалі як у буйных гарадах, так і ў мястэчках, а адукацыю ў іх маглі атрымаць дзеці з розных саслоўяў. Фактычна навучэнне там праходзілі хлопчыкі шляхецкага і мяшчанскага сацыяльнага паходжання.

---

[137] Молчанова Л. А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв. С. 73—104.

[138] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Т. XIII. С. 385. (1755 г.).




36. Тытульны ліст «Rosarium». 1672 г.

З 1740-х гг. у школах Ордэна піараў, а потым у пачатку 1770-х гг. увогуле ў Рэчы Паспалітай Адукацыйнай камісіяй былі праведзены рэформы, згодна якім па ўсёй дзяржаве ўводзілася сістэма сярэдніх школ для дзяцей усіх саслоўяў. Іх выпускнікам давалася права на далейшую адукацыю ў вышэйшых навучальных установах. Ніжэйшай ступенню новай сістэмы адукацыі з'яўляліся амаль абавязковыя прыходскія ці валасныя вучылішчы, якія былі 3—5-класнымі і давалі вучням пераважна практычныя веды. Стварэнне Адукацыйнай камісіі (першага ў тагачаснай Еўропе міністэрства адукацыі) і запланаваныя рэформы былі вельмі прагрэсіўнымі з'явамі. Але ў поўнай ступені ім не ўдалося адбыцца з-за палітычных падзей апошняй трэці XVIII ст.: сепаратызму і войн паміж канфедэратамі, умяшэння ў справы дзяржавы знешніх сіл і ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай. Большасць насельніцтва Беларусі ў канцы XVIII ст. заставалася непісьменнай. Ідэі еўрапейскага асветніцтва і ўсеагульнай свабоды, якія распаўсюджвалі ў той час ураджэнцы Беларусі А. Кміціц, М. Карскі, Г. Станіслаўскі, М. Карповіч, І. Быкоўскі, І. Страйноўскі, Б. Дабшэвіч і іншыя, знаходзілі слабую сацыяльную падтрымку. Катастрафічную сітуацыю распаду дзяржавы і грамадства не ўратавалі і падзеі, звязаныя з прыняццем Канстытуцыі 3 мая 1791 г., і гераічнае паўстанне 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі. З канца XVIII ст. далейшы лёс этнакультурнага жыцця беларусаў пачаў ажыццяўляцца ў новых сацыяльна-палітычных умовах уваходжання ў склад шматнацыянальнай Расійскай імперыі.

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ СТАНОВІШЧА

У апошняй чвэрці XVIII ст. адбыліся значныя змяненні ў дзяржаўна-палітычнай карце Расіі, Польшчы, Аўстрыі і Прусіі. У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.) паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй, тэрыторыя Беларусі была далучана да Расійскай імперыі. Нарэшце ўсходнія славяне (рускія, украінцы і беларусы) аб'ядналіся ў адну дзяржаву. Здавалася б, былі створаны неабходныя ўмовы для далейшага развіцця трох братніх народаў. Аднак амаль да сярэдзіны XIX ст. беларускі этнас, як і раней, падвяргаўся акаталічванню і апалячванню. Калі да ўз'яднання Беларусі з Расіяй амаль увесь верхні пласт беларускага этнасу (магнаты і шляхта) паступова апалячваўся, то гэты працэс у канцы XVIII — першай палове XIX ст. працягваўся ўжо ў сялянскім і гарадскім асяроддзі, нягледзячы на тое, што пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай далучаныя да Расіі землі Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў атрымалі афіцыйную назву «Беларуская акруга».

Аляксандр I аддаў Беларускую навучальную акругу ў рукі польскага магната Чартарыйскага, у выніку чаго польска-каталіцкае панаванне на Беларусі працягвалася. Можна цалкам пагадзіцца з беларускім этнографам Е. Р. Раманавым, які ў сваім даследаванні «Пад польскім прыгнётам», надрукаваным пад псеўданімам Бяліцкі, пісаў: «Чаго пад польскім прыгнётам не дазволілі зрабіць Кунцэвічу магілёўцы і віцябляне, нягледзячы на крывавыя расправы, што ўчыняліся палякамі, — тое з лішкам дарабіла пецярбургская бюракратыя пасля вызвалення нашага ад ненавіснага ярма. У гэтых адносінах яна прамая паслядоўніца Кунцэвіча»[1].

Пасля далучэння Беларусі да Расіі пачаўся новы этап яе этнічнага развіцця. Адмена абмежаванняў на гандаль, новы статус для гарадоў, якія раней былі ва ўладзе феадалаў, і іншыя мерапрыемствы стварылі спрыяльныя ўмовы для развіцця мануфактур і таварна-грашовых адносін. Адкрыццё школ на рускай мове, стварэнне бібліятэк садзейнічала эканамічнаму і культурнаму збліжэнню беларусаў, рускіх і ўкраінцаў.

Аднак нашэсце Напалеона на пэўны час прыпыніла развіццё капіталістычных адносін і нанесла велізарныя страты гарадам і сёлам Беларусі. Значна скарацілася колькасць насельніцтва. Напрыклад, у Гродзенскай губерні страты мужчынскага насельніцтва склалі 37 тыс. чалавек

---

[1] Белицкий (Романов Е. Р.). Под польским игом. 1907. С. 7.



37. Магілёў. Канец XVIII ст.

(16% ад усіх мужчын), а ў Ашмянскім павеце Віленскай губерні было знішчана 26% мужчын[2]. Сельская гаспадарка і прамысловасць апынуліся ў глыбокім заняпадзе.

Пасля разгрому напалеонаўскіх ордаў пастунова аднаўляліся гарады і сёлы Беларусі, наладжвалася вытворчасць.

Абмежаванню паланізацыі беларусаў садзейнічалі мерапрыемствы Расійскай дзяржавы. Павел I выдаў загад, які забараняў праваслаўным пераходзіць у каталіцкую канфесію. У 1839 г. была прынята пастанова аб пераходзе ўніятаў у праваслаўе. Зразумела, што гэтыя мерапрыемствы былі накіраваны на русіфікацыю беларусаў. Узмацненне гэтай палітыкі адбылося пры Мікалаі I, які асабістым указам забараніў ужываць назвы «Беларусь» і «Літва», замест іх была ўведзена назва «Паўночна-Заходні край». Быў адменены Статут Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жаймоцкага.

Тым не менш, гістарычны факт уз'яднання Беларусі з Расіяй магутна паўплываў на эканамічнае, грамадска-палітычнае і культурнае развіццё беларускага этнасу. На Беларусі адбылося новае адміністрацыйнае дзяленне. Для насельніцтва была пашырана адзіная падатковая сістэма. У значнай ступені былі рэфармаваны судовыя ўстановы: па расійскаму ўзору ствараліся дзве новыя палаты — грамадскага і крымінальнага судоў. Ліквідацыя мытных бар'ераў паміж Беларуссю і Расіяй стварала больш спрыяльныя ўмовы для развіцця таварна-грашовых адносін, садзейнічала хуткаму ўключэнню беларускай эканомікі ва ўсерасійскі рынак.

У гэты час значна паменшыўся ўплыў польскіх феадальна-клерыкальных колаў на беларускі народ. Буйныя зямельныя магнаты страцілі шэраг былых прывілеяў, у тым ліку права мець уласныя ўзброеныя сілы і непрыступныя крэпасці. Адначасова з мэтай пашырэння сваёй улады

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 4. С. 28—30.

на месцах царскі ўрад правёў раздачу значнай колькасці маёнткаў памешчыкам рускага паходжання. Рускія чыноўнікі прызначаліся на важнейшыя губернскія і павятовыя адміністрацыйныя пасады. Некалькі скарацілася сфера ўжывання польскай мовы. Асноўныя дзяржаўныя дакументы сталі пісацца на рускай мове. Руская мова пачала выкладацца ў навучальных установах. Каталіцкая царква страціла сваё пануючае становішча ў якасці дзяржаўнай рэлігіі.

Неабходна ўлічваць, што працэс уз'яднання Беларусі з Расіяй меў рэгіянальныя асаблівасці. Ва ўсходняй і паўночна-ўсходняй частках Беларусі (Магілёўскай і Віцебскай губернях), далучаных да Расійскай імперыі значна раней астатняй тэрыторыі, былі ў большай ступені рэфармаваны адміністрацыйныя, судовыя і навучальныя ўстановы, таму і ўплыў рускай культуры тут быў больш моцным[3].

Такім чынам, мерапрыемствы, праведзеныя царскім урадам, змянілі многія бакі грамадскага жыцця насельніцтва Беларусі.

Аб'яднанне Беларусі з Расіяй з'явілася моцным імпульсам развіцця таварна-грашовых адносін. Развіццё сельскай гаспадаркі — асновы эканомікі — шмат у чым было абумоўлена вялікім попытам на прадукцыю Беларусі ва Ўсходняй Еўропе. У памешчыцкіх гаспадарках значна павялічылася вырошчванне збожжа, таварнага льну, канолі, а пазней і бульбы, якая з пачатку 40-х гг. станавілася адной з асноўных сельскагаспадарчых культур. Адбыліся значныя змяненні ў агратэхніцы — усё часцей уводзіўся шматпольны севазварот і пасеў кармавых траў. Паступова намецілася спецыялізацыя розных рэгіёнаў па тых ці іншых відах сельскагаспадарчай прадукцыі. Так, Панямонне і Цэнтральная Беларусь спецыялізаваліся на вытворчасці збожжавых; паўночны ўсход, асабліва Падзвінне, — на ільнаводстве, ва ўсходніх паветах Мінскай і Магілёўскай губерняў вырошчвалі каноплю. Найбольш інтэнсіўна развіваліся паўночна-заходнія і цэнтральныя раёны Беларусі, што пазітыўна адбілася на дэмаграфічных і этнічных працэсах у гэтым рэгіёне.

Рост таварнасці памешчыцкай гаспадаркі, як правіла, дасягаўся за кошт рэзкага ўзмацнення эксплуатацыі прыгонных, што ў сваю чаргу абумовіла заняпад сялянскай гаспадаркі. У пошуках сродкаў існавання сельская бядота была вымушана ісці ў адыходніцтва: на будаўніцтва дарог, мастоў, на лесанарыхтоўкі, лесасплаў, прыстані, перагрузачныя пункты і гэтак далей. Толькі на судаходных рэках Беларусі штогод у канцы 1840—1850-х гг. працавала 70—80 тыс. чалавек[4], а на будаўніцтве Дняпроўска—Бугскага канала ў 1843 г. было занята 122628 чалавек[5]. Адыходніцтва іграла нямалаважную ролю ў пераўтварэнні культурна-бытавога ўкладу сялянства. Паступова разбураліся векавыя асновы, замкнёнасць і ізаляванасць феадальнай вёскі.

Паглыбленне таварна-грашовых адносін прывяло да павелічэння не толькі вотчынных мануфактур, дзе выкарыстоўвалася праца прыгонных, але і купецкіх прадпрыемстваў з вольнанаёмнай працай. З 1828 па 1860 гг. колькасць рабочых на капіталістычных прадпрыемствах павялічылася з 2215 да 6134 чалавек, а колькасць такіх прадпрыемстваў — з 726 да 1603. Усяго на Беларусі да пачатку 1860-х гг. было 4024 прадпрыемствы (дробная вытворчасць, мануфактуры, фабрыкі), на якіх працавала 172259 чалавек[6].

---

[3] Этнаграфія беларусаў. Мн., 1985. С. 142.

[4] Карнейчык Я. Беларуская нацыя. Мн., 1969. С. 57.

[5] Карнейчык Я. Эксплуатацыя сялян Беларусі, працаваўшых па найму ў падрадчыкаў у 30—50-х гадах XIX ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1956. № 1. С. 15—26.

[6] Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861). Мн., 1966. С. 55, 57, 67, 97.



38. Гомель. Руска—Азіяцкі банк. Пачатак XX ст.

Найбольш дынамічна развіваліся тыя галіны вытворчасці, дзе перараблялася прадукцыя сельскай гаспадаркі (цукровыя і вінакурныя).

У 40-х — пачатку 50-х гг. у Беларусі будуюцца ўчасткі Маскоўска—Аршанскай і Пецярбургска—Кіеўскай шашы, пракладаецца шасэйная дарога ад Магілёва да Бабруйска, павялічваецца колькасць паштовых дарог да павятовых цэнтраў. Паляпшаецца стан існуючых водных артэрый (Агінскі і Бярэзінскі каналы), у 1840-х гг. завяршаецца будаўніцтва Дняпроўска—Бугскага канала.

Асноўную ролю ва ўнутрыгандлёвым абароце ігралі, як і раней, традыцыйныя формы гандлю эпохі феадалізму: кірмашы, штогоднія рынкі, таргі. Аднак аб'ём іх пастулова скарачаўся. Адначасова хутка павялічвалася ўдзельная вага магазіннага і рыначнага гандлю. Значна ўзрос аб'ём знешняга гандлю (у асноўным па рачных шляхах).

Аднак пазітыўныя зрухі, што адбыліся ў першай палове XIX ст. у развіцці вытворчасці Беларусі, нельга перабольшваць.

Развіццё таварна-грашовых адносін, адыходніцтва закранулі толькі частку залежнага сялянства, пераважна таго, якое знаходзілася ў зоне магістральных сухапутных і водных шляхоў зносін. Вытворчасць таварнай прадукцыі была арыентавана не на ўнутраныя патрэбы, а на знешні рынак. Сувязі паміж рознымі рэгіёнамі былі яшчэ адносна слабымі. Так, у 50-х гг. Барысаўскі і Бабруйскі паветы Мінскай губерні збожжа атрымлівалі з Украіны. А з суседніх Слуцкага і Навагрудскага паветаў той жа губерні многія лішкі збожжа адпраўляліся ў Заходнюю Еўропу[7].

Распад патрыярхальнага быту ў сувязі з выспяваннем капіталістычных адносін крытычна асэнсоўваўся ў грамад-

[7] Зеленский И. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. СПб., 1864. Т. 2. С. 292.



39. Мінск. Гасцініца «Еўропа». 1911 г.

скай свядомасці. Яскравае адлюстраванне гэта набыло ў шырока вядомым творы беларускай ананімнай літаратуры 40-х гг. «Вось цяпер які люд стаў»[8], дзе асуджаліся ўлада грошай, адчужанасць людзей, разбурэнне патрыярхальных сямейных асноў і іншыя з'явы, якія ўзніклі ў выніку працэсаў маёмаснай дыферэнцыяцыі[9].

Павялічвалася колькасць мяшчанства і жыхароў гарадоў і мястэчак. Калі ў 1825 г. у гарадах пражывала 148 тыс. чалавек (5,2% насельніцтва), то ў пачатку 60-х — 316 тыс. чалавек (каля 10%)[10]. Адным з фактараў росту гарадоў было штучнае перасяленне ў іх яўрэйскага насельніцтва, якому ў 1827 г. царскі ўрад забараніў пражываць у сельскай мясцовасці. Значная частка яго жыла ў шматлікіх мястэчках, што з'яўляліся гандлёва-рамесніцкімі цэнтрамі і адыгрывалі важную ролю ў развіцці рыначных адносін паміж горадам і вёскай, уцягваючы ў таварна-грашовы абмен сельскіх жыхароў.

Пасля вайны 1812 г. тэмпы прыросту насельніцтва значна павялічыліся (у 1835 г. у Беларусі пражывала 3041 тыс. чалавек), але ў 40—50-х гг. рэзка скараціліся. Усяго з 1835 па 1858 гг. насельніцтва Беларусі павялічылася толькі на 9%[11].

Рускія сяляне пераязджалі ў Беларусь вельмі неахвотна. У 1837 г. у Віленскую губерню прыбыло 70, а ў Мінскую — толькі 40 чалавек[12]. Рускія памешчыкі і чыноўнікі, як правіла, хутка прадавалі набытыя маёнткі і вярталіся ў Расію. Уплыў польскай культуры хаця і не быў ужо такім, як раней, але заставаўся ўсё ж даволі моцным. Польская мова была шырока распаўсюджана сярод шляхты.

Вялікая частка памешчыкаў прытрымлівалася каталіцызму, арыентавалася перш за ўсё на польскую культуру, карысталася польскай мовай. Што ж датычыцца дробнай шляхты, то, напрыклад, у Мінскай губерні ў 50-х гг. да 30% дваран і чыноўнікаў былі праваслаўнымі, а ў Мазырскім і Пінскім паветах — адпаведна 54,3 і 77,7%[13].

Рэформа 1861 г., нягледзячы на яе абмежаванасць, стварыла больш спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталізму ў Расіі, у тым ліку і ў Беларусі. Рыначныя адносіны патрабавалі ад яе ўсё большага пашырэння вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў. Галоўнымі пастаўшчыкамі іх былі памешчыкі, але хутка ўзрастала і значэнне маладой аграрнай буржуазіі. Рэзкае зніжэнне цэн на збожжа ва ўмовах эканамічнага крызісу 70-х гг.,

[8] Беларуская літаратура XIX ст. Мн., 1971. С. 32—34.
[9] Этнаграфія беларусаў. С. 145.
[10] Гісторыя БССР. У 5 т. Мн., 1972. Т. 1. С. 499.
[11] Этнаграфія беларусаў. С. 146.
[12] Гісторыя БССР. Т. 1. С. 584.
[13] Зеленский И. Материалы для географии и статистики России... Т. 1. С. 415.



40. Мінск. Віленскі вакзал. 1903 г.

а таксама існаваўшы ў Расіі дыферэнцыраваны тарыф на чыгуначныя перавозкі рабілі не надта выгаднай вытворчасць метарнага збожжа. Таму з гэтага часу галоўнай галіной сельскай гаспадаркі, да якой пачалі далучацца і падпарадкоўвацца ўсе іншыя галіны вытворчасці, стала малочная жывёлагадоўля.

Развіццё капіталістычных адносін паскорыла далейшы рост прамысловасці. У яе структуры асноўнае месца займалі тыя галіны вытворчасці, што былі арыентаваны на мясцовую сыравіну. Галоўным чынам, развіваліся харчовая і дрэваапрацоўчая, сілікатна-цагляная і гарбарна-абутковая прамысловасць. За перыяд з 1879 па 1900 гг. колькасць прамысловых прадпрыемстваў у Беларусі павялічылася амаль у 2 разы, колькасць рабочых у іх — у 4,7 раза, а аб'ём вытворчасці — амаль у 10 разоў. Гэтыя лічбы сведчаць не толькі аб колькасных, але і аб якасных узбуйненнях у развіцці прамысловасці. Адбываецца працэс яе ўзбуйнення і механізацыі. Так, у 1895 г. на 512 прадпрыемствах дзейнічалі механічныя рухавікі агульнай магутнасцю ў 7036 конскіх сіл, а ў 1900 г. на 527 прадпрыемствах механічныя рухавікі складалі ўжо 12268 конскіх сіл[14]. Аднак, нягледзячы на хуткі рост, к 1913 г. прамысловыя прадпрыемствы давалі толькі 15% нацыянальнага даходу Беларусі, а сельская гаспадарка — 56,9%[15].

Развіццё эканомікі на капіталістычнай аснове значна павялічыла аб'ём эканамічных сувязей паміж рознымі рэгіёнамі Беларусі. Вялікую ролю ў гэтым працэсе адыграла далейшае пашырэнне шляхоў зносін і асабліва будаўніцтва чыгуначнага транспарту. Беларусь у пасляэформенны перыяд была пакрыта даволі шырокай для таго часу сеткай чыгункі, агульная працягласць якой на пачатак XX ст. складала 2836 вёрст[16].

[14] Карнейчык Я. Беларуская нацыя. С. 63.

[15] Гісторыя БССР. Т. 2. С. 8.

[16] Статистический сборник Министерства путей сообщения. СПб., 1903. Вып. 102.



41. Орша. Гарадская ўправа. Да 1917 г.

Важным фактарам кансалідацыі беларускай нацыі з'яўляўся рост гарадоў. Насельніцтва Мінска, напрыклад, павялічылася ў 3,4 раза. К 1913 г. гарадское насельніцтва Беларусі складала 990 тыс. чалавек[17].

Аднак этнічны састаў беларускіх гарадоў меў свае асаблівасці. Па даных перапісу 1897 г., беларусаў у гарадах пражывала толькі 2,5%. Больш за палову (53,2%) складалі яўрэі, рускія — 37,5%, палякі — 1,44%[18]. Такая нераўнамернасць размеркавання насельніцтва ў гарадах тлумачыцца нацыянальнай палітыкай царскага ўрада. Так, дзевяць паўночна-заходніх і паўднёва-заходніх губерняў Расіі з'яўляліся «паласой аседласці» яўрэйскага насельніцтва, у гэтых губернях яны маглі пасяляцца толькі ў гарадах.

Перапіс 1897 г. дае магчымасць вызначыць нацыянальны склад насельніцтва і ўзровень адукацыі беларусаў і іншых этнічных груп. З 8518247 жыхароў беларусы складалі ў 5 губернях 5408420 чалавек (63,4%), яўрэі — 1202069 (14%), рускія — 492921 (5,7%), палякі — 424236 (4%), украінцы — 377511 (4,4%). Сярод усяго насельніцтва пісьменных было 1877988 (22%). Беларусаў пісьменных было 14,3%, яўрэяў — 42,2%, рускіх — 29,3%, украінцаў — 17,5%, палякаў — 41,2%. Прычынай нізкага ўзроўню адукацыі беларусаў у параўнанні з іншымі нацыянальнасцямі з'яўляўся той фактар, што яны складалі большасць насельніцтва і знаходзіліся ў сельскай мясцовасці — 5270812 чалавек. Сярод беларусаў мужчын-гараджан пісьменных было 44,3%, жанчын — 24%. У сельскай мясцовасці пісьменных беларусаў мужчын быў 21%, а жанчын — 0,3%[19].

Размеркаванне беларусаў па саслоўях па 5 губернях дае наступную карціну.

[17] Статистический ежегодник России (1913 г.). СПб., 1914.

[18] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г.

[19] Там жа.

Вышэйшыя саслоўі (шляхта, духавенства, ганаровыя грамадзяне) сярод беларусаў складалі 5,89% ад гарадскога насельніцтва і 1,22% ад сельскага насельніцтва. Мяшчане-беларусы сярод гараджан складалі 47,5%, а сярод вяскоўцаў — 4,4%. Сяляне былі самай вялікай групай беларусаў у сельскай мясцовасці — 93,8%[20].

Развіццё капіталістычных адносін істотна ўзмацніла мабільнасць насельніцтва і ў першую чаргу сельскага. Аграрныя міграцыі можна падзяліць на тры групы. Першая — сезонныя перамяшчэнні сялян з мэтай знайсці заробак з пастаянным вяртаннем да свайго месцажыхарства. Як правіла, гэта былі заняткі адыходніцкімі промысламі ці наём на сезонныя работы. Сяляне накіроўваліся не толькі ў розныя раёны Беларусі, але і на прадпрыемствы цэнтральна-прамысловага раёна Расіі, шахты і руднікі Данбаса, у порты Рыгі і Адэсы. Колькасць адыходнікаў у канцы XIX ст. штогод дасягала 300 тыс. чалавек[21].

У працэсе працоўнай дзейнасці ажыццяўляўся інтэнсіўны абмен этнакультурнай інфармацыяй, што павышала нацыянальную і сацыяльную самасвядомасць адыходнікаў і безумоўна спрыяла разбурэнню старой патрыярхальнай асновы на сяле.

Другім відам былі сялянскія перасяленні за межы Беларусі: у Прыўралле, Сібір, на Далёкі Ўсход. Найбольш шырокі размах яны набылі ў 60-х гг. і ў канцы XIX ст. Частка перасяленцаў у 1895—1900 гг. (каля 14,3%) вярнулася ў свае сёлы, дзе папоўніла сельскі пралетарыят. Тым не менш, згодна перапісу 1897 г., за межамі кампактнага рассялення беларускага этнасу пражывала каля 540 тыс. беларусаў. Новая хваля перасялення сялян узнікла ў пачатку XX ст., асабліва пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг. Так, з 1907 па 1914 гг. з пяці заходніх губерняў перасялілася 335366 чалавек, прытым 74% з іх прыпадае на ўсходнія губерні[22].

Трэцім відам былі міграцыі ў гарады. Так, у Пецярбургу ў 1910 г. пражывала каля 70 тыс. беларусаў, яны складалі найбуйнейшую групу іншаэтнічнага насельніцтва сталіцы[23]. Гэта садзейнічала таму, што на пачатку XX ст. у Перцярбургу ўтварыўся адзін з цэнтраў беларускага нацыянальнага руху.

Вялікі ўплыў на развіццё беларускага этнасу аказалі і знешнія міграцыі на Беларусь. Першая хваля перасяленцаў з Расіі на Беларусь з'явілася пасля падаўлення паўстання 1863 г. На Беларусь перасялілася 800 памешчыкаў і 4600 чыноўнікаў[24].

Развіццё капіталістычных адносін прывяло да хуткага росту насельніцтва Беларусі. З 1858 па 1897 гг. яно павялічылася амаль у 2 разы і дасягнула 6,5 млн чалавек.

Развіццё гандлю, будаўніцтва шляхоў зносін, асабліва чыгуначнай сеткі, павелічэнне маштабу міграцыі прывялі да разбурэння былой гаспадарчай і культурнай замкнёнасці асобных рэгіёнаў Беларусі і сталі галоўнымі аб'ектыўнымі прычынамі кансалідацыі беларускага этнасу ў нацыю. Адначасова павышалася нацыянальная самасвядомасць беларусаў.

Да першай паловы XIX ст. літаратуразнаўцы адносяць пачатак беларускай літаратуры. Першым паэтам з беларускай самасвядомасцю быў Паўлюк Багрым (1813—1891), які пісаў свае вершы на сялянскую тэматыку. Захаваўся толькі адзін яго верш — «Зайграй, зайграй, хлопча малы». Да гэтага часу адносяцца і ананімныя творы, якія з'яўляліся ў

[20] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г.

[21] Карнейчык Я. Беларуская нацыя. С. 72.

[22] Гісторыя БССР. Т. 2. С. 441.

[23] Юхнева Н. В. Об этнических аспектах изучения населения дореволюционного Петербурга // Советская этнография. 1980. № 1. С. 23.

[24] Самбук С. М. Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. Мн., 1980. С. 46, 48.



42. Мінск. Конка на Захар'еўскай вуліцы. Да 1917 г.

сярэдзіне і ў другой палове XIX ст. Гэта паэмы «Тарас на Парнасе», «Энэіда навыварат», а таксама «Гутарка Данілы са Сцяпанам», «Гутарка двух суседаў», «Гутарка старога дзеда». Зразумела, што гэтыя творы былі напісаны дзеячамі з даволі высокім узроўнем беларускай самасвядомасці. Беларускай самасвядомасцю ў пэўнай ступені пранікнута творчасць Уладзіслава Сыракомлі і Вінцэса Дуніна-Марцінкевіча. Поўнай беларускай самасвядомасцю адрозніваецца творчая дзейнасць Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны (Неслухоўскі), А. Гурыновіча, А. Абуховіча, Э. Цёткі.

У 1867 г. у Вільні быў адкрыт Паўночна—Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства, які аб'яднаў краязнаўцаў Беларусі і значна павялічыў іх колькасць. Членамі гэтага таварыства былі вядомыя беларускія этнографы М. Дзмітрыеў, П. Шэйн, А. Семянтоўскі, Ю. Крачкоўскі, І. Насовіч, І. Берман, Е. Раманаў, М. Нікіфароўскі і інш.; яны дасылалі ў аддзел свае матэрыялы пра мову, быт і культуру беларусаў у адпаведнасці з праграмай аддзела.

У 1864 г. пры Маскоўскім універсітэце было ўтворана Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, якое таксама садзейнічала актывізацыі краязнаўчай работы на Беларусі. У 1860—1870 гг. у «Працах этнаграфічнага аддзела» гэтага Таварыства друкаваўся шэраг краязнаўчых матэрыялаў з Беларусі.

У 1840—1850 гг. разгарнуў сваю дзейнасць П. М. Шпілеўскі (1827—1861). За сваё кароткае жыццё ён напісаў капітальныя працы па этнаграфіі і фальклору Беларусі. Ужо ў 1845 г. ён даслаў у Расійскую акадэмію навук слоўнік беларускай мовы, а пасля пераезду ў Пецярбург у час летніх канікул падарожнічаў па Беларусі і вывучаў сваю Радзіму. «Мне, — пісаў Шпілеўскі, — успа-

мінаюцца тыя цудоўныя дні, поўныя радасці, якую нельга апісаць і якая зразумела толькі таму, хто сам гэта адчуў, дні, у якія я спяшаўся на канікулы з губернскага горада ў аддалены павет і мог з поўнай свабодай раз'язджаць па вёсках і сёлах, дзе, па нейкай гарачай неўсвядомленай ахвоце да вывучэння народных вераванняў і казак, прыслухоўваўся да гукаў гарманічнай пявучай беларускай мовы, запісваў словы і расказы з вуснаў сялян, дарослых баяноў і знахароў, заходзіў у беларускія хаты і клеці, знаходзіў задавальненне ў гутарцы за сціплай вясковай трапезай з сівымі старымі і маршчыністымі бабулямі»[25].

П. Шпілеўскі на ўвесь голас заявіў, што беларусы — самастойны народ. «Ёсць у нас на Русі, — піша Шпілеўскі, — вялікі край, ... яго завуць Беларуссю. Жывуць там людзі беларускія, нашчадкі старажытных крывічоў, родныя браты людзей вялікарускіх». І далей: «Чаму ж не напісаць аб роднай Беларусі, якая так багата сваімі самабытнымі звычаямі, міфалогіяй, мовай і, нарэшце, гульнямі і святамі»[26].

Краязнаўчыя працы П. Шпілеўскага — гэта своеасаблівы гімн беларускаму народу. Яны выхоўвалі патрыятычныя пачуцці, павышалі ўзровень яго нацыянальнай самасвядомасці.

У развіцці краязнаўства на Беларусі вялікая роля належыць П. В. Шэйну. Яму ўдалося стварыць шырокую сетку карэспандэнтаў, якія пазней выступілі з самастойнымі публікацыямі і сталі вядомымі даследчыкамі беларускага народа (Я. Ф. Карскі, М. Я. Нікіфароўскі, А. Я. Багдановіч і інш.). Шэйн у 1867 г. распрацаваў сваю праграму збірання фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў і разаслаў яе ў сотнях экземпляраў у розныя месцы Беларусі.

Апублікаваныя краязнаўчыя працы і фальклорна-этнаграфічныя зборнікі сваім зместам абуджалі самасвядомасць беларусаў. Усё шырэй выкарыстоўваліся назвы «Беларусь», «беларусы». Так, напрыклад, усе публікацыі І. Насовіча мелі ў сваіх назвах словы «беларуская песня», «беларускія прыказкі», «беларускія загадкі», «беларускі слоўнік» і інш. І не толькі мясцовыя даследчыкі вывучалі беларусаў. Нават рускі даследчык П. Бяссонаў назваў свой зборнік «Беларускія песні». І гэта ва ўмовах, калі царызм увёў назвы «заходнерусы», «Заходне-Рускі край», «Паўночна-Заходні край», якімі афіцыйна павінны былі называцца Беларусь і беларусы.

Зразумела, што беларуская самасвядомасць спачатку пранікала ў асяроддзе інтэлігенцыі, асабліва ў тых выпадках, калі яе прадстаўнікі аказваліся за межамі Беларусі. У 1868 г. у Пецярбургу ўтварылася асветніцкая арганізацыя «Крывіцкі вазок», а ў 1870-х гг. тут беларускія народнікі пачалі выданне часопіса «Гоман».

Свайго роду індыкатарам росту нацыянальнай самасвядомасці з'яўлялася разуменне гэтай праблемы Е. Р. Раманавым: працаваць, «каб адкрыць свету душу беларуса». Такі заклік выказаны Е. Р. Раманавым у 1908 г. у адрас беларускіх вучоных. А за два гады да гэтага ў сувязі са звальненнем яго ў 1906 г. з працы віленскім чыноўнікам баронам фон Вольфам вучоны ў байцы «Воўк і казёл», быццам бы падводзячы вынікі сваёй навуковай дзейнасці, напісаў пра сябе: «Ах, гэта беларус, які горы кніг выдаў для беларусаў і разбудзіў у іх самасвядомасць...»[27]

Раманаў цёпла сустрэў выхад першага зборніка вершаў Ф. Багушэвіча (М. Бурачка) «Дудка беларуская»: «Радасная з'ява гэта не павінна прайсці не заўважанай намі. Скажу больш: ва ўсве-

[25] Пантеон. 1853. Т. 10, кн. 7. С. 45—46.

[26] Там жа. Т. 8, кн. 1. С. 71—72.

[27] Рукапісны аддзел бібліятэкі АН Літвы. 519-VBE. Л. 1—4.

дамленні сваёй сілы мы павінны дапамагчы ёй (нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. — *В. Б.*) развіцца»[28].

Яскравым адлюстраваннем этнічнай арыентацыі з'яўлялася творчасць беларускіх пісьменнікаў Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, Ф. Тапчэўскага, А. Абуховіча. На пачатку XX ст. у беларускую літаратуру прыйшлі Э. Цётка, Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч і іншыя пісьменнікі, якія асвятлялі новы ўзровень нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

Этнічная самасвядомасць у найбольшай ступені праяўлялася ў дзейнасці беларускіх вучоных І. Насовіча, М. Нікіфароўскага, Е. Раманава, М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага і інш.

У 1906 г. у Мікалаеўшчыне адбыўся нелегальны з'езд настаўнікаў, на якім было запатрабавана выкладаць у школе на роднай мове. З'яўляюцца новыя вучэбнікі, у тым ліку «Беларускі лемантар» К. Каганца (1906), «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Э. Цёткі (1906), «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (1909) Я. Коласа.

У 1906 г. у Пецярбургу адкрылася беларускае выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца», якое выпусціла першыя кніжкі для чытання, календары і мастацкія творы на роднай мове.

У верасні 1906 г. заснавана першая беларуская газета «Наша доля», аднак на шостым нумары яна была закрыта. Замест яе стала выходзіць нацыянальна-дэмакратычная газета «Наша ніва» (1906—1915), якая шырока выкарыстоўвалася дэмакратычнай інтэлігенцыяй для прапаганды перадавых ідэй. У газеце актыўна выступалі са сваімі творамі беларускія пісьменнікі Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны і інш. «Наша ніва» адыграла вялікую ролю не толькі ў прапагандзе, але і ў арганізацыі краязнаўчага руху на Беларусі. Газета не абмяжоўвалася заклікамі да краязнаўцаў, але і публікавала канкрэтныя матэрыялы, што паступалі з розных месцаў, змяшчала падрабязныя інструкцыі і нават давала парады па рэстаўрацыі тых ці іншых экспанатаў. Мала таго, «Наша ніва» праводзіла выстаўкі сабраных калекцый, пераважна этнаграфічных, якія пазней папоўнілі музей Яна Луцкевіча ў Вільні. Супрацоўнікі «Нашай нівы» сістэматычна прымалі ўдзел у мясцовых выстаўках у розных рэгіёнах Беларусі. Газета аб'яўляла і конкурсы на лепшы экспанат, які дасылаўся ў рэдакцыю. Так, у 1911 г. быў праведзены «Конкурс беларускага дзявоцкага адзення», на якім узнагароды прысуджаліся наведвальнікам гэтай выстаўкі[29].

У красавіку 1902 г. па ініцыятыве Раманава ў Магілёве створаны Таварыства па вывучэнню Беларускага краю (у 1913 г. рэарганізавана ў Таварыства па вывучэнню Магілёўскай губерні) і Гісторыка-этнаграфічны музей, задачай якіх было вывучэнне прыроды, гісторыі, этнаграфіі Магілёўскай губерні. У 1912 г. было заснавана Мінскае таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі.

У пачатку XX ст. з'явіліся і нацыянальна-адраджэнскія арганізацыі за межамі Беларусі. Першая з іх — гурток для вывучэння Гродзенскай губерні, створаны са студэнтаў-беларусаў Пецярбургскага ўніверсітэта ў 1907 г.

У 1912 г. у Пецярбургу быў створаны Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў універсітэта. Мэтай гэтага гуртка было «навуковае азнаямленне з духоўным (мова, літаратура, народная творчасць) і грамадскім (этнаграфія, статыстыка, народная гаспадарка) жыццём беларускага народа». Душой гэтага гуртка быў Эпімах-Шыпіла.

[28] Романов Е. Р. «Витебские губернские ведомости». 1894. № 26.

[29] Наша ніва. 1911. № 47—48.

З усіх створаных на Беларусі навуковых таварыстваў і камісій самы вялікі аб'ём краязнаўчай працы выконваў Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства. У кастрычніку 1910 г. у Паўночна-Заходнім аддзеле было 219 членаў, пераважна настаўнікі. Трэба адзначыць, што большасць з іх знаходзілася на перыферыі. Да канца 1911 г. колькасць членаў аддзела павялічылася да 305 членаў. Важным было тое, што да вывучэння культуры беларусаў далучаліся асобы з сельскай мясцовасці.

Секцыя археалогіі і этнаграфіі гэтага грамадства распрацавала план работы, згодна з якім намячалася выданне ў бліжэйшы час чарговых выпускаў «Беларускага зборніка» Раманава, а таксама матэрыялаў па звычаёваму праву, народнай музыцы і моўным гаворкам, якія існавалі на Беларусі; планавалася выданне археалагічных карт Віцебскай, Магілёўскай губерняў, матэрыялаў раскопак Семянтоўскага, Кусцінскага, Шапялевіча, Раманава, Сізова, Турбіна, Антановіча, Авенарыуса і інш.

Адначасова секцыя археалогіі і этнаграфіі разгарнула экспедыцыйную работу па вывучэнню Беларусі і збіранню фальклорна-этнаграфічных і археалагічных матэрыялаў. На працягу 1910—1912 гг. была праведзена значная колькасць экспедыцый. Настаўнік Віленскай мужчынскай гімназіі М. М. Чуркін (вядомы беларускі кампазітар) запісваў беларускія народныя мелодыі ў Ашмянскім, Віленскім, Трокскім, Свянцянскім і Дзісенскім паветах. Толькі за час экспедыцый 1912 г. ім было запісана 110 мелодый.

У аддзел была даслана значная колькасць фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў з розных месцаў Беларусі, у тым ліку запісы Ф. А. Кудрынскага з Мінскай губерні (апісанні прыкмет, вераванняў, запісы прыказак, песень і расказаў). Настаўнікі А. І. Мілавідаў, А. В. Шчарбіцкі даслалі фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя вучнямі ў Гродзенскай губерні.

Заслугоўваюць увагі экспедыцыі настаўніка Другога гарадскога вучылішча Мінска І. А. Сербава, арганізаваныя ў Ігуменскі і Бабруйскі паветы Мінскай губерні і Чавускі павет Магілёўскай губерні[30].

Акрамя мясцовых дзеячаў, вывучэннем беларусаў займаліся навуковыя цэнтры Расіі: Акадэмія навук, Маскоўскі і Пецярбургскі ўніверсітэты, у якіх працавалі такія знатакі культуры і быту беларусаў, як А. А. Шахматаў, Д. М. Анучын, Д. К. Зяленін, А. І. Сабалеўскі, М. А. Янчук. У іх працах разглядаюцца пытанні этнагенезу, мовы, антрапалогіі і этнаграфіі беларускага народа.

У 1907 г. М. А. Янчук на пасяджэнні Аддзялення рускай мовы і славеснасці паставіў пытанне аб выданні «Помнікаў беларускай мовы і славеснасці» — фальклорных тэкстаў і твораў мастацкай літаратуры[31].

Як літаратурны крытык і даследчык гісторыі беларускай літаратуры Янчук высока ацэньвае творчасць М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў. Свой нарыс «Некалькі слоў пра навейшую беларускую літаратуру» ён заканчвае так: «На шчасце, беларускі народ насуперак усім нястачам паказаў сваю жывучасць, дажыў да новай эры, і мы можам з радасцю ўсклікнуць разам з песняром Беларусі Янкам Купалам:

Беларускаю рукою
Светлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Бацькаўшчыне мілай.
Зацвіце яна, як сонца
Пасля непагоды,
У роўнай волі, у роўным стане
Між усіх народаў»[32].

[30] Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі. Пачатак XX ст. Мн., 1970.

[31] Известия Отделения русского языка и словесности АН. 1907. С. 225—232.

[32] Янчук Н. А. Известия Общества славянской культуры. 1912. Кн. 1. С. 91.

# ЗМЕНЫ Ў ГРАМАДСКІМ ПОБЫЦЕ

Грамадскі быт беларусаў у гэта надзвычай дынамічнае, складанае і супярэчлівае стагоддзе развіваўся ў цесным адзінстве са зменамі ў палітычным жыцці і сацыяльна-эканамічных адносінах у краі. З далучэннем Беларусі да Расійскай імперыі, крызісам феадалізму і адменай прыгонніцтва, пераўтварэннем купецкіх і памешчыцкіх мануфактур у капіталістычныя прадпрыемствы, пракладкай чыгуначных дарог адмiралі старыя формы грамадскіх адносін і ўзнікалі новыя, якія адпавядалі буржуазнаму ладу жыцця.

Перамены ахапілі перш за ўсё гарады, якія мелі больш стракаты, чым вёска, у этнічных і эканамічных адносінах склад насельніцтва і канцэнтравалі лепшыя навуковыя, літаратурныя і мастацкія сілы народа. Аднак у пачатку XIX ст. гарадоў было яшчэ вельмі мала ў параўнанні з вясковымі паселішчамі. Сярод прыблізна 3 млн жыхароў Беларусі гараджане ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. складалі ўсяго 3,3%[33]. Агульная іх колькасць не дасягала 100 тыс. і была як мінімум на 1/3 меншай, чым у першай палове XVII ст.[34], што з'ўлялася вынікам вёўшыхся на беларускіх землях войнаў Расіі з Польшчай і Швецыяй сярэдзіны XVII — пачатку XVIII ст., жудасных для беларусаў па сваіх ахвярах і спусташальнасці. Толькі амаль праз сто гадоў разрабаваныя і зруйнаваныя гарады змаглі ў нейкай меры аднавіць свой гаспадарчы і культурны патэнцыял, але багатае і ўплывовае ў часы Вялікага княства Літоўскага этнічна беларускае купецтва і гарадская інтэлігенцыя былі знішчаны.

Два стагоддзі знаходжання Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай прывялі да таго, што пераважная большасць праваслаўных брацкіх друкарняў і школ, дзе выкладанне прадметаў вялося на царкоўнаславянскай і беларускай мовах, былі зачынены, значна скарацілася колькасць праваслаўных цэркваў і манастыроў. Асноўнае месца ў сістэме школьнай адукацыі займалі ўніяцкія і каталіцкія навучальныя ўстановы. У канцы XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі езуіты, базыліяне, дамініканцы, кармеліты, манахі іншых каталіцкіх і ўніяцкіх ордэнаў мелі 37 вучылішчаў, дзе асноўнай мовай выкладання прадметаў была польская. Прычым большасць школ належыла самаму рэакцыйнаму манаскаму ордэну езуітаў, дзейнасць якога папам рымскім Клімeнтам XIV была забаронена ў 1773 г. па ўсёй Еўропе[35].

Беларуская праваслаўная знаць і буйная польская шляхта, якой палякі давалі свае гербы і разам з гэтым усе правы і прывілеі польскай шляхты, былі акаталічаны і апалячаны[36]. Гарадская ж сярэдняя і дробная шляхта, па умовах побыту нічым не адрозніваўшаяся ад мяшчан і тысячамі ніткаў радства звязаная з беларускім народам і яго культурай, хоць і перайшла ў каталіцызм, але адасабляла сябе ад этнічных палякаў і была прасякнута беларускімі ідэямі і сімпатыямі. Пісьменнік 1840-х гг., выхадзец са шляхты Ян Чачот сведчыў аб тым, што дзяды яго пакалення аддавалі яшчэ перавагу беларускай мове[37].

Большасць мяшчан-беларусаў, ніжэйшае і сярэдняе праваслаўнае і ўніяцкае

---

[33] Статистическое изображение городов и посадов Российской империи по 1825 г. СПб., 1839. С. 95.

[34] Біч М. В. Праблемы беларускага адраджэння: Гісторыя і сучаснасць // Беларусістыка. Незалежнасць Беларусі: Актуальныя праблемы — шляхі іх вырашэння. Мн., 1993. С. 126.

[35] Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985. С. 167—168.

[36] Головацкий Я. Черты домашнего быта русских дворян на Подляшье. Вильна, 1888. С. 31.

[37] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 341.

духавенства, нягледзячы на польскі ўціск, захоўвалі асноўныя кампаненты традыцыйнай беларускай культуры, што забяспечвала этнаэвалюцыйнае развіццё беларускай супольнасці ў гарадах.

Пасля далучэння да Расіі ў 1796 г. царскім урадам была ўведзена так званая «мяжа яўрэйскай аседласці», у якую на Беларусі ўваходзілі Полацкая, Магілёўская, Мінская губерні. Пазней у яе былі ўключаны Гродзенская і Віленская. У гарадах гэтых губерняў яўрэі маглі займацца гандлем і рамяством, запісвацца ў мяшчанства і купецтва. Прадстаўнікам кагалаў дазволена было ўваходзіць у магістраты, соймікі і сойм[38]. З XVIII ст. яўрэі-рамеснікі аб'ядноўваліся ў свае ўласныя цэхі, якія канкурыравалі з хрысціянскімі цэхамі. Вузкі мясцовы рынак, абмежаваны ў асноўным тэрыторыяй горада (паколькі запрыгоненае сялянства не мела патрэбы ў вырабах гарадской рамесніцкай прамысловасці), абвастраў барацьбу паміж яўрэямі і мяшчанамі-хрысціянамі. Антыяўрэйскі рух у гарадах Беларусі прыняў форму выступленняў магістратаў, соймікаў, рамесніцкіх цэхаў з хадатайніцтвамі і праектамі аб абмежаванні правоў яўрэйскага насельніцтва, якое ў пачатку XIX ст. стала пераважаючым сярод гарадскіх жыхароў.

Значную ролю ў павелічэнні колькасці яўрэяў у гарадах і мястэчках Беларусі адыграла ўрадавая пастанова 1827 г. аб забароне яўрэям пражываць у сельскай мясцовасці[39]. Паступова яўрэі занялі асноўнае месца ў гарадскім і замежным гандлі, адкупах, падрадах, буйнай арэндзе, браварнай справе, гарадскіх рамёствах.

Значную долю гарадскіх жыхароў заходняй і паўночна-заходняй Беларусі складалі татары, якія пражывалі тут з XV—XVI стст. Звычайна яны займаліся агародніцтвам, апрацоўкай скур, возніцтвам.

Беларуская частка гарадскога насельніцтва займалася рамёствамі, агародніцтвам, земляробствам. З развіццём капіталізму большасць гараджан-беларусаў пайшла працаваць на фабрыкі і заводы, склаўшы асноўную масу чорнарабочых і наймітаў.

У першай палове XIX ст., калі галоўным элементам спосабу вытворчасці заставалася прыгоннае феадальнае памесце, не было шырокай базы для росту гарадоў. З-за слабага развіцця прамысловасці і разбурэнняў, нанесеных напалеонаўскім нашэсцем, працэсы ўрбанізацыі працякалі марудна, хаця тэмпы росту колькасці гарадскіх жыхароў, у асноўным за кошт прытоку яўрэйскага насельніцтва, былі даволі высокімі. У 1825 г. гараджане складалі ўжо 5,2% усяго насельніцтва Беларусі[40]. У гэты час на тэрыторыі Беларусі было 4 губернскія і 34 павятовыя цэнтры, 4 заштатныя гарады і звыш 290 мястэчкаў[41]. Пераважная большасць павятовых і заштатных гарадоў уяўляла сабой невялікія паселішчы з дробнымі саматужна-рамесніцкімі прадпрыемствамі, якія забяспечвалі гаспадарчыя патрэбы гараджан і навакольнага сельскага насельніцтва і з'яўляліся класічным узорам правінцыяльных гарадоў з напаўвясковым ладам жыцця. Саматужна-рамесніцкія заняткі забяспечвалі пражытачны мінімум толькі часткі іх жыхароў, таму большасць насельніцтва вымушана была займацца агародніцтвам і земляробствам, якое складала асноўную крыніцу існавання[42]. Даволі значная частка гарадской беднаты жыла ў асноўным на выпадковыя заработкі на будоўлях, пагрузачна-

---

[38] Сосіс І. Яўрэі на Беларусі // Спадчына. 1992. № 2. С. 80.

[39] Этнаграфія беларусаў. Мн., 1984. С. 146.

[40] Рындзюнский П. Г. Городское население // Очерки экономической истории России первой половины XIX в. М., 1959. С. 325.

[41] Гісторыя БССР. Т. 1. С. 499.

[42] Плиско Н. М., Козлов Л. Р. Кобрин: Историко-экономический очерк. Мн., 1987. С. 31.



43. Ліда. Від на горад з ракі Ліда. Пачатак XX ст.

разгрузачных работах, возніцтве, на даходы ад дробнага рознічнага гандлю.

Забудова гарадоў была пераважна драўлянай. Звычайна вуліцы радыяльна сыходзіліся да цэнтральнай гандлёвай плошчы з царквой, касцёлам і муравanымі дамамі гарадскіх багацеяў з некалькімі паверхамі. Забудова мястэчак і малых гарадоў была амаль цалкам драўлянай, а мяшчанскае жыллё ў сваёй большасці тоесным вясковаму[43].

Вадаправоднай вадой нават у буйных гарадах у дастатковай колькасці забяспечваўся толькі цэнтр. Жыхары ўскраін карысталіся рачной вадой або вадой з прымітыўна зробленых студняў. Толькі 5—6 найбольш буйных гарадоў у канцы стагоддзя мелі каналізацыю і біялагічную ачыстку. Звычайна ж большасць адкідаў спускалася ў раку, канавы і паглынальныя калодзежы.

Вуліцы ўскраін у вячэрні і начны час амаль не асвятляліся, былі незабрукаванымі. Вясной і восенню тут стаяла непралазная гразь.

Цэнтрамі грамадскага жыцця невялікіх гарадоў служылі царква (ці касцёл) і рыначная плошча з крамамі, дзе штотыднёва збіраліся базары і адзін—два разы ў год кірмашы, а таксама карчма, якая служыла для гарадской беднаты не толькі піцейнай установай, але і своеасаблівым клубам, куды сыходзіліся для вырашэння дзелавых спраў, абмену навінамі, гульні ў карты. Каля карчмы мяшчанская моладзь часта бавіла час і танцавала[44].

Насельніцтва буйных гарадоў уяўляла сабой кангламерат розных саслоўных групаў. Тут жылі дваране, чорнае і белае духавенства, розных рангаў чыноўнікі, гільдзейскае купецтва, інтэлігенцыя, мяшчане і выхадцы з сельскай мясцовасці — сяляне.

Самай шматлікай групай гараджан былі мяшчане. Гэта саслоўе складалася ў асноўным з дробных домаўладальнікаў, гандляроў, рамеснікаў, утвараючы дробнабуржуазнае насельніцтва гарадоў. З развіццём капіталізму ў мяшчанскім саслоўі

[43] Гурков В. С. Интернационализация материальной культуры // Этнические процессы и образ жизни. Мн., 1980. С. 137.

[44] Шпилевский П. И. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. СПб., 1858. С. 36, 137.



44. Барысаў. Від мяшчанскай слабодкі. Да 1917 г.

інтэнсіўна ішло сацыяльнае расслаенне: побач з напаўпралетарскімі элементамі ўсё больш выразна выяўлялася буржуазная вярхушка і люмпен.

Большасць мяшчан мелі свае дамы з 1—2 невялікімі пакоямі. Акрамя жылой хаты сядзіба ўключала некалькі хлявоў, клецьં (амбар), гумно, двор, сад, агарод, а часта і ўчастак ворыўнай зямлі. Адна ад другой сядзібы аддзяляліся суцэльным ланцугом гаспадарчых пабудоў ці драўлянымі платамі. Дамы выходзілі на вуліцу тарцовай або падоўжанай сцяной з вокнамі. Двор ад вуліцы адгароджваўся высокім шчыльным плотам або замётам з бярвення з каліткай і варотамі. Жылая хата рамесніка, часцей за ўсё, служыла адначасова і майстэрняй, дзе выкарыстоўвалася падсобная праца членаў сям'і. Тут жа зімой трымалі маладняк хатняй жывёлы, а ў вялікія маразы і курэй. Толькі ў больш багатых мяшчан хата падзялялася на чыстую і гаспадарчую палавіну, мела драўляную падлогу. У такой хаце печ размяшчалася ў гаспадарчай палавіне або ў сенцах.

Да гарадской вярхушкі адносіліся памешчыцка-дваранскае насельніцтва, буйныя чыноўнікі, банкіры, багатыя купцы, якія жылі ў асабняках, пабудаваных па еўрапейскаму ўзору. Праслойку інтэлігенцыі складалі мастакі, архітэктары, урачы, вучоныя, музыканты, настаўнікі, сярэдняе духавенства і чыноўніцтва, якія былі забяспечаны гадавым утрыманнем або жылі на даходы з маёмасці[45]. Гэта катэгорыя гараджан таксама мела свае прыватныя дамы ці здымала кватэры з некалькіх пакояў ў цэнтры горада.

У канцы XVIII — пачатку XIX ст. яшчэ захоўвалася феадальная рэгламентацыя грамадскіх паводзін гарадскіх жыхароў, ступень якой залежала ад прыналежнасці да пэўнага саслоўя ці сацыяльнай групы. Напрыклад, пачэсныя грамадзяне, прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, буйныя прадпрымальнікі мелі права будаваць загарадныя дамы і

[45] Кошелев В. В. Медико-топографическое описание города Могилёва на Днепре // Дис. ... д-ра мед. наук. СПб., 1901. С. 30.

мець карэты, запрэжаныя двойкай або чацьвёркай коней, купцам 1-й гільдыі дазвалялася мець карэту з двойкай коней, купцам астатніх гільдый забаранялася мець карэты, а гандляры 3-й гільдыі маглі запрагаць у вазок толькі аднаго каня[46]. Асобныя групы гараджан карысталіся прывілеямі і ў юрыдычным плане. Пачэсныя грамадзяне, купцы 1-й і 2-й гільдый не падлягалі цялеснай кары. Прадстаўнікі ж сярэдняй і дробнай шляхты маглі быць пакараны, але толькі на падсцілцы.

Найбольшай рэгламентацыі быў падвержаны грамадскі быт рамеснікаў і купцоў, аб'яднаных у цэхі. Члены цэхаў як у вытворчых, так і бытавых паводзінах былі строга падпарадкаваны артыкулам цэхавага статута. У абавязковым парадку яны павінны былі з'яўляцца на цэхавыя сходы і не выказваць іх змест; уносіць на патрэбы цэха пэўную суму грошай і выплачваць падаці на гарадскія патрэбы (рамонт вуліц, ратушы, пабудову мастоў і інш.); несці ўзброеную начную вахту пры гарадскіх брамах і магістраце; прымаць удзел у пахаванні нябожчыкаў з ліку членаў цэха і апекаванні іх сем'яў, рэлігійных і цэхавых святах, абрадах і гэтак далей.

Але традыцыйна-кансерватыўны лад цэхавага жыцця пад уздзеяннем мануфактурызацыі гарадской вытворчасці з другой паловы XVIII ст. пачынае дэфармавацца, а ў працэсе развіцця капіталістычных адносін зусім распадаецца. Вучні, чаляднікі, падмайстры паступова пераходзяць у катэгорыю наёмных рабочых. У першай палове XIX ст. у рамеснікаў знікаюць карпаратыўныя прафесійныя абрады, перастаюць праводзіцца тэатралізаваныя цэхавыя шэсці ў час рэлігійных святаў, развальваецца сістэма грамадскай еднасці і ўзаемадапамогі.

[46] Церашковіч П. У. Грамадскі быт і духоўная культура ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. // Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. Мн., 1990. С. 44.

Змене формаў грамадскага жыцця гарадоў садзейнічаў пачатак выдання ў другой палове XVIII ст. газет, часопісаў, мясцовых календароў, адкрыццё друкарняў, школ і вучылішчаў.

З самага пачатку палітыка Расіі на Беларусі насіла выразна каланіяльны характар і вызначалася ўвядзеннем рускага заканадаўства, рускага адміністрацыйнага падзелу і мовы. Секвестраваныя маёнткі магнатаў і шляхты, не прыняўшых прысягі, разам з новымі казённымі землямі былі раздадзены буйным расійскім вяльможам, якія працягвалі жыць у Пецярбургу. Атрыманымі велізарнымі маёнткамі яны кіравалі праз яўрэйскіх і польскіх арандатараў[47], драўшых сем скур з запрыгоненага сялянства.

У падатнае саслоўе была пераведзена частка дробнай шляхты, якая не мела даказальных дакументаў на дваранства. Было распушчана 30-тысячнае войска Вялікага княства. Страціўшы службу, мноства прафесійных салдат і афіцэраў аказаліся на палажэнні жабракоў і былі ў 1795 г. па ўказу Кацярыны II адпраўлены на вечнае пасяленне ў Екацерынаслаўскае намесніцтва[48].

У адрозненне ад Расіі, падаткі і павіннасці ў беларускіх і літоўскіх губернях да 1811 г. збіраліся не ў асігнацыях, а ў металічнай манеце (золаце і серабрэ). Па існаваўшаму тады неафіцыйнаму курсу за 100 руб. асігнацыямі давалі 22 руб. серабром. Царскі ўрад проста выбіраў на гэтых землях золата і серабро па цане бумажных грошай. Такім чынам, у Беларусі і Літве падаткі аказаліся ў 4—5 разоў вышэйшымі, чым у Расіі[49], што падрывала мясцовую гаспадарку і вызывала недавольства ў асяроддзі гараджан і сялянства, якое праявілася ў час вайны 1812 г.

[47] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 248.

[48] Тарасов К. И. Память о легендах. Белорусской старины голоса и лица. Мн., 1984. С. 131—132.

[49] Там жа. С. 132.

З далучэннем да Расіі былі ўведзены і рэкруцкія наборы, успрынятыя народам як адна з найвялікшых бедаў. У рэкруты бралі мужчын ва ўзросце 19—35 гадоў. Тэрмін службы да 1834 г. складаў 25 гадоў, з 1834 г. — 20 і толькі ў 1856 г. быў скарочаны да 15 гадоў. Звычайны ваенны набор патрабаваў 1 чалавека з 500 душ, але звычайна бралі 4—5 рэкрутаў, таму за першае дзесяцігоддзе XIX ст. да пачатку франка-рускай вайны беларускія землі выставілі ў рускую армію больш за 130 тыс. салдат, не лічачы шляхты, якая папаўняла яе афіцэрскі корпус. Купцам і яўрэям давалася права ўносіць замест рэкрута грошы[50].

У 1801 г. у Расійскай імперыі была праведзена новая губернская рэформа, згодна якой беларускія землі ўвайшлі ў склад 5 губерняў. Магілёўская і Віцебская губерні склалі Беларускае, а Віленская, Гродзенская і Мінская — Літоўскае генерал-губернатарства. Да 1840-х гг., пакуль канчаткова не ўсталяваўся адміністрацыйны падзел, Беларусь некалькі разоў перакройвалася на губерні, паветы.

Геастратэгічнае палажэнне Беларусі рабіла яе заходнім фарпостам Расіі, і царскі ўрад, улічваючы нарастаючую пагрозу напалеонаўскай агрэсіі, пачаў тут энергічнае добраўпарадкаванне шляхоў зносін і будаўніцтва ваенных умацаванняў. У 1803 г. былі закончаны работы па рэканструкцыі Агінскага канала, які злучыў басейны Дняпра і Нёмана, а ў 1806 г. адчынілася судаходства па Бярэзінскім канале, які злучыў басейны Дняпра і Заходняй Дзвіны. У 1807 г. пачалі будаваць Бабруйскую крэпасць, разлічаную на ўтрыманне 23—25-тысячнага гарнізона, вялося будаванне паштовых станцый і прамых, шырокіх паштовых дарог з прарытымі абапал канавамі, за якімі ў два рады высаджваліся бярозы. Праўда, выгоды, якія прадстаўлялі падарожнікам тагачасныя паштовыя станцыі, былі невялікімі. Прафесар Віленскага ўніверсітэта Іёзаф Франк, які ў пачатку XIX ст. спыняўся на паштовай станцыі ў Жырмунах, пісаў у сваіх «Мемуарах»: «Наглядчык станцыі, ці, дакладней, пісар, аддаў у наша распараджэнне адзіны пакой, які тут быў. Паклаліся мы спаць на падлозе — на саломе і на сене, спажыўшы скромную вячэру...»[51]. Але ўжо ў 1851 г. рускі пісьменнік і цэнзар Д. І. Мацкевіч, едучы з Пецярбурга ў Кіеў, прыкмеціў у ваколіцах Гарадка і Віцебска «некалькі выдатных мураваных станцыйных дамоў»[52].

Колькасць паштовых коней, якія выдаваліся на станцыях, залежала ад рангу падарожніка. Капітаны ездзілі двойкай, палкоўнікі — чацвёркай, генералы — шасцеркай[53].

У Беларусі, значную частку тэрыторыі якой пакрывалі лясы і зарослыя кустамі балоты, вялікую небяспеку складалі разбойнікі, грабіўшыя, а часам і забіваўшыя падарожнікаў. Колькасць разбойнікаў павялічвалася пасля войнаў і падаўлення паўстанняў, таму ў мясцовасцях з паганай славай урадавая адміністрацыя выдзяляла падарожнікам узброенае суправаджэнне. «Пры ўездзе ў лес, — пісаў адзін з расійскіх чыноўнікаў, які праязджаў па Беларусі пасля падаўлення паўстання 1830 г., — фурман зайграў на ражку і з'явіліся двое верхавых... Гэта былі старажы, абавязаныя суправаджаць падарожнікаў»[54].

Прыгонныя сяляне амаль ніколі не бывалі далей бліжэйшага мястэчка ці гарадка, куды ездзілі на кірмашы. Выезд у горад шляхты сярэдняй рукі таксама складаў значную жыццёвую падзею, па-

[50] Тарасов К. И. Память о легендах. С. 132—133.

[51] Цыт. па кн.: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980. С. 95.

[52] Там жа.

[53] Там жа.

[54] Записки А. И. Кошелева. Русское общество 40—50-х годов XIX в. Ч. I. М., 1991. С. 71—72.



45. Ліда. Чыгуначны вакзал. Пачатак XX ст.

колькі патрабаваў забеспячэння рознымі рэчамі і дробязямі. Вось як з гумарам апісваў дарожныя зборы шляхціца ўраджэнец вёскі Ключкі пад Бялынічамі Магілёўскай губерні Зянон Фіш, які пад псеўданімам Тадэвуш Падаліца выдаў у 1850-х гг. на польскай мове некалькі кніг паэзіі і дарожных нарысаў: «Увесь дом працуе на адну павозку, ужо за два тыдні перад дарогай пачынаюць таўсцець людзі, адпасвацца коні; рамантуецца вупраж, і павозка перад кузняй узмацняецца рознымі акоўкамі, клямарамі і шрубамі. Пякуцца булкі, робяцца свежыя каўбасы, сквірчыць тушаная капуста з мясам, мыецца бялізна, нарэшце павозка пад'язджае пад ганак, засупоньваюцца клункі, мяшкі, чамаданы... Набрынялая брычка стаіць паважна, і вось перакормленыя коні ўпрагаюцца ў яе, таксама перакормленыя людзі запаўняюць яе чэрава. Высыпае чэлядзь... скрыпяць дзверы, бегаюць пакаёўкі, яшчэ пакуюць у брычку нейкія клункі; урэшце тоўсты ягамосць с цыбуком, палачкай, ружжом і капшуком залазіць, нібы душа ў цела, у нутро, развітваюцца падарожнікі, і на вачах ўсіх павозка выкочваецца з дзядзінца»[55].

Будаўніцтва дарог і каналаў садзейнічала ўключэнню ў рыначныя зносіны глыбінных раёнаў. Павелічэнне беззямельнага насельніцтва, рост гарадскіх мануфактур і купецкіх прадпрыемстваў выклікалі павелічэнне попыту на сельскагаспадарчыя прадукты і сыравіну. Аднак рыначныя сувязі гарадоў з феадальнай вёскай не былі пастаяннымі. Як і раней, асноўнай формай гандлю былі кірмашы, якія адыгрывалі вялікую ролю ў грамадскім і культурным жыцці як гарадскога, так і вясковага насельніцтва.

[55] Цыт. па кн.: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. С. 90.

У Гродзенскай губерні ў першым дзесяцігоддзі XIX ст. збіралася да 106 кірмашоў, у Магілёўскай і Віцебскай 75—80[56]. Кантрактовы кірмаш у Мінску іграў важную ролю ў розных маёмасных аперацыях дваранства Літвы, Беларусі, Украіны. Тут заключаліся здзелкі па куплі, продажу, закладу, здачы ў арэнду маёнткаў і іншай нерухомай маёмасці, а абароты грашовых сродкаў дасягалі 1 млн руб.[57]

Памешчыцка-шляхецкае саслоўе ў гэты час ужо ў поўнай меры ацаніла выгады і зручнасці еўрапейскай моды і ладу жыцця, прыцягальнасць раскошы. На месцы спадчынных халупаў багатая шляхта пачала будаваць сядзібна-паркавыя комплексы, якія адпавядалі заходнееўрапейскім узорам сядзібнай архітэктуры. Пашырэнне еўрапейскай моды вызвала рост патрэб дваранства і вярхоў гарадскога насельніцтва ў прадметах раскошы, заходнееўрапейскай галантарэі.

Карыстаючыся вялікім з'ездам памешчыкаў і шляхты, якія былі пакупнікамі прамысловых тавараў, на кантрактовыя кірмашы ў пачатку XIX ст. прыязджала шмат купцоў з Варшавы, Кёнігсберга, Данцыга. У імпарце на першым месцы стаялі суконныя і шаўковыя тканіны, значнае месца займалі тавары, разлічаныя выключна на дваранства і вярхі гарадскіх жыхароў[58].

Паляпшэнне стану шляхоў зносін і скасаванне мытняў на беларуска-рускай мяжы садзейнічалі пашырэнню гандлёвых сувязей беларускіх гарадоў, адкрыццю ў іх прамысловых прадпрыемстваў з вольнанаёмнай працай, росту гарадскога насельніцтва, абумовілі пазітыўныя зрухі ў яго культурным і грамадскім жыцці. Але гэты перыяд быў вельмі кароткім. Франка-руская вайна (1812) дашчэнту вынішчыла пачаўшую аднаўляцца эканоміку. Напачатку напалеонаўскія войскі сустрэлі на Беларусі гасцінны прыём у гарадах і вышэйшых класах грамадства, паколькі паланізаванае дваранства не магло прымірыцца са стратай дзяржаўнасці і пазбаўленнем палітычных правоў, а гараджане звязвалі з французамі надзеі вызваліцца ад надзвычай цяжкай сістэмы падаткаў, усталяванай рускім урадам. Ва ўсіх гарадах Беларусі праходзілі ўрачыстасці ў гонар Напалеона і яго войск. Мінскае гарадское кіраўніцтва, напрыклад, сустракала французаў за 2 мілі ад горада. Магілёўскі праваслаўны епіскап Варлаам прынес Напалеону прысягу, ва ўрачыстых набажэнствах у магілёўскіх цэрквах памінался яго імя. Нават беларускае сялянства, якое было абкладзена амаль удвая большымі падаткамі, чым пры Польшчы, перашкаджала адыходу рускіх войскаў і не дазваляла ім знішчаць харчовыя прыпасы.

З прыходам французаў у Вільні быў створаны часовы ўрад пад кіраўніцтвам маршала Станіслава Солтана, які адразу ж далучыўся да Варшаўскай канфедэрацыі (новага польскага ўрада, створанага пры заняцці Напалеонам Польшчы). Літоўскі ўрад звяртаўся да народаў Польшчы, Літвы і Беларусі з заклікам аб'яднацца для стварэння адзінай свабоднай дзяржавы. Па меры руху французаў радавітае дваранства абвяшчала пра сваё далучэнне да канфедэрацыі. У кожнай губерні ствараліся свае часовыя ўрады, якія аб'ядноўвалі сваю дзейнасць з літоўскім урадам, заснаваным у Вільні[59].

---

[56] Чепко В. В. Роль ярмарок в торговле Белоруссии в первой половине XIX в. // Вопросы истории. Межведомственный сборник. Мн., 1978. Вып. 5. С. 123.

[57] Зеленский М. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. СПб., 1864. Т. 1. С. 381.

[58] Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся. СПб., 1855. С. 297.

[59] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 250—252.

З пачаткам вайны ў многіх мясцовасцях сяляне, чакаючы ад Напалеона адмены прыгоннага права (як у Польшчы, дзе сяляне атрымалі волю ў 1807 г.), пачалі адмаўляцца ад павінавення памешчыкам. Аднак, абвясціўшы сябе вызвалiцелем Беларусі і Літвы «ад рускага іга», той, тым не менш, патрабаваў усе недаімкі ранейшай адміністрацыі, прадукты харчавання і фураж для французскай арміі і рэкрутаў у арганізуемае беларуска-літоўскае войска. Былі ўведзены падаткі з даходаў: напояў, рыбы, масла, тытуню і інш. Страшэнныя памеры набылі паборы натурай. Зразумела, што такая палітыка выклікала розныя меры супраціўлення: ад масавага сялянскага сабатажа паставак харчавання для напалеонаўскіх войск да партызанскіх метадаў барацьбы з акупантамі[60]. Напалеонаўская аванцюра непамерна дорага абышлася Беларусі. Зноў беларускі народ быў расколаты на дзве часткі: адна ваявала на баку Расіі, другая — Напалеона. Народная гаспадарка была зруйнавана, гарады і вёскі разрабаваны. Аднак перамога рускай арміі і яе трыумфальны паход на Парыж склаў перадумовы пачатку новага эканамічнага адраджэння краю на аснове ўсё больш цесных эканамічных сувязей з Расіяй.

З 30-х гг. на Мінскім і Зэльвенскім кантрактовых кірмашах ужо пераважалі тавары, прывезеныя з Масквы, Ніжняга Ноўгарада і іншых расійскіх гарадоў. Такое ж перамяшчэнне гандлёвых сувязей з захаду на ўсход назіралася на ўсіх буйных кірмашах Беларусі[61].

На кантрактовых кірмашах («кантрактах»), якія праводзіліся ў губернскіх і павятовых гарадах, акрамя аптовых гандлёвых здзелак памешчыкі і купцы наймалі на службу эканомаў, пісараў, прыказчыкаў, заключалі дагаворы з падрадчыкамі і пастаўшчыкамі сыравіны, сельскагаспадарчых прадуктаў. Кожны год «кантракты» пачыналіся ў адзін і той жа дзень і працягваліся звычайна тыдзень[62].



46. Пінск. Рынак. Да 1917 г.

З самых дальніх куткоў павета на «кантракты» з'язджалася каларытная мясцовая шляхта: «правінцыяльныя снобы ўсіх магчымых парод, франты ў венгерках і шарачковых сурдутах, ... фраках даўно мінулых гадоў з аблавухімі шапкамі без казыркоў і з імі»[63]. Вечарамі на сабраныя ўскладку шляхецкія грошы наладжваліся танцавальныя вечары, так званыя «рэуты» або «рэсурсы», дзе «пад гукі полек, кракавякаў, кадрыляў, мазурак вырашаўся лёс не адной палескай паннначкі»[64]. Такім чынам у невялікіх гарадах «кантракты» з поспехам замянялі «благародныя сходы» і служылі месцам

[60] Тарасов К. И. Память о легендах. С. 136—142.
[61] Чепко В. В. Роль ярмарок в торговле Белоруссии в первой половине XIX в. С. 124.
[62] Церашковіч П. У. Грамадскі быт і духоўная культура ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. С. 48.
[63] Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю // Современник. 1853. Т. 2. С. 10.
[64] Там жа. С. 11.



47. Мінск. Вуліца Школьная. 1902—1903 гг.

афіцыйных знаёмстваў шляхецкай і мяшчанскай моладзі.

Звычайна ў час кірмашоў у горадзе давалі спектаклі трупы губернскіх тэатраў або вандроўных акцёраў, у балаганах выступалі камедыянты і іншыя «штукары», калі-нікалі прыязджаў перасоўны цырк, цыгане вадзілі мядзведзяў, пацяшаючы публіку фокусамі і скокамі[65]. Тут жа працавалі шынкі і чайныя, дзе ігралі ансамблі музыкантаў (звычайна скрыпка, цымбалы, бубен), працавалі каруселі, уразнос гандлявалі баранкамі, пернікамі, арэхамі, цукеркамі і іншымі ласункамі. Усё гэта ўносіла навізну і разнастайнасць у жыццё гараджан. На кірмаш прыходзілі не толькі за пакупкамі, але і для забаў. Баўленне часу на кірмашах было любімым заняткам мяшчан, рамеснікаў, жыхароў рабочых ускраін і прыгарадных вёсак.

На традыцыйныя нядзельныя гарадскія таргі таксама з'язджаліся сяляне і шляхта з навакольных сёлаў, вёсак, засценкаў. Ужо на досвітку на гарадскіх вуліцах сялянскія падводы пераймалі і амаль сілком стараліся затрымаць яўрэі і яўрэйкі, каб да базару па больш таннай цане купіць няхітрыя іх тавары: пяньку, лён, палатно, збожжа. Рыначная плошча з самай раніцы запаўнялася сотнямі калымаг, вазоў і калёс з прадуктамі харчавання, прадметамі хатняга начыння, вырабамі вясковых промыслаў, насеннем. У час торгу, які цягнуўся з раніцы да вечара, тут можна было сустрэць гараджан усіх саслоўяў: прыцэньваліся да тавараў і крыкліва таргаваліся з гаспадарамі звычайна нічога не купляўшы маладыя шляхцічы, мітусіліся яўрэі, снавалі ў натоўпе чарнавалосыя смуглыя цыгане, паважна вялі гандаль спакойныя сур'ёзныя татары, павольна прагульваліся паміж гандлёвых радоў узяўшыся за рукі святочна прыбраныя мяшчанскія дзяўчаты. Ні адзін

[65] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, ф. 6, воп. 12, спр. 21-а, л. 28.

кірмаш не абыходзіўся без вясковых музыкантаў з самаробнымі скрыпкамі і бубнамі, да якіх у другой палове XIX ст. далучылася гармонь, вандроўных фокуснікаў («штукароў») і жабракоў («старцоў»), спяваўшых гістарычныя песні і духоўныя псалмы пад акампанемент ліры, дуды, скрыпкі. На таргах і кірмашах сутыкалася вялікая колькасць людзей, якія належылі да розных этнасаў, сацыяльных групаў, мясцовасцей; гэта яўляла сабой унікальнейшы механізм этнакультурнага ўзаемадзеяння. На кірмашах і базарах не толькі адбывалася купля тавараў, але і ўсталёўваліся трывалыя сувязі гараджан з навакольным вясковым насельніцтвам, што садзейнічала пашырэнню і ўмацаванню дружалюбных адносін паміж сялянамі і жыхарамі гарадоў, прадстаўнікамі розных этнасаў, выпрацоўцы ў іх агульных густаў, пранікненню ў вёску гарадскога стылю паводзін, звычак, моды і культурных навыкаў.

Разам з тым, на базарах і кірмашах як нідзе праяўляліся нацыянальныя рысы характару людзей, іх часам несвядомыя псіхалагічныя ўстаноўкі ў адносінах да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Як заўсёды, найбольш ярка і непасрэдна гэта праяўлялася ў адносінах дзяцей. Звычайна дзеці гарадской яўрэйскай беднаты, жыўшыя ў страшэннай нястачы, снуючы паміж сялянскімі вазамі, стараліся сцягнуць то жменю сена, то горстку жыта, а калі пашанцуе, то яйка ці кавалак сала, дражнілі малалетніх стражаў, якія пільнавалі разложаныя на вазах для продажу сямейныя здабыткі: «Мужык — хам, хадзі к нам...», а тыя ніколі не заставаліся ў даўгу[66].

У канфліктныя моманты бытавых зносін негатыўныя міжнацыянальныя ўстаноўкі часам праяўляліся і ў дарослых, але звычайна далей лаянкі справа не заходзіла[67].

У адрозненне ад рускіх гарадоў, якія не ведалі магдэбургскага права, а гарадское насельніцтва было запрыгонена і падпарадкоўвалася жорсткай цэнтралізаванай уладзе, да моманту далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў беларускіх гарадах існавалі ўжо шматвяковыя традыцыі самакіравання, якія абапіраліся на прывілеі і агульную прававую адказнасць гараджан. Органам гарадскога самакіравання з часоў атрымання гарадамі магдэбургскага права з'яўляўся магістрат-рада. У склад гарадскіх магістратаў уваходзілі прадстаўнікі гарадскога купецтва, цэхмістры, багатыя майстры. Рада ведала ўсім жыццём горада і з'яўлялася распарадчыкам, выканаўчым і судовым органам.

Кантроль за гарадской казной, абгрунтаванасцю рашэнняў магістрата-рады паісках і скаргах гараджан выконвала спецыяльная камісія («мужы абшчыны»), якая выбіралася з найбольш паважаных і ўплывовых людзей горада[68].

Судовыя функцыі магістрата з XVII ст. выконваў бурмістраўска-радецкі (магістратны) суд. Паседжанні бурмістраўска-радецкага суда і магістрата праходзілі ў ратушы, якая будавалася на цэнтральнай плошчы горада. Звычайна ў памяшканні ратушы размяшчаліся таксама хлебныя клеці, крамы, захоўваліся гарадскія меры вагі, даўжыні, аб'ёмаў, гарадскі сцяг і іншая атрыбутыка гарадскога самакіравання.

Пасля далучэння да Расіі за магістратам пакідаліся толькі судовыя функцыі і правядзенне рэкруцкага набору, а астатнія абавязкі перакладваліся па расійскаму ўзору на гарадскую думу. Гэты распарадчы орган гарадскога самакіравання быў усталяваны ў рускіх гарадах даро-

---

[66] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 12, спр. 86, л. 38.

[67] Там жа. С. 40.

[68] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1988. С. 14.



48. Мінск. Гарадская ратуша на Саборнай плошчы. Да 1917 г.

ванай Кацярынай II «Граматай на правы, выгады гарадам Расійскай імперыі» (1785).

Згодна з «Граматай», насельніцтва горада падзялялася на 6 саслоўных групаў: 1) уладальнікі дамоў і земляў; 2) купцы трох гільдый; 3) цэхавыя рамеснікі; 4) іншагароднія і замежныя госці; 5) прадстаўнікі буржуазіі і інтэлігенцыі; 6) дробныя гандляры і гарадская бедната. Ад кожнай з названых групаў гараджан выбіраліся дэпутаты («галосныя»), якія фарміравалі склад гарадской думы. Члены гарадской думы выбіралі па аднаму дэпутату ад кожнай групы ў гарадскі выканаўчы орган — шасцігалосную думу. Узначальваў агульную і шасцігалосную думу гарадскі галава, пасада якога зацвярджалася міністрам унутраных спраў.

Права голасу мелі жыхары горада з 25 гадоў, нерухомая маёмасць якіх была абкладзена ацэначным зборам, гаспадары прамысловых прадпрыемстваў і купцы, якія плацілі гарадскія зборы.

Гарадская дума займалася добраўпарадкаваннем сквераў, вуліц і плошчаў, установай на іх асвятляльных ліхтароў, будаўніцтвам калодзежаў, аховай здароўя і народнай асветай, вырашала спорныя справы рамеснікаў і купцоў, выдавала дазволы на адкрыццё прамысловых прадпрыемстваў і крамаў, кантралявала паступленне гарадскіх падаткаў і збораў, фарміравала гарадскі бюджэт і гэтак далей. Крыніцу гарадскіх даходаў складалі паступленні ад прамысловых прадпрыемстваў і арэнды гарадскіх зямель, падаткаў з гасцініц, тракціраў, збораў ад гандлёвых аперацый і інш. Большасць з гэтых паступленняў выкарыстоўвалася на ўтрыманне паліцыі, адміністрацыі, турмы. На народную асвету, ахову здароўя і гарадское добраўпарадкаванне асталіся нязначныя сродкі. Да таго ж любое рашэнне думы магло быць адменена губернатарам.

У грамадскую адміністрацыйна-кіраўнічую дзейнасць у гарадах была ўцягнута нязначная частка нават найбольш прывілеяваных і заможных жыхароў. Да 1870-х гг. гарадское самакіраванне насіла саслоўны характар, які быў падарваны толькі «Гарадавым палажэннем» (1870), дзеянне якога на Беларусь пашыралася з 1875 г. Згодна з ім, у гарадах захоўваліся бессаслоўныя думы, якія выбіраліся гарадскімі плацельшчыкамі падаткаў на 4 гады. Узроставы цэнз складаў 25 гадоў. Выбаршчыкі падзяляліся на тры разрады (сходы), аднолькавыя па суме выплачваемых падаткаў. Кожны сход выбіраў трэцюю частку дэпутатаў, у выніку чаго ў думе пераважалі прадстаўнікі найбольш багатых групаў гараджан, што, па сутнасці, аддавала гарадское самакіраванне ў рукі гарадской вярхушкі і буржуазіі, якія клапаціліся толькі аб добраўпарадкаванні цэнтральнай часткі гарадоў.

Замест шасцігалоснай думы ўводзілася гарадская ўправа пад кіраўніцтвам гарадскога галавы, які быў адначасова старшынёй гарадской думы. Гарадскі галава ў губернскіх гарадах падлягаў зацвярджанню Міністэрствам унутраных спраў, а прынятыя думай пастановы кантралявалі губернская па гарадскіх справах установа і губернатар, якія маглі адмяніць любую з іх. Гэта пераўтварала гарадскія думы і ўправы, па сутнасці, у дапаможныя звенні царскага кіраўнічага апарату.

У 1876 г. выбарчыя правы, напрыклад, атрымалі ўсяго 4,2% жыхароў Мінска. З іх толькі каля 1/5 з'явіліся на выбары, прычым найбольшая частка не прыйшоўшых прыпадала на трэці выбарчы сход[69]. Такім чынам, выбары гарадскога самакіравання не ўносілі прыкметнага ажыўлення ў быт усяго гарадскога насельніцтва, таму што прамысловыя рабочыя, рамеснікі, гандляры, дробныя служачыя і найміты не маглі ўдзельнічаць у іх.

[69] Гісторыя Мінска. Мн., 1967. С. 109.

У 1893 г. у Беларусі было ўведзена новае «Гарадавое палажэнне» ад 1892 г., якое (у ліку іншых «контррэформ» Аляксандра III) яшчэ больш абмяжоўвала кола выбаршчыкаў і ўмацоўвала ў гарадскім самакіраванні пазіцыі дваранства. Згодна з новым «Гарадавым палажэннем», колькасць выбаршчыкаў у гарадах знізілася да 1% і менш. Гарадскія жыхары яўрэйскай нацыянальнасці да ўдзелу ў выбарах не дапускаліся нават пры наяўнасці маёмаснага цэнзу. У гарадской думе іх прадстаўлялі асобы, якія прызначаліся губернскай па гарадскіх справах установай у памеры не больш за 1/10 агульнага ліку галосных[70]. Па контррэформе 1892 г. да выбараў гарадскога самакіравання не дапускаліся не толькі працоўныя, але і значная частка буржуазіі. Пераважную большасць членаў гарадскіх думаў і ўпраў складалі дваране, прадстаўнікі духавенства, паліцэйскага ўпраўлення, урачэбнай інспекцыі і чыноўнікі вышэйшага рангу.

Вызначальным у грамадскім жыцці павятовых гарадоў па-ранейшаму заставаўся дваранскі сход (у яго ўваходзіла і каталіцкая шляхта) на чале з прадвадзіцелем, які прама ўплываў на выканаўчую ўладу горада і павета.

Такім чынам, гарадское самакіраванне ажыццяўлялася прадстаўнікамі гарадской вярхушкі, якія праводзілі работу ў сваіх інтарэсах. Звычайна добраўпарадкоўваўся толькі гарадскі цэнтр, а ўскраіны танулі ў гразі, вуліцы не мелі асвятлення і тратуараў. Палітыка царызму, накіраваная на абмежаванне любой дэмакратычнай дзейнасці, прывяла да таго, што сфера спраў гарадскіх дум і ўпраў стала абмяжоўвацца пытаннямі гарадскога добраўпарадкавання, зрэдку адкрыцця навучальных устаноў, багадзельняў, належных дамоў[71] ды выкананнем розных урадавых прадпісанняў. Гэта пераўтва-

[70] Там жа. С. 134—135.

[71] Гомельский вестник. 15 февраля 1909. № 38.

рыла гарадское самакіраванне ў падабенства дзяржаўнай установы, не даючы грамадскім работнікам прасторы для творчасці і актыўнай дзейнасці.

Акрамя ўстаноў агульнагарадскога самакіравання ў гарадах існавала і самакіраванне па саслоўях, якое ажыццяўлялася мяшчанскай, купецкай і рамеснай управамі, а ў невялікіх гарадах — выбарнымі ад гэтых саслоўяў старастамі і дзесятнікамі. Старастаў выбіралі на агульных сходах грамадзян саслоўя. Саслоўныя ўправы і старасты займаліся раскладкай і зборам грамадскіх і казённых падаткаў, кантралявалі выкананне гараджанамі гарадскіх павіннасцей і ўказаў урада[72]. Таму ў адрозненне ад дзейнасці ўстаноў гарадскога самакіравання, на якія глядзелі як на панскія занняткі, выбары ў органы саслоўнага самакіравання выклікалі ўсеагульную цікавасць і бурныя спрэчкі ў асяроддзі гараджан таго ці іншага саслоўя. Затым грамадскае жыццё ўнутры саслоўяў замірала да наступных выбараў.



49. Віцебск. Грамадзянскі клуб. Пачатак XX ст.

Паколькі дваранства не з'яўлялася гарадскім саслоўем, яго самакіраванне ажыццяўлялася па паветах і губернях. Аднак дваранскія сходы, на якіх выбіралі прадвадзіцеля дваранства і яго памочнікаў, што кіравалі рознымі справамі, адбываліся ў гарадах. На свае сходы дваране з'язджаліся звычайна пасля заканчэння палявых работ, прымяркоўваючы да гэтай падзеі вываз у свет дочак. Прыезджыя дваране і гарадская буржуазна-чыноўніцкая вярхушка рабілі ўзаемныя візіты, наладжвалі балі і званыя абеды. Часам выбары прадвадзіцеля дваранства ў невялікіх гарадах прымяркоўваліся да вялікіх кірмашоў.

З другой паловы XVIII ст. усеагульнае пашырэнне ў гарадах атрымоўвае дваранскі танцавальны баль са сваім строга вызначаным рытуалам з'езду гасцей, праграмай чаргавання танцаў і гэтак далей. Балі сталі своеасаблівай формай грамадскага жыцця дваранска-шляхецкага саслоўя другой паловы XVIII — першай паловы XIX ст. Баль быў месцам свецкага адпачынку, знаёмства моладзі, нефармальных зносін, які змякчаў рамкі службовай чыноўніцкай іерархіі.

Дзяўчын пачыналі «вывозіць у свет» звычайна ў 18 гадоў, калі заканчвалася іх адукацыя. На балі гаспадар дома і яго сыны павінны былі ў абавязковай меры пратанцаваць хаця раз з усімі дамамі, а ўсякі запрошаны малады чалавек — з гаспадыняй ці яе дочкамі, і толькі пасля гэтага ён мог запрашаць да танцаў іншых дам, пачынаючы з тых, у чыіх дамах яго прынімалі.

Усе, хто прыходзіў на баль, павінны былі ўмець танцаваць, бо лічылася вельмі

[72] Сборник указаний правительственных и судебных разъяснений о мещанских и ремесленных управлениях. СПб., 1886. С. 52—55.

непрыстойным зблытаць фігуры кадрылі ці лансье. Дзяўчыны сядзелі на балі каля маці або пажылых гувернанткаў. Ні дамы, ні кавалеры не здымалі на балі пальчатак і ніколі без іх не танцавалі. Не прынята было танцаваць больш за тры разы з адной і той жа асобай, калі гэта афіцыйна не жаніх і нявеста. Ні юнак, ні дзяўчына не падыходзілі да ігральных сталоў, дзе бавілі час сталыя людзі.

У апошнія гады XVIII ст. балі пачалі страчваць элітарны характар. Па свайму сацыяльнаму складу бальная публіка станавілася больш стракатай. На балі пачалі запрашацца багатыя купцы, прадстаўнікі інтэлігенцыі. У 1791 г. у Мінску на балі ўжо дапускаліся мяшчане[73].

Зімою месцам знаёмства і выставы нявест з другой паловы XIX ст. у гарадах служыў «благародны сход», куды штотыднёва сцякалася ўсё маёмаснае гарадское грамадства на танцавальныя сямейныя вечары. У павятовых і заштатных гарадах, дзе звычайна не было пастаяннага клуба, на працягу ўсяго XIX ст. выстава нявест праходзіла, як гаварылася вышэй, у час кірмашоў на «рэсурсах».

Сама мэта выхавання дзяцей у дваранска-чыноўніцкім асяроддзі ў першай палове XIX ст. часцей за ўсё заключалася яшчэ не ў духоўным развіцці дзіцяці, а ў прывіцці яму добрых манер, знешняга лоску, еўрапейскага стылю жыцця. Бацькоў турбавала перш за ўсё думка саставіць сваім дзецям па магчымасці найлепшую «партыю» — як можна выгадней і шчасліва выдаць замуж дачку ці ажаніць сына. Таму з самага ранняга ўзросту іх стараліся навучыць свецкім манерам паводзін і замежным мовам, асабліва французскай, музыцы. Фізічнае выхаванне часта зводзілася да выпрацоўкі выпраўкі шляхам заняцця танцамі. Наогул, прыданне вялікай ролі харэаграфічнаму выхаванню застаўляла дваран з правінцыяльных гарадоў, дзе не заўсёды можна было знайсці танцмейсцера, везці дзяцей для навучання ў губернскія цэнтры. Былі бацькі, якія аддавалі сваіх дзяцей у пансіён выключна для навучання іх танцам[74].

Вялікая ўвага надавалася і музычнаму выхаванню дзяцей, паколькі без музыкі ў прывілеяваных колах гараджан не абыходзіліся званыя вечары, прыёмы гасцей. Часта наладжваліся спецыяльныя музычныя вечары, на якіх гучалі вядомыя арыі з опер, уверцюры, модныя рамансы і вальсы. Складаныя класічныя творы звычайна выконваліся толькі на вечарах, арганізаваных для невялікіх групаў знатакоў.

Уменне іграць на фартэп'яна ўваходзіла ў набор неабходных якасцей нявесты з дваранскага, чыноўніцкага і купецкага саслоўя. Дзяцей з ранняга ўзросту прывучалі іграць і спяваць перад гасцямі. На музычных вечарах звычайна першай за інструмент садзілася дачка гаспадыні. Сама ж гаспадыня спявала ці ігрыла ў сябе на вечары толькі ў тым выпадку, калі больш не было каму акампаніраваць жадаючым спяваць ці іграць танцы.

На вечары, балі і ўрачыстыя прыёмы звычайна запрашалі ўсіх, з кім падтрымлівалі сяброўскія і свецкія адносіны. Для баляў і вялікіх прыёмаў часта друкавалі спецыяльныя білеты, якія рассылалі ўсім знаёмым, нават тым, каму было ўжо зроблена асабістае запрашэнне. Такім жа чынам рабілі адносна білетаў на вяселлі, пахаванні.

На атрыманае запрашэнне на абед або вечар было прынята адказваць візітам ці хаця б пісьмом. На Новы год візіты звычайна рабіліся сваякам, сябрам, знаёмым і начальству. Жанчыны ў гэты дзень заставаліся дома і прымалі навед-

[73] Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. С. 216.

[74] Энгельгардт Л. Н. Записки 1766—1836 гг. М., 1867. С. 49.

16 Зак. 1789

вальнікаў, якія ў святочнай вопратцы пачыналі прыходзіць з 10 гадзін раніцы.

Раніцай у Новы год бацькі пасылалі дзяцей з віншаваннямі да дзеда з бабкай, хросных. Падарункі на Новы год пасылаліся з вечара напярэдадні і самае позняе 1 студзеня. Іх рабілі звычайна старэйшыя малодшым і начальнік сваім падначаленым. Маладыя людзі, якія часта бывалі ў доме, абавязкова дарылі дзецям цукеркі. Калі ж дзяцей не было, то банбаньерку з цукеркамі падносілі гаспадыні дома. Калі прыязджалі з візітам і не заставалі гаспадароў дома, то пакідалі сваю візітную картку, шырока загнутую з левага боку наверх, пры візіце па прычыне смерці ці іншага сумнага выпадку картку загіналі з правага боку ўніз, часам гэты згіб разрывалі.

Узаемныя візіты рабіліся звычайна ў прыёмныя дні не раней двух і не пазней 5—6 часоў вечара і працягваліся 15—20 хвілін. У кожнай заможнай мяшчанскай, а тым больш купецкай або дваранскай сям'і быў свой пэўны круг візіцёраў.

У канцы XIX ст. у буйных гарадах замест узаемных святочных візітаў гарадскія вярхі пачалі арганізоўваць у дваранскіх і афіцэрскіх клубах сустрэчы для ўзаемных урачыстых віншаванняў, у час якіх прысутным прапаноўвалася шампанскае, чай, шакалад, садавіна і цукеркі. Адначасова рабіліся ўзносы на дабрачынныя мэты[75].

У сярэдзіне XIX ст. насельніцтва гарадоў ужо значна адрознівалася ад запрыгоненага сялянства. Мяшчане былі звычайна больш моцнага целаскладу, жылі ў дамах з комінамі, дашчанай падлогай і значна большымі, чым у вёсцы, вокнамі. Хата дзялілася на чыстую, дзе на вокнах стаялі вазоны з кветкамі, і рабочую, дзе гатавалі ежу, займаліся гаспадарчымі ці рамеснымі справамі. Многія дамы былі звонку абчасаныя, а ўнутры атынкаваныя, з трубамі. Двухсхільныя стрэхі крыліся дранкай ці гонтай, на ўскраінах — і саломай. Асвятляліся хаты мяшчан лучынай з хвоі. Каля хаты звычайна быў невялікі дворык, а часта і садок з кветкамі. Амаль у кожным двары быў калодзеж з жураўлём. За хлевам рабіўся сметнік і прыбіральня. Мяшчане брылі бараду і вусы, вучылі дзяцей грамаце і рамёствам, а іх сем'і былі меншымі ў параўнанні з сялянскімі[76].

Інтэр'еры асабнякоў гарадской вярхушкі вырашаліся ў кірунку еўрапейскай моды, абстаўляліся мэбляй чырвонага дрэва. На сценах развешваліся карціны. У сервіроўцы стала лічылася абавязковым старое серабро і дарагі фарфор. Размаўлялі за сталом па-французску, каб іх не разумела прыслуга.

Мужчыны ў дваранскіх і чыноўніцкіх сем'ях свой вольны час праводзілі, часцей за ўсё, па-за межамі сям'і ў «благародным сходзе» за гульнёй у карты і більярд, а таксама ў доме каго-небудзь з калег ці сяброў. Жанчыны выхоўвалі дзяцей, наглядалі за прыслугай, сачылі за нарыхтоўкай прадуктаў, прыгатаваннем ежы, вялі хатнія расходы. У святочныя і выхадныя дні наведвалі з мужам касцёл ці царкву, сваякоў і знаёмых, спектаклі гастрольных тэатральных труп, арганізоўвалі званыя вечары, абеды, урачыстыя прыёмы гасцей.

Быт гараджан, асабліва сярэдніх і ніжэйшых слаёў, быў цесна звязаны з вуліцай. Сярод гарадской моладзі вялікай папулярнасцю карысталіся святочныя гулянні і вячэрнія шпацыры па цэнтральных вуліцах і гарадскіх садах. Асноўным месцам гарадскіх шпацыраў у канцы XIX — пачатку XX ст. у Мінску была Захар'еўская вуліца і Вялікі сквер, у Гомелі — Румянцаўская, Бабруйску — Му-

[75] Виленский вестник. 3 января 1900. № 2.

[76] Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 3. Могилевская губерния. СПб., 1848. С. 60.



50. Мінск. Азоўска—Данскі камерцыйны банк і купецкі клуб. Да 1914 г.

раўеўская, Пінску — Вялікая кіеўская. Але ў вярхах гараджан лічылася непрыстойным, калі дзяўчына, нават са сваёй пакаёўкай ці гувернанткай, гуляла ў натоўпе моладзі альбо стаяла каля ваеннага аркестра. Наведваць гулянні яна магла толькі з бацькамі ці знаёмай сям'ёй. Мяшчане і чыноўнікі шпацыравалі па вуліцы сем'ямі, раскланьваліся і віталіся са знаёмымі, абменьваліся навінамі. Маладыя хлопцы часта прагульваліся сяброўскімі кампаніямі або таксама з бацькамі.

Летнімі вечарамі хлопцы і дзяўчаты са слабод і ўскраін кампаніямі гулялі па сваіх вуліцах або збіраліся дзе-небудзь на лавачцы, бярвеннях каля чыёй-небудзь хаты. Там пад скрыпку, а з другой паловы XIX ст. пад гармонік, спявалі, танцавалі, расказвалі розныя байкі і гісторыі, гулялі ў лапту, гарадкі і іншыя вулічныя гульні. Моладзь з заможных мяшчанскіх сем'яў у гэтых гульнях удзелу не прымала. Аднак у сваіх прыватных садах і дварах хлопцы і дзяўчаты з гэтых сем'яў гулялі ў даганялку, лапту, калыхаліся на арэлях.

Рост прамысловай сферы гарадоў і ўзмацненне капіталістычнай эксплуатацыі надалі з сярэдзіны XIX ст. масавасць загарадным формам летняга адпачынку гараджан. У святочныя дні многія з іх, узяўшы з сабой ежу, сем'ямі або сяброўскімі кампаніямі выязджалі за горад на пікнікі (маёўкі). На маёўкі ездзілі на рамізніках, лодках, хадзілі пешшу. З адпачынкам сумяшчалі збор ягад і грыбоў. Дадому вярталіся вечарам. Гэты від загараднага адпачынку быў характэрны для сярэдніх колаў гарадскіх жыхароў, якія не мелі загарадных дамоў і не арандавалі дачаў. У канцы XIX — пачатку XX ст. маёўкі атрымалі шырокае распаўсюджанне сярод рабочых і пачалі

часта служыць прыкрыццём для правядзення нелегальных рэвалюцыйных сходаў.

У зімовы час самай пашыранай формай баўлення часу ў моладзі былі вечарынкі. У асяроддзі заможных мяшчан, дробных і сярэдняй рукі чыноўнікаў яны вызначаліся вузкім і пастаянным колам удзельнікаў. На вечарынкі бацькі маладых дзяўчат запрашалі дзяцей сваякоў і знаёмых, сяброваk дачок, сем'і якіх добра ведалі. Калі малады чалавек быў мала знаёмы гаспадарам, то папасці на вечарынку яму было амаль немагчыма. Бацькі пільна сачылі за тым, каб усе запрошаныя хлопцы мелі добрыя манеры і сціпла сябе паводзілі. Разам з моладдзю на вечарынкі часта запрашаліся і іх бацькі, якіх гаспадары, пакуль моладзь весялілася, займалі гутаркай, гульнёй у карты або паілі чаем.

На гарадскіх ускраінах у формах баўлення вольнага часу захоўваліся многія вясковыя традыцыі. Круг удзельнікаў вечарынак тут быў значна шырэйшы, моладзь збіралася часам з некалькіх вуліц. Вечарынкі тут арганізоўваліся 1—2 разы на тыдзень у найбольш прасторных хатах, гаспадарам якіх плацілі за памяшканне ўскладчыну. У святы на вечарынкі дзяўчаты прыносілі прысмакі, а хлопцы — семкі і арэхі. У пасты вечарынак не рабілі.

Спецыфічна гарадскога касцюма не існавала. Яшчэ ў Рэчы Паспалітай законамі 1620, 1629, 1655 гг. кожнаму саслоўю прадпісвалася, якое адзенне па колеру і якасці насіць. Яснавяльможныя паны маглі хадзіць у кунтушах і жупанах пунсовага колеру, а дробная шляхта — шэрага. Мяшчанам наогул забаранялася насіць кунтушы, а толькі капоты, дэліі, жупаны адпаведнага саслоўнай прыналежнасці колеру. Але ў XIX ст. пануючае месца ў адзенні гараджан ужо заняў агульнаеўрапейскі гарадскі касцюм.

Вялікае значэнне надавала адзенню дваранска-чыноўніцкая вярхушка гараджан, што скрупулёзна трымалася моды. Жанчына з вышэйшых слаёў павінна была мець не менш як чатыры туалеты: для дома; для дарогі і хадзьбы па крамах; для візітаў, шпацыраў, прыёмаў; для званых абедаў, канцэртаў, тэатра.

Маладыя дзяўчаты ніколі, нават у дзень вяселля, не надзявалі брыльянтаў. Да 20 гадоў яны звычайна насілі ўпрыгажэнні толькі з жэмчугу, каралаў і бірузы. Ізумруды, рубіны і брыльянты насілі толькі замужнія жанчыны. Прычым насіць брыльянты днём нават у самай простай аправе лічылася прыкметай вельмі дрэннага густу.

Адным з асноўных цэнтраў грамадскага жыцця гарадскога і вясковага насельніцтва з'яўлялася царква ці касцёл. На вялікія святы яе наведвалі практычна ўсе дарослыя, акрамя хворых і састарэлых. З царквою былі звязаны і ўсе галоўныя вехі чалавечага жыцця: нараджэнне, вяселле, пахаванне. У горадзе пры наведванні царквы жанчыны і дзяўчаты апраналі касцюмы цёмнага колеру без лішніх упрыгажэнняў (масіўных бранзалетаў, завушніц з дарагімі каменямі і інш.). Выключэнне складалі ўрачыстыя царкоўныя службы — вялікодная ютрань і абедня на Тройцу, калі апраналі светлае адзенне. Замужнія жанчыны не павінны былі наведваць царкву з непакрытай галавой. Усю службу звычайна стаялі, толькі старыя і хворыя маглі сядзець, але абавязкова ўставалі ў галоўныя моманты літургіі: вынас Святых Дароў, пенне «Отча наш» і гэтак далей. Пасля заканчэння абедні падыходзілі цалаваць крыж. З сабой у царкву бралі дзяцей з 6—7-летняга ўзросту.

У вёсцы ў царкву надзявалі самую лепшую святочную вопратку, паколькі там збіраліся сяляне з навакольных вёсак і трэба было не асароміцца, быць «не хужэй за людзей». Збіраючы вернікаў з усяго прыходу, царква, разам з рэлігійнай, выконвала мноства іншых функцый. Царкоўныя службы давалі магчымасць

сустрэч і знаёмстваў, знайсці нявесту ці жаніха, пахваліцца абновай, абмяняцца навінамі[77]. Нярэдка каля царквы рабіліся скамейкі, на якіх здаўна збіраліся па святочным і выхадным дням старыя і сталыя мужчыны[78], а каля царкоўнай агрillады пасля службы бавіла час моладзь, разбіўшыся на кампаніі і групы.

Да сярэдзіны XIX ст. гарадскія каляндарна-царкоўныя святы амаль поўнасцю паўтаралі вясковую традыцыю (ваджэнне «казы», «кабылы», «жорава» на Каляды; арэлі, катанне яек на Вялікдзень; завіванне вянкоў на Тройцу і інш.). З развіццём гарадской прамысловай вытворчасці і тыпова гарадскога ладу жыцця парушаецца строгая рэгламентацыя свят і іх абраднасць, страчваецца магічны бок многіх абрадавых дзеянняў і слоў.

Знаходжанне ў гарадах адміністрацыйных органаў і шматнацыянальны склад насельніцтва таксама разбуральна ўплывалі на нацыянальную самабытнасць каляндарнай абраднасці беларусаў, зберагаючы толькі яе асноўныя вонкавыя рысы. Разам з тым, вялікая колькасць цэркваў і касцёлаў, даволі значная ўдзельная вага сярод насельніцтва чорнага і белага духавенства ўзмацнялі рэлігійны бок гарадскіх святаў. Аднак святочнае жыццё гараджан вызначалася рэзкай сацыяльна-нацыянальнай дыферэнцыяцыяй і замкнёнасцю.

Асноўнымі святамі, якія адзначалі гараджане, былі Каляды, Вялікдзень, Тройца (Сёмуха, Духа), Пятро, Ушэсце, Спас, храмавыя святы і тэзаімяніны членаў царскай сям'і.

Святам усіх святаў на Беларусі лічыўся Вялікдзень, якому папярэднічае 7 тыдняў посту. Вялікапосныя царкоўныя службы ідуць у мала асветленых храмах, святары апрануты ў цёмныя рызы. Толькі ў Вялікую суботу перад Вялікаднём цёмныя аблачэнні ў царкве замяняюцца на светлыя. Велікодная ўсяночная пачынаецца з хрэснага ходу, на вышках званіц у гэты час запальваюцца факелы. Гарадскія і вясковыя жыхары нясуць у гэты дзень у царкву свяціць булкі і паскі, фарбаваныя яйкі і сыры. Святочная ютрань заканчваецца запрашэннем усіх да святочнага стала, які ў той час бываў накрыты ў кожным гарадскім і вясковым доме. Толькі ў вельмі дрэннага гаспадара не было на ім засмажанага парасяці, каўбас, сыраў, паскі, фарбаваных яек, віна і гарэлкі. Самыя бедныя збіралі доўгі час патроху прадукты да гэтага свята і, як бы дрэнна ні жылі, пяклі паску і фарбавалі ў чырвоны колер яйкі. Святочны стол быў накрыты на працягу ўсяго свята. Святкавалі Вялікдзень тры дні: у першы дзень звычайна не выходзілі з дому і праводзілі час толькі сваёй сям'ёй. На другі дзень з'язджаліся сваякі, усе «храстосаваліся» і дарылі адзін аднаму яйкі: фарбаваныя, драўляныя, каменныя і маленькія сярэбраныя і залатыя з прымацаванымі вушкамі. Іх дзяўчаты чаплялі на ланцужок і насілі на шыі.

У прывілеяваных колах гараджан прымалі ў гэты дзень святочных візіцёраў. Кожнага госця частавалі чаркай гарэлкі або віна, аднак знаходзіцца візіцёру ў доме больш 10—15 хвілін лічылася непрыстойным. Павіншаваўшы ўсіх са святам, ён адкланьваўся. З візітамі ездзілі малодшыя да старэйшых, падначаленыя да начальства.

У рабочых, прыслугі, рамеснікаў таксама было прынята ў гэты дзень хадзіць у госці ці прымаць іх у сябе. У зусім бедных святкаванне абмяжоўвалася наведваннем царквы ці касцёла і прыгатаваннем мясных страў[79].

---

[77] Рабинович М. Г. «Домик в Коломне» — картинки из жизни старого русского города // Советская этнография. 1987. № 1. С. 129.

[78] Боцонь Л. А., Минько Л. И. Общественный быт сельского населения // Общественный, семейный быт и духовная культура населения Полесья. Мн., 1987. С. 32—33.

[79] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 1, спр. 296, сш. 1, л. 35; сш. 9, л. 8.



51. Мінск. Аляксандраўскі сквер. 1915 г.

Вечарам хлопцы чалавек па 8—12 хадзілі па хатах з валачобнымі песнямі, у якіх славілі гаспадароў і Вялікдзень. За гэта іх адорвалі каўбасамі, салам, а часам і грашыма. На велікодным тыдні славіць Хрыста па дамах гараджан хадзілі і святары ў час святочных абходаў прыхаджан.

На трэці дзень свята пачыналася вялікае гулянне, і ўсё насельніцтва выходзіла на вуліцы. Моладзь гуляла ў гарэлкі, калыхалася на арэлях, качала фарбаваныя яйкі, спявала пад гармонік ці скрыпку.

Пасля Вялікадня на дзевяты дзень адзначалі Раданіцу (Радаўніцу) — дзень памінання памерлых. У гэты дзень святар служыў на могілках паніхіды. Гараджане засцілалі магілы сваіх продкаў і блізкіх абрусамі, пілі гарэлку, памінаючы добрым словам памерлых. Адыходзячы да дому, крышылі на магілы фарбаванае свянцонае яйка і свянцоную паску.

На Тройцу (Сёмуху, Духа) у гараджан, як і ў вясковых жыхароў, было прынята ўпрыгожваць хату «маем»: галінкамі бярозы, клёна, рабіны, а падлогу ўсцілаць аерам. На вуліцы перад варотамі ставілі ссечаную бярозку. У гэты дзень хадзілі на могілкі.

Урачыста святкавалі Спас, 1-ю і 2-ю Прачыстую, Уздвіжанне, а самым вясёлым і доўгачаканым зімовым святам былі Каляды, якім таксама папярэднічаў шасцітыднёвы Піліпаўскі пост. Вечарамі на гэтыя святы хадзілі ў госці ці прымалі сяброў і сваякоў у сябе. Пажылых і сталых людзей у гасцях частавалі гарэлкай, каўбасамі, смажанай птушкай ці парасяцінай, а маладых жанчын і моладзь — арэхамі, пернікамі, гарбузовымі і сланечнікавымі семкамі[80]. Сталыя гарадскія абывацелі пасля вячэры звычайна гулялі ў гасцях у карты. Моладзь да картаў не дапускалася, а музыцыравала, спявала

[80] Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев на Днепре, 1882. Кн. 1. С. 630.



52. Магілёў. Сад Дзембавецкага. Да 1914 г.

песні, танцавала. Для яе гаспадары наладжвалі асобнае частаванне: чай, варэнне, яблыкі[81].

Значнае месца ў грамадскім быце гараджан займалі масавыя гулянні, якія праводзіліся ў час царкоўных святаў, кірмашоў, з выпадку гадавіны перамогі рускіх войскаў і гэтак далей. Летнія і веснавыя гулянні наладжваліся ў гарадскіх парках і скверах, на плошчах і галоўных вуліцах, часам у прыгарадных гаях. Асабліва масавымі яны былі на Масленіцу і Сёмуху. Праграмы гулянняў былі вельмі разнастайнымі. Наладжваліся феерверкі, іграў ваенны аркестр. Уразнос гандлявалі бублікамі, пернікамі і разнастайнымі ласункамі, працавалі чайныя і буфеты, моладзь гушкалася на арэлях і каталася на каруселях. У апошні «прашчонны» дзень Масленіцы прасілі адзін у аднаго прабачэння.

Традыцыйнымі для гарадоў былі і шматлікія формы святочных негатыўных паводзін: наведванне шынкоў, кпіны, лаянка, бойкі, гульня ў карты, п'янства. Адсутнасць элементарных культурных ведаў, нізкі адукацыйны ўзровень і знясільваючая шматгадзінная праца ў майстэрнях і на фабрыках не давалі магчымасці многім рабочым і рамеснікам знайсці выйсце з галечы і бяспраўя, ламалі іх лёс, прымушаючы апускацца на самае дно гарадскога жыцця.

У другой палове XIX ст. усё большае месца ў грамадскім жыцці матэрыяльна забяспечаных групаў гарадскога насельніцтва пачынае займаць удзел у рознага роду дабрачынных і добраахвотных таварыствах, саслоўных і саслоўна-прафесійных клубах. Клубы аб'ядноўвалі звычайна людзей аднаго сацыяльнага кола (дваранскія, «англійскія», афіцэрскія і інш.) для сумеснага адпачынку, нефармальных зносін, забаў. Дваранскія клубы («блага-

[81] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 12, спр. 21а, л. 7.

родныя сходы») меліся ва ўсіх губернскіх і некаторых павятовых гарадах. Членамі «англійскіх» арыстакратычных клубаў таксама былі дваране і чыноўнікі вышэйшых рангаў. Такі ж замкнёны, карпаратыўны характар мелі і афіцэрскія клубы (афіцэрскія сходы). Акрамя гульні ў карты і нефармальных зносін, звязаных з палітычнымі, мастацкімі і іншымі інтарэсамі, у іх праводзіліся балі, святочныя сустрэчы («з'езды»), маскарады, розныя дабрачынныя мерапрыемствы.

На чале клубаў стаялі праўленні, якія выбіраліся агульным сходам. У памяшканнях клубаў выступалі гастрольныя тэатральныя трупы, музыканты, ставіліся аматарскія спектаклі і арганізоўваліся публічныя лекцыі. Правядзенне ў сценах «благародных сходаў» баляў і штотыднёвых сямейных танцавальных вечароў рабіла іх месцам выставы гарадскіх нявест і знаёмстваў моладзі.

У 80-я гг. у гарадах Беларусі пачалі з'яўляцца і іншыя саслоўна-прафесійныя клубы: камерцыйныя (аб'ядноўвалі купцоў, служачых прамысловых прадпрыемстваў, чыноўнікаў), прыказчыцкія (гандляроў, дробных служачых), чыгуначнікаў (служачых чыгункі, машыністаў, кандуктараў) і іншыя. У сваёй дзейнасці гэтыя клубы капіравалі дваранскія і афіцэрскія і адрозніваліся толькі сацыяльна-прафесійнай прыналежнасцю іх членаў. Асноўнымі заняткамі ў іх былі гульні ў віст, прэферанс, більярд, танцы і наведванне буфета. Членскія ўзносы ў параўнанні з «благародным сходам» у гэтых клубах былі невялікія, што адкрывала доступ у іх сярэднім слаям гараджан. Разам з тым, сацыяльна-саслоўная раз'яднанасць і карпаратыўнасць клубаў перашкаджалі развіццю грамадскай дзейнасці на больш шырокай дэмакратычнай аснове, уцягненню ў яе рабочых, рамеснікаў, наймітаў.

Удзел у будзённым жыцці клубаў быў прывілеяй мужчынскага насельніцтва гарадоў, але ўсялякія дабрачынныя мерапрыемствы, вечары і балі гараджане наведвалі звычайна сем'ямі, а часам па купленых білетах усе жадаючыя. Пры гэтых клубах пачалі ствараццa літаратурныя, музычныя і драматычныя гурткі, невялікія бібліятэкі.

Клубамі для гарадскіх нізоў, па замыслу ўрада, павінны былі стаць народныя дамы, якія пачалі адкрываць у буйных гарадах у канцы стагоддзя. Тут планавалася размяшчаць адукацыйныя і рамесныя школы, адукацыйныя класы для дарослых, чытаць навукова-папулярныя лекцыі, арганізоўваць гутаркі і канцэрты, спектаклі, выставы, бібліятэкі-чытальні, народны тэатр, спартыўныя і мастацкія гутаркі з мэтай далучыць шырокія колы гараджан да элементарных навуковых і культурных ведаў. Аднак з-за сваёй малалікасці яны не аказалі колькі-небудзь прыкметнага ўплыву на грамадскае жыццё гарадскіх працоўных[82]. Па статыстычных даных «Штогодніка Расіі», у 1906 г. у Беларусі было толькі 2 народныя дамы — у Гродзенскай і Мінскай губернях[83].

У 50-я гг., калі на тэрыторыі Беларусі будаваліся Маскоўска—Варшаўская і Пецярбургска—Кіеўская шасэйныя дарогі, пракладваліся паштовыя дарогі да павятовых цэнтраў, шпарка павялічвалася гарадское насельніцтва, якое ў пачатку 60-х гг. складала ўжо каля 10% усіх жыхароў краю[84]. У 1861 г. у Брэсце жыло 17859 чалавек, Гомелі — 13659, Пінску — 11607 чалавек[85]. Буйныя гарады шпарка забудоўваліся муравансымі шматпавярховымі дамамі і набывалі аблічча еўрапейскіх гарадскіх цэнтраў, у грамадскім жыцці насельніцтва якіх вялікую ролю пачаў адыгрываць тэатр.

[82] Вестник Могилевского земства. 1915. № 4. С. 5—6, 47—48.

[83] Ежегодник России 1906 г. СПб., 1907. С. 103.

[84] Этнаграфія беларусаў. С. 145.

[85] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1772—1903 гг.). Мн., 1940. Т. 2. С. 712, 733.



53. Баранавічы. Сустрэча ўдзельнікаў аўтагонкі Пецярбург — Масква. Да 1917 г.

На Беларусі тэатр меў даўнія традыцыі, заложаныя блізкімі да прафесійных прыгоннымі тэатрамі Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку; Зорыча ў Шклове; Сапегаў у Ружанах, Дзярычыне, Зэльве; Тызенгаўза ў Гродне; Агінскага ў Слоніме; Чарнышова ў Магілёве і Чачэрску. У многіх гарадах Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. сталі адкрывацца прыватныя антрэпрызы, спектаклі якіх ішлі на польскай, рускай і беларускай мовах. На іх аснове сталі ствараццa пастаянныя гарадскія тэатры. У пачатку XIX ст. Мінск, напрыклад, меў тры пастаянныя польскія трупы (Я. Хелмікоўскага, К. Скібінскага, В. Драздоўскага). Спачатку для тэатра ў Мінску быў прыстасаваны прыватны будынак, а ў 1844—1855 гг. спектаклі праходзілі ў памяшканні гарадской ратушы[86].

Значную ролю ў далучэнні да тэатра разначыннай інтэлігенцыі і гарадской моладзі адыгралі невялікія гастрольны[я] тэатральныя трупы, якія выступалі ама[л]і ва ўсіх гарадах і мястэчках краю.

У 1845 г. царскім урадам у Беларус[і] стваралюцца тэатральныя дырэкцыі, мэта[й] іх было садзейнічаць развіццю тэатраль[]най справы і рэгуляваць тэатральны[я] гастролі. Дырэкцыя тэатраў у кожна[й] губерні назначалася асабіста губерната[]рам. Абавязковым яе членам лічыўс[я] гарадскі галава. Гэтым забяспечваўс[я] пастаянны нагляд за дзейнасцю тэатра[ў] і праводзілася цэнзура іх рэпертуару[87].

У памяшканні мінскага гарадског[а] тэатра (1852) была пастаўлена перша[я] беларуская опера «Ідылія» («Сялянка») лібрэта якой напісаў В. Дунін-Марцін[]кевіч, а музыку — С. Манюшка і К. Кры[]жаноўскі[88].

---

[86] Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. С. 204.

[87] Гісторыя Мінска. Мн., 1967. С. 97.

[88] Барышаў Г. Дзе была пастаўлена «Сялянка» / Літаратура і мастацтва. 31 кастрычніка 1980. С. 15.



54. Мінск. Тэатр. Пачатак XX ст.

З другой паловы стагоддзя Беларусь пачалі ўключаць у маршрут сваіх гастрольных паездак трупы Пецярбургскага Александрынскага і Маскоўскага Малага тэатраў, тэатра Ф. Корша, украінскія трупы М. Старыцкага, М. Крапіўніцкага, П. Саксаганскага. Дзякуючы гэтаму жыхары беларускіх гарадоў знаёміліся з лепшымі творамі рускай і замежнай драматургіі. У канцы 80-х гг. у Мінску ставіла оперы П. Чайкоўскага, А. Даргамыжскага, А. Рубінштэйна пецярбургская трупа на чале з Ізмайлавым[89].

Аднак тэатр быў папулярным толькі ў найбольш адукаванай і багатай часткі гараджан. Наведванне яго патрабавала абавязкова святочнага адзення, а зносіны ў яго сценах разглядаліся ў прывілеяваных колах гарадскога грамадства як прадаўжэнне свецкіх адносін. Нізкі адукацыйны ўзровень і матэрыяльная незабяспечанасць пераважнай большасці гарадскіх жыхароў, знясіленасць пасля доўгага рабочага дня прыводзілі да таго, што яны глядзелі на тэатр як на панскую забаву. Пастаяннымі наведвальнікамі тэатраў былі толькі гарадская вярхушка, інтэлігенцыя, студэнты і гімназісты.

Вялікая папулярнасць тэатра сярод інтэлігенцыі садзейнічала арганізацыі ў гарадах аматарскіх музычных і драматычных гурткоў, спектаклі якіх узбудзілі ў 80—90-я гг. цікавасць да тэатральнага мастацтва ў шырокіх колах гараджан.

У канцы стагоддзя ў Мінску і Брэсце працавала па два прафесійных тэатра, у Віцебску, Гродне, Бабруйску, Мазыры і Пінску — па аднаму. Акрамя іх амаль у кожным, нават маленькім горадзе, існавалі аматарскія тэатральныя групы і гурткі, якія карысталіся вялікай папулярнасцю. Аматарскія тэатральныя спектаклі наведвалі рабочыя, рамеснікі, прыслуга, а таксама прыходзілі і прыязджалі жыхары навакольных вёсак, часта за 10—20 вёрстаў ад горада[90].

[89] Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 295, воп. 1, спр. 7885, л. 187.

[90] Виленский вестник. 30 января 1900. № 24.



55. Магілёў. Гарадскі тэатр. 1892 г.

На Каляды на кірмашах і плошчах гарадоў і мястэчак з вялікім поспехам паказваў народныя драмы, сатырычныя жанравыя сцэнкі, насычаныя мясцовым фальклорам і гумарам, народны лялечны тэатр (батлейка, вярцеп)[91]. Вечарам першага дня Каляд батлеечнікі са скрыняй, дзе знаходзіліся лялькі, і музыкі, што суправаджалі тэатральны паказ ігрой на музычных інструментах (скрыпка, цымбалы, бубен), хадзілі па дамах заможных гараджан. Яны віншавалі гаспадароў і іх гасцей са святам і давалі для іх прадстаўленні[92]. За гэта акрамя платы гаспадары надзялялі батлеечнікаў салам, каўбасамі, яйкамі.

К канцу першай паловы стагоддзя ў гарадах пачалі з'яўляцца першыя грамадскія бібліятэкі. Яны давалі магчымасць бедным чыноўнікам і мяшчанам рэгулярна чытаць кнігі і перыядычныя выданні. Сродкі, неабходныя для набыцця кніг, збіраліся шляхам ахвяраванняў. За карыстанне кнігамі наведвальнікі павінны былі плаціць. Размяшчаліся бібліятэкі звычайна ў адным-двух пакоях, часцей за ўсё мала прыстасаваных для гэтых мэт. У канцы XIX — пачатку XX ст. у канцылярыі губернатараў, пад чыім папячыцельствам знаходзіліся бібліятэкі, паступаў шэраг прашэнняў ад жыхароў многіх гарадоў з просьбамі і прапановамі адкрыць грамадскія або прыватныя бібліятэкі-чытальні. Але на большасці з іх губернатары паставілі адмоўныя рэзалюцыі. На прашэнні мяшчан г. Глуса Бабруйскага павета аб адкрыцці ў іхнім горадзе грамадскай бібліятэкі павятовы спраўнік (якому прашэнне было пераслана з губернскай канцылярыі) пісаў: «... большасць грамадства мае патрэбу ў вучылішчы і

---

[91] Белецкий А. Старинный театр в России. М., 1923. С. 97.

[92] Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1. С. 623—629.



56. Пінск. Тэатр Каржанеўскага. Да 1917 г.

азбуцы, а не ў кнігах, якія чытаць, не ведаючы граматы, не можа»[93].

У канцы XIX ст. у Мінску існавалі тры прыватныя бібліятэкі-чытальні, плата за карыстанне якімі была высокай. У снежні 1900 г. у горадзе была адкрыта публічная бібліятэка імя А. С. Пушкіна. Размяшчалася яна ў трох пакоях прыватнага дома і налічвала каля 500 кніг, 13 часопісных падшывак і газеты. Асноўную крыніцу сродкаў для набыцця кніг складалі ўступныя ўзносы чытачоў[94].

Па даных канцылярыі мінскага губернатара, на 1 кастрычніка 1897 г. у гарадах Мінскай губерні налічвалася ўсяго 17 кніжных магазінаў і 35 лавак, якія гандлявалі кнігамі на рускай, яўрэйскай, нямецкай і французскай мовах[95].

У асяроддзі матэрыяльна забяспечаных слаёў гарадскіх жыхароў лічыўся прэстыжным удзел ва ўсякага роду філантрапічнай дзейнасці розных дабрачынных таварыстваў і папячыцельстваў. Некаторыя дабрачынныя і папячыцельскія таварыствы і камітэты, напрыклад Таварыства імператрыцы Марыі Фёдараўны, былі агульнарасійскімі і мелі свае аддзяленні ў многіх гарадах на тэрыторыі ўсёй Расійскай імперыі, а мясцовыя часцей за ўсё не праводзілі пастаяннай работы, абмяжоўваліся разавымі дабрачыннымі мерапрыемствамі. Членамі дабрачынных таварыстваў з'яўляліся прадстаўнікі два-

[93] Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 295, воп. 1, спр. 3557, л. 2.

[94] Гісторыя Мінска. С. 189; Вячэрні Мінск. 25 снежня 1980.

[95] Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 295, воп. 1, спр. 1867, л. 8.



57. Баранавічы. Гарадскі тэатр. 1909 г.

ранска-чыноўніцкіх і купецкіх колаў гараджан, багатыя адвакаты, урачы, вядучыя служачыя прыватных фірмаў і іншыя; яны час ад часу аказвалі матэрыяльную дапамогу тым або іншым групам гарадской беднаты.

Сабраныя сродкі ішлі на дапамогу бедным навучэнцам гімназій, апекаванне і выхаванне сірот, адкрыццё дамоў працавітасці, на культурна-асветніцкія і забаўляльныя мерапрыемствы «для простага народа», якія звычайна прымяркоўваліся да святаў царкоўнага календара. Так, папячыцельства аб бедных г. Слуцка мела дом, дзе жылі (часткова бясплатна, часткова за паніжаную плату) некалькі бедных навучэнцаў гарадской гімназіі, а чатыром гімназістам аплачвала вучобу. Гэта ж папячыцельства ўтрымлівала багадзельню, у якой пражывалі 14—16 чалавек, выдавала пенсіі 15—17 жыхарам, а аднаразовую дапамогу да Вялікадня і Новага года аказвала 50—60 жыхарам горада[96].

Даволі значную дабрачынную дзейнасць вялі таварыствы цвярозасці і існуючыя пры цэрквах рэлігійныя брацтвы, якія ў дні рэлігійных святаў праводзілі дабрачынныя грашовыя зборы і на сабраныя сродкі наладжвалі для дзяцей беднаты навагоднія ёлкі[97], маладзёжныя танцавальныя вечары, на якіх удзельнікам часам бясплатна прапанаваўся чай з булкамі, ліманад, арэхі і цукеркі[98]. У канцы стагоддзя гэтымі арганізацыямі ў цэрквах, будынках вучылішчаў, гімназій, чайных і нават рыначных павільёнах праводзіліся народныя чытанні, якія часта суправаджаліся паказам дыяпазітываў («туманнымі», «светавымі карцінкамі» па

[96] Отчет Слуцкого попечительства о бедных Комитета ведомства императорского человеколюбивого общества. Слуцк, 1896. С. 7—11.

[97] Виленский вестник. 8 января 1900. № 6.

[98] Там жа. 12 января 1900. № 9.



58. Орша. Гарадскі тэатр. Да 1917 г.

тагачаснай тэрміналогіі). Асноўнымі тэмамі гэтых чытанняў былі сюжэты са Старога і Новага запаветаў, жыція святых, папулярныя творы рускіх пісьменнікаў.

Нягледзячы на даволі значную колькасць гарадскіх дабрачынных таварыстваў, яны, у пераважнай большасці, не вялі пастаяннай актыўнай працы. Дваранства, купецтва і багатае мяшчанства выкарыстоўвалі дабрачыннасць у першую чаргу для ўмацавання свайго сацыяльнага прэстыжу, атрымання ганаровага гарадскога грамадзянства і гэтак далей. Як правіла, таварыствы былі нешматлікімі, значную частку іх складалі асобы, якія ўваходзілі ў іх па абавязку (святар, урач, гарадскі галава, паліцэйскі спраўнік), другія, будучы галоўнымі дабрачынцамі, з'яўляліся толькі ганаровымі членамі. Пасля правядзення якога-небудзь мерапрыемства (дабрачыннага кірмаша, латарэі, баля-маскарада і інш.) дзейнасць таварыстваў надоўга замірала, а сабраныя грошы не складалі значных сум і не маглі аказаць істотнай дапамогі велізарнай колькасці гарадской беднаты.

Да дабрачынных аб'яднанняў прымыкала дзейнасць узнікшых у канцы XIX — пачатку XX ст. таварыстваў узаемнай дапамогі прыказчыкаў, шаўцоў, краўцоў, яўрэйскіх таварыстваў дапамогі бедным, якія мелі спецыяльныя фонды для дабрачынных мэт[99]. Гэтыя таварыствы аб'ядноўвалі прадстаўнікоў пэўнай прафесіі ці нацыянальнасці і падтрымлівалі найбольш бедных сваіх членаў выдачай беспрацэнтных пазык або аднаразовых грашовых дапамог[100].

Яшчэ адзін тып грамадскіх аб'яднанняў, якія ўзніклі ў гарадах Беларусі ў канцы XIX ст., прадстаўлялі таварыствы, заснаваныя на адзінстве прафесійных або

[99] Гомельский вестник. 28 декабря 1908. № 1; 28 марта 1909. № 72; 7 мая 1913. № 39.

[100] Гомельская мысль. 12 марта 1913. № 16.



59. Мінск. Велатрэк у Губернатарскім садзе. 1903—1904 гг.

аматарскіх інтарэсаў (урачоў, сельскагаспадарчыя, спартыўныя і інш.). Мінскае таварыства ўрачоў выдавала нават свой часопіс. Заснаваныя памешчыкамі і найбольш заможнымі сялянамі сельскагаспадарчыя таварыствы праводзілі выставы пародзістай жывёлы і сельгаспрадуктаў, распаўсюджвалі агранамічныя навыкі і гэтак далей. Мінскае таварыства аматараў спорту мела велатрэк і спартыўны павільён, арганізоўвала дзіцячыя спартыўныя гульні, спаборніцтвы па гімнастыцы і веласпорту, наладжвала калектыўныя выезды за горад[101].

У канцы стагоддзя больш разнастайным стаў дасуг гарадской моладзі. Мяшчанская моладзь акрамя вечарынак стала амаль штодзённа збірацца па вечарах сяброўскімі кампаніямі для баўлення часу. Гэтыя сустрэчы ў гарадах на поўдні і паўднёвым захадзе Беларусі называліся «прывашкамі». На іх маладыя людзі звычайна дзяліліся гарадскімі навінамі, спявалі рамансы і гарадскія песні, музыцыравалі, танцавалі пад грамафон ці фартэп'яна вальсы, танга, полькі, кадрыль. З маладзежных хатніх гульняў найбольш распаўсюджанымі былі «флірт» (гульня з наборам картак з надрукаванымі на адных з іх пытаннямі, а на другіх — адказамі), гульні ў адгадкі, «фанты», «сапсаваны тэлефон». Зімой папулярнай формай баўлення часу мяшчанскай, рабочай і гімназічнай моладзі стала наведванне каткоў[102]. Частка рабочай і рамеснай моладзі наведвала нядзельныя школы, якія ствараліся па ініцыятыве настаўнікаў гарадскіх школ і вучылішчаў. У гэтых школах шырока праводзіліся народныя чытанні, якія выкарыстоўваліся як для культурнай, так і для палітычнай асветы.

Пад уплывам сацыял-дэмакратычнага руху ў буйнейшых прамысловых цэнтрах Расіі, у беларускіх гарадах сталі арганізоўвацца нелегальныя рэвалюцыйныя гурткі, якія ставілі сваёй мэтай звяржэнне самадзяржаўя. Ужо ў 1890—1893 гг. яны былі створаны ў Гомелі, Магілёве, Жлобіне[103],

[101] Минский листок. 18 апреля 1899. № 47.

[102] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 12, спр. 86, л. 1—5.

[103] Кухарев Н. В. Жлобин: Историко-экономический очерк. Мн., 1975. С. 12.

Гродне. Члены гродзенскай падпольнай арганізацыі займаліся прапагандай марксісцкіх ідэй і падтрымлівалі сувязь з рэвалюцыйнымі рабочымі Пецярбурга, Казані, Екацярынаслава, Беластока, польскай рабочай партыяй «Пралетарый»[104]. Пад уплывам ленінскага Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа ў многіх гарадах Беларусі ўзніклі сацыял-дэмакратычныя арганізацыі, якія аб'ядноўвалі найбольш адукаваную частку рабочых і інтэлігенцыі. Для правядзення рэвалюцыйнай агітацыі і прапаганды члены сацыял-дэмакратычных арганізацый шырока выкарыстоўвалі народныя чытанні ў нядзельных школах і вучылішчах, вечарынках, а таксама папулярныя сярод гараджан формы летняга загараднага адпачынку (маёўкі)[105].

Нягледзячы на тое, што адукацыйны ўзровень гараджан быў значна вышэйшы, чым вясковага насельніцтва, па даных перапісу 1897 г., непісьменныя сярод жанчын складалі больш палавіны. Адмена прыгоннага права і будаўніцтва на тэрыторыі Беларусі Рыга—Арлоўскай, Маскоўска—Брэсцкай, Лібава—Роменскай і Палескай чыгунак стымулявалі рост такіх буйных гарадоў, як Мінск, Гомель, Віцебск, Магілёў, Пінск, Брэст, якія к канцу стагоддзя мелі выгляд і лад жыцця еўрапейскіх гарадоў. Аднак большасць гарадоў Беларусі і ў перыяд капіталізму заставаліся невялікімі, з дробнымі саматужна-рамесніцкімі прадпрыемствамі, якія забяспечвалі гаспадарчыя патрэбы гараджан і навакольнага вясковага насельніцтва. Многія малыя гарады, што апынуліся ў баку ад водных і чыгуначных магістралей, прыходзілі ў заняпад і ператвараліся ў мястэчкі, а пераважная большасць павятовых і заштатных гарадоў (напрыклад: Чэрыкаў, Клімавічы, Рэчыца, Рагачоў, Шклоў, Чашнікі, Ігумен і інш.) захавалі на працягу стагоддзя аблічча дробных гандлёва-рамесніцкіх паселішчаў. Задаволіць інтэлектуальныя запатрабаванні нават матэрыяльна забяспечаным гараджанам у іх было цяжка: не ставала бібліятэк, навучальных устаноў, гарадскіх клубаў. Прафесійныя тэатральныя трупы працавалі ў асноўным у губернскіх гарадах, у кніжных лаўках быў нешырокі і выпадковы набор літаратуры.

У буйных гарадах грамадскі быт выразна адлюстроўваў саслоўна-класавую і этнічную дыферэнцыраванасць насельніцтва. Усе формы грамадскай дзейнасці, звязаныя з гарадскім і саслоўным самакіраваннем, дабрачыннасцю, удзелам у розных добраахвотных таварыствах і саслоўных клубах, з'яўляліся прывілеяй заможных слаёў гарадскога насельніцтва. Дзейнасць сярэдніх і бедных гарадскіх жыхароў канцэнтравалася ў асноўным вакол царквы, а калектыўныя формы правядзення вольнага часу былі цесна звязаны з вуліцай, рынкам, наведваннем карчмы і чайных, гульнёй у карты. Цяжкія формы капіталістычнай эксплуатацыі і бяспраўнае становішча працоўных выклікалі ўзнікненне нелегальных і напаўлегальных рэвалюцыйных рабочых арганізацый, якія падрыхтавалі магчымасць рэвалюцыйных пераўтварэнняў у краіне.

Грамадскі быт вясковага насельніцтва вызначаўся цыклічнасцю земляробчай працы і быў цалкам ёй падпарадкаваны. Уся гаспадарчая дзейнасць селяніна строга прыстасоўвалася да пэўных дат народнага сельскагаспадарчага календара і суправаджалася строгай сістэмай звычаяў, абрадаў, магічных дзеянняў і павер'яў. Гаспадар строга наглядаў за выкананнем членамі сям'і ўсіх абрадаў і рэлігійных традыцый, што спалучала перадачу падрастаючым пакаленням працоўных ведаў і навыкаў з умацаваннем маральных якасцей і засваеннем нормаў грамадскіх паводзін.

На працягу ўсяго стагоддзя значную ролю ў грамадскім жыцці вёскі па-ра-

[104] Гродно: Исторический очерк. Мн., 1960. С. 40.

[105] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 1, спр. 29б, сш. 6, л. 6.

нейшаму адыгрывала абшчына (грамада) як адміністрацыйная адзінка і орган сялянскага самакіравання. Як адміністрацыйны інстытут яна сачыла за грамадскай дысцыплінай, несла калектыўную адказнасць за выплату падаткаў дзяржаве, выкананне грамадскіх работ, а як орган сялянскага самакіравання стаяла на варце інтарэсаў вясковага насельніцтва.

Выканаўчая ўлада ў абшчыне належала сельскаму праўленню, у склад якога ўваходзілі: вясковы стараста, валасны старшыня, пісар, зборшчык падаткаў, дзесяцкія, соцкія, вартаўнікі, наглядчыкі хлебных магазінаў (грамадскіх складаў збожжа на выпадак неўраджаю).

Па адмене прыгону валасныя старшыні і пісары звычайна назначаліся памешчыкамі, сельскія і валасныя сходы не мелі ніякага значэння, а валасныя суды былі пад уплывам паноў[106]. Але рэформа 1861 г. аднавіла сход як распарадчы орган сялянскага самакіравання. Выбары ў сельскае праўленне праводзіліся раз у тры гады і па традыцыі прымяркоўваліся да першай веснавой сходкі. Асоб на ўсе пасады выбіралі адкрытым галасаваннем. На службовыя пасады звычайна выбіралі найбольш адукаваных і багатых, паколькі выбарныя неслі крымінальную адказнасць за няправільныя рашэнні сходу. Права голасу на грамадскіх сходах мелі толькі мужчыны-галовы сямействаў і ўдовы, але апошнія толькі пры вырашэнні падатных спраў[107].

Сходкі склікаліся па меры ўзнікнення пытанняў, якія датычыліся ўсіх членаў грамады. У разгар палявых работ збіраліся па нядзельным дням і святам, у зімовы час — у буднія дні. Летам часцей за ўсё сходы праходзілі на вясковай плошчы ці выгане, а ў непагоду і халодны час — у любой прасторнай хаце[108].

Паколькі на сходах вырашаліся справы, якія закраналі кроўныя інтарэсы кожнай сям'і, абвяшчаліся важныя дакументы і распараджэнні мясцовай і цэнтральнай улады, сяляне заўжды прымалі ў іх удзел. Грамадскай актыўнасці сялян садзейнічала і тое, што незалежна ад маёмаснага становішча кожны разглядаўся на сходзе як самастойны гаспадар з роўным з усімі правам голасу, а адкрыты і дэмакратычны характар абмеркавання пытанняў на вачах усіх прысутных выключаў грубыя злоўжыванні[109].

Значныя змены адбыліся і ў галіне народнага судаводства. Пасля вызвалення сялян ад прыгону законам 1861 г. замест копных судоў уводзіліся валасныя суды. Юрысдыкцыя іх была абмежавана дробнымі справамі, якія маглі вырашацца не толькі на аснове дзеючага закона, але і па існуючым у народзе нормам звычаёвага права.

У валасныя суддзі грамада заўсёды старалася выбраць таго, хто быў багацейшы і разумнейшы за другіх, хто карыстаўся павагай і даверам аднавяскоўцаў. Таму быць выбраным у валасныя суддзі лічылася ў сялян вялікім гонарам[110].

Рашэнні валаснога суда ў справах аб спадчыне, падзелах, выдзелах абумоўліваліся патрабаваннямі справядлівасці і тлумачыліся не столькі юрыдычнымі, сколькі гаспадарчымі меркаваннямі і нормамі звычаёвага права адносна своечасовай платы подацей, трэзвага ці п'янага жыцця і гэтак далей. Для сялян гэта было месца, дзе яны шукалі правасуддзе,

[106] Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. С. 277—278.

[107] Боцонь Л. А., Минько Л. И. Общественный быт сельского населения // Общественный, семейный быт и духовная культура населения Полесья. Мн., 1987. С. 30.

[108] Там жа. С. 29—32.

[109] Чаквін І. У., Гуркоў В. С., Цярохін С. Ф. Некаторыя асаблівасці грамадскага побыту сялян у перыяд капіталізму // Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. Мн., 1993. С. 77.

[110] Тесленко Н. В. О судопроизводстве по обычному праву белорусов // Этнографическое обозрение. 1893. Кн. XVIII. № 3. С. 47—48.

17 Зак. 1789

абаранялі і аднаўлялі свае правы. Для правядзення паседжання суда неабходна была яўка трох, а ў другіх валасцях чатырох суддзяў. Бывалі выпадкі, калі справа, замест траіх, разбіралася пяццю суддзямі, калі прыходзілі лішнія і выказвалі жаданне прыняць удзел у разборы. Звычайна разбор спраў рабіўся на адным судовым паседжанні, якое адчынялася летам часцей за ўсё ў 5—6 гадзін вечара, зімой у 3—4 гадзіны і працягвалася часам да 11—12 гадзін ночы. На паседжанні суда маглі прысутнічаць усе жадаючыя.

Выезды суда для агляду на месцы па справах аб захопе зямельных угоддзяў, раздзеле ці няправільным узвядзенні пабудоў бывалі рэдка. У большасці выпадкаў суд абмяжоўваўся паказаннямі старасты і сведкаў[111].

З 1864 г. на Беларусі дзейнічалі і міравыя суды, кампетэнцыі якіх падлягалі справы па патравах, парубках лесу, парушэнню дагавораў аб найме і інш. Міравы суддзя не выбіраўся, а прызначаўся міністрам юстыцыі ў пераважнай большасці з рускіх памешчыкаў-эмігрантаў. Скасаванне выбарнасці міравых суддзяў пазбавіла мясцовае насельніцтва права ўдзелу ў судаводстве, перакрэсліўшы такім чынам істотную частку грамадскіх правоў як сялян, так і мясцовай шляхты[112].

Неафіцыйныя суды на Беларусі ў XIX ст. існавалі толькі ў форме прымірэння цяжэбнікаў сельскім старастам. Але разбор у старасты не складаў агульнага правіла, а рабіўся толькі ў тым выпадку, калі абодва бакі выказвалі на гэта згоду[113].

Аднак, нягледзячы на шматлікія захады царскага ўрада па абмежаванню самакіравання грамады, пастаянны кантроль яе дзейнасці памешчыкамі і царквой, традыцыйныя грамадскія і вытворчыя звычаі беларускага сялянства былі страчаны толькі ў працэсе калектывізацыі.

Месца кожнага чалавека ў грамадскім жыцці вёскі, яго правы і абавязкі вызначаліся сацыяльным і маёмасным становішчам, полам і ўзростам. Магчымасці змяніць свой сацыяльны статус у селяніна амаль што не было. Кожнае пакаленне паўтарала жыццёвы шлях сваіх продкаў, што забяспечвала матэрыяльную і культурную пераемнасць. Нягледзячы на цяжкую працу, сяляне заўсёды стараліся даць дзецям і моладзі «пагуляць», «нагуляцца». Дарослыя ўмешваліся ў гульні дзяцей толькі тады, калі трэба было зацягнуць або падказаць традыцыйныя яе падрабязнасці. Гульні падлеткаў запазычвалі многія карысныя гульні ў дарослых, але разлічваліся ў іх замест грошай семкамі, арэхамі і гэтак далей. У моладзі гульні саступалі першае месца танцам, святочным ігрышчам і абрадавым дзеянням. На Каляды, Вялікдзень, Купалу, Сёмуху ў час ігрышчаў моладзь выконвала вядучую ролю. Тут поўнасцю раскрываліся іх мастацкія здольнасці, весялосць, вынаходлівасць.

Пасля заканчэння палявых работ у асенне-зімовы перыяд жанчыны і дзяўчаты, пасля таго як вытаплівалася печ, з кудзеляй і пралкамі збіраліся да каго-небудзь у хату на «попрадкі». Тут жа гатавалі ежу, снедалі і пралі да вечара. Вечарам сталыя жанчыны ішлі дадому, а да дзяўчат завітвалі хлопцы з гармонікам ці скрыпкай. Тады праца адкладвалася і пачыналіся «вячоркі».

У многіх мясцовасцях на «попрадкі» («супрадкі») да жанчын і дзяўчат прыходзілі хлопцы, якія плялі лапці, выразалі лыжкі, рамантавалі конскую вупраж і інш. Працуючы жартавалі, расказвалі былічкі,

[111] Тесленко Н. В. О судопроизводстве по обычному праву белорусов. С. 49—51.

[112] Чаквін І. У., Гуркоў В. С., Цярохін С. Ф. Некаторыя асаблівасці грамадскага побыту сялян у перыяд капіталізму. С. 79.

[113] Тесленко Н. В. О судопроизводстве по обычному праву белорусов. Кн. XVIII. № 3. С. 37.

цікавыя здарэнні, казкі, загадвалі загадкі. У перадсвяточныя дні дзяўчаты прыносілі няхітры пачастунак. Заставацца на «вячоркі» дазвалялі дзяўчатам гадоў з 15. Танцавалі полькі, «Суботу», «Нарэчаньку», «Войру», «Каробачку», «Жабку» і іншыя народныя танцы. У канцы стагоддзя ў прыгарадныя вёскі прышла з горада «кадрэль» (кадрыль). На «вячорках» гулялі ў «Рэпіцу», «Матроса», «Заіньку», «у луч» (адшукванне тайна перадаваемай рэчы з куском лучыны), «у шыла» (гульню, падобную на «луч»), «у яшчура» (калі дзяўчаты песнямі выпрашвалі забраныя хлопцам хусткі), «у чорта» (калі хлопец аддзяляе грэшнікаў, якія не змаглі ўтрымацца ад смеху, ад правяднікаў, пасля чаго грэшнікі і правяднікі перацягваюцца на палцы і слабейшыя штрафуюцца)[114].

На Палессі тут жа ў гаспадара пасля «вячорак» моладзь заставалася начаваць. На падлогу клалі саламяныя маты, якія пакрывалі дзяругамі, світамі, старым рваным адзеннем. Дзяўчаты і хлопцы спалі разам, бо вельмі рэдка хто адважваўся пераступіць маральна-этычныя нормы грамадскай думкі. Парушэнне пануючай маралі лажылася ганебнай плямай на сям'ю дзяўчыны і сурова асуджалася[115].

У пасты «вячорак» не рабілі. Толькі ў панядзелак і аўторак першага тыдня Вялікага паста ў Вілейскім павеце існаваў звычай «цягнуць калодку». З абеда ў панядзелак хлопцы хадзілі па хатах, дзе былі дзяўчаты на выданні, прычым адзін з іх цягнуў за сабою прывязаную вяроўкай да пояса калодку (палена). Увайшоўшы ў хату, ён надзяваў зробленую на канцы пояса пятлю на шыю дзяўчыне і зараз жа яе здымаў, даючы зразумець, што яна запрашаецца на вечарынку з поснымі закускамі, якую арганізоўвалі хлопцы. На наступны дзень спраўлялася «дзявочая калодка». Хлопцы ў абед збіраліся ў адной хаце, да іх прыходзілі дзяўчаты таксама з калодкаю і таксама накідвалі вяровачную пятлю на шыю кожнага хлопца, а вечарам частавалі іх[116].

Пасля ўступлення ў шлюб мужчыны і жанчыны ўжо не наведвалі гулянак моладзі. Мужчыны ў сваім коле мераліся спрытам і фізічнай сілай (гнулі падковы, паднімалі цяжкія мяхі, ламалі тоўстыя палкі, бароліся), разгадвалі загадкі, гулялі ў карысныя гульні. Пройгрышы пераводзілі на грошы, кілішкі, кварты гарэлкі. Карысныя картачныя гульні сталі атрымоўваць пашырэнне ў беларускай вёсцы толькі ў канцы стагоддзя пад уплывам адыходніцтва ў гарады і «руднікі» (шахты) Данбаса.

Сялянская сям'я была цесна звязана з вясковай грамадой, пражыць без якой не магла. Нарыхтоўка лесу і будаўніцтва жылля, вываз на поле гною, малацьба — нідзе нельга было абыйсціся без суседскай дапамогі — «талакі». «Талаку» звычайна збіралі для тэрміновай і працаёмкай работы, якая патрабавала многа работнікаў ці цягла. На яе звычайна запрашалі сваякоў, суседзяў, аднавяскоўцаў. Замест платы гаспадары рабілі прыйшоўшым пачастунак. У час застолля спявалі песні. Гаспадары шчыра дзякавалі работнікаў за працу, а тыя гаспадароў за пачастунак. Найперш «талакой» дапамагалі пагарэльцам, удовам, салдаткам, бясконным.

На Беларусі шырока бытавала і жаночая «талака» («папрадуха»), калі жанчыны збіраліся дапамагчы спрасці лён у тыя сем'і, дзе жанчыны не маглі своечасова (да Каляд) спрасці ўсю кудзелю. На «папрадуху» жанчыны і дзяўчаты з пралкамі збіраліся раніцай. Гаспадыня старалася раненька вытапіць печ і су-

[114] Игры белорусов Смоленской и Могилевской губерний // Могилевские губернские ведомости. 8 января 1888. № 4.

[115] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 1, спр. 296, сш. 11, л. 19.

[116] Виленский вестник. 1890. № 48.

17а Зак. 1789

стрэць работніц пачастункамі. Пасля вельмі кароткага застолля, дзе сталых жанчын было прынята частаваць кілішкамі гарэлкі, усе садзіліся на лавы і пачыналі прасці. Праца працягвалася ўвесь дзень з невялікімі перапынкамі на абед і вячэру і ўсю ноч. У час працы хата поўнілася песнямі, смехам, вясёлымі жартамі. Жанчынам дапамагалі дзеці, якія наматвалі спрадзеныя ніткі на матавілы, прыносілі кудзелю і гэтак далей. Разыходзіліся на досвітку, цалаваліся з гаспадыняй і дзякавалі за пачастунак, а тая, у сваю чаргу, за дапамогу.

Да талакі цесна прымыкае «бонда» — народны звычай частавання сваякоў і суседзяў свежынай, садавінай і агароднінай новага ўраджаю. Пчаляры ў час падглядвання пчол частавалі мёдам дзяцей і ўсіх, хто праходзіў у гэты час міма пасекі.

Традыцыі сумеснага гаспадарання выяўляліся і ў практыцы калектыўнага выканання некаторых сельскагаспадарчых работ — «сябрынстве», калі некалькі суседзяў, родзічаў або ўсёй вёскай разам валодалі ўчасткамі ворнай зямлі, сенакосамі, якой-небудзь маёмасцю і сумесна вялі гаспадарку. Саўладальнікаў маёмасці называлі «сябрамі»[117]. На Палессі рэшткі «сябрынства» захаваліся да пачатку XX ст[118].

Прыкметнай з'явай у грамадскім жыцці беларускай вёскі былі кірмашы, якія прымяркоўвалі да пэўнага царкоўнага свята, ад якога звычайна і атрымлівалі назву (троіцкі, спасаўскі, пакроўскі). Буйныя кантрактовыя кірмашы праводзіліся ад двух тыдняў да аднаго месяца (Мінск, Нясвіж, Зэльва, Любавічы, Свіслач), мясцовыя — адзін дзень. Кірмашы развівалі і аб'ядноўвалі мясцовыя рынкі, разбуралі патрыярхальную замкнёнасць сялянскай гаспадаркі, садзейнічалі ўмацаванню этнакультурнага адзінства народа. У грамадскім быце сялян кірмаш быў не толькі месцам куплі-продажу. Ён даваў магчымасць кантактаў з жыхарамі суседніх вёсак, сустрэч з сябрамі, прадстаўляў выбар няхітрых кірмашовых забаў. Вяртанне гаспадара з кірмаша з нецярпеннем чакала ўся сям'я, паколькі кожны спадзяваўся на абяцаны падарунак, гасцінец. Яшчэ доўгі час сяляне дзяліліся кірмашовымі навінамі, пачутымі былічкамі і байкамі.

Але самае адметнае месца ў грамадскім побыце вёскі займалі народныя і царкоўныя святы і абрады. Першымі ў гадавым крузе старажытных народных свят былі Каляды, якія пачыналіся ад Ражаства (24 снежня па с. ст.) і цягнуліся да Хрышчэння (7 студзеня). Каляды азначалі пачатак новага гаспадарчага года, і асноўны магічны сэнс каляднай абраднасці зводзіўся да жадання забяспечыць добры ўраджай у наступным годзе і стварыць спрыяльныя ўмовы для павелічэння хатняй жывёлы. Гэта было самае вясёлае свята, якое завяршала доўгі Піліпаўскі пост і праходзіла ў адносна спакойны для селяніна перыяд, калі асноўныя сельскагаспадарчыя работы былі скончаны.

Да Каляд прыберагалі каўбасы, кумпякі, сыры і іншыя святочныя прадукты. Самыя неабходныя гаспадарчыя справы рабілі толькі днём, а ўсе вечары лічыліся святымі. У гэты час моладзь ладзіла «вячоркі» з танцамі і гульнямі, якія цягнуліся амаль да раніцы.

Галоўным кампанентам каляднай абраднасці было хаджэнне са «звяздой», абход моладдзю сялянскіх двароў са святочна-велічальнымі песнямі і карнавальна-рытуальнымі гульнямі-паказамі (ваджэнне «казы», «мядзведзя», «жорава», «кабылы»), пераапрананне. Сярод калядоўшчыкаў, як правіла, знаходзіўся яшчэ

[117] Сержпутовский А. К. Сябрина: Очерки Белоруссии // Живая старина. 1907. Вып. 3—4. С. 149—151.

[118] Боцонь Л. А., Минько Л. И. Общественный быт сельского населения // Общественный, семейный быт и духовная культура населения Полесья. С. 23—25.

«цыган» і музыка. У сваіх песнях яны славілі гаспадароў і іх дзяцей, жадалі ім здароўя і шчасця. Раніцай 1 студзеня хлопчыкі са спецыяльнымі песнямі ішлі па хатах з мяшэчкамі зерня «засяваць», што, па павер'ю, павінна было забяспечыць багаты ўраджай. Калядоўшчыкаў, хлопчыкаў-сейбітаў і звездароў шчодра надзялялі хлебам, кавалкамі сала і каўбас, грашыма і гэтак далей. Дзяўчаты гадалі з мэтай празнаць свой лёс, свайго суджанага. Хадзілі ў царкву, наведвалі сваякоў і запрашалі гасцей да сябе.

Пасля Каляд на вячоркі ўжо не збіраліся. У хатах ладзілі кросны і ў велікодны пост пачыналі ткаць, размяркоўваючы працу так, каб да Вялікадня саткаць усё, што было напрадзена.

Веснавы цыкл каляндарнай абраднасці пачынаўся з «гукання вясны». На дзень святой Еўдакіі (1 сакавіка с. ст.), Соракі (9 сакавіка), Благавешчанне (25 сакавіка) групы дзяўчат з сонечных высокіх пагоркаў, з якіх ужо сышоў снег, стагоў пераклікаліся з хлопцамі кароткімі песнямі-прызывамі, у якіх клікалі вясну, наладжвалі вясёлыя ігрышчы, вадзілі карагоды.

Веснавы цыкл каляндарнай абраднасці звязан з падрыхтоўкай і правядзеннем земляробчых работ, турботай аб будучым ураджаі. Галоўным веснавым святам быў Вялікдзень. Пасля сямітыднёвага паста і цяжкай працы селянін зноў мог уволю павесяліцца, з'ездзіць у госці ці на кірмаш, наведаць царкву. У першы дзень Вялікадня моладзь з «валачобнымі» песнямі абходзіла двары. Гэтыя песні па структуры і функцыянальнаму прызначэнню з'яўляюцца блізкімі да абходных калядных, але ў іх больш месца займаюць тэмы сялянскай працы, любоўнай лірыкі. За сялом вадзілі карагоды, гойдаліся на арэлях, каталі крашаныя яйкі.

Пачатак палявых работ, першы выган жывёлы на пашу — усё селянін абстаўляў цэлай сістэмай магічных дзеянняў, павер'яў.

На Сёмуху (Духа) жанчыны ўпрыгожвалі хаты зялёнымі веткамі ліставых парод дрэў («маем»), усцілалі падлогу яварам («аерам»). На духаўскім тыдні дзяўчаты плялі сабе вянкі з кветак і магічных траў і з яешняй ішлі ў лес «завіваць» бярозкі. А праз тыдзень зноў з песнямі ішлі развіваць вянкі, развязваць вяршаліны звязаных дрэў («каб дрэва не праклінала»). Кожнае абрадавае дзеянне мела свой магічны сэнс, які з цягам часу забыўся, і моладзь успрымала абрады як традыцыю, забаву, але абавязковую ў гэты дзень.

Аснову летняга цыкла каляндарнай абраднасці складала сняткаванне Купалля, дней святых Пятра і Іллі. Асабліва ўрачыста было прынята адзначаць Купалле, якое прыходзіцца на перыяд летняга сонцастаяння, пасля чаго сонца паварочвае на зіму. Гэты дзень у беларусаў быў акружаны мноствам легендаў, звычаяў, абрадаў і земляробчых павер'яў. Сутнасць гэтых легендаў і павер'яў заключалася ў тым, што нібыта ў купальскую ноч ведзьмы, чэрці і іншыя злыя сілы маглі пашкодзіць чалавеку, хатняй жывёле, пасевам.

Каб ачысціцца і аберагчыся ноччу перад Купаллем, на ўзгорку раскладвалі агонь, у якім палілі сабраныя па вёсцы старыя, адслужыўшыя свае венікі, паламаныя калёсы і іншае смецце, палілі чучала ведзьмы і прыгалі праз агонь. На досвітку качаліся ў расе. Дзяўчаты плялі вянкі і пускалі іх па рацэ, загадваючы свой лёс. Існавала мноства і іншых спосабаў дзявочага гадання ў гэты дзень. Вечарам перад святам, напрыклад, дзяўчаты рвалі зубамі падарожнік, тады, па павер'ю, ноччу павінен быў прысніцца будучы муж. Або трэба было ўстаць на Купалу на досвітку («калі сонца грае») і, ні з кім не гаворачы, бегчы да плота і абхапіць яго рукамі. Калі цотнымі будуць абхваченыя колікі — то дзяўчына пойдзе замуж. Святочнай раніцай бегалі

да суседкі і чакалі, што яна скажа. Калі першым словам было сказана «ідзі», то дзяўчына пойдзе замуж, а калі скажа «сядзь», то год яшчэ будзе «сядзець у дзеўках» і гэтак далей.

Пасля дня святога Пятра наступала пара сенакосу, а затым жніво, пачатак якога («зажынкі») таксама суправаджаўся ў беларусаў мноствам павер'яў і магічных дзеянняў, а першы сноп урачыста ўстанаўліваўся на покуці пад абразамі.

Восеньскі цыкл уключаў абрады ў дзень заканчэння жніва («дажынкі») і ўсіх палявых работ, святкаванне царкоўных свят: Спаса, 1-й і 2-й Прачыстай, Здвіжання, Пакрова.

Такім чынам, абрадавы бок каляндарных свят заўсёды складаўся з нейкіх магічных дзеянняў, заклінанняў, ахвярапрынашэнняў, якія павінны былі, згодна народным вераванням, забяспечыць поспех у працы і аберагчы сям'ю і жывёлу ад заганы. Аднак ні адно свята не заканчвалася абрадамі. Пасля іх арганізоўваліся масавыя гулянні з адпаведнымі для кожнага свята песнямі, гульнямі, карагодамі, танцамі, дзе асноўная роля адводзілася моладзі. Старэйшыя прымалі ўдзел у адпаведнасці са сваім узростам і сацыяльным станам, сачылі за выкананнем традыцыйнага рытуала звычая ці абрада, накіроўвалі забавы моладзі ў адпаведнасці з народнай мараллю.

Значнай з'явай у жыцці парэформеннай беларускай вёскі стала адыходніцтва. Каб здабыць сродкі для выкупных плацяжоў і выплаты падаткаў, сялянская бедната вымушана была шукаць працу ў гарадах, памешчыцкіх эканоміях, шахтах Данбаса. Гэта садзейнічала развіццю знешнеабшчынных сувязей сялянства, пашырэнню іх кругагляду, знаёмству з гарадскім ладам жыцця. Менавіта адыходнікі сталі праваднікамі гарадской культуры ў вёсцы, а разам з тым — і многіх негатыўных з'яў гарадскога жыцця.

Такім чынам, грамадскі быт насельніцтва Беларусі ў XIX ст., нягледзячы на адмоўны ўплыў шэрага палітычных і сацыяльна-эканамічных фактараў, дынамічна развіваўся ў напрамку разбурэння сярэдневяковых і ўтварэння капіталістычных формаў грамадскага жыцця.

Рост гарадской прамысловай вытворчасці, пракладка шасэйных і чыгуначных дарог, інтэнсіўнае пашырэнне эканамічных і культурных сувязей як з рэгіёнамі Расіі, так і краінамі Заходняй Еўропы садзейнічалі хуткай еўрапеізацыі буйных гарадоў і разбурэнню натуральнага характару сялянскай гаспадаркі.

Аднак, нягледзячы на пранікненне ў вёску стандартаў гарадской культуры і мадэляў грамадскіх паводзін, менавіта сельскае насельніцтва да часоў калектывізацыі захоўвала шматвяковыя абшчынныя традыцыі і нормы звычаёвага права беларусаў.

## СЯМ'Я І СЯМЕЙНЫ БЫТ

Ва ўсе гістарычныя перыяды сям'я з'яўлялася першаснай як сацыяльна-эканамічнай, так і дэмаграфічнай ячэйкай грамадства. Таму стварэнне сям'і для кожнага чалавека лічылася з'явай неабходнай і натуральнай. «Мужык прывык бачыць у мужыку перш за ўсё дамавітага чалавека, які жыве сваім домам і сямействам»[119]. Калі малады хлопец (дзяўчына), дасягнуўшы адпаведнага ўзросту, не бралі шлюб, то гэта выклікала ў народзе здзіўленне, а часам і кпіны. Заключэнне шлюбу ў беларусаў кантралявалася як

[119] Харузин Н. Современный брак и свадьба крестьян Томской губернии. М., 1889. С. 31.

сямейна-шлюбным заканадаўствам, так і звычаёвым правам. Напрыклад, згодна закону 1830 г. забаранялася вянчанне хлопцам, не дасягнуўшым 18 гадоў, а дзяўчатам — 16 гадоў[120]. Аднак у шэрагу выпадкаў, асабліва сярод насельніцтва, раннія шлюбы ў першай палове XIX ст. яшчэ мелі месца[121]. Наглядалася розніца ва ўзросце браўшых шлюб, а таксама паміж гараджанамі і сялянамі. Гарадская моладзь не спяшалася стварыць сям'ю зусім маладымі. Большасць гараджан бралі шлюб у 25—30 гадоў, а дзяўчаты ў 20—25. Сярод сялян гэты ўзрост быў адпаведна 18—23 і 22—23 гадоў. Гэта тлумачыцца ў першую чаргу сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі. Кожнай сялянскай сям'і патрэбны былі працоўныя рукі. Больш раннімі былі шлюбы на Палессі, асабліва сярод сялянства[122].

У беларусаў, як і ў іншых народаў, забаранялася ствараць сям'ю блізкім родзічам. Праваслаўная царква і звычаёвае права дазвалялі ўступленне ў шлюб сваякоў у чацвёртым пакаленні. Не дапускаўся шлюб паміж зводнымі братам і сястрой, а таксама паміж прыёмнымі дзецьмі. Нельга было ствараць сям'ю і асобам рознага веравызнання. Калі ж такое здаралася, то адзін з будучых супругаў (звычайна дзяўчына) прымаў веру другога.

У розныя перыяды характар заключэння шлюбу не быў аднолькавым. У першай палове XIX ст. галоўную ролю ў стварэнні маладой сям'і адыгрываў феадал, паколькі ён рэгуляваў уступленне ў шлюб моладзі ў сваім маёнтку. Пачуцці маладых былі на другім месцы: «Селянін перш за ўсё працоўная істота і жыве вельмі рэальным жыццём, каб паддавацца чарам кахання»[123].

Пасля адмены прыгоннага права ўзніклі некаторыя новыя рысы ў характары заключэння шлюбу. Стаўшы свабоднымі, маладыя людзі атрымалі і права выбару мужа (жонкі). Але гэта свабода была адноснай, паколькі тут галоўную ролю адыгрывалі ўжо бацькі і іх рацыяналізм. Калі яшчэ хлопец мог часам не пагадзіцца з выбарам бацькоў, то да жадання дзяўчыны ў сям'і прыслухоўваліся мала: «... як скажуць бацька з маткай ісці за каго, за таго і ідуць. Паплачаш трохі, а потым тыя маладошчы і забудуцца»[124].

Беларуская сям'я вылучаецца значнай стабільнасцю. Напрыклад, у 1867—1886 гг. на 10 тыс. шлюбаў жыхароў Міншчыны прыпадала прыкладна 7 разводаў[125]. Прычынай для разводу былі бяздзетнасць, слушныя адхіленні ў псіхічным стане мужа ці жонкі, доўгая адсутнасць аднаго з іх, звычайна мужа, нядольнасць аднаго з іх да шлюбнага жыцця.

Скасоўвалі шлюб і тады, калі муж на працягу пяці гадоў не вяртаўся са службы. Але і ў такіх выпадках атрымаць згоду царквы на скасаванне шлюбу было цяжка, асабліва католікам, паколькі тут патрабавалася зацвярджэнне Сінода, што зацягвалася на гады. Вядома ж, скасаванне шлюбу стрымлівалі не толькі жорсткія законы, але і бяспраўе жанчыны. Усё ж, згодна са звычаёвым правам, у выніку жорсткага абыходжання мужа з жонкай апошняя магла пакінуць сям'ю мужа, асабліва калі ў яе не было дзяцей[126].

Не было супрацьзаконным заключэнне новага шлюбу ў выніку смерці мужа ці жонкі, аднак, згодна са звычаёвым правам, новы шлюб можна было заключыць толькі праз год пасля смерці аднаго з іх. Строгаму пакаранню падвяргаліся

---

[120] Юридический вестник. СПб., 1877. С. 19, 39.

[121] Сям'я і сямейны быт беларусаў. Мн., 1990. С. 67.

[122] Там жа. С. 68, 129.

[123] Цвірка К. Слова пра Сыракомлю. С. 160.

[124] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи. Киев, 1909. Т. 1. С. 23.

[125] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 131.

[126] Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 183, воп. 2, адз. зах. 3484, л. 44—45.

асобы, уступіўшыя ў шлюб, не скасаваўшы першы.

Стварэнне новай сям'і ў значнай ступені ўплывала на яе структуру, у прыватнасці, садзейнічала рэгенерацыі малой сям'і ў вялікую, якая ў залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі магла распасціся ці захавацца. Трэба сказаць, што XIX ст. — цікавы і складаны перыяд, за які адбылася замена феадальнай фармацыі капіталістычнай, што ў значнай ступені паўплывала на сям'ю і, у прыватнасці, на яе структуру. Аб гэтым сведчаць матэрыялы перапісаў 1850 (рэвізскія казкі) і 1897 гг. Параўнаўчы аналіз гэтых матэрыялаў дае магчымасць заключыць, што на Беларусі XIX ст. існавала дзве формы сям'і: вялікая, ці, як яе прынята называць, нераздзельная, і малая.

Па матэрыялах сярэдзіны XIX ст., на Беларусі пераважала, хаця і нязначна, вялікая сям'я, якая складала крыху больш за 50% (51,8%). Малая, адпаведна, — 48,2%. Аналіз даных асобна па гораду і вёсцы паказаў, што ў гарадах пераважаючай была малая сям'я — 59,9%, а ў вёсцы — 40,1%. Трэба адзначыць, што і ў гарадах колькасць нераздзеленых сямей не размяркоўвалася аднолькава. Напрыклад, у палескіх гарадах (Мазыр, Рэчыца, Пінск і інш.) нераздзеленых сямей было значна больш, чым у Мінску, Слуцку, Навагрудку і інш. Некаторыя адрозненні наглядаюцца і ў тыпалогіі нераздзеленай сям'і. Нягледзячы на тое, што ў цэлым па Беларусі пераважалі бацькоўскія аднлінейныя сем'і, усе ж на Палессі, у тым ліку і ў палескіх гарадах, было значна больш многалінейных сямей, дзе разам жылі і вялі гаспадарку некалькі жанатых сыноў з жанатымі ўнукамі[127]. Што ж датычыць брацкіх сямей, то ў сярэдзіне XIX ст. у беларускіх гарадах іх было значна менш, чым сярод вясковых нераздзеленых сямей, дзе пераважалі сямейныя калектывы з двума жанатымі братамі. На Палессі брацкія сем'і былі больш складаныя. Тут сустракаліся сем'і, дзе апрача родных братоў жылі разам і дваюрадныя. Адзначаны таксама, хаця і мала, сем'і з траюраднымі братамі. Значную групу, пераважна ў вёсцы, складалі нераздзеленыя сем'і з пляменнікамі[128]. Мелі месца і такія сем'і, у якіх жылі і прадстаўнікі па жаночай лініі (шурыны). З 51 такой сям'і 42 прыпадае на вёску. У 92 сем'ях (з якіх 85 прыпадае на сялянскія) жылі зяці-прымакі. Прымакоў бралі ў тыя сем'і, дзе не было сыноў. Аднак у архіўных матэрыялах сустракаюцца сем'і, у якіх былі і сыны, і прымакі. Такая з'ява характэрна для сямей з вельмі вялікай гаспадаркай, бацька з сынамі не спраўляліся, а таксама тады, калі ў сям'і вырасла дачка-няўмеха ці зусім непрыгожая: «ні сабе паглядзець, ні людзям паказаць». Прымакоў бралі звычайна з бедных сямей.

Аналіз структуры малых сем'яў паказаў, што ў цэлым на Беларусі пераважалі малыя нуклеарныя сем'і, у якіх жыла звычайна шлюбная пара з незамужнімі (нежанатымі) дзецьмі. Сярод малых вылучаюцца ўскладнёныя сем'і, дзе апрача шлюбнай пары з дзецьмі жыў хто-небудзь са сваякоў (бацька ці маці, брат, сястра і інш.), звычайна мужа. У гарадах такіх сямей выяўлена каля 10%, у вёсках — за 19%. Напрыклад, у адной з сямей г. Мінска ў сям'і сына жыла яго маці, дзве незамужнія сястры і брат[129]. Трэба адзначыць, што малых ускладнёных сямей больш за ўсё было ў Мінску, і пераважалі яны сярод дваранства, прычым тут мелі

[127] Напрыклад, у г. Рэчыцы былі сем'і, у якіх жыло тры сыны са сваімі сем'ямі і тры жанатыя ўнукі з дзецьмі. Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 333, воп. 9, спр. 697, л. 327.

[128] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 46.

[129] Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 333, воп. 9, спр. 745, л. 28.

месца і такія сем'і, у якіх жылі пляменнікі і пляменніцы. Значнае месца сярод малых сямей займалі элементарныя шлюбныя пары. Гэта ці пажылыя бяздзетныя людзі, дзеці якіх жылі асобна, ці маладыя пары, што толькі ўзялі шлюб і не паспелі абзавесціся дзецьмі. У гарадах Беларусі такія сем'і складалі прыкладна 9%, у вёсцы — каля 13%. Сярод малых вылучалася група няпоўных сем'яў. Гэта пераважна адзін з бацькоў, часцей маці, з малымі дзецьмі. Да групы няпоўных мы аднеслі і маці, якія нарадзілі і выхоўвалі дзяцей, не браўшы шлюб. Часцей такія сем'і сустракаліся сярод беларускіх жанчын-гараджанак, якія мелі часам па некалькі пазашлюбных дзяцей. Напрыклад, у адной мяшчанкі г. Мінска было пяцёра дзяцей. Першае яна нарадзіла ў 20 гадоў, а апошняе — у 53 гады[130]. Але, мяркуючы па архіўных матэрыялах, большасць жанчын нараджалі пазашлюбнае дзіця ў даволі сталым узросце, пераважна пасля 30 гадоў[131], калі, відаць, ужо гублялі надзею выйсці замуж.

Рэформа 1861 г. з'явілася сур'ёзным штуршком да змянення структуры беларускай сям'і. Працэс маёмаснага расслаення, які ўзрос з развіццём капіталізму, у значнай ступені садзейнічаў распаду нераздзеленай сям'і і ўтварэнню яе малых формаў. Рост адыходніцтва ў вёсцы, уключэнне гараджан у работу на прамысловасці стваралі ўмовы для эканамічнай незалежнасці жанатых сыноў. Многа беларусаў у другой палове XIX ст., асабліва з паўночных і ўсходніх раёнаў, наймаліся на лесасплаўныя, дарожна-будаўнічыя, сельскагаспадарчыя і іншыя віды работ, а таксама на заводы Пецярбурга, Масквы, Кіева, Адэсы, на руднікі Данбаса і інш. Адыходніцтва было пашырана пераважна сярод маламаёмных сямей: як нераздзеленых, так і малых. Заробленыя грошы не заўсёды поўнасцю аддаваліся галаве сям'і, што садзейнічала стварэнню індывідуальнай уласнасці і давала магчымасць маладой сям'і патрабаваць раздзелу.

У канцы XIX ст. маладыя людзі, узяўшыя шлюб, не жадалі доўга жыць у бацькоўскай сям'і, а стараліся як мага хутчэй аддзяліцца. Імкненне жыць малой сям'ёй лічылася для беларусаў амаль што этнічнай асаблівасцю: «Беларус не любіць трымацца вялікай сям'ёй, як рускі, ледзь вырас хлопец, ажаніўся, ён стараецца абзавесціся сваёй хатай і сваёй гаспадаркай»[132].

Трэба адзначыць, што прычынай раздзелаў служылі не нацыянальныя рысы характару беларусаў, а сацыяльна-эканамічныя ўмовы, а таксама непаладкі паміж жанчынамі ў нераздзеленай сям'і: «Дзве нявесткі ніколі не ўжывуцца са свякрухай — дзеляцца»[133].

Як відаць, прычын для хуткага падзелу вялікіх сямей існавала шмат. Аднак трэба мець на ўвазе, што, згодна звычаёваму праву, вялікая сям'я ў беларусаў не распадалася адразу поўнасцю. Тут адбываўся паступовы працэс. Спачатку, як правіла, аддзяляўся старэйшы сын са сваёй сям'ёй, праз некаторы час наступны і гэтак далей. Таму, нягледзячы на раздзелы, вялікія сем'і не зніклі, хаця колькасць іх у параўнанні з сярэдзінай XIX ст. скарацілася прыкладна ў 1,8 раза. Раздзелы вялікіх сямей у значнай ступені паўплывалі таксама на іх структуру, у прыватнасці, у бок змяншэння колькаснага і пакаленнага саставу. Звузілася таксама кола сваякоў. Мяркуючы па шматлікіх матэрыялах, для Беларусі канца

---

[130] Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 333, воп. 9, спр. 741, л. 68.

[131] Там жа. С. 72.

[132] Народы России: Этнографический очерк. Белорусы. СПб., 1878. С. 105.

[133] Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Могилев, 1882. Кн. 1. С. 502.

XIX ст. была характэрна перавага бацькоўскай адналінейнай сям'і (больш 80% з ліку бацькоўскіх), прычым, як правіла, гэта былі сямейныя калектывы з адным жанатым сынам. Рэдкімі, асабліва ў гарадах Беларусі, аказаліся брацкія сем'і, а таксама сем'і з жанатымі шурынамі і пляменнікамі.

Значныя змены адбыліся і ў структуры малой сям'і. У параўнанні з сярэдзінай XIX ст. як у вёсцы, так і гарадах Беларусі значна ўзрасла колькасць нуклеарных сямей. Калі ў сярэдзіне XIX ст. такія сем'і саставілі на Беларусі каля 40%, то ў канцы XIX ст. колькасць іх павялічылася да 70%. Карацей кажучы, у малой сям'і, таксама як і ў нераздзеленай, адбываліся тыя ж працэсы, накіраваныя ў бок спрашчэння яе структуры.

Не застаўся без змяненняў і колькасны састаў беларускай сям'і, які ў многім залежаў ад эканамічнага стану сямейнага калектыву, аб чым сведчаць даныя, у прыватнасці, анкеты Рускага геаграфічнага таварыства 1872 г., дзе адзначалася, што больш шматлікімі былі багатыя сем'і[134].

Аналіз колькаснага складу беларускай сям'і ў дынаміцы паказаў, што амаль за 50 гадоў стала больш сямей з 2—5 чалавек і значна менш з 6—10, асабліва з 11 і больш чалавек. Як у гарадах, так і ў вёсках Беларусі найбольш распаўсюджанымі, у сярэднім, былі сем'і з 3—5 чалавек. Прычым, калі ў гарадах, напрыклад, было больш сем'яў з 4—5 чалавекамі[135], то ў сельскай мясцовасці — з 5—6 чалавекамі.

На структуру сям'і, асабліва на яе колькасны састаў, уплывала таксама дзетнасць, якая ў значнай ступені залежала ад формы сямейнага калектыву і колькасці шлюбных пар. Так, у нераздзеленых сем'ях было прыкладна 8—9 дзяцей. Па нашых падліках, кожная шлюбная пара мела пераважна 3—4 дзяцей. У гарадах пераважалі шлюбныя пары з 1—2 дзецьмі[136]. Дзетнасць сямей розных слаёў насельніцтва мела некаторыя адрозненні. Вядома, што найбольш шматдзетнымі аказваліся сем'і земляробаў, якім патрэбны былі працоўныя рукі. Асабліва пажаданымі ў сялянскіх сем'ях былі сыны. Але ў агульным на Беларусі, нягледзячы на даволі высокую нараджальнасць, у сярэднім кожная шлюбная пара мела тры дзіцяці. Такі паказчык у значнай ступені тлумачыцца высокай смяротнасцю дзяцей як у гарадах, так і вёсках Беларусі, выкліканай нізкім узроўнем медыка-санітарных умоў, недастаткам належнага харчавання і адпаведнага дагляду. Толькі ў сярэдзіне XIX ст. з адной тысячы нованароджаных 377 паміралі, не дажыўшы да пяці гадоў, у тым ліку 150 з іх не дажывалі да году[137]. Не лепш абстаялі справы і ў канцы XIX ст. Дастаткова сказаць, што ў такім буйным цэнтры, як г. Мінск, адзін урач прыходзіўся амаль на паўтары тысячы жыхароў, а ў павятовых гарадах і сельскай мясцовасці медыцынскае абслугоўванне было яшчэ горшым[138].

Працэс развіцця беларускай сям'і непасрэдна звязаны з яе ўнутраным жыццём, адносінамі паміж дарослымі членамі сям'і, размеркаваннем працы, кіраўніцтвам і інш. У кожнай сям'і ўсе яе члены па магчымасці ўдзельнічалі ў пашырэнні і ўмацаванні яе эканомікі. Ва ўнутрысямейным жыцці простага люду, незалежна ад эканамічнага стану той ці іншай сям'і, галоўнай адметнасцю была неабходнасць працы, удзел у якой прымалі ўсе члены сям'і ў адпаведнасці з узростам, полам,

---

[134] Рукописный отдел библиотеки Вильнюского ун-та им. В. Капсукаса, ф. 34, ед. хр. 254, л. 6.

[135] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 134.

[136] Там жа.

[137] Зеленский И. Минская губерния. СПб., 1864. Ч. 1. С. 449.

[138] Обзор Минской губернии за 1895 г. Мн., 1896. С. 41; Обзор Витебской губернии за 1895 г. Витебск, 1896. С. 52.

фізічным станам. Усё, што было заработана, сабрана ў полі, а таксама даходы з іншых крыніц папаўнялі сямейны бюджэт і складалі сямейную ўласнасць, якой распараджаўся галава сям'і (гаспадар, «хадзяін»). Усе члены сямейнага калектыву, асабліва ў неразздзеленых сем'ях, знаходзіліся пад яго ўладай.

Галавой сям'і, як правіла, быў старэйшы мужчына, у бацькоўскай хаце — толькі бацька. Сын ніколі не кіраваў сям'ёй пры жывым бацьку. Усе члены сям'і безумоўна падпарадкоўваліся яму. Ён вырашаў усе пытанні як унутрысямейных адносін, так і гаспадарчых. Размяркоўваў таксама працу, вызначаў час уборкі ўраджаю і інш. Праўда, як сведчаць шматлікія матэрыялы, у добрых дружных сем'ях многія пытанні вырашаліся разам з усімі дарослымі членамі сям'і (пераважна з мужчынамі), у чым не апошнюю ролю адыгрывалі асаблівасці характару галавы сям'і.

У брацкіх сем'ях кіраўніком з'яўляўся старэйшы брат, але ўнутрысямейныя адносіны тут вызначаліся большай дэмакратычнасцю, паколькі ўсе браты юрыдычна былі раўнапраўнымі. У сем'ях, дзе разам з дзядзькам жылі жанатыя пляменнікі, кіраўніком калектыву з'яўляўся дзядзька. Зрэдку мелі месца і выключэнні, калі прынцып старшынства не захоўваўся і сям'ю ўзначальваў малады, энергічны сын ці пляменнік[139]. Па звычаёваму праву жанчына не магла ўзначальваць сям'ю, але ж у шэрагу сямей вяршэнства належала і жанчыне, напрыклад, калі ў сям'і не было дарослых сыноў. Аднак здаралася, што і пры наяўнасці мужчын сям'ю ўзначальвала жанчына, што ў значнай ступені тлумачылася яе асабістымі рысамі характару[140]. Вядома ж, улічваючы юрыдычнае бяспраўе жанчыны, яе спадчынныя і маёмасныя правы ў сям'і звужалі кола яе дзейнасці. Не перадавалася па спадчыне рухомая і нерухомая маёмасць сям'і за выключэннем таго, што яна прынесла ў дом мужа (пасаг). Увогуле адносіны да жанчыны ў сям'і былі няроўнымі. Няроўныя адносіны да жанчыны ў сям'і, асабліва ў сялянскай, пачыналіся з моманту яе нараджэння. Вядома, выхаванне дзяўчыны, прыгатаванне ёй пасагу, а таксама расходы на прыборы не выклікала вялікага захаплення ў бацькоў: «дзе дочкі, там маці без сарочкі». Аб дочках гаварылі, што гэта «адрэзаны кавалак», «пойдзе замуж і ўсё, бацькам ужо ніякай дапамогі»[141]. Трэба сказаць, што многія інфарматары, гаворачы пра сваё жыццё, адзначалі, што найлепш было жыць у бацькоў:

Ой, спі, дзіцятка, спі, дарагая,
Покі ты ў мяне жывеш.
Пойдзеш у людзі, не такова будзе,
Як у матачкі, як у роднае[142].

Шматлікія матэрыялы сведчаць аб тым, што ў сям'і мужа адносіны да нявесткі складваліся па-рознаму і ў значнай ступені залежалі ад характару маладой, а галоўнае, ад стану яе здароўя і працавітасці. Вядома, што на жонку сына ў сям'і глядзелі як на рабочую сілу. Таму на знешнасць хаця і звярталі ўвагу, але ... «з твару вады не піць», — гаварылі ў народзе. Затое, калі нявестка была і «ручая, і рабочая, і на дзела ахвочая», то павага ёй у сям'і мужа была гарантавана. Няўдалай жа прыходзілася выслухоўваць кпіны і пакаранні ад свякрухі.

Свякруха ўстане,
Ва ўсе куткі гляне, а стане будзіці,
Стане крычаці:
— Ты легла спаці,
А не такаво у хаце...
Устань, нявеста, устань, маладая,
Я ж не маці, я не родная[143].

---

[139] Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 142, воп. 1, адз. зах. 1385, л. 80.
[140] Там жа, ф. 333, воп. 9, спр. 667, л. 121.
[141] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 4, спр. 3, л. 16.
[142] Вяселле. Песні. Мн., 1986. С. 247.
[143] Там жа.



60. Сялянская сям'я вяртаецца з поля. Пачатак XX ст.

Асабліва цяжка было маладой нявестцы. Па звычаю, у першыя гады яна павінна была прачынацца раней за ўсіх і выконваць усе загады свякрухі, а пасля сняданка, прыбраўшы стол і памыўшы посуд, разам з усімі працаваць цэлы дзень у полі. Што ж датычыць старэйшай нявесткі, то яна займала больш прывілеяванае палажэнне. Яна звычайна была першай дарадчыцай свякрухі. Калі апошняя адсутнічала, то старэйшая нявестка выконвала ўсе абавязкі гаспадыні: размяркоўвала працу паміж малодшымі, выдавала прадукты і інш. Так складваліся адносіны ў неразздзеленых сем'ях беларусаў, дзе вяршэнства належала бацьку. Што ж датычыць брацкіх сямей, то тут усё будавалася на больш дэмакратычнай аснове. Гаспадыняй з'яўлялася, як правіла, жонка старэйшага брата, але ж кожная жанчына ў сям'і лічыла сябе незалежнай ад гаспадыні, паколькі ўсе браты мелі аднолькавыя правы. Што ж датычыць адносін да працы, то як у бацькоўскай, так і брацкай сем'ях уся праца выконвалася калектыўна. Пагэтаму часта, асабліва сярод жанчын, узнікалі сваркі, а часам і бойкі за тое, што кожная лічыла сваю працу больш прадуктыўнай за іншых. У малой сям'і жанчына адчувала сябе вальней, паколькі яна падпарадкоўвалася толькі мужу. Агульным жа для ўсіх жанчын незалежна ад формы і тыпу сям'і была цяжкая праца на працягу ўсяго года. Вядома, што ўнутрысямейныя адносіны, у прыватнасці палажэнне жанчыны ў сям'і, вызначаліся не толькі формай сямейнага калектыву. Тут важную ролю адыгрываў сацыяльны фактар.

Нялёгка жылося жанчынам, якія займаліся земляробствам. Гэта ў аднолькавай ступені адносілася як да сялянак, так і да гарадскіх жанчын, якія мелі асабістую гаспадарку. У такіх сем'ях існавала строгае размеркаванне працы на «мужчынскую» і «жаночую». Мужчына араў поле, сеяў, касіў, нарыхтоўваў паліва, займаўся рамонтам будынкаў і інш. Аба-

вязкам жанчын у сям'і было гатаванне ежы, выраб тканіны для інтэр'ера, адзення і іншыя гаспадарчыя работы. Яна шыла, мыла бялізну, прыбірала ў хаце, працавала ў агародзе. Трэба сказаць, што вырошчванне агародніны з'яўлялася прэрагатывай жанчыны. Па народнаму звычаю, мужчына не павінен быў хадзіць у грады рваць агуркі ці цыбулю, ніколі не браў сабе бялізну з кубла і не даставаў абед з печы. На першы погляд можа паказацца, што кола абавязкаў жынчыны абмяжоўвалася толькі хатнімі клопатамі і агародам. На самай справе можна сказаць, што амаль ніводная праца ў гаспадарцы не мінала жанчыну. Яна жала, палола, дапамагала на сенакосе, прычым не толькі грэбла сена, а калі было патрэбна, то магла і стагаваць яго. Заканчвалася лета, і ў жанчыны з'яўлялася новая праца. У першую чаргу — апрацоўка лёну і падрыхтоўка валакна для ткання. «Цяжка было летам. Трэба было падняцца а чацвёртай гадзіне падаіць карову, выгнаць на пашу, згатаваць сняданак, зварыць абед, каб стаяў гарачы ў печы, пакарміць свіней, курэй і іншае, а потым бегчы ў поле... Наступала восень, выкапалі бульбу і пачыналі мяць лён. Так вось круглы год і круціліся ў той гаспадарцы, аддыхнуць не было калі»[144].

Мужчынам у зімовы час жылося крыху лягчэй, але ж работы хапала таксама. Тут і малацьба збожжа ў гумне да сняданку, потым нарыхтоўка дроў, перавозка сена і інш. Па вечарах займаліся рамонтам збруі ці плялі лапці. У сем'ях рабочых, якія не мелі падсобнай гаспадаркі, жанчыны займаліся пакупкай прадуктаў, гатаваннем ежы і інш. У сем'ях рамеснікаў, напрыклад, якія займаліся кавальскай справай, у шаўцоў ці ганчароў усе дарослыя члены сям'і працавалі з рання да позняга вечара. Сямейныя адносіны ў багатых значна адрозніваліся ад вышэй памянёных. Па-першае, жонкі купцоў, дваран, чыноўнікаў ніякай працай, як правіла, не займаліся. Галоўным для іх было прымаць гасцей, сачыць за сямейным бюджэтам, хадзіць на розныя ўвесяленні, клапаціцца аб сваёй знешнасці і інш.[145] Муж абавязаны быў забяспечваць сям'ю матэрыяльна. Уклад жыцця багатых адпавядаў заходнееўрапейскім нормам і нічога агульнага з традыцыямі беларускага народа, можна сказаць, не меў. Гэта адносілася да ежы і харчавання, адзення і, у прыватнасці, да жыллёвых умоў. Калі весці гаворку аб гараджанах, то, як вядома, большая частка сем'яў мелі свае дамы. Аднак многія сем'і мелі вельмі дрэнныя жыллёвыя ўмовы, юціліся ў «халупах», а некаторыя вымушаны былі за плату знімаць куток. Дрэнныя жыллёвыя ўмовы былі і ў значнай часткі сялянства. Трэба сказаць, што ў канцы XIX ст. у шэрагу раёнаў Беларусі мелі месца «курныя» хаткі з маленькімі вокнамі. Нярэдка ў такіх хатках дажывалі свой век састарэлыя людзі, якім было ўжо не пад сілу пабудаваць новую хату[146]. Хаты, у якіх печ была ўжо з дымаходам, усё ж не заўсёды адпавядалі санітарным нормам. Асабліва гэта адчувалася ў зімовы час, калі пры вялікіх марозах у хаце часова размяшчалі дробную жыўнасць (парасяты, куры, цялё і інш.). Увогуле ж санітарны стан жылля ў значнай ступені залежаў ад спрытнасці і жадання гаспадыні прыбіраць у хаце. У адных было прыбрана кожны дзень, а ў іншых не заўсёды. Але трэба сказаць, што ў кожнай хаце ў суботу вечарам ці раніцай у нядзелю вывешваўся чысты чатырохнітовы ручнік, часам ператканы на канцах адной-дзвюма чырвонымі паскамі. Ён служыў для ўсёй сям'і, таму яго даўжыня дасягала часам

---

[144] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 13, л. 22.

[145] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 139.

[146] Анимеле. Быт белорусских крестьян. Этнографический сборник. 1854. Вып. II. С. 112; Гуленко М. Среди болот и лесов. М., 1899. С. 9.

двух метраў. Калі сям'я была шматлікай, то апошняму з членаў сям'і прыходзілася ўцірацца ўжо не зусім сухім ручніком. Наконт гэтай з'явы ў беларусаў існавала такая прытча. Пытаецца маці ў дачкі (якая нядаўна выйшла замуж), ці добра ёй жывецца ў сям'і мужа... «Добра, — адказала дочка, — але чамусьці мне кожную раніцу прыходзіцца ўцірацца мокрым ручніком?» На што маці адказала: «А ты, дачушка, устань раней за ўсіх, і ручнік будзе сухі».

На ўсёй тэрыторыі Беларусі, калі не лічыць Палесся, былі пашыраны бані. Мыліся ў іх кожную суботу. Звычайна спачатку ішлі мужчыны, а потым, управіўшыся па гаспадарцы, жанчыны. Што ж датычыць Палесся, то тут у пэўнай меры падтрымлівалася гігіена цела. Палешукі грэлі ваду ў печы і мыліся ў балеях ці вялікіх начоўках. Парыліся часам у цёплай печы. «Бывала як выпацееш у той печы, то назаўтра як на свет нарадзіўся»[147]. Бялізну мянялі кожную суботу. Мылі яе вельмі старанна. Для гэтага яе замочвалі ў цёплай вадзе, затым адціскалі і складвалі ў жлукта. Зверху засыпалі прасеяным попелам і залівалі кіпенем. Стараліся заліць увечары, так, каб з раніцы пайсці мыць (праць) на рэчку ці сажалку. Кожную рэч жанчына біла (прала) пранікам, пасля чаго старанна паласкала і выкручвала. Сушылі бялізну ў двары, а ў дрэнную пагоду на гарышчы. Важна было не перасушыць, «бо тады ручнікі, сарочкі і іншае дрэнна выкачаюцца, не будзе на іх таго бляску, які атрымліваецца, калі качаюць крыху сыраватую бялізну»[148].

Пасцельныя прыналежнасці, бялізна і адзенне былі саматканымі: «радзюжкі», «радавыя посцілкі», вытканыя ў рады ці ёлачку, і «дзяруга», якая служыла коўдрай. Па суботах у кожнай хаце старанна мылі лавы, услоны, стол, мылі падлогу, калі яна была глінабітнай, то проста чыста падмяталі. Па вялікіх святах (Вялікдзень, Каляды), а таксама прэстольных святах (у кожнай вёсцы было сваё свята), мылі сцены, калі яны былі атынкаваныя, то бялілі, аблівалі кіпенем палок, набівалі свежым сенам ці саломай сяннік, чырвоны кут упрыгожвалі багата арнаментаванымі ручнікамі (у беларусаў-католікаў яны развешваліся па сцяне паміж вокнамі). У канцы XIX ст. са з'яўленнем ложкаў іх па святах засцілалі прыгожымі саматканымі посцілкамі. На Палессі, апрача шматколерных чатырохнітовых посцілак, вядомы яшчэ «закладанкі» («укладанкі»), ва ўсходніх раёнах — «перабіранкі», на паўночным захадзе побач з «перабіранкамі» для ўпрыгожвання пасцелі шырока выкарыстоўвалі папярэчна-паласатыя посцілкі-вясёлкі і інш. Стол заўсёды засцілаўся абрусам (настольніца, скацерка і інш.).

У гараджан санітарна-гігіенічныя ўмовы былі лепшымі, але ў значнай ступені вызначаліся тыпам жылля, сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі, характарам працы і інш. Гэта назіраецца таксама пры аналізе ежы і харчавання беларусаў. У дваран і іншых заможных слаёў на першым месцы была еўрапейская кухня. Да яе часам падлажваліся і сельскія шляхецкія сем'і, якія часам елі зразы, але часцей за ўсё ў іх

> ... На стале, быццам волат, гладыш паліваны
> З сыраквашай, а побач талерка смятаны ...[149]

Калі ж гаварыць аб ежы і харчаванні простага люду, то тут найбольш захавалася традыцыйных асаблівасцей. Ужо сфарміравалася такая думка, што працоўныя, асабліва сялянства, вечна жылі надгаладзь. Але ж, калі заглянуць у народную кухню, то можна ўбачыць мност-

[147] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 4, спр. 12, л. 8.
[148] Там жа, л. 13.
[149] Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 1984. С. 245.

ва смачных і карысных страў, якія ўмелі гатаваць беларускія жанчыны. Па-першае, тут шмат першых страў, якія ў народзе часта называлі «рэдкімі»: «Трэба зварыць што-небудзь рэдкае». Варылі бульёны, розныя супы (гарохавы, фасолевы, пярловы, грэчневы і інш.), юшку рыбную, капусту, буракі, вясной — шчаўе, бацвінне, кулагу, саладуху і інш. Шчыра кажучы, «рэдкія», як іх ужо прынята называць, першыя стравы з'явіліся не ад лёгкага жыцця, а ад беднасці. «Некалькі бульбін пакрышыш ды зварыш бульён на ўсю сям'ю»[150]. Трэба сказаць, што першыя стравы ў харчаванні беларусаў былі вельмі пашыраныя. Іх гатавалі не толькі на абед, але і на сняданак, і на вячэру. Гэта адносіцца пераважна да розных супоў. А вось капуста, буракі гатаваліся толькі на абед, паколькі патрабавалі многа часу. Звычайна, калі буракі ці капуста варыліся без мяса, то іх запраўлялі пражаным салам ці здорам: «Здор берaглі для запраўкі». Гатавалі таксама розныя мучныя стравы: зацірка (калатуша), кулага, саладуха і інш. Увогуле ж беларускія жанчыны былі выдатнымі кулінарамі. Валодаючы вялікай фантазіяй і ўмельствам, яны гатавалі самыя разнастайныя стравы, якія падаваліся на другое. Гэта розныя кашы з гарбуза («гарбузянка») з дабаўленнем проса ці крухмалу. Мноства страў гатаваліся з мукі. Найбольш пашыранай ежай былі бліны з пшанічнай, грэчневай, радзей з жытняй мукі. Гатавалі іх звычайна на сняданак і ў святочныя дні.

> ... Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
> Блінцы пякліся на сняданне...[151]

Пяклі аладкі. Мачалі іх у смятану, пасыпалі зверху цукрам, калі ён быў. У пост пяклі аладкі, лазанкі, «цыганкі» (Палессе) з грэчневай мукі з алеем і інш. Нягледзячы на даволі шырокі асартымент розных мучных і крупяных страў, багаццем і разнастайнасцю вылучаюцца стравы з бульбы. Гэта можна назваць нацыянальным гонарам. Відаць, не будзе перабольшаннем, калі мы скажам, што такім багаццем бульбяных страў не могуць пахваліцца гаспадыні і іншых краін, у прыватнасці нашы суседзі. Калі, напрыклад, бульба вараная, тоўчаная, смажаная вядома многім, то беларуская бабка, заскварaная пражаным салам з цыбуляй, галушкі, дранікі ці калдуны вядомы не ўсім[152]. Калі, напрыклад, на Ўкраіне гатавалі варэнікі, то беларускія гаспадыні, асабліва на Палессі, гатавалі іх з дранай адціснутай бульбы і фаршыравалі зрэдку мясам, але часцей тоўчаным макам ці канапляным семем. Не ўсім вядома і такая страва, як «малаі» з тоўчанай бульбы з ільняным семем і інш.

Умелі жанчыны рабіць смачныя каўбасы, сальцісон (коўбік), крывянку, а некаторыя запякалі ў печы кішкі, начыненыя дранай бульбай. Гэта страва так і называлася — «кішкі» (Брэстчына). «Усё ўмелі рабіць, абы было з чаго»[153]. Калі было дастаткова мукі, то выпякалі смачны пульхны хлеб. Нават калі і не даставала мукі, то кожная гаспадыня, дзякуючы свайму вопыту і кемлівасці, старалася спячы бохан-другі хлеба з рознымі дабаўкамі (драная бульба, высеўкі і інш.): «... таго-сяго дабавіш і спячэш той хлеб, бо як жа, каб на стале не было хлеба»[154]. Трэба сказаць, што да хлеба ў кожнай сям'і адносіліся з вялікай павагай. Калі хлеб ляжаў на стале, то лічылася, што голаду ў хаце няма. Ужывалі яго вельмі

[150] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 13, спр. 4, л. 16.

[151] Колас Я. Збор твораў. У 10 т. Мн., 1962. Т. 6. С. 14.

[152] У час Вялікай Айчыннай вайны адна жанчына-беларуска пачаставала дзвюх дзяўчат з Украіны дранікамі, якія яны каштавалі першы раз у жыцці.

[153] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 14, л. 19.

[154] Там жа, л. 16.

эканомна. За сталом адразаў хлеб толькі гаспадар. Мужчынам большы кавалак, астатнім — меншы. У кожнай сям'і існаваў строгі парадак адносна прыёму ежы. Абавязкова (за выключэннем касьбы ці жніва) за сталом павінна была сабрацца ўся сям'я. Калі ж хто спазняўся, асабліва гаспадар, то яго чакалі.

> ... ўжо снедаць час, і поўдзень скора,
> Ды з гэтым бацькам адно гора[155]...

За сталом паводзілі сябе спакойна як дарослыя, так і дзеці.

> ... А за сталом маўчком сядзелі.
> Там хлопцы гыркацца не смелі,
> Бо там парадак вельмі строгі[156]...

Прыгатаваныя стравы падавала на стол гаспадыня. Яна пільна сачыла, каб хапіла ежы, сама ж не заўсёды сядала за стол. У народзе нават існаваў такі жарт: «Што маці робіць? Паабедала ды хлеб есць». Сапраўды бывалі выпадкі, калі маці замест снедання ці абеду абыходзілася кавалкам хлеба.

Пасля сняданку ўсе дарослыя, акрамя старых і дзяцей, займаліся сваімі справамі ў залежнасці ад пары году. Вельмі напружана працавала сям'я з вясны да глыбокай восені. У вялікіх сем'ях дома заставаліся толькі дзеці, за якімі прыглядвалі бабуля ці дзядуля. У малых сем'ях з дзецьмі заставалася маці, але часта і яна з імі ішла ў поле.

> ... А дома з дзецьмі была маці.
> Яе жаночая работа
> і гэта вечная турбота
> то каля печы, то на полі[157]...

Праца ў народнай філасофіі была першаасновай жыцця чалавека, яго ўнутранай неабходнасцю. Адносіны чалавека да працы, уменне добра працаваць з'яўляліся асноўнымі вызначальнікамі яго годнасці. Таму ў аснове выхавання дзяцей у сялянскай сям'і ляжала праца, якая і вызначала маральныя, фізічныя і іншыя якасці чалавека. Патрыярхальны ўклад жыцця беларусаў у мінулым стварыў такія ўмовы, што кожная сялянская сям'я павінна была забяспечваць сябе сваімі рукамі.

На Беларусі больш за ўсё было развіта земляробства, жывёлаводства і рыбалоўства. У сувязі з гэтым, сяляне, а таксама гарадскія жыхары, якія мелі гаспадарку, стараліся навучыць дзяцей працаваць на зямлі, хадзіць за жывёлай і інш. Інакш кажучы, з малых гадоў дзеці ўжо разумелі, што яны прадоўжаць заняткі сваіх бацькоў. Таму з ранняга ўзросту яны прымалі пасільны ўдзел у выкананні той ці іншай справы. Спачатку ім даручалі простую работу. У 5—6 гадоў яны ўжо няньчылі маленькіх дзяцей, мылі посуд, дапамагалі прыбіраць у хаце, пасвілі гусей і інш. Паступова дзецям давяралі больш складаную работу. Вядома ж, пачатак працоўнай дзейнасці дзяцей у значнай ступені вызначаўся формай сям'і. У мнагалюднай сям'і, дзе было многа дарослых, дзеці пачыналі працаваць пазней, і ім даручалі больш лёгкую працу. У малой сям'і дзеці часта з'яўляліся адзінымі памагатымі і працаваць пачыналі даволі рана. Прычым ужо з дзяцінства наглядалася некаторае раздзяленне працы на «жаночую» (прадзіва, мыццё бялізны, прыбіранне ў хаце, гатаванне ежы і інш.) і «мужчынскую» (пасьба гусей, а потым кароў і коней, сяўба, рамонт будынкаў і інш.). Значная частка дзіцячай працы выкарыстоўвалася ў збіральніцтве, рыбалоўстве і гэтак далей. У сем'ях рамеснікаў дзяцей навучалі адпаведнаму рамяству.

Своеасаблівае выхаванне атрымлівалі дзеці ў дваранскіх сем'ях. З самага нараджэння дзяцей выхоўвалі высокакваліфікаваныя гувернёры. Дзеці набывалі добрыя веды па розных прадметах, у тым ліку па

---

[155] Колас Я. Збор твораў. Т. 6. С. 19.
[156] Там жа. С. 24.
[157] Там жа. С. 15.

замежнай мове, што давала магчымасць ім прадаўжаць адукацыю, напрыклад, ва ўніверсітэтах замежных краін. Значная ўвага звярталася на фізічнае выхаванне, у якім не апошняе месца займала фізкультура і спорт (скачкі на конях, фехтаванне і інш.). У агульнаадукацыйных школах займаліся дзеці чыноўнікаў і іншых мяшчан.

У сялянскіх дзяцей атрымаць адукацыю былі вельмі абмежаваныя магчымасці. Галоўным у сялянскай сям'і з'яўлялася — вырасціць добрага працаўніка. Таму дзеці сялян маглі наведваць школу толькі ў зімовы час, калі не было сельскагаспадарчай працы, і толькі пераважна хлопчыкі. Для многіх жа сялянскіх дзяцей адзінай школай была сям'я, асабісты прыклад бацькоў і іншых старэйшых членаў сямейнага калектыву. Тут адбывалася як разумовае, так і маральнае выхаванне дзяцей. Дзеці засвойвалі ўсё, што яны бачылі і чулі. Таму важна было, у якой сям'і яны раслі. У працавітых сем'ях яны раслі шчырымі, любілі зямлю і працу на ёй. «Якая матка — такое дзіцятка», «Якое дрэва — такі клін, які бацька — такі сын».

Вядома, любоўю да працы выхаванне дзяцей не абмяжоўвалася. Бацькі стараліся, каб іх дзеці раслі шчырымі, справядлівымі, каб з павагай адносіліся да старэйшых. У духоўным выхаванні дзяцей усіх саслоўяў не апошняе месца займала і рэлігія.

Вялікую ролю ў выхаванні дзяцей адыгрывалі розныя жанры беларускай народнай творчасці: песні, лічылкі, загадкі, прыказкі, прымаўкі, — у якіх адлюстравана глыбокае разуменне практычнага жыцця, наглядальнасці і інш.

Значнае месца ў фізічным, а таксама разумовым развіцці дзяцей займалі гульні, дзякуючы якім, па словах Е. Раманава, дзеці вучыліся паважаць закон, правы, дамоўленасць, слова, што садзейнічала выпрацоўцы пачуцця справядлівасці і інш.[158] Дзіцячыя гульні на Беларусі даволі разнастайныя і ахопліваюць усе сферы жыцця і быту. Менавіта ў іх, як у люстэрку, адлюстраваны этнічныя асаблівасці. Тут і гульні, звязаныя з сямейным бытам (вяселле, радзіны, госці і інш.), і працоўныя (жніво, сенакос і інш.). У гульнях беларускіх дзяцей знайшла адлюстраванне навакольная прырода (дудкі з лазы, лісткі, якія прыкладвалі да губ і дулі, ігралі таксама на кусочках зялёнага сцябла жыта). Шмат этнічных рыс заключалі ў сабе дзіцячыя цацкі, асабліва самаробныя. Гэта розныя свістулькі ў форме пеўніка, коніка і інш. Многія цацкі ўяўлялі сабой прылады працы (грабелькі). Цацкі былі простымі і зразумелымі для дзяцей і ў многім адлюстроўвалі навакольнае асяроддзе.

Вядома, што сям'я выступала мікраасяроддзем трансмісіі культуры. Менавіта ў сям'і дзеці атрымлівалі не толькі практычныя навыкі да працы, а засвойвалі розныя звычаі і абрады, у якіх яны непасрэдна ўдзельнічалі. Гэта ў першую чаргу Каляды. Самым цікавым для дзяцей былі «шчодрыкі», калі яны, як і дарослыя, хадзілі «шчадраваць». З дазволу гаспадароў спявалі песні з пажаданнямі добрага ўраджаю, багацця і ўсяго найлепшага. Прымалі ўдзел і ў такіх святах, як Вялікдзень ці Купалле. Не абыходзіліся без дзяцей і абрады вяселля.

У XIX ст. народная творчасць была ўсеабдымнай сферай жыцця беларускага народа, яна садзейнічала фарміраванню нацыянальнага характару і менталітэту, дапамагала ў арганізацыі разумнага ладу грамадскага і сямейнага побыту, была дзейснай складовай часткай этнічных працэсаў і этнічнай гісторыі беларусаў.

Традыцыйная культура існавала і развівалася ў межах сям'я — род — вясковая абшчына. Сям'я была першым звя-

[158] Виленские губернские ведомости. 1890. № 93. С. 4.

ном у гэтым ланцужку, і ў асноўным ад яе залежала фарміраванне будучага носьбіта і спажыўца гэтай культуры. Нашы продкі добра ведалі, якіх нашчадкаў яны хочуць выхаваць: фізічна і псіхічна здаровымі, прыгожымі, добрасумленнымі, працавітымі, спагадлівымі, маральна чыстымі, вернымі ў каханні і сяброўстве, людзьмі, якія з любоўю адносяцца да роднай зямлі. І для дасягнення пастаўленай мэты ў нашага народа існавала сістэма выхавання дзяцей і моладзі, у якой асноўнае месца займалі традыцыйная беларуская народная абраднасць, заснаваная на пастулатах звычаёвага права, нормы народнай этыкі, мараль і фальклор, у якім крытэрыі этнавызначальных адносін выкрышталізаваліся ў структуру, здольную лёгка ўспрымацца і перадавацца ад пакалення да пакалення.

Дзіця ў традыцыйнай культуры беларусаў разглядалася як неад'емная частка прыроды, і яго зачацце, нараджэнне, развіццё і выхаванне падпарадкоўваліся агульным касмічным законам. Тое, што ў апошняе дзесяцігоддзе ў біялагічнай і псіхалагічнай навуках толькі даказваецца, а менавіта — думка аб вызначальнай ролі развіцця дзіцяці ва ўлонні маці, калі фарміруюцца шматлікія дэтэрмінанты паводзін дарослага чалавека, нашым продкам было даўно і добра вядома. Адсюль і ўяўленні аб тым, што ў момант зачацця нельга злавацца, трэба адчуваць сябе фізічна здаровымі, а таксама меркаванні аб магчымасці спрагназаваць пол дзіцяці (хлопчыка магчыма было зачаць у ноч паміж панядзелкам і аўторкам, дзяўчыну — паміж пятніцай і суботай). Гэта веданне нашымі продкамі агульных касмічных законаў абумовіла і з'яўленне шматлікіх перасцярог і правілаў паводзін для жанчыны ў перыяд цяжарнасці. Асабліва важнымі і вызначальнымі, паводле народных уяўленняў, былі першыя хвіліны жыцця дзіцяці. Каб яно любіла родны дом, бацькоў, немаўля загортвалі ў адзенне каго-небудзь з блізкіх; каб было багатае, яго клалі на некалькі хвілін на кажух, у ваду для першага купання апускалі срэбраную манету, зерне. Ваду пасля першага купання вылівалі пад фруктовае дрэва, каб дзіця было прыгожае, ці на печ, каб яно спакойна сябе паводзіла і моцна спала. Адразанню пупавіны таксама надавалася вялікае значэнне, паколькі, паводле народнага меркавання, яно магло паспрыяць далейшай палавой дыферэнцыяцыі і вызначэнню будучай працоўнай дзейнасці нованароджанага. Па гэтай прычыне пупавіну хлопчыку пераразалі, падклаўшы які-небудзь прадмет са сферы мужчынскай дзейнасці (сякеру, нож, дэталі сахі, кнігу), дзяўчынцы — адпаведна прадметы жаночай працы (нажніцы, ніткі, дэталі ткацкага стану). Падобных прыкладаў можна прывесці яшчэ вельмі шмат, але і так яскрава бачна, што выхаванне дзіцяці ў беларусаў у мінулым пачыналася задоўга да яго нараджэння.

З першых жа дзён жыцця ішло паступовае, нязмушанае і, што асабліва важна, адпаведнае пэўнаму ўзросту ўздзеянне фальклорна-этнаграфічнага локуса: калыханкі, казкі, дзіцячыя песні, паданні, легенды. Пазней — удзел у каляндарных і сямейных святах і абрадах, дзе дзеці выконвалі строга рэгламентаваныя традыцыямі абрадавыя функцыі. Асабліва важную ролю ў сацыялізацыі дзяцей адыгрываў іх непасрэдны ўдзел у святах і абрадах народнага календара, які рэгуляваў традыцыйны ўклад жыцця беларусаў на працягу года. Гэта быў даволі сур'ёзны экзамен для дзяцей і моладзі на валоданне імі неабходнымі ведамі і абрадавымі навыкамі, паколькі лічылася, напрыклад, што ўраджай у бягучым годзе, шчасце і дабрабыт сям'і будзе залежаць ад таго, як яны калядавалі, сустракалі вясну і гэтак далей. Засваенне святочна-абрадавай і фальклорнай спадчыны ішло паэтапна, бо народ вельмі добра разумеў сувязь паміж функцыянальным і структурным узростам дзіцяці.

З першых дзён з'яўлення дзіцяці асаблівае значэнне набываў вербальны код, які праз калыханкі-замовы таксама засцерагаў яго ад уздзеяння злых сілаў і садзейнічаў росту, развіццю і выхаванню немаўляці. Ужо з гэтага часу паступова ў беларускага дзіцяці выпрацоўвалася пачуццё рытму, такое неабходнае ў далейшым жыцці пры выкананні песень, танцаў, працы; пачынала фарміравацца адна з асноўных рысаў нашага нацыянальнага характару — непрыняцце хаосу. Вербальны код спрацоўваў у сям'і праз яе жаночую палову, мужчыны ажыццяўлялі абрадавыя дзеянні, накіраваныя на далучэнне дзіцяці да жыццёвай прасторы роднай хаты (вешалі люльку да бэлькі, што з'яўлялася мяжой паміж двумя родамі, клалі немаўля на ганак, які з'яўляўся своеасаблівай мяжой паміж тым і гэтым светам, бо у нашых продкаў у VI—XIV стст. паралельна існаваў абрад трупаспальвання, і ўрну з прахам хавалі пад ганкам). Акрамя членаў сям'і пры нараджэнні дзіцяці значную ролю адыгрывалі баба-павітуха і хросныя бацькі (персанажны код). Ад іх выбару і паводзін таксама залежаў будучы лёс дзіцяці. За хросных бацькоў бралі звычайна людзей маладзейшых, чым родныя бацькі, яны мелі ў наваколлі рэпутацыю сумленных, працавітых, разумных. Пры адпраўленні ў царкву яны падносілі дзіця да ўсіх прысутных са словамі: «Бацькі, дзядзькі, цёткі, суседзі, благаславіце яго да Хрысту», на што тыя адказвалі: «Няхай яго Бог гадуе, шчасце і долю гатуе, бацьку і маці на паслугу і на пацеху» (вербальны код). Яшчэ большае значэнне набываў вербальны код пры святкаванні хрэсьбін, калі ўсе госці замаўлялі-прагназавалі будучы лёс дзіцяці: «Каб мой унук вялік рос, шчасліў быў! Каб на яго долю паслаў Бог усяго ўволю», «Пашлі, Гасподзь, у гэты дом хлеб да соль, на полі капамі, на лугах стагамі, у амбары карабамі, на гумне варахамі, а ў печы пірагамі»[159]. На хрэсьбінах да вербальнага кода далучаўся і музычны, які дапамагаў выпрасіць-вымаліць у Бога ці іншых нябесных сіл шчаслівую долю дзіцяці:

> Арэшанька-чарнушанька,
> Што ж ты рана расцвіла?
> Маладая ты, Зіначка,
> Што ж ты рана радзіла?
> А радзёмшы сына,
> Ты добрую долю дала,
> Эх, штоб быў здароў, вялік рос
> І нам шчасце прынёс[160].

Наогул, хрэсьбіны сімвалізавалі тое, што нованароджаны пакінуў ужо лімінальную зону і яго патрэбна далучыць да роду і вясковай абшчыны, дзе яму належала жыць. Гэта сімвалічная павязка ўсяго роду і абшчыны адбывалася праз абрадавую страву — «бабіну кашу», якую не толькі з'ядалі ўсе прысутныя, але і абавязкова неслі дзецям па кавалачку. За сталом хросныя бацькі дзіцяці павінны былі шмат жартаваць, каб яно ў будучым было гаваркое, прыветлівае да людзей. Пасля падзелу «бабінай кашы» хросны бацька бег і хапаўся на двары за сякеру, саху, барану, каб яго хроснік быў добрым работнікам; хросная маці адпаведна хапалася за вядро, кросны, прасніцу, серп, граблі, каб яе хросніца была добрай работніцай. Усе прысутныя імкнуліся як мага хутчэй з'есці абрадавую страву, бо лічылася, што такім чынам можна садзейнічаць хутчэйшаму авалоданню дзіцём мовай. Вышэй падкрэслівалася, што адной з важнейшых мэт, якая аб'ядноўвала ўсю сістэму традыцыйнай абраднасці, было захаванне роду, як нейкага канкрэтнага, так і ў агульным плане захавання ўсяго чалавецтва. З гэтага пункту гледжання вельмі важным уяўляецца наступнае абрадавае дзеянне: пасля разбівання гаршка

[159] Кухаронак Т. І. Радзінныя звычаі і абрады беларусаў. Мн., 1993. С. 68.
[160] Там жа. С. 69.

з кашай чарапкі ад яго клалі на галаву бяздзетным жанчынам з пажаданнем, каб і ў іх «праз год была каша», гэта значыць — нарадзілася дзіця.

Наогул жа, стрыжнем большасці абрадава-магічных дзеянняў і вербальных тэкстаў, што здзяйсняліся на хрэсьбінах, быў клопат пра здароўе, дабрабыт, шчасце нованароджанага і самае галоўнае — клопат пра ўпісванне яго ў існуючую сістэму жыццядзейнасці канкрэтнага чалавека, сям'і, роду, вясковай абшчыны. Паўтараем: выхаванне дзіцяці ў асяроддзі беларускіх сялян у мінулым пачыналася задоўга да яго нараджэння і вельмі актыўна ажыццяўлялася ў першыя хвіліны, дні і месяцы жыцця. Тут дарэчы нагадаць выказванне Жан Жака Русо, які адзначаў: «Выхаванне чалавека пачынаецца з яго нараджэння, ён яшчэ не гаворыць, яшчэ не чуе, але ўжо вучыцца. Вопыт папярэднічае навучанню»[161]. У нашага народа чалавек цаніўся тым вышэй, чым больш строга ён прытрымліваўся эталонаў бытавых і абрадавых паводзін, якія панавалі ў канкрэтным сацыяльна-этнічным асяроддзі. Той, хто так ці інакш выпадаў за ўстаноўленыя грамадскай думкай пэўныя рамкі, лічыўся сацыяльна непаўнавартым. Індывід павінен быў падпарадкоўвацца законам пэўнага калектыву, які ствараўся па полаўзроставаму прызнаку, ажыццяўляў жорсткі кантроль, каб туды не трапіў «чужы», захоўваў таямнічасць ад усіх, хто «не свой». Асоба, якая ў той ці іншай ступені адступала ад народных маральных нормаў і прадпісанняў, тым самым прысуджала сябе да маральнай пагібелі. Такая залежнасць чалавека ад грамадства насіла амбівалентны характар, паколькі, з аднаго боку, выпрацоўвала стабільнасць нацыянальнага характару беларусаў, што давала магчымасць падтрымліваць традыцыі і адзінства духоўнага жыцця на працягу стагоддзяў, а з другога — фарміравала безыніцыятыўнасць і паслухмянасць.

Ужо ў час святкавання хрэсьбін былі ў наяўнасці элементы ініцыяцыйных абрадаў прыёму нованароджанага ў пэўны ўзроставы калектыў (частаванне ўсіх дзяцей вясковай абшчыны абрадавай стравай).[162]

Як ужо адзначалася, пры нараджэнні — вяселлі — смерці выкарыстоўваўся акцынальны абрадавы код, які прадугледжваў абавязковае ачышчэнне ўсіх прысутных пры пераходзе індывіду з аднаго сацыяльнага статуса ў другі, галоўным сродкам якога выступала вада. Акрамя вады ачышчэнню мог садзейнічаць і смех, для чаго выкарыстоўваліся разнастайныя карнавальныя элементы: пераапрананні, гратэскавыя персанажы-маскі, буйства і свабода ад паўсядзённых нормаў і прадпісанняў у паводзінах. Разам з тым, смех як бы знішчаў, прыніжаў прадстаўнікоў старэйшага пакалення («старога свету» па М. Бахціну), якія ўдзельнічалі пры нараджэнні дзіцяці («новага свету» па М. Бахціну). Асабліва яскрава гэта відаць у абрадзе «цяганне бабы-павітухі на баране», які ў шматлікіх раёнах Беларусі называўся «везці бабу тапіць». Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што ў глыбокай старажытнасці бабу-павітуху тапілі на самай справе, у больш познія часы яе, а часам і кумоў цягнулі да рэчкі, дзе спрабавалі, а часта і ўкідалі іх у ваду.

Хрэсьбіны былі канчатковай мяжой, за якой індывід пакідаў ліминальную зону, усе наступныя абрадавыя дзеянні адзначалі тыя ці іншыя змяненні ў фізічным і разумовым развіцці дзіцяці і ўсё болей далучалі яго да сістэмы духоўнай і матэрыяльнай культуры сацыяльнай групы, а шырэй — этнасу. Да моманту дасягнення паўналецця хлопцы і дзяўчаты ведалі ўсе традыцыйныя звычаі, абрады,

[161] Жемчужины мысли. Мн., 1991. С. 379.

[162] Кухаронак Т. І. Радзінныя звычаі і абрады беларусаў. С. 75.

адпаведную ім фальклорную спадчыну сваёй мясцовасці і ўсведамлялі сваё месца і ролю ў іх выкананні. Моладзь засвойвала асноўныя каштоўнасці традыцыйнага ладу жыцця, сярод іх галоўнымі былі: праца, сям'я, дом, бацькаўшчына. Дзякуючы дзеянню механізма сацыялізацыі асобы, у вясковай моладзі фарміравалася этнічная самасвядомасць, якая выглядала ў знешніх формулах наступным чынам: «мы тутэйшыя», «так нашы дзяды—прадзеды жылі, і мы так будзем жыць», «трэба ўсё рабіць па-людску».

Як бачым, звычаі і абрады, што суправаджалі нараджэнне і выхаванне беларускага сялянскага дзіцяці, мелі надзвычай важнае значэнне для выхавання менавіта беларусаў, якія павінны былі жыць і працаваць на зямлі. Гэты клас быў асновай беларускай нацыі, носьбітам і спажыўцом традыцыйнай культуры, якая найбольш уплывала на фарміраванне нацыянальнага характару беларусаў.

Створаная на працягу вякоў эфектыўная сістэма абрадавага рэгулявання жыцця моладзі дазваляла ёй нармальна перайсці ў дарослы стан, падрыхтавацца да ўступлення ў шлюб, пачаць сямейнае жыццё. У вясковым побыце, народнай філасофіі існавала рэзкае адрозненне паміж паводзінамі дзяўчат (хлопцаў) — з аднаго боку і жанчын (мужчын) — з другога. Мяжой, якая аддзяляла вольнае жыццё моладзі ад строга рэгламентаванага жыцця сямейных людзей, было вяселле.

Вяселле, таксама як нараджэнне і смерць, суправаджалася найбольш працяглымі рытуальна-абрадавымі цыкламі, якія грунтаваліся на некалькіх мэтах, важнейшымі з якіх былі: захаванне і працяг роду, паляпшэнне дабрабыту, ушанаванне продкаў, забеспячэнне перамогі добрых духаў (сілаў) над злымі. Згаданыя цыклы насілі амбівалентны характар: з аднаго боку, яны пацвярджалі факт «смерці» чалавека ў яго ранейшым сацыяльным статусе, а з другога — давалі магчымасць удзельніку рытуалу пакінуць лімінальную зону і набыць зусім іншы грамадскі статус. Па гэтай прычыне пры нараджэнні — вяселлі — смерці часта выкарыстоўваліся аналагічныя абрадавыя коды, сярод якіх вылучаліся: акцыянальны, вербальны, прадметна-атрыбутыўны, персанажны, выяўленчы, музычны, тэмпаральны, лекатыўны. У большай ці меншай ступені да гэтых абрадавых кодаў прыбягала сям'я пры провадах сына (унука) на службу ў войска, пры будаўніцтве хаты і засяленні ў яе, пры часовым разрыве мужа і жонкі («разлучынах», «прочках»).

Вяселле пачыналася са сватаўства, якое адбывалася звычайна ў аўторак, чацвер ці суботу. У шматлікіх населеных пунктах Беларусі ў гэты ж дзень былі і «запоіны», дзе прысутнічала невялікая колькасць гасцей, у іншых вёсках яны адбываліся праз некалькі дзён пасля сватаўства. У хуткім часе сваякі жаніха і нявесты запрашаліся на «заручыны», дзе ішла больш канкрэтная размова пра будучае вяселле. Тут нявеста рабіла першыя падарункі сваякам жаніха, а жаніх — нявесце. Важным момантам перадвясельнага перыяду быў абрад развітання нявесты са сваімі сяброўкамі — зборны вечар, дзявочнік, «вянкі». Дзяўчаты рыхтавалі вясельны галаўны ўбор нявесце, упрыгажэнні для дружыны жаніха і нявесты, для вясельнага дрэўца. На большай частцы тэрыторыі Беларусі ўласна пачаткам вяселля з'яўляўся абрад выпечкі караваю, які здзяйсняўся напярэдадні яго ў суботу вечарам ці раніцай у нядзелю, калі маладыя ехалі да вянца. У паўночна-заходніх раёнах Беларусі пачаткам вяселля лічылася выкананне так званага «стаўбавога» абраду і спецыяльнай «стаўбавой» песні ў дамах жаніха і нявесты. Да пачатку вяселля да жаніха і нявесты запрашаліся спецыяльныя вясельныя чыны: сваты, шаферы, шаферкі,— назвы і функцыі якіх вар'іравалі ў залежнасці ад мясцовай традыцыі. Каравай гатавалі з вы-

кананнем абрадава-магічных дзеянняў, багата ўпрыгожвалі фігуркамі з цеста, папяровымі кветкамі, галінкамі пладовых дрэў, каласамі жыта ці пшаніцы. Акрамя таго, выпякалі іншыя хлебныя вырабы, якія ў далейшым выкарыстоўваліся пры выкананні разнастайных абрадавых дзеянняў. Перад вянчаннем ажыццяўляўся «пасад» маладых — благаславенне іх бацькамі кожнага па-асобку ў яго родным доме. Затым жаніх з дружынай прыязджаў да нявесты, дзе пасля торгу, спрэчак яго пускалі на цесцяў двор. Затым маладыя ехалі вянчацца; вясельны поезд імчаўся па вёсцы з музыкай, песнямі, звонам бубенчыкаў. Пасля вянчання маладыя ехалі да бацькоў нявесты, якія сустракалі іх хлебам-соллю і суправаджалі за стол. Усіх гасцей частавалі, дзялілі каравай, прыгатаваны ў доме нявесты, родныя давалі ёй падарункі. Ад'язджаючы да бацькоў свайго мужа, маладая моцна плакала, часам галасіла, кланялася родным, сваякам, суседзям, сыпала зерне па хаце.

Бацькі маладога сустракалі поезд у варотах, свякруха была апранута ў вывернуты футрам наверх кажух, каб адагнаць ад маладых злыя сілы. Бацькі частавалі сына і нявестку мёдам, каб у іх было салодкае жыццё. Адразу ж (або назаўтра) нявестка давала падарункі радні свайго мужа. Правядзенню першай шлюбнай ночы надавалася ў беларусаў вялікае значэнне, паколькі яна аказвала ўплыў на далейшае сумеснае жыццё мужа і жонкі. Прагатаванне пасцелі суправаджалася разнастайнымі магічнымі дзеяннямі (падкладванне нажа, сякеры, нітак, зерня), каб забяспечыць маладым мужу і жонцы нараджэнне дзяцей, у першую чаргу сыноў, а таксама засцерагчы ад уздзеяння злых сілаў. Раніцай родныя жаніха ішлі будзіць маладых, аглядалі пасцель і бялізну маладой. Калі яны пераконваліся ў цнатлівасці нявесты, вяселле працягвалася з яшчэ большым размахам: на двары вывешвалі чырвоны сцяг, гасцей частавалі салодкай падфарбаванай гарэлкай, бацькам маладой была вялікая пашана і ўдзячнасць з боку зяця і яго родных. Калі ж нявеста аказвалася нецнатлівай, тады яна падвяргалася здзеклівым кпінам: на яе бацькоў надзявалі хамут на шыю і вадзілі па вёсцы, гасцям падавалі бліны з дзіркай пасярэдзіне, ставілі перад імі шчарбатую міску і інш. У апошні дзень вяселля вялікае значэнне займалі абрадавыя дзеянні, накіраваныя на праверку працоўных навыкаў нявесткі і яе характару, а таксама ўвядзенне маладой гаспадыні ў кола паўсядзённых клопатаў і заняткаў у доме мужа, знаёмства з нормамі паводзін новай для яе сям'і. На беларускім вяселлі абавязкова прысутнічалі карнавальныя элементы і абрады, якія выконвалі пераапранутыя («цыганы»). Яны хадзілі па вёсцы, кралі курэй, парасят, рэчы хатняга ўжытку і ўсё гэта адносілі маладой сям'і. Вечарам адбываўся абрад падзелу каравая ў доме жаніха, і вяселле заканчвалася. Прадугледжаныя традыцыяй паслявясельныя звычаі і абрады садзейнічалі замацаванню шлюбна-сваяцкіх узаемаадносін паміж сем'ямі, дапамагалі маладой жанчыне ўвайсці ў новы для яе дом, перажыць разлуку з роднымі. Гэтым мэтам садзейнічалі сустрэчы («перазовы», «банкеты», «госці») блізкіх сваякоў маладых у хуткім часе пасля вяселля. Традыцыйнае вяселле было важнай падзеяй у сямейным і грамадскім побыце беларускіх сялян, рабіла вялікі эмацыянальны, псіхалагічны, выхаваўчы ўплыў на маладых людзей, якія ўступілі ў шлюб, а таксама і на дзяцей, садзейнічала шырокаму распаўсюджанню і пастаяннаму ўзнаўленню вясельных звычаяў і абрадаў у этнічных традыцыях беларусаў.

У агульным комплексе сямейнага і грамадскага жыцця беларускіх сялян асаблівае месца займалі звычаі і абрады, якія суправаджалі смерць чалавека, яго пахаванне і памінанне. Пахавальна-паміналь-

ная абраднасць захавала ў сабе найбольш старажытныя рысы, звязаныя з народнымі ўяўленнямі пра замагільнае жыццё, душу, магчымасць зносін з нябожчыкам, з верай у тое, што памерлыя могуць уплываць на жыццё жывых, дапамагаючы ім ці, наадварот, шкодзячы. Сярод насельніцтва Беларусі шырокае распаўсюджанне мелі вераванні ў магчымасць прадказаць блізкую смерць чалавека.

Адразу ж пасля смерці на люстэрка вешалі хустку ці ручнік. Абмываць і апранаць нябожчыка запрашалі людзей сталага ўзросту: да мужчыны — мужчын, да жанчыны — жанчын. Людзі даведваліся пра смерць аднавяскоўца адзін ад аднаго і збіраліся ў гэты дом без запрашэння. Рабілі труну і капалі магілу мужчыны. Па традыцыі, нябожчык павінен быў пераначаваць адну ноч дома; тыя, хто парушаў гэты звычай, падвяргаліся асуджэнню аднавяскоўцаў. У гэтай хаце імкнуліся не выконваць ніякай працы, акрамя самай неабходнай. Шмат вераванняў і забаронаў было звязана з вынасам труны з хаты і дарогай на могілкі. Труну выносілі абавязкова чужыя людзі. Адразу ж пасля гэтага адна з жанчын сыпала жыта на тое месца, дзе ляжаў нябожчык, і на падлогу, «каб тут было жыццё»[163]. З гэтай жа мэтаю хто-небудзь са сваякоў заставаўся дома, калі ўсе астатнія адпраўляліся на могілкі. Труну на могілкі неслі на плячах ці везлі на конях, валах. Калёсы пасля гэтага не выкарыстоўвалі ў сельскагаспадарчай працы 2—3 тыдні. У магілу труну апускалі на ручніках або на намітках, перад тым, як засыпаць яе зямлёй, блізкія кідалі туды грошы і жмені зямлі[164].

Сям'і нябожчыка дапамагалі матэрыяльна і маральна не толькі сваякі, але і аднавяскоўцы. У асяроддзі беларускіх сялян у даследуемы перыяд была распаўсюджана вера ў «нячыстых нябожчыкаў». Каб пазбавіцца ад іх, выконвалі разнастайныя абрадава-магічныя дзеянні: забівалі асінавы кол у магілу, абсыпалі яе самасейным макам, хадзілі да варажбітак[165].

Блізкія сваякі нябожчыка насілі жалобу цэлы год. У гэты час нельга было спяваць, танцаваць, спраўляць вяселле, фарбаваць яйкі ў чырвоны колер на Вялікдзень.

Памінанне памерлых — з'ява распаўсюджаная на Беларусі. Памінкі падзяляліся на два цыклы: у залежнасці ад даты смерці чалавека і ў адпаведнасці з народным календаром. Першы цыкл здзяйсняўся ў дзень пахавання, на 9-ы, 40-ы дзень і праз год. За жалобны стол запрашаліся ўсе, хто ўдзельнічаў у пахаванні. Гатавалася спецыяльная памінальная страва — «канун», якую ўсе прысутныя павінны былі паспрабаваць тры разы. Асобнае месца за сталом з поўнай талеркай і чаркай пакідалі для нябожчыка, душа якога, лічылася, жыве на зямлі 40 дзён пасля смерці. Памінанне памерлых, якое праводзілася ў разнастайныя дні народнага календара (Радаўніца, наўскі Вялікдзень, Сёмуха, Дзяды — у праваслаўных, Задушны Дзень — у католікаў), насіла большай часткай грамадскі характар.

Народныя звычаі і абрады адыгрывалі ў жыцці сям'і вельмі важную ролю. Яны рэгулявалі ўсе адносіны ў сям'і, падтрымлівалі іерархію і ступені сваяцтва, рэгламентавалі час працы і адпачынку.

---

[163] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 1, спр. 879, л. 36.

[164] Там жа, спр. 883, л. 38, 51.

[165] Там жа, спр. 879, л. 24.

## ДЭМАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ

Першая сусветная вайна, рэвалюцыя, грамадзянская вайна, замежная інтэрвенцыя адмоўна паўплывалі на дэмаграфічныя працэсы. Беларусь у сілу свайго геапалітычнага становішча знаходзілася ў эпіцэнтры ваенных дзеянняў. Страты на франтах суправаджаліся гібеллю мірнага насельніцтва: дзяцей, старых, жанчын. На тэрыторыі Беларусі, якая была акупіравана замежнымі захопнікамі, дзейнічалі партызанскія атрады. Страты ўсугубляліся эпідэміямі віруснага грыпу і сыпнога тыфу. Масавай з'явай былі бежанцы, якія накіроўваліся ў глыб Расіі, дзе, па няпоўных даных, налічвалася 1,3 млн бежанцаў[1]. Частка іх у мірны час вярнулася ў родныя мясціны. Мела месца і эміграцыя за мяжу.

На пачатак 1914 г. на тэрыторыі Беларусі пражывала 7,5 млн чалавек; на канец 1917 — 6,9 млн, а на пачатак 1921 — толькі 6,7 млн чалавек[2].

Пасля грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі дэмаграфічная сітуацыя стабілізавалася. Узрасла кампенсацыйная нараджальнасць, як звычайна, характэрная для пасляваенных гадоў. Пэўную ролю ў зніжэнні паказчыкаў смяротнасці адыгралі мерапрыемствы ўрада, якія былі накіраваны на абарону здароўя насельніцтва, ліквідацыю дзіцячай і мацярынскай смяротнасці.

З канца 20-х гг. нараджальнасць паступова зніжалася, што тлумачылася як канцом аднаўлення людскіх страт за час вайны, так і ў значнай ступені зменамі ўкладу сямейнага жыцця, абмежаваннем дзетанараджэння (аборты, ужыванне перасцеражальных мер супраць зачацця), далучэннем жанчын да грамадскай вытворчасці. Каэфіцыенты нараджальнасці гарадскога насельніцтва былі ніжэй за такія ж сельскія паказчыкі. Асабліва рэзкае падзенне нараджальнасці назіралася ў акруговых гарадах. Што датычыцца смяротнасці, то яе каэфіцыенты былі самыя нізкія ў СССР, набліжаючыся да еўрапейскага ўзроўню. Мінімальнымі паказчыкамі смяротнасці адрозніваліся мястэчкі і дробныя гарады, сярэднімі — акруговыя гарады, максімальнымі — сельская мясцовасць. Найбольш пашыранымі прычынамі смерці былі інфекцыйныя захворванні і туберкулёз. У рэспубліцы самыя высокія паказчыкі нараджальнасці і натуральнага прыросту былі ў беларусаў. У 1927 г. каэфіцыент нараджальнасці

---

[1] Манак Б. А. Насельніцтва Беларусі: Рэгіянальныя асаблівасці развіцця і рассялення. Мн., 1992. С. 47.

[2] Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 359.

складаў 42,3 праміле (42,3 чалавек на 1 тыс. беларусаў), а ў сярэднім па рэспубліцы — 38,6. Некалькі вышэйшымі былі ў іх паказчыкі смяротнасці (15,1 праміле, у сярэднім па БССР — 14,2). Натуральны прырост у беларусаў складаў 27,2 праміле, а у цэлым па БССР — 24,4[3]. Сказваліся перш за ўсё слабая урбанізацыя беларусаў, а значыць — захаванне традыцый у сямейным ладзе, параўнальна невялікая занятасць у грамадскай вытворчасці і інш. Грамадзянская і Першая сусветная войны аказалі значны ўплыў на змяншэнне ўдзельнай вагі мужчынскага насельніцтва. Па перапісу 1926 г. на 100 мужчын-беларусаў прыходзілася 105 беларусак, удзельная вага мужчын склала 48,7%, жанчын — 51,3% (для параўнання: у 1897 г. удзельная вага мужчын даходзіла да 49,5%).

Са стварэннем Беларускай ССР частка міграцыйных патокаў стала лакалізавацца ў межах рэспублікі. Новымі цэнтрамі прыцягнення становяцца акруговыя гарады (пазней абласныя цэнтры) і сталіца рэспублікі — г. Мінск. Аднак у 20-я гг. гэта тэндэнцыя не набрала сілы. Гарады рэспублікі ў 1929 г. «адцягвалі» толькі 14,4% механічнай страты сельскага насельніцтва[4]. У гэты час для рэспублікі характэрны вялікая аграрная перанаселенасць і беспрацоўе. На біржах працы толькі акруговых гарадоў на 1.01.1926 г. налічвалася 25 тыс. беспрацоўных. Па разліках Народнага камісарыята земляробства БССР, у 1926 г. у вёсках рэспублікі мелася каля 1 млн чалавек, не занятых у сельскагаспадарчай вытворчасці[5]. У мэтах памяншэння перанаселенасці планавалі развіццё прамысловасці, інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі, меліярацыю нявыкарыстаных зямель і перасяленне часткі насельніцтва ва ўсходнія раёны СССР. Згодна дзесяцігадоваму плану 1925/26—1934/35 гг., прадугледжвалася перамяшчэнне з Беларускай ССР на ўсход краіны 690 тыс. чалавек. Сярод перасяленцаў пераважалі сярэдняга дастатку сяляне (57%), на долю беднякоў прыходзілася 35%, заможных сялян — 8%[6]. З усіх перасяленцаў у 1927/28 гг. 57% накіроўваліся ў Сібір, 21% — на Далёкі Ўсход, 10% — на Ўрал, 7% у Крым і Бірабіджан, 3% — у іншыя раёны. З ліку мігрантаў у Сібір, Далёкі Ўсход, Урал адпаведна 93, 99, 100% складалі беларусы (1927/28 гг.)[7].

Характэрна, што фактычнае перасяленне было намнога менш запланавага. У 1926/27 гг. было запланавана перасяліць 52 тыс. чалавек, а перасялілася ўсяго 20 тыс. Прычым 9—11% з іх праз кароткі час вярталіся ў родныя мясціны[8]. Палітыка па перасяленню насельніцтва не дасягнула сваёй мэты, праблемы занятасці вырашаны не былі.

Шырокае распаўсюджанне ў гэты перыяд меў і такі від міграцыі, як адыходніцтва. Даныя апытальных лістоў па ўліку сельскага насельніцтва БССР, якое ішло на промыслы за межы раёна яго пражывання, сведчаць, што толькі на Палессі з 1.10.1926 г. па 1.10.1927 г. па Мазырскаму павету было 132 086, па Гомельскаму — 4220 адыходнікаў. Сельскае насельніцтва Палесся накіроўвалася на лесараспрацоўкі, вываз лесу, сплаў яго па Прыпяці і Дняпру. Меў месца і адыход на прамысловыя прадпрыемствы Гомеля, Кіева, Днепрапятроўска, на шахты Данбаса[9]. У ходзе першых пяцігодак побач з узмацненнем адыходніцтва змяняецца і

[3] Натуральны рух насельніцтва БССР за 1927 г. Мн., 1930. С. XXVI, XXVIII, XL, XL, XLVII, XLIX.

[4] НАРБ, ф. 44, воп. 1, спр. 2393, л. 19—20.

[5] Там жа, ф. 48, воп. 1, спр. 4045, ч. 1. л. 89аб; ф. 6, воп. 1, спр. 1686, л. 10—11.

[6] Там жа, ф. 6, спр. 1686, л. 10,11.

[7] Там жа, спр. 1984, л. 129—133.

[8] Там жа, спр. 1686, л. 11, 13.

[9] Центральный государственный архив РФ, ф. 5515, воп. 24, спр. 90, л. 5.

сама яго структура. Панізілася доля сельскагаспадарчых рабочых, павялічылася ўдзельная вага рабочых, занятых у прамысловасці, лясной гаспадарцы, будаўніцтве. Так, толькі ў фабрычна-заводскай прамысловасці БССР колькасць адыходнікаў узрасла с 11,5 тыс. у 1929 г. да 40 тыс. чалавек у 1932 г.[10] Гэтыя структурныя змены былі абумоўлены індустрыялізацыяй рэспублікі. У гарадах адыходнікі атрымоўвалі прафесіі, вучыліся пісьменнасці, успрымалі нормы гарадскога ладу жыцця.

Істотныя страты беларусы панеслі ў даволі «мірны» перыяд 1926—1939 гг. Калектывізацыя і звязаныя з ёй высылкі заможных сялян на Ўрал, поўнач Расіі, у Сібір і іншыя рэгіёны СССР пацягнулі за сабой разбурэнне сем'яў, дзіцячую безнагляднасць, голад 1933 г. Ставілася задача паслабіць нацыянальную і сацыяльную напружанасць. У гэты час назіраліся масавыя выезды за межы Беларусі сялянаднаасобнікаў, якія кідалі свае гаспадаркі і сем'і, ратаваліся ад раскулачвання і калгасаў. Узрасла інтэнсіўнасць добраахвотных міграцый беларусаў у раёны вялікіх прамысловых будоўляў, перш за ўсё на Ўрал і ў Сібір. Міграцыйныя страты ў перыяд паміж перапісамі 1926 і 1939 гг. склалі 617 тыс. чалавек[11]. Больш інтэнсіўнымі сталі ўнутраныя міграцыі, якія насілі як добраахвотны, так і вымушаны характар. У 1936 г. у мэтах умацавання дзяржаўных межаў выкарыстоўваліся перасяленні «неблаганадзейнага элемента» з 500-мятровай пагранпаласы ў тылавыя раёны БССР, у сваю чаргу, добраахвотнікі (камуністы, камсамольцы, стаханаўцы, актывісты), якія праходзілі пільную праверку, накіроўваліся ў пагранічныя раёны. З разгортваннем індустрыялізацыі і ўрбанізацыі ўзмацніліся міграцыі беларусаў у гарады.

[10] НАРБ, ф. 44, воп. 1, спр. 2393, л. 22.

[11] Раков А. А. Население БССР. Мн., 1969. С. 87.

Шырокамаштабныя дэпартацыі ажыццяўляліся ў Заходняй Беларусі пасля яе аб'яднання з БССР (каля 10% насельніцтва па палітычных матывах было рэпрэсіравана і дэпартавана ў Сібір, Комі АССР, Паволжа, Казахстан)[12]. У першую чаргу высяляліся «асаднікі», якія выконвалі ў Польшчы паліцэйскія функцыі, асобы, якія адмоўна сустрэлі прыход Чырвонай Арміі і аказалі супраціўленне савецкай уладзе.

Індустрыялізацыя, уцягванне жанчын у прамысловую вытворчасць на фабрыках і заводах вялі да зніжэння нараджальнасці. Аднак у гэты час урадам прымаліся пэўныя захады на ўмацаванне сям'і, павышэнне нараджальнасці (бясплатная медыцынская дапамога, пашырэнне сеткі радзільных установ, дзіцячых садкоў і ясляў, матэрыяльная дапамога цяжарным жанчынам, забарона абортаў). Таму, нягледзячы на адзначаныя негатыўныя фактары, з 1926 па 1939 гг. колькасць беларусаў павялічылася на 598 тыс. чалавек. На пачатак 1941 г. на Беларусі жыло 9092,0 тыс. чалавек[13].

Грозным выпрабаваннем для беларускага народа з'явілася Вялікая Айчынная вайна, якая пагоршыла дэмаграфічную сітуацыю ў рэспубліцы. Па дадзеным, якія ўдакладняюцца, за гады фашысцкай акупацыі ў рэспубліцы загінула 2400 тыс. чалавек. Толькі ва ўсходнія раёны СССР (Паволжа, Урал, Заходнюю Сібір і інш.) было эвакуіравана 1,5 млн[14] чалавек. Прыблізна 380 тыс. жыхароў рэспублікі былі гвалтоўна вывезены на працу ў Германію. Звыш мільёна беларусаў ваявалі на фронце, 440 тыс. — у партызанскіх атрадах. У партызанскай вайне ў нашай рэспубліцы разам з беларусамі (71,9%)

[12] Бугай Н. Депортация // Политический собеседник. 1990. № 6. С. 39—41.

[13] Население Республики Беларусь. Мн., 1997. С. 4—5.

[14] Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг. Энцыклапедыя. Мн., 1990. С. 646.

удзельнічалі прадстаўнікі больш 70 нацыянальнасцей: рускія, украінцы, літоўцы, латышы, грузіны, казахі, армяне, узбекі, азербайджанцы, яўрэі і інш[15]. Даволі адчувальнымі былі і ўскосныя страты, якія звязаны з памяншэннем нараджальнасці і павелічэннем смяротнасці (па падліках прыблізна 200—250 тыс. чалавек).

У пасляваенны час, згодна міжнароднай дагаворанасці паміж Польшчай і СССР, ПНР атрымала 17 раёнаў Беластоцкай вобласці разам з Беластокам і тры раёны Брэсцкай вобласці, дзе жылі ў асноўным беларусы. Побач з гэтым, адбываўся абмен насельніцтвам паміж СССР і Польшчай. У 1944—1948 гг. з Заходняй Беларусі выехалі 274,2 тыс. палякаў ці тых, што назвалі сябе палякамі. У перыяд з 1955 па 1958 гг. паток рэпатрыянтаў быў меншы па сваіх маштабах і зводзіўся ў асноўным да ўз'яднання сем'яў. Колькасць беларусаў, перасяліўшыхся з Польшчы, была адносна невялікая (за 1945—1946 гг. у БССР пераехала 37 тыс. чалавек)[16].

У пасляваенны час захоўвалася высокая інтэнсіўнасць міжрэспубліканскай міграцыі. Беларусы перасяліліся ў Архангельскую, Калінінградскую вобласці, Карэлію, асвойвалі цалінныя землі Казахстана (за 1950—1965 гг. адмоўнае сальда міграцыі перавысіла 1 млн чалавек). З сярэдзіны 60-х гг. міграцыйны адток зменшыўся.

У першыя пасляваенныя гады назіраўся невялікі ўсплеск кампенсацыйнай нараджальнасці, якая ўжо ў 50-я гг. стабілізавалася на больш нізкім узроўні ў параўнанні з даваенным часам. З канца 60-х нараджальнасць няўхільна зніжалася (за выключэннем пачатка 80-х гг., калі дзяржавай былі прыняты меры па падтрымцы сям'і), асабліва хуткімі тэмпамі ў беларусаў. Калі ў 1959 г. каэфіцыент нараджальнасці беларусаў перавышаў сярэднерэспубліканскі паказчык (26,7 і 25,2 праміле), то надалей сітуацыя змяняецца (1970 г.: адпаведна 16,1 і 16,2 праміле; 1989 г.: 14,9 і 15,0 праміле)[17].

Найбольш высокія паказчыкі нараджальнасці ў беларусаў былі ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях і найменшыя — у Віцебскай. Каэфіцыенты нараджальнасці беларусаў-гараджан былі вышэй, чым сельскіх жыхароў, з прычыны больш маладой узроставай структуры насельніцтва гарадоў. Пэўны ўплыў аказваў фактар урбанізацыі. У Мінску нараджальнасць была крыху ніжэй, чым гарадскога насельніцтва ў цэлым, што тлумачыцца ўплывам структурных і сацыяльна-эканамічных фактараў: у мінчан больш высокі ўзровень скасавання шлюбаў, больш нізкі паказчык шлюбнасці, высокі адукацыйны і культурны ўзровень, больш высокая занятасць у грамадскай вытворчасці, чым у цэлым па гарадскім пасяленням. Максімальнымі паказчыкамі нараджальнасці ў рэспубліцы вылучаліся гарадскія пасяленні Брэстчыны і Гродзеншчыны, асабліва іх абласныя цэнтры (1979, 1989 гг.).

Агульнае падзенне нараджальнасці суправаджалася зменамі ва ўзроставай структуры нараджальнасці: у беларусак адбывалася ўсё большая канцэнтрацыя нараджальнасці ва ўзросце да 25 год, што звязана, з аднаго боку, з павышэннем узроўня шлюбнай пладавітасці ў гэтых узростах, з другога — значным зніжэннем нараджальнасці ў больш старэйшых узростах.

Адначасова ў беларусак, як і ў жанчын іншай нацыянальнасці, павышаецца доля першанцаў і другіх дзяцей і змян-

[15] Хацкевич А. Ф., Крючок Р. Р. Становление партизанского движения в Белоруссии и дружба народов СССР. Мн., 1988. С. 21.

[16] Мариаьский А. Современные миграции населения. М., 1969. С. 128—130.

[17] Беларусы: Этнагеаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі. Атлас. Мн., 1996. С. 18.

шаецца ўдзельная вага трэціх і больш высокай чарговасці дзяцей у агульнай колькасці нарадзіўшыхся. Па нараджальнасці сярод рэспублік былога Саюза Беларусь у 1989 г. займала 12-е месца, а беларусы сярод тытульных нацыянальнасцей — 13-е, апярэджваючы толькі ўкраінцаў і рускіх. Прычыны самыя розныя: інтэнсіўная ўрбанізацыя беларусаў, адаптацыя да індустрыяльна-ўрбанізаванага асяроддзя, уцягванне жанчын у грамадскую вытворчасць, павышэнне ўзроўню іх адукацыі, свядомае рэгуляванне дзяцей у сям'і.

Пасля вайны адзначалася пэўнае зніжэнне паказчыкаў смяротнасці; спрыяла гэтаму павышэнне дабрабыту насельніцтва, паляпшэнне жыллёвых умоў, харчавання, рост санітарнай культуры. У практыку аховы здароўя шырока ўвайшлі антыбіотыкі і сульфаніламіды, паўсюдная імунізацыя насельніцтва. Па ўзроўню ўзнаўлення насельніцтва Беларусь, як у цэлым СССР, не ўступала развітым капіталістычным краінам. Аднак ужо ў канцы 70-х гг. амаль усе паказчыкі смяротнасці пачалі расці, што тлумачыцца галоўным чынам пастарэннем насельніцтва, ростам долі асоб старэйшых узростаў, а таксама забруджваннем навакольнага асяроддзя. У гэты час у індустрыяльна-развітых краінах адбылася своеасаблівая рэвалюцыя ў ахове здароўя, укараненне ў яе практыку сучасных навукова-тэхнічных дасягненняў, што абумовіла адставанне айчыннай медыцыны. У 1989 г. у параўнанні з 1970 г. смяротнасць на 1 тыс. беларусаў павялічылася з 7,9 да 10,5, у тым ліку ў гарадскіх паселішчах — з 5,4 да 6,8; у сельскай мясцовасці — з 9,4 да 16,5 выпадкаў[18]. Каэфіцыент смяротнасці беларусаў крыху вышэй сярэднерэспубліканскіх паказчыкаў, гэта асабліва датычыцца сельскай мясцовасці, у горадзе ж паказчыкі смяротнасці беларусаў ніжэйшыя, чым наогул усяго гарадскога насельніцтва, што тлумачыцца розніцай ва ўзроставай структуры жыхароў. Аналіз тэндэнцый смяротнасці па тыпах пасяленняў паказаў, што агульны каэфіцыент смяротнасці беларусаў ніжэй, а працягласць жыцця больш высокая ў сталіцы Беларусі ў параўнанні з гарадскімі пасяленнямі ў цэлым. Па ўсёй відавочнасці, сказваюцца структурныя фактары (узроставая структура насельніцтва) і лепшая забяспечанасць горада медыцынскімі ўстановамі. Аднак у гарадах Брэсце і Гродна ўзровень смяротнасці яшчэ ніжэйшы з-за іх больш маладой узроставай структуры. Характэрна, што смяротнасць мужчын вышэй, чым жанчын, асабліва ў працаздольным узросце, паколькі сказваюцца біялагічныя фактары (жанчыны больш вынослівыя) і сацыяльна-эканамічныя прычыны: асаблівасці ладу жыцця, умоў працы, злоўжыванне алкаголем, тытунём і інш. Сярод прычын смерці першае месца займаюць хваробы сістэмы кровазвароту, другое — наватварэнні, далей ідуць хваробы органаў дыхання, няшчасныя выпадкі, атручванні і траўмы. Па ўзроўню смяротнасці ў 1989 г. Беларусь займала 6-е месца сярод рэспублік СССР; беларусы сярод тытульных нацыянальнасцей — 5-е, саступаючы эстонцам, латышам, украінцам, рускім; а мужчыны-беларусы — нават былі на 4-м месцы пасля эстонцаў, латышоў, украінцаў[19].

Да ліку станоўчых момантаў можна аднесці зніжэнне дзіцячай смяротнасці; яна ў Беларусі была ніжэй, чым у іншых саюзных рэспубліках акрамя Літвы. Па чакаемай працягласці жыцця рэспубліка ўтрымлівала 4-е месца пасля Грузіі, Арменіі і Літвы (у 1989 г. гэта быў узрост у сярэднім для мужчын — 66,8, для жанчын — 76,4 гады). Да канца 80-х гг.

[18] Беларусы: Этнагеаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі. Атлас. С. 18.

[19] Население Республики Беларусь. Мн., 1997. С. 71.

працягласць жыцця захоўвалася на дастаткова высокім узроўні. У выніку падзення паказчыкаў нараджальнасці і павышэння ўзроўню смяротнасці натуральны прырост беларусаў у рэспубліцы зніжаўся (з 8,2 у 1970 г. да 4,4 праміле у 1989 г.)[20]. У 50—70-х гг. чысты каэфіцыент (нетакаэфіцыент) узнаўлення, які абазначае колькасную меру замяшчэння мацярынскага пакалення даччыным, перавышаў адзінку, гэта значыць, што ў цэлым у рэспубліцы забяспечвалася пашыранае ўзнаўленне насельніцтва, з канца 70-х гг. і пазней нета- і брутакаэфіцыенты былі менш адзінкі, фактычна ўзнаўленне звужанае. Асабліва драматычная сітуацыя склалася ў сельскай мясцовасці. Тут, пачынаючы з 1979 г., натуральны прырост адмоўны — колькасць нараджэнняў саступае колькасці смярцей. Смяротнасць сельскіх жыхароў у 2,4 раза вышэй гараджан, прычым ад усіх хвароб, асабліва ад хвароб органаў дыхання, няшчасных выпадкаў, атручвання, траўм. На сітуацыю істотна ўплывае моцнае пастарэнне вёскі, забруджванне навакольнага асяроддзя, слабая медыцынская дапамога і дыягностыка, п'янства. За XX ст. кардынальна змянілася сітуацыя па асобным рэгіёнам. Найменшыя тэмпы натуральнага прыроста ў пасляваенны час былі характэрны для Віцебскай вобласці, што абумоўлена цэлым комплексам прычын: вынікі вайны, асаблівасці эканамічнага развіцця, высокая ўрбанізацыя і інш. Найбольшыя паказчыкі прыросту назіраліся ў гарадскім насельніцтве Брэсцкай, Гродзенскай абласцей.

Вялікі ўплыў на дынаміку смяротнасці, нараджальнасці, натуральнага прыросту аказвае полаўзроставая структура беларусаў. Перапіс 1959 г. зафіксаваў моцную дэфармацыю полаўзроставай структуры беларусаў пад уплывам Вялікай Айчыннай вайны.

У наступныя дзесяцігоддзі адбывалася прыкметнае згладжванне дыспрапорцыі мужскога і жаночага насельніцтва. У 1970 г. на кожныя 100 мужчын прыходзілася 120 жанчын, у 1989 г. — 115. Больш выяўляюцца дыспрапорцыі па полу ў сельскай мясцовасці (у 1989 г. на 100 беларусаў — 119 беларусак). Існуюць адрозненні ў суадносінах полаў па ўзроставым групам. Так, у 1989 г. ва ўзросце да 30 год мужчын было больш, чым жанчын, за выключэннем узроставай групы 20—24 гады (пад уплывам біялагічных фактараў ідзе выраўноўванне структуры полу; як вядома, хлопчыкаў нараджаецца больш, чым дзяўчынак). У старэйшых узростах назіраецца перабольшванне жанчын. Асаблівасцю структуры беларусаў па полу з'яўляецца перавага жаночага насельніцтва (1989 г. — 53,5%). Такія ж тэндэнцыі характэрны для суадносінаў палоў насельніцтва Беларусі ў цэлым[21].

У пасляваенны час ішоў інтэнсіўны працэс пастарэння насельніцтва. У беларусаў паказчык цяжара на працаздольнае насельніцтва склаў 731 чалавек (колькасць асоб непрацаздольнага ўзросту на 1 тыс. працаздольных). У выніку паніжэння нараджальнасці памяншаецца вага дзіцячых узростаў у агульнай колькасці насельніцтва. Так, з 1959 па 1989 гг. доля беларусаў да 16 год знізілася з 29 да 22%. Удзельная вага працаздольных засталася такой, як і раней, — 58%, працэнт пажылых людзей вырас з 13 да 20%. Беларусы ў параўнанні з насельніцтвам рэспублікі ў цэлым маюць найбольшую ўдзельную вагу дзяцей і меншую долю асоб старэй 60 год. Нагляднае прадстаўленне аб дынаміцы складу беларускага насельніцтва па полу і ўзросту даюць полаўзроставыя піраміды[22]. Характэрна, што ўзроставая структура насельніцтва адбівае мінулыя

---

[20] Беларусы: Этнагеаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі. Атлас. С. 18.

[21] Население Республики Беларусь. С. 13.

[22] Беларусы: Этнагеаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі. Атлас. С. 19.

тэндэнцыі працэсаў натуральнага руху, асабліва нараджальнасці, а таксама міграцыі насельніцтва. Моцны ўплыў на іх аказвала Другая сусветная вайна, якая паглынула мільёны жыццяў. Да таго ж, у гады вайны значна паменшылася колькасць нараджэнняў. Эха вайны адбілася на наступных гадах, калі ў актыўны дзетародны ўзрост уступілі жанчыны ваенных часоў нараджэння і нават пакаленне іх дачок. Полаўзроставая піраміда беларусаў 1989 г. не мае такіх рэзкіх перападаў у колькасці розных узроставых груп, як папярэднія. У параўнанні з 1979 г. вырасла колькасць групы 0—4 гады ў сувязі са зніжэннем дзіцячай смяротнасці і некаторым павышэннем нараджальнасці ў пачатку 80-х гг. Прасочвалася памяншэнне беларусаў ва ўзросце 5—24 год, якое тлумачыцца нізкай нараджальнасцю ў 70-х гг. Невялікая іх колькасць была ва ўзросце 40—49 год, гэта пакаленне, народжанае ў вайну.

Сярэдні ўзрост беларусаў у 1989 г. склаў 32,5 года (мужчын — 32,1, жанчын — 37,5).

У 70-я гг. тэндэнцыя міграцыйных страт насельніцтва паслабілася, а ў асобныя гады чаргавалася з міграцыйным прыростам. За 1966—1970 гг. адмоўнае сальда міграцыі склала 1,4 тыс. чалавек, 1971—1975 гг. 61,3; 1975—1980 гг. 30,7; 1981—1985 гг. 6,3; 1986—1990 гг. 10,1 тыс. чалавек[23].

Матэрыялы перапісаў 1970, 1979, 1989 гг. даюць магчымасць паказаць дынаміку міграцыйнай рухомасці беларусаў. З 1970 па 1979 гг. паказчык міграцыйнай рухомасці беларусаў вырас з 5,4 да 8,1%, а з 1979 па 1989 гг. знізіўся да 6,5% (такія ж тэндэнцыі назіраліся ў цэлым па СССР)[24]. Гэта зніжэнне міграцыйнай рухомасці было выклікана зменамі ва ўзроставай структуры насельніцтва, памяншэннем у ёй долі маладых, найбольш рухомых груп. Безумоўна, на скарачэнне аб'ёмаў і інтэнсіўнасці міграцыі паўплывалі і крызісныя з'явы ў палітычнай і эканамічнай сферах, што праявіліся ў сярэдзіне 80-х гг. Па ўзроўню міграцыйнай рухомасці беларусы стабільна займалі 4-е месца сярод нацый краіны, у 1989 г. іх апярэджвалі толькі казахі, літоўцы, кіргізы. Міграцыйныя сувязі Беларусі з саюзнымі рэспублікамі характарызаваліся істотнай розніцай у інтэнсіўнасці і выніках перамяшчэнняў. Найбольш інтэнсіўны абмен насельніцтвам ішоў паміж БССР і РСФСР, Украінай, Казахстанам, Латвіяй і Літвой. З Беларусі ішоў адток насельніцтва ў рэспублікі Прыбалтыкі, паўночна—заходні і цэнтральны раёны Расіі, прыток (рэміграцыі) — з Казахстана. З астатнімі рэгіёнамі Саюза Беларусь мела практычна нулявое сальда міграцыі. Паказальна пры гэтым, што міграцыі ў адзначаны перыяд насілі добраахвотны характар. Асноўныя рухаючыя іх фактары — сацыяльна-эканамічныя. «Чалавек шукае, дзе лепш», дзе ён можа з большай карысцю для сябе і грамадства праявіць свае здольнасці і схільнасці, прымяніць свой вопыт і кваліфікацыю. У маштабах краіны адбываўся абмен працоўнымі рэсурсамі, кваліфікаванымі кадрамі рабочых, спецыялістаў. Беларускія нафтавікі асвойвалі нафтагазавыя радовішчы Цюмені, інжынеры і рабочыя будавалі Байкала—Амурскую магістраль, шахцёры працавалі на Крайняй Поўначы, здабываючы вугаль, каляровы і чорны метал. Сярод арганізаваных форм міграцыі прымяняліся аргнабор, грамадскі заклік, перавод з аднаго месца работы на другое, размеркаванне пасля заканчэння вучобы. Аднак па памерах і інтэнсіўнасці пераважалі індывідуальныя міграцыі (2/3 усіх мігрантаў).

---

[23] Переведенцев В. И. Миграция населения СНГ: Опыт прогноза // Политическое исследование. 1993. № 2. С. 72.

[24] Русские: Этносоциологические очерки. М., 1992. С. 32.

Што датычыцца ўнутрырэспубліканскай міграцыі, то яе вага ў агульным аб'ёме перасяленцаў, пачынаючы з сярэдзіны 60-х гг., павялічылася. У 80-я гг. на міграцыі ў межах «сваёй» рэспублікі прыходзілася 85% усіх перамяшчэнняў (64% на ўнутрыабласныя і 21% на міжабласныя патокі). Высокія тэмпы эканамічнага развіцця Беларусі, паляпшэнне ўмоў жыцця і дабрабыту насельніцтва ў спалучэнні з паніжэннем яго натуральнага прыросту стымулявалі міграцыі ўнутры рэспублікі. Рост прамысловага патэнцыяла паскорыў урбанізацыю і звязаныя з ёю перамяшчэнні сельскага насельніцтва ў гарады. Маштабы гэтых міграцый за 1966—1989 гг. адрозніваліся дастатковай стабільнасцю. Штогод у гарады Беларусі ў сярэднім улівалася папаўненне парадка 85 тыс. чалавек (пік прыходзіцца на 1971—1975 гг., калі прыток складаў штогод 96,9 тыс. чалавек)[25]. Аднак інтэнсіўнасць міграцыі зніжалася. За пятнаццаць год (1970—1985) яна зменшылася ў 2 разы (з 25 чалавек механічнага прыросту на 1 тыс. чалавек насельніцтва да 12,5). Беларуская вёска практычна вычарпала свае дэмаграфічныя рэсурсы. Нават міжрэспубліканскія міграцыі ў сельскія мясцовасці не пакрывалі нястачу.

Этнічная структура міграцыйнага патоку ў гарады Беларусі даволі стракатая, прадстаўлена больш як 20 нацыянальнасцямі. На першым месцы — беларусы, на другім — рускія, трэцім — украінцы, чацвёртым — палякі. За 1975—1988 гг. прапарцыянальныя суадносіны нацыянальнасцей некалькі змяніліся, паменшылася ўдзельная вага беларусаў, павялічылася доля рускіх, украінцаў і іншых. Так, сярод прыехаўшых у гарады беларусы склалі ў 1975 г. 71,6%, у 1980 г. — 68,8%, 1988 г. — 66%; рускія — адпаведна 18,5, 19,4, 20,0%; украінцы — 4,4, 4,7, 5,2%. Калі ў 1975 г. сярод прыбыўшых у гарады з сельскай мясцовасці беларусы склалі 81%, то ў 1988 г. — 77%; у складзе прыбыўшых з гарадскіх мясцовасцей — адпаведна 77 і 57%. Міграцыйны прырост гарадоў Беларусі ў 1988 г. ішоў у асноўным за кошт беларусаў (68,4%), рускіх (18,5%), украінцаў (6,1%)[26].

Працэсы ўрбанізацыі закранулі ўсе без выключэння нацыянальнасці, якія жывуць у рэспубліцы. У 1989 г. у гарадах жыло 61,6% беларусаў з агульнай іх колькасці, рускіх — адпаведна 86,8%, украінцаў — 80,4%, яўрэяў — 99%[27]. Істотныя змены адбыліся ў нацыянальным складзе гарадскога насельніцтва. Колькасць і ўдзельная вага беларусаў у гарадах узрасла (у 1959 г. — 67,0%, 1970 г. — 69,3%, 1979 г. — 71,5%; 1989 г. — 73,2%; 1999 г. — 79,0%, табл. 1). Масавы прыток у гарады сельскіх жыхароў, пераважна беларусаў, паўплываў на характар этнакультурных працэсаў. Прыбыўшыя ў горад з вёскі беларусы ў большай меры, чым даўнія гараджане, захавалі спецыфічныя рысы традыцыйнай культуры. Але працэс адаптацыі быў складаным і неадназначным. З аднаго боку, мігранты атрымалі магчымасць павысіць сваю адукацыю, кваліфікацыю, з другога — страчвалі сувязі з сельскім асяроддзем, у якім часцей, чым у горадзе, узнаўляліся народныя звычаі і абрады.

У пасляваенны час пачынаецца якасна новы этап урбанізацыі, яна ўступае ў сваю інтэнсіўную фазу. Горад уключаецца ў маятнікавую міграцыю, уступае месца агламерацыі і ўрбанізаванаму раёну. Інтэнсіўна фарміруецца Мінская агламерацыя. Ва ўрбанізацыйныя працэсы актыўна ўключаюцца сельскія паселішчы. Узмац-

[25] Падлічана па: Национальный состав населения Белорусской ССР. Мн., 1990. С. 35.

[26] Падлічана па даных Міністэрства статыстыкі і аналіза Рэспублікі Беларусь.

[27] Национальный состав населения Белорусской ССР. С. 45.

Табліца 1

**Нацыянальны склад гарадскога насельніцтва Беларусі па перапісах**

| Нацыянальнасці | 1959 г. | | 1970 г. | | 1979 г. | | 1989 г. | | 1999 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % | тыс. чал. | % |
| Усё насельніцтва | 2481 | 100 | 3908 | 100 | 5234 | 100 | 6642 | 100 | 6961 | 100 |
| Беларусы | 1663 | 67,0 | 2707 | 69,3 | 3743 | 71,5 | 4866 | 73,3 | 5498 | 79,0 |
| Рускія | 480 | 19,4 | 769 | 19,7 | 978 | 18,7 | 1164 | 17,5 | 973 | 14,0 |
| Украінцы | 86 | 3,5 | 145 | 3,7 | 186 | 3,6 | 234 | 3,5 | 185 | 2,6 |
| Палякі | 85 | 3,4 | 104 | 2,6 | 147 | 2,8 | 201 | 3,0 | 215 | 3,1 |
| Яўрэі | 145 | 5,8 | 146 | 3,7 | 134 | 2,6 | 111 | 1,7 | 27 | 0,4 |
| Іншыя | 22 | 0,9 | 37 | 1,0 | 46 | 0,8 | 66 | 1,1 | 63 | 0,9 |

няюцца міграцыі ў сельскую мясцовасць, расце паліхромнасць беларускай вёскі. У 1988 г. у нацыянальным складзе мігрантаў у сельскую мясцовасць 68% склалі беларусы, 18% — рускія, 6% — украінцы, 5% — палякі, па 0,3% — азербайджанцы і немцы, 0,5% — татары і іншыя[28].

Аднак агульны міграцыйны баланс адмоўны, гэта значыць, што колькасць выбыўшых перабольшвае над колькасцю прыехаўшых. Прычым адмоўны баланс быў характэрны для беларусаў і палякаў, станоўчы — для рускіх, украінцаў і іншых нацыянальнасцей. Выяўляецца тэндэнцыя на збліжэнне этнічных структур гарадскога і сельскага насельніцтва.

Па выніках перапісу 1989 г. у рэспубліцы 3,5 млн беларусаў (44% іх агульнай колькасці) мянялі сваё месца жыхарства, прычым для беларусаў-гараджан гэты паказчык склаў 53%, для сельскіх жыхароў — 29%[29].

Аналіз даных аб размеркаванні мігрантаў па тыпах пасяленняў гаворыць аб узмацненні міжгарадской міграцыі, што адбіваецца на якасных характарыстыках мігрантаў: павялічыўся іх сярэдні ўзрост, у міграцыі ўсё часцей удзельнічаюць сямейныя людзі, вырас адукацыйны ўзровень мігрантаў, асабліва гэта датычыцца буйных гарадоў.

У 70—80-я гг. тэрытарыяльная кампактнасць беларусаў некалькі паменшылася, удзельная вага іх ва ўсім насельніцтве панізілася. Гэта тлумачыцца міграцыямі беларусаў за межы Беларусі і прытокам іншанацыянальнага насельніцтва. Назіралася паніжэнне тэмпаў прыросту беларусаў у рэспубліцы. За міжперапісны перыяд 1959—1970 гг. прырост іх склаў 11,6%; 1970—1979 гг. 3,8; 1979—1989 гг. 4,4%. Шматлікія групы беларусаў жывуць у Расіі (1206,2 тыс.), Украіне (440,1 тыс.), Казахстане (182,6 тыс.), у краінах Балтыкі (210,6 тыс. чалавек). Жывуць нашы суайчыннікі ў Польшчы (207 тыс.), ЗША (200 тыс.), Канадзе і іншых краінах[30].

З пачатку 1990-х гг. дэмаграфічная сітуацыя пагаршаецца. На яе паўплываў, галоўным чынам, глыбокі крызіс грамадства, які пацягнуў за сабой рэзкае падзенне жыццёвага ўзроўню народа, пагаршэнне сістэмы аховы здароўя, рост беспрацоўя, злачыннасці, наркаманіі і алкагалізма, а таксама Чарнобыльская катастрофа (рост захворванняў, звязаных з радыяцыйнай забруджанасцю, стрэсамі). Паказчыкі нараджальнасці рэзка знізіліся, узровень смяротнасці прыкметна вырас, скарацілася чакаемая працягласць жыцця.

---

[28] Падлічана па даных Міністэрства статыстыкі і аналіза Рэспублікі Беларусь.

[29] Там жа.

[30] Белорусы. М., 1998. С. 43, 45, 49, 53.

Адбыліся змены ў аб'ёмах, інтэнсіўнасці і накіраванасці міграцыйных патокаў. Новыя рысы набыла знешняя міграцыя, пік якой прыйшоўся на 1992 г. Крызіс усіх асноў грамадства прывёў да скарачэння патрэбнасці індустрыяльных раёнаў у рабочай сіле. З Цюмені, Поўначы Расіі вярталіся нафтавікі, шахцёры. З суверэнных краін Балтыкі ехалі на радзіму мігранты мінулых год. Пакідалі нашы суайчыннікі і раёны міжнацыянальных канфліктаў: Сярэднюю Азію, Закаўказзе і Паўночны Каўказ. Ішоў працэс сцягвання беларусаў у сваю дзяржаву. Аб гэтым пераканаўча сведчыць этнічная структура міграцыйнага патоку з-за межаў рэспублікі, у якім удзельная вага беларусаў з 1990 па 1995 гг. павысілася з 38,6 да 47,6%. Захоўваецца прыток рускіх, украінцаў. Новай з'явай у міграцыйных працэсах сталі бежанцы (на сярэдзіну 1993 г. іх зафіксавана 20 тыс. чалавек). Мігранты з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Грузіі, Азербайджана, Узбекістана і Таджыкістана часцей іншых прычын пераезду называлі абвастрэнне міжнацыянальных адносін: яе называлі ад 39 да 65% прыезджых з гэтых рэспублік, супраць 2% прыбыўшых з Расіі і Украіны (выбарачнае даследаванне 1991 г.). За 1990—1995 гг. у Беларусь перасялілася больш чым 200 тыс. беларусаў[31].

Змены прыярытэтаў у знешняй палітыцы, большая, чым раней, адкрытасць на Захад у спалучэнні з крызісным станам эканомікі і вынікамі Чарнобыля спрыялі росту эміграцыі, пік якой прыходзіўся на 1990 г. Напрыклад, у 1987 г. з рэспублікі выехала ўсяго 757 чалавек, у 1990 г. — 34 тыс., у 1995 г. — 8780 чалавек, у 1997 г. — 889 чалавек[32].

Чарнобыльская катастрофа дэфармавала структуру міграцыйных патокаў, змяніла іх накірункі. З 1986 г. рэзка ўзрос адток з забруджаных раёнаў, у той жа час у шэрагу раёнаў Віцебшчыны механічныя страты змяніліся станоўчым балансам міграцыі. Толькі па Гомельскай вобласці адмоўнае сальда міграцый за 1986—1990 гг. склала каля 100 тыс. чалавек. Як паказала выбарачнае даследаванне, праведзенае органамі дзяржаўнай статыстыкі ў 1991 г., аварыя на Чарнобыльскай АЭС з'явілася асноўнай прычынай пераезду для 12% беларусаў (на сямейныя абставіны прыходзіцца 29%, вучобу — 28%, перамену месца працы — 20%, неўладкаванасць быту — 14%).

З пачатку 90-х гг. істотна знізіліся аб'ёмы перамяшчэнняў і механічнага прыросту ў гарадах Беларусі (апошні ў 2 разы). У сельскай мясцовасці страты насельніцтва змяніліся дадатным механічным прыростам. У 1992 г. прырост склаў 17,8 тыс. чалавек, з іх 33,7% за кошт беларусаў, 45,5% — рускіх, 7,4% — украінцаў, 4,2% палякаў, якія галоўным чынам прыехалі з-за межаў рэспублікі[33]. З сярэдзіны 1990-х гг. зноў аднаўляецца адток сельскага насельніцтва, пераважна ў гарады Беларусі.

У выніку міграцыйнага прытоку з-за межаў рэспублікі, развіцця этнічных працэсаў павялічыліся абсалютная колькасць і ўдзельная вага беларусаў (па перапісу 1999 г. 8159 тыс. чалавек, што складае 81,2% ад агульнай колькасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь[34]). Найбольшая ўдзельная вага беларусаў у Мінскай вобласці (87%), найменшая — у Гродзенскай (62%). Амаль сем беларусаў з дзесяці жывуць у гарадах.

---

[31] Шахотько Л. П. Население Республики Беларусь в конце XX в. Мн., 1996. С. 105.

[32] Население Республики Беларусь. Мн., 1995. С. 407; Статистический ежегодник Республики Беларусь 1998 г. Мн., 1998. С. 93.

[33] Падлічана па даных Міністэрства статыстыкі і аналіза Рэспублікі Беларусь.

[34] Население Республики Беларусь. Итоги переписи населения Республики Беларусь 1999 года. Мн., 2000. С. 136—143.

Табліца 2

**Нацыянальны склад насельніцтва Беларусі**

| Нацыянальнасці | Колькасць асоб данай нацыянальнасці, тыс. чал. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926** | 1939** | 1959 | 1970 | 1979 | 1989 | 1999 |
| Усё насельніцтва | 4983 | 5571,2 | 8055,7 | 9002,3 | 9532,5 | 10151,8 | 10045,2 |
| Беларусы | 4017 | 4615,5 | 6532,0 | 7289,6 | 7568,0 | 7904,6 | 8159,1 |
| Рускія | 384 | 366,9 | 660,1 | 938,2 | 1134,1 | 1342,1 | 1141,7 |
| Палякі | 98 | 58,4 | 538,9 | 382,6 | 403,2 | 417,7 | 395,7 |
| Украінцы | 35 | 104,2 | 133,1 | 190,8 | 231,0 | 291,0 | 237,0 |
| Яўрэі | 407 | 375,1 | 150,1 | 148,0 | 135,5 | 112,0 | 28,0 |
| Іншыя нацыянальнасці | 42 | 51,1 | 41,5 | 53,1 | 60,7 | 84,4 | 80,0 |
| *У працэнтах да ўсяго* | | | | | | | |
| Усё насельніцтва | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Беларусы | 80,6 | 82,9 | 81,1 | 81,0 | 79,4 | 77,9 | 81,2 |
| Рускія | 7,7 | 6,6 | 8,2 | 10,4 | 11,9 | 13,2 | 11,4 |
| Палякі | 2,0 | 1,0 | 6,7 | 4,3 | 4,2 | 4,1 | 3,9 |
| Украінцы | 0,6 | 1,9 | 1,7 | 2,1 | 2,4 | 2,9 | 2,4 |
| Яўрэі | 8,2 | 6,7 | 1,9 | 1,6 | 1,4 | 1,1 | 0,3 |
| Іншыя нацыянальнасці | 0,9 | 0,9 | 0,4 | 0,6 | 0,7 | 0,8 | 0,8 |

* Састаўлена па: Всесоюзная перепись населения 1926 года. Т. X. Белорусская Советская Социалистическая Республика. М., 1928. С. 9—10; Всесоюзная перепись населения 1939 года. Основные итоги. М., 1993. С. 120; Население Республики Беларусь. Итоги переписи населения Республики Беларусь 1999 года. С. 136—137.

** Без заходніх абласцей.

Дзяржавай, уладамі прымаюцца пэўныя захады, каб палепшыць дэмаграфічную сітуацыю ў краіне. Прыняты Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ахове здароўя» (1993), ажыццяўляецца масавая імунізацыя насельніцтва, прымаюцца дадатковыя меры па паляпшэнню аховы мацярынства і дзяцінства. Асаблівая ўвага надаецца маладым сем'ям: крэдыты, субсідыі на будаўніцтва жылля ці на набыццё хатняй маёмасці, дапамога жанчыне па цяжарнасці, штомесячная дапамога сем'ям, выхоўваючым дзяцей і інш. Распрацаваны і рэалізуюцца: канцэпцыя дзяржаўнай дэмаграфічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная міграцыйная праграма і інш.

## ГАСПАДАРЧА-ВЫТВОРЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

На этнічнае развіццё беларусаў у XX ст. значны ўплыў аказалі кардынальныя зрухі ў іх гаспадарчай дзейнасці, якія выклікалі істотныя змены дэмаграфічных параметраў, сацыяльнай структуры, матэрыяльнай і духоўнай культуры, ладу жыцця народа. Матэрыяльная вытворчасць складае самую аснову існавання этнасу, што пэўным чынам вызначае яго самасвядомасць.

### ПРАМЫСЛОВАСЦЬ І СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

У пачатку XX ст. назіраецца хуткае развіццё прамысловасці Беларусі. Аб'ём вытворчасці ў 1908 г. у параўнанні з 1890 г. павялічыўся на 18%, уздым жа прамысловасці ў 1910—1913 гг. перавысіў прамысловую прадукцыю васьмі папярэдніх

гадоў у 1,9 раза. Характэрна, што тэмпы прамысловага развіцця былі прыкладна такія ж, як і ў цэлым па Расіі, і больш высокія, чым у Германіі, Францыі і Англіі[35]. Пераважнае развіццё атрымоўвалі галіны, якія былі найбольш эфектыўныя для Беларусі (улічваліся яе сыравіннае становішча, блізкасць да заходняга рынку). Праз Беларусь ажыццяўляліся гандлёвыя і эканамічныя сувязі Расіі з заходнееўрапейскімі краінамі. Пераважала харчовая прамысловасць, якая ў 1913 г. давала 40,7% аб'ёму валавай прадукцыі цэнзавай прамысловасці[36]. Хутка развівалася дрэваапрацоўчая і папяровая прамысловасць (у 1912 г. Беларусь давала 26,8% піламатэрыялаў, 23,5% фанеры, 24,4% шпалаў, 23% гонты, 21,5% гнутай мэблі, 62,3% паштовай, 23,5% шпалернай, 6,7% шэрай, 4,7% каляровай паперы, у 1914 г. — 12% запалак агульнарасійскай вытворчасці). Традыцыйнымі для Беларусі з'яўляліся тэкстыльная прамысловасць, металаапрацоўка, якія адпаведна давалі 4,8% і 4% валавай прадукцыі прамысловасці. Даволі шпарка раслі аб'ёмы будаўнічых матэрыялаў: цэглы, цэменту. Меліся таксама прадпрыемствы хімічнай, шкляной прамысловасці. Варта ўвагі тое, што імперская палітыка ў дачыненні эканомікі адчувалася толькі на буйных прадпрыемствах, уцягнутых у агульнарасійскую спецыялізацыю, што ж датычыцца дробных гарадоў і мястэчак, то на гэтым узроўні ішло развіццё самабытных саматужных промыслаў і рамёстваў з улікам этнічнага каларыту. Высокія тэмпы развіцця эканомікі выклікалі хуткі рост пралетарыяту і канцэнтрацыю яго на буйных прадпрыемствах (напярэдадні Першай сусветнай вайны мелася звыш 500 тыс. рабочых)[37]. Ажыццяўлялася цэнтралізацыя капіталу, павышалася роля банкаў.

Нягледзячы на рост прамысловасці, вядучую ролю ў эканоміцы Беларусі адыгрывала сельская гаспадарка, у якой было занята амаль 90% насельніцтва і якая давала больш за 2/3 усёй прадукцыі[38]. Ужо на пачатку XX ст. вызначылася спецыялізацыя сельскай гаспадаркі на вытворчасці бульбы, ільну, мяса-малочнай жывёлагадоўлі. Пераважнае становішча займалі буйныя землеўладанні; памешчыцкія гаспадаркі, прыстасоўваючыся да новых умоў жыцця, інтэнсіфікавалі вытворчасць: прымянялі сучасныя прылады працы, пераходзілі ад трохполля да мнагаполля, выкарыстоўвалі наёмных рабочых, змянялі спецыялізацыю, былі цэнтрамі насенняводства, племяннной работы і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. Паказальна, што па распаўсюджанню сельскагаспадарчых машын памешчыцкія гаспадаркі Беларусі стаялі на адным з першых месц у Расіі.

У цэлым жа панавала падворнае землекарыстанне з захаваннем адпрацовак, цераспалосіцы і сервітутаў. Пад уплывам зямельнага голаду і развіцця рынкавых адносін адбывалася расслаенне беларускіх сялян. Бедныя разараліся, прадавалі свае надзелы, наймаліся батракамі да багатых ці ішлі ў горад на фабрыку і завод.

Беларускія землі ў складзе Расійскай імперыі ўдзельнічалі ў станаўленні агульнарасійскага рынку і абмена ў яго межах, што садзейнічала развіццю інтэграцыйных працэсаў, пашырэнню міжэтнічных сувязей. На ўзроўні лакальнай падсістэмы ішло фарміраванне беларускага эканамічнага рэгіёну, у рамках якога актывіза-

---

[35] Прамысловасць дарэвалюцыйнай Беларусі. Мн., 1988. С. 13.

[36] Там жа. С. 14; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1900 гг.). М., 1983. С. 35.

[37] Прамысловасць дарэвалюцыйнай Беларусі. С. 24.

[38] Бусько В. М. Беларускія сельскагаспадарчыя таварыствы (канец XIX — пачатак XX ст.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 1. С. 39.

валіся кансалідацыйныя працэсы, умацоўваліся этнакультурныя сувязі паміж рознымі часткамі Беларусі.

Сусветная і грамадзянская войны, акупацыя спачатку нямецкімі, затым польскімі войскамі абяскровілі гаспадарку Беларусі. Валавы збор збожжавых культур у параўнанні з даваенным часам скараціўся больш як у 2 разы. Паменшыліся пасяўныя плошчы, пагалоўе жывёлы. Валавая прадукцыя буйнай прамысловасці ў 1921 г. у параўнанні з 1913 г. склала ўсяго 21%[39]. Шмат прамысловых прадпрыемстваў было разбурана, значныя страты нанесены лясной гаспадарцы, чыгуначнаму транспарту.

Пераход з ваенных на мірныя рэйкі выклікаў да жыцця новую эканамічную палітыку, якая патрабавала змен асноўных прынцыпаў гаспадарання ў прамысловасці. Перабудова яе дзейнасці ішла на аснове гаспадарчага разліку. У гэтых мэтах праводзілася жорсткая канцэнтрацыя прамысловасці, закрываліся шмат якія нерэнтабельныя прадпрыемствы, што цягнула за сабой беспрацоўе. Ствараліся трэсты, аўтаномныя прадпрыемствы. Працэс аднаўлення прамысловасці ў асноўным завяршыўся да 1926 г. За гэты час у вытворчасці адбыліся пэўныя пазітыўныя зрухі: павысілася вага буйнай дзяржаўнай прамысловасці, а доля дробнай знізілася. Характэрна, што спецыялізацыя прамысловасці Беларусі захавала асноўныя свае рысы. Па-ранейшаму, больш значную ролю адыгрывала лесанарыхтоўка і дрэваапрацоўка, запалкавая прамысловасць, што ж датычыцца харчасмакавай і керамічнай, то іх роля рэзка знізілася[40].

На вёсцы харчразвёрстка была заменена харчпадаткам, што адпавядала карэнным інтарэсам селяніна. Ён атрымаў свабоду выбару форм землекарыстання. Пашырыліся розныя формы кааперацыі: збытавыя, крэдытныя, забеспячэнскія, вытворчыя, сельскагаспадарчыя аб'яднанні. Кааперыраванне сялянства ставілася ў прамую залежнасць ад культурнай рэвалюцыі, ад пісьменнасці і падрыхтаванасці сялян.

Правядзенне паступовай, паэтапнай кааперацыі станоўча сказалася на тэмпах прыросту сельскагаспадарчай прадукцыі (з 1921 па 1928 гг. яны перавышалі 10%), павялічылася пакупная здольнасць і патрэбнасць селяніна[41]. Адбылося аднаўленне пасяўных плошчаў. Так, у 1923 г. пасевы ўсіх культур склалі 730,4, а ў 1924 г. — 2241,4 тыс. дзесяцін, што пераўзыходзіць на 6,1% узровень 1913 г.[42] Павышалася ўраджайнасць асноўных культур: збожжавых, бульбы, ільну. Аднак узровень даваеннага часу не быў дасягнуты. Павелічэнне пасяўных плошчаў і павышэнне ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур стварылі базу для развіцця жывёлагадоўлі. Расло пагалоўе буйнай рагатай жывёлы, авечак. У 1926 г. даваенны ўзровень пагалоўя коней быў пераўзыйдзены на 23%, буйнай рагатай жывёлы — на 42,4%, свінняў — на 70,5%, авечак — на 75,4%. На 100 сялянскіх гаспадарак у 1926 г. мелася 133 кані, 226 галоў буйнай рагатай жывёлы, 260 свінняў і 327 авечак[43].

Аднак «новая эканамічная палітыка» была палавінчатай і непаслядоўнай. Рыначныя метады гаспадарання складалі толькі невялікі сектар эканомікі ў параўнанні з магутнымі структурамі дзяржаўных прадпрыемстваў, якія дыктавалі манапольна высокія цэны. Сяляне, вымушаныя па гэтых цэнах купляць прамыс-

[39] Развитие экономики Белоруссии в 1921—1927 гг. / Под ред. Ф. С. Мартинкевича и В. И. Дрица. Мн., 1973. С. 14, 23.

[40] Там жа. С. 57.

[41] Советская Белоруссия. 25 декабря. 1988.

[42] Развитие экономики Белоруссии в 1921—1927 гг. С. 119.

[43] Там жа. С. 122.

19 Зак. 1789

ловую прадукцыю, адмаўляліся прадаваць хлеб дзяржаве па нізкіх, так званых «цвёрдых» цэнах. Нягледзячы на рост валавай вытворчасці збожжавых культур, таварная іх частка скарачалася, што было выклікана рыначнымі ваганнямі[44]. План нарыхтовак збожжа паўсюдна не выконваўся. І тады былі выкарыстаны рэпрэсіўныя меры. Сялянам-аднаасобнікам і калгасам забаранілі вывозіць хлеб на рынак і прадаваць яго па свабодных цэнах. Непаслухмяных залічвалі ў сабатажнікі, спекулянты і кулакі, хлеб у іх канфіскаваўся. Пры гэтым 1/4 частку збожжа сельсавет размяркаваў паміж беднякамі, якія, як правіла, і ажыццяўлялі гэту харчразвёрстку[45]. На стыку 20—30-х гг. адбывалася згортванне «новай эканамічнай палітыкі». На змену ёй прыйшлі камандна-адміністрацыйныя метады кіравання эканомікай, быў узяты курс на паскораную калектывізацыю. Раскулачванне закранула не толькі кулакоў, але і частку сераднякоў і нават бедных сялян, што выклікала хвалю незадавальнення, непрымання палітыкі надзвычайных мер.

Калектывізацыя закранула інтарэсы і лёс усяго сялянства. Аднак розныя слаі яго па-рознаму адносіліся да гэтага «вялікага пералому» ў сваім жыцці. Беднякі, якія звязвалі з аб'яднаннем паляпшэнне свайго эканамічнага становішча, падтрымалі калектывізацыю, сталі яе галоўнай апорай. У адносінах да кулацтва разгарнулася барацьба па выкараненню яго як класа. Пад раскулачванне падпалі тыя, хто не згадзіўся з калектывізацыяй, незалежна ад маёмаснага становішча (так званыя «падкулачнікі»).

У 1928 г. у Беларусі налічвалася 3,5% гаспадарак, якія адносіліся да кулацкіх, а раскулачана было 10—12% сялянскіх сем'яў[46].

Няпроста складваліся ўзаемаадносіны паміж людзьмі ў калектыўных гаспадарках. У аглядзе Ельскага раёна адзначаецца: «... Схаваўшыся ад індывідуальнага падатку і нарыхтовак, кулакі і заможныя праводзяць разлагаючую працу і, узяўшы пад свой уплыў асобныя калгасы, выкарыстоўваюць іх дзеля асабістай нажывы, іншы раз выціскаюць ці выганяюць беднякоў і сераднякоў... Цвердаздадчык Мурашка Васіль забраў свайго абагуленага каня, воз і запёр дома, а калі прыйшоў бядняк Верабей за канём і возам, Мурашка заявіў: «Паспрабуй толькі ўзяць — дам па карку». Усе заможныя сваіх абагуленых каней не даюць запрагаць беднякам. «Свайго запражы», — гавораць яны. Калі сеялі жыта, то кожны сялянін гной вазіў толькі на сваю былую паласу»[47].

З калектывізацыяй, пры ўсёй яе супярэчнасці і перагібах, узмацняецца тэхнічнае пераўзбраенне сельскай гаспадаркі, змяняецца вытворчы побыт і матэрыяльная культура беларускіх сялян. Традыцыйныя прылады працы паступова выціскаюцца складанымі машынамі: трактарамі, малацілкамі, камбайнамі, жаткамі і інш. Колькі цікавасці, здзіўлення прыцягвалі да сябе першыя трактары. Недарма беларускі народ стварыў столькі прыпевак, песень, жартаў, паданняў, прыказак пра трактар, трактарыста. З імі звязаны спадзяванні на лепшую будучыню: «Аддыхні, сошка, — сказаў дзед Цімошка, — цяпер не той час, ёсць трактар у нас», «Дзе арэ сошка, там хлеба трошкі, а дзе арэ машына, там хлеба асьміна», «Трактар межы варочае — да лепшай долі дарогу скарочвае»[48].

---

[44] Ходзін С. М. Асноўныя тэндэнцыі развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці БССР у 1921—1929 гг. // Веснік БДУ. Сер. 3. 1992. № 1. С. 45.

[45] Врублевский А. П., Протько Т. С. Накануне «великого перелома» // Хозяин. 1991. № 1. С. 10, 11.

[46] Осмоловский В. П. Индустриализация: Некоторые аспекты // Советская Белоруссия. 14 мая 1989.

[47] НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 2932, л. 41 аб.

[48] Прыказкі і прымаўкі. У 2 кн. Мн., 1976. Кн. 2. С. 514, 515.

На вёсцы з'явіліся новыя прафесіі: трактарысты, машыністы, камбайнёры, шафёры, рахункаводы, ветурачы, заатэхнікі. У калектыўных гаспадарках значна павялічыліся пасяўныя плошчы на бульбу, тэхнічныя (лён, канапля) і кармавыя культуры. З 1928 па 1940 гг. некалькі паменшылася плошча пад збожжавымі, пры гэтым скарачэнне ў асноўным датычыцца азімага жыта і аўса. Павышалася ўраджайнасць асноўных сельскагаспадарчых культур, прычым пераважна ў калгасах і саўгасах, дзе некалькі болей уносілася ў глебу мінеральных угнаенняў. І усё ж такі трэба адзначыць, што ў многіх гаспадарках ураджайнасць збожжавых (жыта, ячменя, аўса) не перавышала 8 цэнтнераў, а бульбы 100—112 цэнтнераў з гектара[49], што з'явілася вынікам недастатковай матэрыяльнай заахвочанасці калгаснікаў, нізкай агульнай культурай земляробства, слабай арганізацыяй працы. Маладыя калектыўныя гаспадаркі былі пастаўлены ў становішча, якое выключала ініцыятыву, а тым самым асуджала сельскую гаспадарку на адставанне ад патрэб грамадства.

Складанае, супярэчлівае значэнне для развіцця народа мела індустрыялізацыя. Ствараліся ўмовы для ліквідацыі фактычнай эканамічнай няроўнасці рэспублікі, развіваліся прагрэсіўныя галіны: цяжкая прамысловасць, электраэнергетыка. Шпаркімі тэмпамі Беларусь з аграрнай ператварылася ў індустрыяльна-аграрную рэспубліку. З другога боку, індустрыялізацыя ажыццяўлялася галоўным чынам на сродкі, што забіраліся ў вёсцы пасля яе паскоранай калектывізацыі. Цана хуткіх тэмпаў індустрыялізацыі была непамерна вялікая. На вёсцы ішло разбурэнне традыцыйнага жыццёвага ўкладу. Пад эканоміку ў гэты час закладвалася міна запаволенага дзеяння, фарміраваўся затратны механізм, які абапіраўся на прыцягненне ўсё новых рэсурсаў: матэрыяльных, працоўных (выкарыстанне таннай рабочай сілы, у большасці выхадцаў з вёскі). Звышцэнтралізацыя эканамічнага жыцця прывяла да канчатковага злому механізма самарэгуляцыі эканомікі. Яна ж дазволіла ўзняць прамысловасць на больш высокі ўзровень, правесці пераўзброенне арміі, а ў гады вайны разграміць ворага. Цаной неймавернага напружання, працоўнага энтузіязму народа рэспубліка зрабіла крок наперад у павышэнні тэмпаў прамысловага развіцця. За першую пяцігодку (1926—1932) выпуск прамысловай прадукцыі павялічыўся ў 2,7 раза, за другую пяцігодку (1933—1937) — у 1,9 раза[50].

За перыяд 1929—1940 гг. было ўведзена ў строй і рэканструявана 1863 прадпрыемствы (уключаючы і дробныя), найбольш буйныя з іх: раённая электрастанцыя БелГРЭС, Мінская, Магілёўская, Барысаўская і Крычаўская ТЭЦ, Бабруйскі, Гомельскі і Барысаўскі дрэваапрацоўчыя камбінаты, Крычаўскі цэментны завод, Гомельскі шкляны, Магілёўскі штучнага валакна, Гомельскі сельскагаспадарчага машынабудавання, Мінскі радыёзавод, Аршанскі ільнокамбінат, Мінская кандытарская фабрыка «Камунарка» і шэраг іншых[51].

Асаблівасцю індустрыялізацыі Беларусі было паскоранае развіццё галін прамысловасці, што выкарыстоўвалі мясцовую сыравіну (тарфяная, хімічная, будаўнічых матэрыялаў, шкляная), а таксама размяшчэнне ў рэспубліцы прадпрыемстваў, што працавалі на прывазной сыравіне (металаапрацоўка, машынабудаванне, тэкстыльная і швейная прамысловасць). Больш нізкімі тэмпамі развівалася дрэваапрацоўчая, запалкавая, бумажная

[49] Развитие экономики Белоруссии в 1928—1941 гг. / Под ред. В. И. Дрица. Мн., 1975. С. 154.

[50] Осмоловский В. П. Индустриализация: Некоторые аспекты // Советская Белоруссия. 4 мая 1989.

[51] Развитие экономики Белоруссии в 1928—1941 гг. С. 38, 39.

і лесанарыхтоўчая прамысловасць, што было звязана з памяншэннем у рэспубліцы запасаў спелай драўніны.

Да канца другой пяцігодкі рэспубліка выпускала 2,2% усёй валавай прадукцыі прамысловасці Савецкага Саюза. Прамысловасць БССР выраблялa 1,2% металарэжучых станкоў, 10,3% — торфу, 28,7% — фанеры, 6,9% — паперы, 2% — цэмента, 16% — ільноваласкна і трыкатажных вырабаў, 3,8% — абутку ад агульнай вытворчасці[52].

У развіцці прамысловасці ўсебаковую дапамогу аказвалі братнія рэспублікі. З індустрыяльна развітых цэнтраў Расійскай Федэрацыі і Украіны ў Беларусь паступалі розныя машыны, абсталяванне, паліва, метал і інш. З гэтых раёнаў прыязджалі кваліфікаваныя рабочыя і інжынеры. Эканоміка Беларусі развівалася як састаўная частка эканомікі Савецкага Саюза.

Індустрыяльнае развіццё прывяло да павелічэння колькасці рабочых у рэспубліцы. Так, за гады даваенных пяцігодак рабочы клас павялічыўся ў 6 разоў, у той час як у цэлым па СССР — у 3 разы[53].

Крыніцай паскоранага росту колькасці рабочых з'явілася сялянства. У 1932 г. з агульнага ліку рабочых, якія прыйшлі ў прамысловасць, сяляне склалі 50,2%, рабочыя — 36,5%, служачыя — 7,6%, кустары — 5,4%, іншыя — 0,3%[54]. Папаўненне рабочага класа за кошт сялянства, у большасці сваёй беларусаў, прывяло да змен у нацыянальным складзе рабочага класа. Пры павелічэнні колькасці рабочых у буйнай прамысловасці Беларусі з 1930 па 1940 гг. у 5 разоў колькасць рабочых-беларусаў узрасла ў 8 разоў. У 1940 г. з ліку ўсіх рабочых, якія былі заняты ў прамысловасці, на транспарце і сельскай гаспадарцы, на долю беларусаў прыходзілася каля 80%[55].

Асабліва вялікая ўдзельная вага беларусаў была на новых прадпрыемствах. Імклівы рост радоў рабочых за кошт выхадцаў з вёскі, якія мелі больш нізкі ўзровень адукацыі і кваліфікацыі, чым патомныя рабочыя, у нейкай ступені запаволілі рост прамысловасці, асваенне новай тэхнікі і тэхналогіі. Аднак з цягам часу гэтыя недахопы пераадольваліся, павышаўся культурны і прафесійны ўзровень рабочых. Да 1932 г. была ліквідавана непісьменнасць. У 1940 г. з агульнага ліку прамысловых рабочых кожны пяты быў кваліфікаваным[56]. Істотныя якасныя змены адбываліся ў прафесійна-галіновай структуры рабочых. Павялічылася колькасць рабочых, занятых у машынабудаванні і металаапрацоўцы, у тарфяной і тэкстыльнай прамысловасці, адпаведна паменшылася іх доля ў дрэваапрацоўцы і харчовай.

Адным з бакоў індустрыялізацыі з'явілася ўрбанізацыя рэспублікі, у працэсе якой павялічылася колькасць гарадскога насельніцтва, узмацняўся прыток беларусаў у гарады, раслі нацыянальныя кадры рабочых, інтэлігенцыі.

У 1939 г. сацыяльная структура насельніцтва БССР была прадстаўлена рабочымі (21,9%), калгаснікамі (57,2%), служачымі (14,5%). Назіраўся прыкметны рост нацыянальных кадраў ва ўсіх галінах вытворчасці. Сацыяльна-прафесійная структура беларускага этнасу ўскладнілася і стала больш разгалінаванай. Сярод кіраўнікоў партыйных, дзяржаўных,

---

[52] Осмоловский В. П. Индустриализация: Некоторые аспекты // Советская Белоруссия. 14 мая 1989.

[53] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. С. 25.

[54] Вышинский В. И. Развитие рабочего класса БССР (1921—1937 гг.). // Формирование и развитие многонационального рабочего класса СССР в период строительства социализма (1921—1937 гг.). Тбилиси, 1980. С. 184.

[55] Социальные изменения рабочего класса Белоруссии в процессе строительства коммунизма. Мн., 1965. С. 23, 24.

[56] Развитие экономики Белоруссии в 1928—1941 гг. С. 66.

кааператыўных і грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў удзельная вага беларусаў складала 63,6%, сярод тэхнічнага персанала — 65,8%, медыцынскага персанала — 63,7%, культурна-палітыка-асветных работнікаў — 73,7%, работнікаў мастацтва — 32,7%, сувязі — 79,9%[57]. Былі падрыхтаваны нацыянальныя кадры інтэлігенцыі масавых прафесій, тэхнічнай, навуковай і інш. Аднак у асобных сферах дзейнасці беларусы яшчэ былі прадстаўлены недастаткова. Гэта датычылася такіх прафесій, як урачы, навуковыя работнікі, журналісты, адвакаты, суддзі. Пашырылася палітра рабочых спецыяльнасцей (хімікі, тэкстыльшчыкі, экскаватаршчыкі, бетоншчыкі, арматуршчыкі, токары, фрэзероўшчыкі, электраманцёры, сталявары).

У Заходняй Беларусі, якая ў 1921—1939 гг. была ў складзе Польшчы, развіццё прамысловасці ішло даволі марудна. Негатыўны ўплыў аказаў сусветны эканамічны крызіс 1929—33 гг. У 1931 г. у чатырох усходніх ваяводствах колькасць рабочых беларускай нацыянальнасці складала 145 тыс. чалавек — 7,4% ад агульнай колькасці беларусаў[58]. Такая ж доля рабочага класа была і сярод усяго праваслаўнага насельніцтва «ўсходніх крэсаў», пры гэтым кожны другі рабочы працаваў у сельскай гаспадарцы, і толькі 18 са 100 рабочых былі заняты ў прамысловасці.

Неспрыяльным было становішча беларускай інтэлігенцыі, якая часта не магла атрымаць працу адпаведна сваёй адукацыі. У 1932 г. у Палескім ваяводстве на долю беларусаў прыходзілася толькі 2,5% інтэлігенцыі. Ва ўсходніх ваяводствах сярод 514 настаўнікаў дзяржаўных сярэдніх школ беларусаў налічвалася 9 чалавек[59]. Працэнт студэнтаў-беларусаў у Віленскім універсітэце ў перыяд 1919—1937 гг. вагаўся ад 0,9 да 2,8%[60].

Негатыўна адбіліся на этнасацыяльным развіцці беларусаў разбуральныя вынікі вайны і фашысцкай акупацыі. Беларусь страціла больш як палову свайго нацыянальнага багацця. Гітлераўцы разбурылі 10 338 прадпрыемстваў, што склала 85% ад даваеннай колькасці. Большая частка іх абсталявання была вывезена ў Германію. У сельскай гаспадарцы было разбурана 10 тыс. калгасаў і 92 саўгасы з усім комплексам жывёлагадоўчых ферм, запасам гатунковага насення, МТС і даследчымі станцыямі. У параўнанні з 1940 г. на 43% скараціліся пасяўныя плошчы. Больш за 1 млн гектараў ворнай зямлі зараслі кустамі і пустазеллем. Знішчана, раскрадзена і адпраўлена ў Германію пераважная частка грамадскага статка (коней засталося 39% ад даваеннага ўзроўню, буйнай рагатай жывёлы — 31%, авечак і коз — 22%, свіней — 11%). Шэсць з дзесяці калгасных сямей не мелі жывёлы. Цалкам знішчана энергетычная і тэхнічная база сельскай гаспадаркі[61].

Нямецкія ўлады на акупаванай тэрыторыі праводзілі сваю аграрную палітыку. У заходніх рэгіёнах яна была накіравана на ліквідацыю калгасаў і саўгасаў, насаджэнне памешчыцкіх маёнткаў і аднаасобных гаспадарак. На ўсходзе рэспублікі, дзе калектывісцкія традыцыі былі больш моцныя, захопнікі не распускалі калгасы і не праводзілі падзел зямлі з мэтай падпарадкавання насельніцтва акупацыйным уладам[62].

---

[57] Всесоюзная перепись населения 1939 г. Основные итоги. М., 1992. С. 198—200.

[58] Tomaszewski J. Robotnicy Bialorusini w latach 1919—1939 w Polsce // Acta Baltico-Slavica. 1967. R. 5. S. 104, 105.

[59] Полуян И. В. Западная Белоруссия в период экономического кризиса 1929—1933 гг. Мн., 1991. С. 98.

[60] Gomolka K. Bialorusini w II Rzeczypospolitej. Gdansk, 1992. S. 112.

[61] Экономика Белоруссии в период послевоенного возрождения / Под ред. В. И. Дрица. Мн., 1988. С. 5—9.

[62] Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945. Энцыклапедыя. С. 23, 24.

З вызваленнем рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў перад беларускім народам паўстала задача — у кароткі тэрмін аднавіць свой эканамічны патэнцыял, пры гэтым аказваючы пасільную дапамогу фронту. Была праведзена рээвакуацыя беларускіх прадпрыемстваў і матэрыяльна-тэхнічных каштоўнасцей. Вялікую дапамогу аказалі ўсе народы СССР: дасылалі абсталяванне, паліва, будаўнічыя матэрыялы, сельгастэхніку, разнастайныя машыны, гатунковае насенне, сотні тысяч галоў жывёлы, накіроўвалі кваліфікаваных рабочых і спецыялістаў, дапамагалі ў праектаванні гарадоў і народнагаспадарчых аб'ектаў, у падрыхтоўцы кадраў. За кошт сродкаў саюзнага бюджэта (больш паловы даходаў рэспублікі) аднаўляліся разбураныя і будаваліся новыя фабрыкі і заводы, транспарт і адміністрацыйныя будынкі і інш.[63]

У 40-я гг. істотныя змены адбываліся ў заходніх абласцях Беларусі. Тэмпы прамысловага развіцця ім надаваліся больш высокія, чым у сярэднім па рэспубліцы. У сельскай гаспадарцы ажыццяўлялі калектывізацыю. Прымяняліся сілавыя метады барацьбы з непажадаўшымі ўступіць у калгасы: падаткавая палітыка, скарачэнне тэрмінаў выканання абавязковых паставак, запужванні, рэпрэсіі. Вось сведчанні інфарматараў з Брэстчыны. Махнач Сяргей Сяргеевіч сцвярджае: «У 1949 г. адбылася калектывізацыя, заганялі сілаю ў калгас. Некаторыя доўга былі ў аднаасобніках, але ж былі вялікія налогі». Шыхат Марыя Іосіфаўна: «У калгас ішлі пад прымусам, зводзілі коней, звозілі збожжа і інвентар. Свякроў не хацела ісці. Я ж сама падала заяву ў калгас. Татава брата раскулачылі, у яго было 15 га зямлі, і ён наймаў на работу бежанцаў. Прыйшлі ноччу і адправілі ў Ташкент. Потым прыехаў у Клецк, бо ў свой раён яму не далі вярнуцца». Сакун Вера Іванаўна: «З калгаснага поля ідзеш, возьмеш жменю каласоў, каб дзецям стаўчы, брыгадзір фартух парве і ўсё забярэ. Гаравалі. Слава богу, як устаў калгас, то пачалі атрымоўваць збожжа. Цяпер дрэнна ня можна гаварыць, цяпер у калгасе можна жыць. Зерне калгас даў 100 кг і пенсію маю добрую»[64]. Коктыш Хвядора Якаўлеўна: «Як прыйшлі саветы, то зрабілі кулакамі. Усё паадбіралі: кабылу, збрую, калёсы, хамуты, малацілку, арфу, што збожжа чысціць... Я б і сёння рабіла, а дзеці не хочуць зямлю браць, бо ляну-юцца рабіць, папішуць, папішуць ды грошы заробяць».

З развіццём прамысловасці і зменамі ў сельскай гаспадарцы пашыраецца міграцыя ў гарадскія паселішчы, паслабляючы тым самым аграрнае перанасяленне, змяняецца побыт і культура вёскі. З умацаваннем эканамічных, гандлёвых, культурных сувязей паміж усходняй і заходняй часткамі Беларусі паглыбляюцца кансалідацыйныя працэсы.

У пасляваенны час значна павялічыўся эканамічны патэнцыял рэспублікі. Найбольш спрыяльныя ўмовы для развіцця склаліся ў 1965—1975 гг. Рэспубліка аднавіла свой эканамічны патэнцыял, прычым на той час на вышэйшай тэхнічнай аснове. Ва ўсіх галінах была праведзена рэканструкцыя, уводзілася больш дасканалае абсталяванне, прымяняліся новыя метады вытворчасці, павышалася ступень механізацыі, электрафікацыі і аўтаматызацыі. Створаны новыя галіны прамысловасці. Менавіта ў гэты час закладзены асновы ўсесаюзнай спецыялізацыі Беларусі з улікам яе прыродных, эканамічных, геаграфічных умоў, наяўнасці працоўных рэсурсаў. Істотна павысілася кваліфікацыя і прафесійная падрыхтоўка кадраў усіх узроўняў. Вялікія інвестыцыі

[63] Экономика Белоруссии в период послевоенного возрождения. С. 17, 18.

[64] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 11, 14, 25, 27, 28.

ішлі з агульнасаюзнага фонда. У выніку вырасла прадукцыйнасць працы, тэмпы прыросту прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі. З канца 70-х гг. тэмпы прыросту замарудзіліся, але заставаліся больш высокімі, чым увогуле ў СССР. Сярэднегадовы тэмп прыросту нацыянальнага даходу ў перыяд 1976—1986 гг. склаў па рэспубліцы 5,4% у параўнанні з 3,9% у СССР, прамысловай вытворчасці — 6,3% супраць 4,1%. Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі павялічылася на 16% пры росце па краіне не больш 14%. Апераджаючае развіццё рэспублікі па асноўным эканамічным паказчыкам захоўвалася і ў 1986—1990 гг.[65] Істотную ролю тут адыгралі такія фактары, як наяўнасць кваліфікаваных кадраў рабочых і спецыялістаў, працоўныя традыцыі, спрыяльная вытворчая інфраструктура. Індустрыяльнае аблічча рэспублікі сталі вызначаць навукаёмкія галіны народнай гаспадаркі: радыётэхнічная, электронная, станкабудаўнічая, аўтамабільная, нафтаперапрацоўчая, хімічная. Ім характэрны былі найбольш хуткія тэмпы росту.

Машынабудаўнічы комплекс, што адыгрывае ключавую ролю ў прамысловасці Беларусі, характарызуецца шматгаліновай структурай, шырокім развіццём унутры- і міждзяржаўных сувязей. Рэспубліка вядома аўтамабілебудаваннем. Першыя беларускія аўтамабілі МАЗы былі выпушчаны Мінскім аўтазаводам у 1947 г., а ўжо ў 1989 г. з канвеера завода сыйшла мільённая машына. Гэта галіна спецыялізуецца на выпуску вялікагрузных аўтамабіляў (Мінск, Магілёў) і звышцяжкіх самазвалаў (да 180 т.) — БелАЗаў (Жодзіна). Атрымала развіццё трактарнае і сельскагаспадарчае машынабудаванне.



61. Мінскі завод «Электроніка». Аўтаматычная лінія зборкі наручных электронных гадзіннікаў

Сёння вытворчае аб'яднанне «Мінскі трактарны завод» выпускае калёсныя ўніверсальна-прапашныя трактары, рухавікі, запчасткі. Станкабудаванне прадстаўлена выпускам металарэжучых станкоў, аўтамабільных ліній, кавальска-прэсавага абсталявання. Электронныя вылічальныя машыны, фотаапараты, радыёпрыёмнікі, тэлевізары, халадзільнікі, бытавыя персанальныя камп'ютэры, гадзіннікі — вось далёка не поўны пералік таго, што вырабляе рэспубліка. Машынабудаванне і металаапрацоўка складаюць 1/4 ад агульнага аб'ёму прадукцыі прамысловасці Беларусі (у 1970—1980-я гг. 1/3, табл. 3).

Высокаразвітай індустрыяльнай галіной эканомікі ў пасляваенны час становіцца хімічная і нафтахімічная прамы-

[65] Кебич В. Ф. Структура и функции государственных органов управления народным хозяйством союзной республики в условиях развития и экономической самостоятельности. Автореф. дис. ... канд. эконом. наук. М., 1990. С. 8.

Табліца 3

**Удзельная вага прадукцыі асобных галін у агульным аб'ёме прадукцыі прамысловасці Беларусі (у працэнтах)***

| | 1985 | 1990 | 1995 | 1996 |
|---|---|---|---|---|
| Уся прамысловасць | 100 | 100 | 100 | 100 |
| у тым ліку: | | | | |
| здабываючая прамысловасць | 2,3 | 2,1 | 5,5 | 5,2 |
| апрацоўваючая прамысловасць | 97,7 | 97,9 | 94,5 | 94,8 |
| З усёй прамысловасці па галінах: | | | | |
| электраэнергетыка | 2,9 | 2,6 | 13,8 | 11,3 |
| топлiўная прамысловасць | 5,5 | 4,6 | 4,3 | 3,8 |
| чорная металургія | 0,6 | 0,9 | 2,4 | 2,7 |
| каляровая металургія | 0,05 | 0,1 | 0,1 | 0,2 |
| хімічная і нафтахімічная прамысловасць | 9,1 | 9,0 | 14,3 | 12,9 |
| машынабудаванне і металаапрацоўка | 31,9 | 34,2 | 23,3 | 24,4 |
| лясная, дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровая прамысловасць | 4,6 | 4,4 | 5,3 | 5,6 |
| прамысловасць будаўнічых матэрыялаў | 3,7 | 3,7 | 5,1 | 4,5 |
| лёгкая прамыловасць | 19,8 | 17,2 | 8,0 | 7,9 |
| тэкстыльная | 12,3 | 10,4 | 4,4 | 4,4 |
| швейная | 5,2 | 4,7 | 1,3 | 1,3 |
| скураная, футравая, абутковая | 2,2 | 2,1 | 2,3 | 2,1 |
| харчовая прамысловасць | 15,7 | 14,9 | 17,0 | 19,0 |
| харчасмакавая | 6,8 | 5,6 | 6,8 | 8,4 |
| мясная і малочная | 8,7 | 9,0 | 10,0 | 10,4 |
| рыбная | 0,2 | 0,2 | 0,2 | 0,2 |

*Статистический ежегодник Республики Беларусь. 1997. Мн., 1997. С. 403.

словасць. У 60—70-х гг. былі пабудаваны буйнейшыя прадпрыемствы па выпуску калійных і азотных угнаенняў, хімічных валокнаў, пластмас, шын, нафтахімічных прадуктаў. У 1988 г. рэспубліка выраблялa 18,1% мінеральных угнаенняў, 28,1% хімічных валокан і нітак, 7,3% аўтамабільных шын, што выпускаліся па ўсім СССР[66].

Традыцыйнымі для Беларусі з'яўляюцца лёгкая і харчовая, лясная і дрэваапрацоўчая прамысловасці. Лёгкая прамысловасць выпускае тканіны, дываны, адзенне, абутак, трыкатажныя, галантарэйныя, швейныя вырабы. Па выпуску ільняных, суконных, шаўковых тканін Беларусь займала 3-е месца сярод былых саюзных рэспублік, саступаючы толькі РСФСР і ЎССР.

Галіны ляснoй прамысловасці заснаваны, галоўным чынам, на выкарыстанні рэсурсаў беларускіх лясоў. Апераджальнымі тэмпамі за пасляваенны час развівалася дрэваапрацоўчая, у асноўным мэблевая і цэлюлозна-папяровая прамысловасць.

Харчовая прамысловасць прадстаўлена мукамольна-крупяной, крухмальнай, цукровай, плодаагароднiна-перапрацоўчай, малочнай, мясной, кандытарскай і іншымі галінамі, размешчана ў шмат якіх гарадах і пасёлках гарадскога тыпу.

[66] Народное хозяйство СССР в 1988 г. М., 1989. С. 340—341.

Паліўна-энергетычны комплекс абслугоўвае пераважна ўнутрырэспубліканскія патрэбнасці. Беларуская энергетычная сістэма складаецца з цеплавых электрастанцый. Частка электраэнергіі паступае ад атамных электрастанцый, якія знаходзяцца на тэрыторыі суседніх дзяржаў. Да сярэдзіны 60-х гг. энергетыка базіравалася пераважна на выкарыстанні мясцовага торфу, затым яго пачаў выціскаць пячны мазут і натуральны газ.

Эканоміка Беларусі функцыянавала ў саставе агульнасаюзнага народнагаспадарчага комплексу, на лакальным узроўні ішло развіццё беларускага эканамічнага рэгіёну. Умацаванне ўнутрыэтнічных эканамічных сувязей спрыяла развіццю кансалідацыі народа, а рост міжнацыянальных эканамічных сувязей вёў да інтэграцыі. Міжнацыянальнае ўзаемадзеянне знаходзіла сваё адлюстраванне ў міжрэспубліканскім абмене прадукцыяй. З Расійскай Федэрацыі ў Беларусь паступалі машыны, прыборы, метал, газ, нафта, абсталяванне, тканіна; з Украіны — вугаль, метал, мінеральныя і будаўнічыя матэрыялы, прыродны газ; з рэспублік Прыбалтыкі — асобныя віды машын, рыба, галантарэйныя тавары, мэбля; з Закаўказзя і Малдовы — вінаград, чай, цытрусавыя; Сярэдняй Азіі — бавоўна, садавіна; Казахстана — пшаніца. Беларусь, у сваю чаргу, вывозіла грузавыя аўтамабілі, трактары, металарэжучыя станкі, электронныя вылічальныя машыны, гадзіннікі. Вялікае месца ў пастаўках займалі прадукты хіміі і нафтахіміі, ільняныя і суконныя тканіны, абутак, трыкатаж і інш. Павышалася ўдзельная вага вырабаў, што адпавядалі сусветнаму ўзроўню. Прадукцыя беларускага машынабудавання (аўтамабілі, трактары, халадзільнікі, тэлевізары, матацыклы, веласіпеды, электронныя вылічальныя машыны, прыборы) вывозілася больш чым у 90 краін свету. На экспарт ішлі мінеральныя ўгнаенні, поліэтылен, ільняныя тканіны, дываны і інш.



62. Сямейны экіпаж Аляксандра Яўсеева і яго дачкі Алены. Віцебскі раён, акцыянернае таварыства «Адраджэнне». 1997 г.

Прыкметных поспехаў дасягнула сельская гаспадарка Беларусі. Яе развіццё ішло на падставе ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы. За пасляваенны час істотна ўзрасла фондаўзброенасць працы, павялічыліся энергетычныя магутнасці. Так, за перыяд з 1980 па 1989 гг. асноўныя вытворчыя фонды сельскагаспадарчага прызначэння ўзраслі на 81%, фондаўзброенасць працы — на 137%, энергаўзброенасць — на 128%[67]. Па меры росту забяспечанасці сельскай гаспадаркі энергетычнымі магутнасцямі павышаўся ўзровень механізацыі. Парк трактараў павялічыўся з 34 тыс. у 1960 г. да 124,0 тыс. у 1988 г., камбайнаў зернеўборачных —

[67] Народное хозяйство Белорусской ССР в 1989 г. С. 148, 179.



63. Уборка бульбы ў саўгасе «Рогаўскі» Мінскай вобласці. 1989 г.

з 10,6 тыс. да 33,6 тыс., сіласаўборачных — з 4 тыс. да 9,4 тыс., бульбаўборачных — з 1,4 тыс. да 8,4 тыс. У калгасы і саўгасы паступалі машыны і механізмы для комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці, у тым ліку жывёлагадоўлі і кормавытворчасці.

Сельская гаспадарка Беларусі спецыялізуецца на малочна-мясной жывёлагадоўлі, вырошчванні бульбы і лёну.

У Беларусі на канец 1996 г. налічвалася 9,3 млн гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў, што ўключалі пашню, сенакосы; прыкладна 40,1% былі заняты пад збожжавымі культурамі, з іх найбольш распаўсюджаны жыта, ячмень, азімая і яравая пшаніца, авёс. У 1996 г. бульба і гародніна займалі 13%, лён-даўгунец, цукровыя буракі — 2% пасяўных плошчаў[68].

У выніку ўкаранення новых сартоў раслін, новых тэхналогій, выкарыстання хімічных сродкаў абароны раслін, мінеральных і арганічных угнаенняў, выпнавання кіслых глеб, правядзення меліярацыі (апошняя ў шэрагу выпадкаў парушыла экалагічны баланс, прынесла негатыўныя вынікі) павялічылася ўраджайнасць і валавы збор асноўных сельскагаспадарчых культур.

Асноўнай галіной жывёлагадоўлі з'яўляецца развядзенне буйнай рагатай жывёлы, пераважна малочна-мясных і малочных парод. Развіта свінагадоўля, птушкагадоўля і інш. Пагалоўе свіней і буйнай рагатай жывёлы пастаянна ўзрастала амаль да пачатку 90-х гг., авечак і коз — скарацілася. Павялічвалася вытворчасць прадукцыі жывёлагадоўлі.

Негатыўны ўплыў на развіццё сельскай гаспадаркі аказала Чарнобыльская катастрофа, паменшыліся аб'ёмы вытворчасці.

З разгортваннем навукова-тэхнічнага прагрэса змяніліся рассяленне і сацыяльная структура беларусаў. Скарацілася колькасць і ўдзельная вага сельскага насельніцтва, у тым ліку калгаснага сялянства. Частка сялян у выніку пераўтварэнняў калгасаў у саўгасы станавілася рабочымі. На сяле налічвалася больш чым 150 прафесій і спецыяльнасцей (механізатары, слесары, сантэхнікі, электрыкі, будаўнікі, меліяратары, аператары жывёлагадоўчых ферм і інш.). Сур'ёзныя змены адбываліся ў сацыяльнай структуры беларусаў. Высокія тэмпы развіцця прамысловасці садзейнічалі павелічэнню колькасці рабочых. Толькі за перыяд 1960—1980 гг. рабочы клас Беларусі павялічыўся ў 2 разы. Найбольш хутка расла доля рабочых, што працавалі ў сельскай

[68] Статистический ежегодник Республики Беларусь. 1997. С. 469, 474.

гаспадарцы і сферы абслугоўвання. Адбываліся і якасныя змены ў рабочым класе, якія былі звязаны з павышэннем адукацыйнага і кваліфікацыйнага ўзроўняў рабочых. Павялічыўся слой рабочых-інтэлігентаў, што мелі вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю. У сацыяльнай структуры беларусаў, занятых у народнай гаспадарцы, узрастала колькасць і ўдзельная вага рабочых і служачых, паніжалася вага калгаснага сялянства. Параўнанне даных па асноўных этнічных групах, якія жывуць у Беларусі, паказала, што сярод беларусаў удзельная вага рабочых і сялян пераважала такія паказчыкі ў рускіх, украінцаў, яўрэяў, палякаў, за выключэннем больш высокай долі калгаснікаў у палякаў. Што датычыцца служачых, то па іх удзельнай вазе беларусы саступалі рускім, яўрэям, украінцам, апярэджвалі палякаў (табл. 4).[69]

Беларусы шырока прадстаўлены ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. За пасляваенны час значна ўзрасла колькасць работнікаў разумовай працы. Толькі за 1970—1990 гг. колькасць нацыянальнай інтэлігенцыі падвоілася. У 1989 г. кожны трэці беларус быў заняты пераважна разумовай працай. Беларусы мелі моцныя пазіцыі ў органах дзяржаўнага кіравання (77,4%), у кіраўніцтве прадпрыемстваў і арганізацый (71,6%). Сярод інжынерна-тэхнічных спецыялістаў беларусы складалі 64,6%; аграномаў, заатэхнікаў, ветэрынарных работнікаў і ляснічых — 84,2%; медыцынскіх работнікаў — 70,0%; навуковых работнікаў, выкладчыкаў і выхавальнікаў — 69,1%; работнікаў літаратуры і друку — 66,7%; культурна-асветніцкіх работнікаў — 70,7%; работнікаў мастацтва — 56,0%; юрыдычнага персаналу — 69,9%[70]. Сацыяльна-прафесійная структура беларусаў стала больш складанай і разнастайнай, што станоўча сказалася на культуры этнасу. Кожны прафесійны слой грамадства фарміруе новыя рысы культуры, спрыяе ўзнікненню ў ёй новых спецыфічных традыцый.

Такім чынам, у дынаміцы сацыяльнага складу беларусаў разам з тэндэнцыяй на збліжэнне асноўных класаў і груп грамадства выяўлялася і другая тэндэнцыя, супрацьлеглая першай, аднак цесна звязаная і дапаўняючая яе. Яна заключалася ва ўскладненні і дыферэнцыяцыі сацыяльна-прафесійнай структуры этнасу.

У пачатку 90-х гг. становішча ў эканоміцы істотна ўскладнілася. Разбурэнне Савецкага Саюза, разрыў эканамічных сувязей затармазілі вытворчасць, рэзка знізілі яе аб'ёмы. Валавы ўнутраны прадукт у 1996 г. у параўнанні з 1990 г. знізіўся на 36%. Зменшылася вытворчасць прамысловай прадукцыі. Так, з 1990 па 1996 гг. вытворчасць грузавых аўтамабіляў упала ў 4 разы, трактароў — у 3, кармаўборачных камбайнаў — у 9,5, мінеральных угнаенняў — 1,8, хімічных валокан — 2,5 раза[71].

Негатыўныя працэсы адбыліся і ў сельскай гаспадарцы: зменшылася вытворчасць ільну, бульбы, гародніны, скарацілася пагалоўе жывёлы ў грамадскім сектары і асабістых падсобных гаспадарках (на 40%). Скараціліся інвестыцыі ў сельскую гаспадарку, пагоршылася іх структура. Змяншаліся пастаўкі тэхнікі, запчастак, будматэрыялаў, мінеральных угнаенняў, сродкаў аховы (апошніх на 1/3)[72].

Па-ранейшаму прамысловасць арыентавана на ўвоз сыравіны і камплектуючых вырабаў і вываз гатовай прадукцыі. Хаця за 90-я гады аб'ёмы ўвозу і вывазу скараціліся галоўным чынам з-за павышэння цэн на сыравіну і энерганосьбіты.

---

[69] Национальный состав населения Белорусской ССР. Мн., 1990. С. 67.

[70] Падлічана па: Национальный состав населения Белорусской ССР. Мн., 1990. С. 56, 57.

[71] Статистический ежегодник Республики Беларусь. Мн., 1997. С. 20, 21, 425, 428; Вопросы экономики. 1997. № 10. С. 143—158.

[72] Весці Акадэміі аграрных навук Беларусі. 1993. № 3. С. 38.

Табліца 4

**Размеркаванне занятага насельніцтва асобных нацыянальнасцей па сацыяльных групах**

| | Усяго, тыс. чал. | У тым ліку | | | У працэнтах да адпаведнай нацыянальнасці | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | рабочыя | служачыя | калгаснікі | рабочыя | служачыя | калгаснікі |
| Усё занятае насельніцтва | | | | | | | |
| 1979 | 4981,8 | 2864,7 | 1333,3 | 781,9 | 57,5 | 26,8 | 15,7 |
| 1989 | 5295,7 | 3042,7 | 1645,6 | 599,9 | 57,5 | 31,1 | 11,3 |
| Беларусы | | | | | | | |
| 1979 | 3879,8 | 2301,1 | 876,5 | 700,9 | 59,3 | 22,6 | 18,1 |
| 1989 | 4039,9 | 2409,3 | 1113,6 | 513,6 | 59,6 | 27,6 | 12,7 |
| Рускія | | | | | | | |
| 1979 | 631,5 | 313,7 | 300,5 | 17,3 | 49,7 | 47,6 | 2,7 |
| 1989 | 739,6 | 363,4 | 350,3 | 24,3 | 49,1 | 47,4 | 3,3 |
| Украінцы | | | | | | | |
| 1979 | 147,2 | 75,0 | 64,5 | 7,7 | 51,0 | 43,8 | 5,2 |
| 1989 | 179,3 | 90,3 | 77,3 | 11,1 | 50,3 | 43,1 | 6,2 |
| Палякі | | | | | | | |
| 1979 | 210,6 | 125,0 | 33,0 | 52,4 | 59,3 | 15,7 | 24,9 |
| 1989 | 227,8 | 132,3 | 48,8 | 46,2 | 58,1 | 21,4 | 20,3 |
| Яўрэі | | | | | | | |
| 1979 | 77,0 | 29,4 | 47,5 | 0,1 | 38,1 | 61,1 | 0,1 |
| 1989 | 62,3 | 22,3 | 39,5 | 0,1 | 35,8 | 63,4 | 0,2 |

Прыярытэтнымі эканамічнымі партнёрамі Беларусі застаюцца Расія і Украіна, на долю якіх прыходзілася ў 1993 г. адпаведна 57% і 23% вывазу і 67% і 20% увозу[73]. Традыцыйныя эканамічныя сувязі захоўваюцца з Казахстанам, краінамі Прыбалтыкі, Малдовай, Узбекістанам. Наладжваюцца сувязі з Захадам. Ствараюцца сумесныя прадпрыемствы з замежнымі фірмамі (на 1.01.1992 зарэгістравана 283, 1.01.1996 г. — 1981 такіх прадпрыемстваў)[74].

З сярэдзіны 90-х гг. вызначаюцца тэндэнцыі да стабілізацыі эканамічнага жыцця народа, ідзе рост валавага ўнутранага прадукта, пазітыўныя зрухі прыкметны ў прамысловасці. Вытворчасць вырасла ў машынабудаванні і металаапрацоўцы, чорнай металургіі, прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, лёгкай і харчовай прамысловасці. Больш стабільнай стала работа сельскай гаспадаркі. У аграрна-прамысловым комплексе рэспублікі пераважаюць буйныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы. Акрамя дзяржаўных прадпрыемстваў і калгасаў, аграфірм і аграаб'яднанняў атрымліваюць распаўсюджанне такія формы гаспадарання, як акцыянерныя таварыствы, фермерскія гаспадаркі (у 1997 г. іх было 2977)[75], вытворчыя кааператывы, асацыяцыі і інш.

У сувязі з накірункам на сацыяльна арыентаваную шматукладную рыначную эканоміку, змяняецца сацыяльная структура грамадства. Яе трансфармацыя выяўляецца ў растучай дыферэнцыяцыі па

[73] Александровіч Я. Нам не жыць адзін без аднаго // Чалавек і эканоміка. 1993. № 8. С. 3, 4.

[74] Статистический ежегодник Республики Беларусь. Мн., 1997. С. 198.

[75] Там жа. С. 466.

групах і слаях, у сацыяльнай палярызацыі. З'явіліся новыя сацыяльныя групы, а іншыя, якія існавалі ў папярэднія часы, атрымалі новую якасць (сяляне, рабочыя, працоўная інтэлігенцыя, дробная і сярэдняя буржуазія, жабракі і інш.). Усё гэта з'яўляецца эканамічнай асновай культуры беларускага этнасу.

## ПРОМЫСЛЫ І РАМЁСТВЫ

На працягу XX ст. пад уплывам сацыяльна-эканамічных і палітычных змен, навукова-тэхнічнага прагрэсу звузілася сфера функцыянавання промыслаў і рамёстваў. Адмоўна адбіліся на саматужна-рамеснай вытворчасці разбуральныя вынікі Першай сусветнай і Грамадзянскай войн, асаблівыя страты панеслі тыя галіны, якія працавалі на рынак. Так, у былой Магілёўскай акрузе колькасць саматужных прадпрыемстваў і занятых на іх асоб скарацілася ў 5 разоў[76].

Дзяржава ў мэтах хутчэйшага забеспячэння насельніцтва харчаваннем, адзеннем, абуткам і іншымі неабходнымі рэчамі стымулявала аднаўленне ў першую чаргу дробнай таварнай вытворчасці, якая патрабавала значна менш сродкаў, чым буйная прамысловасць. Саматужнікам садзейнічалі ў набыцці сыравіны і рэалізацыі прадукцыі. Ва ўмовах пераходу да новай эканамічнай палітыкі назіралася ажыўленне промыслаў і рамёстваў (выраб скур і аўчын, пашыў адзення, пераапрацоўка зерня і прадуктаў жывёлагадоўлі, выраб і рамонт сельскагаспадарчага інвентара, прадметаў хатняга ўжытку, будаўніцтва жылля і інш.).

Значная ўвага ўдзялялася мастацкім промыслам: арганізоўваліся выстаўкі, экспедыцыйныя пошукі, разгортваліся краязнаўчы рух і музейная справа. У 1919 г. на аснове кааперацыі з'явіліся керамічныя майстэрні ў Віцебску і Магілёве, ткацка-вышывальныя арцелі ў Слуцку і Мсціслаўлі, дрэваапрацоўчая арцель у Гомелі[77]. У 1923 г. у дробнай прамысловасці было занята 33,8 тыс. чалавек (у 2,7 раза больш, чым на буйных прадпрыемствах). Пры гэтым аб'ём саматужнай вытворчасці прыкладна ў 1,5 раза быў вышэй, чым у буйнай прамысловасці[78]. Аднак з сярэдзіны 20-х гг. тэмпы развіцця дробнай вытворчасці запаволіліся, яна так і не дасягнула даваеннага ўзроўню (у параўнанні з 1913 г. аб'ём валавай прадукцыі ў 1926—1927 гг. склаў усяго 62,5%)[79]. Гэта было звязана з палітыкай улад, накіраванай на абмежаванне дробнага ўласніка, першачарговае развіццё буйнай дзяржаўнай прамысловасці. І ўсё ж у гэты час вага дробнай саматужна-рамеснай прамысловасці заставалася даволі вялікай. У 1926 г. тут было занята 73% усёй колькасці рабочых і рамеснікаў, на яе долю прыпадала 59% валавай прадукцыі ўсёй прамысловасці. А па некаторых галінах вытворчасці і таго больш: у апрацоўцы воўны — 87,7%, у шавецкай і кравецкай справе — 82,7%, у апрацоўцы скур і футраў — 74,7%, вырабе пянькі — 73,7%, у харчовай прамысловасці — 71,5%, у апрацоўцы металаў — 60%[80].

Характэрна, што сельскія мясцовасці мелі прыкметную перавагу над горадам па абсалютнай колькасці прамысловага насельніцтва, складаючы больш 70%. Пры

[76] Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984. С. 18.

[77] Предприятия художественной промышленности Белоруссии. Справочник. Мн., 1988. С. 3.

[78] Развитие экономики Белоруссии в 1921—1927 гг. Мн., 1973. С. 48, 49.

[79] Там жа. С. 54.

[80] Рак Р. Да пытання геаграфічнага размяшчэння дробнарамесніцкай прамысловасці па БССР: Матэрыялы да раёнавання. Мн., 1932. С. 6, 10.

гэтым асабліва высокая вага іх была ў апрацоўцы дрэва, мінеральнай сыравіны, металаў, воўны, вытворчасці адзення[81]. Гарадскія ж рамеснікі лідзіравалі ў скуранай вытворчасці. Што датычыцца адносных паказчыкаў (колькасць саматужнікаў на 1 тыс. насельніцтва адпаведнай мясцовасці), то тут першанства было за гарадскімі населенымі пунктамі, асабліва вылучаліся ў гэтым плане мястэчкі. Так, па даных 1925 г. у Беларусі на 1 тыс. насельніцтва прыходзілася ў сярэднім 11,9 асобы, занятых у дробна-рамеснай прамысловасці (у акруговых гарадах — 22,3, у іншых гарадах — 21,9, у мястэчках — 27,9, сельскай мясцовасці — 10 асоб)[82].

На пашырэнні ў той ці іншай мясцовасці рамесніцтва ўплывалі гістарычныя і палітычныя фактары, гушчыня і памеры пасяленняў, шляхі зносін, стан развіцця буйнай прамысловасці, інтэнсіфікацыя сельскагаспадарчай вытворчасці, нацыянальныя традыцыі. Сярод саматужнікаў пераважалі беларусы (45,6%)[83].

Паміж рознымі тыпамі населеных пунктаў існаваў інтэнсіўны абмен прадукцыяй. Вясковыя рамеснікі абслугоўвалі ў першую чаргу свае патрэбы, але частку тавараў збывалі на гарадскіх і местачковых кірмашах. Прадукцыя гарадскіх саматужнікаў, галоўным чынам местачковых рамеснікаў, карысталася попытам на вёсцы, дзе ў большасці і асядала.

З другой паловы 1920-х гг. у саматужна-рамеснай вытворчасці істотную ролю набыло кааперыраванне дробных таваравытворцаў. З гэтай мэтай у 1926 г. створаны Беларускі саюз дробна-прамысловай кааперацыі. Кіруючыя колы БССР праводзілі неадназначную палітыку ў адносінах да дробнай вытворчасці. З аднаго боку, быў узяты курс на паскораны рост буйнай дзяржаўнай прамысловасці, які, тым не менш, «не павінен затрымліваць развіццё саматужна-рамеснай вытворчасці». З другога боку, ствараліся ўмовы для ўцягвання прыватных, разрозненных саматужнікаў у кааператыўную сістэму. Дзеля чаго выкарыстоўваліся эканамічныя рычагі, у якасці якіх выступала крэдытная сістэма (абмежаванне прыватнага капіталу пры ўліку векселяў і спагнанне больш высокага падатку, пазбаўленне яго крыніц фінансавання), падаткавая палітыка (больш высокі падатак з прыватніка), чыгуначныя тарыфы (надбаўка за перавоз грузаў), а таксама арэндная палітыка (здача прадпрыемства прыватніку на кароткі тэрмін, датэрміновае скасаванне дагавору) і інш. У гэты самы час кааперыраваным саматужнікам аказвалася дапамога ў форме прамых асігнаванняў па дзяржаўнаму бюджэту, доўгатэрміновага і кароткатэрміновага банкаўскага крэдытавання, прадстаўлення арцелям будынкаў і абсталявання, ільгот пры ўступленні саматужніка ў кааператыўныя вытворчыя аб'яднанні і інш[84]. У выніку усяго гэтага пачаўся хуткі рост кааперыраваных саматужнікаў. У 1926 г. налічвалася 175 прамысловых арцеляў, на якіх працавала 1911 чалавек, у 1929 г. — адпаведна 799 і 18087, у 1931 г. — 1020 арцеляў з 39963 працаўнікамі[85]. Да 1933 г. у дробнай прамысловасці практычна не засталося вольных саматужнікаў, яны былі выціснуты з рынку тавараў і паслуг.

У працэсе развіцця прамысловай кааперацыі БССР ішло павышэнне прадукцыйнасці працы, павелічэнне вытворчасці прадукцыі пры адначасовым памяншэнні колькасці рабочых (у 2 разы з 1926 па 1940 гг.). Вялізная маса былых

[81] Промыслы і рамёствы Беларусі. С. 19.
[82] Там жа. С. 20.
[83] Рак Р. Да пытання геаграфічнага размяшчэння дробнарамесніцкай прамысловасці па БССР. С. 12.
[84] Развитие экономики Белоруссии в 1928—1941 гг. Мн., 1975. С. 48, 49.
[85] Рак Р. Да пытання геаграфічнага размяшчэння дробнарамесніцкай прамысловасці па БССР. С. 13.

саматужнікаў улівалася ў сферу буйнай дзяржаўнай прамысловасці. Змянілася і сама структура дробнай вытворчасці.

У 1932 г. 36% рабочых Белсампрамсаюза было занята на торфарасрацоўках ці ў вырабе цагліны, вапны і іншых будаўнічых матэрыялаў. Прамысловыя арцелі пастаўлялі таксама большую частку лесахімічнай прадукцыі ў рэспубліцы (смала, шкіпідар, дзёгаць і інш.)[86].

З 30-х гг. істотна скарацілася традыцыйнае ганчарства, стала знікаць архаічная тэхніка: ручны ганчарны круг, нажны са спіцамі, ручная лепка пасудзін[87]. У побыце насельніцтва ўсё шырэй пачаў выкарыстоўвацца замест керамічнага больш прэстыжны шкляны і металічны посуд. Такі ж лёс напаткаў і некаторыя драўляныя вырабы. У выніку калектывізацыі скараціліся пасевы ільну на прысядзібных дзялянках, што стрымала развіццё хатняга ткацтва.

Як станоўчую з'яву можна адзначыць пашырэнне ў калгасах і саўгасах Беларусі падсобных промыслаў, якія выкарыстоўвалі багаты шматвяковы вопыт мясцовых майстроў, займаючы рабочую сілу вёскі. Невялічкія прадпрыемствы (кузні і механізаваныя майстэрні, шорныя і воўначасальныя, сталярныя майстэрні і стэльмашні, сукнавалкі і фарбоўкі, цыркуляркі, лесапілкі і гонтарэзкі, маслазаводы, сыраварні і хлебапекарні, цагельныя заводы) займаліся самай разнастайнай і неабходнай для селяніна працай: рамонтам сельскагаспадарчага інвентара, конскай збруі, распілоўкай дрэва, вырабам клёпак, бочак і гонты, выпальваннем вугалю, чоскай воўны, валкай і афарбоўкай сукна, вырабам масла, алею, патакі, цаглін, вапны, мелу, ганчарнага посуду і інш. Толькі ў калгасах і саўгасах Гарадоцкага раёна ў 1933 г. налічвалася 223 дробных прадпрыемства, з іх 181 кузня, 27 ваўначосак, 4 сукнавальні, 2 фарбоўні, 2 хлебапякарні, 3 лесапілкі і 3 маслазавода[88].

З цягам часу набіралі моц мастацкія промыслы. З 1938 г. дзейнічае Мастацкапрамысловы саюз (у межах Беларускага савета прамысловай кааперацыі), які займаецца арганізацыяй новых мастацкапрамысловых арцеляў, выяўленнем народных майстроў, адраджэннем асобных відаў промыслаў, правядзеннем злётаў, конкурсаў, выставак. У пачатку 1941 г. у Беларусі мелася 20 мастацкіх арцеляў, большасць з іх — вышывальныя. У асартыменце арцеляў — жаночыя сукенкі, блузы, мужчынскія кашулі, абрусы, накідкі, пасцілкі, аздобленыя ручной (у тэхніцы «крыж», «падліковая гладзь», «вольная гладзь») ці машыннай вышыўкай. Атрымалі развіццё ткацтва (пасцілкі, абрусы, дываны, паясы і інш.), мастацкая апрацоўка дрэва, выраб керамічнага посуду, сувеніраў. Меліся спробы адрадзіць карункапляценне (на базе Кармянскай арцелі). Прадукцыя арцеляў экспартавалася за межы рэспублікі, з поспехам дэманстравалася на рэспубліканскай выстаўцы «Беларуская ССР за 20 год» (г. Мінск, 1938), на міжнародных выстаўках у Парыжы і Нью-Йорку, дэкаднай выстаўцы Беларускай ССР у Маскве (1940)[89].

З далучэннем Заходняй Беларусі да БССР і на гэтай тэрыторыі пачалося каапераванне дробных саматужнікаў, якое завяршылася ў асноўных сваіх рысах да Вялікай Айчыннай вайны. Аднак узровень кааперацыі, аб'ём валавай прадукцыі кааператыўнай дробнай вытворчасці тут заставаўся ніжэйшым, чым на ўсходзе рэспублікі[90].

---

[86] Развитие экономики Белоруссии в 1928—1941 гг. С. 56.

[87] Милюченков С. А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984. С. 24.

[88] Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР: Дробная прамысловасць. Мн., 1935. Вып. 2. С. 38 —44.

[89] Предприятия художественной промышленности Белоруссии. С. 4,5.

[90] Развитие экономики Белоруссии в 1928—1941 гг. С. 60.

Ва ўмовах ваеннага ліхалецця, нястач бытавала хатняе ткацтва. Пераважна ткалі ў два ніты. Узорныя тканіны выраблялiся для ручнікоў, настольнікаў, хустак. З шарсцяной пражы ткалі сукно для верхняга адзення, коўдры, андаракі і хусткі. Даматканае сукно выраблялі на сукнавальных машынах ці ў хатніх умовах. Пашыралася вязанне рукавіц, панчох, шкарпэтак, хустак, выраб лазовых і скураных лапцей, абутку, адзення. Характэрна, што, як і ў папярэдні перыяд, бялізну, верхнія мужчынскія кашулі, штаны, жаночыя кофты і спадніцы сяляне шылі самі. Верхняе адзенне (світы, кажухі і паўшубкі) шылі спецыялісты — краўцы[91]. Зразумела, што не спынялася праца цесляроў, сталяроў, плотнікаў, кавалёў, якія будавалі жыллё, выраблялі простую мэблю, рамантавалі сельскагаспадарчы інвентар, розныя вытворчыя прылады і прадметы хатняга ўжытку. Такія неабходныя ў кожнай сялянскай гаспадарцы прылады, як вілы, граблі, бароны, ступы, самапрадкі, посуд, рабіліся, хаця і ў абмежаванай колькасці, і ў ваенны час.

У першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі, пакуль не запрацавалі на ўсю моц адноўленыя фабрыкі і заводы, насельніцтву прыходзілася звяртацца да традыцыйных промыслаў і рамёстваў. Жанчыны садзіліся за самапрадкі, ткацкія станы, выраблялі тканіну для адзення, ткалі ручнікі, посцілкі, хадакі, паясы, вязалі, вышывалі. У сувязі з будаўніцтвам жылля, гаспадарчых памяшканняў ажывілася цяслярскае, сталярнае рамяство, выраб цаглін, вапны і мелу. Хатняя гаспадарка мела вялікую патрэбу ў разнастайным посуду, сельскагаспадарчым інвентары і інш. У гэты час аднаўляліся страчаныя і з'яўляліся новыя ганчарныя арцелі. Кампенсуючы адсутнасць фабрычных вырабаў, пашыралася пляценне з лазы, кары ліпы, бяросты, саломы, сасновых і дубовых лучын, шнураў, нітак розных ёмістасцей для захавання і пераноса прадуктаў харчавання, куфраў, пляцёнак, сталовага посуду, галаўных убораў і абутку. Яшчэ ў 50-я гг. старыя людзі на Палессі насілі лыкавыя лапці (як яны казалі: «для лёгкасці» ці «на балоце хадзіць — вада хутчэй выцячэ»), саламяныя капелюшы.

З аднаўленнем народнай гаспадаркі прамысловыя вырабы з металу, шкла, пластмасы выціскалі з ужытку ганчарны і драўляны посуд, плеценыя рэчы. Лёгкая прамысловасць забяспечыла рынак таннымі тканінамі, адзеннем, абуткам, у выніку чаго страціла сваё ўтылітарнае значэнне традыцыйнае ткацтва (асабліва выраб палатна), сукнаваленне, катанне валёнак, кравецтва і шавецтва.

Поруч з традыцыйнымі ў гэты час развіваліся (і даволі плённа) мастацкія промыслы і рамёствы. У 1957 г. Белмастпрамсаюз аб'ядноўваў 21 арцель, дзе працавала 4,5 тыс. чалавек; 19 арцеляў выпускалі строчавышываныя вырабы, 2 — цацкі; меліся спецыялізаваныя цэхі па ручному вязанню, роспісу тканін, вырабу дэкаратыўных кветак і керамікі, мастацкаму ткацтву, мастацкай апрацоўцы дрэва (разьба, выпальванне, інкрустацыя саломкай).

З агульнага аб'ёму валавай прадукцыі амаль 75% прыпадала на строчавышываныя вырабы. Асартымент іх быў даволі багаты і налічваў каля 30 назваў, у тым ліку: кашулі мужчынскія беларускія, украінскія, «гуцулкі», дзіцячыя і падлеткавыя сукенкі, блузы жаночыя і дзіцячыя, абрусы, навалачкі, падкоўдранікі, дарожкі і інш. Арцелі выраблялі таксама хусткі, шалікі, касынкі, пакрывалы, дываны, паясы, гальштукі. Па роспісу тканін выпускаліся платкі, касынкі, шалікі, выкананыя ў тэхніцы «батыку» і шаўкаграфіі. Сярод вырабаў па дрэве, інкруставаным саломкай, вылучаліся шкатулкі, куфэркі, чарнільныя прыборы[92].

---

[91] Залескі А. І. Быт беларускіх сялян у партызанскім краі. Мн., 1960. С. 97—106.

[92] НАРБ, ф. 31, воп. 7, спр. 2157, л. 2.

Аднак асобныя мастацкія промыслы Беларусі, вырабы якіх здаўна карысталіся шырокай папулярнасцю, прышлі ў заняпад, асабліва керамічная вытворчасць. Мастацкі ганчарны посуд выпускаўся вельмі ў абмежаванай колькасці, спынілася вытворчасць мастацкай кафлі, якую ў даваенны час вырабляў Навагрудскі кафельны завод[93]. Слаба была развіта мастацкая апрацоўка дрэва. Падзенне попыту на саматканыя вырабы балюча ўдарыла па мастацкаму ткацтву.

У гэты час вялікую даследчую работу праводзіла Лабараторыя мастацкіх промыслаў, якая збірала матэрыялы па ткацтву і вышыўцы, беларускаму арнаменту. Каб прыдаць пошукавай працы належную вышыню, у 1951 г. была створана Цэнтральная эксперыментальная лабараторыя Белпрамсавета, куды ўвайшла і вышэйпазначаная ўстанова.

З канца 50-х гг. пачаўся новы этап у развіцці мастацкіх промыслаў, расла да іх цікавасць шырокай грамадскасці, што дало своеасаблівы штуршок і для ажыўлення хатняга рамяства. У 1960 г. прамкааперацыя была ліквідавана, многія былыя арцелі ўвайшлі ў сістэму мясцовай прамысловасці, сталі дзяржаўнымі фабрыкамі мастацкіх вырабаў (усяго 22 фабрыкі)[94]. У гэты перыяд праводзілася рэарганізацыя вытворчасці, будаваліся новыя корпусы для фабрык, устанаўлівалася новае абсталяванне, выкарыстоўвалася больш прагрэсіўная тэхналогія, механізаваліся падрыхтоўчыя і дапаможныя працэсы (напрыклад: вышыўка строчавышываных вырабаў, раскрой тканіны, фармоўка гліны), адбывалася асваенне новых відаў прадукцыі. Далейшае развіццё атрымалі інкрустацыя саломкай, пляценне з саломкі і лазы, разьба і размалёўка па дрэву, стварыліся новыя галіны вытворчасці — сувеніры з ільна-валакна[95].

Асаблівая ўвага была нададзена адраджэнню мастацкага ткацтва. Значна абагаціўся асартымент тканых вырабаў за кошт шырэйшага выкарыстання мясцовай сыравіны (камыша, саломы), а таксама паўшарсцяной і шарсцяной пражы. На мастацкіх фабрыках арганізаваны ўчасткі па ткацтву (Мазыр, Івянец, Верхнядзвінск, Брэст)[96]. Да сярэдзіны 70-х гг. склалася ў асноўным галіновая структура беларускіх мастацкіх промыслаў.

У мэтах павелічэння папулярнасці народных промыслаў, вывучэння народных традыцый, выяўлення народных майстроў, адраджэння згаслых рамёстваў сістэматычна праводзіліся рэспубліканскія, гарадскія, раённыя выстаўкі, агляды-конкурсы. Яны дазвалялі выявіць народных умельцаў і замацаваць іх за фабрыкамі мастацкіх вырабаў па тэрытарыяльнай прыкмеце, што спрыяла захаванню рэгіянальных і мясцовых асаблівасцей, каларыту. Майстрам забяспечвалі дастаўку сыравіны і збор гатовай прадукцыі на даму. Напрыклад, у 1965 г. на прадпрыемствах упраўлення мастацкай прамысловасці працавалі 100 народных умельцаў, у 1971 г. — 2513 (з іх 1741 — надомнікі), у 1975 г. іх было каля 5 тыс. чалавек, у 1985 г. на фабрыках мастацкіх промыслаў працавала ўжо 15 тыс. рабочых, у тым ліку 8 тыс. надомнікаў[97].

Варта ўвагі, што ў традыцыйных асяродках народных рамёстваў адкрыліся базавыя пункты, філіялы прадпрыемстваў. Вёскі Неглюбка Веткаўскага, Моталь Іванаўскага раёнаў славяцца сваім ткацтвам. У Огаве Іванаўскага раёна вырабляюць прыгожыя куфэркі, вёска становішча цэнтрам народнай размалёўкі.

Важнае значэнне надавалася падрыхтоўцы кадраў. Да двух навучальных

[93] Там жа,. ф. 7, воп. 4, спр. 795, л. 96, 97.

[94] НАРБ, ф. 1265, воп. 1, спр. 1, л. 29—31.

[95] Предприятия художественной промышленности Белоруссии. С. 8.

[96] НАРБ, ф. 4-п, воп. 116, спр. 16, л. 17—20.

[97] НАРБ, ф. 4-п, воп. 116, спр. 16, л. 17—20; Кенгурова В. Художественные промыслы — наше ценнейшее достояние // Коммунист Белоруссии. 1976. № 7. С. 68; Бягучы архіў канцэрна «Белмастацпромыслы».



64. Вёска Неглюбка Веткаўскага раёна. Народная майстрыха ткачыха В. А. Халюкова. 1989 г.

устаноў (Мінскае мастацкае вучылішча і Віцебскае тэхнічнае вучылішча), што рыхтавалі майстроў народных промыслаў, далучыліся Бабруйскае сярэдняе мастацкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 15, Гомельскае СПТУ-126, Кобрынскае СПТУ-156. Акрамя таго, рабочых рыхтавалі міжшкольныя вытворчыя камбінаты і самі фабрыкі мастацкіх вырабаў. Як станоўчую з'яву можна адзначыць папаўненне прадпрыемстваў нацыянальнымі кадрамі вышэйшай кваліфікацыі, якія прыйшлі з Віцебскага тэхналагічнага і Мінскага тэатральна-мастацкага інстытутаў.

У 1976 г. пры Ўпраўленні мастацкай прамысловасці створана Мастацка-эксперыментальная лабараторыя (з 1977 г. Навукова-даследчая мастацка-эксперыментальная лабараторыя). Лабараторыя вядзе навуковыя даследаванні па гісторыі і сучаснаму стану беларускага народнага мастацтва і мастацкіх промыслаў Беларусі, навукова-метадычную і эксперыментальную работу, аказвае практычную дапамогу прадпрыемствам. Мастакі і навукоўцы лабараторыі ўдзельнічаюць у экспедыцыях, арганізуюць семінары, конкурсы, выстаўкі, накіраваныя на захаванне і прапаганду ўнікальнай народнай спадчыны, жывой традыцыі.

Прадукцыя фабрык мастацкіх вырабаў карыстаецца попытам у рэспубліцы, яе з задавальненнем купляюць замежныя турысты, яна экспартуецца ў шмат якія краіны свету, экспануецца на міжнародных выстаўках.

Характэрна, што ад пяцігодкі да пяцігодкі нарошчваліся аб'ёмы вытворчасці, амаль кожныя 5 год яны падвойваліся. Агульны аб'ём прадукцыі ў 1965 г. склаў 15,9 млн руб., 1970 г. — 37,7; 1975 г. — 65,5; 1985 г. — 122,8 млн руб[98]. З цягам часу прамысловы характар працы на фабрыках уступіў у супярэчнасць з мастацкай спецыфікай народных промыслаў. Падзеленыя на асобныя аперацыі, працоўныя працэсы не адпавядалі духу творчасці, пераўтваралі майстра ў прыдатак канвеера. Частка народных умельцаў пакінула прадпрыемствы. Культурная пераемнасць традыцыі парушылася, асабліва гэта характэрна для ганчарства і ткацтва.

У сярэдзіне 80-х гг., у сувязі са звяртаннем грамадскасці да сваіх каранёў, пачала расці цікавасць і да самабытных промыслаў і рамёстваў беларусаў. У жыццё імкліва ўвайшла індывідуальная творчая дзейнасць, фарміраваліся кааператывы, у тым ліку і па традыцыйных промыслах: кавальству, ганчарству, мастацкай апрацоўцы дрэва, ткацтву, салома- і лозапляценню і інш. І як негатыўную з'яву трэба

---

[98] НАРБ, ф. 4-п, воп. 116, спр. 16, л. 18; Предприятия художественной промышленности Белоруссии. С. 8, 11.

адзначыць вяртанне з нябыту ў пачатку 90-х гг. жабрацтва (сказалася пагаршэнне ўмоў жыцця народа). Пэўныя змены адбываліся і ў мастацкіх промыслах. З аднаго боку, палепшылася якасць мастацкіх вырабаў, на больш высокім узроўні ішло іх канструяванне і мадэліраванне. Мастакі творча падыйшлі да работы з беларускім арнаментам. Пашыраўся асартымент вырабаў з саломы (лялькі, фігуры птушак, жывёл, шкатулкі, цукерніцы, сурветкі, сумкі, упрыгожванні: каралі, абручы для валасоў) і лазы (кошыкі, хлебніцы, падносы). З другога боку, наогул звузіўся асартымент вырабаў мастацкіх промыслаў. Панеслі страты ткацтва, карункапляценне, вышыўка, асабліва ручная «гладдзю», «крыжыкам». Крызісны стан ахапіў усю галіну. Колькасць працуючых на фабрыках мастацкіх вырабаў скарацілася ў 2 разы (у 1994 г. працавала 7 тыс. чалавек, з іх каля 2 тыс. — надомнікі). Не хапае сыравіны, якая амаль на 80% паступала з Расіі і Украіны. Рост цэн на сыравіну і энерганосьбіты зменшыў прыбытак. Эканамічныя ўмовы заставілі мастацкія промыслы стаць больш рухомымі і мабільнымі. Упраўленне мастацкай прамысловасці пераўтварылася ў Асацыяцыю, а тая ў сваю чаргу — у Канцэрн «Белмастацпромыслы», які быў перададзены ў падпарадкаванне Упраўлення справамі Прэзідэнта (1994 г.) У канцэрн уваходзяць 17 фабрык мастацкіх вырабаў. Мінская фабрыка мастацкіх вырабаў выкупіла сваю маёмасць. Стала самастойнай і Навукова-вытворчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства беларускіх народных рамёстваў «Скарбніца» (раней лабараторыя). Аднак сёння ўжо відаць, што развіццю народнага мастацтва пагражае татальная камерцыялізацыя, распрадажа яго непаўторных багаццяў, бескантрольны вываз мастацкіх каштоўнасцей народнай культуры за мяжу. Без дзяржаўнай падтрымкі народным промыслам не выжыць. Таму невыпадкова была распацавана Праграма дзяржаўнай падтрымкі традыцыйнай культуры на 1994—1996 гг., якая ўлічвала нацыянальныя асаблівасці і спецыфіку народных промыслаў Беларусі, прапаноўвала дзейсны механізм прававога, фінансавага, арганізацыйнага забеспячэння традыцыйнай культуры.

З 1993 г. у рэспубліцы дзейнічае Саюз майстроў народнай творчасці, які прыярытэтнымі сваімі задачамі лічыць: адраджэнне, падтрымку і захаванне традыцыйнага народнага мастацтва і мастацкіх промыслаў, уключэнне іх у сучаснае культурнае жыццё рэспублікі, абарону народных майстроў ад стыхіі рынка, маральную і матэрыяльную падтрымку іх, клопат пра падрыхтоўку маладой змены[99].



65. Любань. 1-е абласное свята майстроў лозапляцення «Лазовыя карункі». Мінская вобласць. 1997 г.

[99] Сахута Я. Хто дапаможа майстру // Культура. 3 мая 1993.



66. Івянец. Адкрыццё 2-га абласнога свята ганчароў «Гліняны звон». 1998 г.

З 1990-х гг. ўзмацняецца дзяржаўная падтрымка народнага мастацтва, промыслаў і рамёстваў. У 1999 г. быў прыняты Закон «Аб народным мастацтве, народных промыслах (рамёствах) у Рэспубліцы Беларусь», які вызначае асноўныя прынцыпы дзяржаўнага рэгулявання і падтрымкі народнага мастацтва, народных промыслаў (рамёстваў) як неад'ёмнай часткі нацыянальнай культуры, садзейнічае захаванню традыцый і гарманічнаму развіццю грамадства. У адпаведнасці з гэтым законам, распрацаваны і зацверджаны «Палажэнне аб народным майстры» (якое дазваляе больш паспяхова і плённа ажыццяўляць творчую дзейнасць, мастацкую вытворчасць вырабаў народных промыслаў, перадаваць сваё майстэрства малодшаму пакаленню) і «Палажэнне аб Нацыянальнай выстаўцы народнага мастацтва» (якое вызначае зацікаўленасць у падтрымцы дзяржавай народнага мастацтва, народных промыслаў і рамёстваў).

У Беларусі дзейнічаюць дзяржаўныя праграмы падтрымкі народнага мастацтва, народных промыслаў (рамёстваў) на рэспубліканскім, абласных і мясцовых узроўнях. Так, толькі ў Мінскай вобласці ў 2000 г. паспяхова рэалізоўвалася 20 рэгіянальных мэтавых праграм, якія накіраваны перш за ўсё на захаванне і развіццё народнай творчасці.

З мэтай захавання і ўзбагачэння нацыянальнай спадчыны, выяўлення народных талентаў, далейшага развіцця і прапаганды традыцыйнага мастацтва рэгулярна праводзяцца святы-конкурсы, прысвечаныя асобным рамёствам. У Беларусі паспяхова прайшлі рэспубліканскія святы-конкурсы ганчароў, саломапляцельшчыкаў, лозапляцельшчыкаў, рэзчыкаў па дрэ-



67. Івянец. 2-е абласное свята ганчароў «Гліняны звон». 1998 г.

ву, майстроў выцінанкі. Такія святы праводзяцца на абласных і раённых узроўнях.

У мэтах падтрымкі народных промыслаў і рамёстваў створаны новыя тыпы ўстаноў культуры: раённы цэнтр народнай творчасці, Дом народнага мастацтва, Дом майстроў, Дом рамёстваў і інш. Захаванне, падтрымка народнага мастацтва з'яўляецца важным напрамкам дзейнасці ўстаноў культуры. У практыку іх работы ўвайшлі персанальныя выстаўкі народных майстроў, тэматычныя выстаўкі па асобных рамёствах, вечарыўшанаванні, вечары-партрэты, вечары сямейных дынастый народных майстроў, круглыя сталы па праблемах народнага мастацтва, семінары, стажыроўкі, сістэмнае навучэнне па асобных промыслах і рамёствах. Толькі ў адной Мінскай вобласці ў 2000 г. налічвалася больш чым 600 гурткоў па народнаму мастацтву[100].

[100] Архіў Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці.

## ПАСЕЛІШЧЫ І ЖЫЛЛЁ БЕЛАРУСАЎ

Вынікам гаспадарча-вытворчай дзейнасці беларусаў з'яўляецца багатая і самабытная матэрыяльная культура народа. Састаўнымі часткамі ў яе ўваходзяць паселішчы і жыллё, адзенне і харчаванне.

У XX ст. захоўваўся падзел паселішчаў на гарадскія і сельскія. Апошнія ўключалі ў пачатку стагоддзя цэлую палітру вялікіх і малых населеных пунктаў: сяло, вёска, фальварак, засценак, аколіца, хутар. Больш буйныя з іх — вёска і сяло, асабліва сяло, якое звычайна выконвала адміністрацыйныя функцыі, тут знаходзілася царква, валасная ўправа, крама, карчма і інш. Павелічэнне колькасці хутароў было звязана са сталыпінскай рэформай 1906—1911 гг. У той час у Віцебскай губерні на хутары высяляліся 26,2% сялянскіх двароў, у Магілёўскай — 14,5%. У меншай ступені гэты працэс закрануў Мінскую і Гродзенскую губерні. Тут выйшла на хутар каля 6% сялянскіх двароў[101]. Перасяленні на хутары прадаўжаліся і ў 1920-я гг. Гэты працэс стымуляваўся палітыкай тагачаснага Наркамзема БССР, накіраванай як на захаванне ранейшых хутароў, так і стварэнне новых. Толькі з 1922 па 1928 гг. у Беларусі было створана 11,5 тыс. хутароў і пасёлкаў, галоўным чынам маладворных (іншы раз 2—3 двары)[102]. Істотная трансфармацыя сельскіх пасяленняў адзначалася на мяжы 20—30-х гг. У сувязі з ка-

[101] Беларускае народнае жыллё. Мн., 1973. С. 14.

[102] Гурков В. С. Современная белорусская деревня. Мн., 1975. С. 7.

лектывізацыяй сельскай гаспадаркі пачалося перасяленне сялян з хутароў у саўгасныя і калгасныя пасёлкі. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны было заснавана 927 такіх пасёлкаў, у якіх з хутароў сселена 190 тыс. сялянскіх двароў[103].

У гэты час знікаюць з ужывання назвы «фальварак», «засценак», «аколіца», многіх іх жыхароў як кулакоў-спецперасяленцаў вывозяць у Сібір, Казахстан, Урал.

Асноўным тыпам планіроўкі сельскіх пасяленняў быў вулічны. На паўночным усходзе даволі часта сустракаліся вёскі з бессістэмнай кучавой забудовай. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі і звязаныя з ёю сацыяльныя пераўладкаванні спрыялі зменам у характары рассялення, планіроўкі і забудовы сядзіб. Замест шматлікіх вёсачак, засценкаў, хутароў, арганічна звязаных з прыродным асяроддзем, узніклі новыя пасёлкі, пабудаваныя на прынцыпах гаспадарчага планавання, падзеленыя на нетрадыцыйныя функцыянальныя зоны: адміністрацыйна-кіруючая (праўленне калгаса, сельсавета), культурная (клуб, школа, бібліятэка), гандлю і абслугоўвання, вытворчая (саўгасны, калгасны двары). Абагульненне індывідуальных гаспадарак змяніла адносіны паміж жылой і гаспадарчай часткай сядзібы. Значна зменшыліся памеры гаспадарчага двара. Знікала неабходнасць мець гумно, стайню і інш. Прыкметна парушыўся ансамбль вяночнай сядзібы на паўночным захадзе і ўсходзе Беларусі, адны сядзібы развіваліся ў напрамку двухрадковага пагону, другія — П, Г-падобнага тыпу, трэція — з незвязанымі пабудовамі, апошнія набывалі пануючае значэнне[104].

Сельскія пасяленні Беларусі мелі неаднолькавыя памеры. У цэнтральных і паўднёвых раёнах Беларусі яны былі значна большымі, чым на поўначы. А. І. Лакотка вылучае тры вялікіх рэгіёна: Палескі рэгіён з перабольшваннем буйных шматдворных пасяленняў з лікам двароў звыш 300; Сярэднебеларускі рэгіён з лікам двароў 100 —300; Паазер'е, для якога характэрны маладворныя пасяленні[105].

Прамежкавае становішча паміж сельскімі і гарадскімі пасяленнямі займалі мястэчкі, якія існавалі да канца 30-х гг. Па Ўказу Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 27.09.1938 г. «Аб класіфікацыі населеных пунктаў Беларускай ССР» большасць мястэчак была пераўтворана ў гарады і пасёлкі гарадскога тыпу, астатнія атрымалі статус сельскага пасялення[106]. Звычайна ў цэнтры мястэчка размяшчалася невялічкая кірмашовая плошча, тут жа былі царква, касцёл ці сінагога, школа.

У савецкі час у жыллі адбыліся істотныя змены. Нацыяналізацыя зямлі, новае землеўпарадкаванне, якое выклікала сямейныя раздзелы гаспадарак, стымулявалі жыллёвае будаўніцтва. Да таго ж сказвалася вольнае карыстанне лесам у час Грамадзянскай вайны і льготы, якія мелі беднякі пры размеркаванні лесу. Аднак у самым жыллёвым будаўніцтве ў 20—30-я гг. вялікіх змен не адбылося. Як і раней, панавала зрубнае жыллё. На пабудову звычайна выкарыстоўвалі характэрныя для сярэдняй паласы хваёвыя пароды дрэў, найперш сасну, радзей ёлку. У Сакольскім павеце з сасны выраблялі ніжнюю палову жылога будынка, з яліны — верхнюю. На Гомельшчыне ў сувязі з недахопам каштоўных будаўнічых матэрыялаў будавалі жыллё з асіны, радзей з вольхі. Якасць выкарыстоўваемага матэрыялу залежала ад маёмаснага становішча сялян. Больш заможныя імкнуліся ніжнія вянкі зруба рабіць з дубу. Вельмі

[103] Статистический справочник состояния народного хозяйства и культуры Белорусской ССР к началу Великой Отечественной войны. М., 1943. С. 11.

[104] Беларускае народнае жыллё. С. 102.

[105] Локотко А. И. Белорусское народное зодчество. Мн., 1991. С. 29—31.

[106] Сборник Законов Белорусской ССР и Указов Президиума Верховного Совета Белорусской ССР (1938—1967 гг.). Мн., 1968. Т. 1. С. 267—270.

часта сяляне будавалі жыллё з сасны, а гаспадарчыя будынкі з ёлкі ці асіны[107]. Хата бедняка будавалася часам з розных парод дрэва: сасны, ёлкі, асіны. Заможныя рабілі жыллё пераважна з сасны, амаль выключна пяцісценкамі ці на дзве хаты праз сенцы[108]. Паводле даных Дзяржаўнага страхавання, на 1923 г. з агульнага ліку сельскіх будынкаў (617882) 83,8% складалі чатырохсценныя хаты, 5,6% — пяцісценкі і 13,3% — хаты з дзвюх палавін. Даследаванне сельскага жылля, якое было праведзена ў 1926 г. (запоўнена і апрацавана 1052 анкеты, што складае 0,2% усіх сялянскіх хат), паказала, што ў параўнанні з 1923 г. панізілася доля чатырохсценак (71%), значна вырасла ўдзельная вага пяцісценак (да 24%)[109].

Звычайна будаваў хату сам гаспадар, дапамагалі яму сваякі і суседзі. Аднак былі і адметныя спецыялісты-цесляры, якіх запрашалі на пабудову жылля. Па традыцыі ў першым усходнім вугле першага вянка высякалі ямку, куды клалі манету. Калі першы вянок, так званыя падрубы, гатовы, адбываліся закладзіны (звычай частавання цесляроў), а як засяляліся ў хату, то рабілі ўходзіны (улазіны)[110].

Беларускае вясковае жыллё ў абсалютнай большасці будавалася з круглых ачышчаных ад кары бярвенняў. Часам сустракалася будаўніцтва з брусаў (на поўдні Брэстчыны: Пінскі, Іванаўскі, Столінскі раёны — бытавала больш шырока)[111]. Шырока выкарыстоўваўся характэрны для ўсходніх славян спосаб замацавання вянкоў хаты ў «просты кут», яшчэ яго называлі «расейскі вугал». Але ўжо намецілася тэндэнцыя на пашырэнне «чыстага» («нямецкага») вугла, які ў 20—30-х гг. бытаваў толькі ў заходніх раёнах і ў гарадской мясцовасці. Для ўцяплення хата імшылася (між вянкамі клаўся мох ці кастрыца), пазы бярвенняў замазваліся глінай. У 1926 г. хат з абтынкаванымі глінай сценамі было ўсяго каля 3%. Яны 1—2 разы ў год бяліліся вапнай[112]. На поўдні, бліжэй да Украіны, многія хаты тынкавалі і бялілі. Так, у вёсцы Радзілавічы Тураўскага раёна такіх хат было амаль палова (42%)[113]. Беларуская сялянская хата ў гэты час мела нізкія сцены, звычайна зруб складаўся з 10—12 вянкоў, амаль у кожнай другой хаце вышыня сцен не перабольшвала 3-х аршын[114]. Як і раней, у якасці фундамента на большай тэрыторыі Беларусі служылі хваёвыя або дубовыя калоды (слупкі, «цяльпухі», «шкандары», «штандары»), якія ўкапвалі ў зямлю. На іх клаўся ніжні вянок сцен. Паміж «штандарамі» пад сцены рабіўся драўляны закід, які іншы раз перапляўся лазой. Знадворку да яго, уключаючы і ніжні вянок сцяны, насыпалася зямля з мэтай уцяплення ў зімовы час. Такі фундамент быў у 60% даследаваных хат (1926 г.)[115]. У рэдкіх выпадках зруб ставіўся проста на зямлю, прычым першы вянок яго абавязкова рабілі з дубу. На паўночным усходзе і захадзе Беларусі ўжо ў 20—30-я гг. сялянская хата будавалася на каменных і цагляных фундаментах. Па даным даследавання 1926 г., амаль у 1/4 усіх хат была земляная падлога, асабліва ў старых пабудовах, звычайна чатырохсценках. У пяцісценках жа толькі кожная дзесятая хата мела такую падлогу[116]. Яна магла быць проста земляной ці глінабітнай, так званы «ток», «тачок», які можна было нават мыць. Драўляная падлога была двух тыпаў: адзінарная («ардынарыя») і падвоеная: белая зверху, а чорная знізу. Чорная падлога была рэдкасцю. Драўляная падлога перабольшвала на паўночным усходзе Бе-

[107] Наш край. 1929. № 6—7. С. 28—29.
[108] Там жа. 1930. № 5—6. С. 55.
[109] Там жа. 1926. № 6—7. С. 4—8.
[110] Наш край. 1930. № 5—6. С. 55.
[111] Беларускае народнае жыллё. С. 32.
[112] Наш край. 1926 № 6—7. С. 9.
[113] Там жа. 1928. № 8—9. С. 56.
[114] Наш край. 1926. № 6—7. С. 8.
[115] Наш край. 1926. № 6—7. С. 8.
[116] Там жа. С. 9.

ларусі, а па колькасці хат з земляной падлогай лідзіравалі Слуцкая і Мазырская акругі. У в. Радзілавічы Тураўскага раёна Мазырскай акругі 77% хат мелі гліняны «ток»[117]. У пачатку XX ст. на Беларусі ў вясковым будаўніцтве пачалі пераважаць новыя канструкцыі столі: столь на папярэчных бэльках і камбінаваная — на папярэчных бэльках з трамам[118]. Па традыцыі захоўваўся старадаўні спосаб насцілання дошак столі ў 2 рады («у разбежку», «у накладку»), але ўжо пашыраецца спосаб насцілання столі «ўпрытык», шчыльна адна дошка да другой. Для ўцяплення пазы між дошкамі замазвалі глінай, зверху насыпалі мох, лісце, кудзелю, кастрыцу, салому і на іх — пясок, жвір[119]. Яшчэ ў 1920—1930-я гг. многія хаты былі пакрыты саломай (кулі пад «шчотку» ці «колас»). Драўляныя стрэхі (гонта, драніца) сустракаліся радзей, галоўным чынам у заможных гаспадарках, і зусім рэдка можна было бачыць чарапічныя («дахоўка») ці гліна-саламяныя стрэхі[120]. Больш пашырана была «дахоўка» на захадзе Беларусі, на Гродзеншчыне. Драўляныя стрэхі, асабліва з дору, былі характэрны для Палесся[121]. Па форме пераважалі двухсхільныя стрэхі, але сустракаліся і чатырохсхільныя, трохсхільныя, а таксама з усечаным зверху франтонам.

У дэкаратыўна-мастацкім аздабленні жылля адбываліся пэўныя змены. У арнаменце аканіц побач з традыцыйнымі крыжыкамі, ромбамі, конікамі, пеўнікамі, дубовымі лістамі і калоссямі з'явіліся новыя сімвалы: пяцікутная зорка, серп і молат[122].

Характэрна, што ў 20-я гг. у гарадах таксама панавала зрубнае жыллё. Паводле даных ЦСУ за 1923 г., у гарадскіх пасяленнях было толькі 4,6% жылых і 4,0% нежылых каменных будынкаў, астатнія — драўляныя. Аднак у вялікіх гарадах доля камяніц ужо была даволі значная. Так, у Мінску ў 1923 г. на іх прыпадала 12,4%, а ў Віцебску — 10,6% будынкаў[123]. Гарадскі варыянт жылля ўяўляў сабой больш складаную з'яву, чым сельскае жыллё. Гэта сказвалася ў большай разнастайнасці выкарыстоўваемых матэрыялаў, будаўнічых канструкцый і прыёмаў пры ўзвядзенні гарадскіх дамоў. Уплыў традыцый чыста гарадской драўлянай архітэктуры выяўляўся ў аб'ёме дома, памерах вакон, фундаменце (тут больш пашыраны быў каменны або цагляны падмурак), у больш шырокім выкарыстанні ў якасці дахавых матэрыялаў бляхі, чарапіцы, гонты, члянненні ўнутранай прасторы дома на асобныя пакоі, пабудове мансард, больш багатым арнаментальным упрыгожванні фасадаў[124].

У 20—30-я гг. пачалася планамерная забудова і рэканструкцыя гарадоў. Пад уплывам новых сацыяльна-эканамічных умоў змяніліся функцыі адміністрацыйных і культавых будынкаў, гандлю і сферы абслугоўвання. Карэнным чынам змянілася жыллёвая палітыка, накіраваная на нацыяналізацыю жылых дамоў домаўладальнікаў і перадачу іх рабочым сем'ям. У буйных гарадах з'явіліся новыя плошчы, на якіх размясціліся будынкі ўстаноў улады і кіравання; пашыраліся і спрамляліся цэнтральныя вуліцы; уводзіліся новыя тыпы будынкаў: Палацы культуры, кінатэатры, стадыёны, комплексы вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў, універмагі і інш[125]. Адбываліся зрухі і ў характары рассялення гараджан: знікла

---

[117] Там жа. 1928. № 8—9. С. 56.

[118] Беларускае народнае жыллё. С. 40.

[119] Наш край. 1928. № 8—9. С. 55; 1930. № 5—6, С. 74.

[120] Там жа. 1926 № 6—7. С. 4.

[121] Там жа. 1928. № 8—9. С. 16; 1929. № 6—7. С. 29.

[122] Там жа. 1930. № 3. С. 32.

[123] Там жа. 1929. № 6—7. С. 29.

[124] Гурков В. С. Интернационализация материальной культуры // Этнические процессы и образ жизни. Мн., 1980. С. 142, 144.

[125] Локотко А. И. Белорусское народное зодчество. Киев, 1992. С. 40.

ізяленне горада на кварталы па этнічнай ірыкмеце (Татарскія вуліцы і інш.). Да ізрвеня 1941 г. у гарадах і гарадскіх па-:ёлках БССР каля 57% усяго жыллёвага фонду складалі дамы, пабудаваныя пасля 917 г. Павелічэнне жыллёвага фонду :управаджалася добраўпарадкаваннем жы-ых дамоў (амаль у 6,5 раза павяліч-іаецца ў параўнанні з дарэвалюцыйным іасам сетка водаправода, у 17,3 — пада-іа гарачай вады)[126]. Аднак выкарыстанне ідзіных канструкцыйных і плаціровачных :тандартаў, архітэктурных прынцыпаў і бу-іаўнічых норм вяло да ўніфікацыі жылля, іазбаўляла яго спецыфічных этнічных рыс.

На пачатак XX ст. і амаль да 50-х гг. ахоўваліся традыцыйныя асаблівасці ін-эр'ера беларускага сялянскага жылля. 'нутраная планіроўка была адным з най-ольш істотных і ўстойлівых прыкмет кылля, якія захоўвалі этнічную спецы-фіку. Побач з уваходам у хату, павернутая вусцем да бакавога акна, стаяла печ, :кая ў хатах малых памераў займала .маль 1/4 частку плошчы. У пачатку (X ст., асабліва ў 20—30-я гг., назіралася .ктыўнае ўдасканальванне печы. Ніжняя іастка яе ўсё часцей рабілася не з дрэва, . з абпаленай цэглы, камення. Павялічва-іася і колькасць грубак і пліт, убудава-іых у прадпечча[127]. Толькі як рэлікт у .собных вёсках сустракаліся курныя пе-іы, у старых, дажываўшых век людзей. ' сялянскім побыце печ служыла самым іазнастайным жыццёвым і гаспадарчым іатрэбам: варылі ежу для сябе і жывёлы, ірасушвалі вопратку, збожжа. Узімку печ 'яўлялася проста гняздом усёй сям'і. На іечы грэліся і старыя, і малыя, і хво-ныя[128]. Для гаспадыні яна была той жы-ой істотай, якую яна даглядала, завіха-іася каля яе, варожачы над кашай, поліў-:ай, праснакамі і пірагамі. Ці не адсюль пайшоў выраз — «танцаваць ад печкі»? Печы надавалася вялікая роля ў народнай медыцыне і магіі. Напрыклад, можна прывесці рытуал «перапякання» хворага дзіцяці, якога маці на хлебнай лапаце садзіла ў печ (ці рабіла выгляд, што хоча пасадзіць). Сімволіка рытуалу заснавана на атаясамленні выпечкі хлеба і з'яўлення дзіцяці на свет. Дзіця як быццам звярталі ў мацярынскае лона, каб яно нарадзілася зноў[129]. Печ служыла і спальным месцам для старых. Насупраць вусця печы на сцяне віселі «градкі», паліцы для посуду і залыжнік для лыжак (гэты куточак звалі «мыцельнікам»). Паміж сцяной і печчу размяшчаўся качарэжнік ці вілачнік.

Па дыяганалі ад печы знаходзілася самае ганаровае месца ў хаце — чырвоны вугал («покуць»), дзе захоўваліся культурныя сімвалы: іконы, Біблія, крыж, свечы, важныя паперы (дакументы, пісьмы). Сярод ікон найбольш пашыраны былі «Мацеры божай», «Міколы-цудатворца», «Георгія-пераможца». Перад абразамі вісела лампада, якая запальвалася ў святыя дні. Вернікі звярталіся да сваіх святых-заступнікаў з малітвай, з якой па традыцыі пачынаўся кожны дзень і ўсе важнейшыя сямейныя справы. «Маці вучыла дзяцей маліцца богу. Сама ж малілася стоячы на каленях кожны вечар»[130]. У 20—30-я гг. побач з іконамі з'явіліся партрэты правадыроў, рэвалюцыянераў, убраныя ручнікамі. У камуністаў, старшынь калгасаў і сельсаветаў абразоў ужо не было, іх замянілі партрэты дзяржаўных дзеячаў, фотаздымкі, афішы[131]. На покуці сходзіліся дзве нерухомыя шырокія лавы. Перад імі знаходзіўся стол, а з другога боку яго стаялі невялікія «ўслоны» («слоны», «зэдлі») — пераносныя

[126] Гурков В. С. Интернационализация мате-иальной культуры. С. 145.

[127] Беларускае жыллё. С. 57.

[128] Наш край. 1926. № 6—7. С. 13.

[129] Топорков А. Л. Домашняя утварь в обрядах и поверьях Полесья. Л., 1986. С. 10.

[130] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 64.

[131] Наш край. 1930. № 3. С. 47.

лаўкі. Усе рэчы былі самаробныя даволі простыя і прымітыўныя. За сталом сям'я збіралася на сняданак, абед, вячэру, адзначала важныя падзеі ў сваім жыцці: радзіны, вяселле, памінкі і інш. На стале звычайна знаходзіліся хлеб і салонка, накрытыя чыстым абрусам.

Ад бакавой сцяны печы да процілеглай тарцовай сцяны хаты наладжвалі дашчаты насціл — «пол», «памост», над якім звычайна рабілі палаці. Аднак ужо ў 20—30-я гг. назіраецца замена «палоў» ложкамі. На ложках спалі гаспадар і гаспадыня з малымі дзецьмі. Часам спальнае месца аддзялялі кавалкам палатна, падвешаным на аборцы. Астатнія члены сям'і спалі на палацях, каму месца не хапала, то і на лавах. Летам моладзь пераходзіла спаць у клець ці на сенавал. Пасцеллю служыла кулявая салома, прыкрытая дзяругай, часам салома зашывалася ў дзяругу. Падушкі мелі толькі маладажоны[132]. У больш заможных сялян сустракалася да трох падушак, а замест дзяругі меліся даматканыя посцілкі і коўдры. У бедных сем'ях спецыяльных пасцельных прыналежнасцей (коўдраў, падушак, сеннікаў, посцілак) не хапала, а чаго і зусім не было, іх часта замяняла вопратка (кажухі, армякі і інш)[133]. Часам падушкі напаўнялі не толькі птушыным пухам ці рэзаным пер'ем, а і чаротавым пухам і балотнымі «пухоўкамі», якія збіралі вясной у час цвіцення[134].

Каля «пола» ці ложка да бэлькі падвешвалася люлька («зыбка», «калыска») для дзіцяці. У хаце, а іншы раз у сенях стаяў сундук, куфар ці так званая «бонька» (дзежка), дзе захоўвалася святочная вопратка гаспадароў, палатно, ручнікі, абрусы і інш. Паўсядзённае адзенне, як правіла, вісела на жордцы або перасове ў хаце. Верхняе адзенне займала сваё месца на вешалцы ў парозе. На падлозе ў парозе стаяў цэбар для памыяў, а на ўслоне — вядро з вадой і кружка.

Зімой і вясной інтэр'ер сялянскай хаты дапаўняўся кроснамі. У звычайнай сярэдняй па памерах хаце было 4 акны. У пяцісценках і хатах з дзвюх палавін мелася 5—6 акон, а іншы раз і да 10. Вокны былі малой плошчы ў мэтах захавання цяпла, часта адзінарныя рамы, паколькі не хапала дастаткова шкла і грошай, каб зрабіць падвоеныя рамы. Але ўжо ў 20—30-я гг. пашырыўся выраб і выкарыстанне падвоеных рам. Па даных абследвання сялянскага жылля[135], вокны з падвоенымі рамамі меліся ў 53,9% агульнага ліку хат, у 7,9% хат не ўсе вокны былі з падвоенымі рамамі, і ў 39% — адзінарныя рамы. Амаль 25% усіх хат мелі так званыя «глухія» вокны, якія ніколі не адчыняліся. На зіму з саломы плялі маты і закрывалі на ноч з вуліцы вокны, «каб не клаў мароз сляды», ці да паловы акна насыпалі мялле, яно трымалася матай, прыбітай да сцяны, рабілі таксама невялічкую скрыначку, куды насыпалі кастрыцу. Гэта скрыначка закрывала 1/3 паверхні шкла, таму ў хаце было цёмна[136]. Больш заможныя рабілі драўляныя стаўні на вокны («вакяніцы»), якія закрывалі на ноч. У старых хатах захаваліся вокны-адтуліны, без рамы і шкла, якія закрываліся засовам (тоўстая дошка). Гэта акно служыла ў даўнія часы для выхаду дыма, калі печ тапілі «па-чорнаму»[137].

Хаты асвятляліся керасінавай лямпай ці газніцай («газа»). Прычым лямпы стараліся выкарыстоўваць узімку і толькі ў час урачыстасцей, таму што газа была даволі дарагая. Больш часта ўжываліся

---

[132] Наш край. 1930. № 2. С. 22.

[133] Там жа. 1927. № 12. С. 53.

[134] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 64.

[135] Наш край. 1926. № 6—7. С. 12.

[136] Наш край. 1930. № 5—6. С. 74.

[137] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 63.

лучнікі (новая назва «грамафоны»), хаця ў некаторых хатах ад іх засталіся толькі сляды — дзіркі ў столі[138]. І толькі ў самых убогіх хатах можна было ўбачыць асвятленне вогнішчам, якое разводзілася на блясе, падвешанай да пашыранага канца коміна і злучанага з ім. Для вогнішча выбіралі хваёвыя і яловыя карчы[139].

Кожная гаспадыня ў залежнасці ад густа, працавітасці, мясцовых традыцый старалася ўпрыгожыць сваё жыллё. Сцены іншы раз абклейвалі шпалерамі і газетамі, «ды і то толькі на куце, дзе вісяць партрэты Леніна, Варашылава вельмі часта з іконамі» (Чэрвеньшчына)[140]. Калі клеілі газетамі, пільна глядзелі, каб якога высокага кіраўніка партрэт не разрэзаць і не прыляпіць на сцяне ўніз галавой[141]. На вокны вешалі газеты, размалёваныя ў розныя ўзоры[142]. На Мазыршчыне розныя ўзоры малявалі проста на сцяне[143]. Дзе-нідзе ў хатах сустракаліся рознакаляровыя кітайскія веееры. На лаўках у вазонах раслі «мірцікі», «фікусы»[144], на вокнах красаваліся «аганькі», «мушкеты»[145]. У свята хату было не пазнаць. Земляную падлогу перад святам старанна падмяталі і пасыпалі пясочкам; мылі драўляную падлогу, столь, сцены, лавы і сталы. Бялілі печ і сцены. Звычайна ўсё гэта рабілі да Каляд, Вялікадня, а ў 30-я гг. і да гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі і Першага мая[146]. Абразы ўпрыгожваліся новымі ручнікамі. Ложкі засціаліся суконнымі посцілкамі, падушкі пакрываліся ажурнымі накідкамі.

Яшчэ і ў 20—30-я гг. людзі верылі, што дабрабыт сям'і, хату захоўвае дамавік. Да яго звярталіся з просьбамі, стараліся задобрыць, у памінальныя дні запрашалі да стала. Аляксандра Сцяпанаўна Бараноўская са Старобінскага раёна ўспаміна: «Пераязджалі мы са старой хаты ў новую. Хросная дала мне паўлітра масла і параіла: «Зойдзеш у хату і скажаш: Адтуль дамавога забрала і сюды прынесла і гасцінец яму дам»[147].

Разам з пашырэннем пяцісценак, падзелам хаты на два і больш пакояў змяняецца традыцыйнае размяшчэнне рускай печы. У пяцісценцы яна знаходзілася звычайна ля сярэдняй сцяны, прычым апошняя ў гэтым месцы выразалася, і частка печы выходзіла ў «чыстую» хату. Пашырыўся звычай рабіць асобныя грубкі («грубы», «шчыты») па тыпу галандскай печы. У сувязі з чым парушалася традыцыйнае размяшчэнне асноўных элементаў інтэр'ера. У пярэдняй хаце побач са старымі з'яўляюцца новыя прадметы быту (драўляны ложак, канапа, табурэты, шафа). Яна лепш упрыгожана. Вось апісанне яе планіроўкі: «Дзверы вядуць у другую хату: яна «новай» называецца, хаця будавалася разам з першай. Сцены абабіты шпалерамі, на сценах фотаздымкі, афішы або «капіталіст» часоў вайсковага камунізму, партрэты рэвалюцыянераў ... Гэта хата трымаецца ў чысціні»[148]. У асобных хатах сустракаліся ўжо і люстэркі.

Блізкім да традыцыйнага па свайму зместу быў інтэр'ер жылля гараджан — выхадцаў з вёскі. Аднак з цягам часу па меры росту дабрабыту сям'і драўляная мэбля (ложкі, канапы, куфры) замяніліся нікеліяванымі ложкамі з горкай падушак, коўдрамі, посцілкамі, шафамі і этажэркамі. Замест самаробных і тканых прад-

---

[138] Наш край. 1928. № 8—9. С. 57; 1927. № 6, 7. С. 31.

[139] Там жа. 1926. № 6—7. С. 13.

[140] Там жа. 1930. № 5—6. С. 55.

[141] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 64.

[142] Наш край. 1929. № 12. С. 43.

[143] Там жа. 1928. № 8—9. С. 56.

[144] Там жа. 1930. № 3. С. 33.

[145] Там жа. 1930. № 4. С. 46.

[146] Наш край. 1930. № 2. С. 22.

[147] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 59.

[148] Наш край. 1930. № 3. С. 33.



68. Хатынь. Скульптура «Няскораны чалавек»

метаў хатняга начыння, набываліся фаянсавы і металічны посуд, фабрычныя абрусы і інш[149].

Гаворачы аб зменах у матэрыяльнай культуры, нельга не ўлічваць уплыў на яе спусташальнай Вялікай Айчыннай вайны, якая значна пагоршыла жыллёвыя ўмовы насельніцтва. У час вайны нямецкія акупанты разбурылі і зруйнавалі з зямлёй 209 беларускіх морадоў і раённых цэнтраў, 9200 сёл і вёсак, правялі больш за 140 карных аперацый, у час якіх спалілі 628 вёсак разам з жыхарамі (у тым ліку в. Хатынь, памяць аб якой увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь»). Ва ўмовах ваеннага ліхалецця насельніцтва прытрымлівалася традыцыйных спосабаў і прыёмаў будаўніцтва, але памеры хаты былі меншыя. Перавальшвала аднакамернае жыллё, і толькі пазней да яго прыбудавалі сені. Шмат хто жыў у зямлянках ці паўзямлянках, у верхняй частцы сцен, што выступалі над зямлёй, рабілі маленькія акенцы. У лесе ладзілі буданы. Інтэр'ер сялянскай хаты застаўся нязменным, і толькі ў пагарэльцаў ён быў бяднейшы: самаробная грубая мэбля і хатняе начынне.

Ва ўмовах вайны адрадзіліся і традыцыйныя спосабы асвятлення з дапамогай лучыны са спецыяльным прыстасаваннем да яе — «светачам», з'явіліся і новыя: газоўкі з гільзаў буйнакаліберната кулямёта, куды заліваліся газа ці тлушч. Паколькі запалак не было, то беларусы ўспомнілі аб добра вядомым ім спосабе здабывання агню з дапамогай крэсіва, крэмня і трута. Сёння ўсё часцей гавораць аб распадзе чалавечых сувязей. Кажуць, што выжыць, пракарміцца можна толькі паасобку. Гэта няпраўда. І сведчаннем зваротнага з'яўляецца ваенны час. У цяжкую гадзіну ў народа праявіліся хрысціянскія рысы: міласэрнасць, жаданне дапамагчы слабаму, гаротнаму. Беларусы з іх шырокай славянскай душой, адкрытасцю і добразычлівасцю прытулак давалі ўсім: яўрэям, татарам, палякамі і інш.

Па адвечнай традыцыі сяляне не пакідалі ў бядзе пагарэльцаў, бежанцаў, партызан, бралі да сябе на кватэру, талакой будавалі новы дом ці зямлянку, дзяліліся апошнім кавалкам хлеба, адзеннем. У доме калгасніка в. Татарка Е. Е. Рудзько ўсю вайну знаходзіліся чатыры сям'і: Данілы Ляшчэні (2 душы), Міхаіла Ляшчэнкі (3 душы), Анны Радкевіч (3 душы), Агафона Корбута (4 душы). Разам з сям'ёй самога гаспадара ў доме ўвесь час было не менш 15 чалавек[150].

[149] Гурков В. С. Интернационализация материальной культуры // Этнические процессы и образ жизни. С. 144.

[150] Залескі А. І. Быт беларускіх сялян у партызанскім краі. Мн., 1960. С. 80—87.



69. Вёска Кавалі Бабруйскага раёна. Наваселле. 1988 г.

У пасляваенны час на месцы знішчаных фашыстамі вёсак выраслі новыя, з попела і руін узняліся беларускія гарады. Аднавіўшы разбураную вайной гаспадарку, Беларусь уступіла ў новую паласу свайго развіцця. Значныя змены адбыліся ў жыллёвым будаўніцтве, ва ўпарадкаванні сельскіх і гарадскіх паселішчаў. Сучаснае сельскае жыллё развіваецца па двух напрамках: 1) удасканальванне і развіццё традыцыйнага тыпу індывідуальнага дома і 2) забудова вёскі новымі тыпамі жылля: шматпавярховымі дамамі гарадскога тыпу і катэджамі на двух узроўнях. Сёння ў беларускіх вёсках яшчэ перабольшвае традыцыйнае жыллё, 73% жыллёвага фонду ў іх прыходзіцца на індывідуальныя дамы калгаснікаў, рабочых саўгаса і іншых працоўнікаў. Сялянская хата, захоўваючы традыцыйныя асаблівасці, канструкцыі, упрыгожанні жылля, арыентацыю тарцом да вуліцы і іншае, інтэнсіўна ўспрымае навацыі. З'яўляюцца новыя будаўнічыя матэрыялы. Разам з драўляным домам на вёсцы будуюцца цагляныя, шлакабетонныя дамы; на змену саламянаму даху прыйшлі шыфер, гонта, чарапіца. Удасканальваюцца будаўнічыя канструкцыі. Цяпер, напрыклад, бярвенне на сцены сталі апілоўваць або абчэсваць з абодвух бакоў, асноўным спосабам злучэння бярвенняў стаў «чысты» вугал, шырокае распаўсюджанне атрымаў падмурак, зроблены з камення ці цэглы[151]. Дамы сталі больш прасторныя і высокія, іх плошча перавышае 40 кв. м, а вышыня ад падлогі да столі дасягае 3 м. Сярэдняя забяспечанасць жыллём у разліку на аднаго сельскага жыхара толькі за 1985—1990 гг. павялічылася з 19,1 да 22,6 м$^2$ [152]. Тут трэба мець на ўвазе, што

[151] Беларускае народнае жыллё. С. 105.

[152] Народное хозяйство Белорусской ССР в 1990 г. Мн., 1991. С. 102.



70. Вёска Дуброва Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. Новая вуліца эксперыментальных дамоў. 1996 г.

за гэты час значна скарацілася як колькасць сельскага насельніцтва, так і сярэдні памер сельскай сям'і: з 3,8 чалавека па перапісу 1959 г. да 3,0 па перапісу 1989 г.[153] Непазнавальна змянілася і вонкавае аблічча сядзібы. Пашыралася традыцыя разбіваць перад домам палісаднік з кветкамі, ягаднікамі, дэкаратыўнымі дрэвамі і садавінай. Драўляная разьба ўпрыгожвае ліштвы акон, вуглоў, аканіцы, вільчыкі, вароты. У арнаменце, выкарыстоўваемым для аздаблення дома, маюць месца геаметрычныя і раслінныя ўзоры, заморфныя і антрапаморфныя фігуры. Прычым умельцы, што ўпрыгожваюць жыллё, прадаўжаюць ужываць традыцыйныя тэхнічныя прыёмы. У пасляваенны час шырокае распаўсюджанне атрымала дэкаратыўнае аздабленне сцен мастацкай укладкай шалёўкі і актыўнае выкарыстанне колераў у народнай архітэктуры: фарбуюцца франтон, сцены хаты, яе асобныя дэталі: аконныя ліштвы, вуглы, дзверы. Ужыванне двухкаляровай або паліхромнай афарбоўкі надае жыллю непаўторны каларыт, адлюстроўвае эстэтычныя густы народа. Характэрна, што і ў пабудове з новых матэрыялаў захоўваецца традыцыйны самабытны стыль архітэктуры. Так, тэктоніку драўлянага зруба паўтараюць цагляныя пілястры, лекальная цагліна дазваляе аднавіць дэкор, у якім можна пазнаць матывы разных ліштваў, аканіц[154].

З сярэдзіны XX ст. жыллёвая палітыка грунтуецца на градабудаўнічай канцэпцыі рассялення, заснаванай на прын-

[153] Итоги Всесоюзной переписи населения 1959 года. Белорусская ССР. М., 1963. С. 140; Численность, возрастная структура, состояние в браке, число и размер семьи, национальный состав, уровень образования и источники средств существования населения Белорусской ССР (По данным Всесоюзной переписи населения 1989 года). Мн., 1990. С. 190.

[154] Локотко А. И. Белорусское народное зодчество. Мн., 1991. С. 262.



71. Разьба па дрэву. Своеасаблівым музеем стаў дом настаўніцы Кашчынскай сярэдняй школы А. С. Асіпковай

цыпах самападпарадкаванасці агульнатэрытарыяльнага і рэгіянальнага цэнтрызму. Сталіца рэспублікі і абласныя цэнтры становяцца галоўнымі вузламі палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных сувязей. Паводле гэтай канцэпцыі ў адзіную сістэму звязваецца развіццё сёл, фарміруюцца зоны прыгарадных гаспадарак, змяняецца прыродны ландшафт (асушваюцца балоты, спрамляюцца рэкі і інш.)[155]. Празмернай цэнтралізацыі спрыяла канцэпцыя «неперспектыўных вёсак», якая пачала актыўна праводзіцца ў жыццё з канца 70-х гг. Яна ўнесла сваю негатыўную лепту ў руйнаванне народнай культуры. Колькі іх — нашых малых радзім з самабытным дойлідствам, абрадамі і звычаямі — пазбаўлена элементарных культурна-бытавых умоў (ліквідацыя фельчарскіх пунктаў, пачатковых школ, магазінаў), не па сваёй волі пакінута іх жыхарамі. Але, як гавораць беларусы, «няма худа без дабра». У працэсе рэалізацыі гэтай «канцэпцыі» выкрышталізаваліся і станоўчыя вынікі эксперыментальнай забудовы, менавіта той, якая арганічна спалучалася з навакольным асяроддзем, улічвала традыцыйнае рассяленне, лакальныя рысы народнага дойлідства, лад жыцця сялян. У цэнтры буйных вёсак прадугледжваліся грамадска-культурныя і гандлёвыя комплексы: гандлёвы цэнтр, кафэ-рэстаран, гасцініца, школа, дзіцячы сад, Дом культуры і інш.

У гэты ж час распрацоўваюцца генеральныя планы забудовы гарадоў да 2000 г. Структура гарадоў падзялілася на сферы грамадска-культурнага жыцця (тэатры, музеі, выстаўкі і спартыўныя комплексы, зоны масавага адпачынку), цэнтры гандлю, навуковых і навучальных устаноў[156]. Ствараюцца буйныя шматпавярховыя мікрараёны («Серабранка», «Зялёны луг», «Вяснянка» і інш. у г. Мінску), што маюць індывідуальнае аблічча. У іх будаўніцтве выкарыстаны сучасныя індустрыяльныя метады, новыя матэрыялы, светаценевыя і каляровыя рашэнні. Сталіцу Беларусі 1970-х гг. увасабляюць велічныя мазаічныя пано з рознакаляровых кавалачкаў смальты, змешчаныя на 17-павярховых будынках мікрараёна «Усход-1» (аўтар Аляксандр Кішчанка). Асаблівы клопат — грамадскім будынкам, якія ўводзяцца па індывідуальных праектах, часта як унікальныя. У фарміраванні іх вонкавага выгляду, інтэр'ера архітэктары і мастакі выкарыстоўваюць нацыянальны стыль (беларуская сімволіка, матэрыялы: кераміка, смальта, габеліны, карціны, інш.). Напрыклад, пры ўвядзенні станцый беларускага метро ўжывалася кераміка (стан-

[155] Белорусское народное зодчество (XIX — середина XX ст.). Киев, 1992. С. 37.

[156] Белорусское народное зодчество (XIX — середина XX ст.). С. 40.



72. Мінск. Від на праспект П. М. Машэрава

цыя імя Я. Коласа), рознакаляровае шкло (станцыя «Інстытут культуры»), што надае ім нацыянальныя рысы.



73. Вёска Крынкі Ліёзненскага раёна Віцебскай вобласці. Дом культуры

У сувязі з агульным развіццём жылля, павышэннем культурна-бытавых патрабаванняў насельніцтва ў адносінах хатняга побыту ідзе інтэнсіўная трансфармацыя інтэр'ера. Традыцыйны падзел прасторы ў жылым памяшканні замяняюць пакоі, якія маюць пэўнае функцыянальнае выкарыстанне. Звычайна вылучаюць залу («пярэднюю»), спальню і кухню, іншы раз дзіцячы пакой і прыхожую. Зала служыць для адпачынку сям'і, прыёму гасцей. Тут стаіць сучасная фабрычная мэбля: сценка, буфет ці сервант з сервізамі, хрусталём, статуэткамі, мяккі вугал, які ўключае дыван-ложак, два крэслы, столік для часопісаў, або асобныя тахта ці дыван-ложак, а іншы раз па традыцыі 30-х гг. ложак з горкай падушак з вышытымі накідкамі. Звычайна на сцяне над ложкам вісяць дываны фабрычнага ці хатняга вырабу. У вясковай хаце па традыцыі вылучаюць чырвоны кут, дзе ў старых вісяць іконы, пакрытыя прыго-

жымі ручнікамі, у больш маладых размешчаны фотаздымкі, карціны. Як правіла, у вугле стаіць тэлевізар. У залу купляюць люстру фабрычнага вырабу, трумо ці люстэрка. Неад'ёмным атрыбутам як гарадской, так і сельскай сям'і стала хатняя бібліятэка, якая гаворыць аб узросшым культурным узроўні насельніцтва. Характэрна, што ўнутраная планіроўка сельскага жылля ў большай меры, чым гарадскога, утрымлівае традыцыі: гэта і размяшчэнне прадметаў інтэр'ера, і аздабленне жылля. У шмат якіх вёсках і сёння стаяць кросны, жанчыны ткуць ручнікі, рознакаляровыя посцілкі, «хадакі» і іншыя рэчы з мэтай упрыгожвання жылля.

Спальня і кухня абстаўлены больш сціпла. У спальні стаяць драўляныя ці нікеліяваныя ложкі, шафа, іншы раз пісьмовы стол, этажэрка. Хаця тып традыцыйнай планіроўкі сёння парушаны, руская печ працягвае бытаваць у сучасным сельскім доме. Яна перамясцілася на кухню і служыць для яе ацяплення, гатавання ежы. Аднак у апошнія дзесяцігоддзі ўсё шырэй для прыгатавання ежы выкарыстоўваюцца электрычныя і газавыя пліты. Іншы раз з кухні вылучаецца яшчэ адзін пакой — прыхожая, дзе звычайна стаіць шафа для посуду, часам ложак для старых членаў сям'і. Тыя ж сем'і, што жывуць у добраўпарадкаваных шматкватэрных дамах ці жыллі катэджнага тыпу, наогул ужо не маюць справы з рускай печчу; яны забяспечаны цэнтральным ацяпленнем, вадой, газам, каналізацыяй. Праўда, такіх сямей на вёсцы яшчэ няшмат. Толькі нямногім больш 10% сельскага насельніцтва жыве ў добраўпарадкаваных памяшканнях (у горадзе — 73%).

Этнічныя элементы можна сустрэць у інтэр'еры сучасных гарадскіх кватэр: насценнае пано, інкрустацыя рэчаў саломкай, кераміка. Інтэр'ер кватэр нярэдка ўпрыгожваюць традыцыйныя вырабы ткацтва: абрусы, ручнікі, накідкі на канапу, крэслы, посцілкі. Такія прадметы ўносяць этнічны каларыт у жыллё гараджан.

Такім чынам, у XX ст. пад уплывам палітычных, сацыяльна-эканамічных працэсаў, урбанізацыі і міграцыі істотна змяніліся традыцыйныя сістэма рассялення, тыпы сядзіб, жыллё беларусаў. Найбольш утрымлівае традыцыі сельскае жыллё, аднак і гарадское жыллё ўключае ў сябе асобныя этнічныя рысы. Будучы важнай часткай сістэмы жыццязабеспячэння народа, жыллё служыць этнічным вызначальнікам. З ім звязаны цэлы комплекс светапоглядных уяўленняў, норм паводзін і ўзаемаадносін беларусаў, што ўмацоўвае этнічную самасвядомасць нацыі.

## АДЗЕННЕ

На пачатак XX ст. у асноўнай масе сельскага насельніцтва пераважала традыцыйнае адзенне. Аднак з развіццём вытворчых сіл грамадства, з сацыяльным расслаеннем вёскі адбывалася трансфармацыя беларускага народнага касцюма. Заможныя сяляне куплялі фабрычныя тканіны: баваўняныя, шаўковыя, суконныя. Пад уплывам горада ў вёсцы з'явіліся новыя па крої і канструкцыі рубахі, блузы, кофты, пінжакі, паліто, хаця ў сельскай мясцовасці за імі яшчэ захоўваліся старыя назвы: сарочка, світка, сярмяга. У сельскі побыт, звычайна ў заможных сялян, увайшлі шляпы, пальчаткі, калошы, парасоны[157]. Гэты працэс прыпыніўся Грамадзянскай вайной і замежнай інтэрвенцыяй. Былі разбураны фабрыкі і заводы, згорнута лёгкая прамысловасць, што выклікала ажыўленне народных промыслаў на аснове індывідуальнай сялянскай вытворчасці. У гэтых

[157] Этнография восточных славян. М., 1987. С. 170.

умовах, побач з кансервацыяй старых форм, у сялянскім адзенні з'явіліся элементы вайсковай формы: шынэль, галіфэ, гімнасцёркі, ватнікі, якія сяляне, наколькі магчыма, дастасоўвалі да сваіх патрэб[158].

У 1920—1930-я гг. у сельскай мясцовасці працягвалі бытаваць традыцыйныя комплексы адзення, хаця яны і зазналі істотныя змены ў крoі, тэхналогіі і тэхніцы пашыву. Галоўнымі матэрыяламі для адзення служылі ільняная тканіна (порт), суконная (сукно), а таксама змешаная тканіна з суконных і ільняных нітак (шарачок)[159]. У залежнасці ад якасці, палатно падзялялася на кужэльнае (больш тонкае) і зрэбнае. Звычайна тканіну ці ніткі фарбавалі натуральнымі фарбавальнікамі, з дапамогай кары альхі, пячной сажы, іржавага жалеза, маладзенькіх лісточкаў бярозы і некаторых траў. Пры магчымасці куплялі штучныя фарбавальнікі ў крамах. Большасць вясковага насельніцтва насіла саматканае адзенне. Для жаночага касцюма былі характэрны кофты, сарочкі, спадніцы, андаракі, фартухі, розныя па тыпу безрукаўкі: станік, кабат, гарсет. Вось, напрыклад, апісанне адзення беларусаў Чэрвеньшчыны, якое даў у 1929 г. этнограф М. Касяровіч: «Жаночая сарочка шыецца з дзвюх полак кужэльнага або зрэбнага палатна ... з простымі рукавамі або каўнярамі ці брыжамі. Каўнер адкладны і завязваецца стужкаю. Ля каўняра — заборы, каб сцягнуць каўнер. У рукавах выкарыстоўваюцца суцэльна з рукавом клінкі заміж цвікляў, але шыюць і з цвіклямі ды са стаячым каўняром або зусім без яго. На плечуках рукавоў — перабіраныя палікі ... Па сарочцы жанчыны носяць спадніцы з узорыстага палатна і андаракі з такога ж сукна, ды паверх іх — ператыканы, перабірны або вышываны хвартух... Некаторыя яшчэ носяць гарсэт, зашпіляючы яго толькі на адзін кручок. На галаву жанчыны ў Чэрвеньшчыне завязваюць або хусту, або намёт, намётку. На ногі абуваюць лапці з аборкамі, або крайкамі, гэта значыць з чорнымі суконнымі ці раменнымі паясамі, якімі яны па-мастаку перавіваць нагу па бялюткай анучцы да кален...»[160]

Маладыя дзяўчаты ўбіраліся ў вышытыя кужэльныя сарочкі ці з крамнага матэрыялу, адзявалі на шыю пацеркі, у косы ўпляталі каснікі, стужкі, галаву ўпрыгожвалі вяночкамі.

Мужчынскі касцюм складаўся звычайна з палатнянай сарочкі белага, сіняга або чорнага колеру, штаноў, портак, на нагах былі лапці з пяньковымі аборамі, у лапцях — суконкі[161], іншы раз надзявалі камізэльку. Старыя мужчыны на поясе насілі на раменчыку нож — сцізорык, шабету з крэсівам, крэмнем і інш[162]. У мужчын сярэдняга ўзросту вопратка з палатна і сукна хатняга вырабу спалучалася з фабрычным адзеннем: можна, напрыклад, убачыць мужчыну ў ботах, купленых штанах (верхнія), белай рубашцы і світцы[163]. А ў маладых і ў будзённым адзенні часцей сустракаліся боты, на плячах пінжакі або чорныя фабрычнага вырабу рубахі[164]. Дзеці да 3—4 год хадзілі толькі ў сарочцы[165], большасць з іх былі босыя, і толькі тыя, што ішлі ў школу, адзявалі світкі і абувалі лапці. Як сведчаць матэрыялы, змешчаныя ў часопісах «Наш край», жалобнае адзенне сяляне не насілі, але ж лічылі, што пасля смерці каго-небудзь у сям'і сваякам не трэба цэлы год насіць чырвонага[166].

[158] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 47.

[159] Наш край. 1930. № 3. С. 51.

[160] Наш край. 1930. № 5—6. С. 57—58.

[161] Наш край. 1927. № 6—7. С. 30.

[162] Наш край. 1928. № 2. С. 25.

[163] Наш край. 1929. № 12. С. 38.

[164] Наш край. 1929. № 11. С. 56.

[165] Наш край. 1930. № 5—6. С. 57—58.

[166] Наш край. 1930. № 1. С. 54; Там жа. 1927. № 6—7. С. 30.

Верхняе адзенне вясной, летам і восенню складалася з армяка, світы, якія шылі з самаробнага сукна, меўшага натуральны колер авечай воўны ці фарбаванага ў шэры, карычневы колер. На Паазер'і апраналі яшчэ балахоны (свайго роду плашч), часцей з белай хатняй тканіны, якія падпярэзвалі самаробным рамнём, вяроўкай, поясам. Маладыя хлопцы «фарсілі» ў фрэнчах, пінжаках, жакетах (кароткія світкі). Узімку сялян выручалі шубы і паўшубкі. У дарогу ў некаторых былі буркі (накшталт паліто з сукна без падкладкі і з капюшонам, якія адзяваліся паверх паўшубка, шубы, крытага сукном паўшубка («абшывеня») і другой вопраткі і засцерагалі ад ветру, снегу і дажджу[167]. Верхняе адзенне аддавалі шыць тутэйшым краўцам, звычайна мужчынам. Часта іх прывозілі разам са швейнай машынкай у хату, кармілі, па вечарах слухалі казкі, байкі, аповесці бывалага чалавека, за працу плацілі грошы. А пасля заканчэння пашыву краўца з яго машынкай вязлі дадому ці да другога заказчыка[168]. Ніжнюю бялізну, кофты, спадніцы, штаны шылі самі жанчыны дома.

Галаўныя ўборы былі самыя адмысловыя. Але агульнай тэндэнцыяй у жанчын была замена намітак паркалёвымі, суконнымі хусткамі, платкамі, якія ткалі, вязалі самі ці набывалі ў краме. На Віцебшчыне яшчэ ў 30-х гг. старыя жанчыны пад платком насілі какошнікі[169], а на Случчыне замест намітак адзявалі «каптуркі». Наміткамі ж рабілі падарункі на вяселле, хрэсьбіны і інш.[170] Мужчыны насілі фуражкі, кепкі, шапкі-вушанкі з авечага ці заечага футра, апошнія шылі спецыялісты-краўцы. Старыя амаль круглы год не здымалі з галавы «кучмы» (круглыя шапкі з аўчыны)[171].

Неад'ёмным кампанентам народнага касцюма быў абутак. У 20—30-я гг. у будні сяляне карысталіся лёгкімі лапцямі: вяровачнымі («чуні»), лыкавымі, лазовымі («пасталы»). Для падлеткаў рабілі «коўкі» — паўчаравічкі ці боты з драўлянай падэшвай. На свята абувалі скураныя чаравічкі, боты. Зімой насілі валенцы, якія выраблялiся шапаваламі з воўны.

Па адзенню можна было вызначыць сацыяльнае і маёмаснае становішча чалавека. У бедных яно было самым простым, са зрэбнага палатна, часам верхняе адзенне не фарбавалася. Меліся пэўныя адрозненні ў «мужыцкім» і «шляхецкім» адзенні, апошняе вылучалася больш моцнай арыентацыяй на куплены матэрыял, на гарадскі фасон: «спадніца была не такая, як у мужычак, у фальбоны, а прамая з крамнай тканіны, на ножках чаравічкі, а на галаве шляпка з пяром»[172], хаця ў будні розніцы асаблівай не было, хіба толькі манеры і шляхецкі гонар.

Селянін па свайму адзенню да вайны рэзка адрозніваўся ад жыхара горада, інтэлігента: «калі які рабочы прыязджаў з Піцера ці Віцебска, то па адзенню мы лічылі яго панам, багатым»[173]. Святочнае адзенне было толькі ў дарослых, ды і то не ва ўсіх. Таму яго шанавалі і апраналі толькі ў царкву і ў госці: «бацькоў касцюм і боты, якія ён купіў у 1906 годзе ў Петраградзе, дзе пэўны час працаваў на цагляным заводзе, «новенькімі» ляжалі ў куфры і ў 30-я гады. Памятаў ён, што адзяваў іх толькі на сваё вяселле ў 1910 годзе»[174]. Гэта сведчанне з Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці. А вось з Докшыцкага раёна той ж вобласці з в. Сітцы Крывенак Вера Ўладзіміраўна паведамляе: «Маці і тата да таго часу, як наша мясцовасць адыйшла пад Польшчу, былі

[167] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 43.
[168] Там жа, л. 42.
[169] Там жа.
[170] Наш край. 1928. № 2. С. 25.
[171] Наш край. 1930. № 2. С. 23—24.
[172] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 46.
[173] Там жа, л. 42.
[174] Там жа, л. 40.

ў Петраградзе. Маці працавала на фабрыцы «Чырвоны трохвугольнік», а тата не ведаю дзе. Звярнуліся назад, калі тэрыторыя ўжо была пад Польшчай. Там яны нядрэнна апрануліся. У маці былі туфлі, сукенка, зімовае чорнае паліто з такога ж колеру футравым каўняром з доўгай поўсцю, у бацькі — туфлі, касцюм, рубахі, штаны-клёшы і дэмісезоннае цёмна-зялёнае паліто, якія адзявалі толькі на святы і ў царкву»[175]. Як бачна, у трансфармацыі традыцыйнага адзення вялікая роля належала міграцыйным сувязям.

Менавіта святочнае адзенне найперш паддавалася гарадскому ўплыву, прычым гэты ўплыў спачатку адчуваўся ў малых гарадах, мястэчках, а затым даходзіў і да вёскі, выяўляючыся ў адзенні прывілеяваных слаёў насельніцтва ў матэрыялах, крої, фасонах[176].

Ідустрыялізацыя выклікала інтэнсіўныя працэсы ўрбанізацыі і міграцыі, якія, у сваю чаргу, стымулявалі знікненне традыцыйных і распаўсюджанне новых форм матэрыяльнага быту. З правядзеннем калектывізацыі ішло пераўладкаванне ладу жыцця вясковага насельніцтва. Усё гэта карэнным чынам змяняла грамадскую свядомасць, адбівалася на традыцыйным касцюме. Ён перастаў служыць знакам сацыяльнага адрознення. Расла сацыяльная мабільнасць сельскага насельніцтва, пашыралася колькасць міжэтнічных шлюбаў. Непазнавальна змянілася гаспадарчая дзейнасць беларусаў.

Са стварэннем калгасных і саўгасных гаспадарак скарачаліся пасевы ільну на прысядзібных дзялянках, што звужала сферу традыцыйнага ткацтва, вырабу ільняных тканін, якія былі так характэрны для беларусаў. З развіццём лёгкай прамысловасці ў вёску пачалі паступаць фабрычныя тканіны. У сувязі з гэтым, паступова знікала частка элементаў традыцыйнага комплексу, радзей сустракаліся безрукаўкі, меншае распаўсюджанне мелі даматканыя андаракі і спадніцы[177]. У традыцыйным комплексе замест даматканых тканін сталі ўжывацца фабрычныя, найперш на сарочкі, кашулі, фартухі. За тканінамі ў магазінах былі чэргі: «Помню, купілі мы з маці матэрыял мне на першую рубаху ў краме, дзе адстаялі ў чарзе з 15 гадзін дня, ноч і толькі ў 12 гадзін наступнага дня атрымалі 3 метра матэрыяла (1934 г.)»[178]. У гэты час змянілася каларыстычнае афармленне адзення, якое ўвабрала ў сябе цэлую палітру фарбаў ад чырвонага да зялёнага і сіняга, уключаючы і пераходныя колеры. Гублялася семантыка традыцыйнага для Беларусі геаметрычнага ўзору, у канве якога пачалі сустракацца раслінныя і арнітаморфныя матывы: «ружы», «валошкі», «незабудкі», «званочкі», «пеўнікі», «паўліны», «галубкі» і інш. Дзякуючы фарбавым нюансам, майстрыхі дасягалі такога калярова-светаценевага эфекту, пры якім плоскасны малюнак набываў аб'ёмнае гучанне[179].

Асабліва хуткія змены ў адзенні ішлі на Паазер'і, Падняпроўі — традыцыйных раёнах адыходніцтва. Моладзь лічыла старадаўнія формы «адсталымі», імкнулася набыць прэстыжную гарадскую вопратку ці пашыць сабе касцюм па гарадскому ўзору. Маладыя жанчыны маглі выйсці на вуліцу «паказацца на людзях» без абавязковай для замужніх кабет галаўной хусткі, а мужчыны без традыцыйнага пояса, які часта замяняў рамень. У сельскі быт увайшлі жаночыя і мужчынскія касцюмы, плюшаўкі, паліто, су-

---

[175] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 36.

[176] Наш край. 1930. № 3. С. 51.

[177] Беларускае народнае адзенне. Мн., 1975. С. 80.

[178] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 39, 40.

[179] Раманюк М. Беларускае народнае адзенне. Мн., 1981. С. 6.

кенкі, бялізна. У гэты час мелі месца супярэчлівыя тэндэнцыі: з аднаго боку, вялася барацьба з «архаічным» бытам, у тым ліку супраць асобных формаў у традыцыйным адзенні, а з другога — адраджалася цікавасць да народнага касцюма як да элемента нацыянальнай культуры. Напрыклад, было заведзена, каб дэлегаты на з'езды, канферэнцыі з'яўляліся ў сваіх нацыянальных касцюмах. Пад уплывам росту этнічнай самасвядомасці ствараліся другасныя формы традыцыйнага адзення, якія асэнсоўваліся як нацыянальныя (беларуская мужчынская сарочка, якая насілася паверх штаноў і інш.)[180].

На тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая да 1939 г. уваходзіла ў склад Польшчы, развіццё матэрыяльнай культуры, у прыватнасці адзення, мела свае адметныя рысы. Тут амаль да 50-х гг. існавала ўласная гаспадарка, свой надзел зямлі, шырока бытавала ткацтва. Інфарматар з в. Сакуны Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці Сакун Вера Іванаўна расказвала: «Пры Польшчы ў каго было многа зямлі, той барстваваў, а бедным было горш. Я то добра ўбіралася, лакіроўкі насіла, панчохі шаўковыя. Справіла сабе маларасійскае адзенне. Купіла ў яўрэяў матэрыял, а шыла сама. Кофта была плотная крэмавага колеру, вышытая па грудзіне, каўняру, манжэтах. Спадніца ўся ў вузенькія ленты, чорны плотны станік на шнуровачках, унізе зубамі акантаваны, а па іх пацеркі блішчастыя рознага колеру. Да пацеркаў многа стужак рознакаляровых прышпільвалі дліной да канца спадніцы. У гэтым адзенні толькі на фэст у царкву хадзілі. А для будзенага шылі сукенкі сацінавыя, спадніцы плісіроўкі, «у контры», зборкі, клешныя. На галаву павязвалі чырвоную суконную ці баціставую хустку». Марыя Іосіфаўна Шыхат з гэтай жа вёскі ўспамінала: «Усё лета басяком хадзілі, у царкву ідзеш босы, а туфлі ў руках нясеш, а ў царкве ўжо абуваешся. Насіла і лапці, сама вязала кручком з кудзелі і пляла з лыка. Ручнікі, настольніцы — усе самі ткалі, на спадніцы ткалі «у костачкі», гэта значыць у клетку. Пад канец Польшчы сталі насіць даматканы палатняны касцюм. Бралі моду ў палякаў і тое ж рабілі»[181].

У кожнай гаспадарцы гадаваліся авечкі, з іх воўны вязалі кофты, шкарпэткі, пальчаткі. Са скур шылі кажухі, паўшубкі, звычайна адносілі аўчыны да спецыяліста-краўца, яму плацілі грошы. Мужчыны хадзілі летам ў сарочцы з белага палатна з драўлянымі гузікамі («бірулькі»), святочная сарочка ўпрыгожвалася вышыўкай. Матэрыял для порткаў ткаўся з ільну, яго фарбавалі ў цёмны колер, называлася такая тканіна «дубальт». Больш заможныя шылі «галіфэ» з сукна «дыяганаль». Найбольш хадзілі ў скураных «хадаках», а на свята бацька і дарослыя сыны абувалі хромавыя боты[182].

Такім чынам, у перадваенныя гады хаця і ішло выцясненне даматканага адзення фабрычным, але даволі марудна, паколькі прамысловасць яшчэ не магла забяспечыць усіх фабрычнымі тканінамі, ды і насельніцтва не мела дастатковых сродкаў, каб набыць адзенне ў краме. У гады вайны аднавіўся і пашыраўся выраб хатніх тканін: ільняных, суконных. З суконнай пражы пераважна ткалі тканіну для верхняга адзення. Даматканае сукно валілі на сукнавальных машынах, якія дзе-нідзе захаваліся пры паравых млынах, ці прымянялі старадаўні спосаб, калі сукно нагамі мялі ў карыце, паліваючы яго гарачай вадой. Прымянялі натуральныя раслінныя фарбавальнікі: альховую кару, іржавае жалеза і інш. У суровых ўмовах вайны, у час бяды ў

[180] Современные этничные процессы в СССР. М., 1975. С. 210—211.

[181] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 5, 6, 13—15.

[182] Там жа, л. 24.

народа мабілізаваліся вышэйшыя пачуцці самазахавання. «Нават у блакаду 1944 г. бабы на балоце цягалі за сабой не толькі клубкі з ніткамі, але і нават плеценыя кросны (ніцяную аснову), якія не паспелі навіць на варстат. Часам, калі адной гаспадарцы было не пад сілу наладзіць вытворчасць тканін, калгасніцы ткалі ў складчыну»[183]. Выраблялі аўчыны, шылі скураныя боты, чаравічкі, плялі лазовыя лапці. Вайна вайной, а жыццё брала сваё. Падлеткі збіраліся на пасядзелкі, танцавалі, хацелася лепей апрануцца. З тонкіх ільняных нітак вязалі спадніцы, кофты, адбельвалі ў хлорцы; прыгожыя сукенкі майстравалі з парашутнага шоўку; з аўтакамеры шылі адмысловыя басаножкі, верхам якіх была тасьма кнота для лямп[184] — усё ішло ў справу.

У пасляваенны час, у перыяд аднаўлення прамысловасці, сельскай гаспадаркі, калі Беларусь ўзнімалася з папялішчаў, даматканае адзенне бытавала ў абіходзе людзей, дзе-нідзе захоўваўся традыцыйны комплекс беларускага касцюма. На Брэстчыне амаль да 50-х гг. маладзіцы ўвіваліся акалястымі наміткамі-платамі, а свахі на вяселлі ўбіраліся ў «рожкі» ці «кветкі» — своеасаблівыя галаўныя ўборы з пукамі фарбаванага пер'я[185]. Аднак з цягам часу традыцыйнае адзенне саступала месца сучаснаму агульнаеўрапейскаму касцюму. Толькі ў вёсках старыя жанчыны па традыцыі аддавалі перавагу комплексу са спадніцай, кофтай, фартухам, які ўжо шылі з фабрычных тканін, ды дзе-нідзе ў сундуках, куфрах з любоўю захоўвалі народнае адзенне, як памяць аб маладосці, колішнім жыцці. Жанчыны сярэдняга і старэйшага ўзросту і зараз пакрываюць галовы хусткамі, пры



74. Сялянка ў нацыянальным адзенні. 1953 г.

гэтым аддаюць зімой перавагу цёмным спакойным танам, летам жа носяць паркалёвыя белыя ў мелкія кветачкі хусцінкі. Маладзіцам больш да спадобы рознакаляровыя касынкі, шалікі, шляпы; у халодную пару яны карыстаюцца пуховымі хусткамі, футравымі ці вязанымі шапкамі сучасных фасонаў. Дзяўчаты ходзяць з непакрытай галавой, зімой аддаюць перавагу шапкам. У 70—80-я гг. зноў у моду ўвайшлі аднатонныя розных колераў хусткі з яркімі кветкамі і кутасамі, адзін рог якіх абкручваецца вакол шыі, другі вольна спадае з пляча. Мужчыны носяць кепі, шляпы, бярэты, зімой — футравыя шапкі (аўчынныя, трусіныя, нутравыя, андатравыя і інш.). У пасляваенны час выйшлі з ужытку лапці. Боты, туфлі сталі пачаць паўсядзённым абуткам. Сціраюц-

[183] Залескі А. І. Быт беларускіх сялян у партызанскім краі. Мн., 1960. С. 99—101.

[184] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 37.

[185] Раманюк М. Беларускае народнае адзенне. С. 8

ца адрозненні ў будзённым і святочным адзенні, асабліва ў груп з больш высокім сацыяльным статусам. Рабочыя на працы носяць спецвопратку. Сяляне карыстаюцца ў халодную пару фуфайкамі, паўпаліто. А ў вольны час практычна нельга адрозніць міністра ад рабочага ці калгасніка.

Амаль да 1990-х гг. адзенне не выконвала мінулай сацыяльна-падзяляючай функцыі, а цяпер зноў прыкмячаецца тэндэнцыя на яго дыферэнцыяцыю — футры, скураныя паліто, курткі на больш заможных. Шматколернасцю і разнастайнасцю вылучаецца дзіцячая вопратка: сукенкі і вязаныя касцюмчыкі, штонікі і спаднічкі, курткі і шубкі, шапкі і шалікі. Да нядаўняга часу яны былі даволі танныя, а сёння не кожная сям'я можа іх набыць, і гэта адна са шматлікіх прычын зніжэння нараджальнасці.

У грамадстве сёння адчуваецца пэўная дысгармонія паміж матэрыяльным і духоўным светам, што стварае некаторую небяспеку ў празмернай стандартызацыі густаў, гэта асабліва бачна ў нівеліроўцы аблічча сучасніка. Згладжваюцца ўзроставыя і нават палавыя адрозненні ў адзенні. Большая частка моладзі, ды нават і дарослыя, слепа капіруюць заходнееўрапейскую моду. Джынсавыя курткі і безрукаўкі, штаны і спадніцы замянілі святочнае і будзённае адзенне. Вялікую дапамогу моладзі могуць аказаць прафесіянальныя мастакі-мадэльеры, творчасць якіх звязана з жывой крыніцай народнага мастацтва. Беларускія мадэльеры ствараюць як унікальныя вырабы выставачнага характару, так і распрацоўваюць узоры для маласерыйнай і масавай вытворчасці з улікам перспектыўнага кірунку моды; пры гэтым у мадэлях шырока выкарыстоўваюцца тканіны фабрычнай вытворчасці, якія імітуюць структуру, арнаментальна-каларыстычнае афармленне тканін хатняга вырабу, — так званыя «андарачныя» тканіны. Сучасная форма аба



75. Сучасны касцюм з выкарыстаннем традыцыйнага мястэчковага карункапляцення

гачаецца разнастайнымі традыцыйнымі дэкаратыўнымі прыёмамі: вышыўкай, аплікацыяй, аддзелкай шнурам, тасьмой, карункамі і інш.

Для народнага касцюма ў 1980—1990-х гг. характэрны новы кірунак, для якога ўласціва не зняшняе капіраванне і механічнае паўтарэнне старога, а пастаяннае развіццё, пошукі новых акцэнтаў дэкаратыўнасці з пазіцыі сучаснага светаўспрымання. Прадаўжаючы традыцыі, ён падкрэслівае ў чалавеку годнасць, вытанчанасць, агульначалавечае паняцце дабра і зла. Ідзе працэс «прарастання» дзедаўскай спадчыны, арганічнае яе зліццё з сучасным касцюмам. У адзенні беларусаў выкарыстоўваюцца лепшыя традыцыі народнай творчасці. Гэта ў асноўным розныя традыцыйныя тканіны (лён, сукно), варыяцыі ў каплектаванні складаных частак адзення, народных спосабаў і прыёмаў арнаментыкі, упрыгожванняў.



76. Мінская вобласць. Ансамбль «Капыльскія дудары». 1989 г.

Вялікім попытам карыстаюцца ільняныя сукенкі, кашулі, гарнітуры, аздобленыя вышыўкай, карункамі, аплікацыяй па матывах народнага арнаменту. У хатнім побыце яшчэ даволі шырока ўтрымліваецца вязанне шкарпэтак, пальчатак, світароў, шапачак, шалікаў і іншых цёплых рэчаў, упрыгожаных узорамі з багатай народнай спадчыны. Другое жыццё атрымалі беларускія кажухі і паўкажушкі, так званыя дублёнкі, выкананыя ў традыцыйным стылі, багата ўпрыгожаныя.

Хочацца адзначыць, што ва ўсім свеце ідзе зварот да сваёй спадчыны, звычаяў, традыцый. І ў гэтым працэсе не апошнюю ролю павінна адыгрываць традыцыйнае адзенне, у якое людзі ўкладвалі не толькі сваю працу, але і душу, свае мары і надзеі, радасць і гора, і якое выступала этнічнай прыкметай народа. Цікава, што і сёння яшчэ існуюць стэрэатыпы, нормы, звязаныя з народным адзеннем, якія пераносяцца на сучасны касцюм. Гэта і традыцыі карыстання адзеннем, аднясенне работ па яго вырабу, рамонту да сферы жаночай працы, стварэнне пэўных запасаў вопраткі і набор сітуацый дарэння. Уплыў традыцыйных норм і стэрэатыпаў праяўляецца ў прыгатаванні пасагу для дачок (звычайна ў выглядзе камплектаў бялізны, коўдр, падушак і інш.), захаванні нявестай свайго шлюбнага ўбору, а таксама ў падрыхтоўцы старымі жанчынамі смяротнага адзення.

Беларускае народнае адзенне знайшло сваё прымяненне ў сцэнічным, абрадавым касцюме. Мастацкая каштоўнасць народнага адзення такая вялікая, што і зараз народны касцюм бытуе ў фальклорна-этнаграфічных калектывах в. Мотыль Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці, Горскага сельскага клуба Магілёўскай вобласці, в. Крупіцы Мінскай вобласці і шмат якіх іншых. Па-ранейшаму ўтрымліваецца абрадавая функцыя народнага адзення. У час вяселля маладым і дружкам прышпільваюць кветкі на грудзях, свату павязваюць праз плячо традыцыйны



77. Фальклорная група калгаса імя Варашылава Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці ў нацыянальных касцюмах. 1984 г.

беларускі ручнік. На ўрачыстай рэгістрацыі шлюбу маладых вітае вясельнымі песнямі фальклорна-этнаграфічны ансамбль, удзельнікі якога ўбраны ў традыцыйнае беларускае адзенне. Таксама вядучая рытуалу звычайна апранае народны касцюм. Пры жалобе жанчыны надзяваюць чорную хусцінку, часам і чорнае адзенне. На дажынках героям жніва дзяўчаты ў народных касцюмах уручаюць вянок з лепшых каласоў, на Купалле яны плятуць і надзяваюць на галаву вянок з кветак. Нават новыя працоўныя абрады: ушанаванне перадавікоў вытворчасці, ветэранаў працы, працоўных дынастый, святы асобных вёсак, гарадоў, вуліц, дзяржаўныя святы (Дзень Перамогі, Дзень працы і інш.) — не абыходзяцца без народнага касцюма, у які, часцей за ўсё, апрануты вядучыя, удзельнікі мастацкай самадзейнасці. Беларускае народнае адзенне ва ўмовах распаўсюджання ўрбанізаваных форм культуры набыло ролю этнічнага сімвала, адлюстроўвае этнічную гісторыю народа, мае важнае значэнне ў выхаванні любові да Радзімы, патрыятызму, нацыянальнай самасвядомасці.

## ТРАДЫЦЫІ ХАРЧАВАННЯ

Ежа адносіцца да найбольш важных і ўстойлівых элементаў матэрыльнай культуры. Яна залежыць у першую чаргу ад геаграфічнага асяроддзя, сацыяльна-эканамічных умоў, накіраванасці гаспадарчай дзейнасці і этнічных традыцый. Характар харчавання, склад ужываемых прадуктаў і страў, спосабы і парадак прыгатавання і прыёму ежы, забароны і аддаванне перавагі тым ці іншым стравам прадстаў-

ляюць вялікую цікавасць у плане вывучэння этнічнай гісторыі. Як правіла, ежа адлюстроўвае спецыфіку этнасу-народа, тыя этнаэвалюцыйныя і этнатрансфармацыйныя змены, якія працякаюць у яго асяроддзі, служыць свайго роду этнічнай меткай.

На пачатак XX ст. галоўнымі заняткамі беларусаў былі земляробства і жывёлагадоўля. У індывідуальных гаспадарках вырошчвалі збожжавыя (жыта, грачыху, проса, ячмень, авёс, пшаніцу), бабовыя культуры (боб, гарох), гародніну (бульбу, буракі, рэпу, агуркі, моркву, капусту, бручку, цыбулю, часнок). Разводзілі буйную рагатую жывёлу, авец, свіней, птушак. Аснову харчавання і дабрабыту складаў жытні (чорны) хлеб, «калі хлеб быў дый яшчэ картошкі, то беднымі сябе не лічылі». Аб пануючым месцы хлеба ў харчовым рацыёне сведчыць беларускі фальклор: «Хлеб — усяму галава», «Хлеб будзе, дык й ўсё будзе», «Хлеб і вада — няма голада», «Без хлеба няма абеда»[186]. Беларусы з пашанай адносіліся да хлеба, і гэтыя беражлівыя адносіны перадаваліся з пакалення ў пакаленне. «На стале ніколі не заставалася ніводнай крошкі. Калі здаралася, што кавалачак хлеба зваліўся на падлогу, яго адразу ж падымалі, цалавалі і клалі на стол»[187]. У залежнасці ад якасці збожжа, яго памолу, наяўнасці дадатковых кампанентаў, тэхналогіі закваскі цеста і спосабаў выпякання вылучалі некалькі гатункаў хлеба[188]. Лепшым лічыўся пытляваны хлеб («першак»), які выраблялі з чыстай аржаной прасеянай мукі і які часцей сустракаўся ў замежных сем'ях. З непрасеянай мукі выпякалі «градовы» хлеб; з дабаўленнем ў жытнюю муку ячменнай, грэцкай, аўсянай атрымоўвалі «паловы» хлеб. Калі ж мукі не хапала, асабліва вясной ці ў галодныя гады, у цеста падмешвалі мякіну («пушны» хлеб), бульбу, крапіву, лебяду, хвошч і інш. Пра «пушны» хлеб сяляне казалі: «Пушны хлеб не голад», «З мякінай лёгка хадзіць ды цяжка ногі валачыць».

З ростам таварна-грашовых адносін адбывалася расслаенне вёскі. Самую шматлікую групу складалі малазямельныя і беззямельныя сяляне. Нізкі ўзровень агратэхнікі, недахоп рабочай і малочнай жывёлы, малазямелле паслужылі прычынай таго, што асноўная маса сялянства не была поўнасцю забяспечана прадуктамі харчавання і хранічна недаядала. Першая сусветная і Грамадзянская войны пагоршылі і без таго цяжкае становішча беларусаў. Па даных абследавання Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення БССР, восенню 1924 г. з 438 гаспадарак, якія папалі ў выбарку, чысты хлеб выпякала 291 сям'я (66,4%), з дамешкамі да жытнёвай мукі іншых збожжавых і мякіны пяклі хлеб 147 гаспадарак (33,6%)[189]. Аб гэтым жа сведчаць шматлікія матэрыялы з раёнаў Беларусі. Вось, напрыклад, паведамленне аб вёсцы Мглё Смалявіцкага раёна, што на Міншчыне: «Свайго хлеба не хапае. 30% гаспадарак да студзеня з'ядае свой хлеб ... Гэтыя гаспадаркі павінны паўгода купляць хлеб. Недастача хлеба вельмі адчуваецца вясною. У 1928 г. ў вёсцы быў частковы голад ... Быў выпадак, калі адна сялянка ў млыне са сцен змятала мучны пыл і варыла зацірку»[190].

Па разліках А. Немцава, на аднаго чалавека прыходзілася (1927 г., Замоскі сельсавет Бабруйскай акругі, сярэдняе з 5 сямей на 30 чалавек у тыдзень):[191]

[186] Прыказкі і прымаўкі: У 2 кн. Мн., 1976. Кн. 2. С. 231, 232.

[187] Курыловіч Г. М. Сялянская сям'я // Сям'я і сямейны быт беларусаў. Мн., 1990. С. 55.

[188] Титов В. С. Историко-этнографическое районирование материальной культуры белорусов (XIX — начало XX вв.). М., 1991. С. 21.

[189] Корзун И. П. Пища и питание колхозного крестьянства Белоруссии: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Киев, 1963. С. 11.

[190] Наш край. 1930. № 3. С. 29.

[191] Наш край. 1927. № 6—7. С. 33.

гарбаты — $1^2/_5$ залатніка (6 г)
цукру — 1/5 фунта (82 г)
сала — 0,9 фунта (369 г)
мяса свінога — 1,1 фунта (451 г)
агародніны — 3,5 фунта (1,84 кг)
бульбы — 14,6 фунта (5,98 кг)
хлеба чорнага — 7 фунтаў (2,87 кг)
масла — 1/5 фунта (82 г)
малака — 3 кварты
яек — 1 шт.
круп — 1 фунт (0,4 кг).

Структура паўсядзённай ежы захоўвала традыцыйную аснову, уключаўшую мучныя, крупяныя, малочныя стравы, агародніну. Цікавае сведчанне аб харчаванні насельніцтва Чэрвеншчыны пакінуў этнограф М. Каспяровіч (1929 г.): «Харчуецца вясковае насельніцтва амаль выключна тым, што дае яму сельская гаспадарка. З аржаной мукі пякуць хлеб ядомы, хлеб прэсны для квасу, праснакі, блінцы, аладкі, вараць зацірку, робяць саладуху. З пшанічнай, апрача таго, пякуць «грыбкі» (яечня з мукой), пірагі, вараць мачанку, патраўку, макароны і інш. З аўсянай мукі вараць жур, кісель, ды робяць крупы і мілту. З грэчкі, ячменю робяць крупы на крупнік і кашу, а з ячнай і грэцкай мукі пякуць бліны і аладкі. Гарох ядуць вараны і пражаны, як і боб. Буракі і капусту вараць як свежымі, так і заквашанымі на зіму. З бульбы робяць самую разнастайную яду: булён, бабку, аладкі, камы і інш. Апрача квасу спажываюць бярозавік і кляновік, якія назапашваліся вясной, калі цячэ сок з параненых бярозы і клёну»[192].

Каштоўным пастаўшчыкам вітамінаў былі прадукты ляснога збору: ягады і грыбы. Суніцы, чарніцы, маліну сушылі і выкарыстоўвалі ў якасці лекаў. З чарніц і дурніц рабілі яшчэ кулагу. Брусніцы мачылі з яблыкамі, журавіны захоўвалі ў бочцы, да вясны мачылі. Сушылі баравікі, абабкі, падасінавікі, махавікі, зялёнкі[193], салілі рыжыкі[194]. Шмат якія прадукты нарыхтоўвалі пра запас. Восенню, калі пачыналіся марозы, звычайна на Пакровы, гаспадыня падымалася раненька, каб людзі не бачылі, «шыткавала» капусту, раскладвала ў бочкі, саліла, дабаўляючы кмен і журавіны, а калі быў — трохі цукру. У асобную бочку клала цэлыя качаны, залівала халоднай калодзежнай вадой, пасаліўшы і палажыўшы кроп, кмен. Каб капуста ўдалася хрусткай і смачнай, усё гэта рабілі ў мужчынскі дзень (аўторак, чацвер), у апошні тыдзень месяца. Салілі агуркі, прыпраўляючы кропам, вішнёвым, дубовым, парэчкавым лісцем, мятай. Да Каляд рэзалі парсюка-«каляду», забівалі кабанчыка і да Вялікадня, рабілі каўбасы, салілі сала. Шынкі, каркавіны, лапаткі капцілі на вяндліну[195], галавізну, ножкі пакідалі на студзень. Буракі, моркву, бульбу складвалі ў склеп[196].

Новае ў харчаванні сельскага насельніцтва — гарбата (чай), якая ўжывалася ў асноўным зімою, хаця многія замест гарбаты пілі «кроп» — вар[197], настоены на ліпавым цвеце, зверабоі, чаборы, душыцы, братках, на каранях валерыяны і інш.

Амаль да канца 1920-х гг. існавала пэўная дыферэнцыяцыя ў харчаванні насельніцтва ў залежнасці ад маёмаснага і сацыяльнага стану, захоўвалася падзяляючая функцыя ежы. «У заможных было больш прысмакаў», — адзначаюць карэспандэнты часопіса «Наш край». Гэта значыць, што да кашы і бульбы багацейшыя часцей далучалі сала і мяса, масла і смятану, калі-некалі пілі сапраўдную гарбату, елі чысты хлеб. Беднякі ж трымаліся з годнасцю, стараліся не паказаць сваё цяжкае становішча. Інфарматар з в. Клюшава Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці

[192] Наш край. 1930. № 5—6. С. 58.

[193] Наш край. 1930. № 2. С. 23.
[194] Там жа. 1927. № 6—7. С. 33.
[195] Там жа.
[196] Там жа. 1930. № 3. С. 34.
[197] Там жа. 1929. № 12 С. 44.

паведамляе: «У нас у вёсцы бадай што самым бедным быў Ягор. Калі хто ў час снедання заходзіў у хату, ён дэманстратыўна адсоўваў ад сябе патэльню з нешматлікімі скваркамі, казаў жонцы: «Дар'я, забяры, а то мне ўжо худа...»[198]

Для беларусаў быў характэрны трохразовы рэжым харчавання: раніцаю — сняданак, удзень — абед і вечарам — вячэра. Прычым гарачую страву ўжывалі 2—3 разы ў дзень. Зімой снедалі ў гадзін 9—10, а летам раней. Перад ежай мыліся, выціраліся ручніком, дзяўчаты і жанчыны «учэсваліся». Дачка накрывала стол зрэбным абрусам, бацька краіў хлеб[199]. Перад тым як ісці за стол, хрысціліся. Бацька садзіўся за стол першым на куце, абапал яго дзеці; маці, калі ёсць месца, то сядзела з краю, падавала ежу. За сталом ішла нетаропкая бяседа паміж дарослымі, рашаліся жыццёвыя праблемы: што, дзе і калі пасеяць, прапалоць, убраць, як лепей весці гаспадарку, падрыхтавацца да свята, каму і куды пайсці рабіць тую ці іншую працу. Дзеці, хаця і знешне захоўвалі этыкет: «калі я ем, то глух і нем», але ж усё чулі. Сумеснае ўжыванне ежы за сталом аб'ядноўвала дарослых і малых, стварала непаўторны мікраклімат сям'і, дзе неназойліва ішло выхаванне чалавека, дзецям перадаваўся вопыт, навыкі, стыль паводзін.

На сбалансаванасць і якасць харчавання, без сумнення, аказваў уплыў сезонны дэфіцыт прадуктаў. Летам і восенню больш спажывалі агародніны, малочных страў, яек, зімой — мясных прадуктаў, сала, хаця, як казалі самі сяляне, сала хапала толькі на «затаўку», ды і пакідалі пэўны запас яго на вясну, лета, каб можна было рабіць цяжкую працу: узараць поле, касіць і інш. Сяляне звычайна пасцілі 4 разы ў год: вялікі пост перад Вялікаднём, пост перад Калядамі, пілі-паўку, спасаўку і нават пятроўку[200]·Акрамя таго, вернікі пасцілі яшчэ кожную сераду і пятніцу. У час пастоў нельга было есці скаромнае мяса, сала, малочныя прадукты. Звычайна елі бульбу з расолам ад агуркоў, квашаную капусту; крупнік ці боршч, якія запраўляліся алеем, а часам і рыбаю[201], грыбамі; кашы з алеем, смажаным з цыбуляю; салодкія кашы з макам, мёдам, малаком макавым, канапляным; талакно, кісель аўсяны, іншы раз журавіны з «сытай» (мёд з вадой)[202]. Некаторыя да Спаса не елі круглага (яблык, гароху, бобу), лічачы, што «калі памерла дзіця, дык на тым свеце яму не будзе яблык»[203]. Але ўжо назіраўся адыход ад рэлігіі, ад пастоў. Больш маладзейшыя адносіліся да пастоў так: «Тады пост, як няма чаго есці, а цяпер ёсць яшчэ скварка і кавалак хлеба — еш на здароўе. На тым свеце будзем пасціць»[204].

Ежа, якую гатавалі да свята, адрознівалася ад штодзённай большым асартыментам і лепшымі смакавымі якасцямі. Свята чакалі, да яго рыхтаваліся, мылі падлогу, бялілі печ, упрыгожвалі іконы новымі ручнікамі, накрывалі стол абрусам. Бедныя толькі на вялікія святы (Каляды, Вялікдзень, Тройца) маглі паспытаць мяса і каўбасы. У свята снеданне, абед і вячэра былі смачнейшыя: гатавалі мачанне з мясам, яечню, пяклі бліны з алеем (елі іх з бурачнай патакай), пірагі з жытняй, грэцкай, ячменнай мукі, а больш заможныя — з пшанічнай, варылі крупнік і капусту[205]. Святочная ежа ўключала спецыяльныя абрадавыя стравы. На Каляды гатавалі куццю, на Масленіцу елі бліны з маслам і сырам, на Саракі пяклі піражкі — «жаўрукі». На першы дзень

---

[198] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 48.

[199] Наш край. 1930. № 3. С. 33.

[200] Наш край. 1927. № 12. С. 52.

[201] Там жа. 1930. № 2. С. 23.

[202] Там жа. 1927. № 6—7. С. 33.

[203] Наш край. 1930. № 3. С. 34.

[204] Там жа. 1930. № 1. С. 54.

[205] Наш край. 1930. № 2. С. 23; № 3. С. 32.

вялікага пастава пяклі аладкі-«дужыкі», лічылася, што хто іх з'есць, той будзе адчуваць сябе дужым увесь год[206]. Адметнай асаблівасцю Вялікадня былі чырвоныя яйкі і пірагі. Святочны стол залежаў ад маёмаснага стану селяніна, ад мясцовых традыцый, звычаяў. У былым засценку Карысць, што на Міншчыне, было прынята да Вялікадня запякаць маленькага парасяці, якога нашпігоўвалі блінцамі, парэзанымі як лапша. Парася з абаранкам у роце клалі на спецыяльныя саначкі, папярэдне абгарнуўшы ножкі (каб не абгарэлі), і ставілі ў печ. Пасля прыходу з царквы падавалі на стол. Звычайна аднавяскоўцы абменьваліся парасятамі, у каго на якое свята выпадзе[207]. Па традыцыі, на хрэсьбінах падавалі «бабіну кашу», яе падзел суправаджаўся жартамі, песнямі, рознымі абрадавымі дзеяннямі. Бадай што самы багаты стол быў на вяселле, і абавязковым атрыбутам яго быў каравай, які сімвалізаваў дабрабыт, шчасце.

Посуд і начынне былі даволі разнастайныя, выраблялiся з гліны, дрэва, каранёў, бяросты, саломы. Елі звычайна з агульнай міскі або латушкі, затое ў кожнага мелася свая лыжка, якую прыкмячалі, пазбягаючы карыстацца чужой. Лыжкі, па народным уяўленням, валодалі асаблівай магічнай сілай. Лыжку гаспадара выкарыстоўвалі ў народнай медыцыне, лыжку хлопца — у любоўнай магіі[208]. У хатнім начынні перабольшваў драўляны посуд, які звычайна выраблялі ў сям'і ці вясковы майстар: лыжкі, апалонік, салонка, талеркі, міскі, біклагі, розныя па памерах дзежкі (для хлеба, блінцоў, квaскі агародніны, збожжа), маслабойка, даенка, вёдры, начоўкі і інш. Гліняны посуд купляўся ў заезжага ганчара ці на кірмашы, выкарыстоўваўся для прыгатавання гарачай ежы (гаршкі, латкі, патэльні і інш.), для захоўвання і транспарціроўкі прадуктаў (збан, гладыш, слоік, спарыш і інш.), для стала (міскі, чашкі, кубкі). З бяросты выраблялі салонкі, з саломы — саламянікі, з лазы — кошыкі і інш. Сустракаўся і фабрычнага вырабу посуд: шклянкі, імбрычкі, сподачкі, лыжкі, талеркі, нажы, відэльцы[209]. Шкляны і металічны посуд быў толькі ў заможных сем'ях, а колькасць посуду як бы служыла мерай дабрабыту сям'і. Для захавання сталовага посуду рабіліся «паліцы», лыжак і апалоніка — «залыжнікі», у больш заможных былі шафы.

У 20—30-я гг. на характар ежы і харчавання ўплывала падатковая палітыка, якая цяжкім ярмом давіла на сялянскую гаспадарку. На харчпадатак здавалі дзяржаве мяса, малако, лён, збожжа, якіх і самім не хапала, у выніку чаго шмат якія сем'і жылі надгаладзь. Аб гэтым яскрава сведчаць дзве тыповыя для таго часу заявы з в. Рудня ў Плешчаніцкі сельскі савет. Баранаўская Альжбета піша: «Ужо звыш дзесяці год як я засталася ўдавой, але нягледзячы на тое, што малыя дзеці, выконвала ўсе ўскладзеныя на мяне абавязкі. У гэтым 1933 г. я павінна была здаць мяса як аднаасобніца, але пры ўступленні ў калгас старшыня заявіў, што б здавала як калгасніца, што мной і было зроблена, а пасля я ўбачыла, што гэта быў яго манеўр, ён мсціў за тое, што яго асудзілі на два месяцы прымуспрацы за пабоі маёй дачкі. Праз чаго я ўжо звыш таго мяса здала, таксама і малако, збожжа, застаўся лён і семя якога выканаць не магу: прапаў на 100% ..., а купіць лёну не маю сродак... Прашу прыпыніць спагнанне, бо т. Сівец заўтра забярэ апошнія рэчы з хаты». Заява Кавалеўскай Луцэі: «У 1934 годзе мне ўручылі паведамленне аб культсбору (92 рублі). Мужа майго з восені 1932 года няма дома,

[206] Там жа. 1929. № 12. С. 44.

[207] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 47.

[208] Топорков А. Л. Домашняя утварь в обрядах и поверьях Полесья. Л., 1986. С. 15.

[209] Наш край. 1927. № 6—7. С. 34.

асуджаны за невыкананне нарыхтовак, ён інвалід трэцяй групы. Я таксама інвалід з шасцю дзецьмі ад двух да дванаццаці год і матцы 77 год, я з дзецьмі галадую...»[210]

Калектывізацыя на пэўны час падарвала вытворчыя сілы вёскі, прывяла да скарачэння прадукцыі сельскай гаспадаркі. Заможных сялян і тых сераднякоў і беднякоў, хто не згаджаўся з гвалтам, «раскулачвалі», высылалі ў глыб Расіі, Казахстан. Спецперасяленцы зазналі голад і холад. Але і на новым месцы прадаўжалі захоўваць традыцыі беларускай кулінарыі, гатавалі дранікі, бабку, пяклі сачні і пірагі, варылі саладуху, шчодра па-славянскі дзяліліся з мясцовым насельніцтвам кулінарнымі рэцэптамі і навыкамі, у сваю чаргу ўспрымалі ад іх новае[211].

У харчаванні калгаснікаў захоўваліся традыцыі беларускай кулінарыі[212]. На сняданак звычайна была бульба, зрэдку ачышчаная перад варкай, часцей за ўсё «ў мундзірах», з агурком (улетку і восенню), з таплёным салам для паху і са смажанай цыбуляй, на першае — малочны суп з пярлоўкай (пярлоўка гатавалася з ячменю ў ступе, таму што жорны разбілі прадстаўнікі ўлады ў пачатку 30-х гг., а на млын мала чаго было везці). Гатавалі таксама таўчонку з бульбы (запяканку) і елі яе з сыраквашай, кулеш з ячменнай ці гарохавай мукі з алеем ці кавалачкамі сала, бліны ячменныя ці аўсяныя з маслам ці авечым, свіным салам (для паху). Рабілі бліны-дранікі і бабку з бульбы. Рэдка, у асноўным на святы, пяклі сырнікі, яечню, амлет. На трэцяе давалі квас, што рыхтаваўся з соладу, кампот (без цукру).

На абед падавалі боршч з мясам, а ў посныя дні (пасты) «ні з чым». Да зімы крышылі ці seклі буракі чырвоныя і белыя, заквашвалі ў бочках, з іх і варылі боршч (капусту). Да баршча гатавалі бульбу «ў мундзірах», абіралі яе і абсушвалі ў печы, пасыпалі тоўчанымі канаплямі ці льнасемем. З першых страў гатавалі яшчэ крупеню (суп з пярлоўкай, бульбай, посны ці з мясам), суп малочны пярловы ці з лапшой (свайго вырабу), бацвінне (гатавалі бурачкі, лісце бурачкоў, запраўлялі сыраквашай ці смятанай), поліўку, квас з кавалачкамі хлеба, агуркоў, алеем. На другое елі кашу ячную, яе запраўлялі маслам ці малаком; бульбу тушаную, запраўленую смятанкай ці маслам, салам, цыбуляй; тушаную рэпу; драчону (амлет з вялікай дабаўкай мукі) на сале. На трэцяе пілі кампот са свежых ці сушаных яблык, груш. Іншы раз да абеда гатавалі сачні: жытнёвыя бліны з бульбай таўчонай на версе, жур (з квашанай аўсянай мукі), які елі з бульбай, хлебам, салодкім малаком.

Вячэралі звычайна тым, што засталося ад абеда: малочны суп, малако кіслае, «цюпкі» (хлеб, які крышыцца ў малако).

Харчаванне беларусаў прыкметна палепшылася перад вайной. Ва ўмовах вайны, нямецкай акупацыі харчаванне насельніцтва значна пагоршылася, зменшылася разнастайнасць ежы і яе каларыйнасць. Усё лепшае: яйкі, малако, мяса, масла, сала, хлеб — канфіскавалі акупацыйныя ўлады. Сяляне, каб пражыць самім і накарміць дзяцей, рабілі на градах, у лесе схроны, дзе захоўвалі зерне, сала, крупы, агародніну. У лесе рабілі буданы для сябе і свойскай жывёлы, каб выжыць у час шматлікіх карных экспедыцый. Людзі галадалі. Асабліва цяжка пераносіўся недахоп солі. Яе замянялі калійнымі ўгнаеннямі, якія адпаведным чынам апрацоўвалі[213]. А калі хто дзе раз-

---

[210] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 108, воп. 1, спр. 11, л. 11, 27.

[211] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 46.

[212] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 1, спр. 909, л. 95—96.

[213] Залескі А. І. Быт беларускіх сялян у партызанскім краі. Мн., 1960. С. 107.

жываўся на дробак солі, то насіў яе ў насоўцы, завязанай вузельчыкам[214].

Асноўнымі прадуктамі харчавання былі іржаны хлеб і бульба. Салілі сала, складвалі ў кублы, нарыхтоўвалі ў запас мяса, для гэтага яго прасольвалі некалькі месяцаў, а затым высушвалі на ветры і сонцы. На зіму шынкавалі капусту, квасілі буракі. Па традыцыі і па магчымасці елі 3 разы ў дзень. У меню спалучаліся першыя стравы (баршчы, супы) з другімі (крупяныя і бульбяныя кашы, тушаная, печаная бульба і інш.)[215]. Выкарыстоўвалі ў ежу грыбы, ягады, розныя травы: лебяду, крапіву, хвошч і інш.

Для партызанскіх атрадаў у час вайны былі створаны харчовыя запасы, частка прадуктаў паступала з-за фронта. Рабіліся канфіскацыі прадуктаў у тых, хто служыў немцам, забіраліся ў немцаў пры нападзе на іх гарнізоны. Вялікую дапамогу аказала насельніцтва вызваленых ад немцаў тэрыторый. Амаль у кожнай сям'і ў партызанах былі сын ці брат, муж, шмат хто ваяваў у арміі. Таму тут дапамога была ўзаемная. Часта партызаны давалі мясцовым жыхарам соль, цукар, запалкі і інш. Знаходзіліся і такія, хто, прыкрыўшыся партызанскім імем, рабавалі сваіх суайчыннікаў. Асабліва гаравала насельніцтва ў час карных экспедыцый. Цуранава-Валогіна Анна Фёдараўна, удзельніца партызанскага руху на Беларусі, у свой час успамінала: «Ніколі не думала, што буду жыць доўга, а мне вось ужо і за семдзесят год. Не магу забыць, як золкай восеннню поўны дзень стаялі па шыю ў балоце, ні мачынкі ў роце не было»[216]. У такіх страшэнных умовах адыходзілі і ад традыцыйных забарон і стэрэатыпаў у харчаванні: не грэбавалі мясам забітых коней, прагрэтым на малым агні, елі траву, заячую кісліцу, вясной — пупышкі ліпы і іншых дрэў, летам — ягады[217].

Пасля вайны, амаль да канца 1950-х гг., сістэма харчавання беларусаў, асабліва ў сельскай мясцовасці, заставалася нязменнай, чаму спрыялі прысядзібныя гаспадаркі, аплата за працадзень збожжам, бульбай, буракамі і інш. У той жа час, з кожным годам адчувалася якаснае яе паляпшэнне. Хлеб на вёсцы выпякалі ў хатніх умовах, але ўжо без усялякіх дамешак, чысты. Выраблялі масла, тварог, сыр. Ужо ў пачатку 1960-х гг. сяляне часткова куплялі пшанічную муку, мяса, рыбу, цукар, чай, макаронныя вырабы. Неабходнай прыналежнасцю штодзённага снедання сталі пшанічныя бліны, розныя кашы з маслам, алеем, смятанай, скваркі з мясам. Вось сведчанне інфарматара з в. Гуркі Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці: «У хаце яшчэ змрок, але сполахі агню прымушаюць мяне прачнуцца. Ля печы завіхаецца бабуля ў цёмнай спадніцы, квяцістай кашулі, галава павязаная белай хусцінкай. Яна пячэ бліны. Яны так і скачуць з патэльні на талерку, круглыя, як сонейка, з маленькімі дзірачкамі і вельмі смачныя. На ўслончыку побач з горкай бліноў цэлая міска растопленага янтарнага масла, латка са смятанай. І мне ўжо карціць вылезці з-пад дзедава кажуха, які аддае кіслай аўчынай, водарам сялянскага двара»[218].

Рост вытворчасці прадукцыі сельскай гаспадаркі, развіццё харчовай прамысловасці забяспечылі пэўныя якасныя змены ў харчаванні насельніцтва. У 1966 г. была ўведзена гарантыраваная аплата працы калгасніка, што таксама прывяло да змен у сістэме харчавання. На вёсцы перасталі выпякаць хлеб, а пачалі купляць у краме. У хатніх умовах з гэтага часу гатуюць

---

[214] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 46.

[215] Залескі А. І. Быт беларускіх сялян у партызанскім краі. С. 108—110.

[216] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 46.

[217] Там жа.

[218] Там жа, ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 47.




78. Спажыванне асноўных прадуктаў харчавання на душу насельніцтва ў год, кг: 1 — хлебныя прадукты, 2 — агародніна, 3 — бульба, 4 — алей, 5 — цукар, 6 — рыба і рыбапрадукты, 7 — яйкі, шт., 8 — малака і малочныя прадукты ў пераліку на малако, 9 — мяса, уключаючы субпрадукты І, ІІ катэгорый і тлушч

толькі булкі, піражкі. Да свята выпякаюць пірагі з пшанічнай мукі ці тарты. Беларусы, як і раней, аддаюць перавагу жытняму хлебу, штодзень на стале ў іх бывае бульба ў розных варыянтах: вараная, смажаная ці печаная, тушаная. Як і раней, маюць вялікае пашырэнне крупяныя стравы: пярловая, ячная, аўсяная кашы; супы: крупнікі з пярлоўкай, горохам, фасоллю, грыбамі. Новаўвядзенне — кашы і супы з рысам, кашы манная і пшанічная. Часта цяпер да каш гатуюць розныя падлівы і соусы, ужываюць кашу ў якасці гарніра для другіх страў. Як і калісь, з першых страў шырока распаўсюджаны баршчы, капуста, якія сталі больш каларыйныя, паколькі гатуюцца на мясным булёне, запраўляюцца смятанай. Даволі разнастайнымі сталі супы з агародніны на мясным бульёне (расольнік, салянка) ці малочныя. Усе часцей ужываюцца салаты з агародніны: з квашанай ці свежай капустай, агуркамі, памідорамі, салодкім перцам, рэдзькай, морквай, варанымі буракамі, заваложаныя алеем, смятанай ці маянэзам. Вялікім попытам карыстаецца вінегрэт, салат з агародніны і мяса ці каўбасы (мясны салат). Вырасла спажыванне садавіны і ягад, як свежых, так і ў кансерваваным выглядзе. Зусім новая з'ява, не характэрная для традыцыйнай кухні, — прыгатаванне варэння, павідла, кампотаў і сокаў з ягад і садавіны. Як і раней, у дзежках квасяць капусту, агуркі, яблыкі, на сонцы ці ў печы сушаць садавіну (яблыкі, слівы, грушы) і ягады (чарніцы, маліны, суніцы), грыбы. Больш стала ўжывацца яек, цукру, мяса, рыбы, малака і малочных прадуктаў. Знізілася ўжыванне бульбы, хлеба.

Да густу прыйшліся какао, кава, цукеркі, шакалад, розныя напіткі. Стравы, што раней гатавалі на свята, сталі штодзённымі: тушанае і смажанае мяса, каўбасы, яечня. У той жа час, некаторыя штодзённыя стравы (дранікі, калдуны, бабка, мачанка) пераходзяць на святочны стол і служаць свайго роду этнічнай рысай беларускай кулінарыі, тым больш што падаюцца яны ў прыгожых керамічных гаршчочках, арнаментаваных па народным традыцыям.

На характар харчавання вялікі ўплыў аказваюць міграцыйныя ўзаемасувязі вёскі і горада. Як паказалі матэрыялы даследавання 1976 г., выхадцы з сяла ў большай ступені, чым мігранты з парадоў, захоўваюць этнічную спецыфіку ежы, сярод іх 70% пастаянна гатуюць нацыянальныя стравы[219].

Вялікае месца ў жыцці беларусаў, амаль да канца 80-х гг., займала сістэма грамадскага харчавання, якая спрыяла распаўсюджанню навінак кулінарыі, лепшых нацыянальных страў іншых народаў. Пад яе ўплывам у харчаванні насельніцтва Беларусі, разам з традыцыйнымі беларускімі стравамі, сталі ўжывацца рускія пельмені, украінскі боршч, грузінскі суп-харчо, шашлык, узбекскі плоў, а таксама ўніверсальныя мясныя стравы: катлеты, біткі, адбіўныя, біфштэкс, шніцэль, тэфтэлі, галубцы і інш. Характэрна, што гэтыя стравы ўвайшлі і ў сямейнае меню. У той жа час, у меню кафэ, рэстаранаў, сталовых знайшлі сваё месца традыцыйныя беларускія дранікі, клецкі, мачанка, тушаная бульба з мясам, налиснікі, мядовы квас і інш. У Мінску і абласных цэнтрах ёсць спецыяльныя «Бульбяныя», дзе можна паспытаць разнастайныя стравы з бульбы.

Інтэнсіўныя кантакты паміж прадстаўнікамі розных этнічных груп, што жывуць у рэспубліцы, прывялі да ўзаемапранікнення нацыянальных страў. Беларусы гатуюць такую нацыянальную яўрэйскую страву, як фаршыраваную рыбу, а яўрэі, нягледзячы на традыцыйныя забароны, ужываюць свініну, сялянскую каўбасу і інш[220]. Па наяўных даных, у беларускай кулінарыі налічваецца больш чым 250 мучных, крупяных страў, вырабаў з гароху і фасолі, бобу, сачавіцы, прыкладна 260 малочна-тварожных, звыш 350 сала-мясных і рыбных; вядома 550 страў з бульбы, больш чым 480 агародных, грыбных, фруктовых страў, напіткаў[221].

Па традыцыі, захоўваецца трохразовы рэжым харчавання, але асобныя сем'і ўжо перайшлі і на чатырохразовы прыём ежы, асабліва дзе ёсць дзеці і хворыя. З побыту насельніцтва знікалі царкоўныя забароны — пасты. Аднак апошнім часам пад уплывам новых павеваў і ў сувязі з пераглядам адносін грамадства да царквы яны зноў адраджаюцца, асабліва штотыднёвыя — у сераду ці пятніцу. З канца 80-х гг. зменшылася роля грамадскага харчавання ў жыцці беларусаў, рост цэн прымусіў большую частку насельніцтва харчавацца дома ці насіць «сабойкі», што, зразумела, не дабавіць здароўя людзям. Змянілася тэхналогія прыгатавання страў. Традыцыйная руская печ ужо не адыгрывае той ролі, якую яна мела раней. Ёю большай часткай карыстаюцца зімой — для ацяплення і гатавання ежы. У летні час печы паляць не кожны дзень (калі трэба сушыць грыбы, ягады, садавіну). Страву ж гатуюць галоўным чынам на электрычных і газавых плітах, што мае як свае станоўчыя (хуткасць), так і адмоўныя вынікі (каша, бабка, капуста, што таміліся і парыліся ў печы, набываюць непаўторны смак і пах).

---

[219] Касперович Г. И. Миграция населения в города и этнические процессы. Мн., 1985. С. 81.

[220] Гурков В. С. Интернационализация материальной культуры // Этнические процессы и образ жизни. Мн., 1980. С. 163.

[221] Корзун І. П. Беларуская кухня. Мн., 1991. С. 19.

І сёння беларусы не абыходзяцца без святочнага застолля, абрадавых страў. Хлебам-соллю сустракаюць дарагіх гасцей. Па традыцыі, на куце садзяць самых ганаровых людзей. Сервіроўка святочнага стала набыла новыя рысы. Даўно ўжо запамяталі той час, калі ўсе елі з адной міскі і пілі з адной чаркі. Кожнаму госцю — свая талерка, відэлец, нож, малы бакал для спіртнога і вялікі для напояў. Па традыцыі, стол накрываецца белым ільняным абрусам. Посуд самы разнастайны: лазовыя і саламяныя хлебніцы, керамічныя і фарфоравыя міскі, паўміскі, талеркі, чашкі, шкляныя і хрустальныя келіхі, вазы для цукерак, садавіны і шмат чаго іншага. Посуд, як правіла, захоўваецца ў шафах на кухні, больш прэстыжны і прыгожы (розныя сервізы) — у так званых «сценках» на зале. Бадай што найлепш народныя традыцыі захаваліся ў сямейнай абраднасці. На вяселлі маладых абсыпаюць зернем, хмелем, цукеркамі, сустракаюць хлебам-соллю: «Хлебам-соллю сустракаем і на быт добры, і на век доўгі». На вясельным стале побач з традыцыйнымі (смажаныя птушка, парася, каўбасы і інш.) ужываюцца і новыя стравы: катлеты, адбіўныя, мясныя салаты з агародніны, яйкі з грыбамі, сялёдка з цыбуляй, на дэсэрт падаюць піражнае ці торт, каву або чай. У вёсках, асабліва на Палессі, на вяселле выпякаюць каравай, падзел яго суправаджаецца сімвалічным абменам, калі госці даюць падарункі і ў сваю чаргу далучаюцца да долі (як бы дастатку). Дзе-нідзе на радзінах адбываецца падзел «бабінай кашы», якая гатуецца з рысавых, ячных, грэцкіх круп. Але ўсё часцей «бабіну кашу» замяняюць тортам, пячэннем, цукеркамі. Трывала захоўваюцца беларусамі памінальныя абрады і звычаі. Асабліва шырока распаўсюджаны памінкі на 3-і, 9-ы, 40-ы дзень і праз год пасля смерці. На жалобным стале абавязковай рытуальнай ежай з'яўляецца куцця («сыта», «канун»). Ёсць у беларусаў і агульныя памінальныя дні: Радаўніца, Наўскі Вялікдзень, Сёмуха, Дзяды, Задушны дзень і інш. Праз забароны і ганенні дайшоў да сённяшняга часу святочны стол на Вялікадні. Звычайна трапеза пачынаецца з падзелу чырвонага яйка старэйшым членам сям'і па кавалачку кожнаму, «каб не блудзілі ў лесе». Прысутнічаюць гульнявыя моманты: гульня «ў біткі» (чыё яйка мацнейшае), дарэнне яек, абменьванне імі. Напярэдадні свята веруючыя ходзяць у царкву, моляцца, «свенцяць» яйкі, пірагі.

І тым не менш, мы не можам абыйсці негатыўныя плыні, што падспудна ішлі ў жыцці беларусаў, адбіваючыся на іх ежы і харчаванні. Па-першае, традыцыйная гаспадарка з яе экстэнсіўнай вытворчасцю больш гарманічна спалучаецца з навакольным асяроддзем, прыродай, прадукты яе — экалагічна чыстыя. Тэндэнцыя на паступовае разбурэнне традыцыйнай гаспадаркі, павелічэнне ў рацыёне долі пакупных прадуктаў адмоўна адбілася на якасці штодзённага харчавання. Ужо ў першыя пасляваенныя гады выходзіць з ужытку ільняное і канаплянае масла, якое замяняецца сланечнікавым алеем. Адны ўспаміны засталіся ад грэцкіх бліноў. Знікаюць са штодзённага ўжывання многія некалі распаўсюджаныя справы: зяляніна з закалотай (халаднікі з крапівы, хлебнага, бярозавага, кляновага квасу, капустнага, агурочнага расолу, цыбулі, дзягілю, лебяды і інш.), збіцень, баўтушка, жытняя каша, саладуха, драная каша (з сечаных ячных круп), печаная ў попеле бульба, пражаны гарох, боб, паранка з капусты, параная бручка, путра (кіслая мучная страва), гарохавікі, кіслыя поліўкі, тушаны гарбуз, праснакі, сачні, хатнія каўбасы і шмат чаго іншага[222]. З пераходам на прамысловыя метады гаспадарання, з інтэнсіфікацыяй сельскагаспадарчай вытворчасці, павялічваецца выкарыстанне мінеральных угнаенняў, гербіцыдаў і

---

[222] Корзун І. П. Беларуская кухня. С. 15.

пестыцыдаў, якія пападаюць у харчовыя прадукты і пітную ваду і тым самым наносяць шкоду здароўю людзей. Невыпадкова таму, што ў сельскай мясцовасці смяротнасць людзей у працаздольным узросце вышэй, чым у гарадах, асабліва з прычыны лёгачных захворванняў. Падругое, у апошнія гады ў развіцці сельскай гаспадаркі адбыўся спад: зменшылася вытворчасць бульбы, грэчкі. Скарацілася пагалоўе жывёлы ў грамадскім сектары і ў асабістых падсобных гаспадарках. Галоўная прычына — у адсутнасці парытэта паміж горадам і сялом. Да сённяшняга часу вёска застаецца інвестыцыйным і працоўным донарам развіцця індустрыі. Сітуацыя ўсугубляецца разбурэннем былых эканамічных сувязей у межах СНД. Вынікі не заставілі сябе чакаць: крызіснае становішча на спажывецкім рынку, скрытае і адкрытае павышэнне цэн на прадукты харчавання. Асабліва адчуваецца ў Беларусі недахоп збожжа, цукру, расліннага масла, агародніны і садавіны. Матэрыялы адначасовага даследавання 1990 г., дзе выяўлялася думка насельніцтва аб узроўні спажывання асноўных прадуктаў харчавання, сведчаць: па Беларусі ўдзельная вага апытаных, што спажываюць ў дастатковай колькасці хлеба, — 99%, макаронных вырабаў, крупы, мукі — 90,6%, бульбы — 94,1%, малака і малочных прадуктаў — 88,4%, цукру — 54,7%, кандытарскіх вырабаў — 56,8%, агародніны і садавіны — 26,6%, рыбы і рыбапрадуктаў — 14,9%, мяса і мясапрадуктаў — 29,0%[223]. Сітуацыя з ежай і харчаваннем беларусаў ускладнілася ў сувязі з Чарнобыльскай катастрофай. У выніку аварыі было выведзена з сельскагаспадарчага карыстання каля 300 тыс. гектараў урадлівых зямель. Да таго ж радыяцыя мае ўласцівасць распаўсюджваецца і далей, за межы зоны, накапліваецца ў прадуктах харчавання і вадзе, паслабляючы імунную сістэму чалавека. У гэтых цяжкіх умовах добра было б, адкінуўшы сваркі і амбіцыі, захаваць усё лепшае з традыцыйнай беларускай кухні, знайсці аптымальны варыянт спалучэння асабістых, фермерскіх, калгасных і саўгасных гаспадарак, наладзіць строгі кантроль за якасцю прадуктаў харчавання.

Такім чынам, працэсы, якія адбываюцца ў матэрыяльнай культуры беларусаў, цесна ўзаемасвязаны ў сістэме жыццезабеспячэння этнасу. Трансфармацыя матэрыльнай культуры ідзе ў сувязі са зменамі гаспадарчай дзейнасці, пераўладкаваннем геаграфічнага асяроддзя, сацыяльнымі працэсамі, ўрбанізацыяй. У ходзе сацыяльна-эканамічнага развіцця знікаюць лакальныя і этнічныя адрозненні. Уваходжанне інавацый ў сістэму матэрыяльнай культуры мае розны характар і тэмпы. У жыллё і асабліва адзенне яны пранікаюць даволі хутка, аднак і гэтыя часткі матэрыяльнай сферы жыцця захоўваюць этнічныя традыцыі. Асаблівай устойлівасцю вылучаецца сістэма нацыянальнага харчавання, этнічную спецыфіку якой прыдаюць абрадавыя і асобныя паўсядзённыя стравы. Разам з агульнай тэндэнцыяй да распаўсюджання ўрбанізаваных форм культуры назіраецца своеасаблівая рэкультурацыя традыцыйнага (нацыянальныя стравы, элементы народнага адзення, інтэр'ера жылля і інш.). Традыцыйныя формы ў матэрыяльнай сферы жыццезабеспячэння народа маюць поліфункцыянальны характар. Акрамя ўтылітаранага прызначэння, эстэтычнай функцыі вельмі важнай у плане этнічнага светаўспрымання і светапоглядных уяўленняў з'яўляецца сімвалічны сэнс, звязаны з прадметамі матэрыяльнай культуры. Семіятычныя, знакавыя функцыі матэрыяльнай культуры збліжаюць яе з духоўнай вызначаюць іх адзіную цэласнасць і ўзаемасувязі паміж імі.

---

[223] Народное хозяйство СССР в 1990 г. М., 1991. С. 141.

# ЭВАЛЮЦЫЯ ГРАМАДСКАГА І СЯМЕЙНАГА ПОБЫТУ

Важнейшымі кампанентамі ладу жыцця беларусаў з'яўляюцца іх грамадская дзейнасць, грамадскае правядзенне вольнага часу, грамадскія святы і абрады. У пачатку XX ст. быт вясковых жыхароў моцна адрозніваўся ад гарадскога. У сельскім ладзе жыцця яшчэ захоўвалася грамада, якая рэгламентавала грамадскія і вытворчыя звычаі і традыцыі беларускага народа; дзейнічалі міравыя суды, якія разглядалі справы па патравах, парубках, парушэннях дагавораў аб найме і пакрыцці нанесенай шкоды. Працоўная дзейнасць беларусаў падпарадкавалася земляробчаму календару, народным ведам, якія выпрацоўваліся на працягу стагоддзяў: народная астраномія і касмалогія, метэаралогія, матэматыка, батаніка і заалогія, народная медыцына.

У грамадскім жыцці беларусаў-гараджан атрымала распаўсюджанне гарадское самакіраванне. Распарадчая ўлада ў гарадах па пытаннях народнай адукацыі, аховы здароўя, развіцця гандлю, прамысловасці і добраўпарадкавання належала гарадскім думам, якія выбіраліся на 4 гады. Выканаўчы орган — гарадская ўправа на чале з гарадскім галавой, яна вырашала пытанні па адкрыццю навучальных устаноў, начлежных дамоў, па добраўпарадкаванню тратуараў, вуліц, будаўніцтву калодзежаў, выконвала самыя разнастайныя ўрадавыя прадпісанні. У грамадскую адміністрацыйна-кіруючую дзейнасць у гарадах была ўцягнута невялікая частка нават прывілеяваных і заможных жыхароў; існаваў пэўны маёмасны і ўзроставы цэнз пры выбарах у гарадскую думу[224]. Сярод членаў гарадскіх дум пераважалі дваране, прадстаўнікі духавенства, паліцэйскага ўпраўлення, урачэбнай інспекцыі і вышэйшага рангу чыноўнікі. У грамадскім жыцці павятовых гарадоў рашаючая роля належала дваранскаму сходу на чале з прадвадзіцелем. Паралельна гарадскому кіраванню дзейнічала і саслоўнае кіраванне, якое ажыццяўлялася мяшчанскай, купецкай і рамеснай управамі, а ў невялікіх гарадах — выбарнымі ад гэтых саслоўяў старастамі і дзесятнікамі. У іх функцыі ўваходзілі: раскладка і збор грамадскіх і казённых падаткаў, кантраляванне выканання гараджанамі гарадскіх павіннасцей і ўказаў урада.

З 1911 г. пачалася дзейнасць земстваў на Беларусі. Яны аказалі пэўную стваральную ролю ў развіцці прамысловасці, земляробства, гандлю, займаліся будаўніцтвам дарог, грамадскіх будынкаў (школ, бальніц, чытальняў, пошт), вялі шырокую культурна-асветніцкую работу сярод насельніцтва. Значнае месца ў грамадскім жыцці гарадоў займалі дабрачынныя і міласэрныя таварыствы, якія арганізоўвалі бясплатныя абеды, снядані, прыюты, будавалі за свой кошт бальніцы, школы, аказвалі дапамогу бедным гімназістам, сіротам. Для гарадской эліты чыноўнікаў, афіцэраў, дваранства існавалі саслоўна-прафесійныя клубы, якія мелі замкнёны характар. У клубах праводзілі балі, маскарады, святы, праходзілі сустрэчы па палітычных, працоўных інтарэсах. Для працоўных гараджан было адкрыта некалькі народных дамоў. Так, 1.01.1902 г. быў адчынены Гродзенскі народны дом, які падпарадкоўваўся губернскаму Камітэту апякунства аб народнай цвярозасці. Пры ім існавала бібліятэка-чытальня, праходзілі чытанні па пытаннях літаратуры, рэлігіі, побыту народа[225]. У губернях, паветах меліся камітэты апякунства аб

[224] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. Мн., 1990. С. 56—57.

[225] Нацыянальны гістарычны архіў г. Гродна, ф. 543, воп. 1, спр. 6, л. 30.

народнай цвярозасці, якія займаліся наглядам за гандлем гарэлачных напояў і імкнуліся абмежаваць п'янства шляхам заахвочвання будаўніцтва народных дамоў, бібліятэк, чытальняў. Пэўную работу па медыцынскай асвеце насельніцтва, збору грошай для пацярпелых ад розных наступстваў вяло таварыства Чырвонага Крыжа. У грамадскім жыцці беларусаў прыкметнай з'явай былі народныя чытанні. Так, 19.10.1913 г. у в. Магілёў у памяшканні Магілёўскага народнага вучылішча адбыліся народныя чытанні «Вясковая туга» і «Тарас Бульба», прысутнічалі сяляне ў колькасці 7 дарослых і 67 дзяцей і падлеткаў; 18.01.1914 г. там жа прыйшлі чытанні «Багамольцы ля святыняў Кіева» і «Яўген Анегін», на лекцыі было 98 чалавек, з іх 75 дзяцей; 8.03.1914 г. у в. Магілёўцы чыталіся лекцыі «Дзе на Русі які народ жыве і чым займаецца», «Дзе любоў, там і бог», прысутнічала 114 чалавек, з іх 65 падлеткаў[226].

Сялянская моладзь збіралася на вячоркі, «попрадкі», спявала беларускія народныя песні, танцавала. Гараджане аддавалі перавагу салдацкім, фабрычным песням і рамансам.

Цяжкія працоўныя будні беларускага селяніна паслядоўна перапыняліся святамі, якія ўтваралі стройны гадавы цыкл. Год пачынаўся з Каляд, якія ў беларусаў, як і ў іншых усходнеславянскіх народаў, прыпадаюць на 6 студзеня — 24 снежня (па ст. ст.). На працягу свята наладжваліся тры абрадавыя вячэры — куцці. Першая — посная, ці вялікая — праўлялася перад першым днём свята, другая — багатая, шчодрая, тоўстая — перад Новым годам і трэцяя — посная, галодная, вадзяная — перад вадахрышчам. Абавязковай стравай на вячэрах была куцця — каша з абтоўчаных у ступе зярнят ячменю ці пшаніцы. Рытуальная ежа суправаджалася цэлым комплексам абрадаў і магічных дзеянняў, скіраваных забяспечыць багаты ўраджай, прыплод хатняй жывёлы, дабрабыт у сям'і. У святочным навагоднім абрадавым цыкле важнае месца займаў абрад калядавання. Калядоўшчыкі, звычайна пераапранутыя маладыя хлопцы, падлеткі, абходзілі кожны двор аднавяскоўцаў, разыгрывалі цэлае прадстаўленне, дзе галоўнымі дзеючымі асобамі былі каза, дзед, маладзіца, цыган і іншыя, спявалі калядныя песні, жадаючы гаспадарам дабрабыту і добрага ўраджаю.

Го-го-го, каза,  
Го-го-го, серая,  
Ну-тка, козачка,  
Расхадзіся-тка  
Па ўсяму двару  
Гаспадарскаму...  
Дзе каза ходзе, —  
Там жыта родзе,  
Дзе не бывае,  
Там вылягае.[227]

Характэрнымі для свята былі і «шчадроўкі». Тут ужо дзяўчаты хадзілі са «Шчодрай» — прыгожай дзяўчынай, таксама як і калядоўшчыкі, не абмінаючы ніводзін сялянскі двор, спявалі велічальна-віншавальныя песні-«шчадроўкі», за якія атрымлівалі ўзнагароду. У навагоднюю ноч вялікае значэнне надавалася варажбе. Асабліва захапляліся ёю маладыя дзяўчаты, якія імкнуліся выгадаць свой лёс, суджанага, яго характар і нават матэрыяльнае становішча. Варажба прыцягвала і маладых хлопцаў, дзяцей і замужніх жанчын, шмат каго з іх хвалявалі адвечныя пытанні жыцця і смерці, багацця і беднасці, здароўя і хваробы[228]. На Масленіцу адзначалі праводзіны зімы і сустрэчу вясны. У масленічных звычаях і песнях было шмат выхаваўчых моман-

---

[226] Нацыянальны гістарычны архіў г. Гродна, ф. 22, воп. 11, спр. 12, л. 21.

[227] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Вильна, 1912. Вып. 8—9: Быт белоруса. С. 108—109.

[228] Земляробчы каляндар. Мн., 1990. С. 27.

таў, скіраваных на ўмацаванне маладой сям'і, заключэнне новых шлюбаў, далучэнне да матухны-прыроды. Абавязковым на Масленіцу былі малочныя стравы: сыр, масла, а таксама бліны, аладкі. Моладзь гушкалася на арэлях (каб лён доўгім быў), каталася на санках, коўзалася на ледашах.

Як толькі сонейка паварочвала на вясну, і пагоркі вызваляліся ад снегу, дзяўчаты выходзілі на высокае месца (горку, бераг ракі, возера) ці залазілі на стрэхі хат, гумнаў і клікалі, гукалі вясну. Ад вёскі да вёскі гучалі цудоўныя мелодыі веснавых песень.

На Саракі пяклі з цеста сорак жаваранкаў, дзеці падкідвалі іх угору з просьбай, каб хутчэй прыляталі птушкі. У Вербную нядзелю (Вербніцу) усіх членаў сям'і старэйшыя, што пабывалі ў царкве, хвасталі асвячонай галінкай вярбы, прыгаворваючы: «Не я б'ю, вярба б'е. За тыдзень Вялікдзень. Будзе здароў, як вада. А расці, як вярба! Будзь здароў на ўвесь год».

Самым вялікім веснавым святам быў Вялікдзень. На першы дзень свята хадзілі сачыць «гульню» сонца, наладжвалі багаты стол, на якім абавязкова прысутнічала чырвонае, звычайна асвячонае ў царкве велікоднае яйка, з якога і пачыналі застолле. Падлеткі, моладзь гушкаліся на арэлях, гулялі і качалі велікодныя яйкі з горкі. Маладыя мужчыны і хлопцы хадзілі валачобнікамі, жадаючы ў сваіх песнях гаспадарам плёну на ніве, добрага здароўя, дабрабыту. Менавіта валачобныя песні ўвасаблялі этнічную адметнасць традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў.

Рознымі магічнымі дзеяннямі і абрадамі суправаджаўся першы выган жывёлы ў поле (Юр'я). На Сёмуху (Тройцу) хату і падвор'е ўбіралі «маем»: галінкамі бярозы і клёна, аерам. У гэта ж свята ўшаноўвалі продкаў. Веснавыя звычаі і абрады заканчваліся Русальным тыднем.

Самым вялікім і маляўнічым летнім святам было Купалле, якое адзначалася ў гонар летняга сонцастаяння, як свята найвышэйшага росквіту жыватворных сіл зямлі, прыроды. Яно суправаджалася цэлым комплексам абрадаў, павер'яў, магічных дзеянняў, любоўнай і аграрнай варажбой. Днём дзяўчаты збіралі светаянскія (купальскія) зёлкі, якія мелі асаблівую лекавую сілу ў гэты час і выкарыстоўваліся ў сям'і на працягу года, плялі з кветак вянкі. У чарадзейную купальскую ноч раскладвалася вогнішча, а над ім уздымалася запаленае прасмаленае кола, юнакі і дзяўчаты, узяўшыся за рукі, парамі скакалі праз агонь, вадзілі карагоды, шукалі папараць-кветку. А раніцою купаліся ў рацэ ці каталіся па расе (ахоўна-ачышчальнае дзеянне) і ішлі глядзець узыход сонца, якое ў гэты дзень, паводле павер'яў, як бы іграе, пераліваецца бляскам, што лічылася за добры знак на багаты ўраджай.

Цікавымі абрадамі суправаджалася жніво. Пачыналася яно з «зажынаю», а заканчвалася «дажынкамі». Характэрнымі для іх было ўшанаванне першага снапа (гаспадара), «завіванне барады», жніўныя песні.

Восень у гадавым коле абрадаў выглядзела больш сціпла. З асенніх свят вылучаліся Ўзвіжанне, Багач, Асяніны (Змітроўскія Дзяды), Пакровы.

На пачатак XX ст. святы і абрады ўяўлялі сабой цэласную сістэму духоўных, эстэтычных, маральных каштоўнасцей і арыентыраў беларусаў. У грамадскім жыцці гараджан важнае значэнне мелі каляндарныя святы і абрады, сінкрэтычна звязаныя з царкоўным календаром. У час гэтых свят адбываліся масавыя гулянні, кірмашы, вечарам гараджане сем'ямі хадзілі адзін да аднаго ў госці[229]. Традыцыйнымі для губернскіх гарадоў былі святкаванні адметных дат са дня заснавання губерняў. Так, 1.01.1902 г. у Гродне адбылася ўрачыстасць з нагоды

[229] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. С. 66.

стагоддзя існавання Гродзенскай губерні. У 9,5 гадзіны прайшла боская літургія і ўрачыстае малебства ў кафедральным Сафійскім саборы, а ў 15 гадзін адбылося ўрачыстае пасяджэнне губернскага Статыстычнага камітэта; 2.01 ў гарадскім тэатры быў дадзены бясплатны спектакль для служачых усіх ведамстваў; 3.01 прайшлі публічныя чытанні са светавымі малюнкамі аб 100-годдзі губерні[230].

Сацыяльныя ўзрушанні пачатку XX ст. пацягнулі за сабой змены форм грамадскага побыту беларусаў. Пад уплывам сацыяльна-палітычных працэсаў сталі закладвацца асновы новага грамадскага жыцця, формы якога з цягам часу змяняліся, адны з іх як не адпавядаючыя менталітэту і светаадчуванню беларусаў адвяргаліся, другія ж сталі новай традыцыяй. У 1920-я гг. увайшлі ў жыццё мітынгі, дэманстрацыі, сходы. Старыя формы мясцовага самакіравання ліквідаваліся, іх функцыі перайшлі да Саветаў. Яны сталі масавай формай удзелу народа ў самакіраванні. У горадзе і на вёсцы праводзіліся канферэнцыі і сходы рабочых і сялян, на якіх выбіралі дэлегатаў на з'езды гарадскіх, павятовых і валасных саветаў. Новыя грамадскія адносіны беларусаў знайшлі праяўленне ў партыйнай, камсамольскай і прафсаюзнай рабоце. У 1928 г. у рэспубліцы налічвалася 31694 членаў партыі, з іх 53,2% беларусаў[231].

Імкліва раслі рады Камуністычнага Саюза Моладзі. У 1925 г. налічвалася 21395 камсамольцаў (68,8% з іх былі беларусы), у 1927 г. — 52896 (67% беларусаў)[232]. Камуністы і камсамольцы займаліся ідэалагічным выхаваннем, палітычнай асветай народа, у тым ліку атэістычнай прапагандай. У быт беларусаў увайшлі камсамольскія вяселлі, чырвоныя хрэсьбіны, чырвоны вялікдзень і інш.

Прафсаюзы Беларусі на 1.01.1926 г. аб'ядноўвалі 149 тыс. рабочых і служачых[233]. З дапамогай вытворчых нарад прафсаюзныя арганізацыі ўцягвалі ў кіраўніцтва вытворчасцю шырокія слаі рабочых. Свае намаганні яны сканцэнтроўвалі на пытаннях павышэння вытворчасці працы, зніжэння себякошту, паляпшэння якасці вырабаў, умацавання працоўнай дысцыпліны. Прафсаюзы займаліся арганізацыяй сацыяльнага страхавання, паляпшэннем матэрыяльнага становішча і бытавых умоў працоўных, арганізацыяй культурна-асветніцкай работы.

У гэтыя гады ўзнікалі розныя грамадскія арганізацыі працоўных: шэфскія, культурна-асветніцкія, абаронныя, спартыўныя і інш. Шэфскія ячэйкі былі створаны пры большасці буйных прадпрыемстваў і ўстаноў. Яны праводзілі арганізатарскую і палітычную работу ў горадзе і на вёсцы, спрыялі ўмацаванню сувязей паміж рабочымі і сялянамі. З іх дапамогай утвараліся кааперацывы, машынныя і іншыя аб'яднанні.

У Беларусі разгарнулі дзейнасць Міжнародная арганізацыя дапамогі барацьбітам рэвалюцыі (МОПР), таварыства «Прэч непісьменнасць», Таварыства садзейнічання абароне і авіяцыйна-хімічнаму будаўніцтву, Таварыства Чырвонага Крыжа, Саюз ваяўнічых бязбожнікаў і іншыя арганізацыі. Сярод іх, бадай што, найбольшую станоўчую ролю адыграла таварыства «Прэч непісьменнасць», якое праводзіла вялікую працу па навучанню грамаце рабочых і сялян, далучала іх да ведаў. На Беларусі ў 1927 г. налічвалася да 1200 гурткоў ваенных ведаў, працавалі ваеннасанітарныя курсы, пасты паветранага назірання, 100 абсталяваных ціраў, праводзіліся «Тыдні абароны»[234]. Сетка

[230] Солоневич Л. Краткий исторический очерк Гродненской губернии за столетие ее существования (1802—1902). Гродно, 1902. С. 106.

[231] НАРБ, ф. 4-п, воп. 3, спр. 30, ч. II, л. 409.

[232] Там жа, воп. 3, спр. 21, ч. II, л. 426, 441.

[233] История Белорусской ССР. Мн., 1977. С. 286.

[234] НАРБ, ф. 4-п, воп. 3, спр. 21, ч. II, л. 364.

стралковых гурткоў была недастатковай з-за недахопу стрэльбаў. Таварыствам садзейнічання абароне сабрана ў фонд «Наш адказ Чэмберлену» 39938 рублёў[235].

Шырокі размах у 20-я гг. атрымаў краязнаўчы рух. Аматары-краязнаўцы апісвалі грамадскае і эканамічнае жыццё ў рэспубліцы, яе прыродныя ўмовы: глебы, карысныя выкапні, жывёльны і раслінны свет; вывучалі гісторыю народа, яго мову, святы і абрады, фальклор, звычаі, народныя веды і вераванні. Гэта пазітыўна ўплывала на нацыянальныя пачуцці, развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. У 1926 г. на Беларусі існавала 167 краязнаўчых арганізацый, у якіх налічвалася больш за 4000 чалавек, у 1930 г. ужо было 333 арганізацыі з 8819 членамі[236]. На Беларусі ў пачатку 1930 г. было 4 акруговых, 15 раённых і 12 школьных краязнаўчых музеяў і 8 краязнаўчых куткоў. Адзначаючы станоўчую дзейнасць краязнаўцаў у прывіцці любові да роднага краю, сваёй малой радзімы, можна ўсё ж заўважыць, што яны разглядалі народныя традыцыі, народную культуру як перажытак, які не трэба браць з сабой у новае жыццё. Галоўная накіраванасць іх даследаванняў была ў пошуках расткоў новага: звычаяў, абрадаў, нават новага фальклору. Вялікую ролю ў развіцці краязнаўства адыгрываў часопіс «Наш край», які праіснаваў усяго 5 год. Кожны яго нумар — гэта люстэрка жыцця народа, стан яго культуры, матэрыяльнага дабрабыту.

У сельскай мясцовасці часта скліканіся сельскія сходы. Напрыклад, па Хацюкоўскаму сельскаму савету ў перыяд з 1.4.1927 па 1.4.1928 гг. адбылося 57 сходаў, з іх 11 сходаў — па в. Восава, 10 — па в. Шчаўры, 9 — па в. Хацюкова, 6 — па в. Ігрышчы. Значная частка сходаў адбывалася летам, часам па некалькі разоў на працягу тыдня. Гэта выклікала нараканні сялян: «За сходам мы не маем часу нават паспаць» (Каменскі сельскі савет)[237]. Характэрна, што сярэдні ўдзел насельніцтва ў сходах быў у большасці нізкі. Па Струманскаму сельскаму савету яўка на шэраг сходаў хісталася ад 24 да 44%, па Кармянскаму мястэчковаму савету — ад 27 да 69%[238]. На сходах вырашаліся пытанні па самаабкладанню, аб размеркаванні сенажаці, адчыненні ясляў, школ і інш.

З першых гадоў савецкай улады фарміруюцца дзяржаўныя святы і памятныя дні: Новы год (1 студзеня), Дзень звяржэння самадзяржаўя (12 сакавіка), Дзень Парыжскай камуны (18 сакавіка), Дзень Інтэрнацыянала (1 мая), Дзень пралетарскай рэвалюцыі (7 лістапада) і інш. Склад іх не застаўся нязменным. Шмат якія з дзяржаўных свят не ўсталяваліся ў побыце людзей і сталі здабыткам гісторыі.

Неад'емнымі кампанентамі рэвалюцыйных урачыстасцей таго часу былі мітынгі, дэманстрацыі працоўных, якія неслі сцягі, транспаранты, плакаты. Дастаткова тыповы прыклад — святкаванне Кастрычніка ў г. Віцебску: «Вечарам 6 лістапада 1918 г. у горадзе і губерні, як і ва ўсёй маладой Рэспубліцы Саветаў, пачаліся ўрачыстасці, пасвечаныя 1-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Успыхнулі ракеты. З Успенскай горкі грымнула некалькі выстралаў, завылі сірэны на заводах. Гэта было сігналам да шэсця. На вуліцы і плошчы вячэрняга горада выйшлі тысячы радасных рабочых, работніц і чырвонаармейцаў. Пачалося грандыёзнае і значнае шэсце, якога не ведала гісторыя горада, пад лесам сцягоў, транспарантаў і лозунгаў. Калі галаўная частка працэсіі была

[235] НАРБ, ф. 4-п, воп. 3, спр. 22, л. 310.

[236] Бандарчык В. К. Краязнаўства і яго роля ў павышэнні нацыянальнай свядомасці беларусаў // Культурная спадчына ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці народа. Матэрыялы да навукова-тэарэтычнай канферэнцыі. Мн., 1994. С. 20—21.

[237] НАРБ, ф. 4-п, воп. 3, спр. 9, л. 571.

[238] Там жа, л. 574.

ўжо на вуглу Суворaўскай і Смаленскай вуліц — канечнага пункта шэсця, — хвост яе знаходзіўся яшчэ на Вакзальнай вуліцы. На плошчы Свабоды з трыбуны прамоўцы сустракалі кожную калону, кідаючы прывітанні-лозунгі. У адказ грымела радаснае «ура». Горад грымеў музыкай і спевамі песен рабочай рэвалюцыі. Шэсце закончылася пасля 11 гадзін вечара.

7 лістапада святкаванне прадаўжалася з яшчэ большым размахам. У дэманстрацыях і мітынгах прынялі ўдзел каля 60 тысяч чалавек. Да гэтага дня былі выпушчаны спецыяльныя друкаваныя выданні. З аўтамабіля, які курсіраваў па вуліцах, раскідваліся лістоўкі з заклікамі і вершамі, брашуры «Чырвоная гадаўшчына», «Да зброі», «Год рэвалюцыі ў Віцебску», святочная вучнёўская газета. Вечарам у тэатрах і клубах ішлі пастаноўкі рэвалюцыйнага зместу, мітынгі і канцэрты»[239].

Першамайскія дні прапагандаваліся як свята працы. У 1920 г. адзначаўся Ўсерасійскі суботнік. У 1921 г. на вёсцы святкавалі ўрачыстасць 2 мая, каб асноўныя сілы горада ў сваіх падшэфных вёсках змаглі далучыць сялян да рэвалюцыйнага свята. Рабочыя і чырвонаармейцы вялі прапаганду супраць святкавання Вялікадня, які супадаў з Першамаем. Газета «Звязда» ад 8.03.1923 г. пісала: «Першы этап нашай антырэлігійнай кампаніі можна лічыць цалкам закончаным. У дні пасхі будуць працаваць амаль усе рабочыя і служачыя... Рабочы павінен святкаваць толькі свае пралетарскія святы, а ўсе іншыя ён пакідае буржуазіі і рэлігійным клікушам». Рэвалюцыйныя святы падтрымліваліся дзяржавай, а вось у працілегласць ім дзяржаўнае святкаванне рэлігійных, каляндарна-аграрных абрадаў было адменена. Паказальна, што ў канву рэвалюцыйных свят уключаліся актыўная прапаганда лепшых работнікаў, ушанаўванне герояў працы.

Паступова складвалася працоўная абраднасць. Першы вопыт новай працоўнай абраднасці на вёсцы — Дзень ураджаю. Па задумцы ён павінен быў выцесніць рэлігійны Пакроў, мець рэвалюцыйны характар. У цыркуляры ад 22.09.1924 г., дасланым у акруговыя і раённыя аддзелы народнай адукацыі, прапаноўвалася праграма свята «Дзень ураджаю», даваліся агульныя рэкамендацыі па яго арганізацыі і падрыхтоўцы[240]. У праграму ўрачыстасці ўключаліся масавыя сходы, на якіх выступалі аграномы, кіраўнікі гаспадарак з дакладамі аб становішчы сельскай гаспадаркі; адбывалася прэміраванне і ўшаноўванне сялян, узнагарода іх пахвальнымі лістамі; прагляд выставак сельскагаспадарчай прадукцыі; вечарам спектакль або канцэрт мастацкай самадзейнасці. Так, напрыклад, праходзіла ў 1923 г. свята ўраджаю ў Беларучскай воласці Мінскага павета: «З акаляючых вёсак прыехалі сяляне і прывезлі прадукты сваёй працы, вынікі ўраджаю. Атрымалася невялічкая выстаўка, на якой можна было ўбачыць усялякага роду вырабы сельскай гаспадаркі. Тут жа былі невялікія паказальныя ўчасткі зямлі, распрацаваныя па шматпольнай сістэме севазвароту, дзе сяляне ўвачавідкі маглі бачыць пры дапамозе тлумачэнняў агранома ўсю выгаднасць новай сістэмы. Затым былі выстаўлены некаторыя ўзоры сельгасмашын, да якіх сяляне праявілі вялікую цікавасць. Пасярэдзіне выстаўкі была пабудавана трыбуна, вакол яе Чырвоныя Сцягі і лозунгі «Дня ўраджаю». Пасля агляду выстаўкі адбыўся мітынг, на якім выступалі аратары. У заключэнне лепшыя з лепшых былі ўзнагароджаны падарункамі, да піджакоў прыколаты булаўкі з партрэтамі Леніна. Пасля чаго

[239] Шамшур В. В. Празднества революции. Мн., 1989. С. 34.

[240] Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці, ф. 170, воп. 1, спр. 107, л. 145, 147—149.

з песняй «Смело товарищи в ногу» са сцягам народныя масы пайшлі ў цэнтр воласці, дзе вечарам у нардоме адбыўся канцэрт і спектакль»[241].

Рэвалюцыя выклікала энтузіязм. Упершыню народ паверыў, што ён ад гэтага часу будзе вольны, і захацеў дзейнічаць у імя зразумелай яму высокай ідэі. Цяжкасці здаваліся неістотнымі, а камунізм такім блізкім, такім рэальным. З вышыні сённяшняга разумення не будзем сурова судзіць падзвіжнікаў таго часу, многія з іх не ведалі, што тварылі. У парыве барацьбы за справядлівасць, лепшае жыццё з «карабля гісторыі» выкідвалася «старызна», у якую залічылі і адвечныя духоўныя каштоўнасці народа: яго святы і абрады, народныя песні і казкі, вераванні і рэлігію — тое багацце, што складала гістарычную памяць беларусаў, іх самасвядомасць. А свабода аказалася ілюзорнай. Узмацняўся дзяржаўны кантроль за сферай ідэалогіі, у тым ліку за абраднасцю. Менавіта з гэтага часу пачаўся падзел на гледачоў і выканаўцаў, тварцоў і спажыўцоў, ад якога мы аніяк не можам вызваліцца і сёння: «Вось ты — пасіўны спажывец, сядзі і слухай лекцыю, даклад, глядзі, як артысты мастацкай самадзейнасці пяюць і пляшуць, выконваюць тое ці іншае абрадавае дзеянне».

У першыя гады савецкай улады новыя дзяржаўныя святы ўкараняліся пераважна ў буйных гарадах, там яны здзіўлялі размахам і відовішчнасцю, падтрымліваліся партыйнымі работнікамі і «свядомай» часткай гарадскога насельніцтва. Сяляне ж хадзілі ў царкву, хрысцілі сваіх дзяцей, вянчаліся, адзначалі Каляды, Вялікдзень і іншыя традыцыйныя святы.

На рубяжы 20—30-х гг., з правядзеннем калектывізацыі адбывалася разбурэнне абшчыннага самакіравання ў сельскім побыце, аднак яго асобныя элементы працягвалі жыць і ў новых умовах (звычай узаемадапамогі — талака і інш.). Грамадская актыўнасць насельніцтва змяняла свае накірункі, ход, узнікалі яе новыя формы, такія як сацыялістычнае спаборніцтва. Яно па-рознаму ўспрымалася насельніцтвам. З аднаго боку, гэта — энтузіязм працоўных, накіраваны на павышэнне вытворчасці працы, паляпшэнне якасці прадукцыі, добраахвотнае зніжэнне расцэнак і павышэнне норм, а з другога — назіраўся скептыцызм і недавер, неразуменне сутнасці спаборніцтва: «Не жадаем уступаць у спаборніцтва, не навязвайце нам», «Няма масла, няма сала, а вы нам тлумачыце аб спаборніцтве»[242].

У сельскай мясцовасці сацыялістычнае спаборніцтва выкарыстоўвалася пры распаўсюджанні сялянскай пазыкі сярод насельніцтва. У некаторых раёнах вывешваліся спіскі тых, хто купіў ці не купіў аблігацыі, «чырвоныя» і «чорныя» дошкі, куды заносіліся самыя актыўныя падпісчыкі і самыя злосныя асобы, якія не куплялі аблігацыі (у асноўным — заможнікі). Таксама практыкаваўся метад выклікаў на спаборніцтва праз сценныя газеты як сярод асобных сялянскіх двароў, так і сярод вёсак, сельсаветаў. Назіраліся выпадкі прымусовага размеркавання аблігацый пры разліках сялян па лесанарыхтоўках. Так, напрыклад, у Бегомльскім раёне ў першую чаргу праводзіліся разлікі з тымі сялянамі, якія згаджаліся набыць аблігацыі, або проста пры разліку ім уручалі аблігацыі[243].

Самая высокая грамадская актыўнасць на вёсцы была сярод настаўнікаў, яны пасля працоўнага дня ў школе вялі гурткі па ліквідацыі непісьменнасці, былі агітатарамі на выбарах, чыталі лекцыі і даклады ў сельскім клубе, распаўсюджвалі сялянскую пазыку сярод насельніцтва, заходзячы ў кожны сялянскі двор.

[241] Звязда. 21 кастрычніка 1923.

[242] НАРБ, ф. 4-п, воп. 3, спр. 34, ч. I, л. 339.

[243] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 3, воп. 1, спр. 250а, л. 97.

Найбольш пашыранымі былі новыя формы грамадскай актыўнасці ў асяроддзі гарадскога насельніцтва. Так, напрыклад, на скуразаводзе «Бальшавік» у г. Мінску 202 чалавека з 750 добраахвотна знізілі расцэнкі, што давала прадпрыемству 1179 руб. эканоміі кожны месяц. Там жа тры майстра адмовіліся ад памочнікаў, выконваючы іх работу, яшчэ двое рабочых бясплатна навучалі сваёй прафесіі вучняў. На абутковай фабрыцы «Самаход» у г. Віцебску рабочыя адмовіліся ад аплаты за прастоі. Кваліфікаваныя рабочыя бясплатна навучалі некваліфікаваных. Па ініцыятыве рабочых высоўваліся новыя формы і метады спаборніцтва: вылучэнне ўпаўнаважаных па спаборніцтву, якія паведамлялі аб недахопах, што перашкаджаюць спаборніцтву, праверачныя брыгады, шэфства над адстаючымі, самаправерачныя патрулі і інш.[244]

У 20—30-я гг. узніклі і замацаваліся ў якасці працоўных традыцый рацыяналізатарства і вынаходніцтва, ударніцтва, зотаўскі і стаханаўскі рухі.

Са зменамі вытворчага побыту, сацыяльных сувязей і адносін, з культурнымі пераўладкаваннямі з'явіліся новыя формы правядзення вольнага часу. Цэнтрам грамадскага жыцця ў горадзе сталі рабочыя клубы, на вёсцы — клубы, народныя дамы, хаты-чытальні. На многіх прадпрыемствах і ў невялічкіх вёсках ствараліся «чырвоныя куткі». Асабліва вялікае месца занялі клубы ў вольным часе, забавах моладзі. У клубе збіраліся дзяўчаты і хлопцы на танцы і святы, сюды прыходзілі, каб паслухаць бяседы, лекцыі, даклады, прачытаць газеты і кнігі, пазаймацца ў гуртках мастацкай самадзейнасці. Толькі ў адной Мінскай вобласці ў 1939 г. налічвалася 5000 самадзейных калектываў самых розных напрамкаў: харавыя, музычныя, драматычныя, танцавальныя, — якія абслугоўвалі святы і іншыя мерапрыемствы, удзельнічалі ў раённых, гарадскіх, абласных, рэспубліканскіх і ўсесаюзных аглядах[245]. Практыкавалася правядзенне раённых, гарадскіх, абласных алімпіяд. Так, у Мінскай абласной алімпіядзе, якая адбылася ў Мінску ў 1941 г., удзельнічала 700 чалавек, у тым ліку з раёнаў — 300, з Мінска — 400 чалавек[246].

Вялікі ўплыў на вольны час сельскіх жыхароў аказалі культурна-шэфскія сувязі горада і вёскі. Дзеячы культуры выязджалі на вёску, дапамагалі ў арганізацыі мастацкай самадзейнасці, чыталі лекцыі, выступалі з канцэртамі. У 1936 г. было запланавана 100 выездаў тэатральных брыгад г. Мінска ў калгасы[247].

Важнай крыніцай інфармацыі для беларусаў сталі газеты, часопісы, кнігі, радыё, якія таксама пачалі адыгрываць прыкметную ролю ў кансалідацыі этнасу. У 1938 г. у рэспубліцы выдавалася 199 рэспубліканскіх, акруговых, гарадскіх, раённых і шматтыражных газет, у тым ліку 149 на беларускай мове. Атрымала развіццё кнігавыдавецкая справа. Калі ў 1929 г. агульны тыраж кніг склаў 2,2 млн экзэмпляраў, то ў 1938 г. — 14,7 млн, з іх на беларускай мове — адпаведна 1,8 і 12,3 млн экзэмпляраў[248].

Вольны час беларусаў паступова страчваў сацыяльныя адрозненні, аднак асобныя праявы іх яшчэ доўга захоўваліся. Інфарматар са Слуцкага раёна ўспамінае: «Да нас на вячоркі ў засценак прыходзілі хлопцы з суседняй вёскі, але барані Бог, каб я, шляхцянка, пайшла з мужыком у круг». Традыцыйнымі месцамі зносін беларусаў засталіся рынкі, кірмашы, на якіх ішоў бойкі гандаль таварамі, абмен навінамі, далучэнне да культуры народа (тэатра, музыкі, спеваў і інш.).

[244] НАРБ, ф. 4-п, воп. 3, спр. 34, ч. 1, л. 338, 339.

[245] Іванова С. С. Народная творчасць Міншчыны: Гісторыя і сучаснасць. Мн., 2000. С. 143.

[246] Там жа. С. 9—10.

[247] Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. Мн., 1993. С. 193—195.

[248] История Белорусской ССР. С. 319.



79. Вёска Кублічы Ушацкага раёна. Базар

У 1930-я гг. адбывалася трансфармацыя святочна-абрадавай культуры народа. Напярэдадні Ражаства Хрыстова, Вялікадня і іншых рэлігійных свят праводзілася тлумачальная работа сярод рабочых і сялян, іх запрашалі ў клубы на мастацкія вечары, забавы, лекцыі і даклады, антырэлігійныя вечары «бязбожніка і ўдарніка». Асаблівая ўвага ўдзялялася барацьбе са святочнымі традыцыямі (чырвоныя яйкі, пірагі і інш.). Аднак традыцыйныя святы і звычаі яшчэ моцна ўтрымліваліся ў быце беларусаў, асабліва старэйшага пакалення.

У той час атрымалі далейшае развіццё дзяржаўныя святы і памятныя дні (Першамай, гадавіна Кастрычніка, 8 Сакавіка, Дзень Савецкай Арміі і інш.). У канву пралетарскіх святаў увайшлі інсцэніроўкі на рэвалюцыйную тэматыку, дэманстрацыі, мітынгі, маёўкі, спевы рэвалюцыйных гімнаў, затым да іх далучыліся ўрачыстыя сходы, уручэнне Чырвонага Сцяга перадавому калектыву, ганаровы каравул вакол яго, урачысты вынас сцяга, прапаганда лепшых работнікаў, ушанаванне герояў працы і інш. Супрацоўнікам хат-чытален, народных дамоў рэкамендавалася праводзіць бяседы сярод насельніцтва з тым, каб да кастрычніцкіх урачыстасцей яны ўбіралі памяшканні, кватэры, рыхтавалі святочныя сталы.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ў жыцці беларусаў павялічылася роля традыцыйнай абраднасці, вырасла рэлігійнасць насельніцтва. У партызанскіх атрадах адзначаліся Кастрычніцкія святы, Першамай. Гэта атаясамлівалася з жаданнем адстаяць Айчыну.

Развіццё грамадскага жыцця беларусаў у пасляваенны час ішло ў рэчышчы тых палітычных, сацыяльна-эканамічных, культурных задач, якія ставіліся перад краінай, рэспублікай. Грамадская дзейнасць

беларусаў выяўлялася ў руху за камуністычныя адносіны да працы, настаўніцтве, у масавым распаўсюджанні працоўных пачынаў па стварэнню ўдарных і гаспадарча-разліковых брыгад высокай якасці, сацыялістычным спаборніцтве і суправаджалася павелічэннем пераважна колькасных паказчыкаў грамадскай актыўнасці, ростам колькасці актывістаў. Гэта не заўсёды прыводзіла да якаснага паляпшэння грамадскай работы і часта насіла фармальны характар. Актыўнасць беларусаў у грамадскім жыцці вызначалася шэрагам прычын, найбольш важныя з іх: узрост, адукацыя, сацыяльна-прафесійны статус, сямейнае становішча, асабістыя схільнасці. Як паказалі матэрыялы этнасацыялагічнага даследавання 1986 г., сельскія жыхары па грамадскай актыўнасці прыкметна ўступалі гараджанам. Гэта звязана ў першую чаргу з асаблівасцямі сельскага і гарадскога ладу жыцця. На вёсцы шмат часу ідзе на вядзенне асабістай падсобнай гаспадаркі, менш вольнага часу застаецца на грамадскую працу, самаадукацыю. Сярод сельскіх жыхароў удзельная вага рэспандэнтаў, якія выконвалі грамадскія даручэнні і знаходзіліся на выбарнай пасадзе, склала 16,8%, сярод гараджан іх было больш — 26,9%. Пастаянныя даручэнні ад грамадскіх арганізацый мелі 12,8% апытаных сельскіх жыхароў і 32,9% гараджан. У гэту групу ўваходзілі прапагандысты, агітатары, лектары, палітінфарматары, члены рэдкалегій газет і інш. Шмат было тых, хто выконваў розныя па сваім характары часовыя даручэнні, сярод сельскіх жыхароў іх удзельная вага складала 14,5%, сярод гараджан — 22,8%. Характэрна, што па меры павышэння адукацыі, сацыяльна-прафесійнага статуса чалавека, сярод камуністаў і камсамольцаў грамадская актыўнасць насельніцтва ўзрастала[249].

На грамадскую актыўнасць беларусаў пэўны ўплыў аказваў тып горада: у невялікіх гарадах з насельніцтвам менш за 50 тыс. чалавек яна ніжэйшая, чым у буйных гарадскіх паселішчах. Магчыма, гэта звязана з большым развіццём у апошніх культурна-інфармацыйных сувязей і меншай занятасцю людзей хатнімі справамі. Цікава адзначыць, што кожнаму другому апытанаму беларусу-гараджаніну і кожнаму трэцяму сельскаму жыхару грамадская праца прыносіла маральнае задавальненне, якое было заснавана на ўсведамленні яе карысці для людзей. Разам з тым, кожны восьмы апытаны беларус і ў вёсцы, і ў горадзе палічыў, што грамадская праца замінае асноўнай працы і сямейнаму жыццю. Некаторыя тлумачылі сваю пасіўнасць у грамадскай дзейнасці занятасцю вучобай, доглядам дзяцей ці фармальным характарам гэтай працы, іншы раз не звязанай з канкрэтным жыццём чалавека.

Рост адукацыйнага ўзроўню беларусаў садзейнічаў іх далучэнню да культурных каштоўнасцей. У вольным часе беларусаў усе большае месца занялі прагляд тэлеперадач, праслухванне радыё, чытанне газет, кніг, часопісаў. Па такіх відах культуры, як прагляд тэлеперадач, праслухванне радыё, вёска практычна зраўнялася з горадам. Так, па нашых даследаваннях (1986 г.), глядзяць тэлеперадачы 98,5% жыхароў вёсак і 99,7% гараджан, слухаюць радыё адпаведна 96,3 і 98,3% (захоўваецца яшчэ пэўнае адрозненне ў аддачы перавагі тым ці іншым перадачам). А па наведванню клубаў сельскія жыхары нават некалькі апярэджваюць гараджан (68,5 і 65,8%). У астатніх сферах узровень культуры сельскага насельніцтва ўсё яшчэ саступае гарадскому, што асабліва відаць у далучэнні да чытання. Чытацкая актыўнасць, рэгулярнасць звароту да кнігі ў сельскіх жыхароў намнога ніжэй. Аднак у аднолькавых па адукацыі групах розніца невялікая, асаб-

---

[249] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. С. 164—167; Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. С. 173—174.



80. Навучэнцы мінскіх рамесных вучылішчаў у нядзелю на прагулцы. 1952 г.

ліва сярод асоб з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Так, сярод работнікаў з вышэйшай адукацыяй штодзень чытаюць газеты 89,2% апытаных гараджан і 88,2% сельскіх жыхароў, рэгулярна наведваюць масавыя бібліятэкі адпаведна 41,3 і 42,8%. Папулярнасцю ў моладзі карыстаюцца аматарскія аб'яднанні, мастацкая самадзейнасць, турызм, спорт, выезды за горад, прагулкі ў парку, на беразе возера ці ракі.

У першыя пасляваенныя гады ішло некаторае ажыўленне рэлігійнасці насельніцтва. У рэлігійна-грамадскім жыцці беларусаў узнаўляліся хросныя ходы, паломніцтва да святых месцаў. Так, летам 1945 г. святар Лунінецкай царквы Скідальскага раёна арганізаваў веруючых і хадзіў па палях, наладжваючы малебства аб прыпыненні дажджу. У 1956 г. у час свята прэпадобнай Ефрасінні ў Полацкі манастыр прыехала не менш 5000 паломнікаў з Ветрынскага, Дрысенскага, Невельскага, Дзісненскага раёнаў, а таксама з Віцебска, Масквы, Смаленска, Ленінграда.

У 60-я гг. назіраўся спад рэлігійнасці, які быў звязаны з ўзмацненнем барацьбы з рэлігіяй, кантролем за дзейнасцю рэлігійных аб'яднанняў, згортваннем царкоўнай сеткі. Наведвальнікі праваслаўных цэркваў — у асноўным сталыя людзі, у большасці сваёй жанчыны. У той жа час на богаслужэннях у асобных касцёлах Міншчыны моладзь складала да 30—35% усіх вернікаў.

У 70-я гг. дзяржаўная палітыка ў адносінах да рэлігіі стала больш лаяльнай. Нягледзячы на тое, што наведванне храмаў зніжалася, больш частымі сталі выпадкі звяртання людзей, якія выраслі ў атэістычных сем'ях, да рэлігіі. На працягу пасляваеннага часу праводзілася многа рэлігійных абрадаў, асабліва хрышчэнняў. У 1986 г. кожны трэці апытаны

сельскі жыхар і кожны чацвёрты гараджанін свядома назваў сябе вернікам.

У пасляваенны час сярод людзей сталага ўзросту выявілася вяртанне да народных абрадавых традыцый. З 1947 г. становіцца нерабочым днём 1 студзеня. Шэраг былых каляндарна-аграрных свят трансфармуюцца ў сучасныя грамадскія, працоўныя святы, якія часткова захоўваюць рытуальныя, эстэтычныя, гульнявыя элементы традыцыйных урачыстасцей.

Працоўная абраднасць характарызуецца наяўнасцю ў ёй вялікай колькасці новых культурна-бытавых форм. Побач з тым, працоўныя святы і абрады акумулююць у сабе багаты народны вопыт, захоўваюць традыцыйную аснову. Другое жыццё ў наш час атрымаў абрад выхаду ў поле, сёння яго называюць «Свята першай баразны». З часам з абраду зніклі старажытныя напластаванні, звязаныя з магічнымі дзействамі, прыкметамі. Захаваўся яго асноўны сэнс: праслаўленне працы аратага і карміцелькі-зямлі, праверка гатоўнасці хлебаробаў і сельскагаспадарчай тэхнікі да выхаду ў поле. З пераўтварэннем быту сельскага насельніцтва змяніліся змест, сімволіка і атрыбутыка абраду. У тэатралізаванае прадстаўленне арганічна ўпісаліся сімвалічныя персанажы: Вясна, Маці-Зямля, Дождж. У свята ўваходзіць рапарт галаўнога агранома аб гатоўнасці да вясенне-палявых работ, ушаноўванне пераможцаў спаборніцтва, герояў жніва мінулага года, канцэрт агітбрыгады. Галоўным момантам свята з'яўляецца правядзенне першай баразны. Права ўзараць яе прадстаўляецца лепшаму механізатару[250].



81. Ушанаванне перадавікоў жніва ў калгасе «Светлы шлях» Капыльскага раёна Мінскай вобласці. 1980 г.

У 60—80-я гг. працэс трансфармацыі працоўных народных традыцый закрануў старадаўнія абрады «зажынкі» (свята першага снапа) і «дажынкі». Значна скарацілася колькасць удзельнікаў жніва. Калі раней галоўнымі дзеючымі асобамі абраду былі жнеі, то ў новых умовах уборка ўраджаю лягла на плечы камбайнёраў, шафёраў, работнікаў збожжатакоў. Аднак жнеі з сярпамі выступаюць абавязковымі ўдзельніцамі абраду. З традыцыйных элементаў засталіся дажыначны сноп, вянок з каласоў, каравай з зерня новага ўраджаю. Дажыначны сноп уручаюць кіраўнікам гаспадарак. Вянкамі, кветкамі, хлебам-соллю адорваюць лепшых камбайнёраў. На свяце прысутнічаюць новыя сімвалічныя персанажы: Ураджай, Лета. Дапаўняюць урачыстасць карнавалы, канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Працоўны вынік гадавой дзейнасці хлебаробаў і жывёлаводаў падводзяць Свята ўраджаю, Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі, кірмашы. Гэтыя святы

[250] Рождённые жизнью: Обряды Советской Белоруссии. Мн., 1988. С. 26.

звычайна праходзяць восенню, часцей у раённых маштабах, радзей у маштабах сельсавета, гаспадарак.

У 70—80-я гг. у побыце сельскага насельніцтва атрымлівалі распаўсюджанне абрады пасвячэння ў жывёлаводы і хлебаробы.

Цікава праходзіў абрад «Пасвячэння ў хлебаробы» ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці. Тут была добра прадумана атрыбутыка (памятная кніжка маладому хлебаробу, чырвоная стужка «Пасвячоны ў хлебаробы», шкатулка з зямлёй калгаснага поля і інш.), даваліся наказы ветэранаў працы, кіраўнікоў. Нярэдка пасвячэнне ў хлебаробы складанай часткай уваходзіла у святкаванне «дажынак», Дня ўраджаю і інш. Матэрыялы абследавання 1986 г. сведчылі, што найбольшае распаўсюджанне на вёсцы мелі ўрачыстасці, звязаныя з паспяховым выкананнем вытворчых планаў. У іх прынялі ўдзел 35,6% апытаных. Кожны трэці з рэспандэнтаў удзельнічаў у святах ураджаю, першага снапа, першай баразны. Пасвячаліся ў прафесію толькі каля 6% рэспандэнтаў.

У 70—80-я гг. праводзіліся сумесныя святы вёскі і горада. Пачыналіся яны ў сельскай мясцовасці, а заканчваліся ў горадзе, куды сельскія працаўнікі прыязджалі на машынах, упрыгожаных кветкамі і транспарантамі. У горадзе іх сустракалі шэфы. Адбываўся абмен рапартамі, падарункамі. Гараджане з задавальненнем рабілі пакупкі на выстаўцы «Дары восені». Асаблівую маляўнічасць урачыстасці надавалі выступленні фальклорных калектываў, спартыўныя спаборніцтвы.

Працэс фарміравання і развіцця працоўнай абраднасці далёкі ад завяршэння. Многія з абрадаў яшчэ знаходзяцца ў стадыі станаўлення, невялікія таксама геаграфія іх распаўсюджання і эфектыўнасць уздзеяння. Пастаянна ідзе пошук новых форм. Напрыклад, цікавая форма працоўнай абраднасці знойдзена ў Сароцкім СДК Любанскага раёна Мінскай вобласці. Гэта ўшаноўванне перадавікоў сельскай гаспадаркі дома. Перадавіка віншуюць з перамогай у спаборніцтве, уручаюць яму букет кветак, гучыць музыка. У гонар хлебароба сіламі мастацкай самадзейнасці даецца невялікі канцэрт. У Талачынскім раёне Віцебскай вобласці культработнікі ў дні нараджэння даярак цёпла віншуюць іх, дораць палявыя кветкі.

Адно з любімых народных свят — Праводзіны зімы («Снежны фестываль») — мае глыбокія карані ў народнай традыцыі беларусаў. Яму папярэднічала Масленіца, якая, на думку даследчыкаў, святкавалася ў гонар язычніцкага бога Вялеса (апякун статка) і звязана са зменамі ў сялянскай гаспадарцы (ацёл свойскай жывёлы). Адсюль і багацце малочных прадуктаў (масла, сыр, тварог), страў, што гатаваліся на малацэ[251]. У 60—80-я гг. свята захавала шэраг масленічных традыцый: пераапрананне, народныя гульні, забавы, бліны з маслам і сырам, спальванне саламянага чучала Зімы. Своеасаблівы каларыт традыцыйнаму масаваму гулянню надаюць катанне на тройках, санках, коўзанне з горак на «казлах», ледзяшах, спартыўныя гульні, спаборніцтвы, конкурсы (бег у мяшку, бег на мятле, на хадулях, перацягванне каната і інш.). Галоўнае ў новым свяце — працоўная тэма, падвядзенне вынікаў мінулага года, ушанаванне людзей працы, падрыхтоўка да вясенне-палявых работ. Разам з тым, неабходна адзначыць, што за апошняе дзесяцігоддзе геаграфія гэтага свята зменшылася. Часта Праводзіны зімы адбываюцца толькі ў гарадах у раённым маштабе ці ў буйных сельскіх паселішчах і не ахопліваюць многія цэнтры сядзіб і сель-

---

[251] Райкова А. М. Беларуская Масленіца ў кантэксце фальклорна-этнаграфічнай традыцыі славян // Славяне: Адзінства і мнагастайнасць. Мн., 1990. Секцыя 5. С. 60—61.



82. Святкаванне Масленіцы ў калгасе «17 верасня» Валожынскага раёна. 1980 г.

саветаў. Тут сказваецца і змяншэнне сельскага несельніцтва і колькасці вёсак, а таксама пралікі ў рабоце ўстаноў культуры.



83. Тройка

У быце народа захоўваецца вясновае свята Вялікдзень, які спалучае язычніцкія і хрысціянскія напластаванні.

Доўгі час такое народнае свята, як Купалле, праходзіла ў рэспубліцы стыхійна. І толькі дзякуючы вялікім намаганням грамадскасці і культасветработнікаў яно ўваходзіць у арганізаванае рэчышча і адраджаецца. На Палессі Купалле стала адной з формаў народнага карнавалу, у якую арганічна ўплецены гульнявыя элементы старадаўняга свята. На Віцебшчыне яно прымае форму своеасаблівага фальклорнага свята, з ярка выяўленым духам спаборніцтва. Спаборнічаюць фальклорныя групы, выканаўцы прыпевак, удзельнікі спартыўных і гульнявых праграм. Праходзяць выстаўкі народных умельцаў. Сярод галоўных дзеючых асоб — традыцыйныя Купаліш і Купалінка[252]. Рэлігійна-

[252] Быт і культура беларусаў: Тэзісы дакладаў навуковай канферэнцыі. Мн., 1984. С. 56—57.



84. Святкаванне Купалля ў вёсцы Дзівін Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. 1990 г.

магічны змест купальскіх абрадаў цалкам страціўся. Абавязковымі рытуаламі, паэтычнымі сімваламі засталіся купальскія кастры, пляценне вянкоў, купальскія песні, пошукі кветкі папараці і інш. Захоўваючы яркі народны каларыт, сучаснае Купалле паэтызуе земляробчую працу і прыроду, услаўляе перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. Аднак у гэтым свяце яшчэ слаба выкарыстоўваецца багатая песенная спадчына купальскіх звычаяў[253].

У комплексе абраднасці беларусаў у пасляваенны час важнае месца належала рэвалюцыйным і дзяржаўным святам і абрадам. Усесаюзнымі ўрачыстасцямі былі гадавіна Кастрычніка, 1 Мая, 8 Сакавіка, Дзень Перамогі. Гэтыя святы не толькі ўвайшлі ў грамадскі быт, але і адзначаліся дома, у сям'і. Традыцыі прасочваліся ў святочным застоллі, у складзе страў, ў формах баўлення часу. Нацыянальная своеасаблівасць праяўлялася ў выкананні побач з агульнасавецкімі беларускіх песень, танцаў, у музычным афармленні свята. Аднак у апошні час ва ўмовах пераасэнсавання нашай гісторыі, гэтыя святы за выключэннем Дня Перамогі і 8 Сакавіка адыходзяць на другі план і святкуюцца не так урачыста, як раней.

Па-сапраўднаму ўсенародным з'яўляецца свята 9 Мая. Стала добрай традыцыяй правядзенне напярэдадні Дня Перамогі «Тыдня Памяці», вечароў сустрэч моладзі з ветэранамі, вечароў-партрэтаў герояў мінулай вайны, сустрэчы былых воінаў і партызан. Шырока адзначаецца ў краіне Дзень вызвалення Беларусі.

У побыт насельніцтва ўваходзяць святы па месцы жыхарства: гарадоў, вуліц, вёсак, сельсаветаў.

Яны маюць ярка выяўленую гісторыка-краязнаўчую накіраванасць, спрыяюць пашырэнню ведаў аб сваёй малой радзіме, выхаванню патрыятычных пачуццяў, служаць крыніцай духоўнасці. Шы-

[253] Ліс А. С. Купальскія песні. Мн., 1974. С. 205.



85. Святкаванне 40-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля манумента Дружбы на мяжы Расіі, Украіны і Беларусі. 1984 г.

рока прадстаўлены на святах выстаўкі народнага мастацтва: ручнікі, посцілкі, паясы, сурвэткі, самаробныя дываны, вырабы ручнога вязання, вышыўкі. Радуюць вока гліняныя цацкі, глячкі і талеркі, якія тут жа выходзяць з-пад працавітай рукі майстра і якія можна набыць ці атрымаць у падарунак. Прываблівають да сябе прыгожыя кошыкі з лазы, вырабы, аздобленыя саломкай, мастацкая разьба па дрэбу, выраб драўлянага посуду і інш. Тут ёсць што пераняць моладзі, каб не згасла рэдкае ўжо майстэрства. Характэрнымі рысамі гэтых урачыстасцей сталі: ушаноўванне ветэранаў вайны і працы, шэсце да манумента загінуўшым на вайне, мітынг-рэквіем, святочны канцэрт, спартыўныя спаборніцтвы і народнае гулянне. У час такіх свят арганізоўваюцца конкурсы на лепшы букет кветак, лепшы двор.

Найбольш шырокае распаўсюджанне ў сельскай мясцовасці атрымалі святы вёсак. Характэрна, што яны праводзяцца не толькі на цэнтральных сядзібах, а і ў «глыбінцы». Арыгінальным рытуалам у правядзенні свят вёсак у Гродзенскай вобласці (Смаргонскі раён) з'яўляецца дзяленне «хлеба памяці» ў гонар загінуўшых аднавяскоўцаў.

«Ганаруся табой, мая вёска, мой лёс, любоў мая!» — гэтыя словы сталі дэвізам свята в. Верцялішкі — цэнтральнай сядзібы калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна. Дзякуючы вялікай падрыхтоўчай рабоце: пісьмам-запрашэнням землякоў, упрыгожванню дамоў і вуліц флагамі і транспарантамі, выстаўкам і конкурсам, — задоўга да пачатку свята ствараецца прыўзняты ўрачысты настрой. І вось на плошчу ўносяцца Чырвоныя Сцягі, якімі ўзнагароджаны калгас. У радах сцяганосцаў самыя ганаровыя людзі. Прамоўцы гавораць аб гісторыі вёскі і яе будучыні, аб людзях, якія сваёй працай упрыгожылі родныя мясціны. У яркім тэатралізаваным паказе раскрываецца ўся гісторыя ад калёс і сахі да магутнай сельскагаспадарчай тэхнікі... На мемарыяльным комплексе, пабудаваным у памяць герояў Вялікай Айчыннай вайны, праходзіць хвалюючая цырымонія мітынгу-рэквіема. У такі дзень доўга гучаць песні і танцы самадзейных артыстаў, праходзяць масавыя спартыўныя спаборніцтвы, ажыўлена працуюць гандлёвыя рады...

Святы па месцы жыхарства ўяўляюць сабой перспектыўную форму арганізацыі адпачынку працоўных. Яны маюць вялікае выхаваўчае значэнне, садзейнічаюць згуртаванню жыхароў, развіццю грамадскіх пачаткаў, працоўнаму і маральнаму выхаванню людзей. Аднак не заўсёды арганізатарам свята ўдаецца прыцягнуць да



86. Святкаванне 930-годдзя Мінска. 1997 г.

ўдзелу ў ім усе пласты і групы насельніцтва. Як сведчаць нашы матэрыялы, у такіх урачыстасцях удзельнічалі ўсяго толькі 7% апытаных сельскіх жыхароў і 19% гараджан.

У пасляваенны перыяд у рэспубліцы дзейнічае цэлы шэраг добраахвотных арганізацый: Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Таварыства аховы прыроды, Добраахвотнае таварыства садзеяння арміі, авіяцыі і флоту (ДТ СААФ), Таварыства Чырвонага Крыжа, Таварыства выратавання на водах (ТВВОД), Таварыства аматараў кнігі, Таварыства ведаў, Таварыства паляўнічых і рыбаловаў, Геаграфічнае таварыства і шмат іншых. Усе яны маюць свой актыў і, як правіла, пярвічныя ячэйкі ў працоўных калектывах. Аднак іх дзейнасць не набывае масавага характару і не аказвае істотны ўплыў на побыт беларусаў[254].

[254] Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. С. 111.

З другой паловы 80-х гг. грамадскі быт беларусаў пад уздзеяннем палітычных і сацыяльных фактараў інтэнсіўна трансфармуецца. Зніжаецца ўзровень грамадскай актыўнасці насельніцтва, звязаный са старымі формамі: удзел у сацыялістычным спаборніцтве, у грамадскай рабоце працоўнага калектыву, святочных дэманстрацыях і шэсцях, масавых урачыстых мерапрыемствах. Падае прэстыж працоўных традыцый. Нацыянальныя пачуцці, грамадская актыўнасць беларусаў скіроўваюцца на адраджэнне і захаванне традыцыйнай культуры. У гэты час ідзе ажыўленне рэлігійнага жыцця: пачалі будавацца храмы, выпускаецца царкоўная літаратура, расце рэлігійнасць беларусаў. Яны сталі больш часта наведваць царкву, адпраўляць рэлігійныя абрады і таінствы. Асабліва прыцягваюць урачыстасцю і прыгажосцю набажэнствы на Ражаство Хрыстова, Хрышчэнне Гасподне, Вялікдзень. Шырока адзначаецца праваслаўнай царквой



87. Свята вёскі Краглевічы Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. 1994 г.

і грамадскасцю ў Беларусі Свята славянскай пісьменнасці і культуры. У лік агульнанацыянальных свят і памятных дней уваходзяць Ражаство Хрыстова, Вялікдзень, Радаўніца, Дзень Памяці. З'яўляюцца новыя фальклорныя святы (промыслаў і рамёстваў, народнага гумару ў в. Аўцюкі, народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік»). Узнікаюць новыя грамадскія аб'яднанні (Саюз народных майстроў, нефармальныя згуртаванні моладзі і інш.).

У структуры адпачынку беларусаў знізіліся арыентацыі на чытанне газет, часопісаў, кніг, правядзенне вольнага часу ў палацах, дамах культуры, клубах, кінатэатрах, тэатрах. Прычыны гэтага працэсу ляжаць у эканамічнай сферы і звязаны з пагаршэннем жыццёвага ўзроўню асноўнай масы насельніцтва, а таксама са зменамі ў шкале культурных каштоўнасцей, асабліва ў моладзі. Аднак у апошнія гады зноў сталі адраджацца працоўныя традыцыі і святы. Так, напрыклад, на рэспубліканскім узроўні сталі адзначаць «дажынкі», дзе падводзяцца вынікі жніва, ушаноўваюцца лепшыя з лепшых камбайнёры, шафёры, ім уручаюць каштоўныя падарункі. Прыкметнай стала тэндэнцыя на ўзмацненне арыентацый моладзі на павышэнне адукацыі і кваліфікацыі.

Такім чынам, у грамадскім побыце беларусаў на працягу XX ст. адбыліся істотныя змены. Гэтаму спрыялі ў першую чаргу сацыяльна-эканамічныя і палітычныя пераўтварэнні ў жыцці народа. Аднак, нягледзячы на разбурэнне старых і ўкараненне новых форм побыту, некаторыя прынцыпы грамадскага жыцця, яго элементы і нават цэлыя пласты не зніклі бясследна, а толькі змянілі спосабы і формы свайго існавання. Гэта ў першую чаргу датычыцца святочна-абрадавай культуры. У шэрагу выпадкаў змест традыцыйных святаў і абрадаў пераасэнсоў-



88. Літургія ў Кафедральным саборы ў гонар Кірыла і Мефодзія. 1990 г.

ваецца, і яны ўключаюцца ў сучасную абрадавую культуру народа. Шмат якія сучасныя святы змяшчаюць традыцыйныя элементы і з цягам часу становяцца традыцыйнымі. Карэнным чынам змяняецца структура вольнага часу беларусаў, у ёй павялічваецца роля пазнавальных заняткаў: чытання, самаадукацыі, павышэння кваліфікацыі і адукацыі.

Падводзячы вынікі стагоддзя, трэба звярнуць увагу на сям'ю, паколькі ў ёй, як у маленькай кроплі жыватворнай вільгаці, адлюстроўваецца ўвесь свет з яго зямнымі катаклізмамі і віхурамі (войны і рэвалюцыі, паморкі і пошасці), духоўнымі дасягненнямі, верай і надзеяй. Менавіта праз сям'ю ўваходзіць у жыццё тое новае, што адбіраецца, прасейваецца праз сіта часу, пераўтвараецца ў традыцыю, якая вызначае аблічча, менталітэт народа. Сям'і належыць і важнейшая роля ва ўзнаўленні этнасу, у міжпакаленнай перадачы традыцый, генетычнага кода народа.

Пачатак XX ст. — той рубеж, з якога пачынаецца адлік змен у жыцці беларусаў. Традыцыі яшчэ пераважаюць, але ж і навацыі самыя розныя — і добрыя, і кепскія — ужо на парозе. Большасць беларусаў жыве ў сельскай мясцовасці. Сялянская сям'я, па вобразнаму выразу А. Мучынскага, «была той крэпасцю, ядром, дзе вякамі трымалася і гарэла святло малітвы, надзеі, міласэрнасці, брацтва і няспыннай працы. Тут нараджаўся селянін як умелец, знаўца, мастак і працаўнік. Зямля была для яго не столькі майстэрняй, колькі свяцілішчам, храмам»[255].

У пачатку XX ст. у шлюб уступалі звычайна рана, асабліва дзяўчаты, у 18—20 год, а іншы раз і ў 16—17 год. Дзяўчына, якой было больш за 24 гады, лічылася старой. Так яе і называлі: «у дзеўках засталася», «перастарак», «векавуха» і іншымі даволі крыўднымі прозвішчамі[256]. З аднаго боку, гэта была ганьба дзяўчыне, якая, магчыма, не па сваёй віне затрымалася ў халасцячках, з другога — прасочвалася скіраванасць грамадства на ўмацаванне сям'і, нараджэнне дзяцей, наогул на ўзнаўленне этнасу. Хлопцы жаніліся крыху пазней: у 20—25 год, асобныя пасля службы ў арміі. Цікава, што і да хлопцаў, што мелі ўжо шлюбны ўзрост і не ўзялі шлюб у дазволены час адносіліся негатыўна, з іх кпілі, а на Масленіцу прывязвалі да адзення калодку (драўляную цурку), з якой халасцяк хадзіў, аж пакуль не даваў выкуп[257]. Беларусы лічылі абавязковым уступленне ў шлюб. Разводы былі рэдкімі.

---

[255] Мучынскі А. Вёска на шляху да рынку. Мн., 1993. С. 5.

[256] Наш край. 1930. № 3. С. 35.

[257] Райкова А. Масленіца // Культура. 9 сакавіка 1994.



89. Паставы. Рэспубліканскі фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік». 1995

Тлумачылася гэта як традыцыямі, так і матэрыяльнымі ўмовамі жыцця. Сялянская гаспадарка як без мужчынскіх, так і без жаночых рук існаваць не магла. Характэрна, што ў шлюбы звычайна ўступалі мужчыны і жанчыны адной веры-рэлігіі, блізкія па культуры і побыту, сацыяльнаму становішчу. Адзінкавымі былі міжнацыянальныя і міжканфесіянальныя шлюбы, якія асуджаліся грамадскасцю і афіцыйнымі ўладамі. Становішча ў гэтай сферы змянілася пасля 1917 г., калі заканадаўча былі абвешчаны новыя прынцыпы сямейна-шлюбных адносін. Пашырыўся лік міжнацыянальных шлюбаў, што актывізавала ўзаемаадносіны паміж этнасамі, узаемаўплыў нацыянальных культур, наогул паскорыла ход этнічных працэсаў. У 1926 г. удзельная вага міжнацыянальных шлюбаў у БССР склала 6,4% (у тым ліку 17,7% у гарадах, 2,9% у сёлах). Характэрна пры гэтым, што доля змешаных шлюбаў у беларусаў была меншай, чым у сярэднім па рэспубліцы, — 2,0% (у гарадах — 7,0% і у сёлах — 1,0%)[258]. Паказальна, што жанчыны-беларускі ўступалі ў міжнацыянальныя шлюбы радзей, чым мужчыны.

За перыяд 1927—1936 гг. працэнт змешаных шлюбаў у беларусаў значна павялічыўся: у мужчын — з 2,7 да 12,0% (у 4,4 раза), а ў жанчын — з 4,9 да 10,0%[259]. Неабходна адзначыць, што большасць такіх шлюбаў прыходзілася на шлюбы паміж беларусамі і блізкімі да іх па культуры, мове рускімі, украінцамі і палякамі. Працэс павелічэння колькасці змешаных шлюбаў уяўляў сабой адзін са шляхоў акультурацыі да зменлівых умоў жыцця, вектар якой паступова скіроўваўся ў напрамку дамінуючай, падмацаванай

[258] Борзых Н. П. Межнациональные браки в СССР в середине 1930-х годов // Советская этнография. 1984. № 3. С. 102.
[259] Там жа. С. 107.

дзяржаўнасцю, беларускай культуры. Сярэдні ўзровень міжнацыянальнай шлюбнасці ў БССР самы высокі з саюзных рэспублік (у 1936 г. па БССР — 19,4%, па СССР — 12,5%)[260].

Адным з важнейшых паказчыкаў стану сям'і з'яўляюцца даныя аб шлюбнасці і разводах. У Беларусі ў 20-я гг. назіралася падзенне шлюбнасці і рост разводаў. Калі ў 1924 г. на 100 тыс. насельніцтва прыходзілася 1130 шлюбаў і 60 разводаў (на 100 шлюбаў — 5,5 развода), то ў 1927 г. — адпаведна 860 і 122 (на 100 шлюбаў — 18,2 развода)[261].

Пэўную ролю ў росце разводаў адыграла спрашчэнне працэдуры скасавання шлюбаў. Заканамерна, што сем'і, якія ствараліся яшчэ ў дарэвалюцыйны час і асноўваліся пераважна на матэрыяльнай залежнасці, а не на пачуццях, разбураліся. Аднак пры больш дэталёвым аналізе бачна, што гэта быў не столькі «актыўны працэс скідвання ланцугоў мінулага», вызваленне ад няроўных шлюбаў, колькі крызісны стан духоўнага жыцця народа, у тым ліку сямейных адносін. Сказваўся і нездаровы ажыятаж вакол праблем сям'і, шлюбу, кахання, які безумоўна паслабляў сям'ю, яе выхаваўчы ўплыў на дзяцей, моладзь. Аб расхістанасці шлюбу сведчыла распаўсюджанне дашлюбных і пазашлюбных палавых адносін. Завадатарам і ў гэтым была студэнцкая і рабочая моладзь, якая імкнулася да «новага быту», прытрымлівалася «цвярозага погляду» на каханне. Разам з тым неабходна адзначыць, што новыя павевы былі менш распаўсюджаны на беларускай вёсцы з яе традыцыйным ладам жыцця, устойлівасцю маральных арыентыраў, сацыяльным кантролем грамады, якая на разведзеных глядзела не надта прыхільна, даючы ім непрыгожыя мянушкі[262]. Як і раней, нараджалі столькі, колькі «бог дасць». Аднак з цягам часу і на вёсцы пачасціліся выпадкі нараджэння дзяцей да шлюбу, пашыраліся разводы і аборты. Радзільныя ўстановы 35% сваёй працы трацілі на штучнае перарыванне цяжарнасці (у горадзе да 70%)[263], хаця большасць абортаў рабілася «ў падполлі», у бабак-павітух, што калечыла жанчыну. Дэлегаткі 2-а Ўсебеларускага з'езда сялянак (1926) прыводзілі факты, калі мужы кідалі жонак з малымі дзецьмі, выганялі з дому, і яны вымушаны былі «пакутаваць пад плотам»[264].

У пачатку XX ст. значныя змены адбыліся ў структуры беларускай сям'і: зменшылася колькасць нераздзеленых і павялічылася колькасць малых сем'яў. Сямейныя раздзелы садзейнічалі змяншэнню сярэдняй колькасці сем'яў. Па даных перапісу 1907 г., сярэдняя сельская сям'я Віцебскай губерні вызначалася ў 6,4 чалавека[265]. Сем'і беларусаў-гараджан былі меншымі па саставу. Так, па падліках У. М. Іванова, сярэдні састаў сем'яў рабочых-чыгуначнікаў складаў 4,5 чалавека[266]. У сярэднім на адну гарадскую сям'ю прыходзілася трое дзяцей. Пераважала малая нуклеарная сям'я. Большую частку складалі двухпакаленныя сем'і з 4—5 чалавек з 2—3 дзецьмі[267]. Далейшае драбленне сям'і адбывалася ўжо пасля рэвалюцыі, чаму спрыяла адмена прыватнай уласнасці на зямлю і размеркаванне яе па едаках. Аднак яшчэ ў 20-х гг. на тэрыторыі Беларусі спарадычна сустракаліся нераздзеленыя сем'і, колькасць членаў якіх дасягала 13 челевек[268]. Па ма-

[260] Советская этнография. 1984. № 3. С. 107.

[261] Вольфсон С. Я. Социология брака и семьи. Мн., 1929. С. 410.

[262] Наш край. 1928. № 8—9. С. 60.

[263] НАРБ, ф. 4-п, воп. 9, спр. 82, л. 95, 96.

[264] Там жа, л. 48, 81.

[265] Хозяйственное положение и промыслы сельского населения Витебской губернии. Витебск, 1910. С. 28.

[266] Иванов В. М. Очерк быта промышленных рабочих дореволюционной Белоруссии. Мн., 1971. С. 104.

[267] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 135.

[268] Там жа. С. 87.

тэрыялах перапісу 1926 г., на адну сельскую гаспадарку (домаўладанне) у сярэднім прыходзілася 5 чалавек, сярэдні склад гарадской сям'і ў Беларусі быў 3,4 чалавека[269].

Пераўладкаванні структуры беларускай сям'і пэўным чынам адбіваліся на ўнутрысямейных адносінах, якія наладжваліся на больш дэмакратычнай, раўнапраўнай аснове. Разам з тым, трансфармацыя традыцыйных і станаўленне новых норм паводзін у сямейнай сферы былі вельмі складанымі і часам супярэчлівымі працэсамі.

У 20-я гг. разам з пабудовай матэрыяльна-тэхнічнай базы сацыялізму і пераўладкаваннем сацыяльнай структуры насельніцтва ставілася задача выхавання новага чалавека. Дзеля гэтага трэба было разбурыць традыцыйную сямейную іерархію, дзе муж быў галавой сям'і, паставіць жанчыну ўпоравень з мужчынам, «разнявoліць» яе ад сям'і (мужа, дзяцей), пераўтварыць яе з жанчыны-маці ў жанчынупрацаўніцу. У гэтай сувязі ішло пераразмеркаванне выхаваўчых функцый паміж сям'ёй і грамадствам. Лічылася, што пры сацыялізме функцыі гадавання і выхавання дзяцей з сямейных стануць грамадскімі[270].

Дзяржава рабіла першыя крокі для аблягчэння становішча жанчыны-маці, частку яе турбот перакладвала на свае плечы. Станоўча можна ацаніць стварэнне сеткі выхаваўчых і медыцынскіх устаноў: Інстытута аховы мацярынства і дзяцінства, дзіцячых і жаночых кансультацый, дзіцячых ясляў, садкоў, якія першапачаткова адчыняліся ў больш-менш буйных гарадах. Так, калі ў 1927—1928 гг. у гарадах працавала 76 дзіцячых устаноў, то ў сельскай мясцовасці толькі 2 (у Аршанскай і Мінскай акругах). На вёсцы больш шырокае распаўсюджанне набылі дзіцячыя пляцоўкі, галоўным чынам на 2—3 месяцы ў летні час. Жанчына-маці атрымала права на адпачынак па цяжарнасці і догляду за дзіцём (8 тыдняў да родаў і столькі ж пасля). Але, на жаль, гэтымі льготамі карысталіся толькі гараджанкі[271]. Праўда, у асобных калгасах жанчыны ўжо мелі аплачваемы адпачынак па цяжарнасці і догляду за дзіцём. Аднак у большасці гаспадарак цяжарныя і хворыя жанчыны працавалі «да астатніх сіл, хадзілі на цяжкія працы з высокай тэмпературай, пакуль не звальваліся з ног»[272].

У дзейнасці дзіцячых устаноў былі свае складанасці. Не хапала прасторных, цёплых і ўтульных памяшканняў, абсталявання, адукаваных выхавацеляў, іх часта замянялі дзяўчынкі ці зусім старыя жанчыны. У камуне «Інтэрнацыянал» дзеці былі «адданы пад апеку старой, глухой і хворай жанчыне», якая нават як след іх не даглядала[273]. Камунары Чачэрскага раёна былі незадаволены зместам выхавання ў яслях: «Павядуць дзяцей на Сож да цэльны дзень таўкуць іх там»[274].

Няшчасцем 20-х гг. была дзіцячая беспрытульнасць. Сацыяльныя ўзрушэнні: войны, рэвалюцыі, голад — спрыялі разбурэнню сям'і. Калі ў першыя гады Савецкай улады сяляне баяліся аддаваць сваіх дзяцей ў дзіцячыя дамы, каб выхаваць з іх будучых камуністаў, то «цяпер сталі іх кідаць» (з даклада наркама асветы т. Ігнатоўскага). У Беларусі каля 3500 дзяцей выхоўваліся ў дзіцячых дамах, яшчэ 2500 падлеткаў не мелі свайго прытулку, толькі ў адным Мінску 800 дзяцей бадзяліся па вуліцах[275].

---

[269] Всесоюзная перепись населения 1926 г. М., 1928. Т. 10. Белорусская Советская Социалистическая Республика. С. 4, 6.

[270] Вольфсон С. Я. Социология брака и семьи. С. 450.

[271] Сям'я і сямейны быт беларусаў. С. 99, 100.

[272] Рубільнік. Некаторыя даныя аб культуры і быце калгасаў БССР. Мн., 1931. С. 35.

[273] Рубільнік. Некаторыя даныя аб культуры і быце калгасаў БССР. С. 29.

[274] Наш край. 1930. № 4. С. 47.

[275] НАРБ, ф. 4-п, воп. 9, спр. 7, л. 15.

Не менш складанай праблемай было жаночае беспрацоўе. У 1926 г. на біржах працы БССР было зарэгістравана 7 тыс. жанчын, з іх толькі кожная трэцяя атрымоўвала дапамогу[276].

Асноўнай формай работы сярод працоўных жанчын з'яўляліся дэлегацкія сходы. У той час іх называлі «школай камунізму». Характэрна, што жаночыя сходы не былі самастойнымі арганізацыямі, а толькі дапамагалі ў працы прафсаюзам, саветам і іншым грамадскім фарміраванням. Кожны год у дэлегацкі рух улівалася новае папаўненне. «Старыя» ж дэлегаткі, якія праявілі сябе на грамадскай працы, вылучаліся на прафсаюзную, савецкую і партыйную работу.

Актыўнасць жанчын, іх жаданне стаць упоравень з мужчынамі выяўляліся ў росце колькасці дэлегатак. Так, калі ў 1924 г. на Беларусі было 6500 дэлегатак, у 1925 г. — 15000, то ўжо ў 1926 г. іх налічвалася 27767 чалавек[277].

Такі хуткі рост нават непакоіў каардынатараў руху, паколькі назіраліся выпадкі самаарганізацыі жанчын, якія выбіралі беспартыйнага кіраўніка і заслухоўвалі яго справаздачу не на партячэйцы, а перад сходам жанчын. На 6-й Усебеларускай нарадзе работнікаў жанаддзелаў (1924) адзначалася: «Новы дэлегацкі склад проста пужае сваёй лічбай ... Неабходна было выбраць дэлегатак там, дзе забяспечана кіраўніцтва партыі. Неабходна было сачыць, каб у дэлегацкі склад не праніклі кулачкі ... Калі ж у склад дэлегацкіх сходаў, як у Аршанскай акрузе, трапілі кулачкі, то такі дэлегацкі сход павінен быць рэарганізаваны»[278]. У дэлегацкі рух на вёсцы ў першую чаргу прываблівалiся бяднячкі, батрачкі, радзей серадначкі пры адначасовай ізаляцыі больш-менш заможных сялянак, якія выгадна вылучаліся пісьменнасцю і даволі шырокім кругаглядам. Іх выступленні на перавыбарах мелі «больш шырокі грамадскі характар» і не замыкаліся, як у бяднячак, на сваіх нястачах[279].

З выбарнымі дэлегаткамі работа вялася на працягу года па плану і мела на мэце даць неабходныя веды і навучыць жанчын грамадскай рабоце. Па сутнасці, гэта была прасцейшая палітмасавая асвета, аб чым пераканаўча сведчаць тэмы праграмы дэлегатак. Вось іх няпоўны пералік: «Хто быў Ленін», «Задачы аднаўлення народнай гаспадаркі СССР», «Правы работніц у СССР», «Задачы работніцы і вытворчасці», «Ахова жаночай працы і сацыяльнае страхаванне», «Ахова мацярынства і дзяцінства», «Шлюбнае і звычаёвае права», «РКП і работніца», «Гісторыя РКП пасля Кастрычніка» і інш.[280] Праводзіліся заняткі на беларускай, рускай, яўрэйскай і польскай мовах.

Дэлегацкія сходы з'яўляліся праваднікамі ўплыву партыі на шырокія масы работніц і сялянак, прымалі актыўны ўдзел у барацьбе з непісьменнасцю, у кааператыве бяднейшых сялян, камітэтах узаемадапамогі, саветах. Былі выпадкі, калі дэлегаткі адыгрывалі рашучую ролю ў перавыбарах бядняцкіх кандыдатур і правале кулакоў і былых жандараў (Рудзенскі сельскі савет, Мінская акруга)[281]. Дэлегацкія сходы аказвалі дапамогу дзецям працоўнай Германіі, англійскім гарнякам і галадаючым Заходняй Беларусі, праводзілі месячнікі па барацьбе з беспрацоўем, туберкулёзныя «трохднеўкі», пільна сачылі за рэжымам эканоміі на вытворчасці, за зніжэннем цэн, працавалі ў гуртках і грамадскіх камітэтах. Напрыклад, у Мінску дэлегаткі назбіралі значныя сумы ў час кампаніі па

[276] НАРБ, ф. 4-п, воп. 9, спр. 78, л. 11.

[277] НАРБ, ф. 4-п, воп. 9, спр. 40, л. 82; воп. 3, спр. 21, ч. II, л. 367.

[278] Там жа, воп. 9, спр. 10, л. 45, 46.

[279] Там жа, спр. 60, л. 7.

[280] Там жа, спр. 1, л. 48.

[281] Там жа, воп. 3, спр. 21, ч. II, л. 370.

міжнароднай салідарнасці, выкарыстоўваючы скарбоначны збор, вечары самадзейнасці, пашыў розных рэчаў[282].

Аднак дэлегацкія сходы, як правіла, не закраналі карэнных інтарэсаў працоўнага люду і не вырашалі, за пэўным выключэннем, іх жыццёвых праблем. Ды ім гэта і не ставілася ў задачу. На 2-м Усебеларускім з'ездзе сялянак т. Галадзед тлумачыў жанчынам: «Таварышы дрэнна ўразумелі ролю дэлегаткі, яна не павінна быць хадатаем за інтарэсы жанчын. Дэлегатка павінна вучыцца на сваім дэлегацкім сходзе і ведамі дзяліцца з усімі жанчынамі. Яна павінна пад выглядам схода вадзіць за сабой астатніх сялянак»[283].

Дэлегацкія сходы паступова замыкаліся самі на сабе, набывалі бюракратычныя рысы заарганізаванасці і фармалізму. У 1925/26 навучальным годзе па Віцебску падрыхтавана 370 дэлегатак. Калектыўны ўлік ведаў паказаў, што з 75% апытаных дэлегатак 34—40% засвоілі праграму слаба, астатнія здавальняюча, толькі 40% дэлегатак было ўцягнута ў канкрэтную практычную работу. Наведванне сходаў склала ад 70 да 75%[284]. У 1926/27 навучальным годзе назіраліся зрывы дэлегацкіх сходаў у Лагойскім і Смілавіцкім раёнах. А ў Лагойскім раёне (Янушкевічскі пункт) дэлегаткі заявілі: «Што мы будзем хадзіць на дэлегацкія сходы, калі там усе гавораць і нічога не робяць»[285].

Дэлегаткі — большай сваёй часткай дзяўчаты і маладзіцы (амаль 80% ва ўзросце да 35 год) — унеслі сваю лепту ў трансфармацыю традыцыйнага і станаўленне новага быту беларусаў. Яны былі першапраходцамі ў святкаванні новых грамадзянскіх святаў: «чырвоных радзін», вяселляў, гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, 8 Сакавіка, «адчынялі сваім дзецям дарогу ў піянеры і камсамол».

У 20-я гг. пачынаюцца першыя крокі па ўздыму кваліфікацыі жанчыны. Яны пачалі працаваць у тых галінах прамысловасці, якія традыцыйна былі мужчынскімі: дрэваапрацоўка, машынабудаванне, металургія. Жанчыны сталі токарамі, абойшчыцамі, фрэзероўшчыцамі, малярамі, праваднікамі і інш. Да 1930 г. планавалася давесці ўдзельную вагу жанчын на прамысловых прадпрыемствах да 40%[286]. Гаспадарчыя і прафесійныя арганізацыі сістэматычна вылучалі больш кваліфікаваных і перадавых работніц на розныя адказныя тэхнічна-адміністрацыйныя пасады: брыгадзіра, майстра, загадчыка цэха. Наркамасветы, у сваю чаргу, пры камплектаванні індустрыяльных тэхнікумаў і прафтэхшкол забяспечваў прыем не менш 40% жанчын[287].

Прафкамы адзін за адным давалі дазвол на працу жанчын у цяжкіх і шкодных умовах, нават па начах. Так, напрыклад, «камісія па жанпрацы лічыць правільным дапусціць работніц у папяровую прамысловасць на начныя змены... прымяненне іх працы на філігранных каландрах, бабінных і перакатных станках», «саюзам і камісіяй па жанпрацы прызнана магчымасць прымяняць жаночую працу ў скураной вытворчасці ў тых цэхах, дзе раней не выкарыстоўвалася...»[288]

На фабрыках і заводах працавалі дзяўчаты-падлеткі. Так, у 1925 г. на фабрыцы «Дзвіна» (г. Віцебск) налічвалася 39 дзяўчат-падлеткаў (з 115 работніц), фактычна кожная трэцяя работніца[289].

З аднаго боку, узмацніліся працэсы эмансіпацыі жанчыны. З другога ж —

---

[282] НАРБ, ф. 4-п, воп. 3, спр. 21, ч. II, л. 370.
[283] НАРБ, ф. 4-п, воп. 9, спр. 82, л. 43.
[284] Там жа, спр. 60, л. 7.
[285] Там жа, воп. 3, спр. 21, ч. II, л. 370, 371.
[286] НАРБ, ф. 7, воп. 3, спр. 34, ч. 1, л. 305.
[287] Там жа, л. 306.
[288] Там жа, воп. 9, спр. 78, л. 5, 6.
[289] Там жа, л. 11.

пакладзены пачатак фемінізацыі мужчыны, ён паступова страчвае сваю кіруючую ролю. Безумоўна, гэта не магло не выклікаць яго адмоўную рэакцыю. Барацьба за першынства ўваходзіць ва ўнутрысямейныя адносіны, падтачваючы асновы сям'і:

У хаце сварка — звадка
Жонка-дэлегатка ...[290]

Хутчэй за ўсё тут сказвалася дваістасць працэсаў эмансіпацыі. Побач з вызваленнем жанчыны і праяўленнем усіх яе магчымасцей «дрэнная эмансіпацыя вядзе за сабой скажэнне вечнай жаноцкасці, дурное прыпадабненне і пераймание мужчыне. І гэта эмансіпацыя зняважае жанчыну, робіць яе мужчынай другога сорта і пазбаўляе яе арыгінальнасці»[291].

Аднак насуперак разбуральным навацыям сям'я па-ранейшаму была прывабнай і жаданай для чалавека. Ей належала адно з першых месц у цэнасных арыентацыях беларусаў. У звестках аб рабоце сярод працаўніц у прафарганізацыях БССР за 1926 г. адзначаецца: «Работніцы больш за ўсё зацікаўлены сям'ёй і сваім сямейным становішчам»[292]. Сярод студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, якія адказалі на культурна-бытавую анкету ў 1927 г., большасць (62,9% мужчын і 76,9% жанчын) схіляліся да працяглых і трывалых адносін палоў[293]. Беларуская сям'я, асабліва сялянская, як і ў мінулым, з'яўлялася той сацыяльнай базай, дзе захоўваліся этнічная культура і традыцыі. Яна далучала дзяцей і моладзь да абраднасці, маральных нормаў і этыкету беларусаў. Важнейшай яе функцыяй заставалася працоўнае выхаванне. «Як толькі памятую сябе з дзяцінства, а гэта з 6—7 год, то ўжо працавала: глядзела, калыхала, карміла, перапеляноўвала малодшага брата Васю, — успамінае інфарматар з в. Вялікія Сітцы Докшыцкага раёна. Ранняе далучэнне дзяцей да працы спрыяла добраму іх разуменню, значэння працы ў жыцці сям'і. «Мы адчувалі, што дапамагаем і павінны дапамагаць бацькам, цанілі вынікі свайго малога ўклада ў агульную справу сям'і»[294]. Працоўнае выхаванне праводзілася паэтапна, мела свае адрозненні ў залежнасці ад узросту, полу дзіцяці. Дзяўчынкі падмяталі ў хаце, мылі палы, палолі грады. У 12—13 год вучыліся прасці, вязаць, разматваць ніткі, глядзець за адбельваннем даматканага палатна, якое сцялілі на агародзе ці лузе, палівалі грады, сустракалі і заганялі ў хлеў жывёлу. Улетку разам з маці выходзілі ў поле на сушку сена, жніво. Крыху пазней вучыліся даіць кароў і пячы хлеб. Хлопчыкі з 8—10 год разам з дзяўчынкамі пасвілі хатнюю жывёлу: свіней, авечак, кароў у добрае надвор'е і ў дождж, холад. Пастушкі «з усходу да заходу на нагах і, паклаўшы ў торбачку кавалак хлеба, бутэльку малака ды яшчэ сяго-таго, цэлы дзень снуюць за статкам па балотах і лясах... Пастушок спіць у суткі ўсяго 5—6 гадзін, у той час калі яму па яго ўзросту (8—12 год) трэба спаць 9—11 гадзін... Звычайнае з'явішча хранічнае недаяданне»[295]. Хлопчыкі рана далучаліся да мужчынскай працы, з 10—12 год баранавалі, варушылі сена, убіралі яго, спрабавалі касіць, а з 14 год ужо касілі з бацькам, вучыліся хадзіць за плугам. Бацька тактоўна прывучаў сына да працы. «Прыносіў я бацьку сняданак на поле, дзе ён касіў ці араў. Калі ён снедаў і крышку адпачываў, то мне дазваляў пакасіць і пахадзіць за плугам, падказваў як трэба лепш зрабіць, хваліў за старанне

[290] Крапіва К. Збор твораў: У 3 т. Мн., 1956. Т. 1. С. 128.
[291] Мир философии: В 2 ч. М., 1991. Ч. 2. С. 261.
[292] НАРБ, ф. 4-п, воп. 9, спр. 78, л. 24—26.
[293] Вольфсон С. Я. Социология брака и семьи. С. 428.
[294] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7. воп. 2, спр. 259, л. 89.
[295] Наш край. 1928. № 8—9. С. 61.

і спрыт»[296]. Так паступова і набывалі навыкі да працы. Сялянскі хлопец у 16 год лічыўся зусім сталым працаўніком і ніякімі ільготамі ў параўнанні з 20—30-гадовымі не карыстаўся[297].

У 20—30-я гг. з'явілася шмат беспрытульных дзяцей. Характэрна, што з агульнай колькасці безнаглядных дзяцей (7 тыс. дзяцей у 1934 г.) 70% прыходзілася на дзяцей, што прыехалі з сельскай мясцовасці Беларусі, часткова Украіны, Расіі. Вывучэнне іх складу паказала, што яны з'яўляліся дзецьмі раскулачаных і высланых ці памерпіых кулакоў, рэпрэсіраваных і высланых у судзебным і адміністрацыйным парадку бацькоў, а таксама дзецьмі збяднелых аднаасобнікаў, якія пакінулі сваю гаспадарку і сям'ю. Невялікую групу складалі дзеці ўдоў, разведзеных і іншых адзінокіх жанчын[298].

Беспрытульныя дзеці, галодныя і халодныя, каб пракарміць сябе, часта станавіліся на шлях правапарушэнняў, учынялі крадзяжы, пілі гарэлку, хуліганілі, уцягвалі ў свае кампаніі малалетак. Толькі ў буйных гарадах Беларусі налічвалася каля 200 малалетніх злачынцаў-рэцыдывістаў[299].

У гэты час рабіліся пэўныя накірункі па аблягчэнню становішча жанчыны-працаўніцы: будаваліся дзіцячыя сады і яслі, школы, пашыралася сістэма ўстаноў па ахове здароўя жанчын і дзяцей. У 1937 г. у рэспубліцы працавала больш як 1500 дзіцячых садкоў і ясляў (у 1932 г. іх было 323). Калі ў 1932 г. толькі 25% сельскіх жанчын атрымоўвалі дапамогу пры родах, то ў 1936 г. — ужо 75% жанчын[300]. Дзеці сялян і рабочых атрымалі магчымасць вучыцца ў школах, тэхнікумах, інстытутах. Ажыццяўлялася цэлы шэраг мерапрыемстваў па барацьбе з дзіцячай беспрытульнасцю і злачынствам, будаваліся ФЗВ закрытага тыпу, дзіцячыя прыёмнікі, арганізоўваліся працоўныя калоніі, дзіцячыя дамы і школы для цяжкіх у выхаванні дзяцей. У 1935 г. у Беларусі налічвалася 93 дзіцячыя дамы[301]. У выхаваўчых мэтах ствараліся дзіцячыя пакоі пры клубах, дзіцячыя і фізкультурныя пляцоўкі, прыстасоўваліся гарадскія паркі пад дзіцячыя сады. Паказальна, што з цягам часу ўсё большую ролю ў выхаванні падрастаючага пакалення пачалі набываць такія арганізацыі, як школа, сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы, працоўны калектыў, грамадскія аб'яднанні, культурна-асветніцкія ўстановы, сродкі масавай інфармацыі.

У побыце сям'і, асабліва сялянскай, утрымліваліся станоўчыя традыцыі: працоўнае выхаванне, маральныя каштоўнасці народа (паважлівыя адносіны малодшых да старэйшых, дзяцей да бацькоў, стрыманасць у праяўленні пачуццяў паміж мужам і жонкай і інш.).

Вялікія змены ў сферы быту ўзніклі пад уплывам Вялікай Айчыннай вайны (1941—1945), якія ўскладніліся тым, што Беларусь 3 гады была акупіравана ворагам. Большасць мужчын ваявала на франтах вайны, у партызанскіх атрадах, што, натуральна, парушыла сямейныя сувязі і дэмаграфічныя прапорцыі паміж мужчынскай і жаночай часткай насельніцтва, выклікала рэзкае скарачэнне нараджальнасці. Тут вайна пакінула такі глыбокі след, згладзіць які было значна цяжэй, чым аднавіць народную гаспадарку. Многія мужчыны загінулі, засталіся ўдовы, якія выхоўвалі сірот. Шмат якія з падлеткаў, асабліва перарасткі, так і не селі за парты, трэба было карміць сям'ю, дапамагаць маці.

З 1949 г. пачалася калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў Заходняй Беларусі,

---

[296] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 89.

[297] Наш край. 1928. № 8—9. С. 61.

[298] НАРБ, ф. 4-п, воп. 19, спр. 14, л. 2.

[299] НАРБ, ф. 4, воп. 19, спр. 14, л. 3.

[300] Гісторыя БССР. Мн., 1973. Т. 3. С. 576.

[301] НАРБ, ф. 4-п, воп. 19, спр. 14, л. 15.




90. Размеркаванне насельніцтва ва ўзросце 16 год і больш па знаходжанню ў шлюбе: 1 — знаходзяцца ў шлюбе, 2 — ніколі не былі ў шлюбе, 3 — удаўцы, 4 — разведзеныя і якія разышліся (1989 г., у разліку на 1000 чалавек адпаведнага полу)

якая суправаджалася высылкамі, разбурэннем сем'яў, парушэннем усталяваўшагася ладу жыцця, унутрысямейных сувязей. Кожны член сям'і ў меру сваіх перакананняў, сіл і абставін выбіраў сабе дарогу, часта гэтыя шляхі разыходзіліся. Вось даволі тыповы лёс сям'і. «У маёй мамы было тры хлопцы, дзве дзяўчыны. Аднаго брата пасля вайны зрабілі кулаком, выслалі. Другі працаваў старшынёй калгаса. Трэці ездзіў у Амерыку на заработкі, назад прыехаў і памёр, багаты, напрывозіў усяго, піў зазра — чаго прыехаў»[302].

І яшчэ адно сведчанне, якое гаворыць аб складанасці, шматзначнасці працэсаў, што ішлі ў сямейнай сферы, як і ва ўсім грамадстве. «Калі мы жылі пры Польшчы, то ў мяне з 12—13 год было імкненне хутчэй стаць дарослай, паехаць у Латвію на заробкі да заможных сялян, апрануць сябе і паставіць на ногі нашу сям'ю, якая існавала ў жабрацтве. Але маёй мары ажыццявіцца было не суджана, прыйшоў верасень 1939 года, а з ім змянілася ўсё. Я змагла вучыцца, атрымала сярэднюю спецыяльную адукацыю, 25 год працавала галоўным бухгалтарам саўгаса»[303].

[302] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 17.

[303] Там жа, л. 100.

У канцы 40-х гг. на тэрыторыі Заходняй Беларусі фарміраваўся дэлегацкі рух жанчын. У вёсках дэлегаткі першымі ўступалі ў калгасы, паказваючы прыклад астатнім сялянам, пасляхова выконвалі абавязкі па пастаўцы хлеба, мяса, малака дзяржаве. Работніцы і сялянкі праводзілі штодзённую работу па паляпшэнню стану грамадскага харчавання, дзейнасці дзіцячых і медыцынскіх устаноў, актыўна ўключаліся ў сацспаборніцтвы за выкананне пяцігадовага плана[304].

Пазітыўныя змены ў эканоміцы (нагадаем, што тэмпы развіцця рэспублікі ў 60—70-я гг. і нават да канца 80-х гг. перавышалі не толькі агульнасаюзныя, але і паказчыкі шэрага развітых капіталістычных краін), у культуры рэспублікі прывялі да змен у сямейна-шлюбных адносінах людзей. Палепшыліся паказчыкі шлюбнасці галоўным чынам за кошт згладжвання дыспрапорцыі палавой структуры насельніцтва[305]. Пераважная большасць мужчын сталага ўзросту ў Беларусі ўступала ў шлюб да 30 год, жанчын — да 25 год. Паказальна, што ўзровень шлюбнасці мужчын вышэйшы, чым жанчын. Некалькі больш высокія паказчыкі шлюбнасці былі ў гарадскога насельніцтва ў параўнанні з сельскім. У 70—80-я гг. у рэспубліцы ішло даволі выразнае «амалоджванне» шлюбаў. Яны, як правіла, заключаліся без прымусу, на аснове кахання і ўзаемапавагі.

Характэрна, што ў беларусаў, якія складаюць самую вялікую нацыянальную групу насельніцтва, пераважаюць аднанацыянальныя шлюбы. У 1988 г. удзельная вага мужчын-беларусаў, якія ўступілі ў шлюбы з жанчынай сваёй нацыянальнасці, склала 79,9%, адпаведна жанчынбеларусак — 78,3%[306].

Неабходна мець на ўвазе, што парушэнне эндагаміі ў межах 20%, як правіла, не звязана для этнасу з якімі-небудзь прыкметнымі вынікамі і зменамі, тым больш, што пераважная большасць міжнацыянальных шлюбаў беларусаў — гэта шлюбы з блізкімі па культуры і мове рускімі і ўкраінцамі. Аднак шырокая распаўсюджанасць змешаных шлюбаў, асабліва ў гарадскім асяроддзі, вядзе да пэўнай мадыфікацыі этнасу (эвалюцыі этнічнай самасвядомасці, моўных працэсаў, звычаяў і традыцый).

У пасляваенны час у рэспубліцы назіралася тэндэнцыя павелічэння ўдзельнай вагі сем'яў з мужам ці жонкай рознай нацыянальнасці (табл. 5)[307]. Спрыяла гэтаму нацыянальная палітыка, накіраваная на інтэрнацыяналізацыю грамадскага і сямейнага побыту, індустрыялізацыя, урбанізацыя і міграцыя насельніцтва.

Табліца 5

**Доля этнічна змешаных сем'яў у Беларусі па перапісах**

| Год | Усё насельніцтва, % | Гарадское насельніцтва, % | Сельскае насельніцтва, % |
|---|---|---|---|
| 1959 | 11,0 | 23,7 | 5,6 |
| 1970 | 16,3 | 29,2 | 7,2 |
| 1979 | 20,1 | 29,5 | 9,2 |
| 1989 | 25,0 | 31,0 | 13,0 |

У 70—80-х гг. даволі высокімі былі арыентацыі на міжнацыянальную шлюбнасць: 58% апытаных у 1989 г.[308] станоўча ацэньвалі такія шлюбы, прычым у сельскай мясцовасці пазітыўна ставіўшыхся да змешаных шлюбаў было больш — 66,7%, у гарадах — 55%. Для параўнання адзначым, што ў 1976 г. 78,2% рэспан-

[304] НАРБ, ф. 4-п, воп. 47, спр. 172, л. 140, 141; спр. 84, л. 18—22.

[305] Национальный состав населения Белорусской ССР. Мн., 1990. С. 72, 73.

[306] Там жа.

[307] Падлічана па: Итоги Всесоюзной переписи населения 1970 г. Т. VII. С. 282; Численность и состав населения СССР. По данным Всесоюзной переписи 1979 г. С. 296.

[308] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 14, спр. 1—80.

дэнтаў-гараджан былі пераканань, што нацыянальнасць пры ўступленні ў шлюб не мае ніякага значэння[309]. Некаторае зніжэнне пазітыўных установак, відавочна, звязана з пераацэнкай часткай грамадскасці феномена міжнацыянальнай шлюбнасці, назіралася кіданне ад адной крайнасці да другой — ад ацэнкі толькі станоўчай да адназначна негатыўнай, хаця міжнацыянальныя шлюбы — з'ява шматпланавая і маладаследаваная. Нагадаем толькі аб добра вядомых негатыўных выніках блізкасваяцкага змешвання, да таго ж, матэрыялы перапісаў сведчаць, што ў Беларусі па нараджальнасці лідзіруюць змешаныя сем'і (сярэдні склад змешанай сям'і ў 1989 г. налічваў 3,4 чалавека, аднанацыянальнай — 3,1 чалавека).

Наколькі значнымі для беларусаў будуць вынікі міжнацыянальнай шлюбнасці, залежыць ад таго, якая доля дзяцей, народжаных у такіх шлюбах, захавае прыналежнасць да дадзенага этнасу. Як паказалі матэрыялы даследавання ў гарадах Беларускага Палесся (1982), вялікае значэнне пры выбары падлеткамі нацыянальнасці мае этнічная прыналежнасць бацькі. Так, у шлюбах, дзе бацька беларус, а маці руская, 64% дзяцей выбралі беларускую нацыянальнасць, 36% — рускую. У шлюбах жа, дзе бацька рускі, а маці беларуска, 76% дзяцей назвалі сябе рускімі і 24% беларусамі. У змешаных сем'ях беларусаў з прадстаўнікамі іншых народаў большасць дзяцей аддалі перавагу беларускай нацыянальнасці[310].

Ход этнакультурных працэсаў у нацыянальна-змешаных сем'ях у Беларусі паказвае, што пераважная іх накіраванасць выяўлялася ў працэсах міжэтнічнай інтэграцыі, мела месца таксама і кансалідацыя народа ў межах Беларусі.



91. Токар Мінскага трактарнага завода Прымак А. І. з сям'ёй на прагулцы. 1979 г.

Прыкметныя змены адбыліся ў самой сям'і, яе тыпах, структуры, ва ўсім яе ладзе жыцця. Пераважная большасць сем'яў — нуклеарныя. Яны звычайна складаюцца з адной шлюбнай пары з дзецьмі або без дзяцей (73% ад агульнага ліку сямей у 1989 г.). Сем'яў, якія мелі дзве і больш шлюбныя пары, налічвалася толькі 3%. Пастаянна памяншалася колькасць сем'яў, якія складаліся з 4, 5, 6 і больш чалавек, і павялічвалася з 2 і 3 чалавек. Сярэдні памер сям'і істотна знізіўся з 3,7 чалавека ў 1959 г. да 3,2 чалавека ў 1989 г., пры гэтым сярэдні склад сельскай сям'і зніжаўся больш інтэнсіўна, ужо ў 1979 г. ён зраўняўся з гарадской (3,3 чалавека), а ў 1989 г. налічваў

[309] Этнические процессы и образ жизни. Мн., 1980. С. 262.

[310] Касперович Г. И. Миграция населения в города и этнические процессы. Мн., 1985. С. 122.

толькі 3,0 чалавека (у гарадскіх пасяленнях ён не змяніўся і склаў 3,3 чалавека). Спрыяла гэтаму як драбленне сем'яў, так і падзенне нараджальнасці ў рэспубліцы. У 1960 г. на 1 тыс. жыхароў Беларусі прыходзілася 24,5 нованароджанага, у 1970 г. — 16,2, у 1980 г. — 16,0 чалавека[311]. У агульнай колькасці нованароджаных усё часцей перабольшвалі першанцы і другія дзеці. Доля жанчын, якія нарадзілі трэцяга і больш дзяцей, панізілася (у 1970 г. — 25,4%, 1980 г. — 12,2%, 1991 г. — 9,1%)[312]. Калі ў 1979 г. на 1 тыс. жанчын ва ўзросце 15 год і старэй прыходзілася ў сярэднім 1979 народжаных дзяцей, то ў 1989 г. — 1873. Для жанчын-беларусак гэтыя паказчыкі былі крыху вышэйшымі (2052 дзіцяці ў 1979 г. і 1934 дзіцяці ў 1989 г.). Зніжэнне нараджальнасці было звязана з высокімі тэмпамі індустрыялізацыі, урбанізацыі, развіццём міграцый насельніцтва, узмацненнем працэсаў эмансіпацыі жанчын. Значна ўзрос іх адукацыйны ўзровень. У працуючых жанчын ён вышэй, чым у мужчын (на 1 тыс. чалавек адпаведнага пола ў 1989 г. прыходзілася 149 жанчын і 138 мужчын з вышэйшай і адпаведна 641 і 608 з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Паказальна, што 56% спецыялістаў, якія працуюць у народнай гаспадарцы, — жанчыны. Яны ж склалі 53% сярод студэнтаў ВНУ і 59% сярод навучэнцаў сярэдніх спецыяльных устаноў у 1991/92 навучальным годзе)[313]. Пераважная большасць жанчын уцягнута ў грамадскую вытворчасць (у 1993 г. каля 84% жанчын Беларусі). Працэс гэты складаны і супярэчлівы, мае як свае станоўчыя, так і адмоўныя вынікі. З аднаго боку, вырастае аўтарытэт жанчыны ў сям'і і працоўным калектыве. Назіраецца рост жанчын у прафесійных групах, якія звязаны з сучаснай тэхнікай, новымі высокапрадукцыйным абсталяваннем і тэхналагічнымі працэсамі (аператары ЭВМ). Значная вага жанчын у такіх прафесіях, як урачы (64%), настаўнікі (77%), эканамісты і інш. З другога боку, застаецца прыкметнай доля жанчын, якія выконваюць малакваліфікаваную работу (прыбіральшчыцы, дворнікі), іншы раз нават шкодную для здароўя (на будоўлі, транспарце, у металургіі, хімічнай прамысловасці).

Відавочны былі і супярэчнасці, звязаныя з сумяшчэннем жанчынай грамадска-вытворчых і сямейных абавязкаў. Перад многімі жанчынамі стаяла дылема: вучоба ці дзіця або работа ці дзіця (прасочваецца адваротная прапарцыянальная залежнасць паміж адукацыяй, кваліфікацыяй жанчыны і колькасцю дзяцей у сям'і). І незаўсёды рашэнне было на карысць немаўляці. Жанчына іншы раз адказвалася не толькі ад нараджэння другога, трэцяга дзіцяці, але і ад першанца, маўляў, трэба вывучыцца, замацавацца на працы, пажыць дзеля сябе, а потым абзаводзіцца хлопчыкам ці дзяўчынкай. Аднак прырода часта помсціла ім. Значна павялічылася колькасць бяздзетных сем'яў, маючых, на мове медыкаў, другасную бясплоднасць, прычынай якой стаў аборт, што пацягнуў за сабой розныя захворванні. У 1980 г. колькасць абортаў у рэспубліцы склала 201,9 тыс. у 1991 г. — 243,2 тыс. (з улікам мініаборта метадам вакуума-аспірацыі)[314]. Адбываліся значныя зрухі ў самасвядомасці, светаўспрыманні беларусаў, змянялася шкала каштоўнасцей.

Гаворачы аб адмоўных баках эмансіпацыі, нельга скідваць з рахунку тыя набыткі, якіх дасягнуў народ у выніку

[311] Белорусская ССР в цифрах. Мн., 1963. С. 10; Народное хозяйство Республики Беларусь в 1991 г. Мн., 1993. С. 51.

[312] Там жа. С. 53.

[313] Чалавек і эканоміка. 1993. № 3. С. 3.

[314] Народное хозяйство Республики Беларусь в 1991 г. С. 150.



92. Вёска Высокая Ліпа Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Дзіцячы сад

стваральнай працы на працягу дзесяцігоддзяў (наяўнасць дзіцячых ясляў і садоў, аздараўленчых лагераў, турысцкіх і юнацкіх станцый; магчымасць атрымаць бясплатную адукацыю ў школах, тэхнікумах, інстытутах; паляпшэнне матэрыяльных і жыллёва-бытавых умоў сем'яў; даволі развітыя сістэмы грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання; дапамога жанчынам па цяжарнасці і родам; часткова аплачваемы водпуск па догляданні дзіцяці да дасягнення ім 1,5 года; дадатковы адпачынак без захавання заработнай платы да трохгадовага ўзросту; выплата дзяржавай аднаразовай дапамогі з выпадку нараджэння дзіцяці; дапамога мнагадзетным і малазабяспечаным сем'ям і інш.).

У галіне ўзаемаадносін, унутраных сувязей сям'і прасочвалася тэндэнцыя да дэмакратызацыі, эгалітарызацыі. Змяніўся інстытут вяршэнства ў сям'і. Фактычнае лідэрства ўсё часцей вызначаецца роллю кожнага члена ў справах сям'і, хаця ў сельскай мясцовасці, па традыцыі, галавой сям'і лічыцца мужчына. Сямейныя адносіны адрозніваюцца ў людзей рознага ўзросту, адукацыі, характара працы. Напрыклад, маладыя мужы часцей прымаюць удзел у працы па хатняй гаспадарцы, асабліва ў тых выпадках, калі жонка мае больш высокія адукацыю і кваліфікацыю[315]. Характэрна, што ў сучаснай сям'і няма, як у традыцыйнай, рэзкага размежавання працы на мужчынскую і жаночую. Аднак і сёння асноўная «паклажа» ляжыць на плячах жанчыны, што паслабляе кансалідуючую функцыю сям'іі, вядзе да канфліктаў і нават разбурэння шлюбу. Пасільную дапамогу ў хатніх справах аказваюць дзеці (уборка, мыццё посуду, праца на прысядзібным ці дачным участку). Аднак іх занятасць хатнімі справамі значна меншая, чым было ў традыцыйнай сям'і, паколькі галоўнай працай дзяцей стала вучоба.

Дэмакратызацыя прывяла да павышэння ролі жанчыны як галоўнага распа-

---

[315] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 450.

радчыка хатніх спраў і бюджэту, выхавальніка дзяцей і арганізатара вольнага часу. Станоўчую ролю тут адыгрывае павышэнне адукацыйнага і культурнага ўзроўню жанчыны. У 60—80-х гг. у вольным часе сям'і мелі месца як хатнія, так і грамадскія формы. Апошнія былі характэрны для больш маладых сем'яў (кіно, тэатр, спорт, турысцкія паходы, бібліятэкі і інш.). Важнае месца займала чытанне мастацкай і дзіцячай літаратуры.

Па традыцыі, беларусы падтрымлівалі кантакты са сваякамі, у першую чаргу з бацькамі і дзецьмі, братамі і сёстрамі, аказвалі адзін аднаму матэрыяльную і маральную дапамогу, сумесна сустракалі святы, сямейныя ўрачыстасці (вяселле, радзіны, дні нараджэння, наваселле і інш.).

У жыцці сям'і вялікае месца мелі суседскія і вытворчыя, вучэбныя і сяброўскія сувязі (аказанне дапамогі, сумеснае правядзенне вольнага часу).

Сям'я адыгрывае важную ролю ў фарміраванні ведаў аб сваіх продках. У свой час радаводы мелі шляхта, дваране, князі. Просты чалавек з-за сваёй непісьменнасці, думах аб хлебе надзённым, цяжкай працы не меў магчымасці штосьці запісаць аб сваіх продках. Аднак пры ўсіх цяжкасцях з пакалення ў пакаленне перадаваліся расказы, паданні аб сваіх продках, хто яны былі, дзе жылі, чым займаліся. Хавальнікамі памяці аб мінулым былі бабуля і дзядуля, яны апавядалі сваім унукам аб мінулым, перажытым, аб бацьках і дзедах. Сёння людзі спрабуюць знайсці свае карані. Часопіс «Спадчына» друкуе спіскі беларускай шляхты. У асобных сем'ях пішуць дзённікі, летапісы сям'і, радаслоўныя. Так, напрыклад, Данілаў Іван Сяргеевіч, які жыў у гарадскім пасёлку Езярышча Гарадоцкага раёна, пакінуў унукам свае ўспаміны, прасачыў вытокі свайго роду, пачынаючы з канца XVII ст. Яго продкі — працаўнікі сяляне — вылучаліся кемлівасцю, прагай да ведаў. Яшчэ ў XVIII ст. Іларыён, сялянскі грамацей, хадзіў у Іерусалім пакланіцца Грobу Гасподню. Многія абаранялі сваю родную зямлю ў Айчынную вайну (1812) і Вялікую Айчынную вайну (1941—1945), толькі за апошнюю вайну род страціў каля 10 мужчын[316].

Усведамленне сваёй прыналежнасці да пэўнага роду спрыяе ўключэнню чалавека ў разнастайныя этнічныя і сацыяльныя сувязі, з'яўляецца апорай для станаўлення этнічнай самасвядомасці. Важная роля належыць сям'і ў перадачы этнакультурнай інфармацыі (абрады і святы, фальклор, народныя веды і вераванні, рэлігія).

Нельга абыйсці ўвагай і тыя негатыўныя з'явы ў сямейнай сферы, якія ўзмацніліся з сярэдзіны 80-х гг. У ліку асноўных тэндэнцый: рост узроўня «добраахвотнай» бясшлюбнасці, змяншэнне колькасці зарэгістраваных шлюбаў, рост разводаў. Так, калі ў 1980 г. на 1 тыс. жыхароў прыходзілася 10,1 шлюба, у 1990 г. — 9,7, то ў 1998 г. — 7,0 шлюба. Колькасць разводаў на 1 тыс. жыхароў вырасла з 3,2 у 1980 г., да 4,6 у 1998 г.[317] Катастрафічна ўпала нараджальнасць. У 1993 г. упершыню за пасляваенны час колькасць памерлых пераўзышла колькасць народжаных, за год насельніцтва Беларусі скарацілася на 11,2 тыс. чалавек[318]. Расце колькасць і ўдзельная вага дзяцей, народжаных жанчынамі, што не ўступілі ў шлюб (у 1980 г. — 6,4% ад агульнай колькасці нарадзіўшыхся, у 1991 г. — 8,5%, у 1998 г. — 17,0, у тым ліку ў горадзе — 15,6%, у сельскай мясцовасці — 20,2%[319]).

[316] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 103—111.

[317] Народное хозяйство Республики Беларусь в 1991 г. С. 51; Статистический ежегодник Республики Беларусь. Мн., 1999. С. 68.

[318] Республика Беларусь в цифрах в 1993 г. Мн., 1994. С. 221.

[319] Статистический ежегодник Республики Беларусь. Мн., 1999. С. 72.

Гэта безумоўна пагаршае выхаванне дзяцей, робіць яго аднабаковым. Значна павялічылася колькасць адказаў маці ад дзяцей адразу пасля родаў (сіроты пры жывых бацьках). Штогод вясной вакол Мінска находзяць «падснежнікаў» (выкінутых малых дзяцей). Бумерангам усё вяртаецца бацькам (дамы састарэлых перапоўнены).

Чарнобыльская катастрофа і яе вынікі паўплывалі на сям'ю беларусаў. У выніку міграцый з зон, якія пацярпелі ад забруджвання, адбываецца парушэнне ўзаемасувязей людзей: суседскіх, сваяцкіх, сямейных. Частка былых сельскіх жыхароў трапіла ў вялікія гарады (толькі ў Мінску цэлыя мікраараёны заселены мігрантамі з зоны павышанай радыяцыі), і тут узнікае праблема адаптацыі да ўрбанізаванага асяроддзя. Найбольш цяжка прыжываюцца сталыя людзі, якія смуткуюць па сваёй гаспадарцы, доме. Але ж і частка моладзі ўспрымае толькі вонкавы стыль горада: адзенне, паводзіны, нярэдка ігнаруючы шырокія культурныя і адукацыйныя магчымасці, якія прадстаўляе горад.

У постперабудовачны перыяд абвальны крызіс усіх асноў грамадства балюча ўдарыў па сям'і. Пагоршыўся матэрыяльны дабрабыт большасці сем'яў і нават іх духоўны мікраклімат (сказалася звужэнне інфармацыйнага абмену і зніжэнне чытацкай актыўнасці). За апошнія гады скарацілася колькасць дзяцей у дашкольных дзіцячых установах, што звязана з ростам платы за паслугі ў гэтых установах, а таксама закрыццём часткі іх. Забяспечанасць дзяцей пастаяннымі дашкольнымі ўстановамі ў працэнтах ад колькасці дзяцей адпаведнага ўзросту знізілася ў гарадскіх пасяленнях з 79,9% у 1985 г. да 59,7% у 1993 г.; у сельскай мясцовасці — з 41,1% да 32,5%[320].

Жанчына крок за крокам здае заваяваныя пазіцыі. Сёння ёй прыходзіцца на роўных сапернічаць з мужчынам. Аказалася, што і ў беспрацоў'я жаночае аблічча (сярод беспрацоўных жанчыны складалі 79% у 1993 г.)[321]. Улада грашовага мяшка раз'ядае асновы сям'і. У першую чаргу, пад яе ўплыў пападаюць дзеці, падлеткі, у выніку чаго расце доля правапарушэнняў, алкагалізму, наркаманіі сярод іх. Для многіх юнакоў і дзяўчат праца страціла грамадскую значнасць і з'яўляецца галоўным сродкам для задавальнення асабістых патрэб. Прыблізна 87% рэспандэнтаў на першае месца ставяць матэрыяльны дабрабыт, галоўнае ж патрабаванне да працы — магчымасць добра зарабляць. З гэтага вынікае, што для большасці моладзі праца страціла сэнс як сродак самарэалізацыі[322]. Калі ж да сказанага дадаць і згасанне імкнення да адукацыі, ведаў, то гэта ўсё разам узятае можа мець адмоўныя вынікі. Тым больш, што разрыў паміж пакаленнямі паглыбляецца, разбураецца працэс пераемнасці паміж бацькамі і дзецьмі.

І ўсё ж хацелася б закончыць раздзел аб сям'і на светлай, мажорнай ноце. Даследаванні сацыёлагаў паказалі, што, нягледзячы на крызісны стан сям'і, яна не страціла сваёй каштоўнасці і значнасці для чалавека. Так, па даных апытання, праведзенага Інстытутам сацыялогіі НАНБ у 1993 г., 86,1% маладых людзей ва ўзросце 16—29 год[323] адзначылі, што сям'я вельмі важная для іх. Паказальна, што з павелічэннем узросту апытаных значнасць сям'і ўзрастае. Як і ў мінулым, яна дапамагае адаптавацца чалавеку да навакольнага асяроддзя, зменлівых умоў жыцця, уяўляе сабой «бліжэйшую і самую дарагую для нас Айчыну».

---

[320] Республика Беларусь в цифрах в 1993 г. С. 221.

[321] Чалавек і эканоміка. 1993. № 3. С. 3.

[322] Там жа. 1994. № 5. С. 43.

[323] Чалавек і эканоміка. 1994. № 2. С. 36.

* * *

Важным элементам сямейнага быту, неад'емнай часткай спосабу жыцця з'яўляюцца сямейныя святы і абрады. Яны забяспечваюць духоўную пераемнасць паміж пакаленнямі, умацоўваюць прававыя і маральна-этычныя нормы грамадства. У іх акумулююцца і рэалізуюцца гісторыка-культурныя каштоўнасці народа, яго самасвядомасць.

Сацыяльныя працэсы XX ст. пацягнулі за сабой знікненне цэлых пластоў традыцыйнай культуры. Гэтаму ж спрыялі і навукова-тэхнічны прагрэс, які не абапіраўся на адвечныя традыцыйныя каштоўнасці народа, урбанізацыя і міграцыйныя працэсы, інтэрнацыяналізацыя быту, ладу жыцця.

У 20-я гг. адбывалася мэтанакіраваная трансфармацыя абраднасці беларусаў, змены яе ішлі двума шляхамі: шляхам мадэрнізацыі традыцыйных святаў і абрадаў з вызваленнем іх ад рэлігійнай атрыбутыкі і шляхам супрацьпастаўлення старой абраднасці новай рэвалюцыйнай, але ўжо з выкарыстаннем іншых, «чырвоных» сімвалаў. Узніклі першыя формы сацыялістычнай абраднасці: «чырвоныя хрысціны, або акцябрыны», «чырвонае вяселле», «грамадзянскія пахароны». Новыя абрады часта нагадвалі сабой мітынгі з доўгімі прамовамі, чытаннем лекцый, вынасам сцягаў, спевамі «Інтэрнацыянала». На першае месца вылучалася прапагандысцкая функцыя і ігнараваліся эстэтычная, бытавая, эмацыянальная сферы.

Вось як, напрыклад, праходзілі «чырвоныя хрысціны» на Мінскіх пяхотных курсах (1923): «У тэатры клуба курсаў біткам набіта. Акрамя курсантаў, тут маса жанчын, што прыйшлі паглядзець на «савецкія хрысціны». Узнімаецца заслона, выбіраецца прэзідыум. Першым ідзе даклад аб новым быце. Пасля даклада старшыня пад узрыў апладысментаў і «туш» аркестра запрашае віноўнікаў урачыстасці — бацькоў дзіцяці ў прэзідыум...»[324]

Спрасцілася ў параўнанні з традыцыйнай сама працэдура правядзення абраду. У ім не ўдзельнічалі традыцыйныя ўспрыемнікі: кум і кума (хросны бацька і хросная маці). Дзіця з рук маці адразу ж перадавалася ў рукі старшыні, які прадстаўляў яго прысутным. Па існаваўшаму раней звычаю, імя даваў святар, улічваючы пажаданні бацькоў. У дадзеным выпадку імя дзіцяці даваў цэлы калектыў. Усё рашала галасаванне. Па старому звычаю дзіця апякалі хросны бацька і хросная маці, па новаму ж — падтрымліваў нованароджанага калектыў. А па сутнасці — ніхто не браў на сябе ніякай адказнасці. Усе і ніхто асабіста. І, нарэшце, у абрадзе не было традыцыйнай «бабінай кашы». Яе замянілі падарункі сваякоў і гасцей, калектыву.

«Калі справа даходзіла да імя, слова браў старшыня.

— Таварышы! Нам трэба зараз даць імя дзіцяці.

— Акцябрына!

— Марсельеза!

— Звязда!

— Рэвалюцыя!

— Прыступаем да галасавання. Хто за тое, каб дзяўчынку ў гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі назваць Акцябрынай?

Аб'яўляецца акт аб увядзенні ў грамадзянства: «... Ячэйка камсамола курсаў з сённяшняга дня бярэ дзіця пад сваё апякунства, абязуецца ўсямерна клапаціцца аб выхаванні яго і матэрыяльнай падтрымцы... Гучыць «Інтэрнацыянал»[325].

Характэрна. што афіцыйныя, бюракратычныя хрысціны прыжываліся цяжка. Новыя абрады большай часткай былі характэрны для насельніцтва горада. Вось два дастаткова тыповых прыклада.

---

[324] Звезда. 28 декабря 1923.
[325] Там жа.

«У панядзелак, 18 студзеня 1924 года на Віцебскай абутковай фабрыцы адбыліся «акцябрыны». Акцябрылі хлопчыка і дзяўчынку старшыні фабрыкі т. Бейснера і рабочага фабрыкі т. Вінгера. Хлопчык быў названы імем Віль, а дзяўчынка Роза, у гонар Розы Люксембург...»[326]

«Полацк святкаваў на гэтых днях адну буйную перамогу разнявольвання рабочых і сялян ад ланцугоў і пут рэлігійнага дурмана. Два напаўпісьменных рабочых — дрэваапрацоўшчыкі заявілі сваім таварышам, што парываюць ланцугі з рэлігіяй. Яны даручылі дзяцей прафсаюзу. А прафсаюз з удзелам членаў у рабочым клубе сціпла адсвяткаваў павелічэнне сваёй працоўнай сям'і. Пад буру апладысментаў малютак назвалі Кларай і Уладзімірам. На чырвоных хрысцінах былі сяляне, на якіх усё гэта выклікала ашаламляючае ўражанне»[327].

Што ж датычыцца сялян, то яны глядзелі на новыя абрады як на заморскае дзіва, у большасці сваёй не прымаючы іх.

Цікавы выпадак адбыўся ў в. Мормаль Стрэшынскага раёна: «Сялянка... з дзіцем на руках на днях звярнулася ў жанадзел з просьбай аб прыняцці яе сына ў піянеры і ўзнагародзе яго невялікім падарункам дзеля таго, каб даказаць весцы, што для грамадства ніякага злачынства не зрабіла... як высветлілася з размовы ... дзевяць дзяцей сваіх яна хрысціла, а дзесятага, што нарадзіўся тры нядзелі назад, яна хрысціць не стала, а дала яму імя Уладзімір. Яна заяўляе, што ёй не важны падарунак. Ёй толькі хочацца, каб камуністы прыехалі ў вёску наладзіць «чырвоныя хрысціны» яе дзесятаму дзіцяці, што, на яе думку, будзе мець вялікае значэнне для вёскі...»[328]

«Чырвонае» вяселле, як і радзіны, праводзілася аднатыпна, па адной схеме: даклад аб новым быце, віншаванні ад грамадскасці і ад прадстаўнікоў прадпрыемстваў, афармленне і ўручэнне пасведчанняў аб шлюбе, уручэнне падарункаў. У новым абрадзе не было традыцыйных сватоў, дружак, заручальных пярсцёнкаў, фаты, каравая, што, натуральна, збядняла ўрачыстасць. У газетах спецыяльна для актывістаў друкаваліся невялічкія агіткі, іх можна было вывесіць у хатах-чытальнях у час вяселля, можна было спець пад гармонь:

Выйду замуж без іконы, без багамалення
Па савецкаму закону за маё пачценне.[329]

Мяне знае ўсё сяло
Дзеўкай маладзецкаю.
Абвянчаюсь з сваім мілым
Толькі па-савецкаму.[330]

Газета «Красная смена» ад 3.01.1924 г. паведамляла: «У горадзе ў асноўным рабочыя ўжо рэгіструюцца па-грамадзянскі. Адзначаюць вяселлі ў хатах-чытальнях, клубах. Некалькі «горш» ідуць справы з камуністамі-сялянамі. Камуністы не могуць устаяць супраць настойлівых просьбаў нявесты, якая хоча хаджэннем вакол алтара замацаваць за сабой няўрымслівага камуніста. Часта бацькі нявесты настойваюць на царкоўным абрадзе. Пры размове з жаніхом-камуністам ён звычайна адзначае, што вянчанне яго веруючым не зробіць, а нявесце і родным будзе прыемна. Разам з тым вызначалася, што партыя і ў выпадках з царкоўнымі шлюбамі (таксама і з хрышчэннем дзіцяці і інш.) выключае з сваіх радоў тых членаў, якія дазволілі папу, ксяндзу, равіну, муле рабіць над сабой той ці іншы рытуал (абрад)»[331]. І такіх выпадкаў было шмат. На прыкладзе камуністаў і камсамольцаў

[326] Известия. 23 февраля 1924.
[327] Звезда. 9 марта 1924.
[328] Коммунист. 7 декабря 1924.
[329] Крестьянская газета / Орган Витебского Окружкома КП/б/Б. 19 февраля 1925.
[330] Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі. Мн., 1957. С. 132.
[331] Звезда. 18 сентября 1923.

і беспартыйныя адыходзілі ад традыцыйнай абраднасці.

Характэрна, што вясельная абраднасць у 20-я гг., асабліва на вёсцы, працягвала захоўваць сваю традыцыйную аснову, асноўныя этапы вяселля, вясельныя чыны (сваты, дружкі і інш.). Аднак карэннае разбурэнне асноў старога жыцця не абыйшло і абрады. Нават традыцыйнае вяселле прыстасоўвалася да новых умоў. Вось, напрыклад, вясельнае пажаданне: «Дару вам шчасце, жыта мерку і дачку піянерку». Паступова ўсталёўваліся грамадзянскія шлюбы, што адмаўлялі царкоўнае вянчанне. Аднак грамадзянскае афармленне шлюбу не абазначала поўнага адмаўлення ад элементаў старога вяселля ў ходзе самой урачыстасці. Тым больш, што ідэалагічных і клубных работнікаў пасля правядзення ўрачыстай рэгістрацыі ўжо не цікавіла само вяселле. Гэта ў нейкай ступені і захавала ў народзе вясельныя традыцыі.

Побач з «акцябрынамі», «чырвоным» і «камсамольскім» вяселлем усталеўвалася і новая грамадзянская пахавальная абраднасць. Замест адпявання іграў духавы аркестр. Пахавальная працэсія пад гукі жалобнай музыкі павольна рухалася да месца пахавання. На могілках адбываўся мітынг. Выступалі таварышы па службе. Гаварылі, як правіла, аб дзейнасці нябожчыка, аб яго ідэалах. Ля праха давалі абяцанне вечна помніць таварыша, давесці да канца справу, якой ён пасвяціў сваё жыццё.

Вось як праходзіла пахаванне па новаму абраду былога харчінспектара Ўладзіслава Манрона ў Бродзецкай воласці Бабруйскага павета. «У дзень пахарон з ранку ўсе на нагах: хто гроб рыхтуе, хто вянкі пляце, хто магілу рые. На берагу ракі назбіралася шмат народу. У шэсці ўдзельнічалі ячэйкі КПБ і КСМ, прафарганізацый, школы, грамадзяне сяла Бацэвічы і іншых вёсак. Вуліцы сяла Бацэвічы перапоўнены сялянамі, якія з цікавасцю назіраюць за такой новай на вёсцы з'явай. На магіле былі вымаўлены прамовы ... Гроб апускаецца ў магілу пры трох ружжовых залпах і спевах пахароннага марша»[332]. На прыкладзе ўкаранення новай сямейнай абраднасці ў 20-я гг. як у люстэрку праглядваліся тэндэнцыі на разбурэнне народнай культуры, да страты пераемнасці духоўных каштоўнасцей, што ў выніку абярнулася згубай духоўнасці, раз'яднаннем маладога і старэйшага пакаленняў.

У 30-я гг., як і раней, важнай падзеяй у жыцці беларусаў было народнае вяселле з яго відовішчамі, гульнямі, велічальнымі і каравайнымі песнямі, жартамі. прымаўкамі, вясельнымі чынамі. І малы, і стары знаходзіў сваё месца ў гэтым відовішчы. Па старым абрадам сустракалі нараджэнне дзіцяці і праважалі ў апошні шлях сваякоў.

У пасляваенны час ішла асабліва інтэнсіўная трансфармацыя сямейнай абраднасці. Аднак гэты працэс быў даволі складаным і супярэчлівым. Поруч з укараненнем новай абраднасці, адбывалася актывізацыя абрадавай творчасці народных мас, адраджаліся нацыянальныя святочныя традыцыі.

У сістэме сувязі са сваім народам у сельскіх жыхароў абрадавае жыццё займае 2-е месца пасля мовы (24,5% апытаных адзначылі, што зараз больш за ўсё нацыянальная своеасаблівасць беларусаў праяўляецца ў звычаях і абрадах), у беларусаў-гараджан — 3-е, пасля мовы, нацыянальных песень, музыкі, танцаў (даследаванне 1986 г.). На сучасным этапе абрадавае жыццё беларусаў характарызуецца дыялектычным спалучэннем новага і традыцыйнага. Прычым у розных абрадавых цыклах, а таксама ў саміх святах і абрадах гэта спалучэнне праяўляецца па-рознаму. Ступень захаванасці нацыянальнай самабытнасці найбольш высокая ў

[332] Коммунист. 12 февраля 1924.

абрадавых цыклах, звязаных з жыццём сям'і, меншая — у дзяржаўных, працоўных святах і абрадах.

У беларусаў захаваліся народна-бытавыя формы вяселля, але ж у параўнанні з пачаткам XX ст. яны моцна змяніліся. Амаль поўнасцю зніклі звычаі і абрады, магічныя дзеянні давясельнага перыяду і сватаўства, значна скарацілася ўласна вяселле: калі раней святкаванне праводзілі як у доме жаніха, так і ў нявесты, то цяпер найчасцей гэтыя этапы зліваюцца ў адно цэлае[333]. Шкада, што з вясельнага рытуалу выпалі вельмі драматычныя эмацыянальныя звычаі і абрадавыя дзеянні пасаду маладых, расплятання касы нявесты, акручэння яе ў галаўны ўбор замужняй жанчыны.

У сучасным беларускім вяселлі прысутнічаюць традыцыйныя персанажы: сват са свацццяй і сябры маладых (шаферы, дружкі, маршалкі). Асаблівае ажыўленне заўсёды выклікаюць жартоўныя выкупы (выкуп месца за сталом для жаніха, выкуп варот і інш.). Цэнтральны момант сучаснага вяселля, таксама як і старадаўняга, — дзяленне каравая, адорванне маладых. Хочацца нагадаць, што на традыцыйным вяселлі гэты рытуал быў, бадай, самым відовішчным, маляўнічым. Выпечка каравая суправаджалася спецыяльнымі каравайнымі песнямі. Каравай, паводле народных уяўленняў, — сімвал урадлівасці. Дзялілі яго з жартамі, гумарам, пажаданнямі ў адрас маладых і іх бацькоў здароўя, дабрабыту, працавітасці, мець «сына і дачку» і іншымі. Добрыя народныя традыцыі працягваюцца і ў нашы дні, хоць у асобных выпадках мае месца іх змяненне. Напрыклад, адорванне маладых іншы раз уяўляе сабой доўгае і стамляючае для гасцей стаянне ў чарзе, каб уручыць канверт з грашыма. Вядучы гэтага «рытуалу» нават называе сумы, каменцiруючы іх...

Назіранні паказалі, што ў памяці вяскоўцаў, ды і гараджан, захоўваюцца мясцовыя велічальныя і каравайныя песні. Колькі цікавага могуць яны расказаць і паказаць, успомніць і аднавіць. А бывае ж, што на вяселлі паімкнецца бабуля заспяваць песню аб маладой і маладым, аб жаночай долі ці паказаць які-небудзь момант са шлюбнага абраду, дык маладыя хуценька адцягнуць яе ўбок, нібыта саромячыся застарэлых, на іх погляд, абрадаў. Апошнім часам работнікі культуры, выпраўляючы свае старыя памылкі, інтэнсіўна ўключыліся ў аднаўленне народных традыцый. Калі 10—20 гадоў назад у іх дзейнасці перабольшвалі пераймальніцкія тэндэнцыі, то сёння яны праводзяць своеасаблівую рэканструкцыю даўніх абрадаў, вясельных карагодаў, народных гульняў. Так, у Давыд-Гарадоцкім раёне новае жыццё набывае перадшлюбны абрад «вена», які праводзіцца звычайна ў чацвер перад вяселлем. З боку маладога збіраюцца сваякі і ідуць да бацькоў нявесты. Тут адбываецца жартоўная сцэнка. Сваякі маладога спрабуюць паглядзець пасцель, што прыгатавана ў пасаг для нявесты, а яе бацькі стараюцца перашкодзіць ім у гэтым. Праз некаторы час усе разам ідуць да дому жаніха, наперадзе нясуць іконы, хлеб-соль. У доме маладога пачынаецца галоўнае рытуальнае дзеянне — агляд і засціланне пасцелі. З адпаведнымі гэтаму звычаю песнямі і прыказкамі адны адзяваюць навалачкі на падушкі, другія засцілаюць прасціну, коўдру, абсыпаюць пасцель жытам і паверх пакрываюць дыванам — «каб маладым мякчэй спалася».

Паводле даследавання 1986 г., 62% жыхароў вёсак і 35% жыхароў гарадоў за апошнія 3 гады ўдзельнічалі ў вяселлях. Прычым сельскае насельніцтва мае ярка выяўленую патрэбу ва ўключэнні ў вясельны абрад традыцыйных элементаў (83,5% апытаных).

[333] Кухаронак Т. І. Сямейная абраднасць беларусаў // Сям'я і сямейны быт беларусаў. Мн., 1990. С. 242.

Папярэднічае вяселлю звычайная ці ўрачыстая рэгістрацыя шлюбу. Работнікі многіх сельскіх саветаў, клубных устаноў здолелі надаць урачыстаму акту душэўную цеплыню, сапраўдную эстэтычнасць. У абрадзе рэгістрацыі шлюбу істотнае месца займаюць такія новыя элементы, як уручэнне прывітальных адрасоў і памятных сувеніраў, віншаванні блізкіх і прадстаўнікоў працоўных калектываў. Гэтым падкрэсліваецца грамадская ўвага да стварэння моцнай сям'і. Адначасова ва ўрачысты акт уваходзяць народныя традыцыі, якія сведчаць аб захаванні беларускім народам нацыянальных культурных каштоўнасцей: сустрэча маладых хлебам-соллю; асыпанне жаніха і нявесты кветкамі, збожжам, хмелем; вынас беларускага ручніка, багата ўпрыгожанага традыцыйнай вышыўкай, на які становяцца маладыя ў час шлюбнай цырымоніі; узвядзенне аркі гонару; выкананне фальклорна-этнаграфічнымі калектывамі вясельных песень.

З сямейнага абрадавага цыкла найбольш трансфармаваліся радзіны. Пастаянна змяняліся семантычнае значэнне і функцыі некаторых абрадавых элементаў: адны з іх адміралі, з'яўляліся новыя. Адышлі ў мінулае многія абрадавыя дзеянні і павер'і, звязаныя з цяжарнасцю жанчыны і нараджэннем дзіцяці. Прыкметна скарацілася абраднасць, звязаная з прыняццем нованароджанага ў сям'ю і грамадства. Цалкам зніклі абрады ачышчэння нованароджанага і парадзіхі. Захаваліся абрадавыя элементы, у аснове якіх ляжыць рацыянальнае зерне: клопаты аб здароўі маці і дзіцяці, жаданне выгадаваць здаровае і шчаслівае пакаленне. Сучасная радзінная абраднасць уключае ў сябе шэраг традыцыйных элементаў: адведкі нованароджанага, інстытут кумоў (ганаровых бацькоў), жартоўны раздзел «бабінай кашы» (яе часта замяняюць цукеркамі, пячэннем, пірагом, тортам). У рэспубліцы ўжо назапашаны некаторы



93. Гомель. Палац шлюбу. 1980-я гг.

вопыт правядзення новага абраду — урачыстай рэгістрацыі нованароджанага. Звычайна ён праводзіцца ў прысутнасці ганаровых бацькоў, прадстаўнікоў грамадскасці, дэпутатаў сельсавета. Вясной і ўвосень у гонар нованароджанага высаджваюцца дрэўцы. У вёсках Іванаўскага, Лунінецкага, Пінскага раёнаў Брэсцкай вобласці рэгістрацыя нованароджанага (акрамя ўрачыстага акта, віншаванняў, уручэння падарункаў) уключае і такі элемент: бацькам хлопчыка дораць сімвалічныя вянкі з галінак дуба і каласкоў пшаніцы, бацькам дзяўчынкі — з каліны і каласкоў пшаніцы[334].

Трэба адзначыць, што радзіны менш папулярныя ў насельніцтва, чым вясельныя абрады. Цяжка ўваходзіць у жыццё абрад урачыстай рэгістрацыі нованароджанага. Толькі 3,2% апытаных у горадзе і 4% на вёсцы рэгістравалі сваіх дзяцей ва ўрачыстых абставінах. У многіх сельсаветах, а таксама і ў гарадскіх ЗАГСах, няма абрадавых пакояў, адпаведнай атрыбутыкі. Часта такія рэгістрацыі, асабліва ў зімовы час, адбываліся без дзіцяці.

[334] Знамя юности. 20 декабря 1984.

У пачатку 90-х гг. гэты абрад практычна перастаў праводзіцца. На сённяшні дзень у радзіннай абраднасці засталіся, па сутнасці, дзве формы: царкоўная і народна-бытавая.

Пахавальна-памінальны абрад, што звязаны з даўнім культам памёршых і больш познімі царкоўна-хрысціянскімі напластаваннямі, — найбольш кансерватыўны. Ён змяшчае шмат элементаў традыцыйнай абраднасці: кветкі, вянкі, зеляніну, жалобную працэсію, развітальнае слова, кіданне жменькі зямлі ў магілу, галашэнні, памінкі і інш.

Менавіта ў сямейнай сферы найбольш жывучай з'яўляецца рэлігійная абраднасць, асабліва тады, калі гаворка ідзе аб нараджэнні чалавека ці яго смерці. Паводле даных абследавання 1986 г., 70% апытаных з ліку сельскіх жыхароў і 30% у горадзе хрысцілі сваіх дзяцей. Кожны пяты сельскі жыхар і дзесяты гараджанін хавалі сваякоў з поўным захаваннем рэлігійных прадпісанняў, кожны дзесяты вясковец і соты гараджанін вянчаліся ў царкве або касцёле. Рэлігійная абраднасць існуе паралельна, а ў іншых выпадках сінтэзуецца з новымі традыцыямі. Урачысты або звычайны акт рэгістрацыі нованароджанага дапаўняецца хрышчэннем ў царкве, на пахаваннях у шэрагу выпадкаў (побач з сучасным грамадзянскім абрадам з вянкамі, аркестрам, мітынгам, прамовамі) захоўваюцца рэлігійныя прадпісанні: адпяванне ў царкве, прысутнасць святара і інш.

У рэспубліцы адзначаюць «залатыя» і «сярэбраныя» сямейныя ўрачыстасці, дні нараджэння. Юбілярам уручаюць віншавальныя адрасы, узнагароды, іх імёны заносяць у кнігу ганаровых жыхароў горада ці вёскі. Узмацняе значнасць падзеі для саміх юбіляраў, іх родных, сяброў, таварышаў па працы тэатралізаванае шэсце праз умоўныя парогі жыцця.

Але новыя рытуалы, звязаныя з падзеямі асабістага жыцця чалавека, толькі заваёўваюць папулярнасць, яны яшчэ не сталі звычаямі. Напрыклад, далёка не ўсюды праводзяцца ўрачыстыя праводзіны на пенсію, дзень паўналецця, святы сям'і.

У 1980-я гг. у Беларусі атрымаў распаўсюджанне новы грамадзянскі абрад — Дзень памяці, які склаўся на аснове старадаўняга славянскага звычаю ўшанавання памяці нябожчыкаў. Урачыста-жалобная цырымонія праводзіцца па спецыяльна распрацаванаму сцэнарыю, які ўключае ўступнае слова афіцыйнай асобы, мастацка-публіцыстычныя тэксты вядучых, музычныя творы, пайменнае памінанне, хвіліну маўчання, цырымонію ўскладання гірлянды славы або вянкоў на магілы загінуўшых у баях і магілы блізкіх людзей. Характэрна, што Дні памяці прыцягваюць шмат людзей, прычым не толькі жыхароў дадзенай вёскі, пасёлка, але і прыезджых здалёку, загадзя апавешчаных аб маючым адбыцца абрадзе. У гэты дзень яны наведваюць магілы дарагіх ім людзей, прымаюць удзел у жалобнай цырымоніі. Звычайна ў Беларусі Дні памяці адбываюцца вясной, у красавіку—маі. Напярэдадні могілкі прыводзяць у парадак, высаджваюцца дрэвы, кветкі, фарбуюцца помнікі, лаўкі, агароджы магіл. У асобных раёнах рэспублікі Дзень памяці адбываецца ўвосень. Так, у Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці ён арганізуецца ў кастрычніку, таму што тут бытуе традыцыя шанаваць памяць нябожчыкаў увосень. З 1991 г. у Рэспубліцы Беларусь устаноўлены адзіны Дзень Памяці, які прыўрочаны да восеньскіх Дзядоў.

Мы прасачылі асноўныя тэндэнцыі развіцця сям'і, яе складу, структуры, а таксама быту беларусаў у XX ст. Эвалюцыя беларускай сям'і вызначалася агульнымі для развітых краін глабальнымі зменамі ў сямейнай сферы (нуклеарызацыя сям'і, паніжэнне нараджальнасці, рост разводаў, няпоўных сем'яў, дэмакратызацыя ўнутрысямейных адносін). Негатыўна адбіліся на сям'і кардынальныя палітычныя і сацыяльна-эканамічныя пера-

ўладкаванні пачатку і канца XX ст. Паступова адбылася змена дэмаграфічных установак ад мнагадзетнай да сярэдняй і маладзетнай сям'і. Павысіўся ўзровень міжнацыянальнай шлюбнасці, што паўплывала на трансфармацыю сям'і і яе ладу жыцця. Высокі ўзровень занятасці ў грамадскай вытворчасці як мужчын, так і жанчын вызначае шмат якія бакі жыцця сям'і беларусаў, уплывае на шкалу каштоўнасцей, на стабільнасць сямейных адносін. У структуры лідэрства і галавы сям'і адбыўся пераход ад аўтарытарнай да эгалітарнай сям'і. У сферы жыццядзейнасці сям'і важнае месца занялі арыентацыі на павышэнне адукацыі, прафесійны рост, далучэнне да культурных каштоўнасцей.

Побач з пазітыўнымі зменамі ў жыцці сям'і адзначаліся негатыўныя тэндэнцыі ў рэпрадукцыйнай, выхаваўчай яе функцыях, якія асабліва ўзмацніліся на пачатку 1990-х гг.

Сям'я паступова страчвае манаполію на выхаванне дзяцей, моладзі, на перадачу этнічных традыцый і аддае пэўную частку гэтых функцый афіцыйным установам: дзіцячым садкам, школам, інстытутам, працоўным калектывам і інш. Разам з тым, беларуская сям'я захоўвае многія станоўчыя традыцыі мінулага (працоўнае выхаванне дзяцей, святочна-абрадавую культуру народа, у якой найбольш яскрава ў пасляваенны час ішоў працэс вяртання традыцый), фарміруе этнічную самасвядомасць падрастаючых пакаленняў.

# РАЗВІЦЦЁ ДУХОЎНАЙ КУЛЬТУРЫ

## ФАЛЬКЛОР

Фальклор з'яўляецца арганічнай часткай духоўнай культуры, самасвядомасці беларусаў. Пад ім часцей за ўсё разумеюць комплекс слоўных, слоўна-музычных, музычна-харэаграфічных, гульнёвых і драматычных відаў народнага мастацтва. У дадзеным параграфе акцэнтуецца ўвага галоўным чынам на вузкім значэнні фальклору як мастацтва слова. Вуснапаэтычная народная творчасць, адлюстроўваючы побыт, светаадчуванне, светапогляды беларусаў, на розных этапах этнічнай гісторыі народа зазнае пэўную эвалюцыю, пэўныя змены ў жанравай сістэме. На пачатку XX ст. народная паэтычная творчасць беларусаў захоўвала свае асноўныя жанры і віды. Аднак развіццё вытворчых сіл адбівалася на змесце і формах фальклорных твораў. Назіралася трансфармацыя каляндарна-абрадавай паэзіі, сацыяльнае гучанне набывала пазаабрадавая паэзія, казкі, легенды, анекдоты, жарты. Масавае распаўсюджанне атрымалі батрацкія песні. Фарміраваўся рабочы фальклор, які ўключаў песні, прыпеўкі, вершы, вусныя сказы, паданні, прыказкі і прымаўкі.

Са зменамі ў палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцці народа звузіліся функцыі вуснай паэтычнай творчасці. У першыя гады Савецкай улады народная паэзія ацэньвалася кіруючымі коламі як перажытак, рэлікт мінулага, які чужы пралетарскай культуры. Актыўную работу па выкараненню спадчыны праводзілі разнастайныя пралеткультаўскія арганізацыі[335]. Аднак, нягледзячы на ідэалагічны ціск, вусная паэтычная творчасць працягвала выконваць самыя разнастайныя функцыі ў жыцці народа: утылітарна-

[335] Морозов А. В. Русская фольклористика 1920—50-х годов. Социокультурный аспект функционирования // Славянскія культуры: Гістарычны вопыт і сучасныя праблемы. Мн., 1996. С. 210.

практычную, эстэтычную, магічную, выхаваўчую, — якія выяўляліся ў рэгламентацыі вытворчай дзейнасці, грамадскага і сямейнага побыту, далучэнні новых пакаленняў да традыцыйнай культуры. Пэўнае развіццё ў гэты час атрымала навука аб народнай паэзіі — фалькларыстыка. Шырокі размах у 20-я гг. набыла фальклорная збіральніцкая дзейнасць, вынікі якой адлюстроўваліся на старонках часопіса «Наш край». У часопісе былі надрукаваны праграмы-інструкцыі па збору вуснай народнай паэтычнай творчасці, асобныя фальклорныя творы, тэарэтычна асэнсоўвалася духоўнае багацце народа. Фалькларыстычная праца 20-х гг. звязана з дзейнасцю вядомых даследчыкаў Я. Ф. Карскага, А. Грыневіча, І. А. Сербава, А. К. Сержпутоўскага, А. А. Шлюбскага, а таксама са збіральніцкай працай вялікай колькасці краязнаўцаў-настаўнікаў, студэнтаў, вучняў старэйшых класаў школ. Толькі за тры гады карэспандэнтамі з розных месц Беларусі было даслана ў часопіс «Наш край» 12145 запісаў прыпевак, 4866 загадак, 3847 прыказак, 3943 бытавых песень, 1675 песень працы, 711 замоў, 483 калядных песень, 772 веснавых, 395 купальскіх песень, 508 казак, апавяданняў і легенд. Менш было запісана масленічных песень (187), купальскіх песень (36), хаўтурных галашэнняў (18), духоўных вершаў (16)[336]. Сабраны фальклорны матэрыял сведчыў аб даволі шырокай палітры жанравай сістэмы вуснапаэтычнай творчасці, а таксама аб накірунках яе эвалюцыі, новых працэсах у каляндарна-абрадавай, сямейнай паэзіі, звязаных з адыходам ад старадаўніх утылітарна-магічных функцый. З багатай народнай спадчыны адбіраліся найбольш павярхоўныя творы, у асабістасці прыпеўкі, якія найбольш хутка адгукаліся на рэчаіснасць, змены ў палітычным жыцці, побыце народа. Найбольш пашыраны яны былі сярод моладзі. Актывізавалася антырэлігійная і антыцаркоўная творчасць, з'явіліся фальклорныя творы ці падробкі пад іх аб кіраўніках дзяржавы.

У канцы 20 — пачатку 30 гг. змяніліся ідэалагічныя ўстаноўкі і, адпаведна, адносіны ўлад да фальклорнай спадчыны. Калі раней гаворка ішла аб затуханні і знікненні народнай паэзіі, то цяпер высоўваецца новы тэзіс аб творча актыўным яе жыцці, аб новай перадавой народнай творчасці, якая адлюстроўвае рэвалюцыйную эпоху і новую свядомасць савецкіх людзей, іх актыўны ўдзел у жорсткай класавай барацьбе. Асноўная ўвага звярталася на запіс толькі савецкай вуснай паэзіі, народнай творчасці рабочых і сялян, будаўнікоў камунізму[337]. Са сферы даследавання выключаліся замовы, духоўныя вершы, другараднае месца адводзілася абрадавай паэзіі, якую аб'явілі кулацкай творчасцю. Іх не запісвалі і не выдавалі. Разам з тым, нельга не адзначыць, што традыцыйная народная паэзія яшчэ даволі трывала захоўвалася ў памяці беларусаў, асабліва ў старэйшага пакалення. Са зменамі сацыяльна-эканамічных умоў жыцця народа (калектывізацыя, індустрыялізацыя, урбанізацыя) адбывалася інтэнсіўная трансфармацыя відаў і жанраў фальклору. Моцны ўплыў на народную паэтычную творчасць аказвалі прафесійная літаратура і мастацтва, сродкі масавай інфармацыі. У быт сельскіх жыхароў пранікаюць гарадскія песні, прыпеўкі, танцы. У той жа час, разам з мігрантамі з сяла ў горадзе распаўсюджвалася вусная паэтычная творчасць, якая ў гарадскім асяроддзі трансфармавалася, дастасоўвалася да зменлівых умоў жыцця.

Значнае развіццё атрымала народная творчасць у гады Вялікай Айчыннай вай-

---

[336] Фядосік А. С. Ілюзорнасць і сапраўднасць: «Белыя плямы» ў гісторыі фалькларыстыкі 20—30-х гадоў. Мн., 1991. С. 25.

[337] Морозов А. В. Русская фольклористика 1920—50-х годов. Социокультурный аспект функционирования. С. 212—213.

ны. На акупіраванай ворагам тэрыторыі Беларусі разгарнуўся партызанскі рух, з якім быў звязаны партызанскі фальклор. Ён адлюстроўваў усенародную барацьбу з нямецкімі захопнікамі, гераізм, патрыятызм. Па ўспамінах партызан, вялікай любоўю сярод іх карысталіся беларускія, украінскія, рускія народныя песні: «На полі яр, яр», «Каліна-маліна, чаго ў лузе стаіш?», «Вараг», «Ермаю», «Раве та стогне Дніпр шырокі» і шмат іншых. Выконваліся як безыменныя народныя творы, так і песні самадзейных складальнікаў, фальклярызаваныя ўзоры савецкай масавай песні. Шырокае распаўсюджанне мелі песні-пераробкі, у якіх абнаўляўся змест народных і савецкіх масавых песень[338]. Адметнасцю песеннай творчасці ваенных часоў былі песні-маршы, песні-клятвы, у якіх знайшлі адлюстраванне жаданне адпомсціць захопнікам за знішчэнне гарадоў і вёсак, за масавае забойства людзей, клятвы народу і Радзіме разграміць ворагаў. Горач разлукі з роднымі, туга і роспач гучала ў песнях-паланянках, створаных дзяўчатамі, якія былі гвалтоўна вывезены на цяжкую працу ў Германію. Падзеі суровых ваенных год, бессмяротны подзвіг народа ўвасоблены таксама ў апавядальных жанрах: казках, легендах, паданнях, успамінах і інш. Сярод іх — казкі і паданні аб народных героях Заслонаве, Каўпаку, лейтэнанце Стральцове[339]. Папулярнымі былі сатырычныя прыпеўкі, анекдоты, прымаўкі, жарты, у якіх з'едліва высмейваліся фашысцкія захопнікі і іх фюрэры. Фальклорныя традыцыі, дапамагаючы згуртаванню людзей, уславуляючы храбрасць, геройства, адвагу, умацавалі народны дух, самасвядомасць народа.

У пасляваенныя гады адбываўся своеасаблівы ўсплеск вуснапаэтычнай творчасці, асобы больш сталага ўзросту звярталіся да абрадавых традыцый, сваёй спадчыны. Абудзіліся надзеі на лепшую будучыню, шчасце, ажыўшая душа народа загучала ў народнай песні[340], прыпеўцы.

З 60-х гг. са зменамі ў гаспадарчай дзейнасці беларусаў, развіццём навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, урбанізацыі і міграцыі ў фальклорных працэсах назіраюцца супярэчлівыя тэндэнцыі. З аднаго боку, звужаюцца формы ўздзеяння вуснай паэтычнай творчасці на народ, якія часткова кампенсуюцца распаўсюджаннем яе другасных форм, так званага фальклярызму. З другога — ідзе карпатлівая праца па збіранню, даследаванню фальклорнай спадчыны, дынамікі яе асноўных жанраў, іх спецыфікі. Развіццё фалькларыстыкі ў гэтыя гады ўскладнілася недаацэнкай фальклорнай спадчыны, а іншы раз і нігілістычнымі адносінамі да яе. Лічылася, што рабочы і рэвалюцыйны фальклор з'яўляецца вышэйшай ступенню вуснай паэтычнай творчасці. Вядучым цэнтрам па даследаванню фальклору стаў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Беларускія фалькларысты І. В. Гутараў, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, Г. А. Барташэвіч, А. І. Гурскі, А. С. Ліс, Л. М. Салавей, Г. А. Пятроўская і многія іншыя надрукавалі дзесяткі манаграфій і зборнікаў па розных праблемах беларускага і славянскага фальклору. Ажыццяўляецца планавае выданне шматтомніка «Беларуская народная творчасць», выйшлі ў свет больш за 40 тамоў. Фальклорныя даследаванні вядуцца ўніверсітэтамі і педагагічнымі інстытутамі ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

Вывучэнне сучасных фальклорных працэсаў выявіла велізарнае багацце вусна-

---

[338] Фядосік А. С. Партызанскія песні // Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945. Энцыклапедыя. Мн., 1990. С. 482—483.

[339] Вялікая Айчынная вайна ў фальклоры і мастацтве Беларусі: Тэзісы дакладаў канферэнцыі, прысвечанай 40-годдзю Перамогі, красавік 1985, г. Мінск. Мн., 1985. С. 29, 30, 36, 37.

[340] Гурскі А. Народная лірычная песня і яе лёс // Славянскія культуры: Гістарычны вопыт і сучасныя праблемы. Мн., 1996. С. 169—178.

паэтычнай паэзіі беларусаў, трансфармацыя якой ідзе ў рэчышчы агульных сацыякультурных тэндэнцый. Зыходзячы з назіранняў фалькларыстаў, у пасляваенны час многія традыцыйныя творы захаваліся толькі ў памяці народа, і толькі невялічкая частка класічнага фальклору актыўна бытуе і зараз[341].

Даволі ўстойлівымі аказаліся лірычныя любоўныя, сямейна-бытавыя песні, балады. З каляндарна-абрадавай паэзіі бытуюць валачобныя, купальскія, жніўныя, восеньскія песні. Дайшлі да нашых дзён шмат якія ўзоры вясельных песень, велічальныя, гумарыстычныя, лірычныя творы, а таксама віншаванні, зычэнні, прымаўкі, характэрныя для вясельнай урачыстасці. Захавалася ў памяці народа радзінная паэзія, якая з'яўляецца адметнасцю беларусаў. Дзе-ндзе ў сельскай мясцовасці наладжваюцца хрэсьбіны, на якіх гучаць гарэзлівыя, велічальныя хрэсьбінныя песні, прыпеўкі, а таксама нямала прымавак і прыказак. У пахаронна-памінальным цыкле сямейнай абраднасці асобнае месца займаюць галашэнні — імправізаваныя творы, якія выконваюцца з мэтай аплаквання памерлых. У абрадавым фальклоры беларусаў адбыліся своеасаблівыя змены: утылітарна-магічная функцыя паступова страціла свае значэнне і ўступіла месца цырыманіяльнай і эстэтычнай. Вясельныя, хрэсьбінныя песні выцясняюцца песнямі сучасных паэтаў і кампазітараў.

У вусным бытаванні захоўваюцца прыпеўкі, якія, як і раней, хутка адклікаюцца на грамадска-палітычныя падзеі, высмейваюць заганы розных асоб, выкрываюць недахопы нашага жыцця. У сваёй вобразнай сістэме і тэматыцы прыпеўкі сугучны традыцыям народнай лірычнай песні, адлюстроўваюць унутраны свет, спадзяванні беларусаў. У канцы XX ст. прыпеўкі ствараюцца і распаўсюджваюцца пераважна сярод больш сталых людзей, выконваюцца звычайна на вясковых гуляннях. Найбольш актыўнае жыццё назіраецца іх другасных форм — у самадзейных калектывах, у хорах народнай песні.

Эвалюцыю зазнаюць апавядальныя жанры фальклору. Народныя казкі, легенды, паданні захоўваюцца ў памяці, свядомасці народа, але паступова выходзяць з паўсядзённага ўжытку. Выключэнне складаюць сацыяльна-бытавыя казкі, блізкія па свайму сюжэту да анекдотаў. Шырока прадстаўлены ў вуснапаэтычнай творчасці анекдоты, жарты, досціпы, прыказкі, прымаўкі, загадкі, выслоўі. Не страціў свайго выхаваўчага значэння дзіцячы фальклор[342]. Калыханкі, забаўлянкі, немудрагелістыя песенькі знаёмяць дзіця з навакольным жыццём, адкрываюць перад ім свет гукаў, рухаў, фарбаў. У дзіцячых гульнях выкарыстоўваюцца лічылкі, жараб'ёўкі, скарагаворкі і інш. Асаблівай разнастайнасцю вылучаецца пазагульнявы фальклор: песні, заклічкі, прыгаворкі, дражнілкі, загадкі, вершыкі, страшылкі, анекдоты, казкі і інш. На сучасным этапе ідзе інтэнсіўная трансфармацыя твораў і жанравага складу дзіцячага фальклору, змяншаецца роля традыцыйных форм за кошт узмацнення гарадской творчасці[343].

Працягвае жыць у народзе адзін з самых старажытных, архаічных жанраў фальклору — замовы. Нягледзячы на барацьбу з іх носьбітамі (народныя лекары, знахары), замовы і ў канцы XX ст. выкарыстоўваюцца ў гаспадарчай, асабістай, сацыяльнай сферах. Найбольш захаваліся лекавыя замовы, з гаспадарчых — тыя,

---

[341] Фядосік А. С. Беларускі фальклор пасляваеннага часу: Жанравы склад, сучасны стан // Славянскія культуры пасля другой сусветнай вайны. Мн., 1996. С. 126—130.

[342] Дзіцячы фальклор. Мн., 1972. С. 5—33.

[343] Восточнославянский фольклор: Словарь научной и народной терминологии. Мн., 1993. С. 384.

што звязаны з аховай жывёлы і яе хваробамі. Жыццеўстойлівасцю вызначаецца любоўная магія: розныя прысушкі, адсушкі, «любжы»[344].

Для сучаснага функцыянавання вуснапаэтычнай народнай творчасці характэрны даволі адчувальны ўплыў прафесійных форм, не толькі літаратурных, але таксама кіно, тэлебачання. У сваю чаргу, прафесійная культура жывіцца з невычарпальных крыніц народнай спадчыны. І сёння ёсць яшчэ народныя спявакі, казачнікі, танцоры, здольныя перадаць маладому пакаленню майстэрства. Прычым шляхі развіцця традыцыі розныя. Першы — гэта засваенне інфармацыі ад дарослых аб культуры этнасу; у такім выпадку перадача традыцыі ідзе праз навучанне, накіраванае на дзяцей і падлеткаў, а таксама праз імітацыю, калі дзеці назіраюць за дарослымі, пераймаюць ад іх. Які ж узровень ведання насельніцтвам традыцыйных каштоўнасцей? Даныя этнасацыялагічнага даследавання 1989 г.[345] паказалі, што добра ведалі народныя песні і нават маглі навучыць другіх 14%, ведалі некаторыя народныя песні 42% апытаных, танцы — адпаведна 9% і 30%, казкі і паданні — 12% і 29% рэспандэнтаў.

Больш высокую ступень ведання традыцыйнай культуры праявіла старэйшае пакаленне, асабліва сельскія жыхары. Менавіта гэты пласт насельніцтва з'яўляўся асноўным захавальнікам фальклорнай і музычнай традыцыі. Аднак прадстаўнікі гэтых катэгорый насельніцтва ў асяроддзі родных, блізкіх, сяброў рэдка спявалі беларускія народныя песні (сярод 40—49-гадовых кожны чацвёрты часта спявае іх, сярод 50—59-гадовых, 60-гадовых і старэйшых толькі кожны шосты), што, натуральна, зніжае пераемнасць вуснай паэтычнай народнай творчасці, паслабляе перадачу этнакультурных традыцый. Сярод сельскай моладзі вельмі мала знаўцаў народных музычных форм, не кажучы ўжо аб веданні народных казак, легенд, балад. Па ўзроўню цікавасці да народнай песні і па частаце яе выканання мужчыны прыкметна ўступаюць жанчынам.

Другі шлях развіцця традыцыі звязаны з распаўсюджаннем народных культурных каштоўнасцей сродкамі масавай інфармацыі (радыё, тэлебачанне, кіно, друк), з навучаннем у школе. У выніку чаго адраджэнне народных традыцый ідзе пераважна ў другасных формах (фальклярызм), для якіх характэрна ўключэнне элементаў, маркіруючых этнічную свядомасць у сучасныя бытавыя і эстэтычныя сістэмы (музыка, мультфільмы, літаратура, нацыянальны касцюм, што адзяваюць на святы і інш.).

У апошнія гады выяўляецца тэндэнцыя росту цікавасці маладога пакалення да вывучэння і адраджэння ўсяго комплексу традыцыйнай народнай культуры. Расце колькасць і папулярнасць фальклорна-этнаграфічных ансамбляў, якія з мэтай павышэння выканаўчага майстэрства выязджаюць у экспедыцыі, вывучаюць уклад жыцця, самабытныя звычаі, песні, танцы, прыкладную творчасць народа. Сярод прызнаных самадзейных калектываў вылучаецца фальклорна-музычны тэатр «Мотальскія суседкі», створаны жыхарамі вёскі Моталь Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Гэта глыбока самабытны тэатр, які выступае на палескім дыялекце. Рэпертуар яго трымаецца на мясцовым матэрыяле. У сюжэтную канву выступленняў уключаецца як спадчына мінулага, так і з'явы штодзённага навакольнага жыцця. Самадзейныя акцёры разыгрываюць тэатральныя сцэнкі, якія ўзнаўляюць старадаўнія абрады, танцуюць, спяваюць; гучаць трапныя народныя прыказкі, прымаўкі, загадкі, песні родных мясцін.

---

[344] Замовы. Мн., 1992. С. 3—15.

[345] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 14, спр. 12.



94. Ансамбль танца «Крупіца» Мінскай вобласці. 1989 г.

Своеасаблівай лабараторыяй беларускага мастацтва стаў фальклорны ансамбль «Крупіцкія музыкі» Крупіцкага ЦДК Мінскага раёна. На яго канцэртах можна пачуць больш за 50 беларускіх народных інструментаў: дудку, жалейку, дуду, басэтлю, колавую ліру, цытру, акарыну, саломку, цымбалы, гармонікі і інш. У рэпертуары «Крупіцкіх музык» — фальклор розных рэгіёнаў рэспублікі. З малюнкамі сельскага быту, прыгажосцю роднага краю знаёмяць слухачоў музычныя п'есы: «Крупіцкія музыкі», «Палеская полька», «Беларуская кадрыль», «Кросны», «У роднай старонцы» і іншыя. У рэпертуары фальклорнага інструментальнага ансамбля «Знаходка» Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці гучаць старадаўнія палескія песні: «Праважала маці», «Там, у зялёным гаі», «Я каліну-маліну ламала», беларуская народная мелодыя «Ой, хацела мяне маці». Удзельнікі «Знаходкі» прымушаюць спяваць звычайныя, на першы погляд безгалосыя рэчы: качаргу, патэльню, бутэлькі і гэтак далей.

Фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Вышыванка» Белавушскага СДК Столінскага раёна, што на Брэстчыне, славіцца, у першую чаргу, выкананнем беларускіх народных песень: «Сею я», «Каваль-каваленка», «У бары — сасёнка» і многіх іншых. У той жа час, рэпертуар уключае літаратурна-музычную кампазіцыю «Мой родны кут» і старадаўняе касцюміраванае «Белавушскае вяселле».

У рэспубліцы ў 1986 г. налічвалася каля 1250 фальклорных калектываў, прычым большасць з іх паспяхова развівалі толькі харавы жанр. Так, з 485 фальклорна-этнаграфічных калектываў Брэсцкай вобласці 413 (85,2%) харавых, а з 365 у Гомельскай вобласці харавых 276 (75,6%). Падобны малюнак і ў іншых абласцях, аднак, у Віцебскай вобласці іх усяго было 84, у Гродзенскай — 101, Мінскай — 144[346].

У 90-я гг. у сувязі са звартаннем да народнай спадчыны колькасць фальк-

[346] Социально-культурные преобразования на селе. Мн., 1987. С. 194.



95. Ансамбль «Крупіцкія музыкі». 1989 г.



96. Фальклорная група Мілашоўскага сельскага клуба Браслаўскага раёна. 1989 г.



97. Фальклорная група Яглевіцкага Дома культуры Івацэвіцкага раёна. 1980-я гг.

лорна-этнаграфічных гуртоў павялічылася. У 1997 г. працавала 1756 такіх гуртkоў. У рэспубліцы званне «народны», «узорны» мелі 117 фальклорна-этнаграфічных калектываў[347]. Развіццё другасных форм фальклору моцна звязана з дзейнасцю ўстаноў культуры. Адзначаецца яшчэ слабая падрыхтоўка культработнікаў па фальклору, этнаграфіі, па веданню традыцыйнай культуры. Істотныя недахопы існуюць у прапагандзе народнай песні. Нярэдка значную частку рэпертуару фальклорных ансамбляў займаюць не зусім удалыя апрацоўкі народных песень, якія пры выкананні прапануюцца як сапраўдная народная творчасць. Адбываецца нівеліраванне, губляецца непаўторнасць народнай песні, якая заўсёды звязана з канкрэтным асяроддзем, з пэўнай мясцовасцю. У выніку часта цяжка адрозніць па песні, хто яе спявае — гродзенцы або віцябчане. Пакідаюць жадаць лепшага фальклорныя праграмы Беларускага тэлебачання[348]. Да таго ж вельмі мала і ў нязначных тыражах выдаецца зборнікаў з запісамі сапраўды самабытных узораў народнай творчасці, яны застаюцца здабыткам, у асноўным, вузкага кола спецыялістаў. Слаба ўводзяцца ў выканаўчую практыку шматлікія запісы лепшых узораў беларускага фальклору, якія захоўваюцца мёртвым грузам у фондах навукова-даследчых устаноў. Беларускі інстытут праблем культуры і абласныя метадычныя цэнтры народнай творчасці не ўкамплектаваны цалкам кадрамі кваліфікаваных спецыялістаў па фальклору.

Разумеецца, функцыянаванне традыцыі як элемента культуры праяўляецца даволі шырока, не абмяжоўваючыся толькі абрадамі, фальклорам, мовай, а ахоплівае ўвесь комплекс ідэалагічных і культурных

[347] Даведнік калектываў аматарскай творчасці Рэспублікі Беларусь, якія маюць званні «народны», «узорны». Мн., 1998. С. 15—17.

[348] Літаратура і мастацтва. 11 сакавіка 1988.

уяўленняў беларусаў: культуру зносін, сталых узораў паводзін у працы, сям'і, на святах і інш.

У сучасны перыяд адны традыцыі адыходзяць у мінулае і забываюцца, іншыя ж пераасэнсоўваюцца і ў новай якасці захоўваюцца ў побыце народа. Побач з працэсам пастаяннага развіцця і абнаўлення традыцыйнай культуры адбываецца актыўнае выцясненне яе формамі індустрыяльна-гарадской культуры. Але ж гэты працэс нельга разумець спрошчана, па сваёй прыродзе ён дыялектычна супярэчлівы. Як слушна даводзіць вядомы беларускі вучоны У. Конан, «ён тоіць у сабе як магчымасці частковага заняпаду, так і значнага ўздыму, усеагульнага адраджэння»[349]. І лёс яго залежыць не толькі ад мэтанакіраванай дзейнасці навукова-даследчых, культурна-асветніцкіх устаноў, палітыкі ў галіне культуры, а галоўным чынам ад актывізацыі сацыяльна-пераўтваральнай і духоўнай творчай энергіі шырокіх народных мас.

[349] Конан У. Ля вытокаў самапазнання. Мн., 1989. С. 63.

## АСВЕТА І РОДНАЯ МОВА

Асвеце належыць вялікая роля ў справе далучэння падрастаючага пакалення да вытокаў самабытнай спадчыны беларусаў, іх гісторыі, матэрыяльнай і духоўнай культуры, ладу жыцця. У працэсе навучання, асабліва на роднай мове, умацоўваецца этнічная самасвядомасць, фарміруюцца адносіны чалавека як да сваіх культурных каштоўнасцей, так і да культур іншых народаў. Усебаковая адукацыя дае магчымасць юнакам і дзяўчатам авалодаць шматвяковым культурным фондам, назапашаным чалавецтвам.

Пачатак XX ст. характарызаваўся даволі хуткім пашырэннем сеткі школ, рамесных вучылішч, гімназій, настаўніцкіх інстытутаў і семінарый, што, натуральна, выявілася ў росце адукацыйнага цэнзу насельніцтва Беларусі. У Магілёўскай губерні пісьменныя сярод юнакоў прызыўнога ўзросту ў 1913 г. складалі 79%. Стан асветы і ўзровень пісьменнасці ў Беларусі напярэдадні рэвалюцыі 1917 г. былі нават некалькі вышэй, чым у цэлым па Расіі[350].

Сацыяльныя катаклізмы, выкліканыя рэвалюцыяй (грамадзянская вайна, інтэрвенцыя з боку польскіх і нямецкіх захопнікаў), абярнуліся разбурэннем існаваўшай сістэмы адукацыі (спалены школы, расцягнута іх абсталяванне, зменшылася колькасць настаўнікаў). Нягледзячы на намаганні савецкага ўраду (адкрыццё школ, інстытутаў), ішло адчувальнае зніжэнне пісьменнасці насельніцтва, што добра бачна на прыкладзе вёскі Рудня-Спонічская Веткаўскай воласці Гомельскага павета. Насельніцтва вёскі займалася адыходнымі промысламі і здаўна цаніла граматы. У 1925 г. сярод дарослых пісьменнасць дасягала 77,5%, працэнт пісьменных у маладых узроставых групах катастрафічна знізіўся (сярод падлеткаў 13—16 год — 45%, дзяцей школьнага ўзросту — 6%)[351].

Адразу ж пасля рэвалюцыі ў Беларусі пачалася рэформа педагагічнай сістэмы: разбуралася старая, класавая, саслоўная школа, закладваліся асновы прынцыпова новай, савецкай, адзінай працоўнай школы, агульнадаступнай (пераважна для дзяцей пралетарыята), бясплатнай, свецкай (школа аддзялялася ад царквы), пабудаванай на самакіраванні вучняў. У школе былі ад-

[350] Цітоў В. С. Народная школа // Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. Мн., 1993. С. 149.

[351] Народное просвещение в Гомельской губернии. Гомель, 1925. Вып. V. С. 90, 91.

менены адзнакі, атэстаты, экзамены, выкладанне замежных моў лічылася неабавязковым, затое выбіраліся школьныя педагогі, спрасцілася працэдура паступлення ў ВНУ[352].

Галоўнымі накірункамі ў культурным будаўніцтве рэспублікі з'яўляліся: ажыццяўленне ўсенавуча, ліквідацыя непісьменнасці і развіццё масавай прафтэхнічнай адукацыі.

Згодна Дэкрэту «Аб ліквідацыі непісьменнасці сярод насельніцтва РСФСР» (26.12.1919), у Беларусі пры губернскіх і павятовых аддзелах народнай адукацыі створаны надзвычайныя камісіі па ліквідацыі непісьменнасці. У 1921/22 навучальным годзе ў школах для непісьменных займалася 12,2 тыс. чалавек, у школах павышанага тыпу — 2,7 тыс. дарослых[353]. Навучанню падлягалі ў першую чаргу падлеткі 12—15 год і дарослыя 16—35 год. У ліквідацыі непісьменнасці ўдзельнічалі настаўнікі, культасветработнікі, камандзіры і палітработнікі Чырвонай Арміі, камуністы, камсамольцы і нават піянеры. Галоўным спосабам прыцягнення ў школы непісьменных была агітацыя і прапаганда, прымяняўся і метад матэрыяльнага заахвочвання (выдача тканіны, прадуктаў). Віцебскі губвыканком, напрыклад, вызваляў непісьменных ад іншай працы на час навучання ў лікпунктах. Да асоб, якія ўхіляліся ад ліквідацыі непісьменнасці, прымянялі рэпрэсіўныя меры: прывод міліцыянерам у школу, адбіранне на пэўны час кааператыўных кніжак, штрафы (да 25 тыс. рублёў у сельскай мясцовасці за кожны пропуск заняткаў), якія ішлі на карысць галадаючым і на ліквідацыю непісьменнасці, дысцыплінарныя суды, залічэнне ў штрафныя роты[354].

У 1924 г. створаны ячэйкі таварыства «Прэч непісьменнасць», у якое ўцягвалася шырокая грамадскасць: рабочыя, сяляне, жанчыны.

Рэформа школьнай сістэмы ўключала замену дзевяцігадовай школы сямігодкай са стварэннем для яе выпускнікоў тэхнікумаў розных спецыяльнасцей. У сувязі з гэтым, з сістэмы народнай адукацыі выпала адно з важных звенаў — сярэдняя агульнаадукацыйная школа, што стварала пэўныя цяжкасці ў камплектаванні ВНУ. Рабфакі (на той час іх было 4) запаўнялі гэты прабел толькі часткова (у 1926 г. іх закончыла 239 чалавек, а ў ВНУ неабходна было прыняць 1170 чалавек)[355]. Таму на базе сямігодкі ствараліся двухгадовыя курсы па падрыхтоўцы моладзі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

У складаных умовах аднаўленчага перыяду ў Беларусі стваралася сетка вышэйшых навучальных устаноў. Значнай падзеяй у культурным жыцці з'явілася адкрыццё ў 1921 г. Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У канцы 1920-х гг. у Беларусі працавалі 3 ВНУ: БДУ, Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, Віцебскі ветэрынарны інстытут.

Ва ўмовах пераходу ад палітыкі ваеннага камунізму да рынeчных адносін адбыліся істотныя змены ў галіне культуры, народнай адукацыі. Новая эканамічная палітыка аказалася бязлітаснай да найбольш безабаронных дзяржаўных арганізацый — навучальных устаноў. Адсутнасць фінансавых сродкаў прымусіла да 1923 г. скараціць сетку сацыяльнага выхавання на 43%, прафесіянальнай адукацыі — на 18%, палітасветы — на 80% і апарата Наркамасветы — на 81%[356]. Разам з тым, значна скарачаўся прыём у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Нормы прыёму ў Беларускі дзяр-

[352] Народное образование в БССР. Сборник документов и материалов. Т. 1. 1917—1928 гг. Мн., 1979. С. 28, 88, 107.

[353] Беларуская ССР. Т. 3. С. 19.

[354] Народное образование в БССР. Сборник документов и материалов. Т. 1. С. 235, 239.

[355] Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР. 1917—1941 гг. М., 1980. С. 154.

[356] Народная асвета. 1992. № 12. С. 70.

жаўны ўніверсітэт на 1924/25 навучальны год склалі: на медфак — 150, педфак — 300 чалавек; на рабфакі рэспублікі — не болей 750 студэнтаў. Прыёмная камісія прытрымлівалася строгай дырэктывы — класавага прынцыпу. Рабочыя, члены партыі і камсамольцы — 60%, батрацкая і бядняцкая моладзь — не болей 40% складу студэнтаў. У першую чаргу ў ВНУ прымалі выпускнікоў рабфакаў, якія ішлі без іспытаў і класавай праверкі, астатнія месцы дзялілі сяляне (50%), рабочыя (30%) і працоўная інтэлігенцыя і служачыя (20%). Вакантныя месцы размяркоўваліся наступным чынам: працоўнаму сялянству — 32%, ЦСПСБ — 20%, ЦК КП/б/Б — 15%, ЦК ЛКСМБ — 20%, акруговаму аддзелу народнай адукацыі — 5%, дзецям каманднага састава і чырвонаармейцам — 3%, саюзным рэспублікам — 5%[357].

У гэты самы час праводзілася чыстка навучальных устаноў Беларусі, у ходзе якой адлічваліся тыя, хто не спраўляўся з патрабаваннямі вучобы, а таксама «антыпралетарскія элементы» — асобы, варожа настроеныя да палітыкі савецкай улады. У выніку чаго кантынгент студэнтаў у ВНУ рэспублікі скараціўся на 40%[358].

Важнае значэнне ў станаўленні нацыянальнай школы, умацаванні менавіта беларускай самасвядомасці мела палітыка беларусізацыі. Яна прадугледжвала распрацоўку і ўкараненне комплексных мерапрыемстваў па развіццю эканомікі і нацыянальнай культуры, упарадкаванню тэрытарыяльнага падзелу, пашырэнню сферы ўжывання беларускай мовы, вылучэнню на ключавыя пасты мясцовых кадраў[359].

Спецыфіка нацыянальнай палітыкі ў Беларусі вызначалася канкрэтнымі эканамічнымі і сацыяльнымі ўмовамі, гістарычнымі і культурнымі традыцыямі, шматнацыянальным складам насельніцтва рэспублікі. Па перапісу 1926 г., у Беларусі жыло 4 982 тыс. чалавек. Сярод іх беларусаў — 80,6%, яўрэяў — 8,2%, рускіх — 7,7%, палякаў — 2%, украінцаў — 0,7%, латышоў — 0,7%, літоўцаў, немцаў, татар — па 0,01%, іншых нацыянальнасцей — 0,2%. Характэрна, што ўрбанізаванасць асобных нацыянальнасцей, а як правіла, і ўзровень іх пісьменнасці, адукацыі, сацыяльнай прасунутасці, былі неаднолькавыя. Працэс ўрбанізацыі слаба закрануў беларусаў (усяго 8% ад іх колькасці жыло ў гарадах). Працэнт гараджан сярод рускіх (34%), украінцаў (21%), палякаў (20%), яўрэяў (83%) быў значна вышэй. Такое рассяленне не магло не адбіцца на нацыянальных, культурных, моўных працэсах. Калі ў гарадах былі больш інтэрнацыяналізаваныя быт і культура, горад па сутнасці быў рускамоўны, то беларускамоўная вёска адрознівалася шырокім функцыянаваннем народнай бытавой культуры: абрадаў, звычаяў, традыцый. Сярод нацыянальнасцей, што жылі ў рэспубліцы, беларусы займалі па ўзроўню пісьменнасці адно з самых нізкіх месцаў, адстаючы ад яўрэяў, латышоў, літоўцаў, палякаў, рускіх і ўкраінцаў. Па даных перапісу 1926 г., пісьменнасць сярод беларусаў склала 36%, а сярод жанчын яшчэ ніжэй — 22% (для параўнання: сярод жанчын-яўрэяк — 66%, латышак — 70%)[360] (табл. 6).

Адным з важнейшых аспектаў нацыянальна-культурнага будаўніцтва была моўная палітыка. Ужо ў лютым 1921 г. 2-я сесія ЦВК II з'езда Саветаў БССР даручыла Народнаму камісарыяту асветы прыняць усе меры да сапраўднага прадстаўлення ўсім нацыям рэспублікі магчымасці атрымоўваць адукацыю і выхаванне на роднай мове. Пачалася беларусізацыя школ. Наперад за ўсё, была-

---

[357] Народное образование в БССР. Сборник документов. Т. 1. С. 307, 308, 330, 331.

[358] Народная асвета. 1992. № 12. С. 72.

[359] Коммунист Белоруссии. 1990. № 2. С. 46.

[360] Сянькевіч Г. Р. Ліквідацыя непісьменнасці і малапісьменнасці ў Беларусі. Мн., 1990. С. 11; Народное образование в БССР. Т. 1. С. 397.

Табліца 6

**Пісьменнасць найбольш шматлікіх нацыянальнасцей Беларусі ў 1926 г.**

| Нацыянальнасць | Усё насельніцтва, % | | | Сельскае насельніцтва, % | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | усяго | мужчыны | жанчыны | Усяго | мужчыны | жанчыны |
| беларусы | 36 | 50 | 22 | 34 | 49 | 20 |
| украінцы | 43 | 54 | 29 | 37 | 53 | 20 |
| рускія | 49 | 63 | 34 | 38 | 52 | 23 |
| палякі | 50 | 57 | 43 | 45 | 53 | 38 |
| літоўцы | 61 | 67 | 55 | 53 | 59 | 50 |
| яўрэі | 70 | 72 | 66 | 68 | 73 | 63 |
| латышы | 74 | 77 | 70 | 71 | 71 | 72 |

звернута ўвага на падрыхтоўку настаўнікаў (з гэтай мэтай ствараліся кароткатэрміновыя і пастаянныя курсы), на выданне падручнікаў на роднай мове[361]. Прымаліся захады да вяртання ў БССР работнікаў асветы, культуры —ураджэнцаў Беларусі[362]. З Масквы ў Беларусь дасылаліся наглядныя дапаможнікі, абсталяванне для школ, падручнікі для тэхнікумаў, ВНУ. Толькі на працягу 1918—1922 гг. урад РСФСР і камісія Наркамасветы прынялі некалькі рашэнняў аб выдзяленні крэдытаў на патрэбы народнай адукацыі Беларусі (10 млн руб.)[363].

Беларусізацыя асэнсоўвалася як паступовы, паэтапны працэс, які ўключаў падрыхтоўчы перыяд (важна было растлумачыць насельніцтву мэты і задачы гэтай палітыкі) і практычнае ажыццяўленне, якое пачалося з 1924 г. З гэтага часу беларусізацыя ахапіла тэхнікумы, вышэйшыя навучальныя ўстановы. У 1925/26 навучальным годзе з 10 педагагічных тэхнікумаў 7 працуе на беларускай мове. Ідзе паслядоўны перавод сельскагаспадарчых тэхнікумаў, прафшкол, дзіцячых дашкольных устаноў, дзіцячых дамоў на беларускую мову. Беларускі музычны тэхнікум узяў накірунак на вывучэнне беларускай музычнай творчасці, а Віцебскі мастацкі тэхнікум — на збіранне і вывучэнне беларускага мастацтва.

У дзейнасці вышэйшых навучальных устаноў прасочвалася пераемнасць палітыкі беларусізацыі. Аднак пытанне з беларускай мовай рашалася больш складана. Прымаўся пад увагу шматнацыянальны склад студэнтаў. Напрыклад, у БДУ студэнты-беларусы складалі 49,6%, яўрэі — 42,9%, рускія — 2,8%. Стрымлівалі распаўсюджанне беларускай мовы ў ВНУ адсутнасць прадуманай навуковай праграмы нацыянальнага адраджэння, слабая матэрыяльная база, адсутнасць кваліфікаваных педагагічных і навуковых кадраў, іх нацыянальны склад. У БДУ з ліку 219 выкладчыкаў 25% складалі беларусы, 25,6% — рускія, 42,5% — яўрэі, 2,3% — украінцы. І толькі 36 чалавек з іх валодалі беларускай мовай[364].

У Віцебскім ветэрынарным інстытуце з 201 студэнта толькі 24 добра валодалі беларускай мовай (дарэчы, 76% складалі беларусы). Нацыянальны склад выкладчыкаў: 6 беларусаў, 13 рускіх,

[361] НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 318, л. 176.

[362] Ненароков А. П. Из опыта национально-языковой политики первых лет Советской власти // История СССР. 1990. № 2. С. 6.

[363] Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР. 1917—1941 гг. С. 145.

[364] Евдокименко Н. Л. Проблемы становления и развития высшей школы Белоруссии: (На материалах государственных и общественно-политических организаций. 1921—1932 гг.): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Мн., 1993. С. 20, 21.

2 яўрэя, 1 немец; з іх толькі адзін выкладаў свой прадмет на беларускай мове. Стрымлівала беларусізацыю адсутнасць навуковай тэрміналогіі на беларускай мове, беларускіх кніг па пытаннях ветэрынарыі. Студэнты не дастаткова разумелі лекцыі на беларускай мове, асабліва слаба валодалі яны пісьмовай мовай (1929)[365].

Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту надаваўся краязнаўчы ўхіл, трэцяя частка прадметаў выкладалася на беларускай мове (31%). Ступень беларусізацыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі была яшчэ ніжэй (20%), Віцебскага ветэрынарнага інстытута — 1,6% (1927)[366].

Некалькі лепшае становішча было на рабфаках. Ступень беларусізацыі Мінскага рабфака склаў 66,9%, Горацкага — 63,4%, Аршанскага — 80,2%, Віцебскага — 16,7%[367].

У гэтых умовах важнейшай задачай было павышэнне статуса беларускай мовы, пераадольванне ўяўленняў аб ёй як аб мове вясковай, якая не дае перспектыў для сацыяльнага росту. У масавай свядомасці гэты паварот ажыццяўляўся крайне марудна. Беларус на тое ён і беларус, чалавек разважлівы, памяркоўны, і жыццё яго ўжо не адзін раз біла, таму ён ніколі не спяшаецца, яму трэба «сем разоў адмерыць і адзін раз адрэзаць». З такой меркай ён падышоў і да беларусізацыі. Архіўныя матэрыялы за 1922 г. сведчаць: «У цэлым адносіны селяніна-інтэлігента да беларускага руху прыхільныя, але адчуваецца пэўная несвядомасць, боязь за ўласнае палітычнае становішча, бо часцей усяго ворагі беларускага руху завуць і лічаць беларускіх адраджэнцаў шавіністамі і контррэвалюцыянерамі. У месцах, дзе ёсць свядомыя працаўнікі, сялянства ідзе за рухам, але ў іншых застаецца пасіўным альбо антыбеларускім... Цяпер сялянства стаіць перад пытаннем «навошта?» Калі ўсе інстытуты і нават дзяржаўныя ўстановы не карыстаюцца беларускай мовай»[368]. Асабліва моцныя негатыўныя адносіны да беларусізацыі былі ва ўсходніх раёнах, якія толькі ў 1924, 1926 гг. былі ўключаны ў БССР (хваляванні ў Віцебску, Оршы, Магілёве).

Па перапісу 1926 г., сярод беларусаў-гараджан 49% лічылі роднай беларускую мову, 48% — рускую, сельскія жыхары адпаведна — 84% і 14%. Прынамсі, палавіна пісьменных беларусаў мела грамату на беларускай (47%) і столькі ж на рускай мове (53%)[369].

Ажыццяўленне беларусізацыі праходзіла на фоне складанага грамадска-палітычнага становішча 20—30-х гг., неразуменне нават у асяроддзі камуністаў і камсамольцаў неабходнасці адраджэння беларускай культуры, непрымання нацыянальнай палітыкі шэрагам настаўнікаў, грамадскіх дзеячаў. Не спрыяла беларусізацыі і прымяненне націску і адміністрацыйных мер. Вось, напрыклад, вытрымкі з пратаколаў Мінскай і Бабруйскай акруговых нацкамісій за 1927 г: «... забараніць прыём на службу працаўнікоў, слаба ведаючых і няведаючых беларускую мову, правесці праверку ведаў беларускай мовы беспрацоўных з мэтай замены тых, хто не ведае беларускай мовы; натарыусу Гофману за непрыманне ніякіх крокаў да беларусізацыі апарату канторы вынесці вымову; за няведанне беларускай мовы і праяўленне пасіўнасці да яе вывучэння звольніць з працы ўмоўна на два месяцы з райбальніцы т. Пісарэўскага..., звольніць з працы рахункавода Чарапаху, другіх працаўнікоў, слаба валодаючых белару-

[365] НАРБ, ф. 4-п, воп. 7, спр. 70, л. 80—82.
[366] Там жа, ф. 42, воп. 1, спр. 318, л. 189—191.
[367] Там жа.

[368] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. р-324, воп. 1, спр. 343, л. 3.
[369] Всесоюзная перепись населения 1926 г. Т. X. Белорусская Советская Социалистическая Республика. М., 1928. С. 9—12.

скай мовай, папярэдзіць апошні раз і праз месяц зрабіць праверку, пасля якой усіх няведаючых беларускую мову як умоўна зволеных, так і папярэджаных зволіць з займаемых імі пасад; справаводу Смаляку, прынятаму на працу два месяца назад і слаба ведаючаму беларускую мову (прыехаў з РСФСР) даць двухмесячны тэрмін; зняць з работы канторшчыка шпалапрапітачнага завода Лашука за нежаданне вывучаць беларускую мову і вядзенне агітацыі супраць беларусізацыі»[370]. Зразумела, што такое фарсіраванне і адміністраванне ў правядзенні беларусізацыі выклікала незадаволенасць насельніцтва, пасіўнае ці актыўнае супраціўленне нацыянальнай палітыцы, было падставай для кампраметацыі нацыянальнага руху. Праціўнікі беларусізацыі ў наступныя гады выкарысталі гэтыя супярэчнасці ў сваіх мэтах.

Пазітыўную ролю ва ўмацаванні функцый беларускай мовы адыграла беларусізацыя партыйных, дзяржаўных, грамадскіх органаў, устаноў і арганізацый, перавод справаводства на беларускую мову.

У 20-я гг. была праведзена вялікая работа па развіццю беларускай мовы. Асноўны цяжар узялі на сябе Наркамасветы і Інстытут беларускай культуры, беларускія пісьменнікі і паэты. На аснове вывучэння народнай мовы, яе дыялектаў распрацоўваліся лексіка, граматычныя нормы, тэрміналогія сучаснай беларускай мовы. Распрацаваны тэрміналагічны слоўнік беларускай мовы (уключаў у сябе 50 тыс. слоў-тэрмінаў). Падрыхтаваны руска-беларускі слоўнік на 50 тыс. слоў. Па ініцыятыве Інстытута беларускай культуры створана выдавецтва «Савецкая Беларусь». У 1925—1926 гг. з 138 назваў выдадзеных кніг 103 было на беларускай мове. У 1926—1927 гг. у Мінску выходзілі 4 газеты на беларускай мове («Савецкая Беларусь», «Беларуская вёска», «Звязда», «Чырвоная змена»)[371].

Нацыянальная палітыка была арыентавана і на развіццё культуры, моў нацыянальных меншасцей, што жылі ў Беларусі. Раўнапраўнымі дзяржаўнымі пацвярджаліся 4 мовы: беларуская, руская, яўрэйская, польская. Аднак беларуская мова з прычыны значнай перавагі карэннай нацыянальнасці прызнана асноўнай у сферы зносін між рознымі арганізацыямі і ўстановамі. Руская мова выконвала функцыю мовы міжнацыянальных зносін з саюзнымі органамі і рэспублікамі. Разам з тым, умовы для развіцця, маральная і матэрыяльная падтрымка надаваліся і іншым мовам. Адукацыя ажыццяўлялася на мацярынскай мове. На 15.12.1927 г. у рэспубліцы з 5510 школ 4573 былі беларускімі (па мове навучання). Адначасова былі рускія, яўрэйскія, украінскія, польскія, латвійскія, літоўскія, нямецкія і адна эстонская школы. Існавалі і школы змешанага тыпу: беларуска-рускія, беларуска-польскія, беларуска-яўрэйскія, руска-яўрэйскія і інш.[372]

У этнічнай гісторыі беларусаў 20-я гг. адзначаны абуджэннем духоўных сіл народа. Аднак неабходна падкрэсліць супярэчнасць, а іншы раз і рознанакіраванасць працэсаў, што ішлі ў грамадстве. З аднаго боку, гэта быў час актыўнага пошуку шляхоў вырашэння нацыянальнага пытання, стварэння беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнай сістэмы адукацыі, з другога — узмацнілася дзяржаўная ідэалогія ў сферы адукацыі, культуры, мастацтва.[373]

З другой паловы 20-х гг. нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў рэспубліцы становіцца арэнай вострай палітычнай

[370] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 3, воп. 1, спр. 361, л. 16, 36; ф. 1865, воп. 1, спр. 11, л. 11; ф. 24, воп. 1, спр. 434, л. 10.

[371] НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 318, л. 206

[372] НАРБ, ф. 31, воп. 2, спр. 20, л. 88.

[373] Баталко Т. И. Строительство белорусской национальной школы в условиях политики белорусизации 1921—1930 гг. Мн., 1993. С. 5.



98. Заняткі гуртка ліквідацыі непісьменнасці ў калгасе імя Дзяржынскага Гомельскай акругі. 1929 г.

барацьбы. Пад выглядам барацьбы з так званым «нацыянал-дэмакратызмам» з ВНУ былі выкінуты выдатныя вучоныя, якія не толькі добра ведалі гісторыю, культуру народа, але і мелі сваю ўласную думку[374]. Многія з іх былі арыштаваны. Папярэднія чыстка была праведзена ў партыі, у Наркамасвеце, Акадэміі навук БССР. Не абмінула гэта навала і нізавое звяно адукацыі — школу. У даносах адзначалася, што «настаўніцкія кадры надзвычай засмечаны класава-чужымі буржуазна-нацыяналістычнымі элементамі, што «ворагамі народа» з Наркамасветы на працягу некалькіх год у раёны засылаліся шпіёнскія элементы і людзі, страціўшыя давер'е». У лік такіх настаўнікаў былі аднесены, напрыклад, па Заслаўскаму раёну 78 чалавек, Ліёзненскаму — 34, Старадарожскаму — 28[375]. Ворагаў вышуквалі і сярод вучняў: «контррэвалюцыйная шайка» дзяцей выкрыта ў школах Плешчаніцкага раёна, «класава-варожыя выступленні вучняў мелі месца ў Слуцкім раёне»[376].

Аднак і ў такіх цяжкіх умовах настаўнікі праводзілі вялікую культурна-асветніцкую работу. Іх праца па ліквідацыі непісьменнасці засталася ў памяці людзей. У лікпунктах і школах для малапісьменных навучалася ў 1931/32 навучальным годзе 466 тыс. чалавек. У 1932 г. дзесяткі прадпрыемстваў, калгасаў, асобныя раёны і гарады сталі прадпрыемствамі, калгасамі, гарадамі амаль суцэльнай пісьменнасці[377]. За парты садзіліся нават старыя людзі. На жаль, работа па ліквідацыі непісьменнасці мела і свае недахопы: кампанейшчына, пагоня за паказчыкамі, голы энтузіязм, захапленне лозунгамі, рапартамі, месячнікамі, дэка-

[374] Евдокименко Н. Л. Проблемы становления и развития высшей школы Белоруссии. С. 21, 22.

[375] Сянькевіч Г. Р. Ліквідацыя непісьменнасці і малапісьменнасці ў Беларусі. С. 19.

[376] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 14, воп. 1, спр. 130, л. 18; ф. 1865, воп. 1, спр. 255, л. 51.

[377] Народное образование в БССР. Мн., 1980. Т. 2. С. 11.

дамі, штурмамі, злётамі і гэдак далей. У 1936 г. усебеларускае таварыства «Прэч непісьменнасць» было ліквідавана.

Пэўныя пазітыўныя зрухі ў адукацыі ў пачатку 30-х гг. звязаны з увядзеннем усеагульнага абавязковага навучання (пачатковага ў вёсках і сямігадовага ў гарадах), ім было ахоплена 97,9% дзяцей 8—11 год[378]. Некалькі адставала Беларусь ад іншых рэспублік па колькасці сямігодак у сельскай мясцовасці, што стрымлівала рост адукацыі сельскага насельніцтва, як бы «кансервавала» некаторае адставанне беларусаў у галіне адукацыі. З ліку вучняў чатырохгадовых школ беларусаў было 88,9%, рускіх — 1,0%, яўрэяў — 6,0%, палякаў — 3,3%; у сямігодках беларусаў — 52,8%, рускіх — 5,3, яўрэяў — 37,0%, палякаў — 3,6% (1927)[379].

З 1928 г. расходы на адукацыю ўзраслі па БССР на 331%[380]. У 1938 г. на асвету выдаткавана 473 млн рублёў, што ў 36 разоў больш, чым у 1926 г., працавала 7132 школы, у якіх вучылася звыш мільёна дзяцей. Асабліва хутка расла сетка школ на вёсцы. Калі ў 1927/28 навучальным годзе вясковых сямігадовых школ налічвалася толькі 84, то праз дзесяць год іх колькасць павялічылася ў 15,5 раза[381]. Побач са звычайнымі сямігодкамі існавалі школы сялянскай моладзі і фабрычна-завадскія сямігодкі. Вырасла колькасць сярэдніх школ. Характэрна, што якасны бок навучання адставаў ад хуткага росту сеткі школ. Не хапала стабільных падручнікаў, кваліфікаваных настаўнікаў, слабай была матэрыяльная база школ.

Да 1932 г. колькасць ВНУ павялічылася да 32, тэхнікумаў — да 130. Але частка іх была невялікімі ВНУ. Стварэнне «карлікавых» вышэйшых навучальных устаноў з вузкім профілем падрыхтоўкі спецыялістаў вяло да распылення педагагічных кадраў, раздзелу матэрыяльнай і вучэбнай базы, што дэзарганізавала работу вышэйшай школы, паніжала якасць адукацыі і яе прэстыж. Не спрыялі высокай навуковай падрыхтоўцы студэнтаў укараненне лабараторна-брыгаднага метаду як універсальнага, які пацясніў лекцыі і прынізіў ролю педагога, а таксама пераход на паскораныя тэмпы навучання («ударныя групы», «брыгады»). Але ўжо ў 1932 г. лабараторна-брыгадны метад саступіў дарогу традыцыйнаму навучанню, а з канца 30-х гг. пачалося ўзбуйненне ВНУ, тэхнікумаў, што станоўча адбілася на іх працы.

Звяртае ўвагу прагнае імкненне беларусаў вывучыцца, выйсці ў людзі. Сяляне з акрайкам хлеба і шматком сала выпраўляліся ў горад, атрымлівалі прафесіі настаўніка, урача, лётчыка, інжынера, агранома, папаўнялі рады народнай інтэлігенцыі. Адзін з інфарматараў успамінае: «Мая маці толькі магла чытаць, а пісала дрэнна, а нам, дзецям, увесь час даводзіла, што застанецца ў адной зрэбнай сарочцы, толькі б мы атрымалі адукацыю»[382]. Ідэя ўсеагульнай даступнасці адукацыі паступова трансфармавалася ў пераважнае права на навучанне ва ВНУ рабочых, батракоў, бяднейшых сялян. Рэгулярна праводзіліся перарэгістрацыі, праверкі студэнцкага і выкладчыцкага складу. У 1929 г. з навучальных устаноў выключаліся студэнты, «захаваўшыя сваё сацыяльнае становішча», менавіта тыя, хто не адрокся ад сваіх бацькоў — больш-менш заможных сялян, святароў і інш. Дастаткова тыповая сітуацыя зафіксавана ў пратаколах Калегіі народнага камісарыята асветы БССР (май 1929 г.): «Слухалі скаргу студэнткі Мінскага белпедтэхнікума Улашчык Вольгі на пастанову педрады аб яе выключэнні з

[378] Народное образование в БССР. Т. 2. С. 5.

[379] НАРБ, ф. 31, воп. 2, спр. 20, л. 22.

[380] Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР. 1917—1941 гг. С. 330.

[381] Народная асвета. 1977. № 5. С. 8.

[382] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, ф. 7, воп. 1, спр. 909, л. 3.

ліку студэнтаў за захаванне свайго сацыяльнага становішча. Пастанавілі: згадзіцца з пастановай педрады Мінскага белпедтэхнікума ад 30.04.1929 г. аб выключэнні з ліку студэнтаў Улашчык В. як дачку кулака, захаваўшую сваё сацыяльнае становішча»[383].

І такіх выключаных (як бачна толькі з аднаго пратакола) было дзесяць чалавек, за кожным асабістая трагедыя: нязбытныя мары, перакрэсленая будучыня. А вось пастанова бюро РК КП/б/Б ад 10.02.1932 г. па дакладу аб становішчы і рабоце Полацкага педтэхнікума, дзе прапануецца «зняць з работы загадчыка навучальнай часткі педтэхнікума Счастнага, паколькі бацькі яго абкладзены індывідуальным падаткам, і з якімі ён мае сувязі»[384]. Палітыка пралетарызацыі студэнцкага складу (у 20-я гг. «арабочванне» ВНУ), ствараючы спрыяльныя ўмовы для вучобы рабочай моладзі і сялянскай беднаты, пры нізкай агульнаадукацыйнай падрыхтоўцы абітурыентаў вяла да паслаблення структуры вышэйшай школы, парушэння дэмакратычных прынцыпаў і канстытуцыйных правоў чалавека[385].

Сярод другіх слаёў насельніцтва настаўнікі больш падвяргаліся незаконным рэпрэсіям у 1937—38 гг. Улады, каб прыдаць гэтым справам ход, выкарыстоўвалі моладзь, студэнтаў навучальных устаноў для цкавання на сваіх педагогаў. «У 1937 годзе ў Віцебскім педвучылішчы на працягу некалькіх дзён пасля заняткаў ішоў сход, на якім заслухвалі біяграфіі сваіх настаўнікаў, выклікаючы іх на сцэну, — успамінае адзін са студэнтаў. — Актыўна вялі сябе толькі некалькі студэнтаў, інспіраваныя кімсці з дарослых. Астатнія сядзелі, панурыўшы галовы ад сораму. Многія педагогі, абвінавачаныя ў нацыяналізме, шпіянажы, пасля такіх сходаў знікалі. Так сталася з паважаным студэнтамі настаўнікам беларускай мовы Чумаковым В. І. (гэты дабрэйшай душы чалавек пасля атрымання сваёй зарплаты выклікаў з заняткаў самых здольных і бедных вучняў і ўручаў матэрыяльную дапамогу), які быў названы польскім шпіёнам, і «збіраўся перайсці граніцу» толькі за тое, што зімой у нядзелю рабіў прагулкі на лыжах па Дзвіне»[386].

У 1933 г. праведзена рэформа беларускай мовы, якая мела на мэце набліжэнне беларускай да рускай мовы. Рэформа, з аднаго боку, як бы паставіла кропку на палітыцы беларусізацыі, што на месцах зразумелі як ўстаноўку на ліквідацыю нацыянальных школ, а з другога — вызваліла літаратурную беларускую мову ад слоў, не характэрных для народнай гаворкі, якія не разумелі нават сяляне. З 1938 г. у нацыянальных школах з другога класа ўводзілася руская мова. Фарміраванне адзінай сістэмы адукацыі на тэрыторыі ўсёй краіны дазваляла беларусам вучыцца ў прэстыжных ВНУ, вядомых сваімі навуковымі традыцыямі. У той жа час, змяніліся адносіны да беларускай мовы, панізілася да яе ўвага, хаця большасць школ на вёсцы, тэхнікумы і нават інстытуты працягвалі працаваць на беларускай мове.

Па перапісу 1939 г., у БССР было 78,9% пісьменных ва ўзросце ад 9 год і старэй, сярод сельскага насельніцтва некалькі ніжэй — 74,6% пісьменных. Прычым на 1 тыс. чалавек прыходзілася 78 асоб з сярэдняй і 4,5 з вышэйшай адукацыяй. Сярод беларусаў, што жылі на тэрыторыі Саюза, пісьменнасць склала 78,0%. Улічваючы, што пісьменнасць сельскага насельніцтва Беларусі была ніжэй, чым гарадскога, на 16%, можна дапусціць,

---

[383] НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 1843, л. 212.

[384] НАРБ, ф. 4-п, воп. 14, спр. 131, л. 5.

[385] Евдокименко Н. Л. Проблемы становления и развития высшей школы Белоруссии. С. 17.

[386] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 85.



99. Група дэлегатаў з'езда Беларускага таварыства школ. 1926 г.

што ўдзельная вага пісьменных беларусаў у рэспубліцы была некалькі меншая. Захоўваліся пэўныя дыспрапорцыі ў адукацыі мужчын і жанчын, апошнія па традыцыі яшчэ адставалі, асабліва гэта датычыцца вышэйшай адукацыі (тут адставанне было двухразовае)[387].

Значная ўвага надавалася падрыхтоўцы педагагічных кадраў. З увядзеннем усеагульнай абавязковай 7-гадовай і пашырэннем сярэдняй адукацыі настаўніцкія інстытуты ў Віцебску, Гомеле, Магілёве пераўтвораны ў педагагічныя, а ў 1935/36 навучальным годзе былі адчынены настаўніцкія інстытуты ў Віцебску, Мінску, Гомеле, Магілёве. Пры педагагічных інстытутах, тэхнікумах ствараліся вячэрнія аддзяленні. Сярод настаўнікаў пераважалі беларусы (сярод кіраўнікоў вучэбных устаноў — 73,0%, настаўнікаў пачатковых і ўсіх сярэдніх навучальных устаноў і курсаў — 78,8%). Чатыры з дзесяці навуковых работнікаў і выкладчыкаў ВНУ былі беларусамі (у 1927 г. — тры з дзесяці)[388].

У 1940/41 навучальным годзе ў БССР на 10 тыс. насельніцтва прыходзілася 24 студэнта. У той час гэта было больш, чым у Францыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі[389].

У Заходняй Беларусі, якая з 1921 па 1939 гг. знаходзілася ў межах польскай дзяржавы, працэсы нацыянальнага развіцця ішлі пад вялікім уплывам сацыяльна-палітычных фактараў.

Трэба адзначыць наяўнасць супярэчлівых тэндэнцый у разгортванні этнасацыяльнай сітуацыі ў рэгіёне. З аднаго

[387] Всесоюзная перепись населения 1939 г. Основные итоги. М., 1992. С. 41, 45, 52, 83.

[388] Всесоюзная перепись населения 1939 года. С. 83.

[389] Белорусская ССР. Краткая энциклопедия. 1980. Т. 3. С. 26.

боку, нарастала польска-каталіцкая каланізацыя «ўсходніх крэсаў», з другога — адбывалася абуджэнне этнічнай самасвядомасці, узмацненне нацыянальна-вызваленчага руху, адной з задач якога было стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі, адкрыццё школ на роднай мове. Вялікую ролю ў пашырэнні масавага руху за беларускую школу адыгрывала культурна-асветніцкая арганізацыя «Таварыства беларускай школы», што знаходзілася пад уплывам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Выкарыстоўваліся самыя розныя прыёмы і сродкі барацьбы: скліканне сходаў, масовак, мітынгаў, напісанне дэкларацый, збіранне подпісаў, паходы бацькоў у школы з патрабаваннем навучання дзяцей на роднай мове, арганізацыя дэманстрацый і забастовак, байкот настаўнікаў-паланізатараў[390]. Праз Галоўнае праўленне «Таварыства беларускай школы» быў наладжаны выпуск «Лекцый для беларускіх вячэрніх курсаў». Толькі ў Гродзенскай акрузе рознымі гурткамі і курсамі было ахоплена 1500 чалавек, у тым ліку 100 католікаў. З канца 30-х гг. узмацніліся рэпрэсіі польскай улады. Колькасць беларускіх пачатковых школ у Заходняй Беларусі за 1922—1939 гг. зменшылася з 32 да 5, у іх вучняў — з 2091 да 500 чалавек (табл. 7)[391]. Да 1939 г. былі закрыты ўсе сярэднія школы, беларускія гімназіі ў Клецку, Навагрудку, Нясвіжы, Радашковічах, настаўніцкія семінарыі ў Барунах і Свіслачы, а Віленская беларуская гімназія рэарганізавана ў беларускі філіял польскай гімназіі.

Колькасць студэнтаў-беларусаў у Віленскім універсітэце да 1934/35 навучальнага года некалькі павысілася, але не перабольшвала і 100 чалавек, а іх працэнт вагаўся ад 0,9 да 2,8% (табл. 8)[392].

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР школы былі аб'яўлены дзяржаўнымі, адменена плата за навучанне. У 1940 г. у заходніх абласцях працавала 5664 сярэдніх, пачатковых і сямігадовых школ (з іх 4278 на беларускай мове), адкрыты 4 інстытуты, 8 педагагічных вучылішч, 5 тэатраў, філармонія[393].

Вялікая Айчынная вайна прыпыніла рост адукацыйнага патэнцыялу насельніцтва. За час акупацыі было знішчана або пашкоджана 8825 школ, амаль усе бібліятэкі, падручнікі, абсталяванне вучэбных кабінетаў[394]. Шмат хто з настаўнікаў загінуў у полымі вайны. Частка дзяцей была эвакуіравана з Беларусі, іх размясцілі ў Расіі, Казахстане, Сярэдняй Азіі, дзе яны мелі магчымасці вучыцца на роднай мове, для іх адчынялі беларускія класы[395].

У Беларусі ў зонах, якія кантраляваліся партызанамі, ствараліся школы, у месцах партызанскіх стаянак — так званыя «лясныя школы». У 1942—1943 гг. толькі ў Любанска—Акцябрскім партызанскім краі налічвалася 20 школ. У цёплае надвор'е заняткі праводзіліся пад адкрытым небам ці пад навесам з галінак, да зімы будавалі зямлянкі, а іншы раз і драўляныя хаты. Асаблівыя цяжкасці былі з паперай, алоўкамі, падручнікамі, таму дзеці выкарыстоўвалі старыя газеты, часопісы. Заняткі вялі партызаны, часцей настаўнікі па адукацыі, якія імкнуліся данесці да вучняў веды, прывіць любоў да Айчыны. «Самае лепшае, што захавалася ў маёй памяці ад таго страшэннага часу, — гэта наша школа, — успамінае адна з вучаніц Алена Даніловіч, — яна нават знешне вабіла да сябе. Вучоба ў партызанскай школе і піянерская работа абуджала ўсе нашы мары і думкі аб Радзіме. Мы

---

[390] Ладысеў У. КПЗБ і нацыянальная школа // Народная асвета. 1977. № 4. С. 89, 90.

[391] Gomolka K. Bialorusini w II Rzeczypospolitej. Gdansk, 1992. S. 105.

[392] Там жа. S. 112.

[393] Кравченко И. С. Социалистическое строительство в западных областях БССР (Материалы к сессии). Таллин, 1954. С. 5.

[394] Народная асвета. 1977. № 6. С. 12.

[395] Народная асвета. 1974. № 6. С. 13.

Табліца 7

**Колькасць беларускіх школ у 1922—1939 гг. у Заходняй Беларусі**

| Навучальны год | Колькасць пачатковых школ | Колькасць вучняў | Колькасць сярэдніх школ | Колькасць вучняў |
|---|---|---|---|---|
| 1922/1923 | 32 | 1884 | 2 | 200 |
| 1923/1924 | 32 | 2091 | 3 | 250 |
| 1924/1925 | 23 | 1750 | 3 | 300 |
| 1925/1926 | 3 | 1750 | 3 | 400 |
| 1926/1927 | 8 | 2000 | 4 | 500 |
| 1927/1928 | 26 | 2254 | 4 | 520 |
| 1928/1929 | 26 | 2100 | 3 | 500 |
| 1929/1930 | 26 | 2021 | 3 | 400 |
| 1930/1931 | 26 | 2000 | 2 | 250 |
| 1931/1932 | 26 | 2000 | 2 | 200 |
| 1932/1933 | 26 | 2000 | 2 | 200 |
| 1933/1934 | 16 | 2000 | 1 | 200 |
| 1934/1935 | 16 | 2100 | 1 | 200 |
| 1935/1936 | 16 | 2000 | 1 | 200 |
| 1936/1937 | 8 | 1200 | 1 | 100 |
| 1937/1938 | 5 | 500 | — | — |
| 1938/1939 | 5 | 500 | — | — |

Табліца 8

**Колькасць і працэнт студэнтаў-беларусаў, якія вучыліся ў Віленскім універсітэце**

| Навучальны год | Колькасць студэнтаў-беларусаў | Працэнт студэнтаў-беларусаў у даным годзе |
|---|---|---|
| 1919/1920 | 5 | 0,9 |
| 1920/1921 | 19 | 2,4 |
| 1921/1922 | 49 | 2,8 |
| 1922/1923 | 48 | 2,1 |
| 1923/1924 | 36 | 1,6 |
| 1924/1925 | 30 | 1,3 |
| 1925/1926 | 26 | 1,0 |
| 1926/1927 | 21 | 0,7 |
| 1927/1928 | 35 | 1,1 |
| 1928/1929 | 57 | 1,8 |
| 1929/1930 | 61 | 1,7 |
| 1930/1931 | 56 | 1,5 |
| 1931/1932 | 85 | 2,1 |
| 1932/1933 | 79 | 2,0 |
| 1933/1934 | 94 | 2,4 |
| 1934/1935 | 79 | 2,2 |
| 1935/1936 | 92 | 2,8 |
| 1936/1937 | 89 | 2,6 |

жылі жыццём усёй краіны»[396]. Вучні актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці: рыхтавалі выступленні да свят, наладжвалі піянерскія кастры і ранішнікі, займаліся спортам[397].

Нямецкія ўлады на акупіраванай тэрыторыі імкнуліся стварыць сістэму адукацыі, скіраваную на выкладанне першасных ведаў і, галоўным чынам, на выхаванне пакорлівасці, лаяльнасці да носьбітаў «новага парадку». Аб гэтым красамоўна сведчаць меркаванні рэйхсфюрэра СС Гімлера: «Прынцыповым пытаннем у вырашэнні ўсіх праблем з'яўляецца пытанне аб сістэме адукацыі і тым самым — аб адборы і фільтрацыі моладзі. Для ненямецкага насельніцтва ўсходніх абласцей не павінна быць вышэйшых школ. Для яго дастаткова наяўнасці чатырох-

---

[396] Залескі А. І. Падарожжа ў суровае мінулае. Мн., 1960. С. 196.

[397] Пацыенка А. У. У «лясных школах» // Народная асвета. 1978. № 7. С. 17, 18.

класнай народнай школы. Мэтай навучання ў гэтай народнай школе павінна быць толькі: простае лічэнне, сама больш да 500, уменне распісацца, унушэнне, што боская запаведзь заключаецца ў тым, каб павінавацца немцам, быць сумленным, старанным і паслухмяным. Уменне чытаць я лічу непатрэбным. Апрача школ гэтага тыпу, ва ўсходніх абласцях не павінна быць больш наогул ніякіх школ»[398].

У праграме школ галоўнае месца займалі нямецкая мова, закон божы і гісторыя «трэцяга рэйха»[399].

Пасля вайны перад беларускім народам паўстала задача ў кароткі тэрмін аднавіць сетку школ, ахапіць вучобай дзяцей школьнага ўзросту, ліквідаваць непісьменнасць у заходніх абласцях. Заняткі ў першыя гады праводзіліся ў сялянскіх хатах, нават у зямлянках. Мала было настаўнікаў, не хапала падручнікаў, сшыткаў, чарніл, алоўкаў і ручак. Не было што надзець і абуць. Пісалі на газетах, абгортачнай паперы, лістах з папяровых мяшкоў. Чарніла рыхтавалі з альховых шышак або нарostаў на лісцях дуба. Але вучыліся старанна[400]. Дзякуючы самаадданай працы школьная сетка да 1950 г. поўнасцю аднавілася. Дапамогу аказалі рускі і іншыя народы: дасылалі абсталяванне для школ, кнігі. Ужо 9.08.1944 г. Наркамасветы БССР здаў у г. Маскве ў друк 28 назваў падручнікаў на беларускай мове[401].

Перапіс 1959 г. сведчыць аб зніжэнні адукацыйнага ўзроўню беларусаў, чые школьныя гады прыходзіліся на ваенны час, у параўнанні са старэйшым пакаленнем. Адчувальным з'яўляецца спад у адукацыі наступнай узроставай групы беларусаў (у 1959 г. ім было 25—29 гадоў), якія вучыліся пасля вайны, але да ўвядзення абавязковага сямігадовага навучання.

У сярэдзіне 50-х гг. ажыццёўлена ўсеагульная сямігадовая, а ў 70-ыя гг. — усеагульная сярэдняя адукацыя, што істотна павысіла культурны патэнцыял народа. Ад перапісу да перапісу прасочваецца няўхільны рост адукацыі беларусаў. Так, калі ў 1959 г. на 1 тыс. чалавек, што працавалі ў народнай гаспадарцы, прыходзілася 309 асоб з вышэйшай і сярэдняй (поўнай і няпоўнай) адукацыяй, то ў 1989 г. — 889. Згладжвалася розніца ў адукацыі сельскага і гарадскога насельніцтва (з 1979 па 1989 гг. узровень адукацыі гарадскога насельніцтва павысіўся на 7%, сельскага — на 33%), аднак апошняе яшчэ адставала. Істотным дасягненнем у сацыяльным развіцці народа можна лічыць пазітыўныя змены ў становішчы беларускіх жанчын. Па сваёй адукацыйнаму статусу яны дагналі і нават апярэдзілі мужчын, асабліва гэта датычыцца вышэйшай адукацыі.

На пачатак 1990/91 навучальнага года ўсімі відамі навучання было ахоплена 3,7 млн чалавек, з іх вучні агульнаадукацыйных школ склалі 1,5 млн, у прафесійна-тэхнічных вучылішчах займалася 141 тыс. чалавек, у сярэдніх спецыяльных навучальных установах — 144 тыс., у 33 вышэйшых навучальных — 188 тыс. студэнтаў. За паляваенны час інтэнсіўна расла нацыянальная інтэлігенцыя. У складзе спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, якія працавалі ў народнай гаспадарцы ў 1974 г., 61% прыходзіўся на долю беларусаў. За апошнія дваццаць год іх колькасць падвоілася. Павялічылася колькасць беларусаў у ВНУ (гэта характэрна і для іншых нацыянальнасцей): у 1960/61 навучальным годзе на 10 тыс. беларусаў прыходзіўся 61 студэнт, 1970/71 г. — 123; 1980/81 г. — 164, 1989/90 г. — 169 студэнтаў. У выніку чаго набліжаўся

[398] Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944: Документы и материалы. Мн., 1965. С. 22.

[399] Народная асвета. 1977. № 6. С. 9—11.

[400] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, ф. 7, воп. 2, спр. 259, л. 83, 84.

[401] НАРБ, ф. 7, воп. 3, спр. 1715, л. 105.




100. Дынаміка ўзроўню адукацыі занятага насельніцтва (на 1000 чалавек занятых). 1959—1989 гг.
1 — вышэйшая, 2 — поўная і няпоўная сярэдняя

да аптымальнага нацыянальны склад студэнтаў інстытутаў, доля беларусаў у іх павялічылася да 70,7% (1989 г.). Беларусы прадстаўлены ва ўсіх групах і частках інтэлігенцыі: масавых прафесій, мастацкай, вытворчай, навуковай. У навукова-даследчых інстытутах, канструктарскіх, праектных і тэхналагічных арганізацыях працавалі ў 1990 г. 107296 чалавек, з іх дактароў навук — 542, кандыдатаў — 5896 чалавек. Павялічылася ўдзельная вага беларусаў сярод навукоўцаў (1982 г. — 50,0%, 1987 г. — 52,0%), прычым сярод дактароў навук — 47% беларусаў, сярод кандыдатаў — кожны другі[402].

Характэрна, што ў пасляваенны перыяд ішоў хуткі пад'ём адукацыйнага цэнза ўсіх этнічных груп, што жывуць у рэспубліцы, згладжваліся дыспрапорцыі ва ўзроўнях адукацыі (табл. 9)[403].

Не адкідваючы тых па-сапраўднаму вялікіх дасягненняў у народнай асвеце,

---

[402] Национальный состав населения Белорусской ССР. Мн., 1990. С. 92—97.

[403] Складзена па: Национальный состав населения Белорусской ССР. С. 49, 50.

Табліца 9

**Узровень адукацыі найбольш шматлікіх нацыянальнасцей, якія працуюць у народнай гаспадарцы Беларусі (на 1 тыс. занятых)**

| | 1959 | 1970 | | 1979 | | 1989 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | вышэйшая і сярэдняя (поўная і няпоўная) | вышэйшая і сярэдняя (поўная і няпоўная) | у т. л. вышэйшая | вышэйшая і сярэдняя (поўная і няпоўная) | у т. л. вышэйшая | вышэйшая і сярэдняя (поўная і няпоўная) | у т. л. вышэйшая |
| Усё насельніцтва | 331 | 594 | 57 | 763 | 95 | 899 | 144 |
| беларусы | 309 | 555 | 40 | 739 | 70 | 889 | 115 |
| рускія | 631 | 835 | 141 | 913 | 216 | 962 | 277 |
| украінцы | 565 | 806 | 124 | 891 | 180 | 953 | 222 |
| яўрэі | 783 | 898 | 248 | 944 | 338 | 975 | 419 |
| палякі | 155 | 400 | 18 | 601 | 41 | 803 | 77 |

неабходна акрэсліць негатыўныя бакі ў гэтай важнейшай сферы. Менавіта ў 80-я гг. зроблены крок назад ад дасягнутага: аб'яўлена аб абавязковым толькі 9-гадовым навучанні, зніжана матэрыяльная падтрымка школы. Калі яшчэ ў 60—70-я гг. за выдатную вучобу дарылі добрыя кнігі, то ў 80-я была праблема нават з граматамі. Пахіснуўся аўтарытэт школы, настаўніка, прэстыж яго працы ў вучняў і іх бацькоў, увогуле ў грамадстве, знізіўся інтарэс да вучобы. Многія вучні адсейваюцца ўжо з 7—8 класаў, не закончыўшы і дзевяцігодкі. Але калі і закончаць яе, а гэта ў 15—16 гадоў, то работы ім, як правіла, няма, частка юнакоў папаўняе крымінальныя структуры. Па-другое, забыццё народных традыцый і педагогікі, матчынай мовы адбілася на культурным кругаглядзе і арыентацыях моладзі, пашырыліся спажывецкія настроі, захапленне так званай масавай культурай. Кароткатэрміновы перыяд беларусізацыі не ўнёс кардынальных змен у моўную сітуацыю гарадоў. У пасляваенны час масавы прыток сельскіх жыхароў паўплываў на этнічнае аблічча гараджан. Аднак у даволі складаных і супярэчлівых працэсах адаптацыі беларусы ў зносінах пераходзілі на рускую мову, якая была свайго роду фактарам акультурацыі да гарадскога асяроддзя.

Асабліва ўскладнілася сітуацыя з беларускай мовай у 70—80-я гг. Практыка фарсіраванага зліцця нацый прывяла да звужэння яе функцый. У штодзённай свядомасці працягвала бытаваць думка, што беларуская — «вясковая» мова, а руская — «гарадская».

Да таго ж, частка выпускнікоў сярэдніх школ (і нямалая), ведаючы дасканала рускую мову, імкнулася атрымаць далейшую сярэднюю спецыяльную і вышэйшую адукацыю за межамі рэспублікі, у буйнейшых навуковых і культурных цэнтрах краіны: Маскве, Ленінградзе, Кіеве і іншых гарадах. Натуральна, што ўсё гэта разам узятае вяло да падзення прэстыжу беларускай мовы не толькі сярод іншанацыянальнага насельніцтва, а і сярод беларусаў, якія ва ўмовах добраахвотнага выбару самі адказваліся ад роднай мовы. Істотна панізілася яе роля ў сферы адукацыі. Калі ў 1960/61 навучальным годзе ў школах з беларускай мовай вучылася 70,8% усіх вучняў, то ў 1970/71 г. — 51,1%, 1980/81 г. — 35%, а ў 1988/89 г. — 20,8%.

У розных сацыяльных групах, сферах жыцця пазіцыі беларускай мовы неаднолькавыя. Як паказалі матэрыялы этнасацыялагічнага даследавання, праведзенага ў БССР у 1989 г., больш моцныя арыентацыі на беларускую мову назіраюцца ў сельскай мясцовасці ў параўнанні з горадам. Асабліва моцна яна ўтрымліваецца ў чытанні і адукацыі. Шэсць з дзесяці беларусаў чытаюць кнігі на беларускай мове. Характэрна, што

беларусы з вышэйшай адукацыяй пры чытанні нацыянальных аўтараў часцей звяртаюцца да роднай мовы. Больш слабыя пазіцыі беларускай мовы ў сферы міжнацыянальных і ўнутрынацыянальных зносін. На рабоце кожны дзесяты беларус гаворыць толькі на роднай, кожны чацвёрты на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Свабодна валодае роднай мовай кожны другі беларус (наогул не валодаць ёю каля 5%)[404].

Паводле матэрыялаў перапісу 1989 г., 80% беларусаў, што жывуць у рэспубліцы, лічылі роднай мову сваёй нацыянальнасці (у гарадах — 70%, у сельскай мясцовасці — 97%). За 70—80-я гг. удзельная вага беларусаў з роднай беларускай мовай панізілася (з 1970 па 1989 гг. на 10%), што сведчыла аб пашырэнні працэсаў моўнай асіміляцыі, а за міжперапісны перыяд 1989—1999 гг. павысілася на 5,4%. Сказаліся працэсы суверэнізацыі Беларусі, развіццё кансалідацыйных тэндэнцый (табл. 10). Назвалі роднай мову сваёй нацыянальнасці 85,6% беларусаў. Як бачым, нацыянальная мова з'яўляецца ўстойлівым кампанентам этнічнай самасвядомасці ў большасці беларусаў. Сельскія жыхары адрозніваюцца больш устойлівым захаваннем этнакультурных, у тым ліку моўных традыцый, у параўнанні з гараджанамі. Калі ў горадзе беларускую мову назвалі роднай 80,2% беларусаў, то ў вёсцы — 96,8%. Працэсы этнакультурнага і моўнага развіцця сказваюцца на рэальным распаўсюджанні моў. Па даных перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь 1999 г., на мове сваёй нацыянальнасці размаўляюць дома 3373 тыс. беларусаў (41%), на рускай — 4382 тыс. чалавек (іх удзельная вага склала 59%). У сельскай мясцовасці на беларускай мове звычайна размаўляюць 79%, а ў горадзе — 23%.

У моўным жыцці этнасу ёсць свае складаныя праблемы. Тым не менш, на наш погляд, неправамерна спрабуюць некаторыя дзеячы ад культуры прадставіць беларусаў на падставе звужэння функцый нацыянальнай мовы гэткімі бескультурнымі, агрэсіўнымі ў адносінах да сваіх культурных каштоўнасцей, паўмоўнымі людзьмі. Ад масавага актыўнага двухмоўя (аб чым з захапленнем пісалі гадоў 10 назад) — да паўмоўя. Ці не зноў жа паддаёмся спакусе разнастайнасць жывога жыцця запіхнуць у мёртвыя схемы, сур'ёзна не даследуючы працэс. Гэта ж апрача роднай мовы, дзевяць з дзесяці беларусаў вольна валодалі рускай, кожны чатырнаццаты — польскай, кожны дваццаты — украінскай, яшчэ кожны дваццаты — замежнымі і іншымі мовамі народаў былога СССР. Што ж датычыцца арыентацый насельніцтва ў моўным пытанні, то беларусы, як паказала даследаванне 1989 г., выбіралі дзве мовы: беларускую і рускую (маецца на ўвазе мова навучання ў школах, тэхнікумах, вышэйшых навучальных установах, мова друку і інш.), нават з некаторай перавагай рускай мовы. Тое ж рабілі рускія, украінцы, палякі, яўрэі і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, што жывуць у рэспубліцы (табл. 11, 12)[405]. І гэта рэальнае становішча неабходна ўлічваць у моўнай палітыцы. У рэспубліцы не ставілася пытанне аб мадэліраванні моўнай сітуацыі. Неабходна праводзіць масавыя сістэматычныя этналінгвістычныя, этнапсіхалагічныя і іншыя даследаванні — у розных рэгіёнах рэспублікі, этнічных групах, сацыяльных асяроддзях з мэтай выяўлення характару, кірункаў, тэндэнцый, інтэнсіўнасці двухмоўя і шматмоўя. У свеце ідуць працэсы сацыяльна-палітычнай, эканамічнай, духоўнай інтэграцыі, атрымліваюць распаўсюджанне сусветныя мовы, на якіх размаўляе насельніцтва цэлых кантынентаў.

[404] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 4, спр. 45.

[405] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 14, спр. 45.

Табліца 10

**Размеркаванне беларусаў паводле роднай мовы (па матэрыялах перапісаў)[406]**

| Год | Колькасць беларусаў у БССР | З роднай беларускай мовай | | З роднай рускай мовай | | З іншай роднай мовай | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | чалавек | % | чалавек | % | чалавек | % |
| 1959 | 6532035 | 6086302 | 93,1 | 441925 | 6,8 | 3808 | 0,1 |
| 1970 | 7289610 | 6571489 | 90,1 | 717296 | 9,8 | 825 | 0,1 |
| 1979 | 7567955 | 6319465 | 83,5 | 1247744 | 16,5 | 746 | — |
| 1989 | 7904623 | 6341410 | 80,2 | 1559832 | 19,7 | 3381 | 0,1 |
| 1999 | 8159074 | 6986671 | 85,6 | 1166347 | 14,3 | 6056 | 0,1 |

На 1/6 частцы зямнога шара такой мовай стала руская. Як вядома, засваенню рускай мовы ў рэспубліцы садзейнічаюць агульнасць паходжання, генетычная роднасць яе з беларускай мовай. На працягу ўсёй гісторыі беларуская і руская мова развіваліся ў цесным узаемадзеянні і ўзаемасувязях.

Табліца 11

**Арыентацыі розных нацыянальных груп рэспандэнтаў на мову навучання (у працэнтах па кожнай групе) у 1989 г.**

| На якой мове павінна весціся выкладанне ў школе, ТТВ, тэхнікуме, ВНУ? | Нацыянальнасць | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | бел. | руск. | укр. | пол. | яўр. | літ. | татар. |
| на беларускай | 18,3 | 5,3 | 11,3 | 14,0 | 1,5 | 11,7 | 17,8 |
| на рускай | 36,2 | 42,0 | 46,4 | 45,3 | 58,2 | 31,8 | 36,3 |
| на абедзвюх мовах | 41,0 | 47,3 | 40,2 | 34,7 | 38,8 | 41,6 | 40,0 |
| на іншых мовах | 0,1 | — | — | 0,6 | — | 5,2 | — |
| цяжка адказаць | 2,3 | 1,4 | 1,0 | 2,1 | — | 4,5 | 1,5 |
| няма адказу | 2,1 | 3,9 | 1,0 | 3,3 | 1,5 | 5,2 | 4,4 |

Табліца 12

**Арыентацыя розных нацыянальных груп рэспандэнтаў на мову чытання кніг (у працэнтах па кожнай групе) у 1989 г.**

| На якіх мовах вы чытаеце кнігі? | Нацыянальнасць | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | бел. | руск. | укр. | пол. | яўр. | літ. | татар. |
| на беларускай | 61,0 | 37,0 | 47,4 | 52,6 | 31,3 | 35,1 | 36,3 |
| на рускай | 93,3 | 97,5 | 92,8 | 90,9 | 95,5 | 71,4 | 86,7 |
| на замежных мовах | 2,7 | 3,9 | 2,6 | 5,8 | 3,0 | 1,3 | 0,7 |
| на іншых мовах | 2,2 | 3,1 | 17,5 | 3,0 | 4,5 | 5,8 | 7,4 |
| няма адказу | 0,9 | 0,3 | 2,6 | 2,1 | — | 16,2 | 1,5 |

Працэсы рэфарміравання эканомікі, палітыкі і культуры суправаджаліся ўзмацненнем цікавасці да мовы. Намаганнямі вучоных, пісьменнікаў, грамадскасці распрацавана доўгатэрміновая комплексная праграма «Беларуская мова», створана Таварыства беларускай мовы, прыняты Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.

[406] Национальный состав населения Республики Беларусь и распространенность языков. Итоги переписи населения РБ 1999 года. Мн., 2001. С. 198—201.

## РАЗВІЦЦЁ ПРАФЕСІЙНЫХ ФОРМ КУЛЬТУРЫ



101. Народны паэт БССР Якуб Колас

Важная роля ў працэсе этнакультурнай кансалідацыі беларусаў належыць літаратуры. У 1920-я гг. на рэвалюцыйнай хвалі, з народных глыбінь прыйшлі ў літаратуру маладыя пісьменнікі і паэты: У. Дубоўка, Б. Мікуліч, А. Мрый, Я. Пушча, П. Трус, М. Чарот і інш. Плённа працавалі класікі беларускай літаратуры Я. Купала, Я. Колас. Літаратурнае жыццё значна ажывілася. У 1922 г. быў створаны часопіс «Полымя», у 1923 г. — часопіс «Маладняк». Узніклі літаратурныя аб'яднанні «Ўзвышша», «Полымя», усебеларуская арганізацыя маладых пісьменнікаў «Маладняк». Выйшла ў свет паэма Я. Купалы «Безназоўнае» (1924), дзе ён радасна апявае Беларусь, ганарыцца яе самастойнасцю і незалежнасцю:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села, —
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела.
Сядзіць важна, сама
Сабе гаспадыня,
А мы самі, сабе самі
Ужо гаспадары,
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары[407].

З'явіліся паэмы Я. Коласа «Новая зямля» (1923), «Сымон-музыка» (1925). «Новая зямля» ўяўляе сабой энцыклапедыю жыцця беларускага сялянства да рэвалюцыі. Рамантычна-акрылёныя паэмы пісалі М. Чарот, П. Трус, У. Дубоўка, А. Дудар, П. Глебка.

У 20-я гг. паспяхова развівалася беларуская проза, якая папоўнілася цэлым шэрагам эпічных твораў. Сярод іх вылучаюцца раманы Я. Коласа «Ў палескай пушчы», «У глыбі Палесся», К. Чорнага «Зямля». Важнае значэнне надавалася



102. Народны паэт БССР Янка Купала

[407] Купала Я. Паэмы. Мн., 1978. С. 59—60.

апавяданню. Побач з Я. Коласам, Ц. Гартным, З. Бядулем з апавяданнямі выступалі М. Чарот, М. Зарэцкі, К. Чорны, М. Гарэцкі, М. Лынькоў, К. Крапіва, П. Галавач, С. Баранавых і іншыя аўтары. Яны імкнуліся паказаць гістарычныя падзеі, асабліва рэвалюцыю, сучаснасць, знайсці адказы на самыя вострыя пытанні[408].

На літаратурны працэс пазітыўна паўплывалі ўзаемасувязі беларускіх, рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. Агульнасць задач, пошукі новых форм і метадаў творчасці, магчымасць выкарыстоўваць вопыт, які быў назапашаны ў розных галінах жыцця другімі народамі, у першую чаргу рускім, спрыялі фарміраванню цікавасці і ўвагі адзін да аднаго. У гэтыя гады творы Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, М. Чарота і іншых былі перакладзены на еўрапейскія мовы і надрукаваны асобнымі выданнямі ў шэрагу краін[409]. У літаратуры 20-х гг. наглядалася пераемнасць ад дакастрычніцкай, дэмакратычнай яе плыні. Разам з тым, набірала моц БелАПП (Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў, па аналогіі з РАПП), якая спрабавала накіраваць літаратурны працэс у пракрустава рэчышча. Штучна падаграваліся супярэчнасці паміж пісьменнікамі старэйшага пакалення і «маладнякоўцамі». Вастрыня і нецярпімасць у пазіцыях, пэўнае занядбанне вопыту і традыцый папярэднікаў, нежаданне ісці на кампрамісы, устанаўленне «сваіх» шляхоў развіцця літаратуры негатыўна паўплывалі на рост маладых пісьменнікаў, дэзарыянтавалі іх.

Асноўныя тэндэнцыі, якія прасочваліся ў беларускай паэзіі і прозе 20-х гг., прагляданіся і ў драматургіі. Узнікненне ў 1920 г. Беларускага дзяржаўнага тэатра, вандроўнага тэатра У. Галубка стала ўмовай новых якасных змен у беларускім тэатральным мастацтве, а таксама стымулам для развіцця беларускай драматургіі. За стварэнне драматычных твораў бярyцца як масцітыя пісьменнікі, так і рэжысёры, акцёры тэатраў. Так, У. Галубок, Е. Міровіч былі не толькі мастацкімі кіраўнікамі тэатраў, але і рэжысёрамі-пастаноўшчыкамі, і аўтарамі п'ес, а першы яшчэ добра спраўляўся з акцёрскімі ралямі, быў таленавітым мастаком, музыкантам[410]. Пашырылася тэматыка драматычных твораў. Побач з класічнымі творамі сусветнай драматургіі (Шэкспір, Кальдэрон, Мальер, Б. Шоў, М. Горкі і інш.) ставіліся спектаклі па арыгінальных беларускіх п'есах: «Паўлінка» Я. Купалы, «Модны шляхцюк» К. Каганца. Па фальклорных матывах напісаны п'есы «На Купалле» М. Чарота, «Вяселле» В. Гарбацэвіча, «Каваль-ваявода» Е. Міровіча і большасць твораў У. Галубка. Айчыннай гісторыі, дзеячам мінулага прысвечаны п'есы «Машэка», «Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча, «Панскі гайдук» Я. Дылы, «Скарынін сын з Полацка» М. Грамыкі, «Чырвоныя кветкі Беларусі» В. Гарбацэвіча, «Пан Сурынта» У. Галубка. Прафесійныя нацыянальныя тэатры ставілі п'есы на роднай мове, мелі свой нацыянальны рэпертуар, шырока выкарыстоўвалі вусную паэтычную народную творчасць.

З канца 20-х гг. узмацніўся ідэалагічны ціск, што вёў да ўніфікацыі, тэматычнага збяднення рэпертуару беларускіх тэатраў, да страты ў пэўнай ступені іх самабытнасці, традыцый народнага тэатра. У галіне тэатральнай палітыкі партыя паставіла задачы: забараніць пастаноўкі п'ес, якія «афармляюць варожую пралетарыяту ідэалогію, элементы нацыянал-дэмакратызму, шавінізму, упадніцтва і

---

[408] Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Мн., 1965. Т. 1. С. 54—58.

[409] Станкевич С. В. Развитие белорусской художественной культуры в 1917—1927 гг.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. М., 1992. С. 17.

[410] Станкевич С. В. Развитие белорусской художественной культуры в 1917—1927 гг. С. 20.

антыпралетарскі настрой»; кантраляваць тэкст не толькі «з боку ідэалагічнага зместу, але і сцэнічнай трактоўкі»[411] (1927 г.).

У беларускай паэзіі і прозе ўзнікла новая тэматыка, звязаная з працай рабочых, жыццём горада, дарэчы, гэты напрамак усямерна падтрымліваўся афіцыйнымі ўладамі. Напісаны новыя паэмы аб індустрыяльнай працы: «Цэхавыя будні» (1930) П. Броўкі, «Напор» (1933) А. Александровіча, «Арка над акіянам» П. Глебкі, «Барысаў» (1934) Я. Купалы і інш. Гэта ж тэма гучыць у аповесцях «Каландры» (1930) П. Броўкі, «Сонца пад шпалы» (1933) Шынклера і інш. У літаратуры адлюстроўваецца калектывізацыя, ломка асноў вясковага побыту: «Адшчапенец» (1931) Коласа, «Язэп Крушынскі» (1929—1932) Бядулі, «Вясна» (1930), «Ідзі, ідзі» (1931), «Трэцяе пакаленне» (1935) Чорнага, «Спалох на загонах» (1930) Галавача, «Над ракой Арэсай» Я. Купалы і інш.

Часта творы аб перабудове вясковага жыцця на калгасны лад пісаліся па гарачых слядах падзей і мелі агітацыйныя мэты, у выніку чаго ў літаратуры мела месца вульгарная схематызацыя.

Драматургія 30-х гг. адлюстроўвала важнейшыя падзеі грамадскага жыцця, сацыяльныя пераўтварэнні. У гэты час стаў вядомы як драматург К. Крапіва, аўтар п'ес «Канец дружбы» (1934), «Партызаны» (1937) і сатырычнай камедыі «Хто смяецца апошнім» (1939). У драматургіі з поспехам выступалі К. Чорны (драма «Бацькаўшчына»), Э. Самуйлёнак (п'есы «Сержант Дроб» і «Пагібель воўка»), Я. Колас («Вайна вайне» і «Ў пушчах Палесся»). Выкарыстоўваючы фальклорныя матывы і вобразы, ствараў свае творы А. Вольскі (п'есы «Цудоўная дудка», «Дзед і жораў», камедыя «Несцерка»). У драматургіі плённа працавалі А. Александровіч, П. Глебка, А. Шашалевіч і інш.

З канца 20-х гг. пачалася кампанія па выкрыванню так званага нацыянал-дэмакратызму. У беларускія «нацдэмы» ў першую чаргу запісвалі пісьменнікаў і паэтаў сялянскага паходжання. Сваю злачынную справу зрабіла крытыка 30-х гг. (А. Бэндэ, А. Кучар, Я. Бранштэйн). Нават выкарыстанне фальклорных матываў і персанажаў ставілася ў віну пісьменнікам. У крытыцы ў гэты час панаваў вульгарны сацыялагізм, дагматычныя ўстаноўкі, беспадстаўныя абвінавачванні пісьменнікаў[412]. Былі расстраляны і загінулі ў лагерах С. Астрэйка, П. Галавач, У. Галубок, М. Гарэцкі, Ц. Гартны, А. Дудар, М. Зарэцкі, Б. Мікуліч — звыш 100 пісьменнікаў і паэтаў. Зразумела, што ўсё гэта негатыўна адбілася на літаратурным працэсе. І ўсё ж такі ў той складаны, супярэчлівы перыяд ствараліся цікавыя, таленавітыя творы, якімі мы можам ганарыцца і сёння. Беларуская літаратура набывала жанравую разнастайнасць і заняла сваё адметнае месца ў еўрапейскай літаратуры.

Пэўную асаблівасць мела заходнебеларуская літаратура, якая развівалася ва ўмовах сацыяльнага і нацыянальнага ўціску пад уладай Польшчы. Яна ўвабрала ў сябе як рэвалюцыйны рамантызм, так і крытычны рэалізм. Паступова яна паглыбляла сувязі з непасрэдным жыццём, старалася адлюстраваць яго ва ўсёй паўнаце. У літаратуру прыйшлі М. Васілёк, М. Машара, П. Пестрак, А. Салагуб, В. Таўлай, М. Танк. У сярэдзіне 30-х гг. заходнебеларуская літаратура развівалася пад уплывам народнага фронту, найбольш яркім прадстаўніком гэтай плыні быў М. Танк. У творах пісьменнікаў адлюстроўвалася жаданне беларусаў жыць разам у адзінай дзяржаве.

Шмат твораў беларускай літаратуры прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне.

[411] НАРБ, ф. 4-п, воп. 8, спр. 9, л. 488.

[412] Гісторыя беларускай савецкай літаратуры 1917—1940 / Пад рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. Мн., 1981. С. 165.



103. Пятрусь Глебка і Кандрат Крапіва

У час вайны выразна выявілася гуманная сутнасць беларускай прозы, паэзіі. У час ваеннага ліхалецця беларускія пісьменнікі заставаліся са сваім народам. Яны змагаліся на франтах, у партызанскіх атрадах, у падполлі. Вершы Купалы («Беларускім партызанам», «Зноў будзем шчасце мецъ і волю»), Коласа («Народу — барацьбіту», «Душой і сэрцам мы з вамі, героі»), П. Броўкі, П. Глебкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі клікалі народ на барацьбу, умацоўвалі яго веру ў перамогу. Папулярнасцю ў народзе карысталіся фельетоны і памфлеты К. Крапівы, К. Чорнага, скіраваныя супраць фашысцкіх захопнікаў. Шмат хто з беларускіх пісьменнікаў не дажыў да светлага часу Перамогі: З. Астапенка, Л. Гаўрылаў, А. Гейне, А. Дубровіч, Р. Жалязняк, А. Жаўрук, А. Коршак, С. Крывец, Р. Лынькоў і інш.

Прыкметны ўклад у беларускую паэзію гадоў вайны зрабілі М. Аўрамчык, А. Бачыла, К. Буйло, А. Бялевіч, К. Кірэенка, М. Лужанін і інш. У той час былі створаны паэмы «Сцяг брыгады» А. Куляшова, «Беларусь» П. Броўкі, «Янук Сяліба» М. Танка, «Адплата» Я. Коласа.

У першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі ў беларускую літаратуру ўлілася цэлая плеяда маладых пісьменнікаў і паэтаў: І. Шамякін, Н. Гілевіч, Х. Жычка, У. Калеснік, У. Карпаў, А. Карпюк, Е. Лось, А. Макаёнак, П. Макаль, А. Маўзон, У. Новікаў і інш. Пасляваенная літаратура прадаўжала мастацкае асэнсаванне подзвігу народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Яна таксама адлюстроўвала мірныя будні, стваральную працу беларусаў, рост індустрыяльнай магутнасці рэспублікі, барацьбу за мір, паказвала няпросты лёс былых франтавікоў, партызан, апаленых вайной, згубіўшых сваіх родных і сваякоў. Прыкметнай падзеяй часу сталі цыкл апавяданняў І. Мележа «Гарачы жнівень» (1946), аповесць Я. Брыля «Ў Забалоцці днее» (1950), раманы М. Паслядовіча «Святло над Пінскам» (1949—

1952), І. Шамякіна «Ў добры час» (1953), аповесць А. Кулакоўскага «Гартаванне» (1948) і інш. У 1954 г. завяршыў сваю трылогію «На ростанях» Я. Колас, выйшаў раман П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» (1951—1954).

У сярэдзіне 60-х гг. наступіў новы этап у літаратуры, пачаўся своеасаблівы ўздым, пошук новых шляхоў праўдзівага адлюстравання рэчаіснасці. Пісьменнікі адмовіліся ад спрошчанага паказу жыцця, ад яго лакіроўкі, схематызму і ілюстрацыйнасці. «У літаратуру, — па словах І. Мележа, — увайшла жывая супярэчлівая дыялектыка жыцця»[413]. Пісьменнік Васіль Быкаў стварыў кнігі, што адлюстроўваюць жорсткую праўду вайны: «Жураўліны крык» (1959), «Трэцяя ракета» (1961), «Альпійская балада» (1963), пазней надрукаваны «Аблава», «У тумане», «Кар'ер», «Мёртвым не баліць», «Круглянскі мост» і інш.

У 70—80-я гг. створана трылогія І. Мележа «Людзі на балоце», раман В. Быкава «Знак бяды».

У 70-я гг. назіралася змена адносін грамадства да царквы. Пераглядаліся ацэнкі рэлігіі і ў літаратуры. Выразна прагучалі хрысціянскія матывы ў «Сэрцы на далоні» І. Шамякіна, «Сотнікаву» В. Быкава.

Пісьменнікаў, як і раней, хвалявала пытанне, што гэта за чалавек — беларус? Што гэта за народ? Даследуючы вобраз беларуса, душу народа, яны звярталіся да гістарычнага мінулага, шукаючы вытокі беларускасці, адметныя рысы яе. У. Караткевіч у кнізе «Зямля пад белымі крыламі» звярнуўся да этнапсіхалагічных рыс беларусаў, спрабуючы стварыць яго абагульняючы вобраз[414].

У гэты час з'явіліся кнігі на гістарычныя тэмы Ў. Караткевіча, К. Тарасава, У. Арлова.

Для беларускай драматургіі пасляваенны час быў досыць плённым. У драматургію прыйшлі А. Макаёнак, К. Губарэвіч, А. Маўзон, І. Козел, А. Дзялендзік. У перыяд з 1946 па 1969 г. у тэатрах пастаўлены 115 новых п'ес беларускіх аўтараў. Толькі за адзін 1968 г. тэатры выпусцілі 16 беларускіх спектакляў, фактычна кожная чацвёртая п'еса ад усяго бягучага рэпертуару ставілася па творах беларускіх драматургаў. Побач з тэмай Вялікай Айчыннай вайны («Трыбунал» А. Макаёнка, «Снежныя зімы», «Экзамен на восень» І. Шамякіна, «Брэсцкая крэпасць» А. Маўзона і інш.), ставіліся п'есы па матэрыялах беларускага фальклору («Мурын бор» І. Ісачанкі), а таксама інсцэніроўкі, прысвечаныя дзеячам беларускай культуры («Зорка Венера» Б. Бур'яна і М. Алтухова). Створаны шэраг п'ес па матэрыялах лепшых раманаў І. Мележа («Людзі на балоце»), І. Шамякіна («Сэрца на далоні»), А. Адамовіча («Вайна пад крышамі»)[415].

Беларуская драматургія атрымала прызнанне за межамі рэспублікі. Так, ужо да 1974 г. п'еса А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце» ставілася ў 101 тэатры СССР, «Трыбунал» — у 88 тэатрах, «Выбачайце, калі ласка» — у 125, інсцэніроўка па раману І. Шамякіна «Сэрца на далоні» — у 24, п'есы А. Маўзона «Канстанцін Заслонаў» — у 51, «Пад адным дахам» — у 27, А. Дзялендзіка «Выклік багам» — у 81, К. Крапівы «Хто смяецца апошнім» — у 16[416].

П'есы беларускіх драматургаў з поспехам ішлі ў Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі і іншых краінах[417].

У апошнія гады прыйшла новая генерацыя маладых літаратараў, што пры-

---

[413] Пятрова-Мележ Л. Я. Куды ж усё-такі вядуць дарогі? // Полымя. 1991. № 2. С. 221.

[414] Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі. Мн., 1977. С. 54—63.

[415] НАРБ, ф. 4-п, воп. 116, спр. 10, л. 12—22.

[416] Марцелев С. В. К духовному расцвету. Исторический опыт развития белорусской советской культуры. Мн., 1974. С. 339.

[417] НАРБ, ф. 4-п, воп. 116, спр. 10, л. 21.

неслі з сабой своеасаблівае абнаўленне форм і зместу: У. Арлоў, Л. Галубовіч, Л. Дранько-Майсюк, А. Сыс і інш. Беларуская проза папоўнілася цікавымі аповесцямі В. Казько «Но Пасаран», «Неруш». Адметнай з'явай у літаратурным працэсе стаў раман А. Асіпенкі «Лабірынт страху», І. Шамякіна «Злая зорка», аповесць І. Навуменкі «Дзяцінства» і інш.

Першае паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе ў развіцці беларускага выяўленчага мастацтва было перыядам збірання творчых сіл, станаўлення прафесійных школ, асваення новай тэматыкі, актыўнага ўкаранення мастацтва ў жыцці народа. З 1918 г. дзейнічала Віцебская мастацкая школа «новага рэвалюцыйнага ўзору», якая ўвайшла ў гісторыю сусветнай культуры, дзякуючы вядомым лідэрам авангардыстаў К. Малевічу, Ю. Пэну і М. Шагалу. Мастацкія погляды М. Шагала былі выкладзены ім на старонках мясцовай газеты: «Шырэй дарогу ўсяму рэвалюцыйнаму, рашуча ламайце ўсё старое і на абломках старога стварайце грандыёзны будынак новага»[418]. Віцебская мастацкая школа зведала на працягу 20-х гг. некалькі змен мастацкіх стыляў: ад рэалізму да авангардызму і затым зноў да рэалізму. У 1923 г. на базе Народнай мастацкай школы і Мастацкага практычнага інстытута ствараецца мастацкі тэхнікум, які становіцца цэнтрам выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы. Па распрацоўках выкладчыкаў і вучняў тэхнікума афармляліся фасады будынкаў, агітацыйныя трамвайныя вагоны, нават маставыя вуліц[419].

З 1922 г. важную ролю ў кансалідацыі мастацкіх сіл рэспублікі, у каардынацыі мастацкага жыцця адыгрывае Інстытут беларускай культуры, пры якім існуе мастацкая секцыя. У яе дзейнасці прымалі ўдзел мастакі, этнографы, гісторыкі. Вядучымі тэарэтыкамі і арганізатарамі мастацкага працэсу ў рэспубліцы былі Я. Дыла, М. Красінскі, М. Шчакаціхін, М. Каспяровіч, А. Шлюбскі. Дзякуючы іх намаганням былі выдадзены буйнейшыя працы па гісторыі беларускага мастацтва («Працы камісіі гісторыі мастацтва», альманах «Віцебшчына», «Даведнік па аддзелу сучаснага жывапісу і скульптуры Дзяржаўнага музея БССР»)[420].

З 1925 г. пачалі сістэматычна арганізоўвацца ўсебеларускія мастацкія выстаўкі. Мастакі Беларусі з поспехам дэманструюць сваю творчасць на ўсесаюзных і міжнародных выстаўках (у Маскве на выстаўцы «Мастацтва народаў СССР», Лейпцыгу, Лос-Анжэлесе).

Калі ў першыя паслярэвалюцыйныя гады галоўная ўвага надавалася агітацыйнаму плакату (Віцебскае і Гомельскае аддзяленне РОСТА), выпуск тыражоў якога прымяркоўваўся да рэвалюцыйных свят ці пасяўных кампаній, то пазней вызначальным жанрам жывапісу становіцца сюжэтна-тэматычная карціна. Гэтыя змены былі абумоўлены як унутранай логікай развіцця авангарда, так і зменай ацэнак і прыярытэтаў у ідэалогіі 20—30-х гг. Менавіта ў сярэдзіне 20-х гг. назіраўся пераход да рэалізму ў мастацтве. Знікненне авангарда супала з ліквідацыяй новай эканамічнай палітыкі, гэта значыць асяроддзя, дзе непасрэдна развіваліся розныя мастацкія аб'яднанні[421].

У 1927 г. пачало функцыянаваць Усебеларускае аб'яднанне мастакоў. А ўжо ў канцы 1929 г. пачаліся арышты. У «нацдэмаўшчыне» былі абвінавачаны М. Шчакаціхін, Л. Дыла, П. Даркевіч, Г. Зму-

[418] Гісторыя беларускага мастацтва. У 6 т. Мн., 1990. Т. 4. С. 23.

[419] Станкевич С. В. Развитие белорусской художественной культуры в 1917—1927 гг. С. 17.

[420] Мастацтва Беларусі. 1991. № 7. С. 74.

[421] Гройс Б. Рождение социалистического реализма из духа русского авангарда // Вопросы литературы. 1992. Вып. 1. С. 50.

дзінскі, М. Красінскі, М. Каспяровіч, Я. Мінін і інш.[422]

Дамінуючымі тэмамі ў сюжэтнай карціне 20-х гг. былі: рэвалюцыя і Грамадзянская вайна, а таксама будаўніцтва сацыялістычнага грамадства. Рэвалюцыйнай тэматыцы і гістарычнаму мінуламу прысвечаны карціны В. Волкава «Барыкады» (1923), «Кастусь Каліноўскі» (1923), «Партызаны» (1928). Д. Полазаў і Я. Кругер стварaлі партрэты знакамітых людзей. З поспехам працавалі тэатральныя мастакі О. Марыкс і К. Ціханаў. Мастак Ю. Пэн напісаў партрэт «Шавец-камсамолец» (1925)[423].

Ва ўмовах цэнтралізацыі мастакі, скульптары, графікі аб’ядналіся ў Саюз савецкіх мастакоў БССР (1938). Сацрэалізм стаў пануючым метадам у мастацтве. Ён правёў лінію водападзелу паміж «высокім» і ўтылітарным мастацтвам. Па-другому стала разглядацца і роля мастака ў грамадстве. На першы план выйшла агітацыя і прапаганда палітычных рашэнняў. Пры Дзяржвыдавецтве БССР быў створаны мастацкі савет па плакату, сфарміравана спецыяльная група плакацістаў. Брыгадамі майстры хадзілі на буйныя фабрыкі і заводы, пісалі з натуры яркія плакаты, разлічаныя на мабілізацыю мас на працоўныя подзвігі.

У 30-я гг. мастацтва сацыялістычнага рэалізму стала імкліва выпрацоўваць манументальны погляд на прастору савецкіх гарадоў. Былі распрацаваны генеральныя планы рэканструкцыі і развіцця Мінска, Гомеля, Віцебска, Магілёва. У 1929—1930 гг. афармляліся павільёны сельскагаспадарчай выстаўкі ў Мінску (В. Волкаў, О. Марыкс, М. Эндэ, А. Грубе), ствараліся барэльефы для Дома ўрада (скульптары А. Бембель, В. Рыттэр), Дома Чырвонай Арміі (А. Бембель, А. Глебаў), помнікі-бюсты К. Марксу і Ф. Энгельсу, помнік У. І. Леніну і інш. Усё большае пашырэнне ў архітэктуры набываў новы стыль — канструктывізм.

У гэты перыяд мастакі Беларусі акцэнтавалі ўвагу на тэмах Грамадзянскай вайны, сацыялістычнага будаўніцтва. Першаснае значэнне набылі тэмы калектывізацыі і індустрыялізацыі, ствараліся карціны І. Ахрэмчыка «Торф для Асінбуд», «Конезавод» (1931), Г. Віера «Ўборка бульбы» (1935), Я. Кругера «Кавальскі цэх» (1937), М. Філіповіча «Трактары ў вёсцы», «Чырвонаармейцы ў калгасе», «Сіласаванне» (1931), Я. Красоўскага «Дажынаюць» (1931), П. Гаўрыленкі «Калгасная брыгада», «Выгрузка з элеватара» (1931) і інш. Пэўных поспехаў дасягнула тэатральна-дэкаратыўнае мастацтва.

У цяжкія гады вайны дзейнасць мастакоў была накіравана на мабілізацыю народа на разгром нямецкіх акупантаў. Асноўнымі тэмамі ў творчасці мастакоў сталі барацьба, мужнасць і стойкасць савецкага салдата, веліч подзвігу народа. Суровую праўду вайны раскрываюць карціны «Твар ворага» І. Ахрэмчыка, «Фашысцкая грабармія на Беларусі» М. Беляніцкага, «Мінскія бежанцы» Я. Зайцава, «Па слядах фашысцкіх варвараў» В. Бяльніцкага-Бірулі[424].

У ваенныя гады ў беларускім жывапісе і скульптуры вялікае значэнне надавалася партрэту. У гэтым жанры плённа працавалі мастакі З. Паўлоўскі, У. Сухаверхаў, А. Бархаткоў, А. Шыбнёў, П. Гаўрыленка, Я. Зайцаў і інш., скульптары А. Бембель, З. Азгур, А. Грубэ і інш. Яны ўвасаблялі нацыянальных герояў-партызан, франтавікоў, падпольшчыкаў.

Ужо ў 1945 г. зноў адчынілася карцінная галерэя БССР, з 1953 г. пачаў працаваць факультэт жывапісу ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

[422] Мастацтва Беларусі. 1991. № 7. С. 74.

[423] Марцелев С. В. К духовному расцвету. С. 75, 77.

[424] Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1992. Т. 5. С. 5.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе распрацоўвалася тэма вайны і ўзнаўлення народнай гаспадаркі рэспублікі (мастакі В. Волкаў, Я. Зайцаў, К. Касмачоў, Р. Кудрэвіч, У. Сухаверхаў, П. Гаўрыленка і інш.). Значную шкоду развіццю жывапісу прынесла «тэорыя бесканфліктнасці», якая замінала ўсебаковаму паказу рэчаіснасці, зацямняла праўду жыцця. І зноў вялікая роля надавалася агітацыйна-масаваму мастацтву. Пачалося афармленне вуліц, плошчаў, гарадоў і вёсак, «ленінскіх куткоў» у клубах і школах, палітычных экранаў і гэдак далей[425].

У 60-я гг. новыя павевы прынеслі ў мастацтва маладыя таленавітыя жывапісцы Л. Шчамялёў, У. Стальмашонак, А. Кішчанка, М. Данцыг, Г. Вашчанка, М. Савіцкі. Асабліва ярка заявіла аб сабе беларускае мастацтва ў час Усесаюзнай выстаўкі ў Маскве (1967). У жывапісе 60—70-х гг. па-ранейшаму дамінавала тэматычная карціна. Адбывалася паглыбленне ваеннай тэмы: ад ілюстрацыі падзей да абагульнення і асэнсавання сутнасці трагедыі народа. Плённа працавалі ў гэтым накірунку М. Савіцкі (серыя карцін «Лічбы на сэрцы»), В. Грамыка («Салдаты»), А. Малішэўскі («Хатынь»), Л. Шчамялёў («Маё нараджэнне») і інш. У манументальным мастацтве ствараліся насценныя размалёўкі, мазаікі, вітражы, габелены для інтэр'ераў грамадскіх будынкаў, што надало ім нацыянальны каларыт (працы М. Савіцкага, А. Кішчанкі, Г. Вашчанкі, З. Ліцвінавай і інш.). Зроблены значныя дасягненні скульптараў у стварэнні помнікаў воінам і партызанам Вялікай Айчыннай вайны (скульптурна-архітэктурныя комплексы: «Хатынь», «Брэсцкая крэпасць-герой», «Курган Славы»; комплексы «Прарыў», «Дальва», «Рыленкі», манумент у гонар маці-патрыёткі ў Жодзіна і інш.). Ужо на рубяжы 70-х гг. у манументальным мастацтве з'явілася



104. Мінск. Плошча Перамогі

новая тэндэнцыя: стварэнне помнікаў-манументаў дзеячам нацыянальнай культуры[426] (Ф. Скарыне ў Полацку, Я. Купале, Я. Коласу і М. Багдановічу ў Мінску, С. Буднаму ў Нясвіжы, К. Тураўскаму ў Тураве і інш.). Пэўных поспехаў дасягнула кніжная графіка, прадстаўленая працамі А. Кашкурэвіча, А. Паслядовіч, Г. Паплаўскага, А. Лось, В. Шаранговіча.

Беларускае кіно ўзнікла ў сярэдзіне 1920-х гг. У 1924 г. пры Наркамасветы БССР было створана Дзяржаўнае ўпраўленне па справах кінематаграфіі (Белдзяржкіно). У кола яго дзейнасці ўваходзілі пракат фільмаў, кінафікацыя гарадоў і вёсак. Кінавытворчасць у рэспубліцы пачалася з кінахронікі, якая адлюстроўвала важнейшыя падзеі грамадска-палітычнага жыцця таго часу. У 20—30-я гг. вядучае месца ў беларускай кінемаграфіі належала гісторыка-рэвалюцыйным фільмам. Першы фільм «Лясная быль» (сцэн. Ю. Тарыч і М. Чарот, рэж. Ю. Тарыч) прысвечаны партызанскай

[425] Мастацтва Беларусі. 1991. № 5. С. 28.

[426] Пракапцоў У. І. Сучаснае манументальнае мастацтва // Выяўленчае мастацтва Беларусі. Мн., 1981. С. 26.

барацьбе ў гады Грамадзянскай вайны. Даследчыкі гісторыі беларускага кіно ацанілі яго як высокамастацкі твор. У 1928 г. на экраны выйшаў фільм «Кастусь Каліноўскі» (сцэн. і рэж. У. Гардзін), які апавядаў аб паўстанні беларускіх сялян 1863 г. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Аб гістарычным шляху беларускага народа, утварэнні і першым дзесяцігоддзі Савецкай Беларусі расказвае пафасна-алегарычны фільм У. Корш-Сабліна «Ў агні народжаная» (1930).

У 30-я гг. з'явілася гукавое кіно, што, натуральна, пашырыла выяўленчую палітру кінамастацтва, дало магчымасць увесці ў кіно роднае слова. Пашырылася тэматыка выпускаемых фільмаў, побач з гістарычнымі падзеямі ўзнаўляліся з'явы сучаснасці. Да лепшых фільмаў можна аднесці сацыяльную кінадраму «Двойчы народжаны» (1934, сцэн. Р. Кобец, рэж. Э. Аршанскі), сатырычную камедыю «Паручнік Кіжэ» (1934, сцэн. Ю. Тынянаў, рэж. А. Файнцымер), лірычныя камедыі «Шукальнікі шчасця» (1936, сцэн. І. Зальцар, Р. Кобец), «Маё каханне» (1940, сцэн. І. Прут), пастаўленыя Ў. Корш-Сабліным.

У гады вайны ў беларускім кіно на перадавыя рубяжы высунуліся агітацыйныя формы мастацтва: нарысы, рэпартажы, палітычныя карыкатуры, публіцыстычныя дакументальныя фільмы. Кінахроніка як самы мабільны, аператыўны жанр кіно валодала вялікім агітацыйным уздзеяннем[427]. Старонкі ваеннага кіналетапісу захавалі ўнікальны матэрыял аб трагедыі і подзвігу народа ў змаганні за Радзіму. Найбольш значныя работы гэтага часу: кіназборнік «Беларускія навелы» (1942, рэж. У. Корш-Саблін і Ю. Тарыч), фільм-канцэрт «Жыві, родная Беларусь» (сцэн. і рэж. У. Корш-Саблін і М. Садковіч), дакументальная стужка «Вызваленне Савецкай Беларусі» (пастановачная група пад кіраўніцтвам У. Корш-Сабліна).

За першае пасляваеннае дзесяцігоддзе на «Беларусьфільме» (назва беларускай кінастудыі з 1946 г.) было створана каля дваццаці іграваых карцін з розным мастацкім узроўнем і рознай ступенню набліжэння да рэчаіснасці, якія, тым не менш, адлюстроўвалі характэрныя прыкметы свайго часу[428]. Галоўнымі тэмамі іх былі аднаўленне народнай гаспадаркі і подзвіг народа ў вайне. Першым беларускім мастацкім фільмам пасляваеннага часу была камедыя «Новы дом» (1947, рэж. У. Корш-Саблін), прысвечаная жыццю беларускай вёскі. На жаль, у новай кінастужцы, выкананай па канонам «тэорыі бесканфліктнасці», не знайшлі адлюстраванне рэальныя жыццёвыя супярэчнасці, суровыя, поўныя цяжкасцей і нястач будні беларускага селяніна. З цікавасцю была сустрэта карціна «Канстанцін Заслонаў» (1949, сцэн. А. Маўзон, рэж. У. Корш-Саблін і А. Файнцымер). Беларускія кінематаграфісты звярнуліся да нацыянальнай драматургіі, што станоўча адбілася на кінапрацэсе: адкрыліся шырокія магчымасці да плённага супрацоўніцтва кіно, тэатра, літаратуры; глядач змог знаёміцца з лепшымі п'есамі беларускіх пісьменнікаў, са знакамітымі артыстамі тэатраў. У гэты час былі экранізаваны «Паўлінка» Я. Купалы, «Пяюць жаваранкі» і «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, «Несцерка» В. Вольскага і інш. Лепшымі фільмамі 50-х гг. з'яўляюцца «Чырвонае лісце» (1958, сцэн. А. Куляшоў, А. Кучар, рэж. У. Корш-Саблін), які расказвае аб барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за нацыянальнае вызваленне, а таксама карціна «Гадзіннік спыніўся апоўначы» (1958, сцэн. М. Фігуроўскі, А. Кучар, рэж. М. Фігуроўскі), якая ўваскрашае адзін з яркіх эпізодаў

[427] Нечай О. Ф. Героика Великой Отечественной войны на белорусском киноэкране. Мн., 1975. С. 2.

[428] Беларускі кінематограф і нацыянальная культура / Склад. Е. Л. Бондарава. Мн.. 1991. С. 11.

барацьбы народных мсціўцаў супраць нямецкіх акупантаў.

Плённа развіваўся кінематограф для дзяцей, які імкнуўся абудзіць у падлеткаў высакародныя пачуцці: справядлівасць, мужнасць, любоў да Радзімы. Такія фільмы, як «Дзяўчынка шукае бацьку», «Міколка-паравоз», «Дзеці партызана» палюбіліся юнаму гледачу.

Адным з найбольш цікавых перыядаў з'яўляюцца 60-я гг. Менавіта ў гэты час кінамастацтва рашуча адмовілася ад спрошчанага паказу жыцця, пафаснай ілюстрацыйнасці і звярнулася да беларускай нацыянальнай тэматыкі. На «Беларусьфільме» адбылося абнаўленне творчага складу студыі, у які ўвайшлі выпускнікі Ўсесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі: В. Тураў, Б. Сцяпанаў, Р. Віктараў, В. Бычкоў, А. Забалоцкі, Ю. Марухін і інш. «Шасцідзесятнікаў» прываблівае чалавек, яго ўнутраны стан, надзённыя пытанні і праблемы эпохі. У гэты перыяд на экран выйшлі кінафільмы па творах Васіля Быкава «Трэцяя ракета» (1963, рэж. Р. Віктараў), «Альпійская балада» (1966, рэж. Б. Сцяпанаў). Шырока вядомы сталі кінастужкі «Праз могілкі» (1966, сцэн. П. Нілін), «Я родам з дзяцінства» (1966, сцэн. Г. Шпалікаў), «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» паводле аднайменных раманаў А. Адамовіча (1970, рэж. В. Тураў).

У перыяд з 70-х па першую палову 80-х гг. на экран выйшлі фільмы паводле твораў І. Шамякіна «Вазьму твой боль» (1980, рэж. М. Пташук) і «Вясельная ноч» (1980. рэж. А. Карпаў), У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» (1979, рэж. В. Рубінчык), В. Быкава «Воўчая зграя» (1975, рэж. Б. Сцяпанаў), «Узыходжанне» (1976, Л. Шапіцька), «Знак бяды» (1981, рэж. М. Пташук), А. Адамовіча «Ідзі і глядзі» (1985, рэж. Э. Клімаў), І. Мележа «Людзі на балоце» (1981) і «Подых навальніцы» (1983, рэж. В. Тураў) і інш.

У беларускім кіно з'явіліся новыя імёны, новыя тэмы і жанры: экалогія роднай зямлі, пытанні гармоніі чалавека і прыроды, напрыклад: «Паводка» (1980, рэж. В. Чацверыкоў), «Чорны бусел» (1993, рэж. В. Тураў). Таксама разглядаліся вострыя сацыяльныя праблемы, негатыўныя плыні ў жыцці грамадства: «Нядзельная ноч» (1976, рэж. В. Тураў), «Абочына» (1978, рэж. В. Нікіфараў).

Усё большую вядомасць пачалі атрымоўваць тэлевізійныя серыялы. Лепшыя сярод іх: тэлефільм у 6-і серыях «Руіны страляюць» (1972, сцэн. І. Чыгрынаў, У. Новікаў, рэж. В. Чацверыкоў), 8-серыйны фільм, пастаўлены В. Туравым паводле «Палескай хронікі» І. Мележа (1984), а таксама тэледылогія «Сведка» (1985, рэж. В. Рыбараў), паводле аповесцей В. Казько «Судны дзень», «Суд у Слабадзе»).

Сярод дакументальных фільмаў трэба адзначыць кінастужкі В. Дашука «Хатынскі цыкл», «Жанчына з забітай вёскі», «Жменя жвіру», «Нямы крык», пастаўленыя па кнізе А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калеснікава «Я з вогненнай вёскі», а таксама карціну паводле твора С. Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча» (рэж. В. Дашук).

На экране з'явіліся этнаграфічныя стужкі аб святах і абрадах, народным мастацтве: «Палескія калядкі» (1972), «Палескія вяселлі» (1986), «Галасы стагоддзяў», зробленыя рэжысёрамі Н. Сава, Ю. Лысятавым пры ўдзеле этнамузыколага З. Мажэйкі.

У перабудовачны час беларускае тэлевізійнае кіно звяртаецца да твораў Ф. Дастаеўскага «Вечны муж» (1990, сцэн. і рэж. Я. Маркоўскі), Э. Ажэшкі «Хам» і інш.[429] Цікавасць выклікалі іграввя кінастужкі «Высокая кроў» (рэж. В. Тураў), «Маці ўрагану» (1990, сцэн. У. Галаванаў, рэж. Ю. Марухін) па аднайменнай

[429] Мастацтва Беларусі. 1991. № 8. С. 69.

п'есе Ў. Караткевіча аб сялянскім паўстанні на Беларусі (фільм ствараўся на беларускай і рускай мовах).

З дакументальных фільмаў вылучаюцца стужкі «Яго закапалі ў шар зямны» (1989, А. Алай) і «Пранясі, Божа, хмару» (рэж. А. Шклярэўскі).

Важнае значэнне для развіцця музычнага мастацтва мела адкрыццё ў Віцебску, Гомелі, Мінску музтэхнікумаў, вакол якіх пачалі групавацца музычныя сілы. У галіне музыкі плённа працавалі М. Аладаў, Я. Прохараў, У. Тэраўскі, М. Мацісон.

У 20-я гг. пабачыла свет опера «Купалле» Ў. Тэраўскага (лібрэта М. Чарота, 1921), у якой выкарыстаны беларускі фальклор. Была напісана беларуская камічная опера «Тарас на Парнасе» М. Аладава (1927)[430].

Менавіта ў 20-я гг. пачалі фарміравацца беларускія сімфонія, квартэт, кантата, раманс, харавая масавая песня. Узнік шэраг народных хораў, якімі кіравалі аматары-знаўцы народнай песні. Былі арганізаваны народныя хоры Навасельскага СК Талачынскага раёна, Запольскага СДК Карэліцкага, Лявонавічскага СДК Нясвіжскага раёнаў і інш.[431] Некаторыя песні сталі па-сапраўднаму масавымі. Гэта песні І. Любана на словы А. Русака «Бывайце здаровы» і С. Палонскага на словы Я. Купалы «Вечарынка ў калгасе»[432].

Кампазітар М. Чуркін піша 1-ю сімфаньету, Я. Цікоцкі — сваю першую сімфонію, першыя беларускія кантаты ствараюцца Т. Шнітманам.

У 30-я — пачатку 40-х гг. з'яўляюцца праграмныя сімфанічныя творы: паэмы «Над ракой Арэсай» (М. Аладаў), «Казка пра мядзведзіху» (А. Багатыроў), кантаты «Тапелец» (М. Крошнер) і «Ваявода» (П. Падкавыраў), «Паэма пра Чырвоную Армію» (Р. Пукст), «Маналог скупога рыцара» (Я. Цікоцкі) і інш.

Да дэкады беларускага мастацтва ў Маскве напісаны оперы «Кветка шчасця» (А. Туранкоў), «Міхась Падгорны» (Я. Цікоцкі), «У пушчах Палесся» (А. Багатыроў) і балет «Салавей» (М. Крошнер).

У творчасці беларускіх кампазітараў у гады вайны асноўнае месца займала партызанская і ваенная тэматыка. Асаблівай папулярнасцю карысталася песня. У час вайны беларускія кампазітары напісалі каля двухсот песняў. Патрыятычныя матывы характэрны для кантат А. Багатырова «Ленінградцы» і «Беларускім партызанам», балады «Ў суровыя дні» і паэмы «З дзённіка партызана» М. Аладава. Я. Цікоцкі стварыў оперу «Алеся» аб барацьбе беларускага народа з нямецкімі акупантамі[433].

Адразу ж пасля вызвалення Беларусі ўзнавілі сваю дзейнасць Тэатр оперы і балета, Саюз кампазітараў, кансерваторыя. Саюз кампазітараў папоўніўся новымі членамі. У музычнай творчасці вялікае месца займалі тэмы Вялікай Айчыннай вайны, а таксама гістарычнага мінулага народа, барацьбы за мір.

З сімфанічных твораў пасляваеннага дзесяцігоддзя вылучаюцца сімфоніі Я. Цікоцкага, М. Аладава, А. Багатырова, сімфонія і канцэрт для скрыпкі з аркестрам П. Падкавырава, канцэрт для цымбал з аркестрам народных інструментаў Д. Камінскага. Цікавасць грамадскасці выклікаюць оперы «Машэка» Р. Пукста, «Андрэй Касценя» М. Аладава, «Павел Карчагін» П. Падкавырава, «Кастусь Калі-

---

430 Гісторыя беларускай савецкай музыкі. Мн., 1971. С. 73, 78, 82.

431 Дробыш С. И., Гаврина Л. Н. К вопросу развития народно-хорового самодеятельного исполнительства в Белоруссии // Вопросы культуры и искусства Белоруссии. 1989. Вып. 8. С. 76.

432 Прокопцова В. П. К вопросу формирования жанра советской массовой песни в Белоруссии // Вопросы культуры и искусства Белоруссии. 1983. Вып. 2. С. 44.

433 Багатыроў А. Беларуская савецкая музыка за 30 год // Літаратура і мастацтва. 6 снежня 1947.

ноўскі» Д. Лукаса, «Надзея Дурава» А. Багатырова, балет «Князь-возера» В. Залатарова. Шырокую вядомасць атрымалі Дзяржаўны народны аркестр, Дзяржаўны народны хор, Дзяржаўная акадэмічная капэла БССР.

У 60—80-я гг. у беларускай музыцы адбыліся значныя якасныя стылявыя змены (абагачэнне вобразнай сферы, жанраў і форм), што дазваляе гаварыць аб новым этапе ў развіцці музычнага мастацтва[434]. Беларускія кампазітары напісалі новыя высокамастацкія творы. Сярод іх кантата «Беларускія песні» А. Багатырова, араторыі «Званы» і «Свяці, зара» Я. Глебава, «Мая Радзіма» Дз. Смольскага, «Памяці паэта» С. Картэса, Трэцяя і Чацвёртая сімфоніі Л. Абеліевіча, Другая, Трэцяя, Чацвёртая, Пятая сімфоніі Я. Глебава, яго ж балеты «Альпійская балада», «Выбранніца», «Ціль Уленшпігель», Першая і Другая сімфоніі, фартэп'янны канцэрт, балеты «Святло і цені», «Пасля балю» Г. Вагнера, сімфоніі А. Мдывані і інш.

У песенным жанры найбольшых поспехаў дасягнулі Ў. Алоўнікаў, Я. Глебаў, У. Буднік, Э. Зарыцкі, Л. Захлеўны, І. Лучанок, Ю. Семяняка, В. Іваноў і інш.[435] Характэрна, што ў гэты час масавая песня пачала выціскацца эстраднай.

Беларускія матывы характэрны для опер «Новая зямля» і «Зорка Венера» Ю. Семянякі, «Сівая легенда» і «Францыск Скарына» Д. Смольскага, «Дзікае паляванне караля Стаха» У. Солтана і інш.

У 70—80-я гг. беларуская музыка ўзнялася на новы якасны ўзровень. Шырокую вядомасць атрымала творчасць беларускіх кампазітараў Г. Вагнара, Я. Глебава, Дз. Смольскага, А. Мдывані, Ф. Пыталёва і інш. Беларускае музычнае мастацтва стала больш вядомым за межамі Беларусі. У 1988 г. творы беларускіх кампазітараў выконваліся ў многіх гарадах Савецкага Саюза: Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Харкаве, Чалябінску, Ульянаўску, Фрунзе, Куйбышаве, Махачкале, Нарве, Саратаве, Сухумі, Тбілісі, Вільнюсе, Адэсе, Сочы, Кутаісі, Ерэване, Сумгаіце, Алма-Аце, а таксама ў Францыі, Югаславіі, Ісландыі, Польшчы, Індыі[436].

У 90-я гг. новы накірунак у беларускім музычным мастацтве звязаны з духоўнай музыкай, атрымалі значнае развіццё музычна-тэатральныя жанры, звярталася больш увагі старажытным музычным творам («Полацкія» і «Віленскія сшыткі»), своеасаблівае адраджэнне перажываў авангард (поставангард, неаавангард).

[434] Степанцевич К. И. Новые тенденции в развитии белорусского музыкального искусства (конец 50-х — первая половина 70-х годов). Мн., 1981. С. 3.

[435] Дубкова Т. Музыка // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5 т. Мн., 1986. Т. 3. С. 687.

[436] Саюз кампазітараў паміж з'ездамі. Мн., 1989. С. 18, 19.

## ЭТНІЧНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ

У апошнія дзесяцігоддзі своеасаблівы «выбух этнічнасці» выклікаў вялікую цікавасць навукоўцаў, грамадскасці да праблем этнічнай самасвядомасці. У друку з'яўляюцца манаграфіі, артыкулы, якія ў той ці іншай ступені закранаюць гэта пытанне[437]. Аднак названая праблема і да сённяшняга часу застаецца слаба даследаванай, аўтары, за невялікім выключэннем, грашаць аднабаковым падыходам, у якасці асноўнага крытэрыя ўстойлівасці самасвядомасці, яе найгалоўнейшай прыкметай і элементам лічаць родную мову, часта не звяртаючы ўвагі на эвалюцыю этнамоўных працэсаў. Як правіла, не ўлічваецца складанасць і шматмернасць самасвядомасці і яе ўзаемадзеянне з іншымі

[437] Лыч Л. М. Беларуская нацыя і мова. Мн., 1994; Мікуліч Т. М. Мова і этнічная самасвядомасць. Мн., 1996.

формамі групавой самасвядомасці. Робяцца спробы стварэння міфаў аб гістарычным мінулым народа.

У першую чаргу звернем увагу на тэарэтычны бок праблемы. Пад этнічнай самасвядомасцю звычайна разумеюць усведамленне членамі пэўнага этнасу сваёй прыналежнасці да гэтай этнічнай супольнасці. Пытанне аб суадносінах паняццяў «этнічная» і «нацыянальная самасвядомасць» застаецца ў этналагічнай літаратуры дыскусійным. Большасць даследчыкаў схіляецца да думкі, што «нацыянальная самасвядомасць» — паняцце больш шырокае, чым уласна «этнічная самасвядомасць»[438].

Этнічная самасвядомасць уяўляе сабой найважнейшую прыкмету этнасу. Сярод асноўных кампанентаў гэтай складанай з'явы — этнічная самаідэнтыфікацыя, якая выражаецца ў этноніме, уяўленні аб агульнасці паходжання членаў этнасу, аб тыповых рысах сваёй супольнасці, яе ўласцівасцях і дасягненнях, усведамленне сваіх этнічных інтарэсаў. Найбольш важкімі фактарамі, пад уздзеяннем якіх ідзе фарміраванне этнічнай самасвядомасці, з'яўляюцца: этнічнае асяроддзе (этнічная прыналежнасць бацькоў, сяброў, суседзяў, знаёмых), этнакультурныя традыцыі, этнасацыяльная сітуацыя, у тым ліку этнапалітычная. Этнічная самасвядомасць уяўляе свайго роду рэзультанту гэтых фактараў. Характэрна, што яна на розных этапах развіцця мае адметныя рысы, якія адлюстроўваюць яе якасную эвалюцыю. Гэтыя якасныя змены праяўляюцца ў суадносінах яе важнейшых кампанентаў[439]. Відавочна, што ў працэсе развіцця этнасу на першае месца ў ліку яго прыкмет высоўваюцца то адны, то другія аб'ектыўныя этнічныя прыкметы, кампаненты этнічнай самасвядомасці. Кожнае новае пакаленне занава пераасэнсоўвае асаблівасці сваёй агульнасці, фарміруе сваю самасвядомасць у адпаведнасці з існуючай рэальнай сітуацыяй.

На мяжы XIX і XX ст. беларускі этнас у складзе Расійскай імперыі ўступіў у новую стадыю развіцця, якая характарызавалася ростам прамысловай вытворчасці, цэнтралізацыяй капіталаў, павышэннем ролі банкаў, нарастаннем інтэграцыйных працэсаў ва ўсіх сферах жыцця. Міф аб Беларусі як аб адсталай калоніі Расіі пры больш дакладным аналізе не вытрымлівае крытыкі. Тэмпы прамысловага развіцця беларускіх зямель былі прыкладна такія ж, як у цэлым па Расіі. Пісьменнасць насельніцтва беларускіх губерняў была некалькі вышэй, а дэмаграфічнае развіццё (нараджальнасць, смяротнасць, натуральны прырост) больш спрыяльным, чым у сярэднім па Еўрапейскай Расіі. Развіццё кансалідацыйных працэсаў суправаджалася далейшым узмацненнем шчыльнасці яго ўнутраных культурна-інфармацыйных сувязей, фарміраваннем сістэмы этнічнай самасвядомасці беларусаў. Працэс гэты не быў адназначны. Большасць беларусаў жыло ў сельскай мясцовасці, займалася сельскай гаспадаркай. Узровень іх урбанізацыі быў невялікі. Фактар дзяржаўнасці, уяўленні аб агульным паходжанні, роднасці ўсходнеславянскіх народаў надавалі самасвядомасці беларусаў своеасаблівы характар. Тэрмін «рускія» прымяняўся як агульная назва для трох усходнеславянскіх этнасаў: велікарусаў, маларусаў і беларусаў. Вялікую ролю ў ладзе жыцця, духоўным абліччы народа іграла рэлігія. Найбольшы ўплыў на беларусаў мела праваслаўе. Другое месца займала каталіцкая вера. Поліканфесіянальны характар рэлігійнага светаўспрымання беларусаў вызначаў асаблівасці іх этнічнай самасвядомасці.

У пачатку XX ст. адбылося ажыўленне нацыянальнага руху, які быў накі-

---

[438] Бромлей Ю. В. Очерки теории этноса. М., 1983. С. 175, 198.

[439] Крюков М. В. Эволюция этнического самосознания и проблемы этногенеза // Расы и народы. 1976. № 6. С. 57.

раваны на стварэнне беларускай школы і друку. Ініцыятарам і ідэолагам яго выступіла інтэлігенцыя. Найбольш інтэнсіўна ў гэты час развіваліся літаратура і мастацтва, якія спрыялі ўзмацненню этнічнай самасвядомасці.

Са стварэннем Беларускай ССР пачалося нацыянальна-культурнае і нацыянальна-моўнае будаўніцтва, што вяло да ўмацавання менавіта беларускай самасвядомасці ў шырокіх народных масах. Фактар дзяржаўнасці адыграў вялізную ролю. Народная адукацыя, друк, справаводства былі пераведзены на беларускую мову. Ствараліся беларускія тэатры, інстытуты, тэхнікумы, музеі і бібліятэкі. Усё гэта спрыяла ўзмацненню этнічнай самасвядомасці. Шырокі размах краязнаўчага руху абудзіў этнічныя пачуцці. Працэс развіцця этнічнай самасвядомасці быў складаным і супярэчлівым. Індустрыялізацыя суправаджалася ўрбанізацыяй і ростам міграцыі насельніцтва. Сельскія жыхары, якія перасяляліся ў гарады, уключаліся ў новы лад жыцця. З аднаго боку, яны далучаліся да новых каштоўнасцей і навацый культуры, з другога — прыўносілі ў гарады традыцыі, звычаі, мову беларусаў.

Матэрыяльная культура часткова страціла функцыі этнічнай прыкметы. Знікненне саслоўных і паслабленне рэгіянальных адрозненняў у адзенні, ежы, жыллі, промыслах і рамёствах спрыяла ўзмацненню агульных рыс у культуры народа. Этнічная самасвядомасць беларусаў жывілася ад роднай зямлі-маці-Радзімы («Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы»), яе краявідах (блакіт беларускага Паазер'я і бязмерная водная гладзь Прыпяці, беразнякі і векавыя пушчы, нізіны і ўзгоркі).

Этнічнай кансалідацыі беларусаў спрыяла і развіццё нацыянальнай культуры ў яе прафесійных формах (літаратура, тэатр, выяўленчае мастацтва, кіно), навукі, рост пісьменнасці, нацыянальнай інтэлігенцыі. Прафесійная беларуская культура, узрослая на народнай глебе і атрымаўшая новы імпульс для свайго развіцця з ростам адукацыі насельніцтва, аказала моцны ўплыў на лад жыцця народа, спрыяла ўзмацненню этнічнай самасвядомасці беларусаў.

У Заходняй Беларусі, якая ў 1921—1939 гг. знаходзілася ў складзе Польскай дзяржавы, працэс этнічнага развіцця ішоў пад вялікім уплывам супярэчлівых тэндэнцый. Нарастала польска-каталіцкая экспансія. Польскі ўрад імкнуўся праводзіць палітыку, накіраваную на акаталічванне, апалячванне беларусаў. Гэтай мэце служылі касцёл, які праводзіў ідэю веравызначальнай агульнасці католікаў і далучаў беларусаў-католікаў да палякаў, а таксама друк і школа. У польскім друку прасочваліся негатыўныя адносіны да беларускай культуры і мовы. Нягледзячы на пратэст грамадскасці, да 1938/39 навучальнага года былі ліквідаваны беларускія школы і гімназіі. Пашырэнню паланізацыі спрыялі таксама перасяленні ў Заходнюю Беларусь з этнічнай Польшчы «асаднікаў», якія выконвалі ў дзяржаве паліцэйскія функцыі.

Запаволенае эканамічнае развіццё Заходняй Беларусі, слабая ўрбанізацыя былі адной з прычын кансервацыі традыцыйнай культуры беларусаў, якая выконвала важную этнадыферэнцыруючую функцыю. Важную ролю ў захаванні этнічнай самасвядомасці беларусаў заходніх тэрыторый адыграла праваслаўе. Актуалізацыі этнічнай самасвядомасці спрыялі культурна-асветніцкія, партыйныя і камсамольскія арганізацыі. Таму, нягледзячы на наступленне на этнічную самасвядомасць, беларусы заходніх тэрыторый захавалі сваю моўна-культурную спецыфіку і ўсведамлялі сваю еднасць з беларусамі з БССР.

Важным палітычным актам, які пазітыўна паўплываў на развіццё этнічнай самасвядомасці, было ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.

27 Зак. 1789

Вялікая Айчынная вайна, нягледзячы на велізарныя страты, спрыяла згуртаванню этнасу, адраджэнню традыцыйнай культуры (святаў, абрадаў, вераванняў, звычаяў), умацаванню самасвядомасці народа. Цярпенне, самаахвярнасць, гераізм, якія абапіраліся на адвечныя каштоўнасці народа, дазволілі беларусам выстаяць у жорсткай барацьбе.

У пасляваенны час з разгортваннем навукова-тэхнічнага прагрэса, развіццём інтэнсіўнай урбанізацыі і міграцыі, з ростам адукацыйнага патэнцыялу насельніцтва ў эканамічным, палітычным, сацыяльным і духоўным абліччы беларусаў адбываліся глыбокія структурныя зрухі. Унутраная кансалідацыя этнасу спалучалася з нарастаннем інтэграцыйных працэсаў. У адпаведнасці з гэтым, этнічная самасвядомасць беларусаў перацярпела цэлы шэраг змен. Разгледзім іх ва ўзаемасувязі з духоўнай культурай, сям'ёй, абрадавай культурай народа, эканомікай, закранем праяўленне этнічнай самасвядомасці ва ўзаемаадносінах з іншаэтнічным акружэннем.

У абрадавым жыцці беларусаў з'явіліся новыя тэндэнцыі. Па-першае, гэта пашырэнне абраднасці за межамі сям'і, узнікненне агульнасавецкіх элементаў. Па-другое, паралельна з працэсам арганізаванага ўкаранення новай абраднасці ішла актывізацыя абрадавай творчасці народных мас, адраджаліся старыя абрадавыя традыцыі. Паказальна, што адзначаныя два працэсы адбываліся не ізалявана, а як бы ажыўлялі адзін аднаго. Кансалідацыі садзейнічалі поспехі ў эканоміцы, культуры.

Прафесійная літаратура і мастацтва, займаючы адметнае месца ў агульнасавецкай і сусветнай культуры, падтрымліваючы ўнутры- і міжэтнічныя сувязі, стала ўстойлівай прыкметай беларускага этнасу, што станоўча адбілася на яго свядомасці. Што датычыцца матэрыяльнай культуры (жылля, адзення, харчавання), то пры агульнай тэндэнцыі да ўніфікацыі і стандартызацыі, яна не пазбавілася этнічнай спецыфікі, наадварот, умацавалася плынь да рэкультурацыі традыцыйных каштоўнасцей (аздабленне жылля, адзення, вяртанне ва ўжытак сялянскага посуду, асобных страў і інш.).

Найбольш важны сацыяльны інстытут, які станоўча ўплывае на кансалідацыю народа, — гэта сям'я. Ёй, як і раней, належала важная роля ў перадачы этнакультурнай інфармацыі, у захаванні традыцыйных установак (этнічная педагогіка, маральныя каштоўнасці, у тым ліку хрысціянскія). Аднак назіралася яе хуткая трансфармацыя, расла доля этнічна змешаных шлюбаў, якія служаць адным са шляхоў акультурацыі. Апошняя дыктавалася пераходам да новай гаспадарчай дзейнасці (прамысловасць, транспарт, навука, культура, сфера паслуг і інш.), развіццём міграцый і ўрбанізацыйных працэсаў.

Складаныя і неадназначныя працэсы ішлі ў моўным жыцці беларусаў. Ва ўмовах іх інтэнсіўнай адаптацыі да індустрыяльна-ўрбанізаванага асяроддзя, інтэрнацыяналізацыі ладу жыцця змяніліся суадносіны ва ўжыванні беларускай і рускай моў на карысць апошняй (навучанне ў школе, мова на рабоце і дома, друк). Адбываліся працэсы моўнай асіміляцыі (прызнанне беларусамі ў якасці роднай рускай мовы ці нават прызнанне роднымі дзвюх моў). У выніку этнічная самасвядомасць часткі беларусаў, якія лічаць роднай мову свайго этнасу, стала абапірацца на мову не як на аб'ектыўную прыкмету, а на мову як этнічны сімвал[440].

Натуральна, што гэта цягнула за сабой свайго роду перакампаноўку асноўных складаючых этнічнай свядомасці, узмацненне адных і паслабленне іншых. Характэрна, што этнічная самасвядомасць у розным сацыяльным і этнічным ася-

---

[440] Мікуліч Т. М. Мова і этнічная самасвядомасць. Мн., 1996. С. 134.

роддзі праяўляецца па-рознаму. Напрыклад, у сістэме сувязей са сваім народам у беларусаў-гараджан у параўнанні з вясковымі жыхарамі змяншаецца значнасць мовы, святаў і абрадаў, традыцый выхавання дзяцей, у той жа час узрастае роля нацыянальных песень, музыкі, танцаў, мастацкай літаратуры, кіно, тэатральнага і выяўленчага мастацтва, архітэктуры. Акрамя таго, па сваёй прыродзе этнічная самасвядомасць валодае іерархічнай структурай, якая адлюстроўвае ўяўленні розных узроўняў. На першым узроўні моцна ўтрымліваецца этнонім «беларусы». Практычна ён замацаваўся на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Другі ўзровень самасвядомасці звязаны з уяўленнем аб агульнасці паходжання і гістарычнага развіцця ўсходнеславянскіх народаў: беларусаў, рускіх, украінцаў. У пасляваенны перыяд у выніку інтэграцыйных працэсаў гэты ўзровень ўмацоўваўся. Аб гэтым гаворыць адкрытасць шлюбных межаў паміж рускімі, беларусамі, украінцамі. У месцах моцнага змешвання гэтых народаў (этнакантактных зонах, гарадах) колькасць міжнацыянальных шлюбаў набліжаецца да тэарэтычна магчымай. У іншанацыянальным асяроддзі ўсходнеславянскія народы выступаюць часта як адзіная этнічная супольнасць[441]. Відавочна, што этнічная самасвядомасць беларусаў абапіраецца на беларускую і рускую мовы. Беларусы ўсведамляюць сваю прыналежнасць да славян.

А што ж гавораць беларусы самі аб сабе? Вось некаторыя адказы на інтэрв'ю па пытаннях нацыянальнай самасвядомасці (1992)[442]. Што значыць быць беларусам? Студэнтка Мінскага інстытута культуры, 20 год: «Любіць сваю Радзіму, свой народ, яго культуру, мову, звычаі, традыцыі». Вадзіцель, 45 год, сярэдняя спецыяльная адукацыя: «Быць добрым, гасцінным». Журналіст, 31 год: «Для мяне — быць прыстойным чалавекам». Пенсіянер, 72 гады, вышэйшая адукацыя: «Праяўляць павагу да людзей усіх нацыянальнасцей, мацаваць дружбу з людзьмі працы, не дапускаць варожых адносін да братніх народаў». А вось адказ інструктара Верхнедзвінскага райвыканкама Віцебскай вобласці Бубала Антона Францавіча: «Цяжка раскласці па паліцах. Адчуванне беларускасці ўвайшло ў самасвядомасць «знутры», арганічна, з самага дзяцінства — праз усе тое, што ў коласаўскай «Новай зямлі» плюс спевы ветру ці святых песень жанчын пад вялікім крыжам на магіле спаленых людзей, плюс зарослыя бальшакі, лясныя пажары з кананадай узрываў, а яшчэ калгасная талака і суседства з латышамі, рускімі, сумесныя з імі «гулі-балі», якія дазвалялі адчуць сваю адметнасць. Пачуццё беларускасці значна ўмацавалася ўдалечыні ад Радзімы (вучыўся ў Латвіі, служыў у Ноўгарадзе, працаваў на Амуры), тады свядома пачаў вывучаць Беларусь. Аднак без ведання гісторыі мы ўсе яшчэ як бы немаўляты».

Звернем увагу на менталітэт, паспрабуем вызначыць хоць некаторыя з тых рыс, што належаць большасці беларусаў.

Беларусы — працалюбівы, кемлівы і разважлівы народ. Не раз мірная праца людзей перарывалася войнамі. І тады ўсе як адзін уздымаліся на абарону Айчыны ад ворага. Беларусы — мужны і самаахвярны народ, валодаюць вялікім духоўным патэнцыялам. У XX ст., асабліва ў яго другой палове, беларусы дасягнулі высокага ўзроўню адукацыі. Яны адрозніваюцца высокай прафесійнай падрыхтоўкай кадраў усіх накірункаў, складанай і разнастайнай структурай занятасці, шырокім культурным кругаглядам, высокім інтэлектам. Ідэалам для кожнага беларуса з'яўляюцца сумленне, дабрата, годнасць,

---

[441] Этнические процессы и образ жизни. На материалах исследования городского населения БССР. Мн., 1980. С. 259—262; Сусоколов А. А. Межнациональные браки в СССР. М., 1989. С. 63.

[442] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 7, воп. 2, спр. 260, л. 1—100.

любоў да людзей, імкненне да свету прыгажосці, чысціні і надзеі.

Хрысціянскае светаадчуванне аказала значны ўплыў на духоўнае аблічча беларусаў. Высока цэніцца ў народзе праўда і справядлівасць. Людзі падыходзяць з хрысціянскіх пазіцый да вырашэння і ацэнкі тых ці іншых жыццёвых праблем: на чыім баку праўда, дабро і справядлівасць.

Адной з характэрных рыс беларуса з'яўляецца сціпласць, у ім няма самаўпэўненасці і жорсткасці. Беларусы — чулы і спагадлівы народ. Прыклад таму — Вялікая Айчынная вайна, калі беларусы бралі з лагераў ў свае сем'і ваеннапалонных самай рознай нацыянальнасці, хавалі яўрэяў ад гібелі ў гета, партызан іншы раз цаной пагібелі сваіх родных.

Этнасацыялагічныя даследаванні, інтэрв'ю, палявыя назіранні, якія датычацца сучаснага стану этнічнай псіхалогіі беларусаў, сведчаць, што пераважная большасць беларусаў, як гараджан, так і вяскоўцаў, пазітыўна адносяцца да зносін з людзьмі іншай нацыянальнасці. Згодна этнасацыялагічнаму даследаванню 1989 г.[443], 19,4% рэспандэнтаў-беларусаў ацанілі адносіны паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей у сваіх калектывах як добрыя, 65,1% — у цэлым добрыя, 2,7% — не зусім добрыя, астатнія не змаглі адказаць адназначна. Сфарміраваліся станоўчыя (24%) і нейтральныя (64,2%) устаноўкі на працу ў шматнацыянальных калектывах. Толькі 11,8% аддалі перавагу працы ў аднанацыянальных калектывах. Паказальны факт: 81,2% беларусаў мелі сярод сваіх сяброў асоб другой нацыянальнасці: рускіх, палякаў, яўрэяў і іншых, а 58,6% — іншанацыянальных сваякоў. У 57% іх дзеці сябравалі з дзецьмі іншай нацыянальнасці; 54% беларусаў станоўча ставіліся да міжнацыянальных шлюбаў; 40,2% з іх добразычліва аднесліся б і да шлюбаў сваіх родных (дачкі, сястры, брата, сына) з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей (абыякава — 28%). Беларусы аддавалі перавагу шлюбам з рускімі, украінцамі, палякамі. Пераважалі прыхільныя адносіны да людзей, якія прыехалі на пастаяннае месца жыхарства з іншых рэспублік (57%), 20,5% беларусаў ставіліся да іх нейтральна і толькі 3,4% заявілі аб сваёй непрыхільнасці (астатнія не адказалі на пытанне). Незадаволеныя мігрантамі абгрунтавалі сваё меркаванне тым, што неарганізаваны прыток людзей пагаршае жыллёвыя, бытавыя ўмовы рэгіёну (29,5%), прыезджыя часта непачціва ставяцца да культуры, мовы, звычаяў мясцовага насельніцтва (21,9%).

Пры наяўнасці асобных негатыўных момантаў у міжнацыянальных кантактах (непаважлівыя выказванні аб асобах іншай этнічнай супольнасці, якія галоўным чынам ідуць на сацыяльнай глебе, напрыклад: прасоўванне па службовай лесвіцы, атрыманне вышэйшай адукацыі, кватэры і інш.), этнічная сітуацыя ў рэспубліцы даволі стабільная. Так, на пытанне «Ці лічыце Вы, што ў рэспубліцы павінны жыць толькі прадстаўнікі карэннай нацыянальнасці?» 67,1% рэспандэнтаў-беларусаў адказалі, што гэта было б няправільным, 13,9% не змаглі даць пэўны адказ, 7,8% палічылі такую сітуацыю магчымай і толькі 6,8% адказалі сцвярджальна. Добразычліва адносяцца беларусы да рускіх, што жывуць у рэспубліцы. Моцныя гістарычныя, эканамічныя і культурныя сувязі аб'ядноўваюць беларускі і рускі народы. Так, 77,8% беларусаў добра аднесліся да рускіх, як і да людзей іншай нацыянальнасці, 4,4% адчувалі ўдзячнасць за дапамогу ў стварэнні сучаснай прамысловасці і толькі 1,7% адмоўна аднесліся да пражывання рускіх у Беларусі[444].

[443] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства..., ф. 6, воп. 14, спр. 80.

[444] Там жа, ф. 6, воп. 14, спр. 1—80.

У постперабудовачны перыяд глыбокія змены ў эканоміцы, палітыцы, духоўнай сферы сказаліся на самасвядомасці беларусаў. Актывізацыя і актуалізацыя этнічнай самасвядомасці дазволілі народу звярнуцца да сваіх святынь, узнавіць сапраўдную шкалу каштоўнасцей, дзе ў якасці прыярытэтных выступаюць маральныя паняцці міласэрнасці і мужнасці, веры і надзеі. Паралельна з увагай да традыцыйных каштоўнасцей у духоўнай сферы ідзе мадэрнізацыя культуры, у тым ліку вестэрнізацыя і камерцыялізацыя.

Даныя этнапсіхалагічнага даследавання па пытаннях этнічнай самаідэнтыфікацыі, якое праведзена Інстытутам сацыялогіі НАНБ у Мінску, Гродне, Маладзечна (1993), паказалі, што рэспандэнты-беларусы найбольш высока ацэньваюць значнасць сваёй этнічнай прыналежнасці ў параўнанні з прадстаўнікамі іншых этнічных супольнасцей, што жывуць у рэспубліцы. Афіцыйная (па пашпарту) і рэальная самаідэнтыфікацыя поўнасцю супадала ў 83,3—95,9% беларусаў (у залежнасці ад групы: вучні, студэнты, педагогі)[445].

---

[445] Науменко Л. И. Сравнительное исследование этнической идентификации белорусов, русских и представителей других национальностей в Беларуси // Восточная Европа: Политический и социокультурный выбор. Материалы международной научно-практической конференции. Мн., 1994. С. 120, 121.



# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Беларусам як этнічнай (культурнай) супольнасці папярэднічала ў мінулым старажытнае насельніцтва, якое размаўляла на другіх мовах і мела іншую культуру.

Першапачатковае насельніцтва на сучаснай этнічнай тэрыторыі беларусаў з'явілася ў канцы сярэдняга старажытнакаменнага веку, прыкладна звыш 40 тыс. г. да н. э. Спачатку былі заселены толькі некаторыя мясцовасці на поўдні, якія знаходзяцца ў басейнах рэк Прыпяць, Ясельда, Сож. Цэнтральная і паўночная часткі тэрыторыі Беларусі засяліліся толькі ў сярэднім каменным веку, прыкладна 9—5 тыс. г. да н. э. На працягу доўгага часу старажытнае насельніцтва займалася паляўніцтвам, збіральніцтвам, рыбалоўствам. У новым каменным веку (4—3 тыс. г. да н. э.) з'явілася ганчарства. У канцы новага каменнага веку значная частка насельніцтва, асабліва на поўначы, у Падзвінні, мабыць, размаўляла на мовах, якія адносіліся да так званай уральскай сям'і, яе фіна-угорскай галіны.

У наступны перыяд — эпоху ранняга металу (канец 3 тыс. г. да н. э. — IV—V стст. н. э.) на тэрыторыі Беларусі рассялілася новае насельніцтва, якое займалася земляробствам і жывёлагадоўляй і размаўляла на індаеўрапейскіх мовах. Большая частка гэтага новага насельніцтва, асабліва на поўначы, у Падзвінні, адносілася да балцкай галіны індаеўрапейцаў, і толькі невялікая група на самым паўднёвым захадзе — да славянскай. Індаеўрапейскае насельніцтва паступова асімілявала ранейшае, неіндаеўрапейскае (фінамоўнае), якое ўспрыняла мову і культуру індаеўрапейцаў, у прыватнасці балтаў, перадаўцы ім у асобных мясцовасцях свае назвы рэчак і азёраў (Мардва, Свір і інш.).

У раннім сярэдневякоўі на сучаснай этнічнай тэрыторыі беларусаў шырока рассялілася славянская галіна індаеўрапейцаў і паступова асімілявала большую частку пражываўшых тут балтаў. У выніку славянска-балцкага сінтэзу ў IX—X стст. н. э. утварыліся першапачатковыя ўсходнеславянскія этнічныя супольнасці: дрыгавічы, радзімічы і крывічы. Яны праіснавалі да сярэдзіны XII ст. н. э. і к гэтаму часу разам з іншымі першапачатковымі ўсходнеславянскімі этнічнымі супольнасцямі (драўлянамі, валынянамі, палянамі, славенамі, вяцічамі, северанамі і інш.) трансфармаваліся ў агульнаўсходнеславянскую этнічную супольнасць. Людзі, якія адносіліся да гэтай новай усходнеславянскай супольнасці, называлі сябе «русінамі», «русічамі», «рускімі».

Асноўнымі непасрэднымі продкамі беларускага народа былі дзве вялікія групы гэтай новай усходнеславянскай этнічнай супольнасці. Цэнтрам адной з іх з'яўлялася Папрыпяцце, другой — Падзвінне. У мове і культуры папрыпяцкай і падзвінска-дняпроўскай груп усходнеславянскай этнічнай супольнасці ўзнікла шмат элементаў, з якіх сфарміравалася мова і комплекс традыцыйнай культуры беларускага народа. Беларускі этнас, яго мова і культура ўтварыліся ў выніку змешвання папрыпяцкай і падзвінска-дняпроўскай груп, іх гаворак, культур. Апрача паўночнай часткі папрыпяцкай і паўднёвай часткі падзвінска-дняпроўскай груп, якія склалі аснову беларускага этнасу, у яго склад уліліся асобныя групы заходнеславянскага (польскага), балцкага (як усходнебалцкага — літвы, латыголаў, так і заходнебалцкага — прусаў, яцвягаў, жэмайтаў) і цюркскага (татарскага) насельніцтва. У параўнанні з усходнеславянскім насельніцтвам яны сталі дадатковым кампанентам беларускага этнасу. Першапачатковымі назвамі беларускага народа былі тэрміны «ліцвіны», «русіны», «беларусцы» («беларусы»). Тэрмін «беларусы» як назва беларускага этнасу спачатку, асабліва ў XVI—XVIII стст., ужываўся рэдка.

Беларускі народ сфарміраваўся на працягу XIII—XVI стст. пад уплывам некалькіх фактараў. Адным з іх было змяненне гістарычных умоў развіцця Папрыпяцця, Панямоння, Падзвіння і Падняпроўя ў познім сярэдневякоўі, менавіта агрэсія нямецкіх крыжакоў з захаду і татараў з усходу, працяглая сумесная барацьба насельніцтва гэтых зямель супраць захопнікаў. Другім фактарам фарміравання беларускага этнасу было змяненне эканамічнага становішча гэтых зямель, больш хуткае развіццё ў гэты перыяд Панямоння, Міншчыны, Магілёўшчыны, усталяванне больш цесных сувязей гэтага рэгіёну з папрыпяцкімі і падзвінскімі землямі. Трэцім фактарам фарміравання беларускага этнасу было змяненне палітычных умоў развіцця папрыпяцкіх, панёманскіх, падзвінскіх і падняпроўскіх зямель, узнікненне буйной дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, размяшчэнне гэтых зямель (асабліва Панямоння, Міншчыны, Магілёўшчыны) у цэнтры названай дзяржавы, якая кансалідавала, згуртавала, аб'яднала іх і палітычна. Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, апрача беларускіх зямель, уключала таксама землі ўкраінцаў, літоўцаў і жэмайтаў і было адной з магутнейшых дзяржаў у Еўропе. Адным з фактараў утварэння беларускага этнасу з'яўлялася перасяленне ў папрыпяцкія, панёманскія і падняпроўскія землі пад уплывам новых гістарычных умоў часткі заходнеславянскага (польскага), заходнебалцкага, ўсходнебалцкага і цюркскага (татарскага) насельніцтва, яго ўзаемадзеянне і згуртаванне з мясцовым усходнеславянскім. Пераважнае значэнне для ўтварэння беларускага этнасу мела змешванне папрыпяцкага і падзвінска-дняпроўскага ўсходнеславянскага насельніцтва, эвалюцыя і дыфузія элементаў яго культуры і мовы, перагрупоўка гэтых элементаў.

Першапачаткова беларускі этнас меў поўную сацыяльную структуру феадальнага тыпу. Яна сфарміравалася ў час яго ўтварэння і складалася з некалькіх саслоўяў. Адным з іх былі гараджане (месцічы, мяшчане). Асноўнымі заняткамі гэтага саслоў'я з'яўляліся рамёствы і гандаль. Большая частка буйных і сярэдніх гарадоў набыла правы самакіравання. У гэты час узнікла шмат урбанізаваных сельскіх паселішчаў — так званых мястэчак, частка насельніцтва якіх займалася рамёствамі, гандлем. Некаторыя мястэчкі таксама мелі правы мясцовага самакіравання. Найбольш шматлікім саслоў'ем было сялянскае, становішча якога змянялася. Больш паловы сялянства стала поўнасцю ці часткова прыгонным. Гэты пра-

цэс быў звязаны з фарміраваннем шляхецкага саслоў'я. За сваю службу шляхта атрымлівала шматлікія землі з сялянамі, якіх імкнулася запрыгоніць. Шляхта панавала ў мясцовых органах улады. Яна дабілася роўнасці правоў з буйнымі землеўладальнікамі і разам з імі вырашала важныя дзяржаўныя пытанні. Беларуская шляхта кіравала дзяржаўнымі справамі сумесна з украінскай, літоўскай, жэмайцкай. Гэтым групам шляхты было ўласціва саперніцтва за прывілеі. У гэтым супрацьборстве шляхта падзялялася на дзве часткі. Да адной адносілася пераважна шляхта славянскага паходжання (беларуская і ўкраінская), да другой — балцкага (літоўская і жэмайцкая). Часта гэтыя групоўкі выступалі як праваслаўная, з аднаго боку, і каталіцкая, з другога.

У Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім дамінавала беларуская культура. Справаводства вялося на старажытнай беларускай пісьмовай мове. На ёй былі складзены агульнадзяржаўныя законы: Статуты Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. На гэтай мове ў пачатку XVI ст. на Беларусі з'явілася кнігадрукаванне.

З 1569 г., калі адбылося аб'яднанне Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага з Польскім Каралеўствам у федэратыўную дзяржаву, асабліва з другой паловы XVII ст., умовы для развіцця культуры беларускага этнасу пагоршыліся. Яно было замаруджана неспрыяльнымі фактарамі: узмацненнем прыгоннай сістэмы, перыядычнымі эканамічнымі крызісамі, спусташальнымі войнамі, скарачэннем колькасці насельніцтва, палітычным хаосам, рэлігійным супрацьборствам, палітыкай паланізацыі. Вельмі адмоўную ролю ў развіцці беларускай прафесійнай культуры адыграла рашэнне ўсеагульнай канфедэрацыі Рэчы Паспалітай у жніўні 1696 г. весці справаводства Вялікага княства Літоўскага на польскай мове («Усе рашэнні павінны складацца на польскай мове»). Пастаянным адмоўным фактарам развіцця беларускай прафесійнай культуры стала таксама арыентацыя беларускай шляхты на польскую мову, культуру польскай шляхты. Этнічная спецыфіка беларускай культуры трывала захоўвалася і моцна развівалася ў сферы непрафесійнай культуры, асабліва ў вуснай народнай творчасці. Узбагачалася беларуская гутарковая мова, галоўным асяродкам якой з'яўлялася сялянства.

Неспрыяльнымі былі ўмовы развіцця беларускай прафесійнай культуры і ў XIX — пачатку XX ст., калі беларуская этнічная супольнасць знаходзілася ў складзе другой дзяржавы — Расійскай імперыі. У справаводстве, адукацыі, друку польская мова была заменена рускай. Большая частка беларускай шляхты стала арыентавацца на рускую прафесійную культуру. Неспрыяльным фактарам для развіцця беларускай прафесійнай культуры, а ў горадзе таксама і непрафесійнай, было значнае скарачэнне долі беларусаў у агульнай колькасці гарадскога насельніцтва, большасць якога складалі групы, што адносіліся да другіх этнічных супольнасцей. Асноўным носьбітам беларускіх этнічных рыс у гэты час з'яўлялася сялянства. Яно захоўвала і развівала багатую непрафесійную культуру беларусаў, іх мову. На аснове гэтай культуры ў XIX ст. сфарміравалася нацыянальная беларуская прафесійная культура, у прыватнасці: новая беларуская літаратурная мова, новая беларуская літаратура, нацыянальнае прафесійнае выяўленчае мастацтва, беларускі нацыянальны тэатр. Фарміраванне беларускай нацыянальнай прафесійнай культуры, узмацненне нацыянальнага руху, эканамічных сувязей паміж беларускімі землямі станоўча ўплывалі на паступовае пашырэнне ўяўленняў аб прыналежнасці ўсіх груп беларусаў да адной этнічнай супольнасці. На гэтай аснове часцей стаў ужывацца, асабліва ў другой палове XIX — пачатку XX ст.,

тэрмін «беларусы» як назва ўсёй беларускай этнічнай супольнасці, а тэрміны «русіны», «ліцвіны» перасталі выкарыстоўвацца ў гэтым значэнні.

Своеасаблівым было этнічнае развіццё беларусаў у XX ст. У гэты перыяд змяніліся эканамічныя і палітычныя ўмовы жыцця беларускага этнасу. Адбылося ўзбуйненне вытворчасці, як прамысловай, так і сельскагаспадарчай. Яна стала развівацца на аснове дзяржаўнай і кааператыўнай уласнасці. Змяніўся і палітычны фактар. Была створана беларуская дзяржава.

Новыя палітычныя ўмовы, асабліва ў 1920-я гг., садзейнічалі пашырэнню сферы ўжывання беларускай мовы, перш за ўсё ў адукацыі, пераважна ў агульнаадукацыйнай школе, затым у перыядычным друку, кнігадрукаванні, дзяржаўных органах улады. Але пачынаючы з 30-х гг. дзейнасць беларускай дзяржавы ў гэтым кірунку пачала аслабляцца і да пачатку 90-х гг. сфера ўжывання беларускай мовы ў адукацыі, перыядычным друку, кнігадрукаванні, дзяржаўных органах улады значна звузілася. Каб падтрымаць беларускую мову, спатрэбілася прыняць закон аб мовах. У XX ст. палепшыліся ўмовы для развіцця беларускай прафесійнай культуры. Беларуская літаратура, выяўленчае, музычнае і іншае мастацтва значна ўзбагаціліся і дасягнулі больш высокіх ступеняў дасканаласці і майстэрства, сталі больш вядомымі ў свеце. Сфера выкарыстання беларускай прафесійнай культуры пашырылася.

Новыя эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя і ідэалагічныя ўмовы значна паўплывалі на непрафесійныя формы культуры беларускага этнасу. Некаторыя часткі непрафесійнай культуры, у прыватнасці народнае прыкладное мастацтва, атрымалі імпульс для далейшага прагрэсіўнага развіцця. Узніклі і пашырыліся мастацкія прамысловыя арцелі, якія потым былі пераўтвораны ў дзяржаўныя прадпрыемствы. З'явіліся новыя песні, прыпеўкі. Пашырэнню непрафесійнай мастацкай культуры садзейнічала падтрымка дзяржавай мастацкай самадзейнасці, якая стала прыкметнай з'явай культурнага жыцця. У той жа час, некаторыя часткі беларускай непрафесійнай культуры, напрыклад каляндарныя абрады, былі значна дэфармаваны. Разбуральнае ўздзеянне на традыцыйную святочную культуру аказала распачатая барацьба з рэлігіяй, царквой, якая вялася на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў: 30—80-я гг. І толькі ў апошні перыяд, з пачатку 90-х гг., традыцыйныя святы сталі адзначацца шырэй. Некаторыя з іх, напрыклад Каляды, сталі дзяржаўнымі.

XX ст. з'явілася новым этапам у развіцці не толькі беларускай нацыянальнай культуры, але і этнічнай самасвядомасці беларусаў. У параўнанні з XIX ст. у XX ст. яна ўзмацнілася. Гэтаму садзейнічала стварэнне беларускай дзяржавы, палітыка беларусізацыі ва Ўсходняй Беларусі ў 20-я гг. і нацыянальны рух у Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг. Моцны штуршок росту этнічнай самасвядомасці беларусаў дала актыўная барацьба беларускага народа з фашысцкімі захопнікамі ў 1941—1945 гг. У 90-я гг. тэрмін «беларусы» набыў больш багаты змест. Ён з'яўляецца не толькі найменнем беларускай этнічнай супольнасці, але і пачаў абазначаць таксама беларускую палітычную супольнасць, у якую ўваходзяць як беларускі этнас, так і іншыя этнічныя супольнасці Рэспублікі Беларусь.

## СПІС ІЛЮСТРАЦЫЙ

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**БЕЛАРУСЫ**

Том 4

Бандарчык Васіль Кірылавіч
Бялявіна Валянціна Мікалаеўна
Каспяровіч Галіна Іванаўна і інш.

**Вытокі і этнічнае развіццё**

Рэдактар

*Наталля Браніславаўна Губар*

Мастак

*Галіна Мікалаеўна Шэўчыкава*

Мастацкі рэдактар

*Віктар Анатольевіч Жахавец*

Тэхнічны рэдактар

*Таццяна Васільеўна Лецьен*

Здадзена ў набор 31.10.2000 г. Падпісана ў друк 25.05.2001 г.
Фармат 70x100[1]/[16]. Папера афсетная. Гарнітура Таймс.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 35,4. Ул.-выд. арк. 40,85.
Тыраж 1050 экз. Заказ 1789.

Падаткавая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар
Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.600.

Набор і вёрстка выканаты на камп'ютэрах рэспубліканскага
унітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская навука».

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларуская навука»
ЛВ № 13 ад 31.12.97 г. 220141. Мінск, Купрэвіча, 18.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства
«Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». 225320.
Баранавічы, Савецкая, 80.

ISBN 985-08-0423-8

9789850804235

Б 43 **Беларусы.** Т. 4: Вытокі і этнічнае развіццё / В. К. Бандарчык, В. М. Бялявіна, Г. І. Каспяровіч і інш.; Рэдкал.: В. К. Бандарчык і інш.; Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. — Мн.: Бел. навука, 2001. — 433 с.: іл.
ISBN 985-08-0423-8.

Том прысвечаны навуковаму аналізу праблем паходжання і этнічнага развіцця беларускага народа, яго вытокаў, каранёў, змен, якія адбываліся ў яго культуры на працягу стагоддзяў. Высвятляюцца этнічныя асаблівасці беларускага народа, яго культурныя сувязі з іншымі народамі, сучасны стан і шляхі далейшага развіцця.

Разлічаны на этнолагаў, гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў і шырокае кола чытачоў.

**УДК 39(=826)(091)**
**ББК 63.5(4Беи)**